## ХАДА ПА НЕРУШЫ

Прозу Віктара Карамазава я чытаю не як педант літаратурных канонаў, прымяраючы яго жывое слова да нейкіх нормаў, правілаў і модных стыляў, а як мастак, як жывапісец, які заўсёды ў палоне святла і колеру, шукае яго адценні, магічны каларыт.

Пісьменнік будуе словам тое, што я, мастак, будую колерам. Мы спадарожнікі і аднадумцы, сябры па творчым пошуку.

Выразна бачу тры вечныя паверхі: вада ў зямных абрысах — унізе, уверсе — прасцяг нябёсаў, а паміж іх ці то каўчэг біблейскі, ці то звычайны плыт. У творы на плыце яна і ён — каханне маладое. Кампазіцыя не гэтак літаратурная, як натуральна-жывапісная: прыродная прастора ад першага буйнога плана, які, дарэчы, пісьменнік любіць, да перспектывы, глыбіннай не толькі візуальна, але і ў трансцэндэнтна-божым часе. Яна, падобная, па-рознаму, у рознай натурнай канфігурацыі, гарманізуе не толькі аповесць «Пагоннік», але і раман «Пушча», апавяданні «Сімфонія», «Дзяльба кабанчыка», «Супраць неба — на зямлі», эсэ «Жавароначкам бласлаўлёнае», «Проста ўспомніў я цябе…», нават невялічкае «Свята і пір жыцця». Якім чынам прыжылася гэтая выразна графічная, скульптурна вылітая форма ў вольным літаратурным творы? Пытанне спачатку выбліснула і забылася, а потым мне ў рукі трапіла ці то паштоўка, ці то візітка аўтара: адна яе старонка — зімовы начны эцюд у халодным сінім тоне, у полі яблынька, як сіраціна, над ёю ззяе поўня, а на адваротнай старонцы міні-навела «Мой Белы Шлях». Тэкст:

«Я нарадзіўся вельмі непрыгожым. Гэта адбылося ноччу пасярэдзіне лета. У тую ноч выпаў снег.

Мама пра гэта ніколі не казала, але не ўтаіла ад мяне яе сяброўка, перахрысціўшыся на абраз Багародзіцы, калі мамы не стала.

Усе, хто заходзіў у хату, маме спачувалі. Адна мая бабуля суцяшала тым, што шчасце мужчыны не ў твары, а ў сэрцы ды розуме, што добрае сэрца ды светлы розум робяць прыгожым твар.

Потым, спалоханая снегам сярод лета, прыбегла суседка, якая тым па людзях славілася, што чаравала. Яна сказала, што нарадзіць дзіця з абліччам чарцяняці — вялікі грэх, бо чалавека Гасподзь стварыў на сябе падобнага, і што снег сярод лета — яго першая кара. Яна маме параіла вынесці мяне з хаты, ноччу, каб ніхто не бачыў, і пакінуць на снезе — Бог суддзя.

Ноч выдалася светлая ад снегу, поўні і белага ў небе шляху. Мама выйшла са мною ў сад. Там, выплакаўшыся, яна мацней прытуліла

мяне да сэрца, вярнулася ў хату, паклала на цёплую пярынку. Я ручкамі памкнуўся да яе, і ў маіх слёзках прачнулася першае, ціхае, нікім у свеце не пачутае слоўка:

“Мама!..”

З тым слоўкам я і жыву.

Белым Шляхам, які мне падарыла зімовая ўлетку ноч, я іду да Бога, да Мамы, да сваёй Белай Радзімы».

Прачытаўшы навелу, я ўбачыў дзіця і над ім светлы крыж, задумаўся: крыж — дзве лініі, гарызанталь у ім — жыццё зямное з адвечнай думкаю пра хлеб надзённы, і вертыкаль — зямлю злучае з небам, ніжэйшае з высокім, людзей вядзе да Бога, дае надзею ў ім знайсці ратунак. Паруш адну з тых ліній і ўжо — няма крыжа, знішчаецца суіснаванне чалавека з Богам і разам з тым жыццё зямное. Мы гэта зведалі. Дык ці не тут, хіба не ў гэтай ісціне і сэнс навелы, і творчая пазіцыя пісьменніка?

Бачу Віктара ў маёй майстэрні. Стаіць задумлівы, углядаецца ў адну з апошніх маіх работ, у другую, у трэцюю. Маўчыць. А я чакаю, што зараз пра іх скажа. У той час, было гэта гадоў пятнаццаць назад, я абнаўляў сваю палітру, шукаў адценні срэбра, хацеў прыўнесці ў свае пейзажы каларыт, што бачыў вакол сябе ў прыродзе малым, падлеткам.

Ён падыходзіць да акна, каля якога я стаю, глядзіць у акно, а там, за шыбамі, ужо сцямнела, позні вечар. Кажа: «За тым вунь домам, дзе светла ў вокнах, Батанічны сад, ручай, Сляпянка, там і мой дом стаіць ля ручая». Я побач з ім — кажу: «Там мая рэчачка і вёска была, Маляўшчына, была ў ёй хата дзеда Петрака, бабы Алёны, пасля вайны я ў іх жыў. Бывала, летняй раніцаю з хаты выскачыш на рэчку — па ёй плыве туман, жывое срэбра, сонейка ўзыходзіць, срэбра ды золата блішчаць у аконных шыбах. А ў хаце ўсюды светлыя бабуліны настольнічкі, дзяружкі, ручнікі, фіранкі…» Ён разглядае зноў мае карціны, і раптам — выбух: «Вось што нам трэба! Бачыць сваю зямлю такою, якою бачылі яе ў маленстве вачыма чыстымі. Я рады, што срэбра ты сваё знайшоў. У ім наша праўда!»

Успамінаю ноч на дачы мастакоў Расіі пад Вышнім Валачком. Мы з Віктарам жылі там у адным, на дваіх, пакоі. Восень была халодная, з дажджамі кожны дзень, сонейка зрэдку радавала. Калі пагодзілася, ішлі ў прыроду ў салдацкіх ботах і бушлатах, якія выдаў загадчык гаспадаркі, пісалі эцюды. Пасля вячэры, кашы з чаем, спаць рана кладзіся. Пакой не ацяпляўся, пад коўдрамі ляжалі ў верхняй вопратцы, паверх накінуўшы бушлаты. Грэліся доўгімі, пакуль не зморыць сон, размовамі пра жывапіс, літаратуру. Што засталося ў памяці? А хоць і гэта яго думка: «Бог даў нам дзень і даў нам ноч. На дзень даў сонца. Яго святло цябе зрабіла мастаком. А я, пісьменнік, глыбей і далей бачу ноччу пад

зоркамі, пад месяцам. Як дзень — светла вачам, а ноччу — думкам, памяці. Вачамі бачу тое, што блізка, а думкаю — далёкае ды не адно сваё, яшчэ і тое, як жыла мама, як бацька жыў, як дзед Анісім мастачыў па касцёлах, цэрквах, у палацы князя Абаленскага пад Чэрыкавам, у Горцы, клаў па тынкоўцы роспісы, крыжы і купалы крыў золатам, дзеда Сяргея бачу ў мужыцкім ворыве, прапрадзеда Івана і прадзеда Марціна ў пушчы, як палявалі звера, дзеда Максіма, стрыечнага, настаўніка царкоўнай школы, — пакутніка на Салаўках, на Вішары…»

Шкадую — чытаў не ўсё, што Віктар напісаў. Але і тое, што чытаў, што ад яго пачуў, падказвае: усё натуральна выдала яму прырода. У прыродзе нарадзіўся, вырас, яна, Лімень ды пушча, што пры Сажы пад Чэрыкавам, дала глыбокае, як хадаку па лесе, дыханне, вострае вока, адкрытую да ўсяго жывога душу, жывапісна-вобразную ляпніну ў мове, у фактуры вобразаў ды і ў самой яго натуры. А гэта — шчаслівы лёс. І гэтак выказаўся А. Кудравец, ягоны сябра: «Карамазаву пашчасціла з Ліменню. Але і Лімені пашчасціла: у яе ёсць Карамазаў — чалавек, які любіць яе, ведае яе, можа і ўмее пра гэта сказаць усяму свету». Не адмаўляе тое і сам пісьменнік, хоць і ў эсэ «Святло Лімені»: «…такая ў мяне Лімень — Лісань з маёй “Пушчы”. І хатак у ёй ужо небагата, тых, у каторых яшчэ цёплыя печы, усяго тры, а для мяне яна — мацярык — сёння і назаўсёды…»

Калі ёсць лёс у пісьменніка, ёсць лёс і ў яго твораў.

На гэтую думку, як рыбіна на кручок з добрай нажыўкай, першым просіцца раман Віктара Карамазава «Крыж на зямлі і поўня ў небе», бо ад яго ў беларускай літаратуры пачалася па-вясноваму паўнаводная плынь цікавейшых твораў пісьменніка з новым і вельмі патрэбным для нашай культуры героем — мастаком.

Што мы, нават мастакі, ведалі да з’яўлення гэтага твора пра генія нацыянальнага пейзажа Бялыніцкага-Бірулю? Ведалі яго цудоўныя пейзажы — так. А пра яго жыццё? Скажам шчыра: не шмат. А што тады мог ведаць не мастак? Ці чуў хоць прозвішча? І вось пісьменнік, знайшоўшы ў архівах старонку з яго аўтографам свайго маленства, убачыў у ім цікавую духоўную крыніцу і па гэтым следзе адпраўляецца ў доўгае і рызыкоўнае падарожжа, каб выйсці на сцяжыны яго вандроўнага жыцця. І выйшаў. І шмат чаго найцікавейшага знайшоў: сляды і сцежкі мастака — жывапісца і паляўнічага, паэта і лесніка. Праз нейкія два гады мы ўжо з захапленнем чыталі раман пра генія Вітольда Каятанавіча. Твор аказаўся настолькі жыватворным, што ад яго адна за адной адпачкаваліся іншыя выдатныя кнігі пісьменніка: «З вясною ў адным вагоне», «Антон», «Брама», «Краса і воля», «Мастак і парабкі» — пра мастакоў Бархаткова, Вашчанку, Жукоўскага, Неўрава ды іншых. Кожная з гэтых кніг была ў нашым мастацтве падзеяй, святам.

У маёй майстэрні ёсць паліца, на ёй альбомы, кнігі, патрэбныя мне ў працы і калі праца не ідзе да рук, у адпачынку. У альбомах карціны любімых мастакоў, маіх настаўнікаў, любімых вучняў, якія, шмат хто з іх, ужо самі маюць вучняў. На гэтай паліцы і кнігі Карамазава, а сярод іх новы раман «Мастак і парабкі». Прынёс мне яго Віктар, падпісаў: чытай. І я чытаю. Мікалай Неўраў, герой рамана, мастак выдатны, з вельмі складаным лёсам, з характарам непрадказальным, выбуховым, з тэмпераментам смелым. Яго работы, асабліва ў жанры партрэта, як партрэт акцёра Шчэпкіна, у жанры тэматычнай карціны, як «Гандаль», «Протадыякан», «Агледзіны», «Патрыярх Нікан перад судом», у свой час, у другой палове дзевятнаццатага стагоддзя, адразу прызнаваліся шэдэўрамі. Але ці толькі гэта прывабіла нашага пісьменніка ў постаці і лёсе мастака, ці гэта было галоўным? Не, не гэта.

Тое, што сапраўды ў Расіі мастак, карэнны масквіч, бліжэйшы сябра і аднадумец вялікіх жывапісцаў Сурыкава, Рэпіна, Паленава, Васняцова, канчаткова, усім пра тое абвясціўшы, развітаўся з Масквою, пакінуў там свой не бедны дом, сям'ю, сяброў, свет неабходных яму ў жыцці карцін і пераехаў жыць у маленькую глухую вёсачку на Магілёўшчыне, каб тут, сярод беларусаў, пісаць ужо не купцоў, баяраў ды акцёраў, а нашых мужыкоў ды баб у сялянскіх світках, здзівіла нават яго бліжэйшых сяброў па мастацтве, выглядала як бунт супраць самой Расіі, супраць цара. Што з бунту атрымалася? Не менш як гадоў дзесяць пражыўшы ў Лыскаўшчыне, мастак 3 мая 1904 года застрэліўся.

Чаму застрэліўся мастак? Што прывяло яго да самагубства? Сто з добрым гакам гадоў пытанне вісела над Расіяй, як вісела і над Заходнім Краем — Беларуссю. Калі пра гэта хтосьці ўспамінаў у друку, дык спасылаўся, як і ў некралогах, на нервовую хваробу мастака, калі ж хто-небудзь пытаўся, як жыў мастак у беларускай вёсцы, адказ таксама знаходзіўся надзіва хуткі: нікому гэта не вядома. Быццам не ведала і нават сама вёска. Быццам і вёскі той не існавала ў белым свеце.

За бунт плацілі забыццём, маўчаннем?

Але ёсць вёска Лыскаўшчына. Яна жывая і на пачатку XXI стагоддзя. Яна што думае і кажа пра жыццё і смерць у ёй мастака?

Ёсць і раман «Мастак і парабкі». Ёсць да яго прадмова аўтара: «…я не ставіў перад сабой задачы ахапіць у сваім творы ўсё жыццё Неўрава або даследаваць яго жывапіс. Мне хацелася ўбачыць мастака такім, якім ён быў у нашай беларускай вёсцы… у асяроддзі тагачаснай беларускай прыгнечанасці і пакоры, выявіць яго рэакцыю на небяспеку, якую нясе ў сабе памяркоўнае суіснаванне дэспатызму і вольнага творчага духу. Жыццё і лёс Неўрава давалі гэтакую магчымасць».

Мяне ж як беларуса, мастака, які таксама клаў кветкі на магілу Неўрава, гэта пазіцыя пісьменніка прывабіла і захапіла. Чытаючы раман,

я сачыў за тым, як Неўраў, чалавек у беларускай вёсцы выпадковы, сталічны як бы госць, масквіч, выхаваны і культурны, размаўляе са старым Гірам, старой Хадоркай, з сялянкаю Параскай, якая яму па сэрцы, з мужыкамі Пракопам, Капустам, Качаном, з Міцькам — Свіным Вокам, з Гараськам — Абыціха, з генералам Чарняевым і бацюшкам, з панам Лупандзіным і яго заядлым лесніком, у краме з Хаімам і яго Хайкай, з падлеткамі Марылькай ды Міхалкам, з мужам Парaскі, які на гарадскіх заробках набраўся пыхі, з маладымі хлапцамі Восіпам ды Змітраком. Усе розныя і норавам, і словам, у думках, але мастак, псіхолаг, над усімі мае ўладу, не кідкую, не тую, што некага ўзвышае, некага знішчае, а ўладу розуму і сэрца, якая робіць усіх паміж сабою роўнымі. Палкоўніка сустрэў у царскай вопратцы ды грымнуў басам, як на халопа? Але ж гэта і добра, хай вёска бачыць, што і палкоўнік не вялікі пан, хай хоць аднойчы мужык сябе адчуе чалавекам, вартым палкоўніка.

Мастак і вёска, мастак і мужык — галоўнае пытанне не толькі ў рамане. Для мастака яно заўсёды было значным як у самой Расіі, гэтак і ў яе Заходнім Краі, у Беларусі, і абвастралася тады, калі нясцерпным у сэрцы рабіўся боль за бацькаўшчыну або як апаноўвала дэпрэсія. Тады мастак шукаў ратунку ў вёсцы, у простым, як казалі, людзе, у апрашчэнні з мужыкамі — ішоў да іх, у народ. Усё гэта не абмінула Неўрава, ягоны выбар. Ён, безумоўна, быў патрыётам Расіі, але, як гэта бывае з мастаком, у душы згубіў свайго героя: купца і сытага нуварыша, пана і падпанка, усялякіх разначынцаў, дваровых ды прыжывалаў тракцірных, рынaчных, нават прыстойных акцёраў. Мог уратавацца мужыком? У Лыскаўшчыну едучы, было жаданне пісаць і выстаўляць карціны, таму памылкаю не быў прыезд у вёску. Але чаму не там, адкуль прыехаў, а тут, куды прыехаў з вялікімі надзеямі на творчае натхненне, прыйшла да яго дэпрэсія?..

Хвароба напаткала — нервы?..

Пра гэта я пацікавіўся ў аўтара рамана, бо ведаў, што яшчэ ў 1963 годзе ён у Лыскаўшчыне і вакол яе, у суседніх вёсках, хадзіў па хатах, распытваў у сялян пра мастака, як тут яму жылося, як загінуў. Тады яшчэ былі старыя, што бачылі яго і чулі пра яго.

— Пра хваробы я ад людзей не чуў, — ён адказаў. — Але навела ёсць «Гарачая кроў Джота». Яшчэ раз пачытай.

Застаўшыся адзін у майстэрні, я ўзяў з паліцы альбом у чорнай вокладцы пад глянцам, сеў з ім у крэсла да святла і на каленях пачаў гартаць. Гэта быў Неўраў. Углядаючыся ў кожную карціну-рэпрадукцыю, перагартаў ад вокладкі да вокладкі, перагартаў другі раз, трэці. Дзівіўся, які прадумана-спакойны, роўны быў на карцінах стыль і тон,

якія ўраўнаважаныя кампазіцыі і рытмы, якія дакладныя, прыгожыя ўсе лініі і святлацені. А постаці, а твары — характары, эмоцыі, настроі. Высокі густ, нідзе не сапсаваны няўпэўненасцю вока ці рукі, што ў мастака бывае. Падумалася: хіба ўсё гэта зробіць хворы чалавек, паточаны неўрозам, нібыта дрэва шашалем? Ніякавата мне зрабілася, што ў аўтара рамана пытаўся пра хваробы мастака. Бо сам, як выкладаў у Акадэміі мастацтваў жывапіс, казаў студэнтам, што добрая, таленавітая карціна шмат можа расказаць пра чалавека, які стварыў яе, але толькі таму, хто здольны прачытаць карціну. І гэта ж праўда.

Навелу «Гарачая кроў Джота» я на паліцы не знайшоў — чытаў хтосьці з сяброў. Але і перачытваць яе патрэбы не было. Хіба я мог забыць, калі ўсё, што ў ёй, спачатку адбылося у маёй майстэрні? О, там выбух нерваў быў! І ў студэнта, што апынуўся у майстэрні свайго прафесара, і ў прафесара, пад кулаком якога студэнт ледзьве жывы застаўся. А што пасля? Сустрэліся. Прафесар паклаў студэнту на плячо руку: «Нічога кепскага, сынок, не здарылася. Мы ўсё ж з табою мастакі. У нас таксама ў жылах гарачая кроў Джота. Ты любіш Джота?» Студэнт з ім пагадзіўся: «Люблю». Ніхто нікому не сказаў пра нервы.

Не меней чым партрэт і бытавая тэма прываблівала мастака старадаўняя гісторыя. Як толькі ён з’явіўся ў Лыскаўшчыне, той самы генерал Чарняеў, што вызваліў ад туркаў Сербію, маёнтак якога Тубушкі быў амаль побач з Лыскаўшчынай, прывозіць Неўрава ў суседні Друцак, мястэчка, якое было некалі сталіцай княства. Узыходзяць на гарадзец, спыняюцца пад крыжам з дубу сярод камення, што засталося ад былых падмуркаў. Мастак уражаны панарамай на рэчку Крывую, прыток Друці. Тэмпераментны гусар Чарняеў, разумеючы, як можа распаліць мастака друцкая тэма, слоў і пачуццяў не шкадуе пра князя Рагвалода, ягоных вояў.

У рамане «Мастак і парабкі» ёсць раздзел «Рабы і воі», дзе Неўраў прыязджае ў Друцак з хлопчыкам Міхасём, малым лыскавіцкім мастаком. Трэба пабыць у крамах, купіць алею, селядцоў, мукі, бо Пасха блізка, купляе не аднаму сабе, але і хлопцу, і Парасцы. А першы клопат сустрэцца з бацюшкам, пагаварыць з ім пра мінулае Друцака, што ён, як чалавек начытаны, ведае пра тутэйшы рынак рабоў. Сустрэча адбылася, наведаўся ў царкоўную камору, дзе ў бацюшкі захоўваліся кнігі, атрымаў, каб пачытаць, кнігу архіепіскапа Каніскага, а потым падняўся з хлапчуком на гарадзец, на тое месца, дзе раней стаяў з Чарняевым. Што тут цяпер убачыў, пра што думаў? З малым, які яму па сэрцы, ён шчыры, яму кажа ўсё, што думае, што ўяўляе, што бачыць у сваёй карціне: варожыя вакол па пойме войскі, на гарадцы высокія, як абарона, сцены крэпасці, баявыя вежы, горны, дзе куецца зброя, барабаны, якія

ўздымаюць дух народа, князя на кані і яго вояў — дае малому мастаку ўрок жывапісу, творчага ўяўлення, і мы, чытачы рамана, заўважаем, як Неўраў захоплены новым сюжэтам, як ужо ён працуе над карцінай.

На будучай карціне мастак бачыць князя Рагвалода і яго вояў — найпершы клопат: з каго вояў пісаць? Дзе браць мадэлі, калі жывуць у вёсцы панскія халопы, парабкі? Гэтакія самыя ў Грыбіне, у Красулі. Адзін тут Гіра ад пана незалежны, але ж стары? Можа, Пракоп? Але Пракопа на ўсіх не хопіць — у князя войска.

Вяртаючыся ў вёску, маўчыць усю дарогу Неўраў: што яму рабіць? Але, прыехаўшы, шукае Восіпа, каб даць памеры падрамніка для задуманай карціны. Шукае Восіпа, а думкі тыя самыя: дзе браць мадэлі?

З тымі, пра вояў ды вясковых мужыкоў, думкамі Неўраў чытае кнігу, прывезеную ад бацюшкі: што ў ёй? І зноў быў разгубіўся: пра Русь Малую? Навошта пра Малую, калі прасіў пра Белую, пра Друцак? Але, чытаючы, не мог ад кнігі адарвацца: гісторыя Малой Русі — змаганне казакоў за волю. Войны бясконцыя і кроў бясконцая. Што ж гэта за народ — казакі? Суседзі-мужыкі па той бок Прыпяці, як мужыкі ў Лыскаўшчыне, у Грыбіне, у Красулі? Зямлю аралі, сеялі, касілі, дзетак гадавалі, але і ваявалі, бо не жадалі быць ні парабкамі, ні рабамі. Жыццё чым вымяралі? Хіба кавалкам, як мужыкі тутэйшыя? Не — воляй! Бо ведалі: не будзе волі — не будзе і кавалка, жыцця не будзе ні сабе, ні дзеткам. А тут, у Лыскаўшчыне? За дзесяць гадоў хоць ад каго пачуў пра волю? Ускалыхнуў «Нейтрал» Мазепы: «Браты! Мы павінны ўсімі сіламі бараніць Айчыну ад тых, хто хоча яе зняволіць!.. Бо што гэта за народ, які не дбае пра сваю волю? Гэтакі народ — блудная морда, брыдкая ўсім іншым народам!..»

Чытаў і бачыў лыскавіцкіх мужыкоў: Капусту, Качана, Міцьку — Свіное Вока, Гараську — Абыціха, Восіпа…

«Гэтак і жыў мастак у Лыскаўшчыне. То думка ўспыхвала і сэрца палымнела, каб працаваць з палітрай, замешваць на алеі фарбы ды кідаць на палатно, то полымя гасіла сцюжа, роспач — грымеў у доме бас:

— Халопы!.. Парабкі!.. Як сэрцам вас пісаць?!.»

Гэтак у Лыскаўшчыне набліжаўся стрэл з рэхам на ўсю Расію: там, дзе жылі панскія халопы, не было месца мастаку.

З раманам у руках спытаў я ў пісьменніка: пісаць гэтакі твор, калі няма архіваў, калі час пахаваў і сведкаў, пакінуў міфы ды сумненні, цяжка?

Ён адказаў:

«Сумненні якраз ратуюць. Сумненні прымушаюць думаць, шукаць выйсце. А як шукаеш, то знаходзіш і тое, што трэба, слова, і той, што трэба, вобраз. Яшчэ я, кажа, не чуў, што да ваўчынай лёжкі, каб звера

ўзяць, дарогу кладуць загадзя. Ляжыць звер сыты пад ялінай, снегам засыпаны, а вакол неруш. Хіба ты сам яе не топчаш, каб выхапіць эцюд з натуры? Мастак — той самы паляўнічы, толькі зброя іншая, ён зрэдку ідзе па следзе, часцей — па нерушы. Дзе хтосьці да цябе сляды пакінуў, натаптаў — там звера добрага не ўпалюеш».

Ісці па нерушы ў літаратурнай працы, як і са стрэльбай у лесе, для Карамазава звычайная хада. Гэта ў яго ў натуры, ад прыроды. Дзе неруш, там навіна і свежына, там нечаканасць. Паэзіяй ды чысцінёю нерушы дыхнула яшчэ яго першая кніга «Падранак». Яны напоўнілі раманы «Пушча» і «Бежанцы», аповесці «Дзень Барыса і Глеба» і «Глядзіце ў вочы лемуру», яны ў кожным яго апавяданні і эсэ. Хада па нерушы заўсёды непрадказальная — непрадказальны і лёс твораў.

Раман «Пушча» выйшаў у свет у 1979 годзе ў дзвюх частках — «Зіма» і «Вясна», — хоць быў задуманы як поўны круг пор года. На колькі год адарваны ад працы над творам, пісьменнік дарог у родны лес, у пушчу не забываў і не губляў надзеі раман закончыць. Апынуўшыся ў Парыжы, працуючы ў ЮНЭСКА, ён піша там аповесць-эсэ пра блізкага па жыцці і па духу паэта Аляксея Пысіна «Проста ўспомніў я цябе…». Праз паэта, які таксама з берагоў Сажа на Чэрыкаўшчыне, праз яго паэзію, дзе кожны верш дыхае родным берагам, пісьменнік і ў Парыжы распальвае ў душы і памяці мілыя сэрцу вобразы, абвастрае сваю настальгію. Вярнуўшыся з Парыжа, вяртаецца і да роднай пушчы. Але ўжо быў год Чарнобыля — 1986. Расстраляныя над Ліменню радыяцыйныя хмары спапялілі яе красу, ператварылі вёскі ў могільнікі. Хатка ў вальеры, дзе ствараўся раман, спаленая, аленяў, што жылі ў вальеры і заглядалі ў акно да аўтара рамана, перастралялі, каторыя ўратаваліся, з вальеры выйшлі, іх дабівалі ў лесе. У Лімені ад канторы лясніцтва, у якой малады пісьменнік пісаў сваю першую кнігу «Падранак», ляжаў груд галавешак, вугалля, попелу. Ужо як на чужой зямлі, у зоне, ён кружыць на сваёй зялёнай «Ніве» па тутэйшых вёсках — Гронаве, Вепрыне, Чудзянах, Галоўчыцах, Манастырку, Халмах, Пільні, Ушаках, Драгунах, — ходзіць па хатах, распытвае ў землякоў пра іх бяду, чуе праклёны, слёзы, бачыць, як цяжка людзі пакідаюць мазалём нажытае дабро, як хаты закопваюцца ў зямлю, як чалавек пад страхам смерці співаецца, маральна дэградуе. У гэтым дагары перакуленым свеце аўтар не ў стане дапісаць раман. Тое, што чуе сэрцам, нараджае цяжкія думы і настроі, а з імі зусім іншы твор, які яшчэ не бачыцца, але які ўжо паліць грудзі.

Лета 1986 года выдалася для Карамазава не толькі надта хмарным, але і надта сонечным, гарачым. Прабыўшы доўгі час на бацькаўшчыне, ён вяртаецца ў Мінск, адсюль вылятае ў Маскву, а з Масквы — на

астравы Індыйскага акіяна ў складзе групы савецкіх пісьменнікаў, мастакоў, вучоных. Экспедыцыя на Мадагаскар, Сейшэлы, Маўрыкій, Мальдзівы мела праграму сустрэч, дыялогаў, дыскусій з творчай і навуковай інтэлігенцыяй маладых астраўных дзяржаў. Але вярнуцца адтуль дадому, не ўклаўшы свае ўражанні ад тых сустрэч у старонкі новага мастацкага твора, пісьменнік не мог таксама, тым больш, што там, за выключэннем Мадагаскара, быў першым беларусам. Мінае год ад часу тых вандровак, і ў свет да чытача выходзіць яго аповесць-эсэ «Глядзіце ў вочы лемуру». Адной з першых яе з'яўленне вітала Алёна Васілевіч: «Мне ж, асабіста, на аблюбаванай Віктарам Карамазавым *дзялянцы* яго творча-мастацкага «разгулу» (сярод неабсяжна-ўраджайнага палетку ўсяго яго ворыва і сяўбы), мне, як *проста чытачу*, перш за ўсё было цікава і весела! А ці часта гэта здараецца?.. Не схлушу, прызнаюся: па-добраму завідна. Умеюць жа пісаць людзі! І гэта, паверце, было свята. Свята Слова. І было таксама ўласнае маё ўзнясенне на чужым свяце».

На сустрэчы пісьменніка са студэнтамі і выкладчыкамі Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі ў яго спыталі, як удалося за дваццаць дзён вандровак па далёкіх чужых астравах, дзе свая гісторыя, свая культура, свая мова, усё сваё, на наша не падобнае, гэтак пранікліва ўбачыць, зразумець і гэтак жыва выпісаць чужое ў творы? Ён адказаў: «Я туды ехаў, дакладней — ляцеў, пажыўшы ў роднай мне Лімені, дзе сёння зона радыяцыйнай смерці, адчуўшы, як мне патрэбны бязлітасна-кантрасны душ. Там, у той дабрыні і чысціні, абвастрыліся мае думкі, мае эмоцыі, мая адказнасць не толькі за сваю Лімень, але за ўсю нашу планету, і гэта дало сілы, фізічныя і маральныя, каб напоўніцу, як мог, праўдзіва напісаць не толькі аповесць пра чужыя казачныя астравы, але і аповесць "Аброчны крыж" пра сваю бяду. Іначай я зрабіць не мог».

«Што яднае мяне з шэрай горлінкай, якая прылятае кожны раз, калі я, босы, выходжу на Сейшэлах з вілы, сяджу на ганку ці ў шэзлонгу. Я працягваю руку і магу ўзяць горлінку, магу пагладзіць. Не бяру і не гладжу. Яна такая слаўная, уся ў мроістым блакітнаватым бляску, што я баюся, каб яе блакіт не застаўся ў мяне на пальцах, каб горлінка не засталася без свайго блакіту.

Мяне яднае з ёю давер. Жыхарка цёплых экватарыяльных лясоў, яна мяне, паўночнага чалавека, зусім не баіцца — ідзе да рук. І няма большага дзіва і большай радасці, як гэты давер. Столькі зла зрабіў чалавек жывой прыродзе, а яна яму ўсё яшчэ верыць».

Два моцныя пачуцці пранізваюць аповесць: да астравоў чужых і да сваёй Лімені. Іх моц не ў думцы, а ў жывых вобразах. Рэальны вобраз дзейнічае на нас мацней, як думка. І як вынік — выбух: аповесць но-

вая — «Аброчны крыж». У ёй зноў ліменская пушча, але зусім не тая, што ў рамане — без той красы і з новай назвай Зона.

Віктар Карамазаў рэаліст. Бывае рэалістам жорсткім, як у «Аброчным крыжы», а бывае схільным да рамантызму, як у аповесці-эсэ «Глядзіце ў вочы лемуру». Формула рэалізму ў яго свая. Ён піша, як кожны рэаліст, з натуры, але натуру адчувае так, як скульптар адчувае ў руцэ кавалак гліны, аддаючы ёй цяплынь сваёй рукі, сваёй крыві.

*Анатоль БАРАНОЎСКІ,*
*народны мастак Беларусі*

## ВЕРАБЕЙ, ВЕРАБЕЙ — СОНЕЙКА

Над счарнела-голым вільготным садам, які неўпрыкмет паскідаў з сябе апошнія шматкі снегу і яшчэ не ўвабраўся ў вяснова-маладую зяляніну, вісела нізкае неба, пабітае іржою, паклычанае і злямчанае, нібыта воўна, нямытая і нечасаная.

Шэрая раніца не адпускала ад акна. Мастак стаяў задумлівы, паклаўшы далоні на падаконнік, застаўлены бутэлькамі са шкіпінарам, алеем, малымі ды большымі слоікамі з фарбамі, закіданы пэндзлямі, аркушамі паперы, алоўкамі, не адрываў вачэй ад таго лямцу, у якім заблыталася нясмелае сонейка. Чакаў, калі яно выплыве з шэрані, сагрэе на мальберце палатно.

Як страціўшы надзею дачакацца ад неба спагады, перавёў позірк на кут падаконніка, дзе за цяжкою штораю хаваўся царскі, пад латунева-жаўтлявым вінтом, штоф. Каля штофа на сподку паблісквае шкляны келіх, ляжаў яблык колеру свежай салаты з забурэла-змятым бокам, блішчэў яшчэ не абсохлым расолам.

Мастак наліў са штофа ў келіх, рашуча выпіў, крактануў і з прыемнасцю ўзяў у руку яблык.

За сцяною на кухні бразнула, звонка пакацілася па падлозе алюмініевая конаўка. Параска, кухарка, без злосці сцебанула анучай:

— Апсік ты, зброда!

Мастак на голас не варухнуўся, адно падумаў, што трэба прасіць Параску, каб прынесла яшчэ мочаных у капусце яблычкаў са свае ўдалай бочачкі, бо добра ішлі пад сівуху.

Халодны лямец з неба сунуўся на дом, з яго пазвешвалася яшчэ халаднейшае шызае касмыцце, але ў вочы кінулася шчыліна святла за садам, паміж зямлёю ды небам. Абнадзееным позіркам прыкіпеў да тае шчыліны, як пасабляў ёй наблізіцца да сябе. Яна шырэла, расплывалася, набрыняла дзе кінаварна-пун-

совымі, дзе вохрыста-жаўтлявымі, ад краёў празрыста-бірузовымі танамі, і ён з палёгкаю бачыў, як ад той гульні колераў неба мяняла свой настрой, то цяплела, то халаднела. Павесялеўшы, павярнуўся да дзвярэй і з нечаканаю радасцю выгукнуў:

— Параска!

За дзвярыма пачуліся нясмела-мяккія крокі, і ўжо бліжэй, з парога, жанчына спытала:

— Вы, пану, мяне клікалі?

— Зноў ты!.. — сурова рыкнуў ён, не глянуўшы на яе. — Ідзі ад мяне. Зачыні дзверы з таго боку.

— Але ж вы, мусіць, хацелі сказаць мне дабрэйшае слоўка? — раптам пасмялела яна.

— Хацеў, — цішэй, як змушана, прызнаўся ён. — Але… ідзі.

Параска вінавата глядзела ў падлогу і маўчала, не ідучы ні ад яго, ні да яго, і тады ён загаварыў строга, але ўжо мякчэйшым голасам:

— Прабач. Дакуль ты будзеш гэтак мне казаць? Які я табе пану? Як я цябе вучыў? Ну, паўтары… як?..

— Дык прабачайце і вы, Мікалай Васільевіч.

— Вось пойдзеш да Лупандзіна прасіць, каб пазычыў хлеба да новага зароду, там бухай ілбом у падлогу, хоць ты яго ссіні, а тут каб… — нервова скрыгатнуў зубамі.

Яна хітра ўсміхнулася:

— Тады ж вы мяне гэтакую, з сінім ілбом, зусім на парог не пусціце. Ад вас я гэта неаднойчы чула. Вы слоў на вецер не кідаеце.

— Не магу бачыць халопства. Халопы не людзі. У іх, як у быдла, ярмо на карку. Яны яго ўсё жыццё валакуць і маўчаць. За кус хлеба, за лыжку поліўкі. І быдла той, хто быдлам чалавека робіць. Быдла быдлу патрэбнае.

Выліўшы з сябе злосць, астыўшы, ён падышоў да жанчыны, узяў за плечы, яшчэ чуйныя да мужчынскіх рук, хоць ужо не гэтакія маладыя, каб ад дотыку ўздрыгваць, павярнуў да сябе тварам, і ў самога твар пацяплеў, адбіўшы і яе, і сваё, з душы, цяпло. Яна даверліва, як блізкаму, паглядзела яму ў вочы, стомленыя ад мала каму вядомага цяжару на сэрцы, жадаючы пачуць яшчэ хоць слова строгай мужчынскай праўды, а ён ужо рукі апусціў, вымавіў сіплым ад нерваў і зацяжной зімовай прастуды горлам, як вымушана праглынуўшы кавалак лёду:

— Ідзі, рабі тое, што рабіла.

— Кот, зброда, улез у смятану, — усё роўна як апраўдалася яна.

— Дык гані зброду. Мышэй хай ловіць.

Яна хуценька выскачыла, нібы спяшаючыся да тагоката, каб другі раз не нашкодзіў, хлябнула цяжкімі, з дубу, дзвярыма.

Мастак вярнуўся да акна, узяў штоф, загледзеўся на двухгаловага арла, вылітага са шкла на штофе, яшчэ плесакануў у келіх. Глядзеў на яго і штосьці жывое чуў. Блізка трымцела, шкраблося, то заціхаючы, то мацней, як за акном. Паставіўшы на падаконне і штоф, і келіх, уважліва глядзеў у акно: праз голле дрэваў у садзе блішчэла сонца, і ў тым бляску варушыліся шэрыя камячкі залацістага пер'я. Верабейкі? Падлётвалі, дзяўблі ў шкло, адляталі і зноў кідаліся на шыбкі. Адзін, другі, адразу тры ці болей, цэлаю хмаркай чапляліся за пераплёты рам, зрываліся, зноў падляталі, зноў дзяўблі. А ці была спажыва на памытых адлігай шыбах? Засунуў рукі ў кішэні фартуха, пашкроб у кішэнях, дастаў у шчопцях крошкі хлеба з зярнятамі аўсу ды грэчкі, ссыпаў у адну жменю, адчыніў фортку і вытрас за акном на дошчачку. Адразу птушак наляцела з усяго саду, ужо не адных вераб'ёў. Былі ў той мітусні шчыглы, чубкамі трэслі, у зялёных ды чырвоных пёрках, вірлівыя, у светлых нагрудні́чках сінічкі, даўжэйшымі хвастамі памахвалі сітаўкі. Ім усім каля спажывы было цесна і шмат якія, падляцеўшы ды ўхапіўшы драбінку, адляталі, іншыя спрабавалі лапкамі зачапіцца за дошчачку, пачыналі дзяўбці, але і самыя смелыя зрываліся, хоць, можа, падляталі зноў — тыя альбо не тыя? Усё, што насыпаў, размялі, і ўжо адны сыта-нахохленыя вераб'і сядзелі самавіта, гаспадары сталоўкі, задаволеныя, дзюбкамі скублі-чысцілі пёркі на сонейку.

Сонечнае святло і мастака падварушыла, бо і яму належала. Але не супакоіла. Калі ўсе птушкі паразляталіся па садзе, ён падышоў да мальберта. На палатне алоўкам быў накід людскіх постацяў, натоўп ля воза ў гарадскім двары паміж абшарпаных камяніц, на возе ляжалі мяхі з мукою ці соллю, на мяху сядзеў мужык, трымаў над шапкай пук грошай — вёў гандаль. Ад воза ўгору тырчалі аглоблі, стаяў выпражаны конь, прывязаны да слупа з ліхтаром, у каня пад храпай вісела торба, яшчэ бліжэй, на першым плане, узвышаўся разьбяны ганак, на ім стаяў таўсматы купец, усяму гаспадар — двару і дому, каню і гандлю з воза, — піў з бочачкі набгом, задраўшы клін смольнай барады і вялізныя, нібы крылы ў ворана, вусы, пераліваў напой у чэрава, драпежнымі вачыма страляючы ў мужыка з грашыма. На сваю работу мастак глядзеў без радасці: бег са сталіцы ў вёску, каб тое купецтва не бачыць і не пісаць, каб пра яго забыць, каб тут знайсці вясковыя мадэлі і натуру, а што знайшоў? На палатне ўсё тое самае. Дакуль яно будзе з яго вылазіць?

Схапіў падрамнік з мальберта — шпурнуў да парога.

На сэрцы адразу палягчэла. Падышоў да сцяны, дзе адзін пры адным стаялі грунтаваныя і негрунтаваныя, запісаныя і чыстыя палотны, з іх выбраў адно, змахнуў далонню пыл, з падлогі падняў анучу, абмёў анучай, паставіў на мальберт і адышоў, сеў ля акна на лаўку. Малюнак быў накіданы сангінай, ляжалі і плямы фарбы. Намацваў вобраз Гіры, што жыў у суседняй Красулі, ад Лыскаўшчыны за гаёчкам, і на гэтае палатно глядзеў ужо цяплейшым вокам. Гіра ды Параска былі тут, можа, адзінымі жывымі душамі, якія расцвельвалі ахвоту трымаць у руцэ палітру. Але ж і з імі жыў не проста. З Параскаю, здавалася, лягчэй, яна штодзень у доме, побач, ці за сцяной на кухні, назіраць за ёю мог падоўгу, ужо ведаў усе яе звычкі, хітрыкі, адчуваў і прадчуваў жаночыя настроі — станоўся, здаецца, да станка ды працуй. Аднак пэндзаль быў смялейшы да Гіры. Трымаць сціло ў руцэ не хітра, а як ім трапіць у тую адзіную фарбачку, што трэба? Як у мазочак умураваць агеньчык, якому наканавана грэць людскія сэрцы? Не ўдаецца — пэндзаль з рукі валіцца. А то і гэтак здарыцца: другі раз у руку не возьмеш — страх запануе. У страху не вобраз знойдзеш, а яго магілу. Ці не таму асцярожнічаў з Параскай? Там, можа, яшчэ не страх, можа, прадчуванне страху. Хоць і яно — адкуль? Не бачыў вобраз? Адчуць — не азначае бачыць. Ці мадэль патрабавала іншага майстра? Стары — не тая кроў, каб маладзіц пісаць? Шпорамі звінець — яшчэ не быць гусарам? Тады не псуй настрой сабе і бабе. Ідзі да Гіры, там, можа, лягчэй — дзяды абодва. А як адмовіцца ад даўняе задумы і ахвоты? Гэтак і жыў: то прадчуваў у Парасцы свой ратунак, то крылы апускаў.

З Гірам паразуменне ладзілася іначай. Калі ў Парасцы шукаў душу тутэйшае сялянкі, затоена-схаваную ў вясковай сціпласці, у завядзёнках лёсу, побыту, дык Гіра — іншая прырода і парода — у сховах не пакутаваў, маўчун быў ад прыроды, тут жыў нібы ў чужым, думкамі ў мінулым, у маладых гадах. Пражыў гадоў за дзевяноста, а шавялюра чарнявая, хоць пад вянец, густая, у адным вянку з шыкоўнай барадою ды вусамі, яшчэ і нос не ў зямлю глядзеў, як у іншых бульбашоў, і не на неба з крыўдай на жыццё, а ў далячынь праз лес, курганне, чуў тыя, адтуль, вятры. Курцовая люлька ў зубах была падобная на паляўнічы рог — бурштын ядлоўцу. Усё, што пры ім ды ў ім, буйное, з прыродай ураўнаважанае: спакой ды лад. Як да яго ні завітаеш узімку, ён ля агню ў печы: з драўмі, з вадой ці бульбай у чыгунку, у гаршку, твар чырванню гарыць, а барада — дымар пчалярскі, шавеліцца

ці то ад ветру, ад дзвярэй, ці то ад цягі ў печы, ад дыму, ад агню. Усё, што вакол і ў ім, даўніна. Адно акенца ў хатцы — адна шыбка. Печ нізкая, з таго камення, што ў полі пры дарогах. Чарэнца ды загнетка ля самае падлогі: каб у печы бачыць, стаць трэба перад ёю на калені. Падлога — гліна, нагамі бітая, ток. І гэта ўсё яго рабіла не толькі фактурна-жывапісным, але яшчэ вышэйшым, як ад нябеснай волі, знакам. Гляне вачмі віластымі, агнянымі — ну, бог паганскі, Дажбог ці Жыжаль, падобны і на дэмана. А як падумаеш, што ён мужык, тады ўбачыш, што на мужыка падобны. Не на гэтакага, якія ў Лыскаўшчыне, Грыбіне, Красулі, — на воя нетутэйшага.

Праўда, і з Гірам было не ўсё лёгка ды проста. Яго, як вобраз, мастак бачыў каля агню, у чырвона-сініх водсветах, у іх гульні на вопратцы, на твары, на руках, а дзе і як у нары-хаціне мальберт паставіць, дзе стаць самому, каб галавой не ўперціся ў столь, каб бачыць мадэль ў адмысловым інтэр’еры, вакол адкрыць хоць нейкую прастору? Ці працаваць з калена? Можна з калена, калі робіш малюнак. А з фарбаю, з палітраю як колер класці, тон шукаць, жыўцом лавіць магічны каларыт? Шукаць дома па памяці? Там фарбу пакладзеш, але не тон — за вочы не прыдумаеш, лаві ў натуры, каб лёг на палатно красою трапяткою, радасцю.

У майстэрні ўжо былі малюнкі з Гіры, эскізы ў колеры. І тут штосьці шукаў, знаходзіў. Але ці тое, што трэба, каб клалася на сэрца? Эскіз з эцюда быў, дзе Гіра стаяў наўколенцах перад агнём у печы з рагатаю курцовай люлькай у роце, з адвіслаю, як стары грыб, губою, рассечанай недзе ў бойцы, з двума магутнымі, нібы разцы ў секача, зубамі, з смалова-чорным чыгуном аберуч. З чыгуна звісалі белавокія галовы шчупакоў, шырокія хвасты ліноў, тупая вусатая галава міроны тырчэла з юшкі, пашчу разявіўшы, нібы хапаючы паветра ў прыдуху. Гэта — не вобраз? Няма тут жывапісу? Але тады, калі ўсё, што трэба, ёсць, чаму другі ці трэці год Гіра ў малюнках ды эскізах пыліўся на падлозе пад акном? Аднойчы познім вечарам, на адзіноце думаючы пра гэта, заўважыў стрэльбу на сцяне, як бліснула замком ад трапяткога агню свечкі. У момант загадкавая сіла штурханула ў дзверы. Выскачыў пад ліпы, паваліўся тварам у снег, закалаціўся ў ліхаманцы, не чуючы зімовай сцюжы. Чым тое ўсё было? Хваробай нерваў? А можа, мастак з нервовымі хваробамі заўсёды ў змове?

Цяпер, у майстэрні, стоячы каля акна і тварам адчуваючы ласкавую цяплынь, заплюшчыў вочы. Сонца не толькі свяціла, але ўжо і грэла, праз твар лілося ў глыбіні жывога цела, там абмывала закуткі, бегла па жылах, і ў гэтым нечакана новым

стане мастак пачуў не аднаго сябе: чык-чырык, чык-чырык. Усміхнуўся: ці вераб'і здаволіліся, пра тое кажуць, ці яшчэ просяць? Вочы адкрыў, і ў той самы момант перад сабой убачыў птушыны твар. Гэтак адразу падумаў, што ў птушкі-вераб'я твар, як у чалавека. Калматы птах сядзеў за форткаю на дошчачцы, глядзеў у пакой, галоўкай вертухаў, схіляючы то на адзін бок, то на другі. На дзюбцы запальваўся драбочак сонейка, гаснуў і зноў успыхваў, нібыта верабей лавіў яго на дзюбку, губляў і зноў лавіў, і той гульнёю хваліўся праз акно.

— Параска!

Кухарка адчыніла дзверы.

— Вы мне што кажаце?

— Верабей, верабей — сонейка.

— Вам кепска?

— Ды ідзі сюды. Чаго мяне баішся?

— Што вам прынесці?

— Ты паглядзі на яго.

— На каго?

— Ды на вераб'я.

Яна стаяла побач, глядзела то на мастака, яму ў твар, сагрэты сонейкам, то ў акно, куды і ён глядзеў, на дрэвы ў садзе, але ніводнай птушкі там не бачыла.

— Дзе верабей? — спытала.

Цяпер ужо ён маўчаў. Блукаў вачыма па акне і за акном, шукаў, што яму трэба, і не знаходзіў. Прамовіў ціха, нібыта баючыся кагосьці спудзіць:

— Паляцеў.

— А вы не гэтак мне казалі?

— Верабей, верабей — сонейка. Гэта ад Саўрасава. Я ж табе казаў пра Саўрасава, мастака. Стаіць, памятаю, каля акна ў майстэрні, а за акном вясна, сакавік, ён гэтак у акно шэпча, а мы, вучні, за спіною пытаемся, як ты ў мяне, што ён кажа. Ён — нам: вясну гукаю, сонейка. Бывала, матыў вясновы бачыць, а на вачах слёзы. Гэтак адчуваў вясну. Вось і мы з табою гукаем. Хопіць з нас зімы, цяпло нам трэба.

— А ці мала вераб'ёў у вёсцы? Ад іх і шкоды шмат. Павымалочваюць сланечнікі, каноплі.

— Ты, Параска, бачу, зусім яшчэ маладая. Табе трэба ўсяго шмат. А мне ўжо хапае аднаго каліўца. Мае сланечнікі хай вымалочваюць. За акном верабей гуляў з кропляю сонейка, на мяне паглядаў, і я рады. А ты бядуеш за сланечнікі, каноплі.

Мастак казаў усміхаючыся, жартуючы, а Параска задумалася і гэтакая, задумлівая, разважыла:

— Вам сёння лепш, як было ўчора. А ўчора вы напалохалі мяне сваёй маўклівасцю. За ўвесь дзень падысці да вас не магла. Ішоў дождж, хмарыла, і вам усё было не так. Сёння сонейка, і вы зарадаваліся, як дзіця.

Ён узяў яе за плячо, прыхінуў да сябе.

— Не крыўдуй за тое, што было ўчора. Радуйся таму, што сёння. Сонейку хто не рады? І птушка, і былка кожная. А чалавек жа не дурнейшы?

— Вось адспяваем Лазара, а там і Дабравесць, Вербніца. І Пасха блізка. Свята за святам.

— Ці выкіне вярба на Вербніцу коцікі?

— Учора, як да вас ішла, у роў ля крыніцы спусцілася, а там вярба стаіць, уся ў залаценькіх котках. Вада сцюдзёная, нібы снегавіца, а коткі цёпленькія.

Мастак насцярожана прыслухаўся.

— Як кажаш? Коткі? Снегавіца?

— Гэтак у нас па вёсках кажуць.

— А ў нас, у Расіі, коцікі.

Яна махнула рукою:

— Тое самае.

А ён не пагадзіўся:

— Вярба, можа, тая самая, а слоўка іншае. У цябе яно смачнейшае, коткае. Тут у ім форма — сонца. Паганскі бог Ярыла. А што коцікі?

— Ад зброды ў смятане, — Параска задумалася. — Вось пакачуся з коткамі ў царкву. Ці ў Тубушкі, ці ў Друцак. Там Госпаду памалюся, Лазара паслухаю.

— Шчаслівая, — прамовіў Неўраў. — Ты Госпада бачыш, чуеш. Ты яму радая. А я згубіў. Ці ён мяне?

Заўважыўшы, як зноў мяняецца ў яго настрой ад нейкага аднаго слова, успомніла свой клопат:

— Вы ж сёння яшчэ не елі. Пайду ў печ ставіць бульбу. Скаромнінкі прынесла.

Павярнулася, каб ісці, ды ён зноў затрымаў:

— Кабанчыка калола на Пакровы — адкуль скаромнінка?

— Блюла, каб да вясны хапіла.

— Дык бульба ў чыгуне хай смажыцца, а мне цяпер дай тую грэчку, што не даеў учора. І рэдзьку. Я сам сатру. Дзе тарка?

— Ужо я сцёрла.

Чорная рэдзька ды грэцкая каша былі мастаку найлепшай страваю. Еў кашу з чыгунка, з пячнога духу, лыжкаю адрываючы ад сценак чырвоныя скарынкі, хрумсцеў салодкімі прыгарачкамі,

і малако да грэчкі любіў адразу з печы, накрытае вяршком ружовым. Прычмокваючы, успамінаў маленства, сытае ды цёплае, калі жывыя былі маці, бацька. Аднойчы, пачуўшы той успамін, Параска нагадала і пра купецкія падушкі, а ён, удзячны, што не забыла, як пра іх казаў, якія яны былі вялікія ў купецкім доме, яшчэ і тое ўспомніў, як бацька, паміраючы, ляжаў на ложку, гукаў пакаёўку, каб памяняла яму падушкі, прынесла большыя, якіх хапае і пад галаву, і пад плечы. Плечы былі шырокія, цяжкія. Пазней, калі пісаў купца ці дзяка, бачыў перад сабою бацькавы плечы, іх і пісаў у сваіх карцінах, нібы з натуры.

Параска з сялянскаю ашчаднасцю заўважыла:

— З адной вашай падушкі я тры зрабіла б, на ўсю сям'ю.

— Сабе, сыну, дачцэ. А мужыку?

— А мужык хай спіць, кулак пад галаву падклаўшы. Каб не спалася доўга.

На яго жарт яна заўсёды мела свой. Паставіла на стол чыгун з грэцкаю кашай ды кажа:

— Купцы ў кашу солі не шкадавалі, а вы мяне тузаеце: не салі. Як самі не з купцоў.

Нічога на гэта не адказаўшы, ён лыжку кашы паклаў у жменю, паднёс да акна, руку прасунуў у адчыненую фортку. Птушкі наляцелі, не чакаючы, калі сыпне на дошчачку, дзяўблі з рукі. Высыпаў, руку за форткай патрымаў, каб падзяўблі і тое, што наліпла. Вярнуўся да стала, сеў за чыгун і ўжо тады давёў пра соль:

— Ты ж ведаеш, што птушка баіцца солі. А не возьме яна з маёй рукі, тады і мне няма ахвоты.

Калі Параска ўжо была на кухні, ён з'еў спачатку рэдзьку, потым кашу, вышкраб з чыгунка ўсю да апошняе крупіны, запіў параным малаком, адставіў пусты кубак, узяў з лаўкі ручнік, абмёў ім вусны, бараду, пакерхаў у кулак і прахрыпеў, нібы праз крупы ў горле:

— Саўрасаў любіў рэдзьку. Ды пад гарэлачку.

Параска дзверы адчыніла, спытала:

— Вы гэта пра каго?

Павярнуўся да яе:

— Дзякуй, што накарміла. Цяпер ідзі сюды, сядзь побач. Даўно не бачылі мы светлай раніцы.

Узяў за руку, пасадзіў каля сябе на лаўку. Яе рука была цёплая, ажно гарачая, і ён падумаў, што гэта яго халодная, не грэе кроў, таму гарачаю здаецца яе рука. Яна маўчала, не ведаючы, што яшчэ яму трэба. Можа, мала яды? Але ж заўсёды хапала

чагосьці аднаго, кашы ці бульбы. Ну, яшчэ каб рэдзька ці якая салата, малако ці кампот, гарбата. Ёй хацелася, каб доўга не трымаў шурпатую ад вечнай працы руку, бо чула сваю ніякаватасць, што ў яе, жанчыны, рука грубейшая за яго мужчынскую. Вымавіла — у голаў узбрыло:

— Мне падабаецца, як вы пра птушак. Іх і Гасподзь любіў.

З пяшчотаю зірнуў ёй у вочы:

— Добра кажаш. — І ўжо нібы не ёй, нібы тым птушкам у акно: — У нас у гарадскім двары вераб’я называлі мужыком. Хоць з сэрцам, хоць без сэрца: ну, мужык…

Здзівілася:

— За што знявага? Што світка шэрая?

Ён выпусціў яе руку з сваёй, адвёў вочы ўбок, падняўся з-за стала, падышоў да акна. Маўкліва глядзеў у сад, быццам там выглядаў тых мужыкоў у шэрым пер’і. Маўчала і яна, адчуўшы, што сказала зноў не тое.

Ужо стоячы спіною да яе, спытаў грубейшым голасам:

— Дзе сёння Восіп?

Яе сын служыў кур’ерам. Раніцою пайшоў ў Талачын, і мастак не мог гэта не ведаць. Але пытаўся — адказала:

— Пайшоў да цягніка. Там, можа, вам будуць лісты, газеты. — І раптам, адчуўшы, што яму не трэба ні яна, ні Восіп, што ў непатрэбных ім абодвум словах ён топіць нейкі свой цяжар, разважыла:

— Чаму б не з’ездзіць вам у сталіцу, у свой дом? Чыгунка блізка. Мы з Восіпам правядзем да станцыі, у вагон пасодзім. Казалі самі, што дом багаты. Усё ж там сям’я, сябры, карціны.

Яна неаднойчы збіралася спытаць у яго пра жонку, пра дзяцей, але баялася, бо гэтакія думкі ён загадзя ўгадваў і адным позіркам ці словам спыняў усялякую ахвоту гаварыць. Чакала, што сам адкрыецца. Дарэмна. Неяк пачула ад яго, што ёсць дачка, ёсць зяць. А жонка? А ўнукі?

Аднойчы вымавіў:

— Сям’і няма. Была.

Тры словы — нібы адрэзаў. І не спытаеш далей. Аж сэрца сцялася. З тым сэрцам выбухнула:

— А што трымае вас у нашай глухамані? Што тут знайшлі? Турму? Дык ці яе шукаюць? З яе бягуць.

Ажно спалохалася: як гэтакае магла сказаць? Усхапілася ды за дзверы.

Сядзела яшчэ на кухні, думала, што ён, можа, пакліча, а потым занепакоілася пра сваю хаціну, галодных кабаноў, пра

цельную карову, якая там, можа, цяля прывяла без гаспадыні, пачула, як у хляве забэкалі авечкі, галодныя таксама. Хутчэй кажух на плечы, хустку захамутала вакол шыі. Яшчэ каля парога пастаяла, прыслухалася і, не злавіўшы за сцяною ні гуку, выйшла ў двор.

Каля ганка было ўжо суха. Тут Восіп раней параскідаў улежаны за зіму снег — за тры дні знік дазвання. Але далей пад ліпамі яшчэ трымаліся і снег, і лёд, гразі хапала. На сцежку выйшла, спынілася, глянула на свае валёнкі-катаначкі, падумала, што блізкім часам трэба іх скідаць, шукаць замену, хоць развітвацца з цёплай адзежай ды абуткам ніколі не спяшалася, ведаючы, якія нечаканыя бываюць гэтакай парою халады. Успомніла, як валёнкі, калі лёг першы снег, з Талачына прынёс мастак. Грошы не ўзяў, хоць тых грошай ніколі не было ў хаце, сказаў, што дорыць. А на вясну, шчэ да вады, купіў на іх галёшыкі. Усміхнулася сабе, сваім прыемным думкам, і выйшла на дарогу. Стаяла на дарозе, глядзела ў бок чыгункі: дзе Восіп? Была б якая пошта, хіба ішоў бы доўга, ведаючы, як чалавек чакае?

Калі прыйшла дадому, сын ужо на печы сушыў лапці. Вяртаючыся з чыгункі, ён праваліўся ў канаву, і бег адразу не да мастака, а на сваю печку.

Убачыўшы сына, зноў захвалявалася:

— Чаго ж ты тут?

А як пачула, што здарылася з ім і што пошты, нават газет, няма, параіла:

— Усё роўна трэба ісці. Усцягні на ногі мае валёнкі ды бяжы. Скажы ўсё як ёсць. — І перадумала адразу: — Ну, абсыхай. Пайду сама.

Выйшла з хаты і пасярод двара стаяла, разгубленая. Як сказаць, што пошты няма, ніхто не піша? Гэта ж падкінуць смалякі ў агонь, які яму з'ядае сэрца. А чым супакоіць? Дзе ўзяць словы, каб у іх былі і праўда, і хоць малое суцяшэнне?

## ЛЯЦЕЛІ ГУСІ БЕЛЫЯ

Басанож дашлёпаўшы халоднай ранішняй падлогай да цёплых пячурак, Неўраў выцягнуў з іх тоўстыя, з воўны, шкарпэткі, у руках пакамечыў, каб памякчэлі, сеў на малы ля парога слончык, усцягнуў на ногі, паверх абкруціў тонкімі ільнянымі анучамі, абуў боты, пагрукаў, не ўстаючы, падэшвамі ў падлогу і, адчуўшы, як нагам цёпла, утульна, устаў, зняў са сцяны ду-

бальтоўку з разьбяным замком, аздобленым срэбрам ды слановай косцю — бацькава спадчына, — у бляшанцы на падаконні ўзяў два патроны з бляскам пад светлую вохру. На далікатна-тanклявым розе касулі ў сушэйшым запечку вісела янотавае футра, і ён ускінуў яго на сябе, патроны сунуў у кішэню пад рукою, надзеў яшчэ новую, хоць ужо лысую на рагах ды рубцах шапку, пашытую ў суседнім Грыбіне старым краўцом-яўрэем, падышоў да акна, загледзеўся на дрэвы ў садзе. Ад раніцы яны стаялі адліжна-мокрыя, цёмныя, святлейшыя ў камлях ды таўсцейшым голлі. Зашпіліўся на ўсе гузікі, павесіў дубальтоўку на плячо і выйшаў за парог.

На ганку затрымаўся: у які бок ісці?

Падаўся наўздагон сонцу, якое хавала свой крамяна-чырвоны грэбень за вастрапікімі ялінамі блізкага лесу.

Тутэйшыя краявіды мастак палюбіў з першых дзён, як тут аб'явіўся, і цяпер яму здавалася, што бачыў і любіў іх заўсёды, ва ўсе поры года, у любое, нават і самае няўтульнае, надвор'е. Палеткі ў наваколлі былі невялікія, пабітыя ды параскіданыя светлымі бярозавымі ды асінавымі гаёчкамі, з ялінкамі ды хваінкамі пад лісцвяным падалом, з крынічна-чыстымі азерцамі ў чароце і трысьнягу, аблюбаванымі бакасамі ды качкамі, з выгоністацёмнымі шапкамі старых хвояў, як дзеля выразных жывапісных акцэнтаў, рытмаў, кантрастаў. Яны давалі адчуванне прасторы, маляўніча-зменлівай бясконцасці пластычных ліній пагоркаў ды лагчын, скразной, навылёт, музыкі, якая чулася нават у хвіліны выключнай цішыні. Тут можна было супакоіцца, забыцца пра ўсе нягоды, і таму сюды заглядаў часцей, як у іншыя ваколіцы.

Шырокім непаспешлівым крокам ён клаў сляды па апошніх лапінах набрынялага вільгаццю шурпатага снегу, абмінаючы мясціны гразкія, з прыемнасцю чуючы, як лёгка апошні снег распаўзаўся пад ботамі, як трушчыўся пад імі танклявы лёд у бярозавых маладняках, светлых яшчэ і цяпер, калі хавалася за краем неба сонца, ішоў не думаючы, куды кіруе, дзе спыніцца. Наперадзе бачыў пейзажы адзін за другі прыгажэйшыя, і яны нагадвалі падмаскоўнае Абрамцава, царства Берандзея, як называлі маёнтак Савы Мамантава з казачнымі дамочкамі, масточкамі, цэркаўкамі, збудаванымі па малюнках цудоўных мастакоў, сяброў Савы, які таксама меў талент мастака. Там Неўраў знаўся першым берандзеем, якога з павагі называлі старым, старэчам, старыканам, хоць шанаваліся таксама іншыя берандзеі: Сурыкаў, Паленаў, Рэпін, Несцераў, Васняцоў. Ледзь бліснула з-за пагорка праз хмызы вада, а ён ужо ўспомніў Вору, якую пісалі ўсе, хто

жыў у Абрамцаве, нават не мастакі, і асабліва пяшчотна пісаў Паленаў. Тут працякала Друць, ёй Вора не раўня, Друць не ручай, як Вора, яна рака сапраўдная, хоць не Дняпро, вядома. На бераг выйшаў і залюбаваўся яе вяснова-паўнаводнай сілай, спакоем плыні, пералівіста-тонкім, багатым на каляровыя адценні каларытам у кожным, дзе б вока ні спатыкнулася, малюнку.

А хто мастак, як не прырода-матухна?

Захоплены вясновымі настроямі, схамянуўся, пачуўшы шматгалосы, сугучны з наваколлем вокліч, падобны на дружны звонкі рогат: «Га-га-га-а!..» — з падгалоскамі. Узняў да неба твар, а там — о, магутны Божа! — ручай святла ў шэрым небе. Гусі? Яны, бялюткія, ляцелі нізка, цяжка, урачыста па-над заружавелым верхавіннем маладога бярэзніку, крылы — уроскід рук чалавека, з ружовымі водблісками ў падкрыллі ад сонца, якое ўжо завалілася за лес, але яшчэ гуляла па небе цёплымі хвалямі. Гэта ж людзі чуюць: «Га-га-га-а!..» — крык з неба ў ладзе альбо несуладзіцы гукаў, а ў птахаў — свая мова, вясновая радасць. Там, у небе, чуўся гімн вясне. І калі птахі праляцелі, Неўраў зняў шапку, перахрысціўся.

Цямнела хутка.

У куточку паміж хмараў высвечваў двума ражкамі месячык. Ён быў яшчэ нясмелы, нібы з тонкай паперы, і гэтакі нясмелы чуўся новы гук, таксама з неба: «Цык-цык-цык…» Яго Неўраў злавіў без хваляванняў, як будзённае, але заўважыў, як хутка ў кішэні футра рука намацала патроны. Рука раней за вуха і за сэрца пачула слонку? Ці, можа, чуў сэрцам тую, з-пад чарады гусінай, песню і таму гэтая не ўсхвалявала? Якая яшчэ прычына? Знікаў слых паляўнічага?

Спыніўся перад танклявым белым промнем паміж зямлёй і небам: раўнюткая і гонкая бяроза, да верху без сукоў, уся чыстая, стаяла перад ім. Агледзеўся: бярозы святлелі і далей. Падняўся на ўзгорак. За дрэвамі блішчэла цёмная ралля, над ёю дыміўся маладзік, і ад яго святла хапала, каб пазнаць мясціну.

Цяпер ішоў па краі поля, мяжою, дзе сушэй, але спыніў шоргат пілы. Камусьці не хапіла дня, каб з лесу ўзяць дрэва? Яно закрактала, галлём зашаргацела па суседніх дрэвах і, цяжка ўздыхнуўшы, бухнула на дол.

Як з перапуду, забрахаў сабака.

Лес быў навокал панскі, і Неўраў разумеў, што ў гэты позні час, у цемень, дрэва валіў не пан, як і не той, хто меў дазвол ад пана. Але тады, у лес ідучы з пілою без дазволу, каб скрасці дрэва, які дурань мог браць з сабой брахлівага сабаку? Дзе не

хапае розуму ў мужыка, там у яго хапае хітрасці. А тут? Ні таго, ні другога.

Сабака брахаў усё мацней, нібы кідаючыся на жывое.

У зямлю забухалі цяжкія капыты. Дарогаю пранёсся чорны, за лес цямнейшы, конь. Ад каня ветрам кінула да хвоі. Сабачы брэх зліўся з жаночым лямантам:

— Ратуйце!..

Неўраў выскачыў на дарогу. Прабег у той бок, куды пранёсся конь, дзе галасіла баба. Спыніўся. Сабака брахаў блізка ў лесе. З дарогі звярнуў на голас.

Ружжо вісела на плячы, стваламі чаплялася за голле. Неўраў сарваў яго з пляча, з ім у руках прыгнуўся, нырнуў пад голле яліны, прабіўся праз хвойны маладняк і раптам апынуўся перад канём. Той з вершнікам у сядле кружыў між дрэваў, а пад ім таптаўся мужык у лапцях, у ватніку, без шапкі, аберуч уплёўшыся перад сабой у джала бізуна, другі канец якога з дубцом трымала, ірвала да сябе рука вершніка. Збоку ад каня, ледзьве не пад канём, спіной па моху качалася жанчына, рукамі і нагамі адбіваючыся ад шалёнага сабакі, які ўчапіўся клыччам у яе кажух.

Неўраў заклаў у ствол патрон і грохнуў у неба. Конь, спалохаўшыся, скочыў у процілеглы ад жанчыны бок. Заскігатаў, нібы падстрэлены, сабака — з кавалкам кажушыны ў зубах пашыўся ў гусцейшы ельнік. Вершнік саскочыў з каня да Неўрава, сціскаючы ў руцэ бізун, але раптам спыніўся. То быў панскі ляснік. Мастак пазнаў яго, успомніўшы, як разам бралі ў сцяжках ваўкоў. Тады, палюючы ў зімовым лесе, ды і пасля, як паляванне абмывалі, не гэтак злосна глядзелі адзін на аднаго, былі хоць не сябрамі, але не ворагамі.

Заўважыўшы пад свежым пнём сякеру, Неўраў падняў яе з зямлі, абухам грукнуў у камель паваленай старой яліны. Сапрэлая кара зляцела з сухадрэвіны.

— Караеш мужыка, Гаўрыла? — спытаў, але адказу не пачуў. Падняў гніляк з карою. — Клапоўнік, а не дрэва. Падзякуй чалавеку, што лесніку ды пану пасабляе чысціць лес. А то схапіўся за бізун. Сам — не мужык?

— Хай дрэва выпіша, каб узяць. Калі ўсе гэтак?

Злаваць лесніка Неўраў не хацеў, бо разумеў, што лепей павярнуць да міру.

— Тут твая праўда. Дазвол патрэбны. — І ў гэты самы час падумаў: дазвол у пана адзін — дай ты яму, тады ён дасць табе. І тое, што падумаў, у кішэню не схаваў: — Ці ёсць у мужыка чым пану заплаціць? Сваімі жыламі на панскім полі?

— А што мне да таго? Я тут на службе. І ёсць закон.

— Вось бачыш? За пана і закон. — Цяпер Неўраў адчуў, што памыліўся, ляснік ужо не мужык, хоць і не пан, ён служка панскі і пану дагаджае, каб выгадаць самому, ад мужыка ў яго застаўся нюх сабачы, каб уварваць сабе, схаваўшыся за пана, за закон. Аж зазлаваў, што памірыць надумаў. Які паміж іх мір? — Дык вось, ляснік. Як будзеш пра гэта, што тут адбылося, казаць Лупандзіну, дай ты яму маю параду, каб штрафам ён цябе абклаў. За што? А што лес запусціў, развёў падкорнага клапа. І яшчэ парай, каб мужыкам дазволіў без платы браць у лесе хворае дрэва. Не трэба лес гнаіць. Ён хоць і панскі, але ад Бога, служыць не аднаму пану, але і мужыку, і мастаку.

Неўраў шубнуў сякеру пад пень і павярнуўся, каб выйсці на дарогу. Але жанчына не пусціла — у ногі бухнула:

— Заступнік наш!.. — ды галавой — у мох.

Стаяў над ёю, чакаў, калі падымецца. Але не падымалася: спіна і плечы ўздрыгвалі ад плачу. Ён да яе схіліўся, узяў пад руку, пасобіў стаць на ногі.

— Не бойся. У цябе ёсць дзеці. Ты святая.

Яна ўцёрла далонню твар, пад хустку падаткнула валасы, угледзелася ў мужчынскі твар перад сабою.

— Мастак?..

Перахрысцілася. А ён сказаў:

— Хрысціся на аблічча Госпада, але не на аблічча чалавека. Усе людзі грэшныя. І грэшны пан, і грэшны цар. Мастак таксама грэшны. Усе, акрамя Госпада.

Яна яму кіўнула быццам згодна і зноў перахрысцілася.

— Ты мяне чуеш?

Яна маўчала. І раптам усміхнулася, загаварыла іншым, нібы ў сваёй хаце, голасам:

— Я з хлопчыкам да вас прыходзіла. Ён у мяне малюе. То лес, то птушак, то ката, сабаку. Прыйшлі, а ў вас быў друцкі бацюшка, дык мы назад.

— Вялікі хлопчык?

— Ды ўжо спрабуе за сахой хадзіць.

— О-го! Дарослы?

— Пайшла дзясятая вясна.

— Ну, хай расце вялікі…

Яна яшчэ, гаворачы, аддыхвалася ад валтузні з сабакам і ўсё вачыма кідала то ў твар мастаку, то на сябе, на свой кажух, змятаючы з яго рукамі мох, гнілое лісце, шыгалле, хапалася за разадранае крысо, не бачыла перад сабой ні лесніка, ні мужыка, у галаве трымаючы толькі свайго хлапца ды мастака.

Ляснік сеў на каня, але не ехаў, нібы яшчэ не ўсё зрабіў, не ўсё сказаў.

— Дык хай твой сын прыходзіць, — параіў Неўраў, — калі ўжо, кажаш, за сахой стаіць. Ужо можа і без маткі.

— Можа. Гэтак і я яму кажу. А ён мне: дзед высачэзны, страшны, адзін баюся. Вы мне прабачце.

— Я, можа, страшны і табе?

— Ой, не!.. — ад сораму закрыла твар далоньмі.

Калі Неўраў выходзіў з лесу, спіною чуў, як за ім следам у пні-карэнне грукаў капытамі конь, аб ельнік шаргацеў бакамі, а на дарогу выйшаў — конь за спіной заціх, нібы застаўся ў лесе.

Зусім сцямнела, пакуль дайшоў. Ля дому пастаяў, паслухаў, як шэпча вецер, але не зразумеў, што абяцае: пагоду, непагадзь? На ганку з пляча зняў стрэльбу, стамлёна пхнуў дзверы ад сябе ў сенцы. Адкінуліся. Пераступіў парог, намацаў другія дзверы, пераступіў другі парог, прыслухаўся і не пачуў у цемені ні гуку.

Параска прыходзіла ці не прыходзіла?

Намацаў запалкі ў кішэні, усцёр агеньчык, высвеціў лямпу на паліцы, патрос, пачуў, як плёскалася на дне газа, зняў шкло, амаль ужо дагарэлаю запалкай паспеў прыпаліць кнот. Лямпа задыміла — хутчэй накінуў на галоўку шкло.

З лямпаю ў адной руцэ, са стрэльбай у другой зайшоў у майстэрню. У вочы адразу, як што жывое, кінуўся мальберт. Паставіў на стол лямпу, павесіў на сцяну стрэльбу, з кішэні на стол выклаў сшытак з замалёўкамі, з другой кішэні дастаў патрон, паважыў на далоні. Толькі цяпер убачыў, што быў ён не на птушку, а на буйнога звера — з літым жаканам. Здзівіўся сваёй памылцы, калі клаў у кішэню. Адзін узяў са шротам, ім пальнуў у неба, каня ды лесніка спужаў, а на якога звера другі? Паклаў патрон назад у кішэню і скінуў з плячэй футра.

У доме было цёпла.

Сеў на лаўку, сцягнуў з адной нагі бот, з другой не паспеў — задумаўся. Зноў убачыў перад сабою, нібы жывую, у натуры, сцэну: конь, вершнік з бізуном, а пад канём, пад бізуном, мужык і баба. І ваўкадаў на бабе. Якія постаці! Якая драма! Ну хоць адразу кладзі на палатно, пішы. Але мужык — ахвяра альбо вой? Калі пад бізуном ды пад канём — ахвяра? Калі ж схапіўся за бізун і лесніка з каня пад капыты скідае — вой? Як пісаць — выбірай. А хіба выбар ёсць? Жыццё яго дае ці не дае? Пакуль што дае думка — не жыццё. А сэрца ці чуе воя ў мужыку? Дык што і як пісаць? Па думцы? Схлусіш. Па сэрцы? Але яно не хоча бачыць мужыка ахвярай.

За лямпаю — сцяна, у сцяне — акно ў ноч. З той цемені, з акна, як з нетраў ночы, глядзеў насустрач ці чалавек, ці д'ябал? Мастак прыўзняўся з лавы, рукамі упёрся ў край стала, падаўся тварам да акна. І той адразу, з цемры, насустрач бліжэй падсунуўся. Глядзелі — вочы ў вочы. Вачэй там не было відаць, замест вачэй чарнелі ямкі. Блішчэлі жаўцізной вусы і барада. На галаве, тырчэлі дыбам валасы.

— Бярмята?! — хрыпатым басам спытаў уражаны мастак.

Д'ябал пасунуўся насустрач:

— Ты — Бярмята?

— А ты хто? Цар Берандзей? Дык гэта ў тваім царстве ціха, змрочна?

— Не веру я табе, Бярмята.

— Ха-ха, цар!.. Дык ты пазнаў баярына?

Неўраў кулаччам грукнуў у стол. Шкло выскачыла з лямпы, агонь з яе падскочыў і выкінуў угору чорны дым. У твар сыпанулі з дымам іскры. У носе зашчымела. Чхнуў завельмі моцна — цяжкое штосьці за спіною звалілася, як на падлогу. У лямпу фукнуў, і святло пагасла. Цемра зглынула д'ябла разам з акном.

Неўраў зарагатаў бязмежным басам.

— Ну, цар, пагаварылі. Праз колькі год? Не бачыліся гадоў дзесяць?

Успомніў Саву, яго сяброўскі жарт: «Для гістарычнага ў маім тэатры рову іграць Бярмяту трэба даць Няўрову». Там, у Абрамцаве, было ўсім весела, калі ён, Неўраў, ён жа — Няўроў, пужаў і цешыў грамовым басам. Як не зваліўся тэатр у Вору? А Берандзеем быў Паленаў. Па вечарах — на сцэне, удзень — з эцюднікам, каля мальберта. Які мастак — усім вядома. А які акцёр!

Намацаў карабок з запалкамі, яшчэ раз прыпаліў у лямпе кнот, насунуў шкло, з агнём пайшоў глядзець, што за сцяною грукнула, калі чхнуў не вельмі асцярожна. У гасцёўні на сваім ранейшым месцы стаяла трумо, стаяў вышэйшы за яго гіпс — Венера Мілоская. На сэрцы палягчэла, бо першай думка варухнулася ў галаве, калі чхнуў: ці не здарылася бяда з любімаю жанчынай? Падаўся да другіх дзвярэй, туды, дзе спальня і ляжанка. Яны не адчыніліся, быццам з другога боку іх нехта падпіраў. Налёг плячом — адтуль пачуўся стогн. Мацней налёг: дзвярыма штосьці адсунуў на падлозе. У шчыліну прасунуў галаву: там, за дзвярыма, ляжаў мужчына ў шэрым. Прысеў і лямпай пасвяціў: чыя там галава? Узяў за каўнер, прыўзняў: ха, Восіп?

— Чаму ж ты на падлозе?

Той варухнуўся, патузаўся, стаў на калені, рукамі трымаючыся за падлогу.

Неўраў паставіў на прыпек лямпу, пасобіў хлопцу стаць на ногі. Восіп калаціўся. Нарэшце выраўняўся, пасунуўся на кухню. Там знайшоў вядро з вадою, забразгацеў у ім конаўкай, пачаў хлябтаць.

Калі быў добра выпіўшы, ён шкоды не чыніў нідзе, нікому, быў ціхі, і гэтакага, ціхага, было лепш не чапаць, пакінуць аднаго, ён сам тады знаходзіў ложак ці нейкае лагво, каб адаспацца.

Неўраў сядзеў у гасцёўні і чуў, як Восіп за сцяною соўгаўся, бармочучы, рыпеў за печчу ложкам. Потым засоп, захроп. Суцішыўся.

Дзверы былі прачыненыя, ад лямпы святло выкатвалася праз шчыліну ў пакой, ляжала пасам на нагах. Неўраў сядзеў у крэсле і цьмяна бачыў сябе ў люстэрку, але свяцілася, як бы сваім, знутры, святлом Венера. Не кепская была тут кампазіцыя: мастак у крэсле, ссінела-цьмяны ў цяні, і побач з ім, над ім, уся высветленая, нібы жывая, прыгожая багіня. Глядзеў у люстэрка, як на карціну ў начной раме, пакуль зноў не пачуў:

— Не веру я табе…

Змарыў ужо сон?

Пальцы рук, моцныя ад вечнай работы з пругкім, нібы спружына, пэндзлем, якія цяпер ляжалі на падлакотніках, збегліся ў кулакі, але адразу сутаргава выпрасталіся, і ён, мастак, без зла, без тае літасці, як некалі на сцэне, разважліва прамовіў:

— Крадуць памалу мужычкі?..

Рэпрыза была свайго гатунку, не з тэксту драмы. Сам ведаў, што цару сказаць. На гэтую рэпрызу Сава крычаў са свае ложы: «Бравісіма!» А што сказаў на гэта цар?

— Хоць аднаго злавілі?

Спытаў, усё роўна як патрабаваў лавіць.

Што ж ён, Бярмята? У адказ зарагатаў, як з неба сыпнуў громам:

— Лавіць?.. Ха-ха!.. Няма карысці, цар. Усіх не пераловіш. У тваім царстве ўсе зладзеі. І ты сам, цар, злодзей!

Бас выбухнуў ужо не Бярмятаў. Там быў мастак Бярмятам, а тут Бярмята быў вольным мастаком.

— Раскралі ўсё! Народ твой, цар, у цябе ўкралі!

— Народ?.. Як гэта адбылося?.. — здзівіўся, разгубіўся, закалаціўся ў ліхаманцы цар. — Хто скрасці мог у мяне народ?!.

— Чыноўнікі. Хлусы. Твая, цар, дворня.

Прарочы бас цар чуў, але не верыў. Ён ведаў, што на сцэне казка, і ведаў, што акцёр на Воры ў Савы не акцёр — мастак.

Але, запрошаны ў ложу, цар не заўважыў дробязі: акцёрамі ў тэатры былі не проста мастакі, а з тых вялікіх, якія не маглі хлусіць і не маглі маўчаць на сцэне, як у працы за мальбертам, бо не былі на службе ў цара.

Цяпер ужо і Неўрава, як ад сівухі Восіпа, закалаціла. Вярнуўся да ляжанкі. Восіп за печчу то хроп, то замаўкаў, як штосьці слухаў ці падслухоўваў. Неўраў сцягнуў з печы стары кажух, раскінуў на ляжанцы, прынёс з камоды прасціну, паслаў па кажуху. Залез пад коўдру. Угрэўшыся і супакоіўшыся, пагасіў лямпу, але заснуць доўга не мог. Трэба было павыкідаць усе думкі з галавы. Паспрабаваў гэта зрабіць, але яны ў яго дазволу не пыталі. То гадаў, чаму яго калоціць, ад нерваў ці ад прастуды, то думаў, дзе праўда, у жыцці альбо ў казцы, і чаго ў казцы болей, хлусні ці праўды, ці можна казкаю лячыць душу і сэрца?

Апошняе пытанне паўстала рубам: ён тут, у Лыскаўшчыне, што шукаў? Якую казку?..

Каб адбіцца ад думак, звесіў з ляжанкі ногі, споўз, наперад рукі выпрастаў, намацаў дзверы, зайшоў у гасцёўню. З вышэйшай шыбкі ў акне свяціў танклявы месячык. Святла было не шмат, але заўважыў вазу на стале і ў ёй галінкі маладой вярбы. Была Параска — з царквы прынесла?

Побач з вазай блішчэла медзь кандэлябры. Ляжаў і карабок з запалкамі. Па карабку чыркнуў запалкаю, агеньчык разнёс па свечках. Ляжала Біблія. Яна была разгорнутая на тых старонках, дзе ён чытаў учора перад сном. Ляжала і закладка пад радкамі, з якімі, прачытаўшы, клаўся спаць:

«Сказаў Майсей народу: памятайце дзень, калі выйшлі з Егіпта, з дому рабства…»

Адзін радок, а скабка торгала ў галаве да поўначы: у Лыскаўшчыне хіба не гэтакі народ, як быў у Майсея? Лупандзін — не фараон?..

Шукаў у камодзе ліст ад генерала — пра фараона ў Лыскаўшчыне. Расхваляваўся: няўжо згубіў? Знайшоў.

З кандэлябраю вярнуўся да ляжанкі, паставіў яе побач з лямпай. Мог лямпу запаліць, каб свечкі пабeрагчы, але на свечках забагацець не спадзяваўся ды і ўсялякае багацце даўно паслаў да д'ябла. З лістом залез пад коўдру.

«Шаноўны Мікалай Васільевіч!»

Лежачы, чытаць было нязручна, хоць мог і не чытаць — кожны радок з ліста цепліўся ў памяці. Але было прыемна глядзець на імклівыя, як тэмперамент гусара, як конная атака на полі бою, радкі і асобныя літары — штосьці магічнае адчуваў

у іх. Прыўзняўся, падсунуў пад падушку скамечаны кажух, каб галаве ляжаць вышэй.

«Быў на балі. Там, у суправаджэнні гусарскага штабс-ротмістра, да мяне падышлі дзве цудоўныя дочкі Лупандзіна, Маня і Ліда, першая з якіх за штабс-ротмістрам, другая таксама за гусарам, якога я, на жаль, не бачыў. Я ў іх спытаў пра маму, Сцепаніду Мікалаеўну, пра бацьку, пра іх здароўе і жыццё ў Лыскаўшчыне. Мае пытанні, як я заўважыў, не дадалі ім добрага настрою. Яны сказалі, што бацька не мяняецца, па-ранейшаму ў сваёй ролі з бізуном ці з кіем у руцэ. Не шмат пачуў і пра Сцепаніду Мікалаеўну. Але аказалася, што яна цяпер у Маскве, гасцюе ў старэйшай Мані, што калі я наведаю, то будзе вельмі радая. Далі мне адрас. Я ўзяў фурманку і прыкаціў. Сцепаніда Мікалаеўна, якую ведаю даўно, як сусед па маёнтках, падрабязна распавяла мне пра жыццё ў Грыбіне, у Лыскаўшчыне, пра свайго Уладзіміра Валяр'янавіча, прызналася, слязу пусціла, што жыць з ім вельмі цяжка, што сэрцам ад таго жыцця яна адпачывае ў дачок. Ён чалавек прыгону, з людзьмі жорсткі, быў гэтакі яшчэ ў маладыя гады, сваіх сялян забіваў да смерці, і ў старасці не змяніўся. Яго любімы занятак кіем ды бізуном раўняць мужыцкія спіны. А жанчыны, усе тры, мілыя і сардэчныя. Ад Сцепаніды Мікалаеўны пачуў пра Ваша нялёгкае жыццё ў Лыскаўшчыне, што яе муж атручвае яго Вам. Вельмі перажываю, што Вашаму жыццю ў вёсцы я даў пачатак, хоць усё, бачыць Бог, рабіў з вялікай павагі да Вас і да Вашага таленту. Цяпер, не маючы магчымасці заглянуць у родныя мясціны, прыгадваю дзень, калі мы з Вамі ехалі ў фурманцы грыбінскага мужыка кацярынінскім трактам, усцяж прыгожа абсаджаным бялюткімі бярозамі, з якім захапленнем мы ўглядаліся ў цудоўныя краявіды. Я быў шчаслівы, што Вы, мастак, адкрываеце для сябе багаты на жывапісную прыгажосць наш беларускі край, што Вы, калі яшчэ і Бог пасобіць, там усё ў ім знойдзеце, каб працаваць, пісаць новыя цудоўныя карціны, адпачываць і целам, і душою».

Доўга чытаць, лежачы, не мог, балелі вочы. Апусціў руку з лістом на грудзі. Замільгацелі ў вачах светлыя, усцяж шляху, бярозы, паплылі сонечныя палеткі, усыпаныя драбналессем курганы, хаціны, крытыя шэрай саломай, і як з тае дарогі пачуў барытон:

— Тутэйшы мужык царыцу-немку хваліць за бярозавыя шляхі, але не бачыць далей свайго носа. Шляхі царыца клала пошце і войску, каб сілаю прыбраць да рук заходні край, а мужык думае, што клала іх яму пад лапці. Шляхамі край да Расіі прывязала.

Фурман, слухаючы, азіраўся на генерала ды чухаў карак.

Яшчэ крыж прыдарожны ўспомніўся, на скрыжаванні. Высокі, з круглага смаловага бервяна. На ім віселі ручнікі, вянкі з павялых кветак, іконка Багародзіцы. Чарняеў спыніў фурманку, павесіў на крыж свой ручнік, перахрысціўся. А як паехалі далей, сказаў:

— Я абракаўся гэтаму крыжу, едучы на вайну з туркамі, даваў аброк вярнуцца з перамогаю. І крыж мяне вярнуў.

За крыжам была чарняеўская вёска Тубушкі, за ёю першаю на ўзгорку стаяла мураваная царква. Зайшлі ў царкву. Бацюшка з амбону гасцей заўважыў, службу спыніў, паднёс прасвірку на сподку, блаславіў абодвух. І ўсе сяляне, што былі ў царкве, ім кланяліся, віталі Хрыстом-Богам.

На трэці дзень, пагасцяваўшы ў Тубушках, паехалі ў Друцак. Там на гару ўзышлі — дух заняло: прастора, далячынь ва ўсе бакі, а пад гарою рэчка Крывая, прыток Друці, у яе падкове гарадзец, агромністыя валуны навокал, нібы з зямлі тырчалі галовы вояў у круглых шаломах, і паміж іх, над імі, зноў крыжы. Чарняеў шабляй паказаў: глядзі і помні. А што помніць? Гарадзец — былая крэпасць, сталіца княства Друцкага. Трымаючы шаблю на замшэлым, крывёю продкаў абмытым камені, Чарняеў казаў, як вяліканоўгарадскі князь Ігар ды палавецкі хан Канчак з'явіліся сюды ў адзін час з сваімі войскамі і як друцкія мужыкі ім моцна ўсыпалі, ажно Канчак ды Ігар, забыўшы пра сваю адзін да аднаго варожасць, давалі адсюль драла ў адной лодцы. Тады ён, Неўраў, сказаў Чарняеву: «Хацеў бы тут застацца і тут памерці». Чарняеў адразу шаблю ў ножны і сеў у фурманку. Неўзабаве яны былі ў Лупандзіна: гаспадар дома частаваў за дубовым сталом на тэрасе. Невысокі, але шырокі ў плячах, цяжкі на цела, калі не казаць, што добрага наедку, і разам з тым рухавы, гадамі маладзейшы за сваіх гасцей, ён быў негаваркі, на слова асцярожны, увагу да сябе лавіў, асабліва з боку генерала, хмурнеў, калі Чарняеў больш, як яго, заўважаў мастака. А Неўраў генерала разумеў: сваёю да яго ўвагай знаёміў пана з новым чалавекам, паказваў, што прывёз не абы-каго. Хіба не на Лупандзіна разлічваў, калі ўсклікнуў:

— Як вы маглі, мілейшы Мікалай Васільевіч, сказаць на гарадцы ў Друцаку, што тут, у далёкім ад культуры краі, у балотах, у лясах глухіх, сярод непісьменных мужыкоў хацелі б жыць, нават памерці? Вы ж чалавек сталіцы, там у вас багаты дом, вядомыя сябры ў мастацкім свеце. А тут? Просты народ? Дык ён усюды просты.

Спачатку генеральскі пафас гучаў як жарт, але ён быў настойлівы, адказваць на яго мусіў без жарту:

— Маё жаданне жыць у вёсцы даўняе. Мастак там, дзе яго натура, дзе ён працуе з ёю.

— Але ў Маскве, — не сунімаўся Чарняеў, — вы напісалі карціны, якія вам прынеслі славу. Яны ўражваюць.

— Нават генералаў?

— Ну так, і генералаў! — Чарняеў грукнуў кулаком у стол. — «Гандаль», «Купец-куціла», «Протадыякан». А партрэт Шчэпкіна? О-го!..

— Шчэпкін якраз мне падказаў, дзе трэба шукаць натуру. Ён — не адна сталіца. Ён — уся Расія.

— Толькі падумаць! — грымеў Чарняеў. — Вы, мастак, суддзя над усёй Расіяй, над усім яе прыгонам, дзікунствам, хамствам, брудам. Вашы карціны… Цар здрыгануўся!..

— А з трона не зваліўся.

Іроніяй Неўраў спрабаваў супакоіць тэмперамент генерала. Але той на гэта не зважаў:

— Я памятаю. Вы запрасілі на адкрыццё выставы, і я прыехаў. Усе чакалі ўбачыць вашы новыя работы. Вы абяцалі, што яны будуць. А куды дзеліся? Адкрылі выставу, а іх няма. Цар загадаў убраць? Ён у нас строгі альбо дурань? Ці гэта ўсё ўжываецца ў адным — строгі дурань? А можа, спалохаліся халуі пры ўладзе?

Здзіўлены гэтакай размоваю, дзе пра цара казалі як пра звычайнага смяротнага, чыноўніка ці мужыка, Лупандзін цяжка варочаўся на крэсле, крактаў, аддыхваўся, спяшаўся наліваць у кілішкі і ўжо, трымаючы свой келіх у руцэ, то падымаў яго, то апускаў, штосьці хацеў сказаць, але Чарняеў хоць заўважаў тыя старанні, але мацнейшым словам альбо рогатам пана спыняў. Як было рушыць супраць генерала? І ўсё ж свой момант пан знайшоў:

— У маім маёнтку, прабачце, ціха.

Чарняеў імгненна бліснуў на яго рашучым вокам, зарагатаў яшчэ мацней.

— Ціха ў келіху. Але і ў ім на дне — агонь! Гарыць і там, дзе да пары да часу ціха.

Лупандзін пагардліва скрывіў губу, незадаволена зірнуў у твар генералу і пакорліва заміргаў малымі, у тлушчы, вочкамі. Генерал у яго бок ужо не глядзеў. Фарсіста, двума пальцамі, падкруціў вострыя канцы вусоў, другой рукою, ускінуўшы галаў, выліў з кілішка да дна пад бравыя вусы, і засяроджана, як за сур'ёзную работу, узяўся за гусіны кумпячок.

Неўраў з прыемнасцю назіраў за генералам, за ўсімі яго эмоцыямі, рухамі, настроямі, як яны ў ім мяняліся, як ён іх выяўляў у жэстах, нават ледзь улоўных, імгненных. У ранейшым мяккім іранічным тоне заўважыў:

— Гусар кідаецца ў бойку не толькі за Айчыну, за годнасць і чысціню мундзіра, але і за цара.

Лупандзін павесялеў, адчуўшы, што мастак яму не пярэчыць. Нібы ў змове паміж сабою, яны глядзелі на генерала, чакалі, якім козырам цяпер той будзе крыць карту, кінутую на кон.

Чарняеў без спешкі абгрызаў костку, пазіраючы з-за яе вострымі вачыма то на аднаго, то на другога. Расправіўшыся з косткаю, грунтоўна, у сваім стылі, выцер сурвэткай вусны, пальцы і ўжо з поўнай увагаю да Неўрава разважыў:

— Я раней думаў, што пэндзаль у мастака падобны да вострай шаблі гусара, а слова-шабля — у паэта. Цяпер бачу, што гэта не зусім так.

Неўраў нібы згадзіўся.

— Магчыма. Але мастак, як і гусар, жыве не доўга.

Чарняеў навастрыўся:

— Мой век, пражыты, шаноўны сябра, не хвост заечы. Яшчэ гусар, на службе, на кані, хоць ужо стары гусар.

— Вас Бог бярог.

— Не адмаўляю. — Чарняеў кіўнуў галавою, звесіў даўно не густы, грунтоўна прашыты сівізною над глыбокімі залысінамі чуб, задумаўся, на мастака ўзняў годны позірк. — Гусару, хоць і старому, пакінуць поле бою ганьба. Лёс у яго: ці грудзі ў крыжах, ці галава ў кустах. А як у мастака? Не гэтак жорстка?

Перад дапытлівымі вачыма чалавека, які выдатна ведаў кошты жыццю і смерці, ухіляцца ад пытання ці вымавіць няпраўду Неўраў не мог. Прызнаўся, як сабе:

— Ёсць поле бою і ў мастака. У кожнага — сваё. І ў мяне сваё… было. Купцы, папы, гарадавыя, дворня, дзялкі… былі мне жывапісным мясам. І двор, і норавы купецкія. Вы ведаеце, што я родам адтуль, з таго рынку. Пісаў — што бачыў, ведаў. Стаміўся дыхаць тым паветрам.

— Але з купцоў і Сава Мамантаў, і Траццякоў, Марозаў, Хлудаў, Рабушынскі. Якое духоўнае багацце яны сабралі для Айчыны! Колькі пабудавалі школ, бальніц, дамоў для сірот, удоў, інвалідаў вайны…

— Так… Пісаў і я з прыемнасцю партрэты Савы, Траццякова. — Неўраў задумаўся. — Але… карціны жанравыя. Я пра іх. Больш — не магу. Там — гандаль. Купіць, прадаць, прапіць,

пра… жраць, прабачце. Стаміўся… не, не пісаць… усё тое бачыць…

— Усюды гандаль, гандляры. Але ваша вока — сам суд Расіі. Вы абавязаны… Вы разумееце?..

— Ды што вы, Міхал Рыгоравіч?.. Што вы мяне ўсё блытаеце з суддзёю? Я — не суддзя. Я — мастак. А што мастак? Люстэрка. Мае карціны — жыццё, яго адбіткі ў мастака ў вачах. Люстэрка не можа хітраваць, хлусіць.

— Ну, так. Мастак не можа хлусіць. Ён — сама праўда. А праўда хіба не ёсць сам суд?

— Я не суддзя. Яшчэ раз: не суддзя.

— Дык хто ж тады суддзя? Чыноўнік?

— Ні ў якім разе. Ён — халуй у цара.

— Тады сам цар суддзя?

— Ён — манарх і дэспат.

— Суддзі няма?

— Бог. А іншага няма. Я ў тэатры Мамантава іграў караля Ліра. І Рэпін іграў Ліра. У адным тэатры, у адзін час, сёння — ён, заўтра — я. І гэта былі розныя каралі. Рэпін дабрэйшы, яго Лір слепа, як бацька, любіць дачку Карнэлію. А я на гэтакую любоў не здатны, мая любоў жорсткая. Дык як мы абодва можам судзіць караля? Цар хоча быць усім суддзёю? Ён проста забывае Бога. Хоча сказаць, што ён — Бог. Але тады ён — Антыбог, Антыхрыст, Сатана. Нават народ, усе разам людзі — не суд. Бо яны розныя. Суддзя адзін.

Чарняеў слухаў і маўчаў. Неўраў ведаў, што ён любіў не толькі баявога каня ды шаблю, але яшчэ і жывапіс, тэатр, паэзію, і не здзівіўся, калі, згадаўшы Рэпіна на сцэне, успомніўшы яго пасаж ад Ліра: «— Карнэлія…» — Чарняеў падхапіўся з крэсла:

— Як-як?.. Яшчэ, галубчык?..

І Неўраў голасам знаёмым, не сваім, дабрэйшым, прамовіў:

— Ты тут, мая Карнэлія?..

Запляскаў генерал у далоні:

— Сам Рэпін!.. А вы?.. Ад басу вашага Карнэлія не страціла прытомнасць? Фінал мог і раней адбыцца?

— Я ў фінале канкурэнтам Рэпіну не быў, — развёў рукамі Неўраў, тым задаволены, як яго слухаў генерал. — Мой голас цяжкі, нібы валун, я воплескаў, як Рэпін, не збіраў. Авацыі мне — ціша ў зале. Але быў пасажык, дзе я, Лір, кідаў графу Кенту: «Нягоднік! Здраднік! Нізкі раб!..» Тут мой бас грымеў: «Ты — раб!» А Сава з ложы: «Брава, Неўраў!..» Бо Сава не любіў рабоў. Як не люблю рабоў і я.

Чарняеў, задаволены, ажно скакаў на крэсле, нібыта на кані ці ў тэатры:

— Яшчэ, галубчык… Бас — ну?.. Дайце бас?..

Неўраў бачыў, што генерал завёўся, і ўжо не басам, а ціхім, ледзь не шэптам, голасам прадоўжыў:

— Я ў Рэпіна спытаў: «Як быць? Пішу чыноўніка альбо купца — варуся ў яго сале. Пішу халопа — раблюся быдлам сам». А Рэпін мне: «Мастак — акцёр. І я перацягаў па Волзе нямала баржаў з соллю, як бурлакоў пісаў… Косці нылі, смылела скура на плячах ад лямкі бурлака». А я — яму: «Лепш быць у лямцы бурлака, як у халопскім поце, у купецкім сале».

— А Шчэпкіна пісалі? — перапыніцца не даваў Чарняеў.

Павесялеў і супакоіўся ад гэтага ўспаміну Неўраў:

— Там усё было не так. Там, калі пісаў, я з усім сваім народам абдымаўся. Бо Шчэпкін — вёска, наш просты мужык, народная душа. Пісаў партрэт — мацнела мая думка жыць у вёсцы і мужыкоў пісаць.

— Да Шчэпкіна, напісанага вамі, усе збегліся. Я памятаю той шчаслівы дзень. Заранка з Пецярбурга прыкаціў, стаў на калені, як перад іконай. Хіба не так? Пазней, праўда, казалі, што паміж вамі кошка чорная прабегла?

Чарняеў нагадаў пра тое, што ўспамінаць ахвоты не было. Сказаў яму на гэта, як адмахнуўся:

— Час добра лечыць раны.

— Але тады вы былі вымушаныя пакінуць з-за той кошкі Вучэльню жывапісу?

Другі раз адмахнуўся раздражнёна:

— Заранка ў партрэтным жывапісе геній.

— На жаль, не ўсімі прызнаны…

— Кожнага генія не ўсе адразу прызнаюць. Прызнае час. Ён усіх і ўсё на сваё месца ставіць. І геніяў, і дурняў. Заранку, як жывапісцу, не вельмі паспрыяў яго педагагічны кансерватызм. Але ў жывапісе ён кансерватарам не быў.

— Вас усё ж, як партрэтыста, ставілі вышэй. Шмат хто з вядомых марыў набыць партрэт вашай работы.

— Мая душа шукала вёску, прыроду, чыстае паветра. Пісаць хацелася звычайных мужыкоў і баб. Просты, без падману, народ.

— Мужык мастацтва не разумее, — уставіў свой грош Лупандзін.

Размова за сталом прыціхла. Неўраў паглядзеў на генерала — той у гэтую хвіліну пранізліва глядзеў у твар пана. Абодва як быццам хацелі штосьці адказаць на яго думку, але абодва апусці-

лі, як згаварыўшыся, у свае талеркі вочы, узялі ў рукі відэльцы. Разглядаючы кавалак пад відэльцам, зрабіўшы выгляд, што пана не пачуў альбо не зразумеў, генерал спытаў у мастака:

— А можа, вас вяла ідэя паслужыць народу? Яна, ідэя апрашчэння ў сярмяжных кроях, жывая і цяпер сярод інтэлігентаў.

Неўраў іранічна ўсміхнуўся:

— Не трэба пра ідэю, мой генерал. Ідэі прарастаюць у галовах, разумныя ці не разумныя, а мастака вядзе душа. Я шукаў ціхі куток для працы ў прыродзе, без мітусні і без хлусні. І адпаведную натуру. Пра тое напісаў у лісце Траццякову. Мы сябравалі. Я з мастаком быў першы ў яго доме.

Неўраў замоўк і пазмрачнеў: навошта гэта ведаць генералу, тым больш — пану? У тым лісце было шмат пра што. Каб Павел Міхайлавіч вярнуў яму станок з сядзеннем для пейзажных здымак, аўтапартрэт і пэндзаль лакавы. Была там і парада купіць партрэт, паколькі спадабаўся, для галерэі, але каб заплаціў хоць сто рублёў. Едучы ў вёску, патрэбныя былі грошы.

— І вы тады паехалі ў вёску? — перапытаў Чарняеў.

— У той час я цешыўся задумай. Адразу не мог знайсці вёску, якая б душу сагрэла. Мая душа — свае капрызы.

Лупандзін засоўгаў пад сабою крэслам, нібы прачнуўшыся, паглядзеў на генерала, потым на мастака. Рот адкрыў і закрыў, як што хацеў сказаць і не сказаў. Але паветра ўжо набраў — загаварыў:

— Вашых карцін, прабачце за маю цямноту, я не бачыў, але ад Міхала Рыгоравіча добрае слова пра іх чуў і чуў пра вас. Дык маю тут магчымасць сказаць. Калі вам падабаюцца нашы лясы, палеткі, наша вёска, калі вы маеце жаданне ў нас пажыць, я буду мець гонар і прыемнасць прапанаваць вам свой асабняк у садзе. Дом новы, цёплы, у баку ад вёскі, на высокім месцы пры дарозе на Друцак і Талачын, а там чыгунка. Вам у нас ніхто не будзе дакучаць. Людзі ў нас ціхія. Дом магу хоць зараз паказаць.

Генерал рашуча ўстаў з-за стала.

— Ёсць прапанова прагуляцца. Дарога не доўгая, а пасашок не лішні. — Як сам гаспадар, наліў у келіхі, дадаў: — За светлыя думкі майго сябра Уладзіміра Валяр’янавіча!..

…Кафля напаленай ляжанкі наскрозь прагрэла кажух ды ватнік, моцна пякла ў спіну. Неўраў адкінуў коўдру, звесіў з ляжанкі ногі, сеў. Успомніў, як рады быў, пачуўшы ад Лупандзіна пра дом у садзе. Здзівіў тады і генерал сваёй вайсковай хітрасцю, размову за сталом давёўшы да знаёмства з домам. Ніхто не здагадаўся, што ён усё загадзя прадумаў: і той прыезд

да пана, і тую за сталом размову пра тэатр ды жывапіс, і тое, як перад гаспадаром высвечваў мастака, яго духоўны свет, новы для пана, які не мог змірыцца з тым, што ў сваім маёнтку вядомы як заўзяты сабакар.

Вечарэла, калі Лупандзін развітаўся з гасцямі. Цягніком ехаў на губернскі дваранскі сход. Спяшаўся і Неўраў. Пасля таго, як пазнаёміўся з домам, думка пераехаць у вёску абвастрылася, захваляваўся, каб не згубіць дом пад ліпамі, ад якіх веяла патрэбнай яму трываласцю жыцця, спакоем. Цяпер ужо думаў не пра гасцяванне ў генерала, а як хутчэй вярнуцца ў Маскву, сабраць там патрэбныя рэчы ды перавезці сюды. Ехаць меў адвагу не на лета, а на ўсё жыццё да скону, і гэта азначала, што перавезці трэба ўсё, без чаго і працаваць не мог, і жыць.

Чарняеў бачыў, як загарэўся мастак на пераезд, як захапілі яго дом на пагорку, сад ды ліпы, і распякаў ахвоту:

— А вы падумалі пра тое, што жыць збіраецеся, можна сказаць, на радзіме вашага візаві, няўдалага прафесара Заранкі?

Неўраў схамянуўся, нібы ад вострага болю:

— Што-што?.. Паўтарыце?..

Генерал здзівіўся яго настойліваму абурэнню:

— Я не паўтараю. Словам, як і шабляй, гусар сячэ адзін раз. Магу толькі дадаць да сказанага. Тут, блізка, вёска, у якой Заранка вырас у сям'і прыгоннага селяніна. Адсюль сям'я, атрымаўшы вольную, выехала ў Пецярбург.

— Адкуль вы ведаеце, што яго вёска тут?

— Я жывапісам і жывапісцамі цікаўлюся не толькі па карцінах.

— Дзе ж тая вёска?

— Калі ў Талачыне мы з вамі сядзем на цягнік, то будзем у ёй праз нейкую гадзіну.

— Божа!.. — усклікнуў Неўраў і задумаўся.

Маўчаў усю дарогу, пакуль вярталіся ў Тубушкі. Ужо як саскочылі з фурманкі і фурман пакінуў іх удвух, Неўраў раздражнёна звярнуўся да генерала:

— Вы несправядлівыя, прабачце, да Заранкі. Ён быў выдатным настаўнікам і выдатным мастаком. Настаўнік не вінаваты, калі да яго трапляе няўдалы вучань. Вазьміце, Міхал Рыгоравіч, свае словы назад. Прашу вас.

І генерал вымушаны быў павініцца.

Раніцай, калі сядзелі за сталом і пілі гарбату, Чарняеў гэты ўрок павагі да мастака ўспомніў і размову прадоўжыў, ужо не кранаючы Заранку:

— Вы блізкія з Рэпіным. Ён вас не запрашаў у свой маёнтак Здраўнева? Ад нас гэта не далей, як да Воршы.

— Не запрашаў. А месца хваліў. Казаў, што там выдатная прырода, настройвае на працу.

— У газетах паведамлялі, што ў Здраўневе ён напісаў з натуры беларуса. Цікава?

— Яго партрэт беларуса я бачыў.

Неўраў як быццам быў гатовы яшчэ штосьці сказаць пра тую работу і перадумаў, не сказаў. Чарняеў заўважыў тыя яго эмоцыі, іх стрыманасць, але хацеў пачуць і слова пра партрэт, бо сам меў цікавасць да таго, якім бачаць тутэйшага мужыка і Неўраў, і Рэпін, адзін псіхолаг і другі псіхолаг. Неўраў ад гэтае размовы ўхіліўся, загаварыў пра іншае і да яе ўжо не вярнуўся.

Праз колькі дзён мастак прынясе з Лыскаўшчыны яшчэ сыры эцюд маладой сялянкі, пакажа генералу, і той пазнае на эцюдзе Параску, у хату да якой наведаліся разам, калі шукалі гаспадыню ў новы дом на пагорку. Партрэт Чарняеву спадабаўся, як і маладзіца. Тады ён мастаку сказаў:

— У вас вока на вёску не тое, што ў Рэпіна.

Неўраў здзівіўся: як мог генерал гэта сказаць, убачыўшы яго незакончаны эцюд сялянкі і зусім не бачыўшы рэпінскага беларуса? Магчыма, даверыўся інтуіцыі і яна паставіла эцюд побач з вобразамі мужыкоў, якія Рэпін ужо меў у сваёй калекцыі, такімі, як «Мужычок нясмелы» або «Мужык з нядобрым вокам»? Бо не мог сказаць, што генерал мужыка не ведаў — колькі іх прайшло ў яго перад вачыма не толькі ў вёсцы, але і ў арміі.

Надыдзе неўзабаве час, калі Чарняева ўжо не будзе побач, і Неўраў пашкадуе, што некалі не пацікавіўся ў яго, якою яму бачылася розніца ў паглядзе двух мастакоў на вёску, на селяніна і сялянку. Ці не тым насцярожыў генерал, што потым расчаруе і яго ў Лыскаўшчыне?

У Маскву Неўраў ехаў з партрэтам сялянкі. Чарняеў бачыў, як ён спяшаецца, хвалюецца — супакойваў:

— Мы з вамі ужо немаладыя, спяшацца нам няма куды. І лета яшчэ наперадзе, дні цяпер доўгія, часу на ўсё хопіць.

Гэты настрой пачынаў злаваць Неўрава:

— Дні доўгія, але жыццё кароткае. Гусар, як і мастак, павінен пра гэта думаць, тым больш у нашым узросце.

Ужо на станцыі, калі Чарняеў праводзіў Неўрава ў дарогу, у чаканні цягніка, генерал спытаў у яго:

— Што вас, мой сябра, яшчэ хвалюе?

І тады Неўраў у яго спытаў:

— Вы памятаеце, што сказаў за сталом Лупандзін перад тым, як мы выйшлі глядзець яго дом пад ліпамі?

— Што?

— А тое, што тутэйшы мужык мастацтва не разумее.

— Вас гэта хвалюе?

— Вельмі. Я да гэтага мужыка ехаў. Я буду побач з ім жыць, яго пісаць. І калі ён не адчувае мастацтва, як ён адчуе і зразумее мяне, мастака?

— Не хвалюйцеся, — супакоіў генерал. — Вы пабылі яшчэ толькі ў адной тутэйшай хаце і ўжо напісалі цудоўны партрэт сялянкі. Вас што ў ёй захапіла? Твар? Думаю, што душа. Яна была ў яе твары і вас зачаравала. І хіба гэтая душа не чуе мастацтва? Вас і мяне здзівіла яе прадзіва. У той нітачцы вы не ўбачылі яе душы, яе мастацтва?.. А што сказаў Лупандзін… Ён на сялян глядзіць як пан, пан з бізуном. А вы — як? Вы — як мастак. Вы тое ў селяніне бачыце, чаго не бачыць ён…

Адна свечка на кандэлябры-трайніку пагасла, дагарэўшы, кнот другой зваліўся ў гарачы воск, ледзь тлеў сінім агеньчыкам. Неўраў прыўзняў яго запалкаю і параўняў, падвесяліў. Заўважыўшы каля падушкі ліст, што збунтаваў начны спакой, хоць і не толькі ён, узяў зноў, прабег па ім вачыма. Што не дачытаў? А вось: «Ад Сцепаніды Мікалаеўны дазнаўся пра Ваша нялёгкае жыццё ў Лыскаўшчыне. Вельмі перажываю. Адчуваю сваю віну».

Накрыў ліст даланёй, каб далей не чытаць, але, падумаўшы, прадоўжыў:

«Цяпер прызнаюся, што і тады за Вас баяўся, бо прадчуваў, што, жывучы ў доме Лупандзіна, Вам цяжка будзе знаходзіць з ім згоду. Вы людзі вельмі розныя. На што я спадзяваўся? На тое, што Ваша мудрасць, Ваш талент паставяць дурня на месца, а сялянам суседства з Вамі дасць прамень святла, адчуванне сэнсу жыцця, і ўсім будзе ад гэтага карысць. Дык што рабіць цяпер? Прыехаць старому генералу ў Лыскаўшчыну і даць панюхаць сваю баявую шаблю дзікаму чалавеку? Гэта я магу зрабіць. Але думаю пра Вас: ці ўратуе гэта? Мая парада: вяртайцеся ў свой родны дом — тут талент Ваш маўчаць не будзе. Хто, як не Вы, у наш час пакажа духоўную пагрозу азіятчыны — гандаль чалавекам? Стаміліся гэта пісаць? Пішыце гістарычныя сюжэты…»

Адклаў зноў ліст. Задумаўся.

А можа, генерал і тут не быў наіўны? Мо сапраўды трэба было вяртацца ў родны дом? Гэта зрабіць было яшчэ не позна. Не позна і цяпер?

Схапіўся за галаву:

— О не-э!..

Закалаціўся, усяго сябе працяўшы крыкам.

Адна свечка ледзь тлела. Уставіўшыся на яе агеньчык, слухаў ноч. Свой голас чуў, нібы адтуль, дзе зоры, месяц — з неба. Запаліў лямпу і пальцам утапіў абвуглены кнот свечкі ў гарачы воск. Уступіўся ў малыя, з Парасчыных ног, чуні, праз кухню выйшаў з лямпай у сенцы.

Віхурны вецер налятаў на дом з боку панскага поля, шоргаў, як вялізным гальнём, па стрэхах ды сценах, раз'юшана грымеў у падстрэшку бляшаным жолабам, што адваліўся ад страхі пад цяжарам лёду. Колькі разоў казаў Восіпу, каб прынёс ад хлява большыя драбіны, па іх падняўся ды прымацаваў той жолаб. Бакі адлежаў на печы за зіму і Восіп, згультаіўся.

Прытрымліваючы далонню шкло лямпы, Неўраў выйшаў на ганак.

Неба блішчэла над галавою высокае і чыстае ад хмараў, як на мароз, хоць невялікі, бо каляндар вялікіх маразоў ужо кануў. У суседнім Грыбіне то выў, то замаўкаў сабака, выў залівіста, па-воўчы, аж іншыя сабакі, якіх хапала ў вёсках, не адзываліся, нібы ваўку, ад страху цахкалі зубамі. Ніводнага агеньчыка не бліскала ні там, ні тут, у Лыскаўшчыне, ні на рацэ, дзе рыбакі ўжо маглі распальваць начныя, для абагрэву, вогнішчы. Пакінуўшы лямпу на ганку, сышоў пад ліпу, спыніўся. Да ног прыбіўся свой сабака. Стары, ён ужо амаль не гаўкаў ні ўдзень, ні ўначы, мог адгукнуцца слабым голасам дзеля прывету ці каб яго заўважыў, пачаставаў якою косткай. Халодным носам саўгануў у руку ды галаву задраў, глядзеў знізу ў вочы.

— Няма табе што даць, Каштан.

Сабака гыркнуў без настрою, нібы спрасоння, як слова кінуў у адказ, і гэтую кароткую размову пачуў сур'ёзны звер: зяхнуў ля хлява ў садзе, забразгацеў ланцугом.

Адмахнуцца ад мядзведзя, як ад сабакі, Неўраў не мог — вярнуўся ў дом. На кухні ўзяў з бляшанкі ў жменю патрушчанага на кавалкі цукру, усыпаў у кішэню футра і зноў выйшаў за дзверы, падаўся праз сад да хлява.

Каштан, чакаючы гаспадара, сядзеў на сцежцы. Кавалак Неўраў кінуў у яго разяўленую пашчу. Сабака хоць быў даўно бяззубы, цукар адразу струшчыў і аблізнуўся, лагодна заматляў хвастом — яшчэ прасіў. Другога кавалка не атрымаўшы, але ведаючы, куды зараз скіруе гаспадар, патрухаў сцежкай да мядзведзя.

Топа нервова кружыў вакол старой засохлай, без кары ў камлі, яблыні, то наматваючы на яе ланцуг, то зматваючы. Калі падышоў Неўраў, усхапіўся на дыбы і галаву даверліва паклаў яму на грудзі. Намацаўшы ў кішэні буйнейшы кавалак, Неўраў сунуў і яму ў пашчу, зняў з ланцуга. Ад радасці, адчуўшы волю, Топа падскочыў і закружыў.

За танец атрымаў яшчэ кавалак.

Абхапіўшы круглую і мяккую, нібы падушка, галаву звера, Неўраў прыгарнуў яе да сябе.

## ШЫПШЫНА, СВЕРЖАНЬ, СЛІЗГАВІНА

Зіма адступала, разгавеўся сакавік з марозікам па начах, але яшчэ ляжаў снег, калі праз Лыскаўшчыну незнаёмыя паляўнічыя везлі на розвалах забітую ў блізкім талачынскім лесе мядзведзіцу і яе жывое перапалоханае дзіця. Мядзведзіцу бралі ў бярлозе з лёжкі, а там аказаўся і ланчак. З яе мужыкі былі радыя натапіць бочку патрэбнага ў вясковых леках тлушчу ды вырабіць на продаж багатаму купцу футра, а малым не даражылі, маглі аддаць за так, абы з рук лішні клопат, і Неўраў, не пажадаўшы браць задарам, купіў яго за невялікія грошы.

Медзведзяня прыглянулася адразу. На ім было прыгожае бура-папяловае, са срэбнымі валёрнымі адценнямі футра, на шыі ляжаў прыродны белы каўнерык. Гэтакага прыгажуна яшчэ ніколі не бачыў, хоць выпадала паляваць і на мядзведзя, як працаваў у Вучэльні жывапісу, сябраваў з выдатнымі, у асяроддзі мастакоў, паляўнічымі. Здзівіла даверлівасць ланчака, як смела ён ішоў да чалавека. Ледзь прылашчыў — ужо лізаў руку, цяплом блішчэлі вочы, цёмныя, быццам спелыя сліўкі, гарнуўся, як да роднай матулі. А Неўраву гэтакага даверу жывой істоты якраз для душы не хапала. Хай, падумаў, хоць мядзведзь будзе за сябра. Адперазаў рэмень, накінуў на тоўстую шыю, а паляўнічыя смяюцца: ды ён за вамі пабяжыць без дзягі. І сапраўды. Ледзь адчыніў дзверы ў дом, дык ён цераз парог першы, каманды не чакаючы, нібы тут і жыў, аж рэмень з рукі вырваў, павалок. З тых першых дзён і хадзілі разам. Спачатку ў доме па пакоях, па двары, па садзе, а потым — у лес, у поле, на пошту ў Талачын. што сам еў, тое і яму даваў. Малако толькі налівай, бульбу ці кашу пад нос падсунеш — да каліва з’есць, місу і морду абліжа. Лета ды восень — няма з ім бяды. На сонцы каля ганка ляжыць, грэецца, чакае, як гаспадар будзе ісці ў дом ці з

дому: носам у адну руку, у другую — што дасі? У садзе вуллі папераварочваў — без пчол і з пчоламі. Добра, што пан на іх забыў, якія пчолы раней вадзіліся, дык здзічэлі, паразляталіся, памерзлі. Быў клопат, каб не ўбіўся ў чужое жыта ці авёс альбо да некага на вёсцы ў клець, у свіран — мужыцкія двары блізка. А як пагнала яго ў ліньку, як поўсць пасыпалася, усюды лётала, давялося адправіць на новую кватэру — пад ліпу на ланцуг. Былі зноў хваляванні: ці прыжывецца ў няволі? А ён і там як дома. Поўсць папялова-срэбная за лета высыпалася, згубіўся белы каўнер, стаў увесь буры, ніводнай светлай плямкі не засталося. Але свой кут далёка чуў. Аднойчы сабакі гналі кабана — Топа за імі. Сцямнела, а яго няма. Пайшлі Неўраў і Восіп па лесе, да раніцы гукалі, абышлі бліжэйшыя вёскі — не дагукаліся. Назаўтра, як сонца ўзышло, выйшаў Неўраў за парог, глядзіць на дарогу, а там круглая галава Топы, нібы калода, коціцца. На полі і на дарозе ляжаў туман, дык тулава ў тумане, а галава над ім, сама па сабе, адна. Падбег — носам па кішэнях, у рукі соўгае. А то ехалі мужыкі ды бабы за Друць сенаваць — за імі ўвязаўся. Тыдзень не аказваўся, а з'явіўся сыты, вясёлы, быццам пасля добрага гасцявання. Залёг у сваю яму і спаў два дні і дзве ночы без прасыпу, не просячы ні піць, ні есці. Тыя людзі пасля заязджалі ў вёску, казалі, як ён з імі сенаваў, усіх пацяшаў, пакуль не скасілі, не высушылі, не пастагавалі.

Топа хутка рос, набываючы выгляд дужага мядзведзя, але заставаўся па-ранейшаму даверлівы, ласкавы, хоць у натуры пачало выплываць і тое, што непакоіла. Раптам незалюбіў брахлівых сабак. Раней было: яны да яго з брэхам, а ён да іх з гулямі, як з Каштанам, а калі тыя яго не разумелі, дык ён на іх не зважаў. Потым пачаў ад брахуноў адмахвацца. Сіла ўсё ж мядзведжая: без зла махане лапаю — сабака і пакаціўся, калі не паспяваў адскочыць. А неяк увосень Лупандзін ды ляснік вярталіся з палявання, ехалі міма саду, у якім жыў Топа. За драбінамі беглі два лягавыя —Топа да іх. Конь звера спужаўся, панёс, а легашы да Топы. Адзін ускочыў на мядзведзя, схапіў за вуха. Топа лапу ўскінуў, кіпці выпусціўшы, легаша з загрыўка грабянуў і скуру злупіў да жывога мяса. Скігату было на ўсю вёску. Мядзведзь і сам спужаўся — кінуўся адразу да свае ямы. Неўраў выскачыў на ганак — чуе стрэл. Падбягае: стаяць Лупандзін з бізуном ды ляснік са стрэльбай, а лягаш ляжыць каля ног прыстрэлены. Пан зірнуў на мастака ды кажа: «З мядзведзя футра давядзецца таксама злупіць. Калі гаспадар сам не зможа, трэба пасобіць».

Ускочыў на драбіны і пакаціў сваёй дарогай, пакінуўшы лесніка з мёртвым сабакам.

Звярнуўшы ў хвойнік, Неўраў азірнуўся. Мядзведзь стаяў на задніх лапах пад прыдарожнай дзічкай, пярэднімі расчэсваў паблытанае ўнізе галлё. Апошняй вясною дзічка моцна цвіла, абсыпалася дробнымі грушкамі, яны віселі позна, шмат засталося на дрэве зімаваць, і цяпер Топа выпорваў, дзе мог дастаць, гнілушкі. Каштан сядзеў пад грушкаю — дзівіўся са стараннеяў сябра.

За хвойнікам Неўраў падняўся на грудок. Далей цягнуўся лесавы роў, засыпаны каменнем, якое не за адзін год намылі вясновыя ручаі. Над ровам стаяў дубовы пень. Сеў на яго і глядзеў праз роў на цёмны ад вільгаці клён, абсыпаны ў камлі і вышэй іржавым лішайнікам. Клён стаяў на самым краі рова, вясновая вада і дажджы вымывалі з-пад яго пясок ды гліну, але магутнымі каранямі ён моцна трымаўся за кручу. На дне рова між камянёў блішчэла вада, і карані дрэва дацягваліся да яе, пілі з тых стаўкоў. Хоць клён стаяў цёмны, пад ім хапала святла. Там высыпалі маладзенькія бярозы ды асінкі — свяцілі, нібы ліхтарыкі. Неўраў выняў з кішэні футра сшытак для замалёвак, алоўкам узяўся пераносіць той карагод вакол клёна ў сшытак.

За спіной грукнула — азірнуўся: непадалёк Топа варочаў бярозавыя калоды. Нейкі гаспадар склаў іх у штабялёк, каб вывезці на дровы, ды не вывез, калоды мяклі ўсю зіму, і цяпер уладу над імі меў мядзведзь. Ён зрываў з іх сапрэлую кару, ласаваўся пад ёю слімакамі, куклятамі, санліваю камарэчай.

Накідаўшы ў сшытак колькі малюнкаў, мастак сунуў яго ў кішэню ды падаўся ў бок поля. Калі выйшаў на мяжу, спыніўся, паклікаў Каштана, ведаючы, што сабака голас пачуе, адгукнецца, прыбяжыць, а Топа заўсёды выйдзе на сабачы след. Гэтым разам нікога з іх не пачуўшы і не заўважыўшы, перасек поле і на дарозе зноў спыніўся. Каштан ужо сядзеў, паперадзе ўсіх, а Топа бег яму напярэймы з лесу праз поле, смешна падскокваючы на трох лапах, падкідаючы тоўсты зад, бо чацвёртую пярэднюю лапу трымаў каля галавы, вылізваў з яе смакату.

Блізка ад свайго дома Неўраў заўважыў трох мужыкоў. Яны размахвалі рукамі, штосьці адзін аднаму даказваючы, але, як толькі ён падышоў бліжэй, дружна паапускалі рукі, замоўклі. Каля іх спыніўся, пажартаваў:

— Размахаліся, як тыя птахі. У вырай яшчэ вам рана. Не восень. Птушкі цяпер да нас ляцяць з выраю.

Мужыкі былі знаёмыя, свае лыскавіцкія Пракоп ды Міцька, ды трэці з Грыбіна, вёскі нашмат большай, суседняй з Лыскаўшчынай — сотня крокаў. Вышэйшы і, мабыць, да Бога бліжэйшы, бо багацейшы і мудрэйшы Пракоп узняў галаву, паглядзеў на неба, нібы шукаючы тых птушак.

— І гэта праўда, — адказаў разважліва. — У вырай яшчэ паспеем. Калі не самі, дык пан пасобіць.

Пракоп меў поле каля вёскі большае, як у іншых, бо прыкупляў зямлю, гною не шкадаваў, маючы дзвюх кароў, свіней, двух коней, кабылу і жарабка, усё ў яго радзіла хоць у залеву, хоць у засуху, хапала і сваёй сенажаці, коней трымаў у добрым целе нават вясною, калі не ў кожнага гаспадара жывёле была нават салома. Ён жыў у дружнай працавітай сям'і з дзябёлай, вышэйшай за яго Аўдоткай, з двума ўжо дарослымі, яшчэ не жанатымі, сынамі, старэйшым Змітраком ды малодшым Васільком, падрабляў на конях, зімою — на падрадах у друцкіх, талачынскіх і больш далёкіх гандляроў ды купцоў, з таварам бываў у гарадах, хоць апошнім часам гэты занятак у яго перахапілі спрытнейшыя за бацьку хлопцы, не без жадання, мабыць, пастарэлага Пракопа. Сям'я ўсё, што трэба, мела са сваёй працы, яшчэ і бяднейшым мужыкам давала каля сябе зарабіць. Шмат хто, як здаралася патрэба ці бяда, ішоў да іх па дапамогу — яны нікому, як маглі пасобіць, не адмаўлялі. Звяртаўся да Пракопа неаднойчы і мастак, калі патрэбны быў конь.

— Моліцеся на пана? Але Бог адзін. — Неўраў паказаў пальцам на неба.

— Бог далёка, а пан блізка, — разважыў высокай лысінаю Пракоп і працягнуў руку да маладога шыракаплечага, з гарбузавата-круглай галавою Міцькі. Той зняў з галавы шапку, узяў з яе паперу, падаў Пракопу. Нетаропка, за кожным словам кідаючы позірк на мастака, Пракоп, як адзіны ў вёсцы грамацей, прачытаў: — Явіцься ў суд. — Адразу дадаў і сваю думку: — Світку ды лапці не забудзь надзець новыя.

Неўраў паглядзеў на ціхманага мужыка, бедалагу, і ўспомніў, як ён тузаўся з панскім лесніком у лесе над свежым пнём, а яго баба адбівалася нагамі ды рукамі ад кабяля. На ноч шарэла, у лесе было ўжо зусім цёмна, у той мітусні разгледзець мужыка ды бабу было цяжка, але цяпер мастак здагадаўся, хто перад ім стаяў, падумаў: хутка ж пан карае, калі паспеў ужо да суда дайсці і позву з суда даслаць. Выгляд зрабіў, што тое, чаму быў сведкам у лесе, не згадаў, спытаў:

— За што ў суд?

Разгублена камечачы шапку ў руках, мужык пачаў тлумачыць, збіваючыся на кожным слове, як вінаваты:

— Матка карову пасвіла. Канюшына панская, а яна слепа. Ну… Так… Тры вазы гною аддай. Карова здохла, не ацяліўшыся. Ну… Які гной?..

Неўраў не ўсё зразумеў:

— Дык карова жывая ці здохла? А гной пры чым? Суду патрэбны гной? А што матка?

— Пану гной. А матка вінаватая.

— Каму вінаватая, што карова здохла?

— Матка пану.

— А карова? Жывая ці здохла?

— А ё маё! — Пракоп кулаком саўгануў мужыка ў плячо. — Ды ты кажы толкам, каб чалавек зразумеў. Ну, таўкач!..

Міцька зусім замоўк. Чухаў калматую бараду і нікуды, ні на каго не глядзеў. Твар у яго быў ружовы і круглы, буйны, а вочы ці былі — не відаць. Заўсёды заплюшчаныя, яны нібы тапіліся ў сале, і гэтакія, прыпухлыя, былі цяпер — дзве шчыліны.

У вёсцы яго называлі Таўкачом, але шмат хто з мужыкоў называў яшчэ Свіным Вокам, і гэта Неўраў таксама ўспомніў з усмешкай, хоць размова была невясёлая, падумаўшы, як дакладна вёска бачыць сябе, сваіх мужыкоў, адным словам вымалёўвае характэрнае ў чалавеку, вобраз. Таўкач, Свіное Вока — заўважанае вокам не свіным, мастацкім: як у сук лепяць.

Пракоп узяўся тлумачыць:

— Матка сляпая, пасвіла карову і не заўважыла, як Рагуля зайшла ў панскую канюшыну. Якраз наскочыў аканом. За патраву плаці штраф, няма чым — вязі свой гной на панскае поле. А тут і карова здохла. Каровы няма, а гной вязі. Пан гною не дачакаўся, падаў у суд.

Неўраў слухаў Пракопа, а думаў яшчэ і тое, што ляснік усё ж не сказаў пану пра Міцькаў пень. Дык не дарэмна з леснікам у лесе гаварыў за мужыка. Радасці ад таго, можа, мала, панская кара знайшла ўсё роўна, не за адно, дык за другое, але можна даказаць, калі не папусціцца, не забаяцца, за сваё паваяваць? Хто абароніць, як не сам сябе? І ўжо глядзеў на мужыка без літасці, усё роўна як да панскай кары дадаваў сваю.

Перапытаў:

— Матка сляпая?

— Не пазнае ні дзень, ні ноч, — уставіў Пракоп.

— Дык пан — звер, а сам? Той звер супраць чужой маткі, а ты сваю сляпую пускаеш да жывёлы, у патраву? На тваю бабу

сеў панскі кабель, а ты ад бізуна схаваўся пад каня. Дык, можа, табе і бізуна ад пана мала?

Раптоўны выбух Неўрава спалохаў Пракопа — кінуўся апраўдваць мужыка:

— Работы цьма, рук мала, хоць хворы, а ў хамут станоўся, воз цягні, пакуль не выпрастаешся…

Паслухаўшы Пракопа, Неўраў і сам голаў павесіў. Але зірнуў на грыбінскага селяніна, які дагэтуль слова не вымавіў, стаяў, ад усіх адвярнуўшыся, глядзеў на поле, на лес за полем. Можа, гэты мудрэйшы? Хоць тым, што не глядзіць пад сябе ў зямлю. Але ж і ён маўчыць? Да Міцькі зноў павярнуўся:

— Што рабіць? Калі ты матчын сын, ідзі на суд, даказвай. Як дакажаш — абароніш і матку, і сябе.

— Мужык нічога не дакажа, — сплюнуў пад ногі Пракоп. — Суд у Лупандзіна ў кішэні. Ён пан і засядацель у судзе.

Тут ужо Топа прасунуў галаву паміж мужчын, носам саўгануў Пракопу пад руку, шукаючы кішэню. Мужыкі разбегліся. Неўраў схапіў звера за ашыйнік, у пашчу сунуў салодкі кавалак.

— Во каго бяры ў суд.

— А што? Лупандзіна як убачыць, адразу на дыбы. За мужыка — гарой. Бо сам мужык.

— Хоць у панскім футры.

З жартамі і разышліся. Першым дадому бег Каштан, за ім, адстаўшы, крочыў Неўраў. Топа затрымаўся ля куста, дзе стаялі, носам ды лапамі варушыў леташні дзёран.

У доме былі і Восіп, і Параска. Яна ля парога шаравала ў шайцы мокрай анучай, а сын сядзеў на кухні каля акна, курыў едкую, з гнільцой, табаку, якую называў тухлянкаю, пускаў дым у адчыненую фортку. Ён якраз вярнуўся ад цягніка, прынёс газеты, якія Неўраў заўважыў на лаўцы, вітаючыся з Параскай ды Восіпам. Скінуў з сябе янота, павесіў на рог, узяў газеты і прайшоў у майстэрню.

Раней, як толькі прыехаў, жывучы тут першыя гады, уся яго пошта, лісты ды газеты, ішла з Масквы ды Пецярбурга, выпісваў «Русское слово», «Новое время», але ў апошнія гады, калі лісты ад сяброў пачалі прыходзіць усё радзей і ўжо зусім не знаходзілі яго ў вёсцы, знікла ахвота да тых газет і навін, што ў царскіх сталіцах. Быў час, калі ніякіх газет не выпісваў, хоць зрэдку пасылаў Восіпа ў Талачын, дзе іх, свяжэйшыя, можна было набыць у вагонах цягнікоў, што ішлі ў Мінск і далей з Масквы ды Пецярбурга. З’явілася цікавасць да газет тутэйшых, краёвых. Асабліва як пачуў, што будзе выходзіць першая газета на бела-

рускай мове. Кожны раз, калі Восіп адпраўляўся ў Талачын да цягніка, прасіў шукаць тую газету, назвы якой не ведаў, каб у людзей распытваў пра яе, якія ехалі ў Мінск і з Мінска, што за газета, калі прыйдзе ў вёску, як будзе называцца. Даваў і грошы, каб купіў, убачыўшы. А ён прыносіў то «Менский листок», то «Северо-Западный край», то «Губернские ведомости», мінскія ці магілёўскія. Больш падабаўся «Северо-Западный край» — пачаў выпісваць. Але тутэйшай мовы ў газетах не было, не пісалі пра вёскі, падобныя на Лыскаўшчыну ці Грыбін, пра гэтакіх, якія тут жылі, мужыкоў. Штосьці ў іх было цікавае і мужыку — пра забастоўкі ў гарадах, як рабочыя спыняюць фабрыкі, заводы, патрабуюць лепшай платы за працу, як фабрыканты ды заводчыкі парушаюць дамовы з рабочымі, як тое самае адбываецца на чыгунцы, у шахтах па Расіі. Гэтым разам Восіп прынёс яшчэ і танклявую, нібы сшытак, кніжачку. Яна абрадавала і здзівіла тым, што пісаная была па-беларуску і што так-сяк мог прачытаць у ёй пра зямельнае пытанне ў Заходнім краі, што канец прыгону яго не вырашыў і з той зямлёю, якую атрымаў, мужык застаўся парабкам у пана, што раней ён мог жыць і лепш, як на лжывай волі, калі сумленны пан, а цяпер жабрак усюды, без хлеба і без права, співаецца, чаго не было раней. Пісалі і пра вайну: «Далёкі ад нас японец, непатрэбная нам вайна з ім, але цар-бацюхна вайну выпойвае мужыцкаю крывёю».

Добра памятаў Неўраў, як да яго ў дом, атрыманы ад пана ў Лыскаўшчыне, першы раз прыйшла Параска, каб у пакоях прыбраць, памыць. Паўдня рабіла, маўчала, а потым кажа: «Дык я ўжо прыйду заўтра, бо сянні трэба бегчы. У сваім двары сьлізгавына злымалыся, стрыха зыбурылыся, мужык зпудлыўся, у каморы дрыхне». Яна — за парог, а ён сеў на лаўку, рукамі галаў ашчаперыў ды гадае, што гэта за Расія і што тут баба нагаварыла, бо нічога не зразумеў, акрамя таго, што прыйдзе заўтра. Зайшоў у дом Восіп — і той сыпле тутэйшым шротам. І хто дурань? Ці той, хто гэтак кажа, ці той, хто, чуючы, не разумее? Сустрэў панскага аканома: можа, каго іншага ў вёсцы знайсці, каб чалавек быў пісьменны, каб яго мову разумець, бо з гэтакімі як гаварыць? А той кажа, што з мужыкоў тут два пісьменныя, адзін з іх — Восіп, які год вучыўся ў царкоўнай школе, а што па-свойму прамаўляюць, дык гэтакія ўсе, як з імі пажывеш — па-іхняму загаворыш. І гэтак атрымалася. Як мужыкі, не загаварыў, але тое, што казалі, наладзіўся разумець.

Запомнілася восень, першая ў Лыскаўшчыне. Усё тады рана выспелілася, заўчасна пасохлі травы. Рабіна чырванню наліла-

ся — быў год рабінавы. Збожжа даспела. На панскім полі ячмень скасілі, а ў гумно звезлі, калі асыпаўся. Па вечарах, як заходзіла сонца, на тую пакошу зляталіся жыраваць курапаткі. Каб большую карысць узяць ад поля, пан прыязджаў іх страляць, дазваляў і Неўраву прыходзіць са стрэльбаю. Там аднойчы сустрэў старую Хадору, якая Парасцы была сваццяю, з ёю загаварыўся, забыўшы на курапатак. Яна стаяла на мяжы каля куста шыпшыны, абірала ў фартух чырвоныя плады. Ён паглядзеў ёй у жменю ды кажа:

— Шыпоўнік рана выспеліўся.

А яна з усмешачкай зірнула знізу яму ў вочы, кажа:

— Ш-шыпш-шынка, — гукі шыпелі, нібыта самавар пад кіпнем.

Ён зачапіўся за тую музыку:

— Як-як?

А яна зноў, спяваючы:

— Ш-шыпш-шынка.

Ён не стрымаўся, сам паўтарыў з яе вуснаў:

— Ш-шыпш-шынка?..

Яна зноў заўсміхалася, яшчэ з куста сарвала колькі чырвоных шыпшынак, паказала на далоні. У адным з пладоў заўважыў дзірачку, узяў той плод, у шчопцях патрымаў, разглядаючы.

— Чарвяк.

Яна — ізноў ласкава:

— Све-ержань.

— Як-як? — перапытаў, яшчэ больш здзіўлены.

— Све-ержань, — як заспявала.

Калі са жменяю мяккіх пладоў у кішэні вяртаўся дадому, забыўшы на Каштана і на курапатак, усю дарогу думаў пра шыпшыну ды свержня, пра словы, якія з прыемнасцю прамаўляў ужо голасам Хадоркі, з яе ўсмешкаю ў вачах. Што атрымоўвалася? А тое, што слова — не проста гук, які ляцеў у паветра з языка, не абалонка з гукаў для нейкай формы, не вопратка, яно — душа. Хіба не гэта меў на ўвазе евангеліст Ян, калі казаў, што на пачатку свету было Слова і Слова было Богам? Не гукам, як мы разумеем, — Богам. Было і ёсць — дух Святы. Душа самога Свету.

Аднойчы ўзімку Параска грукнула дзвярыма, ускочыла ў прыхожую з марозу са снегам на кажуху ды хустцы, са свістам ветру за спіною, з рук — рукавіцы, у далоні пляснула:

— Ну, сумёты! Не прабіцца.

Ён да яе:

— Як не прабіцца?

— Ды праз сумёты. Вышэй галавы.

Падумаўшы, здагадаўся:

— Можа, сугробы?

— Па-вашаму. Там у вас зіма грабе снег рыдлёўкамі, а ў нас без мётлаў намятае вышэй галавы.

Гэтак яму адкрывалася тутэйшая мова і праз яе — тутэйшае жыццё, у ім — чалавек. Праз слова, бо селянін са словам і ў слове жыў спрадвеку. Слова з вуснаў, з языка было ягонай школаю, навукай, кнігай, песняй і тэатрам. Жыў сам у слове і слова жыло ў ім. Усё — як у самога Бога. Адразу, як сюды прыехаў, гэтак не думаў, бо гэтага не адчуваў. Спачатку жахнуўся, не зразумеўшы мовы Парaскі, Восіпа: што за людзі, як з імі жыць, паразумецца? Ледзьве не адвярнуўся. І што было б, каб адвярнуўся? Ад мовы — ад селяніна, яго жыцця, душы. І жыў бы за высокім плотам, як Лупандзін? Хоць і без бізуна, яго сабак, палеткаў, дворні — на яго падобны?

Але думкі і сэрца вярэдзіла пытанне: калі знайшоў згоду з тутэйшым чалавекам, з яго мовай, паразумеўся, знайшоў усё тое, што шукаў, дык дзе яно ў фарбах? Дзе палатно з Хадоркаю, з яе шыпшынкай? Параска са сваім сумётам дзе? А на якой карціне засведчыў Гіру ў агняных барвах? Колькі яшчэ тутэйшых баб ды мужыкоў вакол сябе ўбачыў — дзе эцюды, карціны? Штосьці было і ёсць? А для душы? Душу тое, што ёсць, сагрэла ці ўсхвалявала? Лупандзіна пісаў, хоць і без радасці, а баб ды мужыкоў у Лыскаўшчыне, Грыбіне, Красулі? Іх пісаць без радасці не мог — зразумела. А з радасцю? Што ўбачыў і напісаў?

Трымаў газету ў руках, а вочы глядзелі ў неба за акном. Там праплывалі ў дзіўных формах воблакаў і вобразы, і думкі.

Зайшла, пастукаўшы ў дзверы, Параска. Спытала, ці падаць што з’есці. Ён прамаўчаў, бо не пра тое думаў. Але ўспомніў Топу і Каштана, сказаў, каб ім аднесла. Як не пачуўшы пра звяроў, Параска нагадала, што ў печы смажаная бульба са скаромнінай і паранае малако ў гаршку.

Лагодна ўсміхнуўся: як не падзякаваць за гэтакую ласку?

— Мне са скаромнінай, а ім дай з малаком. Топа яшчэ дзіця, а Каштан без зубоў, костку не разгрызе.

Звечарэла. Пайшлі дадому Параска і Восіп. Завітаў Пракоп. На парозе скінуў з галавы жаўтлявы лямец, мала падобны на шапку, далоняю прымяў пукі чарнявага валосся, агледзеўся, нібы не заўважаючы перад сабой гаспадара. Неўраў стаяў ля шафы ў майстэрні, аберуч трымаючы генеральскі кіцель, які блішчэў

на познім, з акна, сонейку багаццем нашывак, пагонаў, аксельбантаў, ордэнаў. Заўважыўшы, што госць збянтэжаны не ім, а кіцелем, кінуў яго ў шафу і дзверцы не зачыніў. Вочы Пракопа ўжо шарылі ў шафе.

— Пан енерал?..

Неўраў прыставіў да галавы руку, як узяў пад казырок, і палянуў амаль з вайсковым спрытам:

— Так точна-с!..

Пракоп зусім збянтэжыўся.

— Прабачце, ваша-с… — Язык, дурное мяса, спатыкнуўся, не вымавіўшы патрэбнага слова, госць праглынуў даўкі камяк сліны, дадаў: — Я бачыў енерала з паняй енеральшай у Талачыне на станцыі каля вагона.

Неўраў не вытрымаў тону сваіх штукарстваў, схапіўся за жывот і рагатаў, кашляў і захліпаўся ў рогаце, ажно Пракоп падаўся спіною да дзвярэй. Адчуўшы, што той зараз выкуліцца за парог, узяў яго за плечы:

— Ды я жартую. Які тут енерал? — Пасадзіў госця на лаўку, сеў побач, працёр, усміхаючыся, вочы пальцамі. — Ты ж смелы мужык. У якім чыне служыў?

Пракопу адлегла ад сэрца — заўхмыляўся:

— Быў на Каўказе горным стралком.

— Во, Каўказ!.. Народ там вольны, годны. Расійскаму салдату там служба — не маліна. Горцы цябе трымалі ў потным целе?

— Усяго хапала. І ад каўказца, і ад свайго фельдфебеля. Як не ў гуморы, камандаваў: «Хахлам два крокі ўперад — арш! На-леву! Бягом — арш!» Загоніць у канец пляца і там малоціць: «Гоп жалязяку на пузяку, гоп жалязяку на пузяку!» Як не паспееш з той жалязякай пад каманду, дасі збой, ён да цябе падскочыць ды выспятка. І зноў малоціць: «Гоп жалязяку на пузяку!» Зноў выбірае, нібы каршук, якога хахла пачаставаць.

— Дык ты хахол?

— Я вуніят. А наш фельдфебель не любіў хахлоў і вуніятаў. Каго незалюбіць, той яму і хахол, і вуніят. Усё разам. І я ў яго на мушцы. Бо вуніятам я па веры, а хахлом таму, што не маўчаў на яго дурыкі.

Неўраў ізноў узяў з шафы кіцель:

— Апрані. У фельдфебелі не выбіўся, пабудзь хоць енералам. Я пагляджу, які ты енерал.

Пракоп перахрысціўся:

— Божа барані. — Ад кіцеля адмахнуўся.

— Ну, малайчына, — з ім пагадзіўся Неўраў. — Вышэйшага за мужыка чыну няма. Бог каго любіў? Рыбакоў, сейбітаў і мастакоў. Пра енералаў у Святым пісанні няма ні слова.

На падлозе і на канапе ляжала шмат усялякага адзення, павыкіданага з шафы, і вочы ў госця забегалі ад вопраткі да вопраткі:

— Навошта столькі?..

— А ты не думай, што я бандыт альбо гандляр, — суцешыў Неўраў. — Людзей не распранаю, вопратку не прадаю. Артыст у тэатры іграе сёння цара, заўтра парабка, калі ён цар — у шытым золатам кафтане, парабак — у зрэб'і. І гэтакі мастак. Толькі мастак апранае не на сябе, а на мадэль, з якой піша партрэт. Пісаў я князя Галіцкага — вось яго парча. — Падняў з-пад ног золатам затканую накідзь, кінуў на канапу. — А гэта фрак акцёра Шчэпкіпа. Цяпер ён мой. Сам Шчэпкін падарыў.

— А кіцель? З якога енерала?

— Што з Тубушак.

— Нягож з Чарняева?

— Ну, так. З Чарняевым быў блізкі.

— І малявалі?

— Пісаў партрэт і не закончыў.

— Герой!

— А ты адмовіўся прымераць яго кіцель.

— Дык я ж мужык?

— Зноў ты сваё. Мужык свет на сабе трымае. І генералаў корміць. І цара. — Неўраў дастаў з шафы суконную світку, страсянуў, падаў Пракопу. — Вось апрані мужыцкую.

Гэтую вопратку Пракоп узяў, павесіў на руку, крысо змяў у кулаку, кулак расціснуў, сукно прыгладзіў на далоні, заўсміхаўся, ускінуў світку сабе на плечы, прасунуў рукі ў рукавы, зашпіліўся на кутасы, падперазаўся поясам, які тырчэў з кішэні. Грудзі выкаціў, далоньмі па грудзях і рукавах правёў, абмяў і абцёр, да люстэрка падышоў. З усіх бакоў світка на ім ляжала зграбна, як свая. Сукно было не тое, што ў вёсцы, цяплейшае, таўстое, крой быў прыгажэйшы.

— Дык колькі за яе? — спытаў.

— Не прадаю.

— А усё ж? — настойваў госць.

— Калі б былі ў цябе грошы.

— Прадам бычка.

— Яшчэ малы бычок. Хай пералетуе. Садзіся лепш на лаву да акна, да святла, я пагляджу, які ты ў гэтай світцы. Ці варты пэндзля, фарбаў.

— Мяне маляваць? О-го! За якія подзвігі?

— Мне твае подзвігі не патрэбныя. Я пагляджу, які ты вуніят. Ці той, якога я шукаю.

Пракоп сядзеў на лаўцы, глядзеў у акно, а краем вока пастрэльваў на мастака, каб той не бачыў, бо каманда была глядзець у акно, нібыта ён, Пракоп, адзін у пакоі, а мастака няма. Ды як гэтак падумаць, калі ён тут стаіць і за табою сочыць? І што шукае? Каб хоць сказаў. Ці стаў бы да свайго станка. Хочаш маляваць — малюй. Дык жа пачаў хадзіць з кута ў кут.

— А што ў цябе, Пракоп, ад бацькі?

Добра, што хоць загаварыў.

— Як што ад бацькі? Усё, што ёсць. Ад маткі ды ад бацькі. Ад каго яшчэ? — Але адчуў: пытанне хітрае. А як перахітрыць? Палянуў: — Ад бацькі корань жыткі.

— Ды ну? Ха, корань?

Неўраў спыніўся, зарагатаў. Пракоп павярнуўся да яго:

— А што?

— Ну, малайчына. Як добры корань — о-го!

Пракоп заўхмыляўся, змікіціўшы, на што кіўнуў мастак, не разгубіўся, на хітрасць знайшоў сваю:

— Яшчэ — вусы. Хто бацьку ведаў, той пацвердзіць.

— Пра вусы і я хацеў сказаць, ты мяне апярэдзіў. Хоць усё ж і тое праўда. Не адны вусы.

Пракоп баяўся казаць лішняе.

— Парода.

— Ну, калі парода, за стол садзіся.

Ужо на стале стаяла чвэрць з сівухай, няпоўная, але і не пустая. Як з'явілася, Пракоп не заўважыў, седзячы каля акна. Неўраў яшчэ прынёс у місе салёныя гуркі, кілішкі. Наліўшы ў кілішкі, сеў з таго боку ад Пракопа, адкуль святло з акна рабіла выразным твар госця.

— Дык за твайго бацьку.

— Зямля пухам.

Пахрумстваючы гурком, мастак зноў прычапіўся да вусоў:

— Яшчэ мне адкажы, чаму ў мужыкоў, якія гнуцца перад панам, вусы вісяць канцамі да зямлі, а твае, як ты таго страху не маеш, тырчаць, нібы ў ката, у бакі?

Госця і гэтае пытанне здзівіла, але цяпер ён не сумеўся:

— Было, хацеў, каб і ў мяне віселі. Як клаўся спаць, вады ў жменю і на вусы. Намякнуць — я ручніком іх да губы прыцісну, ручнік на карку завяжу, а раніцай скідаю — вусы ізноў тырчаць. Парода?

— Цікава. Ты толькі не думай, што я кажу пустое. Не, твае вусы не пустое. — У гэтую хвіліну госць якраз падумаў, што сёння мастак жартуе дзіўна, чапляецца за нейкі корань, за вусы, глядзіць у твар, быццам на ім вусы шавеляцца. — Мне гэта не пустое, — казаў яшчэ і гэтак, як чуў, што думае Пракоп. — Мне нават выпіць за твае вусы ахвота. Каб у цябе яны ніколі не віселі перад панам.

Выпілі яшчэ.

— А пад вусамі што? — раптам спытаў мастак, хрумстаючы гурком у тым самым гуморы.

Пракоп хацеў сказаць, што соплі, але сказаў, не рызыкуючы:

— Што ў кожнага. Рот, зубы.

— А ў зубах?

— Калі цыгарка, калі люлька.

— Прыпаліш?..

Казаў адно, а ў твары, у вачах шукаў штосьці не тое, і гэта Пракоп бачыў: што думае, шукае? Але з'явілася ахвота закурыць. Паляпаў далоньмі па пустых кішэнях.

— Забыў я дома люльку.

— Шляхетную? — Мастак і тут меў хітры сэнс.

— Ну, бацькава. З ядлоўцу. Ён сам рабіў.

— Значыць, шляхетная. Твой бацька — шляхта?

— Не ведаю. У мяне мазоль мужыцкі.

Неўраў прынёс з суседняга пакоя скрынку пад чорным лакам, адкінуў вечка, падбітае чырвоным аксамітам. У скрынцы ляжалі люлькі ўсялякага фасону і памеру. Былі тут карацелькі, пузанчыкі, былі і з доўгімі танклявымі муштукамі, прамыя і выгнутыя, куродымна-чорныя, нібы галавешачкі, блішчэлі новыя, у аздобе з белай слановай косці, з карункавай чаканкаю па срэбры, медзі. Ляжала і зусім непрыкметная, нібы куксаваты корань ядлоўцу, з муштуком, падобным на вітую вяровачку. Яна была смалавацёплая, сама прасілася ў руку. Яе Пракоп заўважыў — узяў, пагрэў у кулаку, як сам ёю пагрэўся.

— Мультанчык у вас ёсць? — спытаў.

— Ангельскі. А ёсць, праўда, і друцкі.

Пракоп быў сунуў нос у бляшанку з ангельскаю табакай, але, пачуўшы горкі палын, не больш за тое, нос сунуў у бляшанку з друцкаю — о-го, адразу нюхаўку прачысціла, ледзь ёю сморгнуў, дало не толькі ў нос, але і ў галаву. Друцкай напхаў у люльку і прыпаліў. Сядзеў, дымком папыхваў, пакерхваў, глядзеў у акно, прымружваючы вочы, як засынаючы. Тым часам мастак у яго за спіною тупаў, нечым пагрукваў, шоргаў. Маўчаў. Нарэшце

госць усё роўна як прачнуўся — азірнуўся. Той з-за падрамніка, які перад ім стаяў на мальберце, пазіраў то на яго, госця, то на падрамнік, дзе маляваў танклявай галавешачкай, нібы сшываў іх разам — Пракопа, ягоны вобраз, з палатном, што на падрамніку, хоць не было відаць ні дратвіны, ні голкі, шыў вокам ды тою галавешачкай. Мужык бачыў яго руку, як ён ёю вадзіў над палатном то запаволена, часам спыняючы руку, то хутка, ліхаманкава, як некуды спазняючыся, але не бачыў, што на палатне, і гэта пачынала хваляваць: што там малюе? Быў ужо надумаў падхапіцца з лаўкі, каб глянуць, але толькі памысліў гэтак, як Неўраў спыніў пытаннем:

— А што такое вуніят? Ну, вунія была Літвы ды Польшчы — змова. А як па-твойму, у што больш верыць вуніят — у Хрыста ці ў карону Рэчы Паспалітай?

— У Хрыста, — упэўнена адказаў Пракоп і зноў уставіўся ў акно, зноў сунуў мундштук люлькі пад вусы.

— Калі ў Хрыста, то на якую трасцу яму спатрэбілася мяняць быка на індыка? У праваслаўнай царкве не той самы Хрыстос?

Люлька была пагасла, але Пракоп, заўзята смокчучы, паспеў яе зноў распаліць, у той самы час яшчэ і думаючы, што адказаць на хітрае пытанне.

— З мяне гэтакі вуніят, як і мастак. Тое ведаю, што бацька мне казаў, як быў жывы.

— А што казаў бацька?

— А тое, што ведаў ад сваіх дзядоў. Там, у раду, быў Хама Война, жыў у Віцебску, шляхціц, служыў пры ратушы на канюшні, прыглядаў за коньмі, меў двух сыноў і шмат дачок. Сыноў звалі Яшкам і Цешкам. Паехаў Хама ў Полацак да брата, купца, каб замовіць месца для Яшкі ў езуіцкай школе, куды бралі шляхцюкоў, давалі ім розныя навукі. А тым часам у Віцебску людзі праваслаўныя збунтаваліся супраць прыехаўшага туды вуніяцкага архіепіскапа, паскідалі з галоў у адну кучу шапкі, што было клятваю на бунт. Уварваліся да яго ў дом, вывалаклі, забілі, кінулі ў Дзвіну — плыві. Гнялі ва ўсе званы, народ збіралі. Да караля аж дазваніліся, які сядзеў у Варшаве. Той прыслаў Сапегу, канцлера літоўскага, а з ім і войска, і чыноў, і суддзяў, каб разабрацца, каго караць. А кара ў Сапегі была жорсткая. Дваццаць як быццам вінаватых адразу ўзнялі на шыбеніцы, яшчэ за сотню да шыбеніцы прыгаварылі, але тых трэба было шукаць. Павесілі і званара, што бухаў у звон на ратушы. А памочнікам у званара быў Яшка, сын Войны. Стары Война прыехаў з Полацка — Яшкі няма, шукаюць, бо па ім шыбеніца плача. Дык Война, каб не

нарвацца на большую бяду, за Цешку ды ў Полацак, здаў замест Яшкі езуітам. Цешка два гады павучыўся, прыязджае да бацькі ўжо каталіком. А тут і Яшка. Ужо яны, браты, два ворагі. Цешка абавязаны па сваёй новай веры здаць брата як бунтара на кару ўладзе, а Яшка — кіпяток, гатовы на расправу з Цешкам. Бацька бачыць, што і ў сям'і вайна, як у дзяржаве. Хрыстом Богам маліў, каб з мірам разышліся. Дык Цешка вярнуўся ў Полацак, пайшоў вучыцца ў семінарыю на каталіцкага святара, а Яшка сказаў: біў у звон і буду біць за веру праваслаўную — падаўся ў Малую Русь да гетмана Сагайдачнага, які ўжо вызваляў свой край ад здрадцаў веры, палякаў і жыдоў.

Мастак уважліва слухаў Пракопа, перапыніў:

— Чаму жыдоў?

— А таму, што дзе праваслаўныя не жадалі вуніі, сваёй уладай архіепіскап зачыняў храмы, навешваў пломбы, ці аддаваў жыдам, якія адчынялі па храмах сінагогі ці крамы. Гэтак было і ў Малой Русі, і ў Белай. Але ў Малой палякі баяліся казакаў, а тут гэтакай сілы, як казакі, не было. Шапкі ў кучу ды на бунт — не сіла супраць каралеўскага войска.

— А ці знайшоў Яшка Сагайдачнага? — спытаў мастак.

— Магілу яго знайшоў. Але ў казакоў застаўся. З імі ваяваў то супраць палякаў, то супраць туркаў за палякаў. Быў у турэцкім палоне. Там пасябраваў з маладым Зіновіем Хмяльніцкім, сынам сотніка. Адтуль разам беглі. Хмяльніцкі стаў Вялікім Гетманам Малой Русі, а Яшка ў яго сотнікам. Старэйшы Война туды ездзіў шукаць сына. Знайшоў у гетманскай сталіцы, у Чаркасах. Хацеў вярнуць у Віцебск, але сын сказаў: «Не, бацька, ты мне хоць кроўны, але тут баявыя браты і казацкая воля. Калі вярнуся, дык толькі з братамі казакамі, каб у родны край прынесці волю ад паноў». Хама да самай смерці, казалі, плакаў.

— А што Цешка? Той блізка быў?

— А той пайшоў у ксяндзы. Хама пра Цешку не спамінаў, бо любіў Яшку.

Пракоп абшчапіў галаву рукамі, абапёрся, седзячы за сталом, на локці, глядзеў спадылба нерухома-скамянелымі вачыма на штоф.

— Дык памылкі няма? — спакойна разважыў мастак. — Калі твой бацька шмат ведаў пра Хаму, яго сыноў, калі Хама быў шляхтаю, і бацька казаў гэта ад сэрца, як ты мне кажаш, дык значыць шляхтай быў і бацька. А калі ён, дык і ты?

— Яму хацелася здаць Яшку ў школу езуітаў, таму, як я думаю, ён, і назваўся шляхтай. А кроў была мужыцкая.

— А дакумент, што шляхта?

— Які там дакумент? Бывала, мужыкі за пляшкаю спытаюць у бацькі, ці праўда, што ён шляхта. Бацька тады рукі выкіне на стол, мазалямі ўгару, маўчыць. Дае хвіліну мужыкам падумаць. Як убачыць, што не глядзяць на яго мазалі, тады кулачча сціснe, вачыма паліць аднаго, другога. Катораму з іх раптам свісне кулаком у лоб — пытаецца: «Дык хто я — шляхта?» Той ачуняе: «Не, мужык». А кулак быў як пудовік, гіра. Саўгане ціха, а гуз ускочыць на ўсю лбіну. Дык вось і думай, хто яго сын?

Пракоп выбіў нагар з халоднай люлькі ў жменю, аднёс у шайку, яшчэ шчопаць табакі ўтаптаў пракурана-жаўтлявым пальцам у люльку, зноў прыпаліў і ўжо за стол не сеў, прымасціўся ў канцы лаўкі, на калена аблокціўся, трымаючы люльку ў руцэ. Пачаў яе смактаць, раздзьмухваць. Як задыміла, павесіў на ніжнюю губу, падпёр рукою галаву, задумаўся, углядаючыся ў чырвонае ад позняга сонца акно. Палова твару была ў цяні ад аконнай лутк, другая — на святле, адна сіняя, другая чырвоная ад сонца, і вока было нібы адно, вялікае чырвонае, віластае — жахліва ў акно глядзела.

Мастак узяўся за палітру.

Чырвань на твары ў Пракопа гасла, бо гасла ў акне. Твар рабіўся папялова-шызы. Пагасла вока, схавалася пад векам, таксама папялова-сінім.

Мастак адклаў палітру, але ў твар госця яшчэ глядзеў. Бачыў, як халаднее. Падняўся і выйшаў з майстэрні ў гасцёўню. Там шмотаўся ў камодзе. Калі вярнуўся, Пракоп ужо спаў, пасвістваючы ў нос, хоць люлька яшчэ тырчэла з рота.

Паклаў далонь, як прыпячатаў да стала, перад Пракопам:

— Тут дваццаць сем капеек.

Пракоп адразу вочы пралупіў. Вусны разамкнуліся, і люлька з губы зляцела паміж ног на падлогу. Ён з лаўкі нагнуўся, яе падняў, абцёр у далонях і павярнуўся да стала. Перад ім купай ляжалі пачутыя, нібы ў сне, манеты.

Неўраў насупраць сеў за стол.

— Лічы ці не лічы, а дваццаць сем. Не болей і не меней. Як за сеанс натуршчыку ў Маскве. Сеанс там — дзве гадзіны. Мы дзве не працавалі. Плачу авансам. Спатрэбішся — знайду, паклічу.

Пракоп ведаў, што гэтак мастак плаціў усім, каго маляваў, уся вёска пра тое гаварыла, што плаціць «як у Маскве», «з авансам», але тут іншае, не чуткі і не словы — манеты, таму здзівіўся, як навіне: за што? Адразу ў галаве прыкінуў: у Талачыне на рынку фунт гавяды каштаваў адзін грош, мех пытляванкі — дзесяць

капеек. Узяў манеты на далонь, паважыў, зацiснуў у кулаку, як нават ад сябе схаваў.

— Каб не бяднела ў вас рука.

— Кладзi ў кiшэню ды не згубi. А каб рука не бяднела, яшчэ на пасашок.

Цяпер Пракоп не закусваў, бо раптам заспяшаўся дадому.

Руку з грашыма не вымаючы з кiшэнi, другою прытрымлiваючы пад губою люльку, падняўся з-за стала.

Следам за госцем на ганак выйшаў Неўраў. Стаяў, глядзеў у спiну Пракопу ды дзiвiўся, як мала трэба мужыку для радасцi. Хiба не ад яе забыўся, што свiтка на плячах чужая, што люлька не свая ў роце, што шапка засталася ў чужым доме? Сышоў з ганка, Пракопавым следам спусцiўся з свае гары ў вёску, прайшоў па вулiцы, спынiўся, агледзеўся. У вёсцы было цёмна. Дзень падаўжэў — святло па хатах не палiлi. Вулiцаю плыў нiзка, як перад дажджом, цёплы, з нейчае печы дым, салодка пахла гарачай бульбай.

У доме, калi вярнуўся, было цiха i цёмна, як у вёсцы, але Параску, што яна блiзка, адчуў адразу, ледзь дзверы адчынiў. Вачыма кiнуў у бок кухнi — палiла ў грубцы.

— Чаму сядзiш у цеменi, лямпы не палiш? — спытаў.

— Мне абы цёпла. Каля агню прыгрэлася, i ўставаць не хочацца.

— Пракоп быў. Ты яго добра ведаеш?

— Шляхту? Чаму ж не ведаць? У вёсцы без каня не пражывеш. А ў каго шукаць? З канём ён самы блiзкi. Як трэба, заўсёды да яго iдзеш.

— Шляхта цi не шляхта — сам гадае.

— Чутку пусцiў, а дзе тая шляхта? Другога гэтакага, нават дзясятага на кiсялi сваяка, няма нi ў воднай блiзкай вёсцы. Нi ў хатах, нi на могiлках. Адкуль жа ён узяўся? Вусы не наскiя.

— Пра вусы яму i я казаў.

Неўраў скiнуў з плячэй каля парога футра, зайшоў на кухню, сеў збоку ад Парасcкi на лаўку. Яна адкiнула ў грубцы дзверцы — чырвонае святло лiнула яму i ёй у твар.

— Вы тут сядзелi з мужыком, а пана не заўважылi, — сказала, як пажартавала.

— Якога пана?

— А ён у нас адзiн.

— Быў Лупандзiн?

— Як я iшла да вас, фаэтон стаяў на дарозе супраць дома, сам быў у садзе пад акном. Каб не сустрэцца з iм, спынiлася

за ліпамі, чакала, калі паедзе. Толькі паехаў, як вы з Пракопам выйшлі. А я за ліпамі стаяла, глядзела на яго, на вас.

Неўраў задумаўся.

Быў пан ля дома і не зайшоў у дом? Як гэта зразумець? Навошта і да каго прыязджаў, калі не пажадаў убачыць таго, хто тут жыве? Спыніўся, каб паглядзець на сад і дом, ці на сваім месцы стаяць? Мажа, хацеў мядзведзя бачыць?

Апошняя думка з'явілася нечакана, але занепакоіла моцна і надоўга.

## ШПАЧОК ПАД ДУБАМ

Пабачыцца з Лупандзіным была патрэба. Першая — мужыкі. Пан з іх лупіў тры скуры. За кожнае дрэва, без дазволу ўзятае з лесу, за быка альбо карову, якія ўзышлі на яго палетак ці пашу, за тое, што вёска з лесу тады-сяды прынясе грыб, ягаду, жардзіну, што дзеці з панскай сажалкі, бывае, кашулькай вылавяць карасіка ці шчупачка. За ўсё патрабаваў: плаці. А чым мужык заплаціць? Жыве з таго, што дасць, калі зародзіць, шнур зямлі, не прадае і не купляе, бо прадаваць няма што, любы зарод — хоць бы сабе хапіла да вясны, купляць — за што? Не маеш грошай і натуры — адрабі на панскім полі. А як рабіць на пана, калі ў кожнай хаце шмат ратоў, рук мала: хто хворы, хто малы, хто ўжо стары, знасіўся, а хто зусім нябога. І хто за мужыка заступіцца? Суддзя? Мастак у Лыскаўшчыне? Дом на гары, з усіх бакоў відаць. Але ж ён сам уладзе — костка ў горле. Схаваўся ў вёсцы: што малюе? З царскай сталіцы з'ехаў, бо тут лягчэй на трон хулу ўзводзіць? Народ бунтуе?

Пранюхаць, як мастак жыве ў вёсцы, што ён там робіць,ураднік аб'явіўся. А той сустрэў яго ў фрэнчы генерала: чырвоныя лампасы, аксельбанты, грудзі ў залатых ды срэбных крыжах, на баку шабля ў аздобе, і ўжо рука на тронку, каб выхапіць, ускінуць, паласнуць. Яму не трэба доўга думаць: раз-два — і Божы раб без галавы. А галасіна: «Пад казырок! Як, хам, цару слугуеш?» Ураднiка змяло нібыта ветрам. Праз колькі дзён з губерні прыкаціў на парцы коней палкоўнік. Парог пераступіў — бац на калені. Бо перад ім — цар-бацюхна! Шапка высокая — зверсобаль, боты — саф'ян чырвоны, з плячэй сцякае шырокая і доўгая парча, шытая срэбрам-золатам, зіхціць-пераліваецца ўсімі зямнымі ды нябеснымі колерамі. Нагу адставіў, як валадар, мячом, што ў руцэ, паказвае на дзверы, горлам грыміць, нібы

ў звон саборны, на нетутэйшай мове. Палкоўнік і пакаціўся за парог, як тойураднік. А вёска чула-бачыла — у рогат. Пакуль там у губерні дайшло, што быў мастак у вопратцы свайго героя, што на карціне, князя Рамана Галіцкага, і гэта як бы не мастак палкоўніку-жандару мечам паказваў на дзверы, а князь паслам Папы Рымскага…

Лупандзін ведаў пра рэквізіт у Неўрава, пра тыя яго фракі, фрэнчы, расы, світкі, чуў і пра жарты, якія ўчыняў, каб вёску і сябе ў вясковай глухамані падвесяліць, яго яны спалохаць не маглі, але мядзведзя асцерагаўся, далёка абыходзіў, пасля таго, як Топа на вачах у пана злупіў скуру з лягавага. Пра маскарады мастака ведалі і мужыкі, але яны прыходзілі без страху — гнала бяда: пазыч на штраф, каб пан не засудзіў, на хлеб, каб да вясны дажыць, на збожжа, каб адсеяцца. Іх ратаваць мастак не адмаўляўся: то дасць грыўню ў руку, то сам ішоў да пана, клаў штраф за мужыка на стол, бо той у руку не браў — не хлоп. Сустрэчы гэтыя былі Лупандзіну нібы сярпом па далікатным месцы — баяўся басу мастака: «Бярыце, пакуль даю, мужык не дасць нават праз суд, з яго лягчэй вырваць душу, як грыўню. А сядзе ў астрог, павалакуцца сіраты па свеце з торбамі — вам сэрца спаліць грэх».

Была яшчэ прычына пабачыць пана: сам запазычыў. Не за дом. На дом мелі дамову, замацаваную пячаткаю натарыуса, што дом — дар мастаку да самай смерці, тую дзяржаўную паперу ратавалі арол з дзвюма галовамі ды цень нябожчыка Чарняева. Хто, як не генерал, прымусіў пана падпісаць дамову, замацаваць ёю правы і абавязкі? У іншым запазычыў. Пан выставіў рахунак: скуру яму прынесці з Топы за скуру з легаша. Гэтак зрабіць Неўраў не мог, бо тут, у Лыскаўшчыне, мядзведзь яму быў дарагі, хоць згоду плаціць даў. Вось толькі чым? Грашыма ці карцінай? Карціны не было. Ды і ці ёю разлічвацца за панскага сабаку? А калі грашыма, то што каштуе футра? У Расіі, як паляваў з сябрамі, добрае футра мядзведзя каштавала два рублі. Хоць у Яраслаўскай, хоць у Цверскай губернях. Тут, можа, не Расія і кошты іншыя? Ці, усё ж, Расія? Як скажа Лупандзін? Яго тут паншчына і ён расійскі пан. Калі яго зямля, лясы, маёнтак, значыць — Расія? Імперыя? А што скажа мужык тутэйшы? Ці ў яго ніхто не пытаецца?

Неўраў накінуў на сябе янота і выйшаў за парог.

Зацягнутае шэрымі хмарамі неба імжыла. Ні снегам, ні дажджом — ліпкай марозлівай халепай. Сцяжынаю ад ганка падышоў да першай яблыні, спыніўся. У канцы саду стаяў трухлявы,

нікому не патрэбны хлеў, і там, ля хлява, цямнела капа сена. Пад ёю была будка Каштана, ляжаў выварацень з лагвом для Топы. Пан, можа, сюды прыходзіў? Неўраў прыслухаўся, не пачуў ніякіх іншых гукаў, акрамя ветру ў голлі дрэваў. Каштана блізка не было, бо той ужо круціўся б каля ног. А Топа? Калі Лупандзін быў, а ён тут безумоўна быў, стаяў і слухаў, як паляўнічы, хоць і той самы вецер, яго мядзведзь цікавіў больш, як штосьці іншае. Яшчэ зрабіўшы колькі крокаў да вываратня, Неўраў зноў спыніўся, прыслухаўся. Нямоцны вецер дзьмуў з поўначы, ад хлява і лагва: мядзведзь мог крокаў чалавека не пачуць. Смялей прайшоўшы далей, спыніўся зусім блізка. Топа ляжаў у зацішку пад вываратнем, пад галаву падклаўшы лапу. Дыхаў няроўна. Зрудзелая ад доўгай зімовай лежні поўсць на жываце то падымалася, то апускалася, а то зусім не варушылася, калі мядзведзь сцінаў дыханне, прыўзняўшы вуха, слухаў паветра. Лапа тырчэла з-пад галавы і чорныя, як вуглі, кіпці то грозна выпаўзалі з лапы, то зноў хаваліся ў доўгай поўсці, жаўтлява бліскаючы пад поўняй, якая і ў імжаку квола жаўцела у небе. Па насцярожлівасці вуха, па кіпцюрах, дыханні, па тым, як варушыўся каля лапы чорны, блішчаста-аксамітавы нос, як раздзімаліся наздрыны, ведаючы ўсе настроі Топы, Неўраў бачыў і адчуваў, які ён зараз неспакойны, злосны. Казала пра гэта яшчэ і тое, што побач не было Каштана. Сабака адчуваў мядзведзя не горш за чалавека і пакідаў заўсёды аднаго, калі той нечага злаваў. Знікаў далей ад бяды. Бо злосны мядзведзь рабіўся непрадказальны, страшны. Але што тут шукаў Лупандзін?

Неўраў вярнуўся ў дом. Каля парога на лаве сядзела Параска, цёпла апранутая, у хустцы.

— Паліла ў печы і ля агню замёрзла? — спытаў ён.

— Ля печы цёпла, але трэба ісці, вас чакаю. Яшчэ сіні агонь у вугаллі. Можа, самі дагледзіце, каб не ўчадзець?

— Спяшаешся?

— Карова нядоеная.

— Ну дык ідзі. Але чаго тут быў Лупандзін?

— А ці ён мне казаў?

— Што ў нас шукае?

— Не ведаю, маніць не буду. — Загаварыўшы, як забыла пра сваю спешку. — Сяджу ды гадаю, чаму ў вас на падлозе навалена ўсялякіх вопратак. Ці вы куды на выселкі збіраецеся, ці нейкая свіння тут пабыла, павыкідала з шафаў?

— А калі сам, дык тады сам свіння?

— Я гэтак не скажу.

— Вясна, Параска. Павыкідаў, каб прасушыць на сонцы. А тут зайшоў Пракоп. Я з шафы світку на яго накінуў, маляваў мужыка.. Ён у світцы і пайшоў, упадабаўшы. Мне світкі не шкода, але ў ёй моль спіну стачыла. Цяпер перажываю. Людзі агледзяць тыя дзіркі — па вёсцы будзе смеху. Ну, скажуць, удружыў мастак.

— Світка не царская, сцерпіць.

— Ды яна сцерпіць, але ж…

— Я не дагледзела, прабачце…

На сонцы Параска паабяцала вопратку паператрэсці, прасіла толькі з фрэнчаў паздымаць бляшкі, бо як не птушкі, дык агледзяць дзеці.

Правёўшы жанчыну, вярнуўся ў майстэрню. Падышоў да сцяны, каля якой на падлозе стаялі падрамнікі з напнутымі на іх палотнамі, узяўся пераглядаць. Былі там старыя эскізы, накіды алоўкам, вугалем, сангінай, былі і чыстыя, грунтаваныя, і не было работ завершаных. Эцюд стаяў гатовы, лясны пейзаж з асеннім чырвоным клёнам, ды праца большая памерам: Лупандзін з бізуном цераз плячо паміж зграі сабак. Партрэт з сабакамі пісаў даўней, калі пан набіваўся ў сябры. Не мог ён сябрам быць хоць і таму, што цмок, піў кроў людскую. А ведаў яго Чарняеў гэтакім? Быць не магло, каб генерал не ведаў. Трымаючы ў руках партрэт, успомніў, як радаваўся пан, калі яго пісаў, якія адмысловыя рабіў паставы, жэсты, як напускаў на сябе пыху, падказваў, што ў вобразе падкрэсліць, што не заўважаць. Слухаў яго ды рабіў сваё, а то не слухаў, міма пралятала — умеў і гэтак працаваць, не чуючы, што хочуць ад яго, чуў перш сябе, каб і пад маскай убачыць ды перадаць нутро мадэлі. І калі пан хваліўся, які ён гаспадар у сваім маёнтку, які герой у сустрэчах з драпежным зверам, ваўком ці рыссю, то ў гэты самы час, працуючы, мастак не забываў, які ён людзям кат. З ім пагаджаўся ў думках, што тут, на ўскраіне Расіі, пан быў не толькі гаспадаром маёнтка, але апораю цара — яго бізун быў на дзяржаўнай службе. Калі пан казаў гэта, мастак успамінаў размову з Чарняевым, як першы раз з ім ехаў ад чыгункі ў Тубушкі, як фурман хваліў шлях пад коламі фурманкі, высаджаны бярозамі, называў кацярынінскім, хваліў царыцу, што клала гэтакія шляхі ў беларускім краі, каб людзі ды коні не мясілі гразь, а генерал, ведаючы норавы царыцы больш за мужыка, казаў: не мужыку пад лапці кладуцца царскія дарогі, а пад гарматы, пад колы ды батфорты войску, і ўжо як войска сваю справу зробіць, тады і для бярозак час прыходзіць, каб іх красою, бярозавым салодкім сокам змыць кроў людскую,

што лілася. Царыца-немка гэтымі дарогамі, казаў, і Русь яшчэ адну, Малую да Вялікай, прывязала, і мужыка абсадамі купіла, каб жыў ды працаваў, не ведаючы, што тут яго дарогі ў рабства. Дык не царыца добрая — мужык, адвечны раб, у дурнях.

Партрэт з ваўкадавамі пану не паказаў, даў іншы, дзе ён на белым, нібы які фельдмаршал, жарабцы. Тым унаравіў. Пан вывесіў партрэт у гасцёўні, каб госці бачылі і ведалі, чаго ён варты. Сплаціў партрэтам за жыццё ў доме, а пана з ваўкадавамі сабе пакінуў, убачыўшы ў вобразе эцюд задуманай карціны.

Калі Тубушкі адпявалі Чарняева ў царкве, пабудаванай ім у сваёй вёсцы, Неўраў меў магчымасць пагаварыць там з жонкай Лупандзіна. Сцепаніда Мікалаеўна вельмі перажывала смерць генерала. Пра тое ёй заўважыў: слязьмі не вернеце. Яна ўцёрла слёзы і прызналася, што Чарняеў быў адзіным, хто стрымліваў дзікунствы мужа, што муж яго баяўся і таму не лютаваў, як хацеў, бо праз яе дачок генерал ведаў, што ў вёсцы выробляў Лупандзін. Распавяла і тое, што пазней вылілася ў карціне «Чым былі моцныя шлюбныя сувязі». Карціну вывез у Маскву, вывесіў на парадзе перасоўнікаў. Пан-звер на ёй урозвалкі сядзеў, як валадар, у крэсле, нахабна выпраставшы нагу ў паляўнічым боце, а перад ім наўколенцах стаяла жонка, аберуч сцягвала з нагі бот. Правая рука пана вісела збоку ад крэсла, праз падлакотнік, трымаў у руцэ бізун, якім на паляванні вучыў слухмянству хартоў, лягавых, а дома сваёй рабыні даваў урок пакоры. Доўгая назва карціны як быццам гаварыла, што сюжэт з мінулага прыгону, але пісаў цяпер у Лыскаўшчыне з натуры, і атрымаўся не прыгон у мінулым, а тое, што і цяпер смылела.

Перад карцінай не аціхалі размовы, спрэчкі. Загаварылі, што пра карціну дазнаўся цар, назваў яе паклёпам на Расію, і што выставу могуць зачыніць. Але не зачынілі. Магчыма, уратаваў купец, які яе набыў і вывез.

Тады на выставе загаварылі пра ранейшага Неўрава, праўдзівага і смелага. Казалі, што ён, пажыўшы ў беларускай вёсцы, вярнуўся ў свой каронны жанр, які яму даў славу першага пасля Фядотава ды Пярова майстра вострасюжэтнай бытавой карціны, што Стасаў, аўтарытэт мастацкай думкі, зарана пахаваў мастака абвешчаным прысудам: «На нашу думку, Неўраў не зразумеў, што вялікага і цудоўнага стварыў яго талент, пачаўшы маляваць казённыя сюжэты…»

Але самому мастаку карціна, даўшы аўтарытэт і грошы, не прынесла радасці. За што хвалілі? Куды вярнуўся? Няўжо дзеля таго ён пакідаў сталіцу, хаваўся ў нікому не вядомай Лыскаў-

шчыне з яе жахлівым панам-цмокам? Дзе палотны з мужыкамі ды бабамі? Народ, які шукаў, дзе?

Сцямнела. Звычайна ў гэтакі яшчэ не вельмі позні час запальваў лямпу, даліўшы газы, паперай ці анучкай працёршы шкло, ішоў з лямпай у гасцёўню, ставіў на круглы стол, каля якога заўсёды чакала крэсла, браў кнігу са стала ці з шафы, з любімых класікаў — Шэкспіра, Тургенева, Жукоўскага, Міцкевіча, — адпачываў з імі ад дня пражытага, часцей пражытага без радасці. З імі любіў пагаварыць. А бывала, што вочы закрываліся, глядзець у кнігу не хацелі. Ад стомы ў бязладдзі, бясплённасці яшчэ аднаго пражытага дня. Ды і стравілі фарбы зрок за паўстагоддзя, якое, яшчэ і з гакам, адстаяў з палітрай. Заплюшчваў тады вочы і ці драмаў, ці думаў аб пражытым. А то і разам усё сплывалася: спаў, думаў, мроіў. Бачыў карціны ўва сне, свае і не свае, сваіх сяброў — з імі вёў размову. Аднойчы вадзіў вачыма па драме Шэкспіра, чытаў, а Ларына Таццяна, тварэнне Пушкіна, над вухам шаптала: «Я вас люблю, што яшчэ трэба, што я магу яшчэ сказаць?..» Як ад надакучлівай пчалы, было не адмахнуцца. Тады басам, на ўвесь голас, пачаў чытаць сам яе ліст, забыўшы, што Параска на кухні лупіць бульбу. І раптам яе голас:. «Каго там крыеце?» Нібы прачнуўшыся, не зразумеў: хто, што, адкуль? А потым вымушаны быў тлумачыць, што гэтак артыст у тэатры гаварыць за свайго героя. Яе гэта здзівіла: «Вы — артыст?» Тлумачыў, што і мастак — артыст, як піша чалавека, яго партрэт, жыве ў яго скуры. Яна нібы спалохалася: «Лупандзіна пісалі — жылі ў яго звярынай скуры?»

З тым успамінам клаўся ў ложак, Параску сніў, нібы не спаў, ноч з ёю гаварыў, а як прачнуўся, не мог успомніць, пра што была размова. Затое Лупандзіна ўспомніў — адразу падхапіўся з ложка. Гэтак было заўсёды: як пра Параску ў ложку думаў — мог доўга ляжаць, а пра Лупандзіна падумае — адразу з ложка з каменем на сэрцы. Цяпер яго ўспомніў — у споднім выскачыў у майстэрню, адтуль — на кухню, аберуч схапіў вядро — пустое. А тут і Восіп на парозе — у руках вёдры з вадою. На сэрцы палягчэла.

— Ну, дзякуй.

— За што?

— Ды што мяне пачуў, прыйшоў з поўнымі вёдрамі.

— Няма вады ў доме?

— Трэба халодная, з крыніцы, як гэтая, што ты прынёс.

Неўраў узяў з цвіка на сцяне драўляны карац, паўнюткі выхлебтаў, з палёгкай уздыхнуў, усміхнуўся Восіпу:

— Яшчэ раз дзякуй. Цяпер я свежы, дужы.

— А што было?

— Прысніў Лупандзіна.

Рагаталі абодва. З тым рогатам Восіп ставіў вёдры з вадою на лаўку і няхоцькі пялёхнуў на босыя ногі Неўраву. Сам адскочыў, а той стаяў у лужынцы ды ўсміхаўся.

— Прабачце.

— Яшчэ раз дзякуй, што і ногі мне памыў.

Наліў вады ў рукамыйнік і нетаропка, з асалодай мыўся, доўга выціраўся ручніком, а Восіп стаяў каля парога з кашолкаю ў руках, як за парог сабраўся, і не ішоў, дзівіўся прыжмурана-ўсмешлівымі вачыма з мастака, як што хацеў сказаць, ды не адважваўся. Усё ж сказаў, калі Неўраў надзеў чыстую белую сарочку, зашпіліўся на ўсе гузікі:

— Збіраецеся да пана ў госці?

— А ты як здагадаўся?

— Учора ён тут быў, вы яго снілі. Калі верыце ў поўныя вёдры, дык будзе поўніца і ў пана.

— Накастыляе?

— Вы ж не мужык. Ён гэтак шчодрыць мужыкоў.

Звярнуўшы зноў увагу на Парасчыну кашолку ў руках у Восіпа, Неўраў спытаў пра маці, чаму не прыйшла. Тады Восіп успомніў:

— Мяне да вас паслала, сама пайшла ў царкву вярбу свяціць.

Зайшоў на кухню, з кашолкі выставіў на стол гарлачык з малаком, гарлачык са смятанай, макацёр з мочанымі яблыкамі.

Правёўшы Восіпа за парог, Неўраў узяў яблык з макатра, прайшоў з ім у гасцёўню, сеў у крэсла. У акно свяціла ранішняе сонца, ліло святло ў твар, на рукі. Перакладаў яблык з далоні на далонь, дзівіўся, як плавалі па ім янтарныя адценні, падобныя на тыя, што на вадзе і пад вадой гуляюць, калі пад сонейкам глядзець у ручай. Гульня святла спакушала ўбачыць яблык не толькі звонку, а глыбей. І разламаў. Дзве палавінкі ляжалі на далонях, а там — о-го! Чырвона-сінія зярняты, як кропелькі краплаку, густой крыві, запечанай у бурштыне, і жылкі-нітачкі крывавілі ангельскаю чырвонай фарбай, пераплятаючыся з жылкамі-нітачкамі лазурыту італійскага і срэбра-золата. Паклаў палову яблыка на цёмны дубовы стол — паміж зярняткаў зайграла сіена паленая, сіні з чырвоным кобальт, пазелянеў, як скамянеў, бурштын вакол зярнятак. Дзве палавінкі нібы ад розных яблык, ад розных дрэваў: адна ва ўладзе сонца і далоні, другая — ва ўладзе рэфлексаў дуба.

Успомніў Скоцци, свайго настаўніка ў Вучэльні жывапісу. Ён быў з Італіі, карэнны італіец. За доўгае жыццё ў Расіі абрусеў, але застаўся італійцам, не стаў расійцам, а тую абруселасць, што набыў, узненавідзеў як здраду радзіме, па якой тужыў, пакутаваў і пакуты не хаваў. Калі бачыў, як няўдалы вучань клаў колер, не адчуваючы паўтонаў ды адценняў, гармоніі між іх, ён нервова хадзіў па майстэрні ад мальберта да мальберта, глядзеў у акно на сонца і раптам голасам зрываўся ледзь не на дыскант дзяціны: «Вам усім трэба ў Італію. Так-так, у Італію. Я ведаю, што кажу. Італія прамые вочы на колер, на яго адценні. Вы іх яшчэ не бачыце. Тры, пяць?.. Якая слепата! Там у кожным колеры бясконцыя адценні. Там неба — святла харомы пана Бога! Там — сонца! Вы сонца не бачылі…» Свой тэмперамент, адчуўшы, як плешча ён праз берагі, мог супакоіць нечаканым словам, думкай, якія маглі быць не да месца, нязграбнымі, бунтоўнымі, самому мала зразумелымі, але якраз таму яны яго як заганялі ў кут, бянтэжылі, імгненна апускалі з неба на зямлю, у халодную ваду, і ён замаўкаў, садзіўся недзе ў кутку майстэрні, далей ад вучняў, пра сваё думаў, ужо быццам сабе, нікому больш, казаў і паўтараў: «Так… так… што ў Пецярбургу, што ў Маскве, туман усюды, імгла і шэрань, дождж, нуда. Чаму яны навучаць мастака? Як колерператвараць у бруд? Тут колер памірае. Жыве і памірае. А фарбы чыстыя, празрыстыя, напоеныя сонцам, усе там, у Італіі. Там чыстае паветра. Толькі ў Італіі…» З тым шэптам падыходзіў да акна, стаяў спіной да вучняў, як забываў пра іх. З нагруднае кішэнькі фрака выцягваў бездакорна чыстую хусцінку і клаў яе сабе на вочы. Ён быў гарачы, выбуховы чалавек і роўныя, спакойныя адносіны меў не з кожным вучнем.

Неўраву было заўсёды цяжка з ім. Тэмперамент настаўніка мог распаліць і вучня, калі агонь — і вучань, як аднойчы: Неўраў стаяў у класе перад мальбертам — падышоў Скоцци і зрабіў заўвагу. Убачыўшы, што вучань з ім не пагаджаецца, настаўнік пачаў ставіць у прыклад майстроў Італіі. Тады Неўраў і выбухнуў: «Я не хачу ведаць вашу залізаную Італію, з мяне хапае і маёй Расіі…» Прафесар адвярнуўся ад яго і выйшаў з класа. Тую сутычку перажываў і Неўраў. Усё ж Скоцци быў з лепшых выкладчыкаў гістарычнага жывапісу. Як было двум выбуховым тэмпераментам вярнуць ранейшую згоду? Скоцци не заўважаў вучня і пры сустрэчах ці абыходзіў, ці адварочваўся ад яго. Гэта даводзіла да шаленства. Наспявала штосьці зусім жахлівае. Але якраз у тыя дні да Неўрава падышоў адзін з вучняў Скоцци і паклаў яму на мальберт разарваны канверт, у якім быў ліст.

Неўраў дастаў той ліст з канверта, пачаў чытаць і ўбачыў, што ліст да Скоццы. Далей чытаць адмовіўся. Але вучань сказаў, што сам прафесар просіць іх абодвух прачытаць ліст і адказаць на яго адрасатам, купцам горада Томска, што Неўраў, як сын купца, ведае лепш, як адказаць купцам. У лісце купцы прасілі намаляваць фарбамі партрэт у натуральную велічыню свайго гарадскога галавы, які «пачыў ва Бозе», пісалі, што нябожчыку пяцьдзесят два гады, шэсць месяцаў і дзесяць дзён было, калі сканаў, што ростам быў два аршыны і дзевяць вяршкоў, што валасы меў русыя, вочы шэрыя, нос, рот і падбародак звычайныя, гаварыў картава. Ніякіх малюнкаў ці здымкаў не прыкладалася, але яшчэ ў канверце ляжала дзвесце рублёў — плата за партрэт. Вучань, што прынёс ліст, быў вядомы ў вучэльні не жывапісным талентам, а гумарам, і тое, што заказ з Томска трапіў да яго ў рукі, падалося лагічным: Скоццы не памыліўся, каму даручыць нечаканы заказ — гумарысту і партрэтысту. Неўраў падумаў, што настаўнік гэтак шукае з ім згоду і ад заказу не адмовіўся.

Партрэт быў напісаны і высланы ў Томск, а яшчэ праз нейкі час Скоццы атрымаў другі ліст. Купецтва горада, сям'я нябожчыка і новы гарадскі галава высока ацэньвалі работу мастака, які стварыў «вельмі дакладны і прыгожы партрэт выдатнага чалавека». Анекдатычна-неверагодны заказ, партрэт і ліст-падзяка прымірылі Скоццы і Неўрава.

Але неўзабаве на месца Скоццы ў Вучэльню прыйшоў Заранка, і з ім канфлікты пачаліся больш цяжкія. Неўраў быў вымушаны пакінуць Вучэльню не закончыўшы.

Пройдзе яшчэ нейкі час. Пакіне Вучэльню Заранка, і на яго месца прыйдзе Неўраў. Але ўжо не вучнем, каб яе закончыць, а выкладаць навуку жывапісу — прафесарам і акадэмікам.

Час бег няўмольна, усё і ўсіх ставіў на сваё месца…

Неўраў падняўся з крэсла і выйшаў у суседні пакой да мальберта. На ім стаяла палатно са свежым малюнкам знаёмай лысай галавы з пукамі чорных валасоў каля вушэй, з носам, падобным на доўгі нос харта, з адвіслаю губой пад люлькай. Узяў драбок вугалю, падрэзаў нос. Вока пякло, нібы жывое, з ім можна было пагаварыць. А што вусы? Ні шляхта, ні мужык. Загнуў вугалем уніз адзін вус, прыгледзеўся і закруціў другі. Адышоў: не тое вока? Але яго не чапаў: чаму пагасла? Святло, можа, у акне не тое? Як быццам тое. Анучкаю змахнуў свежы абрыс вусоў, вярнуў ранейшы контур — зноў вока запякло, жывое. Не прызнала чужых вусоў? Значыць, свае тапырыліся. А калі так, то не мужык усё ж Пракоп, а шляхта?

Пачуліся чыесьці крокі. Лёгкі на ўспамін шляхцюк? Схапіў падрамнік, прыціснуў да сябе малюнкам.

На парозе стаяў зноў Восіп:

— Да вас тут дзеці.

— Чые?

Паставіўшы падрамнік на мальберт малюнкам ад святла ў цень, схаваўшы ад вачэй, выйшаў на ганак.

Пад ліпаю на лаўцы сядзелі хлопчык і дзяўчынка, большая за хлопчыка, чапляліся адно з адным, жартуючы, але, заўважыўшы перад сабою мастака, усхапіліся. Хлопчык зрабіўся сур'ёзны, насуплена глядзеў у зямлю, на мужычка падобны ў шэрай малой світцы, трымаў аберуч перад сабою торбачку з грубога, як світка, палатна, а дзяўчынка ва ўсе бакі страляла вочкамі, усміхалася.

Падаў руку і ёй, і хлопчыку. Спытаў, чые яны.

— Нас мамка Міхася да вас паслала, — прызналася байчэйшая дзяўчынка.

— Гэта Міхась? А як жа зваць цябе?

— А я Марыля. Мяне вы не пазналі? Я вырасла.

— Ну, так. Ты добра вырасла. Цяпер пазнаў.

Перад ім стаяла Парасчына дачка, якую неаднойчы яна прыводзіла ў дом, каб пасабляла мамцы мыць падлогу, прыбіраць у пакоях, рабіць на кухні. Пасля Параска яе адвезла ў Воршу да свайго старэйшага браценіка, які рабіў на фабрыцы, хвалілася, што там Марыля ходзіць у школу, і ён яе не бачыў з таго часу. Калі Параска ездзіла ў Воршу да дачкі, ён пасабляў грашыма на дарогу. Але не чакаў, каб тое дзіця за два ці тры гады выцягнулася ў гэтакага падлетка, таму і не пазнаў.

— Па вёсцы ў Воршы не сумуеш?

— Сумую. Але няма калі пасумаваць.

— Як вучышся?

— Ужо навучылася. Цяпер на фабрыцы працую. Там дзядзька Халімон і я. Ён за станком, а я ў сталоўцы посуд мыю. І падлогу. Як скажуць. А вы ўсё малюеце?

— У кожнага свая работа.

— Мяне вы добра намалявалі ў сінім каўпачку. За печкаю ў дзядзькі Халімона стаіць мой тапчанок, а на сцяне над ім вісіць малюнак. Я берагу яго.

Памятаў, як хацеў пісаць яе без каўпачка, з адкрытай, светлаю на сонейку галоўкай, але каўпачок, пашыты мамай, яна вельмі любіла, здымаць упарта не жадала ні за якія ласкі і гасцінцы, і давялося пісаць у каўпачку. Калі высылаць на выставу не знайшлося нічога іншага, выслаў гэты партрэт дзяўчынкі. Там

яго купілі, прыслалі грошы. А Марылі падараваў эцюд, напісаны акварэллю. Цяпер пачуўшы, якой радасцю быў ёй эцюд, аж сам зарадаваўся.

— Ну дык пайшлі ў дом.

Тут дзеці зноў счапіліся. Марыля спрабавала выхапіць у хлопца торбачку, але ён трымаў яе аберуч, не аддаваў. Неўраў абхапіў дзяцей, каб супакоіць, і ў гэты час Марыля злаўчылася выхапіць торбачку з рук Міхася — ускінула над галавою.

— Тут малюнкі! Ён саромеецца іх паказваць.

Голас у яе быў звонкі, смелы, хлопчык замоўк, як разгубіўся, і ўжо не кінуўся па торбачку.

Неўраў забраў яе ў дзяўчынкі.

— Мастацтва справа сур’ёзная.

Малюнкі ляжалі ў абвязанай кардонцы, і Неўраў цярпліва яе развязаў, браў аркушы па адным, кожны глядзеў уважліва і клаў на стол. Малюнкі былі зробленыя алоўкам на шэрай і бялейшай паперы, на вырыванках з кніг ці сшыткаў, з загнутымі ражкамі, у плямах ад тлушчу, нямытых рук. Неўрава цікавіла, адкуль папера, бо ў вёсцы хоць якую адшукаць было цяжка, і тут зноў ціхманага хлопца апярэдзіла Марыля, хвалячыся, што паперу яна прывозіць з фабрыкі, дзе працуе, там ёй нехта яе дае. На малюнках былі коні, але не сялянскія, высокія, запрэжаныя ў карэты, былі сабакі, але не дварнягі, усё панскія падгалыя харты з даўгімі пашчамі, былі буслы, у гнёздах і на лузе, з даўжэйшымі, як у жывых, нагамі, дзюбамі, былі малюнкі з мужыкамі ў кажухах ды світках, з цёткамі ў хустках. На кажухах і світках мастаку цікава было вымалёўваць гузікі, аблямоўкі, кудлатую аўчыну, аборкі, laткі. З той самай увагай да дэталяў ён вымалёўваў твары, на тварах — вусы, насы, бароды. Мужык ішоў з сахою за канём, яшчэ адзін у доўгай кашулі з касою гнаў пракос, двое сядзелі адзін супраць другога на бервяне з сякерамі, старая цяжка несла ношку з травой, сагнуўшыся пад ёю, бо ношка была вышэйшая за жанчыну. Мастак усё маляваў старанна: саху, касу, сякеру, — як добра ведаючы ўсяму цану. Адразу ўзнікала думка: хто мастак? Была ў малюнках нясмелая рука, але была і чэпкасць вока на драбніцу, была дзіцячая наіўнасць і разам з тым было відаць, што сам мастак трымаў у руках саху, касу, сякеру, ведаў іх вагу, іх наравістасць, угадваў лінію і штрых дакладныя, а там былі і праўда, і настрой, які ад поту, ад цяжару, ад працы. Нібыта маляваў і сам араты, і сам касец, і сам цясляр. Тут не з’яўлялася жадання шукаць заганы тэхнікі малюнка. Адкуль яна без школы? Затое ўсё — ад Бога, ад прыроды.

Неўраў прынёс з гасцёўні місу з яблыкамі, на стол паставіў. Адзін яблык з свае рукі даў хлопчыку, другі дзяўчынцы. Усміхнуўся яму і ёй, сказаў:

— Астатнія бярыце самі.

Елі ахвотна, моўчкі, але Марыля доўга маўчаць не змагла:

— Былі і ў нас у бочцы гэтакія.

— Былі ды сплылі?

— Як тыя рыбкі, хвосцікамі матнуўшы.

Хацеў сказаць ёй, куды яны сплылі і што частуецца яна сваімі яблычкамі, ды не адважыўся: навошта казку разбураць?

— А хто табе, Міхась, падказвае, што маляваць? Марыля? Мамка? Бацька? — спытаў Неўраў.

Хлопчык еў яблык, схіліўшы галаву над сталом — светлы чубок з'ехаў на лоб.

— Я сам.

— А як ты выбіраеш, што маляваць? Што бачыш, тое і малюеш?

— А як яшчэ? Што бачу. Як маляваць, калі не бачыш?

— Сапраўды. Як? Але ты кожны дзень бачыш свайго сабаку і малюеш панскага. Старая з ношкай — гэта хто?

— Бабуля.

— Ты яе любіш? І таму малюеш?

— Мне яе шкода.

— Таму намаляваў, што шкода?

— Ну, таму. — Хлопчык паклаў пад рукі Неўраву яшчэ малюнак, на якім жанчына па цаліку, па снезе, з вяроўкай на грудзях пад рукі цягнула санкі з тонкімі бярвенцамі. — Тут мамка.

— І мамку, бачу, любіш?

— І яе шкадую.

— А бабу за што шкадуеш?

— Што сляпая.

Цяпер ужо Неўраў здагадаўся, чый тут мастак, успомніў яго бацьку ў лесе, як той каля паваленай яліны схапіўся з панскім леснікам, і маці, як адбівалася ад ваўкадава. Там, у лесе, ад яе чуў, што сын малюе.

— А бацьку Міцькам зваць? — спытаў.

— Ага, — страсянуў хлапчук чубком.

За гэтай размовай Неўраў пераглядаў малюнкі, а Міхась асцярожным вокам з-пад чубка сачыў за ім, як па малюнках вадзіў вачыма, што заўважаў і што не заўважаў. І раптам, калі Неўраў узяў новы малюнак, падхапіўся з лаўкі:

— Тут шпак.

— Шпачок? Дзе ён? Не бачу.

— Там камень у ручаі пад дубам і на ім шпак.

— Ну, сапраўды. Шпачок. Шпакі ўжо прыляцелі.

— Я ўчора маляваў. Жывога. З каменя піў ваду.

— Ты гэта бачыла, Марыля? — Неўраў паклаў малюнак перад дзяўчынкай.

Яна ад смеху аж зайшлася.

— Гэта ж наш роў за хатамі. Наш дуб. Крыніца.

— Ну трэба ж! — шчыра дзівіўся Неўраў. — Я ведаю ваш дуб. І роў з крыніцай. Але шпачок?.. Як ты яго, Міхась, заўважыў? На камені сядзеў і піў ваду?

— Міхась яго дзень цэлы пільнаваў, — уставіла Марыля сваё слоўка.

— І не дзень, — запярэчыў хлопчык. — Шпакі жывуць у дубе, у дуплах. Заўсёды яны там. З каменя дзюбу макень у ваду і з вады ўгору, каб праглынуць, макень і ўгору. П'юць па адным глыточку. Каторы наглытаўся — паляцеў. Другі на яго месца сядзе.

— Ты і шпакоў шкадуеш?

— Яны карысныя.

— Не разумею, — развёў рукамі Неўраў. — Маці шкадуеш, бабулю шкадуеш, шпака шкадуеш і ўсіх малюеш. А панскіх хартоў чаму малюеш? Таксама шкадуеш?

— Ну так, шкадую.

— За што?

— Яны прыгожыя. Белыя, як буслы, чыстыя. Бягуць па лузе, дык усё роўна як буслы падлётваюць над купінамі. Пан бізуном сячэ іх, каб слухаліся, ваўкі іх загрызаюць. Як хорт адзін, воўк яго здужае. У Грыбіне жыў стары хорт, прыбіўся да хлява на трох нагах. Пан лапу яму адсек за тое, што не пайшоў на воўка. А як дазнаўся, што хорт у дзядзькі ў хляве, прыйшоў з ружжом, застрэліў. Я там сядзеў за плотам, бачыў.

— Ну, хлопча, вока ў цябе хвацкае.

Тое, што казаў Міхась, як і яго малюнкі, захапляла Неўрава, але Марыля зноў ледзь не сапсавала размову:

— За плотам сядзеў і плакаў.

Міхась успыхнуў, нібы агонь:

— Не плакаў я!..

Ажно яна сама спалохалася яго крыку, адступіла:

— Дык шкадаваў. — Цішэй як выціснула з сябе: — Ён і мяне шкадуе. Я гэта ведаю.

Хлопчык зачырванеўся:

— Што-о?! — схапіў торбачку, замахнуўся. Пасыпаліся са стала малюнкі.

Марыля схавалася пад стол.

Бас Неўрава іх супакоіў:

— Ша, госцейкі.

Калі Марыля ўжо зноў сядзела за сталом і маўчаў, з падлогі сабраўшы ўсе малюнкі, Міхась, Неўраў спытаў у дзяўчынкі:

— Табе не падабаецца, што ён цябе шкадуе?

Яна ізноў захвалявалася, застрыгла вочкамі.

— Можа, падабаецца. Але ў нас у Воршы гэтак не кажуць. Там кажуць — кахаю. А шкадую — гэта ў вёсцы.

— А як лепш табе?

— Як у Воршы.

— А мне лепш як тут, у вёсцы, — прызнаўся Неўраў. — Шкадую… гэта глыбей. Сёння кахаю, а заўтра не кахаю. Як вецер дзьме — то ў адзін бок, то ў другі. Тут нешта нетрывалае і пахне здрадаю. А як каго шкадуеш, дык гэтым і ратуеш сваё каханне, ваюеш за яго, не прадасі, не згубіш. І хай усюды кажуць па-свойму. Як па-свойму, то ад сэрца, непадманліва.

З дому ў сад выйшлі, калі ўжо сонца стаяла над ліпамі, грэла зямлю праз рэдкае галлё, але добра грэла. Адпускаць ад сябе дзяцей мастак не спяшаўся. Ён быў ім рады. Развітваючыся, абняў, сказаў, каб яго не забывалі, прыходзілі.

— А заўтра можна? — спытаў, пасмялеўшы, Міхась.

— Можна. Заўтра свята, мамка ўсё роўна не дасць рабіць. Будзем маляваць. Вёска гэта не лічыць за працу.

— Каб фарбамі? — прашаптаў Міхась.

— І фарбамі. Я пакажу, як гэта робіцца.

Вярнуўшыся ў дом, Неўраў зайшоў у майстэрню, сеў на лаву, паклаў рукі на стол і доўга глядзеў перад сабою ў акно. Пачуў далёкі голас. Трывожыў і не даваўся, каб пазнаць, чый ён, адкуль, што хацеў данесці. Данёс — прымусіў успомніць некалі сваёй рукой напісанае: «Бяда, вялікая бяда згубіць сына. Я ведаю, я добра разумею вашу бяду, бо сам пражыў жыццё з мараю мець побач сына, і мара мая не спраўдзілася». Пачуў сваё, знутры, з сябе. Словы жылі ў памяці, прачнуліся. Калісьці вывеў іх асадкаю ў лісце да вельмі блізкага чалавека Віктара Васняцова, цудоўнага мастака, калі ў яго нечакана памёр адзіны сын. Суцяшаў, хоць ведаў, як свой уласны боль, што суцяшэння ў гэтакай бядзе няма. Бяду сябра мераў сваёй бядою. Яна крывавіла на сэрцы ўсё жыццё. Хіба не з гэтае прычыны кожнага свайго

вучня ў Вучэльні жывапісу называў на «Вы», і ніколі на «Ты», як іншыя выкладчыкі. Яшчэ і капялюш здымаў, вітаючыся. Калі пыталіся, чаму ён гэтак робіць, нібы ў кожным юнаку бачыць генія, адказваў без жарту: «А вы не думайце, што нашы вучні дзеці. Яны ні ў чым не меншыя за нас. І калі стануць вялікімі майстрамі жывапісу, мне будзе сорамна, што некалі глядзеў на іх як на дзяцей».

Падышоў да акна і толькі цяпер заўважыў, што сонейка ўжо схавалася за вугал дома, свяціла з другога боку, у іншыя вокны, ляжала на падлозе плямамі ў іншым баку пакоя, вузейшымі і халаднейшымі, як ранішнія. Зайшоў на кухню, адставіў у печы засланку, узяў вілы, пашоргаў імі па цаглінах, шукаючы чыгун, выставіў на загнетку, зняў накрыўку — салодкі дух крутой аўсянкі паплыў па кухні. Пакінуў колькі лыжак у чыгунку сабе, астатняе вывернуў у шаечку, уліў свяжэйшага малака, накінуў, на плечы футра і выйшаў з шаечкаю за парог.

Каштан недзе загуляўся, а Топа, хвалюючыся за сябра, таптаўся на адным месцы каля лагва, бразгаючы ланцугом. Мядзведзь быў неспакойны, і Неўраў, нічога яму не сказаўшы, паставіў шаечку на зямлю ды вярнуўся ў дом. Скінуўшы з сябе футра, падышоў да люстэрка, якое вісела ў круглай чорнай раме на сцяне ў майстэрні, убачыў сябе ў белай сарочцы пад гальштукам, у камізэльцы з чорнага сукна пад чорным пінжаком, суцешыўся: як ведаў загадзя, што будуць госці — прыстойна апрануўся. Перад дзецьмі, хоць і ў вёсцы, як некалі ў Вучэльні перад вучнямі, стараўся выглядаць апранутым у чыстае, прыстойна. Адкуль мог ведаць, што яны прыйдуць? Сабраўся гэтакім да пана? Так. І ўжо калі была задума, трэба ісці. З шафы дастаў лягчэйшае, як на вясну, паліто, якое апранаў зрэдку, — пачуў у сенцах нечаканы шоргат. Прасіўся ў дом кот? Пускаць зброду ці не пускаць? Ускінуў паліто на плечы, і ў гэты час дзверы адчыніліся — за імі, як не асмельваючыся пераступіць парог, стаяла жанчына.

— Да вас ці можна?

— А як жа? Заўсёды можна.

Яна зачыніла за сабою дзверы, перахрысцілася на кут, убачыўшы там абразок Багародзіцы, павіталася, паставіла каля парога кошык, хуткай рукою падгарнула пад хустку валасы, адкінуўшы пасму з ілба, сказала:

— Мой хлопец быў у вас.

Неўраў пазнаў яе:

— Міхась?

— Вам ён не надакучыў?

— Ды што вы? Добры хлопчык. Але не стойце ля парога. — Узяў пад руку, правеў у майстэрню, пасадзіў на лаўку. — Вось бачыце? Сын ваш пакінуў тут свае малюнкі.

Жанчына глядзела не на малюнкі, якія ляжалі на стале, а на мастака, нібы чакала, што ён яшчэ ёй скажа. Сама сказала:

— Хлопец ціхі, у шкоду не ўлезе, а яшчэ ёсць дзеўка, тая — агонь, адну ў хаце не пакінеш, хоць і старэйшая.

Развязала хустку, з галавы скінула на плечы.

— І бацька, здаецца, ціхі. Калі сын у бацьку, дык дачка павінна быць у матку?

Сказаў ён гэта рызыкоўна, як даючы намёк, адкуль узяўся той агонь у хаце, але жанчына не сумелася, як нават пагадзілася:

— Вы ж мяне памятаеце?

Ён усміхнуўся:

— Панскі кабель пасля той бойкі жывы застаўся?

— А страху я тады набралася.

Цяпер пра кошык успомніла. Адкінула зверху ручнік: пад ім ляжалі бялюткія, адно ў адно, буйныя яйкі. Ён разумеў: вясковы чалавек за ўсякую паслугу, якая б ні была малая, спяшаўся чым мог аддзячыць, а мог найперш курыным яйкам, і ад яго адмовіцца было немагчыма, як немагчыма пакрыўдзіць у сваім доме чалавека. Жанчына адразу заўважыла і рэшата, якое на цвіку вісела на сцяне, узялася перакладаць у яго яйкі. Пад кожнае нібы анучку мякенькую падсцілала слоўкам:

— Бог нам заўсёды кажа, каб не ішлі з пустым, каб неслі хоць які малы дарунак.

— Дарунак Богу?

— А кожны чалавек у абліччы Бога. Значыць, і чалавеку.

Як яйкі пераклала, ён сказаў:

— Я заплачу.

Яна дала яму ў рукі рэшата:

— Не трэба мяне крыўдзіць.

Што мог сказаць на тое? Не здагадаўся. Адчуў, што ўжо, не хочучы, пакрыўдзіў. Стаяў з рэшатам у руках, кідаў вачыма то ёй у засмучоны твар, то ў рэшата на яйкі, у памяці спяшаўся адшукаць патрэбнае на гэтакі выпадак слоўка, якое б ратавала абаіх хоць збольшага, і не паспеў. Калі яна ўжо выйшла за парог, зайшоў на кухню, паставіў на пасуднік рэшата і тады спахапіўся, што не падзякаваў за яйкі. У сенцы выйшаў, з сянец — на ганак, у двор пад ліпы — нідзе яе ўжо не было.

## БІЗУН ПРАЎДЫ НЕ СКАЖА

За старым борам падняўшыся на пагорак, крыты сівым вільготным мохам, затканы зялёнымі кусточкамі чарнічніку ды бруснічніку, Неўраў убачыў браму і за ёю, за цаглянай у два бакі ад брамы агароджай, доўгі, з зашклёнымі галерэямі, драўляны дом. Тоўстыя цагляныя слупы брамы былі даўно, як уся агароджа, не беленыя, брудна-шэрыя, пабітыя глыбокімі шчылінамі, шмат дзе да цаглянай чырвані, і на кожным з іх сядзеў шэры леў. Пан хоць і быў уладаю лыскавіцкім ды грыбінскім сялянам, але і сярод іх не слыў гаспадаром, і львы, адпаведна яго несамавітай гаспадарлівасці, глядзеліся пыхліва-надзьмутымі, замшэла-бруднымі, падобнымі на перакормленых сабак. Гэтакімі яны бачыліся асабліва чалавеку, які ведаў Лупандзіна заядлым сабачнікам. Падышоўшы бліжэй да брамы, не цяжка было заўважыць іх не па-сабачы калматыя і доўгія грывы, хвасты з круглымі малярнымі пэндзлямі на канцах, таўсматыя ашчэраныя пашчы.

Ад брамы Неўраў нечакана убачыў пакаёўку Глафіру, некалі прывезеную, як чуў ад пана, з расійскага маёнтка, адкуль быў сам. Яна ішла з дамка, дзе кухня, да асабняка з белымі пілонамі на ўваходзе. Азірнулася ў бок брамы, і ён падумаў, што цяпер, яго заўважыўшы, данясе пану, калі той у доме: ідзе мастак. Каб не яна, то, можа, праз браму не пайшоў бы, хоць выбраўся да пана, мог передумаць, падацца міма ўздоўж агароджы, бо ішоў без ахвоты. Аднак тое, што быў заўважаны, дарогі назад ці міма не пакідала, і ён рашуча накіраваўся ў браму.

Абмінуўшы высокую, пад леташнім зрыжэлым сушняком клумбу, падняўся на ганак. Дзверы нібыта самі адчыніліся — насустрач выйшаў гаспадар. Ухмыльнуўся, як задаволены сустрэчай, правёў у прыхожую, там падаў руку.

— Дазвольце, Мікалай Васільевіч, ваша паліто, капялюш. У маім доме цёпла. Дроў не шкадую, лесу хапае. Штосьці вы за ўсю зіму ні разу да мяне не заглянулі.

— Так. Раней, бывала, мы з вамі нават бралі ваўкоў.

— І не адных ваўкоў. — Лупандзін ускінуў паліто і капялюш на магутны, з дванаццаццю парасткамі, ласіны рог, што служыў за вешалку, затрымаў на ім позірк. — Гэтага асілка не забылі?

— Ваша ўдача. Мне з ім работы не было.

— Паваліў першым стрэлам.

Паляванні заўсёды ладзіў Лупандзін, бо ягоным быў лес, яго былі сабакі, коні, егерская служба, лясная кухня, напоі, і

тое, што Неўраў нагадаў пра мужчынскія забавы, можна было зразумець як папрок гаспадару, які за ўсю апошнюю зіму ні разу не запрасіў на паляванне. Але пан выгляду не падаў, што гэтак зразумеў госця, ветліва паказаў на дзверы свайго кабінета. Прайшлі ў тыя дзверы.

Вокны пакоя глядзелі ў стары парк. Дрэвы за вокнамі стаялі голыя, сонечнае святло ў іх яшчэ згубіцца не магло, высвечвала па сценах безгустоўна-вялізныя партрэты невядомых і нецікавых Неўраву паноў ды паняў, прэтэнцыёзна-цяжкую, старых часоў, мэблю, кінаварна-чырвоны паркет падлогі, рэчы на пісьмовым стале, кнігі ў шафах за тоўстым шклом, апранутыя ў дарагія вокладкі з бронзавымі замкамі ды тытуламі. У шафах на паліцах стаялі фаліянты французскіх вальнадумцаў Русо, Вальтэра, Флабера, Гюго, а на сцяне паміж шафай і дзвярыма супроць пісьмовага стала, як для натхнення ў працы за сталом, вісеў знаёмы ўсім у наваколлі бізун, з якім Лупандзін нават тут не разлучаўся.

Магчыма, госць задоўга не зводзіў позірк з дарагой пану рэчы, бо той раптам суха прамовіў:

— Вас да мяне прывёў які-небудзь клопат ці завіталі проста так, па-суседску?

Гаспадар дома сядзеў за круглым ламберным столікам у мяккім крэсле, трымаў у руках люльку з доўгім выгнутым цыбуком і карабок з запалкамі. Ён быў гатовы да працяглай размовы.

Быццам не пачуўшы пытання, Неўраў пацікавіўся:

— Як зімавалі? Як здароўечка Сцепаніды Мікалаеўны? Яна яшчэ не думае вяртацца сюды на лета ад дачок?

Заняты распальваннем люлькі, Лупандзін таксама як не пачуў Неўрава і загаварыў пра сабак:

— Воўк расплодзіўся, а добрых гончых няма. Без іх няма і ўдалага палявання.

— Гончых трэба шукаць у мужыкоў па вёсках.

— На ваўкоў я заўсёды трымаў хартоў. А ім для гону трэба вялікае поле, прастора. Мае харты на сваім полі воўка бралі. Але гэтай зімою снег ляжаў глыбокі, ваўкі былі асцярожныя. Пад вёскі падыходзілі, сабак выманьвалі, мужыкоў крыўдзілі, але і лес пільнавалі, абхітрыць было цяжка.

— Хорт бярэ хуткасцю, а воўк хітрасцю.

— Ад яго хітрасці я за зіму згубіў двух выжлаў. Яны за воўкам, а воўк у лес. Яны, гарачыя, за ім таксама ў лес. Драпежнік мяккі, як мех з мякінай, вёрткі паміж дрэваў, акром таго хітры, а

дурныя харты пруць з лёту ў дрэвы. Кажаце, што лягавыя ў мужыкоў? Няма чыстакроўных. Вось у дзеда пад Арлом, бывала…

— Вы адтуль родам?

— Там і цяпер дзедаў маёнтак. Служыў дзед у Пецярбургу, меў Уладзіміра са стужкай, а як пайшоў са службы, асеў у вёсцы. А ўжо бацька хацеў займець сваю зямлю, купіў тут у казны. Сто дзесяцін лесу, сто дзесяцін ворыва ды трыццаць сенажацяў. Не шмат, але па купчай крэпасці свая зямля. Яе казна абы-каму не прадавала, толькі людзям дзяржаўным.

— Да бацькавай вы потым прыкупілі?

— Мог прыкупіць палетак у суседа, але раздумаў. Сыноў мне Бог не даў, а з бабамі хапае таго, што ёсць.

— А хто сусед? Генерал Чарняеў? Міхал Рыгоравіч?

— Вось ён мне і хацеў прадаць.

— Зямля яму была тут кроўная? Радзіма яго Тубушкі?

— Вы ж ведаеце, што быў першы падзел Рэчы Паспалітай, калі гэтыя землі прыраслі да Расіі. Пачаўся гандаль з краінамі Еўропы. У Талачыне тады адкрылі мытню. Служыць на ёй прыехаў з Расіі дзед Міхала Рыгоравіча. Звалі Мікітам.

— І ён набыў маёнтак у Тубушках?

— Яго маёнтак быў пад Друцакам. Там нарадзіўся сын Рыгор. Вучыўся ў Шклове ў кадэцкім корпусе, служыў прапаршчыкам у Магілёве, паказаў сябе ў баях з французамі пад Аўстэрліцам, каля Салтанаўкі і Дашкаўкі ля Магілёва, пад Барадзіно. Увайшоў з сваім палком у Парыж, быў у Францыі губернатарам Люнэвіля.

— І адтуль прывёз жонку? Чарняеў гэта мне казаў.

— Эсфір, дачку мэра Люнэвіля.

— Гэтым Міхал Рыгоравіч любіў хваліцца. Падкрэсліваў, што ў яго гусарскіх жылах кроў з пахам французскага каньяку. І з каньякоў вышэй ставіў французскі.

— Дык вось тады, з Эсфір'ю, ён і прыехаў у Тубушкі. Тут жыў яго родны брат. З Тубушак вярнуўся на вайсковую службу, меў яе на Чорным моры, у Бендэрах. Там памёр. А Эсфір з малым сынам вярнулася ў Тубушкі, дзе і прайшло маленства Міхала Рыгоравіча. Тут вырас, сюды і паміраць вярнуўся. Дык хто ён на гэтай зямлі? Свой, вядома. І па казённых паперах, і па крыві.

— Але ж служыў не тут?

Лупандзін зноў пачаў раздзьмухваць люльку. Рабіў гэта сур'ёзна, усё роўна як яна пасабляла думаць, весці размову. Калі люлька задыміла, паглядзеў госцю ў твар, як штосьці ад яго яшчэ хацеў пачуць, але, апусціўшы люльку на калена, адказаў:

— Генерал служыць там, дзе яго войска, а войска там, дзе вайна. Сербам ён генерал Свабода, у туркаў адваяваў ім волю, туркменам — генерал-губернатар. А нам з вамі свой чалавек. Ці гэта мала?

— Тут мужыкі яго любілі, — пагадзіўся Неўраў.

Лупандзін зноў паднёс люльку да вуснаў, але муштук у рот не сунуў. Зірнуў у вочы мастаку, спытаў:

— Вам усё гэта навошта ведаць? Вы мастак, тое малюеце, што бачыце, а не тое, што чуеце. У вас працуюць вока і рука.

— Мастак бачыць не толькі вокам, — адказаў Неўраў. — Таго, што бачыць вока, карціне мала. Трэба яшчэ бачыць мазгамі, душою. Ва ўсе часы былі геніі жывапісу і былі рамеснікі. Яны не з адной гільдыі, хоць у руках у адных і ў другіх палітра, фарбы, пэндзлі. Рамеснік бачыць на чалавеку вопратку, твар, нават не твар — маску. А мастак бачыць яшчэ і тое, што пад вопраткай, пад маскай — дух, жывы ці мёртвы, рух крыві, адкуль і куды бяжыць, якія будзіць настроі.

Лупандзін скрывіў вусны, прыжмурыў адно вока, нібы прыклаўся да ложа стрэльбы.

— А вы, як мяне малявалі, глядзелі ў твар, на вопратку ці ў мае жылы?

— Глядзеў у твар, але бачыў глыбей, там, дзе ўся праўда.

— Цікава. Глядзелі альбо бачылі?

— Калі б не бачыў, то я б вас не пісаў.

З люлькі выскачыў сіні агеньчык, сыпнулі іскры. Пан падняўся з крэсла, туды-сюды прайшоўся па пакоі, канец муштука сунуў у рот, дымнуў у столь і вочы закаціў, як у падстоллі словы на язык лавіў. Неўраў сачыў за ім і адчуваў, што кожная наступная хвіліна можа стаць апошняй у размове. Успомніў, з якой прыйшоў нагоды: сунуў руку пад камізэлю і выклаў на стол два срэбныя рублі. Пан хмура пагядзеў на іх, халоднымі вачыма зірнуў у вочы госцю, не разумеючы яго і не спяшаючыся спытаць, што тут за купля-продаж.

— Хачу вярнуць запазычанае, — сказаў мастак. — Павінен быў зрабіць гэта даўно, ды не знаходзіў, прызнаюся, зручнага выпадку. А тут дазнаўся, што вас бачылі каля майго дома, часова майго, і гэта мне нагадала, што я вам вінен. — Памаўчаў, даючы пану магчымасць выказацца, з якой нагоды хадзіў вакол дома, што шукаў. Пан таксама маўчаў, і Неўраў адкрыўся да канца: — Гэтакі кошт футра мядзведзя ў цэнтральнай Расіі. Калі вы лічыце, што тут кошт можа быць вышэйшы, я даплачу. Вы мне скажыце.

Лупандзін як праглынуў штосьці нясмачнае. Адвярнуўся, адсунуў срэбра ад сябе, глядзеў у акно. Неўраў адчуваў, як зараз душыцца тымі рублямі, нават пашкадаваў яго, а ў думках бліснула і задаволенасць: нарэшце выклаў, хоць і не выклаў трэцюю кружэлку за бацьку Міхася, за Міцьку, мужыцкі штраф. Трэці рубель у гэтакіх варунках мог пана ўгнявіць мацней, бо не любіў, калі мастак разлічваўся з свае кішэні за мужыкоў.

Люлька астывала. Лупандзін паклаў яе на стол і з выглядам мудрага чалавека вымавіў, злавіўшы думку па сваім настроі:

— Ваша слабіна — мядзведзь. А ёсць і ў мяне балячка.

— Якая, калі не сакрэт?

— Які сакрэт ад вас? Вы ведаеце.

— Харты?

— Мала не ўгадалі.

Неўраў перахапіў яго пагляд на сцяну і сам зірнуў у той бок, куды глядзеў Лупандзін: бізун?

— Пра гэтую любоў не варта прызнавацца.

— Калі б адна любоў. А тут яшчэ і служба. Вы чалавек адукаваны, ведаеце, што гэтая зямля была некалі Друцкім княствам. Але ці ведаеце, што ў тыя далёкія часы тут быў буйны рынак рабоў?

— Няўжо? — здзівіўся Неўраў. — Ад вас і ад Чарняева я чуў, што гэта прыгожы край. Пажыўшы тут, сам гэта бачу. Але зямля прыгожая — як вольная. Тады яна і чыстая, і белая. Колер — не толькі абалонка, ён, акрамя таго, душа ўсяго жывога, глыбінь святла. Белая Русь не магла быць рабскай, як не можа быць шэрай, бруднай, цёмнай. Над краем ёсць яшчэ і воля Госпада.

— Гэта ў мастака на палатне.

— Мастацтва ёсць жыццё.

— Я не мастак і з вамі ў гэтым не спрачаюся. Але кажу, што ведаў і казаў мой бацька, купляючы тутэйшую зямлю ў казны. Яе дзяржава прадавала ці дарыла тым, хто моцна мог трымаць у руцэ бізун.

— Народ тут ціхі.

Лупандзін зрабіўся з твару жорсткі. На сківіцах усхапіліся камкі той жорсткасці.

— Ціхі тады, калі над ім вісіць гэтая штука.

— Гэта памылка шмат якіх паноў, — рашуча не пагадзіўся Неўраў. — Але, на шчасце, не ўсіх, паны таксама мужыкоў вялі да волі.

— Вялі і Гіру. А прывялі?

Неўрава злавала пыха Лупандзіна, які ён задаволены сабою, які быў упэўнены, што яго доказаў няма чым крыць, акрамя эмоцый, злавала яшчэ тое, што сам ён, госць, хоць і спрачаўся з панам, але не шмат мог даказаць, і гэта пан таксама бачыў. Сарваўся:

— А што дае вам права на амбіцыі? Шмат ведаеце?

Тут пан як прачыніўся:

— Шмат ведае ваш сябра ў Друцаку айцец Максім. Прыстойны чалавек і кніжнік. — Як быццам памякчэў, нават падказаў, дзе, у каго шукаць апору сваім эмоцыям, але раптам як перадумаў, сам тую апору захістаў: — Святых айцоў, як і былых чыноўнікаў, вайскоўцаў цар шчодрыў тут зямлёю не агуркі вырошчваць, а лячыць душы, дубіць скуры мужыкам. Як і чым? Гэта выдатна ведаюць і святары, і адстаўныя генералы. Дарэчы, магу прызнацца, што мой бацька гусарыў у палку Чарняева ў Туркестане, і наша дружба, бачыце, яшчэ адтуль.

— Гэта дае вам права на амбіцыі?

— У пэўным сэнсе.

Размовы ў Неўрава з Лупандзіным раней таксама не заўсёды былі лагодныя, здараліся і жорсткія, бо тон размовам задаваў мастак, а тон залежаў, як і ў жывапісе, ад настрояў, якія надараліся і выбуховымі, ва ўладзе наравістых нерваў. Але былі пытанні, адказ на якія мастак мог чуць толькі ад пана, і гэта вымагала размову доўжыць далей.

— Хай быў той рынак. Вяліся войны, былі набегі полаўцаў, сарматаў. Значыць, былі палонныя, іх прадавалі за рабоў. Але яшчэ тут жыў народ, сяляне зямлю аралі, сеялі, дзяцей гадавалі.

— У мужыцкіх хатах хаваліся рабы, якія ўцякалі з таго рынку, — па-свойму прадоўжыў думку пан.

— І раб шукае волю.

— Раб волі не шукае. — Зрэнкі ў вачах у Лупандзіна завастрыліся, пяклі ў вочы госцю. — Ён уцякае ад ярма, але не думае пра волю, бо не разумее волі. Раб уцякаў ад смерці, шукаў лагво. Знаходзіў у вёсках, на хутарах, дзе ўдоў хапала. Ён усё ж і быдла, і мужык. Як быдла, патрэбнае цягло ў гаспадарцы, а як мужык — патрэбны бабе. Там працаваў, пладзіў сірот. У іх ад самага зароду кроў рабская. Вы азірніцеся вакол сябе: ці шмат вольных людзей? А тыя, хто ў няволі, ці шукаюць волю?

Апошняе пытанне, жывучы ў Лыскаўшчыне, мастак неаднойчы задаваў і сабе. Вольных і ён не бачыў. Мог сказаць, што не парабкі Гіра, Пракоп, Параска, але ці шмат у іх волі, ці думалі яны пра вольнае жыццё і ці шукалі волю? Іншыя наогул глядзелі

пану ў рот, кожны гатовы пасці на калені перад панам, лізаць яму руку, каб толькі з яе яму кавалак вываліўся. Тут іх погляды, мастака ды пана, у чымсьці супадалі, і гэта раздражняла Неўрава.

— Што вы мне адкрываеце?

Лупандзін адчуў момант, калі ўжо можна ставіць кропку ў спрэчцы. Але, каб тая кропка стала на сваё месца, патрэбны быў падмурак.

— Што адкрываю? А тое, што даўно адкрыў Майсей. Рабам зводу няма. Кроў у раба — іржа. Яе нічым на выведзеш. Праправўнукі раба, хоць у дзясятым ці дваццатым калене, рабы таксама. У вас я бачыў Святую кнігу. Там, у Майсея, адказы на ўсе пытанні пра рабоў і рабства. Нават і ён, абраны Богам, дух рабскі са свайго народа выбіць не мог. Успомніце, як выводзіў племя з рабства. Ці вывеў бы, калі б не Бог?

— І усё ж… раб — чалавек таксама, — гарачыўся Неўраў, то з крэсла ўстаючы, нібы спяшаючыся пакінуць панскі дом, то зноў у яго сядаючы, каб даказаць.

Лупандзін паказытаў у носе пальцам, прынёс, на стол паклаў аркуш паперы, зноў апусціўся ў крэсла і павярнуў размову ў іншы бок:

— Атрымаў ліст ад пляменніка. Жыве ён у Яраслаўлі. Шмат хоча ад мяне. А як мне быць, каб не пакрыўдзіць? Вось пачытайце, — падсунуў паперу бліжэй да госця.

Неўраў адсунуў ад сябе:

— Чужых лістоў я не чытаю.

— Я дазваляю, хачу, каб прачыталі.

— У мяне ёсць прынцып. Я не магу яго парушыць.

Лупандзін як пакрыўдзіўся:

— У вас прынцыпы. А мы тут, у вёсцы, людзі цёмныя, без прынцыпаў.

Неўраў гатовы быў падняцца з-за стала. Пан гэта заўважыў і гукнуў Глафіру. Тая даволі хутка, нібы стаяла блізка за дзвярыма, зайшла ў пакой.

— Падай графінчык з царскай белай. — Пан падарыў Глафіры ўсмешку, але не абдзяліў ёю і госця, дадаўшы: — Мікалай Васільевіч прызнае колер толькі ў жывапісе.

Глафіра стаяла пасярод пакоя, і Неўраў не мог не глядзець на прывабную жанчыну. У яе быў даволі мілы твар, у меру паўнаваты, каб толькі змякчыць, зрабіць цяплейшымі выразныя, як у тэмпераментнай асобы, лініі ды рысы. Уся яна, як і заўсёды, ва ўсякае надвор'е, у вопратцы зімовай ці летняй, свяцілася нейкім сваім, знутры, ад пачуцця, агнём, сама грэлася тым агнём і грэла

тых, хто на яе глядзеў, як у гэтую хвіліну Неўраў. Ён ёй ахвотна ўсміхнуўся, сплаціўшы за яе прывабнасць, усмешкаю больш стрыманай сплаціў і пану за добразычлівы жарт.

— А вы не памыліліся. Я колер сапраўды люблю ў жывапісе і ў жанчыне, бо тут знаходжу яго багатыя нюансы, каларыт. Ты згодная са мной, Глафіра?

Яна зірнула на Лупандзіна і ўжо затым, як атрымаўшы ад яго дазвол, на мастака.

— Я з вамі згодная, — прамовіла. — Але жанчыны і мастакі ўсе колеры бяруць з прыроды.

— І я з табою згодны, — адказаў на гэта Неўраў, не зводзячы з яе вачэй. — Прырода збліжае жанчын і мастакоў.

Цяпер ён глянуў на Лупандзіна, жадаючы заўважыць, як рэагуе той на жарты няпрошанага госця да блізкай яму жанчыны. Іх позіркі сышліся, затрымаліся, і ў гэты момант Глафіра нячутна выйшла за парог і прычыніла дзверы.

Мастак падняўся з-за стала, каб развітацца. Падняўся і Лупандзін. Ён ведаў госця, яго рашучы нораў.

— Мы сёння не пра ўсё пагаварылі, — заўважыў гаспадар.

— Але побач жывём. Я рады буду бачыць вас у сваім, часова сваім, доме, — адказаў Неўраў.

Ад пана ён выйшаў на дарогу, што вяла дадому, але не заўважыў, як з яе звярнуў, бо думаў не пра дарогу. Нечакана апынуўся перад полем. Наперадзе вільготна блішчэла рунь, незвычайна мякка падсвечаная дзе-нідзе чырвона-вохрыстымі наплывамі, якія далей губляліся ў шаравата-зялёным, дзе ярчэйшым, дзе засмужаным тоне, месцамі больш шэрым, як зялёным, але ўсюды мроіста-мяккім. Мяжою, дзе сушэй, абагнуўшы поле, выйшаў да старых, на ўзлеску, хвояў. Іх гонкія ствалы ад поля былі ледзь не да самых вяршыняў голыя ад голля, ссінела-чырвоныя, блішчастыя, нібы апранутыя ў гартаваныя на вогнішчах кальчугі вояў, адкрытыя апошнім промням сонца. Яно ўжо схавалася за лес, але ствалы і крону ў вышыні яшчэ ўсё грэла апошняй чырванню, і Неўраў абрадаваўся думцы, што поле цёплае ад чырвані ствалоў, якую хвоі ловяць ад сонца і адбіваюць на рунь. Нават паветра іскрыла чырвоным золатам. Але пейзаж у святле мяняўся. Астывалі, сплывалі ў далеч хвоі, поле, на чырвань клаўся туманок начнога ўльтрамарыну.

Калі сяціла зусім схавалася за лесам, Неўраў заўважыў наперадзе свой дом, а блізка падышоў — звярнуў увагу на плямку святла ў акне майстэрні. Яна хліпала, мітусілася, нібы маленькае цяпельца.

Адчыніўшы дзверы, цераз парог спытаў:

— Хто ў доме?

Дзверы з кухні адчыніліся:

— Здалёк мяне пачулі?

— Здалёк, Параска. Як толькі ад пана выйшаў.

— Старую дружбу ўспомнілі?

Дзверцы ў грубцы былі адчыненыя, за імі гуляў агонь, адбітак якога бачыў у акне, перад агнём сядзела Параска, сама ўся ад агню прасветленая, цёплая. Ён падышоў да яе блізка, паклаў рукі на плечы.

— Пан мне не сябра. Але ад усіх зашыцца у кут, жыць воўкам, без людзей, нялёгка.

— Знайсці скабку на сэрца ў вёсцы цяжка. А ў пана ёсць Глафіра. Вы хацелі пісаць яе партрэт?

— Адкуль ты ўзяла?

— Самі казалі. Хадзілі, можа, дамаўляцца?

— Ты ж ведаеш Лупандзіна. Хіба ён дазволіць? Не бачыла, як коршун трымае ў кіпцюрах сваю ахвяру? А я бачыў. Аднойчы гада падстрэліў. У кіпцюрах у яго быў заяц, яшчэ жывы, а ўратаваць не змог, хоць мёртвы быў каршук. Я зайца ў яго вырваў, але разам з кіпцюрамі. А ты пра скабку. Навошта шукаць у чужых сценах, калі яна побач?

Неўраў стаяў у Парасکі за спіною, глядзеў, як трапяткі агонь прычэсваў яе валасы, як святло ружовым контурам акрэслівала, нібыта сонечным алоўкам, лоб, шчаку, як водбліскі агню гулялі з залацістымі на скроні пасмамі, дрыжэлі на руках, на дзверцах грубкі. Мужчынскі позірк на сабе яна ўгадвала, адчула, што ён чакае ад яе слова пра скабку. Адказала не тое, што хацеў пачуць:

— Прыехала Марылька.

— Я ведаю. Была тут у мяне. Вырасла.

Сказала і тое, што не адважылася сказаць адразу:

— Прывезла навіну, што мой Іван ужо ў Воршы ў Халімона.

Свайго здзіўлення ён не паказаў:

— Едзе пасобіць араць ды сеяць? Табе будзе лягчэй.

Параска задумалася.

— Баюся яго помачы.

Прамовіла як не яму, ледзь чутна, як сабе.

Неўраў зайшоў у майстэрню, спыніўся ля мальберта. Глядзеў халоднымі, без радасці, вачыма, як на незразумелае стварэнне. Ці гэтае стварэнне не разумела мастака? Стаяла палатно, завешанае фартухом, ляжала даўно нячышчаная, з купінкамі засохлай фарбы, палітра, у фарбе былі пэндзлі, нямытыя і нават не абцёртыя

анучай. Аж здрыгануўся, вочы адвёў убок, абы не бачыць. Што адбылося з мастаком? Як ён дайшоў да гэтага? Было і тут пра што падумаць, бо ўсё жыццё казаў сабе і вучням: у палітры бачыш мастака. Калісьці гэтак яму казаў Саўрасаў, а ўжо пазней і ён сваім вучням, і кожны раз, як ім даводзіў, казаў сабе. З палітрай выстаяўшы дзень, бывала, валіўся, нібы сноп, ляжаў, забыўшы, што дзень не еў, але падхопліваўся не да яды, а да палітры, каб пачысціць, працерці шкіпінарчыкам, алеем, каб потым раніцай, узяўшы ў рукі, убачыць і зарадавацца, як яна, быццам люстэрка, ловіць сонейка, яго ў вочы адбівае, сама сагрэўшыся і мастака грэючы. З палітры пачынаецца мастак. Каб напісаць прыгожую карціну, трэба адчуць у сабе настрой прыгожы, свята, а першай іх дае палітра. У якім яна настроі, у тым настроі праца, калі яна не ловіць сонейка — не будзе сонейка на палатне. Палітра любіць чысціню, яе трымаць трэба ў руках чыстых і з чыстым сэрцам. У гэтых ісцінах — Саўрасаў, Скоццы, але ўсё — сваё. Дык што цяпер з ім адбылося?

Сеў у крэсла, схапіўся за галаву і сядзеў, пакуль не пачуў блізкія крокі.

У пакоі было цёмна, яшчэ цямней было ў акне насупраць, але збоку, у дзвярах, стаяла Параска, трымала лямпу ў руках, святло ад якой сеялася зусім кволае. Ён у яе спытаў:

— У лямпе няма газы, што гэтак змрочна?

Яна падкруціла кнот — святло паярчэла.

— Я думала, што вы заснулі. Каб не будзіць.

Паставіла лямпу на стол.

— Была ў Друцаку? — спытаў ён. — Што людзям казаў Максім?

— Вядома што. Як Ісус на маладым вослiку прыехаў у Русалім, як людзі яго віталі.

— Павіншаваў з вясной, са святам?

— А як жа? Асвяціў вербачкі. Чытаў пропаведзь.

— Ты любіш яго пропаведзі?

— Люблю, як ён з людзьмі гаворыць.

— Што гаварыў?

— Ды ўсё пра Бога. Як вёска з ім жыве. Я, кажа, вам даводжу, чаму Бог вучыць, каб вы жылі ў згодзе з ім і між сабою, маліліся, да ўсяго жывога мелі ласку. А як жывяце? Адны — як вучыць Бог, а іншыя — як шэпча сатана. Ідуць у царкву маліцца, а ў кішэні гарэлка. Не адыдуць ад святога ганка — ужо наліваюць. Хіба не гэтак рабілі ўчора браты Іван, Панкрат, Пятрок? Пад Гасподнім крыжам схапіліся загрудкі, пачалі адзін аднаму квасіць насы.

З чырвонымі насамі заваліліся ў краму да Хаіма, набралі віна, не заплацілі, абазвалі Хаіма пархатым жыдам. Ім Вербніца — свята. Дык святкуйце з Богам у душы. Субота — спявалі Лазара. Хрыстос падняў яго з мёртвых, каб паказаць, якая міласць чакае чалавека, калі жыве па-божаму, а вы чым Богу дзячыце?

— Гэта добра, Параска, што ёсць Максім у вёсцы. Хоць ён разумна, нікога не баючыся, скажа. А то ж усе ўсяго баяцца, пазавуголлі шэпчуцца, як скраўшы праўду.

— А яшчэ, кажа, ноччу прыйшоў у храм, запаліў свечку, стаў на калені перад Збаўцам, глядзеў яму ў вочы і плакаў, прасіў даравання бязбожнікам, браў на сябе іх грахі.

Неўраў уважліва слухаў Параску.

— А што на гэта казалі людзі? Да іх даходзіла?

— Хрысціліся, але не ўсе. Чыясьці старая матка побач са мною слёзы выцірала канцамі хусткі. А я ў гэты час пра сваіх думала.

— Яшчэ ў тваёй хаце мір.

— Пакуль гаспадар у шахтах пад зямлёю. Ды і Восіп цаца. Адно супакойвае, што не шалее, як нап'ецца. На печ залезе ды храпе.

Згадаўшы сваю хату, яна выйшла з пакоя. Ён чуў, як ляскала дзверцамі грубкі, шоргала юшкай. Калі выйшаў і ён, стаяла ўжо апранутая каля парога з кашолкаю ў руцэ.

— Ты неяк знянацку?

— А як з Друцака вярнулася, дык у сваёй хаце толькі агледзелася, адразу да вас. Грубку прапаліла, а пра вячэру не пытаюся. Калі былі ў пана, дык ён вас галодным не выпусціў.

— Ды гэта так. Пачаставаў.

Яна пайшла, а ён вярнуўся ў крэсла і сеў за Біблію, раскрытую на тых радках, якія чытаў двойчы і тройчы: «…сказаў Майсей народу: памятайце дзень, калі выйшлі з Егіпта, з дому рабства, бо гэта рукой магутнай вас вывеў Гасподзь». Вось як: вывеў Гасподзь і калі б не ён, дык нават Майсей не вывеў бы? А чаму? Не было сілы супраць фараона? Але ж рабы там, у Егіпце, моцна распладзіліся, было іх больш за егіпцянаў? Дык ці хацелі яны волі? Што выбіралі паміж воляй і карытам фараона? Найперш — карыта? Як не было чаго з'есці, шукалі фараона, каб ён іх накарміў. Чым рабу салодкая няволя? Не трэба думаць, дзе ўзяць костку, каб згрызці, не быць галодным. Раб не бачыць жыцця без карыта пад носам.

Інстынкт жывёлы? Дык гэта ж тое, што казаў Лупандзін? Якое было выйсце ў Майсея? Прасіць ратунку ў Бога? Ну, так,

Бог кожны раз ратуе: то перапёлак сыпле з неба, то хлябы. Наеліся — ахвота піць: дзе, Майсей, вада? Прасі вады ў Бога або вядзі назад да фараона. Бог дасць ваду. Але і ён у роспачы: што за народ? Нічога не можа здабыць сам, усё яму дай. Доўга раіліся на гары Сінайскай Майсей і Бог. Тым часам народ ужо зноў бунтуе: дзе праваднр, дзе Бог — каму маліцца? Народ лепіць бажка: яму ўжо моліцца — не Богу. Рабам патрэбны ідал, а не Бог?

Адарваўшы ад кнігі вочы, Неўраў бачыў перад сабою тутэйшых мужыкоў і баб: у іх на каго спадзева — на Бога ці бажка? У кожнай хаце віселі абразы, людзі хадзілі ў царкву, маліліся, а перад кім згіналіся, калі з царквы выходзілі, каго найбольш баяліся, каму руку лізалі? Пракоп сказаў за ўсю вёску: Бог далёка, а пан блізка, Бог можа пакараць, а можа дараваць, ён хоць суровы, але цярплівы, грахі ўсім даруе, а ці даруе пан? На кару пан хуткі, карае жорстка. Што Пракопу на гэта адказаў? Нічога. Змоўчаў. Бо што адкажаш, калі гэта праўда?

Неўраў шукаў у думках выйсце: чым мог абараніць ён мужыка? Сабе даводзіў: які ён раб, калі ўсіх корміць сваёй працай? Калі ўсё тое, што Бог скідаў рабам Майсея з неба, ён здабывае мазалём і потам? Думка здавалася непахіснай — супакойвала. Але адразу ўзнікала і другая: хіба ў фараона рабы не працавалі? На сябе, каб карміцца, на фараона? Як тут — на сябе і на пана? Тады — губляўся.

Зноў чуў Лупандзіна:

— А вам гэта навошта ведаць? Вы мастак. Пішаце тое, што бачыце. У вас працуюць вока і рука.

О, як бы пан хацеў, каб у мастака не працавала думка, галава! Як бы таго хацела ўлада! Уся, ад дробнага чыноўніка да цара. Як бы ім усім хацелася думаць за ўсіх, за мастака — таксама. Каб іх бізун быў над усім і ўсімі. І над мастаком.

І ўсё ж Лупандзіну не мог сказаць усю праўду: навошта мастаку ведаць мужыка, ён парабак ці вой, як і пана — ён чалавек ці цмок? Не мог яму прызнацца, што ў думках пра мужыка і пана мастак шукае сэнс і апраўданне свайго жыцця ў вёсцы, гадоў, што змарнаваў тут, нічога значнага не напісаўшы. Хоць і не сядзеў склаўшы рукі. Шукаў натуру і мадэлі, рабіў эцюды, замалёўкі, пакутаваў над новымі задумамі. Усё — не тое. А вінаваты хто і што?

Сябрам пісаў лісты: «Няма каго пісаць… Няма мадэляў… Ёсць толькі пан і парабкі…» А чым сябры маглі дапамагчы? Што раілі? Яны ўсе ведалі ягоны выбуховы тэмперамент, ведалі, што з панам-цмокам жыць побач ён не мог і мужыка не мог пісаць,

убачыўшы ў ім парабка. Як ратаваць маглі? Маглі сказаць: вярніся? І ў гэтым, толькі ў гэтым, мабыць, быў ратунак. Але не раілі і гэта. Бо ведалі, што ён назад не вернецца з пустым — не пусцяць гонар, годнасць мастака.

Пад раніцу пачуў магутны голас:

«Я знішчу іх!..»

Прачнуўшыся, ляжаў і думаў, чый голас чуў. Успомніў. Спытаў, як не паверыў у тое, што пачуў:

«Каго?.. Народ?.. Увесь народ?..»

Нібыта яшчэ спаў, але ўжо думаў, што гэта кажа Бог. І адчуваў, што Бог, і ў той жа час не мог паверыць, што гэта Бог сказаў. Усё роўна як спытаў у Бога:

«Няўжо і ты ў сваім народзе памыліўся? Дык сапраўды рабы не могуць быць народам?..»

Стаіўся і чакаў, што Бог яму адкажа. Ці не адкажа? Хто ён такі, каб з Богам гаварыць? Мастак? І толькі ўсяго?

Пачуў той самы голас:

«І дам народ шматлікі ад цябе…»

Смялей перапытаў у Бога:

«Ад Майсея?.. Каб звесці рабоў усіх да аднаго?.. Але ж Майсей таксама з рабоў?..»

Зноў затаіўся і зноў, наструнены, чакаў, што скажа і на гэта Бог. Але ўжо ні слова ў адказ не дачакаўся. І не пакрыўдзіўся, бо зразумеў: не мог з ім Бог так доўга гаварыць. Бог вучыць, але і патрабуе, каб чалавек вучыўся сам, да ўсяго даходзіў.

Ляжаў і думаў: дык можа раб быць чалавекам, калі сам Бог хацеў стварыць народ ад Майсея? І калі так, а гэта — так, як Бог засведчыў, то памыляецца Лупандзін, або, калі па-простаму, збрахаў. Таму збрахаў, што сам ён раб. Калі не ў пана, як мужык, дык у цара. Калі не раб, дык парабак. Хто, як не парабак, душой і целам бліжэйшы да раба?

Неўраў падхапіўся з ложка і ў споднім, не апрануўшыся, выйшаў на кухню, падышоў да вядра з вадой, узяў чарпак, макнуў у вядро і выхлебтаў паўчарпака. З прыемнасцю адчуў, як пагасіў агонь у грудзях. Яшчэ вады зачэрпнуў, выйшаў на ганак і выліў на галаву. Далонню сагнаў з твару ваду, змыў млосць начную. Працёршы вочы, тут толькі заўважыў, перад сабой, пад ліпай, Восіпа.

— Прабач, што сустракаю ў споднiках. З ложка спаўзеш — як кацяня сляпое. Чарпак вады на галаву як выліў, то зразумеў, што гэта непрыгожа.

Восіп змахнуў з губы цыгарку:

— А я зрання лячуся тухлянкай.

— Снедаў?

— Не гарыць.

— Ну дык ідзі да Пракопа. Скажы, каб запрог каня ў брычку, паедзем у Друцак.

— Задумаў выкідаць гной з хлява. Але паедзем. Яшчэ не сеяць. Гной паляжыць.

Вырвацца з вёскі як падалей, хоць у Друцак ці Талачын, Восіп любіў. Гэта Неўраў і цяпер заўважыў па яго твары, які адразу пасвятлеў, павесялеў.

— Зараз паедзем? — перапытаў Восіп.

— А што цягнуць быка за хвост? Раней выедзем — раней і вернемся. Дзень ужо не малы, яшчэ і гной выкінеш.

Адправіўшы хлопца да Пракопа, Неўраў вярнуўся ў дом. Апрануў тое, у чым хадзіў да пана: белую сарочку, пад каўняром зацягнуўшы гальштук, чорны касцюм з камізэляю, з нагруднай кішэні якой дастаў гадзіннік на срэбраным ланцужку, завёў на ўсю спружыну. Ведаў, куды ехаў, меў надзею сустрэцца з друцкім бацюшкам — трэба было падумаць і пра выгляд.

Ахвота з'ездзіць у Друцак да Максіма ўзнікла, як быў у Лупандзіна, калі пан раіў з ім пагаварыць пра старажытны Друцак, але зрабіць тое неадкладна падштурхнуў апошні, гэтае ноччу, сон, размова ўва сне з Богам. Максім сапраўды цікавіўся ўсім, чым жыло мястэчка, цяпер і раней, меў цікавасць і да мастацтва, ахвотна заводзіў размовы з мастаком, заглядаў у майстэрню, як праязджаў праз Лыскаўшчыну. З кім жа яшчэ мець гутарку аб краі, як не з бацюшкам?

Прысеў на лаўку, чакаючы Восіпа, а тут і дзверы адчыніліся. За імі стаяў Міхась з белаю торбачкай. Абрадаваўся:

— Заходзь, гасцёк…

Завёў хлапчука ў майстэрню, вярнуўся на кухню, наліў у кубак кампоту, паклаў паболей грушак.

— Ты грушкі любіш? Ну, пі кампот, пакуль ён з печы, цёплы. Грушы салодзенькія. Я ўжо выпіў.

Міхась узяў кубак у абедзве рукі, а тут і Восіп. Прынёс кубак з кампотам і яму, каб весялей расправуляцца з грушкамі ў талацэ.

— Прыехаў на кані? — спытаў у Восіпа.

— Пракоп каня не даў. Будзе раскоўваць. Запрог кабылу.

— Нам добра і на кабыле. Цішэй едзеш — далей будзеш. — Неўраў адразу павярнуўся да Міхася: — Ну, хваліся, што прынёс?

Захваляваўшыся, хлапчук ёрзаў на лаўцы.

— Я ўчора зрабіў адзін малюнак.

— Адзін — гэта нямала. Адзін бывае даражэйшы за сотню.

Міхась узяў з торбачкі малюнак, паклаў перад Неўравым і ўжо не адрываў вачэй ад твару мастака.

— Тут бацька есць гарачую капусту. Хапаючыся, бо спяшаўся ў хлеў гной выкідаць.

Малюнак Неўрава падвесяліў.

— Ты, Восіп, паглядзі, што вырабляе наш мастак. Капуста і на барадзе, і на вусах у бацькі. Яда вясковая, га?.. Мужык глядзіць у акно. Капусту есць, а думае пра што?.. За акном двор, хлеў, сахор у гнаі тырчыць. Што скажаш? Ты гной яшчэ не выкідаў? — Восіп не казаў нічога, а Неўраў быў у захапленні. — Капуста — о-го!.. Не кожны мастак яе заўважыць і намалюе. Га, якое вока!.. І адчуванне, разуменне. Капуста гарачая — губа распухла. Дэталь жывая!.. А што — дэталь у жывапісе, у малюнку?.. Каралева!..

Міхась заварушыўся, пасмялеўшы. Закінуўшы назад галаву, сыпаў грушкі з кубка ў рот.

— Смачныя, — сказаў сур'ёзна.

Неўраў паглядзеў на яго:

— А ў Друцаку калі-небудзь бываў?

— Не, ня быў.

— Дык, можа, цяпер са мной туды паедзеш?

Пытанне было для хлопца нечаканае, аж затрымаў ля падбародка пусты ўжо кубак, з-за кубка глядзеў на мастака вялікімі бліпчастымі вачыма.

— Ну так, паеду, — вымавіў.

— А мамка пусціць?

— Яна мяне ўжо адпусціла.

— Дык і паедзем. Там мы з табою пашукаем фарбы, пэндзлі. А ў Восіпа работы сёння тут хапае. Гной трэба з хлява выкідаць. Твой бацька, кажаш, ужо выкінуў? А Восіп яшчэ чухаецца. І кажушок на табе, бачу, ветру ў полі не забаіцца.

Пастаяўшы каля парога, Неўраў падумаў, што апрануць яму — янота ці паліто? Апрануў паліто і ўспомніў пра капялюш. У ім пастаяў перад люстэркам, насунуў ніжэй на вока, як некалі насіў у сталіцы, зайшоў зноў у гасцёўню, з камоды дастаў чыстую насоўку, лінуў адэкалону, падумаў, ухмыляючыся: старым жаніхом з'яўлюся ў княскую сталіцу, можа, княгіню падчаплю ці, лепш, княжну? Хай бацюшка і вокам бачыць, і носам чуе, што ў Лыскаўшчыне мастак яшчэ жыве, не чахне. Айцец Максім яму казаў раней: «Зачахнеце ў глухамані, перабірайцеся да нас

у княскую сталіцу». Каб быў у Друцаку той годны князь, які адсюль гнаў полаўцаў, то на калені стаў бы: вазьмі ў сваю сталіцу, княжа слаўны, хоць званаром царкоўным. Мастак — званар? Ну, так — выдатна! Але не стаў бы на калені нават перад Рагвалодам. Не можа мастак стаяць на каленях. Ні перад князем, ні перад царом. Не, не можа. А што ў Друцаку цяпер? Не тыя самыя паны ды парабкі, што ў Лыскаўшчыне? Няма ў Лыскаўшчыне тых, што там, жыдоў і крамаў? Дык гэта — страта. Што жыд? Ён усім патрэбны. І пану, і мужыку, і мастаку. Нікога не абкладзе матам, а іншаму пасобіць, як не з кішэні, дык хоць разумным словам.

Восіп не чакаў, што Неўраў знянацку перакруціць з паездкай і замест яго возьме з сабою падшыванца. Але не чакаў гэтага і Неўраў ад сябе. Думка была адна, а настрой, думцы не падначалены, з'явіўся іншы. Тое, што аказаўся тут Міхась, да чысціні і шчырасці якога ў апошні час гарнулася старэчая душа, і тое, што настрой, каб ехаць з ім у Друцак, мацнейшы быў за думку ехаць з Восіпам, абяцала іншы сэнс ды смак паездцы.

Нават і нешта новае.

Калі ўжо выйшлі да брычкі, Неўраў паклаў руку на плячо Восіпу, спакойна паглядзеў яму ў вочы, не жадаючы пакрыўдзіць, сказаў з клопатам не пра сябе:

— Ідзі дадому. Там працы хапае. У сялян руплівых гной ужо на полі. Не агледзішся, як трэба сеяць.

## РАБЫ ЦІ ВОІ?

Надумаўшы ехаць у Друцак, Неўраў зарадаваўся блізкай сустрэчы з палеткамі, абуджанымі вясною, з гракамі ды жаваранкамі, як прывязанымі ў гэтую пару да цёплай раллі, і разам з тым перасцярожліва ў сябе пытаўся, ці не зарана радуецца, бо не заўсёды сакавік спраўляў хаўтуры па зіме. Але як выехалі за вёску ды мінулі панскі лес, за ім — святлейшы малады бярэзнік ды бярозавае балота, утыканае пакручанымі няfolслымі дрэўцамі, калі вачам адкрылася вільготна-зазелянелая, у блакітна-сонечнай смузе рунь, сам здзівіўся, што якраз гэтакімі маляваў уваччу цяперашнія краявіды, седзячы ў вёсцы. Пасвіліся, пералятаючы з поля на поле, блішчастыя пад сонцам гракі, спявалі-заліваліся ў небе жаваранкі, апошнія лапікі шэрага снегу віднеліся адно пад ялінамі ды па канавах, паблісквалі, як маладыя вочы вясны, празрыстыя ставочкі сонечнай вады. Гэтакай парою палеткі прыцягвалі ўвагу да сябе мацней за лес, на іх было больш, як у

лесе, сонца і цяпла, больш ласкі і даверу для душы, стамлёнай за доўгую зіму ад халадоў, вятроў, ад скамянела-заледзянелай адзіноты, старэчай глухаты ды нематы, што асабліва цяжка пераносіліся ў канцы зімы, пасля Калядаў. Зіма прывучала да холаду і адзіноты нават сабаку і мядзведзя, і Неўраў неаднойчы пераконваў сябе ў тым, што звыкся з гэтай, ад прыроды, няўтульнасцю, што і яна патрэбная, каб пасля адчуць поўніцу жыццёвай радасці, што ў адзіноце, у доўгіх зімовых вечарах чалавек мае патрэбу, бо ў гэты час глыбей думаецца, вастрэй бачыцца далёкае, пражытае, з чаго і вырастае ўсё новае, маладое.

Пясок пад брычкаю плыў вільготны, колы па ім беглі з мяккім шэптам, нібы плылі па вадзе, не грузнучы ў каляінах. Буланая кабылка час ад часу весела круціла галавою то ў адзін бок, то ў другі, пафырквала, касіла круглым бліскучым вокам у той бок, дзе з лейцамі ў руках урачыста сядзеў Міхась. Брычку Пракоп даў таксама не лепшую, хоць меў для выездаў і новую, але сядзенне было са спінкаю, з падлакотнікамі, каб трымацца і не выкуліцца недзе на павароце ў захапленні яшчэ адным вясновым пейзажыкам.

Абодва, выехаўшы з вёскі, спачатку маўчалі, але нарэшце і пагаварыць захацелася.

— Ужо, можа, бярозавік пайшоў? — спытаў у хлопца Неўраў.

— Паўлюк, сусед, нёс учора поўнае вядзерца. Частаваў.

— Не баіцца пана?

— А ён ставіць каля дарогі. Там бярозы не панскія. Я сёння, як прыеду, вазьму ў мамкі збанок, таксама пастаўлю.

— Ноччу падмарожвае.

— Набяжыць і ноччу, як пайшоў.

Дарога кацілася з пагорка ў лагчыну, потым узбіралася на пагорак, зноў скатвалася, зноў узбіралася, паварочвала ў адзін бок, у другі, абмінала там балаціну, там пералесак. Гуляла і сонца: то выкатвалася над кабылай, то скатвалася за небакрай, свяціла ў твар і раптам забягала збоку, быццам не адна дарога шукала-выгадвала сваё месца паміж палеткамі ды лясочкамі, але і сонца ў небе. Вострым вокам Неўраў заўважаў, як мяняліся ў абрысах ды колерах краявіды, як лёгкі стрэчны вецер ды сонейка гулялі з залацістым чубком хлопчыка, што выбіваўся з-пад зімовае шапкі, як светла бліскучэлі маладыя вочы.

— А ці чуеш ты жаваранка? — спытаў мастак.

— Гэта спявае ня жаўрынак. Гэта сонейка з жаўрынкам падманваецца.

— З якой чытанкі?

— З бабулінай. Яна казала, як мы карову з хлява выганялі. Я тады не паверыў, а яна з мяне смяялася: няверка ты…

— Зусім сляпая?

— Бабуля?.. Але ўсё чуе.

Дарога ўзбегла на пагорак, пад якім цёк наліты веснавой вадой ручай. Хлопец напяў лейцы, сунуў у рукі Неўраву, саскочыў з брычкі, узяў кабылу за аброць, звёў на нізкі бераг і там зноў ускочыў, перахапіў лейцы. Яны былі з новай, яшчэ белай сырамаці, мяккія, на сонцы зіхацелі, нібыта промні, і гэтакая сонечная аблямоўка ляжала вакол галавы кабылы, бегла па дузе. Неўраў заўважыў:

— Малюе і сонейка.

— Што сонейка? — не ўлавіў Міхась.

— Малюе, кажу. Толькі ў яго свой аловачак, залаты. Заўважаеш, як вымалёўвае галаву кабылы, дугу? Быў цудоўны мастак Саўрасаў, вучыў маладых мастакоў, дык ён гнаў іх з майстэрні, каб пісалі на прыродзе сонейкам. Любіў казаць: «Вы — дзеці сонца». Вось і ты, дзіця сонца, малюй святлом у прыродзе.

— Гэтакай няма фарбы, як у сонейка.

— А мы яе знойдзем.

— У мяне ёсць дзве.

— Гэта ж якія?

— Чырвоная ды чорная. Чырвоная з гліны, якая ў нас у хаце пад печчу, а чорная ў печы, у коміне. А яшчэ я ў лесе пад бярозай ведаю гліну сінюю і жоўтую. Накапаю, як зямля падсохне.

— Гэта добра, што фарбы шукаеш зямныя. Яны цёплыя. Але заглянем у краму да Хаіма, ён, можа, прывёз заводскія, акварэльныя, якімі пішуць на вадзе. Я яму заказваў.

Прыехаўшы ў Друцак, лейцы ўзяў Неўраў і завярнуў да рынка, дзе стаяла тая крама. Кабылу прывязалі да плота, узышлі на ганак і, як пераступілі парог, адразу ў насы дало цяжкім духам газы, дзёгцю, лямцу ад хамутоў ды сядзёлак, што віселі на сцяне, кіслай капустаю і яшчэ чымсьці незразумелым. За вагамі стаяў гаспадар, малы і круглы, як бочачка, адпускаў дзвюх цётак у чырвоных, нібыта вараныя ракі, кажухах, штосьці ім клаў у мех, і калі тыя з мехам адышлі да парога, перавёў позірк на мужчын:

— Пане Неўраў? Вы на мяне забыліся. Не заглядалі з восені. За што пакрыўдзіліся?

— Чакаў, калі ты, Хаім, накажаш праз свайго чалавека, каб я з’явіўся па тавар. А ты маўчыш.

— Вой, я добра памятаю, што вы ў мяне пыталіся. Бываў гэтай зімою ў Воршы, бываў у Мугулёве, нідзе няма вашых фарбачак. Ці я б не прывёз, калі б знайшоў? Па гэтакі тавар, кажуць, трэба ехаць у царскія сталіцы. Але як мне туды даехаць? Няма ўжо таго клёку, што быў. Можа, як пацяплее. А цяпер ёсць селядцы — вышэйшы гатунак. З бульбаю — пальцы абліжаце. Шмалец бяжыць як з панскага кабана.

Хаім ужо кідаў селядцы з бочкі, што стаяла пад рукою, у глыбокую бляшанку, кожнага паспяваючы паказаць Неўраву, па ягоным твары ўгадваючы, ці шмат яшчэ кідаць. Страсянуў бляшанку, каб селядцы ўлегліся, і яшчэ дабавіў.

— Бярыце поўную пасудку.

— Ну што ты, Хаім? Твая пасудка большая за вядро. Мне фунтаў пяць, сем.

— У вёсцы як знойдзеце. Дзе яшчэ ёсць гэтакія селядцы? Тлустыя, як мая прыгажуня Хайка.

Паставіў на вагі бляшанку, з другога боку паставіў гірку.

— На адну гірку ці на дзве?

— А што ў цябе за гірка?

— Тут гірка — меншая не бывае. Дзве гіркі — дзесяць фунтаў. Што гэта вам, вялікаму чалавеку? На тры дні. А як пад чарку? Ды калі ў хаце госці? Купцы да вас прыходзяць па карціны? Мне казалі, што няма адбою. Гэта праўда?

— Праўда, Хаім. Цябе чакаю.

— А што? Я люблю прыгожую карціну. І мая Хайка…

— Ну, Хаім! Да цябе зойдзеш — з пустым кашальком выйдзеш.

— Паглядзіце вы на гэтую рыбу, — ён языком злізваў з рукі тлушч, прычмокваючы тоўстымі губамі.

— Увесь цымус зліжаш, мне не пакінеш.

— Вой, што вы кажаце?

— Ну, калі заважыў… Але ў што загорнеш?

— Усё зраблю, як робіць мая Хайка. Вы не ведаеце маю Хайку?.. Што за баба!..

Тут Неўраў не ўтрымаўся ад жарту:

— Не знаём, магу адбіць.

— Вам трэба баба, каб вас на руках насіла. — Не пра Хайку ўжо думаў Хаім. — Што яшчэ? Солі? Цукру? Белай мукі на Пасху? Пасха блізкая. Нашы жыдоўскія кучкі халодныя, а ваша Пасха цёплая. Наліць алею? Ёсць сланечнікавы, ёсць ільняны. Вам, ведаю, ільняны. Налью ў сваю пасудку. Ёсць штоф, ёсць чвэрць. Алей мастаку трэба і ў бульбу, і ў фарбачку. Я гэта ведаю.

Неўраў задумаўся, колькі браць алею, бо сапраўды патрэбны, а Хаім яго задумлівасць заўважыў і ўжо трымаў над вядром чвэрць, укінуўшы ў гарляк бляшаную лейку.

— Угаварыў.

Яшчэ паклалі на вагі кулёк мядовых пернікаў ды кулёк цукерак, ледзянцоў. Неўраў сунуў кулькі хлопцу ў рукі, за ўсё разлічыўся, узяў з прылаўка загорнутыя ў тоўстую паперу селядцы ды чвэрць з алеем, падзякаваў Хаіму і следам за Міхасём выйшаў з крамы. Ад яркага сонца зажмурыўся, спыніўся, — а калі расплюшчыў вочы, Міхась ужо стаяў з479 кулькамі каля брычкі. Падышоў, спытаў, што яшчэ шукаць у крамах. Хлопец нясмела пацiснуў плечукамі.

— Хлеб патрэбны? Зіма з усіх мяхоў павытрасла, а да новага далёка. Так ці не?

— Ды так. Але…

— Грошы на хлеб знойдзем.

Мука была ў Хаіма, ды вяртацца не хацелася. Яшчэ адна блізкая крама стаяла каля царквы на пляцы — пад’ехалі туды. Царква праз пляц аж уся свяцілася, пабеленая, дзверы на высокім ганку былі адчыненыя, і Неўраў, пакінуўшы хлопца каля брычкі, падаўся брукам на той бок пляца. З прытвора, як зайшоў, заўважыў у бакоўцы дзве галавы за канторкаю, асветленыя ў паўзмроку ад свечкі. Пазнаў і маладжава-чарнявага, з дагледжанай бародкаю айца Максіма, і сівенькую матушку, якая з купы манетак пальцам адсоўвала ўбок па адной кружэлцы і шэптам прамаўляла падлікі, а бацюшка запісваў у сшытак. Ад свайго занятку яны не адарваліся, але пачулі, як нехта зайшоў, стаяў блізка, бо калі матушка шапнула яшчэ раз, а бацюшка яшчэ раз занатаваў у сшытак, спачатку яна, а потым і ён павярнулі галовы ў бок Неўрава. Бацюшка падняўся з-за канторкі, і Неўраў заўважыў, як у гэты час яна сунула яму ў бакавую, пад рукой, кішэню будзённай цёмнай рызы жменьку напэўна грошай, бо іншага ў яе руцэ нічога не было. Айцец Максім жаночае рукі як не пачуў, а Неўрава пазнаў. Падышоўшы, блаславіў нагрудным крыжам і сказаў:

— Гасподзь міласэрны і шчодры, але я не чакаў вас бачыць у гэтакі дзень і час, калі ў царкве, — развёў рукамі, — не гучыць слова Божае.

Неўраў адказаў як хрысціянін:

— Душа заўсёды чуе Бога.

— Так, Мікалай Васільевіч. Ваша душа заўсёды чуе слова Божае. Я гэта ведаю. Але бачу, што вы невыпадкова завіталі ціхім часам.

— Вы не памыляецеся. Я ехаў, каб вас убачыць.

— Тады будзьце ласкавыя даць мне колькі хвілінак, каб закончыць размову з матушкай. Далёка не адыходзьце.

Неўраў выйшаў на ганак. Хлопец стаяў каля кабылы, даваў ёй з рукі сена, а ў брычцы, падлятаючы і адлятаючы, пасліся вераб'і. Спусціўся з ганка, пад ліпай сеў на лаўку. З'явіўся і айцец Максім. Памкнуўся перад ім падняцца, але той прытрымаў за плячо, сеў побач.

— Я не забыў, як вы казалі мне, што маеце жаданне прыехаць паспавядацца.

— Дзякую, што памятаеце. Гэта так. Але сёння я не гатовы да споведзі. Прыеду іншым разам. Ёсць і жаданне, і неабходнасць. Мне трэба падрыхтавацца.

Неўраў замоўк, задумаўшыся, з чаго пачаць пра свой галоўны клопат, які прывёў сюды, а бацюшка заўважыў напругу яго думкі і нерашучасць, прадоўжыў сам размову:

— Цяпер гэта не ад кожнага пачуеш. Маладыя таго не ведаюць, што, калі ідзеш на споведзь альбо памаліцца Богу, паслухаць пропаведзь, трэба падумаць загадзя, куды ідзеш, з якім адчуваннем, ці шчыра, па якое слова, ці прагне слова Божага твая душа. Быццам не ведаюць, што ад Госпада нішто не схаваеш. З амбону кожны раз кажаш: трымайцеся Госпада, будзьце вартыя яго любові. А што людзі? Адно чуюць, другое робяць. Вы, ведаю, не за аднаго сябе просіце ў Госпада. І вам Гасподзь дае, не адмаўляе. Ён чуе вас.

Неўраў здзіўляўся, як далікатна айцец Максім пранікаў у яго настрої, як чытаў, не памыляючыся, яго думкі. Цяпер быў зручны момант спытаць пра тое, што прывяло сюды, пра тых, за стагоддзямі, рабоў. Але сустрэчнае пытанне апярэдзіла:

— Як ваша мастацтва?

Неўраў адказаў без ахвоты:

— Плача.

Схіліўшы да пляча галаву, бацюшка ўважліва глядзеў яму ў твар, як разглядаючы штосьці на ім напісанае, чытаючы патрэбны яму падтэкст скупога вымаўленага слова.

— Даўно маю жаданне заглянуць да вас у вёску, пацікавіцца, што новае вы напісалі. Усё не адважваюся. Каб не падумалі, што гэта я раблю па абавязку службы, як духоўны пастыр. Бачыць Бог — гэта не так. Я ведаю, якая тонкая справа — мастацтва, як неахвотна мастак паказвае свае работы, калі ёсць рызыка, што чалавек іх не зразумее, тым больш работы незавершаныя.

Неўраў сядзеў, паклаўшы рукі на калені, глядзеў паміж іх у зямлю.

— Няма што паказваць.

Павярнуў галаву да бацюшкі. Іх позіркі сустрэліся — абодва насцярожаныя, але спагадлівыя.

— Вы чалавек сціплы, і я вам не суддзя. Але мяне можа парадаваць звычайны пейзажык. Вы ў нас гадоў ужо восем?

— Ды ўжо дзесяць. Болей.

— Душа творцы маўчаць не можа. І думка ў яго не спіць, заўжды працуе. — Бацюшка разважаў не пра душу наогул, а пра канкрэтную душу, і гэта Неўраў ведаў. — Што замінае вам адкрыцца мне?

Неўраў адчуў, як суразмоўнік спакойна заганяў яго ў кут. Спачатку нагадаў, нібыта выпадкова, пра жаданне прыйсці на споведзь, потым пра тое, як спавядаюцца, бывае, людзі, не адчуваючы Бога, і вось не без падстаў засумняваўся, ці здольны шчырым быць на споведзі мастак? Прызнаўся, што не гатовы, але не сказаў, што за прычына.

— Мне сапраўды няма што вам паказваць. — Неўраў прамовіў гэта з адчуваннем, што сказанага ім раней недастаткова, бо праўда там не ўся і ў размове з айцом духоўным патрабуе большага. — За гэтыя гады я напісаў жахліва мала, але мне цяжка не пагадзіцца з вамі: душа маўчаць не можа. Яна або працуе, або марнее. Стварае або сваё стварэнне, яшчэ ў зародку, душыць і памірае разам з тым зародкам. Мастак не выбірае. Ён згарае.

— Шкадую, што мала ведаю ваша вясковае жыццё.

— І што мастак няшчыры з вамі? — раптам вырвалася ў Неўрава тое, што адчуваў у думках бацюшкі.

Айцец Максім глядзеў міма яго на купалы царквы, крыжы, на хмары ў небе, нібы адтуль чуў голас, і ў той бок прамовіў:

— Шчырасць — дар Божы, як і мастацкі талент. Вы мне раней казалі, што хочаце знайсці тут, у вёсцы. Я быў тады ад вас у захапленні, думаў, якое шчасце для вёскі мець пад сваёй страхою гэтага светлага адукаванага чалавека.

— То было першае ўражанне.

— Яно не памылковае. Але што здарылася? Вы не знайшлі ў нас сюжэтаў, вобразаў? Расчараваліся ў людзях? Я ведаю, што палюбілі нашу прыроду, перад сялянамі адчынілі ўсе свае дзверы і сваё сэрца, што вёска паважае вас. Дык што здарылася? Вам тут няма каго пісаць? — Бацюшка замоўк і раптам настойліва, бо неяк запаволена, спытаў, углядаючыся ў твар мастака: — Няўжо?

Ён увесь час то гаварыў, то замаўкаў, даваў, як чалавек культурны, магчымасць мастаку выказвацца таксама, і Неўраў не

маўчаў. Але апошняе старанна вымаўленае пытанне падняло яго з лаўкі. Калі побач падняўся і бацюшка, сказаў:

— Шчырасць патрабуе шчырасці. — Азірнуўся і затрымаў пагляд на дзвюх жанчынах, якія стаялі за спіною, абедзве пазіраючы на бацюшку, чакаючы напэўна моманту, каб падысці.

Святар яго зразумеў:

— Тут не лепшае месца для нашай размовы. — Узяў мастака пад руку, прайшлі па брукаванай дарожцы ў другі канец.

Неўраў спыніўся. Затрымаўся і бацюшка.

— Дазвольце адно пытанне?

— Што вас хвалюе?

— Вы чалавек тутэйшы, шмат ведаеце пра гэты край. Чыталі, магчыма, або чулі ад начытаных людзей, што за далёкім часам у Друцаку быў вялікі рынак рабоў?

Дагэтуль жывыя, вочы бацюшкі пахаладнелі, схаваліся пад векамі, глядзелі як у сябе.

— А вы пра гэта чулі альбо чыталі?

— Чуў ад Лупандзіна.

— Ён тое казаў і мне. Але шукаць трэба крыніцы больш аўтарытэтныя. Пан хоча апраўдаць сваё права на жорсткасць.

— Мяне цікавіць край у мінулым.

— Як мастака? Я думаў, што вас хвалюе жывая сучаснасць?

— У сучасным жывуць цені мінулага. Ды і не толькі цені. Калі ў абліччы хрысціяніна я бачу пакору, мне трэба ведаць, гэта пакора Цару Нябеснаму альбо цяльцу зямному. Кротасць — благадаць Божая, а пакора пану?..

— Бог апякуе свецкую ўладу.

— І тую, якая забывае, што яна ад Бога? Яшчэ прарок Майсей сказаў пра гэта не толькі словам, але і мечам.

Цяпер ужо і бацюшку нялёгка давалася размова з мастаком. Нібы ратуючыся ад яго пытанняў, прапанаваў:

— У вас ёсць жаданне зайсці ў маю бібліятэку? Яна невялічкая, але штосьці цікавае там знойдзем.

Яны ўвайшлі ў царкву і вузкаю, крутой, з парэнчай лесвіцай падняліся на другі паверх. У канцы змрочнага калідорчыка былі яшчэ дзверы. Зайшлі ў пакойчык, падобны на манаскую келлю з адным вузкім акенцам, тоўстымі сценамі, нізкім арачным скляпеннем. Пры акенцы стаяла канторка, з двух бакоў ад якой узвышаліся паліцы з кнігамі.

— Што ёсць наш беларускі край? — прамовіў бацюшка. — Вось Салаўёў, вось Тацішчаў. У іх гэта Заходні край імперыі.

Але ёсць еўрапейскі геній Адам Міцкевіч і для яго гэта — Літва. Русь Белая, Русь Малая, Русь Маскоўская — яны сёстры, ці сярод іх ёсць матка, як у пчол, адна на рой? Калі так, то каторая?

Неўраў спытаў:

— А ёсць Каніскі? Ён быў, здаецца, бліжэй за іншых гісторыкаў да манастырскіх летапісаў?

Бацюшка паставіў на паліцу кнігу, якую трымаў у руках.

— Вам раіў Лупандзін?

Неўраў змоўчаў. Бацюшка пранікліва прымружыў вочы і заўважыў, што кнігі Лупандзін любіць як сваю прыгожую мэблю, бо, маючы шмат сабак, не мае часу чытаць. Падтрымліваць размову пра пана Неўраў ахвоты не меў і заўважыў, што ў Магілёўскім манастыры багатыя архівы, якіх, на шчасце, татары не спалілі, бо не дайшлі сюды, і тыя скарбы апынуліся ў руках архіепіскапа, які ведаў ім цану і карыстаўся імі, калі пісаў гісторыю русаў.

— Гэта так, але не забывайце, хто ставіў на пасад архіепіскапа ў Магілёве. Вось… трымайце, — бацюшка падаў штосьці падобнае на кнігу, загорнутую ў тоўстую шэрую паперу, адразу папярэдзіўшы: — Чытаць будзеце дома. Тут не шмат знойдзеце пра Друцак, але будзе над чым падумаць. Друцак меў волю і славу, калі ў ім княжыў Рагвалод, князь з Полацка, бо на пасад яго тут ставіў народ і князь яму служыў верай і праўдай. Пры ім друцкія воі моцна білі і полаўцаў з Канчаком-ханам, і ноўгарадцаў з князем Ігарам, хоць невялікае было і княства, і войска. А рабства? Яго Друцак зведаў ад Глеба, князя менскага. Пазней дзвесце гадоў пад Польшчаю ды дзвесце пад Масквою — хіба там воля? Паны заходнія, паны ўсходнія — каторыя з іх лепшыя? Спытайце ў Гіры.

— Гіра маўчыць. Стары, глухі.

— Вы зможаце яго раскалыхаць. А я пасоблю.

Бацюшка выйшаў з пакоя і хутка вярнуўся, трымаючы штосьці яшчэ, загорнутае ў газету. Пацікавіўся, дзе ў госця глыбейшая кішэня. Здагадаўшыся, што ў яго ў руцэ, мастак з усмешкай расшпіліў паліто, і той дакладна, як у сваю, сунуў гасцінец у кішэню.

Каля брамы, развітваючыся, ён успомніў сваё пытанне, пакінутае Неўравым без адказу:

— Дык што ў вас здарылася?..

Неўраў меў што адказаць яму аднаму, бо толькі ён мог зразумець тут мастака.

— Калісьці, сюды прыехаўшы, я пачуў ад Лупандзіна, што мужык не разумее мастацтва.

— І вы з ім пагадзіліся?

— Не мог. Не мог рашуча. Я заўсёды быў перакананы ў тым, што селянін, які жыве ў прыродзе, прыродаю выхоўваецца і корміцца, ад яе вучыцца рабіць тое, што робіць яна сама, араць і сеяць, карміць пладамі сваёй працы людзей, звяроў і птушак. У аснове гэтай працы ляжыць высакародная краса, без якой нішто разумнае і жыватворнае не існуе, яе гармонія.

— Тады чаму вас занепакоіла глупства Лупандзіна? — спытаў бацюшка, адчуўшы хваляванні Неўрава.

— Так, занепакоіла. Спачатку не вельмі, як глупства, а потым мацней. Вы ведаеце, што генерал Чарняеў марыў стварыць у Тубушках мастацкую школу, для дзяцей. У нас з ім была дамоўленасць, што я ў гэтым пасоблю. Але ажыццявіць сваю мару ён не паспеў. Пасля яго смерці за гэтую справу ўзяўся я. Школа магла працаваць у маім доме ў Лыскаўшчыне. Але сяляне не пусцілі да мяне сваіх дзяцей. Мы з вамі ведаем, як дзеці з ранняга маленства любяць маляваць, як востра яны адчуваюць красу ў прыродзе і хочуць самі яе ператвараць. Я хадзіў па хатах, казаў бацькам, чаму дзеці навучацца ў школе, што са школы яны панясуць па сем'ях святло і радасць. Не атрымалася.

— Сялянскія дзеці заўсёды ў працы. Бацькі баяцца, каб школа не адарвала іх ад гаспадаркі.

— Я даводзіў, што заняткі будуць у той час, калі дзеці вальнейшыя, не кожны дзень, па святах, у час вячэрні. Не, пусцілі чутку, што я нядобрае задумаў. І ад каго чутка пайшла? Ад Аўгіні, жонкі Пракопа. Ну, хто б падумаў? Пракоп — пісьменны чалавек, гаспадар, мы з ім сябруем. А жонка? І не дакажаш. Яна цябе слухае — маўчыць, сваё думае. А мужыкі яе слухаюць, бо да Пракопа ідзе кожны то па каня, то па казённай справе, як нелады з судом ці з панам, каб даў параду. Я сапраўды, як вы сказалі, усім адчыніў дзверы свайго дома. У мяне няма замкоў. Іду хоць і надоўга, у лес, еду ў Талачын ці Друцак, а дзверы не зачыняю. Кладуся спаць — не зачыняюся. Думаў, што людзі будуць заходзіць у дом, глядзець, што я пішу, мае карціны, хай бачаць, што ў іх нічога злога, нічога кепскага. Глядзіце, кажу ім.

— І мужыкі да вас ідуць.

— Ну, так, ідуць, — пацвердзіў Неўраў. — Не д'ябал. Без рагоў, з Богам жыву. Чаго мяне баяцца? Але ж як і па што ідуць? Са скаргаю на пана, на чыноўніка. Каб пазычыў галоднаму ці пагарэльцу. Там — кароўка здохла, на полі няўрод. Ратуй ка-

пейчынай, кавалкам. Я кожнага ў сваю майстэрню прывяду, за стол пасаджу, на стол пастаўлю, пакладу ў сподак. Галодным не адпушчу. Але дзіўлюся. Кожны будзе казаць пра сваю бяду альбо маўчаць, і ніхто не пацікавіцца, а як жа ты, мастак, жывеш, працуеш, што ты тут робіш, што малюеш? Ніхто ні разу, акрамя вас, зайшоўшы ў майстэрню, не папрасіў, каб паказаў свае работы. Бывала, ведаючы, што хтосьці прыйдзе, раскладзеш эцюды, замалёўкі, што на сцяну павесіш, чалавека ў майстэрні за стол пасодзіш, слухаеш яго, глядзіш на яго, назіраеш, ці ёсць у яго цікавасць да тваіх работ. Не, няма. Вока халоднае — не грэе. Сядзіць мужык перад табой — як спіць. Не паглядзіць ні мастаку ў твар, ні на карціну. А гляне на сцяну ці на мальберт, дык вока не зачэпіцца, не спыніцца на момант, каб зацікавіла, адскоквае, нібы гарох ад сценкі. Што гэта? Адкуль? Ад страху? Ад ледзяной душы? Тады зноў думаеш пра тое, што казаў Лупандзін: мужык мастацтва не разумее. Няўжо?

— Ну, а Параска? Яе вока на мастака такое самае?

Неўраў адчуў, што не выпадкова бацюшка сваю ўвагу ў слове перакінуў з мастацтва на мастака. Не пакрыўдзіўся, прыняў тэкст і падтэкст пытання.

— Ну, так, Параска іншая. Яна штодзень бывае ў доме, бачыць маё жыццё, работы, працу. Яна гаворыць з мастаком і пра жыццё, і пра мастацтва. Як можа гэта не ўплываць на чалавека?

— А вам не здаецца, што жанчына на ўсё, што ёсць мастацтва, у любой форме, адгукаецца хутчэй, глыбей, смялей, як мужчына?

— Жанчына жыве больш сэрцам, а мужчына — галавою. Хоць гэта і не заўсёды так. У Лыскаўшчыне ёсць Параска, а ёсць Пракопава Аўгіня. Я пішу эцюды з яе сыноў, з яе мужыка, а яна кажа па вёсцы бабам, што я д’ябал. Ну, як пра гэта не думаць?

Тут Неўраў першы раз убачыў, які прыгожы ў бацюшкі твар, калі ён, хаваючыся ў бараду, смяецца.

— Вам не пашанцавала на вёску, — сказаў ён ужо сур’ёзна. — Каб вы жылі ў Друцаку, у вас былі б святлейшыя настроі. Тут людзі ўсялякія. Або Тубушкі — там заўсёды былі дабрэйшыя паны, дабрэйшыя і мужыкі. А ў Грыбіне ды Лыскаўшчыне паны былі заўсёды лютыя, любілі, каб мужык на іх задарам працаваў, і мужыкі былі бяднейшыя і злыя…

Калі Неўраў вярнуўся да брычкі, кабыла драмала ля плота, заплюшчыўшы вочы і какетліва сціснуўшы ў губах шматочак сена, а Міхась сядзеў у брычцы, утульна паклаўшы галаву на цёплую аўчыну каўняра, жмурыўся насустрач сонейку ды пазіраў на сінічак, якія падляталі да кабылы, садзіліся ёй на спіну, на

грыву, дзюбкамі штосьці знаходзілі ў поўсці, палахліва адляталі і прылятаілі зноў. На каленях у хлопца ляжалі крамныя кулькі.

— Ці салодкія ж у Хаіма пернікі? — спытаў Неўраў.

Хлопчык пацісннуў плечукамі.

— Яшчэ не частаваўся? Ну, ты цярплівы. — Сунуў кнігу ў сена пад лаўку. — Давай смакаваць, што за мёд. — Адвязаўшы лейцы ад плота, сеў у брычку. — Куды цяпер паедзем?

— Не ведаю.

— А я ведаю, дадому вернешся, сядзеш за стол, мамка ці дасць акрайчык хлеба да капусты альбо крупені?

Нарэшце хлопца разгаварыў:

— Добрага хлеба не пяклі ад Калядаў. Няма ўжо ні мякіны, ні вотруб'я. З адной бульбы хлеб цяслявы, салодкі.

— Дык пашукаем добрага.

У краме на рынку ў мяхах і на вагу была аржаная мука, і Неўраў, падумаўшы пра тое, што не ў адной Міхасёвай хаце зіма павымятала з сусекаў ды мяхоў, акрамя круглых баханак купіў мех жытняй мукі, а ўспомніўшы пра Пасху, зважыў і яшчэ паўмеха пытляванкі. Цяпер ужо можна было вяртацца дадому, але брукаванка павяла на гарадзец. Пакінуўшы кабылу пад дрэвам, узышлі на закіданы валунамі курган да вялізнага, з бервяна, крыжа. Тут Неўраў адразу ўспомніў, як каля гэтага крыжа стаяў з Чарняевым. Пазнаў і роў за крыжам, і рэчку ў лагчыне, налітую вірлівай веснавой вадой. З лагчыны, з-за ракі, зноў чуў знаёмы гоман.

— А ты ці чуеш? — спытаў у Міхася.

— Што?.. Вада ў рэчцы скача па каменнях.

— Гамоніць не адна вада. Аблога вояў, косці вояў. Вясна іх будзіць у зямлі. Паводка будзіць. Цяжкія былі тут бітвы.

Мастак чуў гоман з равоў, з логу, з поймы, з кургання, дзе некалі быў горад, ужо думаў, як напаіць усім гэтым гоманам прастору палатна, як выявіць яе ў колерах, з каго вояў ляпіць. З каго — не бачыў. Цяпер — як і раней, як усе апошнія гады: з'яўляліся сюжэты, тэмы, вобразы ўспыхвалі ў галаве і ў вачах, як зараз тут, на гарадцы, а не знаходзіў, з каго кампанаваць карціну. З мадэлямі для гістарычных сюжэтаў заўсёды былі цяжкасці. Але вялікі горад — Вавілон. На вобраз Рамана Галіцкага знайшоў у Маскве п'янчугу на Хітровым рынку, і князь удаўся, усе прызналі, нават Стасаў. П'янчуга мог быць князем? Выходзіла, што мог. А воем — парабак, халоп? Няўжо — не мог? Мадэлі бачыліся ў снах. І браў адтуль — пісаў. Гэта заўважыў Стасаў. Абурыўся. Абурэнне — не доказ, што заганны метад. І ўсё ж —

не для старога мастака. Патрэбная сіла ўяўлення, а ў старога якая сіла? Старому без жывой мадэлі вобраз не свеціць. Як быць? Пісаць вояў з парабкаў?

Не першы раз на гарадцы ў Друцаку пра гэта думаў. Карціну адчуваў яшчэ як прыязджаў з Чарняевым. Бываў тут і пазней, адзін. Падоўгу на камянях сядзеў. Па ўяўленні пісаць мог горад, панараму, але не вояў буйным планам. І не халодным сэрцам, не лжывай думкай.

— Вы што казалі? — пачуў каля сябе хлапца.

— Я?.. Бачу. Думаю.

— Вы рэчку бачыце?

— І вояў. Блішчаць на сонцы пікі, мячы, шчыты, шаломы. Варожая там сіла.

— А тут, дзе мы стаім?

— Тут горад Друцак. Крэпасць з астрогам-вежай, абнесеная высокім, з круглага бярвення, тынам. Пляц цёсам мошчаны. Тут воі князя Рагвалода. Добры быў князь. І воі былі моцныя. На пляцы горны кавалёў. Мячы гострацць агнём. Каля горнаў воі клянуцца біцца за волю, галоў не шкадуючы. Там клятва на мячах. Святая клятва вояў.

Уважліва слухаў Міхась. Цікава было слухаць.

— І мы таксама тут, дзе клятва на мячах?

Неўраў узяў хлопца за плячо, прытуліў да сябе.

— Мы тут, дзе князь і яго воі, нашы браты, бацькі, дзяды. Дзе ж яшчэ месца мастакам, як не з сваім народам? Мастак заўсёды там, дзе родны край.

У Лыскаўшчыну вярталіся той самаю дарогай, але цяпер яе трымалася кабыла, не чуючы лейцаў. Яны хоць і былі ў руках у Неўрава, але на іх ён не зважаў, як не зважаў і на дарогу, на кабылу. Перад вачыма плылі ў цёплым мроіве палеткі, блішчаў і ззяў на сонцы метал шчытоў, кальчугаў, мячоў, шаломаў, конскай збруі, агонь выскакваў з горнаў і молаты з кавадлаў сыпалі агнянае насенне. Каля агню ў яго чырвоных водблісках з жалезам над кавадламі гулялі маладыя кавалі ў пунсовых фартухах з таўстой валовай скуры. За кавалямі ўгару тырчэла вежа над дзядзінцам, вышэйшая за тын, на вежы стаялі барабаны, падобныя на бочкі, і ў скуру, напятую на тыя бочкі-барабаны, воі гахалі драўлянымі молатамі. З-пад молатаў вырываліся, як з зямлі, глухія гукі, ляцелі па гарадцы, збіраючы народ на веча. Князь сядзеў на баявым кані ў светлай, нібы са срэбра, кальчузе з мечам каля сцягна, з адкрытаю, без баявога шалома, галавою. І недзе яшчэ вышэй звінеў метал, як хтосьці з вояў у

жалеза гнёў жалезам. Усё навокал гуло, звінела, са скрыгатам ды воклічамі рухалася, і тыя гукі вялі кудысьці не адных людзей, а ўсё жывое, што дыхала, што мела і не мела вагу ды сілу, нават і колеры, святло ды цені, паветра. Святло ды цені не толькі выяўлялі матэрыяльную і духоўную прастору, яе напругу, пластыку, але і тое ўсё, што ў адну жывую плынь ядналася ў прасторы. Усхваляваны бачаным, мастак не мог ні думаць, ні гаварыць пра штосьці іншае. Усё, што ўяўляў ды бачыў, як жывое, чым быў уражаны, ён вёз у сваю майстэрню, і ані каліва з таго, што вёз, не мог згубіць. Усё тут было яму патрэбным, значным, высокім. Адна хіба што думка ўсплывала не ў час, паспешлівая, — пра палатно, падрамнік: якія быць павінны — на сажань ці на два? Восіп рабіў любыя, але, пакуль ён зробіць, каб думка і настрой не спапялелі? Адразу паставіць на мальберт любы падрамнік ды працаваць над эпізодам ці фігурай? Пісаць хоць Гіру каля кавадла з молатам, хоць Рагвалода сярод вояў? Але… князя — з каго? З якой мадэлі? А вояў? Іх — з парабкаў ляпіць?

Кабылка бегла вясёлая. Дарога з абодвух бакоў кацілася мала дзе лясною заценню, больш пад сонцам паміж палеткаў, а неўзабаве высвеціўся і дробны, на журавінавых балотах, карлюкаваты бярэзнік — блізка была вёска. За балотам ды бярэзнікам пачалося панскае поле, незаворанае з восені. У канцы поля з сонечнага мроіва выплыў запрэжаны ў драбіны дробны конь ці бык — чырвоны, з белай галавою. Абедзвюма рукамі трымаючыся за драбіны, пад сонейкам стаяла старая прыгорбленая жанчына. Яе заўважыўшы, Міхась усхапіўся, каб саскочыць з брычкі, ды Неўраў узяў за руку, спыніў кабылу.

— Баба! Чаго ты тут? — закрычаў хлопец, падбягаючы да старой.

Тая сляпілася, не пазнаючы.

З бярэзніку выйшаў мужчына: у адной руцэ трымаў таўсты і доўгі кол, у другой — сякеру. Па чорных абвіслых вусах ды чорным, як вусы, кажусе Неўраў пазнаў Міхасёвага бацьку — спытаў:

— Утапіўся?

— Ядры яго калена, — прабурчэў той.

Бык касіў з-пад ворчыка чырвоным злосным вокам.

Аказалася, што мужык прывёз на поле гной, якім меўся сплаціць пану патраву, але з возам і з быком уваліўся ў глінішча — ні ўзад, ні ўперад. Цяпер цягаў з лесу галлё, кідаў пад колы, пад вось прасунуў жардзіну, шукаў канцом апору, каб падважыць,

быку пасобіць. Але жывёла стаяла па калені ў гліне, не магла ног вырваць, скрануцца з месца.

— Ты ж спачатку скінь з воза гной, — падказаў Неўраў. Мужык залез на воз, узяўся за вілы. Мастак тым часам выпраг быка. Калі ўжо гной ляжаў на зямлі, мужык і Неўраў узяліся з абодвух бакоў ад быка за пута, якое вісела на шыі ў жывёлы, галёкаючы, ірванулі ўперад. Бык не хацеў кранацца з месца. — Бяры, Міхась, дубец, хвашчы па ім штосілы. Ну, цоб-цабэ!.. Ну, пайшоў!..

Быка выцягнулі на дзірван. Неўраў адвязаў лейцы ад аброці на кабыле, склаў у дзве рэдзі, адзін канец прымацаваў да задняй восі брычкі, другі — да драбін, аглоблі ўскінуўшы на брычку. Міхась з бацькам сталі па два бакі драбін, каб уперціся, каню пасобіць. Неўраў узяўся за аброць.

— Ну, кабылка!..

Драбіны выкінулі на сухое лягчэй, як быка. Неўраў падышоў да гаспадара:

— Што ж ты загнаў жывёлу ў гліну?

— Бык малады, дурны.

— Бык дурны. А ты?.. Жывёлу не шкадуеш, дык пашкадуй сябе, старую матку. Як не паспеў гной вывезці па мёрзлай глебе, чакай, калі падсохне.

Хлопцу сказаў, каб пасадзіў бабулю ў брычку, сам ўзяўся адвязваць лейцы ад брычкі, ад драбін.

Едучы далей, Неўраў думаў, што нічога нельга загадваць наперад. З Друцака спяшаўся да палітры і раптам марока ў полі — іншыя пайшлі думкі: калі халоп, дык гэтакі ўсюды, ва ўсякай справе, хоць галава на плячах, а жыве не ёю — страхам. Зіму спаў, бо пан маўчаў, гной не прыспешваў абодвух, а як з суда прыйшла паперка — спалохаўся, прачнуўся.

Старая маўчала.

— Вы тут як апынуліся? На воз ды з воза гной кідаць?

На мастака яна глядзела вінаватымі вачыма.

— Я ўжо слепа. Якая ад мяне падмога.

Заехаўшы ў вёску, спыніліся ля Міхасёвай хаты. Хлопец саскочыў з брычкі, пасобіў бабулі злезці, павёў у двор. Неўраў ускінуў на плячо нялёгкі мех з мукою, панёс следам у адчыненыя варотцы. Ужо як выходзіў з сенцаў, убачыў гаспадыню. Яна стаяла, абапёршыся на вілы, у варотах хлява. Па расчырванелых руках ды твары, па чунях у гноі, па вілах і кучы, якая ляжала пасярод двара, блішчэла вільгаццю на сонцы, было відаць, ад якой работы жанчына адарвалася. Павітаўся, запыніўся на колькі

неабходных слоў, але ўбачыў, што Міхась ужо ля брычкі, паспяшаўся да яго. На рукі хлопцу паклаў два бōханы, загорнутыя ў сена селядцы, каб нёс у хату, сам падхапіў мех з пытляванкаю.

Ужо калі без меха выйшаў з сенцаў, яна стаяла пры варотцах.

— А за што ж вы гэта нам? — спытала, здзіўленая.

Ён усміхнуўся.

— Прыйдуць Параска або Восіп, муку падзеліце на дваіх, ім і сабе.

Пад’ехаўшы да свайго ганка, папрасіў хлопца адагнаць кабылу Пракопу, а сам зайшоў у дом. Скінуў паліто, пабеленае на плячах мукою, сеў на лаву і адчуў, як добра стаміўся. Прымружыў у стоме вочы і галасы пачуў. Адзін знаёмы, мужчынскі. Пра штоф адразу ўспомніў: дзе ён? Падняўся з лавы, з кішэні паліто дастаў, зайшоў на кухню, убачыў слоік са сцёртаю на тарцы рэдзькай. Уліў у рэдзьку духмянага алею, у кубак плескануў са штофа вадзіцы ад Максіма і з удзячнасцю падумаў пра бацюшку, Параску, Хаіма. А выпіў, дык нібы паглядзеў яшчэ і Гіру ў вочы. Прамовіў, усё роўна як той побач дыхаў:

— Прабач, што разгавеўся без цябе.

Адразу павяло ў галаве і быў заснуў. Але прыйшоў Пракоп. З-за пояса на світцы дастаў кнігу, загорнутую ў газету, паклаў на стол, не кажучы нічога. Неўраў падняў на яго вочы:

— Думаеш, я кнігу забыў? Не, не забыў. Яе пакінуў у брычцы, каб ты прынёс. Дык услужы яшчэ раз. Ідзі на кухню, вазьмі сабе келіх.

Наліўшы, сказаў:

— За кабылку. Хай доўга бегае.

— Застаялася за зіму. Прабегла — павесялела.

— Зіму хлопцы ад’ездзілі на кані?

— Маладыя, і конь малады. Старая кабыла халоднага паветра як нахапаецца, тады прастуда і гарачка.

— Як чалавек. Зіму і я адседзеў каля печы.

Пракоп не забавіўся, пайшоў, атрымаўшы за кабылу селядцоў. Неўраў наліў у лямпу газы, зняў шкло, каб працерці анучкай, ды заўважыў, што чыстае. З прыемнасцю падумаў, што сюды, як не было яго, наведалася Параска, бо Восіп лямпу не глядзеў, ніколі не запальваў святло ні тут, ні ў сябе дома, усё што трэба, добра бачыў маладымі вачамі ў цемені. Аднёс лямпу ў гасцёўню, сеў у крэсла, разгарнуў газету, у якой ляжала кніга. Звонку агледзеў — здзівіўся: ні вокладкі, ні назвы, ні аўтара, ушчэнт зачытаная, пажоўклая, на рагах счарнелая. На першай старонцы быў змест: усё пра вялікіх гетманаў Малой Русі. Была яшчэ прадмова невя-

домага аўтара пра тое, што кніга пісаная па летапісных архівах кафедральнага манастыра ў Магілёве мудрымі божымі людзьмі, што ў ёй выкарыстаныя архівы з манастыроў Малой Русі, з якімі Магілёўскі манастыр меў перапіску, шмат чаго з архіваў Пераяслаўскага манастыра, дзе ў манаскім пострыгу быў вялікі гетман Юры Хмяльніцкі, які захоўваў рукапісы свайго бацькі Зіновія ці Багдана Хмяльніцкага. Гісторыя Малой Русі ў кнізе пачыналася ад яе першага вялікага гетмана Лянцкаронскага і далей апавядалася пра жыццё, пераважна ў міждзяржаўных ды свойскіх інтрыгах ды бойках, вялікіх гетманаў Дзмітрыя ды Міхайлы Вышнявецкіх, Свіргоўскага, Богдана, Падковы і ўсіх астатніх. Спачатку Неўраў расчараваўся, бо не Малая Русь яго цікавіла. Але адчуў і тое, што не дарма бацюшка даў кнігу — штосьці тут павінен для сябе знайсці. Усё ж Малая Русь ад Белай не за гарамі, Палессе — адно на дзве Русі. Вялікае Княства Літоўскае ды Рэч Паспалітая — адна калыска двух народаў.

Думкі распальвалі ахвоту да кнігі, але надышоў час, калі святла з акна было ўжо мала, каб чытаць, не слепячыся, шануючы слабыя вочы, а лямпу запальваць было рана. Спыніўся ля акна. Яно глядзела на захад — за дрэвамі знікала сонца. Пунсовае вока свяціла ледзь-ледзь, але гэтакае святло давала настрой для роздуму, для ўспамінаў, для чакання, спадзявання, хоць не заўсёды мог сказаць, што і адкуль чакаў, на што і ў чым спадзяваўся.

Пунсовае вока за садам пагасла, як — не заўважыў. Ад неба яшчэ сеялася нейкае святло, але ўжо чужое, адбітае. Неўраў вярнуўся да кнігі, запаліў лямпу, сеў у крэсла і, не дачытаўшы прадмову, пачаў чытаць пра вялікага гетмана Касінскага. Быў час Уніі паміж цэрквамі каталіцкай ды праваслаўнай — знаёмы, бо вывучаў, калі пісаў карціну «Раман Галіцкі прымае папскіх паслоў». Адарваўшыся ад кнігі, убачыў князя ў парчы чырвонай з золатам, у сабалінай шапцы, з цяжкім мечам у руцэ, узнятым над галовамі паслоў, якія з'явіліся ўгаварыць князя, каб прыняў каталіцтва і тытул караля з папскім мечам святога Пятра ды гарадамі ў дар. Што князь на гэта? «Меч у папы як мой? — спытаў. І адказаў: — Пакуль мой меч пры мне, патрэбы не маю ў іншым і гарады бяру ў баях, як гэта рабілі мае продкі». Пра Унію чытаў раней, але ў гэтай кнізе былі звесткі, якіх нідзе не сустракаў. Унія абвяшчала роўныя правы абедзвюм цэрквам, а што адбылося? Адразу на саборным сойме, дзе яна прымалася, праваслаўным святарам, якія яе не падпісалі, абрэзалі бароды і тым ужо пазбавілі пасад і сану. Малая Русь не прызнала Унію

адразу. Гетман Касінскі выказаўся наконт яе каралю ды сенату: «у скуры лісы, але з ваўчыным горлам». Яго паклікалі ў Бярэсце быццам на Раду, але там замуравалі ў каменны слуп. Кароль даў загад войску польскаму заняць Малую Русь. Тады казакі выбралі сваім гетманам генеральнага есаула Налівайку і з палкоўнікамі паслалі ў Варшаву да караля на перамовы. Але там іх усіх загналі ў вялізнага меднага быка і на марудным агні зварылі. Пасля Налівайкі вялікімі гетманамі былі Сагайдачны, Трасіла, Паўлюга, Астраніца, Паўтаракажуха — амаль усіх напаткаў лёс Касінскага і Налівайкі. З жывога Паўлюгі ў Варшаве з галавы садралі скуру, зрабілі пудзіла і вазілі па Малой Русі, запалохваючы людзей. Астраніцу разам з гетманскімі палкоўнікамі схапілі ў Каневе і калесавалі.

Неўраў адкінуўся да спінкі крэсла. У вачах ад прачытанага зрабілася цёмна. Усхапіўся і выйшаў за парог.

Была ноч. Яшчэ не позняя, але ніводнага агню на вёсцы не свяцілася. У сялянскіх хатах не было газы, каб паліць лямпы, палілі лучыны, ад якіх было больш дыму, як святла, і толькі ў вокнах мастака яно гарэла.

Мастак стаяў на ганку і думаў: навошта яму ўсе тыя гетманы і тыя жахі? І разам з тым не мог доўга стаяць на ганку, калі ў пакоі на стале ляжала кніга. Яна вяртала да сябе, хоць і баяўся чытаць далей. Навошта? Гэтым пытаннем як адбіваўся. І ўсё ж вяртаўся і чытаў.

Лямпа свяціла. Газа ў ёй яшчэ пялёскалася.

Пасля Астраніцы Малая Русь абрала сваім гетманам магутнага Паўтаракажуха. Але ўсе казацкія войскі былі ўжо падначаленыя кароннаму гетману, які сядзеў у Варшаве. Па гарадах панавалі польскія ваяводы, кашталяны, камісары, старасты, зборшчыкі непамерных падаткаў. Яны рабавалі казацкія гаспадаркі, з цэркваў распрадавалі ды прапівалі абразы, крыжы, рызы, сціхары, пацiры. Каралеўскія шпікі шукалі па краіне вялікага гетмана, каб і яго закатаваць. Паўтаракажуха быў вымушаны пакінуць гетманскую сталіцу і хавацца ў лесе. Там і памёр. Каб палякі не адшукалі магілы гетмана, казакі пахавалі яго ноччу ў бочцы з-пад гарэлкі.

Прачнуўся Неўраў, седзячы за сталом. Галава ляжала на разгорнутай кнізе, лямпа пагасла. Дайшоў, хістаючыся, да ложка. За акном світала. Лёг пад коўдру, заснуў і другі раз прачнуўся, калі пачуў гукі за сцяной на кухні. Прыўзняўшы над падушкай галаву, спытаў:

— Параска? — У адказ голасу не пачуў. Гукнуў грамчэй, упэўнены, што яна блізка.

Параска выйшла з кухні, трымаючы ў руках вязанне з клубком ваўняных белых нітак. Ён працягнуў да яе руку, злавіў на пальцы з клубка нітку, паднёс да вачэй.

— Тваё прадзіва я пазнаю. Тонкае.

— А дзе вы яго раней бачылі?

— Хіба не пісаў цябе за прасніцай? Хіба не ты паказвала нам з генералам сваё мастацтва?

— Я тады з прасніцы падняцца не магла, ногі ад страху адняліся. Падумала: тут мне канец.

— Вачэй ад генерала не магла адвесці?

— Першы раз такога бачыла. Усё на ім блішчыць, ды яшчэ шабля на баку, рука трымаецца за шаблю. Ну, думаю, пакацілася мая галовачка. Бяды чакала, а тут вы раптам, адзін і другі, да нітачкі маёй рукамі пацягнуліся. Адразу лёгка стала.

— Сваім мастацтвам нас купіла.

— Сышліся з вамі як два мастакі.

— Пасядзі са мною.

Яна села, рукі з вязаннем апусціла на калені.

— Штосьці вы сёння доўга спалі?

— Позна чытаў. Ноччу маму сніў. Стаіць уся светлая, як прамень сонца, маладая, да сябе кліча, каб падышоў. А я, малы, іду і не магу да яе дайсці — ногі баляць. Гляджу на іх — яны ў крыві.

— Цяжкое перад сном чыталі?

— Як паляць на агні людзей. Жыўцом.

— Вой!.. Не кажыце. Нехрысці?

— Ды з вераю ў Хрыста.

— Якая ж там вера? Гасподзь гэтаму не вучыць. Яго вера — любоў да чалавека.

— А ты часам не вуніятка?

— Ды што вы кажаце? Барані Божа.

— Чаму? Кажуць, вера тутэйшая?

— Дзе вы такое чулі?.. Можа, Пракоп? Як я была ў дзеўках, казалі ета пра яго, а ён тады біўся. У яго раду як быццам быў нейкі вуніят. Ці тое шляхта? Ён, мабыць, усё ж, не наскі. Але ў яго вера наская, мужыцкая. Вам трэба ў яго спытаць.

— Не трэба, калі яму гэта не падабаецца. Ты лепш схадзі да Міцькі. Вазьмі з сабою мех пад муку. Бяры два мяхі. Там аржаная і пытляванка. Прывёз з Друцака ім і табе. Палову адсыпеш з аднаго меха, палову з другога. Ці пашлі Восіпа. Табе, можа, панесці цяжка.

— Несці не цяжка, як ёсць што несці. Але што ета вы надумаліся? За якія заслугі?

— Ніякія тут не заслугі. Як будзе ў цябе, дык і я не буду галодны. А ў Міцькі хлопчык слаўны. Трэба падтрымаць.

— Мой гаспадар учора абазваўся, ліст з Воршы прыслаў. Прыедзе сеяць. Дык прывязе, можа, шахцёрскага хлеба.

— Пакуль пачастуе шахцёрскім, ты павінна на стол свой падаць. Хіба не так?

— Ды так, вядома. Доля жаночая ад веку — падаць на стол мужыку. Ёсць ці няма.

Параска зайшла на кухню, пачала збірацца дадому. Зайшоў і ён. Загарнуў у паперу селядцоў, паклаў у кашолку дзве баханкі, наліў з чвэрці ў штоф алею.

— Гэта каб Восіп не злаваў. Ён селядзец любіць.

— А за што яму на вас злаваць? Добра зрабілі, што не ўзялі з сабою ў Друцак. Хоць сахор знайшоў, гной з хлява выкідае.

Калі Параска пайшла, Неўраў паклаў на сподак з рэдзькаю палову селядца, адкроіў ад баханкі лусту хлеба, лінуў у рэдзьку алею, сеў за стол, з'еў і ў печ ужо не палез шукаць бульбу. Далонню параўняў вусы ды бараду і ў лепшым, як быў, настроі падаўся ў сваё крэсла.

## ХТО Ў ДОМЕ ГАСПАДАР?

Яшчэ колькі дзён і начэй мастак не выпускаў з рук прывезеную ад бацюшкі кнігу. Як толькі за яе садзіўся ці адрываўся ад яе, дык і думаў, чаму бацюшка даў чытаць пра Малую Русь, калі прасіў пра Белую? Адчуваў у гэтым загадку не выпадковую, бо бацюшка не той быў чалавек, каб крок ступіць, не падумаўшы. Разам з тым не мог надоўга адарвацца ад кнігі, бо адчуваў у яе тэкстах руку не толькі гісторыка, а летапісца. Што ні гетман, то пакручасты сюжэт жыцця, казацкай прагі волі, бясконцыя ў змаганні за яе ахвяры. Лёс Хмяльніцкага ад малых гадоў, калі яшчэ быў валанцёрам пры мужным бацьку сотніку Міхайлу, да смерці, аплаканай народам, чытаў ды перачытваў, дзівіўся, як аддана служыў айчыне гетман, як рашуча вызваляў краіну ад чужынцаў, з якою моцнай верай у Хрыста гнаў з праваслаўных храмаў здрадцаў.

Чытаў — задумваўся: калі тое адбывалася на Малой Русі, дык што тады рабілася на Русі Белай? Адна была дзяржава, Рэч Паспалітая, адзін на ўсю дзяржаву ў Варшаве сядзеў кароль,

адзін быў сойм, была адна ад кароны ласка там і тут, у Малой Русі і ў Белай, але чаму ад тае ласкі ў Белай ціха, а ў Малой кроў бясконцая? Ці, можа, не было і ў Белай ціха? Што казаў Пракоп пра сваіх продкаў Хаму Войну і яго сыноў Яшку ды Цешку, калі Сапега, канцлер, сек мужыкам у Віцебску галовы, вешаў на шыбеніцах, панастаўляўшы слупоў рагатых у горадзе ды за горадам па бальшаках? За што чыніўся здзек з народа? Што мужыкі з-за веры ўзбунтаваліся і пад гарачую руку забілі ўніята? А ці магло гэта адбыцца на Малой Русі, каб гетман вешаў сваіх казакаў? Там хіба не гетманы вялі ў бой за веру, спаконвечную сярод усходніх славянаў? Хіба не гнаў Сагайдачны здрадцаў з самой Сафіі ў Кіеве? Было на Белай Русі паўстанне мужыкоў з Вашчылам супраць паноў ды гандляроў-жыдоў? Там — не за веру, там — за волю і за праўду. А чым закончылася? Ужо гетман Радзівіл саджаў на калы ды вешаў на шыбеніцах сваё паспалітае людства. У суседзяў тое магло адбыцца? Магло, як гетманамі былі Перавязка, Барадаўка, Кушка, пастаўленыя на гетманскі пасад не казакамі, а магнатамі ды каралём у Варшаве. Але чым закончылася іх гетманства? Здрадца Перавязка ўцёк ад казацкага гневу за мяжу, Барадаўку казакі расстралялі, а Кушка быў павешаны. Там права самім выбіраць гетмана адстойвалі не толькі ў дамовах з каралём, але ў баях, і таму гетман заўсёды быў з казакамі, служыў народу, змагаўся за волю айчыны. Двойчы пры Хмяльніцкім Польшча абвяшчала Малой Русі паспалітае рушанне, выстаўляла супраць яе па трыста тысяч войска на чале з каралём ды каронным гетманам. Гэтакага войска ў Хмяльніцкага не было, ён мог сабраць не болей за восемдзесят тысяч вольных казакаў, але ніводнай бітвы не прайграў, усіх, хто нёс у Малую Русь няволю, гнаў. І не чужынцы пісалі яму ўмовы міру, а ён пісаў, у тым ліку і Збораўскі мір: «Народ Малой Русі з усімі яе абласцямі, гарадамі, сёламі і з усёй іх маёмасцю вызваляецца ад усіх прэтэнзій Польшчы на вечныя часы як народ вольны, самабытны і нікім не заваяваны». А як годна трактат пачынаўся, гэтак годна і заканчваўся: «Межы Малой Русі прызнаюцца ад Чорнага мора ды лімана Дняпроўскага на поўдзень па Днястры, ад яго вяршыні да ракі Гарыні, ад Гарыні да Прыпяці, адтуль Дняпром да Быхава, далей да Сажа і Сажом да павета Смаленскага. А вярхоўны гетман выбіраецца ў народзе вольнымі галасамі, і чужынцу альбо супраціўніку гетманам тут не быць ніколі».

Слава пра Малую Русь, вольную ды непераможную, гуляла далёка па Еўропе, і панаехалі сюды ад іншых краінаў урадавыя дэлегацыі з багатымі дарункамі, і кожны пасол ад сваёй краіны

заманьваў казакаў да сябе ў саюз ды брацтва. Хмяльніцкі бачыў, што хоць краіна ў славе, але страты ад няспынных войнаў вялікія, шмат войска загінула, а з суседзяў, што дораць ды віншуюць, нямала тых, хто ўжо гострыць шаблі, не хоча мець побач Русь моцную, туркі з татарамі патрабуюць разам рушыць на княства Маскоўскае, каб забраць ханства Астраханскае, іначай пойдуць супраць Малой Русі. Сабраў гетман вышэйшыя казацкія чыны, дэпутатаў ад усіх палкоў, спытаў, з кім быць у саюзе. Пратэкцыю Польшчы казакі адмялі адразу: сытыя яе хлуснёй ды здрадаю. Быць з туркамі ды татарамі? А колькі казацкіх дзетак яны выкралі і прадалі ў рабства? Ісці з Масквою? Тут выступіў генеральны есаул Багун: «Народ маскоўскі — рабства непазбежнае, там нічога свайго, усё Божае ды царскае, там чалавек — раб, нават вяльможы ды баяры называюць сябе рабамі царскімі, перад царом б'юць у зямлю ілбамі, людзі паспалітыя прадаюцца як быдла, выменьваюцца на сабак. Жыць з гэтакім народам — як кінуцца з агню ў полымя».

Задумаўся зноў Неўраў: што за народ — казакі? Суседзі-мужыкі, як мужыкі ў Лыскаўшчыне, у Грыбіне, у Красулі? Зямлю аралі, сеялі, касілі, дзяцей гадавалі. Але і ваявалі, бо не хацелі быць ні парабкамі, ні рабамі. Жыццё чым вымяралі? Хіба кавалкам? Воляй! Бо ведалі: не будзе волі — не будзе і кавалка, жыцця не будзе. А тут, у Лыскаўшчыне? За дзесяць гадоў хоць ад каго пачуў пра волю?

Чытаў і разважаў пра волю тут і там.

Давёў Хмяльніцкі, што шляху іншага няма, угаварыў казакаў хінуцца да Масквы. Што атрымалася? Час тую дружбу высветліў, але пазней, калі ўжо Мазепа быў за гетмана, а Пётр — царом у Маскве. Цар не хацеў мець побач моцную Малую Русь, вольнага казака баяўся больш за шведа ці паляка. Таму і загадаў Мазепу скасаваць усе вольнасці казацкія, а войска мець рэгулярнае, як у яго. Тут і наскочыла каса на камень. Хоць цар быў грозны, але Мазепа быў казакам: воля казаку — мамка родная, за яе — хоць і на смерць. Цар ухапіў Мазепу за вусы. Вусоў не вырваў, але Мазепа цара са свайго сэрца выкінуў: вусы ў казака — тая ж воля. І як сышліся пад Палтавай войскі караля Швецыі Карла XII ды войскі цара Пятра, Мазепа абвясціў «нейтрал». Гэта быў мудры палітычны крок гетмана, як мудрым было і слова яго да войска і народа: «Браты! Мы стаім паміж дзвюх безданяў, якія нас праглынуць, калі не знойдзем шлях іх абысці. Манархі, што падышлі з вайной паміж сабою да нашых межаў, нясуць бездань зла сваім народам, а мы будзем цярпець ад іх абодвух.

Яны абодва дэспаты, якіх не ведалі ні Азія, ні Афрыка, і тут мы павінны добра падумаць пра сябе. Калі кароль пераможа цара, мы немінуча будзем прададзеныя ў рабства палякам, дзе на троне яго любімец Ляшчынскі, і лёс наш зробіцца горшым за той, што мелі ад палякаў нашы продкі. А калі пераможа цар, то беды прыйдуць ад цара, які любіць уладу бязмежную, карае ўсіх як сам захоча, на нас глядзіць як на быдла і сваё дзярмо. Мы не павінны ваяваць ні са шведамі, ні з палякамі, ні з Масквою, а павінны ўсімі сіламі бараніць Айчыну ад тых, хто хоча яе заняволіць, і аб сваім нейтрале заявіць каралю і цару. Бо што гэта за народ, які пра сваю волю не дбае? Гэтакі народ — блудная морда, брыдкая ўсім іншым народам…»

Неўраў сядзеў, чытаючы, як на гарачым вуголлі, і калі тое вуголле запякло нясцерпна, зноў усхапіўся. Усяго калацілі нервы, а ён іх супакойваў — хадзіў з пакоя ў пакой, кружыў вакол стала і паўтараў у думках, шэптам, як зноў чытаў ды перачытваў, ужо сваё:

— Што ж гэта за народ, які не хоча волі?.. Як няма волі — ці ёсць народ?.. Ёсць проста морды блудныя?.. Ну, так! — Сціснула грудзі. Паветра хапануў адкрытым ротам, на ўвесь бас зароў, нібы рвучы тую пятлю на горле: — Блудныя морды!..

Выйшаў на ганак, аддыхваўся, як доўга бег ці падымаўся на гару, вярнуўся ў дом, хадзіў вакол стала ў майстэрні, сеў у крэсла, падсунуў кнігу да сябе. Чытаў пра тую Русь, казацкую, а думкі зноў ды зноў пра гэтую ўзнікалі — Белую. Мазепа: хто ён і адкуль? Вальтэр пісаў, што з Літвы. А што Літва, як не Русь Белая? Дык ёсць на Белай Русі гэтакія людзі — раўня казакам на Малой Русі?

Пра Мазепу было цікава ўсё. Як ён, ліцвін, быў настаўнікам у сям'і польскага караля, які быў эрудыт у навуках, які музыка, паэт, спявак, якая вольная была ў яго душа, як ён кахаў жанчын, як раўнавалі яго да сваіх жонак магнаты, як праглі над ім расправы, як аднойчы на свяце ў караля ён, моцна падпіты, быў вымушаны ўцякаць у выпадковай казацкай фуры і коні занеслі на Русь Малую, у двор казацкага палкоўніка, як той палкоўнік упадабаў Мазепу, зрабіў настаўнікам сваіх дзяцей, пасля — казацкім сотнікам, як казакі, убачыўшы Мазепу ў баях, абралі сваім вялікім гетманам, і як яго, ужо старога гетмана, кахала насуперак сваім бацькам зусім маладая Марыя, дачка багатага і вядомага на Украіне Качубея. Чытаў усё гэта і думаў: як мог бы гэтакі ліцвін і гетман упрыгожыць і ўмацаваць сваю Літву! Не выпаў лёс?

Мазепа і цар Пётр. Які двубой! Якую мудрасць ды сілу трэба было мець, каб выстаяць пад націскам цара? А пад націскам караля Швецыі? А пад націскам караля Польшчы? І ўрэшце, ці здраднік ён, Мазепа, як пісаў Пушкін? Каму ён здрадзіў, не стаўшы з войскам на бок Пятра пад Палтавай? Цару ці каралю, ці, можа, свайму народу? Пра тое сведчыць яго «нейтрал»:

«Браты!..»

Нейтрал у беларуса: абы ціха. А ў Мазепы — воля? Змагацца — дык за волю! Бо там, дзе змоўніцтва ды ціхата, хіба ёсць воля? У Лыскаўшчыне ціха пад панскім бізуном, і тое парабку — жыццё, а казаку — смерць. «Нейтрал» — змагання шлях, але не за чужое — за сваё, за свой народ, за сваю волю.

Чым цар сплаціў Мазепу? Ён рушыў войскам з-пад Палтавы на Батурын — сталіцу гетмана. Мужчын садзіў на калы, калесаваў, паперабіў усіх жанчын і дзетак, у царскую сталіцу вывез немалы гетманскі скарб, арсеналы, ужо мёртвы горад спаліў ушчэнт. І нават тых крыві ды попелу цару падалося замала: пусціў свае палкі па ўсёй Малой Русі, каб рабавалі, палілі, знішчалі ўсё жывое.

А што ж вольналюбівыя казакі? Уся іх бяда была ў тым, што бальшыня не зразумела Мазепу, убачыла ў яго «нейтрале» пагрозу сваёй ваярскай волі і перайшла на бок цара. Гетман не перажыў гэтае здрады — не вытрымала сэрца. А цар? Ён скарыстаў казакаў і пад Лясной на Белай Русі, і пад Палтавай. Там і там казакі разбілі шведаў, а цар іх перамогу скраў. І што ім даў за гэта? Прызначыў новым гетманам палкоўніка Палуботака. Раней самі казакі выбіралі гетмана, а тут ім выбраў цар, упэўнены, што Палуботак будзе за гэта служыць цару верай і праўдай.

Цар памыліўся. Ён ведаў сваіх баяраў, як за царскую ласку рабіліся яго халуямі. Разлічваў, што і Палуботак будзе перад ім поўзаць на каленях. Але ён кепска ведаў казакаў. Палуботак прыйшоў са сваімі старшынамі да цара і запатрабаваў Грамату аб вольнасцях, адмены падаткаў, якія цар наклаў на кожны казацкі дым і двор. Ад гэтакай нечаканасці цар ускіпеў і паказаў казакам: на калені! Але ніводны гэта не зрабіў. Тады ён загадаў таемнай канцылярыі, створанай па ўзору рымскай інквізіцыі, караць гетмана і яго старшынаў агнём ды жалезам. Распаленай да чырвані шынай са спінаў здзіралі скуры, хто не вытрымліваў — тым адсякалі галовы, хто быў яшчэ жывы — валаклі да цара на суд. Заліты крывёю, абгарэлы Палуботак на тым судзе сказаў цару:

«Чаму ты, гасудар, ставіш сябе вышэй законаў, караеш сваёй уладай? Мы просім для народа і Айчыны волі, патрабуем сваіх правоў, зацверджаных Дагаворамі, якія ты падпісваў. Кідаць народ у рабства ды валодаць рабамі ёсць справа азіяцкага тырана, але не хрысціянскага манарха. Нас чакаюць змрочныя цямніцы, але табе я, цар, скажу, што будзеш ты судзімы Богам за пагібель, якую нясеш народу».

Праз год Пётр сканаў. Калі на трон узышла яго супружніца Кацярына, яе першым загадам было вызваленне Палуботака з цемры Петрапаўлаўскай крэпасці, каб апраўдацца перад Богам і народам Малой Русі за здзекі, якія чыніў цар. Але гетмана ў крэпасці не знайшлі. Па сталіцы пайшла чутка, што ён разам з царом пакліканы на Божы Суд.

Неўраў загарнуў кнігу, адсунуў ад сябе. Далей чытаць не змог: боль сціснуў сэрца. Выйшаў на кухню, у чыгунку знайшоў Парасчына заваранае зелле. Наліў у кубак, выпіў. Да галавы вярнулася думка: «А што было тым часам на Белай Русі? Тады і пазней? Што тут хацелі мужыкі? За што змагаліся? Было паўстанне шляхты? А мужыкі за шляхтаю пайшлі?»

Паўстанца ўспомніў — Гіру.

З пакоя выйшаў. Каля парога накінуў на сябе янота, на кухні ў газету загарнуў і ў торбачку паклаў два селядцы ды штоф, галоўку цукру, баханку хлеба.

На рэчцы пад гарой спыніўся. Вада яшчэ не выйшла з берагоў, хоць снегу не было відаць. Спусціўся жвірыстай сцяжынай да алешніку. Лыскаўшчына канчалася і пачыналася Красуля. Ад краю вёскі віднелася пад шэраю страхой акенца Гіры.

Пахіленыя варотцы былі адчыненыя. Усіх, калі хто ні ішоў, тут сустракаў ціхманы рабы кабель з закарэлымі, нібы ад вечных слёз, вачыма, але цяпер яго не было ні на двары, ні ў будцы, з якой, калі ён там ляжаў, тырчэў звычайна чорны, заўсёды, зімой і летам, у старым рап'і хвост. Неўраў пераступіў цераз ланцуг, увайшоў, нібы ў яму ўваліўся, у малыя сенечкі. Праз дзірку ў страсе заўважыў светлы лапік неба: у тую дзірку шыўся сонечны прамень, і ад яго відаць былі адчыненыя ў хату дзверы.

Спыніўся ля парога, паклікаў Гіру, упэўнены, што гаспадар у хаце. Але знаёмага глухога голасу, якім, нібыта воўк, той адгукаўся, не пачуў. Гукнуў яшчэ раз, ведаючы, што Гіра глухаваты. Не дачакаўшыся слова насустрач, пераступіў парог. Сабака, узняўшы насатую галаву, бліснуў жаўтлявым круглым вокам і марудна, без ахвоты, палез пад нізкі палок. Там лёг і ўжо адтуль глядзеў на чалавека.

Убачыўшы старога на палку, Неўраў выставіў на пасуднік штоф, паклаў торбачку.

Гіра ляжаў на спіне, прыкінуўшы ногі дзяружкай. Ён даўно ўжо не падхопліваўся адразу, калі ляжаў і хто-небудзь у гэты час заходзіў, а калі спаў, дык сон быў лёгкі, нібы ў птушкі, праз сон чуў чалавека. Неўраў прысеў на калоду паміж пасуднікам і палком, пачаў размову:

— Дык быў я ў Друцаку. Заходзіў у царкву. Бачыў бацюшку. Цябе ўспомнілі. Бацюшка даў штоф, сказаў з табою падзяліцца. Я прынёс. І селядцы ад Хаіма. Любіш з лёкам? Уставай. Узяць па каліву пад селядзец нам строгі бацюшка дазволіў.

Неўраў казаў нетаропка, спыняючыся праз два-тры словы, каб Гіра кожнае пачуў, падумаў, што адказаць. Але на гэты раз стары маўчаў. Неўраў устаў з калоды, падышоў бліжэй, паклаў далонь яму на рукі, счэпленыя, як ува сне, на грудзях. Яны былі халодныя.

— Гіра? — спытаў і следам усклікнуў: — Ты што? Са мной жартуеш?

Схіліўся над старым. Вочы былі адкрытыя, блішчэлі, нібы шклінкі. Прыўзняў за плечы. Галава баўтанулася, назад адкінулася. Апусціў старога на падушку, паправіў яе пад галавой і галаву на ёй, па твары правёў далонню, закрыў вочы, перахрысціў і ціха, пастаяўшы, выйшаў за парог.

Ідучы дадому, нікога не спаткаў. Нікога і не шукаў, бо адчуваў смерць Гіры як смерць ўласную, як таямніцу. Але калі зайшоў ў дом, насустрач з кухні выбегла Параска, усхваляваная, і ён падумаў, што яна ўсё ведае. Хацеў спытаць, чаму не там, з нябожчыкам, але Параска ўсё роўна як абрадавалася:

— Ну, дзякуй Богу.

— За што ты Бога дзякуеш? — не зразумеў яе.

— А тут Лупандзін вас пытаўся. Я разгубілася, куды мне бегчы, дзе вас шукаць.

— Заходзіў у дом?

— Прайшоў па ўсіх пакоях, як гаспадар. За стол сеў, пашлёгаў па халяве бізуном. А мне… І з дому не выскачыш, яго не кінеш, і з ім — як з лютым зверам у клетцы.

— Што ён казаў?

— Пытаўся вас. Абяцаў, што яшчэ зойдзе. Паперку на стале пакінуў.

— Што за паперка?

— А ці я ведаю?

Параска прынесла тую паперку. Прачытаўшы першы радок, Неўраў убачыў, што гэта ліст да Лупандзіна. Адразу вярнуў Парасцы, каб паклала на месца, дзе ўзяла, зайшоў у майстэрню і тут на лаўцы заўважыў панскі бізун. Пастаяў над ім у роздуме, узяў, патрымаў у руцэ і павярнуўся да Параскі:

— А гэта што?

Яна падбегла:

— Пан забыўся цацку?

Неўраў строга глядзеў ёй у вочы, як быццам яна была тут у нечым вінаватая.

— Ды не, ён цацку гэтую нідзе не забывае. Бо яна яго корміць. Знарок, можа, пакінуў? Што гэтым хацеў сказаць? Даў зразумець, хто ў доме гаспадар?

Неўраў рашуча храснуў дзеравяку бізуна аб рэзка ўзнятае калена, склаў два кавалкі ў адзін, абматаў сплеценай з вузкіх раменьчыкаў змяёю і шубнуў да парога.

— У агонь!..

Разгубленая Параска ўтаропілася на знявечаны бізун.

— Дык гэта ж панскі.

— Тады… у брычку пану! — схапіў зломкі з падлогі, выйшаў на ганак і выкінуў на дарогу.

Параска стаяла ля парога, сашчапіўшы на грудзях рукі, і калі ён вярнуўся, зачыніў дзверы, ужо не ведала, што сказаць. Ён скінуў з сябе янота, павесіў на цвік і, на яе не глянуўшы, прайшоў у майстэрню.

Яна села на слончык каля акна кухні і прыслухоўвалася да кожнага гуку за дзвярыма. Чула, як ён хадзіў, спыняўся, зноў мераў крокамі майстэрню. Па кроках адчувала: хваляваўся. Устала, каб выйсці, супакоіць нейкім словам, і не адважылася, села зноў. Калі за сценкай моцна грукнула, нібыта ў майстэрні, зноў падхапілася. Але адчыніліся дзверы з сенцаў, грымнуў, нібы пярун, голас Лупандзіна:

— Гаспадар ужо дома? — дзверы з кухні былі прачыненыя, і ў шчыліну яна ўбачыла, як мільганула жоўтая скураная куртка пана. Ужо з майстэрні пачула: — Як ваша здароўечка, Мікалай Васільевіч?

Неўраў спакойна адказаў:

— Не магу скардзіцца.

— Вясна, як вы казалі неаднойчы, дае вам раўнавагу, сілы? А як гэтай вясною?

— Гэтак і гэтаю.

У руцэ пан трымаў зломкі бізуна, пляскаў імі ў далонь другой рукі і аглядаўся, як што шукаў у пакоі.

— У вас тут цёпла, утульна. Параска гаспадыня слаўная. А мая Глафіра, як вясна, уся на нервах, быццам яе кусаюць блохі. Прынесла збан бярозавіку і кажа, што пяршак. Я бачу, што сама нібы пяршак, хмель плешча цераз край. Табе, кажу, трэба жаніха. Яна адразу: каго ж вы мне знайшлі? Знайшоў, жартую, ён будзе сёння, як сцямнее, цябе чакаць у маёй спальні. Успыхнула, нібы агонь на ветры: у вас ёсць Сцепаніда Мікалаеўна — дый за дзверы.

— Вы для Глафіры пан. Пабрыкае і стане ў аглоблі. Тут, у вёсцы, пан — цар і Бог.

— Але Глафіра не тутэйшая. Вы ведаеце. Навошта вёз сюды гэты агонь? Як учора з дому выскачыла, дык я і сёння яшчэ яе шукаю.

— Але ж вы да мяне зайшлі не ў пошуках Глафіры?

Лупандзін адчуў, што Неўраў не жадае падтрымаць ягоных жартаў, вясёлага ў тым, што пачуў, не бачыць, прымоўк на момант, узяў ніжэйшы тон:

— Паноў тут шмат, а мастак адзін. На жаль, мастацтва разумеюць не ўсе. І мастакоў. Вось мой пляменнік. Паслухайце, што ён мне піша. Вы, бачу, не чыталі гэты ліст?

— Не мог. Ён не належыць мне.

— Я разумею вас. Але паслухайце. «Дарагі дзядзечка!» Бачыце, якая ліса? «Я вам пісаў пра сваё жаданне, а вы не адказалі, таму пішу яшчэ раз, што я з сям’ёй на гэтае лета хачу прыехаць у Лыскаўшчыну, у той ваш дом, які прыгожа стаіць на горцы, дзе сад, у садзе лазня, старыя ліпы, пчэльнік, дзе не відаць нямытых мужыкоў і дзе цябе самога ніякае мурло не бачыць. Там нібы на востраве, і гэта мне па сэрцы, як і маёй законнай маладзіцы, маім дзеткам, сабачкам ды коцікам. Чакаю вашага ліста, хоць ведаю, што вы не адмовіце і ўжо ў наступным месяцы я буду вашым жаданым госцем». — Лупандзін паклаў ліст на стол і ўважліва глядзеў у твар Неўрава. Той быццам яго не чуў, глядзеў у іншы бок, у акно. — Ну, не ліса? — прамовіў пан, не звёўшы з мастака вачэй. — Як яму адмовіш? Сын майго старэйшага брата, а брат ужо адышоў, царства яму нябеснае.

Цяпер Лупандзін чакаў, што скажа Неўраў. Той думаў. Раптам, яшчэ ўсё гледзячы ў акно, спытаў:

— Вы мяне гоніце з дому?

Рашучасць пытання была непрыемная Лупандзіну, які спадзяваўся на рэакцыю больш асцярожную і не разлічваў убачыць заўсёды ўпэўненага ў сабе мастака раздражнёным.

— Ды-ы… вы павінны зразумець.

Неўраў не хітраваў:

— У нас з вамі пісьмовая дамова з пячаткаю дзяржаўнай канторы, згодна з якой вы дом перадалі мне на ўвесь мой час да смерці.

Цяпер Неўраў рашуча паглядзеў у твар Лупандзіну. Хвалюючыся, той працягнуў руку да зломкаў бізуна, якія ляжалі на стале паміж ім ды мастаком, адчуваючы, што зломкі тояць небяспеку, калі мастак не ўтаймуе нервы. Гэтак ужо здаралася. Не з ім пакуль што, з іншымі, і вёска тое бачыла. Паспакайнеўшы са зломкамі ў руцэ, пачаў тлумачыць:

— Я не спяшаўся адказваць на лісты пляменніка, але, як быў у Талачыне, заходзіў да суддзі. Нашу дамову ён перачытаў і знайшоў, што адбылася яна ў прысутнасці сведкі генерала Чарняева на тэрмін да смерці, але ў ёй дакладна не прапісана, да чыёй смерці, і тое, што і як прапісана, можна ў поўнай меры разумець як да смерці, прашу прабачыць, вашай і гэтаксама да смерці сведкі. А паколькі наш з вамі сябра Міхал Рыгоравіч спачыў у Бозе, царства яму нябеснае, то папера, як сказаў суддзя, страціла сілу. Яна ёсць, але яе няма ні для мяне, ні для вас. Ёсць і няма. Мы яе з вамі маглі б перапісаць, заключыць у новым выглядзе. Але не цяпер. Вы разумееце, я не магу адмовіць пляменніку. У мяне таксама прынцыпы. Яшчэ ні ў чым яму не адмаўляў.

Неўраў адчуў: пан усё сказаў, што меў сказаць і сёння, і раней, калі апошні раз прыходзіў, калі быў першы ліст ад сваяка, што ён, мабыць, не гэтай вясной, даўно ўжо выношваў думку, шукаў выпадку, каб выказаць нарэшце тое, што зараз выказаў.

Лупандзін ужо стаяў са зломкамі каля парога.

Неўраў паклікаў Параску:

— У сенцах цёмна. Правадзь госця.

Але праводзіць патрэба адразу знікла. За першымі дзвярыма ўжо грукнулі другія, з сенцаў на ганак, Параска ледзь паспела падысці да акна, каб убачыць, як пан сігаў ад ганка на дарогу, дзе стаяла брычка.

Неўраў папрасіў Параску дастаць з камоды чыстую бялізну, усім чыстым заслаць ложак і заварыць мяту. Мяняючы на падушцы навалачку, тая апусціла рукі, задумалася.

Яна даўно прызвычаілася да таго, што ён праз дзень мяняў бялізну ў ложку і нацельную, што раз ці два на тыдзень ёй трэба было перамываць бялізну і рукі пастаянна садзелі ад шчолаку, што тут і на сваім двары амаль заўсёды вісела бялізна на вяроўках ды жэрдках, сохла, што вёска адпускала жарты, быццам у яго доме яна абмывае брыгаду гарбароў, якія працавалі ў пана

на сажалках, карчавалі ў лесе пні пад ляда, з тым звыклася, але не пераставала дзівіцца, як любіць ён усё чыстае, што пасля сустрэчы з панам ці нейкім непрыемным яму іншым чалавекам у яго ўзнікала абавязковая патрэба памыцца з мылам, апрануць чыстую сарочку, легчы ў чыстую пасцелю, а заўважыць недзе ў пакоі пыл, сказаць пра тое ёй, самому прайсціся па пакоях з мокраю анучай, венікам.

Прынесла з двара дровы, запаліла ў грубцы, зняла з шастка пад столлю ў запечку пук мяты, кінула ў каструлю, пераслала пасцель, паклала яму чыстую бялізну.

Ён доўга стаяў каля акна, глядзеў у бок вёскі.

Падцёршы падлогу на кухні і памыўшы над шайкай рукі, Параска выйшла ў майстэрню, спынілася ў яго за спіною, сказала ціха, але ўголас, які пан звер.

Яе пачуўшы, ён вымавіў у акно, куды глядзеў:

— Гіра памёр.

Яна спалохана перахрысцілася.

— Што вы сказалі?

— А тое, што пачула.

— Вы чулі ад каго?

— Я ад яго прыйшоў. Бяжы. Там без тваіх рук не абысціся.

— Чаго ж у вёсцы ціха?

— А як павінна быць?

Яна сумелася:

— Ды я… падумала не тое, — слязу змахнула.

— Праведнікі паміраюць ціха. Прайдзі па хатах, вазьмі маладзейшых жанчын. Ды не забудзь узяць маю бялізну. Невядома, ці сабраў ён на гэты дзень вузельчык. Бяры ўсё, што ў нас ёсць, што трэба.

— Я толькі мяту залью вадой.

— Ідзі. Тут я ўсё сам зраблю.

Калі Параска выйшла з дому, Неўраў наклаў у грубку дроў і запаліў. Забыўшы пра ваду, пра мяту, сеў да агню на Парасчыну асінавую калодачку, і зноў думкі падкаціліся пра Гіру. Жыў побач чалавек, з усіх бакоў адкрыты, дзверы трымаў заўсёды, улетку і зімой, удзень і ўноч, без зашчапак і заткалаў, ані замка, ані кручка, хоць хто, свой ці чужы, заходзь у любы час, усё, што меў у хаце, ні ад каго не хаваў, але адышоў загадкаю. Пра тое ніхто не думаў, не падумае, нікога тое не ўсхвалюе, як не хвалявала, хто ён, адкуль з'явіўся, што бачыў за свой доўгі век, што пражыў, перацярпеў, нават і тыя чуткі, што пра яго хадзілі, ніхто не варушыў, не зварухне, што праўда там і што няпраўда,

нікога тое не зацікавіць, бо ў кожнага свая хаціна і свой хлеў, сваё свінчо і кураня, свой рот, сваё чэрава, свае балячкі, свой гною воз, кавалак, жыў кожны сваім страхам, сваёю хітрасцю ды выгадай. Памёр чалавек? Пухам зямля. Хіба не памірае кожны? Засталася жыцця загадка? Дык жа загадкавае ўсё ў жыцці і кожны чалавек таксама. Жыцця загадку ніхто не ведае. Бог ведае. Яе можа спасцігнуць геній? Але і Леанарда, геній з геніяў, хіба спасціг загадку сваёй Джаконды? Знайшоў твар дзіўны, дзіўную ўсмешку, святло душы, а хіба прачытаў душу, тое святло? Калі б іх прачытаў, хіба стаяла б цэлыя стагоддзі чарга ўсяго чалавецтва да яе аблічча з пытаннем самым прымітыўным: хто яна — дачка патрыцыя ці прастытутка?

Смерць Гіры прымушала думаць шмат пра што. Магчыма, мастак шукаў у сваіх думках супакаенне, апраўданне, што не дайшоў у Гіры, блізкім чалавеку, да глыбіні душы і памяці, да таго, што хвалявала?

Сцямнела, пакуль пра Гіру думаў. Пагас агонь у грубцы, а ён і не заўважыў, як шэрым прысакам накрылася вугалле — ані агеньчыка. Як грубку зачыніў, тады пра мяту ўспомніў.

Зайшоў у гасцёўню, запаліў на кандэлябры адну свечку і сеў у крэсла. Перад ім ляжала кніга ад бацюшкі, ляжала побач з ёю Біблія, але да іх не дакрануўся ні рукой, ні думкай. Адкінуўся да спінкі крэсла і зноў убачыў Гіру. Ці засталася перад ім віна? Гэта непакоіла. Пісаў партрэт, але сказаць, што напісаў, ці мог? Не мог. А ці напіша?

Аж застагнаў — усярэдзіне сцялося, запякло.

Думкі пра Гіру будзілі думкі пра Чарняева. Што іх яднала? Ён сам — мастак? Ягоная палітра? Няўдалы яе лёс? Ды не, які няўдалы? Жахлівы.

Яшчэ адну вясну ўспомніў. Пражыўшы ў Лыскаўшчыне гады чатыры, быў расчараваны: ні тэм, ні сюжэтаў, ні вобразаў, якія б захапілі. І раптам — святло ўначы: генерал пакінуў вайсковую службу, вяртаецца ў маёнтак, у Тубушкі, каб тут, у працы на зямлі, у народзе, дажыць свой век. Да Неўрава тады прыйшла надзея, што ў суседняй вёсцы жыць будзе чалавек, роўны яму культурай, памкненнямі душы і сэрца, высокай жыццёвай мэтай, што будзе побач сябра, якога ведае Еўропа. З’явілася задума пісаць партрэт, нават сюжэтную карціну з генералам не абы-якім: імя — Свабода. Успомніліся Дэлакруа, яго «Свабода, што вядзе народ». Карціна француза хвалявала не толькі жывапісным багаццем, але і зместам, ідэалам, які кружыў галовы ўсёй Еўропе. Дэлакруа — рамантык? Але і ў Неўрава ідэалы былі светлыя,

высокія нават тады, калі пісаў цемру ды цемрашалаў. У француза Свабода — алегорыя, а тут Свабода — рэальны генерал. Нібы сам Бог паслаў: там — сербам, тут — мастаку. І вось прыехаў Чарняеў у Тубушкі. Дні цёплыя стаялі. Сплыў снег, прайшлі дажджы, падсохла, зазелянела ўсё ў прыродзе, сяляне выйшлі ў поле сеяць. У новых пасля вайсковай службы клопатах быў генерал: завёз замежную тэхніку, сеяў па навуцы, клаў новую дарогу ў вёску, засаджваў вялікі сад, паставіў пры царкве на званарні гадзіннік. Шмат хто тады смяяўся з генерала, навошта гадзіннік, калі вёска спрадвек жыве па сонцы? А ён адказваў, што гэта падарунак дзецям, каб у школу не спазняліся. Пабудаваў і школу. За ўсё хапаўся, засумаваўшы па вясковай працы, а тут яшчэ мастак, якому партрэт трэба пісаць. Сам у Лыскаўшчыну абяцаў наведацца, адсеяўшыся, ды падаспеў сенакос. Як адзвінелі косы, адстагавалі сена, падкацілася жніво. Прыехаў Неўраў у Тубушкі: «У вас, Міхал Рыгоравіч, то сяўба, то касавіца, то жніво, вы з хлебам будзеце, а як жыць мастаку, калі ён не пасее і не сажне на сваім палетку? З якім хлебам мяне пакінеце?» Ужо не было генералу куды адступаць: «Яшчэ тры дні — слова гусара…» Але на трэці дзень пасля тае размовы, ранкам, калі сяляне выганялі кароў на пашу, з Тубушак дакаціўся трывожны царкоўны звон — раптоўна, ад сардэчнага прыступу, абарваўся зямны шлях генерала.

Неўраў тады якраз стаяў за мальбертам. З палітрай у адной руцэ і з пэндзлем у другой адышоў, спыніўся пасярод майстэрні і праз адчыненае акно глядзеў у сад. Дробны дождж шапацеў у дрэвах. Адразу падумаў, што звон па нябожчыку.

Праз нейкую гадзіну хтосьці адчыніў дзверы і, не заходзячы ў дом, сказаў:

— Памёр Чарняеў.

Азірнуўся: за парогам стаяла знаёмая жанчына. Яе адразу не зразумеў:

— Які Чарняеў?

Яна аж зазлавала:

— Як гэта які? Ваш сябра. — Абедзвюма рукамі адмахнулася ды і пайшла, не зачыніўшы дзвярэй.

Выйшаў на ганак, яшчэ не ўсё разумеючы, а тут бяжыць запыханы, як бег доўга, Восіп. Лапцем за корань ліпы зачапіўся, грудзьмі на сцежку бразнуўся, а сцежка пад дажджом гразкая, стаіць на чатырох і коўзаецца, нібы п’яны, узняўшы галаву без шапкі, валасы рассыпаўшы, глядзіць знізу ўгору ды лямантуе:

— Няма ўжо енерала! Пайшоў ад нас Міхал Рыгоравіч!

Тады дайшло.

Восіп завёў яго ў дом, ці ён Восіпа? На лаўку каля парога селі, адзін за аднаго трымаючыся. Восіп аддыхаўся, падхапіўся, пабег, нічога не сказаўшы, нібы яго певень дзеўбануў у адно месца, а Неўраў сядзеў, пакуль не прыйшла Параска. Давяла да ложка, прынесла цёплай грэчкі з малаком. Ён у місе нават лыжкай не боўтнуў, сказаў, каб аднесла мядзведзю.

Яна яшчэ паплакала, хліпаючы ў рог хусткі носам, ды з жанчынамі пайшла ў Тубушкі.

Зусім сцямнела. Падняўся з ложка, падышоў, святла не запаліўшы, да акна, адчыніў, бо цяжка было дыхаць, паветра не хапала.

Ноч была светлая. Поўня стаяла над садам у небе. Успомніў, куды пабеглі Параска з Восіпам, яго ўклаўшы. Зазлаваў на іх, апрануўся ды выйшаў на ганак.

Вакол было ціха. Нідзе ніякага ні голасу, ні агеньчыка, быццам уся вёска была там, дзе генерал. Узышоў на свой пагорак. Хацелася таксама падацца ў Тубушкі. Пачаў углядацца ў сцежку пад нагамі, каб сысці асцярожна, не зачапіцца за які камень ці карань дрэва. І раптам пачуў, як закалола ў бок. Пастаяў, думаючы, што боль адпусціць. Але не адпускаў. Калі ўжо моцна калянула ў сэрца, аж заняло дыханне, вярнуўся ў сад, сеў на пень старой яблыні. Пасядзеўшы, паспрабаваў падняцца і не змог. Заўважыў каля ног сабаку, як чужога. І не абрадаваўся, і ад сябе не адагнаў. Над ім нагнуўся, руку паклаў на галаву. Сабака даверліва лізнуў руку — пазнаў па языку Каштана, узяў на калені. Той калаціўся, але язык быў цёплы і цёплыя былі бакі. Ноч грэліся адзін ля аднаго, а ўжо як пачало світаць, з'явіліся Параска з Восіпам.

Два дні адлежаў — боль у сэрцы не адпускаў. На трэці дзень паслаў Восіпа да Пракопа, каб падагнаў фурманку альбо брычку. Прыехаў у Тубушкі, калі Чарняева ўжо клалі ў капліцы-склепе пад алтаром. Там развітаўся.

Пасля смерці генерала доўга не мог падысці да мальберта.

Нібыта нейкая жывая сувязь абарвалася паміж імі. Тым болем, які не адпускаў усё лета, зразумеў, што страціў са смерцю Чарняева. Часам здавалася, што ўсё. Параска бачыла і чула яго пакуты. Сама — ён тое бачыў — пакутавала і за яго: да сваёй хаты, бывала, не спяшалася, баялася пакінуць аднаго, заседжвалася нават як не было чаго рабіць.

Аднойчы ўзімку надвечар прыйшоў аднекуль, адразу ў майстэрню зазірнуў. Яна, пачуўшы крокі, усхапілася з-за стала, ды

позна — заўважыў у яе руках кнігу Гогаля, калядную прозу, якую з Грыбіна прынёс Восіп. Здзівіўся. Спытаў:

— Ты ўжо чытаеш Гогаля?

Яна сумелася, схавала пад фартух рукі, быццам яны вінаватыя, але справілася са сваёй разгубаю і нават жартам адказала:

— Ад вас навучылася.

Але другое пытанне было хітрэйшае:

— Пра што ж ты вычытала?

— А як старая лётае на мятле па небе.

У кнізе быў гэтакі малюнак, і здагадацца было не цяжка, што той малюнак яна ўжо бачыла. Яе кемнасць здзівіла Неўрава — прадоўжыў размову:

— А што ж там за старая, каб на мятле па небе лётаць?

Параска зірнула на столь у адзін кут, зірнула на столь у другі кут, як шукаючы тую старую, бліснула вачыма ў вочы мастаку, усміхнулася:

— Баба Яга.

Аж ён павесялеў:

— Ну, малайчына. Чытаць кніжкі ўмееш.

Пазней, як запалілі лямпу і пілі гарбату, яна папрасіла:

— А вы мне пачытайце пра бабу Ягу.

— Ты ж чытала? — злавіў на слове.

Яна і тут туды-сюды вачыма павяла, сказаць знайшла што:

— Я чытаю марудна, а ведаць хачу адразу ўсё.

Тыя вечары з Гогалем Парасцы спадабаліся. А надышлі Каляды — надумалася зварыць куццю ды пагадаць. І што яму нагадала? Кабету маладую. Ён у яе спытаў:

— Дзе ж ты ў Лыскаўшчыне знойдзеш маладую? Тут усяго тры. У Міцькі жонка баявая, Глафіра ў пана ды ты. У Міцькі адбіваць не буду, там малы хлопчык, Міхасік, яму патрэбныя мамка і татка. Глафіру пан з кіпцюроў не выпусціць. У цябе мужык таксама. Праўда, далёка, у шахтах, і дзеці павырасталі, тут, можа, і не вялікі грэх?

Загуляліся ў дурня, і калі Параска ўспомніла пра сваю хату, была ўжо поўнач. Выйшлі на мароз з цёплай хаты. Поўня свеціць, у вёсцы ціха, а свая хата, як па марозе бегчы, далёка. Хацеў Неўраў Параску правесці — яна адмовілася, смеючыся: як малады — маладую? Тады сказаў іначай: без мамкі Восіп не памрэ за ноч, а тут гуляе ў цяпле за печчу яго ложак — навошта бегчы па марозе? На гэта Параска яму нічога не адказала. А што азначае, калі маўчыць жанчына, адмовы не дае? Ці не тое, што

дае згоду? Вярнуліся да цёплай печы, селі за карты, прадоўжылі дурня шукаць.

За Калядамі падкацілася масленка, у доме пяклі бліны, былі чарка са скваркаю. Увечары прыйшлі і Восіп, і Пракоп. Восіп доўга не заседзеўся, пабег да дзевак у Грыбін — яму там весялей, дзе скокі. Гулялі ўтраіх. Пракоп, добра падпіўшы, дурняў нахапаў — за шапку ды за парог. А ў Парасскі ў думках зноў тузаніна:

— Восіп прывалачэцца выпімшы — ад яго храпу не заснеш.

Што мог параіць?

— У гэтым доме няма дзе спаць?

А раніцой Параска, у печы выпаліўшы, сядзела на кухні ля акна, глядзела ў шыбку, як за акном світае, ды разважала хоць ціха, але ўголас, нібы сама з сабою раячыся, спадзеючыся, што ён спіць, яе не чуе:

— Каб гэтак можна жыць. Хачу — там заначую, хачу — тут.

А ён ёй — з-за перагародкі:

— Чаму няможна? Хіба ты тут і там не гаспадыня?

Стаілася, нібы яе няма на кухні. Але куды схаваешся? За твар схапілася рукамі: ну, забагацела — і панскія харомы, і мужыцкія.

Былі як быццам жарты, але ў тых жартах знайшлі абое што хацелі. За кожным днём прыходзіў новы дзень, за днямі беглі поры года. Параска не пыталася ўжо, ці можна ёй на ноч застацца ў панскім доме. А ён і не чакаў пытання, рабіў усё, каб і не чуць яго. Аднойчы, як не было яе ў доме, зайшоў за печ ды паглядзеў на ложак, што называўся Восіпавым. Калі на ім спаў Восіп, ложак не цікавіў Неўрава, сам Восіп думаў, што ў яго пад бокам, пад галавою. Цяпер падумаў: якая там падушка, што за сяннік, што за аўчына ў нагах, што за дзяружка? А неўзабаве прывёз Пракоп з Друцака аж дзве вялікія пярыны ды коўдру-пухавік, купіў, як прасіў Неўраў, у жыдоў, дзе гэтага дабра хапала: пер’е з курэй скублі штодня старыя і малыя. Смяялася Параска з тых пярын, але Восіпавы сеннікі павыкідала, сабе пярыну пад бок паслала, з другой падушак нарабіла. За тыя пярыны звязала Неўраву са свае воўны шкарпэткі адны і другія, карацейшыя і даўжэйшыя, рукавіцы, шалік. А па вечарах, калі запальвалі святло, пакуль у яе ў руках гулялі пруткі з вязаннем, ён чытаў уголас кніжкі.

Прыйшла вясна. Сялянскі клопат мацней прывязаў Параску да свае гаспадаркі. Ужо да мастака як прыбяжыць, усё пахапкам паробіць, у спешцы, ды і назад дадому. А ён, паспакайнеўшы за зіму, пачаў зноў думаць пра партрэт Чарняева.

Аднойчы папрасіла паказаць малюнкі, якія рабіў з генерала. Дастаў з шафы, паклаў на стол. Яна, іх разглядаючы, сказала:

— Я б у шафу не хавала. Калі б мне ваша маляванне ў рукі ды фарбачкі, ды пэндзлікі… — Задумалася.

— Тады б што?

— Намалявала б яго вочы. Як ён да нас, помню, сюды зайшоў… я выграбала з печы вуголле. Яго пачуўшы блізка, здрыганулася — ілбом у чалеснік. Можа, і лоб быў чорны, у сажы. З кухні выйшла, а ён глядзіць, нібы на дзіва. Вочы запомніла, як блішчэлі. А ці была ў яго жанчына? — спытала раптам.

— А як ты думаеш? Магла ў гусара быць жанчына?

— Я не пра гусарства. Як жыў тут, у Тубушках, была?

— Усё ў яго было. Былі і дзеці.

Тады Неўраў падумаў і пра свае: было ці не было? Яна адчула тое — размову павяла ўбок:

— Вам трэба маляваць партрэт. Хто намалюе, як не вы? Вы яго добра ведалі. Ваш сябра. А як не будзе партрэта, дык хто пасля ўбачыць, які быў добры і прыгожы? Хто тыя вочы ўбачыць? Яны ж у яго былі ад Бога, а тое, што ад Бога, не трэба забываць.

Пра тое, што тады сказала, напэўна неаднойчы думала, бо неаднойчы і пасля нагадвала:

— Калі вы сябра намалюеце? Не хочаце гэта рабіць?

Ён ёй адказваў:

— Хачу. Але…

— А што — але?.. Вы князя малявалі, якога не бачылі.

— Князя Галіцкага? Адкуль ты ведаеш?

— А хіба не казалі?

З той думкаю, сваёй і не сваёй, яе таксама, пачаў ён бачыць генерала ўсё часцей, успамінаць, якімі вачыма той глядзеў на пана, на мужыка, на жанчыну, як у далячынь углядаўся, калі стаялі на гарадцы ў Друцаку, які быў твар, як твар мяняўся, паветра чуючы, далёкае ў паветры рэха, водгулле, як ноздры хваляваліся, нібы ў каня. Чуў галасы праз водгулле, паводку з гор і з-пад гары, абвал камення, лаву, землятрус. Аднойчы раніцай уварваўся да Пракопа ў хату, з ложка падняў: запрагай каня — трэба ў Друцак ехаць! Той усхапіўся: а што гарыць там, у Друцаку?.. На той гары, сярод тых валуноў, на валуне, праседзеў дзень, чуючы часы далёкія. А як дамоў вярнуўся, павытрасаў з шафаў эскізы, замалёўкі, паперагледзеў, адклаў асобна тое, што было пра генерала і пра Гіру, пачаў думаць пра абодвух, як улавіўшы, што іх у гісторыі яднала.

Шмат што тады з’ядналася ў вачах, у вобразах, у адчуваннях, часы ды палі бітваў, не блізкія паміж сабою, ваярства — усё ў жывапіс злілося, у палатно адно. Знясілеў ад міражоў ды мрояў. Шукаць яснейшага пайшоў да Гіры.

Стары сядзеў ля печы на калодзе, трымаў у руках паміж каленяў качаргу. Гарэлі перад ім у печы дровы, агонь чырвоны вылятаў у твар, па ім гулялі, паміж чырвоных плямаў, сінія абрысы, цені, як быццам нейчая рука накідвала сінім алоўкам партрэт графічны па чырвоным грунце. Мастак прысеў каля парога, углядаўся ў Гіру, каб гэтакім запомніць і потым, вярнуўшыся дадому, выліць у эскіз. Гіра яго нібы не заўважаў. І раптам да парога чырвоным вокам кінуў — парушыў цішыню:

— Задумаўся. Але я бачу, што ты прыйшоў.

Адчуўшы, як Гіра засумаваў ля печы і меў ахвоту гаварыць, што мала калі з ім здаралася, Неўраў спытаў яго пра генерала, ці ведаў блізка, ці меў калі-небудзь размову з ім. І тады Гіра ўспомніў:

— Сядзеў тут у мяне, як цяпер я сяджу, на гэтым маім пні, глядзеў у печ, у агонь, трымаў люльку ў руцэ, дымок пускаў то ў падлогу між калень, то ў печ. Смярдзючая ў яго была табака, не генеральская. Я гэта яму сказаў, ён усміхнуўся. А я сядзеў — як ты, каля парога. У чыгуне мыў бульбу, сабе і кабану, курам, сабаку.

— Чарняеў зайшоў па нейкай справе?

— А ён мне не казаў, чаго зайшоў. Можа, па справе, можа, пагрэцца. Зіма была. Вяртаўся з палявання ў Тубушкі. Паляваў, казаў, з Лупандзіным лісу, а ўзялі падсвінка. Прынёс і мне кавалак. Яшчэ і пляшку на стол паставіў. Чым ён мне падабаўся? А не хаваўся ад людзей. І людзі ад яго вучыліся, як жыць, не хаваючыся.

Думкі ў Гіры пра генерала былі свае, хоць іх з яго вывуджваць трэба было — самі не зляталі з языка.

— Пра што была размова?

Пачухаў галаву — успомніў:

— А што мне генерал? Ён чалавек і я чалавек, мы роўныя ад Бога. Ён ваяваў, людзям нёс волю, а я таксама быў ні раб, ні парабак. У яго сваё войска, у мяне — сваё. Стаяў каля агню, каваў зброю. А як войску без зброі?

Неўраў тады яму заўважыў, што Чарняеў ваяваў на Балканах за сербаў, даў ім волю ад туркаў. Гіра спачатку маўчаў, а як добра падумаў, адказаў:

— Што ён герой у сербаў, я ведаю даўно. Але калі ён гэтак моцна быў там за волю ці свабоду, кажы як хочаш, дык чаму за тое самае не ваяваў ён тут, разам з сваімі мужыкамі? Ці наш мужык ужо сыты воляю? Я кепскага пра генерала не скажу. Ніхто ў нас з мужыкоў не скажа. Сарочку з сябе здыме — голаму аддасць. Але чаму ён гэтак, як за серба, за мужыка не ваяваў? Што ты, мастак, на гэта скажаш? Бо я не ведаю, што сказаць.

Задумаўся тады і Неўраў. Пра тое ніколі не думаў. Але было пытанне.

— А што генерал без войска? Яму трэба войска, — пачаў разважаць.

Гіра не пагадзіўся:

— Калі ёсць генерал, павінна быць і войска.

— За мужыка паўстаць — ісці супраць цара, бо цар пана ратуе. А войска ў цара?

— Тады навошта генерал? Ці ён у цара за парабка? Калі парабкам, тады які ён генерал?

Яшчэ даўжэй думаў Неўраў, а што прыдумаў?

— Ну, Гіра, моцную скабку ты мне ў мазгі загнаў.

— Дык а што думаеш? Я быў таксама ў войску. І там, дзе быў, як у кожным войску, былі і генералы, і палкоўнікі, і мужыкі. Там усе былі супраць цара. А тады і войска, як усе — у адну дуду. Сваёй вайны не выйгралі, бо нас было мала, але цару даказалі, што і мы — сіла.

— А хто гэта — мы? — спытаў Неўраў.

— Ну… мы. Хто быў за волю.

— А хто за волю быў? — дакапваўся Неўраў.

— Мы. Я ж сказаў.

— Сказаў не ўсё.

— Усё не ведаў і Чарняеў. Каб ведаў, дык, можа, былі б мы з ім у адным войску. Бог усё ведае.

Іншую скабку з жывога цела вырвеш і рана загоіцца, а гэтую вырваць Неўраў не мог, хоць бачыў, што ўжо яна не пускала да мальберта, на якім стаяла палатно для Чарняева. Была думка спытаць у Гіры, ці пайшлі б мужыкі, якія жывуць у Тубушках, Лыскаўшчыне, Грыбіне, Красулі, Круглым, Друцаку, за сваім генералам, і гэта не спытаў. Не паспеў. Бо Гіра тады раптам стрэліў, як з драбавіка, ёмкім зарадам:

— Зямля і воля! Бачыш, як і што між імі. Зямля волі просіць, але няволіць мужыка. Калі мужык вольны, ён зямлю знойдзе. А як у мужыка ёсць зямля, ён ужо нявольны. Вясна прыйшла — трэба ўзараць, засеяць. Якая тады вайна, якое войска? Не ружжо

трэба ў рукі, а саху. А там кароўка цельная — дагледзець трэба. А там — свіння паросная. Лета — бяры касу ў рукі. А там, глядзіш, жніво — якія войны? Без хлеба хіба воля?

— А сам ты, Гіра? Мужык, а ў войску? Хто прымушаў?

— Ніхто. Быў кавалём і не было сям'і. Я молат на плячо — і вольны. Не сейбіт і не жнец, але заўсёды з хлебам, з салам і чарка добрая заўсёды. — Падумаўшы, дадаў: — Быў у мяне пан. Але я парабкам у яго не быў. Пан добры быў. Палкоўнік. Ён волі ад цара хацеў для свайго краю. І я быў з ім. Не парабкам, а вольным кавалём.

Гэтак і жыў мастак у Лыскаўшчыне. То думка ўспыхвала і сэрца палымнела, каб працаваць з палітрай, замешваць на алеі фарбы ды кідаць на палатно, то полымя гасіла сцюжа, роспач — грымеў у доме бас:

— Халопы!.. Парабкі!.. Як сэрцам вас пісаць?!.

І дзе было шукаць ратунак? Хто даў разумную параду? Раней мог спадзявацца на Чарняева. А на каго цяпер?..

Была Параска?..

Яна, вясковая жанчына, не шмат магла сказаць пра жывапіс. Але ў малюнках, нават паспешлівых, калі там была вёска, усё бачыла, усё разумела сэрцам.

Неўраў стаяў перад акном, глядзеў на сонечныя дрэвы, птушак.

Чакаў Параску.

## ЦВІРКУН ПРАЧНУЎСЯ

Усю ноч імжыў дробны дождж, і раніцай вёска стаяла прыціхлая, няўтульна-мокрая ў сцямнела-шэрых драўляна-саламяных вопратках: ні твару, ні голасу. Але блізка да полудня з-за хмарак пачало выбліскваць белае, праз жаўтлявае мроіва, сонейка. Яно пакрысе яснела, залацілася, і Неўраў выйшаў з дому. Прайшоў праз сад, з леташняга былля збіваючы макрэчу сабе на ногі, спыніўся на пясчаным пагорку і пачуў далекаваты, але ўсё бліжэйшы ды мацнейшы пошчак конскіх капытоў. Акінуўшы позіркам хаты ў лагчыне, заўважыў каня і на ім вершніка ў цёмнай бурцы, нібы без галавы, бо галава ляжала ў каня на шыі, хаваючыся пад конскай грывай ад імжакі, якая то аціхала, то сеялася зноў у твар. На сэрцы, як і ў небе, пасвятлела, бо Змітрака пазнаў у вершніку, пазнаў і Ворана, яго каня. І хоць конь з вершнікам

імчалі па загуменні ў бок Грыбіна, Неўраў спусціўся з пагорка на вясковую вуліцу, пайшоў да Пракопавай хаты.

Спыніўшыся каля новай брамы, заўважыў Пракопа. Ён сядзеў пад шулам адчыненай канюшні на калодзе, трымаў на каленях падсядзёлак і лямец, сшываў іх навошчанай дратвай.

— Дзе коні, там і майстэрня конюха? — спытаў у настроі.

— Ну, так, — адгукнуўся гаспадар. — Кравец, як шые вопратку, павінен прымяраць на жывыя плечы.

Неўраў прайшоў чыстым дваром, пераступіў падваліну ў варотах, агледзеўся. Па сценах віселі дугі, хамуты, падсядзёлкі, аброці, жалезныя шыны з колаў, да бляску адшараваныя на камяністых дарогах, шмат падковаў. Над яслямі свяціла праз малую шыбку неба.

— Але не бачу ніводнай жывой мадэлі?

— На кабыле Паўлюк у Мугулёве.

— А конь, Воран?

— А Воран за тры дні даў вялікі круг. Змітрок браў у Друцаку ды Амсціславе падрады, па соль ездзіў у Воршу. Можа, яшчэ дзе калыміў, — не хаваючыся, адказаў Пракоп. — А вам патрэбны конь ці мае хлопцы?

— Хацеў пабачыць Змітрака. Ён ужо вярнуўся?

— Пад раніцу вярнуўся, але я з ім яшчэ не гаварыў. Каня паставіў, сам у ложак. А ці паспеў заснуць, не ведаю. Як я падняўся, ужо ні каня, ні самога. Ноч пад дажджом, шчэ не абсохлі ні конь, ні сам, а ўжо нямецкае сядло ўскінуў і паляцеў з двара.

— Надоўга?

— Відаць, у Грыбін. Там краля засумавала, трэба падвесяліць. Вось, збіў пасядзёлак. Бацька падшывай. Сам голку ў руку не возьме. Толькі на каня ды з каня. А ў вас, можа, яму падрад таксама?

— Ты ўгадаў. — Які ў мастака падрад, тлумачыць не было патрэбы, бо неаднойчы Пракоп меў той падрад. — Лямчык, бачу, яшчэ з маіх падсмажаных валёнкаў?

— Яшчэ. Дзякуй за валёнкі.

Пракоп перавярнуў падсядзёлак уверх лямцам, праткнуў лысую шкуру шылам, прасунуў следам за шылам шаршатку з навошчанай дратвінай, паклаў падсядзёлак з шылам і шаршаткай на калоду, з нагруднае кішэнькі ў кашулі ўзяў перакладзеную ў шмат столак газетку, у глыбокай кішэні нагавіц нашкроб і высыпаў пад палец у газетку шчэпаць табакі-самасейкі, больш бляклых караньков, як лісцікаў, пякучай, згарнуў цыгарку, сунуў пад губу. У руках ужо і крэсіва з'явілася з крамнёвым каменем

ды трутам. Па камені чырканууў і прыкурыў адразу, ад першае іскры. Тым часам Неўраў, пакуль Пракоп закурваў, прымасціўся на пустую, з-пад казённага аўса, перакуленую дагары дном бочку, дастаў з-пад крыса янота альбомчык, разгарнуў на калене, пачаў алоўкам замалёўваць, страляючы вачыма то на Пракопа, то ў альбомчык. Слядкі ад алоўка на паперы кläліся то ўроссып, то побач, след ля следу, след па следзе, цямнейшы па святлейшым, а месца кожнаму падказвала не адна мадэль, але яшчэ і думка, не менш за вока хуткая, хоць у той самы час мастак вёў гутарку без спешкі, як бы адразу, на розных хуткасцях, думаючы і пра адно, і пра другое. Адна думка, хутчэйшая, паслася там, дзе вока і рука з алоўкам, а другая, марудная, вяла размову ў іншым накірунку.

— Як з'явіцца Змітрок, прышлі да мяне. Я бачыў, як паляцеў ён на кані ў Грыбін. Кроў у яго гарачая, у плячах разгарнуўся, каня любіць, на воя змахвае.

— Ды любіць і каня. Зарос вахлак. На галаве — што грыва ў Ворана. З-пад грывы як тыя вочы бачаць.

— А не бяда. Усё ён бачыць. І каня, і дзяўчыну.

— Ды ўсюды паспявае. Кажу яму: калі шкадуеш часу, каб пагаліцца, дык гадуй бараду. А ён і барады не прызнае, бо старыць, кажа, і галіцца не любіць. Шчацінне як леташні сівец на балоце. Касу нагострыць, раз-другі правядзе, і ўжо кладзі жалеза на бабку, кляпаць трэба.

Неўраў перагарнуў у альбомчыку старонку, пачаў маляваць Пракопа па-новаму, а тым часам вока заўважыла на ганку і Аўгіню, Пракопаву кабету: плечы ад луткі да луткі, галава вышэйшая за вушак.

Што падумаў — тое і сказаў:

— Не разумею мужчыну, які выбірае жанчыну на галаву вышэйшую, у плячах шырэйшую. На якую сваю сілу разлічвае?

Пракоп не знайшоўся, што адказаць, і тады мастак зайшоў з другога боку:

— Змітрок удаўся ў бацьку альбо ў матку?

Тут Пракоп думку меў:

— Плячыма ў матку, а хітрасцю ў бацьку. Яму знайсці падрад як мне раз плюнуць. А солі мех ускіне на плячо і адразу бярэ другі мех на другое, каб роўна, кажа, несці.

Малюючы Пракопа з падсядзёлкам, Неўраў замалёўваў побач і кабету. Жанчына заўважыла, што ён робіць, бо зноў ды зноў кідаў на яе вокам, схавалася назад у сенцы і дзверы моцна зачыніла, каб і праз шчыліну яе не бачыў. Неўраў альбомчык сунуў пад крысо.

— Чаму, Пракоп, твая кабета хаваецца ад майго алоўка? Плечы як у вярнідуба, а страх адкуль?

— Кажа, што маляваць чалавека грэх, яго палтрэт ад Бога.

— Як жа так? Бог і курыцу стварыў, а яна кладзе яе, жывую, на калоду і адсякае галаву. Грэх ці не грэх?

Дзве наступныя хаціны нічым не прывабілі. У першай свой век дабівала глухая бабуля, гадамі старэйшая за Гіру, хоць ён, казалі, як тут з'явіўся, да яе сватаўся, а другая стаяла даўно без гаспадара з зашытымі дранкаю вокнамі, з-пад гнілой саломы скалячы збуцвелае клычча лагаў ды крокваў. З-за той паклычанай страхі мутна блішчэлі на вуліцу два акны, з якіх адно гаспадар называў сваім, Гараськавым, а другое Маланчыным, бо дачка Маланка, з якою ўдваіх жыў, пры тым акне ў хаце за печчу мела свой мост, дзе спала, і ўсё, што трэба ёй, рабіла. Там на круку пад столлю віселі начоўкі, якія яна, бывала, люляла, лежачы ці седзячы на мосце, хоць тая люлька была напханая трантамі. Вёска што-кольвечы магла ўспомніць пра панскага парабка, які ці то жыў, ці то бываў у хаце, і што некалі ў люльцы ляжала Маланчына дзіцятка ад парабка. Парабак у вёсцы жыў нядоўга, мала чым запомніўся, і ніхто ўжо не мог сказаць, калі ды куды дзеўся. Не жыло доўга і дзіця. А хворая на галаву Маланка з таго часу ўсё люляла начоўкі. Затое яе бацька быў у вёсцы не з цёмных, галава варыла, гаспадарыць умеў, мог зрабіць нешта адмысловае, да чаго не даходзілі ні галавою, ні рукамі іншыя мужыкі, але калі быў маладзейшы перамудрыў, прадаў зямлю, якую меў, прадаў каня, быка, пакінуў хворую дачку з старой каровай ды зматаўся ў далёкі свет, як у капейчыну, каб знайсці лепшую долю. Недзе на нейкай пуцявіне спатыкнуўся і вярнуўся назад у вёску, праматаўшы грошыкі ад продажу зямлі ды каня. З чаго жыць, адбіўшыся ад зямлі, згубіўшы нават і мазоль сялянскі: перабіваўся з хлеба на квас. Але гонар меў — на жытку не жаліўся, вінаватага не шукаў, ні пана ні цара, ні ў кога нічога не прасіў, не пазычаў, хоць сам пазычыць іншаму любіў, як бы тым сцвярджаючы сваю годнасць, тое, што засталося ад ранейшай гаспадаркі: цяслярны ды сталярны струмант, на каня хамуты, падсядзёлкі, аброці, шлеі, ад разбітых драбінаў колы, шворны, восі, атосы, нават кавалерыйскае сядло з-пад нейкага разбітага пад Лясной ці пад Палтавай шведа. Гэтым сваім багаццем быў у вёсцы камусьці патрэбны, а людзі з ім тады дзяліліся то кавалкам свежыны, то збанком малака, слоікам смятаны. Часам мог і пахваліцца, як хто спытае пра жытку, што ў чыгуне і на стале не пуста.

Калі Неўраў спыніўся за Гараськавым плотам, той сядзеў пасярод двара на калодзе, як на кані, зусім лёгка апрануты: лапленая кашулька ды жаночая хустка на шыі, без шапкі, плеш грэў на сонцы, якое якраз выпаўзла з-за хмары, усміхаўся ці сонцу, ці драўлянай баране, што перад ім ляжала. У адной руцэ трымаў сякеру, у другой абчасаны клац, які далікатна кратаў абушком сякеры, памалу заганяючы ў крыжавіну бараны. Мастак паклаў альбомчык на слуп у плоце, прыгледзеўся да мужыка, выбраў момант, калі той павярнуў галаву і барану да ярчэйшага святла, і правёў алоўкам, не адрываючы ад паперы, лінію лба, носа, падбародка, пазначыўшы адразу той самай лініяй брыво над вокам. Нечакана Гараська адвярнуўся ад сонца.

Быццам зазлаваўшы на яго за гэта, мастак склаў альбомчык і даў волю басу:

— Драўляныя бароны выходзяць з моды.

Гараська тарганууўся і аж падскочыў на калодзе ад перапуду. Апусціў сякеру на барану.

— Мода ў пана, а мужык за ёю не ўгоніцца.

Чалавек ён быў мірны, пакладзісты, з усімі пагаджаўся, хоць мог часам ціхма зрабіць штосьці па-свойму, наадварот. Нідзе нікому на вочы не высоўваючыся, пільнаваўся сваіх двара ды хаты, а гаварыў паўшэптам, з хрыпатком, быццам заўсёды балела горла, шапялявячы праз дзіркі ў зубах. Калі даводзілася ўжыць брыдкае слова, дык рабіў гэта саромеючыся, у кулак, каб іншыя не чулі. І пасміхаўся ў кулак, хаваючы ў ім нос і рот, а то і вочы. Як вымаўляў смялейшае, дык яшчэ і адварочваўся са жменяй каля рота, скрывіўшы губы, нібы не ён сказаў.

— Пракоп хоча набыць жалезную барану, — працягваў размову Неўраў, вострым вокам разглядаючы жвавы твар Гараські.

Той ці шапнуў сабе, ці адказаў шэптам яму:

— Хоча быць панам, а пазычае ў мяне драўляную.

Неўраў не любіў Гараськавага шэпту, чуў яго як з цёмнага замшэлага дупла, у якім жывуць ужо не птушкі, а кажаны ці нават чэрві альбо шэршні, і заўсёды, яго пачуўшы, яму насуперак, нават на здзек, грымеў басам. Як і цяпер:

— Сваёй няма ў Пракопа бараны?

Гараська ажно сцяўся ад моцнага голасу, узняў вочы да неба.

— Чаму? Я гэта не кажу. У Пракопа ёсць свая.

— Дык што ж ты? — не сцішваў Неўраў голас, усё роўна як на судзе абараняў Пракопа.

Гараська ледзь прыкметна, зноў у жменю, усміхнуўся і гэтаксама, дробным макам, пралепятаў:

— Сваю трэба самому даглядаць, а суседаву дагледзіць сусед.

— Дык ён браў у цябе барану і пагубляў клацы?

— Я гэтак не кажу. Браў Міцька, — смялей загаварыў Гараська. — Яшчэ да снегу, увосень, як пераворваў поле. Там і кінуў. Зіму ляжала пад снегам, у лёд умёрзла, а мне сказаў, што скралі. А хто ламачыну мог скрасці? Цяпер, як гной вазіў на поле, прывёз і барану. Можа, падумаў, — зноў не забыў хітра хіхікнуць у кулак, — што і яму яшчэ спатрэбіцца? Паставіў каля варотаў і маўчок. А мне яна ўсё ж свая. Мне шкода рэчы. — Паднёс дубец, з якога вычэсваў клацы. — Якое гэта дрэва? Ці ведае мастак?

Неўраў узяў дубец да носа:

— Смала. Сасна?

— Мацнейшае нават за дуб.

— Тады ядловец.

— Гэтакі зуб, калі добра паставіць, разваліць любы дзірван і не паддасца крэмню. А то Міцька як ідзе за наравістым быком, дык пільнуе быка, а барана скача як захоча, збірае пад сябе карчы, каменне.

Неўраў ужо не слухаў, што яшчэ плёў мужык, ужо разглядаў ягоны твар, каб пасля замаляваць па памяці. У ім штосьці было ад Міцькі, хоць з Міцькам, суседам, вялікай згоды не меў. Абодва ціхія, схаваныя, і тыя схловы выдавалі за жыццёвую мудрасць. Сама гэтая думка ніякіх пачуццяў, акрамя прыкрасці, у Неўрава не выклікала, і ён ужо адвярнуўся, адышоў ад плота, ды раптам зноў спыніўся, як не дагаварыў.

— А чаму ў цябе няма зямлі, няма каня, няма каровы? Галава і рукі не горшыя, чымся ў іншых, а жывеш не як іншыя?

Гараська гэтае нечаканае разважанне выслухаў як што сур’ёзнае, паклаў сякеру на барану, прайшоў праз двор да плота, за якім стаяў мастак, прыклаў далонь да рота і прашаптаў:

— А на храна мне яны?.. Абы ціха.

— Як гэта?.. — здзівіўся Неўраў. — Яшчэ я гэтага ад мужыка не чуў. Як у вёсцы жыць, калі свайго не маеш?

— Але жыву? — заўсміхаўся. — І пан жыве — не арэ, не сее, а белы хлеб жарэ? — усмешка была доўгая, застыла на твары, нібы і ад сябе, і ад таго пана.

— Дык у пана парабкі?

— А ёсць і ў мяне парабак, — шапнуў Гараська і азірнуўся, як забаяўся, што хтосьці яго можа падслухаць.

Няўжо, падумаў Неўраў, ён гэта пра хворую дачку? Аж схаладнеў ад тых слоў і сваёй думкі. Пра што было далей казаць?

— Не разумею, — вымавіў.

Гараська зноў руку прыклаў да рота, глянуў налева, глянуў направа, шыю чырвоную да Неўрава выцягнуў і яму ў вочы прашаптаў:

— Абы ціха.

Цяпер Неўраў успомніў, што ў вёсцы Гараську гэтак звалі старыя і малыя — Абыціха. Раней нават думаў, што гэта прозвішча.

— А парабак твой дзе? — спытаў.

Гараська паказаў пальцам на свой лоб, схіліўся грудзьмі на плот, тварам падаўся да мастака, нібы той быў глухі.

— У мужыка за парабка ногі і рукі, а ў мяне — галава.

Ён доўга гаварыць не любіў, два-тры словы — і ўбок. Бо з двух-трох слоў, бывае, не ўсё зразумееш, а ён якраз гэтага хацеў, каб да канца яго ніхто не разумеў.

Мужык адвярнуўся да бараны — пайшоў далей і мастак. Ішоў ды думаў: чаму — абы ціха? Не хоча, каб яго думкі нехта чуў? А мастаку сказаў — даверыў? Не хоча, каб чулі мужыкі — не зразумеюць? Смяяцца будуць, а то і морду наб'юць за тое, што запанеў, зямля яму брыдкая, мужыка за дурня лічыць? І дадуць ад душы, бо заслужыў: што лыч варочаеш? Знайшоў сродак жыць па-панску: пазычыць на дзень падсядзёлак — нясі, пазычыць барану — нясі. Штосьці ў гэтым для вёскі новае, а па сутнасці, дык і ён шукае парабка? Хоць і не скажаш, што не мужык.

З тымі думкамі дайшоў да Міцькавай хаціны. Варотцы былі ў двор адчыненыя, быццам гаспадар насустрач адчыніў, хоць быў не з тых, каб адчыняць камусьці свае дзверы ці сваю душу. У двор зайшоў, спыніўся. Каля хлява стаялі драбіны на трох колах і на калодзе замест чацвёртага кола, знятага з восі. Адразу ўспомніў гэтыя драбіны з гноем у панскім полі, як іх выцягваў з гліны разам з быком. Цяпер у драбінах на саломе ляжала кошка з кацянятамі, выпрастаўшы лапы. Малыя туліліся адно ля аднаго, нібы ўградзе гурочкі, усе рыска да рыскі аднолькава размаляваныя прыродаю пад тыгранятаў. Іх было трое, і кожнае глядзела двума выразна круглымі вочкамі з залаценькімі ў чорных зрэнках кропкамі. Каб не спалохаць цікаўную да яго персоны малечу, Неўраў асцярожна пасунуўся спіною да варотаў і адтуль пачаў замалёўваць кацінае гняздо ў драбінах.

Ужо схаваўшы альбомчык, стаяў у роспачы: завітаць у хату ці прайсці міма? Хацелася ўбачыць Міхася, спытаць, чаму даўно не заглядае з малюнкамі, і нешта стрымлівала. Але якраз пасвятлела ў галаве: вырваў з альбомчыка аркушык з катамі, у куточку паставіў алоўкам дзве свае літары, хоць грамацеяў, каб

іх зразумець, у хаце не было, прыкалоў на цвік, які тырчэў у дзвярах, і выйшаў на вуліцу.

Сустрэчы ды размовы з Пракопам і Гараськам, ды яшчэ тое, што Змітрок, сын Пракопа, быў у вёсцы, прымусілі вярнуцца ў свой дом. Адразу, як зайшоў у майстэрню, падышоў да шафы, адчыніў абедзве дзверцы, злева і справа, павысоўваў шуфляды. Шафа была заваленая малюнкамі, акварэльнымі эцюдамі. Браў жменямі і выкладаў на стол. Усё выклаў — пачаў пераглядаць. Адбіраў тое, што рабіў з мужыкоў не толькі ў Лыскаўшчыне, Грыбіне, Красулі, але і у вёсках больш далёкіх, у полі, па дарогах, якімі шмат хадзіў у першыя гады, сюды прыехаўшы, на рынку ў Друцаку, на станцыі ў Талачыне.

Усё, што замалёўваў, разам з акварэльнымі аркушамі клаў у адну кучу, бо яшчэ не ведаў, дзе, што і калі выкарыстае, наогул ці калі-небудзь спатрэбіцца. Шмат пра што забыў. Але цяпер, як пабываў з хлопцам у Друцаку ды разварушыў у памяці тое, што ведаў пра часы Друцкага княства, як ажыла ў вачах постаць Рагвалода ў атачэнні вояў, людства друцкага, ужо іншымі вачыма бачыў гэтае сваё багацце. Шукаў у ім канкрэтнае: твары ды постаці знаёмых і незнаёмых мужыкоў, знаёмых — найперш, жанчын таксама, каларытных, у нечаканых ракурсах, якія ўдаваліся, калі быў чалавек у працы, у размове, у глыбокім роздуме. Іншых, хто бліжэй, маляваў неаднойчы, шмат малюнкаў меў з Пракопа, Гіры, Парaскі, Восіпа, Гараські. З адной мадэлі любіў рабіць адразу, за адзін сеанс, некалькі малюнкаў, мяняючы то ракурс, то святло, то фон. А то, працуючы з адной мадэллю, мяняў свой погляд на малюнак, адзін рабіў дакладны, як фотаздымак, у другім даваў сабе волю, мяняючы дэталі пад пэўны тып, характар, пад свае настроі.

Вобраз князя запаў у думкі і душу раней, можа, як быў у Друцаку з Чарняевым. Работу адкладаў, бо не адразу мог выйсці на сюжэт, прастору, у якой найлепш глядзеўся князь. Пасля, калі ўбачыў яго на гарадцы, у акружэнні вояў, не бачыў, з каго тых station-вояў пісаць. Бо не знаходзіў мужыкоў, акрамя Гіры ды Пракопа, у якіх не жыў бы парабак, якім не ўсё роўна дзе і каму служыць. Агіда да халопства была ў крыві, магчыма, з маленства, ад бацькавага конюха Панцялея, які гаспадаром хадзіў па двары і ўсіх, хто быў не па душы, крыў басам: «Рабы, халопы вечныя!» Бас быў магутны. Па святах Панцялей спяваў у саборы, і на той бас, каб паслухаць, сыходзілася, як тады казалі, усё Замаскварэчча. Але хоць Неўраў і не бачыў, з каго пісаць у карціну вояў, ён ёю жыў, бо блізкая была яму па духу.

Ды і час Рагвалода, дванаццатае стагоддзе, быў не катом у мяху. Пісаў і адзінаццатае з Яраславам Мудрым — ведаў той побыт, тыя тыпажы, касцюмы, тую зброю. Дванаццатае пісаў з князем Раманам Галіцкім. Загадкаю не быў і Рагвалод, ягоны лёс на полацкім пасадзе, выгнанне з Полацка і шчырая сустрэча, як свайго, у Друцаку.

Стварыць сюжэтную карціну з Рагвалодам — колькі эцюдаў трэба з натуры? А колькі трэба мадэляў, каб мець у эцюдах вояў князя? З каго пісаць яго самога? Жывыя дзе мадэлі? Былі малюнкі і эцюды з мужыкоў? А на малюнках: воі альбо парабкі? Хто, урэшце, мужыкі тутэйшыя, як не халопы панскія? Ці шмат хто з іх паставіць волю вышэй за міласціну пана? Пісаць з гэтакіх вояў?..

Лыжкаю бразнуў у місу, бульбу не даеўшы, усхапіўся з-за стала, забегаў па пакоях. Спыніўся, ударыў кулакамі ў стол:

— А Рэпін запарожцаў з каго пісаў? Дзе браў бунтоўных, вольных казакоў? Хіба ў палках Хмяльніцкага, Мазепы, Сагайдачнага?..

Сеў зноў за бульбу з лыжкай у руцэ. І еў, і думаў. Больш думаў, пра бульбу забываючы. Яна то лезла, то не лезла ў горла.

Убачыў Рэмбранта, яго стралкоў пад сцягам — «Стралковую дывізію». Пісаў з якіх капралаў, афіцэраў? Хіба не ўзбунтаваліся гвардзейцы: чаму яны ў мастака не тыя малойцы, якімі сябе бачаць? Хацеў з іх кожны быць прыгожым, хвацкім, якім, можа, кожны і быў, але ў мастака свае законы і задачы. Ствараў не здымкі і нават не галерэю партрэтаў, а тэматычны твор, даваў яму адно дыханне і ўсіх сваіх гвардзейцаў падначаліў адзінай волі.

Бульбу не даеў, бо раптам здзівіўся: хіба мастак не можа парабка перастварыць у воя, убачыць воя ў парабку? Было ўжо не да бульбы: ці ёсць магчымасці ў перастварэннях формы, зместу сваёй мадэлі, калі мастак адкіне схему, догму, адчуе сябе вольным, апантаным? Мадэль — рэальнасць, праўда, але ж мастацкая праўда большая, калі не ідала шукаеш — вобраз? Што ідал? Ідыёт. Мадэль трэба адчуць як цёплы воск у руках, адчуць над ёю сваю ўладу. Хіба сам Бог не вёў рабоў да волі? Бог рабства не цярпеў. Дык будзь, мастак, ягоным вучнем — рабі вояў з рабоў.

Падумаў: што скажуць мужыкі, калі сябе ўбачаць воямі? Сябе пазнаюць? Спалохаюцца? Усё можа стацца. Але — не ўсё, бунт не падымуць, як у Рэмбранта стралкі. Бо ціхія, пакорлівыя. Мо нават на калені бухнуць: як ёсць — хай будзе так. Гараська

прамовіць са жменяй каля рота: абы ціха. Але ўсё ж будуць думаць: яны якія, як на карціне — воі, ці як сябе даўно адчулі — парабкі? Будуць пакутаваць? Хай пакутуюць і бачаць нават тое, як здзекуецца з іх, парабкаў, мастак. Пакуты істоту чалавекам робяць, бо чалавек — не мех са скуры, з касцьмі ды мясам, ёсць у яго пакутніца-душа. Адчулі тое пэўна і запарожцы Рэпіна, бо не былі яны ўсё ж воямі Хмяльніцкага альбо Мазепы. А як пісаў Дэлакруа «Свабоду, што вядзе народ»? З каго ляпіў пасіянарную жанчыну, якой мадэлі даў у рукі вольны сцяг? Сваёй «Свабодай», якую напісаў у 1830 годзе, выводзіў Парыж на барыкады ў сорак восьмым, сам гэтага не ведаючы?

Аднойчы раніцай прачнуўся — успомніў свае слёзы, як плакаў ва Уладзімірскім саборы ў Кіеве перад іконай Багародзіцы. Васняцоў пісаў з мадэлі, але як мог знайсці мадэль, каб гэтак узняла ў сваёй красе духоўнай вобраз Багародзіцы ды і самога мастака? Там безумоўна быў шэдэўр перастварэння жывога вобраза ў іканапісны.

Задума апанавала мастаком: пісаць у дружыну князя вояў з парабкаў. Неяк усхапіўся з ложка — прашаптаў:

— Восіп? — Прыслухаўся да цішыні і раптам басам на ўсю вёску, у акно адчыненае: — Ты чуеш мяне, Восіп?!

Драбіны пралескаталі ў сенцах — кот шаснуў на гарышча.

Запаліў лямпу. Абышоў з ёю пакоі, выйшаў у сенцы, там пасвяціў па закутках, шукаючы таго ката ці Восіпа, вярнуўся ў майстэрню, спыніўся і толькі тут дапяў, што новыя падрамнікі шукае: Восіп зрабіў ці не зрабіў? Калі зрабіў, дык дзе яны? Ні ў доме, ні ў сенцах. Занёс, можа, у пуню? Але ж падрамнікі стаяць павінны там, дзе цёпла, суха.

Вярнуўся зноў да ложка. Стагнаў, рыпеў зубамі, на ўвесь свет злуючы, на тое не зважаючы, што яшчэ не раніца.

— Куды ён іх схаваў? І дзе ўсе падзеліся? Ні хлопца, ні Параскі, ні падрамнікаў. Што робіцца? Як працаваць?

Сеў за стол, падпёр голаў рукамі, заплюшчыў вочы. Пачуў:

— Васільевіч…

Узняў галаву: пакой заліты сонечным святлом і ў ім стаяў, ухмыляўся Восіп. Адразу не дайшло: адкуль ён тут і сонца? А рот ужо раскрыў:

— Зрабіў падрамнікі?

Твар Восіпа ў адзін міг змяніўся. Вочы заміргалі, як звычайна, калі быў нечым вінаваты ці дурнаваты пасля п’янкі.

— Якія? — спытаў, як першы раз пра гэта чуў.

— Хіба я не казаў якія? На сажню і на дзве.

— Але ці ёсць у нас цёс на сажань? А на два? Гэта ж — о-го! Няма сухога. Ды і сырога нямашака.

— Бяжы да Гараські. Там стальвага, гэблі. Не знойдзеш — шукай у Пракопа. А лепш спачатку да Пракопа. Там хлопцы будуюцца. Калі няма, тады бяжы да Гараські. У Грыбіне жывуць сталяры, ты іх усіх ведаеш. Шукай. Не ты будзеш плаціць.

— У вас то спячка, то гарачка.

— Была спячка, цяпер — гарачка. Не стой, як слуп. Бяжы!

Восіпу нікуды бегчы не хацелася, былі свае думкі, куды ісці ці бегчы. Руку пад шапку сунуў, пашкроб патыліцу. Шапка звалілася з галавы на падлогу, з яе вылецела нібыта птушка. Неўраў яе заўважыў — нагнуўся, падняў з падлогі.

— Адкуль гэта ў тваёй шапцы?

Восіп здзівіўся сам, забыўшы, што клаў у шапку.

— Змітрок з пошты прывёз, вам перадаў.

— Казённы ліст?.. Ды ты не стой, бяжы. Каб у падрамніках былі распоркі, замкі на клінах.

Са скрыпам-рыпам, без ахвоты, падаўся Восіп. Неўраў зайшоў на кухню, наліў малака ў конаўку, адкроіў лусту хлеба. Есці не хацелася, але трэба было замарыць чарвяка, каб пазней не бушаваў. Як Восіпа падварушыў, тады сам супакоіўся, стоячы з малаком ля акна, пра казённы канверт забыўшы, бо думка ўсё ж не пакідала: ці здужае цяпер, пасля зімовай спячкі вялікую сюжэтную карціну? Яе чакаў і яе баяўся. Да яе ішоў і ад яе адступаў. Пачаць было не хітра, а як давесці да канца?

Пачуў, як нешта недзе цыўкнула. У грудзях ці ў галаве? І зноў. І зноў. Два, тры разы. Замоўкла. Але не ў грудзях, не ў галаве. З-пад печы? Стаіўся — баяўся дыхаць, каб не спужаць нясмелы гук. Зноў ён узнік. І раз, і два. І раптам шмат тых гукаў злілося ў адзін доўгі. Цвіркун прачнуўся — заверашчаў? Ён шмат гадоў жыў тут, пад печчу, як гаспадар у доме, усю зіму маўчаў, як спаў, увесну прачынаўся, і кожны раз знянацку.

Неўраў заўсёды быў рады песні цвіркуна. Чуў у ёй сваё — цёплае. З ёю прыходзіла надзея на штосьці новае. Цяпер думаў пра новую карціну: няўжо ўдасца?

Чакаў наступнай песні. І дачакаўся: залівіста заверашчаў цвіркун у доме. Пад тую песню раптам дзверы адчыніліся — зайшла Параска.

— О, Божа мой! — спалохаўся ці ўзрадаваўся.

— Куды хацелі бегчы? — спытала, парог пераступіўшы.

— Цябе чакаў. Усё адразу.

— Што ў вас адразу ўсё?

— Ды ты… ты і цвіркун. Паслухай.

Замоўк. Стаялі і маўчалі. Не чулі ані гуку. Яна ўжо пачала ўхмыляцца з яго дзівацтваў. Вось-вось не вытрымае — зарагоча. Ён ёй далонь — да рота, каб маўчала. І зноў заверашчала.

Параска рассмяялася.

— А я ж падумала, што вы зноў птушак чуеце.

— Гэта не песня? Вось… толькі што прачнуўся, як ты, можа, была ўжо на ганку.

— Пачуў мяне?

— Цябе гэта не радуе?

— У мяне пад печчу гэтакая радасць ужо цэлы тыдзень верашчыць. Але не як ваш. Ваш заліваецца. А мой: цык-цык-цык — і ціха. Зноў: цык-цык-цык — і ціха, маўчыць, слухае, што ты яму на яго песню скажаш. Як вучыцца спяваць.

— У цябе яна, жанчына. А ў мяне — мужык.

— Давайце іх пажэнім?

— Свайго прынесці да тваёй нявесты?

— Лепш, можа, я сваю нявесту прынясу да жаніха. Вы іх песні любіце, хай пасабляюць пісаць карціны.

— А што? Думка ў цябе добрая.

Тым часам Параска заўважыла на стале канверт, узяла яго ў рукі, агледзела з усіх бакоў.

— Цвіркун нацвіркаў ад сябра? — спытала.

Цяпер Неўраў пра канверт успомніў. Надарваў, дастаў з канверта невялікую паперку, прачытаў і кінуў на стол. Перасмыкнуўся ў твары, як горкую пілюлю праглынуў.

— Гэтакіх сяброў лепш не чуць і не бачыць.

— Можа, ад Лупандзіна?

— Амаль што. У суд валакуць.

Яна сумелася:

— Які вам суд?

— Які можа быць суд? Царскі, панскі. Той, што ў Лупандзіна ў кішэні. Спяшае выгнаць з дому. Цяпер — праз суд. Значыць, сур'ёзна задумаў. Які ў нас сёння дзень? Учора была нядзеля? А суд праз два дні. На зборы часу не даюць.

У гэты дзень Параска затрымалася ў Неўрава. Хадзіла па ваду, паліла ў печы, ставіла чыгункі ў печ з бульбаю, з крупою, насіла мядзведзю ды сабаку. Паснедаўшы з ім разам, прыбрала ў доме, пахадзіла з венікам ды мокрымі анучамі па пакоях, павыбівала на сонцы ходнікі, заслала чыстым ложкі, паперамыла на кухні посуд, у садзе на вяроўках ад яблыні да яблыні параз-

вешвала мундзіры, фракі, кафтаны, папоўскія рызы, вопраткі невядома якіх купцоў, князёў, баяраў, жаночыя ды мужчынскія світкі, мала ношаныя, акром адной, якая добра пасядзела на мужчынскіх плячах, — Гіравай. Яе пазнала лёгка, бо Гіра ў ёй хадзіў па вёсцы, калі быў маладзейшы. Прайшлася з дубцом па вопратках, павыбівала пыл ды на сонцы пакінула, каб вецер ды сонейка падсушылі з зімы. Неўраў тым часам з майстэрні не выходзіў, увагі на Параску не звяртаў, заняты малюнкамі ды эцюдамі, высыпанымі на стол, пераглядаў, адкладаў, а то ад іх адыходзіў, стаяў перад акном, глядзеў у сад падоўгу, пра штосьці думаў. Думаць было пра што — гэта Параска бачыла. Вярнуўшыся з саду, зайшла на кухню, села на слончык у сваім куточку і гуку не падавала, чакала, калі ён першым адшукае яе словам. Нарэшце паклікаў. Падхапілася, паправіла на галаве хусцінку, выйшла. Ён сядзеў, вачыма ўставіўшыся перад сабою ў сцяну. Спакойна папрасіў:

— Пасядзі са мною.

Калі села побач, ён у яе спытаў:

— А дома печ халодная, жывёла галодная?

Як супакоіла:

— Я сёння рана падхапілася, з печчу хутка ўправілася. Некуды Восіп сышоў. Сюды ішла — яго не бачыла.

— Я паслаў, каб рабіў падрамнікі.

— Тады хай робіць.

Падумаўшы, спытаў у Параскі:

— Што мне параіш?

А што яна магла параіць? Ужо неаднойчы раіла вярнуцца ў свой родны дом, адкуль прыехаў, дык жа не чуе гэтае парады. А што яшчэ? Пасобіць — чым? Аддаць сваё? Хай забірае: хату, свінню, карову, разам з шахцёрам-валацугам. Дык жа з яе гэтым багаццем зусім задушыцца. Сказала амаль тое, што раней казала:

— Калі пан да суда дайшоў, кідайце гэты дом. Тут радасці ўжо не будзе. Вам трэба супакоіцца і думаць пра сваё, каб працаваць. З панамі ды судамі спакой не знойдзеце.

— Ну а куды ісці? Пад чый дах?

— Калі свой дом нямілы, дык куды? У мужыцкі хлеў?

— Пра які хлеў ты кажаш?

— А ён аднолькавы ўсюды.

Рот раскрыў, як штосьці адказаць хацеў, але і закрыў адразу, быццам раздумаў. Толькі паветра хапануў ротам, нібы апошні раз. Яна спужалася, стуліла плечы:

— У Грыбіне я ўсе хаты ведаю. Няма вам там нічога добрага. Як хата большая, дык дзеці, хворыя старыя. Усюды слепяцца — мала святла. Ды яшчэ п’янкі, вечныя згрызоты, слёзы, лаянкі. Жывёла зімою ў кожнай хаце. У Друцаку ёсць большыя дамы, дык жыдоўскія. Я там бывала. Наймалася падлогу мыць, рабіць у градах, насіла туды курэй, смятану, яйкі. Там як у цыганоў. Ніхто ціха не скажа слова. Вы ў тым кагале і дня не пратрываеце.

Параска не казала абы-што, бо ведала жыццё ў тутэйшых хатах і тое, што трэба яму ў людзях, у доме.

Ён раптам сам быццам знайшоў:

— Тады я да цябе прыйду.

Ад нечаканасці зарагатала, а ён сур’ёзна, завостранымі зрэнкамі, глядзеў ёй у твар, нібы рабіў з яе хуткі малюнак. Яна даўно ўжо ведала, як ён, малюючы, глядзіць на чалавека, дзівілася, як можа чалавек вытрымліваць выяду гэтакіх вачэй. Бывала, што думала: яны ад Бога ці ад д’ябла? Вось і цяпер уставіўся, хоць не трымаў у руцэ ні пэндзля, ні алоўка.

Далонню твар закрыла.

— Ці я адмоўлю вам? — прамовіла.

Калі яе далонь спаўзла па твары ўніз, легла на шыю, пачула:

— Я без цябе, Параска, не змагу. Ні тут, ні ў Грыбіне, ні ў Друцаку. Нідзе.

— Гэта я бачу. Мастаку патрэбная жанчына. Жыць без яе догляду мастак не можа.

— Патрэбна мастаку? Тады не ўсё ты бачыш. Ты бачыш мае падрамнікі, мальберт, палітру. Маё нервовае шаленства. Маю старэчую дурноту. Яны тут, у вёсцы, камусьці смешныя, незразумелыя. Але яшчэ ў мяне душа. Таксама з псіхамі. Яна не кожную жанчыну да сябе падпусціць.

Неўраў падняўся з лаўкі, глядзеў у акно. Уверсе, дзе стаяў, над галавою, штосьці шкраблося. У той бок, на сонечныя шыбкі, глядзела і Параска. У шыбках плавалі кавалкі золата і цені сінія ад іх драбіліся на пёркі пад сонечнымі лёзамі. Там стрыглі крылцамі, шкрабліся вераб’і.

Абое нечага адтуль чакалі. Але не тое, што чакалі, чулі, і не адтуль, куды глядзелі. Пад печчу зноў заліўся песняю цвіркун. Зірнулі адно на аднаго, заўсміхаліся.

— Ну вось, — прамовіла Параска. — Няўжо пакінем яго пану?

— А мы ж дамовіліся, што пажэнім?

— Дык я хацела свайго сюды прынесці.

— Лепш я свайго злаўлю, з ім да цябе прыйду. У цябе вяселле справім.

Параска смяялася ад душы:

— Ну, пагуляем…

## ПАРТРЭТ СЯЛЯНКІ

Пра паперчыну з суда Неўраў стараўся не думаць, разважаючы па-старэчы спакойна: чаму быць, таго не мінаваць. Але яна калом сядзела ў галаве, і ўсё, што ні рабіў, атрымоўвалася не гэтак, як хацеў. То мітусліва апранаўся, выходзіў з дому, каб некуды сысці, у лес ці ў поле, то вяртаўся ў дом, нібы той без яго мог уцячы; ставіў на мальберт чысты падрамнік, браў у рукі палітру і адкладаў, зноў ды зноў пераглядаў малюнкі, па драбінах з сенцаў падымаўся на гарышча, за дзесяць год закіданае цёсам на рамы ды падрамнікі, кардонам, няўдалымі эцюдамі, злаваў і шкадаваў, што час на іх зглуміў, скідаў, каб спаліць, усё роўна як збіраўся пакінуць дом і замятаў сляды няўдалага ў ім жыцця.

Спусціўшыся з гарышча, выйшаў на дарогу, што вяла праз Друцак у Талачын, далекавата адышоў ад вёскі, спыніўся, агледзеўся, нібы хацеў убачыць хоць аднаго чалавека, але нікога нідзе не бачыў — крочыў далей. І ўжо стаміўся. Каб прысесці на камень альбо на якую калоду? Іх блізка не заўважыўшы, надумаў збочыць у цень пад дрэва — уздоўж дарогі з аднаго і з другога боку блішчэлі залітыя вадой канавы. Пайшоў далей і зноў спыніўся, задумаўся: чаму ідзе не ў вёску, не дадому, а ў процілеглы бок? Быццам вяла чужая воля.

Павярнуў назад.

Калі ўзышоў на свой пагорак, ужо ногі падкасіліся. Да ганка не дайшоў, сеў на вулей, і толькі тут, як пачало калаціць, ад холаду ці нерваў, убачыў перад сабою вопратку, развешаную на вяроўках, за ёю — вокны. Паміж вопратак вісела світка Гіры, побач — цёмны фрэнч галавы горада. Здзівіўся гэтакаму суседству. З вулля злез, схапіў дубец, якім Параска выбівала пыл з вопраткі, пачаў малаціць па фрэнчы. Выпырхнулі матылі, закурэў пыл, нібы Параска дагэтуль баялася яго трывожыць, не чапала. Малаціў, пакуль не абарвалася вяроўка, не пасыпалася на зямлю вопратка. Падняў Гіраву світку, зайшоў з ёю ў дом, сеў ля акна на лаўку, паклаў світку на калені, глядзеў у акно. Уся вопратка ляжала на зямлі пад дрэвамі, і тут першы раз

падумаў: навошта і каму захоўвае гэта багацце? Трэба было аддаць у музей, тэатр ці мастакам, якім патрэбныя, а не аддаў. Як аддасі цяпер, калі няма тут ні музеяў, ні сяброў-мастакоў? Раскідаць па хатах, каб мужыкі ды бабы даношвалі? Але гэтае думкі спалохаўся: за кожнай вопраткай бачыўся чалавек, які яе насіў, ды не абы-хто, чалавек пэўны, са сваім тварам, быў нават да кожнай вопраткі сюжэт хоць у мастацкі твор, як пражыла яна ў кагосьці на плячах, як трапіла да мастака, на якіх сваіх героях апранаў яе, у якіх карцінах вымалёўваў, якая які нораў выяўляла пад пэндзлем. Фрак Шчэпкіна! Як марыў набыць яго ў сваю калекцыю! І Шчэпкін зразумеў — сплаціў фракам за партрэт. А фрак Качалава! А генеральскі мундзір Чарняева? Як мог гэта абрынуць на зямлю? Раптам — дождж? А раптам — снег? Аж з дома выскачыў, быццам ужо з неба сыпалі ці дождж, ці снег. Падняў фрак Шчэпкіна, ускінуў на руку кіцель Чарняева, парчу, у якой пісаў князя Галіцкага. Падняў ды страсянуў і кіцель, па якім заўзята малаціў дубцом, быццам у тым кіцелі сядзеў жывы чыноўнік. А хто ў ім мог быць? Ды сам граданачальнік Томска, партрэт якога пісаў вучнем у адказ на замову купцоў ды свайго настаўніка Скоццы, ніколі таго начальніка не бачыўшы і нават не маючы здымка. Прыслалі купцы кіцель, па ім пісаў галаву, шыю, плечы, жывот вялікі. І трэба ж — угадаў? Аж сам здзівіўся. Як узнагарода за ўдалы партрэт застаўся кіцель. Хіба ж ён — не рэліквія?

З вопраткаю на руках спыніўся каля ганка: хтосьці дарогай ехаў у фурманцы — звярнуў да дому. Знаёмы конь — Пракопава кабыла? Сам гаспадар пры лейцах? Ды не адзін — сын побач.

Пад’ехаўшы, спыніліся.

— Куды далёка, на ноч гледзячы? — спытаў, павесялеўшы, бо рады быў абодвум.

— Ды вось прыехалі.

— Калі да мяне, заходзьце ў дом.

— Прасілі, каб сына прыслаў, як аб’явіцца? Дык я вам яго даставіў, — сказаў Пракоп.

— Ужо ведаю, што Змітрок у вёсцы. Бачыў, як па дажджы імчаў у Грыбін да каханай. Выбраў па сэрцы ці па думцы?

— Па сэрцы, здаецца, — заўсміхаўся Змітрок, кідаючы вясёлыя позіркі на бацьку, быццам пра гэта толькі што ў іх была размова.

— Добра, што па сэрцы. Думка бывае хітрая, хлуслівая, а сэрца не схлусіць, скажа праўду.

На баку ў Змітрака цераз плячо на доўгай шлейцы вісеў белы, з сырамаці, кашэль. Змітрок высыпаў з яго на стол лесавыя арэхі. Усе ўзялі па арэху на зуб.

— Лузганцы, — заўважыў Змітрок. — Леташні год быў на арэхі дужа ўдалы. Зіма не пераела, пакінула на строгі пост. Заўтра будзем чысціць, прыбірацца, у лазні мыцца, да Пасхі рыхтавацца.

— Якраз на чыстку вярнуўся з аб'езду? Відаць, што гаспадар, — ухваліў Неўраў. — Як у Воршы жывуць? Усё ж Ворша — горад.

— Кажуць, што наспявае вайна з японцам.

— Пра тое ў газетах пішуць.

— Калі пачнецца, без мужыка не абыдзецца. Хоць бы паспець адсеяцца, пакідаць у зямлю бульбу. А тут яшчэ надумаў прыруб да старой хаты ставіць.

— Бачыў тваё бярвенне. Сам з сякерай?

— Вугал кладзём з братухай. Але… кладу і думаю, каб маладзіцу ў новай хаце ўдавою не пакінуць.

— Не каркай, — спыніў сына Ракоп.

— Мы не ўгадаем, вайна будзе ці не будзе, — задумаўся Неўраў. — А жаніцца, калі на гэтым усё сышлося, трэба. Справа маладая, адкладу не церпіць.

— Калі вайну, як людзі кажуць, развязвае цар, дык навошта гэтакі цар? Яму яна патрэбная, хай і ваюе са сваімі генераламі, а мужыка не чапае. У мяне галава сваім баліць.

Пракоп на лаўцы заварушыўся, незадаволены думкамі сына, пекануў спадылба строгім позіркам.

— А цар не твой?

— Яго я цараваць не ставіў.

— А каго ставіў? Круля варшаўскага?

— І круль мне да ражна. Усе аднолькавыя, злева і справа. Прагнуць крыві мужыцкай. Мне свая кроў самому патрэбная.

— Замоўкні! — грукнуў кулаком міма арэха ў стол Пракоп. — Па гарадах паездзіў, набраўся вошай за каўнер. Трэба ведаць, каго там слухаць. — Ніжэйшым голасам пажаліўся: — Вось вам цяперашнія дзеці. Што ад іх чакаць?

Неўраў уважліва глядзеў у твар Пракопу. Калі і той на яго глянуў, нібы чакаючы падтрымкі, сказаў:

— Шчаслівы ты бацька. Я табе зайздрошчу.

Падняўся з лаўкі, абышоў вакол стала, каля акна спыніўся, глядзеў у сад. Спіною чуў і бачыў, як госці кулакамі разбівалі на стале арэхі, і тое, пад тэмпераментны настрой, груканне надзіва

супакойвала. Вярнуўся да стала, сеў паміж іх, таксама пад кулак паклаў арэх, разважыў — ні за аднаго, ні за другога:

— Усюды ёсць улада. Няма цара, дык ёсць кароль, а не кароль, дык цар. Не дай ім улады — самі возьмуць. Куды ад іх нам дзецца? І мужыкам, і мастакам.

Змітрок і з ім гатовы быў на спрэчку:

— Калі свая ўлада, дык хай дасць мужыку зямлю і волю.

Пракоп усхапіўся хмарай, згроб з лаўкі шапку, больш слухаць не жадаў. Але як перадумаў, сеў зноў за стол.

— Не, хлопец. У мужыка сваёй улады не бывае, і волі табе не дасць ніводная ўлада. Зямлю, пабагацеўшы, купіць можна, а волю не купіш і за грошы. Бо волі ўсім не хапае, яе заўсёды мала. Калі яна ў пана ды цара, тады яе няма ў мужыка, а дай мужыку, тады не будуць цараваць ні пан, ні цар. Тут, паміж іх, вайна вечная. Бо як няма волі — няма і жыткі.

Пракоп сядзеў ужо ціха, глядзеў, звесіўшы галаву, пад стол, там шапку ў руках камечыў, бо з Неўравым не мог спрачацца, а сын хоць і маўчаў, як бацька, слухаючы разважлівага мастака, ды вочы бліскалі ва ўсе бакі, агнём гарэлі. На лаўцы зноў крутнуўся, не жадаючы, каб заціхала спрэчка, спытаў:

— А як тады быць мужыку?

— Як быць? — развёў рукамі Неўраў. — У кожнага ёсць гэтая загадка. Як зможа кожны з нас. Жыць трэба сваім розумам, па сваіх сілах. Розуму ды сілы болей, як страху, тады жывеш як чалавек, а калі болей страху, як розуму ды сілы, тады будзеш быдлам. Ты гэта не бачыш? У Лыскаўшчыне розуму ды сілы мужыку хапае, каб цярпець. Тут страху шмат перад царом ды панам. Гэтакае і жыццё: абы ціха, абы пан не прагневаўся, абы бульбачка зарадзіла, абы свайго хлеба хапіла хоць да Калядаў, абы кароўка не здохла, абы свіння апарасілася. Што маўчыш, Пракоп? Не гэтак жыве Лыскаўшчына? І Грыбін, і Круглае, і Друцак. Куды тут са сваімі фарбачкамі ні кінуся, усюды бачу адно ярмо на ўсіх. А мужык працавіты, сумленны. Мне дужа прыкра бачыць яго на каленях перад панам. Ды хоць бы пан быў свой. А то ж са свету прывалокся і паласуе спіны бізуном. Сумна. Вельмі сумна.

— Гэтак ад веку. Усюды, — прамовіў Пракоп.

— Ад веку? — Неўраў паглядзеў на хлопца: — А сын што скажа? Тое, што і бацька?

Той доўга не думаў:

— Кожны век мае свой канец.

— Чуеш, Пракоп? Твой сын не дурань. Ты за яго не бойся. Настае час, калі не толькі бацька сыну дае парады, але ўжо і сын бацьку. Гэта не бяда. Гэта шчасце. Ты кажаш: ад веку, усюды. А не, не ўсюды. Паехаў да суседзяў, на Украіну, Рэпін, мастак, і што адтуль прывёз? Запарожцаў, казакаў, якія пішуць ліст турэцкаму султану, свайму ворагу. Там, на карціне, піруе воля казака, душа ды сіла, мужыцкі жарт ды здзек з султана. Магутныя постаці, фігуры, твары! Якія тыпы! Не мужыкі — арлы! Глядзіш на іх і думаеш: гэтыя сваёй волі не аддадуць ніякаму султану, хану ці цару.

— Я хачу бачыць тую карціну, — сказаў Змітрок, не адрываючы вачэй ад Неўрава, быццам мастак мог паказаць яму тых запарожцаў.

— Будзе час — убачыш.

— Каб ён сюды прыехаў, той мастак.

— І тут знайшоў казакаў?

— А што?.. Няма?

— Ёсць у яго на палатне і наш казак. Да Здраўнева пад Віцебскам яшчэ ты не даехаў на Воране?

— Не чуў такога. Вялікі горад?

— Яго маёнтак. Там беларуса напісаў.

— О-го! — Пракоп прачнуўся. — Такі, як мы?

— Як Міцька. На яго падобны.

— Свіное Вока?

— Мужык як мужык. Малады, плячысты, як быццам не горшы і за казака. Але…

— А што — але?

— Некалі я спытаў у генерала ў Тубушках, па чым гусара можна пазнаць адразу? Па вусах? А ён мне кажа: не, вусы — яшчэ не ўсё. Па воку. Ёсць вока арла, яно вялікае, шалёнае, гарыць агнём. Гэта — вока гусара, казака. Пытаюся: а ёсць яшчэ якое? А ёсць яшчэ, кажа, свіное. Яно малое, схаванае ў сале, сядзіць там ціха, у шчыліне. Гэтакае ўбачу — скажу адразу і не памылюся: не гусар.

— Дык гэтакае ў Міцькі, — зарагатаў Змітрок. — Усе нашы мужыкі, як Міцька, ніцыя. Гэтак самі кажуць, адзін на аднаго, што ніцыя.

— Ну, не ўсе. Глянь на мяне?..

Змітрок ва ўсе свае пукатыя бабіны глянуў на мастака:

— Таксама ніцы?

— Не, ты — арол.

— А вы на нашага Васілька гляньце? Вочы — як у каня. І гэтакі шалёны, як Каштан.

Змоўчаў Неўраў, але падумаў, чаму гэтак даўно не бачыў малодшага Пракопавага сына. Не ўгледзеў, як Змітрок сілай наліўся. За ім і Васілёк. Раслі хлопцы, нібы грыбы ў лесе.

Узяліся за арэхі зноў. Усе ўтрох грымелі ў стол кулаччам. Неўраў спытаў у Змітрака:

— Ужо будзеш у вёсцы? Нікуды не паедзеш?

Змітрок кінуў позірк на акно:

— Тут цяпер самая работа. Мой камандзір на небе. То сонца, то месік. Начны рог змыліцца — збірай саху, бароны, насенне. Прыбудзе маладзік — едзь на кані ў поле. Пустога дня не знойдзеш. Каня ў хамут і сам у хамуце.

— Яшчэ зямля ў баразну не гоніць, — супакоіў сына Пракоп.

— А тыдзень пастаіць, як сёння дзень? Жабы заквакаюць — авёс сып у сяўню. Пасееш у гразь, дык будзеш князь. Каліна зацвіце — бярыся за ячмень. Як управішся да Тройцы — зародзіць.

— Наша поле пад авёс нізкае, рана пакідаеш насенне — туманы рунь з'ядуць і колас не нальецца. Тады будзеш княжыць. Гэтакая і салома атрымаецца: счарнее — ні каню, ні карове.

Цяпер, абодвух слухаючы, Неўраву падабаліся і сын, і бацька. Была спрэчка, але ціхая, як у гаспадароў, маладога-гарачэйшага і старога-цішэйшага яднаў агульны клопат. Падумаў: чаму няма ў вёсцы сварак? А таму, што свяціла нябеснае адно на ўсіх, супраць яго не пойдзеш, як хочаш есці, жыць. Яно ўсіх мірыць.

Пракопа тым часам і тое хвалявала, чаго не зразумеў раней:

— Дык чаму вашаму мастаку ўдаліся тыя казакі, а не ўдаўся беларус? Не тое вока яму паставіў?

Змітрок зарагатаў:

— Ты хочаш, каб Міцька пісаў ліст турэцкаму султану або маскоўскаму цару? Каб ён іх мацюкамі крыў?

Неўрава ўжо хваляваў Змітракоў каляндар:

— Праз тыдзень, кажаш, цябе я ад сахі не адарву? А ты ж мне патрэбны хоць дні на два.

— Пра гэта бацька мне казаў. Дык я не супраць. Малюйце.

Пракоп, нібы гусак, выцягнуў танклявую шыю:

— О-го, палтрэт! Ён гатовы хоць зараз.

— Магу і зараз, — Змітрок прыгладзіў пальцамі яшчэ малыя, чарнявыя, з бляскам, вусікі, каб яны гэтак не тырчэлі ў бакі, як у бацькі. — Адклад не на лад. Хоць на сяўбе, хоць на палтрэце. Ці сёння ўжо позна?

Апошнімі днямі, як пан узняў завaруху з домам, у галаве ў Неўрава думкі скалаціліся, а тут яшчэ падаспелі судовыя паперы — лад быў патрушчаны ў ім самім, у душы і ў думках: які цяпер ён будзе за палатном, у рабоце? Было — хоць адмаўляйся сам. А як ужо адмовіцца?

— Не сёння, мабыць. Святло не тое. Сёння з табой, Змітрок, адвязем на новую кватэру прыгожую жанчыну. Яна тут у мяне. І везці недалёка. Якраз у цябе фурманка з сенам, не будзе мулка.

Сын з бацькам загадкава пераглянуліся.

— Якую жанчыну?

Неўраў узяў хлопца пад руку, завёў у гасцёўню. Там спыніліся перад Венерай.

— Бачыш яе? Сусветны эталон жаночае красы. Калі мастак гэта не адчувае, ён не мастак.

Напруга з твару Змітрака сышла — заўсміхаўся.

— Ды я чуў, што з бабаю глінянай жывяце.

— Бяры падпашкі. Я не раўную.

Венеру прывезлі да Параскі. Неўраў бываў у яе хаце неаднойчы, але ніколі не заглядаў у прыбудову, якую пацііху, па бярвенцы, да хаты прыляпіў Восіп, наперад думаючы пра жыццё. Прыбудова пуставала, заваленая абы-чым, больш — смеццем, халодная, хоць ужо была накрытая, у ёй стаяла грубка, яшчэ не беленая. Прыбралі ў кутку, паставілі на ёмкую калоду гіпс. Тут і маўклівы, не ў гуморы, Восіп пажартаваў:

— Ну, маці, збылася твая мара, каб я жаніўся. Сама, бачыш, прыехала, шукаць не трэба.

— Без рук, без ног, якая гаспадыня? — забракаваў сваім сялянскім вокам Змітрок.

— Затое не папракне, як чарку лішнюю вазьму.

Параска сядзела збоку, усіх слухала, сама маўчала. Было ёй не да жартаў. Адчувала, што радасці ад нечаканай кватаранткі не прыбавіцца. Неўрава яе разгубленасць непакоіла, сам засмуціўся: ці не паспяшаўся? Ды ўжо назад не павязеш. Каб надта не перажываць за тое, што зрабіў, у Параскі не заседзеўся, вярнуўся з хлопцам у фурманку, але і па дарозе, едучы, думка тачыла: усім даў клопату. Змітрок дапытваўся: навошта было гэтакую красуню везці ў вёску, навошта яна Восіпу? Як растлумачыць, не ўспомніўшы Чарняева? Гусарыў не толькі ў войску ды на балях. Калі збіраўся ў Тубушкі, зайшоў да мастака. Убачыўшы Венеру, схапіў падпашкі ды ў мех: спатрэбіцца ў школе ў Тубушках, хай там вучыць дзяцей мастацтву. А чаму адвёз на новую кватэру?

— Не ад вялікай радасці.

— Што за бяда? — і гэта хацеў высветліць Змітрок.

— Паперу з суда не ты прывёз мне? Перасяляцца трэба.

Змітрок загарачыўся ўжо без смеху:

— Каб у вёсцы было з кім, каб не адзін, я б цмоку нашаму знайшоў пятлю. Яна па ім плача даўно. Хай толькі падрасце братуха.

Тут ужо і Неўраў за яго захваляваўся, як раней Пракоп:

— Нікому гэта не кажы. Нават бацьку, брату.

Пачыналіся дні напярэдадні Пасхі, і Змітрок, сабраўшыся ў Друцак да сваіх купцоў па грошы за падрад, заехаў на кані да Неўрава: што прывезці ад Хаіма? Падумаўшы, Неўраў узяў кашолку, якую ў доме пакінула Параска, спяшаючыся, калі апошні раз прыносіла малако, сыры ды яйкі, паклаў у кашолку кнігу, што браў у бацюшкі, ды сеў да Змітрака ў брычку. Прыехаўшы ў Друцак, разышліся кожны ў свой бок: хлопец — да купцоў, мастак — да бацюшкі.

У царкве ішла служба. Неўраў падышоў да матушкі, купіў таўсцейшых свечак, загарнуў у чыстую анучку, з адною ў руцэ падышоў да распяцця ля ўваходу, прыпаліў, паставіў да крыжа страсцей Гасподніх. Прайсці далей, каб паслухаць айца Максіма, было немагчыма, людзей стоўпілася — не прабіцца, і ён, пастаяўшы каля матушкі, папрасіў перадаць бацюшку кнігу з вялікай за яе ўдзячнасцю. Узяўшы кнігу, яна параіла дачакацца канца службы, але заўважыла, уздыхнуўшы, што ў бацюшкі нялёгкі дзень. Перад распяццем прачытаў посную малітву, якую памятаў з маленства, ды выйшаў з царквы на брукаваны пляц. Зайшоў у бліжэйшы немалы дом, за ім — у суседні яшчэ большы, але там і там бачыў, што не гэтак жывуць людзі, каб сярод іх яму знайшлося ціхае для працы месца. Гаспадары не адмаўлялі: прыходзь, жыві, — але ў дамах не пакоі, а катухі, не бачыў месца для мальберта, падрамнікаў, карцін, для шафаў з вопраткай і рэквізітам, трумо, сталоў і крэслаў. Было шмат вокан, ды не было патрэбнага святла.

Вярнуўся да царквы. Ля брамы стаяў сярэдніх гадоў мужчына ў чорным, як манах, адзенні — з ім загаварыў. Той аказаўся настаўнікам школы пры царкве — пачаў распытваць: хто ды адкуль. Жыў ён тут з восені, добра Друцак не ведаў, сам прыстойнага жылля не меў, абыходзіўся катухом у школе, параіць вольны дом ці хоць палову дома ў мястэчку не мог, але, успомніўшы, падказаў дом на беразе Друці, у які на лета прыязджае гаспадар з Варшавы, — сам хацеў там уладкавацца. Сябе на гэтай думцы абарваў — спытаў:

— А не для вас айцец Максім прасіў мяне пашукаць у разумных кнігах пра рынак рабоў у Друцаку?

— Пра тое ў нас з ім была размова.

— Дык у Мугулёве ў манастыры я меў гаворку з адукаванымі людзьмі. Але ж тое рабства — далёкі час. Князь Глеб, які сядзеў у Менску на пасадзе, меў воўчы нораў. Палонных вояў ды і сваіх сялян прадаваў і меў з таго вялікія барышы. Суседзям гэтае барышніцтва не падабалася. Князь кіеўскі Уладзімір з князем чарнігаўскім Давыдам ды князем літоўскім Жывінбудам разбілі войскі Глеба, спалілі Менск, Друцак, Воршу, паперабілі гандляроў рабамі, вызвалілі нявольнікаў, а Глеба завезлі ў Кіеў, дзе ён і сканаў.

— Тут княжыў Рагвалод, былы князь полацкі?

— Гэта пазней. Прыйшоў спачатку Яраполк, сын кіеўскага Уладзіміра. Але тут не жыў. Гэтае месца звалася воўчым лагвом.

Пра Рагвалода настаўнік больш нічога не сказаў, заспяшаўся. Неўраў яго яшчэ затрымаў, успомніўшы пра Міхася, спытаў, як уладкаваць хлапца, каб павучыўся ў школе. Настаўнік пацікавіўся, што за хлопчык, чый ён, параіў звярнуцца з гэтым да бацюшкі, які сам з вёсак падбіраў вучняў.

Падышоў Змітрок — паехалі да крамы Хаіма. Гандаль вяла Хайка. Убачыўшы жанчыну за вагамі, Неўраў адразу ўспомніў, як яе яму хваліў Хаім, крактануў, нібы ад цяжару, паважыўшы тыя пуды, не менш — як восем, і не паспеў схаваць сваю ўсмешку, жанчына яе заўважыла — спытала:

— Што вам смешна?

Быў вымушаны адкрыцца збольшага:

— Успомніў Хаіма, як ён кахае вас.

— А што? Мяне нельга кахаць? Я баба цёплая. — Тут і яна павесялела, какетліва павяла пухлым плячом, крутнула не меншым, як у добрай цялухі, задам. — Вы ведаеце Хаіма?

— Хто Хаіма не ведае?

— Дык, можа, скажаце, як вас завуць?

Неўраў назваўся. Яна ў далоні пляснула, нібыта марыла даўно ўбачыць, усклікнула:

— Пане Неўраў?! Мне Хаім хваліўся, што вы ў яго бралі алей. А селядцы ці бралі?.. Як кажа Хаім, — цымус… — Яна ўжо клала селядцы на вагі. — І што яшчэ вам?

— Цукеркі ёсць? І пернікі?..

Якраз у краму, грукаючы ботамі, зайшоў Змітрок. Глянуўшы у яго бок, Хайка адразу забыла пра Неўрава: ускінула рукі, у адной з якіх за галаву трымала тлустага селядца, з ім ледзь

не выскачыла з-за вагаў. Змітрок заўсёды, як ехаў на кані праз Друцак ці ў Друцак, краму Хаіма ды Хайкі не абмінаў. У Друцаку заробак меў, капейчына ў кішэні вадзілася, і як было не заўважыць гэтакага хлопца? Хайка не пыталася, што яму трэба, сама ведала, і цяпер адразу выставіла гарэлку «Царскую» і «Казённую», на адзін бок вагаў кінула большую гірку, на другі паставіла глыбокую бляшанку пад селядцы.

— Бяры, мой любы, бяры ўсё, чым я сёння багатая. Табе нічога не пашкадую. Адарву ад Хаіма і дам табе, гожы хлопец. Яшчэ ты не жаніўся? Ой, у мяне дзеўка прыгожая! Уся ў мамку.

— А што ў яе ад Хаіма? — падахвочваў на вясёлае слова Змітрок.

— Навошта ёй ад Хаіма? У мяне ўсё ёсць, што трэба і табе. Ой, смачны селядзец! Дзесяць фунтаў мала?..

Калі выйшлі з крамы ды вярнуліся да каня, Змітрок адразу развярнуўся ў бок Лыскаўшчыны, але Неўраў загаварыў пра дом, што падказаў настаўнік. Дом хлопец ведаў — паехалі туды.

За мястэчкам падняліся на высокі бераг Друці.

Драўляная хароміна на два паверхі з тэрасамі ды зашклёнымі галерэямі шыкоўна выглядала ў старых ліпавых прысадах. За ліпамі пад кручаю на ўвесь зарэчны поплаў раскашавалася вясновая Друць, вада стаяла да лесу на тым беразе. На момант Неўраў уявіў сябе ў доме — зайграла сэрца. І не было пытанняў, акром аднаго:

— Дзе той чалавек?

Змітрок аберуч ухапіўся за пранты жалезнай брамы. Забрахаў схаваны ад вачэй сабака. З ганка бакавой тэрасы сышоў сівы, з інтэлігентнаю бародкай, дзядок, паважны і нетаропкі, як сам уладальнік дома. Але ён аказаўся ўсяго толькі вартаўніком. Не адчыніўшы варотцаў, праз пранты брамы сказаў, што гаспадар прыедзе, як зацвіце ліпа, а цяпер лечыцца на водах у Еўропе. Калі ж дазнаўся, што перад ім мастак, палагаднеў:

— Прыходзьце, як прыедзе гаспадар. Ён любіць гэты дом і мастакоў. — Нават ласкава паўтарыў з арыгінальным акцэнтам у голасе ці не самога, як падалося, гаспадара: — Прыходзьце, як зацвіце ліпа. Пан прафесар будзе ў гэты час абавязкова.

З прыемнымі думкамі Неўраў вяртаўся ў Лыскаўшчыну. Ён добра ведаў, як блізкія яму мастакі любілі жыць у гэтакіх багатых дамах, іх цішыні, утульнасці, як хораша там пісалася Левітану, Каровіну, Сцяпанаву, маладзейшым Жукоўскаму, Бялыніцкаму-Бірулі, Багданаву-Бельскаму, як гаспадары дамоў, людзі звычайна вядомага роду, высокай культуры, шанавалі мастакоў, любілі

жыць з імі побач, ганарыліся тым, што ў іх дамах ствараюцца творы мастацтва. Чаму ж Чарняеў не прывёз сюды? Ён гэты дом напэўна ведаў? Ці у той час, як разам прыязджалі, хоць і была вясна, не цвілі ліпы?

Ад'ехаўшы ад брамы, Неўраў спытаў у Змітрака:

— Калі прафесар, то ў якіх навуках?

На гэта Змітрок яму нічога не адказаў, але ўспомніў, як аднойчы вёз гэтага прафесара ад цягніка з Талачына, як тут заносіў яго цяжкія чамаданы ў дом.

На скрыжаванні конь хуткай рыссю пайшоў не сваёй дарогай. Змітрок рэзка ўзяў на сябе лейцы, вылаяў каня, колы заскрыгаталі на крутым развароце, падкінулі на прыдарожным раўку, і Змітрок замоўк.

Маўчаў цяпер і Неўраў. Прыемна ўхмыляючыся, ён ужо бачыў сябе ў новым доме, у пакоях, абстаўленых старою, у цёплым тоне, мэбляю, на адмысловых карунках паркетнай падлогі, сярод прыглушаных часам карцін старых майстроў, грэўся той мэбляю, тымі карцінамі ля кафельных грубак ды камінаў, праз высокія, з цяжкімі габеленавымі шторамі вокны глядзеў на Друць, яе вялікую вясновую ваду, і ўжо не сумняваўся, што ў тых пакоях будзе прывечаны як госць жаданы, там будзе жыць і працаваць не толькі ў залатую пару ліповай квецені, але і зімою, калі гаспадар паедзе ў Еўропу на гаючыя воды, будзе пісаць у светлым доме цудоўныя, ад сэрца і душы, карціны. І тады яны абавязкова з'явяцца на буйнейшых сталічных выставах. Пра яго, як некалі, загавораць у прэсе і мастацкіх салонах, і ўсе прызнаюць, што Неўраў зноў на вышыні свайго таленту, што рана яго хацелі зрабіць усяго толькі дырэктарам славутай Траццякоўкі, ён зноў сярод лепшых у айчынным жывапісе, і гэтае адраджэнне адбылося ў прыгнечана-прыціхлай Белай Русі, у нікому не вядомай Лыскаўшчыне сярод парабкаў, дзе нават Рэпін шукаў і не знайшоў жывой мадэлі, каб выявіць духоўную красу і моц мужыка. І калі гэта ўсё яго чакае, то трэба дажыць да дзён, як зацвіце ліпа.

Едучы, мог доўга маўчаць, бо на душы святлела ад прыемных думак. Але Змітрок, адкінуўшыся назад плячыма, напяўшы лейцы, раптам спалохаў усе думкі:

— Тпрру-у!.. Стой, Воран!.. Прыехалі!..

Конь крута заламаў шыю ў бок напятай лейчыны, злосна бліснуў вялізным круглым вокам, і ў той самы момант гнеўным вокам бліснуў на каня Змітрок, напяўшы скуру на шыі ды сківіцах. Неўраў як глянуў збоку яму ў твар, штосьці не зразумеўшы, аж кінула, нібыта парывам ветру, ад хлопца: яшчэ не

бачыў гэтакага прыгожага. А прыгажосць была ў сіле, рашучым тэмпераменце. Адразу думка ўспыхнула: партрэт! Глядзеў, каб запомніць. А ён ужо не ў брычцы, ужо за ёю па калені ў вадзе стаяў, пхаў каня назад, з вады на дарогу.

— Куды прыехалі?

— Вада прарвала гаць на панскай сажалцы, дарогу заліло. Зноў пан абвінаваціць мужыкоў, што рыбкі захацелі, пусцілі на поплаў з сажалкі.

З абодвух бакоў і лес стаяў у вадзе.

Звярнулі ў лес, і брычка пакацілася між тоўстых падгалых хвояў па мяккай пясчанцы. Паспакайнеўшы, Змітрок сказаў:

— Аб’едзем сажалку.

— Пан, кажаш, зваліць віну на мужыкоў?

— А ў яго за ўсё адказвае мужык.

Круг быў хоць немалы, але конь хутка вынес да вугла панскай агароджы, праехалі і міма брамы з двума шэрымі львамі. Змітрок звярнуў пад хвою, спыніў каня.

— Знаёмыя мужыкі, — саскочыў з брычкі на зямлю.

Калі ехалі паўз агароджу ды браму, Неўраў глядзеў у той бок, дзе стаяў панскі дом, і не заўважыў, што з другога боку дарогі насупраць брамы пад маладымі хвойкамі стаялі мясцовыя сяляне. Яны і затрымалі Змітрака. Вярнуўшыся ад іх да брычкі, хлопец адразу ўзяў у рукі лейчыны, з горыччу сплюнуў пад ногі, сеў у брычку.

— Прыйшлі да пана, каб павініцца за гаць? — спытаў Неўраў.

— Гэтак і я быў падумаў. Але хочуць прасіць насення пад адпрацоўку на паншчыне, мазалём ды потам пасля разлічацца.

— Дасць, думаеш?

— Думаю, што не дасць. Цяпер пану настрой гаць сапсавала. Як не ў настроі, лепш не падыходзіць. Я гэта ім сказаў. Але мужык наш як таўкач. А можа дасць?.. А можа, — тут ён увесь, як галава не варыць.

— Ну дык паехалі. Ці таксама чакаеш пана?

— А на чарта ён мне? — Змітрок смаргануў лейцамі.

З-за хвояў якраз насустрач выкацілася фурманка Лупандзіна, і хлопец, каб з ёю не сутыкнуцца на вузкай лесавой дарозе, спачатку здаў убок, потым зусім спыніў каня. Пан праехаў міма з лесніком і хартамі, якія, прывязаныя да фурманкі, беглі следам, але, заўважыўшы мужыкоў, саскочылі на дарогу. Конь з лесніком ды сабакамі завярнуў у двор.

Мужыкоў было чацвёра, і ўсе ўжо стаялі на каленях перад панам, пазвешваўшы галовы, з шапкамі ў руках. Пан паклаў бі-

зун крайняму на плячо — той падхапіўся на ногі, злавіў панскую руку з бізуном, спрактыкавана-хутка сунуўся ў яе тварам, руку і шапку прыклаўшы да грудзей. Пан павярнуўся да астатніх — усхапіліся на ногі яшчэ два, выцягнуўшы шыі, злаўчыліся, каб пану чмокнуць у рукі. Трэці, маладзейшы, стаяў па-ранейшаму з узнятай на танклявай шыі галавою, круціў ёю ва ўсе бакі, нібы не заўважаючы перад сабою пана.

— Што тут не бачылі? — не вытрымаў Неўраў. — Паганяй каня.

Конь крута, ледзь не перакуліўшы брычку, вывернуў з бярэзніку і сыпануў адразу хуткай рыссю.

Настрой лагоды пагас і ў Неўрава. Калі пад'ехалі да дома, ён без лішніх слоў развітаўся з хлопцам, аднёс на кухню кашолку, зайшоў у майстэрню. На мальберце стаяў новы падрамнік, якога тут не было, калі ад'язджаў у Друцак. Узяў у рукі, уважліва агледзеў з усіх бакоў, быццам пра яго толькі і думаў, едучы. Палатно было добра прагрунтаванае. Восіп пастараўся, але — задумаўся — ці той памер? Прасіў рабіць на сажань, а гэты на палову сажня? Ці два прасіў? Той, што лягчэй, зрабіў? Ці, можа, цёсу не знайшоў на сажань? Вярнуў падрамнік на мальберт, адышоў да сцяны, сеў на крэсла і ўглядаўся ў белы квадрат палатна.

Раней, у маладзейшыя гады, любіў глядзець на чыстае грунтованае палатно, яно будзіла ў душы светлыя і чыстыя настроі, прадказвала радасць, свята. Грунт клаў заўсёды светлы і не спяшаўся, паставіўшы падрамнік на мальберт, крыць падмалёўкам або наносіць малюнак. Колькі дзён няньчыў, нібыта маці любімае дзіця, абмацваў, абшоргваў далоньмі, грэў іх на палатне і грэў далоньмі палатно, прыручаў, шукаў паразумення, і калі ставіў на мальберт, адразу не хапаўся за палітру, пэндзлі. Прыглядаўся, лавіў на палатне плямы святла і ценю, чакаў іх руху, у якім яны гублялі свае абстрактныя формы і ў формы іншыя, знаёмыя, збягаліся, прыдатныя да нечаканых ці ўжо прадбачаных кампазіцый. Тады і думка з'яўлялася не абстрактная — лавіла канкрэтны вобраз. І ўжо хацелася пісаць.

Апошнія гады часцей было не так. Сядзеў перад падрамнікам, і чым даўжэй на яго глядзеў, тым мацней непакоіла адчуванне, што палатно не чуе мастака, што ён, мастак, бачыць перад сабой не палатно, а халодную сцяну, перасохлую тынкоўку. Душу і сэрца скоўваў страх. І неаднойчы дыялог глухіх заканчваўся тым, што хапаў падрамнік з мальберта і разбіваў ушчэнт.

Сёння, калі зайшоў у майстэрню ды ўбачыў на мальберце новы падрамнік, спачатку быў разгубіўся ад нечаканай сустрэчы,

потым, ва ўладзе паганага настрою, пачаў у думках ушчуваць Восіпа, нібы не гэтакі, як трэба, зрабіў падрамнік, і раптам адчуў іншае: добра, што Восіп змайстраваў меншы падрамнік і не зрабіў большы. Пад большы цешыў думкі з князем Рагвалодам, на гарадцы ў аблозе полаўцаў ці русічаў, але там не было нічога ў галаве, акром агульнай задумы, карціну не бачыў ні ў кампазіцыі, ні ў вобразах. З каго пісаць эцюды вояў? І зусім іншыя настроі выклікаў меншы падрамнік, які стаяў на мальберце.

Меншы заказваў таксама пад Рагвалода ды яго вояў, але сюжэт тут бачыўся больш лірычны, прасцейшы: з'яўленне князя са сваёй дружынай пад сцены Друцака на княскі пасад. Князь прыплываў па Друці, яго ўрачыста сустракалі месцічы, народ, які быў рады князю. Якраз з'явілася задума пісаць яго са Змітрака, на вояў скарыстаць эцюды з лыскавіцкіх мужыкоў. Цяпер глядзеў на палатно і ў яго прасторы бачыў Друць вясновую, разлітую, на ёй безліч лодак, з аднаго боку — княскіх, з другога — друцкіх, ладдзю, абавязкова белую, у ёй, на поўны рост, князя, за Друццю, на высокім беразе, сталіцу княства, абнесеную высокім тынам, над ёй — крыжы і купалы, іх бляск і звон. Тут кампазіцыя складалася адразу, хоць плавалі яшчэ фігуры, яшчэ не ўдавалася паставіць кожную на месца, фігуры пераўтвараліся ў плямы і ўсе яны былі размытыя, нібы глядзеў на іх праз слёзы ў вачах. Формы ўжо накратваў, але раптам здзівіўся: тры побач плямы былі падобныя на спіны мужыкоў ля панскай брамы. Спіны гарбатыя, прыгнутыя галовы хаваліся за імі і ўнізе, пад імі, тырчэлі плямы меншыя — тры пары: ногі, лапці? Аж скалануўся: навошта тут парабкі?

Разгублены, усхапіўся з крэсла, выйшаў на кухню.

Цямнела. Вярнуўся зноў у майстэрню. У садзе за акном гусцела шэрань, гукала ноч. Глядзеў у цёмны сад, а бачыў тыя спіны, пад імі — лапці. І гэта пісаць у карціну? Колькі сюжэтаў, вобразаў ён перабачыў тут, у вёсках, за гэтыя гады. Ішлі, плылі на палатно калекі, жабракі, галодныя і хворыя, прыгнечаныя панам, як не адным — другім, не панам, дык падпанкам, — прасіліся на палатно. А ён іх гнаў ад палатна. Хіба дзеля іх сюды, у вёску, ехаў?

Да лруткі акна прытуліўся гарачым лбом, стаяў, адчуўшы яе холад. Заплюшчыў вочы.

Нехта грукнуў на ганку. Прыслухаўся — ціха? Выйшаў на кухню і запаліў лямпу. Прынёс яе ў майстэрню, на стол паставіў.

Той самы грукат паўтарыўся. Узяў лямпу, выйшаў за парог у сенцы. Спытаў:

— Хто там?

Ніхто не адгукнуўся. Хацеў вярнуцца ў дом, ды запыніла прадчуванне чагосьці нядобрага. Адчыніў дзверы на ганак. У святле, якое лінула ад лямпы, убачыў перад сабой жанчыну — стаяла, прыціснуўшыся да сцяны. Не пазнаўшы, здагадаўся:

— Параска?

Яна рэзка павярнулася да яго, абедзвюма рукамі павісла на плячы. Пачуў і слёзы, і ціхі голас:

— А гэта… я…

Чуў праз усхліпы. Сказаў ёй і сабе:

— Дык што стаім? Ідзі ў дом.

Яна прайшла ўперад. Ён зачыніў дзверы на засаўку, на кухні паставіў лямпу на край стала, каб асвятляла і ў прыхожай. Не скінуўшы з галавы хусткі, як звычайна рабіла, зайшоўшы ў дом, адно адхінуўшы яе ад твару, Параска села каля акна.

— Ты захварэла? — спытаў, хоць бачыў, што здарылася іншае, незвычайнае.

Паклаў рукі ёй на плечы. Яна прыўзняла галаву, каб паглядзець яму ў вочы. Яе вочы блішчэлі мокрыя, але ціхія, як вінаватыя, лоб быў разбіты, у крыві, засохла кроў і каля носа, на губах. Сіні круг усхапіўся, прыпух пад вокам. Яна схавала тое вока пад хусткай, зноў адвярнулася, каб ён яе бяду не бачыў.

Прынёс чысты ручнік, набраў у конаўку вады.

— Здымі хустку, трэба змыць кроў.

— Я сама.

— Сама не бачыш.

Змачыў ручнік у конаўцы, прыклаў да раны на ілбе, змыў кроў з ілба і з носа, з губ, прыклаў ручнік да сіняка пад вокам. Як усё гэта зрабіў, спытаў:

— Цябе хто біў?..

— Сама.

— Як ты магла сама?

— Палезла на гарышча. Драбіны падкасіліся, я і загрымела. А ўнізе ляжыць калода. Я галавою аб яе. Нічога, зажыве. Вока цэлае, мазгі не выбеглі.

— Ды гэта так, загоіцца.

— А вы?.. Дзе цэлы дзень былі? Я прыбягала тры разы, а вас усё няма. І Восіп збег.

Яна спяшалася адвесці размову ад сваіх балячак, ён гэта разумеў, але не думаць пра яе не мог і бачыў: не ў тым бяда, што падкасіліся драбіны. Але тады ў чым?

— Была, кажаш, раней тут?

— А вы не заўважылі, што на вокнах няма фіранак, паздымала, каб памыць, і што бялізна чыстая на ложках? З саду паперанесла вопратку, ляжала, як ветрам скінутая, на зямлі. Бялізну, якая брудная, забрала да сябе, пацыравала, развесіла сушыць. Ужо ж блізка Пасха. Як я пайду ў царкву? Што людзі пра мяне падумаюць і скажуць? — зноў захінула хусткай твар, заплакала. — Яшчэ той Восіп — дзе ён, валацуга?

Пра Восіпа Неўраў не ведаў, што сказаць, загаварыў пра тое, дзе сам дзень быў:

— Змітрок ехаў у Друцак, мяне з сабой узяў. Зайшоў там у царкву, каб бацюшку ўбачыць, а ў яго — служба.

Параска заўсёды любіла распытваць, калі ён прыязджаў з Друцака, каго там бачыў, з кім і пра што былі размовы, пра бацюшку і пра царкву, але цяпер, хоць даў ёй гэтую магчымасць, не ўхапілася, быццам не чула. У галаве было ўсё іншае. Ён бачыў. Таму нават пра дом вялікі ды прыгожы не сказаў, хоць сказаць хацеў, хацеў спытаць, ці бачыла яна яго і, можа, калі-небудзь была ў тым доме, ведала гаспадара-прафесара? Хадзіла ж у іншыя дамы — насіла яйкі ды смятану, падлогі мыла, цыравала?

Калі сабралася дадому, хутчэй выйшла за дзверы, яму не даўшы апрануцца, каб не праводзіў.

Неўраў зашморгнуў на вокнах майстэрні шторы, зайшоў у гасцёўню, паставіў на стол лямпу, сеў у крэсла і глядзеў перад сабою на сцяну. Як толькі пачынаў тут жыць, ды і пазней, колькі гадоў вісеў на гэтай сцяне пейзаж галандскага рамантызму з пастухамі ды пастушкамі, са статкам кароў ды авечак, няўдалая копія з карціны невядомага мастака. Яе чамусьці зняў і аднёс Лупандзіну як яго каштоўнасць, а на гэтым месцы павесіў свой няхітры пейзажык, напісаны ў Красулі, з старымі пахіленымі лазенкамі на ручаі ў раўку. Мабыць, пейзажык спадабаўся Парасцы—пасля ёй падарыў. Сцяна без карціны выглядала пустою, сумнай. Сядзець перад ёю было халодна. Павесіў партрэт Параскі. Вісеў ён з год, пакуль не знік. Была загадка: куды падзеўся? Ніхто, акром яе ды Восіпа, тут не бываў. Восіп прапажу заўважыў, спытаў, дзе партрэт, патыліцу пачухаў. Відаць было, што і яму прапажа нечаканая. А Параска зрабіла выгляд, што не заўважыла. Не магла не заўважыць. І вось тады здагадаўся, што гэта яе работа. Але ж і ў сваю хату забраць без дазволу не магла. Пачаў шукаць — знайшоў у камодзе. Ага, падумаў, не хоча, каб хтосьці бачыў ды пазнаў? Павесіў зноў. Партрэт зноў са сцяны

схаваўся ў камоду. Больш не вывешваў: не хоча гэтага — не трэба. Але бывалі доўгія зімовыя вечары, калі сумна рабілася аднаму ў доме, і тады даставаў партрэт з камоды, вывешваў, сядзеў каля акна ў крэсле ды глядзеў на Параску. Пра штосьці думаў, штосьці ўспамінаў, і ўжо як не адзін быў у пакоі.

Цяпер зноў дастаў партрэт, абцёр далонню, павесіў на тую самую сцяну, на тое месца, на той знаёмы цвік. Сеў перад ім у крэсла і ўспомніў, як першы раз прыйшоў з Чарняевым у хату да Парaскі. З Лупандзіным ужо была дамова наконт дома. Чарняеў хацеў пасобіць, як чалавек практычны, знайсці ў дом гаспадыню, а хата яе стаяла ў тым канцы вёскі, што бліжэйшы да панскага маёнтка, і таму, выехаўшы за браму з львамі, адразу і заехалі. Яна сядзела супраць парога за прасніцай. Чарняеў казырнуў, зняў з галавы вайсковую фуражку, прадставіўся, звякнуўшы шпорамі, прадставіў, як свайго сябра, мастака і перамовы вёў нібыта для сябе, а Неўраў як забыўся, што пра яго размова, быў ужо захоплены жаночым вобразам і толькі назіраў з-за генеральскага пляча за гаспадыняй, за яе водгукам на кожнае слова генерала. Шмат што ў ёй тады здзівіла, а болей тое, што не ўсхапілася на ногі, працягвала сядзець, доўга не выпускала з рукі кудзелю, як за яе трымалася, не адкладала верацяно, нібы сустрэча адбывалася з суседнім мужыком і гаворка ішла звычайная сялянская пра цяля ці свінчо, гуркі ці бульбу, быццам у хату кожны дзень заходзілі і мастакі, і генералы, як мужыкі ці бабы. Хоць генерал быў у параднай форме, пры ўсім баявым бляску, а яна з твару глядзелася зусім маладой жанчынай — магла б не толькі разгубіцца, але спалохацца.

Пазней, ужо як вярталіся ў Тубушкі, пра тое паміж сабой вялі вясёлую мужчынскую размову і ўжо абодва дзівіліся жаночаму спакою падчас сустрэчы. Не без жарту Неўраў заўважыў:

— Мой генерал на полі бою, мабыць, гэтак не губляўся, як перад вачыма гэтае сялянкі?

— Не адмаўляюся, — згадзіўся з ім Чарняеў. — Але я ўпэўнены, што маладая сялянка і мастака ўразіла. Вы цяпер са мною ў Тубушках не заседзіцеся?

І генерал не памыліўся.

Праз дзень мастак быў зноў у Лыскаўшчыне — пісаў партрэт сялянкі. Баяўся згубіць захапленне ад мадэлі — спяшаўся.

Цяпер ён зноў сядзеў перад партрэтам. Але не тыя, што раней, перапаўнялі думкі. Раней партрэт даваў надзею, што, напісаўшы яго ў першыя дні знаёмства з вёскаю, яшчэ напіша, жывучы ў

гэтай вёсцы, нямала цудоўных партрэтаў ды карцін. Надзеі не апраўдаліся, і ён пытаўся ў сябе: чаму? Што ды хто вінаватыя? Вёска альбо мастак?

## ВЯЛІКАЯ СУБОТА. ВЯЛІКДЗЕНЬ

Першыя гады, як пачаў жыць у Лыскаўшчыне, Неўраў любіў бываць у Друцаку. Прыходзіў сюды пеша, павесіўшы на плячо то эцюднік, то планшэт, яшчэ і торбачку з неабходнымі ў гэтай вылазцы рэчамі. Тады ў мястэчку шмат чаго знайшоў, хоць і не бачыў дом прафесара, бо ніхто не падказаў заглянуць на ўскраіну мястэчка ў старасвецкія ліпы на беразе Друці. Пісаў ды замалёўваў гарадзец, равы ды берагі, рэчку Крывую, прывабныя крывуліны яе плыні, дамкі ды лазенкі над вадою. Эцюды, каб у доме не займалі месца, збіраў на гарышчы. Пасля штосьці адтуль здымаў, паліў, незадаволены зробленым, лепшае адкладаў і пра тое забываў. Цяпер па драбінах, якія стаялі ў сенцах, падняўся на гару, бо падумаў, ці не пісаў дом прафесара, калі не сам дом, дык строму па-над Друццю ў ліпавай абсадзе.

Ліпаў, перабраўшы эцюды, не знайшоў і дом таксама, але прынёс у майстэрню эцюды з паводкаю на Друці, з гарадцом ды кручамі, ірвамі, хатамі і лазенкамі. Развесіў на сцяне супраць вокан, у якія ўжо свяціла сонейка, сеў за стол і разглядаў доўга, пакуль не пацяжэла галава, пакуль яна не ўлеглася, нібыта на падушку, на рукі, якія ляжалі на стале. А як прахапіўся, убачыў перад сабою не тыя эцюды, а чарнявую шавялюру Змітрака. Яго галава таксама ляжала на стале, а з-пад галавы тырчэла рука, сціскаючы ў жмені арэхі, частка якіх высыпалася на стол. Неўраў усміхнуўся гэтакай нечаканасці, узяў арэх, паклаў перад сабой ды грукнуў кулаком па ім. Не разбіў, але Змітрок ад таго выбуху пад вухам падскочыў. Вочы пралупіў і галавой кудлатаю затрос.

— Ух ты, добра спім, — выдыхнуў, як ад цяжкой працы.

— Маё ворыва старое, сцерпіць, а тваё наўрад, — усміхаючыся, сказаў Неўраў. — Ці ты ўначы араў?

Змітрок з усяго маху далонню грукнуў па арэхах, адразу сплюшчыў некалькі. Два паклаў перад мастаком, адзін кінуў сабе ў рот.

— Было ворыва. З цёплай падушкі падхапіўся да першых пеўняў, а мне каманда: пачаў араць — гані далей, сваіх недаробкаў на іншага не пакідай. Куды дзявацца?

— У пост? Ну, грэшнік.

— А я пашчу. Ару не емшы і не пімшы.

— Які тады з цябе араты, калі не емшы?

— Мая гаспадыня не скардзіцца.

— Ну дык трэба з’есці бульбы. Не снедаў?

— Бульбы з’есці можна. А разгаўляцца будзем заўтра. Сёння, калі не памыляюся, вялікая субота, пост строгі. А заўтра Пасха.

— Мая бульба посная. З алеем, з рэдзькай.

— У вас рэдзька і ў пост, і ў свята.

Пакуль Змітрок даядаў цёплую, з печы, бульбу ды трушчыў арэхі, Неўраў, управіўшыся за сталом, выбраў яму ў шафе світку. Лепшай не знайшлося, як Гірава, падышла і ў плячах, і даўжынёю. Змітрок, праўда, карак спачатку пачухаў:

— Бацька казаў, што буду ў вас князем.

— Будзеш. Як добры князь, дык і ў світцы добры.

Гадаў і мастак, якая вопратка да твару князю, да яго пасаду. Князь — не мужык, у яго свая і вопратка, і ўся, як Пракоп казаў, муніцыя. Вопыт работы з гістарычнымі сюжэтамі ды вобразамі быў немалы, хоць і пісаў у асноўным пазнейшыя часы, эпохі Івана Грознага, Барыса Гадунова, Пятра Першага, у адзінаццатае стагоддзе таксама заглядаў, да Яраслава Мудрага, у твор нішто з неба не браў, да кожнае дэталі, каб мела жыццёвую ды мастацкую вартасць, даходзіў дасканала, але ўлічваў яшчэ і нораў, псіхалогію героя, абставіны і момант. Світка з мужыцкіх плячэй для Рагвалода не бачылася выпадковай. Хоць ён і князь, але на пасад бралі мужыкі, як свайго па думцы і па сэрцы, ды ён і сам, як плыў да іх, хацеў сябе адразу паказаць сваім усяму тутэйшаму людству. Навошта жалеза на плячах ды галаве ў мірным падарожжы — кальчуга, шолам, меч? Хопіць таго, што побач воі, хоць сёння і яны на волі, як усе. Ніхто нікога не заваёўваў.

Мастак паклаў на стол планшэт, аркуш чыстай, пад акварэль, паперы, паставіў пад руку і скрынку з фарбамі, глячок з вадою. Адышоў, каб бачыць мадэль усю адразу, адным імгненным позіркам.

— Не камяней, князь. Ты жывы, вольны. Хоць у лодцы, плывеш па Друці, але і лодка — не мужыцкі човен, а ладдзя княская. Перад табой на выспе Друцак, твая новая сталіца, гудуць званы, цябе вітаюць, усё людства паспалітае на беразе і на вадзе, усе на цябе глядзяць, ты — іх надзея, князь і Бог.

Змітрок глядзеў у акно і мастака не бачыў. Яму здавалася, што той тое адно і робіць, што з ім гаворыць, за ім сочыць. Але мастак не толькі гаварыў, ён ставіў на аркушы натуру: спачат-

ку вокам, потым алоўкам, клаў планы, лініі і формы, шукаў ім сувязь, дачыненні, усяму знаходзіў месца і аблічча. Нарэшце рукі апусціў, цяжка ўздыхнуў і адышоў у кут пакоя. Стаяў там і маўчаў. Змітрок не вытрымаў, — спытаў:

— Не тое атрымалася?

— Святло не тое, — прамармытаў, як на кагосьці злосны.

— Мала святла? Але ж пяць вокан у пакоі?

— Не тое, я кажу. Не тое!

Штосьці ў яго там грукнула, ажно Змітрок сышоў са свайго месца і не ведаў, як цяпер стаяць.

— Я ўжо вольны?

— Ідзі гуляй, калі стаміўся.

Мастак быў раздражнёны. Змітрок падумаў, што ў нечым вінаваты перад ім. Выйшаў за дзверы, сеў на ганку.

Неўраў таксама неўзабаве выйшаў. На плячы вісеў куфэрак з фарбамі, палітрай, пэндзлямі, з другога боку пад рукой быў у яго планшэт з малюнкамі. Усміхаўся, і гэта Змітрака бянтэжыла: у доме злаваў і гыркаў басам, а тут усміхаецца і басу не чуваць. Яшчэ і за плячо ўзяў, спакойна вымавіў, як лепшы сябра:

— Пайшлі на сажалку.

Дайшлі, спыніліся каля масточка. На ім жанчыны з панскай дворні любілі біць пранікам бялізну. Цяпер тут не было нікога. Неўраў паставіў Змітрака на масточку тварам да сонца і супраць ветру, што раскалыхваў чарот ля берага і той масточак, гнаў хвалі па вадзе насустрач. Світка пад сонцам блішчэла, ільняным срэбрам пералівалася на фоне сіняй вады і грыва доўгая на галаве ў хлопца глядзелася, як вецер уздымаў яе, гайдаў, назад адносіў. На хвалях пад масточкам гулялі святла адбіткі. Масточак плыў, здавалася, нібы ладдзя.

— Каб нас пан не заўважыў, не прагнаў, — сказаў Змітрок. — Цяпер ён тут шукае мужыкоў, якія падкапалі грэблю. У двор да Свінога Вока заглядаў, вынюхваў.

— Да Міцькі? Хай на вясну падасць у суд.

— Вясна вясною, але мужык таксама рыбку любіць. Вада калі ідзе праз грэблю, рыба выходзіць на іх палеткі, у канавы. Валока Міцькава якраз насупраць грэблі цераз дарогу.

— Не шанцуе мужыку. То пан яго з сякерай у лесе зловіць, то ў полі на патраве. Яшчэ і рыба. Ці падбіраецца да яго бабы? Маладая, гарачая. На гэтакіх пан ласы.

— Да Нюркі? Ого!.. Яна — не тое, што яе мужык. Як качарга падвернецца пад рукі, не паглядзіць, што пан.

— Цяпер нам не да пана.

Неўраў спыніў размову не адно таму, што праца прасілася да галавы, да рук. Даўно заўважыў, хоць сказаць не мог нікому, што пан не гэтак пасе Міцьку, як яго жонку, адчуўшы, што ў мужыка не толькі свіное вока, але і вуха, прахлопае ім Нюрку, калі яе завудзіць на добрую нажыўку. Праўда, хай у Міцькі вока і свіное, але ўжо ці не заўважыў пана ў сваім агародзе? Калі мастак неяк спытаў у Нюркі, чаму не заглядае Міхасёк, малюнкі не нясе, што адказала? Што ў мужыка знаходзіцца работа, як толькі сын збіраецца да мастака: то торбу пастушка павесіць на плячо, то пілу альбо сахор у рукі дасць. Неўраў здзівіўся, чаму ён сына не пускае да яго — якая тут бяда ці згуба? Тады пачуў і тое, што дом тут панскі, што пан у ім гаспадар. Задумаўся: пры чым дом? А як яна забегла першы раз, прынесла яйкі, па вачах заўважыў, што ўжо бывала тут і што цяпер, калі сюды пачне хадзіць сын, дык з ім, малым, пачне заходзіць і яна, з нагоды ці без нагоды.

Пра тое Неўраў неаднойчы думаў, што жыццё ў вёсцы не тады пачалося, як ён сюды прыехаў, што тут сяляне, мужыкі ды бабы, жылі і да яго, жыў тут і пан, былі ў іх здаўна свае суды і перасуды, што на вачах ва ўсіх, а што і ў хованках, у кожнай хаце, у кожным чалавеку жылі таямніцы, на якіх і жыта каласілася, і бульбачка радзіла, і гаркатой палын буяў, асот калючы не выводзіўся. Жыццё плыве, як і рака — і поверху, і на глыбінях, у ямах, якіх не бачыш вокам, круціць віры.

Цяпер клаў фарбы на кардонку і маўчаў, нібы нікога і нічога не бачыў, акром мадэлі, фарбаў і кардонкі. Змітрок прыцішыўся таксама. Але доўга стаяць на адным месцы, глядзець у адну кропку, як трэба мастаку, было сумна, млосна. Сабе казаў: цярпі, як захацеў быць князем. Вочы абшарылі ўсю сажалку, усе берагі і хаты па берагах, нідзе жывой душы не ўбачылі, ды раптам маладзіцу злавілі на процілеглым беразе. Яна стаяла з белай сумачкай у руцэ, з далоні другой рукою штосьці кідала на ваду. Твар пад капялюшыкам з шырокімі палямі здалёк нельга было разгледзець, але ўгадвалася летуценная прывабнасць хоць і па той задумлівасці, з якой стаяла над вадою, па тым, якая была ўся лёгкая ды стройная. Прайшла ля самае вады, нагнулася, узяла штосьці з-пад ног, зноў кінула. Змітрок здагадаўся, што збірала, кідала ў сажалку каменьчыкі, дзівілася, як па вадзе разбягаліся святлейшыя ды цямнейшыя кругі. Калі глядзела далей ад берага, то ўсё роўна як не на адну ваду, але і на масточак, дзе ён стаяў у белай світцы. Падумаўшы пра тое, спахапіўся, што не адзін, зірнуў на мастака, занепакоены, што той заўважыў яго

ўвагу да жанчыны, і зноў здзівіўся: мастак таксама глядзеў у той бок, ужо выціраючы анучкай пэндзлі. Ён, праўда, паглядаў не толькі на яе, але і на яго, нібы шукаў, хто вінаваты з іх, што далей працаваць не змог. Але ж глядзеў з усмешкай, не злаваў. Быў нават ці не задаволены.

Змітрок сышоў на бераг.

— Стаміліся? — спытаў у мастака. — Ці ўжо святло не тое?

— Святло — што трэба. Святло і цені. І ты добра глядзеўся. Якраз заўважыў прывабную жанчыну — я паспеў зрабіць.

Яна ішла ўдоўж берага ад іх усё далей. Цяпер яны абодва глядзелі ёй у след.

Ужо ў вёсцы Змітрок не вытрымаў, спытаў:

— А хто яна? Прыехала, відаць, да пана?

Неўраў пажартаваў, як лёгка жанчыны раняць яму сэрца, а хто — не адказаў. Адно таму здзівіўся, як яго вока Глафіры не пазнала. Хоць сам больш здагадаўся, як пазнаў, бо гэтакаю і ён яе раней не бачыў.

Пераступіўшы свой парог, абрадаваўся новай нечаканасці: перад ім стаяла Марылька. Яна трымала ў руках разгорнутую белую фіранку, то за яе хаваючыся, то з-за яе ўсмешліва выглядваючы. Апусціўшы ўніз, прывіталася:

— Хрыстос уваскрос!

— Ужо? Ты гэтак яго чакаеш? — і ён ёй усміхнуўся. — Яшчэ зарана? — Паставіў на падлогу ля парога куфэрак і планшэт, абняў за плечыкі, пацалаваў у лобік.

Яна павесіла фіранку на акно, з лаўкі ўзяла астатнія, панесла ў майстэрню.

— Мама перамыла, адпрасавала, сказала, каб я развесіла на вокны. І ходнікі каб вытрасла. І каб памыла падлогу.

— Даўно ты з Воршы?

— Прыехала ўчора. Было ўжо цёмна. Тут вам прынесла малако, сыры. А яйкі несвянцоныя, хоць фарбаваныя. Мама пойдзе ў царкву, пасвенціць, тады яшчэ прынясу.

— А мама пойдзе ў Друцак?

— Збіраецца.

Пакуль дзяўчынка развешвала ў пакоях чыстыя фіранкі, ён занёс у майстэрню куфэрак з фарбамі, планшэт, зайшоў на кухню, адтуль заўважыў у куточку каля печы чырвоныя чаравічкі.

— Твае снягірыкі?

— Якія?.. Дзе?..

— Ды вунь стаяць. Дзве птушачкі на сонейку.

— Іх тата мне прывёз, снягірыкі, — зайграла вочкамі, упадабаўшы слоўка. — А паліцечка я сама купіла. Заробіла на фабрыцы і купіла. Вы яго не бачылі?

— Дык тата ўжо дома? — Паспешліва спытаўшы, спахапіўся, каб не заўважыла яго здзіўлення на вока вострая Марылька. — А паліцечка яшчэ не бачыў.

— Ён тут ужо колькі дзён.

Не тое Неўрава здзівіла, што з шахтаў вярнуўся бацька, бо Параска даўно казала, што прыедзе, чакала яшчэ на Дабравесце, калі нямала мужчын, якія блыталіся па гарадах у пошуках заробкаў, папрыязджалі на вясновае ворыва, здзівіла іншае — як усё супала: прыезд Парасчынага мужыка і тое, што яна сюды ўжо не заглядала.

— А Восіпу што ён прывёз?

— Штаны шахцёрскія. Восіп у іх дужа смешны. Шырокія, як маміна спадніца, і шмат кішэняў. Было б што ў кішэні класці. А мамцы прывёз пацеркі. Вось гэтак, тры разы на шыі, — рукою пакруціла вакол галавы. — Як у той цыганкі. Яшчэ, можа, я буду іх насіць. Мамка як з таткам паспрачалася, сказала, каб я насіла.

— Дарагія? — знянацку спытаў пра тое, што не цікавіла.

— А не сказаў, колькі плаціў. Можа, ніколькі. Сказаў толькі, што ўдалося знайсці. Можа, цыганку абдурыў? А можа, знайшоў дзе-небудзь, ды і ўсё.

— Як гэта — ды і ўсё?

— А як дзядзька Халімон знайшоў кашалёчак? У ім — рубель. Падняў, ды і ўсё. А што? Гэта ж ён знайшоў?

— Але не сваё?

— Было не сваё, а цяпер сваё.

Яна зайшла ў гасцёўню, згарнула ходнікі, панесла за парог. Вярнуўшыся, сабрала і тыя, што ляжалі на падлозе ў майстэрні ды прыхожай. Прынесла вядро вады, наліла шайку, укінула дзяружку, якою Параска мыла падлогу, закасала вышэй локцяў рукавы сукенкі, падол, каб у нагах не блытаўся, заткнула за пояс, прыхапіла шпількаю, выкруціла дзяружку, яшчэ раз кінула на мастака вясёлымі вочкамі і басанож пашлёпала ў кут.

Каб ёй не замінаць, ён выйшаў на кухню, там сеў на слончык і праз прачыненыя дзверы дзівіўся, з якім дарослым спрытам спраўлялася дзяўчо, якія зграбныя, нават прыгожыя былі ў яе рухі. Раней ён гэтак назіраў за Параскаю, лавіў, як мастак, пластыку рухаў, замалёўваў вокам у памяці, каб перанесці потым на паперу ці палатно, пакуль аднойчы не рызыкнуў пакласці на калена сшытак. Яна заўважыла тую хітрасць, нічога не сказала,

але ўжо часцей паглядала на свае калені ды на спадніцу, каб у працы не трацілі прыстойнага выгляду. Тады ён перастаў хавацца са сшыткам, адчуўшы яе спакой і згоду. У сваім захапленні адчуваў захапленне паводзінамі звера ў лесе, калі ішоў за ім па следзе, на мушку стрэльбы не высочваў, а толькі назіраў за ім не менш драпежным вокам, як мастак. Цяпер пашкадаваў, што пры сабе, на кухні, не аказалася паперы ды алоўка. Дзяўчынка паўтарала рухі маці, хоць і была спрытнейшая. Пра тое, што заўважыў, рызыкнуў сказаць:

— Ты робіш усё, як твая мама.

Яна спакойна разагнулася, лаўчэй падкасала пад пояс падол, каб не звісаў на каленях, строга, як дарослая, паглядзела на яго, выкруціла з дзяружкі ў шайку брудную ваду і адказала:

— А я ж маміна дачка.

Яе спакой і вытрымка здзівілі.

— Ну, так, маміна. Гэта я і хацеў сказаць. А Восіп?

— Татаў сын. Вы не заўважалі, як блішчаць у яго вочы, калі ўбачыць гарэлку?

— Гэта ты дарэмна. Восіп у вас на гарэлку не драпежны, як іншыя. Прывёз я гэтымі днямі два штофы з Друцака, адзін даў яму, каб нёс дамоў на свята. А ён што зрабіў? Не ўзяў. Я штоф — у кашолку, а ён — з кашолкі. Я — зноў у кашолку. Восіп з кашолкай за парог, а я пасля гляджу — той штоф стаіць на пасудніку.

— Ды ён казаў пра гэта мамцы. Але чаму не ўзяў? Каб гарэлка не трапіла на вочы бацьку, каб ціха было ў хаце.

— Дык кепска зрабіў?

— Я гэтак не кажу. Не кепска. Але ўзяў бы, калі б у хаце не было бацькі.

Марыля пра ўсё казала не хаваючыся, як іншыя дзеці ды бацькі хаваліся з тым усім, што ў хатах рабілася, што думалі, як жылі, ён гэта за ёй заўсёды заўважаў і гэта яму падабалася, бо сам не любіў вёску таемную, хітрую, яе хованкі, маўклівасць, страх. З іншымі ад гэтае зацятасці не хацеў сустракацца, у гэтакія хаты ды сем'і не заходзіў, бо бачыў, як яны баяліся яго алоўка, пэндзля. Але цяпер нібыта штосьці не сваё прачнулася ў дзяўчынцы, верх узяло над шчырасцю: на яго не глянуўшы, каб у вачах чагосьці не прачытаў, нагнулася з дзяружкаю над шайкай, нервова яе крутнула, выціснула ваду, адышла, у падлогу гледзячы, да шафы, стала на калені, пад шафаю пачала размашыста, нібыта не дзіцячымі рукамі, выціраць падлогу.

Заўважыўшы, як балюча яна зрэагавала на размову пра брата ды бацьку, Неўраў зноў раптам убачыў перад сабою ссінелы твар, слёзы Параскі.

Няўжо ён біў Параску?

Усхапіўся і выйшаў у сад пад яблыню.

Калі супакоіўся і вярнуўся ў дом, Марылька дамывала падлогу. Хацеў спытаць пра маці, але яна ўжо не глядзела ў яго бок, рабіла ўсё маўкліва, у глыбіні сваіх пачуццяў, душой, схаваная, як усе амаль заўсёды ў вёсцы. Гэтыя настроі ён не мог ведаць, хоць мог пра іх здагадвацца. Зноў выйшаў з дому, узышоў на пагорак, глядзеў на вёску. Пракопава хата стаяла ў зацені ад ельніку на ўзгорку, цень быў трывожна-фіялетавы, з густою чырванню. Перад акном ад вуліцы на табурэтцы стаяла Пракопава кабета, трымала ў адной руцэ вядро і анучай, якая была ў другой руцэ, мыла акно. У фіялетавых валёрах была сама і фіялетавыя плямы зіхацелі ў шыбах. Яе малодшы хлопец, Васілёк, сядзеў на вільчыку, як верхам на кані, бяліў вехцем комін. Ужо выбелены комін адбіваў фіялетавае святло.

Неўраў вярнуўся ў дом і не ведаў, да чаго прыткнуцца. Схапіў за вушы ля ног дзяўчыны шайку, каб вынесці, выліць брудную ваду, ды не дала гэта зрабіць Марыля, перахапіла шайку танклявымі рукамі, сама панесла за парог. Тады ўзяў ходнікі, якія яна вытрасала ў садзе, каб раскінуць там, дзе памыта, у майстэрні ды гасцёўні, але і гэта не зрабіў — яна спыніла:

— Няхай падлога сохне.

Праз хвіліну, забыўшы пра тое, што сказала, сама панесла ходнікі ў пакоі, раскінула, хоць фарбаваная падлога не сохла хутка, блішчэла вільгаццю.

На кухні ён сеў, маўчаў і думаў, што гэтакае ўсё яго жыццё ў вёсцы, а вёска падобная на Марыльку, то адкрывалася перад ім, то зачынялася, хавалася ў немату, нейкую старэчую таямніцу. І гэтак, як цяпер з Марылькай, ён тут, у вёсцы, жыў, то святлеючы душою і думкамі, калі яна яму адкрывалася, то хаваючыся ад яе ў свой дом, як хаваецца ў свой слімак. Розніца паміж імі, вёскаю ды дзяўчынаю, была хіба толькі ў тым, што Марылька адкрывалася лёгка, па-дзяцінаму наіўна і безабаронна, не думаючы пра рызыку ці небяспеку, і замаўкала з горыччу, душэўным болем, у той час як вёска натуральна і доўга жыла, хаваючыся ў сваю саламяна-шэрую ракавіну, а калі адкрывалася, дык ненадоўга, адчуваючы ў гэтым стане небяспеку і нават страх. Само гэтакае жыццё гняло духоўна, як мастака, хвіліны натхнення ў

працы ператварала ў попел, і тады ён адчуваў сябе не вольным мастаком, а заняволеным парабкам неміласэрнага лёсу.

Побач з дзяўчынкаю, чуючы, калі нават не бачыў з кухні, кожны яе крок і рух, ён не думаў пра тое сумнае, і калі яна, дамыўшы падлогу і раскінуўшы па ўсіх пакоях ходнікі, мыла ў шайцы ногі, глядзеў на яе з кухні ўжо з ціхім захапленнем, як на яе, маладую, мог глядзець у свае сямнаццаць вёсен гожы хлапчына, падобны на Васілька, хоць думка ў галаве была ўсё ж не маладая — старэчая: вось — вечна малады эцюд.

Калі Марылька ўжо стаяла каля парога ў чырвоных чаравічках і новым, з паясочкам, паліцечку, ён паклаў у Парасчыну кашолку прыгожую кардонку з шакаладнымі цукеркамі, якую прыберагаў, неяк купіўшы ў Талачыне на чыгуначнай станцыі, вынес дзяўчыне. Яна глядзела не на кашолку, а яму ў вочы, зноў усміхаючыся. Ён гэты позірк зразумеў і сказаў:

— Ты прыгожая, як паненка.

Угадаў і што сказаць, і як сказаць.

— Я гэтакая пайду з мамай у царкву на ўсеначную. Толькі не ведаю, ці ў блізкую, ці ў далёкую. Як мама скажа.

Застаўшыся адзін у доме, Неўраў адчуў, што стаміўся. Жаліцца мог і на ногі, якім ужо нялёгка было таптаць зямлю нават ля дома, і на галаву, якая лепшага не прыдумала, як марнаваць апошнія гады ў невясёлай чужой вёсцы, і на душэўную маркоту, але каму пра гэта скажаш? І не было каму, і годнасць мастака не дазваляла. Так, яна, годнасць, заўсёды трымала ў сваёй аброці. Ды і палохала не гэта — не гады. Гадоў Бог даў, не паскупіўся. Мог супакоіцца. Але за ўсё, што меў ад Бога і ад зямлі, як аддзячыў? Зробленае, вядома, застанецца. Але ж Бог вучыць быць шчодрым і шчырым да канца? Канец быў тут, у Лыскаўшчыне. Дык тут, цяпер, ці шчодры і ці шчыры перад зямлёй і Богам?

Сіл не было дайсці да ложка — лёг у майстэрні на кушэтку, глядзеў перад сабой у акно.

Вечарэла. Сонейка яшчэ свяціла, але праз сеціва галля ад яблынь даючы больш ценю, як святла. Вочы закрыліся, каманды не чакаючы, і ён заснуў. Кушэтка была цвёрдая, спіне ды бакам на ёй было мулка, прачынаўся, зноў засынаў. Як быццам прачнуўся ад знаёмага блізкага голасу, пазнаўшы Змітрака. Той пытаўся, ці не паедзе з ім у царкву. А ў якую? Як на кані, дык у Дрыбін? Нічога на гэта не вымавіў, нават вачэй не расплюшчыў, у твар хлопцу не паглядзеў. Той, пэўна, убачыў, што чалавек спіць, як цяжка напрацаваўшыся, пайшоў, паехаў. Тады ў галаве варухнулася думка, што ў Грыбіне гэтай ноччу будуць Параска і Ма-

рылька, і калі б паехаў са Змітраком, то там убачыў бы Параску. Пашкадаваў, што не падняўся, як быў Змітрок: можа б, паехаў? Але яшчэ ўспомніў: хлопец казаў і пра званы, каб адчыніў акно, бо можа не пачуць, калі зазвоняць у блізкай грыбінскай царкве.

Падняцца было цяжка — зноў заснуў.

Пабудзіў грыбінскі звон. Ляжаў на спіне, слухаў і думаў, што там ужо, мабыць, пачаўся Хрэсны ход. Па падлозе гуляў халодны вецер. Змітрок ці не сам адчыніў акно, калі заходзіў у дом. Занепакоены, каб не надзьмула ў старую, з хранічным радыкулітам, спіну, падняўся, зачыніў, але зноў адчыніў, стаяў каля акна ды слухаў, якія пругкія, важкія, раскацістыя ляцелі з Грыбіна бомы. Зайшоў у гасцёўню, пад абразом Хрыста запаліў лампадку. На століку стаяла лямпа. Яшчэ раз чыркануўшы запалкай па карабку, прыпаліў пад шклом кнот, з лямпаю вярнуўся ў майстэрню.

Кволы агеньчык нервова пагойдваўся пад шклом, і ад яго вакол гулялі плямы святла і ценю. Яны садзіліся, як матылі, на палатно, што стаяла на мальберце, і там стваралі свой мітуслівы, зменлівы малюнак, які то знікаў, то з'яўляўся.

Ад Дабравесця, першага вясновага свята, вёска не паліла газы, зрэдку карысталася лучынаю ці каганцом, пачынала жыць па сонейку, і Неўраў не хацеў выбівацца з агульных жыццёвых правілаў, стараўся жыць як усе. Гэта не заўсёды атрымоўвалася, але газу таксама ашчаджаў. Цяпер было нават прыемна сядзець у паўзмроку, глядзець на кволы агеньчык і ўспамінаць перадвелікодныя вечары ў родным доме, маленства ў святы, маці ды бацьку, простых людзей, вясковых ды гарадскіх, у світках, цяжкіх плашчах з каптурамі на плячах ці галовах, у суконных пінжаках, кафтанах, доўгіх кашулях з каляровымі паясамі, якія ці жылі ў доме, пры двары, ці да бацькі прыязджалі з таварам.

У суботу, перад Пасхаю, чужых людзей у доме было мала, але збіраліся, рыхтуючыся да свята, усе свае. У пакоях ужо было прыбрана, чыста, на высокіх вокнах віселі новыя прыгожыя шторы, падлога і мэбля блішчэлі, усе хадзілі ціха, у мяккіх пантофлях, ніхто не казаў лішняга слова, размаўлялі шэптам. Ціха было нават на кухні, дзе шмат чаго варылі, пяклі, смажылі на блізкае разгавенне пасля шчырага паста. Ні звычайнага ляскату посуду, ні павышанага голасу нават на катоў ды сабак, што соўгаліся пад нагамі, наравілі, як з галадухі, ухапіць кавалак. Зрэдку чулася: «Даруй мне, Божа…» Сталы ў гасцёўні былі ўжо засланыя чыстымі абрусамі, чысцінёю блішчэлі фарфор, шкло, крышталь, у пакоях плаваў водар пасхі, на вялікіх талерках ды падносах ляжала шмат чырвоных яек, вэнджанага мяса, каўба-

саў, печыва: крыжыкаў з макам, жаўранкаў з разынкамі-вочкамі, залацістых, у яечным жаўтку, колцаў, запечаных боханаў з вядомымі ўсім літарамі «І» ды «Х» — само паветра смачна пахла ваніллю, гваздзікаю, лаўровым лістом, перцам, духмяным алеем. Уся тая смаката хавалася да разговінаў нават ад дзяцей, якім забаранялася блізка падыходзіць да кухні і сталоў, дзе ляжала шмат смакаты пад белымі ручнікамі. Калі якая жанчына спачувальна совала ў руку малому кавалачак, дык з ім трэба было хавацца, каб ніхто, Божа барані, не ўбачыў. Удзень усе, хто мог, клаліся спаць перад усеначнай, і тады ў доме было зусім ціха, але ўначы з суботы на нядзелю, калі пачыналася ці ўжо ішла літургія, калі ўсе пакутавалі за пакуты Ісуса Хрыста і чакалі радасці яго ўваскрэсення, у доме ніхто не спаў, нават дзеці, бо спаць у гэты час было вялікім грэхам. Трапіць у царкву на святочную службу хацелася кожнаму малому, але не ўсе бацькі асмельваліся пускаць дзяцей у тое стоўпішча вернікаў. Неўраў памятаў ноч, калі разам з бацькам стаяў у час святочнай службы зусім блізка ад кліраса. Калі бацька падымаў яго на руках, ён бачыў наперадзе хору свайго дваровага конюха Панцялея, магутны бас якога быў легендаю ўсяго Замаскварэчча. Вясною перад Пасхаю ды спевамі ў царкве Панцялей заходзіў у канюшню да бацькавага жарабка Арла і там будзіў свой бас, выцягваў ноту, якую ад яго патрабаваў дыякан, — наладжваў з Арлом спеўкі. Забратаўшы гарачага звера, адной рукою трымаў яго на кароткім повадзе, а другою даставаў пугаўём самае шчыкатлівае месца ў паху каня. Арол з магутным іржаннем узлятаў на дыбы, а Панцялей, трымаючы яго на цуглях, браў з ім разам тую ноту на ўвесь бас і з ёю пакідаў канюшню, лішні раз баючыся жартаваць з жарабком.

Аднойчы перад усеначнай конюх успомніў, што коні за святочнаю калгатнёю засталіся не поеныя. Калі ён павёў Арла да калодзежа, хлопчык, ужо ведаючы, што зараз будуць спеўкі з Арлом, ускочыў у канюшню, за яслямі па драбінах залез на вышкі і там залёг. Конюх прывёў жарабка, заклаў у яслі сена, з дапамогаю аброці ды пугаўя наладзіў з Арлом спеўкі, давёўшы звера да шаленства, выйшаў з канюшні, зачыніў яе на ўсе жалезкі ды падаўся ў царкву. Арол у стойле кідаўся на сцены, дзіка хроп, грымеў капытамі, аж калацілася канюшня, і калаціўся ад таго страху з канём у адных сценах хлопчык. Выйсця з канюшні не было. Конь пацішэў, і хлопчык, перакалочаны, заснуў. А раніцай, калі маці ды бацька вярнуліся з царквы, усе з усяго двара сышліся ў гасцёўні, віншавалі адно аднаго ды хрыстосаваліся, спахапіліся, што няма хлопца. Кінуліся шукаць па пакоях, у садзе, па

двары, аблазілі кладоўкі, клеці, будовы і прыбудоўкі, якіх хапала ў гаспадарцы, — як кануў у ваду. Пабеглі ўсім табуном на рэчку. А тым часам Панцялей, вяртаючыся з царквы пазней за астатніх з мехам ахвяраванняў за прыгожы бас, вырашыў аднесці мех на канюшню. Адчыніўшы вароты, ён пачуў на вышках пад страхою дзіцячыя слёзы. Кінуў каня і мех з пасхамі, схапіў малога на рукі ды пашыбаваў з ім у дом да няшчасных бацькоў гасіць пажар.

Успамінаць тую ўсеначную Неўраў любіў. Там былі радасць і страх — поўніца жывых уражанняў. Гэтак моцна з маленства не помнілася ніякае іншае свята.

Мігцеў агеньчык у лампадцы.

Неўраў падышоў да абраза Хрыста, пастаяў, як паслухаў і Госпада, і сябе былога, далёкага.

Сеў у крэсла.

У гэтакай перадсвяточнай цішыні ды адзіноце ён любіў чытаць Яна з Біблії, пачынаючы ад яго першых радкоў: «На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог». Гэтак, падумаў, мог сказаць або Бог, або паэт. Ян бачыўся вялікім паэтам.

Чытаў далей і зноў спыняўся, вяртаўся ў сваё, далёкае ці блізкае, у пражытым шукаў і бачыў тое, што казаў Ян. Усё і ўсіхнае круцілася ў адзіным крузе, нават святое з грэшным, малое з вялікім. Чытаў і чуў: «Ідзі за мною». І бачыў у слядах настаўніка свае сляды. Яны былі светлыя, але з крапінкамі крыві. Словам святла, любові, мудрасці Ян усё збліжаў, яднаў, каб свет адзіным быў, адным на усіх, бо гэтакая была дарога Госпада і да Госпада. Для Яна — як паэта, для Неўрава — як мастака. Адна.

У Грыбіне звanілі зноў. Падняўся, вярнуўся ў майстэрню. Спыніўся каля адчыненага акна: там, за акном, ужо світала. Звон адзваніў, замоўк, але і чуўся, нібы застаўся ў паветры. За садам, далёка, у шэрым паветры, хліпаў зыркі агеньчык. Знікаў і зноў з’яўляўся. Штораз — усё бліжэй. Следам за ім з’явіўся яшчэ агеньчык, пяты і шосты — ланцужком. Там лыскавіцкія вярталіся з царквы, у свае хаты неслі запаленыя ад агню святога свечкі, далонямі прыкрываючы ад ветру.

Неўраў стаяў каля адчыненага акна, углядаўся ў тую, з агеньчыкамі, светлую шэрань, як у штосьці вечнае і вечна новае, як у жывыя вочы свята, пакуль не пачуў галасы, спачатку малавыразныя, за садам, затым у доме, ад парога:

— Хрыстос уваскрос! — дзявочы звон.

Выйшаў насустрач, абхапіў Марыльку і Параску, з адною і з другою пахрыстосаваўся. Адчуваючы, што выглядае стомленым,

сказаў, як у апраўданне, што ноч не спаў і ён. Звярнуў адразу ўвагу на твар Параскі, пахваліў:

— Добра, што выйшла на людзей. Твар ужо чысты.

Яна зірнула з насцярогай на дачку, як ён яе ў нечым выдаў. Тая пачула і дадала:

— Твар чысты, што напудрыла ад печы мелам.

Выгляд зрабіў, што шчырасці яе не зразумеў:

— Бялілі печ да Пасхі?

Абедзве засмяяліся.

Ён ведаў, чым маладзіцы ў вёсцы падбельваюць свой твар, але і тое ведаў, што ў беднасці не прызнаюцца гэтак, як тут матулю выдала Марылька. Павёў, адразу да стала, на якім ужо стаяла прыгожая бутэлька з віном. Параска выклала з кашолкі свянцоныя чырвоныя яйкі, прыгожую пасху, вяндлінку, слоік з грыбамі марынаванымі, меншы слоік з чырвоным ад бурачковага квасу хрэнам. Марыля прынесла з кухні сподачкі, відэльцы, лыжкі. Селі, разгавеліся свянцоным яечкам, а віно першаю пахваліла дзяўчынка, што лепшае за тое, якім яе частаваў у Воршы дзядзька Халімон. Маці павохкала, што дачка надта спяшаецца быць дарослай, за вочы з’ехаўшы, а тая адразу працягнула да яе кулачок з яйкам:

— Хто каго пераможа, той і дарослы.

Параска з яйкам падставілася, дачка, доўга не думаючы, дзеўбанула і пасадзіла мамчына. Усхапілася, вясёлая:

— Ну дык хто з нас дарослы?

Неўраву давялося яе асцярожна супакоіць:

— Не храбрыся. Будзеш зусім дарослая, калі яшчэ і маё пасодзіш. Але цяпер я тваё паспытаю. Трымай.

Марылька надта ўпэўнена паказала ў кулачку чырвоную дзюбачку, ён туды адразу сваім яйкам тыцнуў, і тое правалілася. Дзяўчынцы гэта сталася такой вялікай нечаканасцю, што яна заміргала, гатовая заплакаць. Ён паспяшаўся расціснуць кулак.

— Бяры маё цэлае.

На далоні ляжала празрыстае, аж зіхацела, чырвонае шкляное яйка, і ў ім свяцілася штосьці зусім загадкавае.

Калі яйка было ўжо ў яе ў руках, яна ў ім разгледзела двух светлых голенькіх дзетак, дзяўчынку ды хлопчыка: дзяўчынка хлопчыку працягвала ў ручцы яйка, а ён ёй — белую ружу. Твар у Марылькі зазіхацеў, нібы той казачны гасцінец на трапяткім святле. Яна выскачыла з-за стала і, перакладаючы яйка з далоні на далонь, закружылася з ім па пакоі.

Паднялася Параска, як успомніўшы, што трэба ісці дахаты. Усхапіўся і Неўраў.

— Паставім самавар, — прапанаваў.

Самавар быў, але не аказалася вады — Марыля ўсю выліла на падлогу, як мыла. Дзяўчынка ўзяла на кухні пустое вядро і выбегла з ім за парог.

Застаўшыся ўдваіх з Параскай, Неўраў спытаў:

— Ён цябе біў?

Гэта яго хвалявала апошнім часам. Яна тое ведала і цяпер не магла зманіць:

— З драбінамі я прыдумала.

— За што ён?..

— Не ведаю…

— Чаму ты мне баішся сказаць, каб ведаў і я?

— Да вас у дом не пускаў.

— Скажы яму, што я ўжо стары чалавек і ў мяне ў галаве няма тых думак, што ў яго. Ці мне самому з ім пагаварыць?

— Не! — скаланулася. — Не трэба.

— Ён мяне не зразумее?

— Размовы ў вас не атрымаецца. Ён будзе слухаць і маўчаць, а потым адыграецца на мне. Будзе яшчэ горш.

— А як будзе, калі нічога не рабіць? — Яна не ведала, што адказаць на гэта. Ён спытаў: — Калі цяпер ты да мяне прыйдзеш?

— Тут усё паробіць Марыля.

— На трэці дзень Пасхі яна едзе ў Воршу.

— Дык застаецца Восіп.

— Мне трэба пісаць цябе.

Яна адышла да акна, і ён бачыў, як выцірала вочы ражком чыстай фіранкі.

На ганку пачуліся крокі. Неўраў адчыніў дзверы. З вядром вады на кухню прайшла Марыля.

Самавар не налівалі і не распальвалі, бо Параска ўжо заспяшалася дахаты. Ён гэта бачыў і яе разумеў.

Узыходзіла сонейка. У вокнах і па сценах пакоя запальваліся сонечныя плямкі. Неўраў адзін сядзеў за сталом, глядзеў на палатно, якое стаяла на мальберце. Яно бачылася не плоскасцю, абмежаванай падрамнікам, а прастораю ва ўсіх трох вымярэннях са сваімі далячынямі, глыбінёю. Гэтакае адчуванне палатна, яшчэ не крытага фарбамі і нават сецівам малюнка, з'яўлялася і раней, калі ясна і светла было ў майстэрні, у прыродзе за акном і на душы, калі былі добрыя эцюды і ён хацеў працаваць, а ўлада палітры рабілася мацнейшай за ўсе сумненні. Але чаму адчу-

ванне палатна як прасторы абвастрылася цяпер? Ад адчування свята? Што ў майстэрні пабылі Параска ды Марылька? Што ў доме чыста, цёпла, што ўзыходзіць сонейка і ёсць настрой да працы? І думкі ў згодзе: настрой нельга згубіць?

Ён выйшаў у сенцы. Яшчэ тут было змрочна. Пад нагамі валяліся падрамнікі, скінутыя з гарышча. Нагнуўся, сабраў іх у бярэма, вынес у сад пад яблыню. Вярнуўся, падабраў астатнія — таксама вынес. Запалкі ляжалі ў кішэні — прыпаліў трэсачкі і сунуў пад падрамнікі. Вогнішча разгаралася — падрамнікі былі сухія. Пастаяў над вогнішчам, ускінуў падрамнікі з запісанымі палотнамі на большы агонь і вярнуўся ў сенцы. Каля сцяны ляжала некалькі эцюдаў — адклаў, каб не спаліць, аднёс у майстэрню — зноў выйшаў у сад да вогнішча.

Стаяў над папялішчам, глядзеў на абгарэлыя абрэзкі ад палотнаў, на абвугленыя качарыжкі ад падрамнікаў. Лёгкі, з-за дома, ветрык падымаў над вогнішчам сівыя матылі, яны кружылі і ляцелі, знікалі. Душа развітвалася і з тымі матылямі лёгка, у лірычным настроі. З сябе дзівіўся: хіба раней не клаў пад сякеру, не трушчыў на калене і ў руках, не кідаў у агонь свае падрамнікі, эцюды? Лёс іх залежаў ад настрояў мастака, настроі былі розныя, былі шалёныя, але ж пасля, як іх знішчаў, на сэрцы не рабілася лягчэй. Было наадварот: астыўшы, шкадаваў панішчанае, нават маленькія няўдалыя эцюды. Яны чым вінаватыя? Той вінаваты, хто іх няўдалымі ствараў, псаваў. А сёння? Спаліўшы, супакоіўся? Адчуў палёгку?

Пачуў раптам:

— Грэецеся?

Аж здрыгануўся.

За спіною стаяў Змітрок, трымаючы торбачку ў руцэ, усміхаўся, нібы злавіў на нейкай грэшнай справе. Гэтак Неўраву адразу падалося. Маўчаў, як вінаваты. Але ў Змітрака думкі былі свае. Прынёс з-пад яблыні калодку, паставіў каля Неўрава, як запрасіў прысесці, прынёс другую, паставіў побач, сеў на яе сам. Тады і Неўраў супакоіўся.

— Ты ўгадаў. Аднаму і ў доме на печы халодна. Цёпла тады, як не адзін. Ці як працуеш..

— Ніхто і не зайшоў пагрэць на свята? Не разгаўляліся?

— Чаму? Госці былі.

— Хто ды хто?

— Параска з дачкою.

— Га! Мы ехалі з царквы на адным возе. Пад пагоркам яны сышлі з фурманкі, а не сказалі, што да вас, хітрунні.

Хуткія вочы Змітрака спыніліся на невялічкай, як дзве мужчынскія далоні, кардонцы, што ляжала за краем вогнішча, прысыпаная попелам, абгарэлая. Падхапіўся з калоды, зрабіў два крокі да яе, падняў з зямлі, здзьмухнуў попел.

— Дык гэта ж Вол?! За што яго паліць? Ого, быў чалавек! — падаў кардонку Неўраву.

Мастак глядзеў, задуманы, у вогнішча. Як толькі на яго павеяў вецер і з-пад вугалля выскачыў агонь, яму ў ахвяру быў кінуў той эцюд, але перахапіў Змітрок:

— Вы што? Вала ў агонь? Яго ніякія агні не бралі. Колькі гарэў, а не згарэў, у вірах тапіўся на Друці — жывы застаўся. Рукі былі — як клешчы ў каваля, гарачае жалеза голымі гнуў. Любое бервяно ўскіне на спіну — панёс.

— Ты яго добра ведаў?

— А як жа? Мы, хлапчукі, за ім, як хвост за яшчаркай, хадзілі. Усё чакалі, на чым яшчэ пакажа сваю сілу.

— Але смерць і яго знайшла?

— Той дуб зламаў бы і каня.

Дуб на ўзлеску Неўраў ведаў, не раз пісаў. Пану спатрэбілася яго зваліць. А як, калі ніводная піла дабрацца не магла да стрыжака? Здужаць ніхто не браўся. Пан прыкаціў бочку гарэлкі: хто смелы? Тады да дуба прыйшоў з сынам Вол. Дзень цэлы шоргалі пілою, а дуб стаяў. Жалезныя кліны прынёс, у прапіл забіў — зноў адступіў. Прынёс ад каваля жалеза доўгае ды тонкае, загостранае, каб той стрыжак паміж кліноў дастала. А ўжо сцямнела. Узнялася навальніца, а Вол пад дубам. Маланка кахнула ў верхавіну, ён і пайшоў вобземваўчком, і закруціўся. Вол пад дубам толькі паспеў прачнуцца, а ўжо адскочыць не паспеў.

Былі ў Неўрава эцюды, напісаныя з Вала. Цяжка ён іх пісаў. Можа, таму не даражыў ніводным.

— Горб быў вялікі ў мужыка, сагнуў яму спіну дугою. Твар вечна ў зямлю глядзеў. А мне ж патрэбны твар, не горб? Пісаў у профіль, то з аднаго боку, то з другога, а твару ўсё няма. А быў. Быў твар прыгожы. Нос, вочы — нібы ў каршука. Як гэты эцюд пісаў? А на каленях стоячы, каб знізу твар адкрыць. Сам Вол з мяне смяяўся: што ты стаіш перада мной, як перад панам?

— А вы яму на гэта — што?

— Кажу: ты — пан мой, я — твой мужык.

— А ён?

— Рагатаў, аж пырскаў слінай. Не па-людску. Захлёбваўся, душыўся рогатам.

Трымаючы эцюд у руках, Змітрок сказаў, калі ўжо замоўк мастак:

— Вол не гарбун. Там горба не было. Ён усё жыццё бярвенне на сабе цягаў у панскім лесе. Мазоль набіў на ўсю спіну.

Дастаў з торбы бутэльку з царскай моцнай, ад Хаіма або ад Хайкі, паставіў на калодку, выклаў два чырвоныя яйкі, пасху, салёныя гурочкі, каўбаску. Дзве невялікія шклянкі паставіў на калодку, наліў.

— Ну, з Богам? — перахрысціўся.

Яйкам аб яйка стукнулі —узяліся лупіць.

Неўраў спытаў пра бацьку, чаму не заглянуў.

— Яшчэ загляне, як адаспіцца. Ноч не паспаўшы, разгавеўся і заваліўся. Святкуючы, трэба ўжо і пра поле думаць. Дажджу добрага няма, дні цёплыя стаяць, зямля перасыхае. Жук грукае па вечарах у шыбы лбом, незадаволены, што сейбіт сядзіць у хаце.

Неўраў задумаўся. Тое, што сказаў Змітрок пра поле, пра жука, захвалявала. Сваё поле было і ў яго. Рупіла ехаць на Друць, там паглядзець на хлопца ў рэальным, як трэба для карціны, пейзажы, зрабіць эцюды. Цяпер як прымірыць гэтыя два полі, сваё з мужыцкім? Пакуль што не спяшаўся паказаць сваю трывогу, але не думаць пра яе не мог.

— На збажыну ды бульбу год удасца? — спытаў.

— Зіма была марозная — лета будзе цёплае. Быў снег глыбокі, дык будуць і дажджы. Тады зародзяць і збажына, і бульба. А будзе мужык з хлебам, дык, можа, здохне пан.

— Пан любіць мужыка галоднага?

— Анягож? У галоднага няма той сілы, каб падняцца з каленяў. Галодны перад панам не ходзіць, як чалавек, а поўзае, нібы чарвяк. А пану тады весела.

Здзіўляла рашучасць хлопца, бо не гэтакія былі ў вёсцы іншыя мужыкі. Адчуў сябе гаспадаром?

— Далёка глядзіш, Змітрок. Табе б на царскі трон?

— Звалюся. Не хачу. Лепш стаўце князем у світцы.

— Пастаўлю. — Неўраў хацеў сказаць, што гэта зробіць хоць заўтра на Друці, але адчуў, што тут згоды не знойдзе — свята. Спытаў: — Як будзеш княжыць?

Пачуў адразу:

— Дам волю мужыку. Але не ліпавую. Зямлю і волю.

— Першы раз чую ў Лыскаўшчыне пра волю. Думаў, што тут і слова гэтакага ніхто не ведае.

— Слова не кожны скажа, але ў няволі стогне кожны.

— Ад цябе я стогну не чуў.

— У мяне ёсць конь. Яго завуць Воранам. Ён і конь, ён і птушка. І бяжыць, і ляціць. І тут, і там, — паказаў пальцам на неба. — Як вазьму лейцы, на кулак наматаю, казаць пра волю мне ўжо не трэба. Конь — мая воля.

— Кажуць, што нас вывезе паравоз?

— Не ведаю. У мяне конь — мой паравоз. Куды яму скажу, туды і вывезе.

— А я думаў, што вольны тут адзін Пракоп.

— Бацька? — зарагатаў Змітрок. — Дзе трэба воля кулаку, там у яго воля языку. Вы Васілька вазьміце на пэндзлік, братуху. Ого!.. Малады, а ранні. Да яго без шворна не падыходзь. З ім пра волю не гаварылі?

— Ты прывядзі яго сюды. Толькі без шворна.

— Прывяду.

Над прысакам пагаварылі, памаўчалі, і калі Неўраў, задумаўшыся, адвёў вочы ўбок, а потым штосьці хацеў хлопцу сказаць, яго ўжо побач не было. Як нечакана аб’явіўся, гэтак нечакана і знік. Што прынёс, разам з торбаю, пакінуў на калодцы, нібы яшчэ меўся вярнуцца, адно эцюд Вала забраў з сабою. Усё з калоды Неўраў перанёс у майстэрню на стол, дзе ад сустрэчы з Параскаю ды Марыляй стаялі бутэлька з віном і закускі, адзін сеў за стол. У галаве, пацверазелай ад выпітага, гуляла думка, і ад сябе яе ўжо не адпускаў: парабкаў Змітрок не любіў, як не любіў і пана, але ж эцюд Вала, згарбелага ад працы на пана, зламанага пад панскім дубам, не даў спаліць?

Мастак хацеў глыбей зразумець Вала ды Змітрака, тое, што іх яднала — панскага парабка і вольнага душою мужыка.

## ДВУБОЙ

Дні Пасхі ды светлай сядміцы выдаліся сапраўды светлымі не толькі ад шчодрага сонейка ды незапозненага прылёту шпакоў, якія штораніцы зляталіся на старую бярозу ў канцы саду. Прачнулася і свая песня, даўно чаканая, каб выліцца на палатно. Хоць небяспека кружыла, яе адчуваў, але пра яе не думаў, гнаў ад сябе ўжо з палітрай у руцэ. З адною толькі думкай зладу не знаходзіў: з каго вояў пісаць? Каб не выбіцца з настрою, пачаў накідваць пэндзлем задні план. Там цяжкасцяў не меў. Падняў над Друццю гарадзец і сцены Друцака, царкоўныя крыжы, званарню, купалы, паклаў на цёмную ваду ракі іх светлыя адбіткі. Але жывапіс вымагаў працы адразу па ўсім фармаце палатна,

класці мазочкі адразу ва ўсіх планах, гэтак шукаць гармонію тонаў, адценняў, каб пасля не выявілася, што вобразы, дэталі, колер гучаць не спеўна, як у добрым саборным хоры, а паасобку, каб урэшце не рассыпалася на жывапісныя кавалкі палатно. Усё хацелася рабіць адным дыханнем. А што атрымоўвалася? Быў задні план, быў план сярэдні, было шмат лодак з друцкімі людзьмі па ўсёй рацэ, наперадзе свяцілася ладдзя князя Рагвалода, якога сустракалі месцічы, знайшоў мадэль для князя, былі з яе эцюды і бачыўся ўжо князь, ды не было мадэляў для блізкіх, буйным планам, вояў князя. З каго пісаць, калі навокал парабкі? З эцюдаў, раней напісаных у вёсцы? А хто, як не яны, на тых эцюдах?

Адважыўся нарэшце, рызыкнуў, адкінуўшы сумненні, і вымаляваў у ладдзі княскай, ля ног у князя, Вала. Фактура — не трэба лепшай. Нахіл даў галаве не той, што на эцюдзе, за галавой схаваў горб на спіне, прыўзняў і завастрыў сякеру-нос, даў барадзе больш згоды з носам: не Вол — арол! Сэрцам адчуў, што атрымаўся вобраз, і можна гэтак працаваць далей — мадэль перастварацъ, па-іншаму, у згодзе з усёй карцінай, пераляпіць. Тады Гараську пасадзіў у карму ладдзі: адно вока прыплюснутае, нібы схаванае ад усіх пад навіссю брыва, пакрыўджанае ці вінаватае, хай сабе проста хітрае, нібы ўвесь свет убачыла дурнейшым за сябе, але другое глядзела востра, усё бачыла не толькі спераду, але і з бакоў, нават адзаду, быццам у страказы, не вока — жаўток, што вылупіўся з яйка, каб страх на кожнага нагнаць. Тут сам успомніў, што вочы ў чалавека не аднолькавыя, хоць іх усяго два, у кожнага малюнак свой, свая напруга, свой колер можа быць, і гэта даў воку Гараські — звыш таго, што ў малюнку з бараной. Руку яго адкінуў вольна над вадою за бортам ладдзі, як ёю сеяў сейбіт золата, аж на грудзях чырвоная кашуля распаўзлася, павыпіралі косткі — усёй душой за князя. Тут і рука другая згадзілася ля рота. Але яна ўжо не шаптала тое «Абы ціха» — гукала, каб чуў князь воя за спіною. Гараська гэтакім у эцюдзе быць не мог, але тут — быў, і ўсё папраўдзе, бо тут — сюжэт, карціна, жыццё напоўніцу. Не даўшы памылкі і з Гараськам, узяўся за Свіное Вока — Міцьку. Вось дзе было цяжэй. Два вокі, святла — ні ў водным, салам заплылі абодва, а што за вой, калі не бачыць і пад носам? Думка ранейшая прачнулася: што возьмеш з парабка, акром яго сляпіцы? Пісаць — які ён ёсць? Ці не пісаць зусім? Шкада было ў ім чалавека і не было ахвоты парабкам рабіць. Зноў рызыкнуў: на самы нос ладдзі пасадзіў, на месца княскага дазорцы, які далёка бачыць: хай жмурыцца,

высочвае ўсе падазронае, як шпік — і гэтакі патрэбны вой. З заплытымі вачмі свіння, можа, і недалёка бачыць, але мужык усё ж не свіння — вочы хаваць жыццё прымусіла.

Намаляваў — задумаўся: як вёска паглядзіць на мужыкоў? Сябе той вёскай уявіў: ну, людзі абрагочуцца! Хто ў Лыскаўшчыне альбо ў Грыбіне, убачыўшы карціну, скажа, што Міцька тут — Свіное Вока, што Вол пад тым сваім ярмом і што Гараська — Абыціха? Мо хто і скажа ў вёсцы, бо сваіх пазнае, але ж карціна, як атрымаецца, паедзе ў царскую сталіцу, адтуль на ўсю дзяржаву можа прагрымець — там мужыкоў тутэйшых хто ведае? Хай Стасаў тады скажа, што ў Неўрава — тэатр. У вёсцы трэба жыць, маэстра, —мастак адкажа, — жыццём, якое яно ёсць, а не тэатрам, твор жывапісу вывяраць і правяраць.

Гэтак працуючы і ў працы супакойваючы сябе, свае сумненні ды перасцярогі, у старых эцюдах адшукваў фактурных мужыкоў у дружыну князя: хай бачаць сябе воямі і парабкі.

Зайшоў Змітрок. Перад ім скінуў з карціны фартух: што скажа галава свяжэйшая, гарачая? Сачыў за хлопцам, сеўшы воддаль. Змітрок глядзеў — маўчаў, даўжэй глядзеў — даўжэй маўчаў. Тады Неўраў не вытрымаў —спытаў:

— Дык што маўчыш? Забыў дома язык?

Хлопец вусы развёў двума пальцамі, як рабіў бацька, калі доўга маўчаў і цяжка думаў, хвасты ім закруціў, зірнуў не вельмі смела на мастака, ніякавата ўхмыльнуўся.

— Баюся сказаць няпраўду. Я ж не мастак.

— А мне мастак тут не патрэбны. Ты як мужык скажы.

— Вусы каб князю карацейшыя.

— А можа, яны даўжэйшыя ў князя, як у цябе? Ён не стары, але старэйшы. Яго вусы даўжэй раслі.

Неўраў усміхаўся, нібы казаў усё гэта з жартам.

— Тады… ён на мяне падобны.

Тут грукнуў кулаком у стол, зарагатаў.

— Ды мне не трэба, каб князь быў на цябе падобны. Ён што, твой сын ці ўнук? Пішу я не цябе, а князя, і ты мне, як мадэль, даеш фактуру, святло ды цені, каларыт.

Спытаў пра вояў.

— Я ўсіх тут пазнаю, — сказаў, падумаўшы, Змітрок.

— А ўзяў бы іх, як князь, у сваю дружыну?

Скрывіўся хлопец у твары, нібыта праглынуў нясмачнае.

— Да дзевак не пайшоў бы з імі.

— А чаму?

— Якія ж гэта кавалеры? Свіное Вока, Абыціха, Вол… Усе дзеўкі разбягуцца.

Тут і мастак задумаўся: якія воі, калі ад іх, а не да іх шыбуюць дзеўкі? Тады, можа, і князь — не князь?

Змітрок пайшоў. На адзіноце Неўраў дастаў з камоды партрэт Параскі, дзе яна сядзела з верацяном у руцэ за прасніцай. Пісаў, калі яшчэ ў Параскі не было Марылі, быў у падлетках Восіп, а ён, мастак, яшчэ не жыў ў Лыскаўшчыне, да вёскі прыглядаўся, гасцюючы ў Тубушках у Чарняева. Павесіў на сцяну партрэт, глядзеў то на Параску, то на князя — гадаў: яна пабегла б ад яго? Успомніў, як уталопілася ў генерала, вачэй адвесці не магла, забыўшы пра верацяно, кудзелю, калі з Чарняевым зайшлі ў хату. Дык ці не ўзяць з партрэта ў карціну, у ладзейку — з тых, што князя сустракаюць на Друці? Цяпер на князя хай глядзіць тымі вачыма.

Пачуўшы раптам незнаёмы грукат у сенцах, занёс партрэт у гасцёўню, вярнуўся ў майстэрню — тут ужо стаяў знаёмы чалавек у наваксаваных ботах, чорнай скуранцы, пад картузом з блішчастым, нібы шкліна, казырком — Іван, мужык Парасчын.

— Га, нарэшце! — быццам абрадаваўся мастак. — А то прыехаў і не паказваеш вачэй. Дарогу сюды не ведаеш?

Шустрым позіркам госць шарыў па майстэрні, як што сваё, забыўшы некалі, шукаў.

— Няма часу. Трэба араць ды сеяць. Бульбу дасталі са склепа, трэба перабіраць, гнілой шмат.

— Рабочы клас таксама хоча есці?

— У шахту галодны не палезеш.

Госць хоць казаў пра поле, бульбу, жыта, а думаў, як заўважыў Неўраў, іншае: хітрэй, як да размовы пра зямлю, бегалі вочы. Угадаўшы, куды цэляць і што шукаюць, сказаў:

— Параска не хоча, каб я яе пісаў. Кажа, што старому мастаку лепш удаюцца партрэты дзядоў, бабуляў. А ты як думаеш?

Госць недаверліва ўсміхнуўся:

— Стары конь баразны не псуе.

— Але, сам ведаеш, глыбока не арэ.

— Яшчэ я гэта не ведаю. Трэба спытаць у бабы.

Неўраў не чакаў стрэлу напрамкі. Думаў, што госць не рызыкне на жарт ці гумар з таемным дном, разлічваў на вясковую, што ў ім была раней, ніякаватасць ці разгубленасць, а ён гульню ў падкіднога не толькі падхапіў, але і сам пайшоў у наступ: спытае ў каго, як не ў жонкі?

Трэба было даць задні ход.

— Цябе я б напісаў. Ты новы чалавек. Не толькі ў Лыскаўшчыне, але, можа, у краіне.

З краінай перабраў, сам спахапіўся. Ды слова — не верабей, не зловіш, у кішэню не схаваеш. Іван ужо не быў тутэйшым вахлаком, навуку жыцця прайшоў і мастака адчуў таксама, як і мастак яго. Не адказаўшы на замову пра партрэт, адышоў да шафы, зняў з яе стос кардонак і аркушаў з эцюдамі ды замалёўкамі, узяўся пераглядаць. Неўраву гэтакае свавольства не спадабалася. Забраў назад эцюды, паклаў на стол, узяў госця пад руку:

— Хачу табе тут паказаць…

Амаль што ветліва вывеў на ганак, звёў з ганка, правёў у сад да вулляў.

— Бачыш, колькі тут пчолам хатак? Не ўсе гнілыя, а жывой пчалы ніводнай. Каторыя памерзлі, каторыя здзічэлі, паразляталіся, патрос іх і мядзведзь. Адным словам, няма гаспадара. Дзве-тры сям’і завесці б для пачатку. Ты з бацькам у Грыбіне пчалярыў — бяры ў рукі пасеку? Прадам карціну, выкупім у пана гэты дом з садам ды пчоламі. Будзе мёд — будзе і да мёду. Кідай тыя шахты.

Іван маўчаў. Ён гэтакай размовы не чакаў. Хіба сюды ішоў, каб на партрэт набіцца? І навошта пчолы? Яму б разблытаць, хто тут жонка: наймічка ці гаспадыня? Хто ў дурнях? Можа, ён сам, яе мужык? Ехаў на свята, а запрэглі: вязі на поле гной, страха згніла — дай рады, са склепа бульбу падымай, станоўся за саху. Яшчэ і баба на два дамы: дзе яна жонка, дзе гаспадыня? Як дакапацца? Спытай — адкажуць? Гэтак і ў судзе не бывае — ноч цёмная. Сюды прыйшоў — што знайшоў? Халтуру з пчоламі?..

Правёўшы госця, Неўраў вярнуўся ў майстэрню. Спыніўся на тым месцы, дзе Іван стаяў са стосам замалёвак, наводзячы рэвізію, вачыма вакол сябе павёў і позірк затрымаў на дзвярах, адчыненых з майстэрні ў гасцёўню, на тым, што бачыў праз адчыненыя дзверы далей. Першае, што кінулася ў вочы, быў на камодзе партрэт Параскі. Іван яго не мог не бачыць. А калі бачыў, дык ці пазнаў, хто на партрэце? Напісаны даўно, на ім Параска маладая, але ж у вёсцы пра партрэт ніхто не ведаў, акром самой Параскі. Цяпер мужык падумаць мог, што ад яго хавалі?

Гэта не засмуціла, бо не было сумненняў — не пазнаў.

З падрамніка зняў фартух, накінуў на сябе, стаў да мальберта.

Амаль усё, што бачыў на задуманай карціне, ужо ляжала на палатне: буйным пярэднім планам — князь і яго дружына,

на дальнім плане — горад, сярэдні план — плылі насустрач князю лодкі з жыхарамі горада, і сярод першых плыла ладзейка, меншая за княскую. З'явілася думка паставіць у ладзейку дзяўчыну ў тутэйшых строях пад вянком з васількоў ды жытніх каласкоў, з хлебам-соллю. З каго яе пісаць яшчэ не ведаў, але цяпер успыхнула, як вогніска на ветры: пісаць Параску. Яна ўжо не дзяўчына? Але ж і князь не хлапчына? Хай будзе маладзіца, прыгожая сялянка. Адна загваздка — з кола, другая — у кола: як пісаць, калі шахцёр не выпускае з хаты? А яшчэ — гаспадарка, трэба араць, сеяць, ды праца каля хаты, у агародзе. Мужык — за саху, а жонка — з мастаком на прыроду? Гэтак не атрымаецца: і мужык, тым больш раўнівы, павесіцца, і куры засмяюць. Сама Параска, каб гэта ёй сказаць, жахнулася б. Дык што рабіць? Не трэба коней гнаць? Адкласці працу? Перачакаць? Куды адкласці — што наперадзе? Хоць з тым судом і з домам? Ён сам, мастак, дзе заўтра апынецца?

Зноў узяў партрэт Парасکі, паставіў перад мальбертам. Выйсце: пісаць з эцюда? Не тая, што трэба для карціны, пастава, вопратка? Але той, што трэба, твар, пагляд, тая душа, што трэба, схаваная пад вопраткай, выразная фактура. Хіба мала? Да згоды прыйшоў у думках, але ведаў, што выбар робяць не адны думкі, нават менш — думкі, галава, разлік, больш — сэрца, у сэрцы — пачуццё, настроі. Хіба не сэрца выявіла і тую думку, што вось да гэтае Парасکі, якую дзесяць гадоў назад убачыў і напісаў, пачуцці горнуцца, можа, мацнейшыя, як да сённяшняй. Чаму? А і не дзіва: былі там першыя ўражанні. Гэтак падумаўшы, перасцярогся: крыўды за тое, што Параска апошнім часам не заглядала ў дом, ён мець не мог. Гэта, вядома, перажываў, але і разумеў, апраўдваў — жанчына, маці берагла сям'ю і не лічыцца з воляй мужа не магла, хоць бачыла, што воля ў яго шалёная і не ад розуму.

Цяпер магчымасць завяршыць карціну даваў эцюд.

Раніцай Змітрок адбіў ад працы ненадоўга, настрой не пагасіў, але следам за ім наведаўся Іван. Часу і ён забраў не шмат — адно збіў з думак. Час выкраіць лягчэй, а як вярнуць настрой? Стаць да мальберта і працаваць? І сапсаваць, калі няма настрою, працу?

Аднёсшы сёрбала мядзведзю і сабаку, вярнуўся ў дом. Ускінуў на сябе янота, усцягнуў на ногі боты, зняў стрэльбу са сцяны, сунуў руку ў кішэню футра, намацаў два заўсёдныя патроны, павесіў стрэльбу на плячо і выйшаў да звяроў. Каштан аблізваўся, а Топа яшчэ вылізваў у шаечцы. Калі абодва паднялі

галовы, глядзелі яму ў вочы, даў цукру са жмені Топу, кавалак даў Каштану. Зняў Топу з ланцуга.

Дарога з вёскі вывела на бальшак, з аднаго боку якога блішчэла панская сажалка, з другога боку стаяў малады чысты бярэзнік. Выйшлі да таго месца, дзе вада прарвала гаць, затапіла дарогу. Гаць пан аднавіў, але дарога, дзе праз яе бегла вада, заплыла глеем, ляжала гразкая. Каштан глей абышоў па прыдарожным мурагу, за ім прайшоў і Неўраў. Топа адстаў, бо плёўся без ахвоты, спыняючыся пад кожным кустом і дрэвам. Бярэзнік за дарогай яшчэ стаяў у вадзе, і Неўраў звярнуў, пайшоў вышэй пагоркам, далей спыніўся, каб дачакацца Топы. Мядзведзь любіў сам выбіраць сабе пад лапу сцежкі і тут, не здрадзіўшы сваёй натуры, схітраваў: звярнуў з дарогі ды рушыў цераз канаву, нос утапіўшы, пачуўшы ў вадзе рыбу. Хутка выскачыў на бераг — у пашчы блішчэў пругкі шчупак.

Вечарэла. Над лесам зніжалася сонейка. На пагорку ляжалі крыжам, адна каля адной, дзве сухія бярэзіны. Неўраў над імі спыніўся і глядзеў у бок падлеску, дзе мог зашыцца Топа.

Дрэвы на сонейку залаціліся, голле было ўжо вохрыста-ружовае, апранутае ў лёгкія, рухомыя ад кожнага павеву ветру, светла-зялёныя вопраткі, і ўся тая нябесна-сонечная чысціня адбівалася ў блакіце вады паміж срабрыстымі ствaламі дрэваў. Загледзеўшыся на цёплую прыгажосць, Неўраў не думаў пра Каштана ды Топу, але заўважыў, як у адным месцы вада пазмрачнела, захвалявалася, пайшла кругамі і з таго віра вынырнула круглая галава мядзведзя. Пазнаў не адразу. Яна была ўтыканая з усіх бакоў бліскучымі доўгімі голкамі, як у жанчыны пад рукамі клубок нітак, а калі пазнаў, дык здагадаўся, што голкі — сонечнае праменне. Галава падскоквала над вадою і разам з ёю падскоквала гарбатая спіна мядзведзя, футра якога было ўжо не цёмна-бурае, а залацістае, у плямках нябеснага блакіту і вяснова-зялёнага кобальту. Спачатку мастак з цікавасцю глядзеў на той малюнак са зверам, на яго танец у вадзе, а потым занепакоіўся, што не звер, як павінна быць, пільнуе гаспадара, а ён звера. Ведаючы, як Топу падабаецца пялёсканне, адчуў што гэтая лазня ў яго можа расцягнуцца надоўга, што ён з яе можа не хутка вылезці, можа самому давядзецца лезці ў ваду, каб яго адтуль выманіць. І ўсё ж пайшоў далей, з грудка на грудок.

За бярэзнікам пачынаўся малады хвойнік, у ім Неўраў заўважыў хуткі, як ад вялікай птушкі, цень. Падумаў, ці не там ужо Топа, але ад вады было далекавата, каб перабегчы гэтак

хутка. Пайшоў цішэй, зноў ды зноў кідаючы вачыма ў бакі. Заўважыў чалавека. Але ці мала хто мог хадзіць па лесе? За прасекаю спусціўся ў лагчыну, перасек шырокі прагал, падняўся на лясны ўзгорак са знаёмай старой зямлянкай, скіданай з ужо трухлявага бярвення. Далей быў роў — выйшаў да яго: на дне — вада, вышэй — каменне. Некалі тут пралягала слончына цяга — сюды прыходзіў. Знайшоў нават плоскі, як стол, камень, на якім неаднойчы сядзеў са стрэльбай і без яе, чакаючы сваю слонку. Сеў і цяпер. Камень быў цёплы, нагрэты сонцам. Паклаў стрэльбу на калені, прыслухаўся — адразу і пачуў. Але не слонку гэтым разам. Азірнуўся на трэск галля, як пад цяжкімі ботамі. За спіною стаяў Іван.

— Гуляеш па лесе? — спытаў.

— Прыйшоў паслухаць слонак, — адказаў Іван з намёкам на тое, што ведае, чаго сюды прыходзіць мастак.

— Без стрэльбы не ўпалюеш.

— Гэта як хто. Адзін не ўпалюе і са стрэльбаю, а другі без стрэльбы знойдзе здабычу.

Неўраў ужо здагадаўся, што Іван тут не выпадкова, што за спіною, як ішоў, матляўся паміж дрэваў яго цень. Сачыў, ішоў па следзе?

Іван падняў з-пад ног галіну, з-за халявы бота дастаў малую шахцёрскую сякерку з круглым молатам замест абуха, пачаў зачэсваць галіну. Відаць было — сякерка вострая.

— Іншы паляўнічы возьме любога звера, гэта так, без стрэльбы і без сякеры, голымі рукамі, — сказаў Неўраў. — Я гэтакіх ведаў. Але яшчэ ніхто не браў рукамі, нават з сякерай, на цязе слонку.

Іван заткнуў сякерку за халяву бота, бліжэй падышоў да Неўрава, паклаў руку на ствалы, спытаў, з усмешкаю зірнуўшы ў вочы мастаку:

— А можна патрымаць у руках?

— Патрымай, калі ахвота. У ствалах няма патронаў.

Сам падаў стрэльбу.

— Якое ж паляванне без патронаў?

— Да свайго часу павінны ляжаць у кішэні.

— А можа, цяпер той самы час?

— Пакуль што слонкі не чуваць.

— А наша слонка не там, — ён пальцам паказаў на неба. — Яна даўно ўжо тут.

— Тут — гэта дзе?

— Гэта не там. Гэта тут, — паказаў пальцам у зямлю. Хацеў зарагатаць, не атрымалася: гігікнуў па-дурному.

Расшпіліўшы на грудзях скуранку, зняў з галавы шахцёрскі картуз, павесіў на ялінку, адышоў ад мастака, узвёў куркі, ускінуў стрэльбу, прыцэліўся ў сароку, якая пералятала, шчабечучы, з хваіны на хваіну, шчоўкнуў затворам.

Неўраў яму сказаў:

— Не шчоўкай, як не заражаная. Не збівай байкі.

Сарокі на суку ўжо не было. Іван павёў ствaламі вакол сябе, наставіў на мастака, зноў шчоўкнуў. Неўраў жарту не зразумеў, але ўбачыў, што жарт быў сумыслу, што гэтым чалавек хацеў сказаць. Ды ўжо і ён праясніў:

— Дзе тут? А тут. Яна тут паміж намі.

— Цікава! — здзівіўся Неўраў.

— Цікава, — адказ быў без здзіўлення.

— Дык у чым справа? — Неўраў дастаў з кішэні два новыя, з латуневым бляскам, патроны, працягнуў на выпрастанай далоні. — Якраз два. Адзін твой, другі мой. Ты гэтага хочаш? — Іван маўчаў. — Ну, выбірай.

Той стрэльбу апусціў, звесіў галаву, спадылба разглядаў патроны, напружана маўчаў. Выбар быў за ім. Сам напрасіўся.

— У маёй бабы не можа быць двух мужыкоў, — як выціснуў з сябе патрэбнае яму ў гэтую хвіліну апраўданне.

— А ў іншых?

— Да іншых які мне клопат?

Ён падышоў бліжэй, выставіў руку, каб узяць патрон, але ўзяў не адразу, пакутліва гадаючы, каторы выбраць, каб не прамахнуцца, і выбраў, нарэшце, не бліжэйшы, а той, што блішчэў далей, быццам яму быў падсунуты не лепшы. Патрымаў у пальцах з недаверам.

Неўраў заўважыў яго разгубленасць.

— Што задумаўся? Думаць трэба раней, як ідзеш на паляванне. Запозна думаць — гэта смерць, — разважыў змрочна, як бывалы паляўнічы, і працягнуў насустрач рукі са сціснутымі кулакамі. — Яшчэ раз выбірай. У адным патрон, у другім пуста. Угадаеш, дзе патрон, — страляеш першы. Не ўгадаеш — першы я.

Іван маўчаў. Пра гэтакія правілы, можа, не ведаў, але сказаць супраць не мог нічога. На ілбе выступілі кроплі поту. Адчуў, што справа дрэнь і ходу назад няма. Але на што разлічваў? Што запалохае мастака?

Па левым кулаку ўдарыў — патрончык у ім бліснуў. Аж горача зрабілася: не абы-што выйграў — жыццё? Але яшчэ мацней збянтэжыўся, бо раптам уявіў, як ён цяпер застрэліць чалавека. Насмерць? А як іначай? Калі застрэліць, то насмерць, іначай у гэтых гульнях не бывае.

Неўраў той гіблы страх убачыў — з усмешкаю глядзеў на мокры лоб. Іван змахнуў пот рукавом. Твар у яго быў злосны.

— Вунь… бачыш хвою? Пад ёй станоўся і адтуль палі. Патрон і стрэльба ў тваіх руках. Паміж намі дваццаць крокаў. Я зайца белага зімою па белым снезе кладу за дваццаць крокаў на хаду. Ты гэта памятай. Прамажаш — я не прамахнуся.

Іван таптаўся на адным месцы, глядзеў у зямлю, маўчаў. Ён штосьці хацеў прыдумаць, сказаць, але ніякая думка ў галаву не ішла. Цяпер маўчаў і Неўраў, як даючы яму на тую думку, што не давалася, яшчэ хвіліну.

— А можа…

Штосьці падумаў? Але замоўк.

— Што можа? Ну, гавары, смялей. Няма табе чаго сказаць. Калі б ты быў мужык, рабіў бы па-мужыцку. Кулак у цябе ёмкі, на бабах прамашкі не даеш. — Іван тут бліснуў на мастака вачыма, але адразу іх схаваў пад чорнымі брывамі. — Задумаў ты па-панску? Ці па-гарадскому? Ну, як задумаў, то і пачынай. Хай будзе і тут па-твойму.

Іван быў вымушаны стаць пад хвою. Пераламаў стрэльбу, каб у ствол патрон закласці. Спытаў:

— У які ствол?

— У трэці.

Не зразумеў:

— Тут усяго два.

— А трэцяга ўжо няма? — працягваў здзекі Неўраў. — Дык гэта я яго згубіў. Стралок ты, бачу, адмысловы, табе хопіць і двух. Кладзі ў любы.

Цяжка думаючы, той даўгавата соваў патрон у ствол, а Неўраў глядзеў чэпка, падганяў, хоць рабіў выгляд, што падбадзёрвае, падказвае, як што рабіць:

— Ды не забудзь перахрысціцца. Бог не шкадуе нехрысцяў.

Не глянуўшы ў бок мастака, Іван перахрысціўся, аберуч ашчаперыў стрэльбу, падняў да падбародка, прыладзіў ложа да пляча, а сківіцай не прыкладаўся, як нешта яшчэ думаў, нечага чакаў. Прыклаўся.

Не варушыўся, цэлячыся, як і не дыхаў.

Нібыта прывід, раптам паміж стралком і мастаком узнік мядзведзь. Адкуль узяўся? Спачатку на чатырох, але даў дыба, на задніх лапах рушыў да стралка, сярдзіта рохкаючы, нібы кабан.

Стралок голаў ускінуў, мядзведзя ўбачыў перад сабою, і стрэльба грымнула, нібы сама.

Стралок шуснуў у ельнік.

Стрэльба ляжала на зямлі — Топа стаяў над стрэльбай. Ён гроб пад ёю кіпцямі, каб узяць на лапу, але ўзяць не мог — адкінуў ад сябе і рушыў да Неўрава.

Ведаючы, як не любіў Топа парахавога смуроду, Неўраў ужо трымаў у жмені цукар — сунуў спажыву ў пашчу звера. Як сябры, абняліся. Калі ж Топа пачаў ізноў тачыць нос у кішэню, адкінуў яго галаву ад сябе, падняў стрэльбу, абцёр далоньмі ад пяску, дастаў са ствала гільзу, заклаў у ствол новы патрон з кішэні.

Чорны шахцёрскі картуз вісеў на ялінцы. Ад стрэлу ён падскочыў, як жывы, і пакаціўся па зямлі.

Ускінуўшы стрэльбу на плячо, Неўраў падаўся з лесу на дарогу.

У доме ля парога ён зняў з сябе янота, ускінуў ля дзвярэй на вешалку, прайшоў у майстэрню, там абцёр ружжо мяккай анучкай, павесіў на сцяну, дзе яму належала вісець заўсёды, падышоў да мальберта. Зняў з карціны фартух, сеў за стол і глядзеў на яе пахаладнелымі вачыма, як на штосьці не ім задуманае і напісанае. Глядзеў і думаў: чаму ён тут, у гэтай вёсцы, каму ён тут патрэбны? Заплюшчыў вочы, нібы заснуў. Рука ляжала на стале. Яна нервова ўздрыгвала, сцішвалася і зноў уздрыгвала. Адчуў ёю паперу — яе скамечыў у кулаку. Потым расплюшчыў вочы, кулак расціснуў. У руцэ ляжаў канверт. Здзівіўся: што за ён? Паклаў на стол і параўняў далонню. Канверт быў запячатаны. Рог надарваў, у дзірачку прасунуў палец, разарваў далей, дастаў паперку. На ёй быў чорны штэмпель, арол дзяржаўны з дзвюма галовамі — дзве, у два бакі, вострыя, нібы нажы, дзюбы.

У лісце паведамлялася, што суд разгледзеў іск гаспадзіна Лупандзіна аб вызваленні дома ў вёсцы Лыскаўшчыне, які належыць яму на правах уласнасці, жыльцом дома гаспадзінам Неўравым, які карыстаўся правам на дом часова па згодзе і ўмовах дагавору абодвух бакоў, і што пасяджэнне суда адбылося пры адсутнасці падацеля іску і жыльца дома з прычыны таго, што яны не з’явіліся.

Неўраў адклаў ліст убок і глядзеў на сваю новую карціну. Потым падняўся з-за стала, узяў ліст, падышоў да грубкі, адчыніў дзверцы і сунуў паперу ў грубку.

Каля парога накінуў на сябе футра, капялюш і выйшаў з дому.

## МУЖЫЧОК ШЧАСЛІВЫ

Раніцай нечакана з'явіўся Восіп. Адразу завітаўшы ў майстэрню, быццам яго тут даўно чакалі, сеў за стол, зняў з галавы, паклаў перад сабою шахцёрскі картуз, падпёр рукою падбародак і, не зважаючы на гаспадара, які сядзеў насупраць, пільна, жмурачы вочы, глядзеў на стрэльбу, што вісела на сцяне, усё роўна як яна павінна была выбухнуць і ён чакаў таго выбуху. Неўраў сачыў за напружаным тварам Восіпа, пазіраючы і на знаёмы картуз.

— Носіш бацькаў? — спытаў.

Хлопец параўняў верх картуза, глянуў праз яго на сонца ў акне, кінуў на стол і зноў, нічога не кажучы, глядзеў на стрэльбу. Неўраў узяў картуз, абмацаў на ім дробныя дзірачкі.

— Яшчэ новы, сукно царскае, шынельнае, а моль ужо стачыла.

— Не моль, а драбавік, — праз зубы выціснуў з сябе Восіп. — Бацька не начаваў дома.

Гэта ўсхвалявала і Неўрава.

— Учора ён да мяне заходзіў. На галаве быў гэты картуз. Пагаварылі, і ён пайшоў. А дзе ты яго ўзяў, калі не бачыў бацьку?

— Знайшла ў лесе Нюрка. У каго яшчэ ёсць драбавік, акрамя як у вас? У пана, у ляснічага, у лоўчага? Ёсць у Грыбіне ў мужыка, які рабіў вам цёс на падрамнікі.

— Думаеш, хтосьці страляў у бацьку?

— А што мне яшчэ думаць?

Учорашнія жартачкі абарочваліся вялікай непрыемнасцю, якую ніхто не мог прадбачыць. Калі ў лесе Неўраў сутыкнуўся з бацькам Восіпа, а пасля смехатуры з двубоем разышліся, разлічваў, што ўсё закончылася карысным для фанабэрыстага Івана перапалохам, і ведаць, што адбылося, ніхто не будзе, акром іх дваіх ды мядзведзя. Але ж — картуз. Ён аказаўся таксама сведкам і сведкам, небяспечным, бо ўжо загаварыў. Навошта траціў на яго патрон?

Сам-насам гэтак разважаючы, усміхнуўся нечаканай думцы — падняўся з лаўкі:

— Надзень картуз на галаву. Цяпер скажы, як з драбавіка можна прабіць верх картуза, які сядзіць на галаве? Той, хто страляе, павінен, калі ў лесе, залезці як вышэй на дрэва, не на абы-якое, на блізкае, каб стрэліць зверху ўніз. Ні мяне, ні пана, ні ляснічага на дрэва не загоніш. А ўзлезці трэба загадзя і там чакаць, калі яшчэ твой бацька прыйдзе пад тое дрэва. Ці яму загадаеш, пад якім дрэвам стаць?

Восіп, як ачмурэлы, затрос галавою.

— Тады… ня ведаю.

— Дык і я не ведаю. Яшчэ ці знойдзецца той дурань, каб чалавеку ў чарапок стрэліць драбнюткім бакасіным шротам. Ты паглядзі на макавыя дзірачкі ў картузе. Хто мае стрэльбу, той ведае, што бакасіннік у гэтакай мокрай справе як мёртваму прыпарка. Ідзі ў Грыбін. Ды не шукай там драбавік, не смяшы людзей. Лепш бацьку пашукай у сяброў.

Пайшоў Восіп ужо не гэтакі хмурны, як прыйшоў.

Неўраў узяў у рукі палітру, але і тады, як супакоіўся ў размове з хлопцам, настрою да працы не было. Адклаў палітру на падаконнік, выйшаў на кухню, з-пад лаўкі выцягнуў кош з бульбаю, у бульбе знайшоў дзве яшчэ не зусім звялыя рэдзькі, аблупіў буйнейшую, сцёр на тарцы, лыжкаю ўтаптаў у глечык, накрыў сподкам.

Зноў грукнулі дзверы ў сенцах. Зайшоў Змітрок.

— Да вас там мужыкі.

— Што яны хочуць?

— Каб да іх выйшлі.

— А самі дзверы адчыніць не могуць? Дык пакажы ім, як гэта робіцца.

Зайшлі тры як быццам сарамяжлівыя мужыкі, хаваючыся адзін за аднаго. Змітрок спыніўся за імі на парозе. Як толькі Неўраў паказаўся з кухні, усе тры сталі на калені, перахрысціліся, нібы да іх выйшаў Бог. Мастак сурова глянуў паверх чорных, без шапак, галоў на Змітрака, быццам гэта ён ім даў каманду. Хлопец у гэты момант адвярнуўся з хітра схаванай у вусах усмешкай, нібыта ён тут ні пры чым. Яго ўсмешка яшчэ мацней раззлавала Неўрава: сам, крэкчучы, апусціўся перад мужыкамі на адно калена, войкнуў ад болю, бо нага дужа не хацела згінацца, рукамі абапёрся аб падлогу і, асцярожна падабраўшы пад сябе другую галёнку, стаў на другое калена. Глядзеў на мужыкоў, на кожнага па чарзе, лавіў сустрэчны погляд і не мог ніводнага злавіць, бо ўсе тры, пазвешваўшы галовы, глядзелі пад сябе ў падлогу.

З хвіліну маўчалі. Нарэшце Неўраў спытаў:

— Ну што? Дакуль будзем стаяць?

Змітрок узяў за каўнер бліжэйшага, прыўзняў, аж той храпнуў, бо світка балюча ўрэзалася пад горла. Сказаў бадзёра ўсім:

— З каленяў падымайцеся, браты-сяляне.

Ён падышоў да Неўрава, пасобіў стаць на ногі, ведаючы, як той пакутаваў імі ўсю зіму.

Мастак ужо смяяўся, нібы з сябе, з свае нямогласці, аберуч хапаючыся за крыж.

— Ну вось, таксама ракам пастаяў. Прымусілі. А цяжка. Як вы гэтак усё жыццё?

Сяляне маўчалі.

Неўраў зайшоў на кухню, паклікаў Змітрака, даў яму місу з рэдзькай, акраец хлеба і селядзец на сподку, каб нёс на стол у майстэрню, сам узяў штоф з гарэлкай, нож, відэльцы.

За сталом мужыкі сядзелі нібы штыкі, не гнуліся, як ля парога, шырэйшымі глядзеліся ў плячах. Наліўшы ў кілішкі, мастак спытаў пра шапкі, бо, як у дом зайшлі, трымалі ў руках. З-пад стала павыцягвалі рукі з шапкамі, кожны паклаў сваю побач на лаўцы. Кулакі леглі на стол.

— Ці вы ўжо разгавеліся і за Хрыста, і за ўрод на полі?

Мужык старэйшы, сівы ў скронях, смялейшы, заўсміхаўся, вакол агледзеўся, як скінуў з сябе нялёгкія вярыгі, другі, таксама пасмялеўшы, яго ўсмешку прачытаў уголас:

— Было, што разгавеліся.

А трэці, маладзейшы за абодвух, прамаўчаў.

Усе былі з Грыбіна, іх Неўраў з твару ведаў, але як зваць успомніў аднаго, старэйшага:

— Пятрок, здаецца?

— Уга, Капуста па-вулічнаму. Петракоў у нас шмат, а Капуста адзін. І Качан адзін.

— А хто Качан?

— А я, — ледзь чутна адазваўся мужык у гадах сярэдніх.

— Браты?

Змітрок падсыпаў дробнага смеху, як гароху:

— Яны і пану гэтакія. Капуста запазычыўся, а Качан адрабляе.

— Дык адрабіў? — спытаў Неўраў.

— Сваю патраву. А як папрасіў пана, каб даў чым адсеяцца, той кажа: не адрабіў. Ды як жа гэта так? Тры дні ставіў гаць на сажалцы — мала? А ён пытаецца: і за пчаліны рой, які злавіў ды

прапіў? Яго, кажу, не я лавіў, не я прапіваў. А хто? Капуста. Дык пан на гэта: ведаць не хачу, хто з вас Качан, хто з вас Капуста, з адной грады абодва — адрабляйце. І ці яму дакажаш?

— Дык хто Качан і хто Капуста? — заблытаўся ўжо і мастак.

— Я Капуста, — сказаў Пятрок.

— Завінаваціў пану?

— Ніякіх пчол не ведаю. Яму былі патрэбныя парабкі лес карчаваць, а я з хрыбтом зіму качаўся на печы — ні стаць, ні сесці. Ледзь з хаты вылез на вясну. Дык ён прышыў мне пчол.

— Я цябе бачыў ля панскай брамы, як чмокаў пану ў руку. Што атрымаў за тое?

— А дулю атрымаў. Шчэ добра, што не бізуна.

— Ну, мужыкі, цяпер я разумею, што вас прывяло. Але ж я свой палетак засяваю фарбачкамі. Чым вам магу пасобіць?

— Ды мы б купілі.

— Ёсць грошы? Якая тады бяда?

— Каб жа яны былі.

Неўраў паглядзеў на Змітрака:

— А ты таксама ў пана просіш?

— Навошта ён мне? — Адвярнуўся як ад размовы, яму прыкрай.

— Дык, можа, пасобіш мужыкам?

— У бацькі ключы ад свірна. Хай з ім гавораць.

Калі грыбінскія пайшлі, Змітрок застаўся. Неўраў бачыў, што з мужыкамі ён сустрэўся каля дома выпадкова, пра тое, з чым яны з’явіліся, не ведаў, меў штосьці сваё і тое штосьці выклаў адразу. Цяпер ён вяртаўся з Талачына, і там меў непрыемнасць сустрэцца з судовым прыставам, які раней бываў у Лыскаўшчыне, калі пан судзіўся з мужыкамі за межы ў полі, тады прыстаў задумаў узяць Пракопа ў сведкі, заходзіў у хату і бачыў у хаце Змітрака. Сустрэўшы яго цяпер на вуліцы, учапіўся ды завёў да суддзі. Спачатку хвалілі, які ў Пракопа спраўны ды прыгожы сын, казалі, каб собіў суду ў цяжбах з мужыкамі, рос годным у паны, а потым падсунулі паперу, каб падпісаў, што згодны сведчыць па справе аб высяленні мастака з панскага дома і быць за панятога. Уратавала думка: чаму павінен быць дурнейшым за свайго бацьку, які заўсёды ад гонару ісці супраць сваіх людзей адмахваўся? Сказаў, што іхнюю паперу прачытаць не можа, таму не можа і падпісаць, каб не прамахнуцца. Былі населі, як ваўкі на козліка, маўляў, як гэта чытаць не можаш, калі чытае бацька? Дык тое ж, упёрся тады рагамі козлік, бацька, а сын

яшчэ да бацькі не дарос. Не паверылі, але і хітрыкаў мужыцкіх не знайшлі як абысці — адпусцілі. Ён шапку хутчэй на галаву ды за дзверы, і гнаў каня ўсю дарогу, каб не нагналі.

Тут Неўраў задумаўся. Спытаў, калі прыедуць высяляць. Змітрок гэта не ведаў, але вока бачыла і вуха чула, як быў у судзе, што доўга збірацца не будуць. Гэтак і сказаў.

Пра тую судовую справу Неўраў апошнім часам не думаў, быццам яна магла сама па сабе згубіцца, усе думкі былі пра работу за мальбертам, і тое, што цяпер расказаў Змітрок, не ўсхвалявала моцна — адказаў без эмоцый: «Ну хай сабе едуць». І загаварыў нібы зусім не пра судовую справу: пра самога Змітрака, яго новы прыруб да хаты, калі паставіць і ці думае загадзя, што маладую жонку трэба прывесці не ў пустыя сцены, што адразу спатрэбяцца сталы, шафы, ложак, крэслы, бо хоць ён і мужык, але ж не абы-які, на палок ці падлогу маладзіцу не пакладзе.

— Як прывяду жонку, тады зраблю і ложак. Цяпер трэба адсеяцца, — практычна і проста адказаў Змітрок.

Неўраў — за сваё:

— Бярэш прыгожую дзяўчыну, дык трэба прывесці ў прыгожую хату. Ты ж не бядак і не скупеча, каб спаць з ёю на дошках? Навошта рабіць мэблю сякераю, калі ёсць фабрычная?

Размова Змітраку была нечаканая, але стрэліў адразу:

— Прадаяце сваю?

Адразу адказаў і Неўраў:

— Ты не пытайся. Ты купляй.

Хлопец быў кемны, не маруда і на кані, і без каня, з сякерай і са словам. Хоць чуў не тое, што чакаў, але ведаў загадзя, што адказаць:

— Чаму б і не? Як па кішэні?..

— А я ў тваю кішэню не заглядаю. Падганяй каня ды вязі. Хоць і трумо. Маладзіцы любяць бачыць сябе на ўвесь рост.

Змітрок павесялеў, бо гэтакая прапанова зусім здзівіла.

— Вы кажаце, нібы аддаяце задарам.

— А хіба мы з табою чужыя людзі? Насыплеш грыбінскім бедалагам мех збожжа — і квіты.

Хлопец пачухаў за вухам.

— Вы, можа, вяртаецеся туды, адкуль прыехалі?

Нечакана спытаў, але і падказаў — гэта Неўраў адчуў адразу. Апошнім часам ён усё ж задумваўся над тым, чаго за ім ніхто не заўважаў, нават Параска: як будзе ён, мастак, пры ўсёй сваёй годнасці, не абы-хто і ў сталіцы, вымушана пакідаць дом дробнага

вясковага пана? Няўжо яго тут выкінуць як нейкага бяздомнага бадзягу ці сабаку, які не мае права на дах над галавою? І выкінуць услед яго падрамнікі, эцюды, напісаныя і недапісаныя, малюнкі, мальберт, палітры, фарбы, пэндзлі, нават і фракі Шчэпкіна, Качалава, мундзір Чарняева, парчу князя Галіцкага, мужыцкія світкі ды лапці? І мундзір граданачальніка іх не спалохае. Ужо не забаяцца вопратак баярскіх, патрыяршых, царскіх. Пагромчык учыняць і футра здымуць з Топы. Каштан, магчыма, уратуецца. Стары, нікому не патрэбны, не на ланцугу — уцячэ. Яшчэ і чутку пусцяць, што незаконна жыў у панскім доме. Хто ён такі? Мастак? А дзе яго карціны? Што як мастак пасля сябе пакіне? Попел? Ну, так: пакінуць трэба попел. Каб не капаліся ў эцюдах, у малюнках, у вопратках. Што лепшае — па мужыках разнесці, астатняе — спаліць. Забраць з сабою мальберт, партрэт Параскі, палітру, фарбы. А куды ехаць — якая розніца? Галоўнае, каб чулі, што едзе ў родны дом, у сталіцу.

Цяпер ён весялей глядзеў у вочы хлопцу. Быў рады, што не забыў Змітрок, адкуль родам, што нагадаў пра тое, падказаў — нібы ўратаваў: вяртацца туды, адкуль прыехаў? Чаму б і не?

Сказаў і Змітраку з незразумелай усмешкай — ад смутку ці ад радасці:

— Куды ж яшчэ мне ехаць, калі не ў свой дом?

Як лёгка са Змітраком дамовіўся прадаць трумо за збожжа, гэтак лёгка і аддаў. Назаўтра ўранні браты пад'ехалі да ганка, вынеслі трумо з дому, паклалі на фурманку ды павезлі. Усё адбылося хутка, проста, без ваганняў, сумненняў. Але пазней, як быў адзін у доме, зайшоў у пакой, глянуў на тое месца, дзе трумо стаяла, на голую, пад светлымі шпалерамі, сцяну, і аж слязіна з вока пакацілася, спаўзла на бараду. Убачыў мамін пакой у родным доме і гэтае трумо між вокан, ламберны столік перад ім і крэсла, у якім яна, бывала, сядзела, вышывала ці вязала, ці шыла, ці чытала кнігу, ці ліст каму пісала. Ён, хлапчук, калі хацелася да мамы, дзверы прачыняў, глядзеў спачатку праз шчыліну ў трумо, якое стаяла за дзвярыма, у ім бачыў яе адбітак. Яна, яго пачуўшы, таксама глядзела ў люстэрка і заўважала ў шчыліне дзвярэй, гукала да сябе. Ён да яе заходзіў, клаў на калені галаву, яна цёплай далонню гладзіла, а то, бывала, адклаўшы нейкую сваю работу, штосьці цікавае яму казала ці чытала. Далонь яе заўсёды была цёплая, той цеплыні хапала, каб праз хвіліну шчаслівым выбегчы за дзверы. Пазней, калі мамы нястала, а ён быў ужо дарослым, мастаком, ды і яшчэ пазней, нават і тут, у вёсцы сярод чужых лясоў, балот, спыніўшыся каля трумо,

бачыў у ім сябе і маму. Мог доўга перад трумо стаяць і грэцца тымі ўспамінамі.

Гэтак адседзеў вечар. Наступнай раніцай, калі прачнуўся, пачуў блізкі ў доме голас. Тады ў ложку ўспомніў, што меліся прыехаць судовыя чыны. Расплюшчыў вочы і слухаў зноў. Пазнаўшы бубненне Восіпа на кухні, гучна, на ўвесь дом, спытаў:

— Ты з кім там, Восіп?

Той адказаў:

— Знайшоўся бацька.

— Жывы?

— Без галавы ад перапою. — Хлопец падышоў да Неўрава. — Надзеў яму картуз на галаву, а ён яго зняў і не пазнае. Пытаюся, што там за дзіркі, нібы з драбавіка хто смалянуў. Вочы вылупіў — не разумее. Паперамацаў дзіркі, за галаву схапіўся: ці на месцы? Павесялеў, што на месцы. Пайшоў я да Пракопа прасіць каня, каб гной на поле пад бульбу везці, з канём вярнуўся, за вілы ўзяўся, чую ў хаце грукат. Я туды. А бацька ўжо з сякерай лётае, шукае мамку. Паразбіваў гарлачы, макатры. Мамка ў агародзе капала пад грады, баялася зайсці ў хату.

— І ты яго баішся?

— Моцна, зараза, б’ецца.

— Дай вілы ў рукі, каб гною пакідаў. Пацішэе.

— Дай яму вілы, дык не будзеш ведаць, куды ад іх бегчы. Хаваць трэба і вілы, і сякеру.

Восіп пашоргаў у печы, аднёс у шаечцы мядзведзю і сабаку. Пакінуў на кухні, на стале, гарлачы з малаком і знік. Неўраў хацеў спытаць пра маці, ды не паспеў: чакаць яе ці не чакаць?

Параску на карціне пасярод Друці ладдзя чакала. Чакалі палатно і фарбы. Але доўга не мог чакаць мастак. Адчуванне, што момант, каб выявіць задуму, вобраз, з’явіўся, як дар Божы, рабіла яго шчаслівым, нягоды лёсу і абставіны з судом, панам, домам знікалі ў гэтых адчуваннях, як міражы, але палохала, што момант, калі яго цяпер не скарыстаць, можа таксама ператварыцца ў тло, у міраж. Як гэтакае адбываецца, ён ведаў, бо і ў яго, як у кожнага мастака, неаднойчы пamіралі цудоўныя задумы, ненапісаныя і недапісаныя вобразы, карціны. Адчуванне і дару Божага, і згубы дару блукала ў жылах, і кроў то ледзянела, нібы перад апошнім штуршком сэрца, то загаралася, паліла.

Калі Восіп пайшоў, выйшаў з дому і Неўраў. Ад ганка падняўся на грудок у садзе. Адтуль відаць была ўся вёска. Яшчэ не цвілі яблыні, але слівы ды вішні стаялі скрозь у квецені. Яны

раслі па межах, уздоўж платоў, і межы, цяпер бялюткія, выразна дзялілі вёску на большыя ды меншыя сады, падворкі, агароды.

Вярнуўшыся да ганка, заўважыў пад крайняй яблыняю незнаёмы мех, на дзірках ды на латках, не пусты. Адкуль ён тут? Падышоў, узяў за хахол, патрос: цяжкі, нібы з каменнем. Развязаў: дык сапраўды каменне белае. Кавалак патрымаў у руцэ, потым другі. Першы нічога не сказаў, але другі спалохаў: плячо Венеры? Аж звон пайшоў па галаве. Усё з меха вытрас на зямлю: разбітая, у кавалках гіпсавага друзу, ляжала перад ім багіня.

Быў полудзень. Свяціла і добра грэла сонца, калі выйшаў за вёску. У адзін бок ляжала гуртавая паша, ужо зазелянелая, у другім баку стаяў бярэзнік з хвойнікам. Нешырокая паша паміж рачулкаю ды лесам далей межавала з панскім лугам, і тут пан неаднойчы браў ваўкоў. Лоўчыя выганялі шэрых з лесу, а ўжо на пашы пан пільнаваў верхам на кані, з хартамі. Хартоў пускаў наперад, за імі імчаў сам. Ваўкам не было куды дзявацца. Яны ляцелі спачатку па мужыцкім лузе, потым па панскім, і ўжо там была забава пану, калі зграя хартоў наганяла шэрых. Але цяпер мастака прывёў сюды не ўспамін тых паляванняў з панам. Ён бачыў перад сабою канцавую ў вёсцы хату: спыніўся каля плота і глядзеў у вокны, чакаў, хто тут яго заўважыць — Параска, Восіп ці Іван?

Кавалак гіпсу ад Венеры ляжаў у кішэні. Калі надумаў сюды ісці, гіпс у кішэню сунуў як неабходнасць, сведку ў размове. Але цяпер, убачыўшы Параску пасярод двара, гіпс выкінуў з кішэні, звярнуў у адчыненыя варотцы.

Параска трымала перад сабою начоўкі з маладой крапівой — паўкругам месяца на ёй блішчэла сечачка. Паставіла начоўкі на калоду, выцерла аб фартух рукі.

— Дзень добры, Мікалай Васільевіч. — Спакойна, ветліва, прыязна ўсміхнулася. — Зойдзеце ў хату?

І тое, што адразу ў хату завяла, і тое, што спакойна ды ласкава на яго глядзела, здзівіла, бо ведаў, што адбывалася ў хаце — хваліцца не было чым.

Калі зайшлі, ён у яе спытаў:

— Ты, бачу, адна?

— Мае на полі. Узялі кабылу ў Пракопа, павезлі гной. Сянні хочуць ячмень пасеяць.

— Ты ім не пасабляеш?

Адразу яна не адказала. Прынесла, на стол паставіла гарлач з малаком, наліла ў кубак.

— Самі справяцца, не зломкі. Сусед паехаў пасабляць.

Неўраў вальней уздыхнуў. Сеў ля акна за стол, узяў кубак у дзве рукі, колькі глыткоў адпіў і зноў глядзеў ёй у вочы.

— Ты не кажы мне пра яго. І не кажы, як табе цяжка. Я ўсё сам ведаю. І тое, што кажуць людзі, і тое, чаго ніхто не скажа, нават і ты не скажаш. Чужое ярмо ў вёсцы мала хто заўважае. Бо ў кожнага яно сваё, з сваім кожны звыкаецца і тады чужога не бачыць, не адчувае. Яно бывае ад вока схаванае, але душыць. Хтосьці з ім мірыцца. Бо людзі не аднолькавыя.

— Вы хочаце спытаць, калі да вас прыйду? Ну, так, ярмо. Што адказаць? Зманіць баюся. Цяпер не ўсюды мая воля. Вы бачыце. Але прыйду, як будзеце чакаць.

— Я кожны дзень чакаю. Але ёсць дэспат і ў мяне. Ён, як усе дэспаты, доўга чакаць і дараваць не любіць. З ім жывеш — не ведаеш, калі на дыбы ўсхопіцца.

Неўраў упарта глядзеў ёй у твар, штосьці шукаў у ім, у яе вачах, чаго раней не бачыў, не ведаў. Яна рабіла выгляд, што не заўважае яго пранізлівага позірку, які мог і душу дастаць, але адчувала, што ён шукае.

— Ваша работа гэтакая, як мая доля. Тут воля, тут няволя. Я разумею, паміж іх і вам нялёгка. — Раптам змяніла і настрой, і голас, лягчэй сказала: — Змітрок хваліўся, што князя пішаце з яго?

— Калі ён табе хваліўся?

— А як падвозіў з усеначнай.

— Бачыш, не ўтрымаўся. Хоць я прасіў маўчаць.

— Той самы, змоўчыць. Ого, Змітрок — князь друцкі! Як крылы вы яму прышылі. Дзе тут не пахваліцца?

— Дык вось баюся, каб не заўчаснай была радасць.

— А што? Нядобры з яго князь?

— Здаецца, што князя ў ім знайшоў, не памыліўся. Але князь без княгіні — няпоўны князь. Не разумееш?

— А што тут разумець? — як абурылася Параска, аж рукі вырвала з ягоных рук, кулачча сціснула, у стол грукнула. — Ёсць і князёўна. Танюха ў Грыбіне. Дзяўчына спраўная. Усе бабы кажуць, што быць вяселлю, як адсеюцца.

— Хай дае ім Бог шчасця. Але яе знайшоў Змітрок. А тут — мастацтва. Тут павінен знайсці мастак.

— Самі казалі, што ў мастацтве як у жыцці.

— Ну, так, як у жыцці. Але і больш за тое — як у мастацтве.

Прымоўкла расчараваная Параска. Дайшло і не дайшло. Не ўсё зразумела ці не ўсё пачула? Зрабіла выгляд, што і пачула, і зразумела:

— Дык, можа, вы ўжо знайшлі?
— Знайшоў.
— Сакрэт?
— Цябе знайшоў.
Параска пырснула ад рогату.
— Прыйшлі, каб насмяшыць?
Мастак зноў схмурнеў. Абвіслі над вачыма бровы.
— Прыйшоў прасіць.
Яна зноў насцярожылася. Што даць магла? Гарлачык малака, дзясятак яек? У дубовай бочцы мочаных яблык? Але па гэта ён не прыйдзе. Бочка ўжо на паграбні памытая. Спытала:
— Што трэба ад мяне?
— А ты не зразумела? Не пачула?
— Пачула. Але… яшчэ раз.
— Скажу. Я ўсім усё дарую. Твайму Івану, суду, пану. Хоць сёння пакіну панскі дом. Усё пакіну, сваё і не сваё. Але мне трэба дапісаць карціну. Яна — мой лёс. У мастака нічога даражэйшага не бывае, як апошняя, недапісаная карціна. Толькі яна адна мяне ці апраўдае, ці пахавае.
— Ужо ж напісалі?
— У ёй няма цябе.
— Якая ж я княгіня? Мужычка. Баба.
— Толькі твае тут вочы могуць глядзець на князя так, каб ён на гэтай зямлі застаўся і бараніў як кроўную, сваю. Як ты глядзела на Чарняева і на мяне, калі мы першы раз зайшлі ў тваю хату. Не памятаеш той сустрэчы?
— Вы не дасце яе забыць сваім партрэтам. Але цяпер вам, можа, лепш пісаць Глафіру? Прыгожая і маладая. Хоць якому князю.
Падумаў: папракае? Але адразу і адкінуў думку: не можа хітраваць Параска. Чаму і сапраўды не напісаць Глафіру? Успомніў, як на яе глядзеў на сажалцы Змітрок.
— Прыгожая? — нібыта пагадзіўся і ў той жа момант рашуча адказаў як і Парасцы, і сябе ратуючы: — О, не! Глафіра вабіць і адпужвае. Сустрэне цёпленька, адпрэчыць холадна. І мастаку, і князю краса трэба дабрэйшая, тутэйшая. У кожнага народа яна свая. Ты з іншага народа, як Глафіра. Цар кажа, што тут і там — адзін народ? І пан Лупандзін кажа тое. Але цар скраў гэты народ і выдае за свой. Мастак — не царскі паслугач.
Яна маўчала, схіліўшы галаву, глядзела ў стол, баялася ўзняць вочы. Калі ж і ён замоўк таксама, устала з-за стала, спынілася

каля акна і праз акно глядзела на дарогу, што за гародчыкам вяла ў поле. Як хвалявалася не толькі за яго, але і за сябе, за сваю хату, за сям'ю. Быў гэтакі ўжо час, калі сын з бацькам маглі вярнуцца з поля.

Ён гэты неспакой адчуў і падышоў, стаў побач.

— Ты больш нічога мне не скажаш?

Узняўшы галаву, яна глядзела яму ў вочы — ён здзівіўся: твар, у вачах пачуцці, думкі былі кропля да кроплі тыя, што памятаў з не блізкай першае сустрэчы.

— Я прыйду, — прамовіла ўжо без таго спакою, якім сустрэла, прывяла ў хату. — А вы мяне чакайце.

Яна, вядома, памятала, як пад гарачую руку ён у печы паліў свае эцюды, на вёску злуючы, на мужыкоў, што не такія, якіх хацеў тут бачыць, як шкадавала тыя эцюды. Нібы пра тое, ёю перажытае, ён нагадаў:

— Ці дачакаецца карціна?..

Трывогу Неўрава адчула. Яна была не проста вялікая альбо малая — у тым шэрагу быць не хацела і не магла, і вяла туды, дзе выспявала альбо яго ўсё, альбо яго нічога.

Параска змаўчала. Што абяцаць — не ведала.

Ён выйшаў за парог.

Вярнуўшыся дадому, адразу зняў з мальберта фартух — зноў сеў насупраць незакончанай карціны.

Яшчэ да Пасхі ён не вельмі верыў у тое, што з парабкаў напіша вояў князя. Але рызыкнуў, за колькі дзён накідаў постаці і твары Вала, Гараські, Міцькі. Тады і князя лёгка ў ладдзю паставіў, бо ў князя верыў, адчуўшы яго ў Змітраку. Гадоў прыбавіў — не састарыў. Даў твару і ад Ворана — ці не бывае гаспадар падобны на свайго каня? Дакладней, Воран даў князю сваё вока: агонь — не вока. Тое, што бачыў у каня на гаці, як з Друцака вярталіся ў вёску. А як Змітрок у ладдзі з'явіўся, дык і братуха з ім — ля княскіх ног. Дзе ж месца хлопцу, як не ля князя? А ўжо тады Пракопу знайшлося месца. З ім, як з мадэллю, працаваў даўно і неаднойчы, усё адчуваў: фактуру, каларыт, натуру. У карме сядзеў — усё хітрым вокам бачыў вакол сябе ды князя. Глядзелася і люлька на губе адвіслай, нібы падвешаная, і лбіна з высокай лысінаю на адной парабале з гарбатым носам, нібы ў вешчуна-прарока, і вострыя, нібы цвікі, вочы-спарышы, адно прымружанае ў цяні пад брывом калматым, у ім заблытанае, другое з халодным цвярозым бляскам пад ускінутым брывом. Хто быў ён? Княскі казначэй? Сядзеў, як гаспадар, аблёгшыся на куфар, распісаны пад срэбра-золата.

Але мацней за ўсіх здзіўлялі-радавалі парабкі. І не таму, што ўдаліся больш за князя ці за воя на карме. Дзесяць гадоў атручвалі жыццё мастаку сваёй маўклівасцю, прыніжанасцю, пакорай перад панам, шэрымі думкамі і тварамі, палітру выбівалі з рук, ператваралі ў попел узвышаныя думкі і пачуцці халопскім страхам. І вось — што атрымалася на палатне? А тое, што спраўджвалася ахвота даць ім магчымасць адчуць сябе не парабкамі — воямі.

Было пытанне: калі баяцца прамовіць слова, дык ці асмеляцца ўзняць меч на ворага? А напісаў — нібы сабе таксама прамыў вочы: і парабак уздыме меч — вой не памёр у ім, жыве. Святло ды колер, фарбы мелі сілу, каб у парабку прачнуўся вольны чалавек. Убачыў — акрыяў. Не мог ужо адысці ад палатна.

Цяпер палітру браў у рукі — думаў пра Параску: дык прыйдзе ці не прыйдзе? Сказала, што прыйдзе, — спяшаўся сябе суцешыць. Але трывога заставалася: як прыйдзе, то калі — каб не спазнілася?

Зноў адкладаў палітру, выходзіў з дому, кружыў вакол яго, па садзе, у ліпах. Вяртаўся — кружыў па доме.

Спыніўся перад мальбертам — глядзеў на палатно. Сядзеў у ладдзі, на борт схіліўшыся, на меч руку паклаўшы, Міцька: чым не вой? Ажно дзівіўся: чаму тут, у вёсцы, бачыўся Міцька парабкам? І Таўкачом. І Свіным Вокам. Меч іншым мужыка рабіў? А калі вілы ў руках — таксама зброя? Чаму, успомніўшы напісанага Рэпіным беларуса, згадаў адразу Міцьку як Свіное Вока? Шырокі, круглы твар і дробненькія вочы-шчыліны — за гэта? Што твар у два тоны: зверху — лоб і палова носа — светлыя, як сонейка не бачылі, а ўнізе — шчокі, сківіцы, ніжэйшая палова носа — цёмныя ад сонца? Ну, што ж, мужык у шапцы зіму і лета, ад шапкі цень на твары — не бачыць сонца. Вока ў мастака вострае: два колеры заўважыў і прачытаў адбітак двайной душы, дваістай думкі. І парабак, і вой. Там — скажа, тут — змоўчыць. То ўзбурыцца, то сцерпіць. З куста высунецца, і ў куст схаваецца, як лесавы, балотны чалавек. У адным — два. Гэтакія і вочы — як у чалавека і як у свінні. Нібыта спяць, але ўсё бачаць. Гэтакая і доля: то цёпла — то халодна, то сытна — то галодна. Злавіў мастак дэталь і мужыка ўбачыў праз яе знутры і звонку. Дык гэта — Рэпін, рэаліст. А Неўраў — не рэаліст таксама?

За княскаю ладдзёй плыла яшчэ ладдзя, у якой стаялі адным гуртам, адзін ля аднаго, нібы скала, яшчэ тры воі ў шаломах ды кальчугах, з цяжкімі мячамі, — Качан, Капуста, Восіп. Апошнім Восіпа пісаў. Не мог забыць і тым пакрыўдзіць хлопца.

Глядзеў на мужыкоў і ўсміхаўся: цяпер хай думаюць, як далей жыць — ці ў пана парабкамі, ці воямі за волю?

Пад вечар, вярнуўшыся з поля і адагнаўшы кабылу, зноў зайшоў Восіп. Лапці на нагах былі ўжо не тыя, у якіх таптаў з сахою поле, ужо новыя, абшытыя сырамаццю, але і ў іх далей парога не пайшоў: сеў на парозе, галаў звесіў, быццам конь стомлены.

Неўраў пацікавіўся, як з бацькам адсеяўся.

— Пад бульбу зямлю пакінулі, астатняе пусцілі пад ячмень. На нашым глінішчы ён добра родзіць, — загаварыў, як без ахвоты, Восіп. — Мамка хацела купіць альбо пазычыць жыта, хоць трохі яравым засеяць, але бацька маўчыць, злосны, яму быццам не трэба, дык і яна рукой махнула.

— Чаму ж вы не сказалі мне, што няма жыта?

— Ат, ладна. Абы прайшоў дождж. Другі дзень неба хмарыць, а ні расіны.

Восіп яшчэ сядзеў на парозе, вачэй не падымаў, і Неўраў па ім бачыў, што не затым з'явіўся, каб пахваліцца, колькі чаго пасеяў, у думках ці на сэрцы садніла іншае — таму сваёй размовы не навязваў, падтрымліваў ягоную, каб хлопцу выказацца да канца. Дастаў з печы чыгун, наліў у кубак малака, з кухні спытаў:

— Можа, са мною павячэраеш? Як удвух, дык знойдзецца і чарка. Прычына ёсць — ячмень пасеяў.

Запрашэнне да стала Восіп прапусціў міма вушэй — тут тое і сказаў, што прыняло:

— Навошта вы сюды прывезлі бабу?

Ад гэтакага нечаканага пытання Неўраў ледзь камяком не падавіўся, хутчэй прагнаў у горле малаком.

— Якую бабу?

— Ну як якую? Гліняную.

— Гліняную?

— Я дакрануўся да яе — халодная.

Тут Неўраў рогат не стрымаў:

— Халодная?.. Ну, сапраўды!.. — Ужо як рогат адпусціў, сказаў, як гэта ўсё здарылася: — Яна была мая і не мая. У Маскве стаяла ў маёй майстэрні, але прыйшоў Чарняеў і папрасіў, каб я яму прадаў. А мне тады была ахвота займець у сваю калекцыю ягоны генеральскі кіцель. Прадаць, кажу, не магу, але як рэч на рэч, то можна: я вам — Венеру, а вы мне — кіцель. Гэтак і зрабілася мая багіня ягонаю. Ён і прывёз сюды. Хай, кажа, у вашым доме пастаіць, бо жывяце адзін, а ў мяне раўнівыя жанчыны, рамонт — двор прахадны. Як пабудую школу дзеткам, яе там і паставім.

— Дык школу ён пабудаваў. Працуе.

— Агульнай граматы. А марыў яшчэ пабудаваць мастацкую, хацеў, каб я ў ёй вучыў дзяцей мастацтву.

— Вы ж адчынялі школу ў сваім доме?

— Хадзіў па хатах, збіраў дзяцей, а мужыкі іх не пусцілі. Рабіць, казалі, трэба ў гаспадарках, няма на маляванне часу. Каб быў жывы генерал, была б і гэта школа. Улада мужыку — ці пан, ці генерал. Мастак — не ўлада.

— А я думаў…

— А што ты думаў?

— Ды я пра тую бабу. Вы прабачайце.

Неўраў адчуў цяжар на сэрцы ў хлопца, які яму язык то звязваў, то развязваў, тачыў сэрца.

— Я бачыў, што ты мне ў мяху прынёс.

— Мы тады з мамкай у хляве з каровай начавалі, як бацька бушаваў усю ноч. Жанчыну вашу вывалак у двор, на камені, што каля ганка, сякерай трушчыў, абухом.

— Ты не бядуй. Усё ж не жывая.

З-за печы Неўраў вынес янотавае футра, даў Восіпу, каб апрануў. Той хоць не здагадаўся, навошта футра, як ужо цёпла, але прасунуў рукі ў рукавы, зашпіліўся. Мастак агледзеў з усіх бакоў, сказаў:

— Дзесяць гадоў насіў і не ведаў, што шыты мой янот па тваіх плячах. Дык і насі. Я памятаю, як ты казаў мне, каб я табе яго аддаў, як буду паміраць.

Усміхаўся Восіп сарамяжліва, хаваючы твар у каўнер.

— Дурны быў. Малады.

— За дзесяць гадоў паразумнеў, вядома.

— Зімой у вёсцы ці ватнік, ці аўчына. А гэтакага футра ні ў кога тут няма. Яно мне спадабалася. Аўчына цяжкая, а янот лёгкі, не чуеш на плячах.

— Дык і насі. Яшчэ не паміраю, але хачу аддзячыць за ўсе твае турботы. Што без цябе я б тут рабіў?

Восіп і рады быў футру, на якое вока даўно вастрыў, і веры даць яшчэ не мог, што збылася мара. Разгубіўся: здымаць ці не здымаць? Каб не памыліцца, не трапіць у дурні? Гузікі на сабе то расшпільваў, то зноў зашпільваў. Неўраў заўважыў на тых гузіках няўпэўненыя рукі, падышоў бліжэй, сам зашпіліў, пасцёбаў далонню па плячах, сказаў:

— Хай мой янот табе паслужыць.

Правёў хлопца ў майстэрню, падышоў да мальберта, зняў з карціны фартух, як запрасіў і Восіпа, каб на карціну паглядзеў,

на якой яшчэ сябе не бачыў, ды і астатніх мужыкоў. Сам кідаў вокам то на карціну, то на хлопца.

Звесіўшы голаў, той усё глядзеў на футра, мацаў у пальцах касцяныя гузікі, расшпільваў і зашпільваў. Нечакана для мастака прамовіў тое, пра што думаў:

— Пракоп, як я вяртаў кабылу, сказаў, што вы збіраецеся ехаць у Маскву, каб там памерці. Ці праўда?

Неўраў жахнуўся: спытаць пра гэта футра падказала? Але чаму карціну ён не заўважае? Сваіх вясковых мужыкоў на ёй не бачыць? Нават сябе не пазнае? На князя не глядзіць — на Змітрака? Яму вышчыкваць гузікі з пятліц на футры цікавей? Зноў фартух злосна ўскінуў на карціну. І усё ж яшчэ чакаў: папросіць, каб фартух зняў, ці не папросіць?

Восіп усё футрам цешыўся: зашпільваў ды расшпільваў.

Не папрасіў.

Ад хлопца адвярнуўшыся, спытаў цераз плячо:

— А мамка ведае, што я збіраю чамаданы?

— Нічога не казала.

Неўраў падышоў да акна. На падаконніку стаялі бутэлечкі ды слоікі са шкіпінарам, алеем, лакам, фарбамі. Заўважыў з-пад гарэлкі штоф. Узяў — не пусты. Над галавой ускінуў і адным дыхам пераліў, што ў ім было, у горла. Гаркава усміхнуўся: цяпло пайшло гуляць па жылах — палагаднела і на сэрцы.

Дзесяць гадоў глядзеў з надзеяй у гэтае акно. Святло з яго заўсёды першымі знаходзіла мальберт, палітру, мастака, карціну на мальберце, яднала іх, адно з адным мірыла, было ўсё, што трэба ў час работы на падаконніку, у сподках — рэдзька, яблык, селядзец, штоф з белай моцнай, нават і кавы кубачак, часцей ужо халоднай. Адсюль глядзеў у акно, чуў блізкіх вераб'ёў. Яны яго таксама чулі праз шыбкі, чакалі з рукі гасцінец.

Цяпер не чуў ні Восіпа, ні вераб'ёў. Не бачыў, хоць у акно глядзеў, ні яблынак, ні ліп, ні той старой бярозы, што ўзвышалася за садам, збіраючы ўранні і па вечарах шпакоў з усяе вёскі, ні шэрых стрэх вясковых пад чорнымі альбо чырвонымі, там-сям пабеленымі комінамі — усё за акном было засмужанае, невыразнае, прыціхлае, хоць і была яшчэ не ноч.

Не ноч. Але ўсё спала. Жывога — анічога. Ні чалавека, ні сабакі. І ўсё ж — нешта жывое адскочыла ад ганка. Мастак убачыў блізка і не зразумеў. Размытая ў бэзавай смузе пастава з'явілася пад ліпаю, спынілася, крутнулася. Мужык у расшпіленым кажушку, матляючы крыссём, як птушка крыламі, з калматаю

чарнявай галавой, без шапкі, трымаючы яе ў руцэ, прабег далей, спыніўся, вакол сябе агледзеўся, нібы каго баяўся, а мо кагосьці наганяў, пад футрам бліскаючы лапцямі.

Неўраў азірнуўся, ведаючы, што Восіп стаяў тут, за спіной. Яго ўжо не было. Ужо бег там у расшпіленым кажушку між дрэваў, разгублены ад шчасця.

Бег мужычок у кажушку і за саньмі. У санях сядзела жанчына пажылая ў чорным, высока ўгару ўзняўшы два пальцы. Натоўп людскі стаяў абапал, хрысціўся двума пальцамі і ўжо спалоханы, разгублены з тым знакам апантанай веры.

Бег мужычок і там, і тут. Там — па снезе, тут — па зямлі вясновай, цёплай.

Задумаўся ў змроку Неўраў: як добра жыць з сябрамі па мастацтве побач. Каб быў тут Сурыкаў Васіль Іванавіч, спытаў бы ў яго: «Вы мужычка свайго і зразумелі, і выпісалі вунь як — не прамахнуліся, а я свайго ніяк не зразумею. Воем раблю яго ў князя, хоць ён і парабак, кладу яму ў руку меч, а ён на гэта ўвагі не звяртае, бяжыць у іншы бок, шчаслівы неданоску з барскага пляча. Як зразумець яго?..»

## ЗЫХОД

Пра Восіпа мастак у гэты вечар думаў доўга. У змроку думкі не разбягаліся, быццам не бачылі, куды ім бегчы, дзяўблі ў адну кропку: як хлопца зразумець? Можа, Лупандзін усё ж меў рацыю — мужык далёкі ад мастацтва?

Лёг у ложак — сон не браў: у галаве ўсё тое самае — пра вёску, карціны, Восіпа. Адно другому патрэбныя ці не? Раней, як жыў у сталіцы, не хістаўся: каму пісаў, як не народу? І гэтак думаў не ён адзін: пісаць народ і для народа — вышэйшай мэты не было. А дзе народ? Вядома, у вёсцы — мужыкі: яны ўсіх кормяць. Ісці ў народ было — як у храм: святы абавязак; і ён, мастак, гэтай дарогаю ішоў. Прыйшоў — што ўбачыў, чым тут натхніўся, што зачаравала? Нават і найбліжэйшы з усіх, Восіп, які дзесяць гадоў пражыў у доме, рабіў падрамнікі, нацягваў і грунтаваў палотны, з палітрай бачыў мастака штодзень, яго пакуты ў рабоце ведаў, нават і ён задумацца прымусіў: ці трэба мужыку мастацтва?

Штосьці шкраблося на гарышчы, шастала, як нехта вытрасаў пыл з вопраткі, хадзіў там, спатыкаўся. Калі ацíхла, расплюшчыў вочы: у начным пакоі светла было ад поўні ў акне за верхняй

шыбкай, па сценах слізгалі цені, быццам ад птушак. Цені і гукі непакоілі. Мастак адкінуў коўдру, усхапіўся, падышоў да акна, хацеў зашморгнуць цяжкую штору, але звярнуў увагу на вялізную пляму святла між яблынь, падобную на белую прасціну. Па ёй поўзалі і куляліся, раскінуўшы крылы, дзіўныя нязграбныя птахі. Крылы то выпросталіся, то падгіналіся, складваліся ў колькі столак, былі непадобныя на птушыныя сваімі формамі. Каторыя спаўзалі з прасціны ў цень, зліваліся там з цеменню, знікалі, а на святло, на тую прасціну, сыпаліся новыя — чуваць было, як чмякалі, вішчэлі, нібыта мышы. Кажаны? Успомніў, як колькі год таму, зімою, змятаў іх на гарышчы венікам у мех з-пад стрэх, як неаднойчы па вечарах, калі цямнела і было цёпла, вясною, заўважаў іх у садзе — лёталі між дрэваў. Але ж цяпер іх там не бачыў, калі скідаў падрамнікі. Удала хаваліся? Альбо не заўважаў, думаючы сваё?

Ці ад штораў на вокнах, як зашморгнуў, ці, можа, што поўня ў небе сплыла за хмары, гукі над столлю заціхлі, чуліся зрэдку, падобныя на тое, нібыта кот на непагоду аб дрэва тачыў кіпцюры. Цені ўжо не лёталі, але візгат у вушах стаяў. Можа, вішчэла не на гарышчы, не ў садзе за акном, а ў галаве — чутае раней?

Як пацішэла, як тыя мышы супакоіліся, заснуў і спаў да раніцы. Калі прачнуўся, падышоў да акна, адкінуў шторы, убачыў паводку сонечнага святла. Аж заняло ў грудзях ад захаплення, аж слёзы зашчымелі ў вачах. Ускінуў на сябе халат, схапіў з камоды эцюд Параскі, выйшаў у майстэрню і прыкіпеў да падаконніка перад мальбертам — глядзеў то на эцюд, які трымаў у руках, то на незакончаную карціну.

Новы дзень абяцаў новы настрой, святло ў прыродзе будзіла святло ў душы. Мацнела адчуванне, што задоўгія сумненні, знясільваючыя думкі, як без Параскі дапісаць карціну, скончыліся — трэба пісаць з эцюда. Іншага выйсця не бачыў ды і не было ўжо дзён, каб лепшага чакаць або шукаць, а метад — пісаць з эцюда — быў звычайны і надзейны, у любым выпадку не памылковы. З гэтымі думкамі адразу як памаладзеў. Зайшоў на кухню, памыўся пад рукамыйнікам, наліў з гарлачыка ў большы кубак кіслага малака, адкроіў ад бохана лусту. Лёгкага снедання хапала, каб працаваць. Ручніком выцер вусы, расцёр адна аб адну рукі, сагрэўся і падышоў да мальберта.

Праз паўгадзіны раней прадуманы ў эскізах малюнак Параскі ў ладзейцы, меншай за кляскую, з хлебам-соллю, быў на палатне і бачыўся ўжо ў колерах. Якія фарбы класці на палітру, не гадаў,

бо каларыт даваў эцюд. І грэў настрой. Эмоцыі лавіў не толькі тыя, што сэрца чула з памятнага дня, калі рабіў эцюд. Спрыяла і святло. Яно было сугучным з тым, у якім на сажалцы пісаў Змітрака на вобраз князя. Пэндзаль лётаў па палатне лёгка, як пры святле поўні па сценах і ў акне пакоя лёталі цені кажаноў.

Ці доўга працаваў, не мог сказаць, бо не адчуў, што час бяжыць, штосьці мяняе. Час як спыніўся, зачараваны мастаком, чакаў, калі ўжо спыніцца мастак.

Мастак спыніўся. Не затрымаўшы позірку на палатне, на зробленым, ускінуў на яго рабочы фартух, схаваў карціну ад сябе, бо тое, што зрабіў, цяпер павінен быў убачыць цвярозым, нават халодным, вокам. Трэба было астыць і супакоіцца, каб у тым, што атрымалася ў экстазе, не памыліцца.

Блізка грукнула, рыпнула. Мастак выйшаў у прыхожую. Дзверы ў сенцы былі прачыненыя, за парогам у паўзмроку высвеціўся жаночы твар у светлай хустцы. Адразу не пазнаў, але заўважыў вочы, выразны неспакой ці страх у іх.

— Што там стаіце? — спытаў спакойна. — Калі ўжо дзверы адчынілі, дык заходзьце ў дом. Можа, не выганю.

Жанчына асцярожна пераступіла парог, перахрысцілася.

— А я хіба перад вамі вінаватая?

Яна адкінула з галавы на плечы хустку — пазнаў Нюрку. Хацеў ёй усміхнуцца, як сваёй, вясковай, блізкай, ды тое хаценне апярэдзіў іншы настрой:

— Сама ведаеш, што вінаватая.

Яе вострыя, хоць і дробныя вочы зрабіліся яшчэ вастрэйшыя, нібы цвікі, яшчэ драбнейшыя.

— Дык вы скажыце ў чым? Я, можа, адкуплюся.

Цяпер заўважыў у яе ў руках палатняную торбачку.

— Не, — як здагадаўся, што ў торбачцы. — Цяпер ты яйкамі не адкупішся.

— Дык, можа, чым іншым?

— А іншым, Нюра, таксама, бо я ўжо стары.

Яна кемліва ўсміхнулася, але і сумелася, а ён тыя зрухі ў душы жанчыны заўважыў і глядзеў у вочы, як што без жаласці з яе вымаў, знутры. Яна яго ўпартага пагляду не вытрымала, спытала, схіліўшы галаву:

— Няўжо цяжкая мая віна?

— Цяжкая.

— Дык вы скажыце?

— А ты мне адкажы, чаму даўно не бачу ў сваім доме твайго мастака? Кажуць, што не пускаеш да мяне?

— Тут не мая віна. У мяне ёсць гаспадар.

— А Міцьку што не падабаецца?

— Пра гэта ў яго пытайцеся.

— Я ў яго спытаю. Я з ім пагавару.

Ён падышоў, узяў з рук торбачку:

— Дык угадаў? Прынесла яйкі, каб адкупіцца?

Дабрэй усміхнуўся, і ў яе настрой палагаднеў у тую самую хвіліну. Вочы забегалі, павесялелі.

— А то адразу напужалі.

— Яйкі я забіраю, калі яны ўжо тут. Буду думаць, як мне з табою разлічыцца.

Аднёс яйкі на кухню, адтуль запечкам выйшаў у гасцёўню, вынес, на стол перад жанчынаю паставіў штосьці ў мяху. Мех расхінуў— у ім быў прыгожы, з лакавым роспісам, куфэрак. Яна ахнула, у ладкі пляснула:

— Што гэта?

Адкінуў века.

— Тут кубачкі з алейнымі фарбамі. Пэндзлі. Палітра. Папера. Кніжкі. Трэба, каб прыйшоў Міхась. Яму я пакажу, як чым тут карыстацца. Хай твой мастак расце, малюе.

— І гэта ўсё за яйкі?

— Гэта за талент. Сына трэба вучыць. У школу яму трэба. Хлопчык здольны. Паеду ў Маскву і яго з сабою забяру, там настаўніка знайду. Хай вучыцца. Мастаком будзе.

Жанчына рот раскрыла, паветра, як тапелец, жадна хапанула, ад перапуду вымавіла:

— Божа барані! Яшчэ што скажаце?

— Пасля скажу яшчэ. Пакуль што хопіць гэтага.

— Тут у двары авечкі, свінні, гадуецца цялуха. Пастух свой патрэбны. Старая ўжо не бачыць, ён у нас уся надзея. Вы гэтак нам, пра школу, не кажыце.

Схапілася за хустку, ускінула на галаву, у пятлю гузікам патрапіць не магла, бо рукі калаціліся. Не зашпіліўшыся, схапілася за клямку ў дзвярах, ды раптам штосьці ўспомніла, зноў зачыніла дзверы.

— Ад страху была забылася, чаго прыйшла.

— Ах, торбачка? — пасобіў успомніць.

Торбачку з кухні вынес, яйкі ў місу пераклаўшы. Яна ад яе рукою адмахнулася, але ўзяла.

— Ды не, не яйкі і не торбачка.

— А што яшчэ?

— Глафіру бачыла.

Цяпер ужо ён зніякавеў, пачуўшы пра Глафіру, падумаўшы адразу і пра Змітрака, і пра карціну, і пра думку, каб напісаць Глафіру, як не ідзе Параска. Але пры чым тут Нюрка?

— Дык што Глафіра?

— Ішла я, значыць, з поля. А мне Глафіра напярэймы, з-за дуба выскачыла. Я ледзь яе пазнала. Без хусткі, распатланая. Схапіла за плячо: «Вой, Нюрачка!..» Гэтак ніколі не казала мне, блізка, бо што я ёй, не з панскага двара. Прыехаў, кажа, суддзя з Талачына, ці, можа, не сам суддзя, памочнік, але з суда, судовы спраўнік там, ці што? З панам паехалі страляць курапатак. Чакаюць кагосьці яшчэ адтуль, можа, самога суддзю. Збіраюцца, каб заўтра быць у вас у доме. Глафіра прасіла, каб я гэтак сказала, што будуць высяляць вас. Ну… дык я сказала?..

— Сказала. Не хвалюйся.

Калі жанчыну супакоіў і яна пайшла, сеў ля парога на лаву, адкінуў галаву да сцяны, задумаўся. Пра судовых выканаўцаў ды высяленне з дому вялікіх хваляванняў не адчуў, думаў пра Глафіру, бо не чакаў, каб гэтак за яго перажывала панава пакаёўка, ды яшчэ ў гэты час, калі ён пану быў як скулка на далікатным месцы. Сама, вядома, у дом не магла прыйсці, але і тое, што падпільнавала Нюрку, бабу языкастую, не пабаялася таго, што гэта будуць у вёсцы ведаць усе, а як усе, дык і пан, рабіла яе загадкай незвычайнаю. Навошта рызыкавала сваім жыццём у панскіх пакоях? Каб папярэдзіць пра бяду? Каб у яго быў час падумаць і, магчыма, прыдумаць, што рабіць? А што ўжо зробіш? Не пойдзеш, як мужык тутэйшы, вінавацішча да пана, не станеш на калені, не чмокнеш у руку. Хай будзе гэтак, як пан задумаў. Але — Глафіра? Яна — за пана ці супраць пана? Гэтак і аддаляўся ў думках ад яе, і зноў вяртаўся. І нават тое ўспомніў, што казала Параска: Глафіра сустрэла б князя на карціне не горш за рабыню? Аж скалануўся ад нечаканай думкі: Параска — хіба рабыня?

З лавы ўсхапіўся, выйшаў у сад. Пачуў, як рохкаў нечым незадаволены Топа. Вярнуўся ў дом, узяў у кішэню цукру. Мядзведзь яго чакаў — адразу засоўгаў носам у рукі, у адну, потым другую, нос сунуў у кішэню і ўжо адтуль не выняў, пакуль не схрумкаў там увесь цукар. Зняты з ланцуга, даў гапака спачатку на адной задняй назе, потым на другой, пярэдняй лапай абхапіў гаспадара, ківаючыся, нібы сп’янелы, і раптам адскочыў, як баючыся зноў сесці на ланцуг, выйшаў на дарогу. Неўраў, нібы цяпер ужо сам на ланцугу, падаўся следам.

Каштана не было другі дзень. Сабака і раней, бывала, знікаў на колькі дзён, але тады яго знікненне гэтак не трывожыла мядзведзя, як гэты раз. Цяпер быў Топа нібы разгублены: куды ісці і дзе шукаць? За вёскаю звярнуў з дарогі на мяжу, пастаяў, галаву звесіўшы, і далей не пайшоў, вярнуўся на дарогу. Неўраў пачухаў за вухам, супакойваючы, але звер раздражнёна фыркнуў і павярнуў назад у вёску.

Калі мядзведзь зноў сядзеў на ланцугу, мастак зайшоў у дом. Там быў ужо Восіп — стаяў на каленях перад адчыненымі ў грубцы дзверцамі і соваў бярозавы кругляш.

— Замёрз? — спытаў, павітаўшыся.

— Вецер павярнуў ад шведаў, з мора. Там яшчэ зімна. Каб не прынёс начою снег.

Неўраў зайшоў у майстэрню, прыбраў са стала мех з куфэркам, які выстаўляў перад Нюркаю, паставіў на падлогу, прыўзняў над мальбертам фартух, але не зняў, адразу перадумаў, здымаць перад Восіпам на гэты раз не захацеў, павесіў на карціну зноў, каб ён яе не бачыў. Сеў за стол.

— Што ты там робіш? — спытаў у хлопца, які сядзеў на кухні.

— Закурыў, пускаю дым у грубку. Спаць хота, вочы зліпаюцца. Тухлянка адбівае сон.

— Ты спаць ідзі сюды. Але тухлянку там пакінь. Яе смуроду не магу цярпець. — Падумаўшы, дадаў: — Вазьмі ў буфеце штоф, кілішкі, селядца.

Восіп усё прынёс не марудзячы, на стол паставіў і паклаў.

— Садзіся. — Як Восіп сеў, спытаў: — Ты хлапчуком служыў у пана?

— Лазу сек, вазіў, ставіў з дзядамі гаці. Паліў у печах.

— Глафіру добра ведаеш?

— Тады яе шчэ не было. Яе пан пазней прывёз, калі я быў у вас. Казалі, што там, адкуль прыехала, прыслужвала ў маёнтку ў старога пана.

— Што яшчэ кажуць пра яе?

Восіп пацiснуў плячыма:

— Ня чуў, ня ведаю.

— Яна мужычка?

— Дваровыя яе ня любяць. Кажуць, што з перцам. Як што не па ёй, дык носам чмыхае. І на дваровых дзевак, і на пана.

— А Змітраку падабаецца.

— Бо сам бывае з мухамі. Прасіў учора каня пасадзіць бульбу — не даў. Кажа, што яшчэ рана. Прасіў сёння — кажа, хай

дзень кабыла пастаіць, па людзях зацягалася. Дык гэтак і кажы адразу, што кабыла зацягалася. А то вучыць, калі бульбу садзіць.

— А можа, і праўда, што рана. Зямля халодная.

— У яго халодная, чорная, а ў мяне пясок.

Нічога большага пра Глафіру ад Восіпа не пачуўшы, Неўраў размову тую спыніў, але тое, што пачуў, яму было цікавым, бо перчык у ёй сам заўважаў, адно не мог пакуль сказаць, які ён там, салодкі ці пякучы. Хто мог пра тое ведаць? Змітрок ды Восіп маладыя. Ведаў пан, але ж цяпер не падкаціцца. Мог сам мастак адчуць старэчым носам?

Скруціў са штофа вінт, наліў у кілішкі.

— Што маці сказала пра янота, як на табе ўбачыла?

— Яшчэ скажа. Бо доўга прыглядалася.

— А ты сказаў ёй, што я збіраю шашкі ў мяшкі, што навастрыўся пакінуць вас?

— Сказаў.

— Дык што яна?

— Яны абое, бацькі, як між сабою не гавораць, дык слова лішняга і мне не скажуць. Ісці дадому няма ахвоты.

— Ты не перажывай. Ёсць зерне, жорны — мука змелецца. — Неўраў падняў кілішак. — За што? — Глядзеў у твар хлопцу. Той патрымаў кілішак у руцэ ды і кульнуў, нават і слова не сказаў, як злосны на ўсіх.

Паклаўшы селядца на хлеб, Восіп жаваў без ахвоты, спадылба пазіраючы на мальберт. Пад фартухом стаяў падрамнік, ім зроблены, а што на палатне — яшчэ не бачыў. Хацеў убачыць? Надоечы мастак яму зняў фартух з палатна — глядзі. А што атрымалася? На палатно глядзеў — янота бачыў? Тады на хлопца не мог не зазлаваць. І моцна. Але цяпер падумаў: сам вінаваты — з футрам падсунуўся. Хлопцу трэба да дзевак бегчы — што даражэй: спраўнае футра на плячах альбо карціна ў хаце? Як думаць ды гадаць пра гэта, калі сам, сын купца, у маладосці не хадзіў у засаленых ды лапленых мужыцкіх ватніках? Учора сляпіцай у вачах быў янот, а сёння ўжо вачэй не зводзіць з фартуха — пад ім бачыць карціну.

Але пад фартух, не маючы дазволу, не зазірне, нават калі б і быў адзін у доме. За гэта Восіпа цаніў і паважаў, цяпер — як мог не ўважыць? Адкінуў усе сумненні — паказваць ці не паказваць? — падняўся з-за стала, падышоў да мальберта.

Якраз і Восіп падхапіўся, не ведаючы, што мастак задумаў, выйшаў на кухню. Чуў, як ён там варочаў у грубцы качарэжкаю

махныткі, як падкідаў на іх паленцы — стаяў, чакаў. Ужо самому хацелася ўбачыць, што раніцай зрабіў на палатне.

Яшчэ раз ляснулі на кухні дзверцы, загуло ў грубцы.

Мастак паклікаў хлопца да сябе. Той падышоў, спыніўся з другога боку ад мальберта. Неўраў яму сказаў:

— Глядзі сюды.

Зняў фартух.

Восіп уважліва глядзеў на карціну — маўчаў. Адыходзіў ад яе і падыходзіў зноў то з аднаго боку, то з другога. Неўраў кідаў вачыма то на яго, то на Параску. Маўчалі абодва. Нарэшце мастак сеў за стол. І Восіп сеў. Ужо за сталом глыбей уздыхнуў, як скінуў з сябе цяжар:

— Дык што? Я пазнаю.

— Каго пазнаў?

— Ну, Змітрака. Ого, князь!.. Што трэба. І Пракоп, і яго меншы, Васіль, як вылепленыя, жывыя. А Гараська — Абыціха?.. Ды і Таўкач нішто — Свіное Вока. Прыгожы атрымаўся Вол — ваяка хоць куды!.. — Вочы ў Восіпа забегалі па палатне. Ад смеху пырснуў: — І без мяне не абышліся? Во, раб Божы! Ці вочы не зусім мае? Свіныя, як у Міцькі…

— Калі пазнаў, дык значыць — ты. А вочы? Як перап’еш — якраз. У Міцькі бровы лысыя, а ў цябе — што прусакі. З-пад іх як глянеш — не падыходзь.

Цяпер абодва рагаталі.

— Што ты ўсіх пазнаў, мяне суцешыла, — прызнаўся Неўраў.

— І грыбінскіх, Капусту з Качаном.

— А тое, што не ў сваіх вопратках? Ты сам — як вой стаіш. Гэта не бянтэжыць?

— Дык а чаго? Ого! Прыгожа і па праўдзе. За глотку мужыка схапі, дык ён таксама схопіцца за нож альбо сякеру.

— Ты гэтак думаеш? Не забаіцца?

— І думаць няма чаго. Мужык калі ціхі? Як сыты. Няма хлеба, дык ёсць бульба, няма бульбіны — ёсць бурак, капуста. Чаго мужык не дабярэ на сваім полі, тое скрадзе на панскім. Вунь сажалкі — чые? Вядома, панскія. А з іх карасікі і ў мужыка бываюць на стале.

Восіп разгаварыўся. Цяпер ён ведаў, што казаць. Але вочы яшчэ ўсё бегалі па карціне, штосьці патрэбнае яму шукалі. Абшарылі на ёй усе закуткі.

— А мамка мая дзе? Самі казалі…

Гэтага ад яго мастак чакаў і не чакаў. Чакаў, што, убачыўшы карціну, пра мамку абавязкова скажа, і не чакаў, што там,

заўважыўшы жанчыну ў ладзейцы, у ёй не пазнае мамку. Як не пазнаць, калі пісалася з эцюда, які абое ўпадабалі — і Восіп, і Параска? Збянтэжыў мастака.

— Ну як няма? Не бачыш у ладзейцы?

— Жанчыну бачу. Але не мамка.

— Гм-м!.. — мастак задумаўся. — На мамку не падобная? А можа, сапраўды…

Ён раптам зразумеў: пісаў з эцюда, гэта так, пісаў Параску, сябе да гэтага прымусіў, душа з прымусам не мірылася, душою не хацеў ён паўтараць эцюд, пісаў і тое, і не тое, як быццам тое, але сябе падманваў, бо клаў не тое на карціну, што адчуваў у Парасцы на эцюдзе — хаваў пачуцці, у хованкі з сабой гуляў. На што разлічваў? Што будзе на карціне вобраз, але эцюда не паўторыць? Хаваў ад князя і карціны Парасчыну душу? Сабе яе прысвоіўшы і князю не жадаючы аддаць? Хіба пра гэта скажа Восіпу? А што яшчэ сказаць? Сылгаць?

— Не мамка твая гэта? — задумаўся. — Не, не яна. Ты мамку ведаеш. Ты яе сын. Не можаш памыліцца. Не. Жанчына тут ніякая. Абстрактная. Тут проста постаць. Фігура. І гэтак на карціне быць не можа. Мяне ты разумееш, Восіп?! — Аж грымнуў раптам басам, нібыта Восіп быў тут у нечым вінаваты. — Не прыйдзе твая мамка — не будзе і карціны! Ты гэта разумееш? Не будзе ні Змітрака, ні яго бацькі, ні Міцькі, ні Гараські, ні Капусты з Качаном!.. Цябе, Восіп, не будзе…

Восіп у гэта не мог паверыць: як не будзе, калі ўжо ёсць карціна і на карціне — ён? І ён быў рады, што гэта — ёсць. Ёсць ён… Вачыма заміргаў, нібы дзіця.

Мастаку зрабілася шкада хлопца. Цяпер бачыў яго не тым, якім ён быў учора ў футры, як бег дахаты, каб мамцы паказаць сябе ў барскім кажушку. Тут ён ужо не мог вачэй адвесці ад карціны, якая ўзвышала яго, радавала. І гэта радавала мастака. Хіба не гэта хацеў зрабіць сваёй карцінай — узвысіць, з каленяў падняць на ногі мужыкоў? Тут ён убачыў, што яднае мужыка з мастацтвам. Мужык хацеў у мастацтве сябе ўбачыць не халуём, не парабкам, а чалавекам, воем, і гэта было тое, чаго не зразумеў Лупандзін.

Карцінаю ўсхваляваны, усхапіўся Восіп:

— Дык я, калі мамка не прыйдзе, прывяду вам дзеўку. Маладую, прыгожую.

Шчырасць хлопца радавала, але прымусіла ўсміхнуцца.

— Мне маладую?.. Ну, ты расшчодрыўся.

— Дык Глафіру пішыце! Во, маладзіца! — падняў угару вялікі палец.

— Глафіра, як ты кажаш, з перцам.

— Дык знойдзем і без перцу. Можна падмазаць Нюрку?..

Залішнія гаданні Восіпа Неўраву не спадабаліся. Ад іх хітнуўся зноў да штофа:

— Мы вось… яшчэ па чарцы, тады прыдумаем што-небудзь разумнейшае. Іначай тут не выблытацца.

Але пра гэта Восіп як не пачуў:

— Пайду прывяду мамку. Я хутка.

Выскачыў за парог.

Неўраў ведаў, што і Восіп не прывядзе Параску ні цяпер, ні пазней, дарма пагарачыўся, дарма і ён, мастак, яго не ўтрымаў. У гэтым настроі ранішняя работа за мальбертам, даўшы светлую надзею, цяпер здалася марнай, і нават папракнуў сябе: навошта паказаў карціну хлопцу? Каб пачуць тое, што сказаў? Што ў ладзейцы не яго мамка — абы-хто? Дык хіба сам гэта не бачыў? Калі не адчуваў, як працаваў, на нешта спадзеючыся, дык жа павінен быў адчуць халоднай галавой, без Восіпа.

— Гу-у-у! — загуў басам, выдыхаючы з сябе цяжкое, нібы гнёт, паветра, якое сціскала грудзі.

Мастак накінуў на карціну фартух, абы яе не бачыць, адвярнуўся, падышоў да ляжанкі, паклаў галаву на чарэнь, тварам на цёплую аўчыну, стогнучы, нібы ад болю, ды раптам сцішыўся, узняў галаву, задумаўся: кожны мастак мае ці то карціну, ці то эцюд, якія хавае ад усіх, нават, бывае, ад сябе, ад сваіх рук, вачэй, каб лішні раз не дакрануцца і нават не дыхнуць на іх, са сховаў дастае па святах ці ў невыноснай роспачы, каб уратавацца, каб, глянуўшы на той эцюд ці на карціну, умацавацца сэрцам, духам. Была і ў яго святыня — эцюд Парaскі. Калі б гэта быў звычайны эцюд, цяжка не было б з карцінай: чаму і не пісаць з эцюда? Цяжар і немагчымасць гэтае работы былі ў тым, што тут не радавы эцюд — святыня-таямніца, з якой не мог зняць копію. Неяк, не ўчора і не сёння ўранні, яшчэ раней, калі надумаў гэта зрабіць, пачуў голас душы, што тут — злачынства. У чым яно? Вочы Параскі, якія засталіся ў эцюдзе, грэлі сэрца, хіба мог аддаць камусьці іншаму, хоць нават князю Рагвалоду? Тады, калі задумаўся пра гэта, убачыў перад сабою не карціну, не эцюд, а Багародзіцу — ікону, абгорнутую светлым ручніком, — у яе спытаў: «О, Маці Бога нашага Ісуса! Ты гэта ведаеш, бо Ты жанчына. Скажы, ці можа твая сястра зямная,

тутэйшая, сваю душу аддаць двум мужыкам? Ці можа, яе аддаўшы аднаму, пасля аддаць другому? І хіба можа мужчына, які яе душой валодае, аддаць гэту душу другому, хоць нават князю слаўнаму?»

Пачуў ці не пачуў ён слова Багародзіцы, калі яе ўбачыў? На гэтае пытанне меў права сказаць: адчуў, што ўратаваўся. Ад здрады.

Тады, у той дзень, адклаў палітру.

А сёння зноў яе ўзяў. Забыўшы Багародзіцу?

Палітру узяў ад ранку, а праз паўдня схапіўся за саломіну: пісаў, але не напісаў? Тут — Восіп сведка. Ён, сын Парасчын, не мог зманіць: не мамка на карціне.

Пачуўшы гэта, разгубіўся, а потым супакоіўся і нават адчуў радасць: як добра, што Параска з эцюда не легла ў карціну. Карціна мастаку была патрэбная і больш за тое — была ратункам. Ён спадзяваўся: удасца — уратуе. І не было памылкай, калі адчуў: эцюд мог уратаваць. Але… Эцюд!.. Ён у душы застаўся б ці памёр?

— Ну, не-э! — прачнуўся бас. — Я знішчыў бы яго!..

Эцюд Парaскі стаяў на камодзе. Мастак углядаўся ў яго, разгублены. Не ўсё ў ім зразумеў? За дзесяць год — не ўсё? А што — не ўсё?

Усхапіўся з крэсла, зайшоў у майстэрню. З карціны на падлогу скінуў фартух і застыў на месцы. Глядзеў на новую карціну, углядаўся прагна, штосьці ў ёй шукаў. І раптам скалануўся, схапіў са стала нож і ўзняў над галавою. Памкнуўся да карціны…

Дзверы ў сенцах рыпнулі, адкінуліся, ляснулі, нібы ад моцнага парыву ветру. Ён апусціў руку з нажом, прыслухаўся.

Яшчэ раз ляснулі…

Нож кінуў на падлогу і выйшаў за парог.

Сонца вісела за садам, заблытанае ў голлі яблынь. З-пад пагорка, з боку вёскі, у сад выкатвалася шапка. Адразу здалося, што вяртаўся Восіп. Але чаму з-за выспы, не сваёй дарогай? Як шапка выкацілася вышэй — пазнаў Пракопа.

Адразу палягчэла.

— Сам Бог, мабыць, паслаў?

Пракоп падышоў бліжэй, агледзеўся, сказаў:

— Нічога добрага вам не прынёс.

— Ужо тое добра, што сам прыйшоў.

Пракоп наблізіў твар да твару мастака:

— Забегла Нюрка, шапнула па сакрэту, што суддзі талачынскія прыехалі, начуюць у пана, раніцай будуць у вас. Ёй Глафіра прагаварылася.

— Ведаю. Нюрка ўсяму свету звоніць па сакрэту.

— Дык што яны прывезлі?

— Сам ведаеш, нічога добрага. Госпадняга суда я не баюся. Хоць грэшны, але ўсё жыццё сеяў святло і праўду, не цемру і не хлусню. Дык ці мне баяцца панскага суда? Ідзі, Пракоп, дадому, запражы каня ў фурманку, пад'едзь сюды з каторым сваім хлопцам. Змітрок не ўсё ў мяне забраў, што я паабяцаў.

Калі сцямнела, прыкацілі Пракоп і Змітрок. Селі за стол, пачалі дамаўляцца, што сын ды бацька возьмуць у сваю хату. Размова не ішла аб продажы — была патрэба хоць што ўратаваць. Дзень-два назад здавалася: хоць усё хай выкідаюць з дому, хай шалеюць на папялішчы, абы не згубіць святло ў вачах ды на палітры. Усё нажыўное, акром душы. Але цяпер падумаў гэтак і не гэтак: куды падзець мальберт і фарбы, карціны ды эцюды, планшэты з малюнкамі і рэквізіт, што ўсё жыццё збіраў не аднаму сабе — сябрам, жывапісу. Як з дому павыкідаюць вопраткі, дык гэта ж — нібы саміх Чарняева і Шчэпкіна, князёў і мужыкоў, якіх пісаў ці марыў напісаць. Як будзе сам на гвалт глядзець? А ці перажыве? Ці сцерпіць сэрца?

— Змітрок?!— аж шыю выцягнуў праз стол насустрач хлопцу, бліщчастымі ад слёз вачыма, чырвонымі ад недасыпу ўставіўся, шукаючы спагады. — Бяры ўвесь гардэроб, усе вопраткі князёў, баяраў, генералаў, купцоў і мужыкоў. Сабе што кінеш, астатняе раздай па хатах. Там сукны царскія. Дзе людзі перашыюць, а дзе гэтакія зносяць, будуць як генералы ды князі. Мне захаваеш фрак Шчэпкіна ды світку Гіры. Ды яшчэ кіцель Чарняева. Ты ведаеш, як я гэта збіраў? Мае кішэні трэслі ого як! А што і па-сяброўску аддавалі. Купецкае — ад бацькі. А Шчэпкін даў як узнагароду за карціну. Чарняеў — за Венеру. Шынялі ды мундзіры ёсць ад Верашчагіна. Хто ён такі? Вялікі наш мастак і вой вялікі. Як вой — заўсёды ў першым ланцугу з палітрай і вінтоўкай, на кулаках ці на штыках — першы. А бой заціхне, ноч — тады хоць у дождж, хоць у мароз, ён зноў на полі бою. Пакуль каманда пахавальная збярэ ды пахавае мёртвых, ён там, у мёртвым полі, збірае пластуном яму патрэбныя ў батальным жывапісе зброю, шынялі, мундзіры. Усё прымацуе да сядла, сам — на каня і да сваіх акопаў.

— Марадзёр?

— Мастак вялікі. Батальнага мастацтва без рэквізіту не створыш. Хто як збірае, а ён — у баі.

Угаварыў хлопца забраць і шафу, у якой захоўваў рэквізіт. Шафа была вялізная, але ўтрох вывалаклі з дому, паклалі на фурманку ўверх дзверцамі, паўнюткую набілі вопраткай.

Гасцей правёўшы, вярнуўся ў дом, хадзіў з пакоя ў пакой, месца не знаходзіў, дзе прыпыніцца. Па-новаму, не як раней, адчуў сябе ў доме. Яшчэ стаялі свае крэслы, сталы, канапа, буфет, ложак, а ўжо як не свае, баяўся да кожнай рэчы дакрануцца. Былі і не былі, яго і не яго, рэальныя і ўжо як здані схаладнелыя.

Спыніўся перад мальбертам — таксама здань?

Сарваў фартух з карціны, прыжмурыў вочы, угледзеўся ў жывапіс на палатне, рукою дакрануўся, пакратаў фарбы, дзе — ужо сухія, дзе — яшчэ сырыя. Крануў ладзейку пальцамі — нібыта вылеплены скульптарам рэльеф.

Зноў, як учора, залапатала на гарышчы. Зноў штосьці непакоіла і кажаноў? Але ж у вокнах не было таго святла, якое іх будзіла? Ноч выдалася цёмная.

Узяў лямпу, выйшаў у спальню, святло паставіў на ляжанку і сеў на ложак. Распрануўся, залез пад коўдру.

Пачуў, як нехта ціха, нібыта крадучыся, зайшоў у дом. Быццам была ўжо раніца. Падумаў пра тых, з суда, людзей, якія святла чакалі, каб да яго прыйсці. Звесіў ногі з ложка.

— Ты, Восіп, тут? — спытаў. Ніхто не адгукнуўся. Нямоцным голасам пазваў: — Хадзі сюды.

Восіп выйшаў з-за печы, стаў спіною да цёплай ляжанкі.

— Мамку не бачыў.

— Дзе яна ходзіць ноччу?

— Ня ведаю.

— Што бацька кажа? Ён ведае?

— Лыка не вяжа. Пад лаўкаю ляжыць. Мамка ці не пайшла да кумы ў Грыбін. Яна і тую ноч там начавала.

— Ты, можа, галодны? — спытаў у хлопца. — У печы чыгун з бульбаю. Даставай, нясі на стол. Там селядзец і ўсё астатняе.

Калі Восіп выйшаў на кухню, Неўраў падняўся з ложка. На плечы ўсцягнуў халат, зайшоў у майстэрню.

Пасля чаркі мастак трымаў у руцэ ля рота селядца за хвост, з ім быццам гаварыў па душах, а глядзеў у твар Восіпу, доўга глядзеў, як пішучы яго партрэт. Той хацеў адвесці ад сябе цяжкі і чэпкі пагляд ва ўпор, але не ведаў, як гэта зрабіць, губляўся і сам адводзіў вочы. Нарэшце, пасмялеўшы, спытаў у Неўрава, чаму яго ён разглядае, што ў ім шукае вострым вокам: пад пэнд-

заль ці пад аловак? Нішто ад гэтага пытання не зварухнулася на старым тввары, адно ледзь прыадкрыўся рот, каб слабым голасам прамовіць:

— Гляджу я, Восіп, на цябе, нібыта на ўсю вёску. Ні ў чым перада мной ніхто ў ёй не вінаваты. І я ні перад кім ні ў чым не вінаваты. Аднолькавыя мы ў сваіх грахах прад Богам. А што ёсць пан, ёсць суд, дык тое ўсё — не вёска.

Не ўсё мог Восіп зразумець, словы былі як быццам простыя, але сядзела ў іх загадка, якую не галавою, а душой адчуў, і тое, што адчуў, сагрэла, зрабіла больш слабым ды мяккім, як слова бацюшкі ў царкве з амбону. І гэта захацелася сказаць — сказаў:

— Вы… як у царкве на споведзі.

Неўраў пагадзіўся:

— Даўно ахвота мне пабыць на споведзі. Я бацюшку казаў. І ён мяне чакае.

— Ну дык чаго ж?..

Зноў Неўраў глядзеў у твар хлопца ружовымі, як ад агню, вачыма. Зноў Восіпу няўтульна рабілася пад тым паглядам — як выціснуў з сябе:

— Халодна нешта ў доме.

Падняўся з-за стала, пайшоў на кухню.

Неўраў глядзеў на тое месца, дзе сядзеў Восіп, нібы яшчэ там бачыў хлопца. Ці, можа, як сам прызнаўся, вёску бачыў?

У грубцы было цёмна, і Восіп, паклаўшы ў яе дроў, другі раз распаліў. Сядзеў каля агню, глядзеў у яго, падкінуўшы паленцаў, потым устаў з калодкі, падаўся за печ да ложка.

Мастак стаяў каля акна. Зноў ззяла поўня, выплыўшы з-за хмар. Яна, як і надоечы, як сыпаліся кажаны, высвечвала кожную галінку на дрэвах, белым агнём запальвала ў халодным вогнішчы прысак ды галавешкі. Думалася: што тут чакае — поўня жыцця ці поўня смерці?

Заўважыў эцюды на падлозе. Яшчэ не ўсе спаліў? Каму іх пакідаць? Падняў адзін, другі: на іх — вясковыя кабеты, але ўсе, хоць маладзейшыя, таксама старыя з выгляду. Магчыма, з гэтых лягчэй было б знайсці кабету ў ладзейку? Калі б, вядома, не Параска. Яна ўсіх адшыла і сама адшылася. Таксама — характар, таямніца. Падняў з-пад ног эцюды, занёс на кухню, скінуў пад дзверцы грубкі.

Дровы дагаралі. Браў, не выбіраючы, адзін эцюд, другі, біў кожны аб калена, кідаў у агонь. У нейкі зрэдку ўглядаўся, успамінаў жывога чалавека, каго пісаў, сустрэчу з ім, размову.

Што прываблівала? Фактурная краса ды сіла, душы загадка, слова шчырае, дзяркатае, прычэплівае. Іншых пасля бачыў, каторых — праз колькі год, ужо не знаходзіў ні тае шчырасці, ні той прываблівасці. Маладая краса ў вёсцы хутка завядала ў цяжкой сялянскай долі, у пакоры, у страху.

Яшчэ адзін эцюд узяў у рукі: на ім была кабета ў чырвонай кофце. Пазнаў Нюрку. Стаяла босая пад саламянаю страхою, рыжавалосая, кудлатая, хустка ляжала на крутых плячах. Трымалася рукамі за бакі і рагатала. Грудзі — ёсць узяць за што — наперад, у вачах — агонь. І не такія вочы дробныя, і не калючыя, як сёння бачыў, блішчаць, нібы падмасленыя. Баба! Пісаў мазком густым, шырокім, клаў фарбы, нібыта пекар цеста, не шкадуючы, з тым самым, што і ў яе, агнём.

— Ха-ха!.. — зарагатаў. — Быў рады пісаць сцерву? — Угледаўся ў яе ашчэраны шырокі, нібы ў жабы, рот, у зубочкі дробныя і рэдкія. — Разнесла па ўсёй вёсцы, што суддзі панаехалі, што мастака, нібы бадзягу, гнаць будуць з дома панскага. Ёй весела — забегала па хатах? Ты чуеш, Восіп?!. Ёй, сцерве, весела!.. А хлопчыка ад мастака хавае. У яе Міцька вінаваты. Баіцца мужыка — Свіное Вока?.. А пана не баіцца? — заскрыгатаў зубамі. —Гу-у-у!..

Восіп прачнуўся ад грукату ў доме. Усхапіўся з ложка. Ціха, крадучыся, каб не пачуў і не заўважыў мастак, выйшаў на кухню — яго там не было. Праз шчыліну ў дзвярах зазірнуў у майстэрню — убачыў і пачуў, як там мастак куляў кілішак за кілішкам пад вусы, як усё бубніў, а то зрываўся з таго бубнення, басам кідаў, нібы каменнем: «Халопы!.. Парабкі!..» — за галаву хапаўся моцнымі, нібы пруты, пальцамі, сціскаў яе, як баючыся, каб не рассыпалася, хаваў твар за далонькмі і тады маўчаў. Калі зноў раптам усхапіўся, абедзвюма рукамі згроб некалькі з-пад ног эцюдаў — падрамнічкі захрабусцелі ў руках, як трэскі. Восіп хутчэй нырнуў за грубку, зноў лёг пад коўдру, накрыўся з галавой. Гэтакага мастака і раней баяўся, хоць мала калі гэтакі бываў. Бег тады з дому, як і Каштан ад Топы, калі той быў раз'юшаны. У гэтым былі падобныя — мастак і мядзведзь.

Стоячы каля грубкі на каленях, Неўраў даломваў апошнія эцюды, усе кідаў у агонь, ужо ціха. Ужо зрэдку Восіп чуў яго бубненне, стогны, размовы з самім сабою.

Калі зрабілася зусім ціха, адкінуў коўдру з галавы, ляжаў ды прыслухоўваўся. Не чуючы ніякіх гукаў, вылез з-пад коўдры, сеў на ложку, глядзеў у цемень. Святлейшая пляма праплыла

насупраць, як за акном, па шыбах. Тады ён стаў на ногі, рукамі мацаючы з аднаго боку сцяну, з другога — грубку, прайшоў на кухню, знайшоў на прыпеку агарак свечкі, намацаў карабок з запалкамі, запаліў і зноў паставіў на прыпек свечку. Стаяў — зноў слухаў цішыню. Зноў узяў свечку, з ёю праз гасцёўню выйшаў у майстэрню, спыніўся пасярод пакоя. Смярдзела газай. Падлога была засыпаная бітым шклом, у шкле валялася лямпа. Блішчэла мокрая пляма, на ёй ляжаў кухонны нож — ад свечкі блішчэла шырокае і доўгае лязо. Калі агледзеўся, здзівіўся, што не было на месцы шафы. Вялізная, цяжкая, куды магла падзецца? Магчыма, яе ўжо не было тады, калі сядзелі за сталом? Адразу, як не ўбачыў шафы, падумаў і пра мальберт з карцінай — мальберт стаяў на сваім месцы, але не было карціны з князем. Гэта мацней, як што іншае, захвалявала Восіпа: куды знікла? З падлогі падняў фартух: ён быў скамечаны, мокры, смярдзеў той газай, нібыта ім падлогу выціралі. А хто мог выціраць, як не мастак? Тут усё — яго работа. І карціна? Куды схаваў? Навошта? Ад каго?

Не ўсё разумеючы, Восіп адчуў, што тут, у доме, пакуль спаў, адбылося штосьці незвычайнае, жахлівае.

Са свечкай выйшаў на ганак. Было і тут навокал ціха, і ветру як быццам не было, але ён, выпадковы, павеяў з-за вугла, з-за сенцаў, і свечку пагасіў.

З глыбіні саду, адтуль, дзе жылі Каштан і Топа, бліснуў агеньчык, цьмяны, нібы за шклом схаваны, у ліхтары. Ліхтар вісеў у сенцах на сцяне, з ім мастак калі-нікалі выходзіў з дому па начах, дык, можа, і цяпер з ім быў у садзе? Што-небудзь здарылася з мядзведзем ці сабакам? Ці вынес ім чаго ў шаечцы?

— Вы тут? — не моцна, як баючыся свайго голасу, гукнуў у той бок.

Агеньчык у садзе пагас адразу. Але свяцілася чыясьці постаць — нібыта мастака, высокая. Постаць загайдалася, пачала набліжацца. Ліхтар застаўся там, дзе быў.

З-за блізкіх дрэваў выйшаў Неўраў.

— Што здарылася? — спытаў усхваляваны Восіп. — Што-небудзь з Топам? Не захварэў?

— Няма каторы дзень Каштана, Топа перажывае. Ды і шкада сабакі.

— Прыбяжыць. Не першы раз знікае.

— Ну так, не першы раз, але ўсё бывае. Сабака ціхі. Шкоды нікому не чыніў.

Тое, што Неўраў апаражніў штоф і не быў п’яны, Восіпа не здзівіла. Стары быў яшчэ пры ўсім сваім, ад гэтакага цяжару мог жаліцца адно на ногі, а галава ўсё памятала, вока ўсё бачыла, язык абы-што не малоў, мог больш чаго, як звычайна, сабе дазволіць дома, у майстэрні, тут страху мог нагнаць на ціхую ды цёмную душу, пакарыстацца цяжкім, але не брыдкім, словам, а як выходзіў за парог, дзе б ні спыніўся, у вёсцы ці ў лесе, губляў нават свой бас, цішэў-мякчэў, як у царкву зайшоўшы. Тады ўжо з кожным яму хацелася размовы ціхай, ад душы.

— Ноч, Восіп, а я адзін. Гэта — справядліва? Тая ноч была з поўняю ў небе, мне было лягчэй. А гэтая поўню паказала і назад схавала ў торбу. А я не крот, каб жыць у цемені. Я мастак. А мастаку трэба святло. Ён усё і ўсягды павінен бачыць. Усю дзяржаву і ўвесь народ. Я ведаю, што ты пайшоў да мамкі. І добра, што вярнуўся. Параска ўжо спіць? Хай спіць. Будзіць не трэба. Прыйдзе на тое дзень, ён пабудзіць. Гэта яго работа, а не твая. А цяпер ноч. Я ліхтар запаліў і лыжы навастрыў. Мая дарога роўнай не бывае. Мне трэба святло.

— Куды вы навастрыліся?

— А я ўсё табе скажу. Ідзі за мною. Як Майсей казаў? Ідзі за мною. І Бог гэтак казаў — ідзі за мною. І я табе кажу — ідзі за мною. І не бойся.

Неўраў зрабіў тры крокі да ганка, спыніўся, схапіўся за плячо Восіпа, пайшоў далей, за Восіпа трымаючыся. Падняліся на ганак. Зноў спыніліся. Восіп заўважыў у цёмным кутку мех, чымсьці напханы пад завязку.

— Што гэта? — спытаў.

— А тое, што трэба аднесці ў блізкі двор. — Мастак прыўзняў мех, глянуў у вочы хлопцу. — Ён не цяжкі. На ганак Міцьку аднясеш. Паставіш — і назад.

— А што тут?

— Куфэрак з фарбамі, палітра, пэндзлі, падрамнічкі малыя, якія ты рабіў. Іхняму хлопцу, Міхасю. Мастак расце, трэба пасобіць. Зверху шынель. Сукно таўстое, цёплае. Хай хлопцу перашыюць. Я Нюрцы казаў. Яна ведае. Калі яе ўбачыш альбо Міцьку, скажаш, што я паслаў. Адтуль можаш ісці дахаты.

Восіп узяў мех на плячо, сышоў з ім з ганка. Спыніўся, азірнуўся на мастака, як што сказаць забыўшы.

— А мамка ў мяне спытае?..

Неўраў глядзеў на неба, як неба слухаў, з небам гаварыў.

— Скажы ёй, што мой цягнік у Талачын на станцыю прыходзіць раніцай, як сонейка падымецца над лесам.

Восіп глядзеў на мастака на ўсе вочы, нібы не разумеў, што той казаў. Занепакоіўся:

— Куды вы цягніком надумаліся ехаць?

Мастак усё яшчэ глядзеў на неба.

— Ідзі, Восіп, ідзі. Вунь зараз месяц з-за хмары выплыве, табе пасвеціць. З богам.

Восіп вышэй падкінуў на плячо мех, падняўся на пагорак, з яе пачаў спускацца да вясковых хат. Ужо ногі, мех, плечы былі за пагоркам — зноў азірнуўся. Неўраў цяпер убачыў белы, як блін, круглы, падобны і на поўню ў небе, твар, усё роўна як першы раз яго ў вёсцы бачыў.

Твар мутна бліснуў — знік за гарою.

У далёкім канцы вёскі халодным горлам прахрыпеў певень. Восіп спыніўся, здзіўлены, чаму яго Чубаты будзіць вёску не сваім голасам. Але калі той самы пяюн другі і трэці раз пракрычаў з прысвістам, нібы ў глячок са шчылінай, пазнаў суседавага бандзюгу.

Яшчэ адзін, нясмелы, пяюн даў голас і захліпнуўся, нібы гарошынаю падавіўся, з Пракопавага двара. Павеяла цёплым, з коміна, дымам.

Сабакі ў гэты час, як прачыналіся пеўні, звычайна маўчалі. Міцькаў кабель, калі Восіп узышоў на ганак, нават з-пад ганка не вылез, не цяўкнуў. Хлопец пад дзвярыма скінуў з пляча мех, у бліжэйшым акне заўважыў кволую, ад лучыны, светлую плямку і ціхім крокам паспяшаўся з падворка на вуліцу.

Поўня свяціла яшчэ высака. Трывожна шчымела сэрца. Восіп спыніўся, агледзеўся і пайшоў далей. Вуліца вяла ў канец вёскі, дзе за выганчыкам стаяла яго хата, але ён збочыў у цень ад старой бярозы, што на пагорку, падняўся да яе і выйшаў да дома пад ліпамі.

У майстэрні гарэла святло. Заходзіць нагоды не меў, ды і мастак казаў, каб ад Міцькі ішоў дахаты, але непакоіла, чаму ён ноч не спіць, што ўначы ўсё ходзіць, усё шукае? У сенцах быў павярнуў назад, але намацаў клямку, прыслухаўся, дзвярэй не адчыняючы, ці ёсць хто ў доме, і адчыніў, насуперак думцы ісці дахаты. Зайшоў адразу ў майстэрню. На стале стаяла кандэлябра, гарэлі свечкі, а карціны на мальберце і цяпер не было. Тут Восіп здагадаўся, што павяло яго ў дом: дзе ўсё ж карціна? Яна ўжо моцна хвалявала.

Пакуль хадзіў да Міцькі, мастак быў у майстэрні. Падлога была падмеценая, падцёртая, ні шкляння не было на ёй, ні лямпы, ні кухоннага нажа. І не было нідзе карціны. І стрэльбы не

было. Яна заўсёды вісела разам з паляўнічым рогам, з трубою на сцяне, цяпер — адна труба вісела на ланцужку. Кухонны нож ляжаў ад краю на стале. За ім стаяў знаёмы куфэрачак у чырвоным аксаміце. Века было адкінутае, пад ім блішчэлі латуневыя гільзы. З прыскрынка дробнымі вочкамі паблісквалі пістоны, у другім ляжалі шэрыя, з лямцу, пыжы, у меншым кубачку быў порах, у большым — буйны шрот. Яшчэ стаялі кубачкі са шротам, драбнейшым і буйнейшым, а на стале побач з нажом — два патроны з кулямі на звера буйнога, мядзведзя ці кабана. Усё гэта Восіп бачыў у мастака раней, як той збіраўся ў лес на паляванне, але цяпер здзіўляла іншае: навошта расклаўся сярод ночы, калі збіраўся да ранішняга цягніка? Ці пажартаваў з тым цягніком? Не захацеў казаць пра паляванне? Дык дзе ён сам?

Восіп выйшаў з дома. Неўраў стаяў зусім блізка пад ліпаю ў цяні, без ліхтара. Ледзьве яго заўважыў. Спачатку пачуў:

— Усё зрабіў, што я прасіў?

— Зрабіў. Аднёс.

— Не бачыў Нюрку альбо Міцьку?

— Нікога.

— Ну дык ідзі дахаты. Мамка, можа, не спіць, чакае сына. Не ведае, дзе ходзіш поначы.

Восіп маўчаў, пераступаючы з нагі на нагу, як гэта, калі хваляваўся, рабіў мядзведзь. Хацеў спытаць пра карціну, пра стрэльбу, дзе яны, хацеў пачуць і пра цягнік, бо верыў і не верыў пра яго, ды адчуваў, што тых яго пытанняў мастак чуць не жадае, на іх ён не адкажа — паўторыць, каб ішоў дахаты.

Неўраў узняў да неба твар.

— Чуеш? Праляцелі качкі з сажалкі. — Падышоў бліжэй да Восіпа, паклаў на плячо руку. — Табе я ноч скамечыў. Прабач.

Неба было і месячнае, і зорнае, і ўжо над лесам за выганам пачынала залаціцца ад яшчэ не блізкага сонечнага вогнішча, калі Восіп спыніўся перад сваёй хатаю. Схапіўся аберуч за слупкі ў фортцы, агледзеўся. Ішоў хутка, дзе ішоў, дзе ўподбег шыбаваў — сэрца калацілася. Куды было спяшацца? Глянуў у двор — убачыў маці. Яна стаяла пад хлявом, глядзела на яго, рукамі на грудзях трымаючыся за канцы хусціны, і толькі цяпер падумаў, што да яе спяшаўся. Адкінуў фортку, адразу, не зачыняючы, падышоў, зірнуў ёй у твар і вочы апусціў. Маўчалі абое, хоць кожны з нецярплівасцю чакаў нейкае слова да сябе. Яна бачыла, што сыну трэба памаўчаць, каб штосьці цяжкае адхлынула ад сэрца, каб супакоіцца. Але не вытрымала:

— Дык што там?

— А тут што?

— Тут тое самае. Як ён там?

— Не спіць.

— Прыбягала Нюрка. Сказала, што ў пана з Талачына чыны судовыя. Панаехалі высяляць.

— А Нюрка іх бачыла?

— Глафіра сказала. Ён гэта ўжо ведае?

— Мне не казаў. Дык што рабіць?

— А што ты зробіш супраць іх? Што робіць ён, калі не спіць?

— Паліць карціны.

— А Бог ты мой!.. — здрыганулася Параска. — Шмат спаліў?

— Можа, усе. І тыя, што былі ў доме і што на доме.

— А новая, што з князем?

— Як раніцай там быў, стаяла. Я ж пра яе табе казаў. А цяпер не бачыў. Быццам ужо няма ў доме.

— Я вінаватая?..

У тым баку, дзе вёска, моцна гахнула, нібы з гарматы, ажно абое здрыгануліся.

— Гасподзь мой! — Параска перахрысцілася. — Што гэта?

Глядзелі адно другому ў вочы.

— Нехта смалянуў з драбавіка, — прамовіў Восіп. — Можа, тыя, што панаехалі да пана. Яны ж, як куды едуць, там хочуць і справу сваю зрабіць, і пагуляць, пастраляць. А пан якраз цяпер на качак, на курапатак ходзіць. Васільевіч, можа, таксама?

— Табе казаў пра гэта?

— Куфэрак паляўнічы на стале стаяў, века было адкінутае. Відаць, патроны набіваў. Стаяў у садзе, слухаў, куды на жыроўку лятуць качкі. Можа, цяпер там з панам?

— Што ты, сынок, таўчэш? Ён з панам цяпер не пойдзе. Ідзі ў хату.

Параска зняла з галавы хусціну, зноў накінула на галаву, завязала. Выйшла за фортку.

— А ты куды? — спытаў Восіп.

— Ідзі глядзі бацьку, як прачнецца. Я — у дом збегаю. Туды і назад. Не забаўлюся. Ты ж бацьку не кажы.

Яна адразу, ужо спяшаючыся, выйшла на сваю, праз лес, карацейшую сцежку, якой хадзіла да мастака. Восіп не паспеў ні спыніць, ні параіць, каб пачакала, як сонца пачне ўзыходзіць.

Ісці ў хату не хацелася — прысеў на прыступку. І не сядзелася. Зайшоў у сенцы, узяў медную конаўку, з вядра зачэрпнуў вады, два разы глытнуў, як зноў грымнула ў тым самым баку.

Кінуў у вядро конаўку з недапітай вадою, выйшаў на ганак і застыў на адным месцы, быццам чакаючы наступнага стрэлу.

Выйшаў за фортку. Трывога, якою поўніліся грудзі, гнала на сцежку, якою пабегла маці, але і ад сваёй хаты не адпускала.

Другі стрэл Параска пачула, калі ўжо мінала малады хвойнік, увайшла ў стары лес. Там спынілася. Першы стрэл гэтак не ўстрывожыў, як гэты. Мо таму, што тады стаяла ля сваёй хаты, з Восіпам. Свая хата, якая б жытка ў ёй ні кацілася, заўсёды супакойвала, а лес заўсёды непакоіў нават цішынёю, вусцішшу. У ім загадак больш, як у вёсцы альбо ў полі. У полі ці ў хаце чалавек мог быць адзін і адчуваць, што ён адзін, але ў лесе, калі нават вакол нікога не чуў, не бачыў, тачыла адчуванне, што не адзін, што ёсць у ім не толькі людзі, але звяры ды птушкі, жывуць удзень і ўноч у ямах, дуплах, гушчары, якіх вока не бачыць і вуха не чуе.

Сэрца гнала, каб ішла хутчэй, а ногі нямелі. Часам здавалася, што сцежку згубіла, не туды бяжыць — спынялася азіралася. А выйшла з лесу — здзівілася: зусім светла. Спусцілася за пашаю ды хвойнікам у равок, да Гіравай хаціны падышла — сэрца сціснула. За плот узялася дзвюма рукамі, пастаяла, пакуль боль адпусціў, а ўжо ля дома блізка пад ліпы выйшла — зноў сэрца спыніла. Ад сваёй хаты бегла — ні пра што не думала, абы хутчэй дабегчы, а прыбегла, на вокны глянула — завагалася: як у дом зайсці?

Стаяла, нібыта вінаватая, — мастак спіць ці не спіць, чакае альбо не чакае? У сенцы ўвайшла, клямку пачала намацваць, не знаходзіла, а як знайшла, спачатку дзверы прачыніла, каб толькі зазірнуць цераз парог, і ўжо як там не ўбачыла нікога, парог пераступіла. Невядома з кім павіталася, бо ніхто на адказаў.

Прайшла на кухню. Калодачка пад лаўкаю ляжала, а ўсё астатняе на месцы, падлога падмеценая, посуд памыты. Затое ў майстэрні ахнула: ніколі не было, каб гэтакі закіданы быў стол, каб пад сталом ды па ўсім пакоі гэткі гамуз — патрушчаныя шкло, падрамнікі, раскіданыя анучы, замалёўкі, бутэлькі пад нагамі, пэндзлі, смурод гарэлкі з газай. Няма ні шафы, ні крэсла, з якога мастак падоўгу разглядаў свае карціны, ні кушэткі, якая ратавала, калі сіл не хапала дайсці да ложка. А дзе мальберт і новая работа з князем? Мальберт стаяў, але не на святле перад акном, а ў цёмным закутку. Была на ім карціна — не тая? Параска падышла бліжэй — аж разгубілася: у раме на мальберце

яна сама — яе партрэт. Спужалася, хутчэй выйшла за дзверы, з сянец — на ганак.

З'явіўся, нібы зваліўся з неба, Каштан. Адразу кінуўся на грудзі, пачаў хапаць пашчай за рукі, лізаць іх цёплым языком, вішчэць, то прысядаючы, матляючы хвастом, то скачучы. З ганка саскокваў і бег у сад, вяртаўся, зноў хапаў за рукі.

— Ну што, Каштанчык? Чаго ты хочаш? Нічога ў мяне няма, нічога з сабой, дурніца, не прыхапіла. Ці ты галодны? Ці без мяне сумуеш? Што калоцішся? У сад вядзеш да Топы? Ну пойдзем, пойдзем да яго…

Параска сышла з ганка.

Сабака вёў у сад, але і цёрся ёй аб ногі, не даваў ісці. Зноў вёў — яна ішла за ім.

Перад лагвом крокі за тры-чатыры спынілася, прыслухалася, як гэта заўжды рабіла, падыходзячы да Топы. Яго дыханне чула нават, калі спаў, бо і ў сне ціхі не быў, соп ці гуў у нос, нібы ў трубу, уздрыгваў, звякаў ланцугом. Але цяпер стаяла і не чула, як быццам не было яго. Ні дыху і ні гуку. Яе, можа, пачуў — дыханне сцяў ды прыслухоўваўся? Захвалявалася, спужалася. Хацела павярнуць назад, каб узяць мядзведзю ў доме цукру ці дачакацца Неўрава, але якраз Каштан ушчаміўся паміж ног, балюча выцяў у нагу, ад ног скочыў уперад. Яна як вымушана, як у яго на шворцы, зрабіла крок, адразу і другі. Ствол яблыні адсунуўся ўбок, з ім разам у той бок адсунуўся засохлы куст агрэсту, адкрылася вачам лагво, засланае шэрым ападам леташняга лісця, зрудзелым сенам, сушняком, у нос дало смуродам звярынай лёжкі — Параска ўбачыла мядзведзя. Ён ляжаў на баку вялізны, як і не Топа, выпрастаны, паклаўшы галаву на лапу, нібы спаў. З лапы тырчэлі доўгія і тоўстыя, як пальцы чалавека, кіпцюры, цёмныя, бліскучыя на ранішнім святле, вострымі канцамі — у шырокі лоб, усё роўна як у звера балела галава і кіпцямі ён намагаўся вырваць з галавы той боль.

Каштан падскочыў да мядзведзя, вострай мордачкай сунуўся ў яго разяўленую пашчу — пачаў вылізваць кроў, якая сачылася ў чырвоную, пад галавою, лужынку.

Убачыўшы тое, што робіць Каштан, Параска войкнула, закалацілася, аберуч схапілася за дрэва. Ногі падкасіліся, але ў гэты момант адчула чыесьці моцныя рукі, якія ўзялі яе падпашкі, не далі ўпасці, як тыя рукі павялі, нібы панеслі, праз сад.

Ужо ў доме яна адкрыла вочы і ўбачыла перад сабою Змітрака. Доўга глядзела яму ў твар, як не пазнавала ці не ўсё разумела, маўчала, потым спытала:

— Дзе ён?

Змітрок стаяў перад ёю ў светлай зрэбнай кашулі, падпяразанай вераўчакай, глядзеў ёй у твар і як не чуў.

Адной рукою трымаючыся за хлопца, другой — за падаконнік, Параска апусцілася на лаўку, і толькі цяпер з вачэй лінулі слёзы. Яе ўсю закалаціла. Схапіўшыся за твар далоньмі, заплакала ўголас.

Над вёскаю ўзыходзіла сонца.

Мастак ляжаў у садзе каля лагва побач з мядзведзем, накрыты Змітраком ягонай мужыцкай світкай. Сонечнае святло прабівалася праз голле дрэваў, і першы прамень ласкава гуляў па твары, рабіў яго светлым, прыгожым. У голлі яблыні, на саменькай вершаліне, злавіўшы на дзюбу драбінку сонечнага святла, высвістваў свой ранішні матыўчык шпак.

Гэтак у Лыскаўшчыне пачынаўся яшчэ адзін дзень вясны — 3 мая 1904 года.

## ПАСЛЯ СТРЭЛУ

Тыя два, адзін за адным, стрэлы на панскім пагорку ў вёсцы мала хто пачуў, бо вёска яшчэ спала, яшчэ ў ёй мала хто прачнуўся, але рэха дайшло да людзей, злілося ў адну бяду — пра яе пачула ўся тагачасная Расія. Сталічныя ды мясцовыя газеты пісалі, што ў маленькай беларускай вёсцы Лыскаўшчына ад хваробы нерваў застрэліўся вядомы мастак, рэаліст-жывапісец Мікалай Васільевіч Неўраў, майстар бытавых жанравых карцін, гістарычных сюжэтаў, выдатны партрэтыст. У вёску з'явіўся бацюшка і забараніў хаваць мастака, як самагубцу, на вясковых могілках. Пахавалі пры дарозе з вёскі, як звычайнага бадзягу. Насыпалі курганок, паставілі безназоўны драўляны крыж — спі спакойна, раб Божы. Той крыж адразу аблюбавала сарока з суседняга панскага лесу. Яна прылятала, садзілася на яго і сакатала, прываблiваючы да магілы хадзякаў з дарогі. Але ў забабонным народзе пра самагубцаў гулялі розныя жахі, іх баяліся і да магілы мала хто падыходзіў.

Лыскавіцкія сяляне гэтага месца не абыходзілі. Яны ведалі мастака, як ён сябраваў з мужыкамі, як ім спачуваў, як пасабляў ім і хлебам, і вопраткай, і грашыма, і гнеўным басам у абарону перад чыноўнікамі ды панам, ягонымі падпанкамі. Ноччу, каб не ўбачыў які злыдзень, яны раскапалі магілу ды перанеслі мастака на вясковы могільнік. І было ў яго пэўны час дзве магілы:

адна — для пана, яго дворні ды ўлады, а другая, у якой ляжаў мастак, — для вёскі.

Праляцелі гады і гады. Рэвалюцыі ды войны павыкошвалі сялян, але выкасілі і пана з ягонымі суддзямі. Вёска засталася, хоць вельмі змянілася, і не памерла ў ёй памяць пра мастака.

У 1947 годзе вясною, у белую, на пачатку мая, квецень, у Лыскаўшчыну наведаўся мастак Бялыніцкі-Біруля. Прыехаў ён на сваю бацькаўшчыну, каб паглядзець, ці дужаю яна выйшла з вайны ды напісаць яе ў сваім адраджэнні, і не мог не завітаць у Лыскаўшчыну, блізкую ад родных яму Крынак пад Бялынічамі. Сустрэў тут старога селяніна Паўла Дэмбіцкага і папрасіў яго паказаць магілу Неўрава. Прыйшлі да магілы, а там і Мар'я Іванаўна Цыкунова, дачка Параскі, кухаркі Неўрава, без якой ён у вёсцы не мог і дня пражыць, якую пісаў на сваіх эцюдах і, рызыкнём сказаць, — кахаў, тая Марыля, што была сястрою Восіпу, які мастаку прыносіў з Талачына пошту, рабіў падрамнікі і яшчэ шмат чаго, тая Марылька, якая дзяўчынкаю пасабляла маме ў доме мастака, прыносіла яму з крыніцы ваду і мыла падлогу.

Пра што была ў іх размова на магіле Неўрава? Ды безумоўна пра мастака, які ён быў, як жыў і як загінуў.

Як жыў у вёсцы — пра тое было што распавесці і Цыкуновай, і Дэмбіцкаму. Біруля слухаў уважліва і параіў пакінуць свае ўспаміны на паперы. Ён сам умеў і любіў гэта рабіць — пакідаць на паперы ўспаміны пра дарагіх яму людзей. Скупа, як маглі, яны гэта пасля зрабілі. А Біруля ім распавёў, які быў Неўраў у коле бліжэйшых сваіх сяброў — славутых мастакоў Сурыкава, Рэпіна, Паленава, Васняцова, — як яны яго паважалі за смелы жывапісны талент, высокую годнасць, праўдзівасць, адданасць мастацтву і народу. І пра славутыя карціны мастака, якія Біруля выдатна ведаў і высока цаніў.

А як мастак загінуў? Была вінаватая хвароба нерваў, як пісалі газеты, ці штосьці іншае?

Успамінаючы, якім ён быў, сяляне сказалі, нібы пра не самае галоўнае, як Неўраў даводзіў мужыкам: зямля тут ваша, а не панская, вашы палі, вашы лясы, не кланяйцеся пану, як папракаў іх— халопы, парабкі!.. Часам — ціха, задумліва, а часам — на ўвесь свой бас, — як біў у звон.

— А наша вёска — што такое? У прыгон жылі тут панскія рабы, на паншчыне гарбелі, — сказаў Дэмбіцкі.

— У прыгон? А пасля прыгону?

— Ды… тое самае. Не пераробіш мужыка.

Біруля ведаў, як Неўраў ненавідзеў рабства, як выліўся ён у гэтай нянавісці ў сваіх карцінах «Гандаль», «Агледзіны», «Дзеці скупога», «Паніхіда на вясковых могілках», «Выхаванка», «Пахаванне селяніна», «Купец-куціла», нарэшце — у адной з самых апошніх сваіх карцін «Чым былі моцныя сувязі шлюбныя», якім сэрцам і якой крывёю іх пісаў, сябе самога адчуваючы прыніжаным у краіне рабства.

Біруля, як мастак-псіхолаг, ведаў, куды і ад каго, куды і ад чаго бег Неўраў у пошуку сваіх карцін — як апынуўся ў Лыскаўшчыне. Шукаў у простым народзе волю і красу. А што знайшоў?..

Сваю магілу пры дарозе.

*1908–1911*

## СІМФОНІЯ

*Лімені,*
*яе леснікам, паляўнічым*

З Петраком, сівым голубам, мы едзем на возе лесам. Я ў яго пытаюся:

— На халеру табе гэтая кабыла?

А ён пытаецца ў мяне:

— Мулка ехаць? Кабылка не падабаецца?

Я спрабую патлумачыць:

— Ехаць з табою мне заўсёды не мулка. І кабылка твая падабаецца. Скура на ёй гарыць, капыт звонкі, гожая, нібы з тутэйшае глінкі, чырвань з пясочкам-папялочкам. Але ж, каб яе, маладую, утрымаць, маладая сіла трэба. Сам кажаш, як яна цябе з ветрыкам пракаціла: дзе фурманка, дзе фурман. Фурманка не бяда, ужо на спраўнай едзем-парыпваем, а сам за бакі паўвясны трымаешся, крэкчаш, як раней не крактаў. Дзякуй Богу, што галава цэлая, жывы. Таму і пытаюся: ці па гадах табе гэтая ластаўка?

Пятрок сумна пазірае мне ў вочы, быццам мяне шкадуючы, усё роўна як зверына не яго, а мяне ледзь на той свет не справадзіла.

— Навошта кабыла? — перапытвае ён і пускаецца ў даўно, як мне здаецца, выпакутаваныя развагі: — А навошта, скажаш, мне лес, ружжо, сабака? Навошта ваўкі, дзікі, цецерукі? Сама вёска Гусарыкі, у зоне, нікому не патрэбная, навошта? І жонка, Мар'я? — Сыпануў пытаннямі мне і сабе ды ўхмыляецца, чакае, што я на іх адкажу, дае хвіліну падумаць. Але адказаць на яго пытанні можа адно ён сам. Мне паслухаць цікава, куды ён ад іх паверне. — Я волі хачу. Лес — мая воля. І ружжо — воля. І сабака — воля. Ды і Мар'я. Як я ўзяў яе, адразу пастанавіў: ты — гаспадыня ля печы, у двары і ў хаце, а я — у лесе, у полі,

на рацэ і за ракою гаспадар. Вось і кабылка бяжыць — мая волюш-ка! Яна ёсць — я запрог і паехаў. Куды і да каго? А куды душа загадае. Чужой тут каманды няма. Іншаму машына лепшая за каня, а ў мяне такія дарогі, што кабылка — самы раз.

Мы сядзім побач, звесіўшы частакольчыкам чатыры нагі, едзем па лесе ці доўгім прагалам, ці зарослай дарогай, нагамі ды коламі даўно не таптанай, не ўкатанай, не выбітай. Пасля халоднай вясны ў цяперашнім мінорна-задумлівым шэпаце запознена-цёплых, з прыпарачкам пасля ціхага дожджыку, яшчэ скупаватых на сонейка днях пачыналася нясмелае, падобнае сваім понаравам да нас, тутэйшых лесавых людзей, лета; зялянінка навокал блішчэла макенькая, чысценькая, у кожным каліўцы непаўторна духмяная, і дарога кацілася духмяная — трава ды трава, кветкі ды кветкі, ані знаку, што тут дарога і нехта яшчэ, апроч нас, яе топча; злева і справа, наперадзе і за спінамі — лясныя сцены, не загусцелыя і задумлівыя ў сваім шэпце. Спачатку, як выехалі на гэтую пуцявінку, я быў здзівіўся, што на ёй ані слядочка ад ног, капытоў, колаў, а пасля, праехаўшы далей, паўглядаўшыся ў яе з трывогаю, даўмеўся: каму ў зоне, арыштаванай ды выгараджанай. дзе калючым дротам, дзе людскімі перасцярогамі-страхамі, хлуснёю ды здрадаю, дарогі таптаць? Чалавек тут, свой і чужы, рэдкі госць, а тым больш з канём ці на машыне. Хіба здзічэлы без гаспадара сабака ці воўк, сам сабе гаспадар, аб'явіцца, спыніцца, звесіць лыч і замрэ, вынюхваючы, ці ёсць тут якая небяспека або спажыва.

Мне ўспомнілася, як аднойчы мы з тутэйшым ляснічым, дарэчы, ужо нябожчыкам, зямля яму, добраму чалавеку, пухам, заехалі ў Гусарыкі да Петрака, проста так заглянулі, без усялякага клопату, едучы міма, і за сяброўскай бяседаю даседзеліся да позняга вечара. А была глыбокая восень. Выйшлі з хаты: хоць вока выкалі — цемра. І тут Пятрок, з прыцэлам ці без прыцэлу на наш паляўнічы імпэт, кажа, што вось правядзе нас, гасцей, і пойдзе пужаць дзікоў за вёскаю, дзе авёс пераспелы на корані — калгас не скасіў і ўжо, напэўна, пусціць пад снег, як у калгасе часта здараецца, — туды дзікі прыходзяць, калі агні ў вёсцы патухнуць, і гэта сімфонія, як яны табуном пачнуць у цішыні смактаць ды чаўкаць. Ляснічы на тую сімфонію загарэўся і мяне ўгаварыў застацца. А стрэльбы ў нас былі з сабою. Выйшлі на рэчачку, а бераг высокі, вада пад ім блішчыць ад маладзіка, нібы сіняя шкліна. Аўсяны клін абышлі. Я заняў баявы пост над самым бродам, дзе кабаны рэчку пераходзяць, а сябры — адзін у адзін бок ад мяне, другі ў другі бок. Стаю ў

аўсах, з каласкоў зярняты ў далонь вылушчваю і ў рот кідаю, на рэчку пазіраю. Ужо ногі задзеравянелі, сесці ахвота, карак ад напругі замлеў, стрэльба ў руках пацяжэла, а кабаноў няма і няма. Ляснічы абазваўся: «Не чаўкай, а то Пятрок глухаваты, цябе з кабаном зблытае — не прамахнецца». Божа, думаю, дзе той ляснічы стаіць, а чуе маё чаўканне, якога сам не чую. І раптам з берага ў ваду: боўць, боўць, боўць, — пасыпалася, нібы каменне, вада закіпела. Бачу, як на бераг выкочваюцца гарбы цёмныя, срабрацца, ды блізка, і ўсе — у мой бок, да мяне. Душа, нібы вопратка з цвічка, калі пяцелька парвецца, шусь уніз, сарвалася, у пяты абвалілася, ледзь не самлеў, але думка ў галаве прачнулася: ну — пекані! Я курок пальцам цап-лап — дзе ён? А гарбы і растварыліся: куды страляць? І ўжо само паветра зачаўкала з усіх бакоў. Дзік побач, мацней за ўсіх чаўкае, хоць ты яго рукамі хапай. Але ж не відаць. Ат, думаю, тут і ўсляпкі, не бачачы, грэх прамазаць, калі пекануць у самае чаўканне, — куды дзік дзенецца? З двух ствалоў і грохнуў. І адразу — яшчэ стрэл, блізка ад мяне. Бура ўзнялася — фур-р! Жалезная сіла як смаляне мяне ў сцягно ды як падкіне дагары — бразнуўся тварам у гразь, а ўвесь шум-гон, чую, ужо далёка, сціхае. Тут як тут ляснічы — ад рогату душыцца і мацюкамі сыпле. А мне які смех? Сцягно агнём пячэ, качаюся з нагою ў руках. Пятрок падбег: «Што з табою?» Спужаліся: можа, падстрэлілі замест кабана? Мяне ў вёску завалаклі, у хату, і ўжо там я стрэльбу ўспомніў — дзе яна? А ці ў тым аўсе ў цемры знойдзеш? Як пасвятлела, Пятрок пайшоў, стрэльбу прынёс ды і кажа: змясілі авёс, слядоў-слядоў, а няма і знаку, каб хто ў кабана пацэліў, нідзе ні крывіначкі. Тваё, кажа мне, шчасце, што дзік міма прайшоў, лычам паветра пратараніў і цябе толькі лёганька плячом зачапіў.

— Лёганька? Нішто сабе.

Цяпер, едучы з Петраком, я глядзеў на лес, перакідаючы позірк з хваінкі на ялінку, з ялінкі на бярозку, з бярозкі на бязгрэшна чысценькі, празрысты ў сонейку дубочак, і сам сабе пасміхаўся. З гэтаю ўсмешкаю пазіраў на Петрака, думаючы яшчэ і пра тое, што яго нечаканыя разважанні пра волю, як ён яе прагне, як шукае не там, дзе шукаюць іншыя, не ў дэкрэтах улады, а ў кабыле, сабаку, ваўках, дзіках, роднай вёсцы, у Мар’і ды кожнай травіне-лісціне, мне трэба абавязкова пакінуць у сшытачку, занатаваць, каб у тлуме-глуме жыцця не растрэсці, не згубіць. Дый начную сімфонію ў аўсах на паперу выкласці, калі распавядаць пра волю ды Петрака.

Гэтак, прызнаюся, я на возе падумаў і ні ў якім сшытачку думанне сваё не пакінуў. Была, вядома, рызыка, што забуду. Але

цяпер, на разгары лета, зноў вось успомніў, выстрачыў на белай старонцы, на паперы, а як выстрачылася, дык і думка заварушылася: тут — пачатак і канец, без працягу, ці пачатак нечага большага? Калі пачатак, то дзе шукаць працяг? У Петраку? На той самай зялёнай дарозе?

Дык куды ж мы з ім ехалі?

Я прыйшоў у Гусарыкі, яшчэ не зусім памерлую ў чарнобыльскай зоне вёску, з лёгкім рукзачком на плячы і з кійком у руцэ. Было гэта як сонейка не на гару нябесную кацілася, а з гары — на схоне дня. Пятрок якраз забаранаваў за хатаю, ад хаты да лесу, сваё бульбянае поле, два гектары, кабылу распрог, пусціў на пашу, сам ляжаў на спіне, раскінуўшы ва ўсе бакі рукі і ногі, падаслаўшы пад плечы муражок і накрыўшыся духмяным у маладой смолцы парасонам старога дуба. Пачуўшы мае крокі, усхапіўся:

— Ляжу ды слухаю, як з лугу ў гняздо прыляцела бусліха, прынесла жабоцьку і корміць дзяцей. А за ёю прыляціць бусел, таксама прынясе. Чакаю.

— Які вывадак? — пацікавіўся я, задзіраючы галаву, каб убачыць, дзе там тое гняздо.

— Два жаўтароцікі, — адказаў Пятрок і спытаў: — Дык што, запрагаць кабылу?

Я не зразумеў:

—Куды хочаш ехаць?

— Ваўкоў падвыем.

— Буслоў слухаеш, а чуеш ваўкоў?

— А ты ж казаў, што прыедзеш на падвыўку?

Вось мы і ехалі пад Гусарыкамі, тут я і дапытваўся ў Петрака, навошта яму наравістая кабыла, і тады ён мне пра волю і адкрыўся.

А хто пра волю ды няволю скажа з большым правам, як Пятрок? Хто больш за яго ведае, што такое воля, якая яна на смак? Ужо і я цягаю на плячах жыццё немалое, шмат да якіх нявольнікаў прыглядаўся, ды роўных яму ў гэтым сустракаў мала. Вольных у нас, здаецца, ушчэнт выкарчавалі, іх і быць не можа пры нашых айчынных путах, страхах ды бедах, а Пятрок усё ж мае выгляд больш-менш вольнага чалавека. Ці тут — толькі выгляд? А можа, ён ведае, як гэтую волю, хоць дробнае яе каліва, здабыць у няволі? Няволя яго душыла, не адна дамарошчаная, душыла і на чужыне, але ж ці яго аднаго? Не аднаго, вядома. Проста ён, як сам аднойчы прызнаўся, з кожнае пасткі знаходзіў сродак вылузнуць і дапяць, чым няволя жыруе, знайсці

ў кожным выпадку зёлкі ад яе шаленства і пакусу. І яшчэ, казаў, з няволі заўважыў два шляхі. Адзін — у вечны хамут, накінуты на шыю дзе чужацкай сілаю, дзе сваімі рукамі, сваёю ахвотаю, калі з няволяю звыкся і яна ўжо як бы выгадная, хамут, можна сказаць, уласнага трыбуха, бо корміць, і другі шлях — да волі, ахвяруючы тым самым трыбухом. Як ні дзіўна, казаў Пятрок, бальшыня людзей выбірае першы шлях. Ён выбраў другі. Не таму, што разумнейшы альбо дурнейшы за іншых, а таму, казаў, што не розумам выбіраў і трыбух ім не камандаваў. Чым выбіраў — не адкрыўся, і я толькі здагадваўся. Цяпер, на возе, ледзь пра гэта падумаў, пра шлях да волі з няволі, як ён, быццам пачуўшы і мае да яго пытанні, паваліўся на бок, твар закаціў да высокага блакіту і заспяваў цягавіта, на ўсе грудзі:

Ой, Дуня, мая ты Дуня…

Пятрок у песні бярэ не голасам і не жыллем — душою. Жылле паперацерлася, як лямец на хамуце ў кабылы, яму дай напругі — згарыць апошняе, голас змыліўся — хрып ды храп, а душа ўсё тая самая, як была, просіць, нібы маладая, песень, не абкілзаных на радыёхвалях ды па тэлевізарах, а сваіх, якія мала хто ведае. Як гэтая, пра Дуню. У горле хрыпіць і клякоча, быццам у пабітым збане і буслiным гняздзе, калі б іх голаснае змесціва ссыпаць у адзін посуд, але песня пра Дуню, як спявае Пятрок, мяне хвалюе да дрыжыкаў, аж у самога ў горле нешта захрасне і тузаецца, на волю просіцца. Стрымлівае думка: як у Петрака — не атрымаецца. З Петрака песня вылятае кавалкамі з крыві ды слёз, у кожным кавалку пакутаў столькі, што я і рот раскрыць не асмельваюся, каб хоць адно слоўка песні вымавіць з ім разам, яму на падмогу.

Салдатка Дуня…

Спявае Пятрок не ўсё адразу, а строфамі, як паэт песню складае, тымі ж кавалкамі, пасля кожнага маўчыць, сілы збіраючы, бывае, што маўчыць даўгавата, і нарэшце, набраўшы ў грудзі паветра, пачынае яшчэ страфу, яшчэ кавалак. Усё адбываецца на вялікім узрушэнні, і калі мне выпадае зазірнуць яму ў вока, бачу я там драбочак выцвіла-звадзянелага блакіту, як той пабліскавае ў атачэнні балеснай чырвані. Пятрок неаднойчы казаў мне штосьці сардэчнае, са слязою, выкалупваючы вадкасць з вока пальцам ці зусім яе не чапаючы, не турбуючыся, што выдае слабіну, але я кожны раз стараўся яго слабіну не заўважаць, позіркам з ім у

гэтакі момант не сутыкацца. Калі ж адчуваў, што нашы позіркі міжволі вось-вось сутыкнуцца, тады адводзіў вочы ў іншы бок ці што-небудзь сам пачынаў казаць.

І гэтым разам — пытаюся:

— Дзе ты знайшоў сваю песню?

Яму, бачу, прыемна, што я песню ўпадабаў. Ён прыўзнімае белую галаву, круціць ёю, аглядаючыся, ямчэй садзіцца побач са мною і ўспамінае:

— У сорак пятым прывёз з Саксоніі. Там нас, ваеннапалонных, немец загнаў пад зямлю, душ дзвесце тысяч, будавалі ваенны завод. Жывых засталося восем тысяч. Па галовах лічылі амерыканцы, калі знайшлі пад гарою, на волю выводзілі. Быў у мяне зямеля, на нарах побач ляжалі. Ён, бывала, сабе на галаву коўдрачку ўскіне і стогне ціхенька. Усе думалі, што моліцца, а я чуў песню.

— Ты ж быў у Майданаку? А дзе тая Саксонія?

— Быў шмат дзе. Вайна папаганяла. Мяне што губіла і што ратавала? Рыдлёўка. Вайну пачаў сапёрам. На батальён — ніводнага ствала. Немец браў нас у полі, як тых курапатак. А ў палоне: рый, крот, як рыў. Ад страху кожны дзірку ў зямлі шукае, а дзірку трэба рыць. І воўк рые, і лісіца рые, і чалавек — хоць наш, хоць немец. Я ведаў нару лісіную, а цяпер гляджу — у ёй ваўкі жывуць. Гукаў — стары адгукаўся. Яго мы сёння зноў патрывожым. Маладыя ўжо вывеліся, яшчэ цёмныя, пачуюць — не зразумеюць, ваўчыца з малымі асцярожная, а стары адгукнецца. І будзе сімфонія.

Дык мы і ехалі на сімфонію — гукаць ваўкоў.

Ледзь вырвалася з Петрака ўзнёслае, ад эмоцый, слоўка — сімфонія, як мне згадалася яшчэ ночачка, пражытая з ім разам, зноў жа і з канём, хоць і не з яго сённяшняй кабылкаю, гадоў, дай Бог памяці, каб не зманіць, дваццаць пяць назад.

Была вясна, я жыў у бакоўцы канторы Ліменскага лясніцтва. З раніцы, пакуль за сцяною і каля канторы збяруцца леснікі ды кліенты, сядзеў за сталом, чытаў і пісаў, а як яны збіраліся, у самы гармідар, ішоў ці да іх, ці на блізкае азярцо, ці праз луг на Сож. А неяк ноччу прачнуўся — хтосьці ў шыбку звякае. Выйшаў на ганак. Цемра — нічога не бачу. І раптам голас: «Гэта я, Халімонавіч». — «Пятрок? Заходзь у хату». А Петраку якая хата? «Паедзем у Гусарыкі. Там цецерукоў — сімфонія! Ужо і будкі стаяць. Іван, братуха, паставіў, запрашае згуляць наваселле». Івана я ведаў. Ён рабіў леснікам, і я браў у яго дровы. З ім і дзікоў неаднойчы падымалі на лёжках. Кажу: «Вёрст дзесяць

з гакам — пакуль дойдзем, сонца ўзыдзе, на ток спознімся». А Пятрок: «Даедзем, калі не дойдзем». Аказалася, што ён прыехаў на кані, не конь — агонь: адвозіў ляснічага дадому ў гарадок і цяпер не хацеў ставіць каня ў канюшню.

І вось мы імчалі цёмным, як прорва, лесам.

Што ўспамінаць тое паляванне? Як задумалі, не атрымалася, заняць будкі загадзя, пакуль жаваранак не прачнуўся, не пабудзіў цецерука, мы спазніліся. Цецерукі ўжо балбаталі, хорам абклаўшы вёску з усіх бакоў, і сімфонія, на якую спяшаліся, пачалася без нас. Каня пакінулі, не распрагаючы, у Івана пад вокнамі, а самі адразу з воза за вёску, і паляваць давялося скрадам, на подслух, тры крокі — стой, хоць на адной назе, калі другою не паспеў за зямлю зачапіцца, замры і не дыхай. Ёсць, вядома, у тых падскоках хваляванне і радасць, але самой сімфоніяй аказалася ўсё ж дарога. Гэта як ужо выехалі на поле перад Гусарыкамі, развіднела, а як ехалі лесам, нішто блізкую раніцу не паказвала. Каня Пятрок не гнаў, адно лейцы адпускаў, і па той вольнасці, што ў лейцах, конь чуў яго і сваю волю і нёс на злом галавы. Дарога круцілася лесам ды лесам, яе паміж хваін ды ялін нават відаць не было, дрэвы высокімі ценямі мільгацелі ўздоўж самай абочыны. Я прасіў Петрака, каб каня трымаў, не даваў яму гэтакай волі, сам разаб'ецца аб дрэвы і нас на той свет адправіць, але ж і Пятрок быў завадны, з маіх маленняў рагатаў ды пачынаў, зноў і зноў, песню, захліпаючыся, бо і песня ў калатнечы на языку не затрымлівалася, скатвалася назад у душу. Ён мне крычаў, каб я за яго трымаўся, і я трымаўся абеcuruч, калоцячыся ў яго за спіною, але драбіны, абедзве адразу, левую і правую, гэтак моцна сціскаў рукамі, што потым, калі выкацілі на поле і спыніліся, не мог выпусціць з рук — пальцы звяло. Спыніліся ўжо не ад страху, які застаўся на дарозе адзаду, — ад жалю ды болю, убачыўшы і пачуўшы тую, на самым уздыме, сімфонію. Уся вёска разам з ваколіцамі, прылеглымі да яе палеткамі збажыны і падлескамі, як вінаватая перад намі, хавалася ў блакітна-шэрай смузе раніцы, захопленая раз'ятраным ад неба да неба цецеруковым гулам, у якім чулася і бласлаўлёная радасць жыцця, птушынага і чалавечага, і нейкая першабытна-грозная ўлада. Аддыхваючыся, ціха стаяў конь, стрыгучы вушамі, як не разумеючы, што адбываецца, і маўчалі, не ведаючы, што сказаць, мы з Петраком. Але раптам Пятрок ускочыў на калені, ускінуў лейцы, гукнуў-крыкнуў: «Во-ля!» — і зноў панеслася наша пагоня, цяпер ужо срабрыста-вохрыстымі ды перламутрава-блакітнымі, з зелянцою, палеткамі, невядома што і каго наганяючы.

Гэтакай шалёна-імклівай дарогі я больш ніколі не перажываў, нават як ездзіў і лётаў на аўто, чыгункаю, самалётамі. Ды і полем тады была не тая язда. Полем мы ляцелі на світанні, калі развіднелая прастора давала рэальнае адчуванне хуткасці і страх не халадзіў душы і сэрца, не было таямніц і загадак язды. Глухой жа цемраю, калі дарогі не бачыш ні ўперадзе, ні адзаду, калі па баках вельмі блізка мільгацяць загадкава-чорныя, выпрастаныя паміж зямлёю і небам, плямы, язда здавалася шмат хутчэйшаю, дзікаю і нікому не падуладнаю, як на той свет.

Цяпер, успомніўшы тую дарогу, я спытаў пра Івана — можа, зноў ехалі да яго?

— Івана ўжо няма, — адказаў Пятрок.

Гэта мяне здзівіла, бо Іван быў маладзейшы за брата, мацак, і жыў у ціхай лесавой глухмені, як у Бога пад кашуляю.

— А што здарылася?

— Рак стачыў, — каратка, без эмоцый і лішніх тлумачэнняў адказаў Пятрок. Плюнуў, смаргануў лейцамі, і кабылка пабегла, танцуючы, а я адчуў, што пласцінку размовы трэба змяніць.

— А хто з талакі, якою мы палявалі да чарнобыльшчыны, яшчэ жывы? Няма Івана, няма Віталя, няма Калача, а хто ёсць?

— Ты ды я, ды мы з табою.

— Адны мы засталіся?

— Яшчэ, памятаеш, да нас прыязджаў, кожны раз з ліцэнзіяй на лася, абласны пракурор. Дык гэтай зімою зноў прыкаціў з ліцэнзіяй. Дырэктара няма — ён да мяне, каб пасобіў узяць лася. А я з ім не пайшоў.

— Вы некалі качку не падзялілі?

— Стралялі адразу абодва, а сабака прынёс мне. Пракурор кажа, што качка яго, а я не спрачаўся. Шрот выкалупаў з качкі, высыпаў і са свайго патрона — там і там самаробны, мой. А ў яго заводскі. Сабаку я апраўдаў, а качку, кажу, бяры.

— І ён узяў?

— Пакрыўдзіўся.

— Табе тая качка магла дорага каштаваць.

Намёк Пятрок зразумеў. Тады, пасля палявання, ад'язджаючы, пракурор паклікаў яго да сябе і спытаў: «Як ты адкруціўся за свой палон? Пасля вайны ўсіх, хто здаўся немцу, высылалі на казённы харч. Ты ж на нямецкай баландзе пажыў, а на савецкай не разгавеўся. Як удалося?» Спытаўшы, чакаць, што адкажа Пятрок, не захацеў — у машыну і пагазаваў. Абы страху нагнаць.

Лес скончыўся, і мы звярнулі пад ліпы, за якімі сівела жыта. Пятрок саскочыў з воза, абкруціў лейцы вакол дрэва, узяў хатылёк і фуфайку.

— Ну, прыехалі.

Я таксама злез і агледзеўся. Далей, як канчаліся ліпавыя прысады, у два рады стаялі хаты, міжраддзе ляжала шырокае, незатаптанае і незаезджанае, зялёнае, хаты — не гнілякі, але калі прыгледзеўся, то заўважыў, што і жыцця ў хатах не было. Вокны ў бліжэйшай павыбіваныя, праз іх відаць, што падлога ўзарваная, канцы дошак тырчэлі з вокнаў, шыферны дах ад вільчыка да ніжняга раду разабраны, а ў хаце насупраць звалены комін, і ў даху чарнела дзірка, абсыпаная цагляным друзам. Першага моцнага ветру, каб легчы і не падняцца, чакалі платы і варотцы.

Я спытаў у Петрака, куды мы прыехалі, і ён адказаў, што гэта Гусарыкі.

— Як Гусарыкі? З Гусарыкаў выехалі, ехалі-ехалі…

— А тут куды ні паедзеш — Гусарыкі, адны яны, сталіца зоны, а ў Гусарыках, у сталіцы, Пятрок ды Мар’я, астатнія, вёскі і людзі, або ў зямлі, або ветрам змяло.

Дзе пачыналася жыта, узвышаўся грудок, зарослы кусточкамі палыну, маладымі дрэўцамі, пасыпаны жоўтымі слёзкамі дзьмухаўцу. Пятрок падняўся на грудок, кінуў пад ногі фуфайку і хатылёк.

— Я табе абяцаў паказаць месца, дзе мая пупавіна закапаная. Сюды і прыехалі, — нечакана разагнаў ён хмаркі ў маіх вачах. — Гэта ж роднае печышча. Як я нарадзіўся, бабуля схапіла мяне на рукі, а кішачка матляецца, мая з мамай вяровачка, дык яна яе — смаргень, і курам пад печ. Куры яе там, можа, здзяўблі, а хутчэй за ўсё закапалі. Калі сказалі, што вёску трэба кідаць, некуды перасяляцца, я адказаў: тут мая пупавіна, тут будзе і мой пуп. А Іван — як усе: зрабіўся перасяленцам. Праз тры гады вярнуўся — хаты няма. Ён да мяне: дзе хата? Кажу: улада забрала. Ён да ўлады, а там адмахнуліся: мы табе за хату сплацілі — якія пытанні? Было, што, як людзі выехалі, улада прыборчыкамі кожную хату прасвяціла і чыстыя пабрала сабе, сваякам, сябрам — на дачы, на хлявы. Іванаву харому павезлі першай. Я кажу: жыві ў мяне. А ён гэтак убіваўся, перажываў, што звёў сябе ў магілу.

— Іванава хата стаяла на гэтым печышчы?

— Тут бацькава стаяла. Яе Саветы даўно разабралі, вывезлі, як бацьку раскулачылі. А печ засталася. Мы, дзеці, сямёра хлопцаў, з печы — і ў лес. Другую паставілі. У ёй потым жыў Іван. Печ бацькава, а хата ўжо свая.

— А чыё жыта?

— А жыта маё. Засяваю два пляцы, суседаў і Іванаў. Акрамя мяне, сеяць няма каму, зямля дзічэе.

— Цяпер цябе раскулачаць. Тут ці не больш за гектар, ды дзе жывеш — два з гакам, ды конь, карова, кабаны, авечкі.

— А ўжо кулачаць, — прызнаўся Пятрок. — Днямі выйшаў за парог — стаяць два міліцыянты і трэці ў касцюмчыку. Трэба, кажуць, вобыск чыніць. А што вы хочаце знайсці? Што трэба, тое пашукаем, як знойдзем — забяром. А я ім кажу: зімою шукалі, забралі ружжо і не вярнулі, цяпер бярыце Мар'ю — у вас у горадзе лякарня, можа, падлечыце, а то яна зусім ляжыць. Кажуць: ты, стары, жартаўнік.

— А за што яны ў цябе ружжо забралі? — спытаў я. — Без ружжа ў лесе як аднаму жыць? Можа, няма на ружжо дакументаў?

— Дакументаў хапае, а ружжа няма. Невядома што тут, кажуць, страляеш. А цяпер забралі бензапілу. Як жа я, пытаюся, дроў адзін напілую? Смяюцца: вось табе, стары, паперка, што із'ялі. А што мне паперка? Паперкаю дрэва не спілую. Паехалі, і пілу павезлі.

Вечарэла. Цені ад ліп ляжалі праз грудок доўгія, аж да лесу, ветрык ад жыта абдаваў твары волкай свежасцю. Пятрок разаслаў на грудку фуфайку, вытрас з хатылька ўсё, што ў ім было, а былі і паўлітэрка, і зялёная цыбулька, і сала. Сеў і мне загадаў сесці. А я падумаў, ці не рана Пятрок патрос хатылёк, яшчэ ж нам трэба ехаць недзе гукаць ваўкоў, намякнуў на гэта, заўважыўшы, што цені касыя і доўгія, але ён мяне зразумеў на гэты раз не так, як я хацеў: падняўся, пайшоў да кабылы, распрог і пусціў на пашу. Вярнуўшыся, сеў на краёчак фуфайкі, наліў у дзве чаркі, доўгім позіркам уставіўся ў лапічак жыта пад грудком. І тады я спытаў, ці далёка нам яшчэ ехаць.

— А тут і пагукаем, — адказаў Пятрок.

— У вёсцы на печы?

— А ваўкі заўсёды да мяне ў вёску прыходзілі. У лесе я іх шукаў, а ў вёсцы — яны мяне. Як бацькаву хату растрэслі, сяджу я на печы і плачу. А матка пытаецца, чаго выю — ваўкоў збіраю? І ўся вёска казала, што я не плачу, а выю, як воўк, і каб не выў, ваўкоў не гукаў у вёску.

Пятрок падняў сваю чарку, і я ўжо чакаў, што ён скажа пра бацькава печышча, каб за яго і выпілі, ці пра сваю волю, як яе шукаў, знайшоў ці не знайшоў, якая яна тут, у зоне, а ён раптам — за ваўкоў. Чаму за ваўкоў? Хіба не ты, Пятрок, пытаюся, быў іх першым у лесе страхам? І ці не яны, калі ахоўваў аленяў, былі табе першай бядою? А ён паўтарыў: за ваўкоў. Тады я спытаў: за якіх? Можа, за тых, на каторых я аднойчы выспаўся

ў тваёй егерскай хатцы? Ён расчулена паглядзеў мне ў вочы і з усмешкаю дадаў:

— За жывых. Я люблю жывых.

А я ўжо сядзеў з успамінам яшчэ адной ночы.

Была зіма. Мы з ляснічым загулялі ў канторы лясніцтва і надумалі раніцою абкласці ваўкоў, якіх леснікі высачылі. Нам для гэтае справы патрэбныя былі Пятрок і сцяжкі. Мы ведалі, што яны, Пятрок і сцяжкі, у вальеры, але не ведалі, як да вальеры дайсці — ногі не слухаліся. Ляснічы ўклаўся на лаўцы, захроп, а я, маладзейшы, выйшаў на ганак. Ноч была з лёгкім марозцам, церусіў сняжок, лагода лесу адпаведна настройвала душу, а настрой некуды вёў, хацелася ісці ды ісці ці доўга-доўга ехаць да нейкай, можа, не зусім яснай дабрыні і цеплыні, да радасці. Я выйшаў на дарогу, што лесам вяла на асфальтавую шашу, і не ведаў, куды іду, проста ішоў, як хацелася, па блакітным, зялёным, сінім пушыстым снезе, пра штосьці светлае думаючы, штосьці наперадзе мроячы. Не заўважыў, як перайшоў асфальтоўку, можа, таму не заўважыў, што яна ляжала не шэрая, як звычайна, а ў іншых, куды весялейшых, колерах і што была зусім ціхая — ніводнай машыны. Апынуўшыся каля вальернае брамы, сам гэтаму здзівіўся, бо ішоў без усялякіх намераў куды-небудзь прыйсці. Нават не адразу і браму пазнаў. Але пазнаў на ёй замок і завалу, і варотцы побач. Руку між дошак прасунуў, на тым баку адкінуў зашчапку і пайшоў далей. А далей, праз сотню крокаў, на ўзгорачку стаяла хатка. Пагрукаў у дзверы — зачыненая і ніхто не абзываецца. І ў вокнах цёмна. Успомніў, дзе Пятрок хавае ключ. Рукою за луткай пасоўгаў — знайшоў. Адчыніў дзверы, на сцяне намацаў выключальнік, але святло не загарэлася. Пераступіў парог, зачапіўся за нешта нагою і паваліўся на цёплыя падушкі. Яшчэ падумаў, што ў хаце Пятрок напаліў, каб не замёрзнуць, і на падлозе сушыць падушкі.

Прачнуўся на золаку. Лядок на шыбках яшчэ быў сіні, але жаўцеў. Паглядзеў на акно адным вокам, потым двума, заплюшчыў вочы: дзе я? Пад спіною — штосьці нязвыкла мяккае, але гарбатае. Рукамі пад сабою памацаў: аўчына? Расплюшчыў вочы і жахнуўся: аграмадная аўчарка ляжала на баку побач са мною, прыўзняўшы галаву, глядзела на мяне зялёнымі шклянымі вачыма. Я пасунуўся ад драпежнае пашчы бліжэй да дзвярэй, але каля парога ляжала яшчэ адна, абраслая густой шэрай поўсцю, выскаліўшы жоўтае з сінізною клычча. Ваўкі? Галавой адчыніў дзверы, זваліўся ў сенцы і толькі там, за парогам, канчаткова прачнуўшыся і ацверазеўшы, зразумеў, што адбываецца, зарага-

таў. Тры дні назад сюды з аблавы прывезлі ваўкоў, паскідалі за хатаю з машыны ў снег, яны ляжалі на марозе, і цяпер Пятрок напаліў грубку, зацягнуў шэрых у хату, паклаў на падлозе аднаго пры адным, чатырох, каб адталі, каб садраць з іх, цёплых, скуру, і гэта яны, ужо мяккія і цёплыя, былі тымі пухавікамі, на якіх я адаспаўся.

А ці была тады аблава?..

Ваўкі ішлі ўздоўж чырвоных сцяжкоў, уздымаючы з-пад сябе снег, пушысты і лёгкі, ішлі адзін за адным, цугам, кладучы глыбокую сінюю баразну… Я спытаў:

— Як жа так, Пятрок? Яны, жывыя, былі твае першыя ворагі?..

І ён мне адказаў нечакана:

— Я тады думаў, што першы вораг аленя — воўк. А потым убачыў, што першы вораг — чалавек. Я аленя бярог ад ваўка, а трэба было берагчы ад чалавека. Воўк ведае законы лесу, яны ў яго ў крыві, і ведае меру, а наш чалавек не жадае ведаць ні законаў прыроды, ні меры сваёй прагнасці.

Ваўкі ішлі ўздоўж чырвоных, нібы плямы крыві на белым снезе, сцяжкоў, а мы з Петраком стаялі ў крузе, у загоне, і добра бачылі, як прыгожа яны ішлі. Нас шэрыя пачулі даўно, можа, як толькі мы тут з’явіліся, чулі, як абносілі іх лес сцяжкамі. Раскруціць сцяжкі ўдалося хутка, і, пакуль леснікі іх раскручвалі, мы з Петраком трымалі ваўкоў у крузе, каб не прайшлі там, дзе сцяжкоў яшчэ не было. Круг абнеслі невялікі, зрабілі ўсё без сумятні, і ваўкам нічога не заставалася, як шукаць разрыў у ланцугу. Калі яны выйшлі на чырвоную лінію, быў самы момант іх браць, класці на снег, тым больш, што ішлі яны купна, адзін за адным, і добра глядзеліся ў зрэджаным хвойніку. Але тут ужо хлопцы прамарудзілі. Два няўдалыя стрэлы, адзін за адным, павярнулі шэрых назад, у наш бок, і тады стрэліў Пятрок. Малады воўк, што ішоў другім, следам за мацёрым, выпрастаўся на снезе, але астатнія пайшлі цераз яго, і мацёры, адчуўшы бяду за спіною і наперадзе, рэзка звярнуў са сцежкі, нырнуў у снегавы пухавік пад чырвоную лінію і паплыў, нібы па вадзе, і ўсе астатнія леглі, як ён, на снег і паплылі той самай, пракладзенай мацёрым, разорай. Снег ад іх разлятаўся ў бакі, курэў над імі белым пылам, і гэта таксама была сімфонія, якая зачароўвала, прымушала нас забыць на сваю недалікатную работу…

Я перапытаў:

— Чаму ты кажаш, што аленяў трэба берагчы ад чалавека?

— А дзе цяпер нашы алені?

— Ну… зона, радыяцыя.

— І зону, і радыяцыю не чалавек сюды прынёс? Але я і не пра гэта. Калі яшчэ зону не выгарадзілі, пра радыяцыю, як пра бяду, маўчалі, што ўжо тады зрабілі з аленямі?

І тут я замоўк, бо зразумеў, што Пятрок успомніў, пра што і пра каго падумаў.

Тыя людзі з’явіліся ў вальеры надвечар на дзвюх чорных «Волгах», і з імі на сваім старым «казле» прыскочыў дырэктар лясгаса — Віталій. Гаваркія, ганарыстыя, як сапраўдныя гаспадары, яны паздароўкаліся з Петраком за руку, калі дырэктар назваў яго галоўным егерам, але яму пра іх, адвёўшы ўбок, сказаў адно тое, што начальства высокае, са сталіц, заехала на дзянёк адпачыць, і тут ужо ён, Пятрок, павінен пастарацца дагадзіць. Было ў гасцей што і выпіць, і закусіць, іх маладыя шафёры хуценька, з увішнасцю рэстаранных афіцыянтаў, заставілі доўгі, пад хвоямі, стол пітвом і закуссю, а Пятрок распаліў вогнішча, зварыў юшку, бо і свежая рыба ў яго знайшлася, у двух спальных пакоях заслаў чыстай бялізнаю ложкі і, ужо як пір гудзеў, падаўся на сена ў пуню. А раніцою, калі, падняўшыся, сядзеў на калодзе ля пуні, здалёк пазіраючы ў бок хаты, ці не падняліся і госці, прыйшоў дырэктар і сказаў, што трэба пагукаць ваўкоў. Пятрок здзівіўся: якое гуканне раніцай, ды і хіба на ваўкоў людзі прыехалі?

Дырэктар сказаў і пайшоў. Іншай каманды Петраку не было — застаўся на калодзе. А праз нейкі час пад’ехаў дырэктараў «казёл». Шафёр адчыніў дзверцы, пасадзіў Петрака побач з сабою і пагазаваў не да хаткі, дзе ўсе сабраліся, а ў іншы бок. Гэта Петрака таксама здзівіла: калі гукаць ваўкоў, дык навошта далёка ехаць? Але шафёр сказаў, што ёсць каманда.

Заехалі ў канец вальеры, аж за вярсту. Пятрок пачаў гукаць. Ваўкі не адгукаліся. Чуваць было толькі трэск галля ў блізкім ельніку, ляскат рагоў ды дробны тупат — трывожна ўсхапіліся алені. Пятрок бачыў, як яны павыскоквалі з ельніку, збіліся, спалоханыя, у гурт на прагаліне. Калі ён даў голас яшчэ раз, табуном кінуліся праз бярэзнік у той бок, дзе стаяла егерская хаціна. Заўсёды, пачуўшы ваўкоў, алені збіраліся на ўзгорку каля хаты, пад вокнамі, пад ганкам, ведаючы, што егер іх абароніць. Табун прыводзіў Пан, стары мудры алень, важак — і цяпер Пятрок таксама бачыў наперадзе табуна яго магутную рахманую постаць, увенчаную велічнымі, нібы карона, рагамі. Пачуўся блізкі стрэл, за ім — другі, трэці. Прыйшлі ваўкі? Гэтага быць не магло. Але тады навошта і хто страляў, калі няма ваўкоў?

Толькі гэтак Пятрок падумаў, як страляніна пачалася шалёная. Ён кінуўся да машыны, але шафёр корпаўся пад капотам — машына не заводзілася. Тады Пятрок пабег. Шафёр крычаў наўздагон, каб вярнуўся, паедуць на машыне, ды той яго ўжо не чуў — бег на прагал, дзе выбітая аленямі сцежка вяла да хаты. Яшчэ ён не бачыў перад сабою ні ўзгорка, ні хаты на ім, а сэрца калацілася не толькі ад таго, што доўга і хутка бег, але і ад прадчування, што там, куды бег, бяда. Яе ён асабліва востра адчуў, убачыўшы дзвюх алянушак, якія імчалі яму насустрач, але звярнулі ў алешнік, ды калі ўжо блізка ад хаты, пад узгоркам, убачыў Пана — стаяў, абсунуты, на каленях, і на фоне пунсовага, на ўзыходзе сонца, неба карона яго пагойдвалася, як хацела зваліцца з галавы. Пятрок быў кінуўся да аленя, але спыніў яшчэ адзін запознены стрэл. Падалося, што нехта стрэліў па ім.

У той дзень Петрака прывезлі ў раённую бальніцу, і там ён ледзь не месяц адлежаў з сэрцам. Яго наведаў ляснічы, ад якога Пятрок пачуў, як з вальеры на грузавіку вывозілі бітых аленяў, як пад гарою дабівалі Пана, сякерай выломвалі з яго рогі — залатую карону пушчы, як праз колькі дзён тыя ці не тыя, можа, іншыя, але напэўна з той самай каманды людзі расстрэльвалі апошніх аленяў, што яшчэ хаваліся па вальеры, і як ноччу мужыкі — хто ж іншы мог адпомсціць? — спалілі вальерную агароджу, браму і егерскую хаціну.

Алені, каторыя збераглiся ад пагрому, выйшлі ў пушчу.

Сонца закацілася за лес. У ліпах над печышчам спявалі дразды і салоўкі. Сівы туманок прыбіўся да падлеску, сеў на луг і жыта.

Успамін крывавае раніцы перанёс у тую бяду маю душу, ды я здаўна ўвесь быў там разам з Петраком, з драздамі ды салоўкамі, якіх чуў тут. Я ўжо не думаў, куды і навошта мы з Петраком сёння прыехалі, дзе сядзелі, чаго чакалі, і здрыгануўся, калі вухам злавіў трывожнае водгулле. Яно мацнела, падымалася вышэй, спачатку як бы толькі ўва мне, але ўва мне яму было цесна, яно ўзнялося і нада мною, паплыло па-над лугам, па-над жытам, па-над лесам, задрыжэла, захвалявалася высака і апусцілася, ачахла. Я агледзеўся: што гэта? Пятрок сядзеў да мяне спіною, разагнуўшыся, адкінуўшы назад плечы і голаў, трымаючы рукі каля рота і цяжка дыхаючы ў далоні. Я пачуў яго напружанае дыханне і зразумеў, што гэтак ён пачынае сваю і не сваю, сваю і ваўчыную песню. Пачаў і нечага зрэзаўся.

Я засяродзіўся, чакаў, што зараз, супакоіўшыся, Пятрок зноў пашле свой голас у пушчу — ваўкам, але пачуў — да сябе:

— Еду я днямі, дзе мы з табою ехалі, а наперадзе, на дарозе пад дубам, стаіць, глядзіць на мяне і на маю кабылку анёлачак. Я — тпр-ру-у, кажу, стой, Воля, з драбін злез, лейцы на драбінах пакінуў, абышоў кабылку, ціха іду, каб і пад нагою не хрупнула, рукі наперад працягваю, а ён стаіць, бачу, калоціцца, не ведаючы,ісці да мяне ці ад мяне. Я бліжэй, бліжэй, толькі б яго ўзяць, а ён — скок за дрэва і стаіць, глядзіць. Я зноў да яго, а ён зноў ад мяне, я да яго, ён ад мяне, кідаюся праз пні-калоды — злавіў. Ён як закрычыць галаском цененькім, нібы дзіця. Я прыціскаю яго да грудзей, а ён калоціцца, сэрца, чую, ледзь не выскача, і маё гэтак калоціцца, яго і маё — аднолькава, адно аб адно, аж за абодва страшна. І такі прыгожанькі, шакаладненькі — ну, казлянятка. Белымі фасолінкамі пасыпаны, а тварык цёмны. Гладжу — ён супакойваецца. А калі, думаю, забраць з сабою, Мар'і паказаць? Не, сплачацца без маткі, і матка сплачацца. Яна ж напэўна блізка. Дзіця сваё да мяне паслала і глядзіць, якая ў нас з ім будзе размова. Я прысеў, пусціў яго на дарожку, а ён зноў да мяне, да рук просіцца. Я падняўся і да яго, а ён — ад мяне. І я зразумеў: як стану на ўвесь рост — ад мяне бяжыць, як прысяду ніжэй — да мяне, бо на ўвесь рост — я чалавек, ён чалавека баіцца, а як прысяду — быццам не чалавек, маленькі, яму свой, ён ужо да мяне ідзе, мызкаю мне ў твар і ў грудзі соўгае, абнюхвае. Дыханне цёпленькае-цёпленькае.

— Дык хто гэта быў? Анялок? Ці казляня?

— Алянятка, чысты анёлачак. Але ж і матка недзе блізка. Яна ў яго такая — малое то ад сябе адпусціць, то зноў да свайго боку, пад сябе схавае. Жыць прывучае. Да мяне адпусціла — пазнала, значыць. Яна ж, можа, мяне яшчэ з вальеры памятае?

Хліпнула ў горле ў Петрака — замоўк. Я сядзеў у яго за спіною, ён мяне не бачыў. Я не адварочваўся і глядзеў, як плача, далоньмі выціраючы твар.

Сцямнела. Крапчэла пад поўняю ноч. Дразды замоўклі. А салоўкі спявалі.

— Налі па кроплі, — сказаў Пятрок.

Я наліў. Падаў.

— Ружжо забралі, пілу забралі. Пытаюцца: дзе гармонік? А я свой гармонік у цэлафанавы мех і пад карову, у гной закапаў, каб не знайшлі. Кажу: нямашака. Яны мяне хочуць з Гусарыкаў выжыць, апошняга. А куды я пайду, калі сюды прыходзяць мае алені, мае ваўкі? Яны ж мяне памятаюць, ведаюць.

Маўчалі, доўга маўчалі. Ці мне падалося, што доўга? Бо цемра, ціхата. Само паветра нібы чакала нейкага зрыву, надрыву, разрыву.

Пятрок зноў прыклаў далоні да твару і адразу моцна, не як першы раз, не з-пад зямлі, а тут адразу, на яе паверхні, не водгуллем, а гулам, да ўсёй пушчы адкрытым і моцным, дыхнуў у глыбіню ночы, і гэта ўжо завыў не чалавек, а воўк. Я пасунуўся на край печышча, каб не замінаць Петраку, і зводдаль яго постаць на ўлонні сіняга, з першымі зоркамі, неба, з поўняю па-над лесам, магла б здацца мне зданню, знакам, выяваю зоны, калі б не рухалася ў прасторы, то выцягваючыся ўперад, то адхінаючыся назад, выцягваючыся і адхінаючыся, і каб не рукі, якія то хапаліся, нібыта ў шаманстве, за твар, то адрываліся ад яго разам з голасам, ляцелі ўперад, у прастору зямлі і неба. Мне здалося, што ў гэтую хвіліну Пятрок чуе сябе не чалавекам, а воўкам, і ці не ў гэтым, падумалася, была яго апошняя магчымасць здабыць волю, якую прагна шукаў усё жыццё.

Голас сарваўся на высокай ноце — Пятрок сказаў:

— Адгукнецца. Але не адразу. Будзе мяне правяраць. Вытрымаю ці сарвуся? Каб не памыліцца: я — чалавек ці воўк? Хто каго? Калі адгукнецца, я яго сюды прывяду.

Воўк не спяшаўся адгукацца.

***1997***

## ДЗЯЛЬБА КАБАНЧЫКА

Ад аўтобуснага прыпынку Сцяпан не пайшоў на прасёлак, які кругам, паўз магільнік, вёў у вёску, а падаўся выганам, як бліжэй.

Таго выгану трыста крокаў. А за ім — матчын плот.

Нагою адкінуўшы ў плоце штыкеціну, якая вісела на адным цвіку, ён прасунуў у дзірку сумку, паставіў за плотам, за ёю бокам пралез сам. Штыкеціну прыладзіў на ранейшае месца, быццам веснікі зачыніў.

Снегу і тут, у вёсцы, ані парушынкі, як усю дарогу ад Мінска, ні на выгане, ні ў садзе, хоць пара б ужо легчы. Падумаўшы гэтак, Сцяпан пастаяў пад яблынькаю, агледзеў, галаву задраўшы, чорнае голле, абвёў вачыма падшэрхлую, не сагрэтую снегам зямлю, па якой вецер расцягаў бурае пакурчанае лісце, раскатаў дробныя гнілякі-яблыкі. Падышоў да старой грушы-вінёўкі. Яшчэ грушкі віселі, вышэй — гусцей, ды буйныя, жаўтлява-зялёныя, нават лісце трымалася, пажоўклае. Паставіўшы сумку на зямлю, Сцяпан падскочыў, груш не дастаў, але галіну зачапіў — дажджом сыпанулі.

Падабраўшы з зямлі ладную, у руцэ ледзь месцілася, самую жоўтую грушку, кусануў, але ні грама не адкусіў — камень каменем. Сок, праўда, лінуў, салодкі. Паглядзеў на яе, падзівіўся, падкінуў у руцэ і схаваў, пашкадаваўшы выкідаць, у кішэню.

Каля хлява, як заўсёды, прывітаў Арсік: выскачыў з будкі, звякаючы ланцугом, стаў на заднія лапы, пярэднімі гроб у паветры, нібы плывец у вадзе, цягнуўся мордаю да Сцяпана, вёрткім пушыстым хвастом, чорным, як увесь сам, мёў зямлю. Сцяпан прысеў ля сабакі, малога, хоць ужо старога — парода такая, — аберуч узяў галаву, лагодна, нібы вінаваты, глядзеў у адданыя сабачыя вочы.

— Ну што? Без мяне тут сумуеш? — Сабака аж калаціўся ад радасці, цёплым языком лізаў рукі, а Сцяпан яго адпіхваў. — Ды пачакай! Вось… прывёз і табе.

З кішэні балоневай курткі выцягнуў кулёк, разгарнуў на калене газетную паперу — падняў над сабакам вараную, са сваёй рабочай сталоўкі, рыбіну.

Арсік падскочыў, схапіў гасцінец і павалок у будку.

Маці выйшла з хаты. Два пустыя вядры ў руцэ — ішла па ваду. Сына заўважыла — спынілася пад акном. У рыжым, старым, палапленым кажусе, у шарсцяной хустцы, якую Сцяпан купляў у Мінску яшчэ да арміі.

— Ну што ты стаіш? — спытала зводдаль і замоўкла, адно вачыма лагодна ўсміхнулася, нібы казала-клікала: ну падыдзі да мяне, сынок…

Вёдры на зямлю паставіла, сама падышла.

Упартая стрыманасць у Сцяпанавай натуры змалку: руку падаў і больш — ані знаку, што рады сустрэчы з домам, з маці. Але гэта — адно першая хвіліна. Потым як глянуў маці ў вочы, малыя, нявінныя, нейкія галубіныя, з самотнай пякучай чырванню, у гусцейшых, як апошні раз, калі бачыліся, маршчынах, сэрца скранулася: сунуўся халодным носам у матчын твар, пацалаваў у шчаку. Ад непрывычкі засаромеўся сваіх раптоўных пачуццяў — адхінуўся, апусціў вочы, быццам не ведаў, як апраўдацца.

Маці сама знайшла словы, ціхія і простыя, як не заўважыла сынавай разгубленасці:

— Вось ты, Сцёпа, узяў мяне за руку, і яна ўжо заныла. — Левай памацала правую, пад локцем. — Сёння ноччу была аднялася. Я і ў хустку ўкручвала, і шкіпінарам націрала.

— Да доктара ці хадзіла?

— А што доктар? Кажа, гэта ад нерваў. Ад сэрца. А калі так, то якое лячэнне?

— Як жа ты робіш? — паспачуваў Сцяпан.

— А так і раблю. Пасяджу, пастагну, крыху адпусціць. А пасля зноў. Добра, што прыехаў. А то б і не ведала, як з кабаном управіцца.

— Гэта мне Волька сказала, каб ехаў, што ты кабана біць надумала. Учора б выехаў, ды рабіў позна, у другую змену. А сёння ў мяне выхадны. І заўтра.

— Волька ж прыедзе?

— Абяцала.

— А Вера? Яна ці ведае?

— Волька званіла.

— Каб усе сабраліся. А то на Каляды вас не дачакаешся. Веру ад самай вясны не бачыла. Гразілася, што сенаваць прыедзе, і не прыехала. Забываеце на вёску, на матку.

Яна залыпала вачыма, і Сцяпан, ведаючы, якія лёгкія ў яе вочы на слёзы, паспяшаўся загаварыць пра іншае:

— Ідзём, кабана пакажаш.

Яна адчыніла хлеў, і цёплы, густы дух гною чухнуў у твар, выкаціўся на двор, а з двара святло ўкацілася ў хлеў, высвеціла высокі груд саломы ад сцяны, пад страхою, сячкарню, нацярушаную пад ёю сечку, з другога боку — загарадзь, слупы і жэрдкі, паабгрызеныя кабанамі, закарэлыя. Кабаны совалі паміж жэрдак лычы, доўгія і шэрыя, нібы ў дзікоў, рохкалі, грызлі жэрдкі, варушачы ружовымі пятакамі, — прасілі есці.

Маці падышла да загарадзі, і Сцяпан падышоў, стаў побач. Глядзелі на кабаноў. Іх было два, не вельмі ўкормленыя, але рослыя, роўныя — як адзін, так і другі, не адрозніць.

Для маці затое не аднолькавыя:

— Вось гэтага вастралычага прыбяром. Вась-Вась!.. — злавіла свінячае вуха, пачухала. — Гэты слабей есць. Абодва елі — толькі давай, хапалі, а пасля што з гэтым зрабілася?..

— Ну… пайду па Лёніка.

Сцяпан выйшаў на вуліцу. За веснікамі пастаяў, агледзеўся. Вуліца была пустая: ні людзей, ні сабак, ніводнай жывой душы. Падумаў, што ўжо даўно не раніца, трэба спяшацца, але пачуў, як за спіною звякнулі матчыны вёдры, — схамянуўся: трэба ж вады прынесці, каб маці хоць сёння не рвала хворыя рукі. Але яна ўжо заварочвала за хлеў, дзе калодзеж.

Вокны Лёнікавы на тым самым баку вуліцы, што і матчыны, праз тры двары. Сцяпан прасунуў руку між штыкецін, адкінуў зашчапку, прычыніў за сабою веснікі, па раўнюткім, з дошак, тратуарчыку прайшоў да новага ганка. Не спяшаючыся ў хату,

агледзеўся, падзівіўся, як Лёнік, малады гаспадар, на якія тры гады старэйшы за Сцяпана, усё ля хаты давёў, панабудаваў хлевушкоў, нават лазенку. Без памочнікаў, сам. І цесля і сталяр.

Ён і цяпер рабіў: стаяў пасярод сянец ля стала, на якім ляжала шкло, прымерваўся доўгай лінейкаю, трымаючы паміж пальцаў алмаз.

— Здароў, вечны труженік! — прывецiў Сцяпан. Той спадылба, праз бялявыя валасы, звешаныя на вочы, паглядзеў на госця, не адрываючы рук ад шкла і лінейкі, бадзёра, Сцяпану ў лад, адказаў:

— Прывет рабочаму класу!

Шаркнуў алмазам уздоўж лінейкі, пасунуў шкло на край стала, лёгенька разламаў напалам. Павярнуў другім бокам, зноў прыклаў лінейку, зноў шаркнуў — шкло хруснула, дзынкнула, вузкі пасак раўнютка адскочыў. І толькі цяпер Лёнік паклаў алмаз, падаў госцю руку.

Пад вялікім, на паўсцяны, акном веранды стаяла такая самая фрамуга, яшчэ жоўценькая, свежая, нядаўна з-пад гэбля.

— Падвойныя ў сенцах? Здаецца, ніхто не ставіць, — заўважыў Сцяпан, здагадаўшыся, што задумаў сусед.

— А я пастаўлю.

— Адзін дома?

— З малым.

— З Віцем?

— Другога пакуль няма. Пад другога яшчэ толькі падмурак завёў, — з годнасцю ўсміхнуўся Лёнік.

— Валя дзе?

— На ферме. Ну заходзь у хату.

Лёнік шырака адчыніў перад Сцяпанам дзверы, але Сцяпан іх зноў зачыніў:

— Пойдзем да мяне.

— А што ў цябе?

— Трэба кабана закалоць. Швайка ёсць?

Сусед змоўчаў, але па тым, як паглядзеў на свае брудныя штаны, на далоні, як зняў са сцяны старую фуфайку, ускінуў на плечы, як узяў з падаконніка кепку, хвастануў ёю па калене, выбіў пыл з пілавіннем, ускінуў на галаву, Сцяпан зразумеў, што Лёнік ужо збіраецца, без лішніх слоў. Тут жа, у сенцах, адчыніў дзверы ў клецьь, зайшоў туды, у цямноту, заляскатаў жалеззем, нештачка шукаў.

— Паяльную лямпу браць? — спытаў.

— Ёсць у маткі.

— Дзвюма хутчэй. А бензін?

— Можа, ёсць, а можа, няма.

На дне ў каністры плёскалася — вынес з клеці і лямпу і каністру. Паставіў адно і другое ля парога, прынёс шыла не шыла, штых не штых, тую самую швайку, да белага бляску надраеную жывым свіным салам.

— Даўно яна табе служыць.

— Каб жа мне аднаму. Усёй вёсцы. Хто кабана ні б’е, усе да мяне: дай, Лёнік, швайку. Вяртаюць — і свежы кавалак у прыдачу. Можна кабаноў не трымаць, швайка пракорміць.

Ён ужо выйшаў на двор, а Сцяпан не паспеў, затрымаўся ў сенцах, калі хатнія дзверы адчыніліся і на дзвярной ручцы, ухапіўшыся за яе абедзвюма рукамі, павіс Віця, шасцігадовы Лёнікаў атожылак, мурласценькі, як бацька, з абвіслымі ніжэй пупка штанамі — абармот абармотам.

— Здароў, дзядзька Сцяпан!

Дзе ж таму дзядзьку не запыніцца з пляменнікам? Запыніўся, а малы, доўга не думаючы, схапіў за руку, пацягнуў у хату, прыгаворваючы:

— Ідзі-ідзі, не ўпірайся.

Сцяпан малых любіў, з імі ўдавалася па-людску пагаварыць без хітрыкаў, хованак, і таму, можа, малыя да яго ліплі таксама. А з Віцем дружба асаблівая: ён не такі, як усе малыя. І сур’ёзны, часам, здаецца, мудры, нібы дзед, і смешны — душою з ім адпачнеш. Вось і цяпер пасадзіў Сцяпана за стол, сам сеў насупраць, падпёр галаву кулаком, пытаецца:

— Ты да каго прыйшоў? Да мяне ці да майго бацькі?

Паспрабуй сказаць, што да бацькі.

— Справа ў мяне, — пачаў выкручвацца.

— Эх, дзядзька Сцяпан! — пакутліва, нібы стары, уздыхнуў хлопчык. — Цяжка мне тут жыць. Няма з кім пагаварыць. Думаеш, з бацькам пагаворыш? Маці качку зарэзала, дык ён кажа: дай абсмалю паяльнай лямпаю. Заліў у лямпу салярку і смаліць. Ну, галава старая? Качку тую да носа не паднесці, смярдзіць саляркаю. Во які ў мяне бацька. А маці лепшая? Узяла ды выкінула тую качку сабакам. Пытаюся: навошта ты качку сабакам выкінула? Ужо як-небудзь з’еў бы. Не чуе быццам.

Сцяпан здзіўляўся, як Віця гэтак можа гаварыць, хоць з раўнёю, хоць з дарослым, адкуль у яго бяруцца тыя словы, думкі? Малы, а яму дарослы не дакажа.

— Нешта ты на бацькоў? — спытаў.

Хлопчык глянуў на яго яснымі разумнымі вочкамі:

— Быў у мяне дзед Ёська, тады жылося весялей. Ці помніш Ёську? Во гэта быў дружбак!

— Тут ты ўжо загнуў дык загнуў! — не ўтрымаўся, зарагатаў Сцяпан. — Дзед Еська тры гады як памёр.

— А я і кажу, што памёр. Я шкадую, — яшчэ мацней нахмурыўся Віця.

— Адкуль ты яго памятаеш? Табе тады было тры гадкі. Якія ў вас маглі быць размовы, справы?

Віця засоп, скрывіўся, адно вока хітра заплюшчыў, другім уставіўся на Сцяпана — з прыкрасцю, болем:

— Бачу, што ты не лепшы за майго бацьку. Усе вы… Акрамя дзеда Ёські. То быў чалавек!

Да матчынай хаты Сцяпан бег вясёлы: ну і малы! Прыбег, а кабан ужо ляжыць на баку ля хлява, над ім стаяць маці з Лёнікам, гадаюць, колькі заважыць — пяць ці шэсць пудоў? Маці давала меней, а Лёнік болей. Ён смяяўся, што ўсе жанчыны са сваім вечна хаваюцца, даюць свайму меней, як чужому, а мужыкі, наадварот, сваё перад чужым не зганяць ніколі.

— Дзе ж праўда? — маці дапытвалася ў Сцяпана. — Як па-твойму? Пяць ці шэсць?

— Не ведаю. Вам сюды б Віцю.

Лёнік рэзка, аж са злосцю, сунуў швайку ў сцяну хлява, у шчыліну, сумнымі вачыма паглядзеў на Сцяпана, хацеў штосьці адказаць, ды змоўчаў, адно спытаў:

— Дзе твая салома?

Кабана аднеслі за хлеў, паклалі на чыстую саломку, у пашчу ўсунулі камень, як рабілі заўсёды перад смаленнем. Лёнік распаліў паяльную лямпу. Прынёс сваю і Сцяпан.

Маці прытарабаніла вялізны чыгун з цёплай вадою, прынесла вядро халоднай — абліць гарачыя кішкі, — чыстыя анучы, нажы.

Лёнік трымаў у кожнай руцэ па лямпе, двума слупамі агню зганяў поўсць, распаленую да чырвані, да залацізны, якая тут жа і гасла, асыпалася шэрым прысакам. Сцяпан трымаў кабана за нагу, падварушваў, каб Лёніку лаўчэй было смаліць, следам за лямпамі абшкрабаў гар і так захапіўся, што не бачыў нічога, акрамя кабана, суседавых рук з лямпамі ды нажа ў сваёй руцэ. Абодва стараліся, як сабе. Абсмалілі і абшкрэблі з аднаго боку, пасля, перавярнуўшы кабана, з другога, паклалі на спіну і абсмалілі жывот, ногі, пахвінне.

Нарэшце Лёнік адставіў лямпы, абшкроб і абмыў вушы, лыч, хвост, капыты. Кабанчык быў гатовы. Ён ляжаў чысты, румяны, быццам пірог, які толькі што дасталі з печы. Сусед млосна разагнуў спіну, у добрым настроі ўсміхнуўся цётцы, рады і сваёй удалай рабоце, і ўдаламу кабану, і памочнікам.

Шырокі стары ўслон, які Сцяпан спусціў з гарышча, аблілі вадою, абцерлі, паклалі на яго кабана, пад бакі, каб не скаціўся, падсунулі паленцы, Сцяпан ухапіўся за пярэднія ногі, стаўшы ля галавы, а Лёнік, трымаючы заднюю левую, прыклаў нож да грудзіны.

— Кубак, цётка Ганна! Кроў выбіраць. А куды зліваць? Не выліваць жа дабро?

Яшчэ кроў не выбраў — зноў каманда:

— Чысценькую анучку…

Маці толькі на падачы стаяла ды падказвала як гаспадыня, куды што класці. Праўда, быў яшчэ клопат пільнаваць катоў, каб каторы не звалок кавалка. Двое вусатых сядзелі на плоце, маўчалі, а свой Васіль, здаровы драпежнік, нібы рысь, шэры з белымі лапамі, падбіраўся ўсё бліжэй да свежыны, каўкаў і аблізваўся. Маці зладзюгу ведала — вачэй з яго не зводзіла.

Калі кабана разабралі, расклалі ў тазы, у ночвы, тады прыехала Ніна, малодшая Сцяпанава сястра. Жыла яна блізка, у суседнім раёне, у вялікім рабочым пасёлку, там была замужам, рабіла фельчаркай, але ў вёску, хоць і блізка, наведвалася радзей, як старэйшыя сёстры з Мінска. Яе прыезду маці не чакала і таму, відаць, абрадавалася не менш, як сыну: кінула і кабана і катоў — бегма насустрач.

Сцяпан у гэты час паліў салому, на якой смалілі. Падкінуўшы мокрую ў агонь, паглядзеў на сястрыцу ў белым плашчыку, чырвоным берэціку, лакавых чаравічках, таксама падышоў:

— Во… хоць кабанчык прывёў да маці.

Хацеў сказаць жартам, ды атрымалася злосна. Думаў, што і сястра жартам адкажа, а яна ўскіпела:

— Можа, ты яго гадаваў?

Схапіліся, як чужыя, не паспеўшы павітацца. Але маці не дала волі іхняй спрэчцы:

— Збегай, сынок, у магазін. Бутэльку я вам з Лёнікам прыпасла, ды як на ўсіх — мала будзе.

— Не трэба, — запыніла, супакойваючыся, Ніна. — Я таксама прывезла.

— Ну дык… А дзе ж гэта Лёнік дзеўся?

— Пайшоў сваім свінням даць. Пазней прыйдзе.

— Тады, сынок, сечкі нарэж. Трэба запарыць карове, цяляці. Вось ты, Ніна, доктар. Што гэта ў мяне з рукою? Баліць і баліць. Нічога падняць не магу.

— Можа, сячкарняю сарвала?

Сцяпан прынёс суды вады, вядро ўліў у таз з кішкамі, унёс у хату тазы з мясам і салам, у хаце, у зале, на падлозе раскінуў

цырату і расклаў на ёй свежыну. У печы маці не паліла, каб свежына астывала. Пазачынялі ад катоў дзверы. І тады Сцяпан пайшоў у хлеў.

Дзе сячкарня, там і салома — кладзі пад нож, раскручвай кола. А яно чыгуннае, цяжкое. Сцяпан знайшоў пад страхою маслёнку, змазаў шасцерні, вал, наклаў у латачыну саломы, падсунуў пад нож, налёг на кола. Гэта адно спачатку, на першых кругах, цяжка, а пасля, як раскруціш, кола бяжыць і бяжыць, паспявай рукою махаць: чах-чах, чах-чах. Аднаму, праўда, нязручна: і круці, і салому падкладай. Спіна пруцянее.

— Дзядзька Сцяпан? — скрозь грукат кола і чахканне нажа пачуўся заклапочаны Віцеў голас.

Азірнуўся:

— Што?.. Пасобіць прыйшоў?

— Хай табе бог пасобіць.

— Бог? — здзівіўся Сцяпан. — Ты гэта ад каго пачуў?

— Ад каго? — Віця пашкроб пяцярнёю цемечка, надзьмуўся, вочы адвёў убок, быццам нялёгкае штосьці думаў. — Бацька казаў… — пасоп у нос, зірнуў спадылба на Сцяпана. — Казаў, каб ты садзіўся за стол, яго не чакаў. Яму дурна. Учадзеў ад гэтай, ліха на яе, лямпы.

— Ты што кажаш? — не паверыў Сцяпан.

— А што чуеш.

Цяпер ужо Сцяпан чухаў патыліцу — не чакаў такога. Ды і Лёнік не казаў, каб учадзеў, пайшоў, паабяцаўшы вярнуцца, як дасць свінням. Каб на двары, на ветры ўчадзець?

— Ну я да яго збегаю.

Але Віця загарадзіў дарогу:

— Хай стары спіць. Можа, яму палепшае.

І тут Сцяпан убачыў суседа. Той стаяў пасярод двара ўжо ў касцюмчыку, чаравіках — курыў. Сцяпан абрадаваўся, паспяшаўся з хлява, забыўшы на Віцю.

— Што з табою?

Лёнік глядзеў, не разумеючы:

— Ты пра што?

— Ды галава, кажу… Чаго яна раптам хапіла?

Той спахмурнеў, пачаў азірацца:

— Мой шмаравоз тут быў?

А Віця ўжо выскачыў на агарод і паўз плот, сагнуўшыся, краўся ў бок свайго саду. Лёнік заўважыў, схапіў камлюжыну — яна грукнула ў плот за спіною ў хлопчыка, рассыпалася. Віця на момант прыпыніўся, спалохана азірнуўся і памчаў, аберуч трымаючыся за штаны, каб не згубіць.

Сцяпан і Лёнік пасмяяліся, пайшлі ў хату.

У матчынай хаце, як у кожнай вёсцы, гэтак адвеку вадзілася: дзень, калі калолі кабана, быў святам, за стол збіралі гасцей. Праўда, цяпер госці не тыя, што некалі, пры бацьку, тады іх прыходзіла болей. І пілі болей, і елі болей. Цяпер каго маці пакліча? Жанчыны па хатах не хадзілі, а мужчын не было каму клікаць. Хіба Сцяпану? Але яго сябры разбрыліся па гарадах, як ён сам, нікога такога, яму роўнага, акрамя Лёніка, у вёсцы не засталося. І ўсё ж — як раней, у сенцах і хаце моцна пахла смажанай свежынаю, гарачай бульбаю, на стале свежына стаяла і ў чыгунку, залітая гарачым тлушчам, і на скаварадзе — еш, хоць расперажыся.

Ледзь селі за стол — вароты рыпнулі. Маці першая пачула, усхапілася да акна, фіранку адкінула:

— Нашы прыехалі! Коля… А з ім гэта хто? Волька, мабыць? Можа, і Андрэйка?.. — Выбегла за парог, а следам і Ніна.

Лёнік з-за стала не ўстаў, а Сцяпан да акна падышоў — паглядзець на гасцей.

Бялюткі «жыгуль» стаяў пасярэдзіне двара. Правыя дзверцы адчыніліся, і з машыны вылезла Вера, сярэдняя Сцяпанава сястра. Маці і Ніна падбеглі, расцалаваліся і ўжо ўтраіх стаялі, гаманілі, паглядаючы на машыну, чакалі, калі з яе пакажацца Коля, матчын старэйшы зяцёк. Той марудзіў, але нарэшце асмеліўся вытыркнуць прыгнутую лысую галаву — зяць ледзь пралазіў у малыя дзверцы, бо і таўсты, і высокі, не сказаць каб здаровы, проста таўсты і высокі, тварам ружовы, нібы той кабанчык, якога пашкрэблі, памылі цёплай вадою. У шэрым світары, на які маці некалі прала ніткі, на шыі — доўгі, хамутом, шалік, у джынсах, вышараваных да белага бляску на каленях. Вылез і стаіць, галавы не падымаючы. Насупраць маці, Вера, Ніна, а ён уставіўся на кола, быццам, акрамя кола, нічога і нікога іншага не існуе. Хай ужо Ніна, якую таксама, дарэчы, даўно не бачыў, дык жа маці… Не, падняў галаву, заўважыў:

— Здрасце!

Падышоў, руку падаў, чубам — трыма валасінамі — матлянуў ветліва, вочы адвёў на хату, на акно. Сцяпан адышоў ад акна, сеў за стол.

— Налівай. Скваркі астынуць.

— Пачакаем. Няёмка.

Сцяпан чакаць ды цярпець не жадаў:

— Будзе ёмка, як вып’ем.

Сам наліў, але падняць чаркі не паспелі — адчыніліся дзверы, парог пераступіў Коля, за ім Вера, а следам Ніна і маці.

— Як кажуць, з карабля на бал? — пасправабаваў жартаваць Коля, плюючы на далонь і далонню прылізваючы на галаве апошнія тры валасіны.

Падаў Сцяпану і Лёніку пухлую, нібы свежая аладка, руку, усміхнуўся абодвум, але Сцяпан не адказаў на ўсмешку.

— Што Андрэйку не ўзяў з сабою? — спытаў.

— У школе, хай вучыцца. А Волька прыхварэла, бок ломіць. Прастыла, відаць. Мы з Вераю ўдваіх. Думалі, што і ты, Сцяпан, з намі паедзеш…

Сцяпан не любіў ездзіць у швагравай машыне. У аўтобусе едзеш — ніхто цябе не ведае, нікому ты не патрэбны, хочаш — глядзі ў акно, хочаш — спі, хочаш — думай сваё, ніхто нічым не папракне. І людзей наслухаешся, дазнаешся, хто чым жыве. А ў швагравай машыне і размовы даўно знаёмыя, адно таўкуць ды таўкуць штодня, і ўсё ім, яму і сёстрам, Сцяпан не такі, за іх дурнейшы, усе яго, малодшага, вучаць, як сказаць, як сесці, куды запалку ці недакурак кінуць, крый божа — пад ногі: з'ядуць. А калі і маўчаць, дык не лягчэй таксама, нудна. Селі за стол.

— Ну?.. — маці паглядзела на сына, вачыма падказваючы, што рабіць, але першым яе зразумеў зяць.

— Замочым кабанчыка? — падхапіў.

— За ваша здароўечка, — маці ўзяла чарку. — Гэта ж я цябе, Коля, з лета не бачыла. А Веру ад Вялікадня.

Лёнік паклаў на хлеб кавалак грудзінкі, крактануў, хітра ўсміхнуўся — да гаспадыні:

— Каб у вашым хляве, цётка Ганна, кабанчыкі не пераводзіліся. Як яны там будуць чухацца, дык будуць і госцейкі ў хаце. Паверце мне. Я па людзях валачуся са швайкаю, ведаю.

Яго ўсе зразумелі, маці і дзеці, але ўсе змоўчалі, ніхто не знайшоў, што адказаць.

— Ну а кабанчык хоць ладнаваты? — пацікавіўся Коля, выпіўшы і набіўшы поўны рот.

— А хто яго?.. — няпэўна адказала маці. — Па кармёжцы і сала. Летам што я ім даю? Па траве ходзяць. Абы раслі здаровыя. З халадамі пачала парыць бульбу, буракі, жменю мукі сыпнеш, падмяшаеш. Дай больш хлеба, дык сала возьмеш. Казала, прывязіце, дзеткі, мех якой мукі, будзе вам сала. Дык жа ніхто не чуе. Але і так дзякуй богу. Пакуль хопіць, а пасля другога апрыходуем. Ужо яго я вам пастараюся адкарміць.

Яны ўсе такія, маці: што б ні казалі, на языку, як і ў галаве, вечна дзеткі. Часам смешна з іх клопатаў. А часам горка. Вось Лёнік і ўчапіўся, нават скварку адклаў:

— Навошта вам, цётка, столькі ўсяго? Два кабаны, авечкі, карова, качкі, куры.

— І цялушку гадую, — пахвалілася яна. — Карова, Лёнік, старая, хачу маладую выгадаваць.

— Вам адной вядро малака трэба?

— Ну што ты кажаш? Я ўсё жыццё кароўку трымала, а цяпер звесціся? Ты што?.. Летам, можа, дзеці прыедуць, унучак. Сваё малачко — не куплёнае. Ды і смятанка, тваражок.

— Гэта ясна, не куплёнае. Але сена?

— З сенам… бяда, — цяжка ўздыхнула.

— І авечкі навошта вам? — не сунімаўся сусед. — Цяпер авечак няма каму пасвіць, няма дзе пасвіць. У людзей сем'і, а і то пазводзіліся.

Суседчына жыццё Лёнік ведаў, казаў — як у сук ляпіў, і яна апраўдвалася, адкрываючы ўсе свае козыры:

— Бачыш?.. Будуць аўчыны. Цяпер жа мода на кажухі. Веры хацела справіць дублёначку. І Коля просіць.

Ад яе шчырасці зяць папярхнуўся, закашляўся, павільгатнелыя вочы заблішчалі, замітусіліся, стралялі то на Сцяпана, то на дзяўчат, то на Лёніка: што яны цяпер падумаюць, калі дазналіся, дзеля чаго матка трымае авечак? Дзяўчаты ціха жавалі, нібы тыя авечкі, нічога, здаецца, не думалі, уедлівы сусед таксама быццам не пачуў, закусваў моўчкі, а Сцёпка адразу кінуў жаваць, губу ніжнюю падабраў, як малы, наліўшыся крыўдаю, калюча зіркаў спадылба то на маці, то на дзевак, то на швагра. І Коля не сцерпеў:

— А не трэба мне ніякія кажухі. Не хачу. Рэжце ўсіх сваіх авечак. Па мне, дык рэжце.

— Адну зарэжу, — разважала маці, — а дзве пакіну. Будуць ягняткі. Лета пагадую, да той зімы, вось і яшчэ аўчынкі, нідзе не валяюцца.

Яна рашучая, але і Сцяпан гэтакі, у маці:

— Трэба ўсіх рэзаць.

— Не, сынок.

— Сам парэжу. І карову старую завяду на ферму. Навошта кармы пераводзіць? На той год маладая будзе.

— Калі яшчэ?..

Вось гэтак, бывала, і пры бацьку ішла за сталом размова, звычайная для вёскі: пра карову, кабаноў, сена, авечак. І тады не аднолькава ў хаце думалі. Бацька, бывала, у адно, што бык, увапрэцца, не саступіць, а маці ў другое. І паспрачаюцца. Але ніколі, здаецца, ад тых спрэчак не нарастала на душы ў Сцяпана

столькі гаркаты, прыкрасці. Лёнік — чалавек чужы, сусед, а і яму відаць: навошта старой гэтак упрагацца, калі ўжо сіл няма, сям'я па гарадах рассеялася, не сабраць? Бяда аціраццa ў жыцці гультаём, сабе і людзям бяда, але і гэтак надрывацца, жывучы адной, — нічога разумнага. Ды і сёстры злавалі Сцяпана. Швагер злаваў. Усе пілі, елі, а маці што параілі? Збываць скаціну ці трымаць? Нічога не сказалі. І не скажуць. Сказаць, каб трымала, языкі не павернуцца, бо не сляпыя, бачаць, які гэта цяжар, асабліва старой хворай жанчыне: што тады пра іх сусед падумае, вёска? І сказаць, каб не трымала, не хочуць: чым кепска ўзяць з вёскі дармовы кавалак?

Маці, можа, больш, як Сцяпану, прыкра ад гэтай размовы. Таму і павярнула ў іншы бок:

— Што вы ўсё пра мяне ды пра мяне? Пра кабаноў, авечак. А пра сябе? Жыву і не ведаю, што там з дзецьмі. Ты, сынок, дзе хоць робіш?

Сцяпан і рады пахваліцца:

— Метро будую. Пад зямлю дарогу людзям пракладаю.

Лёнік і Коля ў адзін момант, не згаворваючыся, пырснулі ад рогату.

— Самі… туды людзі дарогу самі знойдуць.

Маці рогат не спадабаўся, адвярнулася ад іх і сур'ёзна глядзела сыну ў твар.

— Ці даўно веласіпеды рабіў?

— Велікі, цётка Ганна, сваё ад'ездзілі, — весела, не сунімаючыся, працягваў Лёнік. — Будзем пад зямлёю сяліцца, на эскалатарах ездзіць. Стаў і едзь, нават нагамі не трэба перастаўляць. Паехаў і паехаў. Прамым ходам — у рай.

Тут і яна павесялела:

— Бач, які ты, Лёнік, шустры? У рай! А можа, у пекла? Чаго хто варты. На тым тваім эскаватары…

— Ды не экскаватары, на эс-ка-ла-та-ры!

Старая падумала-падумала і пайшла ў наступ:

— Бач, які!.. Ты, Сцяпан, тапчы сваю сцежку-дарожку там, пад зямлёю, а ён, бач, сваю знайшоў тут, пад сонейкам, у роднай вёсцы.

— А не ўсё роўна, дзе жыць, што рабіць? — не паддаўшыся на жарты, разважаў Сцяпан. — Веласіпеды, метро…

Маці зноў насцярожылася:

— Як гэта ўсё роўна?

— Ну, можа, вёсцы не ўсё роўна. Араць ці жаць — не ўсё роўна, вядома. А там… Абы плацілі.

Тут яна як быццам і сына не зразумела, не дайшла да яе ягоная думка. Не хітрая, а не дайшла. І спрачацца ўжо не кідалася. Маўчала: што ён такое сказануў?..

Матчыны рукі ляжалі на краі стала, трымалі відэлец з кавалкам пячонкі, і Сцяпан, прыгледзеўшыся, раптам жахнуўся: якія ж яны старыя! Здрабнелі, счарнелі, абсыпаліся шэрым прысакам, быццам толькі што вымяталі з печы вугалле і попел, а запясці танклявыя, усохлыя. Такімі, здаецца, не былі раней. Не, ніколі. Ажно вачам зрабілася горача. Адвёў убок, каб матчыных рук не бачыць, і толькі цяпер заўважыў, што за акном сцямнела, змрок загусцеў у хаце.

Падхапіўся, уключыў святло. Гэтым святлом і Лёніка ўсё роўна як падштурхнуў — і той усхапіўся:

— Ну… дзякуй, цётка Ганна. За вячэру, за бяседу.

Сцяпан выйшаў з хаты разам з Лёнікам. На дварэ імжыла, церусіў нейкі вільготны пылок. Пастаялі, пакурылі, пагаманілі на развітанне, а за веснікі Сцяпан не пайшоў — аблёгся на плот і глядзеў на вуліцу, услед суседу. Яго танклявая ў касцюмчыку постаць знікла ў цемені, а свежына ў руцэ, загорнутая ў белую паперу, была відаць, пакуль сусед не схаваўся за веснікамі.

Сцяпану не хацелася ісці ў хату, класціся спаць. Пастаяўшы, падаўся ў сад.

За садам, за выганам па гравійцы зрэдку прабягалі машыны — каторыя з Мінска, каторыя ў Мінск. Ціха беглі, нячутна: адлегласць і волкая цемень паглыналі гукі. Было відаць святло фар, цьмянае.

Сцяпану падалося, што з глухмені-цемені, ад гравійкі, на яго глядзяць сумныя матчыны вочы.

А ноччу бачыў бацьку. Сон — не сон: папраўдзе, як было тры гады назад. Раённая бальніца, ён на ложку. «Заўтра, кажа, у маці дзень нараджэння. Не забудзь, купі што, ад мяне і ад сябе. Радая будзе». Усё — як было. Сцяпан купіў цёплую хустку — і цяпер носіць. Яшчэ бацька тады спытаў: «Інстытут кінуў, а далей? Што будзеш рабіць?» Ён якраз забраў дакументы з першага курса політэхнічнага. Адказаў, што знойдзе работу па душы — на зямлі, у вёсцы. Армію адслужыць — вернецца. Бацька не ўшчуваў, яму быццам і спадабалася, што сын думае вярнуцца ў вёску. Калі б жыў, дык, можа, гэтак і было б. Але не дачакаўся канца сынавай службы. Будаваў калгасны свінарнік — з вільчыка з сякераю скінуўся, нагу моцна выцяў. Спачатку — глупства: пухліна, думалі, што пройдзе, а пасля — нагу аднялі, ды ўсё роўна не памагло, позна. Сцяпан тады і захрас у Мінску, пагоны не зняў-

шы, да вёскі не даехаўшы. На дзень усяго спыніўся ў сястры, у Волькі, — Коля завёў на завод. Што, кажа, рабіць у вёсцы?

Доўга ляжаў, глядзеў у столь, думаў: вось ужо два гады па начах бачыць бацьку, намагаецца сказаць яму штосьці патрэбнае, душу адкрыць, і не паспявае — кожны раз прачынаецца. Сёння тое самае. А што хацеў сказаць? Не ведаў.

Можа, душа хоча апраўдацца перад бацькам?

Недзе — пачуў — гаманілі. За сцяною.

Апрануўся, выйшаў на кухню. Стаяў і слухаў:

— Табе, табе, табе… Мне… — Маці казала і замоўкла. І зноў:

— Табе, табе…

Сцяпан выйшаў з кухні ў пярэдні пакой. Дзверы ў залу былі прачыненыя — праз іх убачыў маці. Яна стаяла наўколенцах перад цыратаю, перад усім сваім мясным багаццем, накінуўшы на галаву шарсцяную, тую самую, Сцяпанаву, хустку, раскладала кавалкі па кучках і казала:

— Табе, табе, табе… А гэта Сцяпану.

Над адной кучкаю з боку ад маці, на краёчку канапы, сядзела Ніна, з другога, на крэсле, Вера, а насупраць стаяў, спіною прываліўшыся да сцяны, Коля, і перад кожным ляжала куча сала і мяса. Толькі над адной не хапала пільнага вока — над Сцяпанавай.

Смешна было глядзець, як маці бярэ з агульнай кучы кавалак, варочае яго з боку на бок, перакладае з рукі ў руку, гадаючы, каму пакласці, а сёстры і Коля ўважліва сочаць за матчынымі рукамі, маўчаць, ані слова — не да размоў. Вось яна ўзяла ў дзве рукі любовы кавалак, доўгі і вузкі, паляндвіцу, патрымала, паклала ля каленяў, шырокім кухонным нажом пачала дзяліць на часткі. Пазначыла рыскамі, потым змясціла рыскі ўправа, потым — улева, парэзала нарэшце, але ўсё роўна не так, як хацела. Сядзела і гадала, што рабіць.

— Большы хай будзе табе, Коля, у цябе сям'я большая. А гэты, меншы, Веры. Ты, Вера, адна. А гэты Ніне. Два разы, трэцяга яшчэ няма, як у Колі.

Самае каштоўнае, што ёсць у кабана, але і самае цяжкое для дзяльбы — гэта кумпякі. Два кумпякі, а кучак — чатыры. Пасячэш — папсуеш. Маці ўзяла ў рукі адзін, паважыла і, не ўтрымаўшы, апусціла сабе на калені.

— Во… падняць не магу. — А думала, вядома, не пра рукі, не пра сябе, думала: што рабіць з кумпяком, каму аддаць? — Бяры яго ты, Коля. Ну, бяры, а то я не падыму.

Зяць зрабіў крок да маці, узяў у яе з каленяў кумпяк і сам, здаравіла, закрактаў, прыкідваючыся:

— Ого, цяжар!

— А другі табе, Ніна. І ў цябе… якая ні сям’я, а сям’я. Веры і Сцяпану лапаткі дам. І грудзінку.

Заляскатала клямка, адчыніліся дзверы ў хату — з’явіўся Віця: у цёплай, на ваце, з аўчынавым каўняром куртцы, без шапкі, з грузавіком. Паставіў грузавік на падлогу і — «фур-фур, гу-у-у!» — прамым ходам у залу міма Сцяпана, на яго не зважаючы. Даў круга вакол цыраты, хітрым вокам прыгледзеўся, што тут робіцца, і падкаціў да бабы Ганны, пад самае мяса, забубнеў:

— Аддай, баба, вушы…

Рагочучы, маці паклала яму ў машыну свіное вуха, вялікае, на ўвесь кузаў. Віця другі раз аб’ехаў цырату і зноў:

— Грузі, баба Ганна, другое вуха.

Вера ўсхапілася, прынесла маломy прыгаршчы цукерак. Але Віця не той малы — адвярнуўся:

— Не мужчынская гэта яда!

Аддалі і другое — што паробіш? — зноў смеючыся, хоць ужо не так весела, і тады, апісаўшы развітальны круг, Віця выехаў з хаты.

Не ўстаючы з каленяў, маці глядзела ўслед хлопчыку:

— Во ён табе! Гулі гулямі, а вушы павёз.

Быццам рэха яе здзіўлення, але ўжо не як здзіўленне, як сталая хутчэй развага, з сянец чулася:

— Гулі гулямі, а вушы — ту-ту-у-у!..

І ніхто ўжо не смяяўся.

Сцяпану было балюча глядзець, як маці раскідвае свайго кабанчыка. Гадавала-гадавала, а што з’есць? Яшчэ заўважыў белы, заматаны ў анучку палец, падобны на белую кацiную лапку. Парэзала, ці што? Учора не было гэтай анучкі. Сёння паспела? І плямка чырвоная — кроў. Запякло на сэрцы, як убачыў кроў на анучцы. Тут і ўзарваўся:

— Што гэта ў нас робіцца? Усё расклала, усё па кучках, а сабе?.. Што сабе пакідаеш? Капыты? Хвост? Ці табе не трэба? Ужо, можа, есці не будзеш?

Такога маці не чакала ад Сцяпана — на момант збянтэжылася, моўчкі глядзела яму ў вочы. Але знайшла, што адказаць:

— Па суседзях не пабягу. Другі кабан у хляве.

— Цяпер гэтак кажаш, — не сунімаўся Сцяпан, — а пасля і таго раскідаеш.

Коля захадзіў па хаце, захваляваўся.

Дзяўчаты сядзелі ціхія, ані слоўца, ні за маці, ні за брата, быццам спрэчка іх не датычыла.

А маці ўсхапілася на ногі, балюча, ледзь не плачучы, залыпала вачыма, замахала перад сынам рукамі, той белай, з чырвонай плямкай, анучкай на пальцы:

— Што ты, Сцёпа, бунтуеш? З бацькам заўсёды быў ціхі, слухмяны, а як са мною… Што з табой робіцца?

Яе крыку Сцяпан не вытрымаў, выбег з хаты.

Куды ішоў — не думаў. Куды ногі неслі. А яны ў маладога хуткія, вынеслі аж на выган, ды і там не спыніліся — дарогу далей знайшлі. З аднаго боку не скончыўся пабурэлы, пасохлы выган, з другога пайшло ржышча, яшчэ мацней пабурэлае, па ім высыпаў, як ад страху перад блізкай зімою, халодны восеньскі пот, курэла нізкая смуга. Учора дзень быў ясны, сухі, а сёння ўжо засмужаны, волкі. Неба шэрае, цяжка абвісла.

На ўзгорку Сцяпан спыніўся. Збоч дарогі шумелі старыя бярозы, бязлітасна, як чужыя, сцябалі адна адну на ветры танклявым і доўгім голлем. Узгорак над імі ўсыпаўся крыжамі, драўлянымі ды жалезнымі, курганкамі ў драўляных і жалезных агародках, а больш — без агарод, зялёнымі і сівымі замшэлымі камянямі, помнічкамі з надпісамі, дзе падноўленымі, дзе сцёртымі ветрам, змытымі дажджамі. Усё змывалася, асыпалася. Камяні ўрасталі ў зямлю, курганкі асядалі, губляліся. Буялі хмызнякі, быльнёг, шыпшына — не прабіцца. Сцяпан скалоў рукі, разграбаючы зарасці, пакуль выйшаў да бацькавай магілы. Ні крыжа, ні помнічка, ні агародкі, ніякага каменя. Паспрабуй дазнайся, хто ляжыць. Але не зблытаў ні з чыім іншым курганком, бо неаднойчы бываў тут з маці — і як бульбу ў полі, за магільнікам, капалі, і як сенаваць ездзілі міма, і як дровы вазіў з-за рэчкі. Вось сёстры ці знойдуць гэтую наспачку без маці? Ад таго дня, як хавалі, ці былі тут?

Над галавою шумелі бярозы, а насупраць ляжала бясконцае, пад самае неба, поле, прыбранае і ўзаранае, па-восеньску пустое, маўклівае, знясіленае за вясну, лета і восень, халодна санлівае перад надыходам зімы, сумнае, як гэты магільнік. Сцяпан быў не чужы свайму полю, ведаў, колькі жыцця і светлых надзей давала яно селяніну. Бацька араў яго ўсё жыццё і вечна хваліў. Але цяпер поле пустое, сумнае — пуста і сумна было на душы.

Дзень такі: зямля халодная, неба шэрае, нізкае, а яшчэ — вецер, гоніць ды гоніць шэрыя хмары.

Калі Сцяпан вярнуўся, дома, на двары, Коля корпаўся пад капотам, зачышчаў наждачкай свечы, а жанчыны пакавалі

машыну: бегалі то ў хату, то з хаты, насілі і ставілі ў багажнік сумкі, каструлі, вёдры.

— Дзе гэта ты ходзіш? — спытала пакрыўджана маці.

— Табе пасобіць?

— Ужо няма чаго пасабляць.

— А грушу? — знайшла работу Ніна. — Грушу хто будзе абіраць? Я ж на яе не ўзлезу! І маці не ўзлезе.

А маці і радая, што дачка ўспомніла:

— Праўда, сынок. Абярыце вы з Колем грушу. Можа, маразы ўдараць, снегу накідае. А я сама не абяру.

— Абяром, — буркнуў Сцяпан і сеў пад плотам на бервяно.

Вера прабягала міма са слоікамі — чаплянула:

— Што, братуха? Стаміўся?

Ён моўчкі глядзеў, як жанчыны таўклі ў багажнік вядро з мочанымі яблыкамі, а яно не станавілася, месца не хапала, нават слоікі не было як утачыць, а яшчэ на зямлі стаяла вядзёрная каструля з капустаю, ручніком абвязаная. Павымалі сумкі, пачалі ставіць нанава. Куткі нарэшце ўсяму пазнаходзілі, а зачыніць багажнік не маглі. Падышоў Коля — паглядзеў, накінуўся на жанчын:

— Што вы топчаце? Думаеце, калі машына жалезная, дык і тапчы колькі сілы?

А тут яшчэ маці прывалакла з хаты мяшэчак:

— Семачкі, гарбузікі. Андрэйка дужа любіць, лузгаць будзе. Куды яго, Коля?

— У салон укіньце, на сядзенне.

— Ну а грушы? Пайшлі, хоць вядро абяром.

— Куды ўжо? — узмаліўся зяць.

Але яму, пэўна, вельмі хацелася прывезці ў Мінск груш, вялізных жоўтых вінёвак, і ён пайшоў следам за маці, якая падхапіла кош, пашыбавала ў сад. Вось толькі як дастаць? Падскочыў, за галіну схапіўся, трасянуў.

— Паб’юць грушы, — шкадуючы, уздыхнула Вера. І зноў на брата накінулася: — Ідзі пасоб, не сядзі. Драбіны пастаў.

Сцяпан пайшоў, але не ў сад — у хлеў, успомніўшы ўчарашнюю размову пра карову, цялушку, авечак.

З хлява бачыў, як Коля і маці панеслі да машыны паўнюткі кошык біцікаў. Яшчэ раз пагладзіўшы Пярэстую, зачыніў вароты.

Грушы высыпалі проста ў багажнік, заканапаціўшы ўсе дзіркі і шчыліны паміж сумкамі, вёдрамі. Багажнік не зачынілі — не змаглі, — і, каб не ляскатаў дарогаю, Коля звязаў яго дротам.

Ад’язджалі ўсе разам. Ужо сядзелі ў машыне, як раптам маці штосьці ўспомніла, пабегла ў хату. Вярнулася з гарбузом — вя-

лізным, жоўтым, ледзь несла, аберуч прыціснуўшы да жывата. Сцяпан адчыніў дзверцы, узяў, пабурчаўшы, а куды дзяваць? Паклаў сабе на калені: паганяй, швагер!..

Ехалі па вёсцы — Сцяпан усё азіраўся назад: маці доўга стаяла каля адчыненых варот, сашчапіўшы на прыполе рукі, глядзела ўслед машыне. Ці таму, што вуліца выдалася пустая і маці на ёй стаяла адна, ці што вароты былі адчыненыя і нікому зараз не патрэбныя, ці што дзень выдаўся шэры, пахмурны, постаць матчына здавалася сумная, як позняя-позняя восень.

А тут — гарбуз. Ён ляжаў на каленях цяжкі, нібыта матчын папрок, яе сумная радасць, схаваная ад дзяцей бяда.

Машына паўзла на ўзгорак, за шыбаю замільгацелі белыя бярозавыя ствалы.

— Мажа, спынімся? Да бацькі зойдзем? — спытаў Сцяпан.

Коля змоўчаў, а Вера, якая сядзела з ім побач, цяжка ўздыхнула, як згадаўшы бацьку, лагодна адказала:

— Іншым разам, Сцёпа. Трэба даехаць засветла.

Сцяпан зноў азірнуўся, але ўжо — на магільнік. Ужо нейкай балючай памяццю вачэй убачыў маці, яе самотную маўклівую постаць, рукі на прыполе, белы, абматаны анучкаю, палец — да горла падкацілася хваля, тая самая, што душыла ўчора за сталом, калі глядзеў на шэрыя матчыны рукі, пасля ўранні, калі бачыў маці наўколенцах перад цыратаю з кучкамі мяса і сала, на дзяльбе кабанчыка, пасля, апошні раз, на магільніку. Заплюшчыў вочы — маці усё стаяла пасярод вёскі, сіратліва глядзела на дарогу.

— Стой!..

Машына спынілася.

— Ну што?.. Што ты, Сцяпан, хочаш? — закрычала Вера.

Ён адчыніў дзверцы. Не было куды дзець гарбуз — вылез з ім разам.

І Коля вылез з машыны, падышоў да Сцяпана:

— Ну?..

— Едзьце, — сказаў Сцяпан. — Мне яшчэ трэба ў вёску.

— Ты што?.. Што ты там забыў?..

Звесіўшы голаў, Сцяпан глядзеў на гарбуз, які трымаў у руках, і не ведаў, што з ім рабіць, але здагадаўся — сунуў яго Колю ў рукі, сам павярнуўся і пайшоў назад. Чуў, як з машыны выскачыла Вера, крычала наўздагон:

— Сцяпан, куды ты? — Прасіла-маліла: — Дамоў паехалі, Сцёпа! Ці чуеш, Сцёпка?!.

Вароты былі ўсё яшчэ адчыненыя. Ён зайшоў праз іх на двор. Усюды ціха.

Падумаў: дзе маці?

Яна, відаць, была ў хаце, але ён у хату не пайшоў. Пастаяў пасярод двара, агледзеўся, як даўно тут не быў, і падаўся да хлява.

З будкі выскачыў Арсік. З той самай радасцю, з якою сустракаў учора, ад аўтобуса.

Сцяпан адчыніў хлеў.

Сечкі пад сячкарняю не было ані каліва — маці ўсё падгрэбла, што ўчора нарэзаў. Наклаў саломы на латачыну, пад нож, і пусціў кола. Яно закруцілася лёгка, быццам не жалезнае, не чыгуннае.

— Сцяпан?..

Ён спыніў кола, разагнуў спіну. Перад ім стаяла маці, разгублена глядзела ў твар вузенькімі галубінымі вочкамі.

— Хай едуць. Я дарогу знайду.

Але яна ні пра што не пыталася. Яму вечна здавалася, што маці яго не разумее, а яна разумела, як сябе, бо ён быў яе часцінкаю — целам і душою. Таму і загаварыла, нібы спавядаючыся:

— Каму ж я, сынок, раблю? Вам раблю. Мне той кавалак не палезе ў горла, калі вам не аддам.

Яму захацелася суцешыць яе, сказаць тое самае, чаго не паспеў сказаць бацьку, чаго бацька ўжо ніколі не пачуе ад яго, але дыханне перахапіла:

— Мам-м…

Адвярнуўся, аберуч схапіўся за кола сячкарні і з усёй сілы, злосна пачаў круціць, не думаючы, ці ёсць у латачыне салома. Кола бегла лёгка, але раптам пайшло цяжэй, сечка пасыпалася гусцей, і праз мрою, цёплую і плыткую, нібы летняя рачная вада, Сцяпан убачыў спачатку штосьці белае, жывое і белае, нібы каціная лапка, а пасля, у той мроі, разгледзеў матчыны рукі. За колам, у латачыне, яны трымалі салому, совалі яе пад нож.

*1980*

## СЦЯПАН, ДЗІЧ І ЦЫРЛЯ

Сонца смаліць дзень пры дні, у небе ні аблачыны, а вецер набяжыць — абдасць сухменню, быццам з пустыні, і зноў не аддыхаешся, не астынеш. Паша — няма бяды: зялёная, жаўцень зачапілася дзе-нідзе, нясмелая, бо зіма выдалася снежная, вясна позняя, паводкі па заліўных лугах трымаліся доўга, ды і дажджы прашумелі ці даўно, цёплыя, з прыпаркамі, лілі дні тры.

Гарачыня ў маі, пасля тыя дажджы, і вось зноў смаліць-парыць. Летась касілі ў дождж, ліло і ліло, не перастаючы, усе травы на сянаж пусцілі, пад цэлафанавую плёнку схавалі, а сёлета і сенажу хопіць, і сена — стагоў панастаўлялі. Хоць дождж патрэбны. Жыта налілося, яму суш не страшная, а ярына, лён пачалі гарэць, і бульбу, дзе на пяску, прысушыць. Трэба дождж.

Гэтак шырака, нібы за ўсіх, за ўсю краіну, думае Сцёпка, бо яму, маладому, нежанатаму і не пры бацьках, ці шмат трэба тае бульбы, таго хлеба? Ён сядзіць на рачным беразе, звесіўшы да вады босыя, у закасаных калашынах, ногі, трымае на каленях аброць, у руцэ іголка з тонкай (нуль-два) рыбацкай жылкаю — дзе цяпер возьмеш тую навошчаную дратвіну? — глядзіць за рэчку, на лугі ды лясы, а там столькі яснаты, лагоды, сонца, што вочы пачынаюць шчымець, як ад цыбулі, і тады, каб не шчымелі, ён пераводзіць позірк на аброць, зноў праганяе іголку праз сухі, нібы падэшва, раменьчык, собячы пад вушка таўстым вялізным ногцем.

Сцяпан чуе, як у яго за спіною цяжка, у засмяглыя храпы, дыхаюць цялухі. З раніцы, калі гэтак не пякло, яны дружна, адна перад адной, скублі мурог, а цяпер скубе рэдкая, амаль усе стаяць, адмахваюцца танклявымі, на падросце, мяцёлкамі хвастоў ад куслівых аваднёў ды сляпнёў, шоргаюцца бакамі ды шыямі адна аб адну, збіўшыся ў кучы, дзяруць капытамі, ужо як дарослыя каровы, зямлю каля берага, дзе яна мякчэйшая, пясчаная, кідаюць пясок сабе на спіны, чакаюць, калі пастухі пагоняць іх у загон пад вербы, у засень.

— Ну, што, макрапысыя, сабраліся? — пытаецца ў іх Сцяпан і, пазвоньваючы аброццю, устае на ногі. — У ваду лезці няма ахвоты? — Замахваецца на цялушак аброццю, і тыя ляніва разыходзяцца ад яго. — Вам, паненкам, круты беражок не падабаецца? Ну, пайшлі далей, дзе не круты.

Ён брыдзе паўз бераг у бок загона, дзе-нідзе спыняючыся, сапе над аброццю, забываючы на цялух, бо ведае, што яны ад яго нікуды не пойдуць, будуць ісці следам, быццам не ён іх пасе, а яны яго пасуць.

Аброць старая, мясцінамі, на потніках, сатлела, пагніла, але яе трэба адрамантаваць, бо лепшай няма. Конь пры статку аваднёва-сляпнёвым летам патрэбны. Каня старшыня дае, а ні сядла, ні аброці не абяцае, бо няма чаго абяцаць, іх меней, як коней, хоць коней таксама небагата. Па каня пайшоў Цырля, перайшоў уброд рэчку і падаўся да лесу шукаць табун.

Сцяпан ускідвае аброць на плячо і задумваецца. Успамінае, як яны, Цырля, Дзіч і ён, прыехалі з Мінска наймацца пастухамі. Сцяпан узяў на заводзе разлік, сабраўся перайсці ў «Метрабуд», чыгунку пад зямлёю класці, мог цяпер хадзіць пастухом да восені; Дзіча звольнілі за прагулы, ён яшчэ работы не знайшоў, каб па душы была; а Цырля па-ранейшаму рабіў на заводзе, гнуў рулі для веласіпедаў і меў законны адпачынак. Які ім, маладым, адпачынак? Кожны год, пабраўшы адпачынкі, шабашнічалі. Летась пад Вяткаю будавалі з жалезабетонных клюшак кароўнік, а гэтым летам надумалі далёка не кідацца, на дарогу не траціцца. Сцяпан зманьваў да сябе на Нёман, але Дзіч і Цырля перамаглі, яны былі з адной вёскі і зацягнулі ў свой край, на Сож. Праўда, да сябе ў калгас не захацеў Дзіч, пабаяўся, што там з яго будуць смяяцца: то з вёскі ў сталіцу пёрся, да чыстай гарадской работы, пачаў насіць белыя джынсы і чорныя акуляры, а то на вачах у аднавяскоўцаў апусціцца да пастуха, прыджгаць у свой калгас на заробкі? Не, гэтак папусціцца Дзіч не мог.

Іх з радасцю, як сваіх, прынялі ў суседнім калгасе. Адразу далі статак, тры сотні цялух-пярэзімкаў, і яшчэ абяцалі трох пастухоў сваіх, каб пасвіць у тры змены, па два пастухі ў кожнай змене. Аплата — трыста рублёў на нос, ды надбаўкі збожжам ад прывагі. Хлопцы паставілі свае ўмовы: ад мясцовых пастухоў адмовіліся, пасці ўзяліся ўтрох, а заробак патрабавалі як на ўсіх шасцёх. Старшыня пагадзіўся, бо людзей у яго не хапала, і, даючы статак, казаў:

— Мне гэта па душы, што прыехалі да нас са сталіцы, работы нашай, на зямлі, не цураецеся.

Цырлю падалося, што старшыня недаацэньвае іх як пастухоў, падкрэсліваючы, што яны з горада, — уставіў:

— А мы хлопцы вясковыя. Цяпер у горадзе, але з вёскі.

Старшыні гэта спадабалася:

— Дзеці палёў і пашы? Значыць, зямлю ведаеце, скаціну любіце, а ўжо і да гарадской культуры прыраслі. Назад азірніцеся — чым быў чалавек? Малпаю. А наперадзе — які будзе? Горад і вёска сальюцца, значыць, гарадскі чалавек сальецца з вясковым. Будзе ён адразу і гарадскім, і вясковым. Такім, як вы.

Старшыня быў пажылы, любіў развесці філасофію пра зямлю, чалавека, хлеб.

— А каб цябе… здыхата кудлатая!

Гэта ў канцы статка гыркае Дзіч, ляскаючы пугаю. Пуга ў іх адна на траіх, самі зрабілі з мяккага кабелю, бо ў калгасе пугі

няма. Машын і трактароў поўна, а пугі няма. Сцяпану яна, праўда, не патрэбная, а Дзіч з рук не выпускае, ляскае, як хлапчук, хоць яму ўжо болей, як Сцяпану і як Цырлю, ужо трыццаць з гакам. Ён увесь дзень ваюе з рыжай кудлатай цялухай, якая толькі і пільнуе, калі можна адбіцца ад статка, зашыцца ў жыта ці хмызы, ад пастуховых вачэй падалей.

— Вунь Цырля каня вядзе! — крычыць Дзіч і зноў, як салютуючы, сцёбае пугаю.

Цялухі ад яго разбягаюцца, а Сцяпан сам сабе развражае: ну чаго ты, Дзіч, сцёбаеш? Кажаш, што Цырля каня вядзе, а па цялушках сцёбаеш. Абы сцёбаць? Пацеха табе?

Цырля яшчэ далёка, ён перайшоў Сож уброд і на вяроўцы вядзе белага, у яблыкі, высокага каня. Разам з канём хаваецца за грывай чароту — відаць адно галава конская, потым з канём разам правальваецца ў лагчыну, потым зноў вырастаюць абодва з траў і кветак, спачатку конь, пасля Цырля, малы і таўсты — нібыта цяльпух выкатваецца на ўзгорак. Белыя конскія бакі, спіна, грыва блішчаць на сонцы, мокрыя, блішчыць жаўтлявы саламяны Цырлеў капялюш з загнутымі ўгару, нібы ў каўбоя, палямі, і Сцяпан заўважае, што Цырля вядзе не аднаго каня, што паперадзе яго бяжыць чорны сабака, таксама на вяроўцы. Сцяпан не зводзіць вачэй з сабакі, камянее ад злосці да Дзіча і Цырлі. Сабаку вядзе Цырля, але Сцяпан ведае, што для Дзіча, па яго камандзе.

Цырля падыходзіць з канём і сабакам да Сцяпана, яму ў вочы не глядзіць, хоць чакае, што Сцяпан скажа, якім словам сустрэне.

Але, падскочыўшы, гаворку пачынае Дзіч:

— Цябе пасылаць можна. — Задаволена аглядае мокрага сабаку, які прысядае і атрасаецца, ажно пырскі ляцяць ва ўсе бакі. — Дзе ты такога злавіў?

— Гэтай бадзягі ўсюды поўна.

Дзіч бярэ з Цырлевых рук вяроўку, цягне сабаку да сябе. Той упіраецца ўсімі чатырма, вяроўка душыць яго. Дзіч нагінаецца над сабакам, хапае за карак, прыўзнімае, потым прыціскае да зямлі. Сабака калоціцца, баіцца Дзіча.

Сцяпан не вытрымлівае тых здзекаў, кідае вобзем аброць і падлятае да Дзіча, уплятаецца ў вяроўку:

— Не дам! Гэтага не дам!

Дзіч рагоча, але вяроўку не выпускае з рук:

— Супакойся, Сцёпка. Гэтага мы ў расход не пусцім. Добры сабака, слухмяны. Ён нам пры табуне згадзіцца.

— Брэшаш, Дзіч!

— Не брашу, Сцёпа. Павер, не брашу.

Тады ў спрэчку ўстрае Цырля:

— Праўда, Дзіч, гэтага не трэба. Я таксама не магу бачыць кроў. Падурачыўся, і хопіць. Гэтага адпусці.

Дзіч з усмешачкай совае вяроўку Сцяпану:

— Бяры. Навяжы ў загоне, дай костку, хай да нас прывыкае. Будзе памочнік.

З вяроўкаю ў руках Сцяпан супакойваецца. Цяпер, калі яго падтрымаў Цырля, ён верыць, што сабака застанецца жыць: супраць дваіх Дзіч не пойдзе.

Цырля падымае з зямлі аброць, аглядае, ці добра пазашываў Сцяпан, спрабуе на сілу і, нічога не сказаўшы, мабыць, задаволены Сцяпанавай работаю, ускідвае аброць на каня. Конь ціхі, як амаль усе здаровыя коні. Авадні і сляпні настырна лезуць яму ў вочы, у храпу, а ён, пакуль на яго надзяваюць аброць, нават не страсяне галавою, вухам не павядзе, толькі капытамі грукае ў зямлю ды хвастом сябе сцёгае, адбіваючыся ад куслівых мух.

— І цуглі? — дзівіцца Дзіч.

— Мне цуглі не трэба, у мяне во што, — Цырля падымае нагу, паказвае цвік, які тырчыць з абцаса.

Дзіч у захапленні ад Цырлевай выдумкі, а Сцяпан стаіць, не ведае, што сказаць, ды і не паспявае ні сказаць, ні мацюкнуцца, бо Цырля ўжо на кані, ужо ён дае каню пад бок жалезным абцасам, і конь, цяжкі і рахманы хвіліну назад, уздрыгвае ўсёй скураю, усімі шэрымі яблыкамі, рассыпанымі па баках і спіне, храпе і ляціць на злом галавы ў луг.

— Дурань, каня скалечыць, — ужо іншае, як у вочы Цырлю, кажа Дзіч, зіркаючы на Сцяпана халодна-шэрымі, як плешкі цвікоў, вачыма, і па гэтых вачах Сцяпан бачыць, што Дзіч хітруе, кажа, быццам спачувае каню, а ў сэрцы ні кроплі спачування, адно яму, Сцяпану, падыгрывае, прыкідваецца добранькім. Старэйшы з усіх, верхавод, ён пабойваецца Сцяпана, не сілы, не ўлады, а яго ціхай агіды да ўсякай несправядлівасці, раптоўнага выбуху, на які здатны Сцяпан.

— Ну, макрапыскі, топайце ў загон, — кажа Сцяпан цялухам, быццам Дзіча не чуе і не бачыць, замахваецца на бадлівую малую цялушку, якая ўжо пора пад чэрава сваю рахманую суседку. Ідзе быццам да яе, бадлівай, а на самой справе — абы ад Дзіча.

— Горача, не хочуць хадзіць…

Дзіч яшчэ штосьці мармыча, але Сцяпан нетаропка брыдзе паўз бераг, па-над вадою, і Дзіч, як ад злосці, што Сцяпан не

жадае з ім гаварыць, пачынае ляскаць пугаю, галёкаць на цялух, ганяць іх. Можа, яны там, у канцы статка, і разбегліся, пакуль пастухі разглядалі каня ды сабаку? Дык хай збірае.

Сабака ідзе на вяроўцы паперадзе Сцяпана. Чорная мокрая поўсць на ім паруе пад сонцам, сабака дыхае цяжка, высалапіўшы ружовы язык, абыякава, як на ўсё даўно звыклае, азіраецца па баках, садзіцца, калі спыняецца Сцяпан, сумна глядзіць на яго, быццам пытаецца: і куды ты, чалавеча, мяне вядзеш, навошта трымаеш на гэтай сваёй шворцы? Сцяпан бачыць пакуту ў сабачых вачах, яму робіцца непрыемна, быццам тая шворка ў яго самога на шыі, засіліла, і ён, прысеўшы, яе развязвае, кляне Цырлю, што панакручваў вузлоў. Аж ногаць сарваў, да крыві, але вяроўку з сабачай шыі зняў. Стаіць над сабакам і дзівіцца: той, адчуўшы волю, павесялеў, глядзіць у вочы Сцяпану і нікуды ад яго не бяжыць.

— Ну што? Бяжы, пакуль жывы.

Статак ужо ў загоне, выгараджаным жэрдкамі на самым беразе Сажа ў тым месцы, дзе бераг адхонны, цялухам лёгка зайсці ў ваду. Павесіўшы пугу на слуп, Дзіч ляжыць пад павеццю на сене. Ён загадаў Сцяпану схадзіць да азярыны, паглядзець, можа, у сетку ўшчамілася якая рыбіна, а Сцяпан стаіць да яго спіною, абапёршыся на агароджу, глядзіць на цялух і думае: навошта лёс звёў яго з Дзічам, з Цырлем? Яны разам рабілі ў Мінску на велазаводзе, жылі ў адным пакойчыку, але душою Сцяпан да іх не прывязаўся, асабліва да Дзіча. З Цырлем яшчэ можна некуды ісці, аб нечым гаварыць спакойна, шчыра, на Цырлю можна спадзявацца, як на сябра, а Дзіч толькі горла дзярэ, камандуе, яму карціць прынізіць усё жывое, чалавека і сабаку. І нічога не дакажаш, у галаву не ўваб'еш, бо шалёны, упарты, як сцяна. Вось ляжаў-ляжаў — усхапіўся, быццам падсмалены, і адразу хайло раскрыў:

— Сцёпка! Дзе кабель?

— А я над ім не пастух, — знарок спакойна, не азіраючыся на Дзіча, адказвае Сцяпан.

— Калі адпусціў, лавіць будзеш!

Цялухі збіліся да агароджы, абраселымі мызамі цягнуцца да Сцяпана, разглядаюць яго, не баючыся блізкасці, і ён таксама цягнецца рукою да іх, то адной, то другой кладзе руку на лоб, чухае, расчэсвае чубы, павучкі на лбах, мацае гузакі на шыях, што засталіся ад шпрыцоў, ад неахайнасці ветэрынараў, калі рабілі прышчэпкі ад яшчуру. Цялухі спраўныя, бо ходзяць па

волі, па добрай пашы, але сярод іх пракідваюцца хударлявыя, каторыя больш бегаюць, як скубуць.

Да Сцяпана падыходзіць Дзіч. Побач абапёршыся на жардзіну, пытаецца ўжо лагадней:

— Дык куды ты яго запраторыў?

— Пусціў. Хай бяжыць туды, дзе яго чакаюць. Ды і ў цябе рукі чысцейшыя будуць.

— Мае рукі беражэш? Ці сваю чысценькую душу? Я, Сцёпка, вучоны, у мяне дыплом ветэрынара. І рукі, бачыш? — Дзіч паказвае Сцяпану шырокую, нібы лапата, далонь. — Першы мой старшыня, Ван Ваныч, ён і цяпер тут, у суседнім калгасе, хваліў: за што, кажа, ты, Лысятаў, падабаешся, дык гэта што лоўка кастрыруеш, у цябе, кажа, лапа што трэба, любое хазяйства на ёй ляжыць прыгожа, хоць кабанчыкава, хоць бычынае. Маэстра! Во як — маэстра!

— Ну, гэта я ад цябе ўжо чуў.

Дзіч задаволена рагоча, цягнецца, як Сцяпан, рукою да цялухі, але тая верне ад яго галаву, не даецца.

— Нічога, Сцёпа. Я цябе прывучу. Спачатку прывыкнеш глядзець, як гэта робіцца, а пасля…

— Не, Дзіч, мяне не прывучыш. І ты супакойся. Выблытайся хоць з той цялушкаю, якую сам на сябе павесіў. Тут людзі не дурныя. Старшыня ўжо ведае.

— Што ён ведае? — спахопліваецца Дзіч.

— А тое, што ты ўчора пусціў кроў сабаку, гаспадарку, як кажаш, кабялю выкаціў.

— А ты шмат страціў, што не бачыў таго цырку. І куды ты тады змыўся?

— Не хацеў бачыць.

— Дык што старшыня, кажаш? Пра сабаку дазнаўся? Хто яму данёс? Можа, ты і данёс? — ашчэрваецца Дзіч.

— Я адсюль, з пашы, нікуды не бегаю.

— Дык, можа, Цырля?.. Дазнаўся — не бяда. Сабака… не цялушка.

— І пра цялушку дазнаўся. Як на яе сабака, скрывянелы, кінуўся, хапіў за горла. І што яе закапалі.

— Брэшаш. Гэтага ён не ведае і ведаць не будзе. І табе пра гэта лепш не ведаць. Пра сабаку можаш язык пачасаць, а наконт цялушкі — замок. Што маўчыш?.. Са мною, можа, не згодны?..

— Адкуль у цябе гэтая жорсткасць? Вясковы чалавек, з імі рос — з сабакамі, цялухамі.

— Ты ў горадзе два гады, а я даўно гарадскі. У горадзе няма ні цялух, ні кароў, сабакі іншыя, чужыя, не мае. Я забыўся, што сабаку трэба карміць, а цялуху па мызе гладзіць.

— Але ж не забыў…

— Як выкаціць гаспадарку? Не забыў.

Дзіч кладзецца жыватом на агароджу і рагоча, нібы не ў адну глотку.

— Чаго ты? З каго рагочаш? — пытае Сцяпан.

— Успомніў, як бацька прывёў у хату гасцей. Пляшкі з самагонкаю на стол, а дзе закусь? Туды-сюды ныкнуў — пуста ў хаце. За нож — і ў хлеў. Адзін кабан — уся гаспадарка. Прыпёр яго ў кут і адхапіў свежыны кавалак. Матка прыбегла: бацька з мужыкамі п'яныя, а кабан крывёю сцякае.

— Кажаш, што гэтакім горад зрабіў?! Не, ты і быў гэтакі, як твой бацька.

— Ты майго бацьку не чапай! Скажы лепш, адкуль старшыня дазнаўся пра цялушку?..

Сцяпан ловіць за агароджаю лапушыстае белае вуха даверлівай цялухі з прымацаваным пластмасавым нумарам, чухае, пасміхаючыся, дзівячыся, як цялуха плюшчыць ад задавальнення вочы, нібы засынае, і заўважае Цырлю: павольным крокам, нібы каня загнаўшы і сам стаміўшыся, той едзе ад лесу, ад азярыны. Можа, патрос сетку, вязе рыбу? Сцяпан не зводзіць з Цырлі вачэй, але Дзічу не кажа, што той едзе, ды Дзіч і сам заўважае, моўчкі глядзіць туды, на Цырлю.

Пад'ехаўшы, Цырля спаўзае па крутым конскім баку на зямлю. Бакі і шыя ў каня мокрыя, мокры і Цырля, ад поту.

— Доўга ты гарцаваў, — кідае Дзіч.

Навязаўшы каня пад вярбою, Цырля ідзе пад павець, валіцца на сена і ляжыць, раскінуўшы рукі-ногі. Дзіч падыходзіць да яго, і тады Цырля ўсхопліваецца:

— Старшыня ўсю рыбу забраў.

— Знайшоў сетку?

— Я толькі выцягнуў, вытрас двух шчупакоў, ліноў, платвіцу, а тут ён на «газіку». Глядзіць на рыбу, на сетку, а пытаецца пра цялушак.

— Што пра цялушак? — насцярожваецца Дзіч.

— І пра жывых, і пра мёртвую.

— Пра якую мёртвую?

— Дзе, пытаецца, закапалі?

— А ты што?

— Не ведаю, кажу, ні пра якую закапаную цялушку. Пры мне, кажу, нічога такога не было. А пра кабяля, пытаецца, ведаеш? Пра кабяля ведаю. А пра цялушку — не? Не ведаю. Ну дык, кажа, заўтра каб з загона не выганялі, пакуль не прыедзе заатэхнік. Ён сам выгане.

— А чаму ён будзе выганяць? Можа, за нас пасля і грошы атрымае?

— Палічыць. Нумары перапіша.

— Ясна! Адно не ясна, Цырля, адкуль старшыня дазнаўся?

— Вакол вачэй мала? Рыбакі на Сажы, можа, сядзелі, бачылі, як той кабель скакаў, на цялуху кідаўся. Мы іх не бачылі, а яны нас бачылі.

Дзіч сядзіць побач з Цырлем змрочны, спалоханы, як перад невядомасцю, напружана штосьці думае. А Сцяпан ля каня. Абышоў, агледзеў, абмацаў. Пакуль не было Цырлі, ён перажываў, каб той яго не загнаў, не знявечыў цвіком, што ў абцасе, і цяпер, агледзеўшы, абмацаўшы конскі бок, супакойваецца: мецін няма. Падышоў да Цырлі, стаў над ім — глядзіць на чаравік, на абцас: дзе той цвік? Няма і цвіка. Няўжо сам апамятаўся, вырваў з абцаса?

— Ну што, Сцяпан, рысак цэлы? — пытаецца Цырля, зразумеўшы неспакойную Сцяпанаву душу.

— Дзе ж твой цвік?

— Згубіў, — Цырля ўсміхаецца Сцяпану спакойным нявінным тварам.

Не, ты яго не згубіў, думае Сцяпан. Ты яго сам спужаўся, калі даў каню пад бок, калі той узвіўся, ледзь не скінуў порсткага вершніка. Недзе там, у лузе, пэўна, сам высмаргнуў з абцаса. Бо ты, Цырля, — не Дзіч. Той увапрэцца — не спыніш, злачынства давядзе да канца, Дзіч і ёсць Дзіч, недарма мянушку прыляпілі, ва ўсім гэтакі — дзіч, а ў цябе, Цырля, сумленне ёсць.

— Што ў нас на абед? — пытаецца Дзіч. — Была б юшка, ды… Не, Цырля, я не супраць, што ты аддаў рыбу старшыні. Можа, не будзе разбірацца з цялухаю. Няма і няма. Спішуць. Ці мала спісваюць?

— Думаеш, аддзячыць за рыбу? — устрае Сцяпан.

— А я ў цябе не пытаюся, — агрызаецца Дзіч. — Ты ідзі лупі бульбу, вары. Ці на гатовенькае?

Сцяпан сам думаў брацца за бульбу, на гатовае рот не разяўляў, ды і не дужа разявіш у Дзіча, але цяпер, пачуўшы папрок, не хоча рабіць, як Дзіч камандуе.

— Дарэмна цялушку закапалі, — шкадуе Цырля. — Маглі хоць кумпякі выразаць, лапаткі. Былі б з мясам.

Дзіч зноў псіхуе:

— Цялушка вам далася.

Аж закалаціўся. Але ўжо і Сцяпан узяўся падкусваць, злуючы на Дзіча не менш, як той на яго:

— Колькі цялуха каштуе?

— Сот пяць, — мяркуе Цырля.

— Што заробіш, тое і праробіш.

— На трох раскідаем.

— Чаму гэта на трох? — шчыра абураецца Сцяпан. Дзіч драпежна глядзіць на яго, першы раз глядзіць гэтак, як на ворага, ці, можа, каб запалохаць, але Сцяпану няма ахвоты плаціць за Дзічавы атракцыёны, адступаць ён не думае, і Дзіч, ведаючы, што Сцяпан таксама ўпарты, не менш за яго, супакойвае:

— Не хвалюйся. Тваю кішэню яшчэ ніхто не трасе.

Пакусаўшы адзін аднаго, яны замаўкаюць. Сцяпан ідзе за павець у будку, дзе ўсе кухонныя прылады, посуд, прадукты, адтуль з вядром падаецца да рэчкі па ваду, бо варыць булён усё ж яго чарга. Прынёсшы ваду, налівае ў каструлю і садзіцца да скрынкі з бульбаю. Дзве бульбіны ачысціўшы, заўважае, як воддаль нешта чорнае скача ў траве, нібы падбітая птушка, варона ці галка, матляе крыламі. Калі тое чорнае набліжаецца, Сцяпан пазнае, што гэта ніякая не птушка, а сабака, Цырлеў кабель скача, матляе вялікімі вушамі, валачэ цяжкі кавалак у цень, пад вярбу. Сцяпан глядзіць моўчкі, каб сабаку не заўважылі Дзіч і Цырля, але Дзіч заўважае: устае з сена і спакойна, каб не спужаць, крадзецца да яго напярэймы.

Вось і Цырля заўважыў — строга, як законны гаспадар над кабялём, пытаецца ў Сцяпана:

— Ты з вяроўкі спусціў?

Убачыўшы перад сабою Дзіча, сабака спыняецца, глядзіць на яго. Ён ужо асцерагаецца Дзіча, баіцца наблізіцца, і Дзіч, здагадваючыся, што цяпер сабака яму не дасца, хапае з зямлі кол. Пацэліў, відаць, бо кабель моцна скавыча і, падгопваючы, як на трох нагах, імчыць у луг.

— Ты за што яму нагу перабіў? — злосна, шкадуючы сабаку, пытаецца Цырля ў Дзіча, калі той вяртаецца да павеці. Дзіч маўчыць. Ён бярэ рыдлёўку і падаецца ў той бок, адкуль з’явіўся кабель, пад лес. — Во звяруга! — гледзячы яму ўслед, кажа Цырля.

— А ты ў яго паслугачом, — папікае Сцяпан.

Цырля разгублена страляе вачыма на Сцяпана і ідзе да кавалка, які кінуў пад вярбою сабака.

— Што там? — пытае Сцяпан.

— Нага цялячая.

Сцяпан распальвае вогнішча і паглядае да лесу, бачыць, як Дзіч капае, відаць, цялуху закідвае зямлёю.

Вярнуўшыся, Дзіч ставіць рыдлёўку да агароджы, кідае штосьці загорнутае ў лапухі, падыходзіць да вогнішча і доўга, ні з кім не гаворачы, глядзіць на агонь, на каструлю, у якой павінен закіпець булён. Вочы ў яго стомленыя, галодныя, і Сцяпан пачынае думаць пра хлеб, якога ці хопіць на абед, пра цукар, які таксама канчаецца.

— Трэба ехаць у вёску па прадукты, — кажа ён. — Можа, ты, Цырля, за мяне папасвіш, а я на кані з'езджу? Пагляджу, што за каня ты прывёў. Ці варты ён гнілой аброці.

— На кані я паеду, — кажа Дзіч. — Мне трэба ў вёску.

Булён вось-вось упрэе, але Сцяпану ўжо есці няма ахвоты. Ён адыходзіць ад вогнішча, кладзецца побач з Цырлем у цяньку пад стрэшкаю і думае, як добра, што Дзіч паедзе, што застанецца ўдвух з Цырлем.

Дзіч бярэ аброць і крочыць да каня, які ходзіць воддаль, каля рэчкі.

— Ты куды? — пытаецца Сцяпан. — Есці будзем.

— Ешце без мяне.

Дзіч накідвае на каня аброць, садзіцца, не марудзячы, і ціхім крокам, не спяшаючыся, аддаляецца ад загона, ад вогнішча, хаваецца ў высокіх травах, мутнее ў блакітна-сонечнай смузе, а потым і зусім знікае пад гарою, пад лесам. Сцяпан глядзіць у той бок, і шкада яму Дзіча, хоць бяжы ўслед, вярні, каб паеў, не ехаў галодны.

— Ці не знайшоў ён у вёсцы дзеўку? — раптам выказвае здагадку Цырля.

Яго нечаканая думка крыху падкрашвае Сцяпану настрой, але Сцяпан у гэта не верыць, бо адчувае, што тут не дзеўка, зусім іншае падняло і пагнала Дзіча ў вёску, нейкая трывога, і што трывога гэтая ад учорашняга сабакі, ад цялухі.

Ноч. Ціхая, напружаная, як перад вялікім громам. Нават драчы, скрыпуны ўсіх мінулых начэй, маўчаць. І ў загоне — ні гуку. Спяць цялухі, нахадзіўшыся па спякоце за доўгі дзень. Ціха і пад павеццю. Цырля заўсёды спіць як камень, ні разу за ноч не храпане, не мармытне. Адзін Дзіч храпе на ўвесь луг, нікога

не прызнаючы. Але не сёння, бо сёння як паехаў у вёску, дык і на ноч не вярнуўся.

Белы, нібыта блін, месяц набраў поўную сілу, расплыўся, ззяе на ўсё неба, на ўсю зямлю.

Далёка за поўнач, але не спіць Сцяпан. Адзін, мабыць, не спіць — слухае. Яму якраз добра, што ноч ціхая — пачуеш кожны шолах. Але тое, што Сцяпан хоча пачуць, не чуе: Дзіча няма і няма. Пякла злосць на яго, цяжар злосці насіў у душы ўвесь дзень, а цяпер — большы цяжар, іншы і большы. Каб Дзіч ляжаў побач, хай бы хроп на ўсе застаўкі — не было б на душы гэтак млосна, а то ж дзе падзеўся?

Можа, сапраўды завялася якая дзеўка? Ці паехаў у сваю вёску наведаць бацькоў, якія жывуць непадалёк, вёрст за дзесяць, у суседнім калгасе? А была яшчэ загадка. Калі цялушак увечары прыгналі з пашы, ставілі ў загон, Сцяпан заўважыў, як над рыдлёўкаю, якую пакінуў Дзіч, віліся мухі. Падышоў, разгарнуў лопухі, а там ляжыць рыжае цялячае вуха, як жывое, нават з нумарам — дзве тройкі. Сцяпан хацеў закапаць тое вуха, ды Цырля не даў, сказаў, што калі Дзіч прынёс, значыць, яно яму патрэбнае, будзе шукаць. А навошта яму вуха? Гэта вуха цялухі, якую закапалі. Навошта яно Дзічу? Усё гэта лезе ў галаву, Сцяпан усхопліваецца і сядзіць, глядзіць удалячынь, дзе ляжаць раўнейшыя, як удзень, шэрыя, далей — чорныя, нібы ралля, лугі, пятляе Сож, а за Сажом — лес, за якім цяпер недзе і Дзіч. Над усёй гэтай зямной цішынёю і таямнічасцю разлягаюцца не меншыя цішыня і таямнічасць нябёсаў. Неба заплыло хмарамі, але поўня ззяе. Пад ёю блішчаць старыя вербы, цялячыя спіны. Пасядзеўшы, як праверыўшы, ці ўсё на месцы, Сцяпан зноў кладзецца, узвальвае на сябе сена і, не страціўшы надзеі заснуць, заплюшчвае вочы.

Позна, пад раніцу, заснуўшы, ён позна і прачынаецца. Усхапіўшыся, лыпае вачыма, прамывае іх спачатку сонечнаю расою, якая зіхаціць на кожнай травінцы, і калі ў вачах яснее, бачыць перад сабою ў лузе каня, белага, абсыпанага шэрымі яблыкамі. А дзе хлопцы? Побач нікога няма. Ён устае, атрасае з сябе сена і заўважае каля загона людзей: доўгага і хударлявага Дзіча ў чорных акулярах, круглага Цырлю пад саламяным капелюшом, незнаёмага чалавека ў плашчы і ботах. Яны стаяць па два бакі ад праходу ў загон і выпускаюць цялушак, па адной. Той, што ў плашчы і ботах, трымае перад сабою блакноцік, алоўкам пазначае ў ім. Гэта заатэхнік, якога абяцаў прыслаць старшыня, лічыць цялушак, ці ўсе цэлыя, перапісвае нумары. Сцяпан

усцягвае джынсы, кідае на плячо ручнік і кіруе да Сажа. Ля загона спыняецца, вітаецца з заатэхнікам, якога бачыць першы раз, падыходзіць да агароджы і глядзіць у загон на цялушак, якія таўкуцца ля выхаду. Мацнейшыя пруцца ўперад, адпіхваюць суседак, слабейшыя, як і ў людзей, застаюцца адзаду, ціха чакаюць свае чаргі. Слабейшых ды цішэйшых Сцяпан больш любіць, не за ціхасць, а што меншыя, слабейшыя. Сярод іх ён заўважае ладную рагулю. Масцю яна, як шмат якія іншыя, чорна-белая, але рогі большыя, крута выгнутыя, і вымя ўжо відаць, адвіслае. Дрыжыць, як у чужым статку.

Дзіч пералазіць між жардзін у загон і там пачынае крычаць на цялух, каторыя ломяцца да выхаду:

— Што за скаціна? Адна адну гатовыя стаптаць.

— А было. Якраз тут, — кажа заатэхнік, не забываючы занатоўваць у блакноціку. — Дажджы ішлі, гразь па калена. Дзвюх затапталі.

— Ну, малым дарогу!

Дзіч замахваецца на рагатую, тая кідаецца ўперад, адціскае меншых цялушак і міма заатэхніка вылятае з загона. Сцяпан заўважае ў яе на белым вуху чорны пластмасавы нумар — дзве тройкі — і не верыць сваім вачам: няўжо той самы нумар? Як ён апынуўся на гэтай рагулі? Адкуль цялуха?

З загона выходзяць апошнія. Заатэхнік хуценька прабягае па занатоўках у блакноціку і задаволена ўсміхаецца:

— Усе на месцы. Усе трыста.

— Вось так! — сячэ Дзіч, вытрашчыўшы на заатэхніка злосныя вочы. — А вы?.. Што вы пра нас падумалі? Па ўсім калгасе чутку пусцілі, што мы тут звялі цялуху, што не пастухі, а жывадзёры.

— Чутку пусціў невядома хто, а мы праверылі. Чутка не пацвердзілася. Прабачце. — Заатэхнік далонню выцірае спацелую не то ад гарачыні, не то ад хвалявання вялікую ружовую лысіну.

Дзіч ззяе, нібы яснае сонейка.

— Ага, цяпер прабачце? А як старшыня? Ён там ужо збірае праўленне? Хуткія вы на расправу.

— Ну, якое праўленне? — за старшыню, за сябе, за ўвесь калгас апраўдваецца заатэхнік. — Цялушкі ж на месцы? Якое цяпер праўленне?

А Дзіч наступае:

— Мяса няма, малака няма, хлеб з перабоямі. Пасвіць жывёлу ці па крамах бегаць? Як рабіць, дык ау, дзе вы там, гарадскія, пасобце, а як пакарміць — няма каму. Вось і едзь да вас, пасабляй.

Дзіч яшчэ доўга наступае на заатэхніка, а Сцяпан глядзіць на яго і думае: ну гарлапан, звёў са свету цялуху, здзекаваўся з сабакі, у вёсцы, можа, у якіх старых, украў цельную цялушку, чыюсьці надзею, радасць, а тут начапіў на нос чорныя акуляры, схаваў за імі свае вочы і думае, што гарадскі, вышэйшы за іншых?

Сцяпан ідзе да Сажа — садзіцца на беразе. Купацца ўжо няма ахвоты. Усё добрае, што было ў душы, замуціў Дзіч, ад усяго ахвоту адбіў. І цяпер не ведае, як яму тут, на адным з ім лузе, жыць далей?

Наступнай ноччу, калі Дзіч хроп на ўвесь луг, калі побач з ім ціха, нібы слухаючы той храп, спаў Цырля, а ў небе ззяла ясная, што і мінулай ноччу, поўня, Сцяпан нячутна ўстаў, нацягнуў джынсы, накінуў на плечы старэнькі пінжачок, узяў вяроўку, на якой Цырля прывёў надоечы сабаку, і падышоў да загона. Чужая рагуля стаяла каля выхаду, нібы чакала яго. Ён накінуў ёй на рогі вяроўку, зацягнуў моцным вузлом і вывеў з загона. Баяўся, што будзе дзічыцца, упірацца, не захоча ісці, але яна пакорліва выйшла, слухмяна пайшла за ім.

Высокім берагам Сажа ён вёў рагулю, свой і яе цень ад месяца на светлай чыстай вадзе, вёў у той бок, дзе канчаўся луг і чарнеў лес. Там, за лесам, была рагуліна вёска.

*1982*

## ГАЛАПАГОСЫ

Нудна шваргоча фарсунка, выплёўваючы салярку ў чырвонае пекла паравога катла. Віхуры агню ў ім то скачуць драпежнымі ліскамі, пасуцца каля фарсункі, гаручае крынічкі, то, падсілкаваўшыся, раскатваюцца па чыгунным чэраве, знікаюць у збялелым кіпені.

Стогне помпа, гонячы па трубах нагрэтую ваду да людзей, іх рук ды ног, каб не памерзлі.

Цірлікае, нібы птушачка, рэле на сцяне.

За брудна-шэрай шыбаю на заінелым электрычным провадзе пакалыхваюцца ён і яна — індустрыяльна-самотная вераб'іная пара. Шчабечуць? З кацельнай не чуваць шчабятання за шыбаю, бо тут заўсёды грымотна. Але Мечык чуе птушак нават праз спевы фарсункі, помпы і рэле. Ён іх, жывыя душы, заўсёды чуе.

Цяпер Мечык спіць. Усю ноч дзяжурыў каля катла, і раніцай яго павінен змяніць Ёсіп, але Ёсіпа няма і няма, і ўжо, відаць,

не будзе, бо ўчора выдалася палучка і стары, пэўна, запаўнач спамінаў Просю-нябогу. Ці гэта першы раз? У Ёсіпа другая жонка, за яго не маладзейшая, але здаровая, на руку цяжкая, калі прыкладзецца да сухога Ёсіпавага карка, дык яму, бедалагу, нічога не застаецца, як спамінаць сваю першую ластаўку Просю ды шкадаваць, што не ўбярог.

Каля катла не замерзнеш. За цаглянай сцяною ёсць катух, дзе не так горача і цішэй, стаіць тапчанок, але той катух разам з тапчанком служыць аднаму Ёсіпу. Мечык, па добрай ахвоце, заўсёды ля агню. Тут стол, лаўка, на якой параскіданыя старыя ватнікі. Усю ноч ён то драмаў, звесіўшы над сталом галаву, то чытаў кніжку. Цікавая трапіла ў рукі кніжка: «Зачараваныя астравы Галапагосы» — нейкага немца Эйбль-Эйбесфельда. Язык зломіш, пакуль вымавіш.

На лаўцы пад ватнікамі, у самым кутку, куды Мечык кладзецца галавою, як сон зваліць, стос кніг. Пра блакітнага кіта, індыйскіх сланоў, апошніх кракадзілаў у Амазонцы, сухумскіх малпаў, аўстралійскіх канарэек і папугаяў.

Мечык любіць кніжкі, любіць звяроў і птушак. Але наймацней ён любіць цяплынь — таму і кніжкі чытае пра Афрыку, Аўстралію, Паўднёвую Амерыку, Індыю, пра звяроў ды птушак, якія жывуць у цёплых краінах, бліжэй да сонца. Таму лаўка і стаіць ля катла, што ад яго нясе гарачынёю поўдня. А што грыміць, дык гэта Мечыка не хвалюе. Калі грыміць — спяваюць фарсунка, помпа і рэле, — тады ён спіць моцна, бачыць у сне таямніча-непраходныя джунглі, разам з малпамі караскаецца па высозных, нібы карабельныя сосны, пальмах, збівае какосавыя арэхі, на вярблюдзе перасякае Сахару, пялешчацца ў Амазонцы разам з кракадзіламі, на тлустай спіне сіняга кіта імчыць праз цёплае Карыбскае мора на Кубу, на спатканне з гарачай мулаткаю. Гэтыя каляровыя сны Мечык любіць. А калі ў кацельні раптам, захліпнуўшыся, замоўкне фарсунка, надарвецца ганяць ваду помпа — тады, ад гэтай нечаканай цішыні, Мечык прачынаецца ў момант. Як сёння ўначы.

Звечара разбалеліся ногі, і ён не мог заснуць, доўга сядзеў на лаўцы, чытаў пра Галапагосы, але ноч сваё ўзяла, выбіла з рук кніжку, заглушыла боль у нагах, зваліла на лаўку, на ватнікі, і сасніў Мечык дзіўнае, незвычайнае: на дне даўно нежывога вулкана, у саванне, хаваў ад смерці малых рыжых ільвянят. Дзе пад той час валацужнічалі старыя львы? Не ведаў, не бачыў. Але малых было шмат. Браў адразу па два, падпашкі, і насіў у пячору. А нейкіх двух не данёс: усхапіўся — помпа маўчыць.

Глянуў на стрэлку манометра, а яна ўжо калоціцца за чырвоным беражком, нібы ў ліхаманцы. Схапіўся за рубільнік — фарсунка хліпнула і замоўкла. Што з помпаю? Ціск у катле аварыйны, а трубы халодныя, цяпло па іх не бяжыць ні ў дзіцячы садок, ні ў бальнічныя карпусы. За садок не хваляваўся, там сярод ночы няма нікога, акрамя вартаўніка, а ў бальніцы ніводны ложак не гуляе, людзі ляжаць адзін пры адным, усе хворыя, слабыя, адлучаныя ад роднай хаткі, печкі, ад таты, мамы — ім, гэтакім, цяпло дай ды дай. Ускінуў кажух на плечы, шапку на галаву ды за дзверы, праз снег-мароз у бальніцу бегма. А на паўдарозе спыніўся: куды бяжыць, навошта? Калі там людзі мерзнуць, дык ці ён іх усіх сваім кажухом нагрэе? Трэба помпу пусціць, каб зноў пагнала цяпло. І пабег назад.

Мечык не механік, як і Ёсіп. Але дзе сярод ночы знойдзеш механіка? Узяўся сам раскурочваць помпу. І добра, што не раскурочыў, спахапіўся: рэле ж не цірлікае? Ён да рэле, а там і ўся хітрасць: правады замкнула. Пакорпаўся — рэле зацірлікала і помпа ваду пагнала па трубах.

Супакоіўшыся, зноў зваліўся на лаўку, і тут адчыняюцца дзверы — вялізнае, на ўсю, ад луткі да луткі, дзвярную праёміну, воблака белай з марозу пары ўкатваецца ў кацельню, сцелецца па бетоне падлогі і растае.

— Мечык!..

Той ляжыць на лаўцы, храпе на ўсе застаўкі, заглушаючы і помпу, і фарсунку, і песню рэле. Ёсіп падыходзіць да стала, дастае з кішэні пляшку з танным чырвоным вінам, ставіць на стол побач з кнігаю, якую, перад тым, як заснуць, чытаў Мечык. З другой кішэні дастае пакуначак: хлеб, сала, галоўку часнаку.

— Уставай, будзем снедаць, — павышае голас Ёсіп.

Але Мечык храпе залівіста, аж спявае.

Ёсіп цягнецца рукою да шчытка на сцяне і выключае рубільнік. Замаўкаюць помпа, фарсунка, рэле — Мечык усхопліваецца з ватнікаў, спалохана-пакруглелымі вачыма глядзіць на кацёл. Ёсіпа, які сядзіць перад ім, спачатку не заўважае, бачыць адно кацёл, а калі раптам заўважае Ёсіпа, то здагадваецца пра яго жарт.

— Уключай, дзед, не дурэй.

Тручы кулакамі вочы, сапучы, нібы ў сне, Мечык не глядзіць на Ёсіпа, а Ёсіп, быццам не чуючы Мечыка, трымае ў руках кніжку са страшыдламі, марскімі ігуанамі, на каляровай, блакітнае з ружовым, вокладцы, і чытае па складах, усё роўна як першакласнік:

— Га-ла-па-го-сы!

Чытае гэтак не таму, што лепш не можа, проста яму прыемна вымаўляць незнаёмае, дзіўнае слоўка.

— А пра што кніга, Мечык? І што гэта тут за стварэнні? Во, брыдота!

Мечык пачынае злаваць:

— Ты, Ёсіп, зноў спазніўся? Мне за твае прагулы не плацяць. Можа, зноў скажаш, што цябе Прося не адпускала?

Адчуваючы сваю віну перад сябрам, Ёсіп працягвае руку да рубільніка, уключае, як загадаў Мечык, рухавік, і калі з фарсункі ў кацёл малымі струменьчыкамі пачынае пырскаць салярка, ловячы на сябе камячкі агню, ён падсоўвае Мечыку мутную гранёную шклянку, булькае ў яе чырвоным вінам, налівае. не шкадуючы, з верхам.

— Ужо можна снедаць.

Падумаўшы, Мечык выпівае і, не закусваючы, кажа да Ёсіпа ўжо іначай, па-сяброўску лагодна:

— Я думаў, што ты сёння зусім не прыйдзеш, будзеш увесь дзень гавець з Просяю.

— Ты добра думаў, — задаволена адказвае Ёсіп. — Мы з ёю як сыдземся, дык і дзень гавеем, і два гавеем, а нам усё мала. Прося ў мяне, сам ведаеш, для душы, з ёю тады пагаворыш, калі ніякі лапаць не смярдзіць побач. Але сёння мая кракадзіла забаставала, з печы не спаўзае.

Ёсіп плюе пад ногі і пачынае ўмінаць сала з хлебам.

— Што ж ты сам не п’еш? — пытаецца Мечык.

— А мне ля катла закон не дазваляе. Я табе прынёс.

— Адкупнога?

— Не. Я пра гэта не думаў.

Ёсіп і Мечык адзін на аднаго не падобныя, анічым. Ёсіп хітрэйшы, а Мечык дабрэйшы; Ёсіп бывае сварлівы, псіхаваты, а Мечык заўжды ціхі, мірны; Ёсіп гадоў на дзесяць старэйшы, ды Мечык мудрэйшы; Ёсіпу — абы дзень пражыць, думка ягоная не ляціць далёка, не шукае нічога, а Мечыку блізкага мала, яго душа і думка вечна шукаюць штосьці далёкае і высокае, загадкавае. Вялікае дружбы ў іх, здаецца, быць не можа, а яны жывуць душа ў душу, нават калі адзін аднаму кажуць прыкрасці.

— Што з табою сёння? — дзівіцца Мечык, — Адкуль у цябе ахвота страціць на мяне цэлага рубля? Гэта ж вермут? Дык нават рубель дваццаць.

Ёсіп праз сілу, не зжаваўшы, глытае сала і пытаецца:

— Скажы мне, што такое Га-ла-па-го-сы?..

Мечык ці не першы раз бачыць Ёсіпа цікаўным да чагосьці далёкага, гэта яго здзіўляе і радуе, і таму адчувае ахвоту ўсё, што ведае, расказаць Ёсіпу:

— Гэта астравы. Яны аж на другім зямным паўшарыку, каля Амерыкі. Там вечнае лета, сонца, цяплынь.

— І дзе ты бярэш гэтакія цёплыя кніжкі? — пытаецца Ёсіп.

— А то ты не ведаеш? Нашы крамы не пабач? Твая — з гарэлкаю, віном, півам, а мая — з кніжкамі. Ты рубель нясеш у сваю краму, а я ў сваю.

— Я б туды хацеў з'ездзіць, на Га-ла-па-го-сы. Калі б мяне пусцілі, паехаў бы, не збіраючыся.

Гэтае Ёсіпава жаданне зусім нечаканае Мечыку, і ён доўга глядзіць на яго, быццам не пазнаючы. Але перад ім усё ж Ёсіп, не такі, як звычайна, але ён, і Мечык пачынае разважаць — сумна, нібы шкадуючы чалавека:

— Хоць і пусцяць, дык на нашы грошы туды яшчэ, можа, даедзеш, а ўжо адтуль не вернешся. Апошнія споднікі прадасі, а не вернешся. Ды і каму там патрэбныя твае споднікі?

Ёсіп згодна ківае галавою і супакойвае не то сябе, не то сябра:

— Але нам з табою і тут цёпла. Дзе доўгі рубель, там кожны дзень калаціся, каб той рубель хто спрытнейшы з рук не вырваў, а з нашага качагарскага месца ніхто не сапхне — яно нікому не патрэбнае. Калі не я, не ты, дык хто яшчэ тут захоча ўкалываць? Няма дурняў, акрамя нас з табою. Можа, ты іначай шурупіш?

Мечык пра ўсё гэта думае так, як Ёсіп, але разважаць пра работу ды грошы яму няма ахвоты. Ён пагаджаецца з Ёсіпам, што было б здорава, каб з'ездзіць на далёкія цёплыя астравы, паглядзець на тое жыццё, пад тым сонцам пагрэць свае слабыя косці. І, не адказаўшы Ёсіпу, шэпча, быццам у сне:

— Галапагосы-ы!..

Ёсіп усё роўна як не чуе, бо размову раптам заводзіць зусім пра іншае:

— А ты ведаеш, навошта мяне сёння выклікаў да сябе ў кабінет начальнік па кадрах? Прося Просяю, і гэта праўда, гаварылі мы з ёю, як вось з табою, але я таму спазніўся, што сядзеў у кадрах. Чаму я там быў — ці ведаеш?

— За гарэлку? Глядзі, дап'ешся.

— Вось і не ўгадаў. Я, праўда, п'ю, але каго будуць звальняць, дык гэта яшчэ невядома. Мяне альбо цябе?

Мечык маўчыць, чакае ад Ёсіпа нечага яснейшага, але маўчыць і той, быццам усё, што меўся сказаць, сказаў, быццам яму

спадабалася, што Мечык з усяго ім сказанага зразумеў мала, а думаў ды перажываў шмат. Але Мечык пачынае дапытвацца:

— Ну што ты вярзеш? Якое звальненне? Сам кажаш: калі не ты, не я, дык хто тут будзе рабіць? Няма іншых дурняў.

— Дурні заўсёды знойдуцца. Ці я не зразумеў?

— А што ты зразумеў?

— А тое, што твая справа ў чырвонай папцы ляжыць на стале ў начальніка. Пыл з яе стрэслі, разгарнулі і вывучаюць. Шукаюць, за якую рабрыну цябе лаўчэй ухапіць.

— Гэта ты, Ёсіп, з перапою.

Стары крыўдуе:

— Ёлуп ты. Хоць і вучоны, кніжнік. Навошта яны ў мяне пра цябе распытвалі? Скажыце, а ці можаце вы давяраць Мечыславу Ягоравічу? Ужо дваццаць гадоў, кажу, давяраем адзін аднаму, ладзім каля агню, ніводнага разу не апякліся і пажару не нарабілі. Ці што-небудзь не так робім? Дык кажыце. Ды так, кажуць, усё так як трэба робіце, але… Што — але?.. Чаму Мечыслаў Ягоравіч усё жыццё працуе ў кацельні? Ён жа чалавек разумны, адукаваны, быў афіцэрам, узнагароды за вайну мае. Ці ён не мог знайсці лепшую работу? Тут і ночы не спіш, і малыя грошы.

— А ты яму, кадрачу, што адказаў?

— А я кажу: дайце большыя грошы яму і мне, мы не адмовімся.

— А ён што, кадрач?

— У мяне, кажа, у самога аклад малы. Тут не мая, кажа, уласць. — Згарнуў тваю біяграфію і паклаў сабе ў стол. А я шапку на галаву — і за дзверы.

Вось дык загадка! Ёсць над чым задумацца, галаву паламаць. Але думаць Мечык любіць адзін. З Ёсіпам добра тачыць лясы, а думаць лепш аднаму, калі нікога няма побач. І ён устае з лаўкі, засоўвае пад пінжак, пад папружку, кнігу, шапку — на галаву, кажух — на плечы.

— Паедзеш дадому? — пытаецца Ёсіп.

— А куды яшчэ? У нас салляркі засталося на адну змену, ад сілы на дзве. Скажы, каб завезлі.

Мечык падыходзіць да веласіпеда, які заўсёды чакае яго каля дзвярэй, хавае вушы пад шапку, рукі ў рукавіцы, якія ўсю ноч праляжалі на рулі, цяжка ўздыхае, усёй скураю пачынаючы адчуваць жорсткі ранішні холад за дзвярыма, і, набраўшыся рашучасці, пхае нагою ў дзверы — разам з веласіпедам выкатваецца ў стрэчнае белае воблака.

Апрануты Мечык цёпла: кажух, валёнкі, хоць паношаныя, але мякенькія, катаначкі, тоўстыя шарсцяныя шкарпэткі, штаны ватовыя. Але, апынуўшыся на марозе, ён спрытна ўскоквае на веласіпед і штосілы скрыгоча педалямі, абганяючы і мароз, і вецер. Гумовыя колы суха рыпяць на снежнай зімовай дарозе, разгоніста імчаць да хаты, якая стаіць у равочку, на самым дне, белым бярэзнікам атуленая ад сцюдзёных вятроў. Едучы, Мечык зноў пачынае думаць пра салярку, Ёсіпаву размову з кадрачом, і тады колы пад ім тармозяць, быццам прымярзаюць да дарогі, паварочваюць пад ганак бальніцы.

Ідучы белым, як сама зіма, калідорам, Мечык мацае пад кожным акном батарэю, выцягвае шыю і хукае ў паветра, прыглядаецца, ці відаць хоць адно белае воблачка. Не, не відаць. І батарэі цёплыя. Ды ці надоўга цяпло, калі саляркі засталося на адну-дзве змены? І ён рашуча ўлятае ў прыёмны пакойчык загадчыка гаспадаркі.

— Саляркі няма!..

У пакойчыку адна машыністка. Яна апускае танклявыя пальчыкі на беражок пішучай машынкі, абыякава аглядае Мечыка.

— Ну і што? Пацерпіць салярка. — Яе вочкі цяплеюць, усміхаюцца, але Мечыка не грэюць. — Там, — яна ківае на дзверы, абабітыя чорным дэрмацінам, — нарада. Загадана не пускаць нікога.

І тут дзверы, як пачуўшы Мечыка, адчыняюцца, з кабінета выходзіць начальнік па кадрах, той самы, што сёння раніцай дапытваў Ёсіпа. Ён не то здзіўляецца, не то радуецца:

— Папянок? А вы мне якраз патрэбныя. Не спяшаецеся?..

Праз якую хвіліну Мечык ужо сядзіць на крэсле ў аддзеле кадраў, сціпла звёўшы калені, нахлабучыўшы на іх шапку, на шапку паклаўшы рукавіцы, а зверху —чырвоныя рукі. Яны ў яго заўсёды чырвоныя — ад холаду, цяпла, саляркі і алергіі.

— Дык вось… Вы даўно ў нас працуеце?

— Дваццаты сезон. Як кацельню пабудавалі. А што?

— Ды нічога, нічога. А раней?

— Быў качагарам.

— Гм-м!..

Начальнік падсоўвае сабе пад нос чырвоную папку, і Мечык здагадваецца, што гэтая папка з яго справаю, з усёй яго біяграфіяй, якую сюды, у папку, і ён сам пісаў, і за яго пісалі.

— Скажу вам шчыра, як ветэрану вайны, — марудна і ўедна, лезучы ў душу, прамаўляе кадрач, — мяне здзіўляе… Што?.. Ваша работа.

Хітрым позіркам ён цэліць у самыя вочы Мечыка.

— Я, можа, кепска працую?

— Ды не, якраз наадварот. Каб гэтак усе працавалі. Але… у вас цяжкая работа. Брудная, гарачая, грымотная, начная. А заробак малы. Ды я не пра-а… Я пра-а…

Начальнік хоча сказаць штосьці яшчэ, але нейкае наравістае слоўка, тое, каторае яму вельмі патрэбнае, свавольна пырхае ў яго ў галаве, не даецца, не ловіцца сілом памяці. Ён пакутліва замаўкае, напружана думае, цяжка ўздыхае, і Мечык, шчыра яго шкадуючы, спяшае на дапамогу:

— Не пра мяне? Дык, можа, пра Ёсіпа?..

— Пра вас, Мечыслаў Ягоравіч. Вось гартаю вашу справу. Вы-ы… перад вайною скончылі дзесяць класаў?

— У сорак першым.

— І танкавае вучылішча?

— І танкавае.

— І камандавалі ўзводам? Ордэны, медалі баявыя. Цяжкое раненне, шпіталі. Добра вучыліся, добра ваявалі. А пасля? Не гультай, не п’яніца, адукаваны, начытаны чалавек. І раптам — качагарка, кацельня? Тут штосьці не вяжацца. Рыба шукае, дзе глыбей, чалавек — дзе лепей, а вы?.. Я вас не разумею…

Мечык пра ўсё гэта ніколі не думаў і цяпер маўчыць, не ведаючы, што адказаць. Ён азіраецца, быццам шукае, за што б зачапіцца думкаю, словам, і раптам да галавы зноў прыходзіць салярка, да душы — неспакой: ці не праварoніў ён, тут заседзеўшыся, загадчыка гаспадаркаю? Заныла сэрца — зноў ногі ў лытках занылі. Мечык зграбае з каленяў рукавіцы, шапку і ўстае з крэсла, думаючы пра салярку. Выдыхаючы:

— Галапагосы-ы!..

— Што вы сказалі? — начальнік прыўзняўся над сталом, быццам Мечык падчапіў яго, нібы рыбак тую рыбіну, на кручок.

Але на гэтакую рыбіну Мечык не рыбак. Ён рашуча паварочваецца да дзвярэй і выходзіць з кабінета, не заўважаючы, як разгублена глядзіць яму ўслед начальнік па кадрах, нячутна мылячы на вуснах аднаму яму вядомае слоўка. Мірнае ці пагрозлівае? Аб гэтым ведае адзін ён, кадрач.

У равочак да свае хаткі Мечык скатваецца на тым самым заядлым рыпенні намёрзлых шын, з тым скрыгатаннем педаляў і болем у нагах, якія ўсю дарогу неслі яго ад бальніцы. Веласіпед ён кідае на снег-лёд каля ганка, на замеценыя за дзень і ноч чыгуны і вёдры, а сам спяшаецца ў хату. Яшчэ не пераступіўшы парог, ён ужо думае аб тым, ці ёсць у хаце сухія дровы, ці не

астыла чарэнь, ці гарачая ў печы капуста, якую ставіў учора ўранні, што цяпер, дзень і ноч не пабыўшы дома, трэба адразу брацца не за печ — калі яна нагрэецца? — а за жалезную грубачку-буржуйку, якая зіму і лета стаіць пасярод хаты, доўгай, праз усю хату, трубою злучаная з пячным комінам.

Пад ногі з-пад лаўкі выкатваецца Пушок. Ён з пароды балонак і, як амаль усе балонкі, свае блакітныя вочкі хавае за белай кудзеляю. Па вачах, нават схаваных у павучках кудзелі, Мечык заўважае, што Пушок галодны. Не распранаючыся, кінуўшы рукавіцы і шапку на лаўку, адстаўляе ад пячнога зяўла засланку і віламі шоргае па няроўным, ямкамі павыбіваным пячным подзе, шукаючы, дзе там, у цемені, схаваўся чыгунок з капустаю.

Капуста гарачая і не скісла, есці можна. Мечык налівае Пушку, бярэ лыжку і астатняе, стоячы ля загнеткі, лупіць з чыгунка сам. Не галодны, ён есць без хлеба, абы сагрэцца.

Паеўшы раней за Пушка, Мечык скідае кажух і, размораны гарачай капустаю, стаіць пасярод хаты перад вялізнай, як стол, на чатырох нагах драўлянай клеткаю. Клетка заселена-перанаселена папугайчыкамі, якія, пачуўшы гаспадара, разлёталіся, трашчаць на ўсе галасы. І як ты ад іх адвернешся? Стой ды глядзі, слухай, грэйся душою ў цеплыні іх паўднёва-сонечнага шчабятання. І Мечык стаіць, слухае, грэецца.

А потым нясе з-за печы бярэмца сухіх бярозавых дроў, распальвае буржуйку, каля агню сядае на табурэцік і выцягвае з-пад папружкі кнігу.

— Галапагосы-ы!..

Музыка дзіўнага слова ўсё роўна як дапамагае Мечыку адчуць, што папугаі сёння незвычайна сумятлівыя, усхваляваныя. Можа, даўно падзяўблі проса, якое ён ім сыпаў учора, чакаюць, згаладаўшы, яшчэ? Ці ў іх няма чаго піць? Ён падыходзіць да клеткі: о, божа, які прыбытак! У ніцяным гняздзечку, дзе яшчэ ўчора ўранні, калі ехаў на работу, на яечках сядзела зялёная, з барвянцам на хвасце і крылах самачка, цяпер з боку на бок куляюцца, хочуць устаць на ножкі і ніяк, нямоглыя, не устаюць тры жывыя камячкі: шэрыя, мокрыя, калмаценькія, з жоўтымі дзюбкамі і жоўтымі лапкамі. Над гняздом — яна і ён, мама і тата, пагойдваюцца на галінцы, супакоеныя, як пасля шчырай працы, шчаслівыя. Яна чысціцца дзюбкаю, аж пушынкі ляцяць у гняздзечка, а ён самавіта пазірае ўніз на малых, як на сваю ўзнагароду. Кожная жывая істота наталяецца воляю: яна — адседзеўшы на яйках, ён — стаміўшыся насіць у гняздо ежу, жаўтадзюбікі — вызваліўшыся нарэшце з палону яечнае

шкарлупіны. У іх, стомлена-шчаслівых, радасць ціхая, а навокал — апантаная: трыццаць тры папугаі, якія, акрамя гэтых двух і трох, жывуць у клетцы, спяваюць, лётаюць, падвясельваюць адно аднаго, ці не спраўляюць радзіны?

Мечык налівае ў паілку вады, падкідае ў буржуйку дровы і лезе на печ. Чарэнь не адстыла, цёплая, пад старымі ватнікамі гарачая, і ён, падаслаўшы ватнік пад грудзі, выпроствае ногі на чарэні, дзе яна гарачэйшая, падпірае галаву рукамі, кладзе перад сабою кніжку і лежма чытае далей:

— Галапагоскі альбатрос далятае да берагоў Чылі і Перу, але гнёзды будуе толькі на Галапагоскіх астравах…

Адвёўшы вочы ад кнігі, Мечык глядзіць з печы на сваіх папугаяў, слухае іх неўтаймоўныя перамовы, а боль у нагах мацнее, не дае ні спакойна слухаць, ні думаць, ні ціха ляжаць. Ён то варочаецца з боку на бок, то кладзецца на спіну, то садзіцца і зноў кладзецца, курчыцца, нібы ўюн, ціха, сашчапіўшы вусны, стогне. Раней, калі абвастраўся застарэлы тромбафлебіт, ён клаўся ў бальніцу, там яго калолі, уколы заглушалі боль на нейкі час, але карысці давалі мала, і гэтай зімою ўжо не звяртаўся да дактароў. На печы дзень-два пакачаецца, адагрэецца — зноў на нагах. Каб хвароба была ў навіну, дык, можа б, і цацкаўся з ёю, а то ж яна ад сорак трэцяга, ад той жорсткай ваеннай зімы, — даўно пара з ёю змірыцца, не думаць пра яе. І ён намагаецца чуць адно птушак, пра іх адных думаць: яшчэ ці не таму трашчаць, што дзень за акном узяўся сонечны, бялюткі, чысты? Тыя дні шалела замятуха, крактаў мароз, а сёння ціхата, мароз падабрэў, неба ачысцілася, сонейка з кожнай шыбкай цалуецца.

Але ці доўга будзеш думаць пра птушак, снег, сонца? Мечык зноў чапляецца за салярку: прывязуць ці не прывязуць? Ды прывязуць, нікуды не дзенуцца. Вось і ўсё думанне пра салярку.

А пра што яшчэ? Пра Ёсіпа. Пра сённяшнюю размову з начальствам. Ламі галаву — не дадумаешся: навошта кадрач завёў у кабінет, пачаў тую размову? Стараўся гаварыць мірна, лагодна, а ў вачах — хітрасць, падазронасць.

Стогнучы, Мечык прыўзнімаецца, сцягвае з сябе цёплыя штаны і пачынае аглядаць ногі. Яны павысыхалі, нібы трэскі. Твар поўны, без патрэбы, а ногі танклявыя. Сінія вены ўспухлі, пакруціліся, на вузлах, бугрыста ныюць пад скураю, лыткі чырвоныя, з сінізною, шчыкалаткі ды калені зноў як пампушкі, мяккія. Мечык абмацвае балючыя пухліны, боязна, як не свае, гладзіць ногі шурпатымі далонямі, потым апранае штаны і спаўзае з печы. Ён падкідае ў грубачку дроў, шчыльна зачыняе

дзверцы, каб ніводны вугельчык не выскачыў на падлогу, і зноў вяртаецца на печ. Выцягвае з-за коміна мех з зёлкамі, якія кожны год збірае па лясах ды лугах, ад маці навучаны, кладзецца бокам на чарэнь, а галаву — на мех, носам уткнуўшыся ў густы духмяны водар. Галава тлуміцца, вочы мутнеюць, пачынае хіліць на сон. Ён спіць заўсёды, прыехаўшы з кацельні, бо якое там, у кацельні, спаннё?

А пакуль сон не змарыў зусім, Мечык, згарнуўшыся на баку, як малое дзіця, глядзіць з печы на хату, аглядае яе ўважліва, быццам даўно тут не быў, і думае: гэта ж раней, гадоў колькі назад, прывязаліся — чаму не жэнішся? Чаму ды чаму, няўжо бабылём звякуеш? Гразёю, маўляў, зарасцеш, без жаночага прыгляду сап'ешся, пад чужым плотам, як сабака, падохнеш. А як яму было жаніцца? Сорак трэці і сорак чацвёрты, усю зіму, а за зімою — вясну і лета, адлежаў па шпіталях. Да самага пахвіння меліся адхапіць ногі, абедзве, туды ж і рукі, адны цурбалкі пакідалі. Сустрэўся, на яго шчасце, доктар, хірург, залатая душа, сказаў: «Якое жыццё без ног, без рук? Пішы паперу, што ў выніку чаго, ну, сам разумееш — рызыка, віну ты з мяне здымаеш. Гэтакі твой лёс — калі хочаш паваяваць за ногі, за рукі, дык пішы». І напісаў. Адваяваў і ногі, і рукі — не адрэзаў іх доктар. Але колькі гадоў пры тых руках і нагах ні хадзіць, ні рабіць не мог, усё тая сякера над ім вісела: адрэжуць ці не адрэжуць? Вось і ажаніся. Можа б, якую бабу і знайшоў, мужыкоў бабам не хапала, але шкада яе, тую, невядомую, якая б звязалася з ім, круглым калекам. Хопіць таго, што маці, на яго гледзячы, у магілу сышла заўчасна. А яны, людзі, менцяць. Што яны пра яго боль ведаюць? Хай бабыль. Хопіць таго, што жывы. Іншым і гэта не выпала.

Мечык глядзіць з печы на хату, разглядае, як першы раз, жалезную грубку з доўгай, па кавалках сабранай, трубою, чорнай ад дыму, глінай на швах аблёпанай, глядзіць на сцены, абклееныя каляровымі малюнкамі з часопісаў, на старую канапу, заваленую газетамі ды кніжкамі, на кветкі на вокнах, адны мушкаты, якія круглы год крываваць чырванню — святыя для Мечыка кветкі, на клетку з папугаямі, песням якіх няма канца-краю. Ну і што, калі бабыль? Затое ціха, вольна жыць. Ніхто нічым не папракне. Вісяць пасярод хаты споднікі — хай вісяць, гаспадараць у хаце папугаі — хай гаспадараць. І не здох ён пад плотам, ляжыць на сваёй печы, у цяпле, з кніжкаю пра сонечныя Галапагосы.

На сцяне каля парога вісіць пасуднік, а ў ім поўны боекамплект: баханка чорнага хлеба, брус сала, слоік з гуркамі, слоік

з кіслай капустаю, шынка, яшчэ леташняя, і непачатая пляшка вермуту, такая самая, як Ёсіп прыносіў. Згадаўшы яе, Мечык пасміхаецца з дактароў: «Вам, Мечыслаў Ягоравіч, нават адна кропля забараняецца, тромбафлебіт не даруе!» Мажа, яны казалі пра нейкую іншую кроплю, а тую, якую часам бярэ ён, тромбафлебіт не заўважае.

Есці Мечыку ахвоты няма, а выпіць можна. Але ён яшчэ не ведае, што ў ім пераборае, якая сіла: ахвота выпіць шклянку вермуту ці ахвота ляжаць, не ўстаючы, радуючыся птушкам, у іх спевах бачыць далёкія цёплыя астравы. Ён і п’е не так, як Ёсіп. Ёсіпу абы галаву зачмурыць, а яму, Мечыку, люба-дорага нутро сагрэць. Ёсіпаву прагнасць Мечык не разумее, як Ёсіп не разумее ягоную радасць.

Пакуль што пераборваюць птушкі і астравы. Можа, што цёпла без віна? Ён пераводзіць пагляд на вокны, адно, пасля другое, і яны, белыя, заснежаныя знадворку, не на хвіліну і не на дзве, на даўжэйшы час прыкоўваюць яго пагляд. Асобныя шыбкі бачацца спачатку, а пасля зліваюцца ў адну суцэльную, на ўсю сцяну, ды і тая, адна, мяняецца: то была роўная, блізкая, а то адсоўваецца ўдалячынь, пасярэдзіне пераламваецца, і на далёкім белым зломе, быццам на гарызонце, паміж дзвюма столкамі, як паміж аднолькава белымі ўзімку зямлёю і небам, з’яўляюцца рухомыя істоты. Яны шэрыя, і таму іх добра відаць на белым, відаць, як яны, з’явіўшыся на лініі гарызонту, рухаюцца бліжэй і бліжэй, паўзуць адна за адной, усе — з хобатамі, доўгімі і цяжкімі. Хобаты, усе да аднаго, цэляць у Мечыка, і ён плазам туліцца да гарачай чарэні, прыўзнімае адно твар, вузенька жмурыць вочы, углядаючыся ў белую, з гарбатымі істотамі, далячынь, быццам праз шчыліну ў танку глядзіць на сваю гарбатую смерць.

Боль у нагах глухі, закамянела-далёкі, не цяперашні. Гэты боль знаходзіць Мечыка на печы не ўпершыню, а з ім разам, таксама не ўпершыню, яго знаходзяць два галасы — адзін хрыпаты, ледзяны, другі шапатліва-вусцішны, маладзенькі.

Першы:

«Ну, што стаіш? Бачыш, прымёрз чалавек. Адсякай яго ад зямлі. Ды смялей, не бойся. Зачэпіш — не пачуе».

Заступ звонка ляскае каля галавы аб мёрзлы дол.

«Не там ты дзяўбеш. Пад ногі сячы. Праз ногі, бачыш, сцякаў крывёю. Асколкі парвалі».

Другі — малады:

«Па асколках ён бы дапоўз да вёскі. Калі ў ногі».

Першы:

«Каб жа адны асколкі. А то як махнытка чорны, гарэў у танку. Мароз-кіпун гэтакіх не выпускае. Але… Не сячы!.. Жывы, здаецца… Сястра-а!..»

Вёска Ягадка — пяць хатак. Ажно дзіўна, чаму за яе, гэтакую маленькую, дзень і ноч ішлі жорсткія танкавыя баі? Мечык разумее, што біліся не за адну Ягадку, біліся за вышыню, за агнявы рубеж, за плацдарм. Але здавалася, нібы за яе адну, пяціхатку. Дзе цяпер тая Ягадка? Ці жывая? Тады, у сорак трэцім, яна стаяла запарушаная снегам, скаваная маразамі, пасярод Беларусі, на беразе Проні. Апошняя вёсачка на яго танкавых дарогах. Не засталося ў памяці ні яе твару, ні яе вопраткі — адна назва. Калі немцаў адкінулі, пагналі на захад, там размяшчаўся палявы шпіталь, і ў ім Мечык ляжаў у бінтах. Адтуль, з шпіталя, яшчэ і цяпер чуў:

«Ну, лейтэнант, калі выжывеш, на сваіх нагах застанешся, то з зімамі, з маразамі будзе ў цябе ўсё жыццё або вялікая дружба, баяцца іх не будзеш, або доўгая-доўгая вайна».

Дружбы не атрымалася, а вайна сапраўды доўгая і ўжо, відаць, да апошняга дня, да апошняга снарада.

Не, гэта яшчэ не сон.

Заснуў Мечык пазней і бачыў у сне дзіва дзіўнае. Быццам па-над белымі воблакамі ён ляціць на тыя астравы. Не на самалёце, як лётаюць людзі, а на сваёй печы, і не адзін, а з Ёсіпам. Ёсіпа, праўда, побач не відаць, ён качагарыць, падкідае ў печ дровы, каб не астывала чарэнь. Бо астравы астравамі, няхай сабе і цёплыя, а Мечык і Ёсіп мужыкі бітыя, ведаюць, што сваё цяпло не зашкодзіць нават на Галапагосах.

*1982*

## СУПРАЦЬ НЕБА — НА ЗЯМЛІ

У Ходарава, сваю вёску, Іван Калядка прыехаў ноччу, блізка да першых пеўняў.

З цягніка ў Магілёве ён сышоў позні́м вечарам, калі аўтобусы ў яго бок ужо не ішлі, ды пашанцавала — злавіў начнога таксіста. Гнаць за паўсотню кіламетраў той адмовіўся, а за горад падкінуў, і там, у полі, Калядка галасаваў, пакуль не спыніў парожні самазвал. Пажылы шафёр уважыў, прывёз аж у вёску, і грошы,

дзівак, не ўзяў. Закурылі, пацiснулі адзін аднаму рукі, і машына вярнулася на асфальт, а Калядка дзе з кабіны вылез, там, на родненькай вуліцы, і стаяў з лёгкім салдацкім чамаданчыкам, цяжка абсунуўшыся плячыма на новыя варанёныя мыліцы.

Ні ў воднай хаце агню не было, вёска спала, і гэта суцяшала, бо яшчэ ў Ташкенце, у шпіталі, уяўляючы, як вернецца ў вёску, хацеў, каб гэта здарылася ноччу, абавязкова ноччу, і каб сустрэлі сабакі, адны сабакі. Яны хай пазнаюць. І хоць прыехаў ноччу, не ўсё атрымалася, як уяўляў: сабакі не брахалі. Такой бяды. Але здзівіла, што ніводны дварняк не пачуў самазвала, як ён грымеў, падгопваў на катавінах, ніводны не пачуў ні яго, Іванавага, голасу, ні голасу чужога шафёра, як гаманілі, прыкурваючы ад афганскай запальнічкі. Ці ў вёсцы не стала сабак? Быць не магло. Чым Ходарава заўсёды славілася, дык гэта сабакамі. Тут не вадзілася ніводнай стрэльбы, нават іржавай куркоўкі, ніхто не паляваў ні звера, ні птушкі, не было ў вёсцы ні лаек, ні ганчакоў, але гультаяватыя дварнякі вылежваліся ля кожнага ганка — звягі хапала. Таму і здзівіўся. Нават здалося, што не ў сваю вёску трапіў. Пазнаваў і пазнаць не мог. Хаты знаёмыя, ды цішыня — якой у Ходараве не чуў зроду.

Густа, з усіх бакоў, цвілі сады. Вішні ды слівы ўжо адцвіталі, а яблыні абсыпаліся самай квеценню, ад якой ноч, здавалася, спачывала ў святле пражытага дня. Нават шыбы ў вокнах белым блішчэлі, усё роўна як хаты парасчынялі вокны і ў іх калыхаліся белыя гардзіны. Дождж прайшоў звечара — і там, дзе Калядка ехаў, за вокнамі вагона, і тут, у вёсцы, па якой стаялі лужыны, — у паветры парыла, зноў ці не на дождж, і гэтая начная цяплынь таксама, як духмяная белізна ў садах, давала адчуванне дня. Здалося, што хаты не спяць, што за кожным акном стаяць людзі, што яны, схаваныя прыцемкам і белым бляскам, глядзяць на яго ды маўчаць, як маўчаць сабакі ў дварах. Калядка адарваў мыліцы ад зямлі, зрабіў пяць крокаў — зноў спыніўся.

Ён не адразу заўважыў, што стаіць пад гонкімі вішнямі Капасёвай Ганначкі. Жыла-расла дзяўчынка побач, праз два шнуры яблынь ды праз два прагоны бульбы, за плотам у дзве жардзінкі, скакала-бегала, ён яе як дзяўчыну, сабе раўню, не заўважаў, а ў апошнюю вясну, калі ішоў у армію, заўважыў і здзівіўся, якая слаўная Ганначка, як яна адразу, за адну вясну, сонейкам налілася. І панёс у сэрцы не то боль, не то радасць, пакутлівую трывогу, тлумачэння якой не ведаў і не шукаў з прычыны зялёнае маладосці. Цяпер падумаў: не заўважаў, жывучы побач, а нехта ж

высачыць з-за лясоў, з-за нівак. Можа, ужо высачыў? Занепакоіўся — няўжо? Дзе яна цяпер? У вёсцы альбо ў горадзе? Працуе ці вучыцца? Тут, у Ходараве, якая вучоба, якая праца? Нават школы сваёй няма, хадзілі за тры вярсты ў Лукам'е. Вёска малая, ледзь не кожным калочкам на клады глядзіць. Неперспектыўная, як кажуць. Дык ці тут ёй, Ганначцы, месца? Мабыць жа, у горадзе?

З гэтымі думкамі і пастаяў, і да сваёй хаты дайшоў.

Два акны ў гародчык, дзе цвіў, моцна пахнучы, белы бэз, таксама, як па ўсёй вёсцы, белыя, нібыта і ў вокнах бэз. А хата чорная. Ад дажджу, макраты. Студня пад вокнамі. Зрубчык нізкі, у зямлю праваліўся, але новы вяночак зверху ляжаў, свяціў, і стрэшка над ім новая. Ці не дзед змайстраваў? Ланцуг на калаўроце блішчэў. Іван падышоў да варотаў, бразнуў клямкаю і адразу зірнуў у бок суседавай хаты, усё роўна як чакаў, каб выйшла Ганначка. Ціха і там, ціха і тут. Паляскатаў мацней — ціха. У хаце — нікога? Дзе ж старыя? Праз штыкет гародчыка мыліцай дацягнуўся да акна, саўгануў у раму — шыбкі звякнулі, далей — ні гуку. І ў хаце, і на ўсёй вуліцы. Ужо на гэтакі бразгат, бывала, ні ў адным двары сабака, нават самы гультай, не змоўчыць, падасць голас.

Падышоў да калодзежа, выцягнуў вядро вады і доўга піў набгом, прыхлёбваючы, з успамінам, як у вагоне шукаў, дзе б напіцца, сноўдаў па вакзалах, перонах — глытка вады не мог знайсці. Затое цяпер доўга не адрываўся ад вядра, ад вады — сцюдзёнай, з нябеснымі зорачкамі і з белымі яблыневымі пялёсткамі. Ён іх, бялюткія, не здзьмухваў, п'ючы. Плылі ў рот, а ён, скасіўшы ўніз вочы, глядзеў на кожны, пасміхаўся, нібы дзіця, блазнуючы, піў ваду з імі разам.

Напіўшыся, зноў ляскатаў клямкаю, дзынкаў у шыбу, але ніхто не адгукаўся. Дзе яшчэ маглі начаваць старыя, як не ў сваёй хаце? Іх круг жыцця даўно сышоўся-замкнуўся на вёсцы. Ды і ведалі, што ён, Іван, едзе. Ліст напісаў з Ташкента, тэлеграму даў следам з дарогі. Не атрымалі?

Адчуўшы нешта чужое ў роднай вёсцы, зноў агледзеўся, як шукаючы вакол загадку свайго становішча, і раптам пасярод вуліцы заўважыў дзіўную істоту. Яна сядзела па-сабачы, бліскала жоўтым святлом вачэй, сама жаўтлявая, калматая, падобная на дварняка, а вушы — тарчма, нібы ў ваўка ці аўчаркі. І ні знаку жыцця: ні голасу, ні хоць бы аднаго якога руху. Можа, здань? Адкуль з'явілася, калі хвіліну назад вуліца была пустая, нікога на ёй не было? Падняў з-пад ног цагліну, шубнуў. Істота не варухнулася.

Калядка падышоў да плота, пралез паміж жардзін на агарод, засеяны бульбай, якая яшчэ не ўзыходзіла, абышоў па мяжы хлеў і лазню, адкінуў кручок на фортцы — зайшоў на двор з тылу.

На сенечных дзвярах вісеў замок.

Недзе грукнула. Не ў сенцах, не ў хаце — у лазні? Кот мышэй ганяў — свой ці чужы? А што ў лазні катам ды мышам рабіць? Не свіран, не хлеў, не клець — які наедак? Можа, леташнія венікі?

Пасярод двара стаяла дубовая калода, і Калядка сеў на яе, дастаў з кішэні круглы кітайскі ліхтарык, пасвяціў вакол па двары. Двор быў надзіва чысты, зарослы травою, гразі ні следу, усё роўна як па двары даўно не хадзілі ні кабаны, ні куры, ні карова. Нават будка сабачая зарасла маладой крапівою ды свінарэем. Ціша і ў ёй, нібы ў труне. Дзе ж Сумёт? Няўжо здох? Сабака быў стары, з ім Калядка яшчэ малы ў школу бегаў, запрагаў у санкі. Можа, і здох, саваё адбрахаўшы. Светануў далей, у акенца лазні. Ледзь прамянёк лізнуў шыбку, як за ёю грукнула, быццам штосьці на падлогу звалілася. Ад промня? Усхапіўся з калоды на мыліцы, падскочыў да дзвярэй, пачаў ляскатаць. Там хтосьці дыхаў, але не адчыняў. Хаваўся? Падхапіў на плячо драбіны, якія ляжалі пад плотам, прыставіў да франтона, з адной мыліцай падняўся на гарышча.

Столь яны з дзедам уцяплялі пяском ды мохам, але над прымыльнікам дошкі клалі голыя, нават не прыбіваючы, каб праз шчыліны выходзіла пара. Падняў дошчыну, побач — другую, пастаяў над дзіркаю, слухаючы, можа, яшчэ які гук зловіць, і, не пачуўшы нічога, акрамя як быццам знаёмага смуроду, ніякага гуку, звесіўся на руках у дзірку, намацаў нагою падлогу — бліснуў ліхтарыкам. У прымыльніку — нікога. Адчыніў дзверы ў парылку — бліснуў туды. Святло слізганула па печы, лаўцы з тазамі і выхапіла з цемені чалавека — жывога: галава вялізная, сівая, на вачах круглыя шкельцы акуляраў. Той жмурыўся ад святла, шырока, нібы рыбіна ў прыдуху, разяўляў рот, намагаўся сказаць ці крыкнуць і не мог, а побач з ім старая, прыціснуўшыся да старога, за ягоным плячом хавала ад святла твар.

— Дзед Панкрат — ты? Баба Кланя?

Ліхтарык пагас. Калядка аберуч схапіў старых, быццам малых, прыціснуў абаіх да сябе і лбом, носам, вуснамі шукаючы ўпоцемку твары, тыцкаўся ў галовы, цалаваў, чуючы, што твары іх ужо гарачыя і мокрыя.

Старая вохкала, хлюпала носам, а стары, хапаючы ўнука за плечы, спіну, галаву, пытаўся:

— Няўжо гэта ты, Іван?.. Чаго ж ты тутака?..

— Ну… я гэта, дзед Панкрат. Я ж вам пісаў, што еду. Вы не атрымалі майго ліста? Тэлеграмы не атрымалі?

— Ды атрымалі, Іванка, — шаптала старая слабенькім і дрыготкім, як ад страху страціўшы апошнія сілы, голасам. — Усё атрымалі. Кіно гэтакае не чакалі.

— А чаго вы тут?.. Не мыецеся, а ў лазні. Хаты мала?

— А на машыне, можа, ты пад’ехаў? Машына гула.

— Я… на самазвале.

— Ну во, баба!.. — уз’ярыўся стары. — Я табе што казаў? Я і казаў: ці не Іван? А ты мне — што? Міліцыян, можа?.. Вось дык сустрэлі!..

— А бо-жа мо-ой!.. — залямантавала старая, быццам тое, што сказаў стары, да яе нарэшце дайшло.

Калядка зноў уключыў ліхтарык.

Акенца было завешанае шэрай коўдраю, у куце на падлозе гарэў керагаз, на ім стаяла выварка, накрытая тазам, а з-пад таза ва ўсе бакі пырскала тая самая смярдзючая пара, якую ён пачуў яшчэ на гарышчы. Здагадаўся:

— У самагоншчыкі запісаліся?

Старыя прымоўклі, нібы перад тым міліцыянам, ад якога хаваліся, хоць спытаў унук больш са здзіўленнем, як з асуджэннем. Дзеду Панкрату ўсё роўна як зрабілася брыдка — кінуўся апраўдвацца.

— А хто ж з вайны сустракае без кроплі пякучкі? Калі гэтакае чуў ці бачыў? Ці мы нехрысці? Людзі прыйдуць у хату павітацца. Не нальеш — асудзяць. Каму дакажаш, што няма дзе купіць?

Старой гэтыя апраўданні не спадабаліся:

— Ды кінь ты… Пайшлі, можа?

— Бровар зачыняем? — спытаў Іван.

— Ліха з ім, хай смярдзіць. Агонь, баба, збаў.

Стары адступіў ад парога, прапускаючы ўнука наперад, той крутануўся на адной назе, выставіў мыліцу за парог, выскачыў на двор, і там, пасярод двара, асветленага зорным небам і белым садам, апынуўшыся ў нечаканым святле каля дубовай калоды, на якой стаяў чамаданчык і ляжала другая мыліца, збянтэжыўся, усё роўна як голага вывелі на святло.

— А бо-жань-ка-а!.. — схапілася за галаву старая. — Што ж яны з табою, Іванка, зрабілі?!

Калядка ўзяў яе за плечы, прытуліў да сябе, глушачы лямант у сваёй мяккай фланелевай куртцы, у якую тварам сунулася баба Кланя. Куртка была шырокая, з мноствам рамянькоў, замкоў, кішэнек, аборак, купляў яе ў Ташкенце на рынку, як выйшаў са

шпіталя, убачыўшы, што да мыліц нішто вайсковае не пасавала, і, можа, гэтая вопратка таксама бянтэжыла бабулю — пэўна ж, чакала ўнука пры лычках ды бляшках, у форме, як з арміі ўсе вяртаюцца.

— Сціхні, баба, — адцягваў яе ад унука стары. — Жылі і жыць будзем. Сорак першы адужалі. І сорак пяты. Без ног ды без рук вярталіся праз аднаго. А жывём?.. І вёску адбудавалі, і дзяцей панараджалі…

У штодзённым жыцці старая хоць пакрыквала на старога, яго ўлада была большая, бо ішла ад спакою, разважлівага слова, перад якім яна замаўкала. І цяпер, калі пачаў разважаць, аціхла на грудзях унука, далонню выцерла твар і ўжо сама, адхінуўшыся, не па-дурному разважыла:

— Ты сядзь, Іванка. Стаміўся нябось.

Яны сядзелі пад сенечнымі дзвярыма на ганачку — унук пасярэдзіне, старыя абапал, — пад замком на дзвярах, які здзіўляў Калядку. Не вытрымаў, спытаў, з якога часу на сенцы з двара замок вешаюць. Баба Кланя нечакана павесялела:

— А гэта ж, Іванка, ад міліцыяна. Хаваемся, як, бывала, ад немца. Той самы страх. Хоць табе, бачу, смешна.

Смеху сапраўды было не менш, як бяды, бо Іван усё роўна не зразумеў, навошта замок на сенцах, калі з вываркаю самі ў лазні, але ўжо не дапытваўся, адно падумаў, што дзед замок не павесіць, выдумка, пэўна ж, запалоханай бабы Клані.

— А дзе Сумёт? Няўжо здох?

— Ды як быццам жывы. І як быццам няма, — мудрагеліста адказаў дзед Панкрат.

— Як гэта?

— А я ж табе, Іванка, пісала пра нашу бяду, — прыгадала свой адзіны за два гады ліст баба Кланя. Лістамі яна, як і стары, не сыпала, бо літары ў яе слове былі падобныя на зубы ў гнілым роце, сама свае пісаніны саромелася, але аднойчы, на першым годзе ўнукавай службы, як дужа спатрэбілася, набралася смеласці, напісала. — Ці помніш?

— Помню, бабуля. Пра радыяцыю? Але ж у тым лісце ні слова не было пра Сумёта. Ты пісала, што Бочка аднекуль прывалок у вёску стрэльбу, сабак страляе. А пра Сумёта — ні слова. Ці ён і Сумёта забіў?

— Бочка страляў спачатку тых, каторыя па вёсцы бадзяліся. Казаў, што ёсць загад страляць, каб заразу не падбіралі, не разносілі. А пасля пайшоў па дварах. Хоць у будцы, на ланцугу, а не пашкадуе, пакладзе. Свайго сабаку, сам ведаеш, кожнаму шкада.

Людзі і пачалі з ланцугоў спускаць. А яны, апошнія, ужо ведалі, што Бочка на іх палюе. Як з двара — дык і ў лес. Каторыя самі пазрываліся. А лес парабіў іх ваўкамі.

Дзед Панкрат, слухаючы, абурыўся:

— Якімі ваўкамі, баба? Сабаку воўкам не зробіш, калі сабака. Падзічэлі ў лесе. Галодныя, а ў вёску не ідуць. Падыдуць блізка і выюць, як ваўкі.

Старая змоўчала і патэпала ў лазню да керагаза, а яны, мужчыны, зайшлі ў хату. Як толькі стары ўключыў святло, Калядка адразу заўважыў, што яго тут чакалі. Звычайна яшчэ ў зальчыку блюлі парадак, усё ці амаль усё ляжала і стаяла на сваіх месцах, а тут, ля печы ды ля парога, як у кожнай гаспадарцы, і чыгуны, і вёдры, і дровы, падлога вечна брудная, фарбуй ці не фарбуй, гальнём шараваць не паспявалі, гразь як сама з двара плыла і плыла, асабліва ў дождж, у халепу, абы-што і абы-як вечна параскідана па лаўках, стале, падаконніку, з печы віселі транты. А то і падлога жоўценькая, нібы яечка, чыстым ходнічкам засланая, і ніякага шуруму-буруму на лаўках, ля печы ні чыгуноў, ні вёдзер, як і не вёска, як у хляве няма каго паіць ды карміць, печ быццам нядаўна пабеленая, з чыстай квяцістай шырмачкаю над пячуркамі, з якіх нішто не вісіць, не тырчыць, ніякіх нідзе анучаў, трантаў. І нават партрэт яго над сталом. Здымаўся летась у палявой форме дэсантніка. Вось — падумаў — гэтакім баба Кланя яго чакала.

Селі за стол, засланы старой, але чысценькай, палапленай на рагах цыратаю, — адзін супраць другога.

— Адваяваўся, значыць, сынок? — Дзед Панкрат і раней называў унука сынком, што было справядліва, бо даражэйшага чалавека, як Іван, у старых не было. Ён гэта заўсёды памятаў. — А мы тут цябе, атрымаўшы ліст, кожны дзень чакалі. Старая на дні сто разоў бегала на шлях, хто ідзе ці едзе, пыталася: там Іванку майго не бачылі? А сустрэлі?..

Дзіўна было і Калядку:

— Ніколі б не падумаў, што мае старыя ведаюць, як яе, зладзейку, рабіць. І хто вас навучыў?

— Жыццё, галубок, навучыць.

Дзед Панкрат ціхі, лішняга каліва, колькі жыў, не ўзяў, яму як ёсць — люба, супраць сумлення ды закону не ішоў ні ў малым, ні ў вялікім. І вось гэтакі чалавек сядзеў перад родным унукам, хаваючы вочы, тручы пальцамі шкельцы ў акулярах, якія і раней, калі хваляваўся, мутнелі ад поту. Сам ведаў, што не ў сваё карыта ўсунуўся, але штрафнікам сябе не лічыў.

— Як атрымалася? Твой ліст падагнаў. Кінуўся я ў краму — як ні круці, а ў хаце свята, сынок з вайны вяртаецца. Да крамы пяць вёрст — прыбег першы. Яна, з гарэлкай, адна на сельсавет, мужыкі ды бабы плывуць з усіх вёсак, з горада, бо і ў горадзе не дужа купіш — нейкі ліміт прыдумалі, як раней на хлеб. А краму адчынілі — пайшлі па галовах. Бугаі ды шпікулянты хапаюць скрынямі, а табе, старому, ніякага подступу. Тры дні хадзіў — усё паражняком. Падказалі чалавека на хутары. Прыйшоў. Наліў ён мне каністрачку, у якой ты ваду браў на трактар, як у калгасе рабіў. Гарэлка, вядома, свайго заводу. Прынёс у хату, а следам участковы з панятымі. Мне людзі пасля сказалі, што хутаранца яны не бяруць, берагуць, самі ў яго пасуцца, а бяруць тых, хто ў яго купляе. Штрафу прыпаялі ды яшчэ маёй гарэлкай зямлю напаілі. А тут бульбу садзіць. Я ў калгасную кантору па каня, а мне кажуць — самагоншчык. Я да Бочкі: ты ж мяне ведаеш — ці я самагоншчык? А ён, хоць сусед, тое самае: не паложана — штрафнік. Я да старшыні…

— А Бочка які начальнік?

— Брыгадзір.

— А старшыня — хто? Бабуля пісала, што новы?

— Ананіч. Аднекуль прыехаў.

— І што гэты Ананіч?

— А тое самае. Што пайшоў супраціў закону. А калі супраціўнік, кажа, дык запрагай, дзед, сваю бабу.

— Гэтак сказаў?.. Ну а ты?.. Ты яму — што?..

— А я — не ўлада. Паваloкся шукаць хамут на бабу.

Іван аж падскочыў з лаўкі:

— Ды ты што кажаш, дзед Панкрат?.. Ты?..

— А што было, галубок, тое і кажу. Прыйшоў я ў райкам да самага першага. Сяджу ў прымыльнічку. Людзі сядзяць. Ён, першы, да нас з кабінеціка выйшаў. Як я сядзеў бліжэй да дзвярэй, ён у мяне і запытаў адразу — з чым прыйшоў? Так і так — хамут шукаю. Ці ў райкаме, кажа, хамуты прадаюць? Дык нідзе, кажу, не прадаюць, а бульбачку садзіць трэба. Адышоў ад мяне, як ад дурня, да наступнага чалавека, але зноў вярнуўся, усё роўна як я яму дужа моцную скабку загнаў. Конь, пытаецца, ёсць? Кабыла, кажу, ёсць, а хамута, які на маю кабылу трэба, няма. А які ж табе трэба? Трэба, кажу, хамут на бабу. Ён рот разявіў — закрыць не можа. Я змікіціў, як пасобіць, тлумачу, што Ананіч, старшыня, даў каманду, каб запрагаў бабу. Ён за тэлефончык — накручвае Ананічу. Праўда, пытаецца: што ты там старых у плуг запрагаеш? І давай чысціць. А потым —

мне: вяртайся, дзед, у вёску, і каб больш гэтак не жартаваў, бо твае жарты падрываюць савецкую ўласць. Вярнуўся я ў вёску, гляджу і вачам не веру: стаіць ля маіх варот белы конь, гладкі, чысты, аж blішчыць, якраз пану для выездаў, хоць і запрэжаны не ў панскую карэту, а ў захлюпаныя драбіны. На драбінах — плуг з ворчыкам. Быццам у той казцы, якую ты, Іван, малым, калі ў школу бегаў, любіў чытаць дзеду і бабе. Не забыў? Пра канька-гарбунка?..

На душы зноў пасвятлела. Ад дзедавага ўспаміну, ад таго, што дурата з хамутом знайшла неблагі канец. Нават радочкі пад настрой успомніліся:

— Кобылица та была вся, как зимний снег, бела, грива в землю, золотая, в мелки кольца завитая…

Загаварыўшыся, не заўважылі, як на парозе з’явілася старая, аберуч трымаючы перад сабою абгорнуты анучкаю слоік. Стаяла ды слухала. Калі ж Іван, а за ім і дзед Панкрат зірнулі на дзверы, заўважылі, яна падышла, паставіла на стол паміж імі слоік, строга паглядзела на свайго Панкрата. Той здагадаўся, што яна чула іхнія казкі, ад пачутага ўзлавалася — рукі да слоіка:

— Бач, з дымком. Наша баба — золатца.

Іван з другога боку працягнуў рукі да слоіка:

— Гарачанькая?..

Ліслівае пахвальбы ў свой бок старая не прызнала. З анучкай у руках спакойна пазірала на аднаго, на другога, а потым сказала тое, што думала:

— Ты, стары, калі пачаў пра свае геройствы, дык пакажы ўнучаку, як тая белая кабылка ў цябе на спіне распісалася. Ну?..

Наступ быў для дзеда поўнай нечаканасцю:

— Ды я… Ды што мы?.. Іван не ведае нашай жыткі?.. Хай пра сябе раскажа, як з тымі душманамі?..

Ды старая і на гэтыя яго хітрыкі не клюнула:

— Іван раскажа. А ты, калі пачаў, круці да канца. Каб усё папраўдзе і да канца, як любіш казаць. Ну?..

Дзед Панкрат насупіўся і маўчаў, галаву ўтуліўшы ў плечы, нібы хворы ці пашкуматаны навальніцаю верабей, пакрыўджанымі вочкамі лыпаў то на старую, то на ўнука, усё роўна як сам зразумеў, што ўладу здаў і пакорліва чакаў літасці. Але гэтак толькі на момант здалося Івану. Можа, нават самой бабе Клані. Раптам, як прачнуўшыся, стары рашуча адсунуў ад сябе слоік з гарэлкаю, усхапіўся на ногі, упёрся кулакамі ў стол і скамандаваў, нібыта войску:

— Спаць!.. Пара, баба, спаць!..

І адбылася яшчэ адна нечаканасць — яна разгубілася:

— Ну дык… кладзіся, ці што?..

Іван ляжаў у топкіх пярынах ды падушках на канапе ў зальчыку галавою ў кут, дзе вісела любімая бабіна ікона Міколы-цудатворцы, святога боскага ўгодніка. За ікону баба Кланя засоўвала пукі валошак, рамонку, купалля, пазней — жытнія каласкі, і травамі ў пакоі, нібы ў сянніцы, пахла заўсёды, нават зімою. Пахла і цяпер, асабліва моцна — мятаю. У гэтакай мяккай ды чыстай пасцелі Іван даўно не ляжаў, а заснуць не мог. Спачатку думаў пра тыя травы, успамінаў іх жывыя пахі, потым стала душна, і ён вылез з-пад коўдры, адчыніў палавінку акна на вуліцу. Пасядзеўшы, лёг, і тады здалося, што побач з уцалелай левай нагою ляжыць правая. Рукою шарыў у тым месцы, нічога не намацаў, супакоіўся, але праз якую хвіліну зноў здалося, што правая, якую толькі што шукаў і не знайшоў, ные, як пасля доўгай цяжкой дарогі, што на ёй свярбяць усе пальчыкі, быццам даўно не мытыя, і ён сеў, адкінуў коўдру, як паверыўшы ў цуд. А потым ляжаў, глядзеў у столь і думаў пра вёску. Хто ў ёй цяпер жыве, хто яе за апошнія два гады пакінуў? Бочка ці не самы малады? Яшчэ — Капасі. Вось і ён, Калядка, вярнуўся. Ці надоўга? Як служыў, думаў, што вёска не затрымае, жыццё трэба ладаваць у горадзе, не ўдасца ў вялікім, дык хоць у райцэнтры. Усе ў арміі, хто з вёскі, мараць пра горад. А пазней, у шпіталі, зразумеў, што не яму пра горад думаць, што гэтакага, на адной назе, горад не прыме, калі за яго і зачэпішся — як жыць у ім сярод чужых людзей? На дзвюх нагах — адна жытка, на адной — другая. Трэба вяртацца ў вёску, да дзеда і бабы, там хоць хата свая, людзі свае, зразумеюць і пасобяць, родныя сцежкі, палі, лясы. На трактар не сядзеш? Але ж нейкая работа знойдзецца. Можа, Ганначка працуе ў калгасе? Карцела спытаць пра яе ў старых, ды яны ўжо, відаць, спалі. А тым часам у акне світала — зноў падумаў: чаму пеўні маўчаць? Ляжаў — прыслухоўваўся: дзе тыя курачыя кавалеры? Пачуў — плакала баба Кланя. Ціха, глуха, у падушку. А што дзед? Заснуў — не чуе? Раней спаў з лёгкім храпам, з прысвістам. Можа, не спіць, маўчыць? Чаму ж не суцешыць бабу Кланю? Івану не было нічога балючай, як бабуліны слёзы, і ён нясмела, не ўпэўнены, што нехта адкажа, на ўсякі выпадак спытаў пра пеўняў.

Баба Кланя кінула плакаць, заціхла. Голас пачуўся дзедаў:

— Няма пеўняў. Нічога жывога. Пабралі кароў, свіней, авечак. Сказалі, што ад жывёлы зараза. Падбірае з зямлі радыяцыю.

І тады ціха, у лад дзеду і ночы, Іван спытаў:

— А што вы тут ясце? Ні свайго малака, ні яечка?

— А нам на кожную жывую душу даюць па трыццаць рублёў грабавых, каб з крамы карміліся.

— Грабавых?..

Іван ледзь вымавіў слова — замоўк, нібы косткаю падавіўся. Там, адкуль вярнуўся, трунаў набачыўся, але не мог падумаць, што той самай атрутаю ў першую ж ноч павее тут, у дзедавай ды бабінай хаце. Там — вайна, з бядою звыкся, баяўся, ці паразумеецца ўжо з мірнай вёскаю, ехаў, здавалася, з пекла ў рай, а што тут кажа дзед? Свой рай не цэніць? Забыўся, як на вайне? Можа, нагадаць? Не стрываў:

— Ведаеш, дзед Панкрат! Калі мы першы раз, яшчэ зайцы не абстраляныя, прыляцелі ў Кабул, выйшлі з самалёта, перад намі, на лётным полі, стаялі штабялі новенькіх цынкавых грабоў. Пад самае неба — бялюткія, блішчалі на сонцы. Крычаць хацелася: мы яшчэ жывыя, а вы тут ужо нас чакаеце?.. А як адтуль сюды ехаў, месца не знаходзіў ад думкі: вяртаюся, буду жыць, а цынк свой некаму пакідаю? Кагосьці іншага пакладуць у яго, у мой, такога маладога, як я, можа, майго сябра, які мяне, параненага, выносіў з бою?..

Не ўсё сказаў, што хацеў, — задыхнуўся. Маўчаў і стары. Заткнуўся са сваёй бядою? Але не — зноў:

— Яны нас, сынок, усюды чакаюць. Тут мы іх не бачым загадзя. Тут яны не блішчаць. Нашы драўляныя…

— Ну… не будзем!..

Іван сарваўся, крыкнуў, як загадаў, і цяпер ужо маўчалі доўга, нібы адмовіўшыся ад гэтай начной размовы, адчуўшы, што завялі не тую катрынку, што на сон можна б іншае ўспомніць, сказаць. Ці не пакрыўдзіўся дзед Панкрат? Чаго закрычаў раптам? Бабу Кланю, можа, спалохаў? Ціха, як апраўдваючыся, спытаў пра іншае:

— Ганулю Капасёва вучыцца ці працуе?..

Насцярожыўся: што стары падумае, як адкажа? Чаму раптам у той бок, за агароджу ў дзве жардзінкі, думкаю стральнуў?

Але ўжо баба Кланя лейцы перахапіла:

— Капасі яшчэ летась з'ехалі з Ходарава. Хату кінулі. Харашына, самі будавалі, якую хацелі, а купца не знайшлося. Хто цяпер у Ходараве жыць кінецца? Замок на дзверы — паехалі. Яго ж, Капася, пагналі з партыі.

— Капася — з партыі?.. За што?..

— А за радыяцыю. Што бегчы надумаў. Сказалі, што дэзерцір. А ён мне, ад'язджаючы, так сказаў: не хачу, каб мае дзеткі жылі з грабавых. Тры дзяўчынкі…

— Во як!..

Гэта, апошняе, Івана зусім збянтэжыла. Нават не тое, што побач не было Ганначкі, ад чаго над вёскаю само сабою сцьмелі і сонейка, і месячык, збянтэжыла пачутае пра Капася, які рабіў у калгасе галоўным аграномам, зямлю ведаў і любіў, з рук яе, можна сказаць, не выпускаў. І за Ходарава трымаўся. Колькі зманьвалі ў раён, у вобласць, на высокія пасады, а вёскі не кінуў, нават у Лукам'е, цэнтр калгаса, не пераехаў, хоць там катэджык новенькі яго чакаў. Дочкі раслі хваравітыя, а тут, казаў, у Ходараве, высокае месца, лугі мядовыя, дзяўчатак лечаць. Жывёлы развёў поўны двор, у садзе вуллякоў панаставіў. І ў калгасе рабіў, як цяпер мала хто робіць. Дарма хлеб не еў. А вось пагналі? Гэтага Іван не мог зразумець. Яму заўсёды здавалася, што Капась — камуніст з камуністаў. Ды і ўся вёска тое казала. На табе — дэзерцір. А ці тут якая вайна, што павінны быць дэзерціры? Дачок любіў, дрыжаў над кожнай? Дык і зямлю ж любіў? Ці гэтага мала?

Іван глядзеў у столь. Спаць не хацелася. Не мог заснуць, гэтакае пачуўшы. Быў звёў вочы, усё роўна як сон нарэшце падкраўся, а ў галаве мешанка з пражытага і на тым, пакінутым, беразе, і на гэтым, да якога вярнуўся. На бок лёг, расплюшчыў вочы — у акне ўбачыў раніцу, зусім ясную, хоць яшчэ не сонечную, засмужаную, шырокую зялёную вуліцу, суседаў хлевушок на тым баку вуліцы, бярозку над шыферным дахам. Здалося: вось нехта будзе ісці па вуліцы — вёска ж, пэўна, прачнулася? — і ён чалавека пазнае, здагадаецца, куды пайшоў, па што, як заўсёды здагадваўся, ведаючы, хто чым тут дыхае. Але хоць ляжаў на баку даўгавата, нікога ў акне не заўважыў, ніхто нікуды не ішоў, усё роўна як раніца з ім падманвалася і людзі яшчэ спалі. За хлявом убачыў чыйсьці чырвоны комін і ўжо сачыў, чакаў, калі ён пусціць дым у неба. Зноў не мог дачакацца — комін тырчаў, як пень мёртвы. Рана паліць у печах? Слухаў: ці варушацца там старыя? Нехта з іх пасопваў за шырмай, мабыць, дзед Панкрат. У гэтакі час звычайна баба Кланя ўжо рыпела дзвярыма, тупацела туды-сюды, за парог у сенцы і зноў у хату, налівала чыгуны, ставіла ў печ, а то ж і ў хаце ціха, як жывога нікога, ніякага клопату?

Іван падняўся. На падлозе ля галавы стаяў чамаданчык, і ён яго паклаў на канапу, адчыніў. Зверху ляжала шаўковая, у

яркія кветкі хустка з доўгімі махрамі, якую купіў у Ташкенце на рынку бабе Клані на сьвяты. Павесіў хустку на спінку крэсла, з чамадана дастаў цёплы шарсцяны світар для дзеда Панкрата, каб у халады не мёрз, паклаў на падаконнік. Яшчэ старым вёз ласункі ўсходнія, пляшку каньяку, але гэтага пакуль не чапаў. Дастаў вайсковыя штаны, кіцель. Штаны прымяліся за дарогу, але ён іх надзеў, далонямі разгладзіў, падабраў правую калашыну, закалоў шпількаю, каб не вісела пустая. Кіцель таксама прасіў праса, але і яго, звякаючы медалямі, ускінуў на плечы. Глянуў на сябе ў люстэрка, якое ў авальнай багетавай раме здаўна вісела на сцяне ля канапы, яшчэ калі канапы не было, — вось, падумаў, якім баба Кланя чакала ўнука. Ну… не зусім такім, а ўсё ж — з медалёвым звонам. І выйшаў, доўга пра гэта не думаючы, з хаты.

Неба залівала ранішняя малочная смуга, залівала сады, агароды, хаты з хлявамі, якія стаялі далей, але яе ўжо разганяла сонейка, садзіла ў травы, хоць самога сонейка відаць яшчэ не было. Гэтакай парою вёска спаць не магла, і цяжка было зразумець, чаму нідзе, ні над адным дахам не курэў пячны дым. Абышоўшы калоду, павярнуў да хлява, адчыніў, пераступіў парог і насцярожана спыніўся. Не пахла, як раней, ні гноем, ні жывым духам жывёлы, не ўбачыў ні каровы, ні кабаноў у загарадзі, леташні ці пазалеташні сянны пыл стаяў у паветры, казытаў у носе, пяршыў у горле. Выйшаў з жахлівай пустэчы хлява, зазірнуў у птушнік і пачуў пеўня, яго ўрачыста-разлівісты, на ўсю вёску, голас. Аж спужаўся: адкуль? Куры засакаталі, зацыўкалі пыляняты — блізенька, пад рукамі. У пустым птушніку? Ці ў ім самім? Жыло?.. З таго свету данеслася? Зачыніў птушнік і сам сабе здзівіўся, аж зазлаваў: што шукае? Хіба старыя не казалі, што вёска пустая, няма жывёлы, птушынай галавы ніводнай не засталося? Ці не таму раніца яшчэ нікога не выгнала на вуліцу? Ці не таму не дымяць коміны? Навошта старым спяшацца, паліць у печах, калі жывёла не падганяе і даваць ёй не трэба? Калі яе няма?..

Нейкая жорсткая сіла разгаралася ў сэрцы ў Калядкі, стаяць на адным месцы не давала, некуды гнала. Выскачыў за фортку ў агарод, паўз хлеў — на мяжу з суседавым пляцам, прашчаміўся паміж дзвюма жэрдкамі і апынуўся ў Капасёвым садзе.

Сад быў малады. Гадоў дзесяць назад сам Капась садзіў яблынькі, адразу, як пачаў будавацца. Дрэвы стаялі ад хаты ў поле трыма раўнюткімі, пад шнур, радамі, два рады — па мурагу, з кустамі смуроды, агрэсту, парэчак паміж яблынькамі. Трава не абы-якая, садовая, блішчэла востранькімі, як шчэць,

голачкамі. Тут і лавачкі, альтанка, стол. Вакол — кветкі: ад ранніх жоўценькіх нарцысаў да позніх бардовых і чорных астраў. Пунсовыя вяргіні ля сцен раслі кустамі аж пад стрэхі. Кветкі гадавала Капасёва жонка, Ляксандраўна, настаўніца Лукамскай школы, з дочкамі, але яшчэ былі ружы, якія даглядаў сам Капась. За мурагом, у канцы саду, сеяў то грэчку, то лубін, то бульбу, трымаў там і вуллякі з пчоламі. Дзіўны быў гаспадар.

Калядка падняў з зямлі голенькую, з жоўтай пластмасы ляльку. Без галавы, галава ляжала побач. Мабыць жа, меншыя сястрычкі Ганульчыны гулялі з лялькай? А можа, і яна, як была малой? У тулаве — гумка, кручок у галаве. Накінуў гумку на кручок, прыляпіў галаву да тулава, пасадзіў ляльку перад сабою на траву — як жывая. Аж неяк цяплей зрабілася, што яна зноў з галавою, на сябе падобная. Хацеў ісці ў канец саду, дзе вуллякі, бо зацікавіўся, ці стаяць, але нага была ўжо мокрая ад расы, у чаравіку чвякала. Павярнуў у двор і спыніўся, здзіўлены, што няма ніводнага куста ружаў. Капась павыкопваў, забраў з сабою? А чаму не забраць? З Ялты, Сочы, Рыгі выпісваў, плаціў немалыя грошы. Налічыў аж трыццаць тры ямкі, не зацягнутыя травою. Значыць, выязджаў не так даўно — гэтай вясною ці позняй восенню. Яшчэ тырчала рыдлёўка.

Уставіўшыся ў свежыя ямкі, Калядка пачуў музыку. Яе ў гэтай яшчэ малочнай раніцы злавіла душа, ці, можа, яна, музыка, пільнавала і злавіла душу, чуючы як сваю, бо, як са сваёю, з ёю злілася. Не адразу зразумеўшы, што гэта музыка запыніла і трымае, не адпускае, нават не падумаў, адкуль яна тут, у нежылым куточку, гэтакая ціхая, усё роўна як вада крынічная з-пад каменя. Ні з якое песні яна не была, слоў сабе не шукала, жыла сама па сабе, як трава ў садзе, і калі не ён, а яна яго, Калядку, злавіла, прыгарнулася, то была тут нейкая таямніца, якую адчуваў, але не разумеў. Калі ж ён яе яшчэ і заўважыў як бы ўнутраным зрокам, адзначыў у думках, дык як бы спытаў невядома каго, бо сам не мог адказаць на сваё пытанне: не наша, нейкага, можа, паляка ці аўстрыяка? Чыя б ні была, яна да яго прыліпла і штосьці таемнае з ім рабіла. Ён гайсануў на мыліцах ад ямак пад хату, ля веранды спыніўся і тут, зноў прыслухаўшыся, здагадаўся, што музыка далятала з Капасёвай веранды. Узышоў на ганак, паглядзеў у акно, убачыў голы круглы стол, старую канапу, жоўценькую фарбаваную падлогу, чыста падмеценую, можа, памытую гаспадыняю апошні раз, на сцяне карціну — жоўтую, залатую, як кажуць, левітанаўскую восень. Адтуль і музыка. Мабыць, калі ад'язджалі, не забралі і не выключылі радыё. Калядка

яго не бачыў, але яму здалося, што дзе музыка, там і Ганначка і што яна ў хаце. Стаяў, слухаў быццам яе душу, а свая плакала. З гэтым затоеным плачам сышоў з ганка, зноў падаўся ў сад. Ішоў, спыняўся, стаяў, слухаў, зноў ішоў, спыняўся. Музыка за ім аціхала, як пакідала яго, пад яе Ганначка з ім нібы развітвалася, і ва ўсім гэтым насланні Калядка чуў наканаванасць, свой нелітасцівы лёс. Не заўважыўшы, ці стаяць Капасёвы вуллі, зайшоў у канец саду, за садам апынуўся на дарозе, ад якой пачынаўся Ходараўскі калгасны луг.

Быў пачатак мая. Травы падняліся не ў пару дружна, кусціліся, як на пачатку лета, весела іскрыліся ў расе і першых сонечных промнях. Далей ад дарогі стаялі леташнія стагі, доўгія і чорныя. Калядка здзівіўся: дасюль дастаяліся — калі гэтакае было? За зіму не стравілі жывёле? Хіба і ў калгасе жывёлы няма? І нікому не прадалі? Ні сабе, ні людзям — пагнаілі?

Адтуль, ад жахліва чорных стагоў, данесліся вантробна-глухія галасы. Чые — не мог зразумець. Сабачыя?..

На двары, калі датупаў і сеў на калоду, раптам падумалася, што загадкавая істота, якая сустрэла ўначы на вуліцы, калі прыехаў, белая з жаўцізною, ці не была Сумётам. Але тады — як сабака адчуў, што гаспадар прыехаў і што яго трэба сустрэць?

За спіною адчынілася акно:

— Ты, Іванка, яшчэ не мыўся? Бліны ўжо на стале.

Змушана, як без ахвоты, па камандзе, усміхнуўся бабулі. Яна стаяла ў акне з белым ручніком у руках, здзіўлена, нібы не пазнаючы, разглядала ўнука.

— Сумёт, бабуля, хоць раз прыходзіў з лесу?

Не пачула? У яе былі свае думкі, свае пачуцці. Сама спытала — пра што думала:

— За што, Іванка, атрымаў медалі?..

Маўчаў, цяпер ужо быццам ён яе не чуў. Ведаючы бабу Кланю, адчуваў, што зараз паўторыць сваё пытанне. Каб не пачуць яго зноў, нервова сціснуў у руках мыліцы, прыўзняўся з калоды, абваліўся на хадакі ўсім цяжарам і моўчкі пасунуўся да плота, на якім вісеў рукамыйнік.

Сагнуўшыся на мыліцах над рукамыйнікам, знізу дзёўб галавою ў ражок з плешачкай на канцы, льючы на галаву і карак халодную, толькі, мабыць, са студні, ваду. Яна бегла і пад каўнер кіцеля, і на каўнер.

Снедалі ў пярэднім пакойчыку.

На стале ляжала стопка бліноў, накрытых, каб не астывалі, ільняным ручніком, на днушцы стаяла патэльня з гусінымі сквар-

камі і яечняю, а бабін слоік — пасярэдзіне стала, на пачэсным месцы, побач з Іванавай пляшкаю.

Дзед Панкрат усім наліў каньячку. Па поўнай. Грэючы чаркі ў прыгаршчах, старыя чакалі Іванавага слова. А ён і цяпер маўчаў, як забыўся, з якога слова пачаць.

Сказаў дзед Панкрат, адкашляўшыся:

— Ну дык… за тваё, Іван, вяртанне. Мы цябе тут чакалі. І ты вярнуўся. І мы, слава богу, сядзім як людзі. За гэта — ну!.. Што ты дома. Што жывы.

Баба Кланя перахрысцілася.

Іван і пасля, як да першай чаркі, маўчаў, хоць другой не чакаў. І есці не хацеў. Нават бліноў бабіных, аб якіх два гады марыў, дух якіх там, у чужых гарах, часта чуў. Пазглядаў то на старых, то на двор за акном, то на печ-карміцельку, дзівіўся, што яна стаіць як лішняя ў хаце, што бліны — калі гэта было? — вёска пячэ ў сенцах на пліце газавай, што яны хоць бялюткія, але без ранейшага паху ды смаку. Старыя тут без яго намаўчаліся, дзе маўчанка — там слёзы, ім хацелася гаварыць з унукам, гэта адчуваў, бачыў і, каб не нагнаць большай самоты, сказаў, што хадзіў у Капасёў сад, сядзеў на Капасёвым ганачку, слухаў Капасёва радыё, што за садам бачыў чорныя стагі. Казаў, як са сну, ціхім абыякавым голасам, але старыя за кожнае слова чапляліся, вялі далей — пра Капася, як вёска яго праводзіла, усе выйшлі, акрамя Бочкі, пра стагі на лузе, якія хоць і стаяць, а жывёла зіму галадала, сена везлі з Пскоўшчыны, бо стагі з радыяцыяй і ніхто не ведае, куды іх дзяваць, забаранілі нават паліць, каб вецер не разнёс па палях заразу разам з дымам, хоць на палях заразы сваёй хапае, уся зямля хворая. Нават забаранілі сеяць бульбу ды лён. Усё роўна адсеяліся. Бо планы ніхто не адмяніў. Хоць памры, а дзяржаве здай і лён, і бульбу. Як здасі, не сеяўшы?

— Няўжо ўсё гэта — праўда?..

Дзед Панкрат хмурнеў, незадаволены, што ўнук як усё роўна не хоча яму паверыць:

— Войскі, галубок, дарма не прыходзяць. Тут усё лета рота хімікаў стаяла. Зямлю, самы перагной, зразалі, у ямы закопвалі. З хат ды хлявоў стрэхі паскідалі. Шыферам накрылі.

— А колькі бэзу, чаромхі павысякалі! — цяжка ўздыхнула баба Кланя. — Пяску панавезлі. На дарогі, у двары.

— А што толку? Увосень яны ад нас паехалі, сказалі — жыць можна. А вясною тая самая радыяцыя зноў паперла. Цяпер, кажуць, зямлю асфальтам зальюць.

Калядка маўчаў. З ім ніколі гэтакае не рабілася, каб не мог паварушыць языком. Што казаць? Што і каму? Уваччу зноў стаялі

тыя вялізныя стагі сярод прасторы лугоў, высозныя — пад неба, адзіныя — паміж зямлёю і небам, быццам у іх быў увесь боль і страх, жахлівы сэнс, і ён раптам зразумеў, што гэта не стагі, а труны, тыя чорныя труны, пра якія ўначы казаў дзед Панкрат, якія цяпер усюды, дзе чалавек. І там і тут. Праўду, відаць, казаў. І дарма ён, Іван, незалюбіў той дзедавай размовы. Значыць, і тут? Там — бялюткія, блішчаць на сонцы, малыя, адна на адной, кожнаму — свая, а тут — адна пад неба, адна на ўсіх і чорная, мала — яшчэ адна, мала — яшчэ. Аднолькава — там і тут. Толькі тут, у гэтых, — і зямля, і жывёла, і птушкі… усё!..

Калядка ўзняўся са слончыка на мыліцы, але нікуды не ішоў — стаяў, маўчаў. І раптам не стрымаўся — закрычаў:

— Што ж гэта, дзед?!. Што тут у вас робіцца?!. Баба Кланя?.. За што мы там гінем?!. Калі і тут — жыткі няма?..

Шалёнымі вачыма ўставіўся на дзеда і бабу, пытаўся ў іх, але цяпер ужо яны маўчалі, не ведаючы, што адказаць і што ад іх ён хоча. Вочы ў старой перапаўняліся галубінай чырванню, слязіліся, яна іх, здрадлівыя, хавала то за кавалкам бліна, то за далоньмі, то схіляючы галаву, апускаючы вочы ўніз, у стол. І хоць стары глядзеў на ўнука не хаваючыся, адкрыта, Калядка бачыў у слязах бабы Клані слёзы дзеда Панкрата, а ў адкрытасці душы і думак дзеда Панкрата бачыў перажыванні і безабаронную мужнасць бабы Клані.

У старэчым маўчанні было маўчанне мёртвых, за садамі, стагоў, і гэта зусім абяззброіла — крык душы захлынуўся ў ціхім, як вінаватым, шэпце:

— Ну, што вы, мае… маўчыце?..

І тады стары спытаў тое, што даўно мучыла і што ён увесь час, як убачыў унука, хацеў спытаць:

— А я, галубок, пра гэта самае… Як вы там, Іван, той парадак наводзіце?.. Як гэта?.. Тут, дома, сваё — пылам-дымам… а вы там… Скажы дурню старому, няўжо там, дзе нас няма, каму-небудзь нашае жыткі хочацца?..

Калядка не ведаў, што адказаць дзеду. Адчуваў, што адказаць абавязкова павінен, а не ведаў — што? Сядзеў спустошаны, быццам з яго выбегла цёплая кроў і ён чакаў з’яўлення не то нейкага цуду, не то вышэйшага знаку. А выйсце было — тое, што называлася рускім. Аберуч схапіў бабін слоік.

За што? Ніхто не сказаў, не спытаў за што? Выпілі моўчкі. Як над нябожчыкам. І тады, выпіўшы, Калядка заспяваў на той матыў, які чуў з Капасёвага радыё:

— Кобылица та была вся, как зимний снег, бела, грива в землю, золотая, в мелки кольца завитая… — Замоўк, паглядзеў

на дзеда, на бабу, усё роўна як яму цікава было ўбачыць, што робіць з імі ягоная песня. Старыя сядзелі разгубленыя, як не разумелі, што адбываецца з унукам. Усміхнуўшыся, быццам узрадаваўшыся гэтай іх разгубленасці, ён зацягнуў далей: — За горами, за лесами, за широкими морями, против неба — на земле жил старик…

І раптам баба Кланя ўголас, чаго з ёю ніколі не было, заплакала, усё роўна як даўно стрымлівала гэты плач у сабе і толькі цяпер ён яе перасіліў.

— Ну, чаго ты?.. Знайшла калі галасіць, — дзед Панкрат не то ўшчуваў, не то суцяшаў.

Калядка замоўк. І тады, следам за ім, замоўкла баба Кланя. Раптоўна, як і зайшлася.

— А бліны стынуць? Ты, Іванка, не ясі? Ты ж любіў бліны з яешанькай, са скварачкай. Малачка ды смятанкі, праўда, няма-шака… Ну, еш, пакуль цёпленькія. Будзем чай піць. Мала, што раней не пілі. Цяпер чай — наша яда. — Памаўчаўшы, выцерла з твару слёзы і яшчэ дадала: — Гэта ж я канька-гарбунка ўбачыла.

Ён згадаў, як уначы яна хацела расказаць пра белага калгаснага каня, ды стары не дазволіў. Цяпер сам спытаў:

— Дык што там у вас было з тым белым?..

Старая ўсё роўна як чакала гэтага пытання.

— А што было?.. Кабылка з выгляду гладкая, чыстая, ды ў плуг яе ніхто не ставіў. Гэта людзі пасля сказалі, а тады стары як захамутаў, дык яна і ўзвілася. Капытамі — у ворчык, плуг і заскакаў.

Дзед Панкрат як трымаў у руках блін, дык і пляснуў яго на стол. Вачамі гнеўна бліснуў з-пад акуляраў на старую, але слова не вымавіў, мабыць, таму, што казала яна гэтым разам як бы не ад сваёй ахвоты, казала, бо пытаўся Іван, супраць якога і ён не мог запярэчыць. Толькі ўсхапіўся з-за стала і пайшоў з хаты. Іван і старая паглядзелі на дзверы — адно аднаму ўсміхнуліся. Яна махнула рукою, усё роўна як ёй надакучыла чуць і бачыць гэтакія выбрыкі, — павяла:

— Ну… кабылка паскакала-паскакала — стамілася. А вочы шалёныя, крывёю налітыя. Стары — да яе, як ужо адчуў свой верх. А я крычу — не падыходзь! Які са зверам мір, калі вочы шалёныя? Не, ён — кось-кось, схапіў за аброць. А яна яму храпай пад санкі. Ён — з капытоў, акуляры толькі брызнулі. Кабыла праз яго і пайшла. Як жывы застаўся? Магла і капытамі, шалёная, затаптаць, і плугам заараць. Жывы-то жывы, а плуга спіна паспытала. Добра, што старая, гарбатая, плуг па ёй слізгануў і набок скаціўся. А то б лемяхом і галаву сарвала…

На хвіліну ўявіўшы дзеда Панкрата пад канём, пад плугам, Калядка скалануўся, ажно ў жылах пахаладнела.

— Дык што ж гэта ў вас тут робіцца? Хто падсунуў кабылу? Калі яна дзікая, плуга баіцца?..

Дзверы адчыніліся — у хату зайшоў дзед Панкрат. Ён, мабыць, стаяў пад дзвярыма, слухаў, бо адразу, як зайшоў, адказаў:

— Ну… можа, не ведалі, што кабыла гэтакая. Цяпер усё робяць на трактарах ды машынах. Калі які конь ёсць, дык не прывучаны ні да плуга, ні да баразны…

Стары адчыніў акно і пусціў у двор дымок ад цыгарэткі, стараючыся мець выгляд спакойны. Але баба Кланя, вечная праўдалюбка, і тут яму не саступіла:

— Ведалі, Іванка. Знарок падстроілі. Бочка з Ананічам. Адпомсцілі, што дайшоў да першага ў раёне начальніка. Кабылу Бочка прыгнаў і чакаў, калі стары дурань пачне яе ў плуг ставіць. Стаяў ля сваіх варот, глядзеў, вочы вылупіўшы, а не падышоў пасобіць. Як кабыла старога зваліла, дык, думаеш, Бочка кінуўся ратаваць? Кінуўся, але ў другі бок — у сваю хату.

Дзед Панкрат зноў голас павысіў:

— Ты гэта бачыла?

— Людзі бачылі. Манька, суседка, бачыла. Пятрок Лімончык бачыў…

Ужо Калядка не ўседзеў — усхапіўся з-за стала і выйшаў з хаты. На двары спыніўся перад калодай, глядзеў на яе, чысценькую — бачыў качку. Успомніў, як сек на калодзе. Абышоў калоду, трэці і пяты раз абышоў. Кружыў, як, бывала, прывязаны да калоды Сумёт, пакуль на рагу хаты не заўважыў вялізную, з фанеры, зорку. Была чырвоненькая, а ўжо выцвіла, зжоўкла, патрэскалася на дажджах, на сонцы, канцы на вятрах абабіліся, пазагіналіся. Ці даўно, гады чатыры назад, сам выпільваў лобзікам з фанеры, фарбаваў, прыбіваў, цвік шукаў даўжэйшы, каб прыбіць на вякі. Вось і доўгі цвік не збярог — асыпалася.

Калядка сеў на калоду і, не зводзячы вачэй з зоркі, гукнуў дзеда Панкрата — спытаў:

— Гэта ж мы з табою, дзед, адшлёпалі тры вайны?

Сам гэтаму здзівіўся, як нечаканаму адкрыццю.

— Мы з табою? — перапытаў з хаты ў адчыненае акно стары. — Ды не, галубок. Не тры. Тры я адзін адшлёпаў.

— Ты адзін — тры? Якія ж гэта? Германскую, японскую… А трэцяя, дзед, якая?..

— А яшчэ была фінская. Нядоўгая, а людзей паклала да халеры. Яна, тая, на тваю падобная. Успамінаць пра яе цяпер не хочуць. Была — як не было.

Калядка грукнуў мыліцамі ў глухую зямлю і, не зірнуўшы на дзеда, галавы не падняўшы, кінуў:

— Зачыні акно. Халодная раніца.

Прайшоў да хлявоў. Яны былі адчыненыя. Заглядаў у закуты, дзе раней стаяла карова, вішчэлі свінні, сакаталі куры. З усіх бакоў дыхала пустым халодным ветрам, ад якога ўсярэдзіне ўсё сцінaлася. Увагнуў галаву ў плечы, у каўнер кіцеля і выйшаў за фортку.

Вуліца ўсё яшчэ была маўклівая, пустая, па ёй гуляў той самы вецер, што на двары. Тут не было куды ісці-бегчы, і Калядка доўга ўглядаўся ў суседскія хаты. Платы цяпер ва ўсіх былі аднолькавыя, стаялі па-вайсковаму раўнюткім строем, усе ў адну фарбу вайсковага колеру — жаўтлява-зялёную, і ён здагадаўся, што новыя платы ў вёску таксама прынесла рота хімікаў.

Не адразу заўважыў, што з процілеглага боку вуліцы ад хаты, якая наўскасяк, за ім ужо сачыў Бочка, хаваўся пад развесістай дзічкаю ў зялёна-ружовай засені, прываліўшыся спіною да штыкета гародчыка, яго там, як шэрую яшчарку ў шэрай траве, цяжка было заўважыць. Але Калядка раптам заўважыў. Здавалася б, што ніякай нечаканасці ў гэтакай сустрэчы быць не магло, але адразу, як заўважыў суседа, кінула ў гарачыню. Яшчэ ледзь падумаў, што гэта Бочка, а ўжо мыліцы сіганулі наперад. Спыніўся, як завагаўшыся, а ці тое робіць. І Бочка варухнуўся, завагаўся: ісці насустрач ці чакаць, калі падыдзе сусед? Нагою ў зямлю ямчэй упёрся і застаўся стаяць на сваім месцы.

Падышоўшы, Калядка гарачынёю дыхнуў яму ў твар:

— Ну, сусед!..

Нічога больш не знайшлося сказаць. Бочка ўсё роўна як адчуў, што ў гэтую хвіліну рабілася з Калядкам — захваляваўся:

— Дык… здароў. З вяртаннем на радзіму, га?.. Бачу, што ты сваё адваяваў.

Ён не то з цікаўнасцю, не то са з’едлівасцю, праз схаваную ўсмешку, вадзіў дробнымі вочкамі па суседавай назе, па мыліцах.

— Не, яшчэ не адваяваў, — знайшоў што адказаць Калядка.

Тая ўсмешка, якую сусед спачатку хаваў, усплыла на паверхню:

— Яшчэ з цябе мала?

І тады Калядка схапіў яго загрудкі.

Войска, у якім служыў, было грознае, дэсантнае, і рука была адпаведная, цяжкая, але адна нага — не апора, нават падпёртая мыліцамі, гэтая думка мільганула ў галаве, як толькі схапіў Бочку, бо адчуў, што стаяў той нібы скала.

— За што?..

Правай рукою выхапіўшы з-пад пахі мыліцу, Калядка саўгануў яе шырэйшым канцом у зубы.

— За дзеда!..

Бочка хацеў выхапіць мыліцу, але Калядка паміж выцягнутых насустрач рук саўгануў яшчэ раз. Нос адразу разнесла, лінула чырвоная юшка. Аберуч схапіўшыся за твар, Бочка хістануўся назад, плот пад ягоным цэнтнерам затрашчаў, адваліўся ад слупа ў крапіўны гушчар, і з ім разам у крапіву шаснуў Бочка. Прыхінуўшыся да слупа агароджы, Калядка ўжо дзвюма рукамі ўскідваў над галавою абедзве мыліцы і малаціў у крапіве, не бачачы што, ці Бочку, ці зямлю з крапівою, паўтараючы ў задушліва-лютай злосці:

— За дзеда, гад!.. За дзеда!..

Спыніўся, калі ўжо сам хакаў, нібы пабіты. Узваліўся на мыліцы і люта глядзеў з-пад зачырванелага лба на тую крапіву і чалавека ў ёй, які стагнаў, варушыўся, але не падымаўся. Пырнуў мыліцаю ў тое месца, нібы ў гадзюшнік, ускінуў галаву, павярнуўся і нетаропка падаўся цераз вуліцу на свой бок.

Зноў апынуўся ў Капасёвым двары. Тут гаварыла радыё, але ранейшае музыкі не было. Размова ішла пра перабудову ў краіне, пра чалавечы фактар.

Цяжка дыхаючы, Калядка рукавом выцер спацелы лоб і падаўся далей — праз сад на дарогу за хлявамі.

Сонца ўзнімалася над замглёна-расяным лугам, праз малочную смугу свяціла ў твар, разганяла сівенькае лугавое малако, і яно, адрываючыся ад зямлі, ад травы, падымалася ўгару, плыло і таяла.

На стагах, насустрач якім ішоў, загараліся сонечныя чубы, але чым зырчэйшае рабілася сонца, чым хутчэй з лугу сплывала смуга, тым чарнейшымі рабіліся стагі, нават нейкімі злавеснымі пад сваімі залатымі чубамі. Калядка праставаў на стагі. Нага была мокрая, у чаравіку чвякала, а ён гэта не чуў, не адчуваў. Выйшаў на ўзгорак — спыніўся. За ім ляжала дарога, што вяла праз лагчыну ў Лукам’е, цэнтр калгаса. Гэтай дарогай дзесяць гадоў хадзіў у школу, а пасля яшчэ два гады на машынна-трактарны двор, дзе стаяў яго «СТ». Цяпер убачыў той далягляд, на які глядзеў, бывала, кожнага дня, і ўспомніў, як дзед Панкрат прыходзіў у школу, на бацькоўскія сходы, як баба Кланя прыносіла ў поле абеды, калі рабіў на трактары. Колькі разоў, бывала, у школе пыталіся, чаму гэта дзед сядзіць на сходах, а бацькоў не відаць. І з бабы Клані дзівіліся, як яна з тым абедам шукала

свайго ўнука ў полі. А што бацькі? Яны, дзед ды баба, яму ўсё жыццё за бацькоў. Бацька паехаў на заробкі ў Мурманск яшчэ як ён толькі ў школу пайшоў. Там і застаўся. Пасля маці туды пацягнулася з дзвюма малымі, Іванавымі сястрычкамі. А ён збег тады з дому, каб не ехаць з вёскі. І не паехаў. Ладу ў бацькоў не атрымалася, маці пачала жыць адна з малымі. Пра бацьку нічога не чуў, а да маці разы два, як вучыўся, ездзіў, і маці разы два прыязджала ў вёску. Яна ўжо там прыжылася, не захацела сюды, да сваіх бацькоў і да сына, вяртацца, а ён не хацеў туды ехаць, там жыць. Застаўся з дзедам і бабай.

Калядка стаяў на дарозе, якая вяла ў Лукам'е. Ісці туды не хацелася. Але трэба было ісці. За дзеда ён паквітаўся. З адным Бочкам, але ўсе будуць ведаць. Хай ведаюць, як здзекавацца са старога. Яшчэ трэба за бабу Кланю. У жыцці мухі не пакрыўдзіла — за што яе крыўдзіць? Не-э, запрагаць бабу Кланю ён не дасць нікому, нават калгаснаму старшыні. Яго Калядка не ведаў, але тое, як Ананіч праз Бочку ашчаслівіў старых сваім выязным канём, што надумаў запрэгчы бабу Кланю, гнала цяпер у Лукам'е, каб пазнаёміцца яшчэ і з ім.

Дарога вяла паміж стагоў. Вось і апошні стог. Адышоўшы ад яго, Калядка спыніўся. Падалося, што чуе сабачы голас. Прыслухаўся — не чуваць. Пайшоў далей — зноў голас з падвывам. За спіною. Можа, Сумёт узяў след, пільнуе, як некалі?

Спыніўся зноў, азірнуўся. Стагі стаялі. Узгорак, і па ім — стагі. І нават сваёй вёскі не было відаць — за ўзгоркам знікла. Адны стагі ў пустэчы. Чорныя. А луг быў светлы — пад сонцам палымнеў.

На мыліцах крутнуўся, адвярнуўся, пашыбаваў сваёю дарогай.

*1989*

## ЖАНЧЫНА Ў ЧОРНЫМ І АФГАН

Ранічкай у нядзелю, калі яшчэ мала хто, прачнуўшыся, паказваецца ў двары нашага дома і пад вокнамі гуляе адно мятла сліваносага дворніка Babaki, за недалёкім часам гвардыі падпалкоўніка, будзіць настырна-дзяркатым шорганнем па асфальце, з пад'езда выходзіць Афган — чорны, з падсіненым бляскам, нібы экватарыяльная ноч, з нябеснай зорачкаю на лбе, чацвераногі жыхар першага, для пенсіянераў, паверха. Іншыя сабакі, розныя

там балонкі ды спаніэлькі, аб’явяцца тут пазней, будуць вылятаць з пад’ездаў, быццам мячыкі, з незразумелай уранні злоснай брахлівасцю і сыта-здаволеным віскатам, кідацца, як ад смерці, у кусты, газоны, кветкі, і Варака ўскіпіць гневам да іх, мятлой замахнецца на каторага брахунчыка, шаргане пылам-смеццем пад хвост. Калі ж з пад’езда выходзіць Афган, ён кідае шоргаць мятлою, стаіць задумлівы, трымаючы дворніцкую зброю перад сабою, доўга глядзіць на сабаку, і твар яго робіцца бязвольны, у вачах пачынае блішчаць спагада ці нават пакута, што жывуць-варушацца, як сам кажа, пад вострай гарлавой косткаю.

Афган доўга стаіць на адным месцы, усё роўна як баіцца саступіць з нізкага, на адну прыступку, ганка. Яго сваякі, выскачыўшы на волю, точаць насы ў кожную дзірку і шчыліну, абнюхваюць кожны каменьчык, кожны драбок зямлі, кожную травінку. Афган — іншы. Ён стаіць з годна ўзнятай галавой на высокіх калматых нагах, стройных і моцных, малады і не па ўзросце задумліва-самотны, нават убок не зірне, усё роўна як нішто яму не цікава, нішто не хвалюе. Чорным аксамітавым носам п’е ранішняе паветра, а вочы глядзяць далёка-высока, вышэй за наступныя, што насупраць, дамы — у замглёнае неба. Яно, неба, прываблівае мацней, як зямля, і ўсё, што на зямлі, навокал, хоць і здаецца пустое.

Абапёршыся грудзьмі на мятлу, дворнік уважліва сочыць за Афганам. Яго хвалюе ў сабаку таямніца, якую ён, стары чалавек, адчувае, а зразумець не можа. Не першы раз углядаецца ў Афгана, у яго не па-нашаму асэнсавана-вытанчаную постаць, а таямніца не адчыняецца. Ён ловіць сабачыя вочы, ведаючы, што праз вочы да свету звяртаецца жывая душа, і ўсё, што ў ёй, добрае і злое, выходзіць на свет праз іх, але вялікія чорныя вочы Афгана хаваюцца пад змрочна густымі брывамі.

Следам за Афганам на ганачак выходзіць жанчына. Яна яшчэ, можа, маладая, з твару прывабная, постаццю стройная, але яе старацъ маўклівасць і вопратка. Жанчына ў чорным доўгім плашчы і ў чорнай шапачцы, на шыі — чорны, з сярэбранай нітачкай шалік, а як захаладае, тады замест плашча на ёй лёгкае паліцэчка, на галаве цяплейшая шапачка ці хустка, ды і тыя паліцэчка, шапачка, хустка таксама чорныя. Яе старыць чорны колер. Хоць і не толькі старыць. Калі яна праходзіць міма, Варака адступае ўбок з дарогі. І тады ўсё яго нутро ледзянее. Аднойчы, першы раз адчуўшы гэтую сваю слабіну, адчуў і прыкрасць: чаму ён, ветэран найцяжэйшай вайны, губляецца перад жанчынай? Але заўважыў, што іншыя жыхары дома перад ёй таксама спыняюцца

і замаўкаюць. Нават дзеці, яе ўбачыўшы, перастаюць скакаць, робяцца ціхія, слухмяныя.

На ганку жанчына нейкую хвіліну стаіць побач з Афганам, глядзіць, як і сабака, у неба, потым схіляецца над ім, чапляе на карабінчык раменны павадок да ашыйніка, і яны разам ідуць міма дома, пад яго вокнамі і балконамі. Ідуць нетаропка, маўкліва, быццам з адной думкаю на дваіх, баючыся яе згубіць.

Яны, сабака і жанчына — не пабаімся паставіць іх побач і ў нашым аднолькава спагадлівым да абаіх радку, — падобныя і бездакорна чорным колерам сваіх вопратак, і настроем, і нечым яшчэ — большым.

Там, дзе дом канчаецца, яны спускаюцца па бетонных сходках, і Варака з мятлою ў руцэ крочыць следам за імі. Ён даходзіць да сходак і бачыць, як жанчына і сабака, сышоўшы з гары, стаяць на тратуары, як яна пазірае налева, направа — ці не бягуць машыны? Калі машын няма ні з аднаго боку, ні з другога, яны пераходзяць праспект, і нават цераз праспект ідуць тым самым развaжліва-замаруджаным крокам, хоць там, дзе машынам дарога ў два бакі, разумней было б паспяшацца.

Далей парк і возера, узгоркі і лагчынкі. За узгоркам хаваецца спачатку Афган, а неўзабаве хаваецца жанчына ў чорным.

Варака стаіць на гары каля дома, глядзіць у той бок — ужо не на Афгана, не на жанчыну. Іх ён цяпер не бачыць. Глядзіць на парк, на возера, якое блішчыць за старымі таполямі. Ёсць і ў яго думкі, ёсць настрой душы, якая пакутуе пад гарлавой косткаю. Пастаяўшы, вяртаецца на ранейшае месца, якое мёў, пакуль не згледзеў Афгана, і зноў пачынае шоргаць мятлою па шурпатым асфальце, быццам нічога не здарылася. Але пад гарлавой косткаю ў Вараки варушыцца камяк горычы, і, кінуўшы мятлу, ён нервова крочыць у клятух да кантэйнера, загружае жалезнае чэрава смеццем з дванаццаціпавярховай трубы, выкатвае на двор, зноў хапаецца за мятлу, бяжыць да бачкоў з харчовымі агрызкамі, вяртаецца да кантэйнера — збіўся гвардзеец з ладу.

Тым часам Афган і жанчына ў чорным мінаюць возера і завулкам падымаюцца да Старавіленскага рынку.

Гэтай сцежкі Варака не бачыць.

Перайшоўшы брук, пакрамсаны трамвайнымі рэйкамі, Афган і жанчына ў чорным уваходзяць праз белую браму ў закутак, дзе горад як бы знікае, дзе яго мала што нагадвае і нават трамвайная трэль за белай рынaчнай брамай падсвядома ўспрымаецца як званочак з неба, з-пад сонца, з вышыні, на якой жывуць жаваранкі.

Тут ганарыста-свядомая думка ці не ўзрадуецца магчымасці грэбліва пасмяяцца з пачуцця падсвядомага? Але ці не сама яна, свядомасць, пачынаецца з падсвядомасці? Як бы там, урэшце, ні сталася з гэтым антаганізмам, сюды, на рынак, часцей за ўсё прыходзяць з пэўным гукам у душы, з яе таемным памкненнем, бо тут, у палоне жалезна-каменнага меха, усім надзіва і радасць дыхае першароднасць зямлі. Сюды прыходзіць той, у каго вайна са сваім д'яблам, бо тут, можа, як нідзе яшчэ, піруе дзень зваротнай вечнасці і хоць нейкай надзеі. Усё гэта — у памяці пра Конскі базар і яго цыганскую кроў, у калейдаскапічна-шматфарбным святле жывёльнага свету, у парасячым рохканні, конскім іржанні, піскливым кукарэканні маладога пеўніка, у нечуваным для горада хоры, дзе саліруюць яшчэ і каровы, і каты, дзе адно сабачае племя можа выставіць унікальную па дыяпазоне галасоў капэлу. А які б кірмаш узняўся-раскінуўся над усім гэтым хорам, калі б раптам зніклі птушыныя клеткі і птушкі ўскінулі ўгару свае галубіныя, канарэечныя, канаплянчыныя, сівагракавыя і ўсе астатнія разнапёра-размаітыя хвасты ды крылы? Тут, толькі тут, ва ўсякім выпадку тут куды хутчэй, як дзе яшчэ, можна забыцца, што свет ганебна падзелены, пашкуматаны на загоны і шматкі, што ён дваісты, жыве ў разладзе, варожасці. Хоць параненае, збалелае сэрца ўсё гэта адчувае і тут.

Афган і жанчына ў чорным нейкі час губляюцца ў людскім стоўпішчы ля белае брамы, але не затрымліваюцца, з яго душнаты выбіраюцца на сонечную прагаліну, дзе красавіцкае сонца чэпка грэе зямлю і яна, засеяная саламянай ды сяннай пацярухай з вазоў ды кузавоў, пахне прарошчанай у цеплыні ніваю, бражкаю і потнай аўчынкаю. Афган і жанчына спыняюцца, падставіўшы твары сонечным промням, усё роўна як знайшлі сваё месца. Але іх месца не тут. Ёсць на рынку падплоцце, дзе збіраюцца сабачыя галасы і ўсе, каго цікавяць сабакі, дзе іх прадаюць і купляюць. Гэтае месца Афган і жанчына добра ведаюць. Пагрэўшыся на сонечнай ніўцы, яны ідуць далей да таго зялёнага плота — сабачае выставы.

І не даходзяць — спыняе дзяціны голас:

— Мама, глядзі… Які сабачка! Мама, давай купім?..

Іншых сабак, акрамя Афгана, блізка не відаць, зялёны плот, дзе яны ўсе, далей, і значыць гэта ён, Афган, віноўца слёзнай дзяцінай радасці. Але ў мамы свае погляды на жыццё:

— Яшчэ нам блох не хапала.

— Я хачу сабачку!..

Апошнія слоўкі малога тонуць у людскім натоўпе.

Ля зялёнага плота ўжо няма дзе прытуліцца, хоць яшчэ рана, з рынку ніхто не спяшаецца, а сюды людзей і сабак усё прыбывае. Ды месца тое Афгану не трэба. Яшчэ ён і жанчына ў чорным не падышлі да плота, а ўжо іх абступілі купцы, проста аматары падзівіцца з сабакі, з яго калматай пыскі, спартыўна-падабранага экстэр'ера, бездакорна, без бруднай прымесі, чорнай акрасы, пацягнутай блакітнаватым дымком горных паўднёвых пейзажаў, а галоўнае — з яго незалежнасці, самавітасці ў галасіста-ўзварушаным стракатa-мітуслівым віры рынка.

— Якая ж гэта парода? Адкуль фраер?

— Афганскія харты ўжо не рэдкасць, інтэрнацыяналісты панавезлі сувенірчыкаў.

— А я, напрыклад, першы раз бачу.

— А вы, мадам, не эталон. Вы, можа, наогул першы раз бачыце кабяля? І што з таго?

— А вы мяне, малады чалавек, не зневажайце.

— Ці ёсць на сабаку пашпарт? Хто тут гаспадар? Чый сабака?

— Які пашпарт? Не відаць па мордзе, што душман? Ціхім прыкідваецца, маўчыць, а дай яму ночку цёмную…

— Ды аўтамат…

Натоўп рагоча. Але камусьці рагатаць ахвоты няма.

— Як вам не сорамна? Гэта ж сабака…

— Ніхто не кажа, што слон. Ці, можа, душманаў не бачылі? Хоць сабе і ў тэлевізары. Калі бачылі, дык параўнайце. Дзе ў душмана вочы? Хаваюцца пад чорнымі калматымі брывамі. Не так? А ў гэтага — тое самае? Ці нос — які ў душмана і які ў гэтай істоты? Доўгі і прамы, як калун. Глядзіце і параўноўвайце. Жывот падгалы. Яго, па сутнасці, няма, адны вантробы, падшытыя да хрыбціны. А які галоўны колер душмана? Кожны скажа, што чорны. Ноч — яго стыхія…

— Вы мастак, малады чалавек? Але вашы доўгія прамовы не надта прыстойныя і ў адносінах да сабакі, і ў адносінах да ўсіх нас. Акрамя вас, тут няма ворагаў гэтай мілай істоты. У вас проста злыя вочы і брудны язык.

— Каб бачыць, да вачэй трэба тое-сёе яшчэ. Хоць бы памяць.

— Ну… вы яшчэ малады, каб шмат памятаць.

— Не кусайцеся, людзі. Хто прадае сабаку? Чый сабака?.. Хто прывёў сабаку?..

— А ён жа на шворцы. У чыёй руцэ шворка?

Усе глядзяць на павадок. Адзін яго канец на сабачым ашыйніку, другі знікае паміж мужчынам і дзяўчынай. Гэтыя двое расступаюцца, і тады ўсе бачаць, што павадок трымае перад

сабой жанчына ў чорным плашчы, у чорнай шапачцы, з чорным на шыі шалікам. Яна стаіць нібы скамянелая, глядзіць далёка праз натоўп, быццам тут, побач, нікога не бачыць і не чуе.

— Гражданачка? Афганскі хорт ваш?..

Яна ўздрыгвае, нібы прачнуўшыся, кідае спалоханы позірк на сабаку і, быццам цяпер здагадаўшыся, дзе яна і хто побач з ёю, губляецца яшчэ мацней:

— Афган?.. Так-так. Мой Афган…

— Вы яго прадаяце?

— Ну як жа! Прадаю, вядома.

— Ваша цана?

— Ах, цана?.. Ну, вы самі бачыце. Якая можа быць цана гэтакаму сабачку? Не які-небудзь падваротнік. Вы… пыталіся пашпарт? — жанчына згадвае нейчы голас, цьмяна заселы ў памяці. — Ёсць і пашпарт. Дзіця міжнародных лаўрэатаў. Кроў выдатная. А пашпарт дома. Калі хто купіць сабаку, той атрымае пашпарт. І ашыйнік. І павадок. І дыванок аддам, на якім Афган спіць. Усё аддам. Нічога сабе не пакіну. Мне нічога не трэба.

Як стаміўшыся ад гэтай сумятлівай размовы, жанчына чырванее, пад шапачкай на лбе з’яўляюцца дробныя расінкі поту, якія, можа, ніхто не заўважае пад чорным аксамітавым брылькам. Белай шаўковай насоўкай яна выцірае павільгатнелы лоб, заплюшчваючы вочы, як бы зноўку на ўсё забываючыся.

— Яна трохі не-э… таго… Разумееце?..

І нават калі б мужчына, што гэтак сказаў, не хіхікнуў у кулак, яна, пачуўшы, зразумела б яго як след, бо чула гэта неаднойчы. Расплюшчыўшы вочы, на яго нават не глянула.

— Дык усё ж? Колькі вы хочаце за сабаку?

Пытанне да яе, на яго трэба штосьці адказаць, і яна ледзь чутна вымаўляе, усё роўна як абы адмахнуцца:

— Ну… пяць?.. Пяць… дзесяць?..

Натоўп маўчыць, а яна думае: не вераць? Назвала малую цану? Ці надта вялікую? А колькі прасіла ў мінулую нядзелю? Кожны раз называла розную цану, пра грошы не думаючы, абы сказаць, і таму не памятала, колькі прасіла раней.

— Дык я забіраю Афгана.

Ад рашучага мужчынскага голасу яна губляецца, быццам яго, гэтага голасу, больш за ўсё баялася. Што адказаць? Што рабіць? Яна прысядае, абедзвюма рукамі абдымае сабаку, туліць да сябе, насовачкай выцірае лапы, грэючы іх, кожную, у далонях, чуючы, як яны замерзлі ад мокрага і халоднага ранішняга асфальту. Побач прысела дзяўчынка, цягнецца да Афгана ручкамі,

каб пагладзіць ці хоць дакрануцца да яго кучаравага бляску. Яе тварык ззяе, нібы сонейка. Але над ёю стаіць мама, падобная ледзь не на ўсіх строгіх мам:

— Вось ён табе зараз зубы пакажа. Прыкідваецца ціхім, а ты, дурніца, яму верыш. Злосны нябось, як той душман.

— Шчыпец — ого! Мёртвая хватка.

Дзяўчынка не хоча пагадзіцца ні з мамай, ні з яе суседам:

— Ён хатні…

— Ты праўду кажаш, дзяўчынка, — падтрымлівае яе жанчына ў чорным. — Афган любіць ласку. Ты яго не бойся. Ну, пагладзь. Ён, бачыш, глядзіць на цябе.

Малая гладзіць сабаку па лобіку, пальчыкам кратае белую зорачку і чорны нос. Афган задзірае галаву ўгару, і чорная бліщчастая пасмачка спаўзае з вялізнага цёмнага вока.

Дзяўчынка ў захапленні:

— Бачыш, мама! Якое вока!..

Людзі, што стаяць за спіною жанчыны ў чорным, злева і справа ад яе і Афгана, прысядаюць, падсоўваюцца да дзяўчынкі, каб з яе месца, яе вачыма зазірнуць у сабачыя вочы. Яны амаль чорныя, як тая пасма, але яшчэ і сінія, цёмна-сінія, гэтакія цёмныя і сінія, што сінька ў іх ажно пераліваецца, як пераліваецца ў начной крыніцы густая, пад начным небам, вада. Глыбіня чароўная і жахлівая, ледзь-ледзь барвяная, падагрэтая водбліскамі нейкіх далёкіх пажараў, якую кожны чалавек можа зразумець па-свойму, па-рознаму.

Афган суе нос у руку дзяўчынцы, ліжа цёплым языком, але паміж дзяўчынкай і яе мамаю наперад прасоўваецца мужчына ў зліняла-абшарпанай шэра-зялёнай куртцы рыбака ці паляўнічага, з малой злінялай кепачкай на круглай і дробнай, што гарбузок, галаве, з раменнымі шлейкамі ад плеч пад рукі, на якіх за спіною вісіць рукзак. Над галавой з рукзака тырчыць нешта ў чорным чахле, можа, стрэльба. Ён працягвае да жанчыны руку з грашыма і звонкім, нібы метал, голасам, жадаючы хутчэй падвесці рысу пад размовай вакол сабакі, кажа:

— Тут пяцьдзясят, гражданачка.

Жанчына падымаецца з Афганам на руках, пераводзіць позірк на мужчыну, на шырокую, нібы капыт, руку з грашыма, нетаропка, як штосьці прыгадваючы, аглядае ўсяго, усю яго вопратку і тое ражно, што тырчыць з-за спіны, зачахлёнае, затрымлівае позірк на кепачцы, на прыжмураных пад казырком вачах — ён глядзіць усё роўна як праз прыцэл стрэльбы, — і ў твары яе штосьці мяняецца. Яна сцінаецца ў сваім чорным плашчыку,

мацней туліць да сябе сабаку, і на твары, як раней, з’яўляюцца расінкі поту. Сабаку яна трымае як баючыся, каб яго ў яе не вырвалі з рук.

Але мужчына глядзіць на Афгана як на свайго:

— Дык я забіраю. Вось пяцьдзясят. Усе, якія вы просіце за харта.

— Якія пяцьдзясят? Ды вы што? Як вы можаце такое казаць?..

Натоўп нямее, не варушыцца.

— Ну, пяцьдзясят. Людзі — сведкі…

— Вы што мне кажаце?.. Ды вы… вы…

Яна выглядае абуранай і абурэнне не хавае, але купец абураны таксама і не маўчыць:

— Вы ж сказалі, што пяцьдзясят? Ці перадумалі?

Ён глядзіць на яе так, быццам патрабуе сваё. Як спыніць гэтую нахабнасць?

— Пяць-сот!..

— Што-о?.. — Рот у мужчыны не зачыняецца. — Вы чулі? — Пытае ён у натоўпу. — Га?.. Як за карову?..

Натоўп заварушыўся, загаманіў, але жанчына нікога ўжо не чуе.

— За карову? — перапытвае, як штосьці не разумее. — Чаму як за карову?.. А вы… Каня купіце… Быка купіце…

Натоўп у яе вачах плыве, гайдаецца, у ім патанае твар таго купца. Было шмат твараў — няма іх. Пакарабачаныя абрысы, насы, вочы, раты, вушы — усё некуды плыве. І словы чуваць чыесьці, усе — плывуць, сплываюць, незразумелыя, плыве незразумелы рогат. Яна трымае ў руках Афгана, моцна прыціскае да грудзей і адступае ад натоўпу, але за спіною ў яе таксама людзі, спіной іх чуе, чуе, як некаму стала на нагу, хітнулася ўбок, потым у другі, прабегла крокі тры — і там людскія спіны: не пускаюць. Куды ад іх? Усе раптам перад ёю расступіліся — яшчэ прабегла з Афганам на руках. Убачыла машыну, другую, трэцюю — прамчалі перад ёю. Была тут вуліца? Стаяла брама белая. Пачуўшы ў сэрцы знаёмае вострае шыльца, як калянула, спынілася ля брамы, рукамі ўчапілася ў жалезныя пранты. Пачула, як вываліўся з рук Афган. Голас пачула побач, мужчынскі. Аж здрыганулася. Падалося, што голас таго купца. Але… нехта абняў за плечы, спытаў ласкава:

— Гэта вы?..

Нервова павярнулася на голас:

— Алежак?.. Божа мой!..

Перад ёю стаяў прыгожы малады мужчына. Яна працягнула да яго рукі, паклала яму на грудзі галаву. Убачыўшы пад рукавом

яе сукенкі насоўку, ён, трымаючы адной рукой за плечы, другой змахнуў насоўкай з твару слёзы. Не суцяшаў, бо ведаў яе бяду і ведаў, што суцешыць яе немагчыма, што ёй проста трэба выплакацца. Чакаў, калі сама супакоіцца.

Ад рыначнай брамы яны пераходзяць вулічны брук, трамвайныя рэйкі і далей разам ідуць берагам возера. Ён трымае яе пад руку і на раменьчыку вядзе Афгана. Ён ні аб чым яе не распытвае, бо ведае яе жыццё і ведае, што словы яго ёй зараз не дапамогуць. Ды і яна маўчыць таксама. Даўкая горыч і боль у сэрцы не выліліся са слязьмі ля брамы, а гаварыць пра тое хлопцу яна не хоча, каб не псаваць настрою, тым больш, што ён усё сам ведае.

Моўчкі даходзяць да дома, у якім яна жыве, да пад’езда, з якога раніцай выйшла з Афганам. Даўгаватым калідорчыкам праходзяць міма сініх паштовых скрынак да апошніх дзвярэй, і там, упоцемку, яна доўга поркаецца ў кішэнях плашча, пакуль не знаходзіць ключ ад кватэры.

Ледзь адчыняе дзверы, як у глыбіні пакоя ляскаюць яшчэ адны дзверы. Штосьці аднекуль ляціць на падлогу. Яна скаланаецца, але адразу не бяжыць туды, дзе шугае вецер, нібы чакае, ці не зваліцца на падлогу штосьці яшчэ.

Ён скідае з ног чаравікі і заходзіць у пакой. Дзверы на балкон адчыненыя, вецер ганяе лёгкі цюль ад акна, падымае пад столь. Хутчэй зачыніўшы дзверы, ён заўважае на падлозе пад сталом, на старым аблыселым дыванку, знаёмую вазу з белага фарфору, па якім blішчастым сінім глазурам невядомы мастак намаляваў прывабны вяночак з незабудак. Вазу яны, Алег і Сярожа, яе сын, куплялі на Камароўскім рынку, як заканчвалі школу, здаўшы апошні экзамен, падарылі Сярожавай маме, усё роўна як не яны, а яна школу заканчвала. Падхоплівае вазу з падлогі і радуецца, што цэлая, не пабілася. Ад хвалявання робіцца цёпла-горача. Яшчэ заўважае на дыванку мокрую пляму ад вады і рассыпаныя кветкі. Падбірае, але не ведае, што з імі рабіць. Ставіць зноў у вазу? Гэта даўно пасохлыя хрызантэмы, сухія былачкі. Іх пазнае таксама. Палова зімы і палова вясны мінулі, як ён тут быў пад Новы год, як ставіў кветкі ў вазу. З таго часу стаялі ў вадзе? Пасохлі, вядома, яшчэ зімою, і няўжо яна дагэтуль мяняла ваду ў вазе?

Каля парога абуўся.

— Ты ўжо ідзеш?..

Яна выбегла да яго ў знаёмай цёмна-сіняй сукенцы з закрытым каўнерыкам, у мяккіх хатніх пантофліках, з нечаканай крыўдай на твары.

— Я хутка вярнуся.

Ён выскаквае за парог, і праз імгненне яна бачыць у акне, як ён, танклявы і доўгі, бяжыць ад пад'езда. Расхрыстаная сівенькая куртачка матляецца за спіною, быццам хоча зляцець з плячэй, а ногі нясуць, нібы на пажар, і яна, на яго гледзячы, думае пра сына, бо ёй здаецца, што гэта бяжыць яе Сярожа.

Ён пазваніў не так хутка. Пачуўшы званок, яна кінулася адчыняць дзверы, і калі адчыніла — разгубілася: ён стаяў на парозе з вялізным букетам чырвоных ружаў.

— Ды… ты што надумаў?

— А вы доўга мяне чакалі?

— Я хвалявалася. Куды збег?

Цяпер яны разам ставяць ружы ў белую фарфоравую вазу, дзе з зімы стаялі пасохлыя хрызантэмы. Да вазы яна прысланяе партрэцік сына ў вузенькай, вішнёвага колеру, рамцы, што стаяў тут заўсёды, а як ваза скацілася на падлогу — ляжаў на краі стала. На стале перад вазай рассцілае белую льняную дарожку, і яны п'юць моцна завараны чай з гаркавым рабінавым варэннем, якое любіў яе сын. Паміж іх на канапе ляжыць Афган.

Поўдзень. За акном шчыруе сонца, а тут, у пакоі, курчыцца прыцемак, бо акно глядзіць на поўнач і сонца сюды не заглядае ніколі.

— Ты мне нічога не сказаў пра бабулю. Слабенькая?

— Як вярнуўся з арміі, дык яна, кажа, забылася на свае хваробы. І не жаліцца.

Ён жыў з бабуляй, якая даўно, яшчэ з трэцяга класа, была яму за маці, за бацьку. Бацька згарэў у гарэлцы, а маці праз паўгода выйшла за другога, і той другі не захацеў браць у сям'ю яе сына. Тады яна з мужам з'ехала ў Малдавію, на вінаграднікі, і да сына не прыязджала ні разу. Пачала пісаць лісты, як ужо сын вучыўся ў дзясятым класе, але аднойчы ён адказаў, каб не пісала, і яна замоўкла. З бацькам атрымалася амаль як у Сярожы. Яе муж таксама спіўся. Працуючы на чыгунцы, п'яны зачапіўся ноччу за рэйку і ляжаў на ёй, пакуль не дачакаўся сляпенькай начной дрызіны. Шмат агульнага было ў жыцці ў хлопцаў. Нават у армію пайшлі ў адзін дзень. Служылі разам, у адной часці. Вярнуцца павінны былі ў адзін дзень. Летась, па восені.

— Тваёй бабулі цяпер нельга хварэць. Ёй за табою самае што пажыць. Ты яшчэ не ажаніўся?

— Трэба інстытут закончыць.

— Рабі ўсё, пакуль малады.

Размова кружыць вакол яго, хоць ён не напрошваецца на ўвагу і таму шукае, як павярнуць размову ў іншы бок. Шмат

пра што ахвота запытаць, але ўсё, што думае, здаецца, можа ці зноў давесці яе да слёз, ці пакрыўдзіць, бо ўсё, што думае, — пра сябра і яе жыццё без сына. Нарэшце не вытрымлівае:

— Як вы жывяце?..

Ажно зубы сцінае ад прыкрасці, што пытанне такое лабавое, банальнае, што разумнейшага не прыдумаў. Яна маўчыць. Ён у адказ чакае яе іронію. Але жаночая рука дацягваецца да яго галавы, гладзіць упартыя жорсткія валасы.

— Як мне жыць?.. Вось… з Афганам.

Сагрэты пяшчотай, усё роўна як матчынай далонню, ён ці то дабрэе, ці то смялее і, нарэшце, пытаецца пра тое, што даўно і вельмі моцна хвалюе, аж бянтэжыць, што, пачуўшы ад сваіх аднакласнікаў, прывяло сёння на рынак, каб самому пераканацца — ці так гэта? Пытаецца:

— Навошта прадаяце Афгана?

Яе рука на галаве ў яго цяжэе. Ён глядзіць ёй у твар і палохаецца — твар белы. Што з ёю?

Яна павольна ўстае з-за стала і шлёпае на кухню.

Афган саскоквае з канапы і тупае следам за ёю.

Госць устае з-за стала.

На кухні яна стаіць ля акна, глядзіць у двор. Чуваць пах валяр’янкі.

— Раскажы, Алежак, як усё было? — пытаецца, пачуўшы яго за спіною.

— Я ж вам ужо казаў.

— А ты яшчэ раз.

Ён здзіўляецца яе просьбе, бо ведае, як цяжка ёй слухаць тое, аб чым просіць зноў, каторы ўжо раз.

— Ну… як было? З Кабула павінны былі ляцець самалётам. Да аэрадрома — аўтобусам. Зброю здалі. Аўтобус чакаў ля КПП, за прахадной. Я затрымаўся ў штабе. Бягу, сустракаю Сярожу. А ён ужо з чамаданам, з Афганам. Спыніліся. Я пажартаваў: да мамы з бычком вяртаешся? А Сярожа — мне: бяжы развітайся з Дунькай, яна галавою аб клетку б’ецца. Я пабег.

— А дзе ты ўзяў сваю кобру?

— На брані танка з бою вывезлі. Як апынулася? Была зрашэчаная кулямі, а жывая. Мухітдзінаў, сяржант, заўважыў — за аўтамат. Я ледзь паспеў яго спыніць. Кажу: з намі з бою выйшла — хай жыве. А ў гарнізоне стаяла клетка, раней у ёй аўчарак трымалі.

— Ну… прыбег да кобры?..

— Яна аднаго мяне да сябе пускала. Ведала, хто яе ўратаваў. Як зайшоў, стала свечачкаю на хвост, язычок выкінула, сказаць

штосьці хоча і не можа, а потым галаву мне на грудзі паклала, па плячах папаўзла. Абвілася вакол мяне, сціснула, аж ні рукой, ні нагой не варухнуць. Не пускае ад сябе. Ды што з табой, Дунька? Галоўку шэранькую ў мяне перад тварам паставіла, вочы зялёныя блішчаць, а з вачэй — слёзы. Жоўтыя, нібы тая сукравіца, што з ран сачылася, калі на бранi везлі. І раптам — выбухі. Адзін і другі. І аўтаматныя чэргі. Зусім блізка. Я адчуў — бяда. Бегчы? А Дунька не пускае. Потым, калі прыбег на КПП, там ужо і санітарка, і белыя халаты. «Джып» з душманамі міма КПП праскочыў. Хлопцы якраз да аўтобуса збіраліся. Афганчык стаіць пад колам машыны, калоціцца, і павадок на зямлі…

У двары за акном — дзеці. Пад дрэвамі, на лаўках, арэлях, у пясочніцах. З імі, як заўсёды, мячыкі, веласіпеды, сабакі. І хоць тут, у кватэры, свае перажыванні, тое, што робіцца там, за акном, не можа не ўплываць на тое, што адбываецца тут, хоць тут як быццам нічога не адбываецца. Ля акна стаяць яна і ён, бы маці і сын, глядзяць у акно на дзяцей і маўчаць. Самі, яна і ён, не здагадваюцца, што маўчаць прымушаюць дзеці.

Пачынаецца дожджык. Спачатку сляпенькі, з сонейкам, нясмелы. Яго адразу мала хто заўважае, дзеці ў двары не заўважаюць, але ён хавае сонца за хмары, мацнее і ўсіх, нават дзяцей, праганяе з двара. Двор пусцее, і ўжо там не чуваць ані голасу, адно дождж, лагодны і цёплы, пляскоча па асфальце. За шыбкамі звякае бляшаны карніз — зверху, як з неба, на яго звальваецца мокры калматы верабей. Ён тупаціць па карнізе, малоціць па жалезе дзюбкаю, звонка дзяўбе цішыню. І тады, быццам той верабей дзеўбануў у самае балючае, пачынае ўголас плакаць жанчына.

Ён абдымае яе за плечы, прыхінае да сябе, і яна праз слёзы то шэпча, нібы дождж, то крычыць:

— Каму спатрэбілася тая вайна?.. Каб ён, той, хто яе пачаў, сваіх дзетак не бачыў!..

І што ёй адкажаш?

— Той… ужо там, адкуль не ўбачыць нікога.

Яе гэта не суцяшае:

— Ён там?.. А сынкі… яшчэ гінуць?!

Яны вяртаюцца ў пакой: сядаюць да стала на канапу. На стале стаяць кубкі з недапітым чаем. Ён адпівае глыток і ставіць кубак на стол. І яна таксама, следам за ім, адпівае са свайго кубка.

Яны абое глядзяць на чысты хлапечы твар на фотаздымку ў вішнёвай рамцы. Ясныя ўсмешлівыя вочы, светлы чубок, белая сарочка, расшпіленая на грудзях. Здымак рабіўся, як хлопцы канчалі школу, у школьны альбом. Гэтакім сын пайшоў на вайну.

З кухні прытупаў Афган. Ускочыў на канапу і зноў улёгся паміж ёю і ім, гаспадыняй і госцем, паклаўшы галаву ёй на калена. Гладзячы сабаку па шаўкавістай поўсці, па вузкай доўгай галаве, па вялізных цёплых вушах, госць адчувае, што цяпер зручны момант, каб сказаць тое самае-самае, што хацеў сказаць і не асмельваўся, дзеля чаго шукаў сёння гэтай сустрэчы. І цяпер кажа:

— Не вадзіце Афгана на рынак. Я вас вельмі прашу. Не прадавайце. Сярожа любіў Афгана.

Яна сцінаецца ад нечаканых слоў, наліваецца ці страхам, ці большым, як быў дагэтуль, болем. Ён гэта заўважае і насцярожваецца, чакае, што зараз, вось-вось, яна не вытрымае таго страху ці болю, які яе скоўвае, чакае і баіцца, нібы выбуху, наступнай хвіліны. Але ў гэтым стане сядзіць доўга, прымушаючы сябе маўчаць. І ўсё ж ён не памыляецца ў прадчуваннях. Яе трывушчасць не бясконцая, і яна, змогшыся, кажа:

— Я не магу прадаць Афгана.

Ён ведае, што кожную нядзелю яна водзіць сабаку на рынак, сёння сам бачыў, і таму не можа яе зразумець:

— Вас часта бачаць на рынку з Афганам.

Ад гэтай ягонай жорсткасці яна грукае кулачкамі сабе ў грудзі, сціскае іх моцна, ажно хрумсцяць костачкі, не менш моцна, мабыць, сціскаецца ўся, але яго жорсткасць яе не пужае, наадварот, напаўняе не меншай упартасцю, і яна рашуча паўтарае ўсё роўна як не сваім голасам:

— Я не магу!..

Тут ці не мяжа яе мужнасці і яе сілы. Яна адчувае гэта сама. І таму, што сама адчувае сваю мяжу, раптам бязвольна апускае плечы, абвялыя рукі падаюць на стол, вусны зняможана дрыжаць і, ужо не чакаючы яго пытанняў, гаворыць без ранейшай упартасці ў голасе, як просячы, невядома ў каго, спагады:

— І прадаць не магу, і жыць не магу з Афганам. І што мне з ім рабіць?.. Ён усё памятае. Сваю зямлю, сваё неба, свае горы, Сярожу. Ён кожную ноч сядзіць перад акном і вые. Усю ночачку да раніцы. А я не магу слухаць, як ён вые. Не магу ні спаць, ні ляжаць. Я змаглася жыць з ім. Ён дастае з мяне душу сваім выццём. Сам пакутуе і мне жыць не дае. Так, я кожную нядзелю вяду яго на рынак, каб прадаць, і калі знаходзіцца чалавек, купец, мяне гоніць з рынку Сярожаў голас, гоніць разам з Афганам. Я ведаю, што ён любіў Афгана. Ён мне пра гэта пісаў. Але я не магу жыць з Афганам. Жыву надзеяй, што заўтра прадам. Мне яго шкода, але з ім лягчэй памерці, як жыць. Ён плача, і я плачу. І што рабіць?..

Апошняя ноч нічым не адрознівалася ад усіх папярэдніх начэй. За акном на мачце цьмяна ззяў ліхтар, сеючы вакол сіненькае святло і бляск на мокрым асфальце, на мокрых спінах прыпаркаваных аўтамашын. У небе ззялі сотні іншых ліхтарыкаў, драбнейшых і зырчэйшых, за цёмнымі начнымі вокнамі спалі людзі, бачылі ў снах фантастычнае жыццё, а ў маленькай аднапакаёвай кватэрцы на першым паверсе зноў, як усе папярэднія ночы, выў сабака, і жанчына кідалася то з пакоя на кухню, то з кухні ў пакой, у ванную і з ваннай, то ўключаючы святло, то выключаючы, не знаходзячы сабе месца. Яна і гаварыла з сабакам, і плакала, і маліла, каб сціх, ён сціхаў, але калі яна выключала святло і зноў клалася за шафаю ў ложак, сабака зноў пачынаў выць, і яна зноў усхоплівалася з ложка і бегала па кватэры. Яна заганяла яго на кухню, у ванную, зачыняла за ім дзверы, завешвала дзверы коўдрамі, але кватэра была малая і выццё сабачае ўсё роўна было чуваць. Зачынены, ён выў яшчэ мацней. Яна неаднойчы выганяла яго ў калідор, але ён садзіўся пад дзвярыма і ад яго пакутлівага выцця не было паратунку не толькі ёй, але і суседзям.

Знерваваная, яна раптам падумала, што гэтак выць сабака можа толькі на магіле гаспадара. Недзе пра гэта чытала. Ад нечаканай думкі зрабілася жудасна. Адчула, што траціць розум. І што жыццё пакідае яе.

Як пачало світаць, сабака супакоіўся, выць перастаў, але з'явіўся Варака, пачаў грымець за акном жалезнымі кантэйнерамі, шоргаць мятлою па шурпатым асфальце, і цішыні зноў не было, каб хоць цяпер, уранні, змружыць вочы. І тады яна села на кухні да акна, пачала чакаць таго ранішняга часу, калі ўжо можна будзе апрануцца, узяць сабаку на павадок і з ім разам выйсці за дзверы.

Загадка, якая хвалявала Вараку, калі бачыў жанчыну ў чорным і Афгана, гэтым ранкам падалася незвычайнай. Можа, што быў панядзелак? Жанчына і сабака пакідалі двор заўсёды ў нядзелю, а ў панядзелак яна бегла з гаспадарчай сумкай на нейкую сваю работу, пра якую ён нічога не ведаў. Ён наогул мала ведаў пра сваіх жыльцоў. Як і яны адзін пра аднаго. Любіў за імі назіраць, гадаць і здагадвацца — хто ёсць хто, а гаварыць не любіў. Не таму, што быў па натуры маўклівы. Не гаварылі яны, і ён плаціў тым самым.

Гадаючы, што з імі, жанчынаю і сабакам, магло сёння здарыцца, Варака не заўважыў, як у канцы дома сышоў па бетонных сходках да тратуара, апынуўся на другім баку праспекта.

Сцежкаю між таполяў спусціўся з узгорка ў лагчыну, выйшаў на бераг возера і адтуль, ад берага, заўважыў, як яны ўзыходзілі на шлюз. Спыніўшыся, схамянуўся: чаго ён тут з мятлою? Але як толькі жанчына з сабакам мінулі шлюз, схаваліся ў завулку за першым драўляным домам, цвярозыя думкі з галавы выскачылі і, ускінуўшы мятлу на плячо, ён паджгаў далей, у бок шлюза, трывожачыся, што згубіць сляды жанчыны і Афгана. У гэты час не думаў, што ў недалёкім мінулым, добрую палову жыцця, служыў у асобым войску пад малінавымі пагонамі і цікаўнасць, якая вяла за жанчынаю і сабакам, была яшчэ тая, адтуль, што таямніца, якую адчуваў у жанчыне і сабаку, зварухнула ў ім былую малінавую жылку і цяпер мела той асобы малінавы сэнс. Тое, што некалі было ягонай работаю, стала ягоным характарам, пра вытокі якога ніколі не думаў.

Завулак ад возера скончыўся, і Варака спыніўся на рагу апошняга драўлянага, зусім струхлелага дома, які ўжо не рамантавалі, бо збіраліся зносіць. За домам пад вясновым ранішнім сонцам мякка блішчэла брукаванка, блішчэлі трамвайныя рэйкі, а на другім баку ад рэек і брукаванкі ў засені дрэў па тратуары крочылі жанчына і Афган. Варака вельмі спяшаўся, калі жанчына і сабака схаваліся за домам, цяпер адлегласць паміж імі аказалася меншай, як была, таму ён пастаяў на трамвайным прыпынку, згубіўшыся сярод людзей, а затым пайшоў у той самы бок, як ішлі жанчына і сабака, не пераходзячы брук. Мінуўшы яшчэ адзін трамвайны прыпынак, спыніўся і нечакана заўважыў жанчыну і сабаку зусім блізка, на адлегласці шырыні вуліцы — насупраць. Яны стаялі перад рынчнай брамаю і глядзелі на браму. Яна была на замку.

Варака стаяў за дрэвам, каб жанчына не магла заўважыць, калі б раптам павярнулася ў яго бок тварам. Але яна стаяла да яго спіною. Побач з ёю чарнеў Афган.

Яны стаялі доўга, усё роўна як чакалі, калі адчыніцца брама. Але яна глуха маўчала, іх не чуючы. І тады, узняўшы над галавою рукі, жанчына схапілася за пранты брамы, абвісла на тым жалеззі, і Варака ўбачыў, як яе танклявае цела закалацілася ў сутаргах, быццам распятае на зачыненай браме.

Міма брамы, жанчыны і сабакі праходзілі людзі. Яны прыпыняліся, але да жанчыны ніхто не падыходзіў.

Людзі здзіўлялі Вараку. Няўжо ўсе гэтакія бяздушныя? Што з людзьмі?

І сам стаяў, нібы мёртвы.

Жанчына ў чорным усё ніжэй абсоўвалася на жалезных крыжах, і раптам закрычала не па-жаночы глухім голасам. Варака не

разумеў, што яна крычала, але бачыў, як людзі, што праходзілі міма, кідаліся ад брамы, як там, блізка, у адзін міг нікога не засталося, акрамя жанчыны і сабакі.

Яе крык быў у пустэчу, а пустэча не адгукалася нават яе ўласным голасам.

*1988*

## ГАЛУБА

— Як жа вас зваць?

— А так і заві — Галуба.

— Гэта вёска Галуба.

— І вёска Галуба, і я Галуба.

— Як гэта?..

Яна сядзіць побач са мною на печы, звесіўшы босыя ногі на гарачую, звечара напаленую ляжанку і смяецца, як маладая, бо ёй дзіўна, чаму я не разумею тое, што разумее ўся вёска.

— Ну, каб ведаў, я табе, чалавек — два вухі, скажу, адкуль Галуба ўзялася. У нас раней як людзі сяліліся? Пачуюць птушку вясновую, спанравіцца яе песенька — гняздзечка шукаюць. Барані божа парушыць, вока на яечкі пакласці, паквапіцца на жаўтадзюбіка. Але калі гняздзечка ёсць, птушачка жыве, песенька яе спанравілася — ладзілі хатку. Тут, дзе вёска, першую хату чалавек паставіў побач з гняздом ляснога голуба. Птушка гэтакая: вуркоча, як маці над малым, гладзенькая, блішчыць, на ладным валляку дробная галоўка, а хвост шырокі, сіні, з белай тасёмачкай. Яшчэ горлінкаю завуць.

— Клінтух? Голуб-клінтух?

— У нас кажуць голуб, галуба, гарлянка, горлінка.

— Але я не пра вёску. Чаму вы — Галуба?

— Чаму-чаму, усё хочаш ведаць. Давай вячэраць. Ёсць бульба, салёны гурочак…

Старая злезла з печы, падкруціла на стале ў лямпе кнот, заляскатала ў печы віламі — шукала чыгун з бульбаю.

Як жа я іх, Галубу-вёску і Галубу-старую, адшукаў сярод палёў, лясоў, далёка ад бальшака, на ўзгорку за рэчкай Пятляначкай, на сцежках-дарожках, якія бегаюць з месца на месца ўвесь год — у сяўбу, сенакос, жніво. Дзіўлюся сам — як?

Вечар быў імглісты, снег ляжаў неглыбокі, маразы не паспелі загнаць пад лёд хуткія рэчачкі. Я ехаў аўтобусам у знаёмы калгас і думаў: чаму багатаму сам чорт дзяцей калыша? Усе да

яго едуць, яго славяць, наш брат-журналіст пра яго цяпер толькі і піша, беднаму хіба мімаходзь пстрычку дасць па носе, вожыка падкладзе — хай чухаецца. Быццам дзе багацце, там і сумленне, і праца шчырая, і любоў непадманная да жыцця, зямлі-матухны. І так я развярэдзіў душу думкамі, што выйшаў з аўтобуса раней, як трэба, там, дзе чорт дзяцей ніколі не калыхаў, дзе вёскі раскіданы між палёў і лясоў на пясочку. Ішоў-ішоў — сцямнела. Дарога, уезджаная саньмі, скончылася, я не адразу заўважыў, што іду цаліком, а заўважыў — спыніўся: куды ісці далей? Выйшаў да бярэзніку, — могілкі. Я ад іх — полем скаціўся ў лагчыну да хмызнякоў, а там рэчка і ніякага мосціка. За рэчкай, на ўзгорку, ледзь відаць кволы агеньчык, быццам хто свечку запаліў, даланёю затуліў ад ветру — як праз далонь свеціць. І назад не павернеш — агеньчык блізка, і ўперад не пойдзеш — рэчка вузкая, ды не пераскочыш, ног не хопіць. Прабегся паўз яе ў адзін бок, прабегся ў другі — ні моста, ні кладкі. Лазіну выламаў, у ваду тарчма сунуў: не глыбака, па костачкі, але ж зімою ў ваду не палезеш. Думаю: трэба мігам скочыць з берага і мігам выскачыць на той бераг, каб вада не паспела хлынуць у чаравікі, як у дзяцінстве — ускочыш, выскачыш, і ногі сухія. Але ўскочыў дык ускочыў — па калені. Выскачыў, праўда, на тым беразе, дзе агеньчык, і даў лататы. Добра, што хата з агеньчыкам была не на запорах — як смаргануў за клямку, дык і апынуўся ў цяпле. Адразу чаравікі з ног, шапку і куртку вобзем — сам да печы. А там — старая: усміхаецца круглым добрым тварам, як радая, што вось і я на печы з ёю.

Пасля, пазнаёміўшыся, сядзелі за сталом, вячэралі. Зноў, як на печы, я спытаў, адкуль у яе такое імя — Галуба. Думаў, што цяпер ужо адкрыецца. Ат — не.

— Я ж сказала, што гэтак мяне чалавек назваў.

— А што за чалавек?..

Нядаўна я зноў заглянуў да Галубы, у самыя веснавыя работы, калі яна гной з хлява выкідала, каня бегала-шукала, бульбу ля хаты садзіла, грады капала і засявала, плот гарадзіла. Калі людзі працуюць, як стаяць, склаўшы рукі? Пасобіў выкінуць гной, паставіць плот, а потым, вячэраючы, завёў ранейшую размову. І вось, як адчуўшы, што за шчырасць трэба плаціць шчырасцю, старая пачала адкрываць таямніцы свайго жыцця:

— Выгнала, помню, карову на пашу за рэчкаю. Пусціла, сама падышла да Пятлянкі, вады прыгаршчамі чарпанула, каб напіцца, і ледзь не самлела: чалавек ляжыць — ногі ў вадзе, у ботах, а грудзі і галава пад кустом. Адскочыла, чую — стогне.

Я зноў да яго: салдацік, наш. Выцягнула на траву, бачу — плячо і грудзі ў крыві, худзюшчы. Што рабіць беднай бабе? Бегчы ў вёску? А як дойдзе да Клуні? Быў у нас паліцай з сусёдняй вёскі, з Цітаўкі, адзін на дзве вёскі. У Галубе паліцая за ўсю вайну не знайшлося ніводнага. Схавала сваю знаходку зноў пад куст, галлём прыкінула: ляжы, пакуль сцямнее. А як сцямнела — прыйшла з бутэлькаю малака, з бульбаю цёпленькай. Накарміла, напаіла, падняла, дала ў адну руку кол, каб абапіраўся, памагаў мне, павалакліся. Добра, што хатка мая ад рэчкі першая. Не гэтая, што цяпер, гэтую ўжо з Сямёнам ставілі, а быў хляўчук з адным акенцам. З Грышам як пажаніліся, печ у хлеўчуку склалі, акенца прабілі — і жылі.

— А хто гэта — Грыша?

— Мужык мой.

— А Сямён?

— І Сямён мой, чалавек як чалавек — два вухі.

— Дык як жа гэта?..

— Ат, маўчы ды слухай, як было з Іванам Колышкіным. Прывалакла, значыць, а куды схаваць? Ночку мыла, зеллем паіла, карміла, у Грышава ўсё апранула, на дзень пад печ схавала.

— Хто ж ён такі быў, Колышкін?

— Акружэнец. Іх тады, на пачатку вайны, столькі было па нашых лясах!

— Ну а… Галуба?

— Слухай ты!.. Па начах трызніў, пытаўся, дзе ён. Кажу: у Галубе, у вёсцы. Паляжыць-паляжыць — зноў: дзе я? Злую: ды ў Галубе! А неяк — ужо развідняла — выбраўся з-пад печы, стаіць пасярод хаты. Я на печы, прыкінулася, што сплю, а сама ўсё бачу. Стаіць, азіраецца, а потым на ўсю хату: дзе ты, Галуба? З-за коміна высунулася — ён да мяне: рукі паклаў на печ, цягнецца, а я смяюся. Думае, што я яму як хлопцу радая, жартую, а мне радасна, што ён ужо рукі можа падняць, абаперціся, сіла ёсць. Залез на печ, сеў побач, мяне абхапіў, цалуе, шэпча: Галуба мая, Галуба! Ды якая я табе Галуба, пытаюся, Галуба — вёска, а я баба, не вёска, і завуць мяне Марыляю. А ён сваё: ты Галуба! І не патрэбны, кажу, ты мне, у мяне Грыша. Пытаецца: хто ён, Грыша, дзе ён? У зямліцы, кажу, муж мой. Адзін дзень гулялі вяселле, на другі яго забралі на фінскую, у саракавым. Грыша твой, кажа, мяне не асудзіць, адзін у нас з ім хлеб і лёс. Грыша не асудзіць, кажу, гэта праўда, бо я за яго выйшла з жаласці, што быў дужа непрыгожы з твару, іншая за яго не ішла. І ні з кім да гэтага часу не жыла, ён адзін быў у мяне. Як прачнуўшыся ад

доўгага сну, абхапіла я Івана Колышкіна, так абхапіла і цалавала, што ўся аблілася слязьмі. Адчула: ён мой, сваім страхам яго заваявала. Дурное дзела, кажуць, не хітрае, а якое яно дурное, калі ад душы? Назаўтра дзверы — хлясь! Дурная баба — вечна дзверы не зачыняю, ні днём ні ноччу. А раптам — Клуня? Ён да мяне ў ласку даўно ўбіваўся, як Грыша пайшоў на фінскую. Не, тут Ціхан, сусед: дзе твой хлопец? Які? — пытаюся. Не дуры, кажа, у мяне таксама гэтакі ў хляве, майго Петраком зваць. Тады — з печы: вядзі, дзед, Петрака, такога ведаю. А як сцямнела, сышліся ў маёй хаце, і яшчэ трэці, у Лізкі Масалыгавай хаваўся. Святла не запальваючы, на стол сабрала, павячэралі. Іван і кажа: ну вось, Галуба, прыйшоў час нам развітацца. Я аж падскочыла: ці тут, кажу, нельга жыць? Нельга, бо мы салдаты. Вывела я іх да чыгункі, развіталіся. Не плач, Галуба, сказаў мне тады Іван Колышкін, як вайна скончыцца ды жывы буду, я цябе знайду, у шоўк апрану, на руках насіць буду перад усім светам.

— Загінуў, значыць?

— Калі б жывы быў — вярнуўся б. Гэта я ведаю.

— Ну а той, Сямён?

— Сямён пазнейшы. Яшчэ да Сямёна жыла з Клунем.

— З паліцаем? Як гэта?

— А так. Аднойчы ноччу ўваліўся цераз парог чалавек і ляжыць. Я за яго, адагрэла.

— Таксама акружэнец?

— Сяргей, маладзенькі-маладзенькі. З лагера ўцёк. У Крычаве, дзе завод цэментны, быў лагер ваеннапалонных. Ноч, значыць, на печы адхайвала, а раніцай Клуня ўвальваецца. Сеў на парозе, уставіўся на лахманы, якія я з хлапца садрала, на падлозе ля печы кінула. Клуня змікіціў…

Дзверы адчыніліся, у хату ўвайшла старая. Аберуч абапёршыся на кіёк, глядзела на нас, як не пазнаючы.

— Праходзь, Матрона, садзіся.

Тая села, развязала хустку:

— Я ненадоўга. Прыйшла спытаць, калі ты, Галуба, каня прывядзеш з фермы? Сеяць трэба. Зямля сохне.

— Яшчэ ж ніхто не сеяў?

— Вось і трэба ўсім адразу. Мяне людзі паслалі. У цябе тут госць, усім ісці няёмка, мяне адну выправадзілі. Ляксею трэба галлё з лесу прывезці, палкі дроў няма. Фрося хоча на пошту пасылку брату адвезці. У краму трэба ўсім. Хлеба, цукру, солі купіць. У цябе ногі маладыя, ты каня прывядзі.

— А хто за плуг стане? Я тыя гады ўсім арала-сеяла, а сёлета не пасілю. Рукі баляць.

— Маладзейшых за цябе ў нас няма.

— Якая ж я маладая? Сёмы дзясятак. За ўсю вёску рабіць ды думаць ужо не магу. Але… тут я, Матрона, расказваю, як Сярожу хавала. Клуня тады ўваліўся, хацеў хлопца з печы сцягнуць, у паліцыю везці, а я не дала. Кажу Клуню: калі не выдасі — буду з табою жыць. І жыла. І ён не выдаў нікога. На што не ішла, каб чалавека выратаваць! А як вы, людзі, пасля майго Ванечку неўзлюбілі?

— Якога? — пытаюся. — Колышкіна?

— Сыночак у мяне нарадзіўся. Пачалі хлопчыка паліцаем зваць. І бабы, і дзеці. Сабрала я тады баб і пытаюся: што вам Галуба зрабіла кепскае? Што як магла ўсіх сваім плячом падпірала, праз Клуню ратавала ад смерці? За гэта вы мне сплачваеце? А ці ён, дзіцятачка, вінаваты?

— Не ўспамінай, — апусціўшы вочы, як ад сораму за вёску, папрасіла Матрона. — Скажы лепш, як напаіла Клуню.

— Помніш? Ды я ж у цябе самагонку брала. Прыехаў, значыцца, сеў есці. Гляджу: кроў на кіцелі. Пытаюся: дзе гэта ты? А гэтак, кажа ён, і з вамі будзе. З кім? А з Ціханам, кажа, з табою, што хаваеце ворагаў Германіі, сёння гэтакіх у Цітаўцы да сценкі ставілі. Не, кажу, табе, Клуня, трэба лячыцца. А палячы, кажа. Я хустку на галаву і да людзей: у каго самагонка? Прынесла ад цябе, Матрона, чвэрць цэлую, шклянку набухала: на, лячыся. Выпіў, рагоча. Яшчэ набухала. А чаму, пытаецца, сама не бярэш? А я, кажу, заўтра на тваіх хаўтурах віп’ю. Рагочучы, перакуліў другую і трэцюю. А як набраўся: падымайся, гультаіна, трэба дровы прывезці з лесу, якіх я там за цябе насекла. Шапку яму на галаву, вывела, у сані ўкінула, сама за вожкі і да лесу. Каня разагнала, а тут паваротак — яшчэ каню пугі. Ён як крутануў, дык мы з Клунем — у снег. А зіма была завейная, лютая, не як цяперашнія зімы. У снег зарыліся, ляжым. Клуня і павярнуцца не можа. Я шапку ў яго з галавы — і на морду. І задушыла сабаку. Назаўтра — поўная хата паліцаяў: дзе Клуня? Кажу: учора некуды нанач паехаў. Знайшлі ў лесе, каня злавілі, а мае сляды мяцеліца за ночку ўсе чыста пахавала.

— Тады і недапітую чвэрць знайшлі.

— А я ўсё прадумала. Паглядзелі, што чвэрць у возе, пад сенам, сам смярдзіць самагонкаю — на яе і спісалі.

— Хітрая ты, Галуба.

— Будзеш хітраю з вамі.

Суседка падалася дахаты, а мы сядзелі, даядалі бульбу. Галуба і яшчэ ўспомніла — як брыгадзірыла:

— Вайна, значыць, скончылася, сход сабраўся. Кажу: выбірайце мужчыну, іх у нас, праўда, адзін-два, але можна выбраць. А ўсе як падняліся: не, Галуба, брыгадзірам ты будзеш, адна ў нас над усімі, і над мужыкамі. А гэта ж і праўда. Ці мяне які мужчына калі знайшоў, каб памагчы, з бяды выцягнуць? Усіх я знаходзіла, з бяды цягнула. Хворых, калек падбірала. Ад жаласці.

— Ну а Сямён?

— Яго пасля вайны на вакзале знайшла, як Ваню вазіла ў Мугулёў на рэнтген. Малы, а хварэў цяжка, на лёгкія. А што Сямён быў? Без ног…

Уся затрэслася, быццам сіл не хапіла ўспамінаць, варочаць той камень. Я маўчаў. Такое было адчуванне, што няма ў мяне права нават каб словам суцешыць. Быццам той камень, які каціла па жыцці Галуба, прыдушыў і мяне.

Пазней, калі яна, кладучыся спаць, фукнула ў шкло лямпы, пагасіла святло, я спытаў:

— Чаму ў вашай вёсцы ні святла, ні крамы, ні каня?

— А мы тут, як сказаў старшыня, неперспектыўныя. І вёска неперспектыўная, і бабы неперспектыўныя, і Ляксей, адзіны мужык, неперспектыўны. Дзве каровы — і тыя ялаўкі. Сабакі зваліся — няма каго вартаваць. Вось я… якая з мяне перспектыва?..

Тую ноч я доўга не мог заснуць. Устаў, выйшаў з хаты, сеў на калоду, закурыў. Ніколі не курыў, а тут намацаў у кішэні пачак — частаваў іншых — і прысмаліў. Першы раз у жыцці адчуў радасць ад цыгаркі. Цішыня. Нідзе ані галасочку: ні чалавечага, ні сабачага. Быццам і вёскі няма, і жыцця няма. А я ўяўляў, як недзе блізка едзе чалавек, чужы, полем ці паўз лес, бакавой дарогаю, едзе і бачыць мой агеньчык. Так бы не ведаў, што тут жывуць людзі, а мой агеньчык яму падкажа: жывуць — і вёска, і людзі. Жывуць.

Як позна лёг — позна прачнуўся, ужо сонейка добра ўстала. Адразу паклікаў:

— Галуба?

Ніхто не адгукнуўся.

Апрануўся і выйшаў з хаты. Галуба ўжо хадзіла за плугам, а дзве старыя ішлі з кошыкамі следам, кідалі ў разоры бульбу. Убачыўшы мяне, Галуба нават не прыпынілася, бо засталося два разы абысці агарод. Абышла — тады і каня распрэгла.

— А чаму мяне не пабудзілі? Я ж таксама — чалавек як чалавек, два вухі… І рукі ёсць…

На цэнтральную сядзібу мы ехалі ўдваіх. Я — на аўтобус, яна — на пошту, у краму па хлеб, цукар, соль, запалкі.

Пятлянку пераехалі ўброд. Рэчка ўся бялюткая ад калакалушы. Над цёплай ціхай вадою таўклася камарэча. Выехалі на поле.

Палетак быў скрозь засеяны збажыною, старая наезджаная дарога дбайна завораная і таксама засеяная. Мы пакіравалі межамі, паўз поле.

На ўзгорку, пасярод поля, стаяла вялізная груша, уся ў квецені, аж голля не відаць. Галуба спыніла каня.

— Глядзі ты на яе, разнявесцілася, — заўсміхалася.

— Дзічка? — спытаў я.

— Ды не. Вінёвачка. Грышава. Садзіў яшчэ хлапчуком.

— Які Грыша?

— Ды мой. Тут стаяла бацькава хата. Тут вёска была, Цітаўка. І Клуня з гэтае вёскі. Нічога не засталося, адна грушка Грышава. А гадоў праз пяць гэтак і з нашай Галубаю будзе. Павымруць старыя, хаты пазносяць, палетак зааруць, засеюць, адна нейчая грушка ці яблынька застанецца.

— А Ваня? Дзе ваш Ваня? — спытаў я. Старая падумала-падумала і смаргнула вожкамі:

— Но-о-о, два вухі!..

Да калгаснага цэнтра ехалі моўчкі. Мая спадарожніца гаварыць ужо не хацела, а мне няёмка было распытваць. Але калі пад'ехалі да аўтобуснага прыпынку і я злез з воза, наважыўся развітацца, яна загаварыла:

— Ванечка ваенны, жанаты, служыць на Урале. Мяне да сябе кліча, а я не магу ехаць — бабы не пускаюць. Кажуць: ты, Галуба, у нас самая маладая, дык павінна правесці ўсю вёску ў апошнюю дарогу, каб па-людску было. Адна застанешся — тады куды хочаш. А каб Ванечка сюды ехаў — баюся. Раптам ён тут ад каго дачуецца, хто яго бацька і што я з ім зрабіла?

— А вы што яму пра бацьку кажаце?

— Кажу, што яго бацька — Іван Колышкін, і назвала па бацьку Ванем, і ў пашпарце ён Колышкін, Іван Іванавіч. Усё як след зрабіла, людзі пасобілі, а цяпер?.. Што рабіць?..

Галуба сядзела на возе і маўчала, чакала мае парады. Але маўчаў і я. Што параіць — не ведаў.

*1981*

## ГАРЭЛА СВЕЧАЧКА

*Памяці Міхася Стральцова*

Я прачнуўся і ўбачыў агромністы спелы персік. Наліты сонцам, калмаценькі, у срэбна-расяным пушку, хоць і загадкава квадратны, як на карціне якога-небудзь куба-авангардыста. Цудоўны дар паўднёвага Крыма быў на дзве палавінкі падзелены равочкам з мяккім галубіна-шызым дымком, над якім лунала вохрыстая цяплынь. Ніжэй за равочак срэбна-расяны пушок таксама ружавеў, цяплеў. Сонейка відавочна жыло ўсярэдзіне персіка, і яно, разам са мною, прачыналася.

Усхапіўшыся з ложка, я цьмяна, яшчэ ва ўладзе сну, адчуў, што некуды спяшаюся. Выйшаў на балкон. У шчыліне далягляду, у тым самым равочку, разгаралася полымя, і ўсё, што бачылі вочы, уяўлялася сапраўды агромністым персікам. І ўжо тут ён быў авальна-круглы, якім яму і трэба быць, ляжаў у падкове агатавых садоў узбярэжжа, а полымя ў ім высвечвала пунсовую, з крапінкамі запечанае, нібы кроў, чырвані сарцавінку.

Вось, падумалася, і маленькі рай, і вялізны свет. Стой і пі цёплую асалоду. І я стаяў бы, можа, доўга, сам наліваючыся ранішнім сонейкам, калі б зусім блізка не пракукарэкаў певень.

У Ялце — певень?

Тут я чуў і бачыў мора, белыя цеплаходы, ланцуг Ай-Петры, падобны на дужку агатавага кубка, налітага чырвоным ці белым масандраўскім партвейнам, бачыў і чуў штормы, прыбоі, зачараваную маўклівасць кіпарысаў і хвой на беразе Максіма Багдановіча і навокал, але ні разу не чуў і не бачыў пеўня — адкуль ён тут? Хутчэй апрануўся, набгом са слоіка выпіў вінаграднага соку і з чацвёртага паверха літфондаўскага дома збег у засень кіпарысава-піхтавых прысад, што з гары вялі да мора.

Гэтымі духмяна-смолкімі прысадамі я хадзіў кожнае раніцы. Але сёння там, дзе яны канчаліся, на вуліцы, па якой бегалі тралейбусы, рашуча звярнуў направа.

Вось і Ауцкая. Цяпер вуліца мела іншую назву, а тады называлася Ауцкай. Верхняя Аутка… Чэхаў…

Варотцы ў садок Антона Паўлавіча былі адчыненыя. Я прайшоў праз іх на дарожку, пасыпаную белай марской галькай, засенню ад магнолій і кіпарысаў наблізіўся да белага дамочка, не сустрэўшы ніводнай жывой душы, і са здзіўленнем падумаў: ужо, можа, і да Антона Паўлавіча ніхто не заглядае? Ці яшчэ рана? Але ж варотцы адчыненыя — запрашаюць? І раптам заў-

важыў постаць мужчыны. Ён стаяў каля ўвахода ў белы дамочак пад прыгожа-кашлатым старым кедрам, некалі пасаджаным рукамі славутага гаспадара саду, за блішчастай на мяккім ранішнім святле лістотай магноліі — амаль высокі, стройны, з годнай паставаю галавы, у галубіна-сіненькім, акуратна выпрасаваным касцюме, пад малінавым гальштучкам і бездакорна белым каўняром сарочкі вакол высокай, нібы ў спевака, шыі. Стаяў да мяне спіною, але і не зусім спіною, крыху бокам, і я бачыў не толькі малінавы вузельчык гальштука, але, нібыта цень ад яго, малінавага, і радзімую плямку над каўняром, якая на шыі была з маленства і якая яшчэ раз прымусіла падумаць, што памыліцца я не мог — насупраць стаяў Ён.

Углядаючыся ў магутны камель кедра, абвіты зялёным дротам плюшчу, Ён павярнуўся ў мой бок, яшчэ не заўважаючы мяне, адкрываючы маім вачам прыгожа-задумлівы профіль твару. У руцэ была цыгарэтка, на канцы якой пунсавеў агеньчык. Глядзеў на агеньчык.

Каменьчыкі шаматнулі ў мяне пад нагамі, і гэта Ён адразу пачуў — узняў рахманыя вочы.

— Га-а, старычок!.. Ну, здароў! — Непрымусова-цёпла ўсміхнуўся. У будзённай радасці, такой прыемна-знаёмай, як бы падышоў да мяне бліжэй, хоць і стаяў на тым самым месцы. — Бачыш, дзе мы з табою сустрэліся? У Антона Паўлавіча! А ты мяне папракаў, што я не быў у Ялце, што не бачыў сінюю Максімаву бухту і хвоі ў яго за акном?

Не, я ніколі Яму пра гэта не казаў. Але сапраўды думаў: як, не пабываўшы ў Ялце, адважыўся пісаць пра апошнія дні Багдановіча? Ну вядома, Ён заўсёды адчуваў ува мне гэтае пытанне. Ён ведаў, што я з такое нагоды быў бы ў Ялце абавязкова. Ён часта па-сяброўску зайздросціў маёй лёгкасці на язду і хаду. Як я — Яго таленту ўсё да дробязі ўявіць і ўбачыць на адлегласці. Гэтак адбылося і тады. Не пабыўшы ў Ялце, Ён сказаў пра яе ўсё, што трэба, не больш і не менш, дакладна і непрымусова. Знайшоў і штрыхі, і дэталі. Усё роўна як і ў пакойчыку Марыі Цамко пабываў, у доме нумар восем па вуліцы Мікалаеўскай, у галовах паміраючага Максіма. І ўсё ж… хвоі і бухта? Не, я не папракаў.

— Ты, старычок, сумеўся?..

І гэта заўважыў? У мяне на твары? Па тым, як я перад Ім маўчаў, не ведаючы, што адказаць? Я сапраўды ўсё роўна як сумеўся. Але не таму, што пачуў ад Яго пра свой нібыта папрок. У гэтую хвіліну я паспеў падумаць яшчэ і аб тым, што наша сустрэча

адбываецца праз два гады, дакладна праз два ад жалобнага дня дваццаць пятага жніўня, калі я сам стаяў ля Яго труны і казаў развітальнае слова на Чыжоўскіх могілках у Мінску. Як жа так?..

— Ну, нічога. Хадзем да Антона Паўлавіча. Ён чалавек інтэлігентны і нам, беларусам, будзе рады. Толькі не забудзь добра выцерці аб дыванок ногі. Класік не любіць брудных слядоў. Ды і… сам разумееш — ягоная хвароба патрабуе чысціні…

Усё гэта магло адбыцца ў сне? Але гэта быў не сон. Дзень пачынаўся, і я сапраўды стаяў у садку Антона Паўлавіча.

Ён дастаў з кішэні пінжака карабочак запалак, ногцем прыціснуў на ім цыгарэтку, сунуў яе, пагаслую, у шчыліну карабочка, схаваў назад у кішэню і, як тады, як некалі заўсёды пры сустрэчы, усміхнуўшыся непаўторнай далікатна-цёплай, з водсветам прыхаванай самоты ўсмешкаю, зайшоў у дом.

Зноў, як бывала заўсёды, няўцям паддаўшыся Яго загадкавацíхай уладзе, цяпер ужо забыўшыся і на тое дваццаць пятае, я крочыў Ягоным следам.

У прыхожай, за шклом у шафе, вісела доўгае скуранoе паліто Антона Паўлавіча, завельмі доўгае нават для яго высокага росту, абшарпанае непагодаю доктарскіх візітаў. Дзверы з прыхожай у пакоі былі адчыненыя, гуляў вецер. Я зазірнуў у сталовую, потым у пакойчык Вольгі Леанардаўны, але нідзе нікога не заўважыў і зноў выйшаў у двор, усходцамі падняўся на другі паверх.

Ніхто і на другім не азваўся. Як жа так? Калі нават чалавек, які гаварыў са мною, не Ён, дык дзе той не Ён? Я абышоў пакоі на другім паверсе, пастаяў на тэрасе, выйшаў на балкон — нідзе нікога? Але ж Ён — тут? Можа, там, дзе наймацней адчуваецца прысутнасць Антона Паўлавіча? І яшчэ — яго сяброў? Ну, хоць бы Левітана? Чэхаў любіў карціны Ісака Ільіча, іх смутак і боль, не так, можа, любіў, як адчуваў над сабой іх уладу. Чэхаў і Левітан — вядома!..

Вось і кабінет Антона Паўлавіча. Пісьмовы стол, на стале алоўкі, аркуш чыстай паперы. Рабочае крэсла. Насупраць стала — камін, на каміне — эцюд Ісака Ільіча: начныя стагі пад яснай поўняю. Калі Антон Паўлавіч сядзеў за рабочым сталом, ён заўсёды бачыў перад сабою левітанаўскую ноч, да болю знаёмы матыў сярэдняй паласы Расіі, жывапісны абразок не то з-пад Мелехава, не то з Ягоркавага стэпу. Тут, дзе гэты абразок, сэрца пісьменніка білася мацней. І дзе яшчэ, як не тут, павінен быць мой сябра? Але… Яго няма?..

Я выйшаў на Ауцкую. Куды ж Ён пайшоў? Вышэй і направа — вуліца Багдановіча, былая Крымская, дзе Максім жыў у

1909 годзе. Можа, звярнуў налева? Нейчая постаць якраз матлянулася за рогам дувала, пачуліся крокі на камянях. Вулачка збягала ўніз да рэчкі. Там — сцяна кіпарысаў. Там — могілкі.

Вуліца Рачная вывела да дробнай горнай рачулкі з татарскай назваю Учан-Су, за якой усё роўна як тыя самыя вінаграднікі, пра якія пісаў і Ён, гара за вінаграднікамі, дзікія камяні пад нагамі, абсыпаныя шыпамі горных раслін, што чапляліся за штаны, чаравікі, шкарпэткі. Камяні вялі ўгару, вышэй і вышэй, пакуль не вывелі да кусточка шыпшыны. Дробненькія плады гарэлі чырвона-пякучымі слёзкамі паміж магіл, а за слёзкамі стаяла сціплая калонка ў белай агароджы.

— Ты ўжо тут, старычок? — раптам, як з неба, пачуўся Ягоны голас. — Падыдзі да Максімавай, на чужбіне, хаткі. Пасядзім ды пакурым…

Пад кедрам па магіле слізгануў і затрымаўся ў кутку агароджы цень, схаваўшыся ад мяне за маладзенькі, нядаўна пасаджаны кіпарысік. Другі такі самы кіпарысік, роўны з тым, такі ж малады, стаяў на выбліснуўшым сонейку з процілеглага боку помнічка.

— Вось і Максім пад бел-чырвона-белай харугвай. А ты яму пакладзі хоць яблык. Шкада, што ў нас з табою сёння няма ружаў і пляшачкі. Памятаеш, як прыстойненька мы прыходзілі на Вайсковыя могілкі да Купалы?..

Бел-чырвона-белая стужка з рук невядомага шчырага беларуса сапраўды абвівала калонку. І яблык ляжаў у мяне ў кішэні, прывезены з краіны-бранаచкі. І варотцы адчыненыя.

Хоць зернеткі засохшыя былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася…

Але чый гэта голас? Радкі Багдановіча, а голас? Зноў — Ягоны? Ён усё ж тут?..

Я паклаў яблык на магілку, прысеў на яе каменны краёчак, агледзеўся: нікога побач са мной не было. Але ж быў голас? Даляцеў здалёк? Быў і цень. Чый цень? Хто яшчэ мог сказаць пра тое, як з пляшачкай у кішэні хадзілі да Купалы на Вайсковыя могілкі, як не Ён?

Мне ўспомнілася, як гадоў пяць назад мы ездзілі ў прынёманскае Загора да мае цешчы Валянціны Васільеўны, якая цёплая тады, у верасні, стаяла восень з лёгкімі сонечнымі павуцінкамі ў паветры, як цэлы дзень капалі ў полі бульбу, як ужо

надвечар прывезлі мяхі з бульбаю і засыпалі ў склеп, як позна вячэралі, позна клаліся ў пуні на свежым сене, узабраўшыся пад самы вільчык, і як доўга не спалі, маўчалі, слухаючы малады дзявочы рогат, размовы, песню пра Янку і Алёну за пуняю ля вясковага клуба, сабачы брэх, што перакатваўся з аднаго канца вёскі ў другі яе канец, нуднае тарахценне трактара недзе далей, у полі. І якія былі ў тую ноч размовы. Мы ўспаміналі сваё студэнцкае жыццё, блізкіх сяброў, дзяўчат, сваю бацькаўшчыну на Сажы, свой лес, Васілеўшчыну, на адным канцы якой стаяла мая Лімень, на другім — Ягоны Сычын. У тую ноч я спытаў, пра што Яму цяпер хочацца напісаць, ці выношвае Ён штосьці запаветнае, чаго не напісаць немагчыма, а мо гэтакае, запаветнае, піша? Лабавых ці хоць крышачку недарэчных пытанняў Ён не любіў, але змоўчаць не мог, не жадаючы мяне пакрыўдзіць, і праз нейкую хвіліну маўчання я пачуў: «Ёсць, старычок. Ёсць чалавек. Я з ім сустракаюся, вітаюся, размаўляю. Калі ў мяне што-небудзь здараецца непрыемнае, ён прыходзіць і супакойвае. Бачу яго ўсяго — постаць, жэсты, звычкі, ведаю, калі і як яго настрой мяняецца. Бачу кожную рысачку на твары, яго кіёчак, паліто, кожны гузічак, гальштук, дудачку бачу — тырчыць з кішэні. Магу да яго дакрануцца, адчуць фізічна. А яго ж даўно няма. Ён памёр, калі я пра яго яшчэ і не чуў. І вось… сустракаю, чую». Мне тады, у змроку пуні, падалося, што Ён хмыкнуў — усміхнуўся. Самому ўсё, што сказаў, здалося дзіўным? Я тады не здагадаўся, што ў Яго за чалавек, якога няма і які ёсць. Я адказаў: дык і пішы, не губляй жадання. А ён не пагадзіўся: «Не, старычок. Позна. Гэта я ўжо, відаць, не напішу». Пра тую размову я і забыў. А яшчэ праз год Ён прынёс мне сваю апошнюю сінюю кніжыцу з белым месячыкам над белым канём на вокладцы. Я яе разгарнуў і прачытаў першае, што трапілася на вочы, вершык пра Купалу, як песняра «натоўп аднойчы пераняў дарогай — галодны, босы, у падраных світках», як ён спытаў: «Хто вы?..», і як натоўп, адказаўшы: «Беларусы!..», даў яму «у рукі верную жалейку». Я тады ўспомніў тую ноч у вёсцы на сене, Яго далікатна-асцярожную згадку пра чалавека, якім трызніў, якім пакутаваў, з кішэні ў якога тырчэла дудачка-жалейка. А крыху пазней Ён мне аднойчы сказаў, што ноч не спаў, усю ночку чуў, як недзе ў лузе плакала жалейка. І яшчэ аднойчы, як між іншым, прызнаўся, што ноч апошнюю не спаў, не мог заснуць, і што гэтакія ночы ў Яго цяпер часта бываюць. Ні пра жалейку, ні пра Купалу. Проста — што не спіць. Я ўспомніў, як маці, калі ёй сніліся нябожчыкі, ішла ў царкву і па тым,

каго сніла, ставіла памінальную свечку. І гэта сказаў. А Ён мне адказаў з той самай далікатнай усмешкаю, што адкупіцца ёсць толькі адзін сродак — напісаць сваю пакутлівую бяссонніцу. І мне ў цеплыні той Ягонай усмешкі здалося, што свечачку Ён вось-вось запаліць.

Не запаліў. Дык няўжо там, той вераснёвай ноччу, ён сказаў няпраўду? Няўжо і сапраўды сваё запаветнае жаданне выканаць ужо не мог? Чаму — не мог?

Але гэта — чаму? — зусім іншая размова. Калі-небудзь яе можна прадоўжыць. А цяпер мацней хвалююць паралелі паміж тым Ягоным станам і сённяшнім маім. Як некалі Яго спыняў і вёў паэт з жалейкай, сёння ўжо Ён спыняў і вёў мяне. І ўжо я павінен быў запаліць свечку альбо напісаць сваю бяссонніцу.

Ды і не тут, не ў Ялце, пачаліся ўсе гэтыя штучкі. З месяц назад, да ад’езду сюды, я неяк надвечар ішоў дадому праз парк, берагам возера, нёс у руцэ свежы нумар часопіса са сваёй доўгай споведдзю, як раптам з-за тоўстых таполяў мне наперарэз выйшаў Ён. Пасля дажджу захаладала, і Ён стаяў у добра мне знаёмай сівенькай куртачцы, якую насіў апошнія гады. Спыніўшыся пад таполевымі прысадамі, прыкурыў цыгарэтку, вышэй падняў галаву, заўважыў мяне і, сумнавата ўсміхнуўшыся, сказаў:

— Прывецік, старычок! Ну, ты не перажывай. Дурачкі-с… Я іх ведаю.

Я не мог паверыць, не мог падумаць, што гэта Ён, але «дурачкі-с», вымаўленае са старамодна-кплівай велікадушнасцю, было безумоўна Ягоным. Ды і хто яшчэ мог гэтак адчуваць прычыну мае роспачы? Ён сам быў поўны ёю. Яго лодка неаднойчы налятала на камяні здрады і зайздрасці так званых сяброў.

— Я ж казаў табе, што буду тваім суддзёй. Казаў табе я гэта? Што першае слова на судзе скажу я… І я чакаў…

Усё было так. Мы, памятаю, ехалі з Крычава, ад мае маці, у Сычын, да Ягоных маці і бацькі. У Чэрыкаве пераехалі цераз Сож, за мостам звярнулі з асфальту, спыніліся, выйшлі з машыны. Тут гарбацілася наспа брукаванкі, што вяла з даваеннага Чэрыкава ў лес, на ёй некалі цераз Сож стаяў вялізны драўляны мост. Засталіся адны прагоны наспы, нібы старажытныя курганы. Мы ўзышлі на наспу. Яна была зарослая палыном, падбелам, рамонкам і васількамі. Мне ўспомніўся сорак першы год, летні дзень, калі нямецкія самалёты руйнавалі гэтую наспу, а мы, бацькі і дзецi, беглі па ёй, пад імі, з гарадка ў лес, у бежанства. Ён адчуў, што ўспамінам я вывяраю на Ім, Ягоным пачуццём, ужо напісанае. Тады і сказаў, што пра маё бежанства будзе чы-

тaць першы і каб я гэта памятаў. Ён гэта мне нагадваў і пазней. І прыспешваў. А я не спяшаўся. І спазніўся. На два гады.

Цяпер, перад ад'ездам у Ялту, на беразе возера, са свежым часопісам у руцэ, пачуўшы Яго папрок, я хацеў апраўдацца, ды Ён мяне апярэдзіў: павярнуўся і знік за дрэвам. Я падышоў да таго месца, дзе Ён стаяў. Ляжала недакураная цыгарэтка, і яе кончык ззяў дробным пунсовым вугалёчкам. Я нагнуўся, каб падняць бычок, але пад руку шугануў вятрыска — пакаціў пунсовы вугалёк па дарозе. І гэта ўжо быў не вугалёк. Гэта ўжо была агняна-рыжая мяцёлачка, якую падхапіў вецер з возера і пагнаў за тыя самыя таполі, у якіх схаваўся Ён. За дрэвамі яна, агняна-рыжая, пабольшала, нібы раздзьмуханая ветрам, пакацілася далей і далей ад мяне, і я ўбачыў у ёй Ліску. Я паклікаў: «Ліска! Ліска!» Тая спынілася паміж дрэваў, жалобна яўкнула ў мой бок і знікла.

Вяртаючыся з ялцінскага магільніка ад Максіма, я павярнуў у бок мора да павільёна, у якім звычайна прадавалі бачкавое піва.

Быў полудзень, моцна пякло сонца, разгойдваючы за парапетам марскую прастору. Хвалі каціліся з блакітнай відалі пад бераг, бухалі ў прыбярэжныя камяні і ўскідвалі над імі фантаны вады, якая вясёлкава-размаістым пылам іскрылася на сонцы і дыханнем мора выносілася на набярэжную.

Піва ў павільёне каля канцэртнай залы прадавалі і сёння, побач кааператары смажылі шашлыкі, там і там стаялі чэргі, і я, заняўшы чаргу па шашлык, стаў у чаргу па піва. Ад акенца, у якое падавалі паўнюткія кухлі, мужчыны па адным адыходзілі, чарга рухалася, я крок за крокам набліжаўся да жаданых кухляў і ўспамінаў, як ужо даўнавата, калі быў малады і працаваў у газеце ў Мінску, мы з Ім аднойчы пілі піва ў лазні каля Дома друку, на вуліцы Багдана Хмяльніцкага. Гэта было 31 снежня ўжо не памятаю якога года, быў позні пераднавагодні вечар, калі разумныя бацькі і дзеці збіраліся за святочнымі сталамі. Мы ўжо былі, як кажуць, злёгку цёпленькія, у нас яшчэ мелася пляшка гарэлкі, і мы завіталі ў лазню, у буфет, па піва. У буфеце было чысценька, стаяла ўпрыгожаная агеньчыкамі ёлачка, каля яе ў молада-разняволеным настроі мы выпілі гарэлачку, наверх — кухлі па два свежага піўка, пілі за Новы год, за цудоўныя апавяданні, якія песцілі ў сваіх марах, за жонак, дзетак, матак, за свае вёскі на Магілёўшчыне, адзін за аднаго і пакідалі буфет ужо як яго зачынялі, ці не самыя апошнія. Мы паблыталі ў калідоры дзверы, адчынілі не тыя, што на вуліцу, а тыя, што ў жаночую гардэробную. У мяне на плячы ляжалі новенькія, сыну, лыжы з палкамі, а ў руцэ ў яго быў партфель з падарункамі. Мы ўваліліся

туды, дзе жанчыны апраналіся. Яны сустрэлі нас цудоўнай белізною і віскатам, а мы кінуліся ў дзверы ды зноў не ў тыя: там, дзе раптам апынуліся, яны мыліся. З лыжамі на плячы я, памятаю, знайшоў яшчэ адны дзверы і ўскочыў у жаночую парылку. Лазня разламвалася ад ляманту. Белыя рыбіны разбягаліся ва ўсе бакі, быццам да іх у акварыум трапілі неймаверныя страшыдлы. На нас пасыпаліся тазы і венікі. Мы нарэшце выламаліся ў дзверы, за якімі былі і снег, і мароз, і ночка. Беглі, а нам здавалася, што ўслед усё яшчэ ляцяць-грымяць тазы. На трамвайным прыпынку спыніліся, аддыхаліся. Лыжы былі цэлыя, але не хапала палкі. У мяне з’явілася думка вярнуцца, але Ён мудра сказаў, што Вальпургіева ноч не паўтараецца, і мы развіталіся.

Дык вось, я стаяў у чарзе па піва на набярэжнай у Ялце і ўсміхаўся нашым прыгодам у Мінску. Да мяне падышоў чалавек на мыліцы пад левай рукою, з падкурчанай нагою і забінтаванай правай рукою каля грудзей на перавясле. Ён рохнуў мне ў твар: «Чево лыбишься?» Я зняў акуляры. Ён мяне зразумеў і на мыліцы сiгануў да акенца, у якім заўважыў кухлі з півам. Схапіў адзін і пачаў хлябтаць. Хтосьці побач прад’явіў свае правы на кухаль. Інвалід выняў з бінтоў, нібы з белай рукавіцы, руку, перахапіў ёю ў адзін міг апарожнены кухаль і апусціў яго на чалавека з прэтэнзіямі. Той з енкам схапіўся за галаву, на асфальт пасыпалася шкло, чарга разбеглася. Нехта ляжаў на зямлі, і яго мясілі нагамі, над галовамі лятала мыліца, а гаспадар мыліцы, ужо стоячы на абедзвюх нагах, з двума кухлямі ў руках крычаў: «Аб’ядаеце, сукі!»

Гэтым летам не толькі ў Ялце мясцовыя біліся з курортнікамі. У Гурзуфе забівалі насмерць і хавалі. Прычына? Мясцовыя абвінавачвалі прыезджых, што тыя іх аб’ядаюць, а прыезджыя мясцовых — што спекулянты і гультаі, а таму няма чаго есці.

Я падышоў да шашлычнай. Ад піўнухі бойка перакатвалася ўжо сюды. Кааператары хавалі ў павільён бак з мясам, збіралі шампуры і румяныя шашлыкі з мангалаў, залівалі вугалле вадою, а за павільёнам два міліцыянты трымалі перад сабою талеркі з цыбуляй, хлебам і шашлычным соусам, зубамі здзіралі з шампуроў мяса і, спяшаючыся, пазіраючы ў той бок, дзе біліся, не жуючы, неяк па-індычы глыталі мяса. Грузін у белым халаце падбег да іх з гарачымі шашлыкамі на шампурах, сунуў гасцінец абодвум у рукі, і яны хутчэй, падалей ад бяды, якая падкатвалася ўсё бліжэй, пацягнулі ў зацішныя кусты.

На набярэжнай духавы аркестр іграў вальс Штрауса. Я падаўся ў той бок.

Пад вастралістымі стрэшкамі альтанкі, падобнымі на шыкоўныя пялёсткі крымскай лілеі, блішчэлі чорныя фракі, белыя сарочкі і залацістыя трубы аркестрантаў. Стройны вусаценькі капельмайстар паспяваў кіраваць аркестрам і запрашаць святочна апранутую публіку ў круг, тры пажылыя пары кружыліся, але астатні натоўп толькі глядзеў і толькі слухаў цудоўную музыку, бо ў моладзі ўжо былі свае танцы, шэйкі ды рокі, і вальсы яны не танцавалі.

Усцяж парапета мастакі прапаноўвалі грашавітым гасцям Крыма жывапіс, пераважна пейзажы, марскія і горныя, ілюстрацыі біблейскіх сюжэтаў, сваім рамяством зараблялі фатографы, астролагі, варажбіты, букіністы, спекулянты, выманьваючы цікаўных з натоўпу, але самы шыкоўны натоўп проста цёк, як ручай, паміж паркам і морам, гуляючы, слухаў Штрауса і разглядаў сам сябе. І ўсё гэта было жыццём у Ялце, хоць і на другім канцы стагоддзя, але вельмі падобным на тое, якое Ён неяк успомніў з чэхаўскай «Дамы з сабачкам»: «…выразна кідаліся ў вочы дзве асаблівасці шыкоўнага ялцінскага натоўпу: пажылыя дамы былі апранутыя як маладыя, і было многа генералаў». Яго разважанне з’явілася ў яшчэ маладыя гады, калі дарэчы было б успомніць, хоць бы ў іншым месцы, з іншай, як «Загадка», нагоды, напісанае таксама Чэхавым і нават у той самы час: «Тут цудоўнае віно 35—40 к. за бутэльку, цудоўны белы хлеб і белы авечы сыр. Па вечарах прыемна есці белы сыр і запіваць чырвоным віном. Прыязджайце». Ён спакушаў Ліку Мізінаву.

Я спыніўся на рагу гастранома. Пад яго вітрынаю на асфальце расплылася лужынка крыві, побач з якою ляжала тоўстае зялёнае шклянне ад бутэлькі з-пад шампанскага. Жанчыны адна адной гаварылі, што ў продаж выкінулі віно і людзі за ім былі пазадушыліся. А я глядзеў на тую лужынку, на тое шклянне і думаў: ну, можа, і не забілі нікога, можа, толькі кроў адзін аднаму пусцілі, бо калі б каго не дай бог забілі, дык жанчыны і пра тое б не змоўчалі.

Я павярнуўся і пайшоў назад, да вальсаў Штрауса.

Злева ад мяне насустрач рушыў натоўп. Ідучы, я разглядаў яго і бачыў, што пажылыя жанчыны, як тады, сто гадоў назад, апраналіся, нібы маладыя, можа, яшчэ ярчэй, быццам зусім не змяніліся за ўсё гэтае стагоддзе, а маладыя апранутыя без ахвоты, вопратка на іх была як бы лішняя, матлялася непажаданымі ім самім шматкамі, а самі яны з большай ахвотаю, каб не розныя там старасвецкія норавы, хадзілі б зусім голыя. Як гэтыя дзве дзяўчынкі, што бліснулі кафейнай скураю ў мяне перад

вачыма, на якіх вузенькія, нібы шнурочкі, плавачкі і штосьці на грудзях — не то кафцёнкі ўразлёт, не то адны ліфчыкі?

Але дзе генералы?.. Ніводнага?.. Пры Чэхаве было шмат — ён гэта заўважыў і сказаў. Іх не заўважыў Багдановіч? Быў іншы час? Вядома, 1917 год загнаў генералаў у акопы. Але ж і цяперашнім не да Ялты?..

Учора за вячэраю ў нашым літфондаўскім доме два паэты за маім столікам спрачаліся — будзе ці не будзе грамадзянская вайна? Ну хіба не дзівакі? Быццам яна, грамадзянская, не пачалася ў тым самым сямнаццатым. Ці, можа, калі-небудзь скончылася?..

Аркестр іграе вальсы Штрауса. Ніхто не танцуе. Усе слухаюць і нешта думаюць. І я стаю ўскрай натоўпу, бліжэй да аркестра, слухаю музыку іншага, як гэты, свету, чароўна-лёгкую і ў чароўнай лёгкасці невыносна цяжкую нашаму перадінфарктнаму сэрцу. Сонца ўжо закацілася за Ай-Петры, астывае паветра, сінее мора, блякнуць далягляды, гасне неба, шарэе людскі рух на набярэжнай. У вокнах атэля «Арэанда» за сінімі, як глыбіня мора, шторамі загараюцца першыя агеньчыкі. Нешта залаценька-агнянае бліскае пад лаўкаю, на якой сядзіць першы шэраг аркестрантаў, перабягае з месца на месца, выбягае на круг. Ліска? Ды вядома ж яна! Мордачка востранькая, нібы ў лісы, хвост пушысценькі, тыя самыя вушкі, лапкі — уся рыжая, нібы агню купінка. Я паклікаў:

— Ліска?..

Сабачка закруціўся вакол свайго хваста, падбег да людзей і пайшоў па крузе, носам тыцкаючыся ў ногі, вынюхваючы свайго чалавека. Я зноў хацеў пазваць, ды агеньчык ужо знік паміж людскіх ног. Я перасек круг і заспяшаўся ў той самы бок. Аркестр іграў Штрауса.

Ліска бегла ўлукаткі па набярэжнай, падбягаючы да людзей, якія сядзелі на лавачках ці стаялі, ішлі ў той самы бок ці насустрач, абнюхвала сляды і ногі, кацілася далей і далей, і, хоць купінка рыжага агню была далёка відаць, я спяшаўся, каб не згубіць яе з вачэй. Ліска падбегла да атэля «Арэанда», паснавала ля самага ўвахода і зноў выбегла на набярэжную, пакацілася міма беласнежнага, з сінімі вокнамі атэля для багатых інвалютных турыстаў. Пакуль яна снавала ля ўвахода ў атэль, я амаль што яе нагнаў. Але дзе яна? Я спыніўся. Куды ісці? Насупраць высокі фарбаваны плот, за ім — малы дамочак. На другім паверсе ў акне гарыць святло. Ужо цёмна. Толькі цяпер я разумею, дзе апынуўся. Гэта ж вуліца Мікалаеўская, тут стаяў дом нумар восем Марыі Цамко. І акно на другім паверсе — да мора. За акном,

дзе святло, паміраў наш паэт. Святло слабое. Як тады? Свечка на кандэлябры. Кандэлябр на стале ці на століку? Агеньчык матляецца. Яго ганяе марское паветра праз прачыненую фортку? Святло гуляе па шторах.

Але ці той дамок? Казалі, што таго ўжо няма. На тым месцы іншы? Ці на тым жа?

«…дом на гары, але да мора сажняў трыццаць — сорак». Гэтак паэт пісаў Пятру Гапановічу. А што? Трыццаць — сорак ад мора да свечачкі — якраз. І на гары. І яшчэ ў тым лісце: «…вокны на мора, цудоўная відаль, паўдня свеціць сонца, ёсць балкон, вакол дома сад і інш.» Садок ёсць і цяпер. І ўсё астатняе. Апроч балкона. Яшчэ і гэтае: «вокны на мора…» Акно ці вокны? На гэта можна не зважаць? Так. Ёсць акно, і ў ім святло — свечачка. На тым месцы, дзе і гарэла.

Але… чаму ніхто з іх, абодвух, не сказаў пра дзве хвоі? Старыя, з высознай кронаю, падобнай на паўкружжы парасонаў. Ім год па сто? Відаць, што болей. Тады — стаялі? І якраз насупраць ягоных вокан, паміж вокнамі і морам. Паэт не паспеў сказаць пра іх? Не паспеў. А Яму — проста не спатрэбілася. Навошта, калі не сказаў паэт?

Сцямнела ўмомант. Я сядзеў пад хвояй на камені і глядзеў на мора. Куточак быў зацішны, людзей — нікагусенькі, але за кустамі бліскаў ліхтарык. Потым ён бліскаў пад гарою. Зноў на гары, з другога боку. І раптам — голас:

— Стаяў і я на гэтай кручы… Га, старычок?.. Як цяпер там у нас, на Сажы?.. На нашай кручы?.. Памятаеш?..

Я ўсхапіўся. Ён стаяў і побач, і воддаль. Па той бок ад хвоі, але вельмі блізкі быў голас. Глядзеў далёка ў мора, якое блішчэла святлом ад поўні ў небе. Строгі профіль задумліва-прыгожага твару графічна адбіваўся на фоне марскога бляску. І Ліска, Ягоная радасць, снавала ў нагах тым самым ліхтарыкам — пад поўняй блішчэла агнянае футра.

І яшчэ раз паўтарыў:

— Стаяў і я на гэтай кручы: бы звон быў дзень — каціўся Сож…

Той дзень я памятаў. Мы начавалі ў Лімені ў старога Ананія і раніцай, напіўшыся малака з хлебам, лугам прыйшлі на пясчаную кручу. Сонца ўзнялося над лесам, над лугам, над рэчкаю, па Сажы ў высокіх берагах плыў разам з плынню густы, сонцам паланёны туман, і мы весела купаліся ў сцюдзёна-сонечнай рацэ пад бела-залацістай коўдраю тумано͞ў, гонячы іх ад ліменскага берага, як блазны, рогатам і воклічамі: «Плывіце ў Сычын!..

Плывіце ў Сычын!..» І туманы плылі сонечнай ракою ў Сычын, дзе і Галуба-рэчанька, «прыгалубленая Сажом», і «Кася з Ясем на сенакосе», і «каня над рэчкаю іржанне». І тое апошняе: «А ты даруй…» — было таксама. Пазней, калі быў ужо гэты верш. Мы ішлі ў Мінску берагам возера, і Ён мне сказаў: «А ты даруй…» І яшчэ — што верш пісаўся мне і ўсё ў ім наша, але Рыгор вельмі прасіў прысвяціць яму той верш, і Ён не мог яму адмовіць. І яшчэ Ён сказаў тады, на беразе возера: «А ты даруй… Я напішу табе лепшы вершык…»

Нам здавалася, што мы яшчэ доўга будзем ісці побач, што часу нам на ўсё хопіць, тым больш — на вершы.

— Ты, старычок, перадай Рыгору, каб ён вярнуў у вершык самы першы радок: «Стаяў і я…» Як у сіненькай кніжачцы. «Стаяў і я на гэтай кручы…»

Яго ўжо не было. Тое, апошняе, мне пачулася з неба. Ягоны голас быў ужо там, пад поўняй срэбра. А за Максімавай хвояй, дзе стаяў дагэтуль, вакол Ягоных слядоў круцілася Лісачка, і над ёю ў акне гарэла свечачка.

Чамусьці Ліску Ён з сабою не ўзяў. Яна разгублена снавала агняным ліхтарыкам і, два разы гаўкнуўшы ў бок мора, пабегла ад мяне берагам. Шукала Яго след?..

Я таксама пайшоў у той бок — за ліхтарыкам у сіняй ялцінскай ночы. Ішоў і чуў голас:

— Стаяў і я… і я… і я на кручы…

Голас і аддаляўся, і заставаўся са мною.

*2003*

## ГАРАЧАЯ КРОЎ ДЖОТА

*Анатолю Бараноўскаму*

Пасвіствала ды пакрэктвала зімовая ночка. Марозлівы вецер шкуматаў маё лёгкае паліто, як люты сабака сваю ахвяру.

Я звярнуў пад арку дома ў двор, далей — налева, а там — дзверы пад’езда: старыя, без дамафона, але жыхары і тут зачыняліся на ноч ад бамжоў ды валацугаў, як некалі ў нашым мястэчку яўрэі, калі цямнела, зачынялі аканіцы сваіх дамоў ад усялякіх начных жахаў. Сакрэт тутэйшага саматужнага запору я ведаў і хутка ўзбег на шосты паверх. Якраз і галасы за дзвярыма пачуў. Ухапіўся за драцінку, зашморгаў, — дзверы адчыніліся і выштурхнулі мне ў абдымкі вясёлага чалавека.

Я пераступіў парог.

— Сябры!.. Хто да нас завітаў!..

Пасярод майстэрні, з усіх бакоў асветленай не аднымі ліхтарамі, але і срэбна-перламутравымі пейзажамі, стаяў доўгі стол, дакладней — тры сталы, ссунутыя разам, на сталах — пляшкі, пустыя і не зусім, кубкі, чаркі, талеркі з закуссю, але, што мяне здзівіла, з абвешчаных сяброў усяго адзін сядзеў ад краю стала з заплеценай, нібы ў дзяўчыны, касою за плячыма, абыякава паглядаў у мой бок. Яго я пазнаў. Гэта быў вядомы, з новых авангардыстаў, мастак, дацэнт акадэміі мастацтваў, у якой прафесарам выкладаў мой сябра.

— Як бачыш, нашых тут было шмат і сеча была крутая, — заўважыў сябра, загадкава пасміхаючыся.

Я глядзеў на яго, як не маючы згоды, бо выглядаў сябра зусім цвяроза, хоць я і ведаў, што ён, завадны ды выбуховы, заўсёды цвярозы, як быў гэтакім і тады, калі мы ўдвух за двое сутак прыемнага застолля пералілі з заводскай шкляной тары ў свае бурдзюкі ажно тузін, калі не д’яблаў, паўлітраў моцнай.

Загучала ціхая музыка. У лагодным настроі я разглядаў па сценах новыя пейзажы, напісаныя апошняй восенню, і музыку чуў у кожным з іх.

Сябра павярнуўся разам з крэслам да зацемненага стэлажамі кута, паклікаў:

— Рафаэль!.. Ідзі да нас.

— Не трэба, — запярэчыў дацэнт. — Хай праспіцца.

Я ўглядзеўся ў той кут і на знаёмай маім касцям канапе заўважыў чалавека, выпрастанага на спіне. Ён трымаў на грудзях магнітафончык, з якога ледзь чутна гучаў Моцарт.

Без лішніх словаў мы выпілі за Моцарта.

— Але-але!.. — Сябра змоўчаў, нібы слухаючы цудоўную музыку, затым страсянуў сівой шавялюраю, жывымі вачыма прабегся па нашых тварах. — Пісаць постаць трэба так, каб яна, напісаная, спявала і плакала. А гэта ва ўладзе не толькі пластыкі ды каларыту. Тут валадарыць тэмперамент мастака! Хто сказаў? Джорджо Вазары?

Сябра любіў Італію і яе жывапіс, а я любіў слухаць, як ён, ніколі там не быўшы, узброены толькі словам, вобразам ды сваім бясконцым захапленнем, выпраўляўся ў падарожжы па яе выдатных мясцінах, блукаў па Венецыі ды Фларэнцыі, Рыме ды Неапалі, заглядаючы то ў царкву Санта Марыя да роспісаў Брамантэ, то да Джавані Беліні ў Палацо дэла Канчэлерыя, то ў Палацо Уфіцы, каб падзівіцца на Бацічэлі, то да Караваджо

ў Залу дэ Брамантэ Рома, дзе яшчэ летась Італія вітала і яго — нашыя — беларускія пейзажы. Цяпер ён з вялікім Чымабуэ праз горы клаў пуцявіну ў Фларэнцыю, пачатую, як мне падалося, да майго прыходу ў майстэрню:

— Чымабуэ падышоў да хлопчыка, што пасвіў авечак, і папрасіў вады. Той падаў біклагу. Прысеў маэстра і п’е. А хлопчык — плясь яму ў лоб далонню і кажа: сіньёр, я забіў вашага ворага. Паказвае на далоні дзікую пчалу. Чымабуэ з яго падзівіўся і ўзяў да сябе вучнем. А гэта быў — Джота! Дзвесце гадоў Афіны руйнавалі мастацтва Італіі, вынішчылі ўсіх мастакоў, але Бог даў ёй Чымабуэ, які адрадзіў італійскі жывапіс па ўзорах Візантыі, бо сваіх узораў не засталося. Прызнаўшы геній Чымабуэ, Джота адрынуў яго візантыйшчыну і пачаў пісаць жывую прыроду. Чымабуэ быў незадаволены вучнем. Аднойчы ён падышоў да партрэта, над якім працаваў, і бачыць на носе сіньёра жывую муху. Махнуў рукою, а муха сядзіць. Схапіў анучу — не сагнаў. Выбег з майстэрні: «Джота, згані з носа сіньёра муху!» Джота ўзяў пэндзаль — мухі як не было. Кажа: «Калі вы, маэстра, не дазволіце мне пісаць жывую прыроду, то вам на нос аднойчы сядзе таракан». Назаўтра падышоў Чымабуэ да партрэта і жахнуўся: на носе сіньёра сядзіць жывы таракан. Чымабуэ да Джота: «Згані таракана!» Вучань зняў пэндзлем таракана і кажа: «Калі вы не дазволіце пісаць тое, што я хачу, вам на нос сядзе кракадзіл». Захварэў Чымабуэ і злёг. Паклікаў Джота да сябе: «Скажы, чым ты за мяне лепшы?» Вучань кажа: «Тым, што ў мяне мухі і тараканы жывыя, а ў вас, маэстра, яны дохлыя». І тады абвясціў Чымабуэ, што Джота ў жывапісе вышэй за яго, і блаславіў пісаць жывую прыроду.

Сябра замоўк, як закончыў сваё казанне, наліў у чаркі:

— Дык вып’ем за Чымабуэ, які зразумеў Джота!..

Калі мы з дацэнтам набілі раты закуссю, сябра павёў далей:

— Прыйшоў Джота да караля Фларэнцыі — той кажа: «Чуў я, што ты вышэй за Чымабуэ. Напішы маё каралеўства, каб гэтак і я сказаў». І напісаў Джота асла. Адзін цюк у яго на спіне, а другі пад нагамі, і асёл ніяк не можа ўскінуць сабе на спіну цюк з-пад ног. Кароль пытаецца: «Што ты мне тут напісаў?» Джота кажа: «Гэта вашае каралеўства. Цюк на асле — вашая карона, цюк пад аслом — ваш скіпетр, асёл — гэта вы, кароль. Карона ў вас на галаве, але ўлада валяецца пад нагамі». Кароль здзівіўся мудрасці Джота — кажа: «Служы мне — зраблю цябе першым чалавекам у каралеўстве». Зарагатаў Джота: «Дык я і

ёсць першы, бо жыву пад варотамі, якія вядуць у каралеўства, і ўсе, хто ідзе ды едзе, мне першаму кланяюцца».

Сябра зноў наліў у чаркі:

— Дык вып’ем за Джота!

А як выпілі, ён прадоўжыў:

— Шмат было вучняў у Джота, але не было самага блізкага. Пачуў ён пра Стэфана, жывапісца, ад якога сіньёры Фларэнцыі хавалі сваіх сіньярын. Паклікаў і кажа: «Чуў я, што ў цябе гарачая кроў. Будзь маім вучнем». А Стэфана адказвае: «Мая кроў ад вашай крыві. Я кожны дзень хаджу ў царкву Санта Крочэ і вучуся пісаць па вашых роспісах. З Санта Крочэ іду ў Палаца Уфіцы і там доўга не магу адысці ад вашай «Мадонны на троне». — «Дык пакажы, чаму ты ў мяне навучыўся?» Стэфана паказаў сваіх мадоннаў. Шмат вопратак было на мадоннах, але яны не маглі схаваць жывое цела. Спытаў Джота: «Навошта столькі вопратак?» Апусціў Стэфана галаву перад Джота: «Ад мяне гэтага патрабуюць сіньёры, каб я хаваў жывое цела мадоннаў, як яны хаваюць ад мяне сваіх сіньярын. Але гэтаму вы не вучылі, маэстра. Як ні апрану, а цела — жывое». — «О, грэшнік! — усклікнуў Джота. — Ты хаваеш ад людзей тое, што ім на радасць даў сам Бог, і яшчэ тое, што сам Бог даў табе, каб ты радаваў сваім мастацтвам людзей, і чаго, на жаль, не гэтакай шчодрай рукою даў мне. Дык не хавай мадоннаў у вопраткі, як сіньярын хаваюць ад цябе сіньёры, і ты будзеш першым жывапісцам».

Мы выпілі за Стэфана да Верону.

За дзвярыма грукнула. На парозе стаяў малады чалавек з доўгімі распатланымі валасамі. Ён зачыніў за сабою дзверы і нячутна, як у царкве, падышоў да стала:

— Я з вамі згодны, прафесар. Але пагадзіцеся і вы са мною. Ёсць несправядлівасць у тым, што за Джота і Стэфана вы п’яце каньячкі пад асятрынку з лімончыкам, а ваш студэнт, у жылах якога кроў не халаднейшая за кроў Джота, гібее на лютым ветры, як сабака.

Мы ўсе падхапіліся з-за стала. Дацэнт грозна разявіў рот, але мой сябра спакойна паклаў яму на плячо руку і ўсміхнуўся спачатку студэнту, потым дацэнту і мне.

— Сядайце да нас за стол, — сказаў ён, — і прызнайцеся, калі не сакрэт, як вы тут апынуліся?

— А вы, прафесар, не ведаеце, што я Петрарка і што ў вашым пад’ездзе на першым паверсе жыве мая Лаура? — спытаў студэнт, здзіўлены. — Яе бабуля сёння атрымала пенсію, і Лаура з

гэтай нагоды абяцала пачаставаць мяне ў шынку. Але я спазніўся, і яна частуе недзе нейкага чувака. Мне нічога не засталося, як стаяць у яе пад акном і чакаць. Я замёрз. І я нічога не еў.

Апошнія словы ён ледзь вымавіў, быццам казаў з апошніх сілаў, і зваліўся на край крэсла. Сябра лёгка, нібы малога, прыўзняў яго падпашкі і пасадзіў на сваім крэсле ямчэй, затым паставіў перад ім чыстую талерку і ў яе паклаў закусь, якой на стале яшчэ хапала. Зверху паклаў асятрынку з лімончыкам.

Студэнт узяў на стале пусты фужэр і паставіў перад сабою:

— Пакарайце мяне штрафняком.

Сябра наліў паўфужэра, але студэнт, не зміргнуўшы, па-ранейшаму трымаў вока на фужэры, чакаў, пакуль не будзе наліты з краямі, як і належыць быць «штрафной». Дамогшыся свайго, ён светануў па застоллі прыгожай белазубай усмешкаю, выпіў да дна і доўгім позіркам утаропіўся ў палатно, на якім ляжала аголеная маладая жанчына ў тоне пералівіста-перламутравага каралу, што далікатна, у аздобе блакітнае засені, рэфлексаваў на лона белай свежай пасцелі.

— А вы закусвайце, — клапатліва казаў сябра. — Студэнту таксама не грэх выпіць, калі ў меру, з нагоды і пад добрую закусь. А там, куды вы глядзіце, не вашая Лаура. Ешце.

Студэнт вырваў з рыбы плаўнік, абсмактаў, прычмокваючы, і задумаўся, апусціўшы вочы, нібыта скіраваў позірк у самога сябе, дзе варушыліся аднаму яму вядомыя жаданні. Зноў, ужо сам, каб не абцяжарваць клопатам прафесара, наліў у фужэр гарэлкі, патрымаў перад вачыма і вельмі будзённа прамовіў:

— Можна і за Італію, калі тут ніхто не супраць.

Сябра ўсміхнуўся і заўважыў, як заўважыў і я, што вочы студэнта пачыналі блукаць ды хавацца ў цёплым вільготным туманчыку. Ён выйшаў у суседні пакой і прынёс кубак з прыемным пахам гарачае кавы.

Паставіў кубак перад студэнтам.

— Супакойцеся. Паешце ды запіце каваю. Лауры не патрэбны чувак, калі ў яе ёсць мастак.

Дацэнт курыў цыгарку, пускаючы тытунёвы дым пад стол, але з-пад стала смурод падымаўся ўгару, плыў па пакоі, непрыемна казытаў у носе мне і, напэўна ж, студэнту, які, відавочна, як і я, не быў курцом. Схіліўшыся над кубкам кавы, ён дзюбкаю носа ўсмоктваў у сябе прыемны яму пах. І раптам здрыгануўся, ускінуў галаву і моцна грукнуў абодвума кулакамі ў стол. Кубак з каваю кульнуўся на калені. Ён ускочыў і закрычаў:

— У белых тапачках бачыў я вашага бабніка Стахвана, і ўсіх вас, тлустых швайнаў, і гэтую блядоту!..

Ён схапіў са стала талерку з закуссю і пляснуў ёю ў сцяну, на якой ляжала ў залатой раме аголеная жанчына. Снарад праляцеў міма яе, ад сцяны пырснула белымі ды каляровымі аскепкамі ды шматкамі, але следам за першым ляцеў другі гэтакі снарад, і ўжо ён трапіў у самае Адамава яблычка, заляпаўшы прывабнае месца бураковай чырванню. Я войкнуў, як ад болю, але мой кароткі ўсхліп ашлях у грымотах голасу:

— Шчанюк!..

Сябра ўскінуўся над сталом, ды раней за яго на студэнта цяжкім ценем матлянуўся дацэнт. Студэнт сігануў да дзвярэй, але дацэнт паспеў схапіць яго за каўнер, і яны абодва пакаціліся на падлогу

Дацэнт сядзеў верхам на сплазаваным студэнце і, ухапіўшы яго за вопратку на грудзях, абедзвюма рукамі падымаў і апускаў, як заганяў у падлогу. А сябра крычаў:

— Забівай шчанюка!..

Хлопец, як мне падалося, ляжаў непрытомны. Цяжка дыхаў, звесіўшы рукі, дацэнт. Але раптам студэнт зваліў з сябе дацэнта і ўскочыў на ногі. Да яго падляцеў мой сябра. Нібыта адным ветрам, не зачапіўшы хлопца нават пальцам, ён зваліў яго пад сябе і ўскінуў над калматаю галавою кулак. Цяпер я быў упэўнены, што студэнт мёртвы, бо за тую хвіліну памяць высвеціла ўспамін сябра пра роднага дзеда, які то адной рукою падымаў рог драўлянага дома, каб схаваць пад яго шапкі задзірыстых вясковых хлопцаў, то рабром далоні рассякаў жалезны прут, то аднойчы са зла вырваў у наравістага быка хвост, то ў сне, калі камар не даваў спаць, кулаком прыбіў яго і заадно перабіў сабе нос, а яшчэ — як, паміраючы, дзед маліў Бога і прасіў унука не падымаць рукі на жывую істоту, тым больш — на чалавека, каб памятаў, што за сіла ў ім ад дзеда. «О, Божа! — шаптаў я. — Злітуйся і ўратуй абодвух». І сам сабе шаптаў: «Позна…»

Я расплюшчыў вочы.

Сябра стаяў пасярод пакоя на каленях і, скрыгочучы зубамі, ціха стогнучы, прыціскаў да грудзей абедзве рукі, а дацэнт цягнуў студэнта, ухапіўшы за ногі, да дзвярэй. Ужо на парозе студэнт раптам садануў дацэнту ў пахвінне — той выпусціў ногі і скурчыўся. Хлопец ускочыў і, зваліўшы дацэнта, затупацеў па лесвіцы ўніз.

Я падбег да сябра. Яго рукі былі ў крыві. Мы зайшлі на кухню і пусцілі з крана ваду. У шафіку на сцяне я знайшоў ампулу з

ёдам, выліў увесь ёд на разбітыя пальцы, потым разарваў ручнік і як тужэй, каб спыніць кроў, перавязаў руку.

Вярнуліся ў майстэрню. Пад нагамі ляжалі дзве выбітыя з падлогі паркеціны, ў чырвоных плямах.

Сябра перахрысціўся.

— Дзеда Васіля пачуў, як руку на хлопца ўскінуў. Яго быў голас: спыніся!.. А як спыніцца, калі кувалда ўзнятая? Адно было выйсце — біць міма. Вось… кулаком, бачыш, у падлогу.

Чулася ціхая музыка — не Моцарт. Магнітафончык ляжаў на падлозе пад канапаю, на канапе ляжаў Рафаэль — на баку, спіною да нас і тварам да сцяны.

Мы накінулі на плечы вопратку, лесвіцаю спусціліся ўніз, выйшлі з пад’езда. Дацэнта нідзе не было.

На першым паверсе ў адным акне гарэла святло, кідала жоўтую пляму на снег за акном, і ў той пляме стаяў Петрарка. Дастаўшы са штаноў свой пэндзаль, ён задумліва, як вялікі філосаф, выпісваў на чыстым белым снезе імя каханай — Лаура.

За ім у зацемку стаяла яна. Ён яе не бачыў. Яна глядзела, што ён такое вырабляе і, магчыма, не ўсе разумела.

Каб не выдаць сябе нечаканым рогатам, я заткнуў рот каўняром паліто.

Мы выйшлі на вуліцу.

— А ты кажаш: тэмперамент Джота, тэмперамент Стэфана! — Мне было цяжка супакоіць свой дурны рогат. — А можа, у Петраркі ў жылах сапраўды кроў Джота?..

Сябру было не да смеху. Ён сплёўваў і вінавата абураўся:

— Да чаго мы самі сабе чужыя. Адны — абруселі, другія — з’еўрапеіліся да гідоты. Забыліся, што і ў беларуса ёсць свой тэмперамент!..

Пасвіствала ды пакрэктвала зімовая ночка. Мы ішлі далей, не ведаючы, куды ідзем.

*2004*

## ДОМА

Каторы ўжо раз, цяпер — у адных толькі думках, з далёкіх краёў і дарог я вяртаюся ў родную хату. У сутарэнні сенцаў вобмацкам адшукваю настылую клямку, адчыняю цяжкія дзверы і бачу бацьку. Ён стаіць пасярэдзіне хаты, шырока расставіўшы ногі, у даўно знаёмай мне паласатай камізэльцы і каротка абрэзаных валёнках, пад капою сонечнай, як сакавіцкі снег за

вокнамі, сівізны, хударлявы, трымае на запалых грудзях трафейную скрыпку, а смычок пілуе ды пілуе яе напалам. Скрыпка плача светлымі слязьмі Сольвейг, і ў тым месцы, дзе смычок дакранаецца да струн, ззяе сонечная плямка. Раптам скрыпка змаўкае. Бацька апускае на вочы белыя, у маршчынах, веі, нейкае імгненне стаіць нерухома. Глыбока ўздыхнуўшы, расплюшчвае вочы. Яны шчасліва смяюцца мне, і ў іх куточках я заўважаю зіхаткія сонечныя кропелькі.

Нядзеля. Раніца.

Сёння бацька не збірае ў школу, як звычайна, свой вялізны партфель з чорнай, па рагах ды кантах ужо ржавай, зашмальцавана-бліскучай скуры, які жартам называе старой пуняю, не будзе карпець над вучнёўскімі сшыткамі з тоўстым чырвоным алоўкам у руцэ, вялізнай, нібы ў аратага ці каваля.

Гэты дзень адметны і для мамы. Яна як ніколі рана выпаліла ў печы, пабыла на рынку і цяпер сядзіць на ляжанцы, вяжа бацьку цёплыя шарсцяныя шкарпэткі, хоць зіма ўжо на зыходзе, задумліва паглядае ў памытае сакавіцкай адлігаю акно, і мне здаецца, што думкі маміны блукаюць далёка-далёка. Дзе — далёка? Можа, скрозь аконную шыбу і бацькаву музыку маме бачыцца маленства, атручанае лаянкаю злой мачыхі? Ці пазнейшае: зімовы бальшак, па якім ёй, студэнтцы-завочніцы, амаль усю ноч, пад стогн намёрзлых тэлеграфных слупоў, трэба тупаць ад Ходасаў, чыгуначнай станцыі, да Мсціслаўля, дзе чакаюць педвучылішча, экзамены, хваляванні? А можа, у думках ажывае вясна 1942 года і там — Волга, на яе беразе абнесенае лазовымі плятнямі сяло Тургенева, дзе не адна хата прыгрэла бежанцаў — беларусаў, украінцаў, літоўцаў, яўрэяў. Там і школа, перапоўненая эвакуіраванымі дзецьмі, якіх перш-наперш трэба накарміць, і бацька, дырэктар сямігодкі, вядзе першую школьную баразну. У вялізных лапцях сваёй работы, у палапленай мамінымі рукамі кашулі, ён крочыць за плугам, каб тут, на школьных гектарах, раслі бульба, проса, сланечнік, каб усім нам былі і хлеб, і каша...

Але вось мама адкладае вязанне на пяколак і, не адводзячы вачэй ад акна, радасна ўздыхае:

— Гарасім прыехаў.

Бацька апускае скрыпку і смычок, падыходзіць да акна, глядзіць на вуліцу. Там, пад гарою, на якой высока стаіць наша хата, маленькі мужычок у доўгай, да пятаў, свіце прывязвае да бярозы калгаснага коніка, кідае перад ім на снег скупое бярэмца аўсянай саломы і, стрымана ўсміхаючыся нейкім светлым сваім думкам, з мяшэчкам у руцэ крочыць паўз вокны да сенечных

дзвярэй. Яшчэ ў сенцах не шаркаюць яго валёнкі-катанкі, а бацька ўжо выходзіць на сярэдзіну хаты і глядзіць на дзверы, чакаючы госця; ужо мама папраўляе каля парога дарожку, ручніком выцірае стол, хоць ён і чысты, збірае да стала крэслы.

І вось ляскае клямка, над дзвярной ручкаю падскоквае сабачка — бацька лёгка ўскідвае на грудзі скрыпку. Смычок узлятае... і пад урачыстыя гукі марша Прэабражэнскага палка цераз парог, ухмыляючыся не вельмі падатлівым усмешцы настылым на сустрэчным ветры тварам, пераступае Гарасім Іванавіч. У напяленай на самыя вочы шэрай заечай шапцы, шэрай світцы, рыжых валёнках і чырвоных, нібы лапы ў гусака, бахілах.

— Ды супыніся ты, — кажа мама бацьку. — Дай чалавеку распрануцца.

— А я, Анісімаўна, не супраць музыкі. На рынку з бабаю быў.

— Дзе ж вы Мітрафанаўну дзелі?

— А па хлеб у краму пайшла. Пашэнціць — дык возьме.

— Адну пакінулі? Мужыкі там яе затаўкуць.

— Дык ці акрамя хлеба няма клопату? Вось да вас як не заехаць? А яшчэ да каваля Бенцалы трэба. Абяцаўся сцёкавую трубу з белай бляхі зрабіць. Калі ж мне яшчэ і ў краме таўчыся? Хлеб, як ні круці, трэба свой мець. Хоць да вясны.

— У каго ён павінен быць, як не ў вас? Вы хлеб вырошчваеце, вы над ім гаспадар, — у вочы госцю глядзіць бацька. А той маўчыць задумліва. Толькі згодна галавою ківае, апусціўшы долу вочы. Як вінаваты.

Садзімся за стол. Бацька прыносіць прыхаваную на выпадак, як сённяшні, чвэртку гарэлкі, мама падае галубцы з падліваю на смятане, якія мы ўсе вельмі любім, а Гарасім Іванавіч развязвае свой клунак, вытрасае з яго адборныя антонаўскія яблыкі, якія называе проста антонамі, і яны, духмяныя шасціграначкі, адразу напаўняюць хату забытым за доўгую зіму і цяпер асабліва салодкім водарам спелай восені. Гэты водар настолькі моцны і жаданы, што здаецца, быццам ты ўжо чуеш шолахі асенняга лісця ў садзе, пад якія ў бульбоўнік пакаюць важкія, налітыя зямным сокам і сонцам антонаўкі. Па нейкай асацыяцыі бачыш нават рабацягу вожыка, як ён умудрыўся начапляць на свае калючкі паканкі, нясе іх у сваю кладоўку. І ўсё гэта вобраз восені, сытнай і духмянай. Галоўнае — сытнай.

— Вам яблычкі вёз. А то канчаюцца. Зіма ўсё падбірае, — кажа Гарасім Іванавіч.

— Навошта ж везлі? — пытаецца мама. — Дочкам паслалі б.

— А я іх не забываю. І Марылі паслаў, і Ганне. Валі напакаваў чамадан. Можа, сам адвязу.

— А сабе ці пакінулі?

Госць цяжка ўздыхае і глядзіць у вочы маці, быццам яму перад ёю робіцца няёмка. У гэтую хвіліну ўсе маўчаць, чакаюць ад яго нейкага яшчэ слова, і ён гаворыць нясмела, усё роўна як апраўдваецца:

— А я гэтакі, Анісімаўна. Сам сыты — як людзі сытыя.

— Ды гэта мы ведаем...

Бацька зусім не п'е. Нават мама больш, чым ён, прыгубіць, хоць робіць гэта адно каб падтрымаць госця, каб яму не было ніякавата піць аднаму. Затое бацька сочыць, каб да дна асушваў чарку Гарасім Іванавіч. Той спачатку нерашуча пратэстуе, просіць бацьку, каб таксама ўзяў глыток, але дамагчыся свайго не можа: душа мяккая, памяркоўная, доўга ўпрошваць ці адмаўляцца сіл не мае. Ды і чарку любіць, хоць піток не заўзяты — няма таго здароўя.

Выпіўшы і сагрэўшыся з дарогі, Гарасім Іванавіч старанна выцірае рукі аб ватнія штаны, якія носіць ад першых да апошніх халадоў, і зноў не зводзіць вачэй з бацькі. У ягоных вачах відаць святло душы, усхваляванай і шчырай ажно да нейкай дзяцінае прастадушнасці. Позірк мімаволі пераводзіш на нешырокія грудзі: па святах Гарасім Іванавіч вывешвае на пінжачок ордэны і медалі, прынесеныя з вайны. Глядзіш на іх памутнелы бляск і не можаш даць веры, што ён, гэтакі ціхі і непрыкметны чалавек, быў яшчэ і мужным салдатам.

З іншымі думкамі сочыць за госцем бацька. Ён па вачах бачыць, што госцем ужо авалодала ўсім нам знаёмая, глыбока ў душы да часу схаваная ахвота музыкі, і наўмысна, каб узмацніць гэтую вечна непатольную ахвоту, бацька пачынае распытваць пра знаёмага селяніна Ахрэма, хата якога ў Хацілавічах, блізкай ад нас вёскі, стаіць побач з хатаю Гарасіма, пра калгасныя парадкі і непарадкі, вясковыя вечарынкі і нават бубен, шкадуючы, што роля бубна на вёсцы падае. Гэты напружаны паядынак маўклівай цярплівасці госця і бацькавай хітраватай, але разам з тым бясконца добразычлівай дыпламатыі немінуча канчаецца тым, што госць, таксама хітра, адшуквае ў размове шчылінку-паўзу:

— Халімон Сяргеевіч, скрыпачку — га?..

І тут ужо бацька разумее, што скрыпачку чалавеку трэба даць, бо душа яго пачынае нудзіцца і пратэставаць. Ён прыносіць з-за печы інструмент, загорнуты ў беленькі вышываны ручнік, хітравата ўсміхаецца, паглядаючы то ў вочы, то на рукі госця, сядае,

на каленях разгортвае ручнік, пачынае адным пальцам кратаць струны, усе па чарзе. Той заўважае прыдзірлівы бацькаў позірк і, без слоў яго зразумеўшы, бо гэта адбываецца не першы раз, ідзе на кухню мыць з мылам рукі.

Нарэшце — скрыпка ў Гарасіма Іванавіча. Спачатку ён разглядае яе з усіх бакоў, пытаецца — хоць даўно ведае, — як бацька прыдбаў яе, аўстрыячку, хваліць не нахваліцца. Вялікім пальцам асцярожна, як баючыся, датыкаецца да першай струны, самай тонкай, смялей — да тае, што таўсцейшая, суседняй. Пальцы ў селяніна заўсёды, як бы ні мыў рукі, шэрыя ад зямлі, пакурчаныя і нягнуткія, нібы сучча, і спачатку цяжка ўявіць, як яны саўладаюць з далікатнай душой аўстрыячкі.

Але вось маршчакаваты, спярэшчаны жыламі, падбародак прыцяўся да верхняе дэкі, левае адвіслае вуха насцярожана затаілася каля чуйнага задняга грыфа, галоўка скрыпкі ўперлася ў левае калена, і тонкі, светлы, нібы сонечны прамень, смычок папоўз па струнах. Настроіўшы кожную з іх па чарзе, вярнуўшы кожнай свой непаўторны голас, Гарасім Іванавіч узнімае на бацьку шчаслівыя, зіхаткія ў нечаканым святле вочы, прыўзнімае плечы і скрыпку, набірае ў грудзі паветра, і на нейкі момант смычок, узляцеўшы над галавою, замірае. Ён спыняецца перад тым цудоўным імгненнем, калі ўсёй сваёй сілаю ўдарыць па струнах, ажывіць іх і ўжо разам з імі, згодна і ўладна, аднекуль здалёк пакліча малавядомыя мне, маладому, пачуцці і вобразы.

Спачатку, як заўсёды, гучыць марш Прэабражэнскага палка, якім бацька сустракаў на парозе госця, таму што гэта любімы марш Гарасіма Іванавіча. Смычок бегае па струнах бадзёра, зусім не так, як у «Развітанні славянкі». Праўда, «Славянку» госць таксама любіць, можа, нават не менш, як марш Прэабражэнскага палка, проста ён іграе яе не як марш, цішэй і лагодней, з маладой мараю ў вачах, быццам на вечарынцы. А пасля — яшчэ маршы, ужо не такія прыгожыя, як першыя, ад іх нават сам музыка вялікае асалоды не мае, іграе па даўняй завядзёнцы, як маршы, пад каторыя яшчэ ў імперыялістычную вайну мясіў зямлю салдацкімі ботамі, сваю і чужую.

Раптам, спыніўшы музыку, ён совае скрыпку і смык пад паху, хукае на пальцы, усё роўна як толькі што з марозу, і бацька разумее гэты жэст беспамылкова: налівае яшчэ адзін шкалік гарэлкі.

Цяпер госць п’е без лішніх слоў. Рукавом уцёршы вусны і нічым не закусіўшы, адно раз-другі зглытнуўшы сліну, ён сядзіць моўчкі, насцярожана, быццам чакае — вось-вось з ім адбудзецца штосьці самае значнае. Ці ўспамінае?..

Сярод усіх маршаў ёсць той, з якога Гарасім Іванавіч лёгка, амаль непрыкметна пераходзіць на «Кацюшу». Тут ён разам з крэслам адсоўваецца ад стала, прыўзнімае плечы і скрыпку, ускідвае галаву і, уставіўшыся сінімі вачыма ў столь, запявае:

Ра-сцвіта-лі яблыні і гру-шы...

Голас у яго нямоцны, хрыпаты, нясмелы, хутчэй гаворыць, як спявае, і ў іншым выпадку, можа, сапсаваў бы сваім спяваннем усю абедню, але тут адбываецца зусім іншае: да болю ў сэрцы, шчымлівага і салодкага, гэты голас ачалавечвае песню, яшчэ мацней зближае ўсіх нас. І адкуль у ім гэтакая сіла?

— А я вам што скажу, Халімон Сяргеевіч? — адвёўшы душу скрыпкаю і песняю, пачынае размову Гарасім Іванавіч. — Струны, усе чатыры, гэта яшчэ не ўсё, што за сэрца хапае. І песня, слова — не ўсё яшчэ. У бліндажы, памятаю, пела скрыпачка! Куды там тэатрам! А таму, што кожнае бервяно над галавою — струна жывая. Усе разам — акмусціка!..

— Акусціка, — папраўляе бацька, усміхаючыся.

— Вось і я думаю, што гэта акмусціка, зладзейка, вінаватая. Праўда, не кожнае бервяно скрыпачцы адгукнецца. Не кожнае. Скажам, у маёй хаце няма той песні, якая ў вашай.

— А хто нам хату ставіў? — разумеючы, куды хіліць госць, укліньваецца ў размову мама.

Яе ўдзячная памяць па сэрцы госцю — падхоплівае:

— Памятаю, прыходзіць да мяне ранічкаю Ахрэм і кажа: давай, Гараська, падрадзімся настаўніку хату зрубіць. Я, скажу вам, адкручваўся, не хацеў, бо сваёй работы хапала. Але ён прыліп, што смала да рук. І чым мяне купіў? Кажа: скрыпачка ў таго чалавека ёсць, музыка ён добры. Гэта мяне і заела. А калі хатку рубілі, дык я лясок падбіраў, каб кожнае дрэва было са звонам. Ахрэм — таму абы вянок звязаць. А я так думаў: калі ў хаце музыку жыць, то абы-якое дрэва ў сцяну нельга класці. Скажам, сасонка, па маіх даўніх прыкметах, пяе чысцей, як елка. Але і яна — кожная з сваім голасам. Сучча многа — кепска. І скажу вам, як перад богам: нідзе не чуў, каб скрыпачка пела званчэй, як у вашай хаце. Тут у вашай аўстрыячкі не чатыры струны, а цэлая сотня.

Твар і голас Гарасіма Іванавіча поўняцца натхненнем — ад размоў, чаркі, музыкі, песні. Яго шчырыя словы і пачуцці грэюць усіх нас, усе мы з цеплынёю думаем пра свайго госця, у руках у якога зноў ажывае скрыпка. Цяпер яна вясёлая, зухаватая, сыпле

вясковыя кадрылі і полькі. Сядзіш, ап’янелы жыццём, якое ў хату прынёс, здаецца, нічым асаблівым не прыкметны чалавек, і хочацца, каб гэтае жыццё не канчалася. А яно і сапраўды цягнецца доўга, бо госць ужо не думае, што ён у гасцях, што свая хата недзе ў іншым баку, што ў яго ёсць нейкія іншыя клопаты, што недзе чакае яго Мітрафанаўна, што дарога да Хацілавіч не такая і блізкая — вёрст дзесяць.

Аднак канец сустрэчы настае. Ён бывае ў той момант, калі Гарасім Іванавіч пачынае пацепваць плячыма, — спацелая кашуля ліпне да цела. Рэжа на развітанне «Лявоніху», прысвістваючы, пальцамі б’ючы, нібы ў бубен, у ніжнюю дэку скрыпкі, голасам высока бярэ апошнюю ноту і... змаўкае. Паклаўшы скрыпку і смычок на калені, рукавом выцірае мокры лоб і, дастаўшы з кішэні маленькі, амаль нябачны ў руцэ, асколачак жаночага грабянца, расчэсвае мокрыя, чорныя, як смоль, валасы. Шчаслівая задаволенасць ззяе на яго твары, у вачах, і ў гэтую хвіліну здаецца, што ён жыве не тут з намі, а недзе там — у свеце сваёй музыкі.

Вочы ўсё не могуць адарвацца ад скрыпкі, але радасць у іх паступова саступае месца ранейшаму смутку. І гэта азначае, што Гарасім Іванавіч не мае ўлады над сваёй душою.

Тым часам за акном цямнее.

Ужо конік каля плота перамалоў сваю саломку, дрэмле, звесіўшы галаву, праз дрымоту слухае, як гаспадар весяліць душу ў чужой хаце.

Гарасім Іванавіч падымаецца з крэсла і доўга глядзіць у акно, быццам рашае, ехаць яму ці не ехаць. Вечаровы змрок нагадвае пра сваю хату, сям’ю, вясковыя клопаты, яны клічуць у дарогу, і, цяжка ўздыхнуўшы, госць вымаўляе:

— Трэба ехаць.

Ён апранае лёгкую, падшытую ветрам світу, нахлабучвае на галаву заечую шапку, працягвае на развітанне руку маме, потым мне — рука яго жорсткая і гарачая. Перад бацькам апускае рукі. Глядзіць бацьку ў вочы.

— А цяпер, Халімон Сяргеевіч... Не па службе, па дружбе... Тую, вашу...

Нейкае імгненне яны моўчкі і палюбоўна ўсміхаюцца адзін аднаму, потым бацька павольна бярэ скрыпку на грудзі, ледзьледзь вышэй, апускае на струны смычок, і адбываецца тое, што вельмі просіць Гарасім Іванавіч: зноў плача Сольвейг па страчаным каханні, і таму, што струны становяцца яшчэ больш жорсткімі, няшчаднымі да расчуленай чалавечай душы, Гарасім

Іванавіч, разгубіўшыся, забыўшы падаць руку бацьку, выкульваецца за парог.

Ён подбегам спяшаецца да вазка,валіцца ў яго, як сноп, і адразу, не марудзячы, разварочвае ў дарогу. Конік санліва перабірае калматымі нагамі, і ўзбуджаны Гарасім Іванавіч нервова дае яму пугі.

— Навошта ён гэтак? —шкадуючы жывёлу, уздыхае мама.

Маўчым.

І не адыходзім ад акна, пакуль за гарою не знікае знаёмая кудлатая шапка.

*1967*

# ГЛЯДЗІЦЕ Ў ВОЧЫ ЛЕМУРУ

## Атэль «Кальбер». Разафі

За акном — плач па верасні: пляскочуць зацяжныя дажджы. Я сяджу ў халодным пакоі на дачы, па-зімоваму накінуўшы на плечы кажух, па нечым няясным сумуючы, і з прыемнасцю, усё роўна як вітаючы ласкавыя праменьчыкі далёкага сонейка, перакладаю фотаздымкі апошняга падарожжа па белым свеце. Запыніўшы позірк на адным з іх, пазнаю ўваход у атэль «Кальбер» у Антананарыву, вузкую нервова-віхлястую вулачку, застаўленую аўтамашынамі, і Разафі з вялізным букетам танных і дзікіх, яркіх і пахкіх, усім гэтым падобных на сваю гаспадыню, кветак. Разафі стаіць на бруку ля ганка — басаногая, у кароценькай, абтрапанай унізе спаднічцы і безрукавай адкрытай кофтачцы, чорненькая, нібы чарцяня, рухавая і ўсмешлівая, а за ёю — яе надзейная ахова: такія ж басаногія хлапчукі-чарцяняты — вулічная дзятва.

Разафі гадкоў пятнаццаць. Гэта мала ці многа? Мне яна здаецца гаспадыняю вуліцы, што для падлетка, калі гэта так і ёсць, мабыць, зусім не мала. У атэлі «Кальбер» працуе яе маці, прыбірае ў нумарах, і Разафі заўсёды ля атэля, быццам тут, на вуліцы, яна і жыве.

Я неаднойчы прачынаўся вельмі рана, калі ўсе мае суседзі па калідоры яшчэ спалі — на новым месцы гэтак часта бывае са мною, — выходзіў на балкон, а Разафі ўжо стаяла пад балконам, адразу мяне заўважала і вітала, аберуч падняўшы над чарнявай галавою і светлай мілай усмешкай вялізныя букеты кветак. І як бы доўга я ні стаяў, яна ўсё глядзела на мяне, з усмешкаю махала кветкамі, штосьці гукала на мяккай малагасійскай мове. Дзіўны ранішні дыялог мог спыніцца толькі калі я, адчуўшы, што настаў час далікатна яго спыніць, знаходзіў як быццам неабходны

занятак, ну, скажам, пачынаў змятаць з жалюзі на балконных дзвярах і вокнах вялізных, з дзяцінуюдалонь, зялёных вусатых саранчукоў, страсаць іх са штораў, біць і давіць як пошасць, што ўсю ноч пішчом лезе ў пакой. Дыялог з Разафі мог спыніцца і тады, калі раптам да пад'езда атэля падкатвала шыкоўнае аўто, прывозіла якога-небудзь замежнага багацея. Ледзь паспее госць высунуць нагу ў бліскучым чаравіку з машыны, а Разафі ўжо заслоніць яму святло раніцы вялізным букетам, каб атрымаць за кветкі нейкую сотню малагасійскіх франкаў. І калі гэта ўдавалася, яна доўга, нібы козка, скакала ў мяне пад балконам ад радасці, вітаючы ўвесь свет астатнімі букетамі, шукаючы, каму іх, астатнія, падарыць, бо ўжо не жадала за іх і аднаго франка. А што тая сотня франкаў? Звычайны саламяны капялюш у Антананарыву на рынку Зума каштуе аж пяць тысяч франкаў.

Калі, паснедаўшы, я выходзіў на вуліцу, мяне зноў сустракала Разафі — ужо без кветак. На яе руках і плячах віселі вышываныя мальгашскія ручнікі, якія адсвечвалі чырванню сялянскіх хацін, злепленых з чырвонай зямлі Мадагаскара, і яна доўга паказвала іх мне, нават разумеючы, што я не купец, хоць на ручнікі вочы гарэлі. Была б кішэня тоўстая, як у таго буржуя, што вылазіў з аўто, абвешаўся б, як Разафі, тымі ручнікамі, у якіх столькі свайго зямнога і чалавечага лёсу, колькі яго, зямнога і чалавечага, у нашых беларускіх ручніках. І песні, і пот, і слёзы.

Вось іду з гэтакімі думкамі, і мае старыя чаравікі, сябе не шкадуючы, чапляюцца за каменьчыкі, выбіваюць іх з мяккага асфальту. Брыду, не заўважаючы, што побач скача Разафі. Я заўважаю яе толькі тады, калі яна раптам забягае мне наперад і, смеючыся гарэзнымі вачанятамі, танцуючы, пачынае размахваць перада мною квяцістымі ручнікамі. Што з ёю? Як яе зразумець? Працягваю руку, але яна, здагадаўшыся, што я хачу дакрануцца да чорнага бляску яе кучаравенькай галавы, нырае мне пад руку, робіць накшталт гарэзнага піруэта, уся мігам, нібы верацёнца ў ніткі, загортваецца ў ручнікі і бяжыць назад да атэля. Мне весела глядзець ёй услед. Але я зноў не адзін. Цяпер мяне акружаюць хлапчукі, меншыя за Разафі, яе вулічныя сябры, такія ж басаногія, чорныя, хударлявыя, хуткія, нібы яшчаркі. Усе адразу яны будуць нешта мне стракатаць, быццам я іх разумею, штурхацца паміж сабою за самае блізкае да мяне месца на маставой, іх імклівыя вачаняты будуць з усіх бакоў пастрэльваць мне ў твар і па кішэнях, а рукі, усе, якія ёсць на ўвесь іх вырай, будуць цягнуцца да мяне, каб я хоць што-небудзь паклаў у ружовыя далонькі.

Ох, гэтыя дзяцінныя далонькі на вуліцах Антананарыву! Яны на кожным кроку цягнуцца да цябе, моляць, чакаюць, нахаб-

нічаюць. У замежных турыстаў адносіны да іх аднолькавыя: не заўважаць. Турыстаў можна зразумець. Калі ты паклаў у далоньку франк ці значок, то гэта не значыць, што яна пакіне цябе ў спакоі. Пасля гэтага яна яшчэ больш настойліва будзе суправаджаць цябе, пакуль ты не схаваешся ў нейкім магазіне, ці ў атэлі, ці ў таксі. Калі ж у таксі ці аўтобусе ледзь-ледзь, на нейкую шчылінку, прачыніш акенца, адразу праз тую шчылінку прасунуцца чарнявыя пальцы, затым рукі, яны дацягнуцца да твайго твару, да тваіх рук і кішэняў. Замежным гасцям кожны дзень паўтараюць: «Нічога не кладзіце ў кішэні, паклалі — замкніце на замок, трымайце рукі ў кішэнях, грошы і дарагія рэчы пакідайце ў атэлі».

Турысты гэтак і робяць. Ідучы па вуліцах, яны трымаюць рукі ў кішэнях і не заўважаюць дзяціных ручак, сустрэчных ветліва-ўсмешлівых вачэй. Мне брыдка бачыць іх з рукамі ў кішэнях.

Аднойчы раніцай, сышоўшы са свайго трэцяга паверха на вуліцу, я зноў заўважыў Разафі. На шыі і на руках у яе было столькі караляў, кальe, што іх хапіла б на дзесяць самых багатых нявест. А яшчэ ў руках у Разафі былі два букеты белых ружаў. Я і раней здагадваўся, што яна прадае не свае рэчы — чужыя. Можа, хіба кветкі свае. Але выглядала Разафі гэтай раніцай так, быццам сама і была першай нявестаю Антананарыву. Я ўспомніў, што ў кішэні ў мяне ёсць значкі — нашы, савецкія. Выбраў з іх той, на якім Белавеж, медзведзяня, і прышпіліў на кафцёнку Разафі. Яна з хвіліну разглядала значок, звера, які быў на ім, пальцам пагладзіла яго, быццам жывога, пацалавала, потым рэзка ўскінула на мяне вялізныя чорныя вочы, бліснула белымі, з блакітным адлівам, яблыкамі вачэй і кінулася да атэля. З усмешкаю, штосьці не разумеючы ў яе паводзінах, я падаўся па вуліцы і адразу апынуўся сярод басаногіх хлапчукоў. Не паспеўшы зразумець, якім чынам яны ў адзін міг акружылі мяне, я адчуў у кішэні чыюсьці руку. Зірнуў: якая рука? У кішэні пінжака сядзела ажно дзве рукі. Што з імі рабіць? Ведаючы, што ў маёй кішэні не вельмі пажывяцца, бо, акрамя значкоў, там нічога няма, я зарагатаў, хапаючы малых за галовы і цярэбячы, нібы авечак. Ці мне шкада значкоў? Ці не для гэтакіх хлапчукоў я іх насіў? Але адчуў, што мяне тузаюць і за другую кішэню. Кінуў позірк туды: у кішэні сядзела ажно тры рукі. А там ужо былі франкі. Іншым разам я, вядома, знайшоў бы, як абараніць свае франкі. Але раніцай быў добры настрой, ад хлапчукоў не хацелася бараніцца. Ды і што значылі тыя франкі? Я рагатаў, даючы малым поўную волю ў сваіх кішэнях, і яны, надзіва кемлівыя і спрытныя, умомант

пазнаходзілі ў маіх штанах і пінжаку ўсе-ўсе кішэні і кішэнькі, нават такія, аб якіх я сам даўно забыў.

Калі я вярнуўся ў нумар і, скінуўшы пінжак, збег па лесвіцы ў рэстаран да абедзеннага стала, усе на мяне звярталі ўвагу і пасміхваліся, быццам ужо ведалі пра мае прыгоды на вуліцы. Што мне было рабіць? Я смяяўся таксама, ніякавата і стрымана, пакуль нехта смялейшы не паказаў мне на тое месца, якім мы садзімся на крэсла. Я аберуч цапнуў сябе адзаду і жахнуўся: абедзве заднія кішэнькі, у якіх я ніколі нічога не насіў і таму даўно пра іх забыўся, былі вывернутыя і непрыгожа віселі дзвюма белымі торбачкамі.

За абедам я расказаў пра свае прыгоды Жазэфу, дабрадушнаму, з паважлівым гумаркам мальгашу, які ездзіў з намі па мадагаскарскіх дарогах, і ён збянтэжыў мяне нечаканым адказам:

— Дзеці хацелі з вамі гаварыць.

— Хацелі гаварыць? — мне падалося, што Жазэф знарок штосьці заблытвае.

— Яны не разумеюць вашай мовы. А вы не разумееце нашай. Як пагаворыш? Дзеці гаварылі з вамі мовою рук.

— Але ў нас гэта называецца…

Жазэф перахапіў маю думку:

— Як усюды. Але… — Ён занепакоіўся, што я не так, як трэба, разумею дзяцей, яго самога, а можа, і яго народ, і пачаў старанна тлумачыць: — Крадуць, як ніхто не бачыць. Хаваючыся. Ад вас дзеці хаваліся, уцякалі?

— Не, Жазэф, не хаваліся і не ўцякалі. Яны лезлі ў мае кішэні і рукі пакідалі ў кішэнях. Яны рагаталі. Ім падабалася, што я бачу і чую іх рукі ў сваіх кішэнях і не абураюся.

Жазэф з палёгкаю ўздыхнуў:

— Вы шчаслівы чалавек…

За акном — плач па верасні. Я сяджу ў халодным пакоі на дачы, разглядаю фотаздымкі з хітравата-жвавымі тварыкамі мальгашскіх дзяцей, якія мяне грэюць не горш за кажух, і ўспамінаю яшчэ тое, як гэтым летам, вярнуўшыся з-за мяжы, наведаў адну вясковую школу на Магілёўшчыне і там дзеці спыталі, што я прывёз з астравоў Індыйскага акіяна. Я расказаў ім пра каралы, ракавінкі, экзатычных рыбак і чарапах, пра дзіўныя расліны, адны з якіх могуць падняць на ногі нябожчыка, а другія знішчыць адным сваім калівам цэлую дывізію. Але я чамусьці не ўспомніў Разафі. Як гэта я забыўся на Разафі? І на яе маленькіх чарнаногіх сяброў з вуліцы, на якой стаіць атэль «Кальбер»?

Не забыўся. Вось — расказаў. Не тады, дык цяпер. Як чалавек, якога Жазэф аднойчы, не памыліўшыся, назваў шчаслівым.

*P. S.*

Што яднае мяне з шэрай горлінкай, якая прылятае кожны раз, калі я выходжу з нумара сваёй сейшэльскай вілы і босы саджуся на ганку ў шэзлонг? Горлінка падыходзіць да маіх ног і выдзёўбвае з пазногцяў пясок. Я працягваю руку і магу ўзяць горлінку, магу пагладзіць. Не бяру і не гладжу. Яна такая слаўная, уся ў блакітнаватым мроістым бляску, што я баюся, каб яе блакіт не застаўся ў мяне на пальцах, каб горлінка не засталася без свайго блакіту.

Мяне яднае з ёю давер. Дзікая вольная істота, жыхарка прыморскіх экватарыяльных лясоў, яна мяне, паўночнага чалавека, зусім не баіцца — ідзе да рук. І няма большага дзіва і большай радасці, як гэты давер. Столькі зла зрабіў чалавек жывой прыродзе, а яна яму ўсё яшчэ верыць.

## Джолі Роджэр: стагоддзі і сёння

Хто з нас, былых і сённяшніх летуценнікаў, не захапляўся і не захапляецца кнігамі і фільмамі пра піратаў? Хто не памятае пірацкіх сюжэтаў з куфрамі золата, бочкамі рому, аднавокім капітанам пірацкага карабля і чорным флагам з чэрапам і дзвюма скрыжаванымі косткамі, тым самым «Вясёлым Роджэрам», пра якога і песеньку мурлыкаем з маленства, «Джолі Роджэрам» — «Вясёлым Чырвоным»?..

Хударлявы стары, апрануты ў выцвілыя шорцікі і чорную тэніску з белымі чэрапам і дзвюма косткамі накрыж на грудзях, быццам пашытую з пірацкага флага, сам блішчаста-чорны, але з бялюткімі, усё роўна як снегам абсыпанымі, галавой і бародкай, прадае на рынку Зума ў Антананарыву абгарэла-чорныя, прасмуроджаныя тытунём многіх кантынентаў і акіянаў, з прагоркла-пажоўклымі муштукамі люлькі курцоў, курцоў не абы-якіх, а піратаў, і не абы-якіх піратаў, а славутых, адны імёны каторых перацінаюць дыханне кожнаму, хто хоць крыху знаёмы з гісторыяй пірацтва. Стары можа прапанаваць трубку, скажам, капітана Кіда. Сам кароль Англіі даручыў Кіду ачысціць Індыйскі акіян ад піратаў, а праз пяць гадоў павесіў як першага ў свеце пірата. Ці трубку Эверы, таго Шчаслівчыка, які прымусіў выйсці за сябе індыйскую прынцэсу, унучку Вялікага Магола, і пра якога Даніэль Дэфо напісаў п’есу «Здабычлівы пірат».

Кід і Эверы — часы даўнія, канец XVII — пачатак XVIII стагоддзя, тут скарбу старога на рынку можна верыць і не верыць. Але ёсць у яго люлькі з нямецкага крэйсера «Кёнігсберг», які пірацтваваў у Індыйскім акіяне ў гады першай сусветнай вайны, пакуль не быў загнаны ў атолы Сейшэльскіх астравоў караблямі саюзнікаў супрацьгерманскай кааліцыі. З Сейшэлаў ён выскачыў, схаваўся на ўсходнім беразе Афрыкі ў дэльце ракі Руфіджы, але там, пасля доўгага, можа, самага доўгага за ўсю вайну марскога бою быў патоплены. З успамінаў нямецкага генерала фон Летаў-Форбека, які ў тыя гады са жменькай салдат і афіцэраў утрымліваў раўніны Усходняй Афрыкі супраць англійскіх дывізій, вядома, што з крэйсера «Кёнігсберг» каманда паспела вынесці ў джунглі ўсё, што хацела вынесці, нават гарматы і апошнія дваццаць кілаграмаў перцу з камбуза. Тым больш — курцовыя люлькі.

Сейшэлы. Атэль «Аберж Клаб». Яго маленькія дамкі-бунгала сярод аграмадных, большых за самі дамкі прыбярэжных камянёў, гранітных асколкаў, якія сыпанулі сюды з гор, нам пад ногі, мільёны гадоў назад, на самым беразе акіяна. Вялізны камень Шэрая Горка — адразу за маім акном. На ім не цяпер, даўнымдаўно, высечаны круг, падобны на сонца, і ад круга — стрэлка. Гэта пірацкі знак. Стрэлка паказвае месца, дзе закапаны скарб. З Шэрай Горкі яна цэліць якраз пад мой ганак. Але гэтакіх знакаў тут шмат.

Каменнымі трушчобамі па-над самым-саменькім акіянам я абгінаю заліўчык, узбіраюся на скалу, спускаюся з яе ў каменную шчыліну, па якой, заваленай пальмавым лісцем і какосавымі арэхамі, загорнутымі ў руды варсяны лямец натуральнай вопраткі, прабіраюся да лагчыны, адкуль мне насустрач пастрэльвае сонечны прамень, за лагчынаю выходжу да вады, абплываю лабаты выступ скалы, а ўжо там — дробная галька берага. Агледзеўшыся, як заўсёды, калі наведваюся сюды, з прыемнасцю як даўно знаёмага, бачу сапраўднага, як мне здаецца, жывога пірата. Невысокі, шыракаплечы, мускулісты, буйнагаловы, забранзавелы на сонцы, але не падобны на мясцовых чарнявых крэолаў, з рыжай, на клін сточанай бародкаю, у чорных шортах і чорнай майцы з чэрапам і назваю «Джолі Роджэр», з шыкоўнай шматколернай татуіроўкай на руках, ад ногцяў да плеч і на сцёгнах, ён мне нагадвае славутага пірата Дрэйка, якога я бачыў недзе на кніжным малюнку, таго Фрэнсіса Дрэйка з «Залатой лані», якога многія гісторыкі і даследчыкі называюць самым вялікім з піратаў-падарожнікаў і ставяць побач з Калумбам, Магеланам

і Кукам. Ён падпяразаны чырвоным шаўковым поясам, за які засунуты стары пірацкі мушкет. На галаве — чорны фетравы капялюш, а ў роце звычайная і абавязковая для пірата люлька. Тая, вядома, да якой яшчэ не дабраўся стары з рынку Зума. Можа, таму і не дабраўся, што яна ў «майго Дрэйка» заўсёды альбо ў роце, альбо ў кулаку. Я не першы раз прыходжу сюды і звыкся з думкаю, што мой знаёмы ва ўсім падобны на Дрэйка, і таму спакойна саджуся непадалёк ад яго на выступ у скале, які нагадвае каменную лаўку, прывальваюся спіною да гарачай ад сонца скалы і пачынаю, можа, з залішняй цікаўнасцю сачыць, што чалавек робіць. Фрэнсіс, вядома, не быў анёлам, нораў меў круты, жорсткі, не любіў, калі хтосьці рабіў тое, што яму не даспадобы, мог ахвяраваць жыццём цэлых экіпажаў багатых шматпалубных галіёнаў, а мая прысутнасць, бачу, не надта падабаецца «майму Дрэйку». І ўсё ж я спакойны, бо ведаю прызнанне Фрэнсіса, што ён самы велікадушны з усіх піратаў, што на яго сумленні няма ніводнай выпадковай смерці. Я падоўгу дзіўлюся, як двайнік Дрэйка, магутны, нібы мядзведзь, варочае камяні, драбнейшыя спіхвае ў акіян, цяжэйшыя абвязвае тросам і падымае лябёдкаю. У яго тут свая маленькая электрастанцыя і нават буравая ўстаноўка. Бурам ён прашывае скалы на глыбіню, дастатковую шукальніку пірацкага скарбу. Тут і палатка. Каля яе — збіты з дошак стол, на стале і пад сталом каструлі, міскі, кубкі, бутэлькі, слоікі. На вяроўцы вісяць ручнікі, штаны джынсавыя, плаўкі. «Мой Дрэйк» тут жыве, мабыць, даўно. Купіў, як гэта робяць усе шукальнікі скарбаў, кавалак аблюбаванай зямлі, дакладней — гняздо ў скалах, электрастанцыю, усю патрэбную тэхніку, уклаў у гэта немалыя грошы і ваюе гадамі з гранітам, спадзеючыся ў адзін цудоўны дзень зрабіцца ўладальнікам неверагоднага скарбу. А хто-небудзь ужо ці знайшоў? Пакуль вядома толькі, што на суседнім востраве Астове ў 1911 годзе знойдзены 107 сярэбраных манет, дзве спражкі ад чаравікаў ды стары пірацкі свісток. Але шукальнікам не дае спакою іншы факт. У 1721 годзе вядомы французскі пірат Ла-Бюз узяў на абардаж ля Рэюньёна партугальскае ваеннае судна з архіепіскапам, віцэ-каралём партугальскай Індыі, мноствам алмазаў, залатых і сярэбраных зліткаў, куфрамі залатых манет — і ўсё гэтае багацце схаваў на Сейшэлах. Калі праз колькі гадоў французы Рэюньёна схапілі Ла-Бюза і падвялі да шыбеніцы, ён за нейкае імгненне да смерці паспеў парваць паперы з загадкавымі знакамі, тымі, што мы знаходзім цяпер на скалах — кругі са стрэлкамі, — і кінуць іх у людскі натоўп: «Шукайце мае скарбы! Іх знойдзе самы мудры і смелы!»

Хто акажацца самым мудрым і смелым? Можа, «мой Дрэйк»? Хай бы яму выпала гэтае шчасце. Калі бачу яго ў рабоце, да мяне прыходзіць упэўненасць, што ён, з гэтакай упартасцю, дабярэцца да скарбу. Але ў заліве Анс-Фарбан — Пірацкі Заліў, — дзе таксама шмат слядоў Ла-Бюза і пірата Тэйлара, я страчваю гэтую ўпэўненасць.

Вечназялёныя какосавыя пальмы растуць на Анс-Фарбан паміж скал, на скалах. У навальніцы яны скідаюць арэхі на камяні, і тыя скатваюцца да вады акіяна, які гуляе з арэхамі, нібы з мячыкамі: выкідае на бераг, а яны зноў бягуць у ваду, зноў выкідае, а яны зноў скатваюцца. Я лаўлю выкінуты хваляю какосавы арэх, сядаю на камень і пачынаю здзіраць з яго жорсткі лямец — дзіўную, на любыя нягоды, кашулю. Без сякеры ці мачэтэ гэта зрабіць нялёгка. Але не цяжка дабрацца да какосавага малака. Знаходзіш у наску арэха тры мецінкі, любую з іх прабіваеш чым-небудзь вострым, мякенькую, і частуйся на здароўечка. Малако ў арэху заўсёды халаднаватае. П’ючы, я паглядаю на суседнюю скалу, якая вісіць над акіянам, і бачу на ёй хлапчукоў. Чапляючыся рукамі і нагамі, яны караскаюцца на скалу і адзін за адным сыплюцца адтуль, з вышыні, можа, трохпавярховага дома, у хвалі акіяна. Яны робяць гэта з вісклівай радасцю, танцуючы на скале, перад тым як скочыць з яе, танцуюць і рагочуць, і сыплюцца ўніз галовамі з тым самым вясёлым рогатам, расставіўшы рукі ў бакі, быццам птушыныя крылы. Калі зноў, вынырнуўшы з хваляў акіяна, караскаюцца на скалу, мне здаецца, што гэта паўзуць яшчаркі. Сэрца замірае, гледзячы на іх. І забываеш на арэх у руках. Малако на губах застывае і сохне ў горле. І ты думаеш: навошта тут, на Сейшэлах, «мой Дрэйк» траціць час і грошы на электрастанцыю, лябёдкі, буры? Калі ёсць нейкі пірацкі скарб, дык наўрад каб гэтыя мужныя абарыгены пірацкіх заліваў яго ўпусцілі.

Сейшэлы не былі пірацкай вольніцай, не мелі пірацкай сталіцы. Яны былі толькі прыпынкам на вялікіх пірацкіх дарогах, сховішчам залатых скарбаў. Але адна з пірацкіх сталіц была зусім блізка — на Мадагаскары, які да самага скону пірацкай вольніцы называўся пірацкім востравам.

Цяжка сказаць, калі ў Індыйскім акіяне з’явіліся першыя піраты, бо напачатку тут не было гісторыка-летапісца, як Гаспар Карэап пры Васка да Гаме ці да Сілва, які вёў падрабязны дзённік на «Залатой лані» ў Дрэйка, ці матрос Эдвард Кліф на «Лізавеце», таксама ў Дрэйка, ці эсквайр Прыці ў Кавендзіша на «Жаданні», ці цясляр Рычард Лазенбі, які вёў запіскі ў Макрэ

на «Касандры». Праўда, Лазенбі ў Макрэ — гэта ўжо старонка Індыйскага акіяна. Пазней з’явіліся і тут летапісцы, гісторыкі, пісьменнікі. Мець іх на судне лічыў неабходным кожны вядомы пірат. Толькі пры гэтай умове ён мог спадзявацца на тое, што застанецца ў гісторыі. Гэтым летапісцам мы абавязаны тым, што тое-сёе ведаем пра гісторыю піратаў, што іх жыццё стала нашай рамантыкай, нашым захапленнем, што чалавецтва ўжо сотні гадоў кружыць сабе галовы пірацкімі раманамі. Хіба аповесць Стывенсана «Востраў скарбаў» была б такой, якой мы яе ведаем, захапляемся з маленства, калі б не запіскі Гамільтона, што камандаваў фрэгатам «Ранішняя зара» пры штурме індыйскага горада Карвара, а пасля быў сведкам сутыкнення капітана англійскага судна «Касандра» Макрэ з піратамі Інгландам і Тэйларам? Мы памятаем Джона Сільвера з аповесці Стывенсана, як ён, пірат на драўлянай назе, абвешаны пісталетамі, уварваўся ў каюту капітанаў Інгланда і Тэйлара, куды быў запрошаны палонны Макрэ, абняў яго, палоннага Макрэ, і пакляўся самымі дзікімі клятвамі, што ведае яго як выдатнага чалавека, сумленнага і справядлівага, і заявіў, што зробіць біфштэкс з таго, хто падыме руку на Макрэ, нават калі гэтым чалавекам будзе сам грозны капітан Тэйлар. Стывенсан расказаў тое, што спачатку паведаў у запісах Гамільтон, што сапраўды было.

Мадагаскар ведае нямала дзіўных пірацкіх лёсаў. Але, магчыма, няма з іх больш захапляючых, як лёсы Рабера Сюркуфа і Місона. Яны непадобныя. Сюжэт жыцця Сюркуфа рухала прыгажуня з вельмі багатай брэтонскай сям’і Мары Блез, у якой было шмат багатых жаніхоў. Каб дамагчыся яе рукі, Сюркуф павінен быў стаць багацейшым за іх. І ён становіцца піратам. Пабудаваны ім карсарскі карабель «Кларыса» пад трохкаляровым флагам французскай рэспублікі блаславіў будучы цесць, паабяцаўшы, што яго дачка Мары дачакаецца Сюркуфа. І ўсё адбылося так, як хацеў Сюркуф. Ён стаў на пірацтве мільянерам і ўвайшоў у гісторыю Францыі. Мары Блез стала яго жонкаю. І яшчэ ён, шчаслівы, аказаўся адным з вельмі нямногіх піратаў, якія жылі доўга і памерлі сваёй смерцю.

Ну а Місон? Яго лёс іншы. Місона вялі па жыцці не прага грошай і не жанчыны. Ён быў захоплены ідэяй брацтва, заснаванага на роўнасці, волі і справядлівасці. Спалучыўшы ў сваім светапоглядзе рэвалюцыйныя ідэі пачатку XVIII стагоддзя і ўтапічныя ідэі Адраджэння, Місон прыйшоў да думкі, што рэалізаваць іх ён зможа толькі на Мадагаскары, у новым цэнтры пірацкай вольніцы, выкарыстаўшы дэмакратычныя традыцыі піратаў.

Заліў Дыега-Суарас — самая паўночная, дакладней — паўночна-ўсходняя кропка Мадагаскара. Скалістыя берагі не пускаюць сюды вятры ні з захаду, ні з поўдня, ні з поўначы. Сцежкі да акіяна, крутыя і віхлястыя, заціснутыя каменнем з усіх бакоў, поўныя таямнічага жыцця, і нават раскошныя духмяна-смолкія пініі не робяць гэтыя пейзажы шчырымі і адкрытымі. Можа, крыху змякчаюць каларыт, а ў настрой, калі трапляеш сюды першы раз, прыўносяць кволую святлынь надзеі. Калі гасне дзень, у скалах чуваць пісклявы енк кажаноў, і тады штосьці амаль забытае, вусцішна-таямнічае прачынаецца на зямлі і ў акіяне, у самім табе. У гэтакую часіну кагосьці не хапае побач, можа, Ранавалоны, яе танклявага, быццам у таго кажана, голасу:

— Цябе хто цікавіць? Піраты ці іх каханкі?

Яна, актывістка савецка-малагасійскай дружбы, ведае не толькі багата моў, але і ўсіх мадагаскарскіх піратаў. Ну і, вядома, іх каханак, бо які пірат без каханкі. Але я на момант губляюся. Мяне цікавяць і піраты, і іх каханкі.

— Я цябе разумею. Каханкамі піратаў табе цікавіцца нельга. Калі ты ад'язджаў сюды, табе там, дома, забаранілі пра іх нават думаць.

— І таму будзем гаварыць пра піратаў.

— Багатых ці бедных? Гэта адны дзеці думаюць, што ўсе піраты мелі скарбы ў скалах, куфры з золатам, бочкі з ромам і караблі з шаўковымі ветразямі. Багатых піратаў мала. Калі хто з іх дажываў да старасці, дык жыў бедна.

— Можа, яны не рабавалі купецкія галіёны?

— Але багаты не той, каму багацце валіцца з неба, а той, хто ўмее яго берагчы. Пірат, пакуль хадзіў на абардаж, кідаўся на рэі з мушкетамі, біўся на шпагах, быў у славе і золаце. Сышоўшы на бераг, ён рабіўся бедным. Мала хто з іх умеў берагчы сваё багацце. І не ў кожнага была Мары Блез, як у Сюркуфа.

— Зноў пра каханак?.. Любімая тэма?..

— Калі на любімую, тады лепш пра Сюркуфа.

— Ці пра Місона? Ён, вядома, не так моцна кахаў жанчын і любіў золата, як Сюркуф, але затое ніхто з піратаў мацней за яго не любіў твой, Ранавалона, Мадагаскар. Ды і бераг, на якім мы зараз стаім, Дыега-Суарас, нікому, відаць, не абавязаны гэтак сваёй вядомасцю, як Місону. Ці не так?..

Але Ранавалона пачынае расказ з Карачыёлі, італьянца, сябра Місона. Яны пасябравалі ў Генуі, дзе стаяў французскі ваенны карабель «Перамога», на якім афіцэрам служыў дваццацігадовы Місон. Карачыёлі ў той час быў манахам. Маладыя людзі далі

клятву не разлучацца і прысвяціць сваё жыццё вызваленню людзей ад улады багацця і багацеяў. Экіпаж карабля горача падтрымаў праграму Місона і яго сябра. «Перамога» падымае пірацкі флаг і выходзіць у акіян. Флаг незвычайны: на белым палотнішчы заклік — «За бога і волю». На ім няма ні чэрапа, ні костак «Джолі Роджэр». Нават імя бога вымушанае — каб ідэі стыхійнага сацыялізму зрабіць больш блізкімі для піратаў.

Але як спалучыць ідэі брацтва і справядлівасці з пірацтвам?

Сустрэўшы ў акіяне англійскі галіён, Місон бярэ яго на абардаж. Піраты забіраюць на галіёне прадукты, самыя неабходныя, і нават не цікавяцца астатнім грузам. Англічане здзіўлены гэтакім высакародствам. Іх капітан строіць сваю каманду на шканцах і загадвае тройчы крычаць «ура» ў гонар Місона. А калі «Перамозе» сустракаецца галандскі карабель з афрыканскімі рабамі, Місон ужо зусім не той — тут ён жорсткі. Усе нарабаваныя галандцамі тавары перагружаюцца ў «Перамогу», кандалы і ланцугі, якімі рабы былі прыкаваныя да банак, Місон загадвае разбіць, а неграў вяртае ў Афрыку. Галандскія маракі пераходзяць пад флаг Місона.

«Перамога» даплывае да Мадагаскара. На ёй дастаткова прадуктаў і тавараў, каб высадзіцца на бераг і пачаць новае жыццё. Піраты знаходзяць зацішную бухту Дыега-Суарас і пачынаюць будаваць Ліберталію — пірацкую дзяржаву, палітычнай і сацыяльнай праграмай якой абвяшчаюцца прынцыпы ўтапічнага сацыялізму. Ішлі дзевяностыя гады XVIII стагоддзя.

Ранавалона замаўкае. Зноў чуваць вусцішна-пісклявы крык кажаноў. Нейкі сіроцкі, жорстка пакрыўджаны плач.

— Скажы мне, Ранавалона, як піраты пайшлі за Місонам? Самі адмовіліся ад рабунку? Ці Місон іх прымусіў? Але ж яны прымусу не ведалі?..

— Мы, Віктор, мала ведаем Місона. Мы ведаем толькі тое, што ён сам пакінуў нам у сваіх дзённіках. Ды яшчэ звесткі з судовых дакументаў па справах Кіда і Цью, паплечнікаў. А ён быў адукаваны, выхаваны і вельмі красамоўны. Ён меў магічную ўладу над чалавекам. Ён захапляў піратаў сваімі ідэямі.

— Піраты шукалі золата, а не ідэі?

— Золата для сапраўдных піратаў — не галоўнае. Больш за золата яны цанілі волю. Хацелі быць роўнымі паміж роўных, незалежнымі ад багацця і ўлады. Пра гэта добра пісаў ваш Гоголь. Я чытала, калі вучылася ў Маскве.

— Ты што кажаш, Ранавалона? Які Гоголь? Гоголь ніколі не пісаў пра піратаў.

І тады яна пачынае горача, з паўднёвым тэмпераментам,спрачацца:

— Як не пісаў? Ты не чытаў Гогаля?

— Гогаля я чытаў. І таму ведаю, што ён не пісаў пра піратаў. Ты штосьці блытаеш?

— Ён пісаў пра Тараса Буль… Буль…

— Пра Тараса Бульбу?

— Так! — Яна пляскае ў далоні, падскокваючы ад радасці. — Пра Тараса Бульбу і яго сыноў, Андрэя і…

— Астапа?..

— Яны выдатныя піраты! Яны не былі падобныя на Місона ці Сюркуфа. Ні ідэі, ні золата ўлады над імі не мелі. Яны падобныя на Эверы і Кіда. Яны любілі волю і былі сапраўднымі мужчынамі.

Ранавалона ўтульвае чарнявую галоўку ў высокі каўнер белай ваўнянай кофтачкі і ціха смяецца. І цяпер ўжо я з ёю не спрачаюся, адчуваючы, што ў нечым яна мае рацыю. Ёсць, вядома, штосьці агульнае ў славянскай казацкай вольніцы з вольніцаю піратаў: прага прасторы для душы, мужчынскага брацтва, дзе ні рабоў, ні панства, ні скнарнасці, ні страху перад лёсам і богам, прага жыць па-людску і змагацца за гэтае жыццё, хоць і цаною крыві. І тут Тарас і яго сыны не падобныя на Сюркуфа. Яны больш падобныя на Эверы, які меў незлічоныя, нарабаваныя ў купцоў, скарбы, а памёр жабраком. І на Кіда, які закончыў жыццё на шыбеніцы. Вось іх Тарас залічыў бы ў сваё войска. Як і Місона, з яго ідэямі свабоды і роўнасці.

— Ты пра што думаеш, Віктор? — пытаецца Ранавалона.

— У цябе імя каралевы Мадагаскара.

— Калі ты маеш на ўвазе Ранавалону Трэцюю, то ў яе лёс не лепшы, як у Місона. Дзевяноста гадоў назад яе выслалі ў Алжыр і з таго часу мальгашы страцілі сваю свабоду. Востраў зрабіўся калоніяй Францыі.

— Хіба такі лёс Місона?

— І Місона, і Ліберталіі.

Місон і Карачыёлі ажыццяўлялі сваю мару. Яны разаслалі лісты да піратаў усіх мораў і акіянаў, запрашаючы разам будаваць Ліберталію, і сюды прыплылі многія вядомыя піраты, такія, як Кід і Цью. Піраты жаніліся з мальгашкамі, абзаводзіліся вялікімі сем'ямі. З вострава Анжуан прывёз сабе жонку-арабку Місон. Яны моцна кахалі адно аднаго, і жыццё іх было ўзорам для лібертальцаў. Адносіны Ліберталіі з мясцовымі плямёнамі складваліся свойскія, прыязныя. Гэта адпавядала ідэі Місона

стварыць на Мадагаскары першую ў свеце вольную дзяржаву, дзе роўнымі павінны быць людзі ўсіх нацый і саслоўяў. У горадзе працавалі майстэрні, на верфях будаваліся караблі, развіваліся рыбацкі промысел і земляробства, вырошчваліся рыс, ячмень, гародніна, сады. Рэспубліка не ведала прыватнай уласнасці, мела агульную казну, з якой усім пароўну выдаваліся прадукты і тавары. Інвалідам і старым давалі пенсіі. Катэгарычна забаранялася адзін аднаго зневажаць, лаяцца, гуляць у запойныя гульні. За парадкам строга сачыў савет старэйшын, які перавыбіраўся праз кожныя тры гады. Галавою рэспублікі, пратэктарам, быў Місон, сакратаром — Карачыёлі, камандаваў флотам Цью.

— І ўсё ж, Ранавалона, што адбылося з Місонам?

— Тое, што з Ліберталіяй.

— Але… што?..

Ліберталія расцвітала. Місон надумаў пашырыць яе межы, зрабіць сацыялістычнай рэспублікай увесь Мадагаскар. Пра гэта дачуліся мальгашскія плямёны, якія жылі ў глыбіні вострава і сувязей з рэспублікай не падтрымлівалі. Аднойчы, калі Місон пайшоў на караблях уздоўж усходняга ўзбярэжжа, каб скласці карту вострава і яго берагоў, а астатні флот выйшаў на поўнач шукаць эканамічныя сувязі з суседзямі, і ў горадзе засталіся жанчыны з дзецьмі, старыя, сюды прыйшлі мальгашы, якія баяліся Ліберталіі. Яны ведалі, што рэспубліка добра ўмацаваная з боку акіяна, дзе стаялі бастыёны з гарматамі, і таму напалі на яе з захаду. Томас Цью мужна камандаваў абаронаю горада, але сілы былі няроўныя, і з апошнімі яго абаронцамі ён на апошнім уцалелым боце выйшаў у акіян. Там, у акіяне, сустрэўшыся з Місонам, яны вярнуліся ў горад. Пахавалі загінуўшых, але аднаўляць горад адмовіліся: ён быў разбіты ўшчэнт. Выйшлі ў акіян, каб абагнуць Афрыку, дабрацца да берагоў Амерыкі і там будаваць новую рэспубліку волі і роўнасці. З імі паплылі жыхары Ліберталіі, якія засталіся жывыя, бо па-ранейшаму верылі Місону. Але ў Мазамбікскім праліве шторм параскідаў караблі. «Перамога» загінула на рыфах, а Місона і Карачыёлі, якія плылі на ёй, больш ніхто не бачыў.

— І нічога не засталося ад Ліберталіі?

— Камяні, на якіх мы сядзім. Далей ад берага калючыя хмызнякі. Пініі над намі.

— А памяць у народзе?

— Памяць як каханка пірата. То яна ёсць, то яе няма. Калі камандор Мэцьюз, страціўшы розум, закахаўся ў Катрын, то Катрын ужо да Мэцьюза мела афіцыйны шлюб з пяццю піратамі. А ёй было тады ўсяго гадоў дваццаць пяць.

— Ты, Ранавалона, зноў пра каханак піратаў?

— Але што я зраблю, калі такая людская памяць? Ці, можа, ты будзеш са мною спрачацца?..

Спрачацца з ёю ў мяне няма ахвоты. Яна гэта бачыць і маё маўчанне ўспрымае як сваю перамогу.

Ноч.

Мацней, як звечара, тут, на скале, крычаць кажаны. Цяпер іх крык падобны на плач дзяціны, горкі і безвыходны. Ён, мабыць, мог бы разарваць сэрца, калі не ведаць, што гэта крычаць кажаны.

Ці, можа, крык гэты здаецца безвыходным дзяціным плачам таму, што зараз я тут адзін?

Высока ў небе — вялікі, круглы, яркі месяц. Днём акіян быў ціхі, і пазней, калі вечарэла, ціхі быў таксама, а цяпер разгайдаўся, быццам надумаў выскачыць з берагоў. Я ведаю, што разгайдаў яго месяц. Ён заўсёды штосьці з ім вырабляе. То супакоіць-заварожыць, то, наадварот, разгайдае, раззлуе. Ёсць у месяца нейкая магічная сіла і вечная таямніца.

Плач кажаноў далятае хвалямі, прылівамі, якія дзіўна супадаюць з адлівамі акіяна ад берага. Яны ўсё роўна як згаварыліся і не парушаюць гэтай чарговасці.

Я хачу сысці да вады, дзе разбіваюцца хвалі і паміж камянёў гуляе белая пена, скінутая з грабянёў хваль, а можа, і з самога месяца. І гэта не цяжка — сысці ўніз. Але паспяваю зрабіць усяго два крокі, як спыняюся, убачыўшы ўнізе, куды вядуць каменныя сходы і дзе месяц ганяе на пяску і дробнай гальцы белую пену, шкарлупіну, падобную на лодку. Прыглядаюся: лодка і ёсць. На ёй вострая, нібы іголка, мачта без ветразя. Лодка выкінутая на пясок. Але там яе не было ні ўдзень, ні ўвечары. Хтосьці прыплыў? Ці хтосьці збіраецца адплысці?

Мне здаецца, што адтуль, знізу, я чую голас. Жаночы? Ці не голас Ранавалоны? Калі яе, то з кім яна там?

Магутная хваля грукоча ў скалу, з якой я хачу сысці ўніз, і скала гудзіць, хаваючы ў сваім гудзенні злоўлены мною жаночы голас. І таямніца робіцца большай.

Чыя лодка? І чаму хвалі, якія могуць зваліць скалу, не змыюць яе, кволую шкарлупіну?

Я адступаю назад, прыціскаюся спіной да скалы. Цяпер бачу ўнізе каля лодкі постаць чалавека. Ён выйшаў з-за каменя, стаіць у цяні. Месяц не бачыць яго, як бачу яго я, і нельга разгледзець, жанчына то ці мужчына. Але я адчуваю, што ёсць там і мужчына, і жанчына. І лодка.

Асцярожна, каб ніхто не чуў маіх крокаў, я вяртаюся на тое самае месца, дзе стаяў. Але і адсюль, са скалы, бачу лодку з белай ад святла месяца іголкаю мачты. Не проста бачу, адчуваю ў ёй таямнічае звяно паміж сабою і чымсьці далёкім, тым, што яшчэ ўчора здавалася чужым, а сёння чужым не здаецца. Кволая шкарлупіна-лодка, увенчаная белай іголкаю мачты, ужо злучае мяне не толькі з мілай мальгашкай Ранавалонай, але з усім акіянам, з караблямі і лодкамі, якія ў гэтую хвіліну плывуць недзе па акіяне, з не сённяшнімі купецкімі галіёнамі і пірацкімі караблямі ды ботамі, з Місонам і Ліберталіяй. І я пачынаю разумець, як патрэбна мне гэтая чужая кволая шкарлупіна, раскалыханая на пяску белай салёнай пенаю акіяна і круглым, нібы твар жывое істоты, месяцам. І ўжо нават такое лезе ў галаву: а што, калі гэта не проста лодка, а той апошні, уцалелы ад пагромшчыкаў Ліберталіі бот, на якім капітан Томас Цью пакінуў рэспубліку волі і справядлівасці ў самую апошнюю хвіліну яе існавання і адплыў насустрач Місону? Можа, ён не загінуў у Мазамбікскім праліве, а вярнуўся сюды на апошнім судне рэспублікі і цяпер з Ранавалонаю разам яны па начах шукаюць у акіяне Місона і Карачыёлі?..

І я малю месяц, круглы і ясны, быццам аблічча жывое істоты ці нават самога бога, каб ён супакоіў свой акіян.

*P. S.*

Сейшэлы. Вечарэе.

З берага, дзе стаіць наш атэль «Аберж Клаб», відаць, як на рэйдзе порта Вікторыя загараюцца агні савецкага вялікага карабля. Я ведаю, што ён прыйшоў на Сейшэлы з візітам міру і дружбы. Але кожны раз, калі бачу ў акіяне блізка ад берага, на рэйдзе, яго агні, з'яўляецца адна і тая ж думка: чаму ты, магутны зямляк, не прыйшоў сюды ў свой час, каб абараніць Місона і яго пірацкую Ліберталію?

Ведаю, што тут не Мадагаскар — Сейшэлы.

Ведаю, што ён не мог прыйсці ў Ліберталію.

Ведаю…

А ўсё ж гэтак вось думаецца. Кожны раз, калі бачыш агні свайго карабля на рэйдзе порта Вікторыя.

Што такое мае постскрыптумы?

А не што іншае, як штрыхі ці накіды з натуры, раптоўныя думкі, пакінутыя ў блакноце ў нейкія моманты падарожжа, на хаду, на колах, на крыле самалёта, на борце шхуны, і ў той жа

час невыпадковыя. Яны мне дарагія, бо прыйшлі да мяне там, у Індыйскім акіяне, дзе я, можа, больш ніколі не буду, па жывым следзе ўражанняў, хваляванняў, падзей. Калі цяпер я змарную іх у блакноце, то, ведаю, буду шкадаваць, нібы жывых птушак, назаўсёды пакінутых у клетцы.

Дык хай яны выпырхнуць з блакнота да чытача. Думкі, як і птушкі, няволі не любяць.

## Мадам Марыя і трывожны бег рыкшы

Пасля я скрозь сон неаднойчы чуў, як недзе зусім блізка, нібыта ў мяне пад падушкай, бягуць коні. Усё роўна як полем, бо тупат мяккі, з плёскатам, быццам па гразі. І ўсё рыссю: цялёп-цялёп, пялёх-пялёх.

На астравах Маўрыкій і Маэ я жыў на самым беразе акіяна і спаць клаўся пад лагоднае перашэптванне хвалі з берагам ці пад упартую бойку хвалі з тым самым берагам. Кожны раз то былі гукі, да якіх хутка прывыкаеш, якія ствараюць роўны настрой, наводзяць на роздум, па начах не трывожаць, пад якія і сон мацнейшы. Але калі ў гоман вады і берага, што чуўся ў пакоі праз адчыненыя вокны ці дзверы, уплятаўся тупат ног, я прачынаўся. Ляжаў, прачнуўшыся, і тупату ўжо не чуў. Нейкі цік заставаўся ад яго ў галаве і мацней, як трэба, білася сэрца. Быццам метраном лічыў не то час, не то прыдарожныя слупы.

Той рытмічны тупат я пачаў чуць па начах пасля паездкі з Антананарыву ў Анцырабэ, ды толькі пазней, ужо ў Мінску, неяк сярод ночы зноў пачуўшы настырны тупат, здагадаўся, што за коні падымаюць мяне. То беглі людзі, якіх жыццё прывучыла да думкі, што яны — коні. Яны звыкліся з гэтай думкаю, як звыкаюцца з бядою, і зрабіліся сапраўды шмат у чым падобнымі на коней.

Рыкшы — маё першае і самае моцнае, самае нечаканае, самае трывожнае ўражанне ад Анцырабэ. Сустракаючы ўсіх, хто прыязджае ў гэты даволі вялікі горад, яны бягуць па вуліцах і плошчах, панура стаяць у аглабінах размаляваных двухколых вазкоў, чакаюць кліентаў на скрыжаваннях вуліц, на рынках, ля пад'ездаў атэляў, ля магазінаў, усюды, дзе шмат людзей, дзе некаму могуць спатрэбіцца, дзе можна знайсці заробак. Каб кідацца ў вочы, яны размалёўваюць вазкі самымі яркімі фарбамі, упрыгожваюць бліскучай аздобаю, бо сваёй чалавечай знешнасцю прывабіць нікога не могуць. А можа? Хіба тым, што ўсе яны кашчава-маслакаватыя, порткі ў кожнага абтрапаныя, палапленыя, лапікі яркія, як фарбы на вазках — чырвоныя,

жоўтыя, белыя, — а твары… у твары лепш не глядзець. Калі рыкша шукае каго падвезці, ён зацяты, рашучы, вочы хуткія і пранізлівыя, бачаць усё і ўсіх далёка і наскрозь, твар суровы і жорсткі, ён — тайфун, які разбурыць свет, калі свет не дасць яму зарабіць. Але калі ў яго вазку сядзіць, чытаючы газетку, нейкі таўстун, ці дамачка пад капялюшыкам альбо парасончыкам, з сабачкам альбо кніжачкаю, ці старая пані, абвешаная сумачкамі, з пруткамі ў руках, якімі нешта снуе-вяжа, калі рыкша бяжыць рыссю, уціснуты ў аглабіны і ўзваліўшы на іх цяжкія рукі, свет у ягоных вачах гасне, ён бачыць перад сабою шэрую пляму дарожнае стужкі, твар выцягваецца, робіцца тупы, да ўсяго абыякавы, з яго цячэ пот, галава вісіць, нібы ў загнанага каня, і вочы ператвараюцца ў мутныя халодныя шклінкі. Калі рыкша прабягае міма мяне, мне цяжка глянуць яму ў твар, быццам я перад ім у чымсьці вінаваты, і я гляджу на яго ногі. Яны тоўстыя, маслакаватыя, абвітыя набухлымі венамі, фіялетава-чорныя. Смялей глядзіш услед, і тады пад вазком бачыш расплясканашырокія зарагавелыя падэшвы, мільгаценне якіх вельмі нагадвае мільгаценне конскіх капытоў.

Ні на міг я не прыму думкі, што нечалавечы лёс рыкшаў на сумленні малагасійскага народа, ці прэзідэнта Рацыракі, ці мэра Анцырабэ Жанані Андрыямангі. На чыім сумленні? Ведаю. І таму рады, што мая краіна дапамагае Мадагаскару пазбавіцца слядоў свайго каланіяльнага мінулага.

На ўскраіне горада сярод вечназялёных, засеяных кукурузай палеткаў стаяць домікі пакуль што адзінай на востраве сельскагаспадарчай школы, дзе маладых мальгашоў вучаць на механізатараў. Яны тут і працуюць: вырошчваюць кукурузу, рыс, рамантуюць тэхніку, меліярыруюць землі. Давід Ракутусон, інжынер на сельскагаспадарчых машынах у Анцырабэ, скончыў акадэмію ў Горках на Магілёўшчыне. Дазнаўшыся, што я з Беларусі, падышоў: «Будзеце ў Горках — пакланіцеся ад мяне». Пытаюся: «Каму?» Кажа: «Выкладчыкам, бярозкам…»

З Давідам мяне звёў дом Андрыямангаў, і вось, успомніўшы гэтага вясёлага мальгаша, прыгадваю цудоўны вечар.

Калі мы прыйшлі. гаспадара дома не аказалася. Акрамя таго, што Жанані мэр горада, ён яшчэ і доктар, галоўны інспектар шпіталя. У той вечар яго не адпускалі дадому тэрміновыя аперацыі, і нас, гасцей, сустрэла яго жонка Расуміята, таксама мадам Марыя, як яе называюць у Анцырабэ за дружбу з савецкімі спецыялістамі, што тут жывуць, працуюць і даволі часта бываюць гасцямі дома Андрыямангаў.

Прыемнай нечаканасцю вечара былі дзеці. Разам з Дзімбі, сынам Расуміяты, яны ўвесь час акружалі яе, не адыходзілі ні на крок. Я здзівіўся: няўжо гэта ўсё яе дзеці? Мая думка падвесяліла выкладчыка рускай мовы ў Анцырабэ Мікалая Гамінава:

— Што вы? Мадам Марыя маладая, каб мець столькі дзяцей.

Але ўсё на сваё месца паставіў Давід:

— Усе дзеці Анцырабэ — дзеці мадам Марыі.

Яны лашчыліся да яе, як да маці, а яна, абдымаючы ўсіх адразу, заводзіла песню, і яны дружна, як даўно чакалі гэтае песні, пачыналі спяваць разам з гаспадыняю дома. Песні былі народныя, з простым, вельмі паэтычным зместам.

«Калі я ноччу іду дадому ад дзяўчыны, мне свеціць месяц, бо месяцу цікава глядзець на мяне, шчаслівага. Калі я іду ад любімай дзяўчыны днём, над галавой у мяне заўсёды стаіць сонца, разганяе хмары, бо закаханы — родны брат сонцу».

Пад гэтую песню мадам Марыя танцуе. Але не адна. Яна танцуе разам з дзецьмі. На іх гледзячы, танцуюць усе. Нават хто ніколі не танцаваў.

«Белыя птушкі — птушкі кахання. Калі белых птушак многа — навокал многа свята і многа кахання». І гэта таксама не толькі песня, але і танец.

Не пад кожную песню танцуюць усе. Нельга ўсім танцаваць «Ластаўку». Яе абавязкова танцуе дзяўчына ў белай сукенцы.

«Яна і туды, яна і сюды, ніяк не даецца, каб злавіць. Але ўсё роўна я буду яе лавіць, бо кахаю сваю ластаўку».

З гэтай песняй, чыстай і звонкай, нібы горны ручай, з-пад рукі мадам Марыі выпырхвае лёгкая, як пярынка, дзяўчынка ў бялюткай шаўковай сукенцы. «Яна і туды, яна і сюды…» — ляціць-пырхае па пакоі, аж вачам цяжка за ёю ўгнацца.

А пасля мадам Марыя пачынае спяваць нашу і сусветна вядомую «Кацюшу».

Я падыходжу да расчыненага акна. За ім аціхлая начная вуліца, блішчастае чарнільна-сіняе, быццам разлітая фарба, неба, скрозь, ад зямлі да зямлі, усыпанае яркімі зоркамі. Яшчэ далёка не поўнач, але чаму там, за акном, ані голасу, ані руху, ані шолаху, ні на вуліцы, ні ў небе, быццам усё замерла, набрыняла прадчуваннем нечага незвычайнага, патрэбнага каму ці непатрэбнага, жаданага ці жахлівага.

Галасы заціхаюць і ў пакоі. Настае хвіліна ці то адпачынку ад песні, ці то суладнага з ёю роздуму. І тады да мяне даносіцца знаёмы тупат. Я ўглядаюся ў начную вуліцу і бачу рыкшу. Ён, высозны і згорблены пад цяжарам пражытага дня, цяжка шлёпае

па асфальце, цягнучы за спіною вазок. Насупраць акна пад ліхтаром спыняецца і рукавом выцірае з твару пот. Цяпер, у святле ліхтара, я бачу на ім чырвоную абвіслую кашулю, кароценькія штаны, не то шорты, не то тую рэшту, аблепленую жоўтымі лапікамі, што засталася, як адарвалася абтрапанае калашынне, не вытрымаўшы доўгага потнага бегу свайго гаспадара. Ён задзірае галаву і глядзіць на неба. Доўга глядзіць, не варушачыся, усё роўна як яму трэба палічыць у небе ўсе да адзінае зорачкі. Ці, можа, ён моліцца, шукаючы ў небе бога? Ці шукае там, у высі, шукае і не знаходзіць сузор'е свайго лёсу? Долю-нядолю? Пачынае не то спяваць, не то выць, не то ўголас плакаць. Калі гэта песня рыкшы, дык чаму яна ў гэтакі позні час, калі гораду, стомленаму за дзень, патрэбна больш за ўсё цішыня? І чаму яна на адной бясконцай ноце скіраваная да неба, да зорак? Хіба песні не для таго, каб яднаць на зямлі людзей? А калі плач, то чаму яго таксама трэба пасылаць не зямлі, а небу? Не людзям, а богу? Хіба неба хутчэй пасобіць у бядзе чалавеку, як зямля?

Хтосьці працягвае з-за мае спіны руку і зачыняе акно. Рыкша як быццам замаўкае. А я ўсё гляджу на яго праз шыбу і бачу, як ён валачэцца далей па вуліцы з ціхім, на гумовым ходу, вазком.

Апоўначы мы развітваемся з гасцінным домам Андрыямангаў, так і не дачакаўшыся Жанані. Сышоўшы з ганка, доўга стаім пад тым самым ліхтаром, пад якім стаяў з вазком рыкша, глядзім на неба, да якога пасылаў сваю малітву рыкша. Неба над Анцырабэ нібыта тое самае, што над Антананарыву ці над акіянам, але тут я адчуваю, шукаючы на ім, фіялетава-сінім, зоркі і сузор'і, што ёсць у небе загадка людскога жыцця, а можа, не толькі людскога, якую адчувае кожная жывая душа на зямлі, але якую ніводная жывая душа не ведае, і таму, што не ведае, усё жыццё глядзіць у неба, гаворыць з ім і пакутуе, бо неба на чалавека, на ўсё жывое, глядзіць з вышыні горда і халодна, можна сказаць — бяздушна, не адказваючы яму ні на малітвы, ні на пакуты.

Я глядзеў на ядраныя, выспеленыя начной прахалодай сузор'і, а думаў пра рыкшу, бачыў яго з вазком на ціхім гумовым ходу. І калі да мяне падышла мадам Марыя, калі яна спытала ў мяне, якое самае моцнае ўражанне я павязу з Анцырабэ, я хацеў запытаць у яе пра рыкшу, таго, які нядаўна стаяў пад ліхтаром, ці іншага — усё роўна. Пра яго лёс. Але не асмеліўся, ведаючы, што маё пытанне будзе несправядліва жорсткім да добрай мадам Марыі. І я запытаў пра іншае, што мяне хвалявала таксама:

— Як вам удаецца гэтак адкрыта, быццам з братамі ды сёстрамі, жыць з людзьмі? Гэта ўласцівасць вашага сэрца, вашага дома ці, можа?..

Не дагаварыў — яна мяне зразумела:

— Адкрытасць уласцівая майму народу. Ён самы даверлівы і шчыры ў свеце. Ад гэтага, можа, шматпакутны. Але мы, мальгашы, не жадаем быць іншымі. Мы верым, што дабрата і адкрытасць перад светам нас узвышаюць. І яшчэ ўзвысяць. І ўратуюць.

Калі назаўтра я зноў бачыў рыкшу з вазком, мне на памяць прыходзілі апошнія словы мадам Марыі. Калі я ўспамінаў нашу размову і гэтыя словы, мне бачыліся не толькі мадам Марыя, але і рыкша з вазком. Той самы, які ў тую ноч стаяў пад ліхтаром і на ўвесь начны горад крычаў штосьці небу. Ды і той, каторы назаўтра ўранні, як мы выйшлі з атэля, заўважыўшы нас, з пустым вазком, размаляваным усімі, мабыць, кветкамі, якія растуць на Мадагаскары, пусціўся галопам вакол вялізнае клумбы і бегаў доўга, робячы круг за кругам і паглядаючы ўвесь час на нас. Мы ішлі з доўгімі махровымі ручнікамі ў славутыя тэрмальныя лазні Анцырабэ, і ён, рыкша, вельмі хацеў нам спадабацца.

Праз дзень мы ад’язджалі з Анцырабэ. Шырокая асфальтаваная вуліца, высаджаная старымі платанамі, выводзіла наш маленькі аўтобус, прыпісаны да савецкага пасольства ў Антананарыву, за горад. Прагныя да ўсяго вочы і фотааб’ектывы выхоплівалі апошнія кадры шматфарбнага стракатага жыцця. Я сядзеў з «Зенітам» і «Кіевам» на аблюбаваным апошнім крэсле і вокам тэлеаб’ектыва вылоўліваў за шырокімі шклянымі дзвярыма малюнкі чужога горада, якія, ведаў, ніколі нідзе не паўторацца. Тэлевік не толькі вылоўліваў, але і набліжаў, узбуйняў: твары, кашы на жаночых і дзяціных галовах, танклявыя і стройныя постаці мальгашоў, крамкі пры дарогах, сталы і печы пад адкрытым небам, сцэнкі бойкага гандлю ўсім, што толькі могуць вырабляць рукі тутэйшага чалавека. Мільгацелі і рыкшы, іх вазкі. І раптам, зусім нечакана, фотавока злавіла чырвоную кашулю — нібыта полымя шуганула ў вочы, засланіла свет. Затвор не шчоўкнуў. Я не адразу зразумеў, што трапіла ў кадр, на момант разгубіўся. Але чырвань аддалялася, і ў наступную хвіліну я ўжо бачыў высокую, дужую, лёгкую, прыгожую ў сваёй маладосці постаць. Я любаваўся рыкшам і не заўважаў ні яго вазка, ні таго, хто ў вазку. А рыкша заўважыў мяне і пачаў зноў наганяць аўтобус, зноў запаўняючы сабою ўвесь кадр. Ён, здавалася, прасіўся ў кадр, хацеў застацца ў мяне на фотаздымку.

Ды я зноў забыўся шчоўкнуць затворам. Я проста любаваўся праз фотавока прыгожым маладым рыкшам.

Цяпер шкадую, што не маю ягонага фота. Але калі чую, як бяжыць рыкша, мне кожны раз ахвота бачыць не тых потных, знясіленых, падобных на коней рыкшаў, што бягуць і не бачаць свету ў атупелых ад нялюдскай работы вачах, а гэтага — маладога, дужага і прыгожага, у чырвонай, нібы полымя, кашулі.

Чаму — яго? Ды… убачыўшы яго, я чую голас мадам Марыі, яе думкі аб сваім народзе.

Чую яе апошнія словы:

— І ўзвысяць… І ўратуюць…

*P. S.*

Мадагаскар называюць чырвоным востравам. Не ў пераносным, у прамым сэнсе слова. Зямля тут чырвонага колеру.

Калі я, прыехаўшы ў Анцырабэ, першы раз убачыў рыкшаў у чырвоных кашулях, мне падумалася: ці не шыюць яны свае кашулі з палотнішчаў дарог свайго вострава?

Калі «Боінг» падняў мяне над востравам і я ўбачыў унізе чырвоныя стужкі дарог, я падумаў: ці не сшытыя дарогі Мадагаскара з кашуляў рыкшаў?

Па шырокай асфальтаванай вуліцы коціць шыкоўны чорны «сітраэн». Зіхаціць дарагім бляскам заморскі аўтамабіль. У тым самым зіхаценні гаспадар за рулём: чорны фрак, белая сарочка, чорны гальштук. Каля пляча і дамачка, абвешаная дарагімі камянямі, залатой аздобаю. А побач з «сітраэнам» бяжыць у вазку рыкша: босы, худы, у лахманах. Пасівела-стары, а бяжыць. І лахманы на ім чырвоныя.

Чырвоныя лахманы на рыкшы і… чорны «сітраэн»…

Вось і яшчэ раз пераконваешся, які колер варожы чырвонаму.

Углядаюся ў рыкшу. Бачу яго сухія грудзі, тоўстыя жылаватыя ногі, расплясканыя дарогамі ступакі, нібыта падшытыя камяніста-зарагавелай скураю, але не бачу вачэй. Іх рыкша мне не хоча паказваць. І толькі той, апошні, у чырвонай кашулі, які праводзіў мяне, наш аўтобус, з Анцырабэ, не хаваў вачэй…

У яго сініх вачах жыла памяць лемура.

Яны глядзелі на мяне адтуль… з Лемурыі.

## Што такое Лемурыя

А памятаеце паданне, якое 2500 гадоў назад паведаў свету Платон, філосаф старажытнай Грэцыі? Яно аб тым, што на захад ад Гібралтара ў Атлантычным акіяне існавала астраўная цывілізацыя, якая квітнела, маючы выдатныя прыродныя ўмовы, і была густа заселеная людзьмі, але пайшла на дно акіяна ў час надзвычай моцнага землятрусу.

Дык вось Лемурыя — Атлантыда Індыйскага акіяна. І нават, магчыма, далёкая прарадзіма «гома сапіенса». Яе мацярык знаходзіўся там, дзе сёння Мадагаскар, астравы Сейшэльскія, Маскарэнскія і Каморскія, Індастан, Шры Ланка, Мальдзіўскі і Лакадзіўскі архіпелагі. За Індастанам, на месцы Гімалайскіх гор, было мора Цэціс, а з астравамі ён быў злучаны мостам сушы, які цягнуўся на поўдзень у тым месцы, дзе сёння на дне акіяна Аравійска-Індыйскі хрыбет. Паміж тропікамі Рака і Казярога Лемурыя мела трапічны клімат, а дзе горы не пускалі ў глыб мацерыка вільготнае марское паветра, паміж горных хрыбтоў, утвараліся саванны. Выдатныя кліматычныя ўмовы спрыялі жыццю гіганцкіх птушак, такіх, як трохметровы мадагаскарскі эпіорніс, ці маскарэнскі дронт, яйка якога змяшчала дзевяць літраў рэчыва, ці вадзяная курыца з чалавека ростам на тых самых Маскарэнах. Былі і большыя дзівы, але гэтыя птушкі дажылі амаль да нашага дня, і мы зусім мала спазніліся нарадзіцца, каб іх убачыць жывымі. Такія ж цуды жывой прыроды былі ў трапічных лясах Лемурыі. З іх самымі рэвалюцыйнымі аказаліся першыя прыматы. Яны аформіліся 100–70 мільёнаў гадоў назад з насякомаядных жывёлін, што скакалі па дрэвах і ад умоў жыцця ды харчавання набылі пяціпалыя канечнасці, востры зрок і слых. Гэта былі першыя паўмалпы. Пачыналася апошняя эра ў геалагічнай гісторыі планеты — кайназойская. Наперадзе паўмалпу чакаў надзвычай доўгі, дзясяткі мільёнаў гадоў, шлях яе ператварэння ў малпу, малпы — у чалавека-малпу, апошняга — у пячорнага чалавека, неандэртальца.

Ну а лемур? Хто ён? Ці далёкі ён нам сваяк?

А ён і ёсць той самы прымат — паўмалпа. Тупаі і даўгапяты, якія жывуць сёння, таксама прыматы, але толькі за лемурам навуковы свет прызнае права лічыць сябе папярэднікам малпаў, першым звяном ланцуга, увенчанага вобразам сучаснага чалавека.

Ён прагна глядзіць на мяне: крыху малпа, крыху кошка, крыху медзведзяня, крыху чалавек. На ім пушысты шаравата-блакітны кажушок, чорны гальштук. Чарнявыя круглыя вушкі і чарнявы

носік. Хвост і ногі пушыстыя, моцныя. Не легенда — жывы лемур. Толькі краіна яго не Лемурыя, а заапарк Цымбазаза на ўскраіне Антананарыву. Ён сядзіць на другім беразе круглага канала, на астраўку. Да яго падбягае маленькі лемурчык, зусім дзіця. Ускаквае старому на плечы, але стары страсае блазноту на зямлю, аграбае доўгай лапаю, прыціскае да сябе любоўна, нібы чалавек чалавека, гладзіць пяцярнёй па галоўцы, і ў гэты час абодва глядзяць на мяне. Іншыя, яшчэ два ці тры, у іх за спінамі скачуць па дрэвах, гойдаюцца, зачапіўшыся лапамі за галіны, а гэтыя ўставіліся вялізнымі круглымі вачыма, поўнымі непадманнай цікаўнасці, змешанай з наіўнасцю і бездапаможнасцю. Вочы — сінія-сінія.

Але што іх здзіўляе? Тое, што я прыйшоў сюды ў сонечны дзень, калі яны, начныя істоты, павінны спаць? Ім, можа, здаецца, што я таксама павінен спаць тады, як спяць яны?

Мяне гукаюць. Ля выхаду з Цымбазаза стаіць малады баабаб, і дзевяці чалавек не хапае, каб, узяўшыся за рукі, абхапіць яго, — клічуць дзясятага.

— Ну… бывайце, лемурчыкі, — кажу я ім, і яны, усё роўна як мяне зразумеўшы, пачынаюць нервова бегаць па беразе.

Яны не жадаюць, каб я іх пакінуў. Лезуць у ваду, якой баяцца, атрасаюць ад вады лапы, стогнуць, нібы хочуць штосьці сказаць, а сказаць не могуць. Я баюся, каб яны не патапіліся. І хто прыдумаў гэты канал з вадою, што размяжоўвае мяне і лемураў? Навошта востраў, на каторым яны ад мяне адасобленыя амаль як той сотняй мільёнаў гадоў, што аддзяляюць нас, людзей, ад залатога веку лемураў, калі яны ўжо былі, пачалі дарогу да нас, а мы яшчэ аб сабе і знаку не падавалі? Ці ведаюць, што я ім сваяк? Што я ім абавязаны сваім жыццём? Калі не ведаюць, дык, можа, чуюць ува мне сваю кроў? Не гаворыць розум, дык, можа, гаворыць інстынкт? Ці яшчэ штосьці? Столькі загадак!

Мадагаскар — царства лемураў. Тут іх… мангоз, чорны лемур, мышыны лемур, сіфака, ай-ай… А дзе іх столькі яшчэ?.. Мангоз і чорны макі на Каморскіх астравах? Але гэта побач з Мадагаскарам. На Маскарэнах? Але і гэта побач. На астравах Паўднёва-Усходняй Азіі, на Шры Ланка і ў Індыі? Але там — лоры, адны лоры, блізкія сваякі лемураў. А дзе яшчэ? Ды нідзе больш. І разам з тым на Мадагаскары няма ніводнага больш дасканалага звяна паміж лемурам і чалавекам, няма нават малпы. Гіпотэза Лемурыі як прарадзімы «гома сапіенса» магла пахіснуцца? Не пахіснулася. Самыя выдатныя вучоныя-біёлагі XIX стагоддзя, такія, як Дарвін, Гекель, Гекслі, былі перакананыя,

што Лемурыя — месца эвалюцыі не адных лемураў, але і малпы, і чалавека-малпы, і пітэкантрапа, пячорнага чалавека. Многае заблыталі апошнія дваццаць пяць мільёнаў гадоў існавання Лемурыі, калі яна разбуралася, апускалася на дно Індыйскага акіяна. Але і тады эвалюцыя вышэйшай прыроды працягвалася — на яе асколках, на суседніх мацерыках.

Чатыры дзясяткі гадоў самы, відаць, буйны антраполаг XX стагоддзя Луіс Лікі, а пасля і яго сын Рычард Лікі, шукалі сляды чалавека-малпы і старажытнага чалавека. Ледзь не кожны год іх сенсацыйныя знаходкі здзіўлялі свет. І ўсе — на тэрыторыі Кенійскага рыфта, што на Усходне-Афрыканскім беразе, цераз праліў ад Мадагаскара. Луіс Лікі знайшоў рэшткі «гома хабіліса» — старажытнага «чалавека ўмелага», яшчэ не «гома сапіенса», узрост якога аж два мільёны гадоў. Праз дзесяць гадоў Рычард Лікі выкапаў «гома хабіліса» яшчэ больш ранняга. Калі ж пачалі капаць вышэй, у Эфіопіі і Танзаніі, узрост «гома хабіліса» вырас да чатырох мільёнаў гадоў.

Дык ці мала што можа нам расказаць лемур Цымбазазы? Ці такая ўжо бедная яго памяць, а значыць, і ўлада над намі? І не трэба, каб гэта адчуць, вялікай фантазіі. Трэба проста паглядзець лемуру ў яго сінія-сінія вочы.

Тут, у Цымбазаза, расказваюць, як аднойчы сюды прыйшоў з мамаю хлопчык, бляявенькі еўрапейчык у сініх шорціках і белай куртачцы. Гуляючы, мама моцна трымала сынка за ручку, баючыся, каб ён не згубіўся ў джунглях заапарка. Але тое, чаго яна вельмі баялася, якраз і здарылася. Спахапіўшыся, што сына няма, жанчына падняла на ногі ўсю службу. Ужо вечарэла, і пакуль хлопчыка шукалі — сцямнела зусім. Яго шукалі ўсю ноч. А назаўтра, калі сонца паднялося над дрэвамі, нехта з работнікаў заапарка прынёс гумовую лодку, пераплыў на астравок да лемураў і там убачыў дзіўны малюнак: у зарасцях агайвы спалі лемуры і паміж іх — хлопчык. Яго беленькая галоўка ляжала на плячы ў старога лемура, і ў сне хлопчык абдымаў яго ручкаю, а лемурава лапа прыціскала хлопчыка да сябе.

Прачнуўшыся і ўбачыўшы перад сабой чалавека, хлопчык спужаўся і яшчэ мацней прыціснуўся да лемура, а той абедзвюма лапамі прыгарнуў да сябе хлопчыка, гатовы абараніць яго ад чалавека. Яны абодва баяліся разлучыцца.

Пазней, калі ў хлопчыка пыталіся, як апынуўся на востраве, ён паўтараў толькі адно:

— Не ведаю.

Нічога не магла сказаць і маці. Яна, плачучы, уся калоцячыся, зноў і зноў паўтарала, што яе сын страшэнна баіцца вады і звяроў і што яна не трымае дома нават ката і сабаку, каб яны яго калі-небудзь не выпужалі.

Загадка. Кожны чалавек знойдзе на яе сваю адгадку. Але варта дадаць, што лемур для кожнага мальгаша святы і што прыходзяць мальгашы сюды, у Цымбазаза, не так на агледзіны, як на ціхую патаемную споведзь.

*P. S.*

Скажы мальгашу, што ўсе мы, людзі, ад малпаў, і ён табе адразу запярэчыць з далікатна падкрэсленай годнасцю:

— Мы не ад малпаў. Мы ад лемураў.

Якая зайздросная памяць!

Сюды, на сустрэчу з лемурамі, варта ляцець і за дванаццаць тысяч кіламетраў, якія праляцеў я, хоць бы для таго, каб пасля гэтай сустрэчы ў засені Цымбазаза дабрэйшымі і мудрэйшымі вачыма глядзець на чарапах, кракадзілаў, кажаноў, розных іншых зямных абарыгенаў. Каб не адфутбольваць іх косткі і не таптацца па іх скурах, калі яны трапляюцца нам пад ногі.

## Каір… Адэн… Найробі… Рэюньён

Першы гук, першая фраза. Яны заўсёды і кожнаму даюцца цяжка. Вельмі цяжка. Асабліва дзіцяці і пісьменніку.

Прычына не толькі ў нас саміх, дзецях і пісьменніках. Шукаючы першы гук, мы шукаем сябе ў свеце і ў сабе — саборнае рэха свету, у якім жывём, з якім павязаныя безліччу рэалій і таямніц. Нашы першыя гукі даўно жывуць на шляху, дзе мы часовыя спадарожнікі, жывуць незалежна ад нас, але мы, толькі мы самі можам даць ім жыццё на людзях.

На астравах у акіяне я неаднойчы адчуваў, што калі хачу расказаць аб гэтых мясцінах, то пачаткі, гукі і фразы, павінен знайсці тут, знайсці і пераканацца, што яны, як кажуць, не ад казла. І тое-сёе знайшоў. А сумненні засталіся.

Чаму вось пачаў з Мадагаскара? Хіба па дарозе на гэты востраў не было Каіра, Адэна, Найробі?..

Былі. І быў Каір. Але што я магу расказаць пра Каір? Мы прыляцелі туды гадзін у дванаццаць ночы і з гадзіну сядзелі ў самалёце, пакуль яго запраўлялі. З самалёта не выпусцілі нават у пачакальні аэрапорта, і ўсе мае ўражанні ад Каіра — з вышыні трох кругоў над ім, начным, праз ілюмінатар «ТУ-154», перш за ўсё ад паводкі агнёў начнога горада, незвычайна густых і зыркіх,

ядраных, пералівістых у густой і чыстай сінечы егіпецкай ночы, ад не лабавой, але і не цьмянай думкі, што ў гэтай раскошы святла жыве Асуан — даўняя савецка-егіпецкая дружба.

Не шмат? Згодны. Але чытаю Івана Буніна «Святло Задыяка» і дзіўлюся свайму адчуванню. Шмат з таго, што расказвае Бунін, я нібыта ведаю не з кніг, не з чужога голасу, а як сваё, нібыта сам хадзіў па Каіры, бачыў яго доўгія і крывыя вуліцы, забудаваныя крамамі і крамкамі, цырульнямі, майстэрнямі, населеныя загадкавымі людзьмі, асламі, вярблюдамі, сабакамі, заваленыя ўсходнімі таварамі і прадуктамі базары, мячэці і грабніцы, жанчыну з казою, якая прапануе падаіць казу і напіцца сырадою, бачу нават цень ад бясконцай алеі, які дробным карункам бяжыць па спінах каня і фурмана, і, быццам між іншым, па каленях Івана Аляксеевіча Буніна, які і пісьменнікам мне ў гэты момант не бачыцца — проста блізкі да сэрца чалавек.

Адкуль гэтакае адчуванне? Ад сілы і ўлады бунінскага слова? Яго ўладу мы ведаем. Але тут — іншае. Што? Пра гэта ў тым жа «Святле Задыяка»: «Вот я стою и касаюсь камней, может быть, самых древних из тех, что вытесали люди! С тех пор, как их клали в такое же знойное утро, как и нынче, тысячи раз изменялось лицо земли. Только через двадцать веков после этого родился Моисей. Через сорок — пришел на берег Тивериадского моря Иисус… Но исчезают века, тысячелетия, — и вот, братски соединяется моя рука с сизой рукой аравийского пленника, клавшего эти камни…»

Заўважым: рука з рукою злучаюцца ад аднаго дотыку да каменя праз тысячагоддзі. Камень — прамежкавае звяно, у якім ток нашай і сустрэчнай — адтуль, здалёк — памяці. Звяно злучае і ажыўляе. І тое самае — ад дотыку позірку. Быццам ад дотыку рукі.

І цяпер я разумею, што гэта зусім не мала: з вышыні начнога неба ўбачыць заліты электрычнымі агнямі чужы горад. Ды яшчэ ўглядацца ў яго на працягу цэлых трох кругоў палёту на даволі малой вышыні. Дастаткова, каб адчуць сябе ў горадзе і ўбачыць у ім калі не ўсё, дык шмат з таго, што бачыў, блукаючы па Каіры, рускі чалавек Іван Бунін, і нават яго самога ў Каіры.

Затое ў Адэне нас, транзітных, выпусцілі з самалёта на цэлую гадзіну, падвезлі да аэравакзала.

За спіною ляснулі дзверы — я апынуўся ў няўтульна-шэрай зале. Наперадзе ў старых крэслах сядзелі пасажыры — чорныя, жоўтыя, белыя. Мой позірк слізгануў па гэтай шматколернасці твараў, рук, вопраткі і прыкіпеў да змрочнага кута злева — да

дзвюх жаночых постацей у чорным і хлопчыка паміж імі ў белым. Жанчыны нерухома, нібы здані, стаялі на каленях вузкімі і стройнымі, мабыць жа маладымі, спінамі да мяне, да ўсіх людзей, тварамі ў цёмны кут, адна і другая з галовамі накрытыя чорнай паранджою, каля іх стаялі чамаданы і сумкі, на голай бетоннай падлозе паміж жанчын ляжаў на баку, згарнуўшыся, хлопчык у белым касцюмчыку, чарнявы арабчык, а ля галавы арабчыка стаяў шыкоўны японскі магнітафон, у чэраве якога быццам плойма чарцянят скакала і скігатала, захлёбваючыся ў візгліва-рытмічным экстазе. Рок-музыка? Секс-музыка? На магнітафоне ляжала рука жанчыны, накрытая краёчкам паранджы. Пад паранджою ў тых самых рытмах чулліва скакалі нервовыя танклявыя пальчыкі з дагледжанымі, пад чырвоным лакам, ногцікамі.

Я быў уражаны. Не музыкай і не паранджою. Тым, як у адной душы спалучаліся спешчана-разбэшчаная секс-музыка і аскетычна-жорсткі да маралі іслам. Паранджа хавала твар, рукі, але музыка ў той жа час агаляла і зневажала душу. І што, цікава, адбывалася з ісламам, яго ўладаю ў сэрцы ягонай ахоўніцы?

Мне ўспамінаецца Парыж, ЮНЕСКА, восень 1983 года, жанчына ў чорным на камісіі па навуцы, адукацыі і культуры, якая прадстаўляла на сесіі Генеральнай Асамблеі сваю краіну — Іран і сядзела блізка, праз тры чалавекі, ад мяне. Пад чорнай накідкай паранджы яна таксама, як гэтыя дзве, здавалася ўвасабленнем слухмянасці і пакоры. Але калі пачалася дыскусія па праблеме роўнасці паміж мужчынам і жанчынай, яе шыльдачка, нібы мусульманскі клінок, узляцела над галавою, патрабуючы слова, і тое слова трэба было пачуць. Іранка горача, нібы тут вырашаўся лёс яе народа, даводзіла, што эмансіпацыя жанчыны, як яе разумее новы свет, роўнасць жанчыны і мужчыны, якую насаджае Еўропа, — прыніжэнне жанчыны, знявага яе прыроды. У жанчыны свой твар, свая місія. Правы мужчыны ёй не патрэбны. Жанчына і мужчына — гэта Месяц і Сонца. Сонца не можа жыць без Месяца, як Месяц не можа існаваць без Сонца. Самае большае, што цывілізацыя павінна даць жанчыне, дык гэта абараніць яе ад ілжывай эмансіпацыі і культуры гвалту. Трэба абараніць яе душу, твар, прыроду, яе права быць жанчынаю і выконваць сваю найвышэйшую жаночую місію.

Там, у Парыжы, я чуў словы і думкі. Тут, у Адэне, я ўбачыў іх вытокі і сэнс. Не будучы сынам ісламу, я зразумеў, хай сабе не так, вядома, глыбока, як разумеюць арабы, трывогу ісламу.

А разам з тым — зноў сумненне: ці магу я да канца зразумець чужое? Тое, да чаго ўпершыню дакранаюся? Ці магчыма гэта наогул, калі перад табою — чужое?

Востраў Рэюньён… Мы ляцелі з Мадагаскара на Маўрыкій, і тут, на востраве заморскага дэпартамента Францыі ў Індыйскім акіяне, вядомым у свеце французскай ваенна-паветранай базай і надта высокімі цэнамі на любую дробязь, прызямліліся, каб нейкую гадзіну правесці ў аэрапорце. Людзей было шмат. Каля кіёскаў, расквечаных маляўнічай французскай рэкламай, яны шукалі, каб што купіць на ўспамін пра яшчэ адзін востраў свайго падарожжа. І ніхто нічога не купляў…

Пасярод туалетнага пакоя стаяў, шырока расставіўшы ногі, здаровы малады паліцэйскі. У бялюткай, з кароткімі рукавамі, сарочцы, белых шортах, з чорнай кабурой на баку, з якой, расшпіленай, тырчала-паблісквала ручка рэвальвера. У зубах — тоўстая сігара, рукі счэплены адзаду ў ёмкі двайны кулак. Паліцэйскі тупа, што бык, глядзеў у спіны мужчынам, якія, адвярнуўшыся ад яго да сцяны, стаялі кожны над сваім пісуарам. Твар у паліцэйскага быў засяроджана-ружовы і квадратна-нямы, як цагляная сцяна. Адны сківіцы варушыліся, калі ён смактаў сігару. Мігам успомніліся кадры — ці мала было іх у тэлевізары? — дзе людзі стаялі каля сцен, тварамі ў сцены, а ў іх за спінамі — паліцэйскія ці салдаты. Успомнілася і падумалася: можа, гэты таксама ўяўляе сябе тым героем, што цэліць у безабаронныя спіны? Можа, тут, у сарціры, трэніруе калі не руку, дык вока?

Вось і зразумей ты яго — сарцірнага, пры пісуарах, героя?

Адным словам — чужое…

Але ў Найробі, калі перад самым адлётам самалёта я заблудзіў у лабірынце вакзала, снуючы паміж кіёскамі з цудоўнымі сувенірамі Кеніі, да мяне раптам падышоў прыгожы высокі негр, па-сяброўску ўзяў за локаць, паказаў на гадзіннік, на самалёт за шырокім акном, на лётнае поле, па якім пасажыры ішлі на пасадку, і павёў у той бок, на тое самае поле. Я здзівіўся: адкуль ён дазнаўся, што я ці то заблудзіўся, ці то забыўся на пасадку ў самалёт? Нават заўважыў, што я, ідучы побач з ім, увесь час кідаю позіркі на вітрыны кіёскаў з сувенірамі Кеніі — спыніўся. Зноў паглядзеў на гадзіннік, усміхнуўся мне добрым прыгожым тварам і падышоў да кіёска, вітрыны якога былі з усіх бакоў устаўлены звярамі Кеніі, выразанымі з чырвонага сандалавага дрэва. Сланы, ільвы, тыгры, леапарды, насарогі, малпы, антылопы, сайгакі, жырафы, газелі, зебры, буйвалы, гіены, змеі, кракадзілы — усе насельнікі саваннаў, джунгляў, кратараў вул-

канаў — у любых позах, любых памераў, рабілі маленькі кіёск своеасаблівым заапаркам. Тут можна было забыцца на самалёт, калі табе яшчэ і скажуць, што такой разьбы па дрэве, такіх звяроў у дрэве ты больш нідзе не знойдзеш — ні на Мадагаскары, ні на Сейшэлах, ні на Маўрыкіі.

Падняўшыся на трап, я азірнуўся: высокі негр стаяў ля выхаду з аэравакзала — махаў мне рукою і ўсміхаўся. І я падумаў: вось — таксама чужы, але і ён мяне зразумеў, і мне яго шкода тут пакідаць. І чаму гэта так?

У самалёце, а гэта быў агромністы «Боінг-747» авіякампаніі «Эр Франс», мне прыгадаўся літаратурны пасаж Міхася Стральцова з яго цудоўнага «Дня ў шэсцьдзясят сутак»: Мурманск, стадыён, часопіс з «вілястым, гнуткім, як вялізная рыбіна, прозвішчам — Хемінгуэй», пад прозвішчам — «Свята, якое заўсёды з табой», і там, у тым свяце, — ягоны, Хемінгуэя, Парыж, маленькія кафэ, вулачка Нотр-Дам-дэ-Шан, дом нумар 113, у тым доме, над лесапілкай, пакойчык і ў ім ля расчыненага акна чалавек з прасветленым тварам, які пісаў і пісаў, і глядзеў за акно на мокры пасля дажджу брук, на статак коз, пастуха, сабаку, які трушком бег за статкам. Чаму раптам прыгадалася ўсё гэта? Што агульнага яно мае з тым дабрадушным неграм ці з белым фараонам? Ды яшчэ, прыгадаўшыся, засталося чэпкім і цёплым, такім патрэбным для душы быццём, што і вярнуўшыся ў Мінск, я разгарнуў стральцоўскі «Дзень» з тым пасажам: «І ўсё было так выразна, проста, зразумела мне на тых вуліцах, у тых рэстаранчыках і кафэ, на скачках, і жывое пачуццё чалавека, што праз многа год успамінаў усё гэта, перадавалася мне: я бачыў яго такім, якім ён быў у юнацтве, якім быў ці хацеў быць цяпер, калі расказваў пра гэта, але я ведаў, што гэтага чалавека ўжо няма, і неўсвядомлена востра шкадаваў, што Парыж, які ён так любіў, ва ўспамінах будзе цяпер падуладны не яму, а мне, — але гэта ўсё адно быў ягоны Парыж, той пары, калі ён быў малады і вучыўся пісаць сапраўдную прозу…» І гэтак далей.

Вось яно як: «І ўсё было так выразна, проста, зразумела мне… перадавалася мне…»

Амаль як у Буніна, калі ён датыкаўся да каменя і гаварыў з тысячагоддзямі. Як у мяне з Каірам — праз Буніна, з Адэнам — праз іранку ў ЮНЕСКА, з высокім стройным неграм у Найробі — праз… Тут — праз каго? Праз што?..

Сланы, ільвы, тыгры, леапарды, насарогі, антылопы, сайгакі, зебры, жырафы, буйвалы… ажываюць у маіх вачах, тыя самыя, што глядзелі на мяне з вітрынаў у кіёсках вакзала. Яны імчаць

па вечназялёнай саванне ўжо не чырвоныя, з сандалавага дрэва, а ва ўсёй раскошы колераў афрыканскай прыроды, нібы ў неверагодна маляўнічых кінакадрах Бернгарда і Міхаэля Гржымекаў, і я ведаю, што піраміда вулкана, якая ўзвышаецца над зялёнай саваннай і імклівым бегам дзікай жывёлы, называецца Нгарангора — назвай, падобнай на няроўны частакол гукаў, — што гэта Серангеці, мара ўсіх нармальных душою людзей, што гэта ўсё там, дзе вышэй за Нгарангора ў вечна сіняе неба ўздымаецца сусветна вядомы шасцітысячнік Кіліманджара, тое месца, дзе на сваім маленькім самалёціку, які называўся «Качкаю», загінуў Міхаэль, любімы сын не аднаго Бернгарда, але і мільёнаў аматараў прыроды, і што там, у тым самым месцы, дзе зараз бяжыць столькі выратаваных імі, Міхаэлем і Бернгардам, цудоўных звяроў, ёсць яго, Міхаэлева, магіла. Я ведаю, што Серангеці — гэта Танзанія, але ж ведаю і тое, што гэта і Кенія, бо гэта зусім побач, граніца паміж імі, суседнімі афрыканскімі дзяржавамі, даволі адкрытая, і калі неяк аднойчы «Качка» Міхаэля згубіла над Нгарангора левае кола шасі, дык рамантавацца ён паляцеў з адным правым колам у Найробі — самы блізкі аэрапорт, той, на якім і я аднойчы прызямліўся і аднойчы ўзляцеў. Дык, можа, Гржымекі, іх цудоўныя кнігі і фільмы — звяно паміж мною і неграм у аэрапорце Найробі? Нават, можа, высокі стройны негр быў адным з неграў-масаі, якіх так цанілі і любілі Гржымекі? І чаму б мне не паверыць ва ўсё гэта, калі хочацца верыць?

Я ў гэта веру. Бо таксама веру ў звёны, якія злучаюць чалавека з чалавекам. Яны існуюць. І часам нагадваюць пра сябе. Хоць нельга сказаць, што яны існуюць паміж усімі людзьмі. Няма ніякага звяна паміж мною і тым сарцірным фараонам на Рэюньёне.

Людзей яднаюць ці раны і боль, ці дабрата і любоў. Нашы раны, наш боль, наша любоў яднаюць нас з усім параненым светам. Як і са светам, які любіць і спадзяецца.

*P. S.*

Маўрыкій. Інстытут імя Махандаса Гандзі. Сустрэча з маўрыкійскімі пісьменнікамі: паэтамі, раманістамі, навелістамі, драматургамі, крытыкамі.

Што іх хвалюе?

Ёсць боль, які яны не хаваюць: размежаванасць народа. Па астравах: Маэ, Сілуэт, Праслен, Ла-Дзіг і іншыя. Па нацыянальнасцях: англічане, французы, крэолы, індусы, арабы, кітайцы і іншыя. Паэтэса Ліян Беркло, якая акрамя вершаў піша навелы і казкі, піша на французскай і англійскай мовах, кажа, што калі

няма адзінства народа, то няма і самога народа. Але як аб'яднацца? Астравы ў адзін мацярык не аб'яднаеш. З усіх моў выбраць як дзяржаўную адну мову? Зліць культуры народаў, якія насяляюць Маўрыкій, у адну культуру? Былі і такія думкі. Але ад іх вельмі хутка адмовіліся. Ліян Беркло кажа, што гэта яшчэ цяжэй, як звесці астравы ў адзін мацярык, бо калі людзі страцяць сваю народную мову і сваю культуру, яны немінуча страцяць сваю душу, а людзі, у якіх няма душы, ніколі не паразумеюцца, не аб'яднаюцца, яны стануць вечнымі ворагамі адзін аднаму.

Говін, які напісаў першы на Маўрыкіі раман «Маратхі», кажа, што аб'яднаць народ можна толькі вакол адзінага для ўсіх духоўнага ідэалу. З ім згодны ўсе. Але дзе той ідэал? Хто яго знойдзе?..

Сакутала Хавалдар, якая піша філасофскую паэзію, дружыць з работнікамі савецкага пасольства на Маўрыкіі, разважае так:

— Гэта праблема не толькі наша. Даць чалавецтву годныя духоўныя ідэалы — праблема ўсёй планеты. Яна і ваша, — глядзіць мне ў вочы. — Людзі павінны навучыцца разумець адзін аднаго, калі хочуць жыць як людзі.

А Говін дадае:

— Ідэал, які нас аб'яднае, можам знайсці мы, пісьменнікі. І мы, — ён акінуў позіркам усё застолле, — яго шукаем.

Калі нас знаёмілі, ён назваўся коратка:

— Коку. Пішу навелы, драмы.

А чым ён мяне здзівіў? Вось гэтым:

— Нас, маўрыкійцаў, усяго адзін мільён. І пісьменнікаў у нас столькі, каб усіх пасадзіць за гэтым сталом. Але калі мы святкавалі 150-годдзе вялікага гуманіста Тагора, то напісалі да юбілею дваццаць пяць новых п'ес. У нас няма ніводнага вялікага тэатра, падобнага на вашы, савецкія, але да тэатральных падмосткаў пад адкрытым небам мы вывелі ўвесь народ. Дзе не хапала артыстаў, там сваіх герояў ігралі самі пісьменнікі. Мы паставілі спектаклі на ўсіх мовах астравіцян і шмат гэтым зрабілі, каб ідэямі Тагора аб'яднаць свой народ…

Ну і як тут не прыгадаць, што яшчэ пятнаццаць гадоў назад Маўрыкій быў калоніяй Англіі?..

І як не падумаць цвяроза пра нас, беларусаў? Як у святле ўсяго гэтага зразумець хоць бы той факт, што ў нашых тэатрах не ўбачыш ніводнай пастаноўкі пра свайго — не запазычанага, а свайго! — найбуйнейшага асветніка і гуманіста Францішка Скарыну?..

Калі б я ў гэтым прызнаўся Коку, як бы зразумеў ён мяне і ўсіх нас, беларусаў?..

## Востраў Праслен. Схоў Адама і Евы

З вострава Маэ на Праслен звычайна дабіраюцца паромным суднам «Лэдзі Эсм», якое праз дзень, тройчы на тыдзень, адчальвае ад порта Вікторыя, альбо на рыбацкай шхуне, калі ўдасца знайсці рыбака са шхунаю і сысціся з ім у цане. Падарожжа па вадзе, вядома, цікавейшае за падарожжа самалётам, які таксама дастаўляе турыстаў на Праслен.

Мы ляцелі самалётам. Але ніхто з нас не быў расчараваны. І не таму, што на рукі кожнаму выдалі па самалётным білеціку, адваротны бок якога ўпрыгожваў каляровы фотаздымак загарэлай красуні, — усё роўна як сама Ева, пакінутая Адамам, яна ляжала пад пальмамі на пляжным пясочку і летуценна глядзела ў блакітную смугу акіяна, быццам цябе, уладальніка шчаслівага білета, якраз і чакала. Цікавым быў сам самалёт: маленькі, што цацка, не вышэйшы за сваіх пасажыраў, размаляваны і чысценькі, такі слаўны, што кожнаму хацелася з ім у абдымкі пастаяць перад фотаапаратам. Наш «кукурузнік» побач выглядаў бы гігантам. Салон па шырыні якраз на два чалавекі, і, увапхнуўшыся ў крэсла, ты не ўстанеш, кроку не зробіш, бо за спіной пасажыр, уперадзе пасажыр, збоку пасажыр, а з чацвёртага боку, ля самага крэсла, табе ў плячо ілюмінатарам упіраюцца дзверцы. Выхад для кожнай пары пасажыраў свой, уласны. І рамянём не абавязкова прышпільвацца, бо калі самалёт кульнецца, дык куды ты вылеціш з крэсла? Няма куды. Але і персанальныя дзверцы для кожнага пасажыра — не ўся любата. За персанальным ілюмінатарам — прастора акіяна, якую бачыш з вышыні ўсяго некалькіх соцень метраў. Бачыш тое, што нідзе не ўбачыш, адно тут, адно з гэтага самалёта, і толькі, мабыць, сёння, у гэты ранішні час. Найбольшае дзіва — акіян пад крылом, яго пастаянная зменлівасць, гульня колераў і адценняў, раптоўнае з'яўленне на ім нечаканых малюнкаў і сілуэтаў. Неба з усіх бакоў завалакла смуга, праз яе, здаецца, не прашыцца сонечнаму промню, але акіян усё роўна смяецца з цябе, чалавека, што ты не заўважаеш, як мяняецца ў небе святло, як яго мяняе нябачнае сонейка, смяецца не толькі гульнёю святлаценяў на сваім блішчаста-лускаватым целе, але пералівамі колераў, іх пастаяннай гульнёю, якая, вядома, найперш ад прысутнасці сонца, ад яго гульні з паветрам, акіянам, усім жывым на вадзе і ў вадзе, у паветры і на лапінках астраўкоў. То блакітнае, то сіняе, то жаўтлява-вас-

ковае, янтарнае, то заружавелае, а то з адных зялёных колераў, зялёных і розных, якіх ты, аказваецца, зусім дасюль не бачыў, назваць іх не можаш, бо слоў, каб усе іх назваць, у цябе проста няма. І па ўсёй гэтай раскошы вады і святла — бялюткія кветкі. Спачатку ўспыхвае белая кропка, а потым з яе распускаецца вялізная белая кветка. Распусціцца і пагасне, быццам згарыць увачавідкі — кіпенна-белая, кіпенна-пеністая. Але далей — яшчэ адна, і яшчэ адна, і яшчэ, і яшчэ, і няма канца-краю бясконцай гірляндзе кветак. Белае — на блакітным, зялёным, смарагдавым, сінім, янтарна-жоўтым: і невыказная прыгажосць, і таямнічая асэнсаванасць. Тут свой рытм, свая мелодыя, якую не чуеш — адчуваеш. Казачныя кветкі распускаюцца і адцвітаюць не абы-дзе, не хаатычна, а па строгай канве, па шнуры, невідочным, дзе раўнюткім, а дзе дугою выгнутым. Спачатку думаеш-гадаеш: што ж гэта такое, чыя работа, дзе той мастак-дырыжор? А пасля здагадваешся, што гэта з глыбіні акіяна бягуць адна за адной хвалі, накатваюцца на каралавыя рыфы, рассыпаюцца на рыфах, пеняцца, самі робячыся падобнымі і на гіганцкія каралы, і на вялізныя белыя кветкі, якія то распускаюцца, то адцвітаюць. І толькі цяпер успамінаеш, што заслона з каралавых рыфаў якраз і робіць Сейшэльскія астравы сусветна вядомымі пляжамі, якія не ведаюць ні штормаў, ні халадоў.

Яшчэ адна белая кветка распусцілася пад крылом самалёта на блізкай сонечна-блакітнай вадзе і не пагасла, як усе тыя, ранейшыя, плыве самалёту насустрач. На кветцы — чалавек: чорны, крэол ці негроід, у чырвоных шортах ці плаўках. Нібыта казачны хлопчык, ён ляжыць на белай кветцы і махае самалёту рукой, у якой сонца капелюша. Здаецца, я бачу яго белыя і вясёлыя, нібы тая пена на рыфах, зубы і вочы. Белая кветка — ветразь. Пад ёю гайдаецца такая ж белая шкарлупіна корпуса шхуны. Зразумеўшы усё гэта, я не магу зразумець, чаму яхта ляжыць на баку? Можа, яе паваліў на бок вецер і яна тоне? Але тады чаму яе капітан весела вітае самалёт капелюшом? Ветразь збіраецца ў лінію. Падымаецца з вады? Капялюш становіцца большым за чалавека, які пад капелюшом ужо стаў на ногі. Цяпер можна здагадацца, якая там, на вадзе, гайданка, як весела зараз плысці на Праслен у рыбацкай шхуне ці ў яхце, нават — на «Лэдзі Эсм».

Шхуна пад белым ветразем знікае за краем ілюмінатара, і там, дзе яна нядаўна з'явілася, выплывае, нібы з глыбінь акіяна, востраў. Ён невялічкі. Першым позіркам яго схопліваеш адразу ўвесь. Нават зусім маленькі. Ён здаецца не то горадам, не то крэпасцю, а можа — маленькай дзяржаваю, падобнай на

Ліберталію, бо там для гэтага ўсё ёсць: лес, палеткі, гранітныя скалы, можа, нават з пірацкімі скарбамі, крапасныя сцены, вежа касцёла, яхты і лодкі ля берага, дамкі пад пальмавымі стрэхамі. Мужчыны, чалавек дзесяць, цягнуць з акіяна на бераг доўгую сець, мабыць, з рыбаю. А з вяршыні гары, на якой касцёл, з маленькага лугу, пакручастым серпанцінам уніз да акіяна бяжыць, рассоўваючы трапічныя зарасці, чырвоная, нібы доўгае палотнішча сцяга, дарога. Там, унізе, ходзяць пад пальмамі быкі і каровы. Я хапаюся за фотаапарат і не паспяваю: чырвоная стужка разам з прывязанымі нібыта да яе быкамі, каровамі, дамкамі, скаламі, лесам і касцёлам знікае за ілюмінатарам.

На востраве, але не тым, што нагадаў мне дзяржаву ў мініяцюры, куды большым, кропка якога з назваю Праслен ёсць нават на картах акіяна, нас чакае маленькі аўтобус. Развітаўшыся з птушкаю-самалётам, мы трапляем пад крыло птушкі Сіцыліі — чарнявай таўстухі-крэолкі, якая цяпер будзе нашым гідам. Па праву куды большаму, як у гіда, ці, дакладней, без усякага права яна весела, нібы табун курэй, заганяе ўсіх нас у аўтобус, пляскаючы даланёй каго па спіне, каго ніжэй: «А кыш-кыш!.. А кыш-кыш!..» І як толькі аўтобус кратаецца, пачынае расказваць:

— Я Сіцылія. У маіх жылах крэольская кроў. Тая, што ў таты і мамы. Вы бачылі фільмы пра Тарзана? Яны здымаліся на нашым востраве, у тых джунглях, куды я вас вязу. А Чыту помніце? Дык вось Чыта — гэта я. І не смейцеся. Чыта — гэта я, Сіцылія.

А мы не смяёмся. Не паспяваем — смяецца яна. Калі нехта пачынае разважаць, што фільмам пра Тарзана гадоў куды больш, як ёй, Сіцыліі, яна абрынае на нашы галовы яшчэ адну нечаканасць:

— Мы едзем у батанічны сад. Гэта рэзервацыя марскога какоса, сад Эдэма, дзе расце тое дрэва пазнання, якое спакусіла Адама і Еву. Вы скажаце, што сусветны патоп змыў сад Эдэма? Але Біблія пра гэта не гаворыць. Сад на вяршыні вострава і таму не быў затоплены. У індыйскім храме ў Бенарэсе ёсць крыніца пазнання, ваду з якой чэрпаюць кубкам, зробленым са шкарлупіны двайнога какосавага арэха, які расце толькі на Праслене. Такім чынам… прабачце, прыехалі!..

Пакуль маўчыць Сіцылія, чакаючы, калі мы выйдзем з аўтобуса, каб весці нас да дрэва, пад якім саграшылі Адам і Ева, варта згадаць, што пра гэтае дрэва кажа гісторыя, да якой Сіцылія не мае адносін.

Здавён-даўна цуда-арэхі знаходзілі на Малабарскім беразе Індыі, на ўзбярэжжы Цэйлона і Мальдзіўскіх астравоў, але дрэ-

ва, на якім яны выраслі, ніхто не бачыў. Ствараліся легенды. Антоніо Пігафета, удзельнік гістарычнага плавання Магелана, першым з еўрапейцаў расказаў легенду, пачутую ад лоцманаў на востраве Ява: «Нам расказвалі, што ніжэй Вялікай Явы ў напрамку на Поўнач, у Кітайскім заліве, які старажытныя людзі называлі Сірус Магнус (Вялікі заліў), жывуць птушкі гаруды. Яны такой велічыні і сілы, што ўсцягваюць буйвала ці слана на дрэва, якое расце ў месцы Пусатавер. Само дрэва мае назву кам пангангі, а плод яго — буа пангангі. Ніводная джонка ці нейкая іншая лодка не можа наблізіцца да таго месца, дзе расце дрэва, — не пускаюць віры. Аб дрэве дазналіся пасля таго, як адну джонку зацягнула ў вір і яна разбілася на трэскі, а экіпаж затануў, і толькі адзін хлопчык ўратаваўся, прывязаўшыся да тоўстай дошкі. Нікім не заўважаны, ён забраўся на дрэва і схаваўся пад крылом птушкі. На другі дзень усе птушкі з дрэва паляцелі лавіць буйвала, а хлопчык застаўся. Ён і расказаў пра іх, а таксама пра дрэва, плады якога знаходзяць у моры».

Каралі, султаны, правадыры плямёнаў пілі толькі з кубкаў, зробленых са шкарлупіны двайнога какоса, бо лічылі, што атрута траціць у гэтым кубку злую сілу. Сарцавіну арэха высушвалі, малолі, змешвалі з мукою ад рагоў насарогаў, аленяў, з чырвоных каралаў і гэтым лякарствам лячылі хваробы. У 1634 годзе ў Амстэрдаме выйшла кніга з рэцэптамі лячэння арэхам дзясяткаў хвароб. Асабліва высокую цану арэху давалі за яго здольнасці ўмацоўваць мужчын, старых і хворых рабіць маладымі і здаровымі, што падрабязна апісвалася ў кнізе падарожжаў італьянца Францэска Карлеці вакол зямлі. Усё гэта стварала ажыятаж вакол двайнога арэха. За яго плацілі караблямі з золатам і замкамі. Яго шукалі купцы і піраты. На Мальдзівах смяротная кара чакала таго, хто схавае арэх ад султана. Самай высокай узнагародай за подзвігі быў арэх.

Страсці вакол легендарнага арэха разгараліся. У 1768 годзе караблі французскага капітана Дзюфрэна «Ла-Дзіг» і «Кур’ёз» прычалілі да берагоў вострава Праслен і натрапілі на сейшэльскія пальмы з двайнымі какосамі. Дзюфрэн нагрузіў судны арэхамі і паплыў да берагоў Індыі, прадчуваючы там неверагодны бізнес. Але, убачыўшы караблі, паўнюткія арэхаў, ды яшчэ дазнаўшыся ад матросаў, што арэхі растуць на звычайным востраве, расчараваныя індыйцы не раскашэліліся. Дзюфрэн вярнуўся з пустой кішэняй.

І ўсё ж легенда пра арэх не забылася.

Англійскі капітан Чарльз Гордан прыплывае на Сейшэлы, каб вывучыць магчымасці будаўніцтва ваенна-марской базы Брытанскай імперыі. Будучы адукаваным чалавекам, ён вывучае гісторыю і геалогію астравоў і падтрымлівае думку, што Сейшэлы — рэшткі сухапутнага моста, які некалі злучаў Афрыку з Індыяй. Асабліва ўражвае яго даліна Вале-дэ-Мэй на Праслене, дзе растуць двайныя какосы. Ён адразу паверыў у тое, што Вале-дэ-Мэй — сад Эдэма, а дзівосная пальма — дрэва пазнання дабра і зла, пад якім саграшылі Адам і Ева. У гэтым яго пераканала форма арэха: у зялёнай шкарлупіне, на дрэве, арэх нагадвае сэрца, сцвярджаючы ўладу дабра і любові, а скінуўшы з сябе зялёную абалонку — жаночы таз і сцёгны, якія і навялі набожнага афіцэра на грэшныя думкі. Гордан піша пра адкрыты ім сад Эдэма. Яго довады не пераконваюць, але іх сенсацыйнасць робіць сваё — на востраў Праслен рушылі паломнікі.

У пальмавых джунглях, куды ніколі не заглядае сонца, дзе цёмна, нібы гэта позні вечар, Сіцылія прарэзлівым, як у тае Чыты, голасам збірае нас да сябе. Яна спрабуе падняць з зямлі двайны какос — крэкча і рагоча. А ён сапраўды цяжкі: больш за пуд. Кожнаму ахвота патрымаць яго ў руках, паважыць.

— А цяпер глядзіце па пальму. Яе трох лісцікаў хапае, каб накрыць дом крэола. Арэхі? Яны выспяваюць за сем гадоў. Зваліўшыся на зямлю, арэх шэсць месяцаў скідае з сябе зялёнае футра, а як скіне, тады з чэрава, паміж дзвюх палавінак, прабіваецца таўсты, з наш вялікі палец, парастак. Праз васямнаццаць месяцаў з зямлі паказваецца ствол будучай пальмы. Якія пальмы! Трыццаць метраў у вышыню! І жывуць восемсот гадоў!..

— Але як Ева сарвала спакуслівы плод, калі ён гэтак высока вісіць? І як яна ўтрымала яго ў руках? І як магла ад яго адкусіць, калі яго і сякера не адразу раскусіць?

Пытанні каварныя. Але Сіцылія не губляецца:

— Мачэтэ! На Ла Дзіг вы ўбачыце, як здабываецца копра какосаў. Там арэх звычайны. Але… Мачэтэ!..

Яна яшчэ не адчувае, што трапіла ў пастку.

— Значыць, у Евы было мачэтэ?..

Нехта пырскае ад смеху. Сіцылія замаўкае, насцярожаная, але, мабыць, не была б яна Сіцыліяй, калі б нейкія пытанні маглі яе загнаць у кут. Яна таксама рагоча, званчэй за іншых. І застаецца сама сабою:

— Дрэва з арэхамі — жаночае. А побач — мужчынскае. Як у людзей: тут жанчына — тут мужчына. У пальмы-мужчыны свая прыгажосць, таксама незвычайная. Які парастак вісіць —

бачыце? Калі хто-небудзь з вас асмеліцца застацца тут на ноч, ён можа ўбачыць, як кахаюцца пальмы — ён і яна. Як людзі.

Жанчыны сарамліва замаўкаюць. Здаецца, што ім Сіцылія раты заткнула. Але не былі б яны жанчынамі, калі б верх над імі не ўзяла цікаўнасць на мяжы з рызыкай:

— А вы самі, Сіцылія, ці бачылі?..

О, гэтая жаночая цікаўнасць! Яе Сіцылія добра ведае. Яна ведае, што за першым пытаннем будуць другое і трэцяе — не менш каварныя. І — падалей ад рызыкі — бяжыць камяністай сцежкаю ад пальмаў у зарослую кудлатымі раслінамі лагчыну, дзе на камянях звініць ручай. А мы? Куды ж мы ад Сіцыліі? І мы за ёю. Наганяем за ручаём. Яна стаіць, цяжка дыхаючы, у змрочных зарасцях высачэзнай травы з вялізным зялёным, абляпаным жоўтымі плямамі, лісцем.

— Дыфенбахія. Яе не чапайце. Проста запомніце. З ёю лепш не сустракацца. Калі на адну секунду ўзяць яе ліст на язык, доўга не будзеш гаварыць. Знямееце. Ёю карыстаюцца, каб забіць ворага.

Нікому няма ахвоты ні жартаваць, ні затрымлівацца тут, каля дыфенбахіі. Асабліва мне, беларусу, гэтым чарнобыльскім летам. А выбраўшыся з зарасцяў, ахвота спыніцца, пабыць аднаму.

Змрок. Неба не відаць. Сонца сюды не заглядае. Зямля голая, чорная, бо трава, не абласканая сонцам, расці не хоча. Адны дрэвы, высозныя і густыя, пераважна магутныя сейшэльскія пальмы, лісце якіх густа сплялося ўверсе паміж сабою ды яшчэ з невядомымі мне раслінамі. Жывая страха над галавою. І птушак не чуваць. Не відаць і не чуваць нават славутага чорнага папугая. А ён жа тут, у лагу Вале-дэ-Мэй, павінен быць, павінен нас вітаць, бо жыве толькі тут, на востраве Праслен. Толькі тут і нідзе больш ва ўсім свеце жыве і пальмачка кургуліга, якая ніколі не вырастае вялікай, і велічная дэкенія, самая стромая і высокая з усіх пальмаў, і панданус — пальма на хадулях. Нібы пад цыркуль акрэсленым конусам карані пандануса вылазяць з глебы і на частаколе гэтага конуса неяк умудраюцца ўзняць над зямлёю масіўнае дрэва. З двухсот трыццаці відаў мясцовых раслін амаль палова, аж за сотню, эндэмікі — растуць толькі тут, на Сейшэлах.

Згубіўся над галавою апошні лапічак неба, схаваўся за мудрагелістым спляценнем вечназялёных раслін-гігантаў, — і прыходзіць нечаканае, нейкае дзіўна-вусцішнае, адчуванне свету і сябе самога. Свет, у якім жыў дагэтуль, становіцца раптам далёкім успамінам, а выйсця са змрочных джунгляў няма, і ты

цяпер не там, дзе быў учора, пяпер ноеў каўчэг табе бліжэйшы за кватэру ў Мінску. Нават самалёцік, які закінуў сюды, на Праслен, з Маэ, — міраж, і Сіцылія — міраж, і ўсе яе казкі-байкі пра сад Эдэма, Адама і Еву — міраж. Ты ў зусім іншым свеце, як быццам новым, але дагістарычным, якім раней не даражыў, які, можа, таптаў і забываў, як свет прымітыўны і дзікі, а цяпер шкода яго, шкода і сорамна, што свет гэты табою страчаны, што ты яго забойца, забойца мінулага, і, значыць, ты ніякі не стваральнік будучыні, бо без мінулага няма і не будзе нічога добрага ў тваёй будучыні. І цешыць хіба тое, што гэты асколачак страчанага свету яшчэ пакуль з табою, яшчэ нейкай кволай ніткаю звязвае цябе з тым далёкім сінім святлом, якое пашчасціла ўбачыць у вачах лемура, убачыць і зразумець як сваё.

А можа, ты яшчэ не ўсё затаптаў, зруйнаваў, забыў? Можа, яшчэ ёсць нейкая хоць малая надзея?

Стаіш і гадаеш, як згубіўшы адзіную да самога сябе сцежку.

Ці, можа, чакаеш чорнага прасленскага папугая?

За ручаём, за зарасцямі дыфенбахіі, у ахрыплае горла крычыць незнаёмая птушка. Гэта не папугай. Можа, эпіорніс, гіганцкая, роўная са сланом, птушка, што жыла на Сейшэльскіх астравах яшчэ нядаўна, у XVII стагоддзі, адно яйка якой было з вялікае, на дзесяць літраў, вядро? Можа, яна?

Не, імя ў гэтай птушкі, што гукае за ручаём, зусім іншае — Сіцылія. Гэта яе голас, адбіўшыся ад глухой сцяны джунгляў, нейкім дагістарычным рэхам знаходзіць мяне пад змрочнай страхою з лісця марскога какоса.

*P. S.*

Француз, мой сусед па атэлі «Аберж Клаб», кінарэжысёр, расказаў, як плаваў на маторнай лодцы з мясцовым рыбаком на блізкія ад нашага берага астравы і як там іх сустрэлі марскія чайкі. Птушкі былі ім, людзям, так рады, што выраем пасыпаліся ў лодку, хадзілі ў ёй адна па адной, абселі гасцям спіны, плечы, галовы, самі ішлі ў рукі. А калі адплывалі ад вострава, чайкі доўга суправаджалі лодку. Яны кідаліся ў хвалі, ныралі, лавілі дробную рыбу, падымаліся з рыбаю ў паветра і скідалі яе ў лодку. І вельмі хутка загрузілі лодку рыбаю.

Калі француз пра гэта расказваў, яму не ўсе верылі. Ён абяцаў пазней паказаць пра гэта кінастужку, знятую на тым востраве, але яму ўсё роўна не вельмі верылі. А я верыў. Чаму?

Гэтую веру мне даюць свае назіранні над птушкамі, звярамі, раслінамі астравоў, над іх жыццём. Дае гэтую веру і Бенгт

Шагрэн, выдатны шведскі натураліст, які пра тое самае пісаў у кнізе «Асколкі кантынента». Ён неяк жыў на востраве Маэ, блізка ад нашага атэля, і адсюль плаваў на астравы, таксама Сейшэльскія, Кузен і Кузіна, дзе жывуць вялізныя калоніі чаек і крачак. І вось што здзівіла яго, вопытнага арнітолага: «Калі, набліжаючыся да вострава, мы зайшлі ў маленькую гавань, з усіх бакоў атуленую рыфамі, сярод вялізных птушыных базараў, дзе дагэтуль птушкі спакойна лавілі рыбу, пачаўся пярэпалах. Неўзабаве мы апынуліся ў палоне шматтысячнага крылатага «камітэта па прыёму гасцей», які складаўся з асляпляльна белых чаек і карычнева-шэрых, але белалобых, буйных і дробных крачак, якія набіліся ў нашу лодку, нібы сабраліся ўчыніць ёй і нам рэвізію». І далей у яго ёсць такая думка: птушкі паводзілі сябе гэтак не таму, што былі галодныя. Яны там заўсёды сытыя. Гэтак яны вялі сябе ад незвычайнай цікаўнасці і незвычайнага даверу да людзей. І гэта звычайна для тутэйшых птушак, як і для ўсёй тутэйшай прыроды, якая яшчэ не ведае, што чалавека трэба баяцца.

Мімоза не любіць, калі да яе нехта дакранецца. Яна тады зажурана згортвае свае лісцікі і плача дробнымі слёзкамі.

Мімоза расце і тут, на астравах. Але тут, калі ты да яе дакранаешся, яна не спяшаецца згарнуць лісцікі. Яна іх згортвае і плача тымі самымі слёзкамі тады, калі ты ад яе адыходзіш.

На маторнай лодцы мы плавалі ў акіян па каралы. Там, далёка ад берага, у лодку нечакана запаўзла вялікая чарапаха. Яна ўселася ля нашых ног і, высунуўшы галоўку на доўгай шыі з-пад зялёнага панцыра, доўга нас разглядала. Мы яе пагладзілі па панцыры. Здаволіўшыся знаёмствам, адпачыўшы, яна нетаропка, не маючы перад намі ніякага страху, узабралася на борт і плюхнулася за бортам лодкі ў ваду.

І паплыла.

## Ла-Дзіг. Абеліскі над акіянам

Хоць Вале-дэ-Мэй здаўна называюць райскай далінай, а востраў Праслен — райскім вострававам, маё ўражанне іншае. У Вале-дэ-Мэй я знайшоў не сад Эдэма, як англійскі капітан Чарльз Гордан, не схоў Адама і Евы, і нават не тое захапленне, якое знаходзілі іншыя «паломнікі», а проста схоў і проста сад, непаўторныя і разам з тым такія, дзе ёсць штосьці маё ўласнае — за ўсімі гістарычнымі і геаграфічнымі даляглядамі, — маё роўна настолькі, наколькі яно агульначалавечае. А рай, калі

яго разумець не па Бібліі, а шырэй, з уласцівай нам прагнасцю прыгажосці, у кожнага свой. Мне ён, калі існуе наогул, адкрыўся на востраве Ла-Дзіг.

На Ла-Дзіг мы плылі з Праслена пад ветразем старой рыбацкай шхуны. Быў цёплы, але не спякотны сонечны, надзіва мяккі і светлы дзень, светлы для кожнай жывой душы. Ласкава дзьмуў лёгкі сустрэчны ветрык. Хваля, калі адплывалі ад прычала ў Праслене, здавалася невялікай, шхуну не кідала, і амаль усе, хто плыў, сабраліся па бартах насавой паловы судна, адкрытай сонцу, акіяну, салёным пырскам вады, якія прыемна абдавалі твар. Наперадзе ляжала сонечная прастора, з якой то злева, то справа, то раптам наперадзе ўзнікалі, нібы міражы, гранітныя сцены, вертыкальнымі стэламі велічна ўзнімаючыся над вадой. Яшчэ яны былі падобныя на тэатральныя заслоны: роўныя вертыкальныя лініі, аксамітна-мяккія, лёгкія, зіхаткія на сонцы, стваралі эфект хвалістых зборак на дарагой цяжкой тканіне. Іх колер мяняўся, як мяняўся колер вады, мяняліся тоны і паўтоны, хоць і былі пераважна светла-шэрымі, ружова-блакітнымі, смарагдавымі. Яны глядзелі ў ваду акіяна і выглядалі акамянелай вадой акіяна. Акамянелай і адначасова жывой, плыўкай.

Вецер у акіянскай прасторы мацнеў, шхуну пачало падкідаць вышэй, класці на бок, хвалі пакаціліся цераз борт, судна нахілілася, і ветразь ледзь не зваліўся на бок. Жанчыны ўзнялі візгат, адна за адной, хаваючыся за бартавыя парэнчы, кінуліся ў кармавы салон. І раптам нехта закрычаў ад левага борта:

— Чарапаха!..

Забыўшыся на страхі-жахі, усе наваліліся на адзін борт:

— Дзе чарапаха?..

Яна плыла ў тым самым напрамку, як плылі мы, побач са шхунай, плыла прыгожа і мужна. Прыгожа, бо неверагодна прыгожай была сама. Чарапахі, якіх мы дагэтуль бачылі ў парках і рэзервацыях Мадагаскара і Маэ, наганялі сум на самага цікаўнага чалавека. Шэрыя, нібыта выцвілыя на сонечнай спёцы, запыленыя, санлівыя ў загародах з металічных сетак, на вытаптаных, нібы такі, пляцоўках, дзе няма ніводнай травіны, з паніклымі галовамі і заплюшчанымі вачыма, яны не ўражвалі нават агромністымі, па два метры ў дыяметры, панцырамі. І калі нехта з дзяцей ці дарослых садзіўся на яе верхам і яна лёгка, як не адчуваючы конніка, шлёпала з кута ў кут загона, рабілася яшчэ больш сумна і ад чарапахі, і ад конніка. Але гэтая, што плыла побач з намі ў акіяне, была зусім іншаю чарапахай.

Чым іншаю? Яна была на волі. Чысцюткая акіянская вада і сонца да бляску адпаліравалі яе вялізны, памерамі з кола арбы,

у якую запрагаюць быкоў зебу, панцыр, выяўлялі на ім дзіўныя карункі, намаляваныя прыродаю самымі нечаканымі фарбамі і самай смелай фантазіяй. І колеры панцыра ўвесь час мяняліся, як мяняліся колеры вады, фліртуючы з сонцам, ветрам, святлом і ценямі, што адбіваліся на ваду і чарапаху ад нашага вандроўнага ветразя. Мне ўспомніліся чарапахі і чарапашыя панцыры ў інтэр'ерах магазінаў, кватэр, атэляў, рэстаранаў і бараў. Іх развешвалі на асветленых сонцам сценах, асвяжалі лакам, мылі асобымі растворамі, але яны ўсё роўна не глядзеліся. Думалася: навошта іх вывесілі? Ці гэта прыгожа? А цяпер падумалася яшчэ і так: ці не тады людзі надумалі вывешваць чарапах на сцены, калі ўбачылі іх у сонечнай акіянскай вадзе? Тут чарапаха плыла жывой карцінаю, на якой кожная рысачка і кожная фарбачка дыхалі жыццём, да яе хацелася дакрануцца, каб пачуць пульс, гарачую кроў, жыццё ў крывяносных сасудах. І нават калі чарапаху накрывала хваля, калі рэптылія ішла пад ваду, яе панцыр не знікаў з вачэй, на ім не гаслі малюнкі, бо вада акіяна, нібы чысцюткае шкло, не гасіла гульню сонца на панцыры нават пад хваляю.

Але панцыр, непатапляльны каўчэг жыцця, яго жывапісныя малюнкі былі не ўсёй прыгажосцю чарапахі. Самай большаю прыгажосцю была яна сама, жывая, пад панцырам. Шэрыя лянівыя лапы, якія ў загарадзі ледзь варушыліся і былі абсыпаныя маршчынамі, пылам, падобным на каросту, балячкамі, тут выглядалі лапамі адмысловага плыўца, спрытнымі, прыгожымі ў кожным сваім руху. Перыскопам над панцырам узвышалася малая зграбная галоўка на доўгай шыі, якую чарапаха, плывучы, увесь час паварочвала ў наш бок, весела бліскаючы зялёнымі вачыма, доўга не адстаючы ад шхуны. На яе прыемна было глядзець.

Але шхуна памалу абганяла. І калі чарапаха знікла з нашых вачэй, праваліўшыся ў яміну паміж хвалямі, нехта зноў крыкнуў:

— Слон!.. Слон!..

Ад левага борта ўсе кінуліся да правага, не сумняваючыся, што тут, у акіяне, можна сустрэць нават слана. А чаму б і не, калі сустрэлі чарапаху?

Жарт удаўся. Ды чым падсаладзіць расчараванне? Ну вядома ж рогатам. Ён — ад любой горычы, і мы рагочам — з сябе, са сваёй наіўнасці і дурноты, якія спадарожнічаюць турысцкаму фанатызму.

На самым высокім грэбені нашага рогату і акіянскай хвалі за кармою шхуны раптам, калі мы ўжо не думалі пра чарапаху,

галавастым перыскопам бліснула тая самая рэптылія. Зусім блізка. Яна ўсё яшчэ паспяхова спаборнічала са шхунаю ў хуткасці. Мы нават разгледзелі яе вочы, цяпер ужо, супраць сонца, з залацінкаю. Зусім не злосна, нават як быццам велікадушна, яе вочы смяяліся з нас.

На беразе вострава стаялі два таксі.

Тут, на Ла-Дзіг, усё было не так, як недзе, нават як на Маэ. Не тыя, што недзе ці на Маэ, былі і таксі. З-пад высокіх цяжкіх рагоў на нас глядзелі дзве пары вялізных, з баклажанавай сінізною вачэй, санліва атупелых і ўпартых, як вочы ў кожнага быка зебу, якога мы дагэтуль бачылі толькі на Мадагаскары. Два чорныя быкі — дзве вялізныя арбы на высокіх, вышынёю з падлетка, колах. Кожная арба на двух колах, таму яна вагалася, нібы канцы бязмена, падпёртыя падвесам, то прысядаючы адзаду, калі нехта ўзыходзіў на прыступку, то прыўзнімаючыся там жа, адзаду, калі пасажыр ці пасажырка садзіліся на лаўку бліжэй да быка, які ўвесь час круціў хвастом перад носам у бліжэйшага пасажыра, адмахваючыся ад мух. Калі на прыступку арбы стаў Сцяпан Іванавіч Малышаў, добры мастак-графік з Феадосіі і вельмі душэўны чалавек, яго вага, спаборнічаючы з вагою зебу, так прыдавіла карму, што арба па той бок ад колаў падскочыла ўгору, прыўзняўшы над дарогаю быка. Але Сцяпан Іванавіч — сюжэт асобны.

Тут трэба сказаць, што іншага транспарту, акрамя быкоў з арбамі, на Ла-Дзігу няма. Веласіпед? Хіба што. Востраў не прызнае ўсё тое, што псуе ваду і паветра, парушае цішыню, шкодзіць раслінам, птушкам, акіяну. Ды зусім не сумна ехаць на мясцовым таксі. У арбе не цесна, з яе вышыні ўсім усё відаць і чуваць. Едзеш па вуліцы міма крамак, штыкетнікаў з пальмавага галля, берагам акіяна, пад сонечным небам ці ў засені ад густой кроны дрэў, і ўсё жыццё вострава паспяваеш разгледзець, абдумаць. З вышыні арбы цікава назіраць за крэолам, які крочыць басанож побач з быком і ўвесь час галёкае, не супыняючыся: «Але!.. Але!..» Што гэтае «Але!..» азначае — сказаць цяжка. І ці дзейнічае яно на быка? Той крочыць увесь час адной хадою, не спыняючыся і не спяшаючы пад ярмом, што ўпіраецца ў высокі горб, — сама пакора. Ідучы з быком побач, крэол трымае ў яго на крыжы руку і штосьці ёю ўвесь час вырабляе: то гладзіць жывёліну, то пляскае далонню, то кулаком грукае ў крыж, а то, нечага ўзлаваўшыся, хапае хвост і круціць яго, вытрасаючы з быка далёка не эстэтычныя гукі. Жанчыны сарамяжліва адварочваюць

насы, мужчыны пахіхікваюць, а між тым усе гэтыя маніпуляцыі крэола, здаецца, зусім не ўплываюць на жывёліну. У гэтую хвіліну ўспамінаецца лермантаўскі «Герой нашага часу», тое месца з рамана, дзе аўтар, малады афіцэр, наймае шэсць быкоў і некалькі асецінаў, каб падняць на Кайшаўрскую гару павозку з адзіным чалавекам, і як быкі, якіх асеціны падганялі моцным крыкам, ледзь валакліся, а ў той жа час следам ціха і лёгка кацілася павозка Максіма Максімыча, хоць там і быкоў было меней, усяго чатыры, і ніхто іх не гнаў нават крыкам, і павозка была куды цяжэйшая. Чаму гэтак? Максім Максімыч усміхнуўся і спытаў: «Вы, відаць, нядаўна на Каўказе?» Вось і мы тут, на Ла-Дзігу, першы раз: дзе ж адразу зразумееш, што крычыць свайму быку крэол і як бык павінен рэагаваць на яго крык?

Нашы быкі сунуліся нармальна. Куды спяшацца? Ла-Дзіг — нават не Маэ. Ён адваяваў сабе ў акіяне ўсяго жменьку камяністае сушы, якая магла быць дном акіяна, як уся Лемурыя. За дзень востраў дзесяць разоў абыдзеш, і нішто на ім не схаваецца ад твайго вока. Вось будуецца судна, яхта ці шхуна, — пры дарозе. Пляцоўка-цэх пад густой кронаю магутных дрэваў, дакладней — у кроне. Судна нагадвае гамак пад дрэвам, вакол якога падвешаныя рыштаванні. Два карабелы-крэолы сядзяць на галіне дрэва, звесіўшы ногі. У іх цяцер, па-нашаму кажучы, перакур.

Арбы спыняюцца каля копры — самага вялікага прадпрыемства на востраве. Тут перапрацоўваюцца какосавыя арэхі. Круглыя карычневыя мячыкі, вылушчаныя з тоўстай зялёнай шкарлупіны, ляжаць пад павеццю ў кучы. Каля іх — дзве жанчыны. Старая падае арэхі, адзін за адным, маладой, і тая, трымаючы арэх на далоні, другой рукой ускідае мачэтэ і рашуча, бо трэба сіла, каб раскалоць арэх, апускае на яго мачэтэ. Арэх развальваецца на дзве палавіны. Жанчына адкідае іх убок і ловіць наступны арэх, зноў ускідваючы мачэтэ. Яна, маладая, паспявае і нас, гасцей, разгледзець, кожнаму штосьці сказаць, і перакінуцца словам з напарніцаю, а ў той час мачэтэ, на якое яна быццам і ўвагі не звяртае, бліскае то над галавою, то на далоні, разбівае арэх за арэхам, і ўсім жудасна глядзець на гэтую работу, бо цяжка зразумець, як яна, маладая, не адсячэ сабе руку цяжкім, нібы сякера, і вострым, нібы скальпель, мачэтэ. Ды і арэх на далоні круглы: саслізнуць з яго мачэтэ, здаецца, куды лягчэй, як рассекчы арэх і не дакрануцца да рукі. А яшчэ як паверыць, што гэтая рызыка — дзень пры дні, год за годам. Трэба ні разу не памыліцца, не пралічыцца.

Малако з арэхаў бяжыць пад ногі, а копра загружаецца ў печ. Там, у гарачыні, яна адвальваецца ад шкарлупіны арэха і прэс выціскае з яе духмяны алей, які тут жа разліваецца па бутэльках з этыкеткамі і прадаецца.

Прадаецца ўсё, на што знаходзіцца купец: арэхі, копра, алей, вырабы разьбяроў з чырвонага какосавага дрэва — чарапахі, маскі быкоў, змеі, набраныя на гумкі з кавалачкаў пальмы, кухонны драўляны посуд, — рогі зебу, асобна ці з драўлянай маскаю быка. Цана? Яна залежыць не столькі ад таго, хто прадае, як ад таго, хто купляе.

Што ж ідзе ў глум ад пальмы? Ды, мабыць, нічога. Кара? Гэта добрае паліва. Лісце? Ім накрываюць жыллё, з яго плятуць цыноўкі, маты, прыгожыя дэкаратыўныя рэчы. Шкарлупіну арэхаў турысты ахвотна разбіраюць на сувеніры, а што застаецца — загружаецца ў печы як паліва.

Мы едзем на быках далей. Куды — далей? Праз пальмавы гай — на бераг акіяна. І вось тут усё тое, што раней чаравала паасобку, — вада акіяна, бялюткае пясчанае дно, каралавыя астраўкі, чароды прыгожа размаляваных рыб, адпаліраваныя акіянам ракавіны, велічныя скалы, дзіўная чысціня ўсяго, што акружае чалавека, — стварае казачнае асяроддзе, найвышэйшую гармонію разумнага і прыгожага, той свет, які, калі адчуеш сябе ў ім, людзі і могуць назваць раем. Тут няма ні мёртвых раслін, ні мёртвых камянёў. Няма раслін і камянёў, раўнадушных да чалавека ці якія б выклікалі яго раўнадушнасць. Кожны камень — то геаметрычная, дакладна разлічаная канструкцыя, то адухоўленая жывая істота, то проста загадкавы вобраз, які ты адчуваеш і які неабавязкова павінен адчуць нехта іншы. Ты — яго адкрывальнік. І, значыць, сааўтар. Адчуванне адкрыцця прыходзіць раней, як разуменне, што за твор, што за вобраз. Ты апынуўся сам-насам з найвялікшаю таямніцай прыроды, але ўжо адчуў сябе яе аднадумцам і часцінкаю. Ты свядома і несвядома спасцігаеш яе, спасцігаючы самога сябе. Законы спасціжэння — мастацкага, псіхалагічнага, эмацыянальнага — дзейнічаюць непрымусова, стыхійна, як натуральная форма жыцця ў гэтым дзіўным свеце.

Вось — скала: вертыкаль-сцяна, вертыкаль-стэла. Яна ўздымаецца ў неба адразу з вады. Ні падэшвы, ні падмурка. Можа, таму здаецца лёгкай, нібы пастаўлены на ваду ветразь. А далей яшчэ адна, у форме грабянца: зубы і шчыліны, зубы і шчыліны. Раўнюткія, як адна, шчыліны і раўнюткія, як адзін, зубы. Вострыя, нібы скальпелі, лёзы. Хто высек гэты незямны манумент? Чые рукі? Чыя фантазія? Чый мастацкі густ? Хто

адпаліраваў яго да бляску, жывапіснай фактурнасці мармуру? Няўжо чалавек? Яго геній, безумоўна, пакінуў для гісторыі грандыёзныя манументы, піраміду Хеопса ці Эйфелеву вежу, мексіканскія ці перуанскія слупы-ідалы, але як параўнаць рукатворныя манументы з манументамі Ла-Дзіга? Чалавек шмат можа, але дзіваў Ла-Дзіга не можа стварыць і ён. І справа не толькі ў грандыёзнасці створанага, манументальнасці форм, нават не ў інструменце, які патрэбны майстру для работы. Справа ў стылі і метадзе, у асяроддзі і матэрыяле. Для гэтакіх мастацкіх твораў патрэбны быў высакародны гранітны маналіт, які ніколі не апынецца ў майстэрні чалавека, які проста нельга вырваць з яго прыроднага асяроддзя. Ды і нідзе больш у свеце, ні ў адным моры і акіяне не існуе гранітных астравоў, гэтакіх спічакоў сярод вады, акрамя Сейшэльскіх. Адсюль і метад работы мастака. Ён працаваў са сваім незвычайным матэрыялам мільёны гадоў. Ніякі іншы матэрыял не вытрымае гэтакай упартасці мастака, і ніякі іншы мастак не вытрымае гэтакай упартасці матэрыялу. Тут яны роўныя адзін аднаму, адпаведныя. Вятры, марская вада, дажджы, навальніцы і сонца паліравалі граніт мільёны гадоў, і за гэты час ён набыў усё багацце колераў вады акіяна, здольнасць мяняць свае колеры і настроі гэтаксама, як іх мяняе сам акіян, адначасова з ім, з яго настроямі, яго палітра ніколі не паўтараецца, кожную гадзіну і хвіліну яна ўсё новая і новая, і заўсёды нечаканая. За мільёны гадоў гранітныя абеліскі над акіянам навучыліся перадаваць сваімі пластычнымі лініямі і плоскасцямі парывы і ледзь прыкметныя зрухі ветру, сваім фасфарыстычным свячэннем — яўную і таемную сілу сонца, сваёй чысцінёй — чысціню вады і паветра, белізною сваёй высознай шапкі — пеністую белізну воблакаў. То набываючы выразнасць, рэзка акрэсленыя формы, то раствараючы іх у каляровай гаме дня і ночы, раніцы і вечара, яны нагадваюць ці акамянелы вадаспад, ці асколак сонца, ці напоўнены пругкай сілаю ветразь казачнага карабля, ці міраж, ці тэатральную заслону ў краіне цудаў, за якой зараз, вось-вось, адкрыецца самая грандыёзная таямніца і казка свету.

І разам з тым усё гэта — гімн гармоніі, каларыту, адухоўленасці, у таямніцы якіх чалавек дарогі пакуль што не ведае і ці знойдзе нават у святле ўсіх тых мільёнаў гадоў сваёй памяці, якая жыве не толькі ў сініх вачах лемура.

Ды і гэта — не ўвесь Ла-Дзіг. Каб яго адчуць і зразумець паўней, трэба спыніць сваё захапленне надводным светам і хоць з самым прымітыўным па сённяшнім часе ўзбраеннем, нацягнуў-

шы на вочы акуляры і ўзяўшы ў рот пластмасавую трубку, якая прадаецца ў магазіне спартыўных тавараў, нырнуць пад ваду, а там, пад вадою, затрымацца, праплысці, агледзецца. Там — той самы казачны свет, але на новым гарызонце, на іншым паверсе жывой прыроды. Працяг надводнага свету? Ці, можа, яго папярэднік, прадвеснік? Ды безумоўна папярэднік. Блізка адсюль, паміж Мадагаскарам і Каморскімі астравамі, трыццаць пяць гадоў назад злоўлена рыба лацімерыя, сіняя магутная рыбіна, на столькі старэйшая за дыназаўраў, на колькі дыназаўры старэйшыя за сучаснага чалавека. Гэта яна, лацімерыя, 350 мільёнаў гадоў назад выкінулася з акіяна на бераг і дала жыццё сухапутным пазванковым, у тым ліку і нашым прыматам лемурам. Вось які ён — падводны свет.

Да сустрэчы з гэтым светам я паўдня правёў на Маўрыкіі ў марскім акварыуме. Яго зашклёныя нішы, у якіх жылі рыбы і расліны ці не ўсіх глыбіняў Індыйскага акіяна, уражвалі багаццем святла, колераў, кантрастамі падводнага жыцця. Больш фантастычную прыгажосць цяжка ўявіць. Здавалася, што тут, у акварыуме, канцэнтрацыя прыгажосці глыбінь акіяна, і ўжо большай прыгажосці быць не можа. І ўжо нішто не здзівіць, нават на глыбіні акіяна. І гэта была памылка.

Глыбіні акіяна былі яшчэ большым здзіўленнем. Спачатку здзівіла незвычайная рыбіна, якая раптам, калі я заходзіў у ваду, побач са мною вырвалася адтуль, з глыбіні, агняна-сонечная і зіхаткая, і зноў пляснулася ў ваду. Потым зноў выскачыла з вады і сіганула на пясчаны бераг. Лацімерыя? Мне падалося, што гэта яна, рыбіна, якой 350 мільёнаў гадоў. І нічога наіўнага ў маіх думках не было. Калі яе злавілі непадалёк адсюль трыццаць пяць гадоў назад, дык чаму б ёй не заплысці сюды сёння?

Але рыбінай аказаўся хлопчык. Выкінуўшыся на бераг, ён ляжаў на пяску ніцма і, абхапіўшы галаву рукамі, штосьці крычаў і калаціўся, як усё роўна за ім гналася па меншай меры акула і ён чуў за спіною ляскат драпежных зубоў.

Збегліся людзі. Нехта з нашых дапытваўся, чаго ён крычыць, і нехта па-руску адказваў:

— У яго на языку два нямецкія словы — шрэкліх і шон.

— А што гэта азначае?

— Страшна і прыгожа.

— Страшна прыгожа?

— Але немцы гэтак не гавораць. У іх або страшна, або прыгожа. Адно з двух.

— Тады як яго зразумець? Прыгожае страшным не бывае. Як страшнае не бывае прыгожым…

Хлопчык сеў, здзёр з вачэй падводныя акуляры. Твар у яго быў белы. Ён смяяўся і плакаў…

Нехта даў мне маску, ласты і трубку, і я пабрыў ад берага ў акіян. Нырнуўшы пад ваду, я быў уражаны, як шмат там, пад вадой, святла — яно зіхацела і пералівалася на кожным каменьчыку, на кожнай ракавінцы, на кожнай пясчынцы, сляпіла. Вузенькія сонечныя дарожкі ляжалі-зіхацелі паміж каралавых купінак, у іх жывым святле каралы здаваліся жывымі раслінамі, якія нібыта пагойдваліся і плылі. Але гэта была ілюзія, створаная сонечным святлом. Варта было дакрануцца да каралаў, як яны апякалі вострымі камяніста-калянымі шыпамі. Я плыў ад адной каралавай купіны да другой, захоплены прыгажосцю, плыў і не здагадваўся, як хітра яны заманьваюць мяне ўсё далей ад берага ў акіян. Яны заманьвалі туды, дзе я пра іх павінен быў забыць, бо там, далей, мяне раптам акружылі касякі рыб, палон якіх аказаўся куды мацнейшы, як палон каралаў. Рыбы мяне зусім не палохаліся, як тая горлінка на Маэ каля ганка. Яны плылі насустрач і перад самым тварам разміналіся са мною. Я чуў калыханне вады ад іх хвастоў і плаўнікоў. Я працягваў да іх рукі, але дакрануцца не адважваўся, баяўся, каб ад майго дотыку не пагасла вясёлкавае святло, якое яны випраменьвалі. То плыў жывы россып каляровага жэмчугу, дзе кожная жамчужынка ззяла ўсімі колерамі прыроды, знаёмымі і незнаёмымі. Рыбы трымаліся касякамі, і кожны касяк меў свае фарбы, формы, рух, а наперадзе, як міражы, насустрач выплывалі яшчэ больш нечаканыя і прыгожыя рыбныя касякі, і адарваць ад іх вочы ніякіх сіл не было. Я забыўся на бераг, на якім мяне чакалі, забыўся, што акрамя рыб на свеце ёсць яшчэ і людзі. Я сябе адчуваў рыбінаю.

Гэтае адчуванне прыйшло пасля, далёка ад берага, неяк раптам, а спачатку я адчуў, што трапіў у сонечны вір. Вакол віра, у віры, вакол мяне, сабраліся і па крузе, па карусельнай парабале, кружылі тысячы рыб і кожная была сонейкам, ад кожнай выпраменьвалася святло.

Той міг быў маім рокам. Я траціў над сабою ўладу. І што мяне адтуль вынесла на паверхню вады? Цяжка паверыць, што я гэта зрабіў сам, авалодаўшы сабою, сваім непамерным захапленнем.

Калі, стомлены, я выйшаў на бераг і лёг, як той хлопчык, тварам у пясок, у маіх вачах плылі сонечныя міражы і ўся тая шматколерная фантастыка, што вяла ў глыбіні акіяна і хацела ператварыць мяне, чалавека, у рыбіну. Зямля пад грудзьмі калыхалася, быццам вада ў акіяне. Я і тут, на пяску, працягваў плысці. Але куды? Няўжо па-ранейшаму туды, дзе жылі толькі рыбы і

не было жыцця для людзей? Мне, як таму хлопчыку, хацелася крычаць і плакаць, але пачуцці я стрымліваў, памятаючы, як крычаў і плакаў хлопчык і што людзі не маглі яго зразумець.

Калі ўсхапіўся — вакол не было ні душы. І тады, застаўшыся адзін на беразе, я задумаўся: што адбылося? Цяпер я зразумеў і сябе, і хлопчыка. Там, пад вадою, чалавек раптам знаходзіць рэальныя берагі казкі, якую носіць у сабе з маленства, і больш за тое — робіцца героем сваёй самай прыгожай і самай неверагоднай казкі. І хіба ж тут цяжка страціць галаву і свой зямны бераг?

Прыгожа. І… сапраўды — страшна. Хай таямніцы застаюцца таямніцамі, казкі — казкамі, а людзі — на сваіх берагах.

*P. S.*

Маўрыкій. Атэль «Рыўер Нуар». З аднаго боку атэля — акіян, з другога — ціхі куточак не то парку, не то пальмавага лесу. Ля самага балкона пальма глядзіць у пакой вялізнымі жаўтабокімі арэхамі.

Ад акіяна — уваход у атэль. Ці то адкрытая веранда, ці то адкрыты акіяну вестыбюль — разумей як хочаш. Тут пасля вячэры збіраемся вакол тэлевізара. Мы, савецкія, звычайна прыходзім першымі. Затым прыходзіць сям’я французаў: бацька, маці, дзяўчынка і меншы за яе хлопчык, Марыяна і Поль, — за столікам пачынаюць гуляць у карты. Пажылая італьянка займае свой, з высокаю спінкаю, шэзлонг пад раскошным фікусам, дастае з сумачкі клубок шарсцяных нітак, пруткі, сваё вязанне кладзе на калені і звычайна доўга глядзіць на ціхі вечаровы акіян. Прыходзяць дзве дружныя маладыя парачкі: англійская і шведская. Кожны дзень яны ў новых гарнітурах, заўсёды яркіх, лёгкіх, адкрытых. Яны любяць, каб на іх звярталі ўвагу. Спачатку — на гарнітуры, а потым — на іх маладыя, гладкія, моцна, да аксамітавага бляску, загарэлыя целы. Яны самі сабе вельмі падабаюцца, лічаць, што і ўсе астатнія ашчасліўленыя іх прысутнасцю, часта шэпчуцца паміж сабою. Яшчэ сярод нас — немец і немка, муж і жонка: ён стары, зусім сляпы, з чорнымі акулярамі і металічным кіёчкам, а яна маладая і даволі прывабная. Яна прыводзіць яго пад руку, садзіць побач з сабой у шэзлонг, нібыта вельмі аб ім клапоціцца, гаворыць ласкава, але вачыма ўвесь час пасе іншых маладых мужчын, асабліва шведа і кіяўляніна Колю. Яшчэ сярод нас некалькі маладых жанчын і некалькі мужчын, пераважна маладых таксама, якія трымаюцца парачкамі. Вось і ўсе, хто жыве ў невялічкім, як дом на адну вялікую сям’ю, атэлі «Рыўер Нуар». Амаль кожны вечар прыходзіць хто-небудзь з мясцовых

гітарыстаў, і тады мы спяваем пад гітару. Прыходзіць Жан, адміністратар рэстарана атэля «Рыўер Нуар». Ён з’яўляецца з калясачкаю, на якой стаяць бутэлькі з віном, півам. Ён можа прыйсці і не прыйсці, прывезці віно і піва ці не прывезці, гэта, здаецца, яго асабістая справа, тым больш, што віном і півам ён нас частуе не за грошы.

Жан вельмі вясёлы і дасціпны. Гэта ў яго арганічнае, ад прыроды. Калі мы толькі размясціліся ў атэлі і прыйшлі ў рэстаран абедаць, ён пасадзіў нас за агульны, на пятнаццаць чалавек, стол, з адкрытай усмешкай паглядзеў кожнаму ў вочы і раптам торкнуў пальцам на Сцяпана Іванавіча:

— Ленін!

Тут жа, пакуль мы разгублена маўчалі, перавёў позірк на літоўца Вітаўтаса і паказаў пальцам на яго:

— Ярузельскі!

І адразу — на Рэваза Мішвеладзе, грузінскага пісьменніка, які сядзеў, захутаны з галавою, нібы ў яго балелі зубы ці галава, у шалік:

— Ясір Арафат!..

Гэта было незвычайнае дзіва, як ён, Жан, які нас толькі-толькі ўбачыў, мігам, з першага погляду, улавіў безумоўнае падабенства абліччаў, нейкіх унутраных жэстаў, манер трымацца, схапіў гэта раней за нас, хоць нам усе гэтыя людзі, партрэты, вобразы былі куды бліжэй, як яму. А назаўтра нас чакаў яшчэ адзін сюрпрыз, калі Жан паставіў на абед перад Сцяпанам Іванавічам талерку з рускім баршчом, Вітаўтасу падаў абед па-польску, а Рэвазу — з арабскай кухні. Адразу, з першага дня адчуўшы, як цэніцца тут шчырасць і гумар, мы сталі самымі вясёлымі жыхарамі «Рыўер Нуара», а Жан стаў нашым лепшым сябрам. Ён заўсёды надзіва дакладна адчуваў, нават не стоячы побач з намі, з нейкага свайго закутка, хто з нас хоча фужэр віна, каму падаць піва, хто чакае суп з чарапахі, каму хочацца заліўное з хваста кракадзіла, каму — ананасавае марожанае, калі паднесці сюрпрыз у выглядзе незвычайна вялізнага, ну проста фантастычнага, торта, якім мы маглі б накарміць усіх жыхароў «Рыўер Нуара», а калі выпусціць на стол цэлы рыбны касяк, дзе кожная рыбіна нечаканая, са сваёй радаслоўнай, незвычайна прыгатаваная і кожная нібы жывая.

Дык вось, калі Жан прывозіць да тэлевізара на калясачцы віно і піва, разлівае па фужэрах, садзіцца паміж нас і пачынае нам на закуску прапаноўваць вясёлыя жарты і песні, мы забываем, што

мы з розных краін, што ў нас розныя мовы. Тады мы — адна сям'я, і наш бацька — Жан.

Па тэлевізары паказваюць матчы сусветнага футбольнага чэмпіянату ў Аргенціне. Учора савецкая каманда іграла з французамі. Тут, на Маўрыкіі, перажываюць за французскую каманду, бо да ўсяго французскага ставяцца вельмі прыхільна, хоць Маўрыкій і быў калоніяй Францыі. Але чаму ўсе жыхары «Рыўер Нуара» перажываюць за нашу каманду, нават Жан? Нават сям'я французаў: Марыяна, Поль і іх бацькі? Бацька і маці яўна за нас, Марыяне і Полю хочацца, каб выйграла каманда Францыі, але, пазіраючы на бацьку і маці, яны губляюцца і таму перажываюць за ўсіх — і за нашу каманду, і за сваю. Я разумею: усё гэта — выхаванасць.

Успамінаю, як тры дні назад, калі мы глядзелі матч паміж камандамі ФРГ і Уругвая ў Антананарыву, ля тэлевізара сабралася шмат немцаў, перажывалі за сваю каманду, а мы, савецкія, за уругвайцаў. Нам было ўсё роўна, хто выйграе, і мы толькі выгляд рабілі, што перажываем за уругвайцаў, рабілі гэта назло немцам, дэманстратыўна.

Цяпер мне сорамна, што былі тады супраць немцаў. Сорамна перад Марыянай і Полем, перад Жанам, перад усімі жыхарамі «Рыўер Нуара». Супакойвае, што яны пра гэта не ведаюць.

Пасля ўчарашняга матча мы ўсе выйшлі на бераг акіяна і спявалі пад гітару савецкія песні, пакуль Жан накрываў стол у гонар міру паміж савецкай і французскай футбольнымі камандамі.

Я ведаю, што ў нашым атэлі жывуць мільянер, бізнесмен, доктар біялогіі, прадавец магазіна, кінарэжысёр, матрос, аўтагоншчык, выкладчык коледжа, водаправодчык. Мне няма ахвоты ведаць — хто ёсць хто? Хто мільянер і хто водаправодчык. Мне цікава ведаць: хто нас тут зблізіў? Хто і што? Можа, Жан? Заўтра ў нас рыбны дзень, і Жан абвясціў, што ўсе мы паплывём на яхце ў акіян і будзем недзе там, у акіяне, абедаць на каралавым астраўку.

А яшчэ я думаю: ці змог бы Жан працаваць у адным з рэстаранаў Масквы ці Мінска? Мабыць — не. За тое, што ён паплыў абедаць з замежнымі кліентамі некуды ў акіян, на нейкі там астравок, ні з кім сваёй выдумкі не ўзгадніўшы, яму б уляпілі вымову. А за тое, што не адрознівае, як і я, мільянера ад водаправодчыка, бізнесмена ад матроса, ужо на другі ці трэці дзень звольнілі б «па ўласным жаданні».

Са Сцяпанам Іванавічам яшчэ адна прыгода: купаючыся, ён стаў на марскога вожыка. Каму — смех, а яму — бяда. Іголкі

вожыка абламаліся і засталіся ў назе. Нага азызла. На яе — не стаць. Дзе той доктар? Прыбеглі хлопцы, якія працуюць у атэлі. Распалілі агонь, паклалі Сцяпана Іванавіча на ложак, пачалі агнём выпальваць з падэшвы іголкі. Нага счарнела, але трымаўся Сцяпан Іванавіч мужна. Малады крэол залез на папаю, якая расце ля ганка Сцяпана Іванавіча, сарваў спелы плод і выціскаў з яго жоўценькі сок на спаленую падэшву.

Гэта адбылося два дні назад. Сцяпан Іванавіч пачаў хадзіць, асцярожна ступаючы сколатай і спаленай нагой на камяні. Але сёння — новая прыгода. Каля ганка, ускрай камяністай дарожкі, парапет: выкладзеныя з каменя тумбы злучаны бярвенцамі, канцы якіх умураваны ў тумбы. Бярвенцы таўставатыя, дзвюма далонямі не ўсюды абхопіш, абчасаныя і пакрытыя лакам, а за імі адразу дварок вакол суседняга доміка, метры на тры ніжэйшы, пад парапетам. Бярвенцы нізкія. Мы, бывае, садзімся на іх, не баючыся, што з іх можна кульнуцца ў каменную яміну за спіною. А сёння на тое бярвенца сеў Сцяпан Іванавіч. Бярвенца пад ім зламалася, і ён, задраўшы ногі, паляцеў уніз галавою на камяні ў яміну. На гэты раз лёс над ім злітасцівіўся. Слава богу.

Прыйшоў адміністратар атэля. Мы хваляваліся, што будзе перад ім няёмка за паламаны парапет і што давядзецца плаціць. Але ён рассмяяўся і сказаў, што рамантаваць парапет не трэба. На гэтым месцы ён прымацуе дошчачку з надпісам: «Тут сядзеў рускі чалавек». Ён гаварыў гэта весела, як з удзячнасцю да Сцяпана Іванавіча.

Але як быць Сцяпану Іванавічу? Ён чалавек сціплы і не чакаў, што першая мемарыяльная дошка рускаму чалавеку на Сейшэлах будзе належаць яму, ды яшчэ і пры жыцці.

Дык няўжо вінаваты Жан?..

Я зноў думаю пра тое самае: вось — немцы, фіны, французы, італьянцы, шведы… мы — рускія, два грузіны, латышка, эстонец, літовец, беларус… і ўсім розныя — колерам твараў, валасоў, вачэй, гістарычным і сацыяльным лёсам, характарамі, мовамі, звычкамі, вопраткай, але ж ніводнага разу я не заўважыў, каб чалавек на чалавека паглядзеў варожа, крыва, злосна, нервова, усе, хоць і чужыя паміж сабой, адзін да аднаго — са спагадай, дабратой, увагай, усмешкай. Чаму тут паміж людзьмі няма ніякай варожасці?..

Жан, безумоўна, шмат спрыяе, каб яе не было. Але хіба ў адным ім прычына?..

Можа, тут, на астравах, з людзьмі робіцца штосьці незвычайнае? Тут штосьці на іх уплывае? Але — што?

Што наймацней уплывае тут на мяне? Прырода? Яна! Гармонія прыгажосці, маляўнічай дасканалай формы і яе высакароднай духоўнай напоўненасці.

На памяць прыходзіць Дастаеўскі: «Прыгажосць уратуе свет».

І адразу — сумненні: ці ўратуе яна наш сённяшні заблытаны свет? Ці не бліжэй да рэальнасці сучаснае пераасэнсаванне формулы Дастаеўскага: хто ўратуе прыгажосць?

Але, углядаючыся ў гэты маляўнічы астраўны свет, кожны дзень заўважаю, як яна, прыгажосць, яднае людзей: немцаў, фінаў, французаў, шведаў… і нас, савецкіх. І прыходзіць яшчэ адна думка: можа, Дастаеўскі гэта і меў на ўвазе, што прыгажосць аб'яднае людзей, а ўжо людской еднасцю і свет уратуе?..

І калі так, то прыгажосць трэба ратаваць.

Словам — таксама.

У гэта я веру. І таму сам сябе пераконваю, што пісаць аб прыгожым пісьменніку сёння не менш важна, як пісаць пра сусветны крывавы боль, пра жахі мінулых ці будучых войн.

Жахі людзей раз'ядноўваюць.

Прыгажосць — аб'ядноўвае.

Хоць бывае і наадварот.

## Жыццё па Хемінгуэю

Сонца ўстае над акіянам.

Яшчэ яго не відаць, яно хаваецца за высокім скалістым берагам, ды люстра вады, зранку ўрачыста-маўклівае, ледзь зарумянела, і кончыкі мачт на белабокіх, быццам заснежаныя льдзіны, яхтах, пакінутых ветразямі, сіратліва ззяюць у блакітным небе ружовымі танклявымі свечкамі.

Я сяджу на беразе, углядаюся ў далягляд акіяна, у яго велічную прастору, ведаючы, што заружавелая вада вось-вось падкоціцца да маіх ног, бо сонца ўстае за скалой усё вышэй і ружовасць на вадзе расплываецца ва ўсе бакі. Але мяне хвалюе не сонца. Адтуль, з акіяна, я чакаю шэрае крыло птушкі, палапленае суровым жыццём, гэтай парою таксама, як акіян далей ад берага, вясёла заружавелае. Ці сёння гэта будзе не крыло птушкі, а плаўнік магутнай рыбіны, якім яна, плывучы, нібы карабель, прарэжа паверхню акіяна?

Я чакаю Вялікага Крэола пад ветразем, які нагадвае мне то крыло птушкі, то плаўнік магутнай рыбіны.

Учора пасля полудня, калі спадала гарачыня, ён паплыў да свайго, можа, самага вялізнага ў акіяне марліна, і калі збіраўся

і адплываў, я быў на яго маленькай яхце, пасабляў выцягваць на борт якар, і ўжо далёка ад берага пакінуў яхту, пажадаўшы Вялікаму Крэолу сустрэчы са сваім марлінам. З ім на яхце быў яшчэ італьянец з Турына — Гвідо, з Турына — гэта там, у Італіі, а тут, на часова нашым маўрыкійскім беразе, — з Хаты рыбака, ці, як яны яшчэ кажуць, з Клуба, што побач з нашым атэлем «Рыўер Нуар». Гвідо часта плавае з Крэолам.

Усе рыбакі з Хаты, і не адны тыя, што з Хаты, мясцовыя таксама, падобныя на Крэола, звычайна вяртаюцца на ноч, ва ўсякім разе, за тыя дні, што жыву ў «Рыўер Нуар», я не чуў, каб хтосьці аднойчы не вярнуўся. І вось — Крэол не вярнуўся. Не ведаю, хто што пра гэта думае. Але я перакананы, што ўчора ён далёка ад берага, за рыфамі, за іх бурапеністым ланцугом, злавіў на жыўца свайго самага лепшага марліна, і той водзіць па акіяне, бярэ на змор, сам сябе гоніць у змор, і вопытны рыбак пакуль што нібыта паддаецца, каб яго найлепшы марлін не сарваўся.

Я ніколі не лавіў марлінаў, але чытаў, як гэта рабіў стары Сант'яга, як ён, змагаючыся з магутнай наравістай рыбінай, траціў сілы, чапляўся за ўсё, што магло даць кроплю надзеі, нават за «Ойча наш», і як прасіў дзеву Марыю: «Прасвятая багародзіца, памаліся, каб рыба памерла, хоць яна і самая цудоўная…» І як маліў нават тую самую рыбіну: «Паслухай, рыба!.. Табе ўсё роўна паміраць. Але навошта табе, каб я таксама памёр?»

І яшчэ я ведаю, што на беразе старога рыбака чакаў хлопчык, якога звалі Манолін, амаль так, як рыбу, дзеля змагання з якою яны абодва, Сант'яга і Манолін, нарадзіліся і жылі, і як ён, хлопчык, праводзіў старога ў акіян, чакаў з акіяна.

Першы раз я ўбачыў Крэола на другі дзень, як пасяліўся ў «Рыўер Нуар». Ён стаяў на беразе, дзе зараз сяджу я, і назіраў, як рыбакі з Хаты спускалі з борта яхты ў лодку вылаўленага марліна. У кароткіх злінялых шорціках, невядома якога колеру, у чорнай майцы «Джолі Роджэр», босы, высокі і стройны, з чорнай барадой, шыкоўнай і нідзе не лішняй, дагледжанай, мабыць, ці, хутчэй за ўсё, самой прыродай гэтак зграбна прыточанай да шырокіх рашучых сківіц. І колер цела быў незвычайны. Быццам на чорны грунт мастак паклаў шакаладныя, сонечнага адліву фарбы, падсіненыя ультрамарынам вячэрняй акіянскай хвалі. Рыбак быў не стары, гадоў сорак, адносна малады, але ўражвала яго незалежнасць, годны спакой думання, рухаў, якія прыходзяць да чалавека пазней, на сконе жыцця, калі, пражыўшы яго, чалавек зразумее, што верхаводзіць светам не паспешлівасць, не маладое трымценне, а ўтаймаваная мудрасцю прырода. Спакойна, з

пакладзіста-іранічнай усмешкаю на таямніча-прыгожым твары ён сачыў за рыбакамі, трымаючы ў руцэ лёгкі, ад дажджу, бушлацік, пакуль тыя трое лябёдкаю апускалі з борта яхты ў лодку вялізнага, нібыта бервяно, марліна, пакуль падганялі лодку да берага. Тады, як падагналі, ускінуў бушлат на плечы, падышоў бліжэй. Марлін ляжаў на брызентавых насілках. Крэол, быццам яго тут чакалі, падняў з аднаго канца насілкі сабе на плечы, тыя трое паднялі іх з другога канца — панеслі трафей да Хаты.

Марлін быў метраў пяць даўжынёю, калі з хвастом ды мячом. Яго паклалі на зялёны газон ля Хаты, і адразу збегліся ўсе, хто быў у Хаце і на беразе. З'явіліся людзі з кінаапаратамі і фотакамерамі, здымалі марліна і рыбакоў. Адзін сеў верхам на галаву, рукамі расшчапіў рот. Які там рот? Пашчу! Нібы ў акулы. Поўную крыві. Рукі рыбака былі таксама ў крыві. Кроў лілася на зялёны газон.

Падцягнулі шланг, лілі ваду па марліна. Аблітая вадою, рыба як ажыла. Спіна зардзела чырвона-фіялетавымі стужкамі, чэрава заблішчала, быццам фольга. Мокры марлін быў такі самы, як у акіяне, пра якога лепш не скажаш, як сказаў Сант'яга: «…паверхня акіяна ўздыбілася, і рыба пачала выходзіць з вады. Яна выходзіла, выходзіла, і здавалася, што ёй не будзе канца, а вада патокамі скатвалася з яе бакоў. Яна ўся ззяла на сонцы, галава і спіна былі цёмна-фіялетавыя, а палосы па баках на яркім святле здаваліся вельмі шырокімі і злёгку бэзавымі. Замест носа ў яе быў меч, доўгі, нібыта бейсбольная клюшка, і востры на канцы, як рапіра».

Рыба была такая магутная і прыгожая, што ў галаве не заціхалі словы Сант'яга: «Хіба людзі вартыя таго, каб ёю карміцца? Вядома, не вартыя».

Вялікі Крэол глядзеў на марліна і не заўважаў ні фотаапаратаў, ні рыбакоў, што ахвотна здымаліся ў розных паставах. Але калі да марліна падбеглі маладыя вісклівыя жанчынкі ў шорціках з бутэлькамі шампанскага, ён адвярнуўся і падаўся да Хаты. І я падаўся за ім следам.

У Хату ён увайшоў як свой чалавек. Я ж тут сваім не быў і на момант затрымаўся перад уваходам, вагаючыся — ісці ці не ісці? Спакуса была вялікая — зайшоў: Крэола — ні ў вестыбюлі, ні на тэрасе. На другі паверх вяла лесвіца, і мне падалося, што на дарожцы, засланай па лесвіцы, ляжалі яго сляды. Тут нікога іншага не было, усе высыпалі да марліна, але тут быў яшчэ большы культ марлінаў — музей. Чучалы, як жывыя марліны, віселі пад столлю, нібы плылі ў паветры, як у вадзе, распушыўшы плаў-

нікі, марліны былі ўнізе, на падстаўках, з усіх бакоў, меншыя і большыя, нават вялізныя, доўгія рылы марлінаў глядзелі са сцен, быццам прабіўшы іх сваімі вострымі мячамі, плылі з пакоя ў пакой. Хоць я трапіў у музей, але тут, у Хаце, жылі рыбакі са сваімі рыбачкамі. На вялізнай, ад падлогі да столі, дошцы можна было прачытаць іх імёны, прозвішчы, назвы краін, з якіх яны сюды прыляцелі і прыплылі, вагу найбольшых марлінаў, якіх яны вылавілі. Па сценах віселі фотаздымкі эпізодаў палявання, змагання з акіянам і рыбамі, рытуалаў у гонар самых мужных, самых шчаслівых рыбакоў і лепшых марлінаў.

З тэрасы праз вестыбюль прайшлі здаровыя загарэлыя барадачы, абвешаныя біноклямі, рыбацкімі прыладамі, стрэльбамі з аптычнымі прыцэламі.

Аглядаючыся, я чакаў Вялікага Крэола. Мне здавалася, што ён вось-вось сыдзе сюды, у вестыбюль, па лесвіцы, на якой я адчуваў яго свежыя сляды, з другога паверха, што, сышоўшы ўніз, ён пазнае мяне і штосьці скажа, хай сабе на мове, якой я не разумею (ох, якая пакута і страта — не разумець мовы людзей, сярод якіх жывеш!). Я здагадаюся, што ён скажа. І ён здагадаецца, што я яму адкажу. Але ён не паказваўся — я доўга разглядаў чучалы марлінаў і фотаздымкі на сценах. І тады да мяне прыйшло адчуванне, што недзе блізка, недзе тут сівабароды Хем, той самы, у якога, як сказаў Стральцоў, «вілястае, гнуткае, як вялізная рыбіна, прозвішча — Хемінгуэй».

Я разумеў, што тут не Ла Віхія. Але тут было штосьці ад кубінскай фінкі. Марліны? Рыбакі? Усё — так. А яшчэ — улада акіяна, сонца, таемнага водару глыбіняў таго самага акіяна і ўвасобленай у рэальнасць казкі пад уладаю вольнага і мужнага чалавека. Жыццё, якое панавала на Ла Віхіі.

Тут, вядома, нельга было сустрэць любімага пісьменніка. Але тут можна было яго чакаць. Хіба гэтага мала?

Я выйшаў з рыбацкай Хаты «Рыўер Нуар». Вакол, на ўвесь абшар, які можна было ахапіць вачыма, ляжаў сіні сонечны акіян. Цяпер я бачыў толькі яго і спыніўся ля самай вады. Далёка ад берага ў глыбіні акіянскай сінечы і сонечнага святла пабліскваў вастрапікі ветразь. Ён быў малы, ледзь прыкметны, ужо зусім знікаў у сонечнай смузе над супакоеным акіянам — плыў удалячынь, паспрачаўшыся з берагам. Я здагадаўся, што пад ім у акіян пайшоў Вялікі Крэол. Ён заўсёды, як я заўважыў, плыў на пошукі свайго рыбацкага шчасця ў гэтакі час, калі сонца паварочвала на другую палову дня і рыбакі з Хаты пачыналі вяртацца на бераг. Яны, іншыя, выплывалі вельмі рана, а ён,

мясцовы чалавек, з раніцы працаваў на беразе і паляваць на марлінаў мог толькі ў канцы дня.

Я сядзеў на прыбярэжным камені, глядзеў на далёкі ветразь, пакуль ён не растаў у далёкай сінечы, а калі знік, растаў, я адчуў сябе хлопчыкам, які чакае на беразе акіяна свайго рыбака. Мой рыбак не стары, не Сант'яга, мой — малады, здаровы, і я — не хлопчык усё ж, але… ці гэта так важна?

Што — важна? Тое, што адчуў сябе хлопчыкам? Што ля маіх ног акіян-бездань і я не ведаю, дзе гэтая бездань канчаецца? Што адчуваю яе як бясконцасць і вечнасць, з якое да мяне павінен вярнуцца Вялікі Крэол — з самай прыгожай рыбінай?

Я чакаю Крэола — гэта галоўнае. І яшчэ тое, што акіян і чалавек, які там, у акіяне, вучаць чакаць.

Але… калі чытаў аповесць «Стары і мора», я тады яшчэ зроду не бачыў мора-акіяна і ў той жа час разам з хлопчыкам да апошняй старонкі чакаў Сант'яга. Я не мог перапыніць чытанне, адкласці яго на дзень ці на гадзіну, бо мне здавалася, што калі я гэта зраблю, дык гэтым самым усё роўна як пакіну старога аднаго ў акіяне, і ён тады ўжо не вернецца на бераг, загіне адзін. І я чытаў, пакуль ён не вярнуўся і не лёг спаць, смяртэльна стомлены, у сваёй беднай рыбацкай хібары. Я ўвесь час быў з ім у акіяне, але быў і з хлопчыкам на беразе акіяна, мы чакалі старога разам з хлопчыкам, удвух, і таму, што мы яго чакалі, ён вярнуўся. І калі ў той час, чакаючы Сант'яга, я яшчэ не ведаў, што такое акіян, ніколі яго не бачыў, дык гэта значыць, што абавязку чакаць чалавека, гэтаму — як сардэчнай патрэбе, мяне навучыла зямля. І гэта значыць, што яны, акіян і зямля, аднолькава мудрыя і даюць нам, людзям, адны-аднолькавыя ўрокі мудрасці і маралі.

Гэтак я думаю цяпер, а тады, захоплены «Зялёнымі ўзгоркамі Афрыкі», небам Іспаніі над галовамі Роберта Джардана і Эль Сорда, мужнасцю старога Сант'яга, я пра ўсё гэта не думаў. Нават яшчэ ўчора пра гэта не здагадваўся. І толькі таму, не дачакаўшыся Вялікага Крэола, разам з эстонцам Лео Цедраняэ, дырэктарам кветкаводчага саўгаса «Пірыта», што пад Талінам, паехаў у госці да Раджа, які падкаціў на сваім «Пежо» да «Рыўер Нуар», прыйшоў да нас на бераг і сказаў проста, як толькі сябра можа сказаць сябру:

— Мяне завуць Радж. Я не Капур. Адносін да артыстаў кіно не маю, служу ў будаўнічым банку. Але я індус, маё прозвішча — Ніпаль. Вучыўся ў Маскве, люблю вашу краіну. У мяне ёсць дом на беразе акіяна, ёсць Пушпа, мая гаспадыня, у нас з Пушпай

ёсць маленькі Каміні і дзве дзяўчынкі, Калпана і Манеша. Усе мы вельмі хочам, каб вы прыехалі да нас у госці.

І мы паехалі — я, Лео і наш літоўскі сябра Вітаўтас.

У тую хвіліну, калі знаёміліся з Раджам, я не падумаў, што павінен дачакацца Крэола, з рыбай ці без рыбы. А калі апынуўся ў гасцінным доме, пра Крэола спачатку забыў. Ну як я мог пра яго думаць, калі маленькі Каміні, у чарнявых вочках якога ад непамернае чысціні і дабрыні пастаянна блішчалі не то зорачкі, не то слёзкі, будуе з цаглінак канструктара высокую вежу, каб яе падарыць нам, гасцям, а вежа зноў і зноў бурыцца? Ці хіба прыйдуць думкі пра што іншае, калі старэйшая Манеша, у акно да якой ужо заглядаюць хлопцы-падлеткі, рыхтуе школьную матэматыку на кампутары, па экране якога бягуць і бягуць доўгія радкі формул? Дзіўны падручнік. Але большае дзіва, калі Калпана пачынае рыхтаваць урок па музыцы. Навошта, здаецца, тут кампутар?

— Навошта? — Калпана паціскае плечыкамі і глядзіць на мяне, як на пячорнага чалавека.

Яна мае падставы гэтак на мяне глядзець. Я па гэтакіх падручніках не вучыўся. Дыялог у нас не атрымоўваецца. Яна зноў пачынае набіраць на кнопках маніпулятара гукі, якія выстройваюць не толькі мелодыю, але і нотны радок на экране.

Пакуль Пушпа збірае на стол вячэру, Радж запрашае гасцей на балкон. Уверсе, над галовамі, яркія зоркі, а ўнізе — акіян. Начны, але жывы, ён хвалюецца і блішчыць пад зоркамі, як луска на жывой рыбіне, што змагаецца з чалавекам, і тут мне зноў прыгадаўся ветразь на даляглядзе. Начны далягляд блізкі, не той, за які я праводзіў Крэола, і калі Крэол яшчэ не вярнуўся, дык гэта значыць, што ён зараз у далёкай цемры акіяна, з якое берага не відаць, нават агнёў на беразе не відаць, і ніхто з берага не ўбачыць Крэола. Гэта — не самае страшнае. З глыбіні акіяна лодку Сант'яга ўсю ноч канваіравалі акулы. Яны прыплылі да яго на пах крыві і нарабілі яшчэ большай крыві. Там была кроў марліна. І кроў акул, якім Сант'яга не здаваўся без бою. Там была жорсткая барацьба чалавека з акуламі. Чалавек біўся і перамог акул, можа, толькі таму, што яго ўсю ноч на беразе чакаў маленькі хлопчык — вялікі сябра Сант'яга.

Пра акул шмат ведае Бінеш. Ён пляменнік Раджа і таксама прыйшоў да нас.

Радж з ахвотай, нават з гонарам, расказвае пра свой дом, у якім мы гасцюем, пра тое, як узяў дзяржаўны крэдыт, купіў пад

дом кавалачак камяністай зямлі на беразе акіяна, за якую выклаў палову крэдыту, сам зрабіў праект дома на два паверхі, за тры гады вырасціў цудоўны садок.

— Я з чатырнаццаці гадоў круглы сірата. Адразу, як памерлі бацька і маці, прыйшоў на будоўлю. Цяжкой работы не баяўся ніколі.

А Бінеш — пра акіян, марлінаў, акул. Ён мне зноў нагадвае пра Крэола, і таму, мабыць, мы раней, чым хацеў Радж, вяртаемся ў атэль.

Ля ўвахода, на пляцоўцы, дзе звычайна збіраемся вакол тэлевізара, танцы. Да нас у госці прыйшлі маладыя крэолкі, апранутыя ў яркія спадніцы і лёгкія адкрытыя кофтачкі, са стужкамі і кветкамі ў валасах, босыя, іх прывялі тры маладыя крэолы — адзін з гітарай, другі з барабанам, трэці з флейтай — і яны, ніякія не артысты, проста мясцовыя дзяўчаты і хлопцы, танцуюць сегі, народныя крэольскія танцы, сатканыя з гарэзнасці, лёгкасці, вясёлай музыкі, пластыкі рухаў і стракатай віхуры ўбораў. Высокі крэол, з гітарай на грудзях, пад шырозным развесістым капелюшом, расказвае пра сегі, што гэта за танцы, паказвае, як іх танцуюць, а потым крэолкі разбягаюцца, хапаюць кожная сабе на пару па мужчыну, і пачынаецца самае вясёлае. Трэба не проста кружыцца з прыгожанькай крэолкай. Калі яна раптам падае перад табой на калені, ты, кавалер, таксама павінен стаць перад ёй на калені і танцаваць, ужо не нагамі — усім целам, як гэта робіць яна, калі ж яна, стоячы на каленях, кладзецца перад табой на спіну, зямлі спіной не кранаючыся, працягваючы і цяпер нават танцаваць моваю рук, плячэй, твару, гнуткім танклявым торсам, ты не можаш ні здрадліва ці баязліва збегчы, ні стаяць, нібы слуп, на каленях, павінен танцаваць, нават калі ў цябе не гнецца як трэба хрыбціна і жывот, які ты без меры наеў на тлустых еўрапейскіх харчах, вялікі. Напарніца ўжо заўважыла твае пакуты і рагоча, танцуючы, нібыта здзекуецца з цябе, цельпуха, з тваёй мужчынскай недасканаласці. Чым яна табе дапаможа? Хіба тым, што раптам схопіць за нагу, адкіне яе, тваю качарыжку, убок, тое самае зробіць з другой тваёй нагою, павучыць, як трэба стаяць на каленях перад прыгожай, можа, сапраўды самай прыгожай у свеце жанчынай, як кажуць і пішуць пра крэолак Маўрыкія і Сейшэлаў, і пасля гэтага табе ўжо зручней нахіліцца да яе, нават і рызыкоўна блізка.

Крэольскія сегі!.. Нішто — ні слова, ні музыка, ні жывапіс — не можа, здаецца, спаборнічаць з сегамі ў выяўленні душы крэола. Пластыка, рытміка, незвычайная ўжо ў самім тэмпераменце

паэзія рухаў крэола — з’ява арганічная, прыродная, не проста нацыянальная, але і гістарычная. Тое, што ў крыві ў народа.

Поўнач.

Мы ўсе разам на беразе акіяна спяваем песні, з якімі крэолы чакаюць рыбакоў. Гэта не проста песні. У іх — то крык душы, то ціхая малітва, то стрыманая мужнасць. Яна, мужнасць, патрэбна не адным рыбакам, якія там, у акіяне, змагаюцца з марлінамі і акуламі, але і тым, хто кожны дзень і ўсё жыццё чакае на беразе бацьку ці мужа, сына ці брата. Таго, хто ў акіяне.

Песні-гуканні, песні-плачкі, песні-малітвы заціхаюць. Нашы госці разыходзяцца па сваіх крэольскіх хацінах. У адзін канец ночы — пад звон гітары, у другі канец — пад барабанныя рытмы. Бераг пакідаюць і жыхары атэля. А я застаюся на беразе. Я іду да Хаты рыбака і насупраць яе, на тым самым беразе, заўважаю людзей. Хто бліжэй да вады, хто далей, адны стаяць, бліскаюць агеньчыкамі цыгарак, другія ціха сядзяць у шэзлонгах і на камянях, усе маўчаць, а твары ўсіх павернуты ў бок акіяна. Суседзі не спяць, як і мы, але не сегі крэолаў адбіраюць у іх сон. Яны кагосьці чакаюць адтуль, з акіяна. Вялікага Крэола? Але, пакуль мы з Лео і Вітаўтасам гасцявалі ў Раджа, Крэол мог вярнуцца. Рыбакі з Хаты наўрад каб яго чакалі. Яны чакаюць некага свайго. Можа, Крэол зноў паплыў з Гвідо і яны чакаюць Гвідо? Калі так, то і Крэола. Гвідо і Крэола.

Тут, на беразе начнога акіяна, нечакана прыходзіць думка: калі чалавеку ёсць каго чакаць, калі ў сэрцы яго жыве неабходнасць чакаць іншага чалавека, то гэтакі чалавек заўсёды застанецца чалавекам. І чалавецтва, якое ўмее чакаць з далечыні ці з бяды, з нейкае прорвы, кожную жывую душу, нават у час самага цяжкага выпрабавання застанецца чалавецтвам. Яно будзе жыць.

Гэта ведаў Хемінгуэй. Адчуванне такое, што ён гэта не прыдумаў — проста адкрыў у жыцці Сант’яга і Манолін, старога і хлопчыка. Але цяпер я ведаю, што гэта ён толькі заўважыў у жыцці народа і зразумеў як высакародны чалавек і сапраўдны мастак. Пачуццю знайшоў дакладныя, адпаведныя словы.

І ўсё роўна — нібыта адкрыў.

Ён быў рыбаком, не горшым за Сант’яга, і мужнасць ягоная была не меншай, як мужнасць Сант’яга і хлопчыка.

Усё ў гэтым — у чалавечай сутнасці мастака.

*P. S.*

Калі мы прылятаем ці прыплываем яшчэ на нейкія астравы ў акіяне, Оліта Абаліня дастае з чамадана сваіх «тыпаў» — гэтак,

любоўна і з гумарком, яна называе свае скульптуркі-мініяцюры, — фотаздымкі тых «тыпаў», якіх не ўзяла з сабою ў падарожжа, пакінула ў Рызе ці Юрмале, і паказвае іх астраўлянам. І яны — мальгашы, крэолы, індусы, негры, арабы — стаяць падоўгу, з жывой цікавасцю, перагаворваючыся і смеючыся, разглядаюць яе чамаданных спадарожнікаў. Падабаюцца? Вельмі.

Оліта — выдатны латышскі скульптар у жанры мініяцюры. Яе мастацкія вобразы: рыбакі, сяляне, музыкі, старыя і дзеці Латвіі. Але адкуль гэтакая цікавасць да ўсіх іх у мальгашоў, крэолаў, індусаў, арабаў?..

Яны, астраўляне, бачаць у гэтых «тыпах» далёкую зямлю і далёкі народ? Ці пазнаюць у іх сябе?

І бачаць далёкае, і пазнаюць сваё.

Мабыць, у кожным нацыянальным вобразе ёсць і агульначалавечае. Тое, што прымушае і мяне сядзець па беразе акіяна — чакаць Вялікага Крэола.

### Навошта мне кракадзілава лапа?

На рынку Зума ў Антананарыву, тым самым рынку, дзе наш знаёмы стары прадае курэцкія люлькі піратаў, з усяго свету збіраюцца купцы і ганцы, знаўцы і прыхільнікі духоўных народных скарбаў, мастацкіх вырабаў, у якіх жыве душа мальгаша, яго талент і геній. І проста каларытны народны побыт.

Апынуўшыся тут, адразу трапляеш у людскі натоўп, які шырозным прагонам плыве паміж крамак з парасонамі і без парасонаў, стракатых і развесістых, нібы татара-мангольскія шатры, у два канцы рынка ці цэлага свету, і ты, падпарадкаваўшыся левастаронняму ці правастаронняму руху, сунешся з усімі разам, абыходзячы астраўкі выстаўленых-выкладзеных ледзь не пад ногі тавараў. Спачатку тавары трапляюцца самыя празаічныя — кашы, мётлы, бочкі, цыноўкі, вырабы з гліны, саломы, дрэва, — далей пойдуць астраўкі з выкладзенай на посцілках гароднінай — чыста памытай ружова-сонечнай морквай, кавунамі, дынямі, качанамі, жоўценькімі кукурузнымі кіяхамі, чырвонымі да сінізны пірамідкамі памідораў, зусім ссінелымі баклажанамі, — яшчэ далей астраўкамі стаяць мяхі з арэхамі, сухафруктамі, ячменем на піва, якое тут прадаецца ў вялікіх чорных бутэльках і вельмі падабаецца еўрапейцам, а там і самыя маляўнічыя і духмяныя астраўкі, дзе адны фрукты, таксама высыпаныя купкамі па посцілках — бананы, апельсіны, ананасы, мандарыны, авакада, яблыкі, манга, папая, штосьці яшчэ і яшчэ, — і яшчэ больш духмяныя: карыца, ваніль, гваз-

дзіка, перац, усе тыя прыправы, якімі славяцца і Зума, і ўвесь Мадагаскар. І гэта і не толькі гэта, яшчэ шмат чаго сярод людской паводкі, якая плыве, віруе, гойдаецца двума паверхамі галоў, дзе ніжні паверх выключна чарнявы — малыя, іх тут быццам гароху, які нехта сыпануў у людскую плынь, яны, хуткія, нібы яшчаркі, шыюцца паміж рук і ног, а ўжо над імі — паверх таксама чорных галоў, але перасыпаных з белымі-сівымі, дарослымі і старэчымі, а яшчэ вышэй паверх трэці — тое, што плыве на галовах і над галовамі: збаны, кулі, кашы, чамаданы, цыноўкі і мётлы, усё, што наогул можна ўбачыць на рынку, бо на тым трэцім паверсе прастарней, на галаве нясеш — натоўпу не замінаеш, ды і як мальгашу гаварыць з купцамі, знаёмымі, з самім сабою, калі ён будзе ўсё несці ў руках, бо гаварыць кожны мальгаш павінен не толькі моваю, але і рукамі. Ды і гэта ўсё яшчэ не дае ўяўлення пра людскую плынь на рынку Зума, калі не сказаць, што яна, гэтая плынь, слепіць вочы рэзкімі, кантраснымі, неверагодна стракатымі фарбамі, якія ад вопраткі, ад упрыгожанняў на жанчынах, ад тавараў, што плывуць і плывуць на галовах, над галовамі. Дзень, як кожны дзень, тут сонечны, ясны, чысты, а сонца робіць колеры рэзкімі, сакавітымі, і ты ідзеш-сунешся ў іх паводцы і ўжо заўважаеш, што разам з табою, як ты сам, там-сям сунуцца аўтамашыны, легкавікі ці грузавікі, павозкі з гарбатымі быкамі зебу, якія высокімі адпаліраванымі рагамі ловяць сонечныя прамяні, сморгаецца ў вупражы асёл ці ішак. І вось нечакана, упёршыся ў жывую людскую сцяну ці ў якога быка, ты некага штурхануў ці ледзь не пацалаваўся з мокрай бычынаю мордай, даеш рэзка ўлева ці ўправа, зварочваеш з галоўнае магістралі рынку, прабіраешся паміж астраўкамі з таварамі і аказваешся у зусім новым свеце Зума, у тым самым свеце, дзеля якога ты сюды ехаў ці ішоў, якім Зума славіцца больш, як чым іншым, — сярод народных мастацкіх вырабаў, якіх, як табе ўжо расказвалі, ты нідзе столькі не знойдзеш, акрамя як тут, нідзе на Мадагаскары і тым больш на іншых астравах — ні на Маўрыкіі, ні на Сейшэлах. І што гэта такое? А хоць бы вырабы з кракадзілавай скуры: партфелі, сумкі жаночыя любых памераў і фасонаў, на самы розны ўжытак і густ, мужчынскія партманеты, чамаданы, рамяні і рамянёчкі featuresрознае даўжыні, шырыні і мастацкай аздобы, адны — для жанчын, другія — для мужчын, кашалькі, шкатулкі, футаралы пад розныя рэчы, ад скрыпак да акуляраў, упрыгожанні на сцены ў кватэрах, шчоткі, нават галовы, зубы і кіпцюры кракадзілавы. Старанна вырабленыя, падабраныя з абрэзкаў па малюнку, як падбіраюць

мазаічныя карціны, злёгку аздобленыя лакам, рэчы са скуры кракадзіла — гэта не проста рэчы са скуры, а мастацкія фрэскі, паўтарэння якім у прыродзе няма і не будзе. Непаўторная сама па сабе скура, але ж гэта як быццам ужо не тая скура, якую табе даводзілася бачыць на жывым кракадзілу. Тая, вядома, але яна пабывала ў руках майстра, мастака, і сваю мастацкую сутнасць не толькі захавала, але выявіла па-новаму, больш каларытна, рэльефна. Рэчы дарагія, яны табе не па кішэні, але кожную з іх ты можаш перамацаць у руках, разгледзець звонку і знутры, можаш пра ўсё, што цябе цікавіць пра гэтую рэч і пра самога кракадзіла, распытаць, і табе доўга будуць расказваць. Тут ты дазнаешся, што кракадзіл есць, п’е, як жыве з кракадзіліхай, чым кракадзіл адрозніваецца ад алігатара, што кракадзіл нясе ў год роўна трыццаць шэсць яек, з якіх вырастае яго маладое сямейства, і што на Мадагаскары ўжо забараняюць забіваць кракадзілаў, бо іх меней і меней. Усё гэта чуючы, думаеш: адкуль жа на рынку столькі рэчаў з кракадзілавай скуры, калі кракадзілаў берагуць і разводзяць? Можа, аддаўшы сваю скуру, кракадзілы нарошчваюць на сабе другую? Думай што хочаш, але не пары, як кажуць, лычом у чужым агародзе, і калі не купляеш, то хоць падзівіся, як людзі купляюць. А яшчэ не лішне ўспомніць, што ў цябе ўзімку на галаве, што за шапка, з якога яна футра, ці не з футра таго самага звера, які некалі жыў у тваім родным Прысожжы ці Прыдняпроўі і жыццё якога, як і жыццё кракадзіла на Мадагаскары, абараняюць строгія дзяржаўныя законы. Ды і наогул пра што размова? Кожны, хто прыходзіць на Зума, жыве па яго законах, а тут галоўнае не тавары, нават не франкі — сам працэс куплі і продажу. Устаўшы як найраней, маючы штосьці ў руках на продаж, мальгаш жыве са сваім таварам цэлы дзень, і дзень гэты ў яго тады асэнсаваны, не пусты, усё роўна як у Разафі, якая штораніцы вітае мяне ля атэля «Кольбер». Няма што прадаць? Мальгаш што-небудзь возьме на продаж у суседа, сваяка, знаёмага, бо калі ён прадае — гэта больш, як продаж, абмен рэчы на франкі, гэта выйсце з якое хочаш ізаляцыі — сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай, сямейнай — бо, прадаючы, ён гаворыць праз свой тавар і купца са светам. Першы раз сюды трапіўшы, ты пачынаеш разумець, што для мальгаша гэтая размова якраз тое і ёсць, дзеля чаго ён таўчэцца тут, на рынку. Бо жыць без гэтай размовы ён не можа — такі характар, такая духоўная патрэба. Вось ты прайшоў міма будачкі, дзе прадаюцца тыя самыя рэчы з кракадзілавай скуры. Міма прайшоў. Але што такое? Чаму, мінуўшы будачку, ты ўсё

яшчэ бачыш бліскуча-чорныя, ядраныя, агністыя жаночыя вочы, якія на цябе стрэльнулі з будачкі? Што за насланнё? Азіраешся: хто яна, уладальніца гэтых вачэй, ад якіх не можаш пазбавіцца? Вунь — стаіць сярод рэчаў з кракадзілавай скуры, глядзіць на цябе, ледзь-ледзь усміхаючыся. Гэтага ледзь-ледзь дастаткова, каб ты вярнуўся ці то да яе тавараў, ці то да яе самой, каб на нейкі момант затрымаўся, хоць на столькі, каб яна паспела зла-віць твой позірк на кракадзілавым рамяньку і, злавіўшы, зняла той самы раменьчык з цвіка ў сцяне і падала яго табе. І гэта — пачатак дыялога. Першы кантакт быў паміж вачыма, а гэта ўжо дыялог. Бо як толькі ты ўзяў рэмень у рукі, вокам прыкінуў яго даўжыню, шырыню, прыгледзеўся да малюнка, аздобы, штось-ці не ўпадабаў, яна ўсё адразу прачытала ў тваіх вачах, жэстах і думках, прапанавала іншы рэмень, шырэйшы ці даўжэйшы, з іншым малюнкам, і яшчэ адзін, і яшчэ, і ты ўсе, якія ёсць, пе-рабраў-перамацаў, ніводнага не выбраў сабе ці, можа, паскупіў-ся ў цане, і быў гатовы ісці далей, ды кінуў позірк на сцяну, дзе віселі сумкі, таксама са скуры кракадзіла, і маладзіца перахапі-ла твой апошні позірк, забрала ад цябе ўсе рамяні, якія старан-на падбірала, падала шыкоўны, не па рангу, можа, нават мініст-ру, хіба, можа, для прэм’ер-міністра партфель — гэта ўсё дыялог і ёсць, паміж табою і гаспадыняю будачкі. І тое, што яна, чар-навокая, падала табе гэтакі шыкоўны партфель, ты ўжо не ацэніш іначай, як прызнанне цябе за вялікага чалавека, і пасля гэтага нічога не застаецца рабіць, як доўга разглядаць партфель, разглядаць і дзівіцца, як шмат у ім розных кішэнек, баковачак, кладовачак, дзе пад кніжку, дзе пад бутэльку, дзе пад каўбаску, дзе пад папяровыя сакрэты, змацаваныя гербавым, не іначай, законам. Адны баковачкі на кнопках, другія на замочках, трэція на матузках, але якія яны ні цікавыя, ты яшчэ раней, як заўва-жыць іх, заўважаеш яе ўсмешку, як быццам ветлівую, але здзек-лівую. Можа, табе толькі падалося, што яна прыняла цябе за вялікага чалавека? Тут бы ўзяць ды раскашэліцца, даказаць, што ты сапраўды варты шыкоўнага партфеля, варты не менш, як прэм’ер-міністр, ды штосьці стрымлівае ад гэтага адказнага кроку. Чарнявыя вочы цябе і тут зразумелі: на паперцы ўжо напісана аловачкам, што партфель каштуе сто пяцьдзесят тысяч франкаў. Ты папярхнуўся? Хоць што значаць тут гэтыя тысячы франкаў? Пяць тысяч — саламяны капялюш. Але ж у цябе ўся-го дванаццаць тысяч у кішэні — на два з паловаю капелюшы? Можа, яна і здзекуецца, што ў цябе ўсяго толькі дванаццаць тысяч? Вось і падсоўвае маленькі, на паўдалонькі, кашалёчак:

гэты, маўляў, па кішэні? І на паперцы піша: 12 тысяч! Цябе кідае ў пот: адкуль ведае пра твае дванаццаць тысяч? Бачыць наскрозь? Але цяпер ты глядзіш вышэй — на прыгожыя жаночыя сумачкі, быццам ў цябе ў кішэні франкаў больш, як яна думае. І сумачкі адразу злятаюць з цвічкоў на прылавак: выбірай, калі падабаюцца. Вось і новыя цэны з'яўляюцца на паперы: 25 тысяч, 37 тысяч… Надта доўга выбіраеш? Выбраў лепшую, на свой густ, 32 тысячы франкаў? Але цяпер і ты смялееш — на той самай паперцы пішаш тыя тысячы, якія згодны заплаціць: 12! Ведаючы, што гэтую лічбу не падымеш ні на адзін франк. Гаспадыня сумачкі хапаецца за галаву і рагоча, паказваючы табе ўсе два рады роўненькіх і моцных, белых, як жамчужыны, зубоў. І піша далей: 30! Але ты стаіш на сваім і зноў пішаш тую самую лічбу. Яна зноў рагоча, але цану збаўляе: 25! Яна адчувае твой цвёрды характар, і табе ўдаецца неверагоднае — збіць цану да 15 тысяч франкаў! Ужо здаецца, што сумачка з выдатнай кракадзілавай скуры ў цябе ў руках, але… 15 — не 12? Што такое тры тысячы, якія не даюць прыйсці да згоды? Усяго толькі палавіна саламянага капелюша? І тым больш што яны такое, калі ты з маладзіцай ужо ледзь не сябра? Гэтакі доўгі і вясёлы быў дыялог, і гэтак яна табе збавіла за сумачку, што паспела стаць, здаецца, і блізкаю, і добраю, і прыгожаю, і любаю. Сама ўжо не хоча, каб ты пайшоў з пустымі рукамі, не хоча цябе адпускаць, як усё жыццё марыла з табою сустрэцца ды пагаманіць. Не ведаеш ты яе мовы, яна твае мовы не ведае, але і тут выйсце знайшлі: сведка — аркуш паперы. І вось яна, мальгашка, пад тваім упартым радком — 12 тысяч франкаў — ставіць сваё апошняе слова: 12! Няўжо? Значыць, недарма яна табе гэтак спадабалася? І ты — ёй? Паразумеліся, як свае? Твае рукі зноў цягнуцца да запаветнае сумачкі, ты ўжо ўяўляеш, як будзе жонка радая гэтаму падарунку, але раптам мальгашка раней за цябе хапае сумачку, ускідвае на тое самае месца, дзе яна і вісела, на сценку, і падае табе лапу кракадзіла з пяццю кіпцюрамі. Лапа на метровым дубчыку. І лапа, і дубчык прыгожа выраблены, але навошта яны табе? Ты маўчыш, не ведаючы, што адказаць, адно адчуваючы, што ў гэтым нечаканым жэсце ёсць загадка. Насмешка? Здзек? Што яна, мальгашка, зараз адчувае і думае? У вачах гарацць чорцікі. Яна выхоплівае ў цябе з рукі лапу кракадзіла і, сунуўшы яе сабе пад кофту, чухае і рагоча ад асалоды. І працягвае лапу табе, каб ты таксама пачухаўся. Цяпер ты разумееш, для чаго лапа кракадзіла на дубчыку. Незразумела іншае: гэта шчырая прапанова купіць лапу за 12 тысяч франкаў ці здзек з тваіх купецкіх маг-

чымасцей? І калі здзек — папусціцца? У галаве была з’явілася шалёная думка прывезці дадому экзатычную кракадзілаву пяцярню, але ўзяць яе з рук мальгашкі ты ўсё яшчэ баішся. Рашуча адварочваешся і ад лапы, і ад мальгашкі, і ад крамкі, каб ісці далей сваёй дарогай, ды ў гэты момант з крамкі вылятае злосны мужчынскі крык, падобны на лаянку. Азіраешся, і ў самым куточку крамкі, цесным і цёмным, куды, захапіўшыся мальгашкаю, не паспеў яшчэ зазірнуць, ты заўважаеш чарнявага віславухага мальгаша, які совае кулаччам у твар тваёй сімпатыі, крычыць і плюецца, раз’ятраны. Чаму ты не бачыў яго раней? І за што ён гэтак азвярэў на жанчыну? Ён што — яе муж, гаспадар крамкі? Ці, можа, яна ў яго наймічка? Можа, як Разафі, прадае не свае рэчы? Але што з таго? Чаго ён на яе злуе? Што ты адышоў ад крамкі, нічога не купіўшы? Дык ці яна вінаватая? Не змагла цябе ўгаварыць, каб ты нешта купіў? Табе шкада яе, і ты вяртаешся да крамкі. Мальгаш замаўкае, зноў апускаецца на свой нізкі слончык, адразу зрабіўшыся маленькім, непрыкметным, і цябе ўжо не здзіўляе, што ты яго раней не заўважаў. Ён і цяпер не цікавіць. Ты выкладаеш на прылавак усе свае тысячы і з рук чарнавокае прыгажуні атрымоўваеш лапу кракадзіла. Твая сімпатыя танцуе за прылаўкам. Танцуюць яе шчаслівыя вочы. І ты рады. Не за сябе — за яе. Вось толькі сказаў ёй як быццам не ўсё. І пакупкаю, і сваім позіркам, і калонкаю лічбаў на паперы. Штосьці ты яшчэ хочаш ёй сказаць, але перашкаджае морда, якая не толькі ўхмыляецца, але і чэпка сочыць з-за прылаўка за кожным яе і тваім рухам і позіркам. І раптам табою авалодвае дзёрзкая думка: ты хапаеш той самы аркуш паперы, на якім у калонку з лічбаў выстраіўся ўвесь твой палюбоўны дыялог з мальгашкай, з кішэні выхопліваеш тоўсты чырвоны фламастар, рады, што не пакінуў яго ў атэлі, і ўнізе, пад калонкаю лічбаў, як падсумоўваючы доўгі дыялог, нервова рэзкімі штрыхамі малюеш ладны кукіш, агрэсіўны і сакавіты, усё роўна як і перцам і соллю прысыпаны. Едкі! І падсоўваеш паперку ўжо яму, мальгашу, гаспадару кракадзілавай крамкі. Гэта твая расплата з ім за тое, што драў горла на жанчыну, якая так табе спадабалася. Ён атупелымі вачыма, нібыта бык, уставіўся ў твой малюнак, і ты яшчэ не ведаеш, якая зараз будзе рэакцыя, толькі здагадваешся, што можа быць нават міжнародны канфлікт — чакаеш штосьці паганае, хоць зусім не шкадуеш аб тым, што зрабіў. Твар мальгаша яшчэ больш чарнее, нервова зіркае то на цябе, табе ў вочы, то на малюнак, і ты бачыш, што мальгаш усё зразумеў, адчувае, як ты яго прынізіў, але яшчэ не надумаў, як

на гэта рэагаваць. І тут усё мяняе яна, жанчына. Хвіліну назад ты кінуўся ёй на дапамогу, калі на яе крычаў мужчына, нёс са свайго паганага рота невядомыя табе брыдкія словы, а цяпер яна ратуе цябе. І як проста! Хапае ў рукі паперку і, танцуючы з ёю, рагоча, аж заліваецца, то прысядаючы, то рукамі разводзячы. Яе рогат робіць весялейшым спачатку цябе, і ты ці то смялееш, ці то наглееш — сунеш кракадзілаву лапу пад тэніску дзікаму мальгашу, шоргаеш ёю яму па пузе, і ўжо ён таксама заліваецца рогатам. А што пасля? Ты сунеш лапу і сабе за каўнер, чухаеш спіну — табе цяпер таксама ахвота рагатаць, і ты рагочаш з імі разам. І канфлікту як не было. Выратавалі мальгашка і кракадзілава лапа? Ты яшчэ раз пераможна, нібы цяжкі камень, накатваеш позірк на гаспадара крамкі, весела і шматзначна, яму на здзек, падміргваеш маладзіцы і, ускінуўшы на плячо, як падарожны кій, дубчык з кракадзілавай лапаю, брыдзеш далей па Зума, міма іншых маленькіх крамак, адчыненых да цябе, нібы кнігі з добрымі вясёлымі казкамі. Свет, які цябе акружае, як быццам не свой, чужы, і ты яму як быццам чужы, але ўжо ўпэўнены, што цяпер, калі на плячы кракадзілава лапа, табе будзе ўсюды шанцаваць, усё роўна як у руцэ найшчаслівейшы талісман, цяпер любая мальгашка за любую цану аддасць табе ўсе свае багацці, сама за табою пойдзе, куды скажаш, а іх мужыкі будуць ціха сядзець па сваіх куточках, утуліўшы ў плечы чорныя галовы з чорнымі думкамі. І ты спыняешся, бо трэба падумаць, куды падацца далей. Можа, туды, дзе прадаюць вядомыя ў свеце мальгашскія пляценні з травы і лісця? Але што табе цяпер тая трава, тое лісце? Дзе разьба з чырвонага дрэва? Дзе вострыя мадагаскарскія прыправы? Дзе яшчэ больш славутыя мадагаскарскія тапазы, рубіны, яшма, малахіт, гранат? Ты, шчаслівы, ужо забыў, што ў кішэні тваёй ні франка, і гэта добра, што забыў, бо іначай, можа, ты б не апынуўся ў яшчэ адной крамцы сярод тых самых славутых камянёў Мадагаскара, натуральных і апрацаваных людскімі рукамі, гранёных і шліфованых, вытачаных і выпілаваных з парод, сярод камянёў, дзе кожнае — сонейка, у кожным — не адно сонейка, і музыка, бясконцая музыка. Вочы разбегліся ва ўсе бакі, ты не заўважаеш нават гаспадара крамы — кітайца, які падышоў да цябе і з усмешкаю штосьці кажа на сваёй ці не на сваёй, але не на тваёй мове. Яго мову ты не чуеш, але чуеш раптам сваю мову: «Гаспадар магазіна просіць вас прайсці ў двор. Можа, там вы знойдзеце сабе па густу камень Мадагаскара?» Азіраешся — жанчына. Адкуль яна ведае пабеларуску? Спытаць ты не паспяваеш, бо ўжо ідзеш за кітайцам

у двор пад экзатычныя дрэвы. Цябе зноў акружаюць камяні: чырвоныя, ружовыя, блакітныя, зялёныя, жоўтыя, чорныя, апалавыя, шэрыя, белыя, дробненькія, на атласных падушачках, хоць ты іх пінцэтам бяры, і вялізныя, на зямлі пад дрэвамі, асколкі гор і падземных кладовых, як пісаў акадэмік Ферсман. Тут табе і выстаўка камянёў, і майстэрня, у якой яны пачынаюць жыць другім жыццём, апрацоўваюцца, набываюць у руках майстра высакародны выгляд, падганяюцца ў любы пярсцёнак і медальён. Сам гаспадар — і гандляр, і камяняр, і гранільшчык-ювелір. Ён табе падносіць карабочак, у якім на белым атласе ляжаць два блакітныя, у крапінкі, яечкі з яшмы. Паспеў зразумець, хто ты і адкуль, што ты тут першы раз, і вось вітае падарункам. Ты разумееш, што камяні ў карабочку недарагія, можа, зусім танныя, але, падобныя на яечкі дразда, яны і прыгожыя, і дарагія тым, што будуць табе напамінкам пра рынак Зума і гэты маленькі магазінчык з утульным дворыкам, у якім, здаецца, можна было б і жыць. Ды як ты адсюль пойдзеш, атрымаўшы падарунак і нічога не купіўшы за грошы? Гэта было б неверагодным свінствам. Але і купіць ты не можаш, бо ў цябе не засталося ні франка. І тут, ледзь ты пагладзіў на плячы лапу кракадзіла, у магазінчык заходзіць Жазэф. Ён, твой гід, шукае цябе, бо ўсе сабраліся ехаць, сядзяць у аўтобусе і чакаюць цябе. Ты расказваеш Жазэфу пра сваё дурацкае становішча, і тады ён выхоплівае ў цябе з рук лапу кракадзіла, распытвае, дзе ты яе купіў, і бяжыць з ёю за парог. Няўжо Жазэф верне мілай мальгашцы лапу? Няўжо ён забярэ ў яе назад тыя тысячы франкаў? Ты шкадуеш, што расплакаўся перад Жазэфам. Шкадуеш лапы? Але яшчэ мацней шкадуеш мальгашку. Ды куды ўжо дзецца? І раптам у магазінчык улятае Жазэф. Ён вяртае табе назад кракадзілаву лапу і разам з ёю — пяць тысяч франкаў! Аказваецца, ён расказаў, у якім ты апынуўся становішчы, і твая сімпатычная мальгашка з радасцю, каб табе дапамагчы, вярнула пяць тысяч і прасіла Жазэфа перадаць, што калі б ты сам прыйшоў, то яна вярнула б усе дванаццаць тысяч. І вось тое, што табе падабаецца ў магазінчыку кітайца больш за ўсё, якраз каштуе пяць тысяч франкаў. Гэта дзве — пара — акамянелыя ракавінкі. Дакладней: адна ракавінка, уманціраваная прыродаю і мільёнамі гадоў у мармур, сама напоўненая мармуровай пародаю зялёна-блакітных колераў, ды ладная, як на твае дзве далоні, гэтак удоўж распілаваная і адшліфаваная майстрам-кітайцам, што дзве авальныя плоскасці, лежачы побач, нагадваюць дзве суседнія кніжныя старонкі, з той толькі розніцай, што тэкст на кніжных старонках

неаднолькавы, а тут — адзін у двух адбітках малюнак, прыродная каляровая графіка, дзе і колеры нечаканыя, розныя на кожным кавалачку плошчы, самых неверагодных спалучэнняў, тонаў і паўтонаў, якіх ніякі мастак на сваёй палітры не знойдзе, — іх трэба доўга шукаць, як шукала прырода. І гэта — за пяць тысяч франкаў? Кошт саламянага капелюша? Можа, тут якая памылка? Але Жазэф штосьці кажа кітайцу, і той загортвае камяні-ракавінкі ў паперу, апускае ў кардонную скрыначку, працягвае табе і яшчэ… адлічвае дзве тысячы франкаў! Ты хочаш крыкнуць уголас: навошта? Хочаш вярнуць франкі назад. Але Жазэф глядзіць табе ў вочы, і ты яго разумееш: ён збіў цану і цяпер вяртаць франкі ты ўжо не можаш, бо гэтым пакрыўдзіш гаспадара магазінчыка — такі жэст не ў правілах рынка Зума. І ты зноў збянтэжаны. У цябе ў руках незвычайнай прыгажосці акамянелыя ракавінкі, твор мільёнаў гадоў, ракавінкі ў мармуры, і яшчэ два яечкі дразда, тваёй любімай птушкі-пявунні, птушкі твайго роднага беларускага лесу, зробленыя з граніту Мадагаскара кітайскім майстрам, і ўсё гэта багацце — за тры тысячы франкаў, якія ты мог бы аддаць за жменю рысавай саломы ў выглядзе капелюша. Ты заходзіў у магазінчык без ніводнага франка, а выходзіш з яго, несучы выдатныя падарункі прыроды, з дзвюма тысячамі франкаў! Ты хочаш крычаць на ўвесь свет і пытацца: што за краіна, што за рынак?! А тут яшчэ сам кітаец выводзіць цябе з магазіна, горача, нібы сябра, пацiскае табе руку і смяецца ў вочы радасна, быццам не ён цябе, а ты яго ашчасліві́ў. І хто сказаў, што кітайцы — вялікія гандляры? Ці, можа, у тым, што адбылося, якраз і выяўляецца культура і мудрасць гандлю? Але і гэта яшчэ не ўсе нечаканасці рынка Зума. Як толькі ты развітаўся з кітайцам, да цябе падыходзіць тая самая жанчына і кажа, зноў па-беларуску: «Вы былі ў сельскагаспадарчым цэнтры Анцырабэ. Мы там сустракаліся. Мой муж там дырэктарам. Так-так, Бойка Рыгор Якаўлевіч. Дык я хачу зрабіць вам невялічкі падарунак. Ад землякоў». Яна падае табе маленькую скрыначку. На чырвонай атласнай падушачцы гарацъ тры празрыстыя вочкі натуральнага тапаза. Ты не адважваешся прыняць дарагі падарунак, але жанчына раптам зусім цябе абяззбройвае: «Вы ведаеце ў Мінску паэта Пруднікава, Паўла Іванавіча? Дык гэта мой родны дзядзька».

Вось што такое рынак Зума!..

Ледзь паспяваючы за Жазэфам, ты прадзіраешся праз натоўп да свайго аўтобуса, але аўтобус яшчэ доўга стаіць, бо цяпер ужо трэба чакаць кагосьці іншага. Недзе блізка іграе гармонік. Ад-

куль тут, у краіне зусім іншых музычных інструментаў, гармонік? І што ён іграе? Вальс «На сопках Маньчжурыі»? Ты не верыш вушам сваім. Можа, паверыш вачам? І вось перад табою чарнявы, але з нейкім азіяцкім адлівам жаўцізны ў твары мальгаш, сляпы і босы, з кепкаю на зямлі каля ног, і зусім старэнькі двухрадны гармонік у ягоных руках, такі стары, з лапленымі-пералапленымі мяхамі і пабітымі, дроцікамі пазвязанымі корабамі, што дзіва бярэ, як гэты гармонік яшчэ і дыхае. Але што ён усё ж іграе? Няўжо вальс? Адкуль у душы ў мальгаша гэты вальс? Хто яго сюды завёз? Не сам жа сляпы мальгаш, які просіць нейкія франкі ў старую брудную кепку? Рука намацвае ў кішэні тыя франкі, якія табе вярнуў як рэшту кітаец, калі купляў акамянелыя ракавінкі, і ты кідаеш свае апошнія франкі ў пустую кепку. Цябе апякае яшчэ адна думка: малюнак са сляпым чалавекам, гармонікам, вальсам і кепкаю з дробнымі грашыма, франкамі ці капейкамі, табе не чужы, гэта ўсё ў тваёй памяці з далёкай вайны, якая ў гады маленства абадрала і абабрала цябе, тваіх братоў і сясцёр, маці і бацьку, увесь твой народ на далёкай адсюль Радзіме. Усё і тут — як там, тады. За спіною трубіць аўтобус, кліча, а табе цяжка, як ад нечага свайго, адысці ад сляпога мальгаша, яго жабрацкай кепкі, ад гармоніка, у якім жыве-пакутуе крыху не такі, якім ты яго ведаеш, дзе збіты з мелодыі, дзе нервова-паспешлівы і збіты з ладу, але ўсё ж ён — вальс «На сопках Маньчжурыі». Калі ж вяртаешся ў аўтобус, а на ім — у атэль «Кальбер», ты, увайшоўшы ў нумар, кідаеш лапу на стол, сам кідаешся плазам на канапу і думаеш пра сляпога мальгаша з азіяцкай жаўцізною ў твары, пра стары, пабіты векам гармонік, а чуеш адзін толькі вальс «На сопках Маньчжурыі».

Вось што такое Зума!..

Пройдзе колькі дзён. Ты пакінеш Мадагаскар і будзеш жыць на нейкім іншым востраве Індыйскага акіяна. Там аднойчы табе раскажуць гісторыю з сумнай эпапеі руска-японскай вайны 1905 года, нейкі праменьчык святла ад якой як быццам перакінецца і на сустрэчу з сляпым мальгашом на Зума. Яе, тую гісторыю, тут можна пачаць з таго, як другая руская эскадра плыла з Пецярбурга вакол Еўропы і Афрыкі ў Японскае мора на дапамогу першай эскадры, блакіраванай японцамі ў Порт-Артуры. Ля ўсходняга берага Мадагаскара яна стала на якары, каб загрузіцца вугалем, і вось сюды даляцела вестка, што японцы ўзялі Порт-Артур, а першая эскадра патоплена без бою. Куды ж цяпер плыла другая эскадра? Каго і што бараніць? Загаварылі, што яна плыве на свой брацкі могільнік у Японскім моры. Сярод матросаў пача-

ліся хваляванні, п'янства, мардабой, непадначаленне афіцэрам. Усё гэта ёсць у рамане ўдзельніка тых падзей Новікава-Прыбоя «Цусіма». Прадчуваючы Цусіму-смерць, матросы сыходзілі на бераг і не вярталіся на караблі. Сярод іх былі музыканты. Ішлі і не вярталіся разам з гармонікамі. І тут ужо ты вольны дамысліць і лёс тых рускіх матросаў, што засталіся на чужым беразе, пажаніліся з мальгашкамі, растварылі сваю славянскую кроў у крыві мальгашоў, і лёс рускіх гармонікаў, што засталіся разам з матросамі на беразе Мадагаскара…

І гэта таксама можна пачуць і ўбачыць па рынку Зума.

Ён, гэты рынак, адкрыты любому чалавеку, з якога канца свету той ні прыедзе, кожнай душы, якая прагне дабраты, шчырасці і хоць што-небудзь на ўспамін пра дзіўную зямлю.

Тут, прадаючы ці купляючы, нельга ні прагадаць, ні страціць. Можна толькі набыць. Тое, што не набудзеш нідзе. Тут набываюць — і хто прадае, і хто купляе.

Тут не адразу зразумееш, прадае чалавек ці купляе. Кожны і прадае і купляе. Дорыць і адорваецца.

Тут можна цэлы дзень прадаваць, нічога не прадаць і радавацца пражытаму дню.

Сюды можна прыйсці з пустой кішэняй і нешта незвычайнае купіць, і яшчэ — панесці з рынку тысячы франкаў.

Тут можна прасіць за свой тавар самую высокую цану, а аддаць за ўсмешку ці за адно цёплае слоўка і застацца шчаслівейшым чалавекам.

Такі ён — рынак Зума ў Антананарыву. Мабыць, адзіны гэтакі ў свеце. Пра яго можна марыць. На яго трэба трапіць.

Хоць аднойчы ў жыцці.

*P. S.*

Навошта мне кракадзілава лапа?..

Раніцой, седзячы на ложку, я з-за вуха сую яе пад сарочку, чухаю спіну і тады бачу сімпатычную мальгашку з рынку Зума, яе белазубую ўсмешку. Чую яе голас. Ці гэтага мала для раніцы, калі ты яшчэ цёпленькі сядзіш на ложку?

Праўда, сёння, прачнуўшыся, я ледзь кінуў вокам на сцяну, дзе на цвічку вісіць кракадзілава лапа, як убачыў на прыступачку ганка сляпога босага мальгаша са старым гармонікам і перад ім, ля ног, пустую кепку. І ажылі ў вачах шэрыя твары, у сініх ямках вочы, ногі з драўляным скрыпам, лахманы на плячах,

пустыя торбачкі на вяровачках цераз плячо, шапкі і кепкі ля ног на зямлі, шарманкі і гармонікі на запалых грудзях, іх старадаўні плач на падтрымку стогну з грудзей:

Там далеко есть родина родная,
Там жил отец, не помню я его.
Но знаю то, что, в муках умирая,
Хотел обнять сыночка своего.

І гэтак далей. І ўсё такое. Колькі гэтакага прайшло разам з табой па дарогах! І па тваіх! І як ты мог усё гэта забыць?..

А вы пытаецеся, навошта мне кракадзілава лапа…

## Вернісаж: жыццё і бацік

Куды мы, людзі, спяшаемся, апынуўшыся на незнаёмай ці малазнаёмай зямлі? Куды вядуць па ёй нашы першыя сцежкі?

Прыехаўшы ў Ленінград, іншаземцы бягуць, вядома, у Эрмітаж. Ці ў Рускі музей.

Першыя крокі па Парыжы — да Луўра.

Лондан прываблівае Брытанскім музеем.

Ну а тут, на астравах? У Антананарыву ці Анцырабэ? У Порт-Луі ці Вікторыі?

Тут няма эрмітажаў і луўраў. Што ёсць? Дзе тут, на астравах, сабраны духоўныя скарбы народаў захаду Індыйскага акіяна? Куды ісці і дзе запыніцца, каб зразумець і гісторыю, і культуру, іх духоўнае нацыянальнае аблічча? Можа, на рынак Зума?

Так, Зума ў Антананарыву нагадвае нечым эрмітажы і луўры. Тых шэдэўраў, што там, на Зума не ўбачыш. Але тут ёсць свае шэдэўры, менш кананічныя і больш жывыя. Душа народа жыве ў іх з большай будзённасцю, але і з большай шчырасцю. Жыццё, духоўную і матэрыяльную культуру тут адкрываеш з меншай рызыкай памыліцца, як у класічных музеях.

І ўсё ж рынак — не самая багатая ды і не адзіная вітрына-выстаўка астраўнога жыцця. Не маючы пакуль што магчымасці пабудаваць свае эрмітажы і луўры, народы Мадагаскара, Маўрыкія, Сейшэлаў ператвараюць у музеі і выставачныя залы свае астравы. Дарогі — карцінныя галерэі.

Нават і неабавязкова ў пераносным сэнсе.

Два першыя дні правёўшы ў Антананарыву, мы толькі на трэці дзень выблыталіся з каменнага лабірынту яго вузкіх пятлястых вуліц і маленькім утульным аўтобусам выехалі на раўнейшую асфальтавую стужку, якая неяк хутка атрэслася ад

дамкоў і дамоў, платоў і крамак — павяла на поўнач вострава. У твары праз адчыненыя вокны шугануў пругкі сустрэчны вецер, настоены на салодкім водары апельсінавых і мангавых садоў, зранку яшчэ не прагорклым ад камяніста-горкай церпкасці і дарожнага бензінавага чаду. Павесялелым вачам адкрылася прастора дзіўна-разнастайнага ўзгоркавага ландшафту, пакроенага на невялічкія палеткі: кукурузныя, ананасавыя, кафейныя; паміж іх на зялёных ці зялёна-бурых лапіках пашы хадзілі ці стаялі-драмалі рабочыя быкі-гарбуны зебу, падпіраючы высознымі рагамі ранішнюю смугу, якая нагадвала стрэсены з заружавелага неба сіні начны пылок; там-сям узгоркі пеніліся камяністымі крушнямі, хаосам, у якім бачыўся і пэўны сэнс, калі вочы адрываліся ад яго і глядзелі на зямлю шырэй — каменная пена там-сям удала манціравалася ў экзотыку і працоўнае поле ўсяго абсягу. Недзе пад дарогаю ў нагрувашчваннях камянёў грымелі хуткія, аж шалёныя, рэчачкі; недзе цесна, як збегшыся да аднаго вогнішча, ляпіліся тры-чатыры-пяць дамкоў, вузенькіх, на адно ці два акенцы, але абавязкова на два паверхі — дамкі былі падобныя на вежы крапасных сцен. Чырвань муроў была такая самая, што і чырвань прыасфальтавых абочын ці лейчын-дарог, якія адбягалі ад асфальту і гарбатымі змейкамі распаўзаліся між палеткаў.

Мы ехалі шэрай асфальтавай стужкаю, але не яна авалодвала ўвагай і сэрцам, большую ўладу над намі мелі тыя чырвона-пунсовыя стужкі, што адбягалі ад яе, шэрай, і знікалі паміж узгоркаў. Хацелася звярнуць на кожную.

Аўтобус усё роўна як пачуў жаданне пасажыраў. Ён з’ехаў з асфальту і марудна папоўз угару, уздымаючы чырвонае воблака пылу. Развярнуўшыся на чыстым зялёным двары з пабудовамі пад чырванню чарапіц, спыніўся.

Што за дварок і што за пабудовы? Гэта былі адкрытыя да ветру і сонца веранды і галерэі, абвешаныя славутым мальгашскім бацікам — творамі жывапісу, якія пісаліся на шаўковай тканіне фарбамі, падобнымі на акварэль, і гарачым празрыстым воскам. Каля іх пахаджвалі мастакі з пэндзлямі.

Можна было падумаць, што тут майстэрні мастакоў. Але пад дахамі віселі сотні работ, і яны давалі падставу прыняць усё гэта за выстаўку. Ды і панаехала турыстаў, як на выстаўку. Яны хадзілі ад карціны да карціны, пераходзілі з веранды на веранду, зблізу ўглядаліся ў тэхніку малявання і адыходзілі ад баціка падалей, каб схапіць і зразумець вобраз. Гаманілі ці спрачаліся з мастакамі, паміж сабою. Дзе-нідзе гамонка заканчвалася тым,

што бацік здымалі са сцяны, згортвалі ў трубачку, у паперу — як у магазіне. Бацік прадаваўся? Так. Прадавалі самі мастакі. Як на рынку Зума. Адзін падымаў цану, а другі збіваў. Адзін творы хваліў, даказваў, што яны таленавітыя, геніяльныя, але другі не менш удала даводзіў адсутнасць на іх знакаў геніяльнасці — і цэны каціліся ўніз.

Штосьці тут нагадвала Манмартр? Але там мастакі малююць кліентаў і тым самым кліентам прадаюць свае работы. Па памяці там малююць куточкі Парыжа. І цэны — цвёрдыя. Бацік — зусім іншыя сюжэты і іншы мастацкі метад. На ім — жыццё мальгаша, яго зямля, праца, побыт і свята, свята, калі бывае, маленькае, але з вялікімі спадзяваннямі на лепшае.

Вярнуўшыся з астравоў, калі ўсё тое, астраўное, засталося недзе далёка за морамі-акіянамі, многае, што бачыў на баціку, успаміналася і ўспамінаецца як само жыццё, быццам тыя малюнкі бачыў пры дарогах — у полі, на рэчках, у садах, на пашы, у вёсачках. І наадварот: той ці іншы сюжэт альбо вобраз бачыў — выдатна памятаеш — на жывой зямлі, а цяпер здаецца, што бачыў тое на баціку. І верыш сам сабе, і не верыш.

Вось — з поля ідуць селянін і сялянка. На плячы ў яе і ў яго доўгія матыкі з вострымі на канцах зубамі. Вечарэе — яны вяртаюцца з рысавых палеткаў. Ён у кароткіх шорціках, яна ў кароткай спадніцы. Абое пад саламянымі капелюшамі і босыя. Ногі ў абаіх доўгія, моцныя, чорныя, а па костачкі, нават вышэй, чырвоныя-чырвоныя, аж пунсовыя ад той самай пунсовай зямлі. Калі б не гэтая чырвоная зямля на нагах, можа, не падумаў бы, што яны муж і жонка, а так, убачыўшы на нагах гэтую аднолькавую чырвань, не толькі падумаў, але і сумненняў няма, што муж і жонка. Ды згадка мая не дзеля гэтай дэталі. Дзе я іх бачыў? На баціку? Безумоўна. Я нават памятаю, дзе гэты бацік вісеў: на самай апошняй верандзе, на сонцы, мне тады нават падумалася, што, можа, ад сонца, якое высвечвае бацік, ногі мальгаша і мальгашкі такія чырвоныя, як у агні. Але разам з тым дакладна ведаю, што бачыў іх, яе і яго, з доўгімі матыкамі на плячах, за дарогай у полі, калі мы пад'язджалі да Анцырабэ. Яны ішлі па гаці паміж рысавых градак, дзе маладое рысавае зяленіва стаяла ў вадзе, ледзь-ледзь курэла над вадою дымком зялёным, і я тады падумаў, як выразна глядзяцца ў гэтым рысавым дымку чырвоныя, аж пунсовыя, ногі.

А з іншымі сюжэтамі? Помню, у той самы дзень, ледзь выехалі з Антананарыву, можа, вярсты дзве праехалі за горадам,

як дарогу нам перабегла рэчка Ікупа, самая, як сказаў Жазэф, вялікая рака Мадагаскара, не рака, а боская міласць, бо яна арашае рысавыя палі вострава, корміць народ. Помню, як усе мы былі здзіўлены, убачыўшы берагі рэчкі, усыпаныя жанчынамі, аднымі жанчынамі. Тысячы жанчын! Яны ўсе мылі ў рацэ бялізну, вопратку, дарожкі, посцілкі, паласкалі і тут жа, на беразе, ці адышоўшы крыху на пашу, бо на беразе ім было вельмі цесна, раскладалі пад сонцам, развешвалі бялізну і вопратку на кустах, камянях, дрэўцах, спрэс усцілалі бераг посцілкамі і дарожкамі. І мыліся самі, адна адной расчэсвалі грабянцамі мокрыя галовы. Перад вачыма разлягалася надзвычай жывапісная панарама людскога жыцця, якая, здавалася, цягнулася на ўсю даўжыню Ікупы.

Але зноў жа і тут я не пра само відовішча. Пра яго — між іншым. А галоўнае — пра адчуванне, што гэтую панараму мне адкрыла палотнішча баціка, доўгае, на ўсю веранду. Іншы скажа: ну і што з гэтага? Бачыў і ў жыцці, і на баціку. Ды не! Я пра канкрэтныя малюнкі, жаночыя постаці, якія, памятаю, мне ўрэзаліся ў вочы там, на рацэ, але ж тыя самыя малюнкі і постаці — на баціку. Такое немагчыма? Але ж! Скажам, дзве маленькія дзяўчынкі, якія рассцілаюць на зялёным беразе чырвоную дарожку, і белы сабачка паміж імі, стараецца ўскочыць на дарожку, а яго, адна з іх, мокрай анучай — па мордзе, каб не лез, не таптаў лапамі чыстую дарожку. Як гэтакую сцэнку паўторыш? А яна ж была таксама і на баціку? Ці іншае: сядзіць на кукішках жанчына, а другая, стоячы на каленях, расчэсвае доўгія мокрыя чорныя валасы сяброўкі. І тое самае з іншымі малюнкамі, якія не паўторыш. А яны ж у маёй памяці раздвойваюцца? Нібыта ў двух выкананнях: рэальным, у жыцці, і на баціку.

Можа, прычына гэтай маёй разгубленасці ў тэхніцы баціка? У тым, што ён развешваецца на адкрытым паветры, пад сонцам, і яго празрыстыя фарбы і васковыя ніткі, усе жылачкі і пражылачкі, рэагуючы на кожны сонечны прамень і павеў ветру, як бы гоняць святло па сваіх нервах? Адсюль і ўражанне, што ўсё на баціку жыве, рухаецца, поўнае жывых токаў і пачуццяў. Можа, я проста не магу ўявіць усё тое, што бачу на баціку, стварэннем мастака, яго рукі і пэндзля, усе гэта бачу як жывое жыццё, і яно, гэтае жыццё баціка, зліваецца ў маёй памяці з усім тым жыццём вострава, якое бачыў вакол сябе?

У нейкай меры сябе можна праверыць сюжэтамі, дзе ты ўпэўнены, што бачыў гэта толькі на баціку. Вось — коні! Враныя,

гнядыя, мышастыя, буланыя, белыя, чалыя, шэрыя і нават нейкай неверагоднай масці, у белых шкарпэтках і без шкарпэтак, з лысінамі і без лысін, з зорачкамі на лбах і без зорачак. Мальгашы ездзяць калі не на машынах і веласіпедах, дык на быках, працуюць таксама на быках. А коні? Іх я бачыў аднойчы ці двойчы. Можа, іх рэгіён недзе там, дзе мяне не было? Як рыкшы — у Анцырабэ. Ці, можа, коней на Мадагаскары зусім мала? Але ў душы мальгаша яны жывуць, бо жывуць на баціку. Тут яны вясёлыя, парывістыя, прыгожыя, аж нейкія казачныя. І зноў жа ўяўленне такое, што яны жывыя. Па васковых пражылках, здаецца, бяжыць гарачая конская кроў. Па фарбах пераліваецца сонечнае святло. Коні жывуць.

А вось на ўзбочыне дарогі мальгашы прадаюць вараныя кукурузныя кіяхі. Высыпаўшы з аўтобуса, мы апынуліся ў маленькім сямейным табары, дзе мужчыны стаялі над катламі з чысценькімі дубчыкамі, варылі на вогнішчы кукурузныя кіяхі, малыя падносілі і падкладалі ў агонь дровы, дзяўчынкі-падлеткі ачышчалі кіяхі ад лісця і барады, складалі ў кучы на пасцілцы, а жанчыны стаялі над карытцамі з упрэлымі кіяхамі і прываблівалі купцоў, усіх, хто ішоў і ехаў міма. На раскінутых на мурагу пасцілках поўзалі, муслячы вараныя кіяхі, дзеткі-немаўляткі, стаяла арба без быкоў, быкі хадзілі воддаль за хмызамі. Кукуруза была незвычайна смачная: салодкая, духмяная, добра ўпрэлая. Ніхто з нас такой смачнай зроду не еў. Салодкі пах у роце стаяў ад яе потым цэлы дзень. Дык вось сцэнка з паранкай-кукурузай, яе купляй-продажам у сямейным мальгашскім табары глядзелася як выключна каларытная жанравая сцэнка, гатовая ў раму мастацкай карціны, але прасілася, вядома, на бацік. Незвычайна жывапісныя былі постаці, твары мальгашоў, што ні чалавек — характар, каларытна выглядалі і чырвоная вопратка, і васкова-жоўтыя кіяхі, і зялёны фон поля, і які быў кантраст паміж тварамі мальгашоў і нашымі, еўрапейскімі, была ва ўсёй гэтай сцэне нават прадуманасць кампазіцыі, гармонія. Тут ужо я ведаю, што нічога падобнага па сюжэце на выстаўках баціка не бачыў, але ў той жа час успамінаю гэтую жывую сцэнку як карціну мастацтва ў самых красамоўных традыцыях мясцовага народнага жывапісу. І яшчэ колькі разоў прыходзіла і прыходзіць гэтакае самае адчуванне, калі ў вачах ажывае то нейкі малюнак работы сялян у полі, то куточак рыначнага жыцця, то твар, нейкая жанравая сцэнка, нейкі пейзаж, вясковы ці гарадскі, абразок прыроды, побыту, народны танец.

Само жыццё астравіцян насычана жывапісным каларытам, выразнымі натуральнымі формамі, глыбокім непасрэдным пачуццём, багатае на святло, фарбы, рух. І, можа, таму многія сцэнкі жыцця, якія тут бачыш, успрымаюцца як мастацкія творы.

Нядзеля. Мальгашы апрануты па-святочнаму. Дома ім у свята не сядзіцца — усе на вуліцах, на дарогах. Ідуць і бягуць. Хто ў царкву ці касцёл, хто на рынак, хто ў госці, бягуць адзін да аднаго, збягаюцца ў табункі і табункамі зноў некуды бягуць, бо з такой жывасцю, энергіяй, ахвотай пагаварыць, адно аднаму штосьці дарыць, усміхацца, расказваць ці хоць памаўчаць побач з іншым чалавекам: яны жыць паасобку не могуць. Заўсёды, нават у святы, штосьці нясуць на галовах, нясуць ад кагосьці, нясуць камусьці, нясуць з гасцей і ў госці, на рынак і з рынку, у касцёл і з касцёла. А рукі, як і язык, занятыя размовай. Яшчэ і прытанцоўваюць, гаворачы. Мальгаш іначай не можа. Усё яго цела гаворыць. Ён увесь у руху. І таму кожны рух мальгаша пластычны, дакладны, мяккі, выразна перадае тое, што адчувае душа і што яна хоча сказаць.

Такі мальгаш і на баціку. І таму бацік тут — адно з самых дэмакратычных мастацтваў.

Бацік — мастацтва не аднаго Мадагаскара. Ён сустракае і праводзіць цябе па дарогах і вуліцах Маўрыкія, Сейшэльскіх астравоў. Ды і далей — ці не па ўсёй Акіяніі. Але бацік мальгашоў адрозніваецца ад баціка, напрыклад, крэолаў Маўрыкія ці Сейшэлаў. Ён цяплейшы ў сваім пачуцці. Усё, пра што расказвае, ён ледзь-ледзь узвышае, прыўзнімае над будзённасцю. Ледзь-ледзь. На столькі, каб не адарваць мастацтва ад зямлі і зямнога і ў той жа час не азмрочыць зямлю і зямное. Рэалізм баціка мальгашоў аптымістычны. І ў гэтым таксама яго высакародны дэмакратызм.

Дэмакратызм нават у каляровай гаме.

Які колер мальгашу самы любы? Ды вядомы ж, чырвоны. Ён валодае душой мальгаша, бо валодае зямлёй, на якой жыве мальгаш. Ад чырвані зямлі — чырвань у паветры і ў небе. Чырванню наліваюцца травы, плады і яблыкі вачэй быка зебу — святой для кожнага мальгаша жывёлы, — нават калі ён зусім не злосны. І якая кофтачка для мальгашкі самая жаданая, як не чырвоная? Якія самыя прыгожыя чаравічкі, спаднічкі, хусцінкі, завушніцы, каралі, кветкі? Ну вядома, чырвоныя. Нават віно сапраўдны мальгаш п'е толькі чырвонае.

І гэтакі бацік. Як душа мальгаша. Можа, перш за ўсё ў чырвоным колеры і яго дэмакратызм. А чырвань незвычайная —

яркая. Яна нідзе на баціку не дагарае. Яна разгараецца. І пакідае ў сэрцы адчуванне вечнасці.

А яшчэ — шчымлівае адчуванне болю.

Побач з вечным на вечнай зямлі святлом.

*P. S.*

Вось і ў Мінску на маёй кніжнай паліцы — бацік: чырвоныя дамкі, сярод чырвоных — адзін белы, для кантрасту, перад дамкамі вада — бераг Ікупы. На вадзе — чырвоныя адбіткі дамкоў. І чырвань на беразе. І зялёныя сады і палі з лёгкім налётам чырвані. І нават неба над дамкамі…

Ад дамкоў, як ад сонца, — і чырвань, і святло, і цяплынь.

Абапал дарогі — рысавыя і кукурузныя палеткі, усё маленькія, плямкі ды шнурочкі, сівыя мангавыя гаёчкі, камяністыя пагоркі, дзікая, зарослая хмызняком паша, па якой ходзяць быкі-гарбуны зебу. Але вока ловіць сялянскія дамочкі. Яны вузкія і высокія — быццам вывешаныя да свята на гарызантальных шастках сцягі-палотнішчы.

А яшчэ чырвоныя дамочкі мальгашоў нагадваюць мне свежыя раны на чорна-шэра-зялёным жывым целе.

Калі самалёт падымае цябе над гэтай зямлёю, абавязкова ўсунься ў круглае вока ілюмінатара. Чырвоныя дарогі вострава здадуцца табе чырвонымі ад крыві бінтамі на целе волата.

Ад гэтае думкі аж увесь скаланешся.

І гэтага — не забудзеш.

Усё гэта — бацік!

## «Аберж Клаб». Песні чорнай Расіі

Рагамі ўгару, быццам папірусная лодка Тура Хеердала, экватарыяльны месяц плыве паміж хмарак над неабсяжным Індыйскім акіянам. Ясная зорачка, пакуль што адзіная ў небе, блішчыць паміж рагамі месяца і ледзь-ледзь вышэй, усё роўна як на макаўцы ветразя лодкі-падарожніцы.

Ноч на Сейшэльскіх астравах настае рана і неяк адразу.

Што рана — не дзіва: як усюды зімою. Проста пагадзіцца цяжка, што цяпер, у чэрвені, тут зіма.

Мінулай ноччу паўднёва-ўсходні мусон нагнаў нудную трапічную імжу. Прачнуўшыся, я выйшаў на каменны ганак і доўга стаяў пад дажджом неапрануты, босы, слухаючы, як вада цурчыць з пальмавых стрэхаў. Вяртацца ў пакой не хацелася.

У пакоі было душна, усю ноч, нібы стары чмель, гугніў кандыцыянер, а пад зімоваю імжою было прыемна, як пад цёплым жаданым душам.

Я сышоў з ганка да акіяна. Ён ляжаў каля ног спакусліва-ціхі. Я ўвайшоў у яго з прыемнасцю, як уваходзяць у цёплы ўтульны пакой, лёг, як кладуцца на чысты ложак, засланы свежай духмянай прасцінаю, і паплыў. Са мною плыў мяккі голас крэола:

Кары ко-ко,
Кары ко-ко…

Гэтак спявае даўно немалады крэол у шыракаполым пакамечаным, нібы знарок, капелюшы і белай, не зашпіленай на грудзях — няма нават гузікаў — кашулі, якая вісіць на ім вольна, нібы на плячах у селяніна, што ваюе гэтай парою з джунглямі цукровага трыснягу, махаючы цяжкім мачэтэ. У крэола вельмі белыя зубы і яблыкі вачэй. Не проста белыя, як кашуля. Яны блішчаць цнатліваю белізною, ззяюць перламутрам месяца-лодкі, што з начы ў ноч плыве над акіянам.

Яго завуць Чорнай Расіяй.

Чаму — Чорнай? Ён чорны тварам, скураю, як усе крэолы, хоць чарната крэола не тая, што ў афрыканца, яна прасветленая еўрапейскай крывёю, з шакаладным адлівам. Але чаму — Расіяй?

З'явіўшыся ў рэстаране атэля «Аберж Клаб», што ў перакладзе з французскай мовы азначае — карчма, дзе мы, савецкія, не столькі турысты, як місіянеры свае культуры, вячэралі, ён падышоў да нашага стала са старэнькай гітараю і ўвесь вечар спяваў, углядаючыся нам у вочы, у твары. Гітара не змаўкала, нават калі ён канчаў сваю песню, маўчаў ці з кімсьці гаварыў, яна адна, без падтрымкі голасу, быццам працягвала песню душы, мелодыю тугі ці радасці, ці размову з жыццём, са светам. І нікому не перашкаджала.

Калі мы, павячэраўшы, пакідалі рэстаран, ён выйшаў разам з намі, хоць павінен быў іграць і спяваць увесь вечар для тых, хто заставаўся за сталамі.

А назаўтра мы сустрэліся зноў — на пляжы. Ён ішоў па белым пляжным пяску ўздоўж вады пад развесістым, нібы парасон, капелюшом, з гітараю на грудзях, і спяваў, ні на каго не звяртаючы ўвагі, сваю песню-думу пра райскі куточак зямлі — Сейшэлы. Бялюткі грабеньчык хвалі, выкідаючыся на белы

пясок, ласкава абмываў яго чорныя босыя ногі, а за плячыма вілася доўгая блакітная стужка.

Ён пазнаў нас — спыніўся. І ўспомніў наша пытанне, якое там, у «Аберж Клаб», пакінуў без адказу:

— Спяваць я пачаў хлапчуком, і ўжо тады мяне назвалі Чорнай Расіяй. А чаму — не ведаю. І вам ці трэба ведаць. Калі б вы гэта ведалі, то павезлі б з Сейшэлаў усяго толькі адзін міф пра Чорную Расію, а так — кожны з вас прыдумае свой міф, і будзе іх у вас многа. І ўсе яны будуць праўдаю. Таму што Сейшэлы — мая зямля, а вы, бачу, палюбілі Сейшэлы.

Ад цёплай усмешкі вочы і зубы яго заззялі белізною месяца, гітара зноў загаварыла з акіянам і берагам, і ён пайшоў сваёй дарогаю краем вады і берага, пакідаючы нам сваю вольную душу:

Кары ко-ко,
Кары ко-ко…

Кожны вечар у «Аберж Клаб» прыходзяць новыя спевакі. І ўсе — са сваімі песнямі. Яны не паўтараюць адзін аднаго. Свае песні кожны з іх стварае сам.

Я сяджу каля ганка ва ўтульным пласцікавым шэзлонгу, ускінуўшы стомленыя за дзень ногі на бярвенца агароджы, адно з якіх днямі, усеўшыся на яго, зламаў Сцяпан Іванавіч. Сонца толькі што нырнула ў акіян, і ўжо цёмна. А дакладней — сівізна, густая і блішчастая, нібы алеем аблітая. Усё навокал ссінела. І тое, што блізка, і тое, што не зусім блізка, што далёка.

Сінізна неба прасветленая воблачнасцю, таксама падсіненай. Падсінены месяц, які нагадвае лодку Тура Хеердала. І зорачка над ім, што ўселася на мачту ветразя лодкі, падсіненая.

Хрыбет зусім блізкай гары Тры Браты ўразаецца ў акіян. Ён сіні, ледзь не чорны. А зялёны — у памяці, як водбліск пражытага дня, яго ўспамін.

Акіян не заўсёды сіні. Цяпер сіні, як вочы лемура. І ў гэтай сінізне загадкавы, як лемур.

А той сядзіць насупраць мяне на пініі, таксама сіняй. Вецер расчэсвае на пініі доўгія, мяккія, лёгкія грывы. Лемур ходзіць па ніжняй таўсцейшай галіне: крыху чалавек, крыху малпа, крыху кошка, крыху медзведзяня. Сіні пушысты вушасцік, тварам падобны на чалавека. Рэльефна акрэслены на фоне бліскучага пад месяцам-лодкаю акіяна, ён усё роўна як спыняецца, глядзіць на мяне круглымі сінімі вачыма і саскоквае на бервяно агароджы — бліжэй да мяне. На бервяне да яго падскоквае маленькі лемур-

чык, і лемур-тата абдымае дзіця лапаю. Дзвюма парамі сініх, як акіян, вачэй яны глядзяць на мяне, нібыта пазнаюць ува мне штосьці сваё, як і я пазнаю штосьці сваё ў іх вачах. І што яны пра мяне думаюць? Некалі лемуры паблыталі дзень з ноччу, з таго часу вядуць начное жыццё, дык, можа, думаюць, што іх і я паблытаў таксама?

Думайце, любыя, маўчыце і думайце, калі ўжо назваліся далёкімі сваякамі. А я тым часам кіну позірк далей за вашы пушыстыя вушкі на бухту порта Вікторыя. Бухты, праўда, адсюль не відаць, але відаць агні савецкага карабля, які стаіць на рэйдзе сталічнага порта. Учора матросы з яго гулялі па вуліцах, і мы, праязджаючы на аўтобусе пасольства, заўважыўшы іх, радасна крычалі:

— Хлопцы-ы!..

Яны спыніліся. Маладыя, прыгожыя ў чысценькай бела-сіняй форме. Весела махалі нам рукамі і смяяліся.

Палубныя агні карабля падсіненыя, але не раствараюцца ў сінізне ночы. Яны блішчаць, як вочы лемураў.

Але адкуль тут, на Сейшэлах, лемуры? Вядома, што яны далёка адсюль, на Мадагаскары, у засені Цымбазазы. Толькі там. І чаму тады мне ўвесь час здаецца, што сіняя-сіняя ноч глядзіць на мяне сінімі вачыма лемураў? Можа, я несвядома адчуваю ў ёй памяць усёй сотні мільёнаў гадоў, якую мы генетычна нясём у сабе ад нашых далёкіх продкаў-прыматаў? І тады — сінізну, якая за сто мільёнаў гадоў разлілася па свеце з вачэй продкаў? Іначай, дзе яшчэ шукаць сувязь паміж песнямі Чорнай Расіі, акіянам, савецкім караблём, сваім жыццём, лодкаю Тура Хеердала і лемурамі?..

Вецер з акіяна таксама здаецца сінім.

Тут пачынаеш адчуваць, што сіні колер яднае нас, што ўсе мы — лодкі, астравы, караблі, дрэвы, дамы, акіян, лемуры і людзі — пад адной, адной на ўсіх, сіняй коўдраю.

Усё гэта вельмі моцна, як уладу памяці, адчуваеш уначы. Калі ноч адбірае сон.

*P. S.*

Зоркі ў небе буйныя і яркія. Калі гэтакай ноччу апынуцца на трохпікай гары, якая ўзвышаецца над Вікторыяй і называецца Тры Браты, то, відаць, можна схапіць з неба каторую. Тую, вядома, што найбліжэй.

А ці схапіў хоць адну Макарыяс, калі ён, тады яшчэ не прэзідэнт свабоднага Кіпра, проста архіепіскап і проста барацьбіт

за яго свабоду ад англійскай кароны, жыў тут, на Трох Братах, як палітзняволены па волі той самай кароны?

На востраве Маэ была яго турма, але ў малітвах пад адкрытым небам ён працягваў рукі адсюль да ўсяго свету.

Змагаючыся за свабоду і адзінства кіпрскага народа, ён напісаў гімн Сейшэльскай рэспублікі, каб ім, гімнам, аб'яднаць астраўныя народы.

Молячыся тут за свой Кіпр, ён пісаў пра Сейшэлы: «Я пабываў шмат у якіх мясцінах свету, але не перабольшу, калі скажу, што Сейшэльскія астравы — самы цудоўны куток, які я калінебудзь бачыў».

Яго сюды заслалі ў турму. А ён тут знайшоў натхненне.

Вось вам і чужое неба, чужыя зоркі. Ці чужыя, калі твая малітва — да людзей, за людзей?

Вочы лемура, як два сінія ліхтарыкі, разглядаюць мяне. А што, калі яны ўглядаюцца ў мяне з думкай-пытаннем: ці варты я тых пакут, якія прырода вынесла на сваёй скуры за сто мільёнаў гадоў, і ці варта было ёй, прыродзе, мяне вось гэтакага шукаць?

Як даказаць, што прырода знайшла тое, што шукала? Што шукала не марна? Што яна не памылілася?

Ці дакажам мы гэта калі-небудзь усе разам?

Усім чалавецтвам?..

*1987*

## ПРОСТА ЎСПОМНІЎ Я ЦЯБЕ…

Жаданне гэтае даўняе: адпіхнуцца ад свайго празаічнага берага і паплысці да ягонага, паэтычнага. Неаднойчы ціха і цвяроза падкрадалася адчуванне: ну вось цяпер самы час зняцца, як кажуць, з якара.

У добры час?..

Але кожны раз — пошукі: дзе той прыбераг, камень ці купіна, каб лацвей адпіхнуцца?

Мой бераг нізкі, адхонны, засеяны жоўтымі чэрвеньскімі дзьмухаўцамі, той самы, з якога маўклівыя чэрыкаўскія каровы, хвастамі адмахваючыся ад заедзі, брыдуць да вады, у Сож. А яго — высозны, жураўліны.

У бераг білі хваляў пералівы,
Курлыкала скразная вышыня.

Дзіва дзіўнае: трэба вось апынуцца ў Парыжы, пасяліцца на бульвары Гарыбальдзі ў атэлі «Сегюр» у маленькім утульным пакойчыку на мансардзе з акенцам у чысты ружовы дварок, дачакацца свайго ці не шаснаццатага ўжо парыжскага дня, за схілам дня — вечара, за вечарам — ночы, адчыніць акно ў цёплую, хоць ужо амаль палова лістапада, ноч, пагасіць святло — белы поліэтыленавы абажур на высокай, як з-пад снарада, гільзе, — на нейкі час вачыма прыкіпець да нізкіх чарапічных дахаў старога Парыжа, падсвечаных вулічнымі ліхтарамі і блізкімі вокнамі, адчуць, як пачынае садніць сэрца па Сярожу, маім любым хлопчыку, які цяпер, якраз гэтымі днямі, пачынае сваё працоўнае жыццё на далёкім і ад Мінска, і ад Парыжа беразе Ішыма, пагнаны ў той стэп зусім яшчэ маладымі, прагнымі крыламі, а потым апусціцца ў старамоднае, мо часоў якога-небудзь Людовіка, крэсла, запаліць на стале высокую, на высокай ножцы падсвечніка, свечку і толькі тады… паплысці.

Жаўтлявая мятлушка свечкі пагойдваецца лагодна-прыветліва, быццам агеньчык бакена на Сажы, можа, — на Ішыме, толькі не на Сене, а пад ім, у люстры адпаліраванага стала, танцуюць начныя мятлушкі — адбіткі агеньчыка свечкі.

У начным акне за свечкаю, за яе жаўтлявым агеньчыкам, з халоднай чужой цемені выплываюць абрысы рачнога берага — цёплага, светлага, высокага.

І — плыўкая, нібы рака, музыка. З таго яшчэ няяснага берага. Музыка роднае мовы:

Рыпіць паром сасновы пад вазамі.
І тыя кветкі, што вясной цвілі,
Павіслі на лазе (лаза з вусамі),
З вадою быстрацечнай паплылі.
Цямнее гулкі Сож пад берагамі,
Раскалыханы жорнамі віроў…

Вось тут і купіна, якую шукаю: шэры валунок ля нашай — спачатку некалі ягонай, а пасля і маёй — рэдакцыйнай хаты з новым смолкім прырубам.

Вяртаючыся на кані з раёна, Ігнат Сіўцоў часта няўдала заязджаў на двор — чапляўся воссю ці колам за той валун, які спаў пад шулам, скрыгат-грукат быў чуваць ажно ў рэдакцыйным пакойчыку, дакладней — у тамбуры перад друкарскім цэхам, і тады пад вуркатню рэдактара за тонкай, з фанеры, сценкаю, абклеенай старымі адхлуплымі шпалерамі, за якімі, нікога не

прызнаючы, гулялі галодныя рэдакцыйныя мышы, мы ўсе, хто быў у рэдакцыі, выходзілі на ганак. Ігнат, загадчык сельгасаддзела, амаль заўсёды прывозіў у сене яблыкі, а здаралася, што яго самога конь вёз нацянькі, не чуючы лейцаў, ведаючы дарогу да рэдакцыі з любога кутка раёна, бо Ігнат, недзе ў вёсцы ўзяўшы добрую чарку і зарыўшыся ў сена з яблыкамі, засынаў на возе, паспеўшы перад тым, як заснуць, загадаць каню: «Ну вязі, мужык!»

За акном галосіць сірэна паліцэйскай машыны. Яна і ўдзень і ўначы калі змаўкае, дык ненадоўга. З ёю трэба звыкнуцца, як звыкаешся з Эйфелевай вежаю. Але з Эйфелевай вежаю звыкаешся хутчэй, як з сірэнаю паліцэйскай машыны.

Я зачыняю акно, каб прыглушыць сірэну, і тады мне зноў успамінаецца чэрыкаўская раёнка, той восеньскі надвячорак ці вечар, сцюдзёны, з першымі белымі мухамі. Пачуўшы з пакоя скрыгатанне калёснае восі на валуне, я выходжу на ганак. Конь стаіць на двары, воз — яшчэ на вуліцы, кола вісіць на камені, Ігнат, пагойдваючыся каля воза, плячом прыўзнімае яго, нокае на каня, каб смаргануў, сцягнуў воз з каменя, а на ганку сядзіць чалавек у чорным паліто, звесіўшы чубатую галаву, глядзіць у падлогу, задумаўшыся, з цыгаркаю на калене, заціснутай паміж пальцаў. Вецер раздзьмухвае агеньчык. Ён то гасне, то зырка ўспыхвае.

Гэта — Пысін.

Мне не даводзілася бачыць яго раней, але я ўжо ведаў, што ёсць у маім краі паэт, які піша пра Сож, пра мае сцежкі, вёскі, палі, паромы, пра маіх ласёў і аленяў, самоў і птушак. У яго карабельных барах я пазнаваў сваю Ліменшчыну, і гэта, упэўнены, пра майго ліменскага драча, які летаваў за кантораю лясніцтва, паэт напісаў, як ён, *цыбаты, даўганогі, пакінуў луг і свежы кут, ён чарацінку ўзяў на ўзлужжы, зрабіў яе сваім кійком, і проста ў Афрыку — пяшком, каб не засталі часам сцюжы.* Па Сажы Пысін ведаў кожную вёску, кожнага бусла і мужыка, кожны дуб і куст, кожны вір і паром. Тыя, што ведаў і я. Ён напісаў пра чэрыкаўскі Каханы Роў. Калі я прачытаў верш маме, яе вочы заблішчэлі ад слёз. Яна ўспомніла свае басаногія сцежкі ў тым Рове і па Зароўі, дзе дзяўчынкаю прыпасвала карову, свае першыя чаравічкі, пашытыя бацькам, у якіх яна, калі за лесам схавалася сонейка, збегла ў зацішак Каханага Рова на сваё першае спатканне з хлопцам.

Які пасад сярод тагачасных паэтаў меў Пысін? Далёка, скажам шчыра, не высокі. Але ў маім сэрцы яму ўжо тады было

вызначана месца на покуці. Не таму, што я прадбачыў заўтрашні паэтаў узлёт. Прадбачыць не маглі куды лепшыя за мяне знаўцы паэзіі і паэта. Блізкім зрабіўся чалавек, які шчыра і паэтычна, сугучна з маім сэрцам гаварыў пра маё Пасожжа.

З рэдакцыі выйшлі двое ў чорных плашчах, пад чорнымі капелюшамі і павялі яго ў цемень, дзе ззялі агеньчыкі прадмага.

Тады, у лістападзе 1958 года, я пачынаў свой газетны шлях, шукаў літаратурнае слова, і мой сталічны ўніверсітэт мала што значыў для раёнкі, асабліва для тых двух пад капелюшамі. На агеньчык яны мяне не ўзялі. Мне зрабілася сумна. Не таму, што застаўся без іх. Што застаўся без яго.

Але са мною быў Ігнат, які мог нямала расказаць пра Пысіна. Неаднойчы, аб'язджаючы на кані калгасныя палеткі ды фермы, недзе ў глыбіні раёна ён знаходзіў, як знайшоў і тым разам, Аляксея Васільевіча — тады ўжо карэспандэнта «Магілёўскай праўды», прывозіў яго ў Чэрыкаў, пад рэдакцыйны ганак. Селавая дарога, ды яшчэ на возе, на клячы, якою быў стары рэдакцыйны конь, збліжала, як не збліжаюць цяперашнія скарасныя дарогі. Доўгай, бывала, стужкаю бяжыць яна, не знявечаная цяжкімі коламі, то летняя, мяккая на нашых магілёўскіх пясках, то зімовая, са снежнай марознай песняю пад палазамі, то яшчэ даўжэйшая, вясновая ці восеньская, па гразі-хлюпаці, і аб чым толькі не нагаворацца на возе людзі, асабліва калі іх двое, калі не чужыя адзін аднаму. Ігнатава душа была адкрытая, як і ў Пысіна, абодва — вясковыя, нетаропкія, шчырыя, як дарога пад коламі ці палазамі, як бярэзнікі, бары, палеткі, белыя разлогі абапал дарогі. Ды і яшчэ была паміж імі не дробязная акалічнасць: Ігнат даводзіўся родным братам Івану Сіўцову, пісьменніку і блізкаму сябру Пысіна. Ну як жа тут Аляксей Васільевіч мог не адгукнуцца на Ігнатаву цікавасць да яго паэтавага слова?

Праўда, на размовы Пысін не заўсёды быў ахвотнік. Ён любіў моўчкі ўглядацца ў навакольны свет, моўчкі слухаць, больш слухаць, як гаварыць, пачутае і ўбачанае ціха занатоўваць сэрцам, і каб у гэтай ціхай працы ніхто не замінаў ні лішнім словам, ні сваёй неабавязковай прысутнасцю.

Ён не толькі ў вершы, але і ў жыцці быў надзвычай ашчадны на слова.

У той вечар, не такі позні, як цяпер у Парыжы, лістападаўскі, як цяпер, гэтакі самы змрочны, як тут пры свечцы, бо пад шэрай рэдакцыйнай столлю цьмянілася адна, ад рухавічка ў агародзе, лямпачка, Ігнат паведаў мне, частуючы яблыкамі, пра выпадак

з жыцця Аляксея Васільевіча ў нашай газеце, які яшчэ і сёння памятае чэрыкаўская глыбінка.

Было гэта ў 1955 годзе. Раённая газета выходзіла на дзвюх маленькіх палосах. І які там быў лінатып? У друкарні працавалі наборшчыца і друкар, а ў рэдакцыі — рэдактар, адказны сакратар і рахункавод.

Пысін быў рэдактарам. Ён усё яшчэ насіў боты, шынель і гімнасцёрку. Друкаваць газету заканчвалі позна, пад раніцу, і ён неаднойчы клаўся спаць на старыя падшыўкі, а накрываўся салдацкім шынялём.

На другой старонцы завёў «Мятлу» — нядзельныя сатырычныя выпускі. У першым выпуску «Мятлы» акрэсліў яе службовы статус: «Я — раённая мятла, мая справа — месць датла».

А ўпраўляючым будаўнічага банка ў Чэрыкаве быў нячысты на руку і сумленне чалавек, які раздаваў дзяржаўныя крэдыты калгасам як хацеў і каму хацеў. Калі старшыня калгаса ягоны сябар і добры дзядзька, шчодры на парсючка ці мех бульбы, тады і ўпраўляючы банка шчодры, а калі скупаваты на паднашэнне, дык і каса банка перад такім не раскашэліцца. Пысін гэта ведаў. Старшыні калгасаў неаднойчы скардзіліся ў газету. І вось «Мятла» дабралася да гэтага ўпраўляючага. Фельетон «Чэрыкаўскі Юлій Цэзар» скалыхнуў раённы зацішак.

Але рэагаваць на фельетон раённыя ўлады не спяшаліся. Банк працаваў па-ранейшаму, ведаючы, перад кім сваю касу адчыніць, перад кім — зачыніць.

І тады, праз нейкі час, у друкарні набіраецца перадавы артыкул, у якім даецца прынцыповая ацэнка зажымшчыкам крытыкі. Друкарская машына і наборная каса ў адным цэху, побач, ды пакласці металічныя гранкі на друкарскую машыну пад прэс нельга без візы. Пысін ідзе да першага сакратара райкама партыі, але візы не дае і ён: маўляў, нельга выносіць смецце з хаты. Пысін упарта стаіць на сваім: навошта смецце ў хаце? Але каму яшчэ дакажаш? Сярод ночы ён з'яўляецца на тэлеграф і дае тэлеграму: «Масква, Крэмль…»

Паспешлівы крок? Магчыма. Але трэба ўзяць пад увагу асаблівасці пасляваеннага часу, сэрца паэта, выхаванае, а лепш сказаць — выкаванае, франтавым жыццём.

Адбіўшы тэлеграму, ужо ноччу, Пысін вярнуўся дадому і зваліўся, стомлены, на ложак.

Заснуць не даў тупат за дзвярыма.

Расплюшчыў вочы: на парозе стаяў першы сакратар райкама.

— Ну што, рэдактар? Я за табою павінен хадзіць?

Пысін сеў на ложку:

— А я за вамі хадзіў два дні.

Першым сакратаром у Чэрыкаве быў чалавек асцярожны, ісці напрамкі, лоб у лоб, не спяшаўся. Тым больш цяпер, адчуўшы характар свайго рэдактара. Ды і чытаў ён пысінскае, напісанае яшчэ ў сорак дзявятым: *Як прысак, ля Сожа пяскі жаўцеюць на полі: калісьці паўзлі леднікі і іх намалолі. Паўзлі, быццам горы, яны, сусветныя жорны, і трушчылі тут камяні, як простыя зёрны. А крэмень пад імі ўстаяў, ніяк не скарыўся, сыпучаю дзюнай не стаў, пяском не зрабіўся…*

Сакратар ведаў, што Пысін не пісаў з чужых слоў, чужога жыцця, што ў кожнай яго думцы, у кожным слове — уласны вопыт, пражыты лёс, свая аснова.

— Ну дык… пайшлі. Падпішу газету ў свет.

Са спазненнем, але газета дайшла да чытача з перадавым артыкулам пра крытыку, самакрытыку і зажымшчыкаў крытыкі, а ўжо праз дзень Бюро ЦК КПБ дало прынцыповую ацэнку падзеі, якая здарылася ў Чэрыкаве.

Калі ў Пысіна спыталі, чаму звярнуўся адразу ў Маскву, ён адказаў:

— Я выкарыстаў права камуніста звярнуцца ў любую партыйную інстанцыю. Думаў пра газету, не пра сябе.

Гэтым высокім правам ён пакарыстаўся першы і апошні раз у сваім жыцці. Ён заўсёды карыстаўся сваімі правамі дзеля людзей, амаль ніколі — дзеля сябе. Іншае — абавязак, які не перакладаў на чыесьці плечы, нёс яго, свой і не свой, цярпліва, моўчкі. А сам аб гэтым сказаў сціпла, амаль шэптам: *Нясу за тых, з кім развітаўся, нясу за тых, хто прыйдзе ў свет, і не жадаю, каб застаўся пад прысакам наступны след.*

Успамін першае сустрэчы з паэтам высвечвае ў памяці нашу апошнюю сустрэчу. Мабыць, гэта— назаўсёды: успаміну першай сустрэчы хадзіць разам з апошняю.

Было гэта два гады назад, але не восьмага верасня, калі неба пад Магілёвам, хоць яшчэ доўжыўся дзень, зацягнулі шэрыя хмары і на галовы сыпаў зацяжны, нібыта позняй восенню, дождж, а людзі ішлі ды ішлі доўгім сумным натоўпам па вуліцы Міру за дубравенскі мост да старажытных могілак. Я пра іншую сустрэчу — апошнюю з жывым паэтам. Не ў канцы лета, а на пачатку. Недзе ў маі. Пад Чавусамі. На молада зазелянелым беразе Проні.

Сонечным поўднем я ехаў з Чэрыкава на Магілёў, ехаў са сваім даўнім сябрам, чэрыкаўскім ляснічым. Мая зялёная жаба,

пукатая ненажэра «Ніва», бегла асфальтам лёгка, разгоніста, бо гэта было яшчэ да таго снежаньскага галалёду, на якім яна аднойчы весела пакаўзнулася, зрабіла поўнае сальта і ў самым цэнтры Чэрыкава, на вачах у маіх землякоў, прызямлілася на ўсе чатыры.

Каля Чавусаў на беразе Проні заўважыў сіні «масквічок», які мяне і паклікаў. За мостам звярнуў у маладзенькі хвойнік і выехаў на зазелянелы бераг.

Воддаль ад машыны сядзеў на ўзгорачку Аляксей Васільевіч, задумліва глядзеў на ваду, сонечную, ужо цёплую, а побач з ім ляжаў Міша Счыслёнак, магілёўскі газетчык, апрануты, нібы дзед, у ватнія штаны, з-пад якіх унізе, ля костачак, відаць былі яшчэ і сінія спартыўныя — трыко. Пасмяяліся з яго зімовага настрою, пагаварылі, памаўчалі, а пасля Пысін успомніў, як з восені сорак трэцяга зіму і вясну вось тут, на Проні, стаяў фронт. Зіма адразу ўзялася лютая, з маразамі. Афіцэрам выдалі кажухі. Але не было снегу, і белыя кажухі далёка былі відаць на шэрай зямлі. Нямецкія снайперы, акапаўшыся на процілеглым беразе, цэліліся па белых кажухах, выбівалі наш камсастаў. І тады белы кажух нампаліта апрануў на сябе радавы Пысін…

Успамін быў кароткі. Маўчанне пасля яго — доўгае.

Ён, паэт, і цяпер бачыцца мне ў белым кажусе на чорнай зямлі ў скрыжаванні варожага прыцэлу. Гэты адбітак у памяці скаланае. Але не знікае. І ўжо, мабыць, не знікне. І не толькі таму, што гэтак было ў сорак трэцім. Таму яшчэ, што гэтак было пазней. Усё жыццё. Да самае смерці. Аляксей Васільевіч заўсёды трапляў у прыцэльнае скрыжаванне — калі не фашыста, дык здрадніка, бюракрата, кар'ерыста, розных іншых нягоднікаў. На вогненнае скрыжаванне ён выходзіў добраахвотна, як там, на Проні. Але ніколі не быў ахвяраю. Ён быў байцом і, апынуўшыся пад варожым прыцэлам, сам рашуча браў ворага па прыцэл. Такім яго ведалі газетчыкі Магілёўшчыны, паэты, чытачы.

Пысін жыў там, дзе жывуць сяляне і салдаты. Ён іх ведаў. Пра іх пісаў. Яны прыходзілі ў яго вечны радок, не забягаючы з поля ці акопа ў хату, каб памыцца, пагрэцца, перакурыць, зірнуць на сябе ў люстэрка. У радок, нібы ў вайсковы строй, станавіліся, не абабіўшы пясок з ботаў, не змахнуўшы з твару пыл і пот, не змыўшы кроў. Іх імёны і прозвішчы, багата рассыпаныя па вершах і паэмах, ён не мяняў, а калі мяняў, дык ледзь-ледзь, недзе ў адной літарцы, неахвотна. Даражыў сапраўдным фактам, імем, прозвішчам. Жывым голасам і тварам.

Не рыфмаваў ні выдуманых слоў, ні чужых пачуццяў.

Яго жыццёвы якар урос у старажытнае курганне Прыдняпроўшчыны, сплёўшыся з каранямі дубоў, якія стаяць па Дняпры, Сажы, Проні, Бесядзі, Палужцы, што бяжыць праз Высокі Барок, ці, як кажуць на радзіме паэта, Высокі Борак.

І, можа, таму я не ўяўляю Пысіна ў Парыжы.

З гэтаю думкаю на памяць прыходзіць цёплая і чыстая, нібы сляза, споведзь:

Не ведаю, якім вузлом
Навекі я прывязан
Да старых сосен за сялом…

Тут, у Парыжы, усё гэта, пра сяло ды сосны, ахвота чытаць і перачытваць.

Свечка мая дагарае. Цяпер я заўважаю, што яна амаль уся сплыла па вертыкалі падсвечніка на белы круглы, як поўня месяца, з бліщчастым сярэбраным адлівам твар не то чукчы, не то грэнлянда.

Так, гэта грэнлянд: шыракатвары, шыраканосы, шыракароты, з заплюшчанымі вачыма і ўсмешкаю, якія выдаюць бездань дабраты і блудлівай радасці. На шчоках і надброўях, у куточках сціснутых вуснаў тыя плямы, якія ўсе мы бачым светлай ноччу, калі прыгледзімся, на твары месяца-поўні. Грэнлянд спіць, велікадушна даючы нам магчымасць разгледзець на сваім твары яшчэ і дзве звілістыя паралельныя рысы ад правай сківіцы да левага вока, якія абапал вока разыходзяцца, і яшчэ адну рысу — наперарэз тым дзвюм, праз іх, ад правай залысіны па левай шчацэ. Рысы — з нашых далоняў: рысы сэрца і розуму сячэ рыса жыцця.

Гэта — на кніжнай вокладцы. Пад месяцам-тварам назва: «Арктыка». Выданне ЮНЕСКА да выстаўкі культур паўночных народаў.

Мне падабаецца твар-месяц грэнлянда. Ён нагадвае твары абарыгенаў Поўначы з малюнкаў Ракуэла Кента. Але я не заўважыў, як паставіў падсвечнік на рог кніжачкі, і воск сплыў са свечкі на цудоўны твар.

Воск сплыў не на самы твар, а толькі на голы чарапочак. Цяпер ён усё роўна як пад жоўтай шапачкаю.

Горш, што дагарае свечка. Уключыць настольную лямпу? Але зыркае святло разгоніць паветра, якое нараджае і ахоўвае, нібы таямніцу, вобраз паэта, якое снуе маю з ім размову. Гэта я ведаю. Лепш пагасіць свечку.

Яна гасне сама, дагарэўшы. Я кладуся ў мяккую чыстую пасцель, такую мяккую і чыстую, якая бывае, пэўна, толькі дома і ў Парыжы.

Я не зашторыў акно, і ў мой пакойчык свеціць месяц, які гэтай цёплай восеньскай ноччу стаіць над чырвонымі чарапічнымі дахамі, ззяе ўсяму Парыжу, парыжанам і парыжанкам. І тое паветра, што было вакол свечкі, не знікае. І мне зноў няма ахвоты спаць. Ахвота пагаварыць з Аляксеем Васільевічам, як некалі. Ціха, нетаропка. Калі я прыязджаў у Магілёў з Крычава, ён пытаўся ў мяне пра крычаўскія навіны. Калі прыязджаў з Мінска — пра мінскія. Цяпер, ведаю, спытаў бы пра Парыж. Што б я яму расказаў? Расказаў бы пра тое, як французы развітваліся са сваімі гвардзейцамі на старым бруку ў двары Дома інвалідаў, які злучаны з нашым маленькім атэлем на Гарыбальдзі вуліцаю Сегюр. Гэта было колькі дзён назад.

Пяцьдзясят восем новых цынкавых трунаў стаялі на двары, з усіх бакоў абнесеным высокімі галерэямі Дома, у якім размяшчаецца музей гісторыі французскай арміі. Пяцьдзясят восем маладых французскіх парашутыстаў ляжалі ў трунах, накрытыя нацыянальнымі сцягамі Францыі. Іх прывезлі з далёкага адсюль Бейрута і ўжо адпелі ў саборы святога Луі, які тут жа, у двары. Ганаровая варта ў малінавых берэтах стаяла з аўтаматамі, а прэзідэнт Мітэран падыходзіў да кожнае труны і прышпільваў высокую ўзнагароду рэспублікі да аксаміту падушачак. І была яго ўзнёслая прамова. І грымеў салют. А назаўтра часопісы выйшлі з вокладкамі, на якіх — і цынкавыя труны, і нябожчыкі пад сцягамі, і парашутысты ў малінавых берэтах, з аўтаматамі на грудзях, і прэзідэнт, які прышпільвае да падушачкі ордэн.

Там, у Ліване, французскія парашутысты загінулі як акупанты, асуджаныя святой помстай арабаў. Але Францыя хавала іх як герояў.

З трыбуны Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА ў Парыжы, якраз у гэтыя дні, міністр узброеных сіл і асветы Лівана расказаў, як акупанты яго краіны забіваюць ліванскіх дзяцей. А тут, на двары атэля, які парыжане называюць Дваром Герояў, маленькія французы, брацікі і сястрычкі нябожчыкаў аплаквалі сваіх куміраў.

Жанчыны ў чорным ішлі па Парыжы за трунамі, у якіх ляжалі іх сыны. Яны былі падобныя на ліванскіх жанчын у жалобе, сыноў якіх забілі сыны француженак.

Двор Дома з чатырох бакоў устаўлены ствaламі напалеонаўскіх марцір. Яны стаяць строга вертыкальна, сімвалізуючы мір:

ствол, пастаўлены вертыкальна, жаралом у нябесны блакіт, не мае ворагаў — выпушчаны снарад вернецца назад, туды, адкуль вылецеў.

Парашутысты, якія ляжалі ў цынкавых трунах, адпяваліся як пасланцы міру ў Ліване. На двары Дома інвалідаў аб гэтым гаварыў сам прэзідэнт.

Але два дні назад, калі прэзідэнт выступаў у ЮНЕСКА, ён пра гэта не сказаў ні слова. Ён у той дзень толькі вярнуўся з Бейрута, дзе сваімі вачыма ўбачыў яшчэ не падфарбаваную прапагандаю трагедыю сыноў Францыі. Паслы 161 краіны свету чакалі, што ён скажа пра Бейрут і трагедыю ў Бейруце. Прэзідэнт не ведаў, што пра гэта сказаць. Яго твар быў белы, як нежывы, падобны на маску.

Французы — вялікія майстры тэатра і тэатральных масак. Пры ўсёй сваёй непасрэднасці. А яшчэ — яны ўмеюць выкідаць з памяці тое, што засмучае.

У Доме інвалідаў, у Пантэоне, у вялізнай круглай зале, стаіць грабніца Напалеона. На мармуровай стужцы вакол грабніцы выгравіраваны месцы яго перамог: Аўстэрліц… Масква — таксама. І нішто ў даўжэзных экспазіцыях ваеннай гісторыі Францыі не раскажа пра тое, як беглі французы з Расіі, як гулялі па Парыжы рускія казакі. Пра гэта тут маўчаць. Французы з гонарам глядзяць на багатую грабніцу Напалеона, зробленую з маналіту чырвонага кварцыту, прывезенага з-пад Петразаводска, з шокшынскага кар’ера, і думаюць, што гэты кварцыт — трафей Напалеона, яго зброі і моцы. А гэта ўсяго толькі здзеклівы жэст рускага цара. Калі французы звярнуліся да Расіі з просьбаю прадаць ім маналіт на саркафаг Напалеону, цар напісаў: «На гроб Наполеону бесплатно — от русского народа».

Яны паказваюць гасцям вагончык, у якім пад канец Першай сусветнай вайны прымусілі Германію падпісаць мір, выгадны для Францыі. Але нікому не скажуць, што ў гэтым самым вагончыку Петэн падпісаў капітуляцыю ў Другой сусветнай вайне.

Французы не ўсё хочуць памятаць. Нават з гісторыі Францыі.

Але шмат чым яны мне падабаюцца. Хоць бы тым, што на ноч заўсёды раскажуць адзін аднаму штосьці вясёлае. Каб не сніліся чэрці. І чаму б нам таксама не зрабіць гэтак хоць бы тут, у Парыжы?

Дык вось… Ідучы сёння ад савецкага пасольства па вуліцы Лану, я ўбачыў, як хлопчык, парыжскі Гаўрош, вехцем, змочаным у вядры з клеем, вадзіў па плакаце, на якім прэзідэнт

раздаваў узнагароды мёртвым парашутыстам. На тым месцы хлопчык наклейваў новы плакат, дзе прэзідэнт глядзіць на голы зад чалавека і лупцуе па ім. Ёсць і подпіс: «Прэзідэнт выхоўвае сваіх міністраў».

Не смешна? Але ж яны смяюцца…

Сённяшняму Парыжу, здаецца, не хапае ваеннай лірыкі Пысіна. Яе памяці, праўды. Каб выбухнула ў гэтай камернасці. Пра гэта я думаю, калі сяджу перад тэлевізарам, слухаю задоўгую балбатню людзей з вуліцы пра савецкія і амерыканскія ракеты, гаданні: будзе ці не будзе вайна; калі гляджу дакументальны фільм пра Другую сусветную вайну, усе падзеі якой адбываюцца нібыта ў Францыі і вакол яе — у Германіі, Італіі, Паўночнай Афрыцы, на Ла-Маншы, толькі на нейкую хвіліну пераносячы гледача ў нашу краіну. На адну хвіліну.

А ў той варонцы верас, верас,
Дымяцца сны на тых гадах…

Тваіх сноў, Аляксей Васільевіч, тут не бачаць. І таму, можа — таму, у французаў ёсць мілая звычка расказваць перад сном штосьці вясёлае, каб па начах не сніліся чэрці.

Дарога ад Краснаполля да вёскі Высокі Барок, калі па ёй ехаць увосень, скрозь пахне яблыкамі.

Я ехаў па гэтай дарозе позняй восенню, у кастрычніку, калі яблыкаў на дрэвах ужо не было, да гэтай пары іх атрэслі гаспадары, гаспадаровы госці і наравістыя вятры. Але дарога ў Высокі Барок пахла яблыкамі. Там, у вёсцы, мяне чакаў стогадовы антон, самы пазняк, выспелены да той празрыстасці, калі ў яго васковых нетрах навылёт бачыцца кожнае зярнятка.

Яблыні сто гадоў, не меней. А мне падалося, што і яму, антону, сто, не меней.

Я ўзняў руку, падставіў пад яго далонь, і ён сам адваліўся ад галіны, важка лёг на далонь.

Яблыня дажывала свой век. Іржавая кара, нібы луска з мёртвае рыбіны, сыпалася з яе маслакаватых дупластых какатоў, адхлупала ад таўшчэзнага камля, звітага з пакручастага жылля, успухлага на старых ранах. Яна прывітала аднойчы нараджэнне сялянскага хлопчыка, будучага паэта, каля парога бацькавай хаты сустрэла яго на гэтым трывожным свеце і праводзіла на той. Яблыня — бацькава, дзедава — усё роўна як для яго, паэта, жыла і цяпер, калі ён не мог сюды наведацца, памірала таксама.

Яна памірала доўга, пакутліва, як паміраюць ад скрухі. Гэтак памірала Хрысціна Рыгораўна, маці паэта.

Ішла вайна. Аляксей быў на фронце. З бацькам, інвалідам, і маці заставаўся Лёня, малодшы Аляксееў брат.

Аднойчы зімою Лёня запрог суседавага каня і паехаў у лес па палазы. Бацькі чакалі яго дзень, чакалі ноч, чакалі колькі дзён, месяцаў — сын не вяртаўся. А ўвесну, калі сышоў снег, з лесу, з урочышча Ляпенне, за якое паехаў Лёня, выехаў абоз, рушыў праз Высокі Барок. Хрысціна Рыгораўна пазнала ў абозе суседавага каня. Кінулася да яго, але што мог расказаць конь? Людзі? Нічога тады і яны не сказалі. Пасля ўжо, пазней, можа, праз год, ад людзей пачула, як там, за Ляпеннем, Лёня натрапіў на мужыкоў, якія хаваліся ў лесе ад немцаў, і тыя забілі, баючыся, што хлопец можа разнесці па вёсцы аб сваёй сустрэчы з імі — раптам дойдзе да немцаў?

З таго часу пачала Хрысціна Рыгораўна сохнуць. Таяла, нібы свечачка, пакуль не згасла.

Я не пайшоў у хату, якая стаіць на пысінскім пляцы. Хата новая, не тая, з якой Аляксей Васільевіч выйшаў у свет, і жылі ў ёй ужо іншыя людзі. Пастаяў пад яблыняю, штосьці ёй шапнуў па-свойску, развітаўся, грэючы ў кішэні яблык.

Каля калодзежа стаялі жанчыны з вёдрамі:

— Сянні захаладала…

Адразу на языку варухнулася:

Куды, сусед, хадзіў ты сянні?
Мядзведзя пасвіў на аўсянні…

У нашага земляка быў востры слых на слоўка, асабліва роднае, магілёўскае. Ён імгненна чапляўся за яго, свежае, незацяганае, ёмкае, і захапляўся ім надоўга.

Не раз былі з табой спатканні,
Як полаз выгнутае — сянні.

За словам ён бачыў малюнак, жыццё, народ.

У адным са сваіх шматлікіх паэтавых і журналісцкіх блакнотаў Аляксей Васільевіч зрабіў цікавы запіс: *Вучыцца мове трэба ў жанчын. У іх самая сакавітая, самая вобразная мова. Аднойчы ў вёсцы жанчына расказвала, як яна ехала ў аўтобусе:*

*— Так было цесна, што я стаяла на адной назе. А на маёй назе яшчэ некалькі чалавек стаяла.*

Вось з якой крыніцы той верш:

Жанчына так апавядала…

Ён пераліў пачутае ў верш ужо ў тыя гады, калі яго паэтычны радок з'яўляўся на доўгае жыццё, з таўром прызнанага майстра, калі ён ужо не засяваў сваю ніву абы-якім, выпадковым, нібы ў галодны год, насеннем. А гэта і падкрэслівае, як даражыў Пысін словам, думкаю, гаворкаю селяніна.

Ён любіў словы, якія ўсё радзей грэюцца ў нас на языку, незаслужана забываюцца. Ён іх не проста любіў, а шкадаваў, любячы, як шкадуюць беспрытульных дзетак. Не адно з іх хацеў ўратаваць, вярнуць да ўжытку. Таму, бывае, слова ў вершы гарэзліва ці самотна гуляе з радка ў радок.

Неўталоннік.
Мой ты неўталоннік…

Песня бабкі. Песня ўнука. І нідзе намёку на тое, што захапленне паэтава, прынамсі, словам — самабытным, каранёвым, свежым. А яно ж так. У ім, гэтым слове, і песня бабчына, і песня ўнучкава, і дыханне паэта.

Яму была ўласціва высакародная хітрасць: паказаць слова, нібы тавар на кірмашы, ва ўсёй прыгажосці, каб людзі яго палюбілі. Гэта ён рабіў далікатна, няўзнак, бо ён усюды сціплы: у слове, у жыцці. Тут і загадка, адна з загадак: якім чынам незвычайная сціпласць магла акумуліраваць незвычайную энергію ў слове, руху, жыцці?

Прыемна вярнуцца праз успамін у час, калі мы працавалі ў «Магілёўскай праўдзе». Я жыў у Крычаве, меў статус уласнага карэспандэнта газеты на тэрыторыі Крычаўскага, Мсціслаўскага і Клімавіцкага раёнаў, калі-нікалі бываў у Магілёве. То выклікаў рэдактар, а то прыязджаў сам, каб падыхаць гарадскім паветрам.

Неяк, памятаю, атрымаў заданне напісаць нарыс пра калгаснага брыгадзіра. Далі і адрас, і прозвішча.

Была зіма. Я даехаў на спадарожнай машыне да вёскі і падаўся шукаць брыгадзіраву хату. Людзі паказалі сцежку — хата выглядала гэтакай развалюхай, што я не паверыў, каб у ёй жыў добры брыгадзір: гаспадар — ён усюды гаспадар, у калгасным і ў сваім. На двары пуста — ні парсюка, ні сабакі, ні следу жывога. Зайшоў у сенцы — цёмна, быццам у яміне. Намацаў клямку, адчыніў дзверы, пераступіў парог — паздароўкаўся. Ніхто не

адазваўся. У хаце цёмна, халодна, як у сенцах. Патупаў каля печы, каб мяне пачулі, калі ёсць хто жывы, зноў падаў голас. І тады нехта глуха, як за сцяною, кашлянуў. Я абышоў печ і пад столлю на печы, за комінам, убачыў дваіх старых. Яны сядзелі, прытуліўшыся адно да аднаго, з галовамі накрытыя коўдраю. Печ халодная, не паленая.Старыя не мелі дроў, абое хварэлі, а брыгадзір, якога я мусіў славіць у нарысе, даводзіўся ім сынам і жыў праз два ці тры двары і да маці, да бацькі не паказваў носа. Яны яго называлі сваім хлебнічкам і плакалі. Я тады знайшоў хлебнічка ў сваёй цёплай новай хаце. Параіў ісці да хворых бацькоў, аднесці ім бярэма дроў, напаліць печ. А напісаў пасля не нарыс, а фельетон. І назваў яго— «Хлебнічак».

Навошта расказваю гэта, думаючы пра Аляксея Васільевіча? Успамінаецца, як пасля, калі фельетон быў надрукаваны, я прыязджаў у Магілёў, заходзіў у рэдакцыю, у пакой, дзе за сталом сядзеў Пысін, і як ён у мяне пытаўся: «Ну як там хлебнічак?» Пытаўся неаднойчы, і я заўважыў, што яго цікавіць не столькі брыгадзір, колькі слова «хлебнічак», яго метафарычны паверх, іранічная глыбіня, прыхаваная на выпадак, калі ў сілавое поле слова трапіць гэтакая, як той брыгадзір, жывёліна. Пысін вымаўляў слова з ледзь прыкметнай усмешкаю ў ціхіх, звычайна добрых і насцярожлівых вачах, рады, што жыве ў народзе гэтакі дыямент. Хоць ні разу, здаецца, яго не ўжыў. Чаму? Не выпала? Ці, можа, што любіў адкрываць дыяменты сам? А можа, жыццё гэтага слова ў пысінскім радку было наперадзе?..

Дык вернемся ў Высокі Барок.

Жанчыны панеслі ад калодзежа паўнюткія вёдры на каромыслах, вуліца апусцела. А я не мог паехаць, яшчэ раз не пачуўшы тут жывой гаворкі. Зайшоў у хату, што стаяла побач з пысінскім садам, праз плот ад яго старой яблыні.

На ложку за печчу ляжала старая. Яна павярнула твар у мой бок і, не спытаўшы, што я за птушка, сказала:

— Сянні думала ўстаць на ногі. Але яшчэ нядужая. Во ляжу, як завала. Трэба вылежаць.

Яна глядзела на мяне вільготнымі вачыма, усё роўна як мы з ёю даўно знаёмыя, жывём побач, кожны дзень бачымся. Я спытаў у яе пра Пысіна. Яна прыўзнялася, назвалася:

— Мяне завуць Хадоскаю, Мацвееўнай. — Падумаўшы, пачала расказваць: — А Пысіных нікога няма. Гэта ж Ляксей памёр. А бацька, Васіль, пайшоў у інвалідны дом. Можа, памёр і ён. Яму ўжо было дзевяноста. З’ездзіўся конь. А Хрысціна ж раней, тады, пасля вайны, сташнавалася па Лёніку. Яго ж забілі

ў лесе. Ведаеце? Ад ташнаты памерла. Ах, добрыя людзі жылі на свеце. Ціхія, услужлівыя. Ляксей быў увесь у матку. Ён таму доўга і не пажыў. У Хрысціны душа была як аблачынка, з песняю. Перажыць, што яна перажыла, душу трэба мець глухую. Ляксей, зноў скажу вам, увесь быў у матку. Ды і Лёня…

Над прыціхлаю вуліцаю стаяла халоднае сонца. Сухая восень выдзімала з садоў шэрае лісце, змятала пад платы, сыпала ў стары калодзеж, у якім хлёпалі зялёныя жабы.

Я выйшаў за вёску. Палі ляжалі даўно прыбраныя, шэрыя, сумныя. Па іх гулялі хаўтурныя варанячыя цені, ледзяное карканне. Поле называлася Парасятнікам. За ім пачыналася Ляпенне, а далей, калі звярнуць направа, Мануйлы — вёска, у якой жыла Прося, сястра паэта.

Вучыцца мове трэба ў жанчын…

Пэўна, гэтыя назвы — Парасятнікі, Ляпенне — папрыдумлялі жанчыны. Тутэйшыя, высакаборскія.

Жанчыны,
Маці-словатворцы,
Ў час калыханак вы спялялі
Імя вясне, пчале і зорцы,
Ўсім добрым дзівам на зямлі.

Ён доўга выношваў кожны свой верш. Як маці — дзіця, яблыня — яблык, поле — хлебны колас.

Ён быў сынам сялянкі і селяніна, і ўсе яго пачаткі сялянскія — ад маці, поля, плуга, каня, птушкі, хаты.

Салдатам яго зрабіла вайна. Ён быў мужным салдатам. Гэта засведчылі яго надзвычай доўгія і цяжкія ваенныя дарогі, успаміны аднапалчан, таго ж Івана Міканоравіча Раманава, камандзіра дваццаць другога гвардзейскага стралковага палка, у якім ваяваў Пысін. Ён стварыў лепшую у нашай беларускай літаратуры ваенную лірыку. Але сэрца яго, пры ўсёй вернасці франтавому братэрству, засталося ў Высокім Барку, на высакаборскім полі, дзе красуе і наліваецца жыта.

Мне ў жыта хочацца ўвайсці,
Мне вечнасцю здаецца жыта.

Два радкі акрэсліваюць увесь свет паэта, яго мастацкую і філасофскую канцэпцыю.

Ён быў мудрэц і разумеў, што сённяшні дзень жыве ў кантэксце вечнасці, адно пры гэтай умове дзень чагосьці варты. І верш, і паэт, калі яны сапраўдныя, звёны з ланцуга вечнасці. Але хто падкажа — дзе сувязь з ёю?

Ён будзе шукаць сам. Сваю сувязь.

Вайну паэт прайшоў скрозь. Свае чырвоныя мерыдыяны сточваў з правадамі франтавой сувязі пад шквалам агню, быў пластуном, не горшым за яшчарку, і там, у агні, адчуў, што войны з вечнасцю звязаць немагчыма: вайна — вораг вечнасці. Таму сваю ваенную лірыку ён зрабіў антываеннай.

Сувязь, якую шукаў, яму падарыў Высокі Барок. Паднёс на крыле жаваранка, пад родным плотам. На лемяху бацькавага плуга. На матчыным ручніку. Да гэтага адкрыцця ён прыйшоў не адразу, але натуральна, як дзіця — да матчыных рук. Прывяла інтуіцыя каранёў і крыві. Ён заўсёды насіў у сабе традыцыйную сялянскую прагу размовы з продкамі і нашчадкамі вёскі. Праз векапомнае курганне і рыжых мурашоў, праз сасну і бярозу, праз слова, адбеленае, нібы матчын ручнік, праз Вярбовы мост на роднай Палужцы і шурпаты каласок на чуйным провадзе саломы.

Яго былая суседка не зманіла — увесь у маці. Раней за Хадоску Зямцову ён сказаў гэта сам:

> Мне маці вызначыла роднасць
> І па душы, і па крыві.

Хрысціна Рыгораўна парадніла сына са светам. Ён з удзячнасцю адчуваў гэта кожную хвіліну і ўсё жыццё.

З гэтым адчуваннем да яго прыйшла неабходнасць ездзіць па магілёўскім краі. І хадзіць.

Ён быў нястомны хадок. Навучыла вайна? Так, гразі і снегу на ваенных дарогах ён памясіў аж замнога — на чатырох франтах. Але дарогі прывязалі да сябе з маленства. Вучыўся ў старэйшых класах — школа была ў Палужы, а да Палужа — вёрст восем з гакам. А калі туды і назад? Ды кожны дзень?

Іншаму яго дарогі, асабліва ваенныя, былі б смяротнай пакутаю. Яны і яму крывавілі мазалямі. Затое пасля прывялі ў сад, ці гэта — бор, ці, можа, лепей сказаць — сабор, якім называецца высокая народная паэзія. Народная і высокая — бясспрэчна. Бо і самы горкі, і самы салодкі лёс народа ён выпакутаваў у сарочцы, якую насіў народ, выказаў так, як гэта можа зрабіць адно сам народ.

Сваю дарогу апеў, як апяваюць свой лёс — які б ні быў, а свой:

Той дарогі не збыць, не забыць…

І яшчэ — як апяваюць калыску:

Сцяжынка на радзіму —
Як нітка без вузла.

Гэтак, без вузельчыкаў, вялі сцежкі-дарожкі пасляваенныя. Яны пачаліся ў снежні сорак пятага, калі дэмабілізаваўся, вярнуўся ў Высокі Барок, адсвяткаваў новы рубеж жыцця і пачаў працаваць у Краснаполлі, у раённай газеце. А праз два гады выйшаў на тры раёны — Краснапольскі, Чэрыкаўскі, Слаўгарадскі — карэспандэнтам абласной газеты «За Радзіму». У пяцідзясятым накіравалі працаваць у Баранавіцкую вобласць рэдактарам газеты палітаддзела Свержанскай МТС, але ён зноў вяртаецца ў родную глыбінку, на пасаду рэдактара чэрыкаўскай раёнкі. Зноў — дарогі і дарогі ў міжрэчышчы Дняпра, Сажа, Проні, Бесядзі, Сянны, Палужкі.

Што шукаў на гэтых дарогах і сцежках? Што бачыў? Што чуў? Што думаў? У нейкай меры, толькі ў нейкай, на гэта адказвае запіс у журналісцкім блакноце:

*Янка Купала не меў дыплома аб заканчэнні ўніверсітэта. Але ёсць купалаўскі універсітэт паэзіі. У ім тры факультэты: матчынай мовы, народнай песні, народнага жыцця. Гэтыя тры прадметы Купала вывучаў усё жыццё. Нават тады, калі стаў акадэмікам і ўсесаюзна вядомым класікам беларускай літаратуры.*

Роздум Пысіна запомнім. Каб глыбей зразумець яго тыя пошукі. І задачы, якія ён ставіў перад сабою. Гэта быў час, калі ў свет выйшла яго першая кніжачка вершаў «Наш дзень».

Аляксей Васільевіч таксама не меў дыплома. Ён вучыўся перад вайною ў Камуністычным інстытуце журналістыкі ў Мінску і не закончыў яго. У трыццаць дзявятым годзе, як толькі Заходняя Беларусь уз’ядналася з Усходняй, ён едзе працаваць у раённую газету на Беласточчыну, у гарадок Бельск. То быў патрыятычны крок. Там, у Заходняй, адкрываліся беларускія газеты, а прафесіянальных газетчыкаў не хапала. Ён паехаў з другога курса інстытута. І цяпер, калі вайна закончылася, перад ім паўстала пытанне: як быць з вучобаю? Ён палюбіў газету, убачыў, што газета — яго лёс. Але ж трэба вучыцца?

І вось Купала паказвае шлях, адчыняе дзверы свайго ўніверсітэта. Пысін знайшоў у ім тры факультэты, і ўсе тры яму па

душы. Ён будзе вучыцца па Купалу, на трох факультэтах адразу: матчынай мовы, народнай песні, народнага жыцця.

Будзе вучыцца? Ён ужо вучыўся. У той дзень, калі запісаў сваю думку пра Купалаў універсітэт, апанавала здзіўленне, што яго стыхійныя пошукі супалі з пошукамі Купалы. Гэта было не толькі здзіўленне, але радасць, падтрымка, азарэнне: інтуіцыя, душа матчына вялі не пустымі дарогамі.

Што гэта так, што ён ужо ішоў дарогамі песняра, кажуць наступныя старонкі з таго самага блакнота, падобныя на канспекты лекцый з Купалавага ўніверсітэта. Вось яны:

*Памерла ў вёсцы, адышла на вечны спачын стогадовая бабулька. Над яе дамоўкай плакалі сяброўкі і родзічы. На могілках не выступалі прамоўцы. Не гаварылі аб тым, якой бясконцай даўжыні льняная нітка працякла праз натруджаныя рукі — пры святле яснага месячыка і дымнай лучыны, якія млечныя шляхі палотнаў саткала, выбеліла на золкіх росах. Гэтыя ж рукі, пацямнелыя ад сіверу і спякоты, калыхалі калыску, выняньчылі, узгадавалі сыноў і дачок, унукаў і ўнучак, і нават праўнукаў. Нічога з сабой не ўзяла бабулька, усё аддала людзям. Самая ж вялікая спадчына дасталася адной з унучак. Не, гэта не вялікі куфар, акаваны жалезам і размаляваны ў кветкі і яблыкі. Не ашчадная кніжка. Не закапаны скарб. Яна пакінула песні, якія спявала ўсё жыццё. І калі б іх усе скласці ў куфар, то было б поўна, па самае вечка. Была б энцыклапедыя чалавечых пачуццяў, гісторыя народа, помнік культуры.*

*А мне давялося чуць, як унучка спявала бабульчыны песні:*

*Была б я галубка,*
*Ды шызая галубачка,*
*Паляцела б да мора,*
*На ляту б гаварыла:*
*Ой, гора мне, гора.*
*Затапіла б галовачку*
*На дно сіня мора…*

*З якога веку дайшла да нас гэтая песня? З далёкай мінуўшчыны звярнулася яна ў сённяшні дзень, да сэрцаў сучаснікаў, звярнулася і сказала: такой была доля беларускай жанчыны.*

*Чырвоная калініца*
*Над вадою хілілася,*
*А я, молада, журылася,*
*Што без долі радзілася,*

*А я ў бога прасілася:*
*Не кінь, божа, ўдавою…*

Я разгубіўся: адкуль гэта? З майго блакнота ці з пысінскага? Успомніў Бесядзь, за Бесяддзю — вёсачку, драўляную школу, ад школы — летнюю сцежку, а на ёй, зялёнай і сонечнай, — маладую настаўніцу. Яна, светлавалосая, бяжыць мне насустрач, бо ёй ужо сказалі, што да яе прыехаў — паслухаць песні.

Мы падышлі да вясковага клуба, але ён быў на замку. Тады яна завяла мяне ў сваю хату, невялічкую, з белай печчу на традыцыйным для нашых магілёўскіх вёсак месцы — злева ад парога, светлую, чыстую, абласканую жаночымі рукамі. Я сеў да стала, яна — да акна на ўслон, доўгім позіркам пагуляла па вуліцы, задумалася, уздыхнула, настроілася і заспявала ў самотным роздуме, усё роўна як адна ў хаце, як для сябе адной, а можа, і яшчэ да кагосьці, каго я не бачыў, а яна і чула, і бачыла, і вітала песняю:

Чырвоная калініца
Над вадою хілілася…

Ніна Бялугіна то спявала, то замаўкала, пачынала расказваць пра сваю бабулю Агапку Ніжнікаву, што жыла ў вёсцы Калодліва, недзе побач, якая яна была пявуння, бабка Агапка, як прыгожа магла ўкласці ў адзін снапок і песеньку, і жытнія каласкі, і лугавую кветачку, і лясную сцяжынку. З гэтымі яе песнямі, каласкамі, кветачкамі, сцяжынкамі, звязанымі адным лёсам, як перавяслам, я вяртаўся з-за Бесядзі пасталелы, пацяжэлы, задумлівы і з таго дня доўга хадзіў з імі ў сэрцы і памяці па сваёй Магілёўшчыне, пакуль аднойчы ўсё гэта не знайшло берагі «Пагонніка», маёй першай аповесці. Там, у тых берагах, апынулася і «Чырвоная калініца», і штосьці ад Ніны Бялугінай, і штосьці ад Агапкі Ніжнікавай.

Як жа было не дзівіцца запісам Аляксея Васільевіча ў яго паэтавым і журналісцкім блакноце?

Здаецца, ўстаў я рана-рана,
Пайшоў па сцежцы лугавой,
Ды хтосьці ўжо ступаў па ёй,
Раса пазбіта і стаптана.

Не хтосьці — ён. І не пазбіў, не стаптаў расы. І няма пытання: хто першы арасіў ногі на сцежцы да песень бабы Агапы і Ніны

Бялугінай? Ёсць нечаканая радасць, што не ты адзін. Што тут быў ён. Не абы-хто — твой паэт. Што ён піў з тае самай крыніцы, з якой піў ты.

Следам за сцежкаю, што вядзе ў Забесяддзе, бачацца іншыя, прыточаныя да гэтае. Адна з іх — восеньская, начная, цёмная, аж чорная, пад дажджом, люта-халодная.

Мы хлёпалі па гразі з Касцюковіч на Камунары, чыгуначную станцыю. Мы — гэта ён, важак, і літаратурныя падлеткі, якія ўжо абмакнулі свае нясмелыя пёры ў чарніліцу, хавалі ў патайных кішэнях першыя вершы, апавяданні і набраліся нахабства — сабраліся ў касцюковіцкім Доме культуры — хто з Крычава, хто з Мсціслава, хто з Чэрыкава, — каб ашчасліваць суседзяў сваім мастацкім словам. Якая рызыка — мы зразумелі ўжо на сцэне, апынуўшыся адзін на адзін з залаю, у якой было поўна людзей. Пачалі блытацца, заікацца, але нас уратаваў Аляксей Васільевіч. Ён сціпла ўстаў з крэсла, выйшаў на край сцэны, звесіў, нібы стомлены конь, галаву, уставіўся задумлівым позіркам на людзей, якія сядзелі на самых першых радах, і пачаў чытаць вершы пра франтавых сяброў. І людзі прыціхлі. Ён чытаў ціха, камусьці аднаму з тых, што сядзелі на першым радзе перад намі.

Не я адзін тады зразумеў, што душу адчыняць трэба ціха, не трэба крычаць. Да людзей даходзіць не крык, штосьці іншае.

У нейчай хаце цёпленька павячэраўшы, мы цёпленька, пад халодным восеньскім сяйвом, выйшлі за Касцюковічы і весела, з песнямі, жартамі, рогатам, хлюпалі на Камунары. Да поезда нас вёў па цемені чырвоны агеньчык пысінскай папяроскі.

Ён не быў язычнікам, але папяроска была яму малітваю, сяброўкаю, паратункам ад холаду, голаду, адзіноты. Яна вяла яго па ўсіх дарогах жыцця, а ён яе шанаваў. Яны сябравалі. Ён паўвека нёс яе ў жмені, ні разу ёй не здрадзіўшы, з ёю думаў, размаўляў, марыў. Яна паўвека грэла яго ў сялянскай баразне, у салдацкім акопе, у цяжкіх дарогах, у пакутах над словам. Яна была самай вернай яго сяброўкаю. І сувязной — з сялянскім, акопным, чалавечым светам.

Ці не пра гэта:

Палім мы маршанскую махорку…

Альбо:

Пастаю ля чэрствай каляіны
І акурак нейчы падыму.

У ёй — сувязь жывога з жывым і жывога з мёртвым. Гэтую сувязь ён адчуваў заўсёды:

> Мы цыгарку скруцім па-былому,
> Пусцім шызы дым на правады.
> Першая зацяжка — мне, жывому…

Гэтакім, з агеньчыкам папяроскі, ён бачыцца мне і ў хаце Ніны Бялугінай. Сядзіць крыху воддаль каля акна, каб дым ішоў у фортку, абапёршы руку з папяроскаю локцем на правае калена, паклаўшы падбародак на палец правай рукі, а папяроска, заціснутая паміж другім і трэцім пальцамі ў гэтай самай руцэ, то зырка чырванее, то сівее пад налётам папялку, зноў зырчэе і ўжо ззяе, не сівеючы болей, бо песні бабы Гапы ўжо завалодалі душою Ніны Бялугінай, не адпускаюць, а разам з ёю не адпускаюць і душу Аляксея Васільевіча. Уставіўшыся вачыма ў падлогу, звесіўшы чуб на лоб, на вочы, ён дыхае ў лад песні, перажывае з Нінаю разам, і цыгарка — то на губу, то з губы, нервуецца, гарыць жарка, не астываючы.

З ёю, гарачай сяброўкаю, ён не мёрз і ўзімку. Нават у лёгенькім, вынашаным шынялі і ботах.

Шырокі плёс ракі выгінаецца вельмі прыгожа і паслужліва перад высозным лабатым берагам, на якім, адступіўшы ад вады, стаіць сцяна бору. Ужо не вечар, ужо ноч. Хаты, чорныя копы, пакаціліся ўправа, разам з вясковай вуліцаю, абляпіўшы яе з абодвух бакоў, ні ў адным акне ўжо не гарыць святло, шыбы блішчаць адно тым святлом, якое надта скупа ліецца з неба праз праймы ў воблаках, ад месяца, якога і не відаць, ды яшчэ ад ракі, ад яе ледзь сівенькае гладзі. Усё вакол цёмнае, чорнае, нямое і глухое. Вядома, што такое ноч у вёсцы на самым пачатку вясны, які ў гэтую пару таямнічы ды зацяты рэй.

Чуваць — адно шоргат крыг, далёкае, глыбока ў небе, курлыканне журавоў, якія нават цяпер, па цемені, спяшаюцца ў родныя гнёзды з выраю. Звычайна яны начуюць на зямлі, пацяплелай і падабрэлай. А гэтыя як баяцца спазніцца. Дзе-нідзе зямля адкінула з сябе цёмную начную коўдру — паблісквае то рэчкаю, то лужынаю, звечара зноў зашклёнай лядком.

А што яшчэ відаць і чуваць тут, унізе? Не з вышыні птушынага смутку па роднай зямлі, а пад тым высокім смуткам?

Відаць чырвоны агеньчык на лабатым цёмным узгорку, на беразе. Дробны, як зорачка, змеценая з неба. І постаць чалавека, цёмная, на фоне сівога жураўлінага небасхілу. Чалавек доўга

стаіць на адным месцы, а чырвоная зорачка скача то ўверх, то ўніз. Нібы ён прымёрз да зямлі, а яна яго тузае, аддзірае ад зямлі. За дзень зямля адтае, а цяпер можа прымарозіць і боты.

Што робіць ён тут — у цемені, цішыні?

Але ці ж гэта сапраўдная цемень, калі яна прабіта цвічком чырвонае зорачкі?

І цішыня не сапраўдная. Яе, калі прыслухацца, трушчаць крыгі пад берагам. Крыгі трушчаць самі сябе, шоргаючы адна аб адну, нібы карасі на цёрцы, аб бераг, то напаўзаючы на яго, сонныя, то спаўзаючы ў ваду, трушчаць вастрагубыя ледзяныя заберагі, трушчаць і цішыню — нясмела ці шкадуючы?

— Слыш-ка!.. Прырода працуе!.. Галінка, ільдзінка, пясчынка… Усе ў рабоце!..

— Ты, Ягор Захаравіч?..

Я пазнаю бераг. Тут вёска Журавель: з пагорка на пагорак двума шнурочкамі па-над Сажом бягуць хаты. Але ж дзед Ягор жыве не ў Жураўлі? Дык і што? Яго Мірагошч — побач: дзесяць хвілін хады. Трэба выйсці за Журавель у бок Чэрыкава, прайсці праз арэшнік, праз замчышча князя Абаленскага, прадрацца праз здзічэлыя бэз і ружы, збегчы каля дамкоў летняга піянерскага лагера з гары — там і Мірагошч, а ў Мірагошчы — хата з сінімі аканіцамі, шыбкамі на ваду, на ледаход.

— Слыш-ка!..

Гэта ўва мне гучыць голас дзеда Ягора. Але калі ўва мне, то і ў душах маіх сяброў, каторых я прывозіў і прыводзіў сюды, на свой бераг, на Ягораву юшку, смачней за якую скрозь па Сажы не паспытаеш.

Гэтакай вясновай ноччу дзед Ягор, Ягор Захаравіч, прашаптаў мне аднойчы:

— Калі б я быў паэтам!.. Маці родная!.. Я б напісаў, як прырода ўсю ночку не спіць, працуе… Галінка, ільдзінка, пясчынка…

Я пісаў пра яго як пра паэта, які з маленства абвешаны рыбінаю лускою, і пра Пысіна. Я паставіў іх аднойчы побач як двух паэтаў, хоць першы, дзед Ягор, усё жыццё пісаў па вадзе вяслом, па зямлі касою і плугам, жыў і жыве з мараю пісаць яшчэ і пяром. Не я іх паставіў побач — прырода. Я толькі заўважыў, як прырода гэта зрабіла, і выдаў сакрэт людзям, звязаўшы іх лёсы перавяслам-думкаю: скрозь жывуць паэты.

Недзе нешта рыпнула. На ўзгорку, пад хвоямі. Не то дзверы ў хаце на нязмазаным круччы, не то сосны шарганулiся адна аб адну.

І — голас, з страфы, прысвечанай Міхасю Стральцову:

— Аляксей!..
Працяжна, глуха…
Сасна паклікала, як маці…

Чырвоны вугалёк папяросы скаціўся ў цемені пад салдацкі бот, сыпануў па зямлі чырвонымі іскрамі і пагас, разам з іскрамі. Чалавек павярнуўся спіной да ракі і пайшоў на голас. А там ужо і святло з дзвярэй, адчыненых у ноч, выкацілася на ганак.

Там школа, пачатковая. Побач — хата дырэктара школы Пухоўскага. З хаты дзверы на ганак.

У Жураўлі звыкліся з тым, што хата Пухоўскага не спіць, калі спіць уся вёска. Але сёння на начным настаўніцкім стале не кніжкі, не сшыткі — позняя вячэра. Завіталі нечаканыя госці: Пысін і Сідараў, фотакарэспандэнт. Нечаканыя, але даўно свае. Нават для Наташы. Яна мірна пасопвае за печчу, нагуляўшыся з дзядзькам Аляксеем, наспяваўшы яму торбу песень і торбы дзве пачуўшы ад яго. Спіць і ўсміхаецца, пухлымі губкамі ўсё роўна як шэпчучы апошнюю песеньку: *Еду-еду на камбайне, полем ходзіць рож, расчыняй, Наташа, тайну, сэрца не трывож.* Дзіўны ён, дзядзька Аляксей. То вясёлы, то задумлівы. То гуляе з ёю, не пускае ад сябе, а то сам знікне, схаваецца недзе на беразе Сажа, сядзіць адзін над вадою, думае ці слухае, у блакноціку піша. Што ён піша?

На ўспамін аб той сустрэчы ў настаўніцкай хаце ў Жураўлі і цяпер вісіць фотаздымак. На ім — Наташа. Тварык кругленькі, светленькі, усмешлівы.

І яшчэ на ўспамін — раніца:

— Дзядзька Аляксей?! Дзе ты-ы?..

Боцікі хутчэй на ногі, выскачыла за дзверы, а воза, які стаяў каля ганка, ужо няма. Адно каляіна, налітая вадою, ад колаў. Заплакала Наташа, кінулася наўздагон берагам Сажа, да лесу…

Засталася каляіна, а на ёй, у цёплай вясновай ручаінцы, — званочак-паэма, дзе і баба Домна, і мама Галя, і Поліпень-балота, на якім пад шум партызанскага бору нарадзілася Наташа, і Журавель, і Сож у Жураўлі і ўсё-ўсё да драбніцы тутэйшае, родненькае. Нават — дзед Алесь.

Наташы — пяць, а дзеду — сорак восем.
Які ён дзед? Ні белых валасін,
Ні барады, ні горбу за плячыма,
Які ён дзед?
«Скажы, ты праўда дзед?»

Вось толькі дзед… Духоўскі? Чаму? Ён жа — Пухоўскі? Усе імёны без памылак, а дзед — з памылкаю. Чаму гэтак?

І яшчэ ўспамінаюцца маміны рукі, якія тады падхапілі ўжо ў лесе. Мамін голас:

— Не плач, дурнічка. Ці табе дзядзька Аляксей мала наспяваў песень ды казак? Не ўсё табе адной. Яшчэ яму трэба спяваць іх іншым хлопчыкам і дзяўчынкам.

За Жураўлём — лес, за лесам — Варшаўская шаша, а там, за яе старым брукам, Сакалоўка і ў ёй хата Івана Сямёнава, газетчыка і крыху паэта, дружбака, а ў Івана — брат Сямён, меншы, таксама газетчык і крыху паэт, а ў Сямёна — Вілен, сын, якому патрэбны і казкі, і песні.

Пасля Сямён успомніць і напіша, як гасцяваў у Сакалоўцы Аляксей Васільевіч, з якім ён, як і брат, пасябраваў на ўсё жыццё. Дружба дала цікавыя назіранні. Ён быў сведкам сустрэч паэта з людзьмі, рэчкамі, вогнішчамі, сцежкамі, якія дарылі сюжэты і вобразы вядомых вершаў. Нарыс Сямёнава-малодшага даў Пысіну сюжэт паэмы «Кара». Калі Пысін працаваў над ёю, яны разам ездзілі да Гулькова, які дваццаць гадоў, здрадзіўшы Радзіме, хаваўся пад печчу, пакуль родны сын не выцягнуў яго адтуль.

Гэта было ў Краснаполлі. І там жа, у Краснаполлі, Пысін пасябраваў з франтавіком Віктарам Сяргеевічам Самадзеевым, сувязістам, тым самым, які *з напоўненай катушкі надточваў на хаду мерыдыян.*

Пярэдні край. Чужы. Неразгаданы.
Пярэдні край, як полюс мерзлаты.

Гэта —свята: ісці паэтавымі сцежкамі. Яны вядуць да дарагіх яго сэрцу вобразаў, да яго літаратурных герояў, крынічаць ягонымі вершамі і паэмамі.

Рыгор Бярозкін, уважліва чытаючы лірыку Пысіна, заўважыў яго духоўную і біяграфічную прыналежнасць да паэтычнага пакалення Арлова, Луконіна, Межырава, Нараўчатава, Гудзенкі. Але чаму муза Пысіна, якая заявіла пра сябе ў трыццаць восьмым, маўчала ўсю вайну, у той час як іншыя паэты, яго аднагодкі ці амаль аднагодкі, маўчаць не маглі? Сяргей Арлоў гарэў у танку і пісаў, нібы выкрасаў з агню і металу: «Его зарыли в шар земной», «Мы шли на заре, словно тени косые», «Когда под пулями лежишь…», Сяргей Нараўчатаў — «Дальнобойные письма», «Фронтовую ночь», «Пропавших без вести» і вось гэта: «Я с ними в рост водил солдат на пули, в штыки вставал

на встречные штыки…» Пісалі — нібы стралялі па ворагу. А Пысін? Нават пасля вайны вайна, мінулая, не адразу паклікала музу. Яна ўвайшла ў вершы адно трэцяй пасляваеннай кнігі — «Сонечная паводка», ды і то асцярожна, шэптам: *Ляглі сябры ва ўсім паходным, гарматы сціхлі. Цішыня. Што сніцца ім пад небам родным на досвітку, у пачатку дня?*

Няўжо вайна адразу не дала паэту ні тэм, ні вобразаў, ні дэталяў, ні ўражанняў?

Дала. Не меней, як іншым франтавікам. Нічым не абышла. І ўсё, што давялося перажыць, легла не на камень — на ніву ўражлівага сэрца, маладой памяці. Гэта будзе засведчана наступнай кнігай — «Мае мерыдыяны», якая нарэшце звяжа ў адзін вузел паэтычны мерыдыян паэта з яго ваеннымі мерыдыянамі, звяжа настолькі моцна, што яны, гэтыя мерыдыяны, якраз і выведуць Пысіна на яго паэтаву вышыню.

І ўсё ж: чаму толькі ў шасцідзясятыя гады («Мае мерыдыяны» выйшлі ў 1965 г.), а не раней? Няўжо сапраўды «Пысін чакаў, — як скажа Рыгор Бярозкін, — каб у яго пачуццях і думках выспеў і наліўся энергіяй найбольш пераканаўчы контрдовад»?..

Спакуслівая думка. Бо ў гэтым «чакаў» — мужная вытрымка перад рыўком, атакаю, боем. Зайздросная і для салдата, і для паэта. Але ж… вытрымка (падумаем і пра гэта) даецца вопытам, высокім прафесіяналізмам. Як там, на фронце, так і тут, у паэзіі. Даецца майстру.

А Пысін? Калі ён дасягнуў высокага паэтычнага майстэрства? У адзін час са сваімі аднагодкамі ў паэзіі? Ці пазней?

Прыгадаем адно невялічкае, але істотнае для нас прызнанне Сяргея Нараўчатава: «Мне было восемнадцать лет, я писал стихи и в первый раз в жизни шел на свидание со знаменитым поэтом». Ён ішоў на спатканне з Мікалаем Асеевым, які даў яму, Нараўчатаву, той выдатны ўрок сапраўднай паэзіі, што «перевернул душу» і зрабіў немагчымым пісаць так, як пісаў дагэтуль.

А Пысін? Хто са славутых падтрымаў яго ў тым узросце, на пачатку дарогі? Мабыць, ніхто. З глыбінкі, ад плуга, трапіўшы ў Мінск, яшчэ ці паспеўшы агледзецца ў ім пры сваёй сціпласці і замкнёнасці — гэтыя рысы характару да скону не пакідалі яго, — ён праз год зноў вяртаецца ў глыбінку, тую ж самую. Калі пачалася вайна — пайшоў на фронт. Салдатам, і толькі салдатам.

І за ўсю вайну ні разу не асмеліўся назвацца паэтам.

Прыйшла перамога. Пакаленне, да якога Пысіна далучае Бярозкін, было ўжо неаспрэчна паэтычным пакаленнем. А Пысін? Зноў пачынае, зноў — нясмела, як у трыццаць восьмым.

У яго быў свой паэтычны лёс. Яго творчы пошук у пасляваенныя гады, магчыма, лепш ведаць не крытыкам, а сябрам, з якімі ён у вандроўках па Магілёўшчыне дзяліў скварку, чарку, начлег пад шынялём на рэдакцыйных падшыўках, ці ў няўтульных раённых гасцініцах, ці ў копах сена, цяпло і дым вогнішчаў.

Не толькі як газетчык, але і як паэт — чалавек жа адзін? — ён жыў ва ўладзе дыялога з мірным жыццём, якое наладжвалася ў вёсках пасля вайны. І калі чакаў свайго зорнага часу, дык, напэўна, стыхійна — як быццам чакаў.

Яго паэзія цяжка прабівалася да сонца праз жорсткі, нібы франтавы, статус раённых і абласных газет, якія патрабавалі не лірыку, не вершы, а праўду падзей, кароткую і сухую на пачуццё, аператыўную. Факты і каментарыі. Па іх газета пасылала яго ледзь не штодзень у самыя глыбінныя вёскі, куткі і закуткі. Ён звыкся з гэтым жыццём, як салдат — з франтавым. Яны падружыліся — паэт і газета. Хоць дружба была не лёгкая. Да газетнага радка паэт адносіўся з той любоўю і дбайнасцю, з якой селянін — да кожнага засеянага ў полі радочка. Гэтага нельга забываць, трэба сэрцам адчуваць мясцовую нізавую газету, каб глыбей зразумець Пысіна-паэта.

Працаваць з ім побач было лёгка, цікава, але і цяжка. Лёгка, бо не ўпрагаў у свой воз іншых, цягнуў сам; цікава, бо ніводны яго газетны радок не быў адпіскаю, кожны — навукай суседугазетчыку і чытачу; цяжка, бо перажыванні, якія ён укладаў у напісанае, былі глыбокія, шчырыя, не заўсёды светлыя, з імі ён рабіўся і замкнёны, і нервовы, і лёгкі на слова бязлітаснае, жорсткае.

О, слова, слова лабавое,
Нястрымнае, яно ляціць,
Пасля душа мая баліць:
Сказаў не так,
Сказаў не тое…

Але ён рэдка шкадаваў, што недзе некаму засвяціў у лоб лабавым словам. Часцей — хадзіў з упартай вераю ў сваю правату. Як тут —

Між ім і мной — нямы абрыў,
Бо я не ўсё яшчэ забыў.

Такі быў характар. Ён яго не мяняў да скону. Не згладжваў вострыя вуглы сваёй натуры пад уплывам узросту ці абставін.

І ніякія вятры, ніякія дажджы, ніякія нягоды не маглі абабіць ці размыць гэтыя няўтульна вострыя вуглы. Пад імі якраз і жылі моцныя палярныя пачуцці: дабрата, чуласць, спагада, дзіўная ў сваёй шчырасці, і разам з тым непахісная рашучасць, варожасць да варожага, таксама дзіўная ў сваёй шчырасці.

Кружыць воран — папрашу суседа,
Каб з бярданкі ворана забіў.

Гэта — не толькі пра ворана. І неабавязкова яму для гэтакага суда было прасіць суседа.

Нядаўна я прачытаў у Сцяпана Гаўрусёва — з новага: «Іду, пакуль ісці я ў сілах, любому злу наперарэз…» І адчуў пысінскае сэрца, руку, дыханне, нават налёт дэкларацыі. У іх падобная паэтыка, і была дружба, якую можна назваць дружбай характараў: рашучых, акцэнтаваных на ваяўнічым сумленні. Верш, які не трансфармуе гэтакі характар у яго процілегласць ці хоць бы нейкую варыяцыю, не пазбягае налёту дэкларацыі. Але пры гэтакай арганічнасці і дэкларатыўнасць не ўспрымаецца як слабасць верша, наадварот — саграваe яго цеплынёй шчырасці, натуральнай публіцыстычнасці. І выклікае давер чытача.

У Пысіна гэта арганічнае адзінства характару і паэзіі не толькі ад прыроды. Яно выхавана і вайною, і працаю, і газетаю.

Ну а ўсё ж: чым яна была ў ягоным жыцці — газета? Знаходкаю ці стратаю? Як для паэта.

Перад маімі вачыма праходзяць блізкія людзі і лёсы. Першы з іх — Васіль Лук'янчык. Ён працаваў у раённых газетах у Крычаве, Чэрыкаве, пісаў вершы. Добрыя ці благія? Лепшыя, як пісалі многія маладыя. Быў талент. Імправізацыя, вобразнасць, арганічны гумар — для пачатку не мала. Пысін яго заўважыў, любіў, як заўважаў і любіў многія таленты Магілёўшчыны. Падказаў, каб вучыўся. Васіль паехаў у Мінск, паступаў ва ўніверсітэт. Не паступіў. Вярнуўся ў раёнку — вязе рэдакцыйны воз да гэтага часу. Вершы піша калі-нікалі — для газеты, мсціслаўскай. Горшыя, як пісаў. А калі б тады вырваўся з газеты — быў бы, відаць, яшчэ адзін паэт. Які? Цяжка сказаць. Але паэт. Быў агонь. Разгараўся. Не разгарэўся. Газета пагасіла.

Адных яна губіла, другія паспявалі з яе вырвацца, адчуўшы, як надышла мяжа: альбо — альбо. Вырываліся — узыходзілі на літаратурны ганак.

Трэція, загадзя ведаючы, якая небяспека ў газеце для мастацкага таленту, баяліся яе, як агню, з першых крокаў у літаратуры.

Ішлі працаваць у часопісы, калі ўдавалася, выдавецтвы, начнымі вартаўнікамі, бадзяжнічалі, а да газеты не падыходзілі блізка. І шмат трацілі. Асабліва празаікі. Трацілі адчуванне дня, яго круч, віроў, фарбаў, галасоў, руху, на якім раніца выплывала з учорашняга вечара, заўтрашні дзень прарастаў з дня сённяшняга. Кідаліся ва ўспаміны маленства, як у выратавальную лодку, ці ў вайну, якой не бачылі.

Яна, вайна, дарэчы, такую-сякую паслугу рабіла і робіць многім паэтам і празаікам, амаль усім, хто ад яе чакае паслуг. І не заўсёды яны ідуць літаратуры ў набытак.

Але ёсць літаратары, што газеты не баяцца. Талент, калі моцны, ды калі яшчэ да таленту — характар, перамагаюць газетчыну. Такая з'ява — Пысін. Газета была яму роднай хатаю. Сваркі бывалі, як у кожнай хаце, але іншай хаты не шукаў. Ён шукаў сустрэч з людзьмі. Газета давала гэтую магчымасць, і ён ёй не здраджваў. Ён наогул ненавідзеў здраду і здраднікаў. Як селянін, ён быў да скону верны полю, хлебнаму коласу, каню, птушцы, дрэву; як салдат — франтавой дружбе; як сын — крэўнасці з маці, бацькам, сястрою і братам, вёскаю, рэчкаю, родным краем, і ў гэтым, мабыць, радку — газеце. Ён яе не пакінуў нават калі ўзышоў на вяршыню Парнаса, калі адчуў, што паэзія яму даражэй за газету, што газета пачынае збіваць з дыхання мастацкі радок, душу.

Ён пакіне яе ўсяго на два гады — у пяцьдзесят шостым, — калі паедзе ў Маскву на Вышэйшыя літаратурныя курсы.

Тыя два гады — прыпынак на ростаньках. Для роздуму, успаміну, каб агледзецца, засяродзіцца, прыслухацца да самога сябе. Рэдакцыйная беганіна зменіцца на атмасферу спакойнай паэтычнай вучобы. Упершыню газета не будзе штодзень гнаць у каршэнь па радок у нумар. Можна будзе перагледзець сваю паэтычную кайстру. Ды ці толькі сваю?

А можа, тыя два гады былі ваеннымі зборамі ў мірны час? Можа, паэт, паспеўшы скінуць з сябе шынель, які ўжо сатлеў на плячах, разышоўся па швах, пераабуўшыся з салдацкіх ботаў у цывільныя чаравікі, дзецям на цацкі здаўшы паходныя кацялок і рыдлёўку, дзеду на высакаборскай прызбе — кісет з тытунём, недакураным у акопе, на курсах зноў адчуў сябе ва ўсім ваенным, паходным? І ці не тады, на тых курсах перападрыхтоўкі, ён адчуў, што сярод баявых ячэек Арлова, Луконіна, Наравўчатава, Гудзенкі ёсць яго баявая ячэйка, якую трэба заняць для бою, які не скончаны?

Абвастрыўся зрок на сябе, свой вопыт, свой час? Ці — боль і роздум? Успамін?

Рамонкі, мак і лебяда,
І трыста траў цвітуць вясною.
Тут незабытая бяда
Калышацца перада мною.

Па вершах, выстраеных у калону па гадах прызыву, не цяжка заўважыць, што якраз у гэты час, пасля курсаў, паэт пачне пісаць свае лепшыя вершы пра вайну, перажытае. Ён нарэшце адчуе сваю галоўную тэму. Гэтае адчуванне, дакладнае і яснае, магло прыйсці, аказваецца, толькі разам з паэтычным майстэрствам, на іншым, як газетнае, ворыве. Паэтычнае ворыва не церпіць спешкі. Тыя два гады пераключылі яго радок на іншыя хуткасці. Ён павядзе сваю баразну раўней, глыбей, у іншай, пад вышэйшым небам, прасторы роздуму, болю, з усведамленнем прызвання пісаць трагедыі лірычны эпілог.

І саму трагедыю — праз успамін, незагоеным сэрцам.

Нібыта развярэдзілася былая рана.

Як Васіль Быкаў — у прозе. Для такой паралелі, для параўнання ёсць падставы.

І можа, таму, адчуўшы гэтае прызванне, Пысін пакінуў думку аб пераездзе ў Мінск, застаўся на магілёўскім рубяжы вайны. Тут, на Дняпры, ён мацней, як дзе-небудзь, чуў кананаду і сорак першага, і кожнага дня вайны.

Некалі гэтымі думкамі я падзяліўся з ім.

Было лета. Мы стаялі перад узлётным полем магілёўскага аэрапорта. Я ляцеў у Мінск, ён — праводзіў мяне. Чакалі пасадкі на самалёт.

Што ён мне адказаў?

Ён курыў цыгарку, з-пад навісі ўпартага чуба глядзеў у той бок, дзе блішчалі, быццам плавіліся на гарачым сонцы, самалёты, якія стаялі на полі, і маўчаў.

Як было зразумець тое маўчанне? Згаджаўся ён са мною ці не згаджаўся? Мне падалося, што згаджаўся. Яго маўчанне звычайна было згодаю. Нязгоду ён не хаваў.

Да Магілёўшчыны Пысін быў прывязаны моцна, як селянін да свайго поля. Тым самым сялянскім вузлом. Тут усё, самая нязначная дробязь, нараджала ў ім нечаканыя асацыяцыі, думкі, абагульненні, вобразы. Ну дзе ж яшчэ, як не тут, ён мог падумаць і напісаць такое:

Вось мой край, мая радзіма!

І, можа, таму, перш за ўсё — таму, мне неверагодна цікава і зманліва хадзіць паэтавымі сцежкамі па гэтым краі.

Поезд Парыж — Масква бяжыць па Заходняй Германіі, мінае Кёльн і ўжо абяцае блізкую сустрэчу з домам.

Я стаю каля акна ў чысценькім дыпкупэ, і ёсць за што зачапіцца майму славянскаму воку за шыбкаю, на дбайна дагледжанай арыйскай зямлі. Але бачацца адны толькі бярозкі, якія ў самай левітанаўскай пары. Яны то выбягаюць на ўзмежкі чыста прыбраных палёў, то збягаюць па блізкіх горных адхонах, то шнурамі высыпаюць паўз чыгуначную наспу.

З надзей і дум бярозкі створаны…
З надзей і дум…

Вось трапіць на язык радок, прычэпіцца — няма збавення. Яшчэ, бывае, не ведаеш, адкуль ён, а ўжо — раз за разам, раз за разам…

Чуваць свіст ветру ў распатланых галовах бярозак, абсыпаных іскрыстай сівізною ранішняга сонца. Аж у вачах балюча ад мільгацення бялюткіх ствалоў.

З надзей і дум…

Пысіна голас. Толькі згадаў, як тут жа і яшчэ:

Пасля спрадвечных хвой растуць бярозы —
Трагедыі лірычны эпілог.

І ўжо гэты радок з языка не сыходзіць. Пакуль за болем у вачах не забаліць сэрца.

Мне ўспомніцца Люба Дорахава.

Ці, калі быць дакладным, спачатку — прымітыўная вулічная лічылка: «Ні Івана, ні Міколу не прагнаць ад Любкі колам», а ўжо з ёю, нашай даваеннай дзіцячай лічылкаю, — яна, дачка паравознага машыніста дзядзькі Дораха і школьнай прыбіральшчыцы цёткі Куліны. Русавалосая, аж залацістая, нібы абсыпаная восеньскім бярозавым лісцем, а вочы сінія ці не — шэрыя, з сінім адлівам, як тыя радзімкі, што на бярозавых ствалах у ранішняй смузе. Далёкім чэрвеньскім летам першага года вайны яна закончыла школу, а яшчэ праз год нямецкі аўтаматчык вывеў

яе з хаты на вуліцу і пад галашэнне цёткі Куліны ўпіхнуў пад заляпаны ржавымі плямамі маскіроўкі брызент грузавіка. Тады, вясною сорак другога, у нашым пасёлку была першая аблава на дзяўчат, якіх немцы вывозілі на работы ў Дойчлянд.

Тры гады рвала на сабе валасы цётка Куліна. А ў канцы сорак пятага, за тры дні да вяртання з вайны, ужо з японскай, дзядзькі Дораха, яна праваліласяпад лёд на Сажы, пакінуўшы на беразе санкі з галлём, якое везла з лесу. Людзі казалі, што Куліна баялася сустрэчы з мужам, дзядзькам Дорахам, што ёй было лягчэй кінуцца ў палонку, як паглядзець яму ў вочы. Ён вельмі любіў сваю Любку.

З гэтым сумным успамінам стаю каля акна і не магу адвесці вачэй ад бярозак. Усе як адна маладзенькія, яны збягаюцца да нашага поезда з палёў, абсад, горных адхонаў, бягуць з усіх бакоў, спяшаючыся, мітусяцца і гамоняць, гамоняць. Ім ахвота хоць на міг зазірнуць у вокны вагонаў, нам, савецкім людзям, у твары, у вочы — нешта сказаць. Можа, ім ахвота, каб мы іх узялі з сабою?

Ды гэта ж нашы дзяўчаты!.. Тыя, вывезеныя ў Дойчлянд і ў сорак другім, і ў сорак трэцім.

Вокны зашторвае чорная жалоба: поезд улятае ў доўгі падгорны тунель. Я адварочваюся ад акна, сядаю на мяккую лаўку і заплюшчваю вочы. Цяпер я нічога не жадаю бачыць. Нічога і нікога. Адну яе — не то дзяўчыну, не то бярозку.

«Ні Івана, ні Міколу…»

Яна — там, сярод тых бярозак. Я не магу заглушыць гэтае адчуванне ні радасцю ад блізкай сустрэчы з домам, ні даўжынёю дарогі, пралеглай паміж домам і тымі, пад Кёльнам, горнымі схіламі.

Яшчэ адзін… лірычны эпілог.

Лес і поле — міма, міма,
Лес і поле — чарнатроп.
Не бяжы, прырода, стоп,
Вось мой край, мая радзіма!

Так, адно тут, недзе пад Чэрыкавам, звярнуўшы з Варшаўкі направа, едучы з Магілёва, за Сажом пад Краснаполлем, ён мог сказаць такое. Бо —

Даль маленства тут прыбіта
Зоркай, што ўзышла са мной…

Шмат хто заўважае, як яго ўсё жыццё ці то пільнуе, ці то некуды вядзе, ці то ахоўвае ад злыбеды, нібы лёс, нейкі ўкаранёны ў сэрцы і памяці вобраз. Быў гэтакі вобраз і ў Пысіна: дарога, а над ёю — зорка. Ці поле, ці лес, а над імі — зорка.

Пахне глінай, тая ж горка,
Той жа вецер каля шчок.
Дзякую табе я, зорка,
Мой сярэбраны цвічок.

Яго дарога пад зоркаю — начная, таямнічая, вусцішная. Такія ж пераважна і поле, і лес. Але — і на золку, і на змярканні, калі той першай ці апошняй зоркі ўжо ці яшчэ няма, але яшчэ ці ўжо яе бачыш сэрцам. А дарога, поле, лес пад ёю могуць быць і вясновыя, і летнія, і восеньскія, і зімовыя.

Сваю зорку, як знак, ахоўніцу лёсу, ён, чараўнік, развешвае над дарогамі, палямі, лясамі, франтавымі акопамі, вёскамі. Адну павесіў над хвояй, яшчэ адну — над асінай, нават — над мурашыным курганком, яшчэ колькі — над хатнімі стрэхамі, вёскамі, як заклён ад злыбеды, зоркаю высвеціў на рацэ паром і дзяўчыну, нават калыску павесіў на зорку, нібы на цвік. Ён марыць, каб *незабудкі зорамі ўпляліся ў небасхіл,* заўважае, *як пад нябачнымі высямі зоры і яблыкі выспелі,* сам дзівіцца, *як высокі гул і стогн ракі калыша зоры і вякі.* Зорамі паэт абазначае свой край, развешвае над ім зорную карту-ахоўніцу. Не забывае на зорны каляндар, па якім землякі спрадвек расцілі хлеб і дзяцей. І хоць зоркі — ахоўніцы і вястункі ўсяго жывога, яны — не толькі знакі, сімвалы, але людзі, людскія душы, якія ўзышлі над зямлёю. Таму іх там — сузор'і. *Сузор'і сплываюць у глыб сінявы, ў сузор'яў свае каляіны. Апошні гвардзеец жывы, радавы…* Хто ён — гэты жывы, радавы? Для паэта тут загадкі няма: ён сам, ён бачыць сябе. Гэты матыў, гэтая думка зноў і зноў усплываюць у адным, другім, трэцім вершы з нетраў болю, памяці і кожны раз вядуць да аднае высновы: *Нясу за тых, з кім развітаўся…* Адзінае суцяшэнне. І абавязак.

Ён сказаў:

Застанемся мы ў сузор'ях…

І ў гэта паверыў. Ён не верыў ні ў бога, ні ў чорта, аднойчы прызнаўшыся: *Я ўвесь загорнуты ў кумач ад галавы да пят,* — але ў зоркі, у сузор'і верыў. Гэтая вера яму была патрэбная як неабходнасць гаварыць з усім светам, з продкамі і нашчадкамі, з мёртвымі і жывымі.

У зоркі і сузор'і ён верыў не як у сваё паэтычнае адкрыццё, а як у народную мудрасць.

Зоркамі і сузор'ямі яму бачыліся людзі, яблыкі, дрэвы, птушкі, вёскі. Усё жыццё яго асабліва прываблівала сузор'е трох вёсак на Магілёўшчыне: Высокага Барка, Мануйлаў і Гарадзецкай. Па іх ён сумаваў у горадзе. Высокі Барок — родная вёска паэта, суседнія Мануйлы — вёска маці, Хрысціны Рыгораўны, там яе сасна і яе магіла. Гарадзецкая — жончына, яе бабулі Аўдулі, з якой ён сябраваў, шчыраваў, ад якой узяў шмат песень, казак, мудрых слоў, пра якую думаў, калі пісаў «Баладу сагнутых бабуль». Жыццё ў бабы Аўдулі было доўгае, цяжкое. Яна рана аўдавела, але выгадавала чатырох дзяцей, на ўсю акругу славілася акушэркаю, хоць, здаецца, ніхто яе гэтаму не вучыў. Яе рукі заўсёды цягнуліся да дзіцяці, абмывалі, бласлаўлялі. Жанчыны ў акрузе на яе маліліся, а яна асаблівую павагу мела да мужчын. Усё жыццё вучыла Еўдакію Сямёнаўну, жонку паэта, як трэба шанаваць мужа. Еўдакія Сямёнаўна пра тое і цяпер успамінае: «Гэта ж твой, казала, хазяін, твая зорка, ты яго беражы».

Аўдуля ўмела гаварыць з кожнай травінкаю, лісцінкаю, сцяжынкаю і гэтаму вучыла Пысіна. Яна яму казала: «Ты не бяжы, спыніся перад травінаю ці дзеравінаю, глядзі на іх і чакай. І яны з табой загавораць. Ты ўмей чакаць».

Гэтую навуку Пысін засвоіў выдатна. Ён умеў маўчаць і чакаць. І пагаварыць з кожнай душою на мове бабы Аўдулі.

Ефрасіння Ігнатаўна Вяржбіцкая, стрыечная сястра паэта, што жыве ў Мануйлах, тая самая Проня, пра якую ён сказаў — *«...Стрыечная сардэчная сястра»,* успамінае:

— Бывала, гляджу з двара — бачу Аляксея, ідзе полем. А ён як прыязджаў у Краснаполле, дык ніякіх колаў не шукаў, адразу ішоў пехатою ў вёску. Ён любіў хадзіць пехатою. Ад Краснаполля кіламетраў дванаццаць, а ён — пайшоў і пайшоў. Адразу — у Высокі Барок, адтуль — да мяне, у Мануйлы. Полем ці шляхам. Бачу — ідзе. Стаю, чакаю. Ён раптам спыніцца пасярод поля ці шляху, нешта думае ці разглядае. А я чакаю. А то сядзім з ім у хаце позна, пакуль нагаворымся, усіх спамянём. Позна пакладземся спаць. Я прачнуся — яго ўжо няма. Выйду на двор, да сажалкі — бачу: стаіць дзе-небудзь у полі, на ўзлеску, як бусел. Я — у хлеў, у хату, усё параблю, печ вытаплю, а ён усё стаіць. Бачу — настаяўся, ідзе. Пабягу збяру на стол снеданне, а яго няма. На двор зноў выбегу — ён зноў, бачу, стаіць у полі, там, дзе стаяў. Гэтак і чакала свайго Пысіна. Тое снеданне астыне, а ён усё будзе стаяць перад нейкай дзеравінаю, баразною, стаўком, кагатом буракоў ці бульбы — на ўсё забудзе. Падыдзеш да яго:

«Аляксей!» А ён не чуе. Гэта ў яго было ад Аўдулі, гарадзецкай бабы. Яна яго вучыла сваім навукам. Верш пра мяне напісаў. Прыехаў — пасядзелі, пагаманілі. Ён і напісаў. Усё — як было. Там і мае гусі, і ставок. А сасну прыдумаў. Праўда, схадзілі мы на магілку яго маці, Хрысціны Рыгораўны. Але над яе магілай няма сасны. Далей сосны стаяць, а над магілай няма. А ён яе паставіў над магілай. Яму гэтак захацелася. Вось і баба Аўдуля: захоча — зорку на небе выдумае, убачыць. Ты яе не бачыш, а яна бачыць. Яшчэ і злуецца, што ты не бачыш. Так і мой Пысін: паставіў над магілай сасну. А я і не супраць. Паставіў — хай стаіць. Цяпер ужо і сама думаю, што яна там стаіць. Як быццам няма і як быццам ёсць. Не ведаю, каму і верыць: ці яму, Аляксею, ці сваім вачам.

Ефрасіння Ігнатаўна паказала мне свой двор, сваіх качак, гусей, той ставок, па-над якім ці даўно яны стаялі з Пысіным. Выйшлі на вуліцу, стары Кацярынінскі шлях, які на два бакі параскідаў хаты і старадаўнія бярозы — дупластыя, развесістыя.

— Мой Пысін любіў гэты шлях. Кажуць, пры царыцы Кацярыне яго клалі. Па ім некалі вазілі з Выдранкі ў Клімавічы спірт на перапрацоўку. Там завод. Аляксей любіў гэтыя бярозы. Ён з дрэваў больш за ўсіх любіў сасну і бярозу. Бывала, як сцямнее, устане з-за стала, выйдзе на шлях. Унізе бялютка ад бяроз, а ўверсе — ад зорак. Стаіць і глядзіць на неба, на зоркі. Доўга будзе стаяць… Як там, у полі.

Чытаць зоркі таксама вучыла баба Аўдуля. А можа, не яна адна. Маці пра зоркі спявала, у калыханку іх уплятала. Але баба Аўдуля пра іх ведала ўсё, што ведаў народ.

З зоркамі, з сузор'ямі, з іх картаю і календаром тут, у нашым краі, па Сажы, людзі звязвалі шмат чаго. Па зорках сеялі і жалі, чакалі канца вайны, бацькоў і сыноў. У сем'ях былі свае зоркі на сыноў, дачок, унукаў, якіх лёс адбіў ад дому, на гэтыя зоркі маліліся, з імі гаварылі, як з тымі ж сынамі, дочкамі, унукамі. Як цяпер, у наш час, з далёкім светам гавораць праз антэны, лакатары, так гаварылі праз зоркі. Баба Аўдуля мела зорку Пысіна. Праз яе гаварыла з Аляксеем. Выйдзе ўначы з хаты, стане пасярод двара — і памоліцца, і пагаворыць з чалавекам, далёкім у прасторы палёў і дарог, у зямной прасторы, але блізкім да сэрца.

Ці не голасам бабы Аўдулі і гэтае:

Не сплю і сузор'і чытаю.
А можа, па іх варажу,
А можа, кагосьці чакаю?..

Вядома, вобраз зоркі ў паэзіі даўні, традыцыйны. Ён існуе і ў вершах, якія не прывязаны ні да народных традыцый, ні да народнай мудрасці. Але ў Пысіна ўсе зоркі ззяюць на небасхіле надзвычай цэласнай і арганічнай паэтычнай канцэпцыяй, паэтычнай і жыццёвай, як у жыцці і паэтыцы бабы Аўдулі ці бабы Агапы. Пад зорным парасонам паэт сабраў усе свае, што ў сэрцы, вёскі, дарогі, лясы, сады, лугі, палі, рэчкі, найдаражэйшых людзей, братоў і пабрацімаў, мёртвых і жывых, продкаў і нашчадкаў, птушак, коней, аленяў, яшчарак, травы, кветкі. Гэта — яго край, які мае гісторыю, геаграфію, нават — трыянгуляцыю. Усё, што пад гэтым зорным парасонам, прывязана да шляху, які называецца Варшаўкаю, Варшаўскім шляхам.

Гэтак я разважаў нядаўна, сёлетняй вясною, у ціхую сакавіцкую ноч, унізе — у светла-зялёную, уверсе — светла-зорную, з вясновым хрумстам лядку пад нагамі, калі, выехаўшы з Краснапольшчыны, у Чэрыкаве пераехаў Сож і, апынуўшыся на Варшаўцы паміж Чэрыкавам і Слаўгарадам, спыніў машыну, выйшаў на шлях. Злева ад шляху, за сасновым борам, міргалі агеньчыкі той самай вёсачкі Журавель, што ў «Жураўлівым беразе», а справа ад шляху — агні Сакалоўкі, дзе Іван і Сямён Сямёнавы частавалі паэта юшкаю. І ўсе іншыя пысінскія вёскі ў адзін момант збегліся да Варшаўкі, усе, што пад яго зорным небам, усе дарогі, лясы, палі, лугі, рэчкі, сябры, жывыя і мёртвыя, звяры і птушкі, паэты, якіх ён любіў і сярод якіх ведаў сваё месца. Да шляху аказаліся прывязанымі вёскі і паэзія Куляшова, Твардоўскага, Ісакоўскага, Русецкага, Кірэенкі, Стральцова, Зарыцкага, Прыходзькі, Таўбіна, Ракава, Гаўрусёва. Сюды прасілася і проза, яе зоркі. Першы — Максім Гарэцкі. І гэта — нейкія дзве сотні вёрст па Варшаўцы, ад Доўска і на ўсход, за Сож, той Варшаўскі мерыдыян, да якога Пысін быў прывязаны ўсё жыццё. Яго шлях да Высокага Барка і з Высокага Барка ў свет, блізкі ці далёкі, ляжаў праз Варшаўку, па Варшаўцы вёў ці на ўсход, ці на захад, і гэтым шляхам, адкуль ні ехаў, з усходу ці захаду, ён дабіраўся да роднай вёскі. Доўск — першая на шляху ростань і першая сустрэча з Варшаўкаю, як ехаць з Магілёва на Баркі. Была першая, пакуль не праклалі новую дарогу з Магілёва на Чэрыкаў праз Чавусы. Праклалі новую — першай сустрэчай з Варшаўкаю стаў Чэрыкаў. Але шлях, што паміж Чэрыкавам і Доўскам, па-ранейшаму часта вадзіў і вазіў Пысіна, бо тут, на гэтым мерыдыяне, тыя мясціны, якія ён ніколі не адрываў ад сэрца.

Тут жылі яго сябры, бары, рэчкі.

Над Варшаўскім шляхам — і амаль уся зорная карта Пысіна, і адна ясная зорка, якую ён бачыў з хваляваннем. Тая зорка — пад Доўскам, над узлескам, дзе Аркадзь Куляшоў, яго любімы паэт, аднойчы расклаў начлежнае вогнішча і пры ім, «пад шум агню і пералётны дым, сярод аблюбаванае паляны», павёў «…свой дыялог, патрэбны ўсім», «…аб часе, аб Твардоўскім, што земляком тваім быў і маім».

Мы ўсе, іх землякі, сціпла, ледзь дыхаючы, каб дыханнем не пагасіць агню, стаім з таго часу над вогнішчам, грэемся ад яго, молімся на яго.

Наш сабор — зямля пад зорным купалам *з усім яе быццём і небыццём,* дзе вогнішча, пакінутае Куляшовым, Твардоўскім, Пысіным, яго круг і круг паэзіі. Там — лагічны рух, у тым крузе: адзін зямляк — Куляшоў — расклаў для бяседы вогнішча, другі зямляк — Пысін — прысвяціў яму — Куляшову — цудоўны верш, нібы прадоўжыў бяседнае вогнішча, падкінуўшы голлейка.

Калі б вясне, Дняпру і чайцы
Па-свойму мог сказаць я так:
Вы ўсё, вы ўсё перачытайце,
Што напісаў пра вас зямляк.
Ды ведаю — наіўна гэта,
І лес, і поле, і рака —
Яны сааўтары паэта
Ў стварэнні слова і радка.

Пысін добра ведаў гэтае сааўтарства. Думаючы пра Куляшова, ён выказаў тое, што спасціг уласнай працаю, сваім жыццём.

Аўтарства як сааўтарства. Для Пысіна гэта невыпадковая думка. Яна вытлумачвае адну з самых прывабных якасцей яго паэзіі — яе незвычайную ўтульнасць для ўсяго жывога: звяроў, птушак, мурашоў, матылёў, дрэў, людзей, зорак, рэчак. Яны не просяцца ў яго вершы. І ён, здаецца, іх не запрашае. Яны прыходзяць у верш, як у сваю хату, жывуць у ёй са сваім норавам, імем, тварам, не прынараўліваючыся да паэта, законаў гэтае хаты. Яны такія ж гаспадары ў вершах, як і ён.

Яны роўныя ў правах.

Яны — сааўтары.

Без іх паэт не ўяўляе ні свайго жыцця, ні сваіх вершаў.

І таму ў яго няма вершаў абстрактных, сузіральных, пазбаўленых жывога дыхання.

Роўнасць з усім, што насяляе свет, з кожнай жывой душою, была ў яго крыві.

Роўнасць і крэўнасць.

Без зорнай сувязі яму, безумоўна, цяжка было б весці штодзённы дыялог з усім гэтым светам.

Зорнай?.. А можа — касмічнай? Можа, паэт вынайшаў у касмічны век сваю касмічную сувязь — праз зоркі?

Калі гэта так, то не забудзем бабу Аўдулю. Ідэя вынаходства належыць усё ж ёй.

Цяпер, калі заканчваю свой роздум пра паэта, на яго дарогах, палетках, рэках, у яго лясах і вёсках — вясна.

Вясна і ў Парыжы.

Мне ўспамінаецца восеньскі дажджлівы вечар ці канец дня, час, калі людзі заканчваюць работу і высыпаюць на вуліцы. Успамінаецца пляц дэ ля Канкорд (пляц Згоды), дзе дарогу аўтамашынам і людзям запрудзіла доўгая калона дэманстрантаў. Яны неслі паходні і плакаты. На адных плакатах — перакрэсленыя бомбы, на другіх — галубы, ластаўкі, алені, зайцы, сланы, козы, каты, кветкі. Ішлі сябры прыроды, абаронцы ўсяго жывога. Яны патрабавалі міру, права на жыццё для сваіх малодшых сваякоў: галубоў, ластавак, аленяў…

Дайце жыць майму аленю
Пад галінкай дабраты.

Класічныя радкі, народжаныя не столькі паэтам, колькі часам, усепланетнай любоўю і трывогаю, падалося, кружаць у паветры, над людскімі галовамі, у азоранай паходнямі калоне паміж плакатаў з галубамі, ластаўкамі, аленямі.

Сёння мне пазванілі па тэлефоне і сказалі, што паэзія Пысіна выйшла на французскай мове ў Парыжы.

Я рады.

Цяпер я з большай надзеяй буду глядзець і ў той бок… І на Парыж.

*1983–1984*

## ЖАВАРОНАЧКАМ БЛАСЛАЎЛЁНАЕ

Бэз цвіў звычайны, ружовы, у зацемку фіялетавы і разам з тым незвычайны, якім яго бачыў і адчуваў мастак. А мастак, пішучы, бачыў, як кожная каляровая плямка куста драбнілася на мноства адценняў, як у колерах і адценнях кожная кветачка збірала і адбівала жывапісную палітру, можа, усяго наваколля — зямлі і неба. Мастак ведаў, што адным-двума колерамі, якія б цёплыя яны ні былі, душы не сагрэць, ды і ніводны асобна ад іншых не існаваў, а таму лавіў нават мімалётны, прамежкавы, і ўсе іх, заўважаныя, умуроўваў у палатніну, каб даць чалавеку непадманлівае цяпло — сагрэць душу.

Эцюд на выстаўцы быў самы маленькі, з мужчынскія прыгаршчы, але гэта былі цёплыя прыгаршчы, з якіх шчодра сыпаліся вясновым сонейкам гранёныя алмазы.

Грэўся душою ад эцюда і я.

Мне прыгадаўся леташні месяц май, што паклікаў на Друць, дзе ўсё было Бірулева: рэчка, узгорак поля, лугі, азёрцы па лугах і нават пленэр пейзажыстаў. На высокім беразе — хвойнічак, за хвойнічкам — пярэстыя каровы і мастакі. Каровы скублі мурог, а мастакі пісалі мурожныя пейзажы — з рэчкаю, дрэвамі, кустамі, кветкамі, каровамі. Адно на ўсіх сонейка і адзін на ўсіх Біруля рабілі ўсё дарэшты адным на ўсіх.

Па-над кручаю за эцюднікам стаяў адзін на ўсіх Антон. Калі я асцярожненька падышоў да яго, ён схапіў у абедзве рукі пэндзлі, ускінуў іх над вільготнай старой лысінай, і я ўмомант скаціўся з кручы да вады. Ён мне крычаў наўздагон:

— Вітольд Каятанавіч, калі пісаў, блізка нікога не падпускаў да сябе! Жонку, бывала, выкідваў з майстэрні, ляцела па лесвіцы на злом галавы!..

Там, на першым Бірулевым пленэры, Антон Бархаткоў быў у пашане як па-сапраўднаму блізкі, дый ці не апошні з жывых вучань Бялыніцкага-Бірулі. Паважаў старога і я. Не з аднае любові да Бірулі, але і як жывапісца, як добрага, урэшце, чалавека.

А пад гарою, куды я скаціўся, стаялі, адзін ад аднаго праз хмызнячок, два французы, Мішэль і Томас, пісалі Друць. Томас у белым халаце быў падобны да доктара, і мастыхін, якім сашкрабаў ілжывыя фарбачкі з палатна, збоку можна было прыняць за скальпель у руцэ хірурга. Засяродзіўшыся на кончыку мастыхіна-скальпеля, ён мяне не заўважаў, але Мішэль,

які пакуль што з большым натхненнем разглядаў, чым пісаў, навакольныя краявіды, яму, дэндзі з Марселя, новыя, і мяне, тутэйшага абарыгена, заўважыў — узняў, вітаючы, руку і заўхмыляўся ў шыкоўную, хутчэй мужыцка-беларускую, як парнаска-французскую, бараду. Я адказаў на яго ветлівасць такім самым сяброўскім жэстам ды падаўся далей, здалёк звярнуўшы ўвагу на тое, як адважна Саша Дулуб, гародзенец, біўся на шпагах з самім сатаною, не меней: рашучы крок уперад, крок назад — укол! Я дужа здзівіўся і расчараваўся, убачыўшы ў руцэ ў мушкецёра не шпагу — пэндзаль. І сатану разгледзеў — палатно на трох нагах эцюдніка.

А яшчэ праз колькі крокаў цвіў гэты самы бэз, і ў ім я пазнаў знаёмца. Я знайшоў гэты куст дзевяць гадоў назад, калі хадзіў і ездзіў па Бірулевых сцежках-дарожках і ніякіх пленэраў тут яшчэ не было, ён тады падказаў мне месца, дзе стаяў дом, што нарадзіў, выкалыхаў і блаславіў на жыццё ў срабрыста-перламутравым святле нашага слыннага жывапісца. Той парою, дзевяць гадоў назад, тут адцвітала лета, квецень бэзавая паспела асыпацца, але мяне цікавілі карані Бірулевы, карані бэзавага куста, і тое, што бэз, каля якога я спыніўся, меў самыя непасрэдныя адносіны да Бірулі, пацвердзіў пастух з Ціхціна — суседняй вёскі, які пакінуў кароў на ўзгорку і сядзеў пад кустом у цянёчку, задумліва пазіраючы на рэчку.

Цяпер за кустом я заўважыў іншы твар, і ён мне ўсміхаўся. Клікаў да сябе? Я падышоў.

Мастак пісаў гэты самы куст. Бэз палаў, як на мае вочы і розум, ружовым полымем, але мастак бачыў яго ў срэбры, і гэтакі, у срэбры, бэз быў падобны на самога, пад срабрыстай шавялюраю, мастака.

Я спытаў:

— Вы пішаце аўтапартрэт?

Мастак мяне не зразумеў. Яго позірк пахаладнеў. А я ж не хацеў засмучаць. Я пасляшаўся сказаць больш цёпла і ясна:

— У вас на палатнінцы светла, як і на твары.

Ён глянуў на мяне дабрэй, зноў усміхнуўшыся, а я на яго — з палёгкаю. У той момант я адчуў яго душу. Яна была бэзава-светлая і добрая, хоць дабрыня не падалася велічынёй пастаяннай. Я ўлавіў яе залежнасць ад надвор’я, якое вонкі і ўнутры. Гэтакая дабрыня магла ўзарвацца, магла і лаву выкінуць, што спальвае, змятае.

На той раз штыль запанаваў і буры не абяцаў.

Мы сядзелі на ўзгорачку. Ён гаманіў і пісаў. Я — гаманіў і назіраў, якія фарбачкі ён бярэ ад жывога бэзу, кладзе ў эцюд, у свой бэз, якія не заўважае, прадумана, вядома, як адну фарбачку прыточвае да другой, адну астудзіць, другую падагрэе і кожную ўмуруе дробнымі мазочкамі — тчэ, нібы з ніцей дыван. Мне цікава было назіраць, як эцюд, пакуль мы сядзелі побач, набываў і мяняў аблічча, настрой, тое, што называецца і тонам, і каларытам, і гармоніяй. Сама прастора вакол кусточка то сцінalася-звужалася, то пашыралася-паглыблялася. Мастак і эцюд адчувалі ўладу неба, якое плыло, мянялася, патрабуючы ўвесь час лавіць усё новыя зямныя колеры.

Але я захапіўся падарожжам і не сказаў, хто спадарожнік.

Там, на Друці, я называў яго Анатолем Васільевічам, цяпер — Анатолем. Маладзейшыя мастакі называлі яго настаўнікам, прафесарам. Той-сёй — з заходнееўрапейскім шармам: маэстра. А Грыша Таболіч, добры магілёўскі жывапісец, асцярожна, нібы да агню, дакрануўся пальцамі да фактуры нацюрморта і з захапленнем вымавіў: «Класіка…»

І гэта ўсё да пытання: хто ён?

Колькі дзён мы жылі ў Мсціславе, і там у маляўнічых, з выразным подыхам далёкіх вякоў абшарах мне выдаўся дзень адчыненых дзвярэй у жывапіс не з параднага ўвахода, калі з Бараноўскім, Бархатковым і Алейнікам, мастакамі ў тыя дні найбольш мне блізкімі, я блукаў глыбознымі равамі ў пошуках натуры, хоць каларытная натура была ўсюды, на кожным кроку, і калі за горадам мы выбраліся з рова на ўскраек поля, адкуль адкрываўся далягляд на Замчышча і Кармеліцкі касцёл, пад імі — у прорву яшчэ аднаго рова. Адтуль усе трое пачалі пісаць пейзаж з касцёлам і гарою, а я адчуў, што гэта і мая знаходка: убачыць, што выпішацца ў кожнага, ці шмат у іх эцюдах будзе падабенства?

І што пасля ўбачыў?

Я ўспомніў, разглядаючы тыя эцюды, чытача: «Як гэта вы кажаце, быццам пісьменнік, што б ні пісаў, піша сябе, сваё? А дрэва апісваеце — таксама сябе? А сабаку, ваўка — сябе ў іх бачыце? А чалавека-звера? І ў ім — вы?..» Успомніўшы той дыялог, падумаў: «Тут, перад трыма эцюдамі, ці адбылася б спрэчка?» Фарбы пераконвалі мацней за словы: так, мастак піша сваё, натура ж дае настрой і форму, матэрыяльнае ўвасабленне свайго духу, фізічную магчымасць сваё канкрэтнае знайсці ў агульным. Ледзь не сказаў: «У чужым». Чужога для мастака не бывае. І самае далёкае, хоць пазакосмас, — сваё.

Таму і непаўторны ён.
Таму ён і мастак.

Доўгай лесвіцай я падымаўся з паверха на паверх, вышэй ды вышэй. Ні акенца, ні электрычнай лямпачкі. Цемень давала адчуванне, што лесвіца бясконцая — на неба. Але загаманілі званочкі-бомы, шчоўкнуў замок — у вочы лінула святло. Я пераступіў парог. З правага боку былі высокія, пад столь, вокны, за імі — сінеча і фіялетавыя плямы позняга, на мяжы з ноччу, вечара, краплёныя вулічнымі ліхтарамі ды агеньчыкамі ў вокнах суседніх і блізкіх дамоў, а люстра пад столлю ў пакой давала таксама не шмат святла. Святло праменіла ад сцен, з карцін і эцюдаў, якія казалі не толькі тое, што я ў майстэрні мастака, але і тое, што гаспадар майстэрні — святлапаклоннік, нібы прарок Ілля, што разганяе шэрань і дае ўладу святлу.

Я апусціўся ў глыбокае крэсла, як уваліўся ў падушкі, і адразу адчуў, што месца, дзе сядзеў, не выпадковае, што крэсла і не можа стаяць абы-дзе, на іншым месцы — адно тут: на мяне са сцен глядзелі ўсе пейзажы, я пачуў сябе іх вязнем — яны мяне высвечвалі. Зрабілася горача. Я ўстаў і падышоў да акна.

Агні ў небе і пад небам разгараліся.

Ён сказаў:

— Там мая вёска Маляўшчына.

— Там, як і тут, горад, агні вялікага горада, — адказаў я, не зусім яго зразумеўшы.

— За дамамі Батанічны сад, а за садам, дзе ён канчаецца, была Маляўшчына.

— Там Сляпянскі ручай.

— А ручай цёк праз вёску, пад вокнамі дзедавай і бабінай хаты.

Тады мне ўспомнілася свая летняя раніца на беразе Сляпянскага ручая. Дваццаць гадоў назад я там таксама жыў, хоць вёскі тады ўжо не было, стаяў, як і стаіць, дзевяціпавярховы дом нумар сямнаццаць па завулку Баграціёна, у якім была і мая кватэра. Аднойчы на світанку я выйшаў, ачмурэлы ад начнога, за рукапісам, натхнення да ручая. Было ціха, як у вёсцы, у цыганскай слабадзе крычалі, адзін з адным спаборнічалі ў спевах пеўні, мне на здзіўленне, зусім не парушаючы, адно падкрэсліваючы ды закалыхваючы цішыню. Ручай і берагі накрываў сівенькі туманок, але за рогам Батанічнага саду ўзыходзіла сонейка, па-над садам і па-над лясочкам, з якога выбягаў ручай, і першы яго прамень перакінуўся цераз дрэвы, прашыў на ручаі туман,

падкраўся пад яго, там і там адарваў ад вады паверхню ручая, і яна мясцінкамі, як лужынкамі, пазалацілася, змыла з сябе тумановае срэбра на берагі. Мне, памятаю, у пераліваx срэбра ды золата раніцы ўбачылася змаганне за месца пад небам, але тады ж я пераканаўся ў адваротным: то была гульня, нават і палюбоўная, — золата шылася ў срэбра, прамянькамі расчэсвала яго кудзелю, і срэбра цяплела, весялей зіхацела і адплывала з ручаём у ранішнім багацці адценняў і настрояў. Пацяплела і мне. Я разуўся, сеў на беразе і ногі апусціў у ваду. Вада, хоць і з начы, была цёплая.

Дык гэта там стаялі хаты Маляўшчыны? Таксама ў срэбры, у золаце? Срэбра і золата ручая цякло па вуліцах, па дварах, па хатах?

У срэбры і золаце жылі людзі?

Я падумаў, што жыццё чалавек бачыць сытым ці галодным, у абновах ці лахманах, у песнях-скоках ці ў слязах, але ці шмат хто бачыць яго ў колерах? Пра сваю думку і сказаў. А ён, Анатоль, успомніў бабулю Алёну, бялюткія ў хаце карункі, якія яна вязала, якімі славілася не толькі ў Маляўшчыне, але і ў далёкім свеце, за якія ў Бруселі на Еўрапейскай выстаўцы атрымала Дыплом і да Дыплома — швейную машыну славутай фірмы Зінгер. Машыну Анатоль памятаў. Яна стаяла ў хаце на камодзе, і бабуля кожную раніцу здзьмухвала з яе пыл. Разглядаючы па сценах светлыя пейзажы, я раптам адчуў сябе як у гасцях у бабы Алёны, нібы вакол мяне былі, мяне выбельвалі-высвечвалі яе карункі, і срэбная нітка ад кручка старой вяла кудысьці далей. Успомніўся і наш маленькі дыялог, пачаты маім здзіўленнем:

— А што гэта ў цябе за пэндзлік?

Ён сам тады ўсміхнуўся:

— Палачка, завостраная, як мне трэба, зрабіў, каб на яе фарбачку наматваць, на палатніну класці. Вось і яшчэ адна, таўсцейшая. І яшчэ…

А гэта ўсё былі яго пэндзлікі. Між іх і металёвы, нібы спіца з веласіпеднага кола, з гуляю на кончыку, як я цяпер падумаў — кручок бабы Алёны. Чаму ж не пэндзлямі, як усе, а гэтымі ражончыкамі мастак браў з палітры фарбу, клаў на палатно? І дзе алей? Навошта вынаходзіць, калі адказ на пытанні спрадвечны, універсальны: фарба, алей, пэндзаль? Ці, можа, не для ўсіх універсальны?

Была старая, як свет, загадка, пра якую мы з Анатолем неаднойчы разважалі паміж сабою: змаганне мастака з часам. Кожны твор нараджаўся ў пэўным часе, у ім жыў, свой час яго

шанаваў, але накатваліся новыя часы, і яны, новыя, не заўсёды былі да яго літасцівыя.

«Карціны вянуць, як і кветкі, — казаў Ван-Гог. — Гэта адбываецца нават з Дэлакруа, з яго “Даніілам” і “Адаліскамі”».

Я ўспомніў, як стаяў у Луўры перад Леанарда да Вінчы, яго «Джакондай», і яна, сусветны эталон прыгажосці, глядзела на мяне праз шкло скрынкі, у якую была схаваная ад паветра і людскога дыхання, і як блішчэла шкло, адбіваючы святло ў вочы, сляпіла, не даючы ўгледзецца ў жаночы твар, як утрываліся ў штучных водблісках колеры, як калыхаўся натоўп людзей перад карцінай, як у натоўпе кожны шукаў месца, з якога можна было б разгледзець твар. «А ці шкло і скрынка, — тады падумалася, — адзіны сродак уратаваць шэдэўр ад разбурэння? Ці гэта ўжо апошні сродак? Калі апошні, то дзе іншыя, не апошнія? Хто іх ведае? Стары багамаз Арэфій?»

Быў і Арэфій у апавяданні Івана Шмялёва «Неупиваемая чаша». Там быў яшчэ Іллюшка, прыгонны жывапісны геній. І была ў Арэфія вялікая таямніца — сакрэт кінавары, над якою час не меў сілы, каб разбурыць. Той сакрэт Арэфій толькі перад смерцю адкрыў Іллі: «Яечка вазьмі самае свежае, цёпленькае, з-пад курачкі адразу, з фарбаю яго сатры, ды глядзі, каб дзянёк выдаўся сухі, неба — чыстае, як вока Гасподняе, ні аблачынкі, вады — ні кропелькі, і раток завяжы, каб на фарбачку не дыхнуць, ды шапчы, галубочак, малітвачку: “Кра-а-суйся, лікуй ды і ра-а-дуйся, Іерусаліме!”»

Я і гэта нагадаў Анатолю Васільевічу. А ён і не абверг Арэфія, яго малітву. Сказаў, што сакрэт трываласці фарбаў жывапісцы шукаюць, колькі жывуць. І сам яшчэ раз прачыніўся: кропля алею, лаку, растваральніку больш злосная, як кропля з воблака, здрадлівая, бо жывапісны пласт яна стварае, разам з фарбаю, а потым і разбурае.

Як кропля вады, алею — у літаратуры?

Ну, вядома, усе аналогіі кульгаюць, паміж жывапісам і літаратураю — таксама. А ўсё ж… Ці мала кропля вады, алею змыла ў нябыт твораў літаратурных? Кропля да кроплі — рэкі літаратурнага поту плылі ў акіян нябыту.

Іржа таксама — адна на ўсіх?..

Вось і таму яшчэ я з прыемнасцю падымаюся з паверха на паверх, нават упоцемкі, на самым высокім, у небе, паверсе спыняюся перад дзвярыма, намацваю каля іх вяровачку, смаргаю за яе, прыслухоўваюся і чую, як весела гамоняць, мяне вітаючы, званочкі-бомы. На парозе адчыненых дзвярэй вачыма, тварам,

усёй сваёй істотай вітаю паводку сустрэчнага святла, жывога срэбра-золата, што ліе з майстэрні, з палотнаў, якія па сценах і на мальбертах.

— Красуйся, лікуй і радуйся, Іерусаліме!

А срэбная нітачка з клубочка бабы Алёны вілася далей, і згубіць яе нам з Анатолем не хацелася.

Ён мне сказаў аднойчы, што цяпер яго хвалюе форма. Шукае новыя зямныя формы.

Тады, пад Асіповічамі, мы выйшлі з аўтобуса, і ён, нешта заўважыўшы за прыдарожнай канавай на ўзгорку, рушыў праз яе. Там, далей, былі і ямы, і раўкі, і курганы. І я падняўся на ўзгорак. Ён узіраўся ўдалеч з-пад рукі.

— Ёсць задума, — прызнаўся. — Пейзажык падказаў. Як ехалі, ён за акном аўтобуса праплыў і знік, а ў вачах застаўся. І думку пабудзіў. Там былі формы. Нібы хлябы, палі пад небам. Вельмі нашы, беларускія.

Ці не пра тое самае — аднойчы ў аўтобусе:

— Якія далечы!..

Мы сядзелі побач, ён усю дарогу глядзеў у акно, а я думаў, прымружыўшы вочы, сваё. Калі ж сказаў пра далечы, з захапленнем, я таксама пачаў глядзець у акно і ўжо не мог вачэй адвесці. На паўдарозе паміж Горкамі і Мсціславам палеткі былі раўнюткія, адхонныя, прыўзнятыя, як на дражджах, да неба, за далячынню — далячынь, за наступнай — наступная, зямля ляжала — усё роўна як сам мастак яе расхінуў, кожны палетак выразны, у кантрасце з суседнімі, кантрасты ў колерах, у лініях, у настроях былі мяккія, лагодныя, і тое хараство — эпас і лірыка — здавалася бясконцым. Быў далягляд — у саменькае неба ўрэзаны абрысам, пад пукатымі воблакамі, якія аж на палетак садзіліся.

Пластыка зямных форм, выразныя і велічныя контуры захаплялі. Недзе ён выйшаў з аўтобуса, кінуў позірк на пейзаж і ўсклікнуў, развёўшы рукі:

— Вось… зямля! — і засмяяўся, не ўтрымаўшы ў грудзях раптоўнага захаплення. А я сказаў:

— Ну, абдымі?

Ён адказаў:

— О, каб мог абняць!..

Гэта выбухнула не як фраза, а як пачуццё, што вырвалася з грудзей і засталося. Фраза вырвалася — пачуццё засталося.

Я зноў вяртаюся на замчышча ў Мсціслаў, да трох эцюдаў, бо там, раней, не ўсё сказаў. Калі маім першым уражаннем ад іх быў колер, у кожнага з трох — свой, свая палітра, то як жа не сказаць, што і малюнак у кожнага адбыўся свой, у кожнага — свае зямныя формы, у якіх змяшчаўся колер, хоць і зямля была адна. Калі мы з Бархатковым затрымаліся перад закончаным эцюдам Бараноўскага, стары заўважыў:

— Манументальны жывапіс.

Ці не таму падумаў гэтак, што формы, там і там зрушаныя, пастаўленыя па-свойму, больш экспрэсіўна, выразна, буйна, нагадалі прапіску аўтара да кафедры манументальнага жывапісу ў Акадэміі мастацтваў? Штуршок такі, здалося, быў. Але зрух натуральных формаў, для мастака непахісных, быў не фармальны, нормаю прадуманай, адчутай у душы, і адбываўся падобна тэктанічным зрухам зямной кары — ад унутранай энергіі і звыштэмпературы аўтарскага пачуцця. Было відаць, што мастак прыродзе давярае, моліцца на яе, можа сказаць сваім вучням, як казаў мастацкі геній Барбізона: «Не вельмі думайце на пленэры пра Каро, лепшы дарадца — прырода», але і тое ведае, што сказаў іншы кумір — Ван-Гог: «Пачынаеш з таго, што робіш, як у прыродзе, і ўсё ідзе не так, усё крыва-коса, і вось канчаеш тым, што спакойна творыш, паверыўшы ў сваю палітру, а прырода, зусім не абураная, слухмяна крочыць за табою», і яшчэ тое, што сказаў Гаген: «Няма мастацтва там, дзе няма пераўтварэння». Мастак наш — рэаліст? Ну, вядома. Але ж не схімнік рэалізму. Імпрэсіянізм — не той, што «неа» ці «пост», што з нейкага яшчэ, не з Вялікага, бульвара, не той, што год дваццаць назад успыхнуў кволай свечкай і пагас у Еўропе — хіба не рэалізм? Сам ідэолаг перасоўнікаў Крамской хіба гэта не прызнаў? «Там ёсць штосьці такое, што трэба наматаць на вус найсур'ёзным чынам. Няўлоўная рухавасць натуры… Бачыш і адчуваеш, як усё пераліваецца і рухаецца, і жыве. То паветра цябе ахопіць цеплынёю, то вецер шугане пад вопратку…» То і быў новы рэалізм, вольны ад схем і схім. Новы на пачатку стагоддзя, ён і напрыканцы стагоддзя не пастарэў. І Бараноўскі гэта ў пейзажы адчувае, можа, вастрэй, як іншыя.

Жыве і думка, ледзь не мічурынская, што прырода сама па сабе не стварае гармоніі, што яе стварае чалавек — мастак. Але ці не хопіць з нас рэвалюцыянераў і рэвалюцый? Каб быць нармальным чалавекам і ўсё нармальна адчуваць, здаецца, не шмат трэба. Ну хоць бы ехаць, як едзем мы з Анатолем, па родненькіх абшарах, глядзець у акно аўтобуса, бачыць, як за акном мяняюц-

ца пейзажы: святло, тон, колер, лініі, формы, далягляды, узаемадачыненні ў рэльефе, колерах — бясконцасць разнастайнасці, і ўсюды, ва ўсім, у кожны міг новая і новая гармонія адзінства непаўторнасцей. Бывае, вядома, што мастак шукае большай і яшчэ большай выразнасці, але ж хіба гэта — не дыялектыка самой прыроды? Звычайны пейзажык часам так павернецца да цябе бачком ці тварыкам, што ахнеш ад нечаканасці, убачыўшы раптам — стэп, а раптам — горы, а то і самы экзатычны закутак зямнога шара. Прырода заўсёды кажа: «Ты, чалавеча, не сядзі на адным месцы, ты рухайся, як я, бяры мяне рухомую, жывую, але не скамянелую ў кадры вока, я цёплая і добрая, падатлівая, нібы гліна, ляпі з мяне любую форму, адно не нішчы і не хлусі, любая, якую хочаш, я буду, твая зямля, у тваіх руках».

Гэтак мастак і робіць. Бо ведае сваю зямлю. Чуе, як сябе, яе душу і цела.

Мы едзем і глядзім. Ён кажа:

— Фарба — гэта цеста.

Ён цеста раскладае на палітры, размешвае і расцірае, пакуль адчуе, што цёплае, тугое, падышло, як тое, што садзяць у печ. А падышло — з палітры і на палатнінку.

Фарба — колер? Але і форма. У фарбе, у мазку, сваім кароным — важкім, пастозным, акругленым і выграненым, як драбок алмазны, — мастак чуе жывую пластычную форму.

Форма — не фармальнасць. Ён лепіць форму, адчуваючы яе падобна скульптару. Ён кажа:

— Цудоўны стэп. Цуд — горы. І мора, акіян — цуд прыроды. Але як жыць, калі ўсё стэп ды стэп? Ці адны горы? Ці вада навокал, з усіх бакоў адна вада? Звар’яцець можна. А ў нас не звар’яцееш. У нас — усё, што трэба для душы: роўнядзь, лугі ці поле, лясы, пагоркі, курганы накрылі продкаў, ёсць горы, хоць і лагойскія, маленькія Карпаты, азёры — тыя ж моры, і Антарктыду вясною ўбачыш — лёд на лёдзе, крыгаход. Тут — уся краса зямнога шара.

Такой ён бачыць сваю зямлю. Такую любіць, піша. Спачатку, каб напісаць, шукае адпаведнасць спасцігнутага вокам і душою, арганічнага супадзення рытмаў дыхання зямнога цела і свайго сэрца, энергіі натуры і сваёй душы.

А ці бывае, што не знаходзіць?..

Па горадзе вісяць афішы: «Выстава жывапісу Анатоля Бараноўскага». Спяшаюся туды і я.

Тое святло, што грэе мне душу і вочы на карціне, я заўсёды адчуваю як другаснае, але мне неабходнае, каб адшукаць галоўнае — першасвятло ў душы ў мастака, бо ведаю, што карціна не нараджаецца і не існуе сама па сабе, што яна — адбітак яго самога. Тут я магу і да канца быць шчыры: мяне, як пісьменніка, цікавіць найперш і найбольш не карціна, а мастак, усё, што ёсць у ім самім, усё ў ім, з чаго карціна нараджаецца, усё, што мне паведаць можа, як ён шукае сваю карціну і як яе знаходзіць. Я не мастацтвазнавец, каб абмежаваць сябе ў прасторы, якую Пятроў-Водкін называў прастораю Эўкліда, я ўглядаюся ў бязмежнасць прасторы мастака.

Выстава ўражвала гармоніяй мастацтва і аўтара. Праменіла адно святло, у пейзажах і ў твары, праз твар праменіла энергія і чысціня душы. Але калі, адкрываючы выставу, рэктар Акадэміі мастацтваў Васіль Шаранговіч сказаў, што пейзажы Бараноўскага — сама Беларусь, я насцярожыўся. Так, жывапіс быў каларытны, мастак высвечваў і ачышчаў прастору сваіх палотнаў срабрыста-энергічным полымем душы і сэрца, якія любілі родны край, кожны мазочак высвечваў багаццем адценняў, сцвярджаючы рашучую нязгоду з шэранню і брудам, нават і здольнымі, як тыя брудныя пяты аблуднага сына Рэмбранта, стаць высокамастацкім вобразам, але хіба гэтакая светлая ды чыстая была цяпер Бацькаўшчына? На сваім цэзіева-стронцыевым крычаўска-чэрыкаўскім скрыжаванні, ды і навокал, бачыў я, што яна жыве ўсё роўна як на аўкцыёне, чакаючы ў страху апошняга ўдару малатка брокера. Але мой позірк саслізнуў з твару прамоўцы, спыніўся на светлым аблічы мастака. І тут, умомант, святло вачэй і твару разлілося паводкаю Сляпянскага ручая. Пачуўся голас. Чый? Хто казаў — пра Маляўшчыну, пра бабу Алёну, пра дзеда Петрака? Ну, вядома хто — сам Анатоль. Як дзед жыў з дабрыні і сілы і як аднойчы не спадабаўся маладым хлопцам — вырашылі яны яго пабіць. Акружылі, ведаючы, што на сілу старога трэба сіла талакі, а ён згроб рукою ў аднаго, другога, трэцяга шапкі з галоў, прыўзняў, як цацку, вугал хаты, каля якой стаяў, шапкі падсунуў пад бервяно і апусціў хату на шапкі, кажучы: «Вазьміце свае шапкі, надзеньце на галовы, каб не памёрзлі, а тады і дзеда біць будзеце». Біткі разбегліся без шапак. А калі ўжо дзед Пятрок памёр, унук Анатоль быў малады мастак, сябры прыходзілі, збіраліся ў дзедавай хаце, дзе Анатоль у той час жыў. Аднойчы разгуляліся і кажуць: «Месца мала, трэба выкінуць стары дзедаў ложак з хаты». Не спадабалася гамонка Анатолю, бо дзеда дужа любіў і ўсё, што было ягонае,

бярог. Ускінуў руку быццам на сяброў-свавольнікаў, але апусціў не ім на галовы, а на жалезную спінку ложка — брызнулі ва ўсе бакі жалезныя пранты, і разваліўся ложак. Госці — з хаты, а ён, Анатоль, пачаў збіраць ложак з кавалкаў. Гэта расказваючы, прызнаўся, што сілу сваю дзед Пятрок яму даў, але жыць з гэтай сілаю цяжка, бо людзі розныя трапляюцца, на злыдня і руку, бывае, варта ўзняць, а як узнімеш, калі ёсць рызыка: заб'еш — калі апусціш. Ёсць сіла — трэба дабрыня. І дабрыня павінна быць сіле роўная, каб яе часам стрымаць.

Тады, на адкрыцці выставы, я падумаў: «Раўнавага сіле творчай — таксама дабрыня? Ці, можа, тут яны заўсёды ў згодзе?»

Гэта ведае творца. І мы яму павінны верыць.

Адно было відаць адразу: сіла і дабрыня Анатоля караніліся ў прыродзе. Яго пошукі гармоніі вялі туды. Там ён бачыў дзверы, што, як сказаў Ван-Гог, адчыненыя ў бясконцасць.

Я мастаку паверыў і скіраваў у тыя дзверы, ім адчыненыя. І спыніўся перад «Гнёздамі».

На палатне — вёска, восень, хаты, платы, дровы ў сціртах не на адну гаспадарку і не на адну зіму, два сабачкі на пярэднім плане, чорны і белы, і гаспадар на дрывяной калодзе паміж сціртаў сядзіць, сашчапіўшы рукі ля падбародка ў роспачы: як жыць далей пад апусцелаю над галавой, на дрэве, буслянкаю? Я самотнага чалавека пазнаў, адчуў яго бяду, бо якраз прыехаў з-пад Чэрыкава, з радыяцыйнай зоны, ад Петрака Ерафеева, былога егера, майго старога сябра, і яго швагра Лёніка з Драгунскіх Хутароў, нагледзеўшыся на Лёнікава жыццё ў зоне. Адзін, апошні ў вёсцы гаспадар, мужчына ў сіле, на двары — конь, карова, кабаны, авечкі, гусі, куры, за хатай — два гектары бульбы, тры — жыта, тут — лес, тут — луг, раскашуй, селянін, але душа — у чорнай пельцы. Гармонік у руках спявае — каму іграць? Дроў нарыхтаваў як на ўсю вёску — каму патрэбныя? Бяда адна-агульная была ў «Гнёздах» і ў Лёніка. Мастак ёю пакутаваў, як і пісьменнік. З яе шукалі выйсця. Мастак — колерам, пісьменнік — словам. Але дзе, у чым ратунак? Яго я бачыў у Петраку і Лёніку, у іх пошуках волі — зону звіла няволя. А мастак?

Я стаяў перад карцінаю. Чорная бяда — у светлай каляровай гаме? Ці шмат тут логікі?

Ад «Гнёздаў» адышоў з загадкай — стрэмкай у сэрцы. Глядзеў пейзажы чыстыя ў той самай светлай гаме: святло і колер гучалі музыкай жыцця, і ўсё было на месцы. А ў «Гнёздах»? Стрэмка сядзела — вярнуўся. Не думка — пачуццё давала выйсце: маленькай чорнай плямкай сабачага футра, адной той

плямкай у прасторы восеньскага срэбра-золата, здалёк — нібы адным мазком, мастак усё сказаў, даў адчуванне, моцнае, як смерць. Адзін мазок быў раўнавагаю прасторы срэбра-золата?

Вядома, не адзін. Бядою рэфлексавала і святло.

Мне кажуць: «Табе належыць твор — не творца, твор чытай — не лезь у душу творцы». А мне твора мала, як мала другаснага святла, вабіць творца — першасвятло.

Такая слабіна ўва мне. Яе я не хаваю. Яе заўважыла Ала Сямёнава, наш найчуйны рэнтген літаратурны, і назвала слабасць хваробаю «даканцэптуальнага сэнсу». Я навуковых экспертыз баюся, але прызнаюся, што не адважыўся б пісаць пра жывапісца, каб не спакусілі пошукі гэтага загадкавага сэнсу. І тут, у працяг размовы, як не ўспомніць адзін «даканцэптуальны» пасажык з нашага з Анатолем жыцця на беразе возера Мсцінскага і рэчкі Мсты ў Цверскай губерні на Акадэмічнай дачы мастакоў Расіі.

Леташняя восень і там, як у нас, выдалася дажджлівая, гнілая, ліло кожны дзень, але, схаваўшыся ў ялавыя боты і фуфайкі, што знайшліся на дачы, ды яшчэ пад парасоны, мы пасля снедання ішлі ў прыроду, хоць у прыродзе, на востраве сярод вялікае вады, жылі: ён ішоў пісаць пейзажы, а я — яму перашкаджаць пісаць. Вось і аднойчы абвесіўся мальбертам, паходным услончыкам, торбачкаю з харчам, вялікім мастакоўскім парасонам ад міласцей капрызлівага неба, скрынкаю з фарбамі, палатном на падрамнічку, сабраўся на лоўлю хоць аднаго эцюда. Я ўзяў з яго пляча на сваё часцінку ношы, і мы пашыбавалі вярсты за дзве — за Мсту. Там была плаціна, далей — азярцо, абсыпанае з аднаго боку прыгожымі валунамі, з другога — дрэвамі, што клалі на ваду густыя цені, падобныя да гібельных віроў. Яшчэ быў з боку валуноў масточак на вадзе ля берага, на палях, з масточка адкрываўся зацішны пейзажык. Анатоль паставіў на масточку мальберт, на мальберт — палатно, дастаў палітру, фарбы. Працаваць не спяшаўся, чакаў, як сонейка падымецца вышэй, ваду аблашчыць, а пасвятлела — тады пагрэў палітрачку ў руках, пачаў раскладаць фарбы, якіх прасіў пейзаж. Заўважыўшы, што яго душа ўжо кіруе да іншых берагоў, я падаўся на агледзіны ваколіц і блукаў па незнаёмых мясцінах з гадзіну. Вярнуўся: можа, думаю, эцюд гатовы і трэба рушыць далей? Не дайшоў да масточка — спыніўся, здзіўлены: мастак быў там, дзе я яго пакінуў, але ўжо не адзін — кабета побач, схіліўшыся да вады, паласкала анучу, а пад нагамі таз, вядро, бялізна, як быццам ён на ўласным двары і гаспадар бялізны, і гаспадар кабеты. Яна ж

была маладая, здаровая, паласкала з такою сілай, аж масток на ўзнятых хвалях кідала ўверх-уніз — мальберт гайдаўся, гатовы скласці ногі, палатно на ім калацілася, ногі мальберта і ногі мастака залівала вада. Я мог паспачуваць, але не больш за тое, быў лішні на мастку, і павярнуў назад. Калі ж пасля яшчэ адной вандроўкі па ваколіцах вярнуўся зноў, Анатоль, як і тады, упарта змагаўся з эцюдам, з вадою, з масточкам, з мальбертам, а каля яго былі ўжо дзве кабеты — першая, як і раней, разгойдвала масточак і ваду, а другая, танклявая, нібы дзяўчына, сваю бялізну паставіла ў тазе каля ног і з-за мужчынскага пляча глядзела на эцюд. З усмешкаю казала:

— Летась у мяне жыў мастак, маляваў і вёску, і мой сад, і маіх дзетак. Пейзажык мне пакінуў.

Першая кабета, пачуўшы, разагнулася, кінула выпаласканую анучку ў таз, успыхнула, усё роўна як ад зайздрасці:

— Яшчэ і плот табе пагарадзіў. І дах палатаў.

Маладзіца як прыкусіла язык, узялася шчыра валтузіць па вадзе анучку, але і змоўчаць не хацела — анучку выкруціла:

— У яго ў Маскве свая сям’я. Жонка і дзеткі.

— Бачыш, уладкаваўся. Там — сям’я, тут — баба.

— Якая баба?

— А то мужык?

Абедзве зарагаталі і ўзяліся за работу. Першая сваю бялізну склала ў вядро, у таз, ісці сабралася, але стаяла, быццам не ўсё сказала ці не ўсё пачула. Другая, спяшаючыся, паласкала, але і сказаць, што ёй хацелася, паспявала:

— Ты мне дарэмна пра мужыка, пра бабу. Мне да душы было яго маляванне. Дубочак, што пад акном, намаляваў — як жывы.

— А мастакі на дачы ўсе жывыя. Колькі нашых дзевак пабралі? Ці палічыш на пальцах? А колькі баб ахмурылі? Сваіх хат панаставілі. Ім у нас падабаецца.

— Кажуць, што гэтак тут вядзецца ад цара Аляксандра?..

Неба нахмарыла. Закрапаў дожджык. Жанчыны пабралі тазы і вёдры з бялізнай, сышлі на бераг.

Дождж спарнеў. Вада на азярыне пагасла. Па ёй скакалі кроплі, пыркі, бурбалкі. А на масточку па-ранейшаму стаяў, як капітан, што пакідае карабель апошнім, Анатоль і працаваў, прыкрыты ад непагоды чорным берэцікам. Яго рухі станавіліся ўсё больш хуткія, рашучыя. Над эцюдам то падымаліся, то апускаліся, прыкрываючы яго ад дажджу, палітра і анучка. Пейзаж у натуры цяпер быў іншы, але той, што на эцюдзе, быў у натуры колькі хвілін назад і яшчэ валодаў мастаком, жыў у

яго вачах, настроі, так хутка яго не мог пакінуць, як пакінулі масток жанчыны, яшчэ ён адчуваў мазочкі, якія прасіліся ў эцюд з той, што не паўторыцца, натуры, і спяшаўся даць ім, апошнім, месца на палатне.

Калі ж дождж нарэшце і яго прагнаў з мастка, мы знайшлі сухое месца ў вясковай краме за валунамі. Тады і дождж аціх. Зноў выблiснула сонца. Мы з крамнай пляшачкай вярнуліся на бераг.

Мне было весела. Я думаў пра масточак, як пра цікавую эстраду, на ім бачыў трыа: галоўнага саліста за мальбертам, нібы за аркестровым пультам ці барабанам, дзвюх шчабятух абапал, як антураж, — рагатаў. Але мой візаві мяне не вельмі разумеў: «Якое трыо?»

Гэтак працаваў, што і кабет побач не чуў, не бачыў?

Я наліў.

— За мужнасць мастака! Ты перамог усіх і ўсё: шторм на вадзе, ледзь не крушэнне карабля-масточка, спакуслівых малодак, прайшоў, як Адысей паміж Харыбдаю і Сцылай, да свайго кахання — жывапісу. Ты маеш права на шчырае сустрэчнае каханне…

Праз паўгода той самы, напісаны на масточку, пейзажык я агледзеў у мастацкім салоне ў Мінску — аўтар выставіў яго на продаж. Здрадлівы масточак з пейзажа знік, на яго месцы быў бераг возера. Па вадзе круцілі змрочныя віры, на месцы якіх у натуры ляжалі, як помнілася, цені. У кожным віры жыў сатана ў спадніцы.

Я тады падумаў, што вялікая дабрыня, цярплівасць і самаахвярнасць мастака ўпрыгожваюць, але твору не заўсёды на карысць, і што Бялыніцкі-Біруля меў куды большую рацыю, калі, працуючы, адпраўляў са свае майстэрні нават Алену Аляксееўну з прынесеным яму кубачкам кавы.

І зноў я на выставе.

«Яна і Ён». Яна з сярпом у руцэ, ён — з кіем. За імі — хата, поле, неба. Лета — дзень сонечны. Святло пагодлівага дня, як у Бараноўскага амаль заўсёды, мяккае, паветра матэрыяльнае, ніякім шкіпінарам не разведзенае, хоць ты яго бяры на смак, на гук — як велікоднае яйка на зуб, — срабрыцца і залаціцца, і тым жа срэбрам-золатам прыроды праменяць душы, твары Яе і Яго. Глядзіш у твары — чуеш збажыну, як шапоча, п’еш пахі сырадою, хлеба з печы, цёплага. Якраз тут вока стрэльне

ўбок — дзе нацюрморт? А ён — побач: ручнік кужэльны, на ручніку — збан з малаком, кубак і круглы, з печы, хлеб. Такое ўсё зямное, будзённае, але і высокае, як песня, вечнае. Партрэт і нацюрморт — жанры для мастака не каронныя, хоць і яны — маленькія кароны яго мастацкай постаці. Каронны пейзаж чысты, як бы сам па сабе, сам у сабе, інтымны, сучасным чалавекам не атручаны, не пакалечаны. Але стаю перад сялянкаю і селянінам, у твары ўглядаюся, думаю і адчуваю, што без іх, не зразумеўшы іх, я не змагу да канца зразумець астатнія пейзажы, чыстыя, што Яна і Ён — ключык ад Сезама. З сялянскіх твараў, з хлеба, з ручніка пераводжу позірк на пейзажы — яны цяпер здаюцца жывой натурай. Поле, луг, лес, бераг рэчкі, кусточак, кветкі, азярцо — у святле сялянскай працы, маралі, побыту Яе і Яго.

Што гэта? Збег маіх думак, адчуванняў? Ці светапогляд мастака? Свет — вачыма Яе і Яго?

Звяртаю ўвагу на назвы пейзажаў: «Прадчуванне», «Спеў жаваранка», «Спрадвечнае», «Восень залатая», «У навальніцу», «Нараджэнне дня», «Пасля дажджу» — усюды выразны акцэнт на момантах найбольшай чысціні ў прыродзе. Поўніца святла і колераў — з іх тчэцца вобраз. Як вопратка ў селяніна, выцвітаючы і пылячыся на сонейку ды ў непагадзь, захоўвае свой натуральны колер у шоўчыках ды рубчыках, у прыкрыцці лацканаў, манжэтаў, у зацені падкладу, гэтаксама і прырода свой светлы вобраз зберагае там, дзе збег пор года, дня і ночы, збег цеплыні і холаду, дзе абуджэнне сілы і красы зямной, птушыных галасоў і кветак, дзе памірае вясной — зіма, увосень — лета, дзе пыл і бруд змываюцца дажджом, прыпаркам, росамі, пад песняй жаваранка — у памежных зонах. Гэта выдатна ведаў класік нашага пейзажу Бялыніцкі-Біруля, таму ў гэтакіх памежжах жыў, пісаў — там, дзе жыў і працаваў селянін. Нездарма па вёсках яго называлі не толькі барынам, але і мужыком. Сялянскае меў адчуванне настрояў прыроды, часу змены яе абноў і прыходу найбольшае красы. Але тое — у Бірулі. А тут — у Бараноўскага? Яго пейзажы вачыма Яе і Яго, гаспадара разбуранага гнязда — адкуль? Ён чалавек сталічны. Была Маляўшчына? Але ж то вёска бабулі Алёны і дзеда Аляксея. Яго таксама? Ягонаю яна была ў абрысах горада, а цяпер і Акадэмія, дзе служба, і майстэрня, і кватэра — у сталіцы, нават амаль у адным гарадскім квартале. Тут жывучы, як бачыць свет вачыма селяніна?

Новы час — новыя стасункі з зямлёю. Сёння мастак у горадзе можа нават вастрэй адчуць бяду і чысціню палёў, лясоў, рэк, азёр, як жыхар вёскі. Мы ўсе разам з прыродай — у адной

экалагічнай зоне. За зонай — зона. А зона не выбірае гарады ці вёскі, яе спажыва — і гарады, і вёскі. І выйсце для горада і вёскі таксама адно, хоць нейкае — у памежжы, ушчэнт не выліналым, не выпетраным, там, куды нас вёў Біруля. І вядзе Бараноўскі?

Прага чысціні, святла і каляровага багацця — выбар мастака, але і часу, Яе і Яго, гаспадара разбуранага гнязда.

І ў гэтакіх варунках я згодны з Шаранговічам: пейзажы Бараноўскага — наша Бацькаўшчына, сатканая з явы і сноў, трывогі і надзеі, святла, красы і чысціні.

На Мсце, на дачы мастакоў, мы жылі ў адным на двух пакоі. Днём працавалі ці марнавалі ў непагоду час, пасля вячэры вярталіся ў пакой, зарана клаліся, пры халодных трубах ацяплення ўсцягнуўшы на сябе світары, фуфайкі, коўдры. У ложках, выключыўшы святло, пакуль не ўтаймуе сон, вялі размовы, у цемені куды больш шчырыя, як на святле.

Ён разважаў:

— Добра пішацца, як сваімі рукамі змайструеш падрамнічак, сам палатно нацягнеш, праклеіш, пагрунтуеш. Сваё палатно цёплае, а чужое халоднае. Давалі заводскае — не ўзяў. Як палатно ў руках пагрэеш, з ім пагаворыш — тады і пішацца.

Такое слухаючы, я бачыў Яе і Яго, чуў, як яны гаварылі з полем, з канём, з хлебным коласам.

— Акварэль — вада, а я люблю пароду, матэрыял. Каб узяў — адчуў вагу, форму, пругкасць. Акварэлі пісаў, як быў студэнтам. Быў конкурс: хто хутчэй, больш і лепш. Я за дзень напісаў сотню акварэляў. Але ўжо тады адчуў, што мне да рук просіцца алейная фарба. Яна — што такое? Зямля. Мы зямлю нагамі топчам, а мала ведаем. Ну, ніва корміць, поіць. А яна яшчэ — і колер. Бывала, паеду са студэнтамі на практыку — капаем гліны, робім сіену, умбру, вохры. Пісаць трэба ўсімі фарбамі. Пішуць і дзвюма, трыма, бачаць два-тры адценні. Гэта не жывапіс. Канстанціна Каровіна студэнты любяць. І я люблю. Але Каровін бачыў мноства адценняў, іх сугуччаў. Як сам у пальцах зямельку ператрэш, фарбачку здабудзеш — і Каровіна зразумееш.

Яго прынцып: усё рабі сам, сваімі рукамі. Шмат было настаўнікаў, былі іх вопыт, талент, а палюбіў таго, хто навучыў працаваць — Мазалёва, і ўспамінае яго часта з сумам, што рана адышоў. Вайна моцна пабіла, а пасля вайны — зноў вайна: калегі, якім не хапала дару ды сціпласці, ламаліся да чыноў, званняў, да сытнага карыта праз галовы — ён адыходзіў у цень. Той цень, як родны кут, давялося абжыць і Бараноўскаму. Жыццё

ў цяні падказала: ратунак у працы. І вучняў гэтак вучыў. Іх было шмат. Яшчэ як скончыў мастацкае вучылішча, стварыў жывапісную студыю ў Палацы культуры трактарнага завода — адтуль прывёў у жывапіс цудоўных мастакоў. А потым Акадэмія мастацтваў — зноў вучні. Талент ад прыроды: ёсць дык ёсць. А майстэрства — ад працы. А працаваць як навучыць? Сваёй працаю — прыкладам.

— Акадэмічны год заканчваецца — лета на прыродзе. Апошнія дваццаць пяць гадоў — жыццё па крузе: Браслаў, Валожын, Палессе — мальберт, палітра, фарбы, эцюды. Мой адпачынак — праца.

На Мсце нам часта не было куды дзявацца ад сваіх размоў. Спаць рана не хацелася, а за акном ліў дождж. А то ацiхнем, як засынаем, і раптам: бух, бух, бух — за парогам Федзя Кісялёў ботамі сорак восьмага памеру грукоча ў майстэрню ці з майстэрні — шчыруе з акварэльнымі аркушамі. А то дзверы адчыніць:

— Да вас можна?..

Той восенню ён быў на крылах. У Мінску з поспехам прайшла яго выстава акварэляў, пра яе пісалі газеты і часопісы, а тут — пленэр, французы завіталі ў майстэрню, перабралі яго работы і сказалі, што Францыя павінна ведаць акварэліста Кісялёва. І вытраслі з кішэняў усе свае даляры.

Вечарэла. Мы стаялі на скрыжаванні сцежак-дарожак Акадэмічкі пад іранічным позіркам Рэпіна, над Мстою, з братамі Ткачовымі, Сяргеем і Аляксеем, жывымі класікамі рускага рэалістычнага жывапісу, і яны ўспаміналі, як пасля вайны, скончыўшы Сурыкаўскі мастацкі інстытут, прыехалі працаваць у Мінск. Беларусь ім была не чужая. Самі з Бежыцы, прыгарада Бранска, дзе яшчэ жыла беларуская мова, да вайны вучыліся ў Віцебску, у мастацкім вучылішчы, куды дарогу праклаў старэйшы брат Віктар, жанаты з Нінай Трус, стрыечнай сястрой беларускага паэта Паўлюка Труса, а ў яе вёсцы Нізок, у хаце бацькоў, пасля вайны, у разруху ды галадуху, жылі, пісалі — сцежкі па Беларусі, карацей кажучы, таптaлі. Скончылі інстытут. Тут і адбылася гісторыя, пра якую ў той час не ведалі самі. Сустрэліся ў Маскве рэктар інстытута Сяргей Герасімаў, вядомы мастак, і Панамарэнка, першы сакратар ЦК Беларусі. Герасімаў кажа, што будуе дачу, лес патрэбны. А Панамарэнка кажа, што Мінску патрэбны маладыя мастакі. Дамовіліся, што наш сакратар ЦК дае Герасімаву лес на дачу, а той прышле ў Мінск двух выпускнікоў інстытута. І прыехалі Ткачовы. Яны тады пісалі ўжо вясковыя жанры, пейзажы, ішлі ў жывапісе ад Пластава — усё

гэта Анатоля, маладога мастака, вельмі прываблівала. Хацелася бліжэй да іх, паглядзець, як працуюць. Але ў Мінску былі свае карыфеі-артадоксы, творчую моладзь яны трымалі ў аглоблях і да Ткачовых не падпускалі. Свабоды выбару і чыстага паветра маладым не хапала.

Гэта і Ткачовы памяталі — сказалі:

— Мы таму і з’ехалі з Мінска.

Успамін ёсць і ў кнізе: «…Прыйшліся не да двара. Нас лічылі прыблудамі, чужакамі. Асабліва абыходзілі нас старыя, як магчымых канкурэнтаў».

Раніцай я ўзяў кнігу «Пра час і пра сябе», якую Ткачовы падаравалі мне надоечы з цёплым аўтографам, сышоў з пагорка да возера, знайшоў зацішны куточак на дашчаным масточку з лавачкай, сеў, разгарнуў кніжку. Хмары з неба сплылі, сонца выглянула, азёрнае люстра ўспыхнула блакітам і барвамі восені. У прасветленым настроі, чытаючы, я не заўважыў, як маю адзіноту нехта парушыў, адчуў, калі масток на вадзе гайдануўся. Узняў галаву — мне ўсміхаўся Анатоль.

— Не перашкодзіў?

Сядзелі і гаварылі пра восень, надвор’е, тутэйшую прыроду, падобную на нашу, з лясамі ды азёрамі, быццам недзе на Віцебшчыне. Светлая самота, разлітая па-над асеннім возерам, была і нашым настроем. Нішто нікуды не гнала, не прыспешвала. І раптам Анатоль усхапіўся. Падняўся і я, здзіўлены, як раптоўна ім авалодаў зусім іншы настрой. Хацеў спытаць, што здарылася, а ён і сам прызнаўся: апошнія дні працаваў — як мокрае гарэла, а зараз, як сонца хмары разагнала, сэрца захвалявалася — гоніць да палітры. Усміхнуўся, як просячы прабачэння, і пакінуў мяне аднаго.

Я ўспомніў падобны выпадак у Магілёве, калі ён быў, як у гэтую сонечную хвіліну, на ўзлёце. Прызнаўся і тады: душа загарыцца — нясі агонь да палатна, не марудзь.

Выбуховая сіла жыла ў ім.

Раніцай, устаўшы і памыўшыся, мы выходзілі на ганак, з ганка — на сцежку, па ёй — у сталоўку.

Аднойчы стаім каля ганка. Падышоў чалавек:

— Адразу можна пазнаць, хто з вас пісьменнік, а хто мастак.

Мы задумаліся, а чалавек патлумачыў:

— Мастак раніцай выходзіць за парог і глядзіць на неба: ці будзе пагода? А пісьменнік выходзіць і, звесіўшы галаву, глядзіць у зямлю: што з яе возьме ў свой твор?

З назіранняў над намі?

Падумалася: вось тут — цікавы жывапісны кантраст .

А Бараноўскі зноў ладзіць свята — выставу. Сабе і нам — усім. Ужо не ў залах Акадэміі — у Музеі выяўленчага мастацтва ў Магілёве.

Дзверы адчыненыя, а там — ні душы. Прыйшоў зарана — самы першы? Святла — нібы дзе ў космасе. І на зямлі бывае гэтак светла? Ад высокіх вокан, ад белых сцен ды столі, ад сонечнага неба за вокнамі, ад чорнага бліскучага раяля, які ўсё светлае вакол робіць яшчэ святлейшым?..

Чуваць крокі з глыбіні залаў. Сам гаспадар? Набліжаецца — сівагрывы, светлаўсмешлівы.

Абдымаемся. Ён кажа:

— А я стаю і думаю: зараз прыехаў бы ты са свайго Крычава?.. І бачу — заходзіш. Пачуў мой голас?..

А я спытаў:

— Што адчувае мастак, калі адзін сярод сваіх карцін у вялікіх светлых залах? Ты і тваё святло вакол цябе. Душа дзе ў гэты час?

Ён паказаў на неба:

—Там. Я — тут, а там — мая душа.

З’явіліся дзве жанчыны, феі з неба, павялі яго з сабою.

І вось ужо я адзін у залах сярод пейзажаў. Раней усе іх бачыў, але цяпер, сам-насам з імі, без сведак, яны глядзеліся іначай, і я іначай, як раней, мог іх разгледзець і зразумець. Прайшоў міма «Гнёздаў», міма «Яе і Яго», міма нацюрморта на ручніку, у якіх мне бачылася галоўная прыстань мастака, пачатак усіх яго працягаў — не ў часе напісання твораў ці нараджэння ідэі, а як духоўны і маральны мацярык, падмурак. Я рушыў ад падмурка, яго пазнаўшы і прызнаўшы, туды, дзе тая ж філасофія і эстэтыка, але на іншых геаграфічных скрыжаваннях, ды і не толькі геаграфічных, на іншым творчым гарызонце, можа, глыбейшым ці вышэйшым, можа, больш прыхаваным і складаным. А куды далей? Да краявідаў Палесся ці Браслаўшчыны, да берагоў Друці альбо Нарачы?

Спыніўся там, дзе адшумеў дождж, адгрымела навальніца, з-за хмараў, дажджом прамытых, выбліснула сонейка. Святло, следам за дажджом, разлілося і абмыла зямлю, ваду, неба, кожнаму жывому каліву вярнула, змыўшы шэрань, чыстыя колеры, у колерах і адценнях — нейкі міг, можа, міг нараджэння, свята, ісціны. Стан чысціні — стан найбольшага даверу і паразумення натуры з душою мастака, хоць, зрэшты, хто зразумее яго душу? Ён сам яе хіба заўсёды разумее?

Ёсць геній Леанарда да Вінчы і ёсць загадка: ён — каларыст, а сказаў, што колер — не Бог. Ужо ад барока, гадоў праз дзвесце, пачулі, што колер — гэта ўсё, калі не ўсё, дык амаль усё.

«Колер у карціне падобны стылю ў літаратуры» — Дзідро. А што значыць — «падобны стылю»? Стыль — сам твор. І колер — сам твор?

Я ўглядаюся ў дробны закруглены мазочак. У другі, у трэці. Нібы карункі бабы Алёны, падобныя яшчэ і на малюнкі дзеда Мароза на аконных шыбках, і на вясновы, не да канца разгорнуты жывы парастак ці пялёстак, на ледзь праклюнутую з леташняга лямцу кветачку, якая нібыта рухаецца па парабале-дузе. Столькі цяжкай работы ў росце! Як і ў адным мазочку мастака.

Аднойчы мы з Анатолем гаварылі пра круглыя формы. У яго быў багаты вопыт работы круглым мазком, у мяне — вопыт бачання свету вачыма з катарактаю, якая ўсё прамалінейнае згінала. Жыццё я бачыў у круглых формах і лініях, смерць — у плоскасцях і прамалінейнасці, і мяне зусім не бянтэжыла тое, што крыніцай вопыту і роздуму была хвароба, я нават быў гатовы прызнаць памылкаю прыроды звычайны зрок, а нармальным — вока хворае. Гэта як быццам падтрымлівалі геніяльныя дзівакі, хоць і Дальтон, што бачыў усяго два колеры, аранжавы ды жоўты, астатнія ці зусім не бачыў, ці бачыў утрыравана, пра чырвоны ведаў адно тое, што ён адпавядае колеру салдацкага мундзіра каралеўскай гвардыі, і які дзякуючы хваробе вачэй прыйшоў да геніяльных адкрыццяў, на падставе іх стварыў у навуцы школу каляровага зроку.

І вось — мастак з прыхільнасцямі да круглага мазка, круглых форм і ліній.

— Зямны шар. Сонца. Месяц. Усе планеты, зямныя і калязямныя сферы. А дрэва, галіна, травіна, лісціна? Мастак піша круглыя формы. Іншых прырода не дае. І прамень святла — паток круглых форм?

У вокнах ззяла сонца, святло было мяккае, ніводнае карціны не сляпіла бляскам, углядацца ў кожную можна было з любое кропкі ў залах, святло ад кожнае рассейвалася, ствараючы ілюзію паветраных, паміж выявай на карціне і гледачом, глыбіняў. Я быў у залах адзін, мог доўга прыглядацца, нікога не здзіўляючы, што за вар'ят совае нос у кожную фарбачку. Мяне цікавіў і самы дробны мазочак, кожная ў ім жылка. Між вострых беражкоў на донцы мазочкаў варушыліся жывыя кроплі блакіту, срэбра, сонца. Мазочак — пастка для святла?

«Дзень нараджаўся». Ужо назваю карціны мастак тлумачыў загадкі святла і колеру. Яны былі ў раніцы, у першым промні сонца, які прарваў туман і запаліў ваду, у мелодыі палёту гагары над вадою. З промня на яшчэ прымглёнае люстра сыпаліся срэбра і золата новага дня, начная прахалода знікала, паветраная прастора набывала лёгкасць і глыбіню. Але загадкі руху паветра і вады былі не толькі ў нараджэнні дня, яны, зусім не ілюзорныя, былі ў майстэрстве мастака, у тэхніцы пісьма.

Аднойчы Дэлакруа доўга ўглядаўся ў дробныя мазочкі Канстэбля, пакуль не ўскрыкнуў, прасветлены: «Хіос-с!..» — і кінуўся перапісваць сваю карціну «Хіоская разня» новай тэхнікай мазочкаў, штрыхі якіх вібрыравалі праз паветра, даючы жывы і свежы тон, сатканы з мноства колераў і адценняў. Каларыт ствараўся не столькі на палітры, змешваннем фарбаў, колькі паветрам, якое яднала багацце колераў.

— Адзінства мноства колераў, адценняў…

Анатоль Васільевіч любіць паўтараць гэта, нібы замову, і вось цяпер я бачыў, што гэта такое на карціне — у раніцы, у нараджэнні дня.

Я падышоў да яго сабораў, касцёлаў. З зімовых, летніх, восеньскіх пейзажаў крыжы ўздымаліся ў неба лёгка, звонкія колеры былі багатыя на нюансы, белае гучала па белым, мастацкі вобраз жыў экспрэсіўна, мелодыяй у мажоры, і ў той жа час мякка і паэтычна. Тэхніка лепкі фарбамі была прыдатная і тут, у выяўленні вобразаў даўніны, з боскага духу і каменю.

Мастак вярнуўся ў залу. Я стаяў перад яго карцінай «Час роздуму». Гучала музыка. Неба было высокае, але і ўнізе, на зямлі, яно прыводзіла ў рух святло і цені. Рака, вялікая вада, была і небам, як неба было зямлёю і вадою, а далячынь, нібыта срэбны прамень, злучала і разлучала, і зноў злучала два аблічвы, зямное і нябеснае, яднала свет на высокай музычнай хвалі. Мой роздум быў пра вечнае.

Ці адчуванне музыкі даваў чорны, у акружэнні светлых пейзажаў, раяль пасярод залы?

Можа, музыка пейзажаў знаходзіла раяль і клалася на клавіятуру? Раяль лавіў яе і паўтараў?

Ён вярнуў мяне да «Нараджэння дня». Я сказаў, што тут стаяў перад яго прыходам і доўга думаў.

— А што ты думаў?

— Што новы дзень нараджаецца на мяжы страты зямной рэальнасці і збліжэння з небам. Надзею дае прамень нябесны.

— Тут мой новы жывапіс. І мой новы дзень.

Я пакідаў выставу. Ён заставаўся.

У музеі адкрылі галерэю мастака Паўла Масленікава, якога асабліва любіла адміністрацыя Магілёўшчыны. Я прапанаваў Анатолю паглядзець галерэю. Ён не пайшоў. Я пайшоў адзін.

Ужо як выйшаў на вуліцу, здагадаўся, чаму сябра адмовіўся ісці са мною. Там было шмат тэатральнасці, а яго жывапіс быў без падману, як зямля і неба. Там былі яркія дэкарацыі, а ён шукаў мудрую прыгажосць жывой рэальнасці. Там было шмат фарбаў і мала колеру, а ён жыў каларытам.

Яго выстава будзіла светлую даверлівасць, грэла душу. А на галерэі было халаднавата, бо фарбы, не стаўшы колерам, душы не грэлі.

Зноў падымаюся да неба. Яшчэ паверх. І яшчэ адзін. І яшчэ вышэй? Як тут, без ліфта, падымаюцца і апускаюцца людзі, у якіх сэрцы — не камяні? Ці ў іх крылы анёлаў?

Там, унізе, у Палацы мастацтваў на зборнай выстаўцы жывапісу я глядзеў пейзажы Палесся. Знайшоў, як на свой недасканалы густ, тры добрыя работы. Адна з іх Анатолева: любімыя ім бярозкі, даўно аблюбаваныя ў прыродзе, але ў настроі новым, вельмі тонкім. Настрою адпавядала назва карціны — «Мроі». Мроілася мяжа паміж быццём і небыццём?

«Мой новы жывапіс. І новы дзень».

Успомнілася тая яго даверлівасць, даверлівая прачыненасць. Мроі давалі не так адчуванне, як прадчуванне.

Мяняцца, аднаўляцца — якасць нармальнага таленту, натуральная для сапраўднага мастака. За сорак гадоў работы фарбамі Бараноўскі ніколі не разлучаўся з пейзажам, любімаму жанру не здраджваў, хоць яго пейзаж і мяняўся ад немудрагеліста-адкрытага да загадкава-настраёвага, ад натурных кампазіцый да імправізацый на натуры, ад сакавітых і ясных колераў і тонаў да валёраў і паўтонаў, ад лаканізму да поліфаніі ў колеры і гуку. Пад уплывам каго і чаго? Самой прыроды, якая жыла ў пастаянным самаабнаўленні і гэтаму вучыла мастака, давала накірункі абнаўлення. А яшчэ? Пад уплывам абвостраных з гадамі схільнасцей назіраць, разважаць, прадчуваць, з самім сабою быць у спрэчках большых, як са светам, вышукваць новыя ды новыя глыбіні прыгажосці, сэнсу. У абнаўленні бачылася выйсце да большай унутранай спатолі і свабоды. Ну, а яшчэ пад уплывам каго і чаго?..

Званочкі-бомы адчыняюць дзверы. Святло б’е ў вочы. Я апускаюся ў знаёмае крэсла. Позірк бегае па майстэрні. Супакойва-

ецца на пейзажы, які стаіць на мальберце. Далёка не закончаны, ён яшчэ не кажа мне ўсё тое, што мастак хоча ў яго ўкласці, што ўкладзе, але ўжо цяпер я адчуваю, што рака восені, дый позняй восені, на карціне, з цёплым дыханнем былога лета, што туманы над ёю — не холад, а цяплынь, што першы снег па берагах зямлі не астудзіў, але схаваў ад блізкіх маразоў, сагрэў і супакоіў, што цяплынь і холад на гэтым, яшчэ адным, памежжы календара ў згодзе, якую так любіць шукаць, знаходзіць і апяваць шчодрае на дабрыню сэрца мастака.

— І прысвячу пейзаж Вітольду Каятанавічу, светлай памяці…

Пытаецца, ці можа такое быць? Можа, кажу, вядома, можа. А тым часам мяне цікавіць тое, што думкі пра Бірулю, ягоны жывапіс, і гэтая новая работа — адна рака? Сувязь не выпадковая?

І на першым, і на другім пленэрах, прысвечаных Бялыніцкаму-Бірулю на яго радзіме, на Друці, Анатоль не проста шмат працаваў, пісаў, але і востра перажываў радасць сустрэчы, блізкай настолькі, наколькі гэта рэальна, з самім Бірулем — ягоным берагам, узгоркам поля, дзе бацькаў дом стаяў, дзе нарадзіўся, рос, з тым самым кустом бэзу, які пісаў усё роўна як сваёй і не сваёй, сваёй і крышачку Бірулевай душою, з багаццем Бірулевых карцін, што былі тут, на радзіме вялікага пейзажыста, з кожным словам яго і пра яго, што тут жылі ў памяці людской, з яго, нарэшце, дарогамі вандровак аж да Мсты, Удомлі, Чайкі…

А што ў выніку? Напісаны пейзажы? А яшчэ — што?

— І прысвячу…

Вось тое, што акрамя пейзажаў. Жаданне прысвяціць вялікаму свой твор — тэмпература ўдзячнасці. А гэтае:

— Тут мой новы жывапіс. І мой новы дзень.

І гэтае з таго, што акрамя.

Дзень новы выдаўся не тут? Ну, вядома, пейзаж «Нараджэнне дня» пісаўся да Бірулевых пленэраў, штуршок яму быў іншы: Балгарыя, паўвостраў у Чорным моры — Сазопаль. Але той новы дзень, даўшы пейзаж, ці даў такое рашучае асэнсаванне, як далі дні пленэрныя, што свой новы жывапіс трэба шукаць, ад Сазопаля адплыўшы, у багацці паўтонаў, рэфлексаў, валёраў, у паглыбленні, праз іх, настрояў прыроды і свае душы?..

Учора я зноў заглянуў ў яго майстэрню:

— Што новага ў новым дні?

Сядзеў у крэсле і разглядаў пейзажык, якога раней не бачыў, таксама з новых: збажына, снапы ў бабках — жніво. Мой позірк адарваўся ад жніва, паплыў угару і там, пад столлю, запыніўся

на чымсьці зусім нечаканым. Там было поле, дарога полем, неба высокае. Усяго толькі: поле, дарога, неба. Так мала? Але ж як усяго многа! Я задыхнуўся ад глытка радасці, пазнаўшы дарогу і поле, хоць на іх не было, здаецца, нічога, каб воку зачапіцца, — ні дрэўца, ні кусточка, ні чалавечка, ні пянёчка, ні нават валуна прыдарожнага. Поле голае, прыбранае. Мне ўспомнілася, як гэтым полем па гэтай дарозе мы з Анатолем ішлі летась, здаецца, у верасні, яшчэ да халадоў асенніх, падымаліся на ўзгорак, за якім меліся апынуцца на беразе Друці, дзе рос той самы Бірулеў куст бэзу, які Анатоль напісаў, а я з якога пачаў гэтае эсэ. Дзень быў пагодлівы, над галовамі ў высокім разрыве лёгкіх воблакаў шчыравала сонца. Анатоль спыніўся. І я спыніўся. Стаялі і пілі, наталяючы смагу, чысцюткую, нібы крышталь, цішыню. Ён сказаў, што гэты пейзаж напіша. А я падумаў: што тут пісаць? Голае поле ды голую дарогу? Усяго так мала. Хацеў гэта сказаць і не сказаў, перасцярогся: можа, не ўсё разумею?

І як жа добра, што не сказаў.

Цяпер я глядзеў на карціну. Поле і дарога былі тыя і не тыя. І неба — тое, блакіт высокі, у разрыве воблакаў, і не зусім тое. І ледзь не тое самае пытанне ўва мне прачнулася: усяго дзве лініі — поля, на даляглядзе, і дарогі, — адкуль жа адчуванне, што ўсяго шмат? Чаго шмат?

Тут пір праўляла музыка.

Кожны мазочак быў гукам, і кожны гук меў непаўторны колер. Кожны мазочак на сонейку, як тая кветка, раскрываўся ва ўсім сваім багацці, у магчымых каляровых нюансах, і ўсё гэтае багацце было суладным аркестрам — сімфоніяй і колераў і гукаў.

— Як назавеш ты гэты пір? — спытаў я.

— Песняю жавароначка.

— Але ж тут сімфонія?

— А ў сімфоніі — сола на флейце.

— Песню жавароначка ты ўжо выстаўляў. Пейзаж быў іншы, але назва гэтая?

— Там сола на фагоце. Там — ад зямлі. А тут — ад неба.

— Але дзе жаваронак?

Ён усміхнуўся:

— Сядзі і слухай.

Калі я выйшаў з яго майстэрні, была ўжо ноч. У небе над маёй галавою спяваў жаваранак.

*1998*

## СВЯТА І ПІР ЖЫЦЦЯ

З Лёшкам, даўгашыім і белагаловым, нібы голуб-альбінос, адзін з тых бойных-бігаў, якіх ён раней прадаваў на Старажоўскім рынку, мы стаім на беразе Камсамольскага возера.

Лёшка кажа:

— Ці памятаеш маіх жаўтабокіх шпанаў? З капялюшыкамі. Хітрыя былі галубы. А манахаў?

— І манахаў памятаю.

— Напісаў бы пра іх, хмарачосаў?..

Чакае, што я на гэта адкажу. Але я маўчу.

— На Старажоўцы такіх не было ні ў кога. Я прывёз іх з Адэсы ад брата. Бялюткія, а на хвастах стужкі карычневыя. І капялюшыкі. Хвост — дваццаць чатыры пяры! То былі бігі!..

Маўчу, хоць ведаю, што яму адказаць. Я быў бы шчаслівым чалавекам, калі б змог напісаць пра яго цудоўных бойных манахаў. Але не змагу. Не рызыкну. Не ўпэўнены, што знайду тыя словы, якія не разбураць мае даўняе дружбы з Лёшкам.

Знайсці тыя словы мог толькі адзін чалавек, якога Лёшка ведае. І я пытаюся:

— Караткевіча помніш?

Цяпер ужо ён маўчыць.

— Сваіх хмарачосаў ты ўсім прадаваў па чырвонцу, а яму прадаў па рублю.

Лёшка выходзіць з задумлівасці — твар цяплее, усміхаецца:

— Ці гэтакае забудзеш?!

Ён глядзіць некуды далёка за возера і, здаецца, не бачыць ні снегу, ні лёду, які цяпер, у адлігу, трымаецца на возеры паўз берагі, ні чорнай халоднай вады, ні шэрай смугі ў небе. Бачыць іншае неба: чыстае, блакітнае, цёплае. Сонечнае. І ў тым небе — бялюткіх манахаў.

Шумела вясна. Снег і вада паспелі скаціцца не толькі з гарадскіх вуліц, двароў і паркаў, але і з загарадных падлескаў. Цёплая прозелень пачынала высыпаць на каштанах, ліпах, таполях, разлівала ў паветры духмяны водар жывіцы. Брук на Старавіленскім тракце блішчэў, намыты і падсохлы, нібы луска на шчупаку, выкінутым на сонца. Пасярод бруку ззялі трамвайныя рэйкі. Яны прабягалі міма свежапабеленай рыначнай брамы, за якою ядрана пахла памаладзелай зямлёй, прэлай саломай, размяклымі аўчынамі, вільготнай поўсцю жывёлы. Красавік, адыходзячы, вітаўся з майскай прозеленню ды просінню.

Выскачыўшы з трамвая, я прайшоў у рыначную браму і павярнуў да шчабятлівага птушынага выраю. Мой позірк стрэльнуў да шэрага плота на знаёмае месца, дзе звычайна стаяў са сваімі галубамі Лёшка. Ён і цяпер падпіраў спіною той самы плот. Белая галава, якую ён амаль ніколі, ад зімы да зімы, не хаваў пад шапкаю, кінулася ў вочы адразу. А ў наступную хвіліну я звярнуў увагу яшчэ і на тое, што гляджу на Лёшку не адзін. Усе, хто стаяў блізка, купляў ці прадаваў, глядзелі ў яго бок. І нехта гарласта крыкнуў:

— Альбінос!.. Цану збіваеш?..

А хтосьці яшчэ і зарагатаў, быццам з дурня:

— Хмарачосаў па рублю спускае…

Я добра ведаў Лёшку. Яшчэ ў пяцьдзесят трэцім, калі ехаў у Мінск паступаць вучыцца на філфак універсітэта, бацька даў мне адрас свайго пляменніка, майго стрыечнага брата, якога я раней у вочы не бачыў. Ён, мой браценік Пятрок, жыў за возерам на Варварынскай у пабеленым прыватным дамку, наймаў з жонкаю і двума малымі дзецьмі мансарду, і ў яго мансардзе я пасяліўся на час экзаменаў. Лёшка быў Петраковым суседам, меў галубоў і насіў сваіх хмарачосаў на рынак. Прадаваў іх даражэй, як іншыя, у цане ні капейкі не спускаў. Скупым не быў. Проста ведаў, што ў яго самыя лепшыя бігі, і высокай цаною падтрымліваў іх высокі аўтарытэт. А таму цяпер, убачыўшы людскую ўвагу да Лёшкі, пачуўшы, што пра яго казалі, не даўшы веры чалавеку, які гэтак казаў, праз натоўп пашыўся да хлопца.

Калі я быў ужо зусім блізка, чыесьці рукі ў доўгіх рукавах паліто ўскінуліся вышэй за галовы паміж Лёшкам і мною, і з тых доўгіх шырозных рукавоў, усё роўна як з іх, у неба шуганулі два белыя галубы. Гэта былі Лёшкавы адэсіты. Я пазнаў іх адразу. Іх нельга было не пазнаць ці зблытаць з іншымі галубамі. Асабліва ў небе. Імкліва ўзляцеўшы, павіснуўшы ў паветры над дахамі драўляных дамкоў, яны прыгожа распускалі магутныя хвасты і крылы, быццам намацвалі апору, рабіліся падобныя на вялізныя, аж нейкія казачныя рамонкі, і ў гэты момант, здавалася, можна было палічыць іх пёрцы, якія трымцелі нібыта і разам, і паасобку. У наступнае імгненне, малюнак мяняўся: галубы ператвараліся ў белыя кучаравыя аблачынкі, падобныя на вялізныя дзьмухаўцы, якія аж залаціліся на сонцы.

Я кінуў позірк на Лёшку і побач з ім заўважыў таго, хто даставаў з яго клеткі птушак і падкідаў іх у цёплае сонечнае неба.

То быў Валодзя Караткевіч. Ён стаяў да мяне тварам, але мяне не заўважаў. Мы былі знаёмыя. У той год я бегаў па Мінску

лёгкім на ногі газетчыкам, а ён быў ужо вядомым паэтам. Цяпер ніхто ні на каго не звяртаў увагі. Усе бачылі перад сабою адно цёплае неба над рынкам ды белых бігаў у небе.

Яшчэ запомніўся сіні Валодзеў шалік. Канец яго вылез з-пад каўняра паліто, адляцеў на плячо, жывапісна падкрэсліваючы гарэзна-вясёлую русую галаву. Гэта, можа, таму запомнілася, што паэт з галубамі, ды яшчэ з Лёшкавымі, якіх я ведаў і любіў, быў мне захапленнем не меншым, як самі галубы ў небе. Асабліва калі яго рукі, выпусціўшы птушак, заміралі на нейкі момант угары, звязваючы вольную душу з сонечным небам і бялюткімі галубамі.

Бігі падымаліся ўсё вышэй, радыя «блакіту і золату дня», а Валодзя падкідаў усё новых птушак, пакуль клетка не апусцела.

Засталася апошняя самачка. Ён паднёс яе блізка да твару і, шчаслівы, сам — быццам тая вясновая птушка — шчабятлівы, разглядаў радужку ў цёплым галубіным воку. Хто ведае галубоў, той ведае цану галубінай радужцы. У ёй не галубіны свет. Увесь, зямны і незямны, птушыны і чалавечы. У ёй — сусвет.

Падхапіўшы пустую клетку, Лёшка пашыўся праз натоўп да брамы, а Валодзя, пасадзіўшы галубку сабе на грудзі і прытрымліваючы яе рукою, падаўся ўслед за ім.

Я застаўся на рынку і адтуль, з таго самага месца, бачыў, як праз хвіліну за брамаю над брукам Старавіленскага тракта ўзляцела тая апошняя, з Валодзевых грудзей, галубка.

— Альбіноса не абдурыш, — разважаў нехта з мужчын. — І чырвонец у кішэні, і галубы дома. Ха-ха!..

Тады я зразумеў, што адбылося.

Валодзя не меў патрэбы купляць галубоў. Куды і навошта? Але вясна прывяла яго на Старажоўскі рынак да Лёшкавых манахаў. Ці яна, вясна, пытаецца ў нас, людзей, што ёй з намі рабіць, куды нас весці? Яе ўлада над намі большая, як наша над ёю. А ён быў паэт. А паэту вясною ці мала што можа ўзбрысці ў галаў? Раптам захацелася птушак павыпускаць з клетак на волю. А як выпусціць чужых? Спачатку іх трэба, мабыць, купіць? Купіць — трэба грошы, і немалыя. Была дзясятка? Але воля, купленая для аднаго манаха, хіба задаволіць паэта? Яму хацелася даць волю ўсім птушкам, якіх рынак трымаў у клетках. Калі не ўсім, дык хоць усім Лёшкавым.

І тут яны, паэт і птушнік, паразумеліся. Лёшка ведаў, што галубы, падняўшыся ў неба, усе да аднаго вернуцца на Варварынскую. У гэтым была яго маленькая хітрасць. Але яна не сапсавала свята.

Цяпер, праз дваццаць гадоў, я пытаюся:

— Надоўга прыехаў з Адэсы?

— На два дні. На выставу. Хачу паглядзець, якія цяпер галубы ў Мінску.

Птушыная выстава адкрылася ў будынку Інстытута тэхнічнай эстэтыкі. Там мы нечакана сустрэліся.

Ад возера падымаемся на Старавіленскі тракт. Спыняемся насупраць белай ад снегу рыначнай брамы.

— А-а… скажы?.. Ён пісаў пра галубоў?

Я разумею Лёшку. Але парадаваць не магу. І не магу засмуціць. І таму расказваю адну са шматлікіх паэтавых казак: пра Лата і яго срэбнага пеўніка на шпілі званіцы Пятра ў Рызе — якніяк, тут і паэт, і птушка, і паэзія. Хоць пераказ казкі заканчваю не там, дзе яна канчаецца, а на радку, які помню:

«І Лат, перш чым знікнуць у натоўпе, узяў пеўніка і высока падкінуў яго.

— Ляці!..»

Лёшка слухае ўважліва. Казка падабаецца. Але яму мала гэтае казкі. І я ўспамінаю малюначак з «Кнiганошаў»: «Чалавек ужо нерухома ляжаў на прыбярэжным жвіры, а кнігі ўсё яшчэ падалі. Цяжкія турманамі куляліся па камянях адхону, лёгкія галубамі ляцелі ў паветры».

І тады Лёшка кажа:

— А ён і пасля прыходзіў да мяне на Варварынскую. Заўсёды прасіў падняць галубоў. Ляжа ў садзе на траву і глядзіць у неба, як мае хмарачосы кругамі ходзяць. Гадзінамі стаялі ў небе. Вернуцца — ажно кроў пад крыламі. А пасля я паехаў да брата ў Адэсу. Нашу ж хату знеслі. І галубятню знеслі. І хату, у якой жыў твой Пятрок, знеслі. Галубоў я ў Адэсе завёў. З імі звяжашся — на ўсё жыццё. Такая хвароба.

Дзень звычайны, будзённы. На рыначнай браме замок, бо рынак збірае людзей і жывёлу толькі ў нядзелю. Але мы доўга стаім перад брамаю, усё роўна як чакаем — вось-вось адчыніцца. Над ёю, белай, у белым зімовым небе нам бачацца белыя манахі. Нам — бо ўпэўнены, што іх бачыць і Лёшка. Яны зноў падымаюцца над Старажоўкаю ў чыстае высокае неба і там, у вышыні, ператвараюцца ў вялізныя белыя рамонкі.

А пад імі, бігамі, зноў стаіць, як некалі, мудрэц з гарэзнай дзяцінай душою, казачнік, які здзіўляў і здзіўляўся. Ён стаіць, як тады, з ускінутымі ўгару рукамі і з шырокіх рукавоў паліто выпускае ў неба ўсё новых ды новых бялюткіх Лёшкавых галубоў.

Ён любіў волю, выдатна, як мала хто з сённяшніх паэтаў, ведаў, што гэта такое, і дарыў яе, волю, усяму жывому. І самому сабе, пакутуючы ад няволі.

Ён добра ведаў, што птушкі павінны лётаць, чазенія павінна расці, барс павінен гойсаць па лесе, а Гражына Арсайла павінна кахаць мужнага Будрыса Севярына. І што гэта, толькі гэта, — «свята і пір жыцця».

*1986*

## ТРОЙЧЫ ПРА СТРАЛЬЦОВА

### І прадчуванне, і лёс

З гадамі ўсё часцей не знаходзіш згоды са светам, з людзьмі, з самім сабою. Ну а хто, ну а што вызначае меру нязгоды? Ці не той самы свет? Ці не тыя самыя людзі? Ці не ты сам? І калі гэта так — дзе логіка?

Свет, аднак, ратуецца тым, што вазе ёсць процівага, нязгодзе — згода.

Я не адразу, пасля пэўнага роздуму, адкрываю сінюю, колеру жнівеньскай ночы, вокладку, але адразу пазнаю за ёю, адкрытаю, яшчэ з пахам друкарскай фарбы, блізкі голас:

> О роднае маё! Як доўга да цябе
> Ішоў я, кволы падарожнік.

Чую… і бачу: бальшак, узараны дзвюма глыбокімі каляінамі, бярозавыя прысады, за старымі бярозамі — жыта з пажоўкла-спалавелым коласам, за жытам — зялёныя чубы алешніку, а далей, за алешнікам, ваколіцу вёскі. І ўсё гэта не абы-якое, не абы-чыё, не безназоўнае, усё канкрэтнае, дзе ўсяму свая назва. Вёска — Сычын, бальшак — сычынскі, жыта — сычынскае. А за Сычынам — Сож, найпрыгажэйшы ў Дняпра сын.

І ён, Міхась Стральцоў, канкрэтны сычынскі чалавек, пад бярозамі, сышоўшы з бальшака, каля жыта, не то разгублены, не то задумлівы, з жытнёвым коласам на далоні. Стаіць…

> За вёскаю, на адзіноце,
> Асеннім днём…

Не ілюстрацыю — гук шукаю ў паэтавай, любай ягонаму сэрцу, прасторы, агароджанай хоць бы і вокладкамі апошняй

паэтычнай кнігі «Мой свеце ясны». Ён, адчуваю, можа дапамагчы зразумець разгубленасць, заякараную думкай, перад роднаю вёскай, у якой паэт не быў гадоў дзесяць, перад сустрэчаю з маці і бацькам, якіх так даўно не бачыў.

Ні развітання, ні спаткання,
А толькі вусцішнасць быцця:
Нібы пра згубнае каханне
Пяе няўцямнае дзіця.

Дык вось ён… і яно: гук зямнога быцця, стан нематы і прадчування, аснова, ад якой няма збавення раскалыханай душы, дакладней — мелодыя родных дарог, палёў, лясоў, ваколіц, прысад, асацыіраваная з мелодыяй прадчування. Яна, гэтая мелодыя, так сугучная з блокаўскай: «О, Русь моя! Жена моя! До боли нам ясен долгий путь…», кіруе паэтам, затрымлівае ў глыбокім роздуме на сцяжыне да маці, бацькі, роднага парога, хоць тым самым і ствараецца пагроза кінуць цень на яго сыноўнюю вернасць. Пагроза ўзнікае і знікае. Бо ёсць талент, які перасцерагае ад кроку за пагранічную лінію, дзе, калі б не ён, было б цяжка апраўдацца нават нормамі паэзіі, паэтычнай душы, якія — паэзія і душа,— бывае, не лічацца і з нормамі людскасці. У тым і сакрэт, што ёсць дакладная мера рызыкі, якую дыктуе талент, хоць ён з-за сваёй прыроды як быццам і не пільнуе — не яго гэта прызванне — разумную меру. Ён жыве інтуіцыяй, а не разлікам. Тут — інтуіцыяй меры. Яе ўладай.

Там, на бальшаку пад Сычынам, я аб гэтым не падумаў. Я тады быў здзіўлены, што сын не спяшаецца ў родны дом, да якога пяць хвілін хады. Тады думалася іначай: ну, чаго ты, дружа, стаіш, марудзіш?..

Назаўтра мы пакідалі Сычын. Выехаўшы за вёску, зноў спыніліся на тым самым бярозавым бальшаку, ля таго самага жыта. Прыглушана іграла ў машыне старадаўняя лютня, гэтак засяроджана і прачула ў стрымана-ціхай вусцішы поля і бальшака, што не думалася пра нейкі там магнітафон, нібыта ён — віноўнік, музыка ўспрымалася як жывое дыханне жытнёвай сцяблінкі-саломінкі ці аргана жытнёвай сцяны, што стаяла ўскрай поля ў чэзлых валошках. Усё тут было развітальным. І нават думка — нечаканая:

— Ці ўбачу яшчэ калі-небудзь? Ці гэта — апошні раз?..

Пра бярозы на бальшаку?..

Праз год памёр бацька, працавіты і мудры вясковы настаўнік і араты Лявон Клімавіч. Неўзабаве пакінула Сычын і маці, Марыя

Міхайлаўна,— паехала, цяжкахворая, жыць да дачкі ў Слаўгарад. Сплыла да чужых рук родная хата. Круг вёскі… замкнуўся?..

Уразіла дакладнасць прадчування: «Ці гэта — апошні раз?..»

Прадчуванне заўсёды наведвае сапраўдную паэзію і не адпускае сэрца паэта. У паэзіі Стральцова — маю на ўвазе і ягоную прозу, і ягоную эсэістыку, бо ўсё, што ён піша, можна назваць паэзіяй,— дар і магія прадчування асабліва ўражліва звязаны з вёскаю. Ён ніколі не фарсіраваў тэму вёскі, як і любую іншую тэму, у сваёй творчасці, не выходзіў — проста не ставіў перад сабою гэтакай задачы — на яе кардынальныя, гістарычныя ці бягучыя сацыяльныя напрамкі, яго вясковы свет на першы погляд звужана-асабісты, амаль камерны. Але вострае адчуванне лагічнай перспектывы, выдатны зрок і слых на рэальнасць выводзяць аўтара, а за ім і яго чытача, да балючых кропак вёскі і ўсяго грамадства.

Як з тым сенам на асфальце. Дакладны мастацкі вобраз спакушае, каб на яго спаслацца. Але ж ёсць яшчэ іншая спакуса — паставіць пытанне: ці ў гэтай мастацкай формуле ўся вышыня сацыяльнага адчування і прадчування Стральцова?

Нават — у рамках апавядання «Сена на асфальце».

«Мне хацелася, даўно хацелася прымірыць горад і вёску ў сваёй душы, і гэта была мая самая патаемная і самая душэўная думка»,— прызнаецца сімпатычны і аўтару, і чытачу герой Стральцова. А я ўпэўнены, што сам аўтар доўгія гады жыў гэтай думкаю. Ёю жыло і жыве не адно пакаленне людзей. Можа, боль гэты ў людской душы з таго часу, як на зямлі з’явіліся гарады? Ва ўсякім разе, мала хто з пісьменнікаў нашага з ім пакалення абмінуў гэтую тэму. Не адно дзесяцігоддзе літаратура адчувала яе даволі востра. Адчувае сёння. І не Стральцоў яе адкрыў. Ён, мабыць, проста ўвасобіў яе ў найбольш удалы мастацкі вобраз. А што далей? Ці знайшоў Віктар, герой апавядання, гэтае прымірэнне ў сваёй душы? Хто знайшоў? Паставіўшы пытанне, аўтар ужо тут, у апавяданні, беспамылкова адчуў усю складанасць праблемы. І адказу на яе не даў. Другі герой апавядання Ігнат, больш бывалы і мудры, як малады Віктар, робіць выснову, якая супярэчыць патаемнаму жаданню Віктара: «А можа, праўда дзядзькі Ігната, і чалавеку па-сапраўднаму трэба штосьці адно: горад ці вёска?..»

Большае пісьменнік прадчуваў і ў першых апавяданнях, але пэўна, як лёс, тое большае выявілася ў аповесці «Адзін лапаць, адзін чунь». «Шукаю шэрую вёску, вёску сваю. Баюся: вышэзны

і лёгкі, не прысяду там на парог, як самалёт рэактыўны не сядзе на травяністым аэрадроме… Я плачу. Зоркі — слёзы мае».

Прадчуванне страты вёскі? Так. Яно будзе ўсё часцей трывожыць паэта, напаўняць яго паэтычныя радкі то «змрокам у палях», дзе «сіберна і пуста», то «маркотай асенніх лугоў», то днём, «святло якога дагарае,— не пакідаючы надзей, са мною разам памірае».

Як быццам ты стаіш каля
Апошняй рысы ці парога.

Адкуль гэтае прадчуванне і адчуванне страты? Ці ёсць падставы, каб гаварыць пра «апошнюю рысу»?

Зноў мне бачыцца Сычын.

Вось настаўнік Дзмітрый Бандаркоў — насустрач: «Каго бачу-у!..— Доўгія рукі расставіў, як абхапіць госця, а з ім і ўвесь свет, забыўшы на каромысел з паўнюткімі вёдрамі на плячах. — Нам, Міхась, трэба пагаварыць. Даўно я цябе чакаю…»

Мужчыны ідуць да хаты. «Здароў, Цепа!.. — Гэтак, Цепам, аднавяскоўвец Васіль Іванавіч, па-вясковаму — Чапай, заве ўсіх. Танклявы, смешна-вясёлы, з адной рукою, пад якой у падпашшы пара новенькіх, з крамы, боцікаў — падарунак жонцы. Абдымае Міхася — боты падаюць пад ногі. — Дай я цябе пацалую. Ну, дзякуй, што разукрасіў у сваіх кніжках нашу зямлю. А я ж таксама стараюся жыць па совесці…»

І цётка Дуня — з радасцю да пляменніка. Расказала пра жыццё ў вёсцы, пра карову, параілася, трымаць яе, адной жывучы, ці збываць, калі збыць, то дзе малака шклянку купіш, ці прадасць хто, бо ў вёсцы цяпер людзі за капейчынай не ганяюцца, дадуць так, не за грошы, а так, без грошай, возьмеш раз, другі — трэці браць пасаромеешся. І пра дровы пагаварылі. І пра сад. Клопату ў вёсцы — не пазычаць. А пасля, нагаварыўшыся, душу ў цёплай размове адвёўшы, дастала цётка Дуня з куфра прыгажэнны ручнік: «Табе, Міша, берагла. На памяць. З чыстага палатна. Сама ткала, вышывала».

І дома — усе насустрач. Над матчыным ложкам, у галовах, дзе старыя абразы вешаюць, фотаздымак сына, яшчэ маладога, калі ў твары такая бязмерная любасць да свету, да людзей, да ўсяго жывога.

Вёска вітала, прымала, як свайго. Дык, можа, ён сам… не мог ужо з ёю па-ранейшаму?..

Споведзь у паэта — вершы.
А там — з апошняга:

> Ды як аддаць, мой свеце любы,
> Аднойчы ўзяўшы падарож,
> Святло той рэчанькі Галубы,
> Якую прыгалубіў Сож?
> Ці тыя засень або ясень,
> Той луг, аблогу, мурагі,
> На сенакосе Касю з Ясем,
> За імі — копы і стагі…
> Яны са мной — і мною сталі…

Гэта — так. Гэта — споведзь.

Тут усё намнога складаней, як сувязі вонкавыя, усё не высвеціш і масткамі ў маленства, хоць на мастках тых, святых, пэўнасць і яснасць.

Калі мы здзіўляліся нейкай незразумела-дружнай настальгіі маладой і не маладой літаратуры па гадах маленства, Стральцоў таксама скіроўваў сваю ўвагу ў тыя гады — пісаў пра Іванку, падобнага да «жаўтлява-светлай саломінкі, вытыркнутай са страхі», пра дзеда Міхалку, якога Іванка любіў «даўно і так кроўна», не ведаючы пра тое сам, пакуль не вырас, пра чуні, падораныя дзедам Трахімам,— найвялікшую радасць маленства. Пісаў «На чацвёртым годзе вайны». Усё гэта было як быццам на тую самую тэму, што і ў іншых, але не выклікала ні пытанняў, ні папрокаў у настальгіі — адразу прыходзіла да нас як з'ява мастацтва. І заставалася з'явай у літаратуры.

Тут цяжка ўстрымацца, каб не згадаць фразу, якая ў галаве здаўна, усё жыццё, не забываецца: «Маленькі васьмігадовы Цёма стаяў над зламанай кветачкаю і з жахам думаў аб безвыходнасці свайго становішча». Гэтак — памятаеце? — пачынаецца «Дзяцінства Цёмы» Гарына-Міхайлоўскага.

Дзіўлюся, як гэтая фраза не забылася за сорак ці нават болей гадоў? У чым яе сіла? У дакладнасці светаадчування хлопчыка і адчування сябе самога ў свеце? Ці ў парадаксальнай для нас, дарослых, і такой бясспрэчнай у маленстве адэкватнасці паміж адной-адзінай сцяблінкай-кветачкай і цэлым жыццём? Ці ў злоўленым моманце, калі кропелька болю маленькага чалавека зліваецца з сэнсам самога жыцця, з усім зямным болем? І ці не тое самае — ды тое ж, вядома,— адбываецца з Іванкам. Што яго акружае? Двор, вуліца, разлапістая Піліпчыкава лясоўка,

чародка вераб’ёў, сумёты снегу ды сцюдзёны пранізлівы вецер? А як арганічна гэты свет Іванкі падключаны да свету высокага, да сусвету з усёй яго дыялектыкай і філасофіяй, да духоўнай вышыні жыцця наогул. І ўсё, амаль усё, праз адчуванне сябе ў свеце і свету ў сабе.

Гэтае арганічнае, больш за тое — высакароднае, сумяшчэнне свету дзіцяці, адной-адзінай жывой істоты, з сусветам — не толькі ў аповесці Стральцова. Уся яго паэтыка, ва ўсіх жанрах і творах, пранізана незвычайна абвостраным гуманізмам, даверам да пачуццяў і сваіх, аўтарскіх, і свайго героя, да яго і свайго болю, смутку і радасці, да адчуванняў ва ўсёй іх складанасці і суб’ектыўнасці. А гэтая гуманістычная мастацкая пазіцыя і пазбаўляе герояў Стральцова замкнёнасці ў сваім прыватным свеце, выводзіць іх боль на арбіту агульначалавечую.

Адсюль напружаны ўнутраны — не вонкавы — рух у творах, рух, якім насычаны і вобразы, і сюжэты, і аўтарскія разважанні. І не толькі рух. Адсюль у значнай меры лаканізм пісьма, высокі эстэтычны эквівалент слова, натуральная аўтарская раскаванасць, асабліва ў прозе і эсэістыцы.

Культура пачуццяў стварае культуру слова.

«Ідуць ужо халады, бяруцца прымаразкі — ападаюць інеем сырыя туманы. Чарсцвее зямля, і цёмным, ільсняна-халодным зяленівам б’е ў вочы парадзелая пры дарозе трава. Ужо выпетрала зябліва…

І вечарамі, і ўранку марозліва, хмельна, бы першаком, пахне ў наваколлі дымам. Такою парою ў вёсках свяжуюць вепрукоў».

Узяць адразу, з першага сказа, дакладны і арганічны тон, рытм, адразу стварыць настрой, вобразны свет, пранізаны выразным аўтарскім пачуццём, сугучным з музыкаю зямлі, прыроды, пары года, як гэта зроблена ў апавяданні «Смаленне вепрука», можна адно маючы ў душы вельмі чуйны камертон. Ад прыроды? Вядома. Але і не толькі.

«Бабуля — высахлая, з учарнелым ад работы і старасці тварам — адсцябала матузамі малога ўнука за тое, што паабшчыпаў, не дачакаўшыся вячэры, акрайчык ацеслівага, спечанага з бульбы і ячменных шароек хлеба.

Малы не заплакаў, толькі не сваім голасам войкнуў…»

Памятаеце? Ён заплача ўжо на двары, пасля. Ды так, што слёзы яго з таго часу не прасохнуць у нашых вачах. І гэта — таксама толькі пачатак апавядання. Іншага: «На чацвёртым годзе вайны».

Цяжка ў літаратуры пазбягаць паралеляў. Калі пішаш, калі чытаеш, разважаеш. Яе свет агромністы. Тут усё дарэшты можна з чымсьці параўноўваць, узвышаць ці прыніжаць паралелямі.

Неяк, чытаючы прозу Стральцова, мне цікава было трымаць на стале пад рукою томік прозы Буніна. А чытаць — то аднаго, то другога. То «Адзін лапаць…», то «Жыццё Арсеннева». Спачатку рабіў гэта інтуітыўна.

Спыніўся на фразе ў самым пачатку аповесці Буніна: «У нас нет чувства своего начала и конца. И очень жаль…»

Крыху пазней: «Не рождаемся ли мы с чувством смерти? А если нет, если бы не подозревал, любил ли бы я жизнь так, как люблю?..»

Далей — зноў прыпынак: «Как передать те чувства, с которыми смотрел я, мысленно видя там, в этой комнате, Лизу?» І далей: «Как выразить чувства, с которыми мы вышли утром из вагона?»

Нарэшце: «Я вдруг почувствовал эту Россию».

Пачуццё! Як магутна яно рухае думкі Буніна, усю яго прозу! Ён шукаў яго пастаянна, нечаканае і дакладнае, ім правяраў усё і ўсіх, самога сябе. І калі гаварыць пра ўладу яго прозы над чалавекам, дык гэта ж улада сэрца над сэрцам. Ці не гэта ён хацеў сказаць аднойчы і маладой пісьменніцы: «Вы умница и многое отлично чувствуете».

І ці не блізкае да гэтага — хоць бы ў «Роздуме» Стральцова:

«І так хараша, жыва паўстаюць у памяці ранейшыя радасць і смутак, і так шкада, як падумаеш, што не вернеш ужо назад ні такой, як тады, радасці, ні такога смутку. А яны ж так трэба цяпер мне: навошта мне, каб радасць, пасталеўшы, стала ціхамірнасцю, а смутак — журбой?

І так трывожна і боязна…»

Заўважым: радасць і смутак? І прыгадаем іншыя творы пісьменніка: як часта палярныя пачуцці суіснуюць пад адной сарочкай? Не проста суіснуюць — ствараюць свет, глыбокі і ёмісты. І гэта ўжо не тыя пачуцці, адчуванні, што толькі ад прыроды, ці, як кажуць, ад Бога. Лёсам трэба спазнаць, што надта радавацца рызыкоўна, а доўгая журба невыносная, як «размінаецца душа з другой душой — і плача вецер», што «дарога — то хмель на ёй, то дзераза», а «надзея… Тыя ж болькі…». Сімбіёз перажыванняў параненай душы і душы мудрай? А чаго яшчэ?.. Адзіноты?..

Адзінота — лёс гордага генія. Адзінокімі былі Талстой, Дастаеўскі, Бунін. Ці адны яны? На вяршыню Парнаса амаль усе, здаецца, узыходзілі пад ярмом адзіноты. Натоўпам туды не

ішлі. Леў Талстой казаў, што раіцца драбяза, вераб'і, напрыклад, толькі арлы не пакідаюць гордае вышыні адзіноты.

Сёння, у нашым прагматычным грамадстве, гэтая вышыня не ў пашане. Дружным табуном лягчэй пражыць. Постаць мастака, які адбіўся ад талакі, чарады, застолля, групоўкі — як тут ні назаві,— стала рэдкасцю. Але ж ярмо адзіноты баслаўлёнае найвышэйшым знакам літаратуры. Самім Львом Мікалаевічам. І Пушкіным: «Поэт!.. Ты царь: живи один».

Не пра тое размова, каб мастак жыў адзін, як пустэльнік. Пра тое, што ён не павінен баяцца адзіноты. Каб з гонарам нёс яе крыж. Тым больш што адзінота мастака пладаносная.

І тут з нейкай прачула-абвостранай павагай, з пачуццём светлага вызвалення бачыш Стральцова, яго задумліва-самотную постаць у нашай сённяшняй літаратуры. Ну а што такое «Загадка Багдановіча», стварэнне, бясспрэчна, залатога пяра, як не рана, прыкладзеная да раны? Што гэта, як не Максімаў боль, зразуметы сваім болем? І ці было б гэтае эсэ нашай нацыянальнай класікай, калі б «ядлоўцавы куст» ягонага чалавечага лёсу выдаўся не такі жорстка-калючы, а ягоная паэтава сцежка на нейкім цяжкім віражы прымкнула да дружна-змоўніцкай талакі? Яшчэ адна асаблівасць Стральцова здзіўляе і радуе: пакутлівая вернасць мастацкаму слову, высокамаральнай місіі пісьменніка, вернасць, якая ніколі і ні ў чым ні ў якай меры не трацілася, як бы ні складваўся асабісты лёс. Жыць і пісаць даводзілася ў розным стане душы, розных абставінах, спрыяльных і немагчымых, у стане творчага ўзлёту і ў стане прыгнечанасці, але патрабавальнасць да слова заставалася самай высокай, мастацкія крытэрыі не размываліся. Пісаў рэцэнзіі на кнігі сяброў, але ў ніводнай з іх няма ніводнай ацэнкі, па-сяброўску завышанай. Пісаў пра творы тых, з кім сэрца не дзяліў, але і гэта не ўплывала на аб'ектыўнасць ацэнак. Літаратура заставалася вышэй за асабістае.

Проза, паэзія, крытыка, эсэістыка. Так, талент Стральцова шматгранны.

Каб рэалізаваць сябе ў слове дарэшты, патрэбны не толькі ўмовы, талент, але і сілы. Ну, а калі іх не стае? Пісаць напаўсілы? Маўчаць? Гэта можна. Гэта не амаральна. Але ж Сальеры радуецца, калі маўчыць Моцарт. Можа, дагадзіць Сальеры? Не варта, маючы мужчынскі характар. Ёсць іншае выйсце: пісаць тое, што можна пісаць і не маючы свайго пісьмовага стала, на калене, скажам, тое, на што, магчыма, і сіл хопіць. Вершы? Ну, а калі і на вершы не момант? Тады — эсэ? А яшчэ выйсце — рэцэнзія?..

Жанравы чатырохсценак нагадвае майстэрню Моцарта, у якой душа творцы кідаецца ад сцяны да сцяны, чуючы цень Сальеры.

На падтрымку свайго адчування адкрыем яшчэ раз паэтычны зборнік «Мой свеце ясны»:

І рытмы тыя, ды ўжо лад другі.
І ў сэрцы холад цупкі…

Першыя радкі верша, пачатак — на разгон думкі і пачуцця. А што ў канцы, у апошняй страфе?

Ды скруха скорыцца журбе,
Душа ізноў рахманай стане,
І твой зласлівец на цябе
У неспакоі раптам гляне!

Верш стрыманы, Годнасць паэта на вышыні. Але ў жыцці ўсё гэта куды больш жорстка і канкрэтна.

Паленіка — не галоўная якасць паэзіі і прозы Стральцова, нават ягонай крытыкі і эсэістыкі. Іх найпершая якасць — лірычнасць. Лірыка акварэльнай прыгажосці. Асабліва — у прозе. Акварэльная пластыка, акварэльная чысціня і празрыстасць, акварэльная адухоўленасць і лёгкасць слова-мазка, слова-вобраза.

Мне ўспамінаецца выдатны беларускі акварэліст Мікалай Лукіч Тарасікаў. Калі мы — Міхась Стральцоў на год пазней, а я на год раней — вучыліся на аддзяленні журналістыкі ўніверсітэта ў Мінску, ён выкладаў нам факультатыў па выяўленчым мастацтве. Гэты таленавіты жывапісец і найдабрэйшы чалавек быў зусім не педагог, студэнты на яго лекцыях рабілі што хацелі, а ён губляўся і чырванеў. І вось аднойчы нехта з нас, студэнтаў, разглядаючы акварэльны партрэт маладой жанчыны, спытаў у выкладчыка: «А скажыце, як гэта так намалявана, што пад сукенкаю відаць жаночае цела, нават яго колер? Сукенка блакітная, мы бачым, што блакітная, але пад ёю бачым ружовае цела. І грудзі… якія грудзі!.. Які колер і тон!..» Тарасікаў разгубіўся і маўчаў, усё мацней чырванеючы. А студэнт не супыняўся, заўважыўшы, як разгубіўся выкладчык: «На чым, скажыце, гэтыя фарбы разведзены? Не на вадзе ж, вядома?..» І тады наш незвычайна сціплы выкладчык рэзка ўскінуў галаву, чырвань умомант схлынула з яго твару, твар збялеў. Ён рашуча рушыў на студэнта і ў самы твар яму выкрыкнуў: «На чым разводзяцца фарбы?.. Вы не ведаеце?.. На слязах, малады чалавек!.. На болі!..»

Амаль што разам з кнігай «Мой свеце ясны» выйшла і яшчэ адна новая кніга Стральцова — «Пячатка майстра», пад вокладкаю якой сабраны літаратурна-крытычныя артыкулы і эсэ апошніх гадоў. Кніга пра пісьменнікаў, якія ў сэрцы аўтара, каго ён аднойчы спаткаў на сваёй дарозе і з імі побач, радуючыся гэтай блізкасці, доўжыць свой шлях служэння нацыянальнай літаратуры. Пра Купалу, Бядулю, Гарэцкага, Чорнага, Хадыку, Мележа, Пысіна, Брыля, Панчанку, Вялюгіна, Зарыцкага, Барадуліна. Пра іншых. Аналітычна, з грунтоўнай літаратуразнаўчай эрудыцыяй, а разам з тым без акадэмічнай мудрагелістасці, разбураючы звыклыя літаратурна-крытычныя штампы, віртуозна спалучаючы навуковы аналіз з публіцыстычным, а дзе і белетрыстычным словам, Стральцоў аргументавана вызначае месца выбраных ім празаікаў і паэтаў у рэчышчы гістарычных нацыянальных традыцый і жывой літаратурнай плыні, у той жа час даючы іх жывыя партрэты. Культура думкі, свой лад і стыль, высокія, без збою, крытэрыі, тонкі, адметна стральцоўскі густ і такт ва ўсім робяць кнігу своеасаблівым самапартрэтам Стральцова — даследчыка і мастака, які, калі пакарыстацца ягоным вызначэннем ролі Максіма Багдановіча, «творыць і аналізуе, аналізуе і творыць. І пастаянна трымае руку на пульсе літаратурнага працэсу». І тут ужо тое высокае вызначэнне літаратурнай працы, што вынесена ў назву кнігі, хочацца адрасаваць самому аўтару: так, «пячатка майстра» — і ў ягонай руцэ.

А гэта ён усім нам даводзіць ужо шмат гадоў.

За начнымі шыбамі маёй крычаўскай хаты злуе халодны восеньскі вецер, нервова лепіць у шыбы дажджом і размяклым лісцем з яблынь. Я адчыняю старую, яшчэ бацькаву, кніжную шафу і раптам, побач з кніжкамі і бутэлькаю некалі недапітага віна, бачу аркуш паперы з пасевам раўнюткіх радкоў машынапісу:

«…а пакуль проста молішся няўзнак не запарушанай зайздрасцю жыццёвай удачы: памажы нам яшчэ калі-небудзь тут зноў, няхай хоць ва ўспамінах, а найболей памажы нам там, дзе будуць з намі гэтыя ўспаміны і яшчэ, можа, звыш таго. Нешта пакідаю я тут, нешта бяжыць наўперад мяне па дарозе. Тутэйшае, яно ці не хоча, апярэдзіўшы, пазнаць мяне дома і адчыніць вароты».

Вось і яшчэ напамін аб тых, двухгадовай даўнасці, вандроўках па Магілёўшчыне. У тое лета тут, на стале каля шафы, стаяла мая пішучая машынка. Мы з Міхасём тады вярнуліся з Лімені. А вось і пра яе — далей:

«У Мінску пазваню табе, дружа, каб падзячыць за радасць стрэчы з нечым неад’емна сваім, нашым, што там, у Лімені,

цярпліва чакала нас і, дзякаваць богу, не прачакалася. Наталіўшы, яно адпусціла нас, хочацца думаць, з лёгкім сэрцам, але наказала вяртацца сюды, можа, і з цяжарам на душы — па цудадзейныя свае лекі. Няхай будзе бласлаўлёная ўлада ўсяго роднага нам».

Вярнуўшыся з Лімені, мы тады ж вярнуліся і з Сычына. Але… што там, раней, у гэтых нататках я не дагаварыў, апраўдаўшыся шматкроп'ем? Пра страту паэтам вёскі?..

А можа, гэта страта неабходнай чалавеку, кожнаму, тым больш — паэту, упэўненасці? Ад таго, што вёска не так, як жадае душа, ды і яна сама, калі ў яе запытацца, мяняецца? Можа, адчуванне страты — ад разгубленасці, як перад той забруджанай канаваю, у якой дзіця Галубы не магло пазнаць сваёй любай рачулкі?..

Помню яго пытанне — немаведама да каго:

— Навошта загубілі Галубу?..

І думку цяжкую:

— Ці гэта лад?.. Ці гэта бязладдзе?..

Дык ці не ў гэтай разгубленасці прычына страты і вёскі, і многіх-многіх ненапісаных акварэляў у прозе, якіх мы, чытачы, даўно чакаем ад Міхася Стральцова?

І ўсё ж… няхай…

«Няхай будзе бласлаўлёная ўлада ўсяго роднага нам».

*1987*

## Пейзаж знаёмы

Пісаць пра пісьменніка пры яго жыцці альбо пісаць пасля яго смерці? Здаецца, пытання няма. Пішы пры жыцці, пішы і пасля. Але калі да гэтага пытання дадаць яшчэ адно: пра каго размова? Калі ўдакладніць, што пра Стральцова? Тут крытыкі падзеляцца на тых, хто мог гэта рабіць пры ім, жывым, і на тых, хто пры ім, жывым, рабіць гэта не мог альбо з прычыны той, што не знаходзілася глыбокіх думак і дакладных слоў, альбо перашкаджала рэўнасць, зайздрасць. А яшчэ выплываюць і тыя, каму пісаць цяпер, як ён пакінуў нас і адышоў з зямнога раю ў нябесны, нялёгка, душой і сэрцам цяжка, і тыя, каму якраз цяпер рабіць гэта прыйшлі жаданне, смеласць. Быў ён жывы — быў сам сабе суддзя. Чый суд у літаратуры быў вышэйшы? І вось — яго няма. Цяпер хто суддзі? Вядома — мы, жывыя.

Пісаць пра Стральцова пры ім, жывым, маглі Адамовіч, Бярозкін, Брыль. Майстры пра майстра. Калі гэта адбывалася,

для чытача, які адчуваў мастацкае слова і мастацкую праўду, было свята. Як і тым, хто пісаў, пра каго пісалася. Пісалі і Барадулін, і Станюта — сябры. Пісаў і я. З прыемнасцю. Бо шмат што зблiжала нас, найперш — абодвум родны край, прысожжа чэрыкаўскае ды слаўгарадскае. Пра яго пісаў як для сябе, сваё і сябе адчуваючы праз яго. І тое, што сказаў тады, калі ён быў побач, тое, што ён мае думкі і слоўкі пра яго і наша чытаў, тое, як чытаў, як напісанае ўспрымаў, дае мне сёння не толькі права і жаданне, але і абавязак сказаць яшчэ раз пра яго з нечаканай нагоды, хоць звонку і звычайнай — успамінчык з самых апошніх, свежых, былога сябра.

У літаратуру яны прыйшлі ў адзін час, з адной студэнцкай аўдыторыі і, як піша Барыс Сачанка, былі ў сяброўстве: «Мы, сябры…» Потым працавалі разам, хадзілі адным «сяброўскім гуртам на Камароўскі рынак,» «насілі чайнікамі віно», «свежавалі паўкабанчыка». Цудоўна, адным словам, жылі, бо былі ўжо пры літаратурных ганарарах, выпадала, што і не пры малых. Ну, а далей, пазней? «Яго пачала акружаць новая кампанія». Куды ж дзявалася старая.? Старую Стральцоў пакінуў? Усё так: пакінуў, адышоў. І тут, каб зразумець Стральцова, задумаемся: чаму адышоў? На гэта Сачанка хоць не адказвае, але, сам гэта не заўважаючы, шмат што праясняе: «любіў кампанію», «спакойны, задумлівы стаяў…», узяўшы цыгарэтку, «маўчаў, з прыемнасцю зацягваўся дымком і слухаў, пра што казалі або спрачаліся, зрэдку ўстаўляючы сваё кароткае, але важкае, абдуманае слова. Яго больш цікавіла, што ў выніку, якая праўда, ісціна». Так. Стральцоў ужо тады не любіў слоў выпадковых, пустых, шукаў не лжывы шлях да мастацкай праўды, цудоўна разумеючы, як цяжка яго знайсці, не лжывы і не падманлівы, як лёгка ў жыцці хлуслівым самому збіцца на хлусню. «Мы адарваныя ад сапраўднага жыцця, жывем не так, як трэба жыць», — скажа ён Сачанку, і дарэмна Барыс Іванавіч, згадаўшы яго думку, не надасць ёй значэння, на ёй не запыніцца, над ёй не задумаецца, бо для Стральцова яна і тады, і пазней была не выпадковай, магчыма — карэннай у жыцці літаратурным. Старэйшае пакаленне прынесла ў літаратуру жорсткі вопыт вайны, тым вопытам напоўніла свае творы. А з чым, з якім жыццёвым вопытам прыйшлі шасцідзясятнікі, так званае філалагічнае пакаленне? З веданнем хатняй, у роднай вёсцы, гаспадаркі? З успамінамі маленства? З настальгіяй, часам падобнай на старэчую, па рачулцы ды гаёчку ў роднай вёсцы, па першым каханні? З ведамі

жыцця, атрыманымі з школьных ды ўніверсітэцкіх падручнікаў! Не толькі, вядома, але набытага жыццёвага вопыту было замала, каб рэалізаваць сябе ў літаратуры, асабліва ў прозе, як хацелася. І вось, робячы беглае апісанне стральцоўскіх думак і яго «заблытанага» жыцця, Сачанка ставіць тую думку сябра, што жывём «не як трэба», у іранічны падтэкст разам з назваю аповесці «Конь гуляў па волі…», якую Стральцоў нібыта задумаў напісаць і не напісаў, не паспеў, як не паспеў напісаць і шмат што іншае. Зрабіўшы гэты ўвенчаны шматкроп’ем радок назваю сваіх успамінаў, былы сябра дорыць нам, чытачам, і сваё, як бы таму радку лагічны працяг, недвухсэнсоўнае адкрыццё: конь гуляў… і дагуляўся.

Кожны вольны прачытваць творы, іх аўтарскія задумы і асобныя з іх выняткі па-свойму. Ёсць усяму гэтаму сваё прачытанне і ў мяне.

Што такое воля — Стральцоў ведаў з маленства. Хата ў Сычыне, вёсцы, стаяла на самай ускраіне, за ёю пачыналіся луг і лес. Пад вокнамі бегла да лесу Галуба, рачулка, спяшалася ў абдымкі прыгажуна Сажа. Свой хатні кот сядзеў на беразе і лапаю выцягваў з рэчкі то рыбіну, то рака. Зусім блізка жылі бабры.Ранічкаю, на ўзыходзе сонца, яны выплывалі з нораў, мыліся, плёскаліся ў рэчцы, а Міхась неаднойчы сядзеў на гэтым самым беразе за кусточкам і ўглядаўся ў іх вольнае жыццё. Была і ў двары гаспадарка, тыповая для вёскі, сялянская, з каровай, свіннямі, цялятками, курамі ды гусямі. Але маці і бацька былі настаўнікамі, вясковымі інтэлігентамі, і побыт у доме быў чымсьці іншы, як у сялян. Яго вызначалі не толькі гаспадарка, але яшчэ, не ў меншай меры, кніга, сшыткі, размовы і пачуцці ўзвышаныя, якія таксама жыццю давалі свой асаблівы сэнс і лад. Воля воляю, але тут і яна ведала рамкі школьнага, інтэлігентнага выхавання. Міхась гэта з маленства адчуваў не толькі як дзіця вясковай прыроды, але і як сын строгіх настаўнікаў. Ён быў інтэлігентам у другім, як мы кажам, калене, што шмат у чым вызначала духоўнасць ідэалаў з маленства. І той самы адыход ад некаторых сяброў — ці не адыход маладога інтэлігента ад яшчэ не інтэлігентаў і ўжо не сялян (хай яны даруюць мне гэтую вольнасць думкі), хоць і людзей ужо інтэлектуальнага выбару? Задумацца ёсць над чым, асабліва калі прасачыць далейшы шлях Стральцова, куды і да каго пайшоў, разышоўшыся з некаторымі сябрамі, і ў які бок пайшлі далей яны — што шукалі? А ёсць і гэтакае пытанне: ці быў ён з самага пачатку сваім у той тусоўцы, як мы тады казалі?

Аб гэтым у аналітыка ёсць красамоўныя дэталі: «Ён браў у рот цыгарэтку, маўчаў і слухаў, слухаў, пра што казалі альбо спрачаліся суразмоўнікі… Не, ён ніколі не падліваў алею ў агонь. Яго часцей цікавіла ісціна, праўда». Пра гэта прыгадваецца неаднойчы: слухаў, маўчаў, думаў. І тут узнікае яшчэ пытанне: ці не пра тое думаў, куды, у якую тусовачку трапіў?..

Але спачатку: якімі дарогамі пайшлі далей — яны і ён? Ну, разышліся. А далей? Якія каштоўнасці вызначылі яго ды іх выбар?

Жыццё Стральцова да самага апошняга дня было неўладкаваным у сэнсе побыту. Калі-нікалі сябрам, якія яго блізка ведалі, здавалася, што яно пачынае наладжвацца, але раптам ізноў разбуралася. Ён зведаў усё, што мог зведаць чалавек, якому ўсюды не шанцуе: бяздомнасць, холад і голад, страту сям'і і сяброў, працы, якая корміць і поіць, разводы не толькі з жонкамі, але са звычайнымі жыццёвымі ўтульнасцямі. Ён ад усіх нягод ратаваўся ў слове і думцы, у працы розуму і сэрца, але бываў пазбаўлены нават магчымасці пісаць свае цудоўныя апавяданні, эсэ, вершы. І разам з тым яго не назавеш няўдаліцай. Усё, што трэба, каб жыць прыстойна, ён мог займець раней за іншых. Былі розум, талент, абаяльнасць, аўтарытэт. Але ўсё, што іншыя шукалі доўга і ўпарта, чаго дамагаліся, чым даражылі, ён сам з ахвотаю, не зразумелай іншым, губляў лёгка і хутка. Навошта? Гэта ведаў толькі ён. Але пытанне наша, не яго. І які мы знаходзім адказ? Вышукваем у яго фатальнасць, шчарбінкі ў характары, цынічна смакуем яго ЛТП — такая ахвота ў іншых праведнікаў ад літаратуры штосьці ў яго жыцці паставіць на сваю, толькі ім вядомую палічку. А для яго тых схем не існавала. Ён схемы адкідаў як хлам. І ў творчасці, і ў побыце. Што знаходзіў? Найперш — духоўную свабоду. І на руінах побыту? Так. Быў у гэтым небяспечна высокі кошт? Але гэтакае рэальнае жыццё — яно кошт выстаўляе. Стральцоў зразумеў гэта рана і выбар свой зрабіў даўно. Там і яго адказ на пытанне, якое закранае былы сябар: «Не гэтак мы жывём, як трэба жыць». Калісьці паэт рэвалюцыі і яе ахвяра сказаў, што лодка паэзіі разбілася аб побыт. Стральцоў свядома разбіў свой побыт аб лодку паэзіі, каб не здарылася адваротнае. Іншага выйсця ў літаратуры не бачыў. Што адбылося б з ім, калі б застаўся ў ранейшым хаўрусе, дзе шанаваўся найперш побыт? Зрабіў бы тыя свае высновы? Гадаць нам цяжка. Але ўсе, хто там застаўся, ягонага выбару не паўтарылі. Там усё было па формуле паэта рэвалюцыі. Паэзія працавала на побыт, была яго служанкаю. Беглі

радкі за радкамі, з’яўляліся кнігі за кнігамі, новыя і прыгожыя, каля канвеера стаялі напагатове нанятыя і загадзя аплочаныя рэцэнзенты-алілуйшчыкі, у выдавецтвах і рэдакцыях сядзелі свае выдаўцы і рэдактары, падвышаліся тыражы і ганарары, вярсталіся двухтомнікі, трохтомнікі. І гэта там, у тых тусоўках, з’яўляліся крылатыя ў той час радкі, падобныя на гэты: «Я твой трубач, таварыш камсамол!..»

А ўрэшце: каго жыццё на бераг вынесла і хто пайшоў на дно? Стральцоў сёння на беразе. З намі. Кажуць, што яго апошняе апавяданне «Смаленне вепрука» — лепшае беларускае апавяданне. Гэтак катэгарычна, магчыма, і не трэба. Хіба таго мала, што адно з лепшых нашых апавяданняў? Літаратура не любіць ацэнак катэгарычных, вызначэнняў са слоўкам «самае». Прывабнасць апавядання Стральцова ў непасрэднасці такой звычайнай, простай, без ілжы, рэальнасці, у таямніцы і загадках сціплай прыгажосці, якую мы так часта не заўважаем і якая жорстка разбіваецца аб грубы, халодны, пячорны побыт.

Стральцаў прыгожы быт любіў, любіў яго ўтульнасць і чысціню, любіў прыгожыя рэчы, чыстую вопратку, разумна-прыгожыя твары, разумна-прыгожыя думкі і словы, якія ўзвышалі і літаратуру, і побыт, сам узвышаўся духам, святлеў настроем ад іх прысутнасці ў сваім жыцці. Любіў з добрай кнігай у адной руцэ і цыгарэткаю ў другой сядзець у чыстым пакоі на канапе альбо ў мяккім крэсле, чытаць, спыняючыся на прыгожым слове, і лашчыць на калене вострую мордачку сваёй любімай Ліскі, сабачкі. Усміхаўся ёй і прачытанаму радку. Хоць усмешка ў яго на твары была часцей з гарчынкаю, схаванай у душы глыбока, там, дзе душа разгублена двойчы. З большай ахвотай усміхаўся Лісцы, нібы малюнку з жывой кнігі маленства на беразе Галубы. Дык вось — быт. Стральцоў яго, утульны, непрымусовы ва ўзаемаадносінах з людзьмі, абставінамі, душою, дэмакратычны, любіў, у ім адпачываў. Але тады ці не занадта жорсткім, як ахвярнасць, выглядае яго пастаяннае разбурэнне свайго побыту? Ці не спрачалася ў душы адно з другім? Не. Тут, як у яго ўсюды і заўсёды ўсё арганічнае, сваё. Гэтакім шляхам ён ратаваў сваю лодку паэзіі і ў ёй — таго самага вепрука. Пайшоў на іншую глыбіню жыцця. Адтуль, з новай глыбіні, падаваў сігналы бяды і ратунку былым сябрам: «Калі душа маўчыць, гібее розум наш…» Але тыя, яшчэ нядаўна свае, яго не чулі. Душы тлусцелі, пачуцці не адгукаліся, вусны нагаворвалі новыя ды новыя томікі, ішло спаборніцтва — хто выдасць больш, томік не лепшы, а таўсцейшы. Ён зноў папярэджваў:. «Але ж…. Але ж смяротныя і

мы. Пенсіянерам па Інфарктштрасэ пацягнеш за сабою ўсе свае тамы…» Не чулі. Тамы сыходзілі з канвеера адзін за адным — усё было мала. Ён ужо казаў з іроніяй: «Спярша на рукі хукай, пасля ўжо твары…» Яны яму не даравалі гэтага, і ўжо яго кніжачкі не з’яўляліся на свет, выляталі з выдавецкіх планаў, бо тыя сябры былі ўжо пры пасадах ва ўсіх часопісах і выдавецтвах. Толькі аднойчы задумаў сабраць напісанае ў двухтомнік, і ён ужо стаяў у выдавецкім плане, але ў самы апошні момант знік з плана. Тую гісторыю я добра ведаю, бо тады і мой двухтомнік з таго плана вылецеў. Выкідвала адна рука — сяброўская. У выдавецтве «Мастацкая літаратура». Мы са Стральцовым, памятаю, ішлі па праспекце Машэрава і гадалі: хто гэта зрабіў, які мярзотнік? Зайшлі ў выдавецтва: плячыма паціскаюць — не ведаюць. Міхась з горыччу пасміхаўся, мяне супакойваў: «Не бяры да сэрца. Прывыклі жыўца заглытваць». Зайшлі ў парк. Над галовамі крумкала варannё. Камякамі гразі сядзела, чорнае і тлустае, на кожным старым дрэве: крум-крум-крум…

Дык што знайшоў Стральцоў у сваім нялёгкім, з цёрну, вянку? Духоўную свабоду і ў ёй — вепручка? А што яшчэ? Мала пісаў? Так, на жаль, мала. Але на гэтае «мала» як паглядзець. Адзін погляд у бухгалтара, другі — у мастака. Ды і што гэта — працяглае маўчанне ў літаратуры? Дабро ці зло? А можа вялікае мастацтва? Хіба няма часам адчування, што гэтае мастацтва шмат хто дарэмна ігнаруе? Хіба Стральцоў не папярэджваў: «Але ж, бывае, слова — срэбра, маўчанне — золата, браток!» У гэтым былыя сябры яго не разумелі. Для іх маўчанне было вялікай стратай: кніг, ганарараў, смяхотнай, для іх — патрэбнай, гульні ў сваю значнасць. Для яго — аховаю сваёй творчай свабоды і маралі, свайго адметнага слова. Маўчаў, казалі, ад страты, згубы сябе і слова? Але ж тады, калі парушаў сваё маўчанне і пра сябе нагадваў хоць вершыкам, хоць эсэ, хоць мімалётнай фразай, кожны раз сведчыў, што вышыні палёту не губляў, ніколі і ні ў чым не апускаўся да слова недакладнага, бясколернага, выпадковага. Хіба не тады бывае гэтак ў паэта ці празаіка, калі маўчанне — праца сэрца і розуму, напружаная і натхнёная?

Ну а тыя, хто маўчаць не хацеў альбо не ўмеў? Пісалі што і як? Рознае і па-рознаму, але і тое было бачна, што лепшае з напісанага належала да часоў Камароўкі і малдаваніна з чайнікам. Адзін з іх у той час пісаў добры раман і неблагія апавяданні, пазней — раман за раманам і ўсё слабейшыя, каціўся пад адхон. Другі пачаў з цікавых апавяданняў, шмат абяцаў, але далей пайшлі надуманыя аповесці, слабы раман, праходныя апавядан-

ні — ужо не адчувалася рэальнага жыцця. Вядома, жыццё — і камерсант татальны: хочаш бязбедна жыць, мець утульны побыт, шмат мець і мала аддаваць — плаці згодна рахункам. А рахункі пры сацыялізме не рыначныя, больш жорсткія — дзяржаўныя, плаціць па кожным трэба сваёй свабодаю, сумленнем. За міласці ўлады, за радасці наменклатурныя. За ўсё.

Вось — два рэчышчы нашай літаратуры. Не ў апошні час яны ўзніклі. Былі і будуць. Але ў кожнага ёсць выбар, якім плыць рэчышчам. І ўсяму ёсць мера. Павінна ўсяму быць мера.

Вось — «Конь гуляў па волі…» Не той, што мог адбыцца ў Стральцова, а той, што адбыўся ў яго былога сябра. Вось радок пра гуманітарнае ахвяраванне — як гэта мы не ведалі раней? «Я пазычаў яму грошы. І раз, і два…» Далей — сцвярджэнне: «Ён з цяжкасцю вяртаўся да ранейшага пісьменніцкага жыцця. Спрабаваў зноў уладкавацца на працу, але рэдактары, ведаючы Міхася, пыталіся, «ці не сарвецца» зноў. Гэта яго зневажала, злаваў. І замыкаўся ў сабе. Цяпер, сустракаючыся, рэдка што-небудзь казаў, рэдка што-небудзь пытаўся. Яго пачала акружаць новая кампанія. Ён захапіўся перакладамі, паэзіяй. Амаль перастаў піць». Далей — дзяжурныя словы пра тое, што «мы, яго сябры», што ён ужо перад смерцю «выходзіў на светлую і ясную дарогу».

Таксама — стыль. Чытай і думай, як гэта зразумець, ранейшае і гэта, як з усім гэтым, Стральцова ведаючы, пагадзіцца. Што пазычаў грошы — дробязь жыцця. Хто паспрыяе пісьменніку чырвонцам, як не пісьменнік грашавіты? Гэтакае наша жыццё: то самі пазычаем, то пазычаем іншым, то вяртаем пазычанае, то забываем вярнуць. Але далей? Хадзіў па рэдактарах, шукаў працу? Ці не блытае тут былы сябра Стральцова з кімсьці іншым? У апошнія гады Стральцоў працаваў у рэдакцыі часопіса «Нёман», туды, на пасаду загадчыка аддзела літаратурнай крытыкі і мастацтва, яго запрасіў сам галоўны рэдактар Анатоль Кудравец, залічыў на пасаду без усялякіх пытанняў, сарвецца альбо не сарвецца. У рэдакцыі яго прыходу ўсе былі радыя, ён працаваў у аддзеле разам з Алай Іванаўнай Сямёнавай, яны выдатна разумелі адно аднаго і публікацыі па аддзелу ішлі цікавыя. Ніхто ані словам яго там не «абражаў», ён працаваў спакойна і не «злаваў» ні на каго. «Замыкаўся ў сабе»? Ах, хто з нас не замыкаецца, калі працуе думка? Быў нешматслоўны па характару з маленства, і гэта зусім не тая замкнёнасць, што ад нейкай драмы. «Цяпер, сустракаючыся, ён рэдка калі што-не-

будзь гаварыў, рэдка што-небудзь пытаўся…» Дык і што з таго? Мабыць, не меў у тым патрэбы? Ён ніколі славесны бісер не раскідваў, ведаў, з кім і пра што гаварыць, калі маўчаў, то думка працавала і гаварыў найбольш ахвотна з сабою. «Яго пачала акружаць новая кампанія»? Ох, гэтая маніякальная прыхільнасць да кампаній. Але з таго часу, калі Стральцоў пакінуў тую, што паслася на Камароўцы з чайнікам ля малдаваніна, кампанію, ён ужо бачыў у ёй, любой, хаўрус, бо кампаніі па маладосці ды творчасці лёгка ператвараліся ў хаўрусы па камерцыі, выгадзе ў асяроддзі хапуна і варажнечы. У хаўрусы збіваліся і пісьменнікі, каб лягчэй праз хаўрусныя сувязі пражыць, а Стральцоў быў чалавек самадастатковы, на сяброў не разлічваў, усяго, тым больш у літаратуры, дасягаў сам. У яго былі проста блізкія людзі, сябры, блізкія па духу, маральна. І я ў тыя гады з ім сябраваў. У нашым сяброўстве бывалі хвалюючыя старонкі.

Памятаю халодную восеньскую ноч на чыгуначным вакзале ў Мінску. Была чацвёртая гадзіна ночы. Імжыў вераснёвы дождж. Мы з Лідай, жонкай, выйшлі на перон. Яна праводзіла мяне на цягнік. Я ехаў у Парыж на канферэнцыю ЮНЕСКА, на два з лішкам месяцы. Раптам з цемені з’явіўся Стральцоў. Божа мой: у глыбокую ноч, у халодны дождж. Падышоў, усміхаецца: «Ну, старычок, не мог я, разумееш, не правесці цябе». Кажу: «Мы ж з табою развіталіся?» Усміхаючыся, дастае цыгарэтку, закурвае. Ужо ў вагоне, утульным — для дыпламатаў, суе мне штосьці ў кішэню. «Там, — кажа, — у Парыжы паглядзіш». На вакзале ў Парыжы я дастаў з кішэні яго пакуначак: папера, у ёй — кавалачак чырвонай калійнай солі, скол пароды. На паперцы — радкі: «Хай гэты драбочак скамянела-салёнага поту нашай беларускай зямелькі будзе табе ў Парыжы салодкім напамінкам усяго роднага. Люблю Парыж. Міх. Стральцоў». Гэты драбочак ляжаў у мяне ў атэлі на стале. Гледзячы на яго, я ўспамінаў Міхасёву «Згадку пра Поўнач» і ў ёй радкі: «Я сядзеў і чытаў пра Парыж далёкіх дваццатых гадоў, пра маленькія кафэ, булачныя, пра брукаваную старую вулачку Нотр-Дам-дэ-Шон, на якой быў дом нумар 113, а ў тым доме…» Далей — пра тое, як Парыж любіў Хемінгуэй. Чытаючы, я адчуваў, як і Стральцоў любіў Парыж праз таго ж, магчыма, Хемінгуэя, або праз Бальзака, Гюго, Мапасана, Ван-Гога, Рэнуара, або праз перапіску Тургенева з Палінай Віардо. Ніколі не быўшы ў Парыжы, ён любіў свой Парыж, створаны ўяўленнем, і праз драбочак роднай нам абодвум зямлі, начным развітаннем у Мінску на вакзале, хацеў

зноў далучыцца да хвалюючай яго тэмы Парыжа. Там, у Парыжы, я ў тую восень пісаў эсэ пра Аляксея Пысіна, якога мы з Міхасём любілі і як паэта, і як чалавека, нашага з ім земляка, і драбочак роднай зямлі, пакладзенай сябрам мне ў кішэню, падказаў увесці ў эсэ Парыж. Цяпер мне здаецца, што тое маё жаданне Стральцоў прадбачыў.

На гэтай ноце мне б і закончыць свой роздум. Але не магу не вярнуцца яшчэ раз да апошняй, напэўна галоўнай думкі нашага мемуарыста: «З цяжкасцю ён вяртаўся да ранейшага пісьменніцкага жыцця». І крыху далей: «…ён якраз выбаўляўся з блытаных сцежак жыцця, зноў выходзіў на светлую і ясную дарогу…»

Няма патрэбы казаць яшчэ раз, якую дарогу ў літаратуры Барыс Іванавіч лічыць светлай і яснай. Тут усё зразумела. Ёсць патрэба сказаць і падкрэсліць: якая гэта злая няпраўда!

Стральцоў заўсёды актыўна жыў літаратурай, яго галоўнай дарогай заўсёды была дарога Празаіка і Паэта. Так, з вялікай літары. Таму што мала хто ў наш час свядома валодаў такой незалежнасцю, цяжкой, але непахіснай, унутранай, па сэрцы і думцы, свабодай творчасці. Якую ж яшчэ «светлую і ясную» мог знайсці Стральцоў? Тую, з якой сышоў маладым, дзе ёсць усё, акрамя свабодай народжанага слова? Калі гэтая «светлая і ясная дарога» ўсяго толькі стэрэатып мыслення, велікадумна прапанаваны, як той чырвонец, тады бяда невялікая: сказанае забудзецца. Але калі гэта глыбокае перакананне, тады лішнім не будзе падкрэсліць яшчэ раз: «блытаных сцежак» у Стральцова не было. Яго хада ў літаратуры заўсёды была прынцыповай і яснай, высакароднай і сумленнай, калі літаратуру не разумець як нейкі яе сурагат, а пошукі мастацкага слова і вобраза лічыць працай нялёгкай, рызыкай натуральнай, непазбежнай. Гэтай дарогаю ён ішоў непахісна і мужна.

Проста ў яго была заўсёды свая дарога. А гэта — шчаслівы лёс. Хоць і цяжкі.

Вядома, натоўпам гэтакай дарогай не ходзяць. Але няўжо яе так цяжка зразумець вопытнаму пісьменніку? Ці, можа, няма жадання гэта прызнаць за ісціну?

Зноў, не ў свой час, адліга, якая для самапачування горшая за мароз. Возера не першы раз за зіму вызвалілася ад лёду, зноў плаваюць качкі, якіх мы з Алёнкай, унучкай, падкормліваем.

На чорных вільготных дрэвах крычыць вараннё. Я пакідаю возера, каб не чуць брыдоту. Але ад чарады, што расселася і

валтузіцца на дрэвах, нейкі адзін воран ляціць за мною. Я іду ад яго ў глыбіню парку, а ён peралятае з дрэва на дрэва і ўсё крумкае нада мною, цяжка і злосна, да хрыпаты. Чорны дзень прарочыць? Я іду хутчэй, пятляю сцежкамі, а ён мяне ўсё не адпускае. З-за таго крумкання зусім хачу пакінуць парк і выходжу на алею, што вядзе ў бок праспекта Машэрава, але і воран ужо на алеі. Нарэшце замоўк. І раптам як крумкне, ледзь не ў самае вуха, праляцеўшы нізка міма мяне, з нейкай пячорнаю хрыпатою: я здрыгануўся, спыніўся. Быццам з мае галавы сарваўшыся, ён ляціць над алеяй у той бок, куды іду я. Э-э, думаю, у пачвары вышэйшы пілатаж, пікіруе, нібы ў голаў хоча дзюбай дзеўбануць. Маёй крыві захацеў? Бачу: назад, мне насустрач, вяртаецца. Схапіў я камень, замахнуўся, а ён, ведаючы, што каменем у яго не пацэлю, зноў пікіруе і зноў як крумкне.

Я выйшаў на праспект, звярнуў, гуляю паўз бераг Свіслачы. Крумкач з галавы не выходзіць.

І думкі… пра смерць.

Пісьменнік заўсёды павінен думаць пра смерць. Шэдэўры літаратуры часцей ствараюцца з вострым адчуваннем блізкай смерці.

Адчуванне смерці робіць пісьменніка дэмакратычным, роўным з усімі смяротнымі. Яно дае выйсце ў самыя патаемныя глыбіні людскога жыцця.

Адчуванне смерці пазбаўляе пісьменніка спакусаў разбэшчанага жыцця і ўлады. Яно прымушае быць вышэйшым за атлусцелы натоўп.

Адчуванне смерці робіць пісьменніка філосафам непадманнага рэалізму, праўды жыцця.

Адчуванне смерці прымушае пакідаць тусоўку, не баяцца адзіноты, жыцця самадастатковага, каварстваў тусоўкі і свайго вяртання ў прыроду яе арганічнай часткай, пясчынкай неабдымнага і магутнага цела.

Аддуванне смерці вядзе пісьменніка да Бога, але не дзеля ратунку ад смерці, дзеля служэння свайму першавытоку ў жыцці і ў смерці.

Цяжка жыць з пастаянным адчуваннем смерці. Але цяжка толькі ў той меры, у якой цяжка быць сапраўдным пісьменнікам. Вянок з цёрну — самы варты яго вянец.

Гэтак жыў Максім Гарэцкі, якога любіў Стральцоў. Гэтак і сказаў:

«Слава жыццю!

Слава і смерці!»

У смерці наша вечнасць. А жыццё — толькі для таго, каб зразумець гэтую жорсткую ісціну і, яе зразумеўшы, у кожным сваім дні бачыць найдаражэйшы дар Божы.

*1993*

## «Мой голас… у веку наступным пачуецца»

Міхась Стральцоў у родных бярозках на родным бальшаку пад Сычынам — светлы акорд нашага з ім лета 1985 года.

Тады, пакінуўшы на беразе Сажа пад Чэрыкавам маю Лімень, мы ехалі ў ягоны Сычын. Калі пад'язджалі да вёскі, ён папрасіў спыніць машыну. Выйшлі з яе каля бяроз. Ён стаяў, усміхаючыся, абхапіўшы іх, як сястрычак, за бялюткія ў сонечнай чысціні ствалы, светлы і сам у белай сарочцы пад гальштукам, сонечны, і я проста не мог не схапіцца за фотаапарат. Цяпер гляджу на фотаздымак і бачу тую дарогу ў Сычын, тыя бярозы, той ясны летні дзень, нічым як быццам не азмрочаны, але яшчэ, зусім нечакана, шукшынскага Ягора Пракудзіна, як ён абдымае родныя бярозкі перад смерцю, яе блізкасці не прадчуваючы. Навошта як быццам мне тут той Ягор? Я ведаю навошта, бо з болем адчуваю лёсавы і псіхалагічны збег шукшынскага кінакадра з фотаздымкам. Ну, вядома, пачуцці Стральцова на здымку, у той наш дзень, былі свае, у іх не было кіношнай лірыкі і драмы, была ціхая, вельмі сціплая, да вусцішнасці непаказная засяроджанасць на шчымліва сваім, размова з родным, вышэй — з радзімай, без слоў, душой і сэрцам, са слязой, якую я неаднойчы бачыў у ягоным воку. Блізкай бяды мы тады не адчувалі. Ён перайшоў на другі бок дарогі — зноў я шчоўкнуў фотаапаратам, зноў ля бяроз, ужо іншых, здзіўлены тым, што Міхась і тут ззяў той самай радасцю. Звычайна яго ўсмешка была нядоўгая, яе заўсёды пільнавала драбінка горычы, падсцерагаў цень смутку — таму, магчыма, што пастаянна пра штосьці думаў, а ў думках усяго хапала, святла і змроку.

За дарогаю, за бярозамі, даспявала жыта, за ім прыдарожным спалавелым шнурам стаялі зялёныя кусты алешніку, далей быў лог, за логам уроскід — сычынскія хаты, хлявы, платы.

Той дзень, тую дарогу ў Сычын, тыя бярозы, жыта я ўжо ўспамінаў у першым сваім эсэ пра Стральцова. Вось — зноў. Бо кожны ўспамін выводзіць на нейкія яшчэ малюнкі, дэталі, глыбіні роздуму. І ўсё з гадамі, кожная драбніца, падаецца значным.

Міхась зайшоў у жыта і, цярэбячы ў руках каласок, задумліва глядзеў на вёску, можа — і на сваю хату, потым павярнуўся тва-

рам да мяне, і гэта ўжо быў іншы твар — пагасла-шэры, змрочны, быццам там, за жытам, дзе шукаў сваё, знайшоў чужое. Альбо, заўважыўшы сваю страху, злавіў і нейкі ўспамін пад ёю? Ці нашы ўспаміны роднага заўсёды светлыя? Гэта было так звыкла для яго: з жыццёвае кудзелі высмыкваць нітку ўспаміну. Хіба не з гэтае, з-пад роднае страхі, кудзелі і радкі: «… ён бачыў сябе жаўтлява-светлай саломінкай, вытыркнутай са страхі, — яна трымцела, грала, смуткавала і гарэзіла разам з ветрам; вецер шкуматаў яе, але ўсё адно любіў, і яна любіла яго, і баялася, і не баялася ягонай моцы».

Калі аповесць «Адзін лапаць, адзін чунь» была надрукаваная ў часопісе «Маладосць», і мы, сябры, чыталі з захапленнем, не проста зразумеўшы, але адразу палюбіўшы Іванку, ягонымі вачыма і ягоным сэрцайкам бачачы і перажываючы сваё, кожны сваё, ваеннае ды пасляваеннае маленства, тады ўсе ўбачылі ў Іванку самога Міхася, а наша да яго прыхільнасць і любоў прырасплі яшчэ і любоўю да Іванкі. І нават тая жаўтлява-светлая саломінка, вытыркнутая са страхі на вецер, каб ён яе шкуматаў то гарэзліва, то балюча, здавалася ў маіх вачах і сэрцы вобразам самога Стральцова.

Так, ён і да скону быў той саломінкаю на вятрах, яшчэ адтуль, ад бацькавай ды матчынай страхі, вятры яго не шкадавалі, а ён ад іх і не хаваўся, бо ведаў, што гэта лёс мастака-беларуса — заўсёды быць на сваіх, хоць і на могілках, вятрах.

У вёску мы прыехалі, калі ўжо добра шарэла. Пачынаў імжыць дробны, нейкі восеньскі, грыбны дождж. Пад'ехалі да хаты. Міхась звякнуў на варотцах клямкаю, праз двор адразу падаўся ў хату. Я затрымаўся каля машыны. Неўзабаве Міхась выйшаў з хаты разам з маці Марыяй Міхайлаўнай. Яна сказала, што бацька ў лесе, з суседам рыхтуе на зіму дровы, паказала, у якім лесе, як туды праехаць, і мы пакацілі шукаць дрывасекаў.

Пілу пачулі, як толькі заехалі ў лес. Лявон Клімавіч і маладзейшы мужчына крыжавалі бярозу. Заглушылі пілу, пагаманілі — сцямнела. Трэба было дарэзаць дзеравіну, але піла ўжо на заводзілася. Вяртацца ў вёску? Мне якраз прыгледзеўся вялізны кап на жывой бярэзіне, з'явілася ахвота яго ўзяць, і Лявон Клімавіч пачаў настройваць пілу. Залілі ў яе бензін, паставілі новую свячу — завялася. Звалілі дрэва, ужо як было цёмна, выразалі кап, уклалі ў багажнік машыны, пакрыжавалі і тую бярозу. Дождж імжыў, мы змоклі, ужо я дакараў сябе, навошта спатрэбіўся той кап, але пасля, як вярнуўся дадому ды агледзеў

у дзівоснай бярозавай нарасці абрысы ды формы бабра, як вылушчыў формы з непатрэбнае закарэласці, не выгаблёўваючы, абшкроб наждаком, пацягнуў лакам, дык і зарадаваўся: ну якраз бабёр, пра якога ў той сычынскі дзень казаў Міхась, — як жыў звярок у Галубе, рачулцы Міхасёвага маленства, пад самай хатай, як Міхась хлапчуком падпільноўваў яго, за ім сачыў, і як той, яго заўважаючы, да сябе не падпускаў блізка, заўсёды паспяваў даць нырца з берага ў рэчку.

Галубы тым летам ужо не было — звялі меліяратары. Але яна, жывая і паўнаводная, засталася ў памяці, і да апошніх дзён з яе, жывой, выплывалі думкі ды вобразы, радасць і смутак паэта:

Прысніўся, верш — не верш, а два радкі:
Абломак лодкі ўсплыў са дна ракі,
І кружыць вір счарнелую траву.
З абломкам лодкі к берагу плыву.
Прачнуўся… Дзень трывогаю прапах,
І два радкі гаркотай на губах.

Ад рэчкі маленства на той час заставаліся канава, зялёная лагчына паміж пажоўкла-бурых берагоў, грудок лам’я на былым дне ды ламіны, можа, ад былой лодкі, на былым беразе.

Гаркоту страты паэт адчуваў усё жыццё.

За вячэраю ў Сычыне мы не заседзеліся. Я ведаў, што Міхась шмат гадоў не быў у вёсцы, у роднай хаце, даўно не бачыўся з бацькам і маці, ды і заехалі на адну ноч, каб ужо назаўтра раніцай развітацца, і я пакінуў Міхася з бацькамі. Загнаў машыну ў двор, раскінуў у ёй спальны мех і ўлёгся.

Распагодзілася, узышоў месік, выбліснулі ў высокім небе зоркі, ноч настроілася ціхая, светлая. Доўга свяціліся вокны ў хаце, і так да душы было ляжаць з адчуваннем, што свет ва ўсе бакі адкрыты насцеж, што ляжыш паміж агнёў у вокнах і агнёў у небе, са свайго зацішку ды прыцемку бачыш шырозны абсяг і ў ім — вёску Стральцова, матэрыяльную і духоўную планету яго вачэй, яго душы, яго памяці, яго паэзіі і прозы.

Запомнілася і раніца.

Прачнуўся я ад гоману гусей. Вялізныя белыя птахі сабраліся ў чараду пасярод двара і, павыцягваўшы ў мой бок доўгія шыі, хутчэй абурана, як мірна-згодна, гагакалі і шыпелі, абмяркоўваючы напэўна маю нечаканую прысутнасць на іх двары. Я вылез з машыны. Тут і Міхась на ганак выйшаў:

— З кім гамоніш?

Паперадзе чарады стаяў самы вялізны, смелы і дзіўна белы, чысты, аж ззяў, гусак, пагагакаў басам, грамчэй за ўсіх астатніх, выкаціўшы шырокія грудзі, надзьмуўшы таўстую шыю.

— Ды вось, — кажу, — паслухай і ты Шаляпіна.

Міхась рагатаў, аж цыгарэтка вывалілася з рукі пад ногі.

— Ну, так, Шаляпін. Бацькаў любімы бас.

Паснедаўшы, загаварылі пра ад'езд. Прыйшоў сусед, з якім Лявон Клімавіч збіраўся зноў ісці ў лес да сваіх дроў. Усе выйшлі ў двор і тут яшчэ раз сфатаграфаваліся, як кажуць, на памяць. Лявон Клімавіч прысеў на ганку з сякерай на плячы, з ім побач — сусед, Марыя Міхайлаўна — побач з сынам ля плота, на якім сохлі гарлачы, слоікі, вёдры. Сумна было развітвацца маці ды бацьку з сынам, як сыну з маці і бацькам, з роднаю хатай, прадчуваючы, што гэта — апошняя сустрэча, аб чым Міхась сказаў мне па дарозе: прызнаўся ў змрочных прадчуваннях. Праз два гады я гэта ўспомніў і жахнуўся — як чула яго сэрца!

Сэрца Стральцова: два пачуцці — пачатку і канца — вельмі моцныя, абвостраныя, што асабліва выявілася ў мастацкай прозе, найвыразней у творах, якія Алесь Адамовіч назваў хрэстаматыйнымі не толькі ў часе, калі напісаныя, але і для стагоддзя наступнага: «На чацвёртым годзе вайны», «Адзін лапаць, адзін чунь», «Смаленне вепрука». Эмацыянальная памяць маленства ў іх выключная. Здзіўляе багацце найтанчэйшых нюансаў у пачуццях хлапчука, хоць і Іванкі, іх глыбіня, дакладнасць, натуральнасць выхадаў да высокіх адчуванняў дабра і зла, жыцця і смерці, зямнога і нябеснага. Адкуль яны ў малога? Ад мудрасці самой прыроды, інтуіцыі, не прыбітай хлуснёю, — ёй Стральцоў давярае ва ўсім і таму пастаянна думае пра сябе — малога, настойліва шукае з ім сустрэчы і размовы.

Хачу я з тым, з маленства, хлапчуком,  
Свае гады ў дарозе пераняўшы,  
Спаткацца.  
. . . . . . . . . .  
Сагрэцца б толькі ім.

Жаданне не аднаго імгнення, не аднаго верша. Гэты матыў скразны праз усю творчасць. Ён моцна гучыць і ў аповесці. «Ты пазнаеш мяне?» — спытаў чалавек ў Іванкі, трымаючы шапку ў руцэ і трохі павярнуўшы ўбок галаву, як бы прыслухоўваючыся да нечага. «Дзядзечка, я не ведаю вас», — ледзь не заплакаў

Іванка. «Не трэба мне гаварыць — дзядзечка, — сказаў чалавек. — Я — гэта ты, Іванка. Толькі я дарослы, а ты малы».

Сон? Так, сасніў Іванка. Але гэтаму сну пісьменнік надае вялікі, не толькі для сябе, сэнс, адвёўшы яму не адну старонку надзвычай лаканічнай прозы. Святою чысцінёй Іванкі, шырэй — маленства, ён правярае і судзіць усё і ўсіх, сябе і тое, што напісаў, кожнае сваё слова. Ці шмат хто вытрымае гэтакі суд? Стральцоў вытрымлівае. «Ні ў чым, ні ў чым ён тут не вінаваты», — высакародна ўзвышае свайго суддзю і з палёгкаю, з поўным на гэта правам прызнаецца: «І я яму ніколечкі не вінен». Ці шмат хто гэтак яшчэ скажа?

Па дарозе з Сычына, не даехаўшы да Чэрыкава, мы спыніліся на скрыжаванні асфальтоўкі з лесавой, пясчанай, накатанай лесавозамі дарогай. Налева яна, лесавая, вяла ў Лімень, адкуль выязджалі ў Сычын, але цяпер звярнулі направа і неўзабаве пад'ехалі да брамы. Я выйшаў з машыны, адчыніў браму. За ёю ўзвышаліся старыя яліны, пад імі, на узгорку, стаяў дамок, за дамком праз алешнік блішчэў крынічна чысты ручай, стаяў стажок сена. У агароджы, якая замыкала гектараў дзесяць рознапароднага, пераважна лісцвянага, лесу, жылі алені, а хатка была прытулкам вальерных егераў, хоць называлася дамком паляўнічых. Мне гэта быў свой дамок, тут я жыў, бывала, што і падоўгу, тут пісаў «Пушчу» ды і не толькі гэты раман, адсюль выязджаў з егерамі паляваць кабаноў, ваўкоў, сюды вяртаўся з палявання, а Міхасю хатка была навіною.

Цяпер у хатцы нікога не аказалася, але ключ ад замка ляжаў у вядомай мне шчыліне, і мы яе адчынілі. Сцежкай спусціліся да рачулкі, абышлі кармушкі для аленяў, стажкі, хлявы, вярнуліся, селі за вялізны, на добрую каманду паляўнічых стол пад ялінамі. Міхасю спадабаліся і стол, і над ім яліны. Я прынёс вядро халоднай, з крыніцы, вады, пілі ваду, а тут і егер — Пятрок Ерафееў. З хаткі ён вынес каструлю са смажанай дзічынкаю, паўпляшкі сівухі. Сказаў, што быў на возеры, узяў качку, ужо не худая, не сорамна гасцей пачаставаць. Міхась ад сівухі адмовіўся, разлілі на двух з Петраком. Калі з размовы ён дазнаўся, хто перад ім са мною побач, падняў каструлю са смажанкаю, выхапіў з-пад яе кніжку, на якой каструля стаяла, паклаў на стол перад Міхасём. Кніга аказалася Міхасёва, апавяданні ў перакладзе на рускую мову, — «Двое в лесу». Міхась глянуў на мяне, я на яго. Крыху я разгубіўся, баючыся, што гэтакім прызначэннем кнігі, замест падстаўкі пад гарачую каструлю, Міхась будзе абураны, але ён спакойна ўзяў кнігу ў рукі, адгарнуў вокладку, за ёю знайшоў і

асцярожна паклаў сабе на далонь шыгалінку, старонку адгарнуў, другую, знайшоў паміж старонак бярозавую галінку, з засохлымі пупышкамі, пагартаў кнігу далей, усміхнуўся засохлым у ёй камарыкам і крылцам матылька, знайшоў яшчэ кветачкі, лісцінкі, усё гэтае багацце пакінуўшы паміж старонак, склаў кнігу, перавярнуў яе ўверх апошняй вокладкай, падзівіўся на сляды тлушчу ад каструлі, меншыя — ад конавак, шклянак ды кубкаў, чырвоных — ад віна. І тут ужо я здзівіўся яшчэ раз і абрадаваўся: сябра быў у захапленні — выплеснула з усіх берагоў:

— Ну, Пятрок Кірылавіч, ну, дзякуй вам за гэтыя лясныя аўтографы. Ну, дагадзілі вы мне! Ну, парадавалі! Яшчэ я ні ў кога не бачыў гэтакіх аўтографаў. Га, у каго яшчэ? Ну, хто пахваліцца?

Міхась кідаў позіркі то на мяне, то на егера, і па яго вачах я бачыў, што кажа ён шчыра, але Пятрок пачаў апраўдвацца:

— Ты паглядзі на першую вокладку, чыстая? Адна толькі пячатка ад віна, пляшка стаяла. А што ад скавародаў, чыгуноў, дык яны ўсе на апошняй вокладцы, дзе твайго — ні слова. Сам ведаеш, як гэта бывае, калі голай рукою выхапіш з агню пасудзіну. Сунеш пад яе што пад рукою, а пад рукою ў нас што? Твая кніга. Лесечка, абласны доктар, тут паляваў і чытаў, на ноч клаў пад падушку. Як ад'язджаў, нам пакінуў: чытайце.

Стральцоў стаміўся рагатаць — хіхікаў:

— Ну, кніжачка, ну кабета! Пабыла і пад чыгунамі, і пад патэльнямі, пад пляшачкамі. Нават пад доктарам!..

Жарт егеру спадабаўся:

— А хочаш, я раскажу пра генеральшу? Не, не анекдот, чыстая праўда. Быў генерал у нас, стары, паляваў лася, ліцэнзія была, а генеральша ў яго маладая. І хлопцы тады тут начавалі, егеры…

З маіх тутэйшых, на Ліменшчыне, лесавых сяброў Міхась найбольшую цікавасць меў да Петрака і Ягора Захаравіча Лісікава. Яны абодва людзі бывалыя, лясную акадэмію прайшлі ў лесе, у народзе, як кажуць, «ад» і «да», Пятрок з маленства ляснік і паляўнічы, а Ягор ляснік і рыбак. Ад прыроды і філосафы, натуральныя. Пятрок — яшчэ і ад вайны, на якой прайшоў праз Майданак, Дахаў, за што немцы, ужо новыя, мірныя, з ім да гэтага часу разлічваюцца і маркамі, і падарункамі. А Ягор пражыў сто чатыры гады, філосаф ад часоў рэвалюцыі. Я знаходжу ў сваім архіве касету, стаўлю ў магнітафон, слухаю галасы дзеда Ягора, Стральцова, ліменскага ляснічага Карпенкі, таксама сябра-нябогі. Запіс зроблены ў Мірагошчы, ад Ліменi — цераз Сож:

Лімень з-за ракі глядзіць на Мірагошч, Мірагошч — на Лімень. Там, у Мірагошчы — дарэчы, Стральцову вельмі спадабалася назва вёскі, усё вышэптваў яе сабе ды ўсміхаўся, націскаючы то на «міра», то на «гошч», — жыў Ягор, тут, у Лімені, Пятрок. Запіс зроблены ў Мірагошчы, у Ягоравай хаце. Стары «баіць байкі», а Міхась зрэдку аздабляе іх вершыкам, часцей — рогатам. Вось стары кажа:

«Дзела было за рэвалюцыяй, і я, значыцца, як малады, шукаў выйсце насіць хромавыя боты, каб са скрыпам. Прыйшоў да новай уласці і кажу: хачу абезаружваць кулакоў, як ворагаў беднага пралетарыя і мужыка. У мяне пытаюцца: якім пуцём? А такім, кажу, вельмі простым. Кулака сцеражэ сабака, а я буду яго абессабачваць. Уласць бачыць, што галава мая шурупіць — дала паперку, дакумент, што я маю на гэта дазвол рэвалюцыі, з пячаткаю, і пачаў я вайну супраць кулацкіх сабак».

Стральцоў рагоча, а Васільевіч, ляснічы, на поўным сур'ёзе вядзе допыт:

«Тут ты, Ягор, як той дзед Шчукар…»

Старому гэтакі недавер да яго не падабаецца:

«Я ў партыю не падаваў і Шчукар мне не таварыш».

Пра шолахаўскага Шчукара нашы леснікі чыталі, ведалі, калі хто не чытаў, дык чуў. Чуў і дзед Ягор.

«І ты страляў кулацкіх сабак?» — дапытваўся ляснічы.

«Ну, так…»

«А не хлусі. Душа ў цябе мяккая, добрая, з гэтакай душою страляць сабак ты не мог».

Ляснічы быў мудрэц, псіхолаг, зманіць перад ім было цяжка, кожнага ў лесе, у вёсцы бачыў навылёт, леснікі гэта ведалі, ведаў гэта і дзед Ягор, таму і пачаў раптам даваць задні ход:

«Дык я… дык я сабак сам не страляў, у мяне былі сябры, у іх былі ружжы, яны мяне за тое паважалі, што я быў рукавадзіцель, і яны стралялі…»

«А ты сабак лупіў?» — працягваў допыт ляснічы.

«Н-не, не лупіў…»

«Выробляў скуры?»

«Н-не, не выробляў, — губляўся стары. — У мяне быў друг яўрэй…»

«Ну, ты, Ягор Захаравіч, заліваеш. Сабак не страляў і не лупіў, скуры не выробляў, а боты хромавыя насіў ды яшчэ са скрыпам?»

Ужо Стральцоў не можа стрымаць рогат, а дзед Ягор не можа стрываць, каб яму не верылі, аж з-за стала ўсхапіўся, да-

казваючы: «Дык я ж меў працэнт як рукавадзіцель!.. Што такое рэвалюцыя, таварыш ляснічы?.. Я яе зразумеў — гэта ўмець рукавадзіць!..» Тут у старога, ад празмернага жадання даказаць, горла пераціяло, закашляўся, ажно са свістам. Дзедава хата разломвалася ад рогату. Нават старая Хадора прыбегла з двара, стаяла на парозе з сахаром, сціскала яго аберуч, не ведаючы, каго ёй тут ратаваць. Пакрысе рогат суціхаў, але даўжэй за ўсіх екатаў, угнуўшы галаў у плечы, Міхась — аж слёзы з вачэй каціліся. І ўжо плакаў насупраць яго, праз стол, дзед Ягор, ад таго, што ляснічы пры людзях сумняваўся ў тым, як гэта было, не хацеў даць веры чутаму пра хромавыя, са скрыпам, боты і кулацкіх сабак. Праўда, праз тыя свае слёзы і пасміхаўся блішчастым вокам на Міхася, маючы думку: хто не паверыў, а хто і паверыў — хай будзе так.

Іванкава неба — дзед Міхалка. Гэтае адчуванне Стральцоў добра ведаў, да скону насіў у сабе. Бязмежная дабрыня — на той мяжы, якую Міхалка адчувае ўжо як нешта небяспечнае, знак з неба, дарогу туды, на неба. Іншы, але таксама цікавы як тып дзед Трахім. І ці не ў гэтым шэрагу мудрых, усім патрэбных, вясковых дзядоў убачыўся Стральцову дзед Ягор? Бо вочы на яго загарэліся — вочы мастака.

Ёсць у Стральцова верш «Размова з часам» — споведзь і не толькі, прароцтва і не толькі:

Я — голас і думка, я — праўда і зрок.
Даў мову я камню, траве і расінцы.
Мой дзень — не імгненне, планеты віток,
Друкую свой крок на сусветным гасцінцы.
Спасцігнуць усё праз цябе я хачу,
Табою маё ўсё няхай апякуецца.
Знай пункты гульні.
А паруш — закрычу,
Аж голас у веку наступным пачуецца.

Век новы, наступны, пачаўся. У ім добра чуецца голас Міхася Стральцова. Ён не проста жыве ды радуе. І ў новым веку ён вядзе, як той лоцман, карабель мастацкага слова, нашай нацыянальнай літаратуры, людскія душы і пачуцці да вышыняў, якія аднойчы назваў «гамбургскім рахункам» і замацаваў залатою «пячаткаю майстра».

*2002*

# ЧАЛАВЕК І ЎВЕСЬ НАРОД

Калі мы, маё пакаленне, адкрылі для сябе Максіма Гарэцкага? З выхадам у свет двухтомніка яго твораў? А калі гэтыя два тамы прыйшлі да нас? Дзесяць гадоў назад? Так, усяго толькі — дзесяць. І як жа магло стацца, што пісьменнік, якога мы зусім не ведалі яшчэ нібыта ўчора, ужо сёння зрабіўся гэтакі адкрыты нашым вачам і сэрцам, ні ў чым, амаль… амаль ні ў чым не схаваны ад нас, і ўвесь перад намі — насцеж? Адкуль такое раптоўнае адчуванне: ён у нас самы адкрыты перад светам, перад усім народам? І чаму яго, Максіма Іванавіча, як нікога іншага, хочацца бачыць і бачыш не толькі ў кантэксце літаратуры, але і ў кантэксце жывога жыцця, народнага гістарычнага лёсу? Не толькі як пісьменніка, але як Чалавека.

Чаму гэта так? Чаму ён бачыцца гэтакім жывым, блізкім на гонях нашае Беларусі, на сваіх жорсткіх дарогах?

Вось — на парозе бацькавай хаты ў Малой Багацькаўцы, з якога не саступіш ціхім крокам на падлогу, а правалішся, нібы ў яму, на земляны ток.

Вось — у сялянскім жупанчыку, тым самым, што і на плячах Лявона ў «Меланхоліі», на кірмашы ў мястэчку Шамава.

Вось — у будзе балагола Якіма Іванавіча, які неаднойчы падвозіў Гарэцкіх ад станцыі Цёмны Лес да Багацькаўкі.

Вось — на полі бою Першай сусветнай вайны, дзе ён гэтакім Піменам-летапісцам занатоўвае ў блакнот усё, што адбываецца вакол, ды і якім там Піменам — не ў келлі, а пад градам зямлі, куль, снарадных асколкаў.

Вось — у Горках, у акадэмічных аўдыторыях, у спрэчках з тымі, хто не разумее яго сялянскай годнасці, яго праграмы нацыянальнага адраджэння.

У Гомелі, у бібліятэчным архіве ляснога навукова-даследчага Інстытута ляжыць рукапіс Вячаслава Іванавіча Перахода «Мой жизненный путь. Записки профессора». У тых запісах выдатнага вучонага ёсць радкі: «Работавший в Горках Максим Горецкий воевал с профессорами, которые не желали говорить по-белорусски, в том числе и со мною. Мое заявление, что белорусский язык не есть белопольский, вызвало резкую реакцию по отношению ко мне со стороны Горецкого». Дык можна ўявіць, чаго каштавала Гарэцкаму хоць бы і гэтая барацьба за нацыянальную культуру, калі нават Пераход, які падкрэсліваў, што ён беларус, дзіця Палесся, не разумеў Гарэцкага настолькі,

што, не вытрымаўшы спрэчак з ім, пакінуў акадэмію і выехаў з Горак у Свярдлоўск.

І зноў у самога сябе пытаюся: чаму Максім Гарэцкі гэтакі жывы і блізкі ў маіх вачах?

Можа, у гэтым вінаваты Гаўрыла Іванавіч і Галіна Максімаўна, брат і дачка, якія шмат і таленавіта робяць, што могуць, каб данесці да нас, сённяшніх чытачоў, а праз нас — у наступны век, вобраз выдатнага чалавека з Малой Багацькаўкі? Ці Леаніла Усцінаўна і Лёня, жонка і сын, якія пакінулі багатыя звесткі пра мужа і бацьку? А можа, гэта толькі маё адчуванне і яно ідзе ад таго, што вакол Малой Багацькаўкі я шмат пахадзіў і паездзіў, жывучы па суседстве ў Крычаве, працуючы на Мсціслаўшчыне карэспандэнтам «Магілёўскай праўды», ведаю і Цёмны Лес, і Шамава, і Белі, усе тры, першую, другую і трэцюю, лясы, у якіх панскі ляснік з драмы «Антон» ганяў бельскіх цётак, адбіраў у іх для сваёй пані грыбы ды ягады, а заадно для сябе, для сваёй жонкі, — хусцінкі ды спаднічкі?

Гэта ўсё, мабыць, так. Але ж…

Заслуга тут перш за ўсё самога Максіма Іванавіча, заслуга яго надзвычай рэдкага таленту — трымаць заўсёды адчыненай «браму скарбаў сваіх», скарбаў душы і памяці, усе свае скарбы аддаваць людзям без маны, нічога не прыхоўваючы, не наводзячы на сябе і жыццё ні глянцу, ні фарбаў. Ад гэтага чалавечага таленту яго творы ўспрымаеш не толькі як высокамастацкія, але і спавядальна-дакументальныя.

Сын Івана Кузьміча, лепшага багацькаўскага пчаляра, майстра плесці кашы, лапці, віць вяроўкі, здатнага да любой сялянскай работы, і Ефрасінні Міхайлаўны, лепшай багацькаўскай пявунні, ён добра ведаў, што на зямной ніве ёсць месца ўсяму жывому — чалавеку, жывёле, птушцы, мятлушцы і самай дробнай казюрцы.

Мастак слова, узятага напачатку з вуснаў Малой Багацькаўкі, ён заўсёды памятаў, што ніву сваіх твораў павінен насяліць усімі жывымі істотамі, якімі населена багацькаўская ніва.

Ён нарадзіўся ў шматаблічным, шматгалосым свеце і як мастак-рэаліст, чалавек, надзвычай моцна звязаны з вясковым побытам і лёсам, да скону адданы сваім караням, урослым у глебу «хлебароднай Амсціслаўшчыны», ён з гэтым светам, не заўсёды, дарэчы, яму радасным, жыў, пакутаваў, шукаў і знайшоў сябе такім, якім мы сёння ведаем і любім Максіма Гарэцкага.

Селянін, сын аратага і сам араты, ён з усёй жывёлы наймацней любіў і шанаваў каня. У яго, здаецца, не знойдзеш твора, у

пастронках якога не знайшлося б месца чацвераногаму абарыгену. А няма каня — ёсць то калёсная каляя, то нудны калёсны скрып, то хоць учарашні след ад капыта, наліты дажджавой ці снегавой вадою. Свой літаратурны воз шаўлюжка Гарэцкага, як і ў жыцці, валачэ дзеля чалавека, бо праз яе, працаўніцу, адным лёсам пабраную з мужыком, пісьменнік чытае самыя патаемныя глыбіні сялянскай душы.

Выразныя, нібы графіка, малюнкі жыцця Лявона Задумы. У акопах, на баявых пазіцыях першай сусветнай, графіка чырвона-чорная, з крыві і бруду, а ў роднай вёсцы, куды нарэшце батарэец вяртаецца пакалечаны, чорна-белая. Белага, калі гэта сінонім светлага, мала, няма зусім, каб апраўдаць перажытыя смерці, кроў, пакуты. Ехаў з вайны — думаў: якое цяпер будзе жыццё? Столькі людзей пабіта, пакалечана, столькі крыві праліта, пакут зведана! Якая яшчэ цана патрэбна за лепшую жытку? Але…

«Яшчэ і месяца няма, як вярнуўся дамоў, і вось зноў такое звычайнае, нуднае жыццё, як быццам не было ані тых акопаў, ані той аперацыі».

У вачах у Задумы зноў абмочаныя дзецьмі сеннікі, цэбар з памыйкамі, рыззё, шкумаццё, старая кофта замест шыбкі ў акне, прусакі поўзаюць па сценах, шаволяць вусамі, а ў вушах — сваркі, грызня, лаянка. Сварацца за лыжку крупені, за кус хлеба, за няшчасны рубель, які казна выдае нявестцы за мужа, што памірае, як паміраў Задума, недзе ў акопах, і які яна хавае ад свёкра. Заходзіцца ад гэтакага жыцця сэрца. І каму што скажаш? Усе церпяць, звыкліся. Звыкайся і ты. Усё ж вырвалася з грудзей:

«Я не буду жыць удаму…»

І не зразумеў бацька:

«А ча табе ехаць? Ай заскучаў па гарадской жысці?..»

Хто зразумее? Каму яшчэ ён, селянін Задума, можа адкрыць спакутаваную душу?

«…у пуні, калі клаў сена пад драбінкі, а конь замінаў сваёй вялікаю конскаю галавою, з прагавітасцю і смакам хапаючы сена з рук, — не ўзлаваўся на яго. Абшчапіў тую галаву за гладкія санкі і прытуліўся да шыі:

— Канёк мой! Гнядзенькі мой! Усё добра будзе!..»

Вось за што пісьменнік любіць каня. Перад ёй, гарапашнай шаўлюжкай, яго герой-селянін не схавае ні душы, ні думак, ні слёз.

А любімымі песнямі былі багацькаўскія, тыя, што спявала маці Ефрасіння Міхайлаўна, багацькаўская баба, баба Прося,

як яе называлі ўнукі: «Сіўка-варонка», «Па рацэ, рацэ вуцяніца плывець», «Кукавала зязюля ў садочку, прыклаўшы галоўку к лісточку» і яшчэ многія-многія, такія ўсе зямныя, шчырыя, з народнай памяці.

А самай любімай кветкай Гарэцкага быў палявы васілёк, валошка, як кажуць на Магілёўшчыне. Бо якая яшчэ кветка, як гэтая, ведае смак галоднай слязы селяніна, квітнеючы і паміраючы разам з хлебным коласам?

Любіў сабак. Як пісьменнік — за тое, за што і коней. Вось — з таго самага вяртання Задумы ў родную вёску:

«Няма чаго рабіць і няма куды ісці… Ля павеці ўзяў сякеру, пакруціў у руках і паклаў назад. Буян раптам падхапіўся з належанага месца на санях, заківаў хвастом і з буйнаю ласкаю скокнуў на грудзі.

— А, ццябе ваўкі!

З усяго маху даў яму выспяткам пад бруха. Бедны сабака заекатаў каротка і сціх. Гледзячы на яго, зрабілася сорамна…»

Сорамна. Перад сабакам.

Усё, на што б ні кінуў сваё вострае вока мастак, усё да дробязей, жывое і нежывое, яму патрэбна ў той дакладнай меры, у якой гэтае «ўсё» дапамагае разумець чалавека, бо чалавек быў для Гарэцкага найгалоўнейшым мастацкім пошукам. Нічога быццам дзіўнага: чалавек — пакута кожнага мастака. Але дзіва — апантанасць, з якою Гарэцкі ідзе да сваёй мэты. Нават на вайне, паміж баямі, нават у часе бою, пад шквалам агню і металу, калі гінуць людзі і коні, і яго жыццё таксама на валасінцы, ён спраўляецца назіраць за паводзінамі людзей, даследуе іх галоўны псіхалагічны нерв, свае ўласныя адчуванні, нават вытокі адчуванняў.

Ранейшым маім захапленнем была мова Гарэцкага. Хоць слоўнік, хоць музыка фразы, хоць вобраз — усё ёмкае, хрусткае, нібы наліты качан, хмельнае, нібы бражка, шчымлівае, нібы сляза дзяціная, і ўсё трывалае, падагнанае, быццам той кажух на маладых плячах. Было адчуванне кірмашу, на які сышоўся-з’ехаўся народ і купіць, і прадаць, і чарку ўзяць, песню спець, душу перад светам расхінуць, на людзях памаўчаць у цяжкой думе, а то і з кулаччам — хоць на сценку. І была радасць, што я на гэтым кірмашы не чужы, свой, зямляк, нашчадак Вашчылы, бунтарная дубіна якога збірала і суседзяў, мсціслаўскіх мужыкоў. Тутэйшая мова была мне сваёй. Хоць была яна мне і папрокам. Слова Гарэцкага — папрок і ўрок не аднаму мне…

Цягнік, пад'язджаючы да Крычава з боку Оршы, заўсёды спыняўся на маленькай станцыі Цёмны Лес. Некалі хлапчуком я глядзеў тут з акна вагона — памятаю: ноч, халодны вагон, побач са мною дрэмле, клюючы носам, бацька, аберуч трымаючы на каленях тоўсты жоўты партфель, поезд стаіць, нейкія людзі, зайшоўшы ў вагон, недзе далей па калідоры гамоняць прастуджана, з кашлем, чорнае акно побач і вышэй, за ім агеньчык ліхтара пад стрэшкаю станцыі і людскія цені, чорныя, па шкле акна слізгаюць — і думаў: не дай бог апынуцца зараз там, пад голым начным небам, у чорным лесе, аднаму, без бацькі. Аж вочы ад страху зажмурваў. А праз гады, калі цягнік спыняўся на станцыі Цёмны Лес, я, ужо чытаўшы Гарэцкага, выходзіў з вагона, хоць на перон, ці стаяў у тамбуры, зімою ці летам, каб паглядзець на людзей, каторыя некуды ехалі і садзіліся ў вагон, а то каго-небудзь праводзілі, жывучы тут, на станцыі. Мне цікава было разгледзець і як яны апрануты, і як і пра што гавораць. Мне здавалася, што тут я бачу сваякоў, суседзяў, знаёмых Максіма Гарэцкага — з Малой Багацькаўкі, якая блізка, за чорнай лясной грываю, што навісла над станцыяй, з Вялікай Багацькаўкі, Слаўнага, Шумякіна, Галалобаўкі, Шамава, у якім некалі збіраліся вялізныя кірмашы, дзе любіў бываць і Максім. А можа, думаў, дзе-небудзь тут і Якім Іванавіч, стары балагол, які ніколі не адмаўляў Гарэцкім, і Максіму таксама, ахвотна вёз іх ад поезда ў Малую Багацькаўку.

Былі першыя ўражанні, былі і пазнейшыя, калі творы земляка ўжо не проста чытаў, а перачытваў. Тады ўжо здзіўляла не так ягонае слова, як ягоная постаць, асоба.

Незвычайна абвостраная ўвага да чалавека, любых праяў жыцця, сацыяльных і гістарычных, якраз і тлумачылася маштабам асобы пісьменніка.

Да чалавека ён ішоў не толькі ў пошуках характару, тыпу. Ён шукаў у ім гістарычную і духоўную глыбіню, рэвалюцыйную энергію прыроды і часу, нацыянальную аснову і яе праявы ў любых жыццёвых абставінах. Углядаючыся ў чалавека, думаў пра ўвесь народ, ягоны гістарычны шлях і лёс.

Гэтая хада думкі — чалавек і ўвесь народ — заўважаецца нават у самых маленькіх творах Гарэцкага.

Вось на фронт са шпіталя вяртаюцца салдаты. У хаце палешука — начлег. Хата мізэрная, бедная, саломы няма, каб кінуць на падлогу пад бок стомленаму начлежніку. І тут, у гэтай убогасці, з'яўляецца гаспадыня, маладая і надзвычай прыгожая.

Начлежнікі вачэй не могуць адвесці ад яе твару. «А мне, — кажа аўтар, — было прыемна, што ёсць такія жанчыны ў маім народзе...» І гэта — ужо ў адным з ранніх апавяданняў, «На этапе».

Гарэцкі быў мастаком незвычайнага тэмпераменту, што вызначае многія асаблівасці яго прозы. І сярод іх — шчырасць. Адсюль незвычайны выбар жанраў: хроніка, а не раман, запіскі, а не аповесць, абразкі, а не апавяданні. Ён нібыта пабойваецца абвяшчаць высокі мастацкі жанр — раман, аповесць, — каб надта не пусціцца, па законах жанру, у вымысел, каб у вымысле не пагубляць дакументы часу, сваю непасрэднасць. Ён адчуваў, што на зломе гісторыі і народнага лёсу, на рэвалюцыйным зломе, найвышэйшае мастацтва — не ў вымысле, а ў дакуменце. І цяпер дзівімся, якое трывалае жыццё мае дакументальная проза Максіма Гарэцкага, як сугучны нам сёння яго шчыры тэмперамент.

Ён быў адкрыта аўтабіяграфічным пісьменнікам, свет даследаваў праз уласны вопыт, ахвотна пісаў ад першай асобы, людскія пачуцці асвойваў уласным сэрцам, а такая мастацкая пазіцыя патрабавала мужнай грамадзянскай пазіцыі. У людзях, якія яго хвалявалі, ён бачыў сябе, сваю маці, сваіх дзяцей, кожны цяжкі лёс прымаў як свой.

«Бабуля, блізкая, родная мне бабуля, палахліва шарпае па прыступачках чувякамі, хапаецца. Яна збялела, як ліпка, нешта мармыча і зрэдку плюскае вачмі. А вочы выцвілі, спалоханы і горка пакрыўджаны.

Знібее сэрца маё: яна так падобна да мае маці...»

Тут формула аўтарскага погляду на свет, на людзей — з адваротнай праекцыяй на сябе, на сваё. Тут мы не адчуваем дыстанцыі паміж сабою і Гарэцкім. Ён яе нам не пакідае. І ў гэтым яго высакародства.

Часам гэтая формула рашаецца як бы не да канца, праекцыі на сябе як бы няма. Але яна і тады прачытваецца.

Пад канвоем па вёсцы вядуць хадзяку. Хто ён? Чый ён? Калі вёска прызнае за свайго, ён застанецца тут, вольным. Але ніхто не жадае прызнаць старога спакутаванага чалавека. Нават Тодар, якому адразу падалося, што гэта канваіры вядуць са свету яго ўнука. Чаму ж людзі не пазнаюць адзін аднаго, самі сябе? Адкуль гэтыя абыякавасць, неспагада, варожасць? Усе ж хадзякі — пакутнічкі.

Пройдзе пэўны час, і мы са смуткам дазнаемся, што сам аўтар падзяліў лёс хадзякі.

Вострае вока на чалавека давала Гарэцкаму дакладнае адчуванне болевых кропак чалавецтва. Яго раманы-хронікі, як

і апавяданні, як і запіскі Задумы, — панарамны мантаж гэтых кропак. Мы не ведаем, у якую народную панараму разгарнулася б «Камароўская хроніка», калі б пісьменнік давёў яе да канца, але па тым, што ён зрабіў, як ішоў да свайго галоўнага твора, што ведаў пра жыццё, час, народ, якім мастацкім, духоўным, інтэлектуальным канцэнтратам валодаў, можна сказаць, што месца Гарэцкага ў беларускім мастацкім эпасе магло быць унікальным.

Нашаму эпасу ў прозе заўсёды не шанцавала. Мы мелі выдатных мастакоў. Мы выдатна пачыналі, мужна выпраўляліся на грозную Джамалунгму літаратуры і не ўзыходзілі на яе: Чорны, Гарэцкі, Мележ.

Але дарога туды пракладзена…

Летась, 13 мая, на расяным выганчыку Малой Багацькаўкі, пад раніцу, жарабілася вялікая белая, у шэрыя яблыкі, кабыла.

Крыху пазней, калі ўзыходзіла сонца, я ехаў міма новай асфальтоўкаю — з Мсціслава ў Горкі. Спыніўся, каб паглядзець на вёску Максіма Гарэцкага.

Малая Багацькаўка ляжала ў разлогу паміж зялёных узгорыстых палеткаў, з-пад шыферных казыркоў глядзела на свет, а тут, на ўзгорку, на ласкавым ранішнім сонцы, стаяла кабыла, спала, стоячы, зажмурыўшы вочы. Перад ёю на зялёным дыване ляжала, не варушачыся, зусім маленькае жарабя, зводдаль падобнае на чырвоную аўчынку. Поўсць на ім была яшчэ вільготная, кучаравая, не залізаная ні ветрам, ні сонейкам. Жарабя ляжала смешна, на баку, адкінуўшы ўсе чатыры нагі, закінуўшы мызай да сонейка вялізную, на кволай танклявай шыі галаву, таксама, як кабыла, заплюшчыўшы вочы. На шарсцінках ля мызы, як у маткі, блішчэлі расінкі.

Я прысеў ля яго, пагладзіў па шыі. Яно і вухам не павяло. Але, пачуўшы мяне, расплюшчыла вочы кабыла. Ускінула галаву і заржала на ўвесь абшар.

Чаму мне зараз прыгадаўся гэты малюнак? Як стасуецца ён да нашай размовы?

Не ведаю. Але адчуваю, што гэта ў духу Гарэцкага. І таму хай застаецца — як прывітанне чытачам ад Малой Багацькаўкі.

Гарэцкі любіў коней.

*1983*

# АГЕНЬЧЫК У ДАЛОНЯХ

Не сёння заўважана: вялікі твор літаратуры ніколі адразу не адкрываецца ўсімі сваімі таямніцамі. Колькі разоў перачытваеш — столькі разоў адкрываеш. Гэтаксама і аўтар. Кожная сустрэча з ім, даўно, здавалася б, знаёмым, больш таго — любімым, вядзе цябе, чытача, у новыя і новыя глыбіні яго творчага свету.

З гэтага літаратурнага раду — Іван Паўлавіч Мележ.

Калі раман «Людзі на балоце» з'явіўся на свет, ужо сама назва шмат каму падалася няўдалай, а сярод тых шматлікіх былі чытачы праніклівыя, пісьменнікі рангам не ніжэй, напэўна, за Мележа.

Сёння, аднак, сумненняў ні ў кога няма. Пажылі — звыкліся? Хутчэй за ўсё мы самі, чытачы, выйшлі на іншую вышыню разумення гэтае сагі пра Палессе, зразумелі, што людзі Мележа — не проста Васіль, Ганна, Міканор, Хадоська, Хоня, Сарока, Апейка, Грыбок, Валодзька і Хведзька, Глушакі, а людства; і балота Мележа — не проста яшчэ адно палескае балота, пасярод якога востравам узвышаецца вёска Курані, а ўнікальнае жыццёвае асяроддзе, адзіна магчымае для яго, мележаўскага, людства. Пісьменнік лепш за ўсіх разумеў, а пасля ўжо і нас, чытачоў, прывёў да разумення, якая драма і якая надзея акумуляваліся ў гістарычна і экалагічна падагнаным механізме: людзі — балота. Нават з агню чалавеку ўдаецца вырвацца. Пад агнём — зямля, апора. А з балота — калі засмокча? У ім, як кажуць, ні дна ні пакрышкі…

Шмат хто пісаў пра Палессе. Нават Горкі і Купрын. Сваю песню ў прозе аб ім стварыў Якуб Колас. Але чамусьці няма адчування, што ў мастацкім асэнсаванні жыцця Палесся Мележ меў папярэднікаў. Нібыта ён — яго першаадкрывальнік у літаратуры. Гэта не азначае, што пісьменнік недзе па-за нашым кругам, па-за нашым днём, недзе далёка ад нас. Вышэй — гэта так. І адначасова — з намі. Гэтая якасць Мележа рэдкая: быць і вышэй, і побач.

Неяк мы, літаратары маладзейшыя, ішлі па Мінску ў свой пісьменніцкі дом па вуліцы Фрунзе, і адзін з нас спытаў: ну, а калі б раптам на нашым пісьменніцкім ганку нас сустрэў нехта з адышоўшых — хто б гэта мог быць? І ўсе пагадзіліся — у адзін голас: Мележ.

Ён стаіць перад намі жывы, таму што быў на рэдкасць абаяльны ў сваёй паляшуцкай будзённасці з ледзь-ледзь прыкметнай хітрынкаю, заўсёды ці то ў глыбокім роздуме пра жыццё і літа-

ратурныя клопаты звесіўшы вялікую прыгожую галаву мудраца, ці то з усмешкаю, на рэдкасць шчырай, цёплай, сяброўскай.

Але спяшаюся вярнуцца да ранейшае думкі пра папярэднікаў. Папярэднік у яго ўсё ж быў — Кузьма Чорны.

Чорны не пісаў пра Палессе. Ён пісаў пра сваю Случчыну. Але напісанае ім — пра зямлю, пра яе ўладу над чалавекам. Ён расхінуў душу мужыка, яго псіхалогію, як гэта да яго ніхто не рабіў у беларускай літаратуры. І вось гэты гісторыка-псіхалагічны аналіз узаемаадносін беларускага селяніна з зямлёю, які быў галоўнай мастацкай задачай Кузьмы Чорнага, апынуўся і ў цэнтры мастацкіх пошукаў Івана Мележа.

Ёсць у яго такі роздум:

«У драме «Бацькаўшчына», напісанай К. Чорным паводле рамана, ёсць вельмі выразная і моцная сцэна. Дзея адбываецца на кірмашы. Леапольду Гушку не хапае чатырох рублёў, каб выплаціць Сурвілу, які прыняў яго ў «кампанію» на куплю панскай зямлі, свой грашовы ўзнос. Але Гушка прадаў ужо ўсё, што мог. Што рабіць? Гушка кліча перакупшчыка, здымае з ног боты і кідае яму. Старыя, разбітыя боты перакупшчык і глядзець не хоча. Тады Гушка здымае пінжак, а калі гэтага аказваецца мала, каб атрымаць патрэбныя чатыры рублі, не вагаючыся, скідае камізэльку, шапку і аддае перакупшчыку. Гушка аддаў усё, што мог, толькі б ажыццявіць сваю надзею — набыць зямлю».

Ці не гэты роздум пра зямлю і мужыка вывеў пазней Мележа на вобраз Васіля Дзятліка, на ўсю «Палескую хроніку»? І ці не падказаны гэтыя выхады Чорным? Ну і сваім, вядома, вопытам. Перш за ўсё — сваім. Неяк у інтэрв'ю балгарскай газеце «Литературен фронт» ён сказаў: «Я не мог — рана ці позна — не напісаць гэтыя раманы — «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», — бо насіў іх у сабе як радасць і пакуту доўгія гады. Яны частка мяне самога — і вельмі дарагая».

Гэтае прызнанне многае вытлумачвае ў Мележа і ў яго літаратурным лёсе: глыбіню разумення драмы і велічы Палесся, працяг традыцыі Чорнага, сацыяльны аптымізм, якім пісьменнік пераўзышоў Чорнага і надзяліў амаль усіх сваіх герояў. Вытлумачвае і нашае чытацкае хваляванне, калі Васіль Дзятлік, яшчэ не мужык, падлетак, які зразумеў уладу зямлі, ужо ўвесь сабраны ў нервовы камяк, каб рашуча заявіць на сходзе: «Хто як хоча, а я ад зямлі не адмаўляюся!», — у ноч перад пераразмеркаваннем надзелаў выводзіць за вароты каня, выцягвае з-пад павеці плуг і ў глухой цемені, пад дажджом і страхам, пачынае заворваць кулацкую зямлю. Ноч, уся істота аратага поўныя прадчування

бяды, аднак ногі, душа, думкі прыраслі да зямлі, баразны, і няма сілы адарваць іх ад ворыва. Світае, і ўжо ўся вёска бачыць, што Васіль арэ не сваю зямлю. Чаму не сваю? А дзе — свая? Такая, каб хлебам карміла. Насустрач яму ідзе гаспадар заворанай зямлі кулацкі сын Яўхім Глушак, каб паказаць, дзе яна — зямля Васіля Дзятліка. Моцна сціскае Васіль пугаўё ў руцэ — адзіную зброю аратага. Ён не сыдзе з гэтае баразны. І вось трашчаць косці, ліецца кроў, зламалася пугаўё на галаве ў Яўхіма. Бяжыць па жаданай зямлі Васілёва маці: «Забіваюць!!! Забіваюць!» А ўслед за яе лямантам загаварыла вёска словамі бедняка Зайчыка: «От і пачаўся, дзетачкі, перадзел!»

Гэтыя сцэны, дзе, быццам у кіно, буйным планам — зямля і мужык, балота і паляшук, скаланаюць. Але — чым? Майстэрствам малюнка? Графічнай выразнасцю дэталяў? Глыбінёй псіхалогіі? Дакладнасцю кожнага руху, думкі і пачуцця? Вядома. Але і яшчэ — лёсам зямлі і чалавека, іх драмаю на гістарычным пераломе трыццатых гадоў. Праўдаю, якая, па Мележу, не зусім супадае з праўдаю, якую ў апошнія гады, як катэгорыю пякуча-маральную, мы прывыклі дэклараваць ледзь не ў кожным газетным артыкуле і ў кожным выступленні з трыбуны. Праўда як смеласць сказаць штосьці такое, што пабойваюцца сказаць іншыя, — гэта для Мележа яшчэ не праўда. Для яго праўда — гэта сказаць пра чалавека ўсё. Тут мала смеласці. Каб сказаць усё, трэба ўсё ведаць, адчуваць і прадчуваць, умець ва ўсё пранікнуць, усё спачатку разбурыць, раскласці, а пасля з усяго гэтага зноў стварыць свет — таксама адзіны, арганічны, і ўжо іншы, гармонія якога не толькі ў гармоніі самога жыцця, але і ў таямнічых глыбінях мастацкага мыслення.

Здаецца, як ціха і таямніча, у глухім хляве, сустрэўся Васіль з Ганнай, па-дурному страчанай. Але і гэтая таямніца, падначальваючыся спрадвечным законам вёскі, узварушвае яе звонку санлівае жыццё. Як быццам не такая ўжо вялікая падзея адбылася там, у гумне, а кожны ў вёсцы — Маня, Яўхім, дзед Дзяніс, Сарока, усе Глушакі і Чарнушкі — прыкладаюць да яе сваю мерку. Нават хлапчукі Валодзька, брат Васілёў, і Хведзька, брат Ганны, са сваёй меркай:

«— Знаеш, мы з табой, мабуць, будзем сваякамі…

Хведзька шмаргануў чырвоным з чарнільнай плямай носам.

— Чаму ето?

— Васіль праганяе Маню. Ганну вашу хоча ўзяць за жонку».

Вёска навучыла мастака бачыць у кроплі ўвесь свет, у жыцці чалавека — яго гістарычныя і духоўныя карані. Псіхалогіяй,

сацыяльным і працоўным вопытам, маральнымі традыцыямі, сялянскай эстэтыкай, духоўным набыткам вёскі можна вытлумачыць шмат якія асаблівасці пісьменніцкага майстэрства Мележа.

Неяк Мележ прызнаўся, што ў кожным яго герою — ён сам, а ў ім самім — усе яго героі. Зразумець гэта нам, чытачам, не заўсёды лёгка, хоць формула, на першы погляд, ясная і лаканічная. Скажам, што можа быць у пісьменніка агульнага з тым жа Васілём Дзятлікам, для якога ўвесь сэнс жыцця — мець зямлю? Але вось бачым Васіля ў цяжкой сялянскай працы — з касою. І чуем думкі — ці то аўтара, ці то героя: «Ён трываў. Гэта было ўжо не ў навіну — цярпець… З усіх мудрасцей жыцця ён, як адну з найпершых, уведаў — трывай, цярпі! Усім цяжка бывае, усе церпяць, цярпі і ты!»

Тут успамінаеш запіс з ваеннага дзённіка Мележа, пазначаны 29 лістапада 1941 года: «Можа, усё дарэмна. Канца не відаць. Ці блісне нарэшце ясны дзень, калі ўсё трывала стане ў свае месцы, як раней? Я столькі чакаў адказу на гэта пытанне, але мінула ўжо больш за пяць месяцаў, а ясны дзень такі ж далёкі, як і ў пачатку вайны… Менш думай, больш вытрымкі, — цярпенне, цярпенне. Ты ж салдат!» Вось яно: аўтарскае — перададзенае герою. А дакладней: традыцыйна сялянскае, паляшуцкае, што аднолькава ўвайшло ў свядомасць і аўтара і героя, што сфарміравала, хоць і па-рознаму, іх характары.

Падобныя паралелі арганічна звязваюць Мележа з усім тым светам, які мы, чытачы, адкрываем у раманах яго «Палескай хронікі». З усімі яе героямі.

Вось у Куранях, у хаце беднага селяніна Ігната, Хадосьчынага бацькі Нібыта-Ігната (гэтак нязлосна, з усмешкаю падкрэсліваючы слабіну чалавека да слова, якое ні да чаго не абавязвае, яго называе вёска), ідзе сход. На парадку дня самыя балючыя для селяніна пытанні: перадзел зямлі, будаўніцтва школы і грэблі, якая толькі і можа звязаць людзей з людзьмі, Курані — са светам. Першы сход: гармідар, спрэчкі, хмараю — дым. І не адразу нехта заўважае, што ля парога, у дзвярах, у цемені стаіць незнаёмы чалавек. Заўважылі — здагадаліся: з воласці — старшыня выканкама Апейка. Але чаму ён не ідзе за стол прэзідыума? Адтуль, збоку, нікога не бянтэжачы сваёй прысутнасцю, хоча пачуць, што мужыкі гавораць пра жыццё? Па шчырасці?

Гэтак Апейка, які пазней возьме развіццё сюжэта хронікі на сябе, першы раз з’яўляецца ў Куранях, наогул у рамане, і ўжо тут мы, чытачы, якія ведалі Мележа ў жыцці, пазнаём у

ім самога Івана Паўлавіча. Бо ў гэтакім Апейку характар і яго самога, ягоны звычай: стаяць непрыкметна, маўчаць, уважліва слухаць, што гавораць людзі.

Вось як ён раздаваў сябе сваім героям. Спачатку разам з імі браў ад зямлі, з духоўных і маральных крыніц Палесся, а пасля тое, што браў, вяртаў людзям і Палессю.

На ўспамін прыходзіць яшчэ і такое: стаю ў калідоры нашага старога пісьменніцкага дома, што быў раней у Мінску па вуліцы Энгельса, а ў другім канцы калідора паяўляецца Мележ. Падыходзіць, мякка ўсміхаецца:

— А вы добра сказалі пра талент любіць сабаку, карову. Гэта талент — любіць жывёлу. Сапраўдны!..

У тыя дні выйшаў нумар часопіса «Полымя», і ў ім было надрукавана маё апавяданне «Жаваранак» — пра хлопца, які, жывучы ў горадзе, не можа да яго прывыкнуць і вяртаецца ў родную вёску, да ўсяго роднага з маленства. Пачуўшы гэтакае ад Івана Паўлавіча, я здзівіўся: пры чым тут талент? Любоў да сабакі, каровы — хіба гэта талент? Я не пісаў ні пра які талент. Я пісаў проста пра знаёмага мне чалавека, пра сваяка, пісаў так, як было ў яго ў жыцці. Тое, што мне сказаў тады Іван Паўлавіч, я зразумеў пазней: сапраўды, хіба не талент — любіць усё жывое? І яшчэ здзіўляюся: як гэта ён, Мележ, нібыта збоку, па праву чытача, зразумеў майго героя глыбей, як я сам, яго аўтар?

Ён быў чалавекам вельмі шчырай і багатай душы.

У маленстве, калі разам з усімі вясковымі дзецьмі коўзаўся ў лапцях на каньках, бацькі не ўшчувалі за тое, што лапці за адзін дзень ператураліся ў мачала. Як ушчуваць, калі ён адзіны з вясковых дзяцей сам плёў сабе лапці? Ён зрабіў першы ў вёсцы веласіпед, драўляны, на колах з арэхавых дубцоў, і лічыўся будучым канструктарам. Ён быў выдатным матэматыкам. Ён маляваў партрэты сваіх аднавяскоўцаў і прыгожа спяваў, іграў на гітары, балалайцы.

Адкуль у аднаго чалавека гэтакае багацце талентаў? На гэта ён адказаў радком прысвячэння сваіх раманаў: «Бацьку, маці, бацькоўскай зямлі».

І яшчэ — прызнаннем: «Я суткамі мёрз у акопах, а перад маімі вачамі стаяла маё гарачае Палессе. Я месяцамі валяўся ў шпіталях — у мяне ў галавах стаялі палешукі. Я пісаў раман пра вайну — яны стаялі за маімі плячамі, хвалюючы маё ўяўленне…»

Яму пашанцавала, ён адчуваў заўсёды, што нарадзіўся ў краі па-над Прыпяццю. Цяпер ужо і нам здаецца, што такія раманы,

як «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», трэці незавершаны раман «Завеі, снежань», гэтакі ёмісты, глыбокі, сацыяльна і філасофскі пранізлівы эпас пра беларускую зямлю, нідзе больш і не мог нарадзіцца, як тут, на Палессі. Гэтая зямля — мерка нашай духоўнай моцы, пашай маралі. Палессем мы правяраем сябе на трываласць і чысціню, на адданасць і мудрасць. Усё гэта выдатна разумеў Мележ.

Гэта разумелі і разумеюць шмат хто. Разумеў Уладзімір Караткевіч — яшчэ адна вяршыня нашага духу, — калі ў прадчуванні смерці, на самай апошняй сваёй строме, праз усё Палессе плыў па Прыпяці ў лодцы, развітваючыся з роднай зямлёю, з жыццём.

Без Палесся, такога, якое яно ёсць, якім яшчэ мы яго ўчора бачылі, гасне наша вера ў будучыню. Будучыня абавязвае нас яго берагчы. Як саміх сябе. Як сваіх дзяцей.

Аб усім гэтым думаеш, на хвілінку адарваўшыся ад нейкай старонкі мележаўскага рамана, ад яго болю. І ён, гэты боль, робіцца тваім, вырастае ў наш агульны. Ад яго, мележаўскага, масткі вядуць шмат да якіх трывог сённяшняга і заўтрашняга жыцця.

Тут, здаецца, можна было б і закончыць гэты не надта стройны роздум пра жыццё пісьменніка і яго мастацкае слова ў нашым сённяшнім дні. Але як адмахнуцца ад двух успамінаў-малюнкаў, што стаяць у вачах?

Першы: Васіль Дзятлік у сенакосную ноч нясе ад свайго вогнішча да Ганны, якую кахае, гарачы вугольчык, каб ад яго распаліць вогнішча для яе, Ганны. Нясе асцярожна, перакідаючы агеньчык з далоні на далонь…

Другі: Мележ у Ленінградзе. Гэта — гадоў дваццаць назад, у дні Дэкады беларускай літаратуры. Усе мы ідзём па асфальце, а ён — абочынай, па зямлі. Ідзе нетаропка, перавальваючыся з нагі на нагу, касалапіць. Мы з Арсенам Георгіевічам Астроўскім — за ім услед. Мне здаецца, што чаравікі замінаюць Мележу, ён нібыта хоча іх згубіць, каб далей ісці босым, хоць і ў шкарпэтках. Астроўскі бурчыць:

— Ды што гэта ён? Сапсуе нам усю Дэкаду сваімі голымі пяткамі!..

Ах, Арсеній Георгіевіч! Жарты жартамі, але хіба Мележ тады думаў пра шкарпэткі? У тое лета ён думаў пра Васіля Дзятліка, як бы яго Васіль данёс, не пагасіў свой вугольчык у далонях. Думаў пра зямлю, куды большую, як тая пядзя, што пад ступнёю.

Тады, па Ленінградзе, ён нёс да чытачоў агонь сваёй зямлі — роднага Палесся. Ведаючы, што несці трэба асцярожна, беражліва, думаючы толькі аб тым, каб данесці…

*1986*

## «ХАЧУ ЧЫТАЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ…»

Быць ці не быць? Жыць ці не жыць?

Гэтую, па форме — гамлетаўскую, трывогу за лёс беларускай мовы я чую кожны раз, калі выходжу да людзей на адкрыты, з вока на вока, дыялог аб жыцці і літаратуры. Яшчэ два-тры гады назад гэтае пытанне можна было пачуць ад настаўнікаў ці студэнтаў філфака, ад работнікаў культуры ці за сяброўскім сталом. Сёння яго задаюць табе, пісьменніку, усюды, куды б ты ні прыйшоў і ні прыехаў.

— Што будзе з беларускай моваю? Няўжо яна гіне?..

Апошнім часам, чуючы гэтае пытанне, я кожны раз успамінаю выпадак, які адбыўся год назад у Чавусах.

На сустрэчу з вучнямі і настаўнікамі мясцовай школы-інтэрната я быў запрошаны разам з паэтам Алесем Пісьмянковым. У вялікай актавай зале сабраліся вучні і настаўнікі — колькі зала магла змясціць, з усіх класаў, ад першага да дзясятага. Быў позні вечар, заняткі ў школе скончыліся, і ніхто нікуды не спяшаўся — сустрэча зацягнулася. Алесь чытаў вершы, я расказваў, як і адкуль прыходзяць сюжэты і вобразы, пра свае вандроўкі па родным краі, па свеце. Нядаўна вярнуўшыся з падарожжа па Індыйскім акіяне, успамінаў жыццё і прыроду на Мадагаскары, Сейшэльскіх астравах, Маўрыкіі. Было шмат пытанняў, якія і накіроўвалі дыялог. Калі ж сустрэча закончылася, мы з Алесем яшчэ доўга сядзелі ў настаўніцкай. Выйшлі з яе — на калідорах ціха, у класах цёмна, нідзе ніводнага вучня. Выйшлі ў сад — цемень, дождж, напалам са снегам, хлюпата пад нагамі, вецер злосны, золкі, да касцей праймае. Дзе машына? Даўгавата шукалі яе ў цемені саду, але знайшлі. Хуценька схаваліся ў машыну, завялі, не столькі — каб хутчэй ехаць, колькі — каб хутчэй сагрэцца.

І раптам нешта нясмела зашоргала побач па дзверцах. Я зірнуў у бакавое шкло і там, за шклом, заўважыў размытыя цеменню і дажджом абрысы дзіцячага тварыка, з якога на мяне глядзелі прагныя, напоўненыя нейкай малітваю вочы.

Я адчыніў дзверцы:

— Ты… чаго тут стаіш? Лезь у машыну!..

Хлопчык быў маленькі, з першага ці з другога класа, худзенькі, пінжачок на ім быў мокры, на плячах ляжаў мокры снег, мокрая была галава, па галоўцы, па тварыку плыла макрата золкай восеньскай ночы. Але, увесь калоцячыся, ён не хацеў лезці ў машыну. Ён раптам сказаў жаласлівым, быццам усім светам пакрыўджаным голасам:

— Дзядзь!.. Навучыце мяне гаварыць так, як вы, па-беларуску!.. Я хачу чытаць па-беларуску…

О, дзіця беларускае!.. У самае сэрца!.. Як гэта ты?.. Я не хаваў сваіх мокрых вачэй.

Пасля, правёўшы хлопчыка ў цёплыя інтэрнатаўскія пакоі, дзе ўжо клаліся спаць яго сябры, мы з Алесем сядзелі ў цёмнай машыне, пагасіўшы агні, як дагэтуль іх пагасіла ноч, быццам не ведалі, куды цяпер ехаць. Штосьці гаварыў, уздыхаючы, Алесь. Ён, малады, мог і пагаварыць. Я маўчаў. Маўчаў і думаў: што прывяло хлопчыка да машыны? Што прымусіла яго гэтак доўга на лютым ветры, пад дажджом і снегам, чакаць нас? Ахвота навучыцца гаварыць і чытаць па-беларуску? — чаму не вучылі ў школе? Але што падказала яму, адарванаму ад роднага слова, што гэтаму трэба вучыцца? Сумленне? Памяць крыві? Значыць, і не чуючы тут, у школе, беларускага слова, душа да яго не аглухла? Значыць, сумуе па ім, прагне яго, моліць вярнуць яго да сябе?..

Вось ён — невынішчальны дух каранёў.

А што ж школа? Яна не чуе гэты голас? Няўжо настолькі аглухла і аслепла? І навошта яна тады — такая?

— Што будзе з моваю беларусаў? Ёй — жыць ці не жыць?

Цяпер, калі я зноў і зноў чую гэтае пытанне, мне кожны раз бачыцца той хлопчык у школьным начным садзе ў Чавусах, пад ветрам, дажджом і снегам, і я кажу — яму, таму закалеламу хлопчыку, і ўсім:

— Жыць! Яна будзе жыць!..

Бо не магу пакінуць яго, дзіця Беларусі, у непагоду без веры ў свае карані.

Кажу гэтак, але з болем і немалой трывогаю.

***1987***

# І ДА ЯГО, І ДА СЯБЕ

На вышыню Тарасаву ніхто ніколі не ўзыдзе, як ніхто ніколі не перажыве ягонае драмы, драмы прыгону. Але людзі, якія хочуць звацца людзьмі, ідуць ды ідуць, падымаюцца на яго гару, бо ён, Тарас Рыгоравіч, усіх сюды, на Чарнечую, да сябе кліча, усіх збірае, каб паяднаць сваім болем і сваёй песняю. З яго вышыні па-новаму бачыш і свет, і самога сябе.

Гэтую думку я запісаў у кішэнны блакноцік, як сваё маленькае адкрыццё, ад жывога ўражання на Чарнечай гары, узышоўшы на яе і аддыхаўшыся. Цяпер, праз колькі дзён, перачытаў і задумаўся: дзе і калі я рабіў свае першыя крокі да Кабзара?

Успамінаецца зіма сорак другога года: Татарыя, райцэнтр Старое Даржанова, двухпавярховая драўляная школа, школьны двор, у двары — стары драўляны дом, у ім — пакой з грубкаю пасярэдзіне, ложак за грубкаю, а пад ложкам — чорны драўляны куфэрак. Што за куфэрак? Чый ён? Што ў ім?

Бачу чарнявага настаўніка, татарына. Ён жыў у гэтым пакоі і пакідаў яго, ідучы на фронт. Бачу, як ён збірае на стале ў мяшок рэчы. Над сталом пад столлю, на кручку-драціне, падвешаны мех з сухарамі. Сухары настаўнік сушыў на чорны дзень, а падвешваў ад мышэй. Ідучы на фронт, пакідаў гэтае багацце, але і не толькі гэтае. Калі бацька, сястра і маці былі ў школе, і мы з ім, нашым нечаканым добразычліўцам, засталіся ўдвух у хаце, ён паклікаў мяне да сябе, дастаў з-пад ложка драўляны куфэрак, скінуў з яго маленькі замочак, адкінуў века і выклаў адтуль, з куфэрка, на стол дзіўныя рэчы: акварэльныя, у талерачках, фарбы, мякенькі пэндзлік, вялікі сшытак, яшчэ новенькі, для малявання, карабок каляровых алоўкаў і кнігі — Сланімскага «Чарнігаўцы», раман, і Шаўчэнкаў «Кабзар». Настаўнік пагладзіў мяне, малога, па галаве — мне было восем гадоў, і я ўжо чытаў — і сказаў: «Гэта я пакідаю табе. Гэта мой табе падарунак. Можа, калі-небудзь і ты мяне ўспомніш». І я помню яго да гэтага часу, бо куфэрак, які ён мне падарыў, шмат у чым вызначыў мае захапленні ў маленстве, маё развіццё, мае духоўныя пачаткі, берагі маёй патаемнай размовы з жыццём. Праз чатыры гады вайны той куфэрак я прывёз, вярнуўшыся з бежанства, у Крычаў, і ён яшчэ і цяпер — праз паўстагоддзя — стаіць, абгрызены мышамі і абдзёрты, недзе на гарышчы маёй крычаўскай хаты. На кніжнай паліцы стаіць той самы «Кабзар», побач з «Чарнігаўцамі», — кнігі мне дарагія, бо адны з першых маіх кніг, па якіх я вучыўся разумець свет і самога сябе, якія шмат чаму мяне навучылі, шмат

сцежак у жыцці мне паказалі. А тыя фарбы, той пэндзлік? Іх я ўжо не знайду, але і яны штосьці ўва мне абудзілі, выяснілі. Яшчэ можна знайсці ў хаце і па суседзях ці мае акварэлі, ці карціны, напісаныя алеем на палатне, якім тады, у першыя пасляваенныя гады, былі нямецкія мяхі з арламі ды свастыкамі, якія я старанна загрунтоўваў, нацягнуўшы палатно на падрамнік. Сярод акварэляў з тых пасляваенных гадоў застаўся і партрэт Шаўчэнкі, копія з таго, якім адкрываўся «Кабзар» з куфэрка, даваеннага выдання: густыя вусы, суровы пагляд на свет, на галаве папаха, кажух на плячах. Намаляваўшы, я прынёс яго, памятаю, у школу.

Быў урок літаратуры. Настаўніца Дар'я Маркаўна заўважыла яго ў мяне і павесіла на класную дошку — пачала чытаць на памяць:

Нащо мені чорні брови.
Нащо карі очі,
Нащо літа молодіі.
Веселі дівочі?
Літа мoі молодіі
Марно пропадають.
Очі плачуть, чорні брови
Од вітру линяють.

Пасля гэтага Дар'я Маркаўна, адна з лепшых маіх настаўніц, часта казала мне: «Віця, намалюй партрэт Пушкіна к наступнаму ўроку». Ці: «…партрэт Лермантава». І я маляваў. І Пушкіна, і Лермантава, і Гогаля, і Някрасава. Яна вешала партрэт на класную дошку і вяла ўрок. Тады ў школе нагляднасці, як цяпер, не было, не было ні кніжак, ні партрэтаў пісьменнікаў. Мала ў каго былі падручнікі.

Чаму гэта ўспамінаю зараз? Ды таму, што адтуль, ад настаўніка-татарына, ад яго куфэрка, ад «Кабзара» і фарбаў з таго куфэрка, які знайшоў мяне ў далёкім сорак другім, пачалася мая сцяжына сюды, на гару Чарнечую. А яна і не можа быць лёгкая. Тут, у Каневе, мне расказалі, як пасля вайны на гару Чарнечую падымаўся салдат, вярнуўшыся з вайны без ног. Людзі хацелі падхапіць яго пад рукі, панесці на гару, да Тараса, але ён адмовіўся ад іх ласкі, сказаўшы: «Тарас не прыме мяне, калі я сам да яго не падымуся». І ён падняўся на Чарнечую гару да Кабзара — без ног. І калі б некалі мая любімая настаўніца не прачытала гэтае шаўчэнкаўскае: «Нащо мені чорні брови…», калі б гэта не засталося ў памяці з таго галоднага пасляваеннага

года, можа б, я не пачуў «Думы» паэта з гэтакім неверагодным хваляванем, з якім пачуў іх цяпер, ледзь пераступіўшы парог доміка-музея Шаўчэнкі на былым Казіным балоце ў Кіеве ў адну з раніц сакавіка, прыехаўшы сюды на святкаванне ўгодкаў вялікага Кабзара.

Думи мої, думи мої,
Лихо мені з вами!

Наверсе, пад столлю мансарды, куды вяла лесвіца, спяваў, яднаючы тугу чалавечай душы з тугою струн бандуры, цудоўны ўкраінскі спявак Юрый Дзямчук, а здавалася, што там, угары, усё роўна як недзе пад небам, на сваёй Чарнечай гары, са светам гаворыць сам Тарас Рыгоравіч. І гаворыць, і кліча да сябе на размову. І ты ідзеш-падымаешся лесвіцай, быццам на яго голас. Быццам падымаешся на Чарнечую гару. І да яго, і да самога сябе.

Гэта я заўважаў і раней: кожны крок да Кабзара — крок нібыта і да самога сябе. Там, на Чарнечай гары, пачуўшы пра таго бязногага салдата, я зразумеў, што гэта адчуванне — не толькі маё. І тут — адна з таямніц яго паэзіі.

Ёсць пытанне. Да самога сябе. Нечаканае:

«Калі б маё адкрыццё Кабзара супала з цёплымі, ціхімі, сытнымі, мірнымі, светлымі, проста шчаслівымі днямі майго жыцця, ці адгукнулася б душа на голас шматпакутніка Тараса Рыгоравіча так, як яна адгукнулася?..»

Куды дзенешся — жывуць таямніцы і загадкі паэзіі. Але гэта не толькі таямніцы і загадкі паэта. Яшчэ гэта таямніцы і загадкі душы, якая адкрывае душу паэта. І вось гэта, апошняе, магчыма, свет не менш хвалюючы, як свет самога паэта.

Аб гэтым думаеш і калі ўспамінаеш сваё, і калі бачыш, як ідуць і ідуць да паэта людзі, калі ўяўляеш, што гэта ідзе народ і што ён, народ, ідзе да паэта вунь з якіх часоў!..

Так і яшчэ раз — так: і да яго, і да саміх сябе.

*1983*

## КАМЯНЯР

Якою б цемрай і безвыходнасцю ні здавалася жыццё на пуцявінах гісторыі, выйсце чалавецтва заўсёды знаходзіла. Да святла і надзеі. І калі ў свеце пануе ўсё ж закон раўнавагі, які дае магчымасць выжыць сумленню і праўдзе, то гэта таму адбываецца, што чалавецтва не страчвае здольнасці нараджаць геніяў духу.

Ці не аб гэтым сказаў Іван Франко ў сваім «Прысвячэнні» Тарасу Рыгоравічу Шаўчэнку?

«Ён быў сынам мужыка і стаў уладаром у царстве духу».

Ужо самы першы радок «Прысвячэння» спакушае задумацца: а ці не з’яўляецца гэты партрэт Шаўчэнкі, напісаны энергічным публіцыстычным словам Івана Франко, яго ўласным партрэтам, самапартрэтам?

Ва ўсякім выпадку, сказаць пра вялікага настаўніка так катэгарычна мог толькі вучань, у сэрцы якога гарэў ваяўнічы агонь Кабзара.

«О мой народ!..»

І гэта — не толькі першы радок з «Майсея». Гэта ўздых самога Франко. І ўздых, і адчуванне свае высокай місіі перад сваім народам. Яго Майсей не проста біблейскі вобраз, які выводзіць свой народ з егіпецкага палону. У ім — ідэал самога Франко.

Гэтак мне думалася ва ўтульна-ўрачыстай калоннай зале кіеўскай філармоніі на Уладзімірскай горцы, апранутай у мажорна-зялёныя, дзе-нідзе ўжо з мінорна-ржавымі плямамі, вопраткі верасня, калі Украіна, разам з усім славянскім светам, адзначала 130-годдзе Івана Франко. Сядзеў, слухаў, што кажуць людзі, выходзячы да трыбуны, сваё сказаўшы другім ці трэцім, і дзівіўся: даўно, ужо цэлае стагоддзе, пра яго, класіка, кажуць, кажуць хораша, разумна, не шкадуючы вышыні слоў і голасу, а хто сказаў мацней, як ён сам? Хто і дзе?..

І тут, задаўшы невядома каму, хутчэй за ўсё самому сабе, пытанне, я не то збянтэжыўся, не то проста адчуў, што ў ім, гэтым маім пытанні, ёсць яшчэ пытанне больш унутранае, насуперак першаму, насуперак мне: ён, Франко, хіба казаў пра сябе? Пра Шаўчэнку — усё ж. Голасам Майсея — усё ж. І ў радках, якія я гатовы быў прывесці ў працяг, яшчэ і яшчэ, — не пра сябе? Але чаму я ўвесь час думаў, што — пра сябе? Што, ва ўсякім выпадку, — і пра сябе? Чаму?..

На сцэну выйшаў Андрэй Паламарэнка — артыст у званні народнага Украіны:

Я дзіўны бачыў сон. Перада мной нібыта
Ў пустэльнай дзікасці бязмежнае плато,
І я, сталёвым ланцугом абвіты,
Стаю пад скальнай стромаю з граніту,
А далей тысячы такіх, як я, братоў.

Няма пад рукамі томіка паэта на яго роднай мове, тэкст прыводжу ў перакладзе на нашу мову Уладзіміра Караткевіча. Ды не гэта важна. Пераклад выдатны. Тут — пра іншае. Пра свой, як слухача, стан.

І ўсе мы, як адзін, узнеслі ўгору рукі,
І безліч молатаў аб камень загуло…

І… о, што такое сапраўдны артыст! Ён сам, увесь раптам нібыта ператварыўся не то ў скалу, не то ў метал молата, голас вырваўся нібыта не з чалавечых грудзей, а з той скалы, дакладней — з-пад яе смяротнага цяжару, і ўзнёсся, нібы скінуўшы з сябе ланцугі, да неба, скалануў усё навокал, нібы аб’яднаўшыся з усім светам:

Дзяўбіце гэты ўцёс!..

Акно ў залу са шкляным звонам расчынілася, да столі ўзляцелі, нібы ветразі ці сцягі, лёгкія шторы, і разам са свежым паветрам шуганула пунсовае восеньскае лісце. Яно густа ляцела па зале, па сцэне, вецер гайдаў паветра і люстры, але, здавалася, ніхто гэтага не заўважаў і не чуў, ніхто не падхапіўся з крэсла, каб зачыніць акно — іншы вецер трымаў усіх у сваім палоне, куды мацнейшы:

Дзяўбіце гэты ўцёс!..

Я выйшаў з залы, з філармоніі.

Вечар, даволі позні, на збегу з ноччу, быў не халодны, але ветраны, імжыў дробны, нясмелы ці лянівы, дожджык. Вецер гнаў па Уладзімірскай горцы, унізе — па вуліцы сухое восеньскае лісце. Гэта было самае цяжкое восеньскае лісце Кіева, яго ліп і каштанаў, за ўсе часы. На ім быў цяжар металу Чарнобыля. Лісце густога зялёнага футра Кіева прыняло на сябе воблакі смерці з Чарнобыля і цяпер, пажоўклае, густа сыпала на зямлю, пад ногі, на галовы. Удзень пра яго шмат гаварылі, яго паспешліва змяталі, зграбалі, грузілі на аўтамашыны, вывозілі за горад, закапвалі ў

глыбокія ямы, а яно ўсё сыпала і сыпала. І ляцела ў залу філармоніі. І там, у шматлюднай зале, яго як быццам не заўважалі.

Там… не заўважалі і тыя, хто пра яго шмат гаварыў удзень і, можа, з бояззю.

> І ўсе мы, як адзін…
> …тысячы такіх, як я, братоў.

Я ішоў па Кіеве і думаў пра тое самае: чаму не магу пазбавіцца — хоць, праўда, і не стараюся гэтага рабіць — адчування, што ўсё гэта, сказанае Іванам Франко, сказана нібыта кімсьці іншым пра яго самога? Але цяпер у гэтым пытанні мне гучаў і адказ на яго. Гэты адказ быў у лёсе паэта. У яго пастаянным, праз усю творчасць, праз усё жыццё, матыве: …такіх, як я, братоў.

> …такіх, як я…

Ён знайшоў у сабе гэты ўнутраны голас, голас брата ўсіх людзей, гэтым голасам гаварыў са светам, ён быў яму арганічны, ішоў ад сэрца, ад лёсу, агульнага з лёсам спакутаванага свету, і гэты паэтаў голас да «такіх, як я», пра «такіх, як я», «такіх, як я, братоў» высвечваў яго самога з той самай сілаю, з якой ён гаварыў пра іншых.

Зрэшты, у гэтым таленце — доля ці не кожнага сапраўднага паэта? Вось і ў Цёткі:

> Хацела б быць зярном пшаніцы,
> Упасць на ніўкі вёскі…

Іншае? Але, па сутнасці, — тое самае: агульнасць лёсу — з усімі, з усім няўтульным светам.

*1983*

# ЯК СТЭП, ЯК ДОН, ЯК СВЕТ

## 1

Бязмежны стэп заворвае дывізіі і гады. А *цветок лазоревый* (Цюльпан? Не, усё ж — *лазоревый*!) — крапінка сонца, агню, казацкая бунтоўная крывінка — гарыць, пячэ, гарчыць… з якога лета?..

Гэтак — памятаеце? — незвычайная ў сваёй гордай прыгажосці і непакоры кветка татарніку назаўсёды засталася ў нашай памяці лёсам Хаджы Мурата ды і самога Льва Талстога.

І ўсё ж — з якога лета ў маіх вачах гарыць-разгараецца шолахаўскі *лазоревый цветок*?

Не лета — зіма ў памяці. З лютымі маразамі, галодная, на чорных, яшчэ не ачахлых з вайны галавешках.

Вярнуўшыся з бежанства, мы жылі ў Крычаве, на высокім беразе Сажа ў гнілой вялізнай хаце, абыдзенай ваенным пажарам. Гаспадарамі хаты былі старэйшы за мяне на тры гады Валодзя Маскалевіч і яго жаўтушная маці. Валодзя меў дзіўныя рэчы: нямецкае кавалерыйскае сядло, фінскія дубовыя лыжы, зуб мамантa, штаны з чорным арлом і свастыкай, пашытыя з нямецкага меха, а яшчэ — палатняную торбачку, у якой зімою прыносіў з зарэчных вёсак мёрзлы заечы хлеб, а ўлетку — шведскае шчаўе. Па шчаўе хадзіў на шведскія курганы і варыў не проста боршч, а шведскі боршч. Аднойчы, уляцеўшы ў хату без шапкі, расхрыстаны і рашучы, ён вытрас на стол з заснежанай торбачкі незвычайна вялізную кнігу і, балюча пстрыкнуўшы мяне па носе задубелым на марозе пальцам, урачыста паведаміў:

— Во! Казацкі раман!..

Гэта было «огизовское» пасляваеннае выданне «Ціхага Дона» ў тоўстай і цвёрдай, як фанера, вокладцы.

Увечары прыйшоў са школы бацька. Ён узяў кнігу ў рукі і сказаў:

— Чытаць вам гэта яшчэ рана.

І панёс кнігу ў свой кут.

Праз колькі дзён кніга знікла з бацькавага стала. Ён гэта заўважыў, але маўчаў. Урэшце, гаспадаром кнігі быў пятнаццацігадовы гаспадар дома.

Кніга апынулася ў нас на печы, за комінам.

Калі мы з Валодзем прыходзілі са школы, а бацькоў яшчэ не было з работы, чаго-небудзь пасёрбаўшы, лезлі на печ і разгортвалі «Ціхі Дон». Там, у цёплым паўзмроку, мы патаемна,

як штосьці забароненае, адкрывалі свет, які стагнаў і мільгацеў пад конскімі капытамі, крывавіў пад казацкімі шашкамі і кулакамі-свінчаткамі, ледзяным варам набухаў у берагах разгайданага гістарычнымі вятрамі Дона і кожнага кураня, цвіў *лазоревым цветком, дурнопьяном, а то і бесилой собачьей* у сэрцах Аксінні Астахавай і Грыгорыя Мелехава, хаваў у сваіх нетрах-глыбінях адвечныя таямніцы плоці і духу. Мы п'янелі і губляліся: жыццё, якое зацягвала нас у свае крутыя віры, не магло, здавалася, змясціцца ў вялізных вокладках «огиза» — ягонымі вокладкамі ўяўляліся зямля і неба, сшытыя каранькoм скрывянела-чырвонага далягляду, да якога не дайсці, не даехаць, не даскакаць на казацкім кані.

Цяпер, за далеччу гадоў, я намагаюся вярнуць сабе тыя дзіцячыя адчуванні, адшукаць лагічную сувязь паміж імі і адчуваннямі сённяшнімі, каб зразумець: хто ж быў мудрэйшы — мы, дзеці, якія патаемна ад бацькоў і таму, можа, з неверагоднай прагнасцю спасцігалі таямніцы «Ціхага Дона», ці бацька з ягонай бояззю нашага нечакана ранняга пасталення?

І пры ўсёй любові да бацькі я не магу ў гэтым пагадзіцца з ім, з яго школьнай педагогікай.

Не забароненыя дзецям словы з языка раз'ятранага ў фізіялагічным інстынкце мужыка, не сцэны яго плоцкай апантанасці напаўнялі тады, на печы, нашы душы, а неймаверная прага святла, міру, кахання, жыцця, якое нельга забіць ніякай бядою, нават смерцю. Над самымі жорсткімі праявамі засталася апошняя сцяжына Грыгорыя Мелехава ад Дона да роднага кураня, ад вады ў расколіне лёду, куды Грыгорый кідае вінтоўку, наган, высыпае патроны, да сына, да свету і сусвету, якія збегліся ў адным:

— Мишенька!.. Сынок!..

Хоць ведаў Грыгорый, што сцежка да сына вядзе да смерці.

Вось што — вышэй за ўсё іншае, над усім. І ў рамане, і ў яго ўладзе над чалавечым сэрцам.

## 2

Станіца Вёшанская была засыпана сонечнай майскай квеценню. Адцвітаў і малады яблыневы сад, пасаджаны Міхаілам Аляксандравічам незадоўга да смерці. Бель яшчэ тры гады назад запарушвала зямлю, траву ў майскім садзе, а ўжо апошнія гады, як цяпер, — яшчэ і магілу, курганок, светла-шэры, з Данскога стэпу камень-валун, на якім нібыта сама прырода слова, адно-адзінае, высекла: ШОЛОХОВ.

Белыя пялёсткі не маглі прыглушыць сінізну донніку, дробнай журботнай кветачкі, і пасівелую шэрань такога самага нізкарослага кучаравенькага палынку, які рос тут, на магіле, з таго самага стэпу. Яблыневая квецень рабіла святлейшай і сінізну донніку, і палыновую шэрань.

Тут не ставала чырвонай лазоравай кветачкі. Яе не запаліў яшчэ стэп. Але як без яе? Зірні на казака — ён увесь з чырвоных ды сініх колераў. На сіняй фуражцы — чырвоны аколыш, на сініх шараварах — чырвоныя лампасы. Два самыя-самыя казацкія колеры. Яны і ў рамане, як у жыцці. І мы кладзём на магілу чырвоныя ружы, гваздзікі, цюльпаны: хай падпаляць-сагрэюць і сівы палынок, і сіні显 доннік.

Усе кветкі Данскога стэпу, Абдоння, як кажуць казакі, ляжалі тут, на магіле Шолахава і каля мармуровай калоны, з якой ён, бронзавы, як жывы, глядзеў пранізлівым прыжмурам вачэй з высокага Вёшанскага берага на Дон, на Задоншчыну, на апеты ім стэп. Ён глядзеў на ўсіх нас, хто прыйшоў пакланіцца яму, і мы ўсе слухалі, што хоча сказаць ён нам. І гаварылі таксама. Як мы яго любім.

З высознага берага я глядзеў на Дон і дзівіўся, як падобны ён у сваіх краявідах на мой родны Сож, хіба крыху шырэйшы за Сож, а то і ціха-павольны, як ён, і гэтакі велічна нетаропкі, і берагі такія самыя ласкавыя, з пясчана-жаўтлявымі плёсамі, з кручамі ля правага боку, з навіслымі над ціхай вадою кучаравымі лозамі каля левага. А ў цэнтры Вёшак, дзе, дугою выгнуўшыся, Дон заварочвае за салаўіныя лозы, таксама самавіты характар не трáціць: выгінаецца не порстка, як іншыя рэкі, а спакваля, роздумна, мудра, любуючыся і ўлоннем з абодвух бакоў, і нібыта сабою, такую дугу выпісвае, што вачэй не адвядзеш. Веліч! І так нагадвае мне гэты краявід Сож недзе пад Чэрыкавам, ля Манастырка ці Мірагошча, ці пад Крычавам ля Пакладоў. І ўсё гэта, убачанае першы раз з высокага шолахаўскага берага, усе гэтыя думкі, адчуванні, хваляванні, гэтыя — у далучэнне да іншых, з гэтымі ўсімі сугучных, прымусіла згадаць нашы, над Сажом, валошкі ў жыце, якія падаліся такімі патрэбнымі ў букетах з чырвоных кветак, што ў наступную хвіліну, калі і мне выпаў гонар сказаць слова ля помніка Шолахаву, сказаць казакам ды казачкам, якія тут сышліся-з’ехаліся, Дону і стэпу, дык ужо і нельга было ў тым слове не далучыць да чырвоных букетаў Шолахаву свае сінія з па-над Сажа валошкі, нагадаўшы і Максіма Багдановіча, і яго знакамітыя радкі пра «цвяток радзімы

васілька». І ўсё гэта данцы зразумелі як след, як натуральную блізкасць валошкі-васілька да данскога *цветка лазоревого*.

Але чаму казацкае — чырвонае ды сіняе? Яшчэ — хіба Дон не ў зялёных уборах? Хіба не бывае і ў белых?

— Зімушка белая кароткая, лета зялёнае таксама не вечнае. Белае ды зялёнае — здрадлівае. А чырвань казаку ніколі не здраджвала. Казак колькі жыў, столькі і паліваў зямліцу са сваіх жылачак. А што ж сінька? Яна таксама ўсё жыццё і над галовушкаю казацкай, і ў Доне. Сіняе ды чырвонае нам, казакам, не чужое.

Гэтак разважае старая казачка на беразе Дона. Пра кветкі, колеры, здраду, вернасць. Дзіўна, як туга завязана ўсё адным вузлом.

А хіба не гэтак і ў Шолахава? Не толькі ў «Ціхім Доне», нават у самым, здавалася б, звычайным апавяданні «Лазоравы стэп», дзе гінуць, не сагнуўшыся перад панам, Сямён і Анікушка, унукі старога пастуха Захара, дзе цудам уваскрасае Анікей, прабіты трыма кулямі, пакінуўшы ногі свае пад коламі панскай гарматы. Вось і на апошняй старонцы апавядання. Не на нагах, як усе людзі, на руках, бо без ног, пакутліва сунецца Анікей у стэп, узараны першым трактарным плугам. Азірнуўся, убачыў, што людзей блізка няма, і тады «прыпаў да зямлі тварам, глыбу, лемяхамі адкінутую, схапіў, да сябе прыціскае, рукамі гладзіць, цалуе…».

Дзед Захар непадалёк авечак пасвіў — бачыў. І расказаў. І мы скаланаемся, уражаныя. Як перад смерцю Сямёна з Аніссяй.

А маглі жыць?.. Калі б пану пакаяліся. Гордыя — не сагнуліся перад панам. Каб увесь стэп бачыў? Не маглі.

Усё тут — буйна, складана, не голлейкам, а каранямі жыцця спавіта-звязана. На шолахаўскіх старонках — як у тым самым стэпе.

Як і ў жыцці самога пісьменніка.

Мае рацыю, вядома, Анатоль Калінін: якое сэрца доўга вытрымае, каб роднае тваё дзіця ўсё жыццё, ад самага нараджэння, злыдні рвалі з тваіх рук і крычалі на ўвесь свет, што яно не тваё, што ты яго ўкраў? Як тут было працаваць далей?

А мы, адданыя яго чытачы, чакалі новага рамана. Думалі, што там, у Вёшках, ціха — толькі пісаць. Такі ён, Дон, быў там «ціхі» для Шолахава, як і для Грыгорыя Мелехава.

Вось — 24 мая. Вокны яго дома ў Вёшанскай расчынены ў цёплы вечар. Светлы і ўтульны пакой напоўнены водарам яблыневай квецені, стэпавых, з-за Дона, траў. Адсюль чуваць, як

па-над Донам заходзяцца салаўі. Цяпер самая іх пара. Цёпла — самыя спевы. А мы, гаспадары і госці, гаворым пра яго, Міхаіла Аляксандравіча, пра тое, што ён мог цяпер сядзець сярод нас, разам з намі, побач з гаспадыняю дома Марыяй Пятроўнай, ды вось… успамінаем, які ён быў.

— Была ў бацькі цяжкая дружба з Фадзеевым, — кажа Святлана Міхайлаўна, дачка Шолахава. — Быў выпадак, калі Фадзееў выступіў супраць таго, каб бацьку далі Сталінскую прэмію. Я, помню, пытаюся: вось бачыш, Фадзееў супраць цябе, а ты лічыш яго сваім блізкім другам? Што мне адказаў бацька? Ён адказаў так: калі Фадзееў супраць, значыць, ён гэтак шчыра думае, кажа тое, што думае, і гэта самае дарагое, калі сябра перад табою не лжэ, тады ён табе сапраўдны сябра.

Іван Якаўлевіч Ракачоў карэнны вёшанец. Цяпер ён жыве ў станіцы Аксай, пад Растовам, але тут, у Вёшках, па-ранейшаму свой чалавек, не чужы і ў доме Шолахавых.

— Які ён быў? — успамінае стары казак. — Помню восень, трыццаць трэці год. Першы раз асмеліўся зайсці на двор Міхаіла Аляксандравіча. А там — сабакі. Ён выйшаў на ганак: «Не бойся, казак». Завёў мяне ў курэнь. Стаю ля стала, за якім ён працаваў, пісаў раман. Тут — акно, тут — кнігі. «З чым прыйшоў?» — пытаецца. «Ды вось… вершы». Пачытаў ён мой сшытак і кажа: «Вершы слабыя. Што табе параіць? Паболей чытай, паменей пішы. Што чытаеш?» Кажу: «Мапасана». Міхаіл Аляксандравіч засмяяўся і кажа: «Мапасан рускага падданства не прыняў, таму я табе дам Гогаля». І даў мне кнігу Гогаля. І яшчэ сказаў: «Збірай, казак, свае данскія песні. Добрыя ў нас песні. У іх — наш лёс. І ўся паэзія». І пачаў я тады збіраць данскія песні. Назбіраў тысячы тры ды пяць тысяч казацкіх анекдотаў. Сабраў кнігу песень. Назваў: «Песні над Донам». А следам — яшчэ адну: «Песні станіцы Вёшанскай»…

Выйшлі з шолахаўскага дома апоўначы. Пад ясным цёплым месяцам блішчэў шырокі Дон.

Пасярэдзіне ракі спаў паром. Увесь дзень ад раніцы ён ледзь спраўляўся перавозіць з таго берага ў Вёшанскую казакоў ды казачак, грымеў пад зухаватымі абцасамі танцораў і спевакоў. Назад усіх не перавёз ні ў канцы дня, ні на пачатку ночы, змогся і прыціх, слухаючы, як яшчэ і цяпер спяваў салаўіны вёшанскі бераг.

Хораша думалася на гэтым беразе пра край, пра яго песенную душу. І яшчэ — уголас:

— Песні плывуць… усё роўна як у рачных берагах. І гэтак, можа, у літаратуры — патрэбны трывалыя берагі. Былі берагі — Шолахаў і Твардоўскі. Дзякуючы ім, можа, ва ўсякім выпадку ім у першую чаргу, наша літаратура больш-менш утрымалася ад маральнага распаду ў апошнія дзесяцігоддзі…

Берагам Дона мы ішлі ўдвух з Міхаілам Міхайлавічам, сынам Шолахава, і я чакаў, што ён, чалавек высокаадукаваны і інтэлігентны, вельмі падобны на бацьку і тварам, і душою, на гэта адкажа. Ён сказаў зусім нечаканае:

— Бацька вельмі не любіў гаварыць пра сябе. Гэтакіх размоў ён, здавалася, проста баяўся. Ён не дапускаў думкі, што некалі яго творчасцю будуць гэтак цікавіцца. Ён у гэтым быў падобны на дзіця… Проста жыў, працаваў…

Ці не тут — найпершы ўрок Шолахава ўсім нам?

3

Бачу Шолахава побач з Талстым.

Гэтым я не хачу давесці, што яны роўныя ў сваёй мастацкай значнасці, ці, тым больш, як мысліцелі, філосафы, ці ў сваім уплыве на чалавека, на чалавецтва. Кажу адно ў сэнсе: «Ціхі Дон» уяўляецца мне раманам, пра які марыў Леў Талстой.

Талстой паставіў селяніна ў аснову ўсёй сваёй мастацкай і філасофскай канцэпцыі, над усім і ўсімі, пакутаваў ім, пільна ўглядаўся ў яго душу, псіхалогію, свядомасць, усё жыццё ішоў да яго, на гэтым шляху парваў з царквою, з сваім саслоўем, нарэшце — з Яснай Палянай, адцураўся самога сябе як графа, і ўсё ж не змог на сацыяльным і духоўным мацерыку сялянства рэалізаваць свой эпічны мастацкі геній.

Не асмеліўся?.. Магчыма.

У Ляскова, у яго «Аўтабіяграфічнай нататцы», ёсць прызнанне: «…публіцыстычных рацэй аб тым, што народ трэба вывучаць, я зусім не разумеў і цяпер не разумею. Народ проста трэба ведаць, як само сваё жыццё, не штудзіруючы яго, а жывучы ім». Талстой любіў Ляскова, яго талент, розум, і такую бясспрэчную думку не мог не прыняць. А значыць, не мог не адчуць, што паміж ім, мастацкім геніем, і ім жа, аўтарам магчымай і, вядома, жаданай, неабходнай народу мужыцкай эпапеі, стаіць — ад гэтага нікуды не дзенешся — граф Леў Мікалаевіч Талстой.

Ён, напэўна, адчуваў, што мужыцкую эпапею можа напісаць толькі мужык. І гэтак сталася — яе напісаў данскі казак.

Вялікая драма Талстога. Можа, самая вялікая ў рускай літаратуры. Перад ёю драбнеюць драмы і Дастаеўскага, і таго ж Ляскова. Але затое як яна, талстоўская, высвечвае Міхаіла Шолахава і яго ні з чым не параўнаны сялянскі эпас.

А з чым параўнаеш?

Хіба з самім данскім стэпам?..

З самім Донам?..

З усім светам?..

*1985*

## З ВІКТАРАМ КАРАМАЗАВЫМ ГУТАРЫЦЬ ПАЭТ ЛЕАНІД ГАЛУБОВІЧ

**Леанід Галубовіч.** Шаноўны Віктар Філімонавіч, як вы сябе адчуваеце як літаратар у гэтым стыхійным часе нашай нацыянальнай гісторыі?

**Віктар Карамазаў.** Час цяжкі, але не стыхійны. Тое, што з намі адбываецца, мае сваю логіку. Хтосьці сказаў (здаецца, Бакунін?): калі які-небудзь народ паспрабуе ажыццявіць марксізм, то гэта будзе самая жахлівая тыранія, якую калі-небудзь бачыў свет. Вось і спажываем тое, што пасеялі на сваіх савецкіх градках. Сеялі, не беручы ў разлік ні Бога, ні мараль. Цяпер — перасяваем, дасяваем. Дзе — па той самай агратэхніцы, а дзе — без усякай агратэхнікі. Як жа я, асобны чалавек і літаратар, магу сябе адчуваць? Як воўк у час аблавы, калі ён загнаны ў пастку чырвоных сцяжкоў. Хоць ёсць і розніца. У ваўка задача прасцейшая: вырвацца з абкладу. Пісьменнік бегчы ад рэальнасці не мае маральнага права. Ён і ў пастцы павінен заставацца на сваім месцы і працаваць, бо ў гэтай пастцы ён не адзін, тут іншыя, ён іх, іншых, павінен папярэдзіць сваім досведам, рэалізаваным у слове. Траціць веру ў слова нельга.

**Л. Г.** І веру ў свой народ?

**В. К.** А тут трэба нарэшце задумацца. Яшчэ нядаўна адказ на гэтае пытанне быў ва ўсіх адзін: трываласць, мудрасць, мараль народа здаваліся неаспрэчнымі. Апошнія дзесяць гадоў ад рысы, якая называецца чарнобыльскай, паказалі, што мы былі вялікія на гэты конт ідэалісты, што наша вера ў народ каранілася не толькі ў рэальнасці, але і ў догме, якую стварыла і аберагала палітычная сістэма — на гэтай догме яна паразітавала і паразітуе. Вазьміце хоць такую безумоўную якасць беларуса, як

яго цярплівасць, трывушчасць у любой бядзе. Якасць сама па сабе выдатная, але сёння яна не выклікае захаплення. Я толькі што з Чэрыкава. Бываю там не ў камандзіроўках, у крычаўска-чэрыкаўскай зоне жыву болей, як тут, у Мінску, дзе сям'я і кватэра, там — хата, маці, там я на ўласныя вочы бачу, як духоўна і фізічна гібее правінцыя, тая самая, што ўмее цярпець. Чэрыкаўшчына — гэта лясы, лясное жыццё, а лясы там у два і тры разы мацней забруджаныя радыяцыяй, як нават у Нараўлянскім, Петрыкаўскім, Брагінскім, Калінкавіцкім, Столінскім ці нейкіх іншых, пад самым Чарнобылем, раёнах Палесся. І жывуць разам з малымі дзеткамі людзі, пра якіх улада ўжо не думае, выехаць і палячыцца ім няма куды, няма за што, яны пасуцца-кормяцца на радыяцыйным угнаенні, чыстых ці хоць адносна чыстых прадуктаў туды амаль не завозяць. Летась праехаў ад Гродна да Крычава, праз усю Беларусь, спыняўся ў кожным раёне, і жахнуўся, калі ўбачыў, што самыя высокія цэны на многія неабходныя прадукты, як масла і цукар, у Чэрыкаве. Цяпер і даплат, якія былі за жыццё ў зоне, практычна няма. І што ж людзі? Абураюцца, патрабуюць? Маўчаць, церпяць. Тут ужо мала каго хвалюе культура, родная мова, лёс краю, тут абы пражыць дзень да вечара. Пастаянная думка пра кавалак, дзе яго ўзяць, ператварае чалавека ў абываталя. Але гэта не той абываталь, якога можна папракаць, асуджаць. Язык не паварочваецца кінуць папрок. Ён традыцыйна, яшчэ досведам бацькоў, памножаным на сённяшні ўласны досвед, прывучаны жыць на выжыванне, калі ўвесь клопат — кавалак на стале. Затое гэты самы абываталь зоны — надзейны электарат улады, розных там рэферэндумаў. У яго пытаюць, ці патрэбныя яму родная мова, дэмакратыя, свабода друку, суверэнітэт, а ён прымае гэта за здзек і кажа — не трэба, нічога ўжо не трэба, дайце толькі кавалак. Свет здзіўлены: што ж гэта за народ, які адмаўляецца ад свабоды, ад сваёй гісторыі, ад роднай мовы? А як пытацца ў чалавека пра суверэнітэт, культуру, мову, калі ён адной нагой у магіле, ды яшчэ і будаваць на гэтым дзяржаўную палітыку?

**Л. Г.** А як тады з вераю ў слова? Літаратура як від мастацтва таксама знясільваецца? Яна вычарпала бадай усе свае магчымасці ўплыву на чалавека. На змену ёй прыходзяць электронныя сродкі ідэалогіі і масавая культура. Як вы да гэтага ставіцеся?

**В. К.** Літаратура сябе не вычарпала і ніколі не вычарпае. Як там, у Бібліі? Напачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог. Калі гэты радок прадоўжыць, як вы, Леанід, кажаце, на сконы Слова, то па Бібліі ці не было б так: і Слова сканала па волі

Бога. Але калі сканае Слова, дык сканае і Бог? Бо Слова — Бог? А Бог — існы і вечны. Я разумею, што слова, пра якое мы з вамі вядзем гаворку, і Слова па Бібліі — не ва ўсім адэкватныя. Але і нашае слова, калі яно сумленнае і таленавітае, ад каранёў Слова па Бібліі. Нельга блытаць Бога з кесарам, а мастацкае слова з канцылярытам. Мы навучыліся грэшніка і кесара блытаць з Богам. Гэта ад маральных страт, ад страты мяжы паміж мараллю і маразмам. Нашаму кесару, мала цывілізаванаму, заўсёды муляе, каб слова, якое яму не належыць, сканала. Ён колькі кіруе-жыруе, столькі і слова душыць. Але слова — Фенікс, паўстае з любога попелу. Вунь кінарэжысёр Валерый Панамароў сабраў людзей, каб паказаць свой новы фільм «На чорных лядах», а паказаць не змог, бо стужку, як пісалі газеты, выкралі. Фільм можна пусціць пад нож ці выкрасці, тэатральную пастаноўку можна пазбавіць сцэны, можна знішчыць твор жывапісу. А літаратурны твор не пусціць да чытача немагчыма. Усе баі з мастацкім словам улада прайграе. Хоць вынаходнікі сродкаў ягонае смерці не пераводзяцца. І гэта — сродак: пераканаць людзей, што тэлевізар прыйшоў на змену кнізе, што можна кніг не чытаць і быць адукаваным і культурным. Гэта — лухта. Электроннымі сродкамі культуры сыты электронны робат, а не жывы чалавек. Электронныя сродкі — павярхоўны масаж мазгоў, які ва ўладзе ідэалогіі, а кніга, слова знаходзяць сэрца чытача і там, бывае, застаюцца на ўсё жыццё.

**Л. Г.** Калі слова — мастацтва?

**В. К.** Пра тое і размова. Не тавар куплі-продажу, а мастацтва. Дарэчы, думка, што электроніка пахавае кнігу, прыйшла з Захаду, але апошнім часам на Захадзе лічаць, што распад СССР змог адбыцца толькі пасля таго, як свет прачытаў кнігу Салжаніцына «Архіпелаг ГУЛАГ». Вы не згодныя з гэтай думкаю?

**Л. Г.** ?..

**В. К.** Але ў нашай размове галоўнае не тое, ці сапраўды раман аказаўся мацнейшы за НАТО, а тое, як цывілізаваны свет верыць у магчымасці мастацкага слова. Нам бы гэтае веры. Я ўпэўнены, што наша літаратура не толькі не вычарпалася, але, як літаратура маладая, свае магчымасці яшчэ не адчула і не рэалізавала.

**Л. Г.** І тады наперадзе — новыя пошукі?

**В. К.** Яна і шукае.

**Л. Г.** І як вы ставіцеся да пошукаў, што адбываюцца? Да еўрапеізацыі літаратуры? Ці запала вам што з гэтага ў вока на нашым беларускім абсягу?

**В. К.** Часцей — гэта пошукі формы, яшчэ часцей — запазычанні формы, якія не надта пашыраюць ды паглыбляюць нацыянальны духоўны змест. Навошта еўрапеізацыя? Гэты клопат нагадвае мне працу чаўнакоў, што валакуць з Еўропы баулы з вопраткай. Адны стандарты мяняем на другія? Усходнія на заходнія? Сумная гэта работа. Хоць, можа, камусьці, як тым чаўнакам, хлебная. Еўропа ў нас з большай ахвотаю заўважае свае стандарты, чым нашы кроўныя. Нашай літаратуры, вядома, не стае прыгожай вынаходлівасці ў форме і стылі, свабоды думак і шчырасці пачуццяў, але шукаць трэба на сваёй духоўнай глебе.

**Л. Г.** Творцы заўсёды намагаліся зрабіць свет лепшым, больш чалавечным. Ці ўдалося ім гэта — як вы думаеце? Ці, можа, зямная цывілізацыя развіваецца па нейкіх іншых законах, ад нас не залежных?

**В. К.** Думаю, што калі б не мастацтва, не літаратура, грамадства было б нашмат бяднейшае і духоўна, і матэрыяльна, можа, і зусім вырадзілася б. Чалавек агрэсіўны, асабліва той, што выбіўся з прыроднага асяроддзя ці змадэляваны ідэалогіяй улады, і яго агрэсію трэба ўвесь час падаўляць культурай, мастацтвам, мастацкім словам, якія стрымліваюць агрэсію і дзікунства. Але ідэалагічная іржа стачыла шмат якія іншыя механізмы ўтрымання грамадства ад распаду, у тым ліку і прыродныя. І мастацтва, таксама падточанае той іржою, ужо не можа працаваць і адказваць за ўсё і ўсіх.

**Л. Г.** Калі б вы ўпэўніліся, што вас ніхто не чытае, ці змянілася б нешта ў вашай творчасці? І ў вашым жыцці? Што для вас чытач?

**В. К.** Без чытача пісьменніку глуха і пуста. Ён тады ў падвешаным стане. Тады паўстаюць пакутлівыя пытанні: навошта і для каго пісаць? Яшчэ я, слава Богу, гэтага не адчуваю. Што б змянілася ў маёй творчасці, калі б не стала чытача? Пісаў бы, як пішу, чакаючы яго, свайго чытача, кожным сваім словам ішоў бы да яго сам, з вераю, што ён мяне пачуе, мне адгукнецца, мяне знойдзе.

**Л. Г.** А як вы глядзіце на такую праблему: экалогія і мастацтва? Вашы творы «Пушча», «Краем Белага шляху», «Крыж на зямлі і поўня ў небе» сведчаць і сцвярджаюць, што як прырода, так і мастацтва — ахоўнікі чалавецтва. Але ж чалавек нішчыць прыроду?

**В. К.** І тады ён самазабойца.

**Л. Г.** Чым, на вашу думку, гэта скончыцца?

**В. К.** Я пісаў пра свайго дзеда Максіма, якога ўлада ў дваццатыя гады загнала на Вішару і там згнаіла. Гэта быў вясковы настаўнік, ён вучыў дзетак і араў зямлю, быў выдатны скрыпач, паляўнічы, вясковы філосаф, глыбока ведаў прыроду, законы, па якіх яна жыве і суіснуе з чалавекам. У тайзе на Вішары, адбыўшы свой тэрмін, Максім застаўся на вольнае пасяленне, жыў з палявання, цяжка хварэў і пісаў кнігу «Канец свету» — назіранні паляўнічага ў прыродзе. Гадоў дзесяць назад я туды, у тайгу, ездзіў, знайшоў дзедаву магілу, а кнігу не знайшоў, пра яе, рукапіс, ведаў толькі з доўгіх лістоў, якія ён, калі гэта ўжо можна было, пры Хрушчове, пісаў бацьку. Дзед даводзіў, што знішчэнне прыроды, якое ён назіраў, дэградацыя жывёльнага і расліннага свету, агрэсія людзей на зямлі і ў космасе прывядуць да смерці зямной прыроды і космасу, і што выратаваць зямлю і космас можна двума шляхамі: першы — духоўнае ўдасканаленне людства, другі — смерць людства. У рэальнасць першага шляху ён не верыў. На яго думку, рэальны другі шлях. Я з дзедам Максімам згодны. Але мне здаецца, што і першы шлях яшчэ не страчаны. Каб ён спраўдзіўся, грамадства павінна мець значна большую, як тая, што мы маем, волю да духоўнага ўдасканалення. У гэтым для нас — пытанне жыцця і смерці. І разам з тым, шануючы свой вельмі ўжо змылены за апошнія гады аптымізм, я разумею, што ён ува мне цепліцца, можа, адно таму, што самага пекла жыцця, выбудаванага нашай дзяржавай, у якім апынуўся дзед Максім, я не зведаў, што яму я нераўня ў сэнсе ведання зямнога пекла, а значыць — нераўня і ў прадчуванні: што нас чакае? І я не абвяргаю высноў дзеда Максіма. Нават і свае маючы.

**Л. Г.** Ці лёгка было вам, чалавеку партыйнаму, які пэўны час узначальваў партарганізацыю Саюза пісьменнікаў, адысці ад канонаў бальшавіцкай ідэалогіі?

**В. К.** А вы думаеце, што хтосьці з нас, ці ўсе мы, як паставілі крыж на бальшавіцкай ідэалогіі, як сказалі пра гэта, дык і адышлі ад яе канонаў? Ці той, хто не быў у партыі, не быў зацугляны і не зацугляны сёння тымі самымі канонамі? Ці тым, хто не быў у партыі, лягчэй выцерабіцца з учорашніх догмаў? Мяжа паміж кананізаванымі і некананізаванымі ляжыць не там, дзе грамадства дзялілася на камуністаў і беспартыйных. Яна супадае з лініяй размежавання на праўдзівых і хлусоў, незалежных і падхалімаў, шчырых і хітрых, мужных і запалоханых, прынцыповых і кар'ерыстаў. Гэта мяжа маральная. У партыі было шмат людзей сумленных, якія не маглі пераступіць праз нормы маралі, і ў той жа час было шмат беспартыйных, якія дэманстратыўна падфар-

боўвалі сябе ў кумачовы колер і перад уладаю рабілі лісіныя вочкі і тварыкі, падкрэсліваючы сваю ёй адданасць. Гэта — і ў літаратуры. У магнітнае поле партыйнай ідэалогіі ўсе мы, партыйныя і беспартыйныя, траплялі з маленства, свае каноны партыя прышчапляла не толькі на спецкурсах, школьных і ўніверсітэцкіх, але ўсюды само паветра, якім дыхалі з маленства, было кананізаванае, а ў партыі чалавек сябе, кананізаванага, рэалізоўваў у меру сваіх маральных ці амаральных прынцыпаў. Хто аддана служыў партыі, той немінуча парушаў маральныя нормы, хто быў верны маральным нормам, той парушаў партыйны статут, на што іерархія ўлады рэагавала адназначна: такі партыец быў вечна радавым. Быў радавым з гэтай прычыны і я. Было разоў колькі, што хваля выносіла мяне на нейкую не высокую, але неблагую пасаду, але наступная хваля змывала з яе, і часцей — на самае дно. Першы раз гэта са мной адбылося ў «Звяздзе». З пасады загадчыка аддзела літаратуры і мастацтва мяне кінулі ў карэктары, адтуль — на вуліцу, з ярлыкамі антыпартыйшчыка і антысаветчыка. Працаваў пэўны час на тэлебачанні, загадваў рэдакцыяй мастацкіх фільмаў. Была някепская работа. Але я адмовіўся там, на тэлебачанні, станавіцца на партыйны ўлік. Гэта было неймаверным парушэннем партыйнага статута. Мяне выклікалі ў ЦК, у аддзел прапаганды, патрабавалі стаць у аглоблі. Тады я падаў заяву і з тэлебачання, з добрай пасады пайшоў. З Саюза пісьменнікаў таксама пайшоў у беспрацоўныя.

**Л. Г.** З пасады парторга СП? Якім чынам?

**В. К.** Кіраваў Саюзам пісьменнікаў і партбюро СП непасрэдна аддзел культуры ЦК. Абрыдзела мне тады хлусня загадчыка аддзела. Папрасіў, каб выбралі іншага парторга. Абяцалі праз паўтара года, як будзе перавыбарчая кампанія. Я той кампаніі дачакацца не мог. Сабраў у СП партыйны сход, расказаў на ім пра свае адносіны з ЦК і заявіў, што сам складаю з сябе паўнамоцтвы сакратара. Крок па тых часах быў нечуваны. Усім было ясна: гэта — выключэнне з партыі. Тое мне сказалі і ў райкаме. Але я выграб са стала службовага свае паперы, казённыя перадаў сваім намеснікам і з Мінска паехаў у родны лес, на волю. І не вярнуўся. Чаму тады не выключылі з партыі? Не хацелі шуму-грому. Партарганізацыя СП была ўсё ж унікальная, адзіная ў сваім змесце і выглядзе.

**Л. Г.** То была ваша памылка, што вы далі згоду працаваць сакратаром партарганізацыі СП?

**В. К.** Не, гэта не памылка. Я прыйшоў туды па просьбе Гілевіча, першага сакратара СП. Помню яго званок: пагаджайцеся, а то

ЯНЫ паставяць свайго чалавека. Тыя два з лішкам гады работы ў СП далі мне шмат. Не грошай, вядома, не ўзнагарод. Я прыйшоў у літаратуру з правінцыі і, хоць быў членам СП, асяроддзе пісьменнікаў ведаў мала. Правінцыялы заўсёды лічылі і, можа, цяпер лічаць, што там, наверсе, дзе іх няма, усё здорава, усе сумленныя і мудрыя. Вочы прамываць трэба самому, не цёпленькай вадою, а злым шчолакам. І гэта за два гады я зрабіў. Не толькі СП, яго карону, але і вярхі ўлады, ЦК, я разгледзеў зблізу, як на рэнтгене. На новым, ужо не правінцыйным, узроўні я зразумеў шмат якія з'явы і рэчы, людзей і свой час, іх правы і левы бок, звонку і сыспаду. Дзякуючы тым двум гадам работы ў СП я аказаўся, як на маю думку, падрыхтаваным, каб цвяроза сустрэць апошняе дзесяцігоддзе з яго і экалагічным, і палітычным, і духоўным Чарнобылем. Улады нада мною ілжывыя аўтарытэты ўжо не мелі. Ні ў літаратуры, ні ў палітыцы.

**Л. Г.** Ваша стаўленне да славянафільства?

**В. К.** Няма ні часу, ні ахвоты рыцца ў гэтым сатлелым рыззі. Пры выпадку выказваюся. Як у першым нумары за гэты год «Нёмана» пра славянафільскі панос на першым міжнародным пленэры мастакоў на Магілёўшчыне.

**Л. Г.** Як вы думаеце, ці будуць «гэтым разам» пісаць у стол беларускія пісьменнікі і паэты?

**В. К.** А мы ў стол ніколі не пісалі. Пісаць у стол — прывілея мужнай літаратуры. Ва ўмовах, вядома, дыктатуры. На гэтым узроўні ў нас ніхто не пісаў. Сур'ёзных твораў, якія не былі б надрукаваныя з прычыны палітычнай цэнзуры, я не ведаю. Вы, Леанід, ведаеце?

**Л. Г.** ?..

**Л. Г.** У адным з нумароў «Крыніцы» апошняга часу мы аддалі на суд чытачоў постаць Міхася Стральцова. Чамусьці там не прагучала ваша слова. Не прасілі ці адмовіліся? Якой вам бачыцца постаць Стральцова? Не шкадуючы прыхільнікаў, але шкадуючы літаратуру?..

**В. К.** Вы Стральцова ў тым нумары добра далі і без мяне, хоць ёсць там, у асобных выступленнях, і такое, з чым я не магу пагадзіцца. Мяне сапраўды ніхто не прасіў напісаць у нумар. Ды я і сам пісаць на гэтую тэму не спяшаюся. Сказаць ёсць што, але пакуль што чытаю тое, што кажуць іншыя. Я пісаў пра Стральцова, калі ён жыў, гэта я падкрэсліваю — калі ён жыў, быў побач з намі, бо тады пра яго пісалі мала, пісаць тады пра яго, жывога, мала хто рызыкаваў, яго прысутнасць не дазваляла сказаць слова няпраўды ці паўпраўды, ён быў самы строгі і самы аўтарытэтны

літаратурны суддзя (хоць гэтае слова — суддзя — тут, пэўна, не на сваім месцы), пісаць пра Стральцова, адчуваючы на сабе яго патрабавальна-іранічны позірк, можна было толькі чыстым сумленнем і чыстымі рукамі. Гэта як багамазы пісалі іконы. Тут, вядома, не ікона, але ўсё ж… Яны перад тым, як пісаць, пасцілі, мыліся ў лазні, апраналі на сябе чыстую вопратку, спавядаліся Богу і яшчэ раз, калі ўжо садзіліся за работу, мылі рукі. Такой мне і бачыцца постаць Стральцова: чыстай у нячыстым свеце, духоўнай у бездухоўнасці, гарманічнай у царстве хаосу і бязладдзя. А ўвогуле адказаць на пытанне — якой бачыцца постаць? — цяжка адразу, адным-двума сказамі. У сваім эсэ «І прадчуванне і лёс» я ў нейкай меры на гэтае пытанне адказаў. Тое эсэ чытаў Міхась, я ведаю яго рэакцыю, яна мне дарагая, яна дае мне права, а можа, і патрабуе, сваё адчуванне і разуменне Стральцова выказаць яшчэ раз, не менш шчыра і больш поўна. І я напішу. Абавязкова напішу. Калі на галаву не абваліцца неба.

**Л. Г.** Ваш погляд на будучае Беларусі, як нацыі і дзяржавы, на яе культуру і літаратуру ў прыватнасці?

**В. К.** Беларусь будзе жыць. А гэта азначае, што будзе жыць нацыя і будзе жыць літаратура. Цяжка, але пераможна пройдуць да свайго сонейка праз усе нягоды і выпрабаванні і зоймуць пачэсны пасад сярод дзяржаў, нацый і літаратур свету.

**Л. Г.** Шчыры дзякуй за гутарку. Творчага плёну вам…

***1997***

# КАМЕНТАР

*Мастак і парабкі (с. 15)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 1911, № 1, 2.

## АПАВЯДАННІ

*Сімфонія (с. 233)*

Упершыню — час. «Крыніца», 1997, № 10–11 пад назвай «Час ваўкоў».

Друкуецца паводле зб.: Прайсці праз зону. Мінск, 2001.

*Дзяльба кабанчыка (с. 248)*

Упершыню — газ. «ЛіМ», 1 жн. 1980 г.
Друкуецца паводле выд.: Галуба. Мінск, 1996.

*Сцяпан, Дзіч і Цырля (с. 266)*

Упершыню — час. «Полымя», 1982, № 2 пад назвай «Гарадскія».
Друкуецца паводле выд.: Дома. Мінск, 1989.

*Галапагосы (с. 279)*

Упершыню — газ. «ЛіМ», 16 ліп. 1982 г.
Друкуецца паводле выд.: Галуба. Мінск, 1996.

*Супраць неба — на зямлі (с. 291)*

Упершыню — час. «Полымя», 1989, № 2.
Друкуецца паводле выд.: Галуба. Мінск, 1996.

*Жанчына ў чорным і Афган (с. 312)*

Упершыню — газ. «ЛіМ», 23 вер. 1988 г.
Друкуецца паводле выд.: Галуба. Мінск, 1996.

*Галуба (с. 327)*

Упершыню — газ. «ЛіМ», 5 чэрв. 1981 г.
Друкуецца паводле выд.: Галуба. Мінск, 1996.

*Гарэла свечачка (с. 334)*

Упершыню — час. «Маладосць», 2003, № 2.
Друкуецца паводле выд.: Галуба. Мінск, 1996.

*Гарачая кроў Джота (с. 245)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2004, № 3.

*Дома (с. 351)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1967, № 3 пад назвай «Нязгаснае». Друкуецца паводле выд.: Дома. Мінск, 1984.

## ЭСЭ

*Глядзіце ў вочы лемуру (с. 361)*

Упершыню — час. «Полымя», 1987, № 5.
Друкуецца паводле выд.: Проста ўспомніў я цябе… Мінск, 1989.

*Проста ўспомніў я цябе… (с. 441)*

Упершыню — час. «Полымя», 1984, № 6.
Друкуецца паводле выд.: Проста ўспомніў я цябе… Мінск, 1989.

*Жаваранaчкам бласлаўлёнае (с. 478)*

Упершыню — час. «Полымя», 1998, № 8.
Друкуецца паводле выд.: З вясною ў адным вагоне. Мінск, 2002.

*Свята і пір жыцця (с. 502)*

Упершыню — газ. «ЛіМ», 28 сак. 1986 г.
Друкуецца паводле выд.: Проста ўспомніў я цябе… Мінск, 1989.

*Тройчы пра Стральцова (с. 506)*

«І прадчуванне, і лёс». Упершыню — час. «Полымя», 1987, № 6. Друкуецца паводле выд.: Проста ўспомніў я цябе… Мінск, 1989.

«Пейзаж знаёмы». Друкуецца паводле публікацыі ў час. «Нёман», 1993, № 12.

«Мой голас… у веку наступным пачуецца». Друкуецца паводле публікацыі ў газ. «ЛіМ», 15 лют. 2002 г.

*Чалавек і ўвесь народ (с. 534)*

Упершыню — газ. «ЛіМ», 18 лют. 1983 г.

Друкуецца паводле выд.: Чалавек і ўвесь народ. Мінск, 1989.

*Агеньчык у далонях (с. 541)*

Упершыню — «Литературная газета», 16 ліп. 1986 г. пад назвай «Сага о Полесье».

Друкуецца паводле выд.: Проста ўспомніў цябе… Мінск, 1989.

*«Хачу чытаць па-беларуску…» (с. 547)*

Друкуецца паводле выд.: Проста ўспомніў я цябе… Мінск, 1989.

### *І да яго, і да сябе (с. 549), Камяняр (с. 552)*

Упершыню пад агульнай назвай «Хлеб і да хлеба» — зб. «Сучаснік». Мінск, 1983.

### *Як стэп, як Дон, як свет (с. 555)*

Упершыню — час. «Полымя», 1985, № 5.

### *З Віктарам Карамазавым гутарыць паэт Леанід Галубовіч (с. 561)*

Упершыню — час. «Крыніца», 1997, № 10–11.

## SUMMARY

Viktar Karamazau (born in 1934) represents the generation of the 30s whose childhood years happened to be during the Great Patriotic War. To avoid the horrors of fascism the Karamazau family were forced to leave Belarus for the Volga region, Russia. There in the village of Turgenevo, Ulyanovsk region the family took the temporary refuge. In 1944 the Karamazaus returned back to the released from the Hitlerites Krychau, Belarus where the future author continued his education. Having graduated in 1958 from the journalism department of the Belarusian State University, Viktar Karamazau went on to work at editions of different newspapers, on Belarusian television and for the journal Polymia.

This period was fruitful for literary work as well. The first book of prose «Padranak» (*Ragamuffin*) was published in 1968. Then followed books of stories and short stories, the novels «Pushcha» (*Dense Forest*), «Bezhantsy» (*Refugees*) and «Mastak i parabki» (*The Artist and the Servants*). Viktar Karamazau's literary work was highly estimated by literary critics and the public. He was awarded with the State Premium of Belarus.

The present book edition of selected works includes all the most considerable from the literary legacy of the writer: stories, essays and the novel «Mastak i parabki» (*The Artist and the Servants*). The novel depicts the life and tragic death of the talented Russian artist Nikolai Nevrov, a close friend of the world-famous artists Repin, Polenov, Surikov and Vasnetsov, in a Belarusian village.

The introductory article is written by Anatol Baranouski, the People's Artist of Belarus.

# ЗМЕСТ

**Карамазаў, В.**

**К21** Выбраныя творы / Віктар Карамазаў; прадм. А. Бараноўскага. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 576 с. : [8] с. іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 978-985-7057-38-2.

Том выбраных твораў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Кастуся Каліноўскага Віктара Карамазава (нар. 1934) складаецца з рамана «Мастак і парабкі», лепшых апавяданняў і эсэ, а таксама публіцыстычнага слова пісьменніка па пытаннях беларускай літаратуры на мяжы двух стагоддзяў — дыялога з паэтам Леанідам Галубовічам.

Шэсцьдзясят сёмы том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4 Беи)**

---

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя I. Мастацкая літаратура

**Карамазаў Віктар**

Выбраныя творы

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Анатоль Сідарэвіч*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Лідзія Карамазава*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 26.02.2013.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 30,24 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 29,87.
Наклад 1000 асобнікаў. Зак. .

Пры ўдзеле ТАА «Харвест». Ліцэнзія № 02330/0056935 ад 30.04.04.
Вул. Кульман, 1, корп. 3, пав. 4, п. 42, 220013, Мінск.
E-mail: harvest2004@mail.ru

ПУП «Кнігазбор». Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
e-mail: bkniha@tut.by

ISBN 978-985-7057-38-2

9 789857 057382

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў РУП «Выдавецтва “Беларускі дом друку”».
Пр. Незалежнасці, 79, 220004, Мінск.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя І.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы
ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік
ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы
ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы
КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы
ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы
ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы
ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы
ЦЁТКА. Выбраныя творы
НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы
ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы
АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы
ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы
РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы
ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы
ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы
ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы
СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)
СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы
ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы
АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы
КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы
РЫГОР БАРАДУЛІН. Выбраныя творы
РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА. Зборнік
АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ. Выбраныя творы
*БЕЛАРУСКІЯ* АЛЕКСАНДРЫЯ, ТРОЯ, ТРЫШЧАН. Зборнік
НІЛ ГІЛЕВІЧ. Выбраныя творы
ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН. Выбраныя творы

МАКСІМ ГАРЭЦКІ. Выбраныя творы
РЫГОР КОБЕЦ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ. Выбраныя творы
АЛЕНА ВАСІЛЕВІЧ. Выбраныя творы
КАЗІМІР СВАЯК. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ ЗУЁНАК. Выбраныя творы
УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ. Выбраныя творы
ВІНЦУК АДВАЖНЫ. Выбраныя творы
АЛЕСЬ БАРСКІ. Выбраныя творы
ЦІШКА ГАРТНЫ. Выбраныя творы
КАСТУСЬ ТАРАСАЎ. Выбраныя творы
КАСТУСЬ ЦВІРКА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ АДАМОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЛЕРЫЙ КАЗАКОЎ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ ВІТКА. Выбраныя творы

*Серыя ІІ.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік
КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць
МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае
ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы
ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы
ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае
ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае
ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе
АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае
ЗАРЫЯН ДАЛЭНГА-ХАДАКОЎСКІ. Выбранае
АДАМ МАЛЬДЗІС. Выбранае
АДАМ СТАНКЕВІЧ. Выбранае
МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ. Выбранае
АНАТОЛЬ ГРЫЦКЕВІЧ. Выбранае

*Серыя ІІІ.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы
ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***
МАСЕЙ СЯДНЁЎ. Выбраныя творы
МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ. Выбраныя творы